# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

## BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

**ZAPISY 34**




NEW YORK — MIENSK

2011

Выдаецца пры фінансавай дапамозе Фундацыі
імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачатканае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. З 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

**ADDRESS**
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A.
zapisybinim@gmail.com





## ЗЬМЕСТ

# АД РЭДАКЦЫІ

Для гісторыі беларускай эміграцыі Нямеччына стала надзвычай значнай краінай. Тут нацыянальнае жыцьцё пачалося яшчэ ў міжваенны час, не спынялася ў Другую сусьветную вайну, а пасьля яе — у 1945—1950 гг. — разгарнулася, як нідзе раней. Нямеччына для паваенных беларускіх эмігрантаў была краінай „другога выхаду“ — месцам, адкуль яны выяжджалі на сталае жыхарства ў іншыя, бывала й вельмі далёкія рэгіёны сьвету. Пэрыяд лягераў Ды-Пі — час першаснага фармаваньня паваеннай беларускай дыяспары на Захадзе. Менавіта тут пачалося гуртаваньне „сваіх“, сталі стварацца структуры, якія часткова былі перанесеныя пазьней у краіны сталага жыцьця. Зь Нямеччыны, зь лягераў Ды-Пі, паходзяць і найбольшыя праблемы паваеннай эміграцыі: палітычны й рэлігійны расколы. Адсюль ішлі таксама асаблівасьці асабістых дачыненьняў грамадзкіх дзеячаў. Менавіта ў Нямеччыне назіраўся росквіт беларускага пэрыядычнага друку, тут выходзіла адна з найбольш важных газэтаў беларускай эміграцыі „Бацькаўшчына“.

Значэньне Нямеччыны ў гісторыі беларускай паваеннай эміграцыі, нават нягледзячы на тое, што пасьля 1950-х гг. тут засталіся лічаныя адзінкі нашых суайчыньнікаў, складана пераацаніць. Аднак дасёньня гэтая краіна ня стала аб'ектам пільнай увагі дасьледнікаў. Магчымымі прычынамі такой „няўвагі“ была пэўная абмежаванасьць крыніцазнаўчай базы, яе фрагмэнтарнасьць, расьцярушанасьць па сьвеце разам зь беларускімі эмігрантамі, што прайшлі празь Нямеччыну. Акрамя працаў Алеся Вініцкага, іншыя спробы сыстэматызацыі беларускіх „нямецкіх“ матэрыялаў узгадаць надзвычай складана. І гэта пры тым, што ўспаміны амаль любога паваеннага беларускага эмігранта тым ці іншым чынам закранаалі Нямеччыну.

Менавіта з увагі на ўсё вышэй пазначанае гэты нумар „Запісаў БІНіМ“ прысьвечаны беларусам у Нямеччыне. Прычым ня маючы

магчымасьці рабіць сыстэмнае дасьледаваньне, мы зьвярнуліся да найбольш цікавых і найменш вядомых сюжэтаў. Гэтак, пэрыяд лягераў Ды-Пі рэпрэзэнтаваны ня столькі пэрыпэтыямі палітычнай ці рэлігійнай барацьбы або выдавецкімі праектамі, а хутчэй побытавымі замалёўкамі. У працы Лявона Юрэвіча ды ўспамінах Надзеі Запруднік, Барыса Данілюка, Вітаўта Кіпеля ў цэнтры ўвагі — штодзённасьць беларускіх дыпістаў, звычайныя чалавечыя клопаты.

Пераважная большасьць тэкстаў гэтых „Запісаў“ мае тыя ці іншыя адносіны да Нямеччыны. Гэтак і ў „Архіваліях“ тэксты Антона Адамовіча паходзяць або з бэрлінскае „Раніцы“, або з паваенных лягераў Ды-Пі. „Праўдзівая даведка“ Аляксандра Асіпчыка, што праўда, распавядае пра часы акупацыі, але ўрэшце — таксама пра немцаў. Здаецца, не зьвязаныя з паваеннай Нямеччынай успаміны Юр'я Сабалеўскага (які, праўда, жыў у гэтай краіне, калі іх пісаў). Тэкст з грунтоўнымі прадмовай і камэнтарамі Аляксандра Пашкевіча публікуецца ў гэтым нумары. Але й тут герой у часе праблемаў сваёй палітычнай дзейнасьці ўцякае менавіта ў Нямеччыну, пра што часткова й распавядаюць успаміны дзеяча.

З паваеннай Нямеччынай была зьвязаная дзейнасьць розных палітычных і вайсковых арганізацыяў беларускай эміграцыі, а зь імі, часам, неадназначныя моманты супрацы беларускіх дзеячаў з заходнімі спэцслужбамі. Адзін з такіх сюжэтаў — у ліставаньні Людвіка Галубовіча-Зарэчнага й Дзьмітрыя Касмовіча.

З другой паловай 1950-х — 1960-мі гг. зьвязаная праца Беларускага аддзелу ў Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне, чыя гісторыя дасёньня амаль не вывучалася, а даробак навукоўцаў гэтак і не ацэнены належна ні ў эміграцыі, ні ў мэтраполіі. І гэта пры тым, што менавіта з Інстытутам вывучэньня СССР, як і зь БІНіМам, зьвязанае разьвіцьцё беларускай навукі на эміграцыі. Мюнхэнскаму інстытуту прысьвечаныя матэрыялы з новай рубрыкі „Ўстанова“.

Зьвязанае зь Мюнхэнскім інстытутам было й жыцьцё беларускага гісторыка Паўлы Урбана, што адышоў у лютым 2011 г. Ягоныя ўспаміны, а таксама бібліяграфія складаюць асноўны зьмест спэцыяльнага мэмарыяльнага разьдзелу „Запісаў“.

Нямецкіх беларусаў датычаць і матэрыялы „Музэю“. Тут публікуецца факсыміле нататніка журналіста й пісьменьніка, супрацоўніка радыё „Вызваленьне“ й газэты „Бацькаўшчына“ Пётры Сыча, а таксама фотаматэрыялы, зьвязаныя з адной праваслаўнай царквой у Мюнхэне, у стварэньні й высьвячэньні якой бралі ўдзел нашы суайчыньнікі.





Варта заўважыць, што ў гэтых „Запісах“ зьмешчаныя багатыя бібліяграфічныя матэрыялы, хоць яны й не сабраныя ў адну рубрыку. Тут дасьледнік зможа знайсьці бібліяграфію матэрыялаў, прысьвечаных лягерам Ды-Пі, што публікаваліся на старонках газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, бібліяграфіі беларускіх пэрыёдыкаў Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР ды працаў Паўлы Урбана.

Традыцыйна зьмяшчаюцца ў гэтых „Запісах“ і тэксты, не зьвязаныя з тэмай нумару. У разьдзеле „Друкі“ публікуем агляд успамінаў а. Міхаіла Бажар'янава, чыя сьвятарская дзейнасьць была зьвязаная зь міжваеннай Заходняй Беларусьсю, і які пазьней апекаваўся праваслаўнымі беларусамі ў лягерах для цывільных сваякоў жаўнераў Арміі Андэрса ў Афрыцы.

Рубрыка „Публікацыі“ прэзэнтаваная першай паўнавартаснай рэфлексіяй на раман „Роджаныя пад Сатурнам“ Віктара Вальтара. Аўтар тэксту Макс Шчур прапануе чытачам уласнае разуменьне зьместу твору й вобразаў герояў. Другі артыкул разьдзелу належыць гісторыку й краязнаўцу Андрэю Блінцу і ўяўляе сабою спробу аднаўленьня гісторыі Наваградзкага батальёну Барыса Рагулі.

Новы нумар „Запісаў“, як і папярэднія, мае на мэце прыцягнуць увагу чытачоў і дасьледнікаў да малавядомых аспэктаў, сюжэтаў, асобаў беларускай эміграцыі, найперш у Нямеччыне, магчыма, паставіць нейкія акцэнты, падказаць новыя кірункі пошукаў, а таксама падаць проста цікавую інфармацыю з гісторыі беларускага жыцьця на чужыне.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КРАІНА ДЫ-ПІ: ЗАМАЛЁЎКІ ПОБЫТУ Й НОРАВАЎ ЗЬ ЛЯГЕРНЫХ ЧАСОЎ

*Мы — людзі бяз бацькаўшчыны.*
*Displaced persons[1], як завёмся мы мовай афіцыйнай,*
*або displeased persons[2], як лепш назвалі б*
*мы самі сябе ў душы, застаўшыся запраўды*
*пакрыўджанымі ад урадаў, што ў нас фігуруюць*
*і выступаюць ад імя народаў,*
*ад якіх яны ня маюць паўнамоцтваў.*

*Тодар Беларускі[3]*

### Будзённасьць як праблема

Бадай аніводны аповед пра паваенную эміграцыю — і тое не датычыць выключна ўцекачоў зь Беларусі — не праміне згадкі пра лягеры Ды-Пі — *Displaced Person's*, перамешчаных асобаў. Існаваньне такіх лягераў, з аднаго боку, ёсьць ужо *common knowledge*, і ня толькі для гісторыкаў[4]; зь іншага боку, веданьне абмяжоўваецца роляй лягераў у арганізацыйным, палітычным жыцьці эмігрантаў. За даляглядам застаецца праца гэтае структуры, штодзённы побыт насельнікаў, а таксама норавы Ды-Пі, якія фармаваліся гэтым побытам.

[1] *Displaced persons* (анг.) — перамешчаныя асобы.
[2] *Displeased persons* (анг.) — незадаволеныя, пакрыўджаныя асобы.
[3] Бацькаўшчына. №15 (18). 9 травеня 1948. С. 3.
[4] Найлепшым дасьледаваньнем на сёньня застаецца кніга Яна Максімюка „Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, 1945—1950 гады“. Нью Ёрк—Беласток, 1994.





На сёньня не існуе адзінага агульнапрынятага вызначэньня будзённасьці. Большасьць аўтараў лічыць гэты тэрмін самавытлумачальным, і аб'ект досьледу атаесамляюць з звычайным штодзённым прыватным жыцьцём, побытаваю сфэраю таго, што называецца „сьветам чалавека“.

У свой час Юры Лотман трапна зазначыў, што паўсядзённае жыцьцё падобнае да паветра: чалавек заўважае яго толькі тады, калі яно псуецца або калі яго не стае[5]. Ён жа падзяліў побытавае на два складнікі: *„В каждом коллективе с относительно развитой культурой поведение людей организуется основным противостоянием: 1) обычное, каждодневное, бытовое, которое самими членами коллектива воспринимается как „естественное“, единственно возможное, нормальное; 2) все виды торжественного, ритуального, внепрактического поведения: государственного, культового, обрядового воспринимаемого самими носителями данной культуры как имеющее самостоятельное значение“*[6].

Зразумела, што гэта толькі адзін зь немалога шэрагу ракурс разгляду грамадзтва, прычым такога, дзе апісальнасьць пераважае аналітычнасьць.

Самая першая і бадай галоўная рыса штодзённасьці — яе грамадзкі, калектыўны характар, што прадугледжвае сталую камунікацыю. Гэта акрэсьлівае і адпаведны выбар крыніцаў.

На гісторыю штодзённасьці можна глядзець як *зьверху* — праз афіцыйныя дакумэнты, гэтак і *зьнізу* — праз дакумэнты прыватныя, але найлепшы вынік для разуменьня дасягаецца, відаць, праз іх камбінаваньне.

Сярод такіх крыніцаў да гісторыі будзённага жыцьця беларусаў у лягерах Ды-Пі найперш трэба згадаць кнігу Алеся Вініцкага „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох“[7]. Да гэтай, шмат у чым мэмуарнай, працы варта дадаць блізкую ёй кнігу Сьвятаслава Каўша[8], успаміны Леаніда Галяка[9], Натальлі Арсеньневай[10].

[5] Лотман, Ю. Беседы о русской культуре. Быт и традиции русского дворянства. XVIII — начало XIX века. СПб, 1994. С. 10.
[6] Лотман, Ю. Поэтика бытового поведения в русской культуре XVIII века // Лотман, Ю. Избранные статьи. В 3 т. Т. 1. Таллинн, 1992. С. 249.
[7] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. У 2 т. Лёс Анжэлес, 1968.
[8] Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт. Альбом — гістарычная даведка. [South River], 1981. 112 с.
[9] Галяк, Леанід. Успаміны. У 2 т. Т. 2. ЗША: „Летапіс“, 1983. 42 с. Далей: Галяк.
[10] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 256—260.

Да ўспамінаў — наратыўных эга-дакумэнтаў — блізкія паводле свайго характару лісты; яны таксама спрыяюць ня толькі аднаўленьню падзеяў мінулага, але й адбіваюць успрыняцьце рэаліяў, дапамагаюць зразумець і вычуць атмасфэру.

Важнаю крыніцаю сталіся афіцыйныя дакумэнты тых часоў, а таксама друкі дыпістаў — як беларусаў, гэтак і іншых нацыянальнасьцяў (улёткі, адозвы, *etc*).

Яшчэ адною крыніцай ёсьць часопісна-газэтная публіцыстыка ў пэрыёдыках „Бацькаўшчына“ і „Беларус“[11], у шэрагу выданьняў, пераважна ратапарных, што выходзілі ў лягерах у 1946—1950 гг.

Усе цытаваныя дакумэнты, улёткі, лісты, за выняткам адмыслова пазначаных, захоўваюцца ў зборы Зоры й Вітаўта Кіпеляў у Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы.

## UNRRA & IRO

Гэта была памылка, зь якой пачалося існаваньне лягераў Ды-Пі: іх арганізоўвалі дзеля забесьпячэньня ўцекачоў неабходным мінімумам ежы, дахам над галавой, мэдычным даглядам і аховаю — на час, патрэбны для рэпатрыяцыі. Але, да зьдзіўленьня акупацыйных уладаў, пачалі масава адмаўляцца ад вяртаньня баўгары, беларусы, казакі, эстонцы, мадзяры, латышы, летувісы, румыны, расейцы, сэрбы, харваты, украінцы. Для іх мэта Другой сусьветнай вайны дасягнутая не была: карычневы фашызм быў зьнішчаны, але заставаўся фашызм чырвоны.

Тэма гвалтоўнага павяртаньня даўно страціла прысмак сэнсацыйнасьці, але ўсё ж вядомая не да канца. Дадамо сьведчаньне аднаго зь відавочцаў, пісьменьніка Юркі Віцьбіча:

*„Германия. Регенсбург. 1946. На окраине города, в посёлке Гангоферзидлюнг нашли временный приют около четырёх тысяч беженцев от большевиков. По своей национальности это были поляки, белорусы, украинцы, русские, литовцы и латыши. Каждая национальность поселилась здесь, не смешиваясь с другими на своих „улицах“, избрав свои национальные комитеты, комендантов и полицию. Всех их опекала УНРРА*[12]*, а во главе её местного отделения стоял американец Штурмэн, ни от кого не скрывавший своей принадлежности к коммунистической партии. Между Штурмэном и местной советской репатриационной миссией сразу же наладился контакт: он предоставил советчикам возможность непосредственно ознакомиться с личной картотекой всех беженцев посёлка. Это ознакомление окончилось только тогда, когда возмущённые беженцы забросали булыжником советский автомобиль и находящихся в нём. Но всё же результат советских визитов вскоре сказался.*

*Третьего июля беженцы узнали, что на следующий день советчики, при помощи польской репатриационной миссии, окружат весь посёлок и арестуют десятки для насильственной репатриации. Многие ушли в ближайшие леса и отдалённые горы, но большинство осталось. Слух подтвердился. Четвёртого июля, на рассвете, было арестовано и вывезено в тюрьму города Плятлинг сорок беженцев из русской общины. Однако те, кто осуществлял это гнусное мероприятие, навряд ли предполагал, во что оно выльется.*

*Около восьми часов утра регенсбургские немцы крайне взволновались, увидев, как из Гангоферзидлюнга идут к центру города беженцы. Им вначале подумалось, не идут ли полуголодные люди громить их магазины и квартиры. Однако их опасения рассеялись, когда они увидели, что впереди беженцев идут в рясах и сутанах священнослужители: два священника — православный и греко-католик, ксёндз и пастор. По самым скромным подсчётам шедших в город насчитывалось не менее трёх тысяч. Около трети их составляли женщины с детьми на руках. На сделанных наспех транспарантах, которые несли беженцы, значилось на английском языке: „Где четыре Свободы Рузвельта?“*[13]*, „Верните наших братьев“, „Долой Штурмэна!“ и т. д. Не взяли они только с собой приготовленный транспарант „Долой Сталина!“, потому что в кабинете губернатора висел ещё в то время портрет улыбающегося „Дяди*

[11] Выбраная бібліяграфія падаецца напрыканцы.

[12] **ЮНРРА** (*UNRRA — United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) — Арганізацыя аб'яднаных нацыяў у справе дапамогі ды рэабілітацыі, створаная краінамі антыгітлераўскай кааліцыі ў 1943 г. для фінансавага падтрыманьня, прамысловага і сельскагаспадарчага аднаўленьня, аховы⇨ ⇨здароўя і інш. краінаў, якія пацярпелі падчас Другой сусьветнай вайны. У складзе арганізацыі дзеяў таксама камітэт у пытаньнях утрыманьня перамешчаных асобаў.

[13] Маюцца на ўвазе тыя свабоды, пра якія прэзыдэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвэлт заявіў у сваёй прамове перад чальцамі амэрыканскага Кангрэсу 6 студзеня 1941 г. як пра фундамэнтальныя для кожнага дэмакратычнага грамадзтва: свабода слова, свабода рэлігіі, свабода ад беднасьці ды свабода ад страху.

*Джоу“[14]. И немцы успокоились за своё благополучие. Однако когда беженцы, пройдя Кумпфлер мост, свернули на улицу, ведущую к вокзалу, им преградили дорогу МП-сты[15] на мотоциклах, но безуспешно. Беженцы шли дальше.*

*Тот, кто участвовал в этой демонстрации, никогда её не забудет. Она двигалась в образцовом порядке и совсем не потому, что её сопровождали МП-сты, отделяя от тротуаров, на которых стояли тысячи немцев. В то время отсутствовали междунациональные и прочие координационные комитеты, но в правильных рядах шли рука об руку поляк и литовец, украинец и русский, белорус и латыш, пренебрегая своим современным поселковым делением по улицам и давними вековыми народными спорами.*

*Когда до управления губернатора осталось несколько десятков шагов, центральную улицу герцога Максимилиана преградили сплошной живой стеной МП-сты с автоматами в руках. Тогда участники демонстрации, конец которой терялся за поворотами улиц, опустились все на колени, и старый немецкий город — ещё римскую Ратисбону — потрясло тысячеголосое, прочувствованное: „Спаси, Господи, люди Твоя, благослови достояние Твое“.*

*Это была последняя надежда для людей, не имевших в то время ни настоящего, ни будущего. Велика военная дисциплина, но когда МП-сты увидели всю беззащитность несчастных и когда, не понимая слов, они почувствовали всё величие молитвы, их автоматы опустились. В окнах губернского управления демонстранты увидели плакавших девушек. Неожиданно оттуда выбежал офицер и попросил беженцев от имени губернатора вернуться назад в посёлок, выделив перед этим из своей среды делегацию для переговоров с ним. Священнослужители, которые в случае выстрелов были бы убиты первыми, ушли вместе с офицером. А демонстранты в таком же порядке вернулись назад.*

*В центре посёлка Гангоферзидлюнг находилась построенная белорусами православная церковь. Её до отказа наполнили бесправные люди различных вероисповеданий. Священник служил молебен с мольбой о возвращении арестованных. И молебен ещё не окончился, когда*

[14] „Дзядзька Джо“ — прастамоўнае азначэньне асобы Сталіна, прынятае ў ангельскамоўных краінах за часамі ягонага жыцьця. Паходзіць ад ангельскай формы імя „Іосіф“.

[15] *MP, Military Police* (анг.) — вайсковая паліцыя.







Фэстываль у Рэгенсбурзе на фоне будынкаў, у якіх жылі дыпісты

*около церкви, не вмещавшей всех, послышались радостные крики. На американских военных машинах возвратились из тюрьмы Пляттлинга все сорок. Мужчины приветствовали их на различных языках, подбрасывали вверх, обнимали, целовали, крепко пожимали руки. Женщины плакали. Они только что плакали от горя, а теперь от радости. Священник прерывающимся от волнения голосом начал благодарственный молебен о здравии и возвратившихся и всех тех „имена их Ты, Господи, веси“, кто способствовал возвращению, и губернатора“*[16].

Першы апякун уцекачоў, *UNRRA*, дзеяла як цывільная арганізацыя, але ў 1947 г. яе замяніла *IRO*, а ўвага з рэпатрыяцыі перамясьцілася на расьсяленьне. Стаўленьне да паднаглядных засталося бадай тым самым: фармальна трактуючы як ахвяраў вайны, улады часта выказвалі абыякавасьць, што межавала з грэбаваньнем.

Ад пачатку лягеры будаваліся паводле нацыянальнага прынцыпу — меркавалася, гэта аблегчыць працэс рэпатрыяцыі. Беларускіх лягераў не існавала, як не існавала для акупацыйных уладаў і самой нацыянальнасьці „беларус“. Зрэшты, да 1939 г. яны сутыкаліся з эмігрантамі толькі дзьвюх нацыянальнасьцяў: расейцамі ды армянамі.

[16] Стукалич, Юрий. Мы дойдём! Нью-Йорк, 1975. С. 150—152.

Той самы Віцьбіч у лісьце ў расейскамоўную нью-ёркаўскую газэту „Новое русское слово“ згадвае: *„Хотя белорусы Гангоферзидлюнга, как и прочие его национальности, вполне самоопределились, построив единственную в посёлке православную церковь преп. Ефросинии-Предславы княжны Полоцкой, открыв начальную школу и гимназию имени народного поэта Янки Купалы, создав хор и театр, издавая журналы и книги на родном языке и т. д. Но при очередном обмене удостоверений, подтверждающих статус Ди-Пи, Штурмэн приказал записать белорусов в них русскими и присоединить затем к малочисленной русской общине. Однако когда в назначенный им для обмена день около 400 белорусов явились в здание УНРРА, то заурядный Ди-Пи, а именно Юрий Стукалич, отказался взять удостоверение, в котором ему было насильственно приписана не его национальность. Не поддаётся описанию взбешённое лицо Штурмэна, увидевшего, что вместе со мной все белорусы покинули помещение УНРРА.*

*На другой день нашу делегацию вне очереди принял губернатор Регенсбурга и высказал ей своё искреннее возмущение по поводу действий Штурмэна. На третий день после демонстрации мы, белорусы, получили удостоверения с обозначением своей национальности. А спустя короткое время окончательно разоблачённый Штурмэн был удален из Регенсбурга — провожали его на вокзале не Ди-Пи, а Эм-Пи“*[17].

Патрэба ў стварэньні ўласных, беларускіх лягераў, якія б сталіся месцам збору свайго народу, была адной з найпільнейшых для беларускага актыву:

*„21.9.46 г.*

*У Галоўную Кватэру Амэрыканскіх Акупацыйных Збройных Сілаў у Франкфурт/Main.*

*У Галоўную Кватэру UNRRA Амэрыканскае Зоны ў Munchen-Passing.*

*Беларускіх DP у Нямеччыне ёсьць каля 80 000 чалавек, а ў амэрыканскай акупацыйнай зоне налічваецца іх каля 30 000 чалавек. У аснаўной сваёй большасьці гэта беларусы з тэрыторыі Заходняе Беларусі, якая да 1939 г. уваходзіла ў склад польскай рэспублікі, а цяпер належыць да Савецкага Саюзу (да г. зв. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі), а ў невялікай і найбольш заходняй сваёй часьці (на захад ад лініі Курзона) да Польшчы, Беларусы зьяўляюцца зусім асобным народам, маюць сваю собскую мову, гісторыю, культуру, свае апрычоныя традыцыйныя й бытавыя асаблівасьці й свае собскія нацыянальныя імкненьні. Паводле рэлігіі большасьць беларусаў (2/3) зьяўляюцца праваслаўнымі, а меншасьць (1/3) рыма-каталікі.*

*Нягледзячы на ўсё гэта, у Нямеччыне беларускія DP ня маюць паза малымі выключэньнямі сваіх собскіх лягераў, але жывуць расьцярушанымі ў чужых, польскіх, украінскіх, расейскіх лягерах, творачы там незарганізаваную мяншыню. У сувязі з гэтым палажэньне беларускіх DP значна горшае й цяжэйшае, чымся DP іншых нацыянальнасьцяў, як палякаў, ліцьвіноў, латышоў, эстонцаў, украінцаў і расейцаў. Усе гэтыя апошнія, пражываючы ў собскіх нацыянальных лягерах, маюць магчымасьць арганізаваць сваё культурна-асьветнае жыцьцё, мець свае школы, прэсу, рэлігійныя парахвіі й наагул могуць заспакаёваць свае культурныя й бытавыя патрэбы. Беларусы, пражываючы зь іншымі нацыянальнасьцямі, зьяўляюцца пазбаўленымі ўсяго гэтага.*

*Беларускія DP, будучы такім спосабам расьсеянымі па ўсей Нямеччыне, знаходзяцца ў большай або меншай колькасьці амаль у кожным польскім, украінскім, расейскім лягеры DP. Найбольшыя іх групы знаходзяцца ў наступных лягерах DP амэрыканскае зоны Нямеччыны: 1. Michelsdorf (Cham); 2. Augsburg; 3. Woiden; 4. Sohleissheim; 5. Passau; 6. Wildflecken; 7. Monchenhof; 8. Kassel; 9. Lauf; 10. Kassel-Oberswearen; 11. Boblingen; 12. Stuttgart; 13. Main-Kastel; 14. Schwarzenborn; 15. Allendorf; 16. Marburg; 17. Nau-Ulm; 18. Karlsruhe-Ettingen; 19. Ludwigsburg; 20. Wasseralfingen-Wissendorf.*

*Апрача вышэй успомненых труднасьцяў, беларусы, жывучы ў меншасьці сярод DP іншых нацыянальнасьцяў, часта церпяць крыўды ад гэтых апошніх. Нягледзячы на карэктныя адносіны да беларусаў польскіх і ўкраінскіх цэнтральных арганізацыяў, на мясцох некаторыя шавіністычныя элемэнты пры помачы фальшывае прапаганды й запалохваньні стараюцца праводзіць сярод беларусаў асыміляцыйную акцыю, перашкаджаючы й навет забараняючы ім праводзіць сваю культурна-асьветную работу, забараняючы гаварыць па-беларуску, а так жа прымушаючы іх тымі ці іншымі спосабамі запісвацца не беларусамі, але палякамі ці іншымі. Некаторым такім шавіністычным элемэнтам, якія маюць у сваіх руках нутраную адміністрацыю лягераў, у многіх выпадках гэта ўдаецца.*

[17] Стукалич, Юрий. Белорусы и вельможи УНРРА // Новое русское слово. Май 1968.

*Каб ня быць галаслоўнымі, прывядзём тут некаторыя найбольш яскравыя факты:*

*1. Вясной 1946 г. беларусы ў колькасьці каля 150 асоб у Weiden (Oberpfalz) былі перасланы зь лягеру Hamerweg у лягер Fiontenbiel. Вось жа польская адміністрацыя лягеру Fiontenbiel прыняла іх пад варункам, каб яны запісаліся палякамі й прыраклі не праводзіць ніякай беларускай культурна-асьветнай працы. Беларуская група, запалоханая некаторымі палякамі й ня маючы іншага выхаду, была змушана згадзіцца на гэтыя варункі.*

*2. Вялікая колькасьць беларусаў, а праўдападобна й бальшыня, што пражывае ў польскіх лягерах, запісаная палякамі, а навет падчас апошняе праверкі для ўстанаўленьня статусу DP (скрынінг) падавала з вышэй паданых прычын сваю нацыянальнасьць як польскую.*

*3. Вялікая колькасьць беларусаў, што пражывае ў украінскіх лягерах (Augsburg, Neu-Ulm), таксама запісаная ўкраінцамі, а не беларусамі.*

*Такое палажэньне ёсьць безумоўна вельмі крыўдным для беларускіх DP. Прадстаўнікі беларускіх DP зьвярталіся ўжо ня раз вусна й пісьмова ў гэтай справе да амэрыканскіх вайсковых і унрраўскіх уладаў, але, на жаль, безрэзультатна. Дзеля, аднак, што прадстаўленае тут нашае палажэньне ёсьць сапраўды вельмі цяжкае й крыўднае, і што нашыя просьбы ў гэтай справе зьяўляюцца слушнымі й адказваюць прынцыпам дэмакратызму, мы наважылі яшчэ раз зьвярнуцца з наступным:*

*1. Просім разглядаць беларускіх DP не паводле іх ранейшае дзяржаўнае прыналежнасьці, бо мы сваёй дзяржавы ня мелі, і Беларусь перад гэтай вайной была падзелена паміж Савецкім Саюзам і Польшчаю, але паводле іх нацыянальнасьці, гэта значыць — як беларусаў. Канкрэтны прыклад такога разгляданьня народу маем у адносінах да ўкраінцаў. Украінцы, як мы, перад вайной сваёй дзяржавы ня мелі, і насяляная імі тэрыторыя была таксама падзеленая паміж Савецкім Саюзам і Польшчаю. Цяпер Украіна творыць г. зв. Украінскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, таксама, як і Беларусь творыць сёньня Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Аднак адпаведнымі вайсковымі і унрраўскімі ўладамі разглядаюцца яны паводля іх нацыянальнасьці, г. зн. як украінцы.*

*2. Просім выдзеліць беларусаў з чужых польскіх, украінскіх, расейскіх лягераў і пасяліць іх у створаныя да гэтага спэцыяльныя беларускія лягеры. У сувязі з выездам многіх палякаў у Польшчу, асвабджаюцца некаторыя лягеры, а дзеля гэтага не было б тэхнічных перашкод для стварэньня некалькіх беларускіх лягераў. Канкрэтна просім зарганізаваць прынамсі па адным большым беларускім лягеры ў кожным дыстрыкце UNRRA ў амэрыканскай зоне Нямеччыны.*

*3. Дзеля таго, што з вышэй паданых прычын многія беларусы ў польскіх лягерах запісаныя палякамі, у ўкраінскіх — украінцамі, у расейскіх — расейцамі, просім падчас акцыі гэтага вылучэньня й перасяленьня стварыць беларусам усе магчымасьці свабоднага заяўленьня аб іхнай нацыянальнасьці.*

*Для выступаньня ў гэтай справе перад адпаведнымі вайсковымі і унрраўскімі ўладамі ўпаўнамочваем наступных асоб:*

*Сэнатар ад беларускага народу ў былы Сэнат польскае рэспублікі*[18] .

*Пасол ад беларускага народу ў былы сойм (парлямэнт) польскае рэспублікі*[19] .

*Упаўнамочаны ад беларусаў лікам … асоб лягеру DP … UNRRA Team …“*[20] .

Адно ў 1947 г. *IRO* падзяліла ўсіх эмігрантаў на 22 нацыянальнасьці: альбанцы, чэхі, французы, грэкі, палякі, савецкія, югаславы, эстонцы, літоўцы, латышы, мадзяры, румыны, польскія беларусы, польскія ўкраінцы, чэскія ўкраінцы, нансэністы[21] , тыя, хто прэтэндуе на статус нансэністаў, польскія габрэі, мадзярскія габрэі, нямецкія габрэі, румынскія габрэі, чэскія габрэі[22] . У рэчаіснасьці ж, як правіла, уцекачы з розных краінаў мусілі дзяліць ня тое што адзін лягер, але й тыя самыя баракі, і ня раз *MP* была вымушаная спыняць сваркі й бойкі, карані якіх часта ляжалі ў даваеннай, а нават і ў мінулых стагодзьдзяў гісторыі народаў.

---

[18] Відавочна, маецца на ўвазе Васіль Рагуля. Толькі ён з чатырох беларускіх міжваенных сэнатараў пасьля вайны апынуўся на Захадзе.

[19] У канцы Другой сусьветнай вайны на Захадзе апынуліся 3 былыя беларускія паслы польскага Сойму: Юры Сабалеўскі, Аляксандар Стагановіч і Ян Станкевіч. Тут, хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе Юры Сабалеўскі.

[20] Прозьвішчы не пазначаныя. Гл. таксама: Галяк. С. 75.

[21] Заснаваная ў 1921 г. Ф. Нансэнам (*Fridtjof Nansen*) *League of Nations High Commission for Refuges* выдавала пашпарты ахвярам вайны, што апынуліся на выгнаньні.

[22] Трэба адцеміць, што ўсяго некалькі нацыянальных камітэтаў дамагліся вызнаньня ад IRO і акупацыйных вайсковых уладаў: беларусы, эстонцы, мадзяры, латышы, летувісы, палякі, расейцы, украінцы. Астатнія нацыянальныя камітэты вызнаныя не былі.



 

Няўдалая палітыка *IRO* спрычынялася да далейшага разьбіцьця насельнікаў лягераў на касты; як зазначыў у сваіх успамінах Леанід Галяк, акупацыйная дэмакратыя — гэта асаблівы род дэмакратыі[23].

У чэрвені 1948 г. Кангрэс Злучаных Штатаў прыняў першы Акт, датычны перамешчаных асобаў, прапанаваны сэнатарам Александрам Ўілеем (*Wiley*). Гэты Акт прадугледжваў прыняць у 1948—1949 гг. сто тысяч уцекачоў — фактычна 10 адсоткаў ад пазасталых у лягерах, аддаючы перавагу нацыянальнасьцям з анэксаваных тэрыторыяў і тым, хто меў досьвед працы на фэрмах. У другую катэгорыю траплялі сямейныя, будаўнікі й краўцы. Трэцяя катэгорыя ўключала ў сябе тых, хто меў сваякоў у ЗША. Гэтыя тры катэгорыі, у сваю чаргу, дзяліліся на тых, хто змагаўся супраць ворагаў Амэрыкі; тых, хто зарэгістраваўся ў лягерах да 22.12.1945 г. і заставаўся там да 01.1948 г. і на ўсіх астатніх. Усе без вынятку мусілі засьведчыць, што ў стане самі знайсьці сабе жытло й працу па прыбыцьці ў ЗША і ня стануць цяжарам для амэрыканскіх грамадзянаў.

Праблема эміграцыі агулам разглядалася з эканамічнага гледзішча, не з гуманітарнага.

У падтрымку дыпістаў выказаўся прэзыдэнт Трумэн: „*These displaced persons are hardy and resourceful or they would not have survived. A survey of the occupational backgrounds of those in our assembly centers shows a wide variety of professionals, crafts, and skills. These are people who oppose totalitarian rule, and who because of their burning faith in the principles of freedom and democracy have suffered untold privation and hardship. Because they are not Communists and are opposed to communism, they have staunchly resisted all efforts to induce them to return to Communist-controlled areas. In addition, they were our individual allies in the war*“[24].

Кола закруцілася. Чыноўнікі з *IRO* распачалі працэс вярбоўкі, патрабуючы ад уцекачоў доказы прафэсійнай падрыхтоўкі й наяўнасьці сваякоў за акіянам. Справа на кожнага ахвотнага выэміграваць мусіла мець: сем здымкаў на пашпарт, па дзьве копіі пасьведчаньня аб нара-

[23] Галяк. С. 68.

[24] Congressional Quarterly Almanac. Vol. III. 1947. P. 637. Гэта тым больш было важна, што ў саміх Штатах голас супраць прыняцьця Ды-Пі быў вельмі моцны. Гэтак, актыўна пратэставалі *American Legion*, *Veterans of Foreign Wars*, *American Coalition*, *Teamsters Union*, *Junior Order of United American Mechanics*, *National Economic Councill*, *Maryland Society of War of 1812* ды інш.







Whiteruthenian DP. Camp
Osterhofen Ndb.

Osterhofen, June 3, 1949

To: Whom it may concern

That is to certify that the inhabitant of this Camp,
Mr./~~Mrs~~/~~Miss~~ A d a m o v i c Anton
DP Id.C.No. 840181 born on June 26,1909
is/~~was~~ living here since February 10,1947. He/~~she~~ was employed here
as Teacher from February 15,1947 to Febr.10,1948
as Princ.Editor Newspaper [illegible] from Febr.11,1948 to August 31,1948
as Clerk-Typist from Septemb.1,1948 to May 20,1949
as Secretary in Resettlm.Off. from May 21,1949 to June 13,1949

Whiteruthenian D.P. Camp
Camp Leader

Пасьведчаньне жыхара беларускага лягеру ў Остэргофэне

джэньні, шлюбу (або ягоным скасаваньні), сьмерці сваякоў, характарыстыку ад лягернага паліцыянта або ад мясцовай нямецкай паліцыі, а таксама пацьверджаньне сталага жыцьця ў акупацыйных зонах паміж верасьнем 1939-га і сьнежнем 1945-га.

Справу правярала некалькі розных агенцыяў і, калі ўсё пацьвярджалася, вярталі ў IRO для мэдычнага агляду й, нарэшце, выпісваньня візы. Сама меней гэта брала дзевяць месяцаў.

Патрабаваньне папераў, уся працэдура наагул паўплывала на будзённае жыцьцё насельнікаў лягераў, якія цяпер зранку шыхтаваліся ў даўжэзныя чэргі да офісаў на інтэрвію, на прышчэпкі, у паштовыя аддзелы, а ў міжчасе вышуквалі тых, хто б мог засьведчыць іхнае быцьцё ў часе вайны ды няшмат за гэта папрасіць.

І ня раз потым згадваўся той скрынінг — роўня калектывізацыі, змаганьню з нацдэмамі ды іншымі працэсамі ў пакінутай бацькаўшчыне сваім варожым, агрэсіўным стаўленьнем да людзей.

Калі ж *IRO* афіцыйна зачыніла лягеры ў 1952 г., падлічылі, што ЗША прынялі ў чатыры разы больш за раней заплянаванае, а наагул праз гэтую арганізацыю выехалі на новыя землі каля аднаго мільёна ўцекачоў.

## Лягер

Звычайна вакол лягеру вырастаў плот з калючага дроту: ён стрымліваў ня толькі ўцекачоў, якім усё гэта нагадвала нядаўняе мінулае, але й мясцовае нямецкае насельніцтва. Пабудовы, скарыстаныя пад лягер, вар'іраваліся ад эгіпецкіх пустэльных намётаў да сапраўдных палацаў. Праўда, без належнай ім княскай раскошы: гэта былі халодныя, вільготныя й цёмныя памешканьні.

Найбольш шырока выкарыстоўваліся лягеры былых ОСТаўцаў — аднапавярховыя драўляныя баракі, а таксама вайсковыя базы з дыхтоўнымі каменнымі будынкамі або звычайныя вясковыя хаты. Часам адзін лягер мог складацца з васьмі вёсак[25].

У лягер быў толькі адзін уваход / выхад, які заўсёды ахоўваўся вайскоўцамі. Шмат дзе, каб выйсьці, патрабаваўся пісьмовы дазвол камэнданта.

На кожнага вылучалася каля 30 square feet[26], таму там, дзе да вайны жыла адна сям'я, цяпер засельвалі тры. Перасьценкі выраблялі з паперы ці, калі былі больш заможнымі, з коўдраў.

Гэткае жыцьцё на людзях спрычыняла дастаткова складанасьцяў — і чыста побытавых (карыстаньне аднымі й тымі рэчамі), і псыхалягічных: абмежаваньне тэрыторыі, на якой праходзіла штодзённае жыцьцё.

На ўвесь лягер была адна агульная кухня[27], дзе выдаваўся штодзень суп, хлеб, раз на тыдзень масла. Мэтаю *UNRRA* было ўзьняць дзённы мінімум да 2650 калёрыяў на чалавека, але на травень 1946 г. давялі да

[25] Woodbridge, George. UNRRA: The History of the United Nations Relief and Rehabilitation Administration. New York: Columbia University Press, 1950. Vol. II. P. 500. Галяк так апісвае Ватэнштэт: *„Ляжаў на бязьлеснай, даволі нізкай даліне, да найбліжэйшага лесу ў напрамку Вольфэнбютэлю некалькі кілямэтраў. Да вады, дзе можна было купацца, ямы, скуль раней бралі жвір, таксама са 2 кілямэтры. Лягер быў не ў самой вёсцы Ватэнштэт, а з паўтара кілямэтра да вёскі“* (Галяк. С. 54).

[26] Woodbridge, George. UNRRA...

[27] *„Сталаваліся самі ўсім калгасам. Для гатаваньня ежы немцы прызначылі ў суседнім панадворку кухню нейкай непрацуючай гаспадарчай школы. Вялізарны пакой, пасярэдзіне дзьве пліты. Там і гатавалі нашыя жанчыны па чарзе для ўсіх, спачатку на аднэй, а потым на дзьвюх плітах. [...] Ежа была слабая. Ратавала толькі цыбуля, якой у Нямеччыне, дзе прыйшлося быць раней, заўсёды не хапала, а тут мясцовыя сяляне не хацелі прадаць менш мяха“* (Галяк. С. 34).





2300, пазьней зьнізілі наагул да 2000. Цяжарныя кабеты, дзеці, а таксама працаўнікі атрымоўвалі ад 500 да 1000 дадатковых калёрыяў[28].

У асобных лягерах раз на два тыдні выдаваліся харчовыя пачкі: цыгарэты, кава, мармэляд, сыр, арэхавае масла. Чырвоны Крыж з Канады, Брытаніі, Індыі, Новай Зэляндыі, ЗША дасылаў пачкі з сухім малаком, чакалядай, сардынамі й таксама не забываўся ўкласьці цыгарэты.

Цыгарэты былі валютаю, даражэйшым за золата таварам — на яго можна было зьмяняць вопратку, ежу, выправіць неабходныя дакумэнты. Імі гандлявалі, нягледзячы на тое, што калі б за гэтым заняткам — продажам ці набыцьцём, неістотна — засьпелі каго з Ды-Пі, апошняму пагражала б імгненнае выгнаньне зь лягеру й страта статусу перамешчанай асобы, што азначала фактычную рэпатрыяцыю.

У лягерах можна было гнаць самагонку, атрымаўшы дазвол на гэта ад камэнданта — за пэўнае ўзнагароджваньне. У лягеры Ватэнштэт *„найвялікшую прадукцыю разьвярнулі два сьвятары: а. Сурвіла і а. Сьмірноў. Спачатку гналі ў сябе ў хатах, але потым, хочучы разьвярнуць прадукцыю шырэй, уначы ўлезьлі ў лягерную кухню й былі там знойдзеныя лягернай паліцыяй. Афіцыяльнага пратаколу паліцыянт не зрабіў, бо сьвятары яму вытлумачылі, што той, хто не дае сьвятарам гнаць самагонку, ёсьць бязбожнікам, а такіх могуць адправіць дахаты. Паліцыянт паходзіў з Савецкага Саюзу, і дзеля гэтага вывады сьвятароў падаліся яму пераконваючымі“*[29].

Істотнаю праблемаю й для насельнікаў, і для ўладаў быў стан сантэхнікі. Важнасьць бачна й па тым месцы, якое гэтая тэма займала ў афіцыйных лягерных выданьнях:

*„Распоряжение по Ди Пи лагерю Шлейсгейм. 950-1397. Мюнхен-Фельдмохинг, 14 февраля 1949 года.*

*§1. Несмотря на неоднократные распоряжения и объявления по радио о соблюдении необходимой чистоты в бараках, в умывальниках, в уборных, вокруг бараков и т. п., время от времени все же появляются неряшливые жители лагеря, которые не желают соблюдать столь необходимых, при нашей скученности, основных правил гигиены и этим выявляют себя людьми, непригодными для лагерной жизни. На этих днях произвели нарушения санитарных требований следующие жители нашего лагеря: Янушкин Федор (106-3)*[30] *вместо*

[28] Woodbridge, George. UNRRA...

[29] Галяк. С. 50.

*помойной ямы вылил помои возле барака; Коваленко Надежда (105-8) чистила рыбу в умывальной, где жители лагеря умываются и стирают белье; Бабич Семен (134-11) вымыл свой грязный велосипед в умывальной.*

*Указанные выше лица должны знать, что в настоящее время лагерь принимает меры против появления эпидемических заболеваний, могущих вспыхнуть с наступлением теплого времени, и потому все нарушители санитарных требований будут предлагаться к выселению из лагеря*[31].

*Предупреждаются также жители северной стороны барака 107 о необходимости выливать помои в помойную яму, а не около барака. [...]*

*§4. На основании протокола организационного общего собрания белорусов от 30.1.1949 г. разрешается открытие „Белорусского землячества“ в лагере Шлейсгам и утверждается следующий состав Правления: председатель проф. Степанов Николай (140-11), заместитель председателя — инж. Малевич Евгений (143-10), члены Правления: Портлезник Николай (86-12), Тимохович Николай (100-12), Борженко Борис (112-2), Пшипчаница Иван (19-19) и секретарь Бендзеров Иван (71-3)“.*

Сапраўды, сухоты, дызэнтэрыя, пранцы, тыф, воспа, скураныя захворваньні не абмінулі аніводзін лягер. Не ва ўсіх бараках былі печкі, а электрычнасьць увечары звычайна не працавала. І тым ня менш, уцекачы шчыра верылі, што толькі ім наканавана захаваць і адрадзіць сапраўдную літаратуру, зьберагчы ад русіфікацыі й палянізацыі матчыну мову, бацькоўскія традыцыі, што менавіта яны — носьбіты нацыянальнай ідэі.

Канфлікты паміж *крывічамі-зарубежнікамі*, *заходнікамі* і *ўсходнікамі* (*„савецкімі“*), *інтэлігенцыяй* і *народам*, *беларусамі-прафэсіяналамі* й *проста беларусамі* не прымусілі сябе доўга чакаць.

[30] Нумар бараку й нумар пакою.

[31] Высяленьне зь лягеру як пакараньне было добрай зброяй і ў барацьбе камэнданта з апазыцыяй. Гл. Галяк. С. 64.





## Пра старую казу і пра суд Ды-Пі

*„Грамадзкаму Суду пры Селішчнай Радзе Беларускага Лягеру ў Міхэльсдорфе*

*Юрыя Стукаліча*[32]

*Заява*

*Адчуваючы вялікую пашану да цяперашняга Грамадзкага Суду, я, тым ня менш, не магу даць ніякіх вестак, акрамя раней мной дадзеных, па справе з паходжаньнем лістоўкі-сатыры „Загад №1 старое казы крывіцкага барабаншчыка“, выходзячы з наступных прычынаў:*

*1. Ужо тры месяцы як зьявілася ганебная лістоўка-данос „Выясьненьне“*[33]*. Аўтар гэтага даносу Янка Станкевіч (Брачыслаў Скарыніч)*[34] *абражае ў ім грамадзкага дзеяча і ведамага паэту Хвёдара Ільляшэвіча (С. Залужны)*[35]*, прыпісваючы яму работу „на заказ маскоўскай чорнай і бальшавіцкай сотні“, закідаючы яму, што „ён пераймае на сябе за граніцаю работу НКВД“, падкрэсьліваючы, „што ён апынуўся ў маскоўскай арганізацыі“. У заключным акордзе „Выясьненьня“ не двухсэнсоўна абзывае Хв. Ільляшэвіча „п’яніцаю“ і намякае на нейкую ягоную „няслаўную мінуласьць“. Гэты данос выдадзены „ідэйным і сьвятлейшым“ (як ён сам сябе называе) Янкам Станкевічам у колькасьці 200 паасобнікаў на ратытары, распаўсюджваецца ім па нашых беларускіх лягерах і нават прадаецца па аднэй марцы за штуку. Хвёдар Ільляшэвіч зьяўляецца сябрам літаратурнага*

[32] **Юры Стукаліч** (**Юрка Віцьбіч**, ад нараджэньня **Серафім Шчарбакоў**, 1905—1975), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі браў удзел у культурным жыцьці Беларусі. З 1944 г. — на эміграцыі. У другой палове 1940-х гг. быў ідэолягам „зарубежнікаў“ і Беларускай Цэнтральнай Рады. Арганізатар літаратурнага аб’яднаньня „Шыпшына“ (1946). З 1950 г. жыў у ЗША, у Саўт-Рывэры. Аўтар кнігі „Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі“.

[33] Тэкст „Выясьненьня“ зьмяшчаецца далей у разьдзеле „Дакумэнты“.

[34] **Ян** (Янка) **Станкевіч** (1891—1976), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнавец, доктар славянскай філялёгіі й гісторыі. Скончыў Праскі ўнівэрсытэт.

[35] **Хведар Ільляшэвіч** (1910—1948), паэт, гісторык, грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, гістарычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі кіраваў Беларускім аб’яднаньнем у Беластоку, рэдагаваў мясцовую газэту „Новая дарога“. З 1944 г. жыў у Нямеччыне, рэдагаваў часопіс „Шляхам жыцьця“ (1946—1948), бюлетэнь „Апошнія весткі“ (разам зь Міколам Шылам). Трагічна загінуў у аўтакатастрофе.

*згуртаваньня „Шыпшына“[36] і сябрам Беларускага Праваслаўнага Аб'яднаньня, а таму гэта абраза яго зьяўляецца абразай усіх сябраў двох вышэйадзначаных беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Янка Станкевіч зьяўляецца сябрам прэзыдыюму гэтак званае „крывіцкае партыі“. Таму зразумела, што яго злачынны ўчынак не атрымаў аж дагэтуль аніякага асуджэньня з боку ягоных партыйных аднадумцаў, значная колькасьць якіх зьяўляецца настаўнікамі тутэйшае гімназіі. Аж дагэтуль даношчык Янка Станкевіч зьяўляецца сябрам гэтак званага Беларускага Нацыянальнага Цэнтру[37], сябрам гэтак званага Акруговага Камітэту, фактычным рэдактарам каталіцкага часапісу „Адраджэньне“[38] і старшынёй Беларускае Групы ДП у Рэгенсбургу. Не падлягае аніякаму сумліву, што гэты гнусны ўчынак яшчэ будзе даведзены да ведама шырокіх колаў грамадзкасьці і сурова асуджаны ёю.*

*2. Як сябра Беларускага Нацыянальнага Камітэту сьведчу, што яшчэ летась увосені на паседжаньні Цэнтральнага Камітэту было амаль аднагалосна вырашана пераабраць Цэнтральны Камітэт на дэмакратычных падставах на працягу месяца. Намесьнік старшыні Ц. К. Аляксей Вініцкі[39] і сакратар Мікола Кунцэвіч[40] (абодва сябры крывіцкае партыі) ігнаравалі гэтую пастанову і дагэтуль працягваюць дзейнічаць ад імя Ц. К., ня маючы на гэтае ніякага юрыдычнага права. Тая акалічнасьць, што сёньня Вініцкі як старшыня Ц. К., а Кунцэвіч як сакратар гэтага Ц. К. самачынна дзейнічаюць ад імя ўсяе беларускае эміграцыі перад амэрыканскімі чыньнікамі і перад іншымі нацыянальнасьцямі, зьяўляецца злачынствам, бо яны ня маюць ад гэтае эміграцыі аніякіх паўнамоцтваў. Іхная самачынная дзейнасьць на мове юрыдычнай называецца палітычнай авантурай. Трэба, між іншым, адзначыць, што самачынны сакратар Ц. К. Мікола Кунцэвіч рэпрэзэнтуе нашую беларускую грамадзкасьць у Паразумеваўчым Камітэце, хаця абраным для гэтае мэты быў ня ён, а спадар доктар Шчорс[41].*

*3. Таксама яшчэ летась на паседжаньні гэтак званага Акруговага Камітэту было вырашана пераабраць яго на дэмакратычных падставах на працягу самага кароткага тэрміну. І таксама адсунуўшы ўбок гэтую пастанову, старшыня гэтак званага Акруговага Камітэту Кендыш[42] (сябра крывіцкае партыі) дагэтуль рэпрэзэнтуе ўсіх беларусаў амэрыканскае зоны й дзейнічае ад іхнага мя. Такая практыка, як ператварэньне агульнаграмадзкіх установаў у партыйныя крывіцкія, зьяўляецца злачынствам і падлягае грамадзкаму суду. Менавіта выходзячы з гэтых партыйных меркаваньняў на адным з апошніх сходаў самачыннага Акруговага Камітэту, дзе пераважна прысутнічалі настаўнікі тутэйшае гімназіі і старшыняваў Каханоўскі[43], быў выключаны зь ягонага складу за нібы „маскоўскую*

[36] **Літаратурнае аб'яднаньне „Шыпшына“** — арганізацыя, створаная ў красавіку 1946 г. з ініцыятывы Юркі Віцьбіча й Натальлі Арсеньневай. Пастулявала наступныя задачы: згуртаваць літаратараў, што апынуліся на эміграцыі; працаваць над стварэньнем вялікай літаратуры, годнай беларускага народу; стаяць на варце свабоды творчасьці й яе высокага мастацкага ўзроўню.

[37] **Беларускі нацыянальны цэнтар** — эмігранцкая нелегальная палітычная арганізацыя, створаная ў 1945 г. у Рэгенсбурзе. Задумваўся як „беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва“ на Захадзе, але ўрэшце ў гэтай якасьці не адбыўся. Існаваў да 1947 г.

[38] **„Adradżeńnie“** — часопіс беларусаў-каталікоў, які выдаваўся ў Рэгенсбурзе ў 1947—1948 гг. Усяго выйшла 6 нумароў.

[39] **Аляксей Вініцкі** (1891—1972), грамадзка-культурны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі настаўнічаў у Нясьвіскім павеце. У 1944 г. выехаў на эміграцыю, з 1956 г. жыў у ЗША. Займаўся грамадзкай і навуковай працай, быў сябрам Рады БНР. Аўтар працы „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох“.

[40] **Мікола Кунцэвіч** (1907—1985), грамадзкі дзеяч. У 1957—1959 гг. — старшыня Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня (БАЗА).

[41] **Мікола Шчорс** (1913—1995), грамадзка-палітычны дзеяч. З 1940 г. быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве, затым непрацяглы час — старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру. З восені 1944 г. — у Нямеччыне, узначальваў Беларускае праваслаўнае аб'яднаньне. З 1949 г. — у ЗША, адзін з стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1951—1955 гг. яго старшыня.

[42] **Васіль Кендыш** (1908—2003), рэлігійна-грамадзкі дзеяч. Браў актыўны ўдзел у арганізаваньні беларускіх адміністрацыйных структураў падчас нямецкай акупацыі, працуючы на розных пасадах у Баранавічах, Нясьвіжы, Клецку. З 1944 г. — на эміграцыі. Жывучы ў ЗША, браў актыўны ўдзел у беларускім праваслаўным жыцьці. У 1968—1973 гг. кіраваў парафіяй БАПЦ у Гайлэнд-Парку, да 1981 г. быў кіраўніком парафіі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

[43] Маецца на ўвазе **Аўген Калубовіч** (на эміграцыі **Каханоўскі**, 1912—1987), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык. Нарадзіўся ў мястэчку Ціхінічы на Рагачоўшчыне. У 1930 г. скончыў пэдтэхнікум у вёсцы Бабчын⇨

*працу“ спадар Ігнатовіч*[44]*, які тройчы ў час выбараў і рэфэрэндуму атрымаў у нашым селішчы найбольшую колькасьць галасоў. Зьнявага спадара Ігнатовіча зьяўляецца, такім чынам, зьнявагай для пераважнае бальшыні ДП нашага селішча.*

*4. На працягу апошніх сямі месяцаў Аляксей Вініцкі, сыстэматычна разьяжджаючы на грамадзкія грошы па беларускіх лягерах амэрыканскае зоны як самачынны старшыня самачыннага Ц. К., займаецца вылучна плявузганьнем на мяне і шэраг іншых беларусаў, якія жывуць у нашым селішчы, характарызуючы нас як здраднікаў і бальшавіцкіх агентаў. Гэтае плявузганьне мела мейсца (чаму ёсьць сьведкі) у лягерах — Гэрэнбэрг, Ашафэнбург, Шляйсгайм, таксама як у час сустрэчы Вініцкага з паэтам Крушынай*[45]*, пісьменьнікам Чэслаўскім*[46] *і інш.*

*Тры месяцы таму назад Вініцкі, калі я зьвярнуўся да яго як сябра Ц. К. з пратэстам супраць ягонае няпраўнае, а значыцца і злачыннае дзейнасьці, ад імя Ц. К., аблаяў мяне на ўвесь барак, дзе ён жыве, словамі:*

*— Савецкая поскудзь. Назьбіралася вас тут, саветчыкаў. Пойдзем у Сіі-сі*[47] *і г. д.*

⇨ Хойніцкага раёну. Арыштоўваўся савецкімі ўладамі ў 1930 г., 3 гады адседзеў у лягерах. Пасьля настаўнічаў у Хойніцкім раёне і ў Менску, працаваў у Наркамаце народнай асьветы БССР. Падчас Другой сусьветнай вайны быў сябрам Беларускай рады даверу, Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаваньне. На эміграцыі ўваходзіў у кіраўніцтва Беларускага нацыянальнага цэнтру, Рады БНР, стваральнік Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Быў прэм'ер-міністрам БНР. Аўтар шматлікіх гістарычных дасьледаваньняў, успамінаў.

[44] **Міхаіл Ігнатовіч,** прыхільнік Беларускай Цэнтральнай Рады, актывіст Беларускага праваслаўнага аб'яднаньня.

[45] **Рыгор Крушына** (сапр. **Рыгор Казак,** 1907—1979), паэт, празаік, крытык. Перад вайной жыў у БССР, у пачатку нямецка-савецкай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. З 1944 г. жыў у Нямеччыне. У 1950—1960-я гг. працаваў у Мюнхэне ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“, потым выехаў у ЗША.

[46] Псэўданім пісьменьніка **Міколы Цэлеша** (1900 — пасьля 1976). У 1920—1930 гг. працаваў у розных дзяржаўных установах Менску, падчас нямецкай акупацыі — у „Беларускай газэце“. З 1944 г. — на эміграцыі. З канца 1940-х гг. жыў у ЗША, браў удзел у грамадзкім жыцьці беларускай эміграцыі.

[47] Маецца на ўвазе *SIS* (*Secret Intelligence Service*) — амэрыканская разьведвальная служба.





*Мая заява па гэтай справе ў Селішчную Раду засталася чамусьці без усякіх вынікаў.*

*5. У студзені 1947 г. Станіслаў Станкевіч*[48] *у час выбарчае кампаніі ў Остэргофэне на сходзе заявіў, што часопіс „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“*[49]*, які я рэдагую, выдаецца на савецкія грошы. Я не зьбіраюся апраўдвацца перад „крывічамі“, але ў мяне ёсьць дакумэнты, што часопіс гэты выдаецца на пфэнінгі нашае беларускае эміграцыі. На гэтую паскудненькую плётку я не рэагаваў належным чынам толькі таму, што ў былога рэдактара Станіслава Станкевіча ёсьць дзіцё.*

*6. 24 красавіка г. г. адбыўся надзвычайны адмысловы сход настаўнікаў і бацькоў тутэйшае гімназіі, прысьвечаны разгляду лістоўкі „Загад №1 старое казы крывіцкага барабаншчыка“. У часе гэтага сходу адзін з удзельнікаў, а менавіта Чэрняк, запрапанаваў: Запрасіце сюды на сход рэдактара часопісу „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“, і я яму тут паб'ю морду.*

*Пасьля гэтага прысутныя абралі адмысловую камісію ў складзе вышэйадзначанага Чэрняка, Асмалоўскага й Кунцэвіча. Гэтая камісія адразу па сходзе а палове дванаццатае ўначы наведала мой пакой. Мяне ў той час не было ў хаце, і яна сваім начным наведваньнем пабудзіла й напалохала маю сям'ю. Пры гэтым Асмалоўскі дамагаўся ад мае старое маці, каб яна без адкладу адшукала мяне й прывяла да гэтае камісіі.*

*Як Ды-Пі я падпарадкуюся Амэрыканскім Вайсковым Уладам, УНРРА, Камэнданту і Селішчнай Радзе. Ніколі не згаджуся з тым, каб мой лёс эмігранта залежаў ад кіраўніцтва тутэйшае гімназіі, тым больш што я не зьяўляюся ні настаўнікам яе, ні бацькам і ні гімназістым. Самы факт зьяўленьня вышэйадзначанае сьледчае камісіі пры*

[48] **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-палітычны дзеяч, навуковец, выдавец. Падчас Другой сусьветнай вайны — бурмістар Барысава й намесьнік прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Пасьля 1944 г. — на эміграцыі, першы старшыня Антыбальшавіцкага блёку народаў. У 1949—1962 гг. — рэдактар газэты „Бацькаўшчына“ (Мюнхэн), у 1962—1980 гг. — газэты „Беларус“ (Нью-Ёрк).

[49] **„Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“** — часопіс, які выдаваўся Беларускім праваслаўным аб'яднаньнем пад рэдакцыяй Юркі Віцьбіча спачатку ў Рэгенсбурзе, а пасьля ў Міхэльсдорфе ў 1946—1947 гг. Усяго выйшла 8 нумароў. Зьмест усіх нумароў часопісу апублікаваны: Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 532—541.

*гімназіі зьяўляецца парушэньнем Лягернага Статуту, а бясчэльная яе дзейнасьць у дачыненьні да мяне — парушэньнем маіх самых элемэнтарных чалавецкіх правоў.*

*7. Два тыдні таму на адмыслова скліканым сходзе пэдагагічнае рады тутэйшае гімназіі разгледжваўся мой прыватны ліст да а. М. Лапіцкага*[50]*. Я ня ведаю, якім чынам трапіў у рукі дырэктара гімназіі сп. Орсы*[51] *ліст, які быў не яму адрасаваны. Затое добра ведаю, што нават з пункту гледжаньня неінтэлігентнага чытаньне чужых лістоў зьяўляецца амаральным учынкам і недапушчальны для выхавальніка моладзі.*

*Толькі шкадуючы час Высокапаважанага Грамадзкага Суду я канчаю на гэтым пералік шматлікіх прычынаў, у сувязі зь якімі я не магу даць ніякіх вестак па справе з паходжаньнем „Загад №1 старое казы крывіцкага барабаншчыка“. Пачуцьцё нацыянальнае годнасьці, пачуцьцё пашаны да нашых гордых продкаў крывічоў не дазваляе мне адказваць па справе, якую падымае, прыкрываючыся настаўніцкім фахам, гэтак званая „крывіцкая партыя“. Я, як і пераважная бальшыня нашае эміграцыі, зьяўляюся ворагам гэтае „крывіцкае партыі“ і лічу сваім патрыятычным абавязкам працягваць зь ёю зацятую барацьбу і надалей. Як беларускі пісьменьнік-узвышэнец лічу сваім абавязкам скончыць неўзабаве кнігу „Хто такія крывічы“ і выдаць яе пад сваім подпісам*[52]*. Мяне ўжо не ўпершыню прыцягваюць „крывічы“ да судовае адказнасьці таксама, як за апошнія месяцы імі былі складзены на мяне ў Сіі-Сі некалькі даносаў. У выніку аднаго зь іх Сіі-Сі наведала мой пакой, чаму ёсьць дзясяткі сьведкаў, у выніку другога быў забаронены часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“. Цяпер ужо вядома, якія сябры „крывіцкае“ партыі рабілі за апошні час даносы.*

[50] **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч, праваслаўны сьвятар. Падчас вайны дзеяў у БАПЦ, з 1944 г. — на эміграцыі. Адстойваючы самастойнасьць БАПЦ, выступіў супраць уваходу беларускіх япіскапаў у склад Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы.

[51] **Аляксандар Орса** (1896—1959), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Выпускнік Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар на Наваградзкую акругу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША.

[52] Брашура на 12 старонках „Хто такія крывічы“, што зьявілася ў 1948 г., утрымлівала біяграфічныя зьвесткі дзеячаў „крывіцкага лягеру“, у значнай ступені неправераныя. Нягледзячы на абяцаньне Віцьбіча Малецкаму падпісаць брашуру ўласным імем, яна ўсё ж такі выйшла ананімна.





*І прысьпеў час, каб падаць іхнія прозьвішчы да агульнага ведама. Не сумняваюся, што ў таталітарнай „Крывіі“ мяне даўно б спалілі жыўцом на пляцы, але я цяпер знаходжуся пад апекай самае дэмакратычнае ў сьвеце краіны — Амэрыканскіх Вайсковых Уладаў.*

*Паводле самага зьместу „Загаду №1 старое казы крывіцкага барабаншчыка“ лягічна выцякае, што ён скіраваны не супраць тутэйшае гімназіі, а супраць лідэраў „крывіцкае“ партыі (Янка Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Каханоўскі, Адамовіч*[53]*), якія зьяўляліся альбо зьяўляюцца выкладчыкамі ў тутэйшай гімназіі.*

*Крыху аб нашым дзяржаўным і нацыянальным гербу, аб нашай славутай „Пагоні“, якая нібы зьневажаецца ў гэтым „Загадзе №1 старое казы крывіцкага барабаншчыка“. Як вядома з гісторыі, пераможцы заўсёды ўяжджалі ў пераможаны горад на белым кані. Гэтае практыкавалі і Аляксандар Македонскі, і Юлі Цэзар, і Напалеон Банапарт. Як выцякае зь лістоўкі, спадар Кендыш уяжджае ў Міхэльсдорф як пераможца, і значыцца, мае поўнае права на гістарычнага белага каня. Калі хто робіць вынік, што белы конь, скрадзены для гэтае мэты ўначы ў баварскага баўэра, ёсьць белы конь з „Пагоні“, дык той гэтым самым абражае „Пагоню“. Калі хто робіць вынік, што спадар Кендыш гэта ёсьць рыцар з „Пагоні“, дык той гэтым самым безумоўна зьдзекваецца над „Пагоняй“.*

*Крыху аб пастаноўцы „На Купальле“. Аўтар лібрэта для гэтае опэры Міхась Чарот*[54] *зьяўляўся маім асабістым сябрам. Таму сьцьвярджаю, што Міхась Чарот прыцягнуў бы да судовае адказнасьці тых камэрцыйнага складу асобаў, якія штодня ставілі ягоны добры твор і гэтым самым набілі гледачам і слухачам зразумелую аскому. Разам з тым ён ад душы вітаў бы тых сапраўды таленавітых актораў, якія ўдзельнічалі ў гэтай пастаноўцы.*

*Як вядома, у дэмакратычных краінах можна пісаць карыкатуры й памфлеты на караля й прэзыдэнта. Палітычна дазрэлая эміграцыя, якой зьяўляецца ўкраінская, выдае адмысловыя гумарыстычныя часапісы, у якіх крытыкуе сваіх дзеячоў. Нашыя славутыя продкі, як*

[53] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзка-культурны дзеяч, навуковец, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, Генэральным камісарыяце Беларусь, займаўся выдавецкімі справамі. Пасьля выезду на эміграцыю займаўся навуковай і культурнай дзейнасьцю, адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

[54] **Міхась Чарот** (сапр. **Кудзелька**) (1896—1937), паэт.

*сьцьвярджаецца ў памфлеце „Прамова каштэляна Смаленскага Мялешкі“: „каралём папросту правым сэрцам гаварылі: палітыкі не зналі, а праўдаю в рот, яко солію в очы кідывалі...“*[55]

*Не дазваляецца толькі крытыкаваць у СССР — Сталіна, у мінулай 3-й Імпэрыі — Гітлера, а ў беларускім лягеры Міхэльсдорф лідэраў і сябраў „крывіцкае“ партыі. Не падлягае аніякаму сумліву, што паводле „Крывіцкага“ Статуту ўсім абвінавачаным па справе з „Загадам №1 старое казы крывіцкага барабанщычыка“ трэба выкалаць вочы, адсеч рукі й пасадзіць на кол.*

*Міхэльсдорф,*
*18.5.1947 г.“.*

Юрка Віцьбіч (да самой справы „Загаду старое казы“ неўзабаве абавязкова вернемся) вельмі дакладна пералічыў органы, якім падначальваўся Ды-Пі.

На самым пачатку зарганізаваньня лягераў у іх кіравалі або прадстаўнікі войскаў аліянтаў, або працаўнікі *UNRRA*. У ідэале на лягер з 3000 уцекачоў мусілі быць камэндант і ягоны намесьнік, канцылярыя з шасьці чалавек, лекар, мэдсястра, кухар з памагатымі й нават два кіроўцы. У рэчаіснасьці ж часта лягер мог узначальваць адзін афіцэр з двума жаўнерамі на дапамогу.

Таму ўлады, даволі хутка ўсьвядоміўшы недаразьлік, павялі палітыку на заахвочваньне жыхароў лягеру да самакіраўніцтва — праз дэмакратычныя выбары: да стварэньня ўласных кіраўнічых органаў (радаў), а таксама судоў. Было гэта ня надта праўна, але на тое глядзелі скрозь пальцы і ўмешваліся хіба ў скрайніх выпадках.

Зь ліку ўцекачоў выбіраліся й паліцыянты. У большасьці лягераў яны насілі форму, якую мелі шанаваць іншыя насельнікі, але, па-сутнасьці, ніякай улады ня мелі. У адмысловай улётцы „Абавязкі паліцэйскага Ды-Пі“ абумоўлівалася, што і ў якіх выпадках мог рабіць паліцыянт. Гэтак, пры бойках, „абразаю ўчынкам“ або іншых парушэньнях спакою — паспрабаваць спыніць і папярэдзіць камэнданта; пры спробе схаваць народзіны дзіцяці — папярэдзіць камэнданта; азартныя гульні — папярэдзіць (у выпадку, калі стаўкі будуць вялікімі); пры выяўленьні лайдакоў, усіх, хто пазьбягае працы, — данесьці камэнданту; пры знаходжаньні лістоў з пагрозамі — данесьці адразу ж; пашкоджаньне дамоў, выраб алькаголю на тэрыторыі лягеру, эпідэміі, дробныя крадзяжы, падазроныя асобы, амаральныя ўчынкі — данесьці камэнданту. Актыўнасьць паліцыянту дазвалялася пры выкрыцьці нелегальнай зброі, якую трэба было канфіскаваць, ды пры выяўленьні завалаў на дарогах (завалы прыбраць, вінаватым — вымову). Ён мусіў таксама прысутнічаць пры вядзеньні сходаў (назіраць) і не дапускаць жорсткага абыходжаньня з жывёлаю[56].

[55] *„Толко за князей наших, которие королевали и которие воеводами бывали, сэнтэнтий тых не бывало, правым сердцем просто говорили, политыки не знали, а у рот правдою, як солею в очи, кидывали“* (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 358).

[56] Цікава параўнаць гэты афіцыйны дакумэнт з успамінамі А. Бруханава, аўтара кнігі „Вот как это было: О работе миссии по репатриации советских граждан. Литературная обработка М. Виленского“ (М.: Госполитиздат, 1958. — 208 с.). Ён піша:
*„Однажды, когда мы обедали у себя в миссии, в столовую вошел Румянцев, с журналом „Бритиш зоун ревью“ в руках.*
*— Любопытную статью опубликовал сегодня орган английских оккупационных властей, — сказал Иван Андреевич. — Вот послушайте.*
*Статья в самом деле представляла интерес. Называлась она „Лагери перемещенных лиц должны обслуживаться собственной полицией“. Автор сообщал, что английское командование открыло в своей зоне ряд школ для подготовки лагерных полицейских, которых обучают как британские офицеры, так и „специалисты из числа перемещенных, имеющих опыт полицейской службы в своих странах“. Курсанты этих школ, говорилось далее, также набираются из числа тех, кто уже служил в полиции. Понятно, что речь шла главным образом о гитлеровских подручных.*
*— А что они пишут о лондонской спецшколе? — прервал Румянцева Базаров.*
*— Об этом они предпочитают помалкивать.*
*Еще бы! Не в интересах английских властей было рекламировать тот постыдный факт, что 138 головорезов — изменников Родины прошли в Лондоне специальную антисоветскую подготовку, после чего были переброшены в лагери перемещенных лиц русской национальности. Нам об этом стало известно из рассказов перемещенных, вырвавшихся из неволи. Это же подтвердил английский капитан Робертсон.*
*В заключение автор статьи в „Бритиш зоун ревью“ с гордостью сообщал об успехах выпускников полицейских школ: „Поступают сведения из лагерей о том, что эти люди работают с большим энтузиазмом, применяя на практике знания, полученные в школе“.*
*Когда Иван Андреевич зачитал эту фразу, в столовой раздался горький смех. Из сотен заявлений советских граждан, вырвавшихся из лагерей, да и по собственным наблюдениям, мы хорошо знали, в чем выражался энтузиазм лагерной полиции. Мы вспомнили, как в лагере „Розали-казерне“*⇨

Затое лягерная рада і камэндант мелі куды большы арсэнал у сваім узбраеньні.

Язэп Гладкі згадвае выпадак зь дзейнасьці заснаванай ім друкарні „Заранка“ ў лягеры Ватэнштэт[57]. У 1947 г. яны выдрукавалі чытанку „Родны Палетак“. На кнігі падобнага кшталту наагул быў вялікі попыт, а тут — па-майстэрску набітыя Хведарам Ільляшэвічам матрыцы, файныя малюнкі ў выкананьні Скарахода! Адным словам, кніга добра разыходзілася, грошы дасылалі з усёй Нямеччыны — іх захоўваў, разам з дакумэнтамі, у сваім стале Гладкі.

Аднае раніцы выявілася, што грошы і ўсе паперы зьніклі. А вось далейшае разьвіцьцё падзеяў Гладкі ўтойвае. Было сьледзтва, якое нічога й нікога ня выявіла, а таму Рада зьвінавацiла ў крадзяжы самога Гладкага. У якасьці пакараньня 57-гадовага настаўніка прысудзілі публічна высекчы. І толькі на заяву Гладкага, што ў такім выпадку ён засіліцца, ды на просьбы іншых пакараньне было заменена на пакрыцьцё нястачы цыгарэтамі[58].

Аўтару „Загаду старое казы“ адпомсьціць было б нашмат прасьцей ды куды больш жорстка, бо ўлётку лёгка прыраўняць да друкаванага выданьня, на якое трэба было мець дазвол — ліцэнзію, і тады ўжо ўлады амэ-

*⇨начальник полиции Демутс избивал и сажал в карцер всех желающих вернуться на родину. Об этом нам рассказали многие советские граждане, прибывшие к нам из „Розали-казерне“. Такие демутсы были в каждом лагере, и всюду они действовали одинаково.*

*Выученики английских полицейских школ следили, чтобы ни один человек не ушел из лагеря, и с этой целью насаждали систему тайной слежки. Полицейские агенты и провокаторы сообщали администрации, а та — английским властям фамилии людей, заподозренных в желании вернуться на родину. „Подозрительных“ назначали на самые тяжелые и грязные работы, урезали им продовольственный паек, переводили в худшие бараки, заключали в карцер. Иногда этим людям предъявляли фальшивые обвинения в воровстве и заключали в немецкие тюрьмы. Тех, кто не сдавался и твердо отказывался от вербовки в шпионы, убивали. Обычно после таких террористических актов объявлялось, что человек покончил жизнь самоубийством“* (с. 102—103).

[57] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Мінск, 1994. С. 197.

[58] Аповед шматгадовага сябра Язэпа Гладкага Антона Шукелойця. Успамін запісаны ў чэрвені 2001 г. Захоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.






Дзіда

Privy copy.

Лісток сатыры і гумару.

№ 1. 1 верасьня 1948 г. Год выд. I

ЦІ НЕ ПАРА І ПАСЬМЯЯЦЦА?

[illegible]

БЕЛАРУСЫ ГРЫЗУЦЦА.

Толькі я ў газэты гляну —
[illegible]

Аўстралія.

[illegible]

Часопіс „Дзіда“ 1948 г.

рыканскае зоны хоцькі-няхоцькі мусілі б караць — аж да пазбаўленьня чалавека статусу Ды-Пі[59].

[59] Леаніда Галяка за выданьне „Летапісу“ безь ліцэнзіі пакаралі забаронаю пакідаць лягер цягам двух тыдняў (Галяк. С. 92). Тут трэба зазначыць, што прадстаўнікі *UNRRA* ў 1946—1947 гг., да паўстаньня *IRO*, мусілі лічыцца з патрабаваньнямі савецкіх афіцэраў, адказных за рэпатрыяцыю грамадзянаў СССР — у тым ліку і ў дачыненьні друкаў. Згаданы вышэй Бруханаў апісвае такую сустрэчу:⇨

*⇨„Не раз мы устно и письменно заявляли английским властям, что издание массы газет и журналов, призывающих к нападению на СССР, распространяющих грязную антисоветскую клевету, является грубейшим нарушением международных соглашений, под которыми стоит подпись и представителя Великобритании. Мы ссылались в первую очередь на Крымское соглашение о репатриации, статья 2 которого предусматривала, что стороны не будут допускать пропаганды, враждебной по отношению друг к другу.*
*Конечно, английские офицеры не были столь наивны, чтобы говорить: „Да, мы нарушаем Крымские соглашения“. Верные своей тактике отрицания невыгодных для них фактов, они утверждали, что им неизвестны случаи выхода в британской зоне упоминавшихся нами изданий.*
*Английский представитель Фогарти заявлял советскому майору Чекмазову, что они не допустили бы появления антисоветских изданий, так как у них есть специальный отдел, который следит за печатью в зоне. Что такой отдел существует, мы знали. Но вся беда заключалась в том, что именно с ведома и санкции этого отдела появлялись на свет божий, как грибы-поганки после дождя, различные печатные листки, пышущие звериной злобой к Советскому Союзу.*
*„Представьте доказательства, — говорили англичане, — и мы расследуем ваши жалобы“. Ну что ж, господа, доказательства имеются у нас в изобилии, и мы можем их вам продемонстрировать! С этой целью мы пригласили к себе на 13 сентября 1946 года представителей английского Управления по делам перемещенных лиц.*
*Утром в назначенный час к нам прибыли представитель Управления — мистер Вэлтон, начальник отдела ЮНРРА в британской зоне — Хис, стенографистка, переводчик. После обмена приветствиями начальник штаба нашей миссии майор Румянцев провел гостей в зал и показал разложенные на столе газеты и журналы, изданные в США, Англии, американской зоне оккупации Германии. Густо нафаршированные антисоветской клеветой, они подавались перемещенным в качестве надежного источника информации.*
*Англичане с равнодушными минами выслушивают пояснения Румянцева. Вэлтон пожимает плечами и говорит, что английские власти здесь совершенно не при чем, поскольку эти издания выходят не в английской зоне. Тогда полковник Кутузов указывает, что тем не менее газеты распространяются среди перемещенных и, очевидно, не без ведома английских властей. Вэлтон ссылается на то, что очень трудно уследить, какая литература проникает за ограду лагерей, но тем не менее он обещает принять самые строгие меры, чтобы пресечь распространение подобной пропаганды.*
*Мы принимаем к сведению заверения Вэлтона. Затем Румянцев объявляет:⇨*





Дарэчы, пра ўлёткі. Яны, тым часам не сабраныя, збольшага згубленыя, крохкія й слабачытэльныя, не апісаныя й не аналізаваныя, — выключны матэрыял да характарыстыкі эмігрантаў, іхняга сьветапогляду. Ва ўлётках сутнасна ўсё — ад аргумэнтаў і абвінавачаньняў да стылю, да самае мовы, гэтак падобнае да мовы перадваенных афіцыйных газэтаў і лістоў у рэдакцыю ад імя „народу“.

Дазволіўшы стварэньне самаўрадаў, улады справакавалі зьяўленьне навалы перавыбарчых улётак, напісаных у вельмі спэцыфічным жанры — даносу.

Сытуацыя з гумарам была адпаведнаю, і ня дзіва, што Лявон Крывічанін (Савёнак) адмовіўся ад працягу шалёна папулярнага ў часе вайны „Дзёньніка Ів. Ів. Чужанінава“. Відаць, загартаванаму фэльетаністу ўмовы ў лягерах Ды-Пі падаліся больш небясьпечнымі за часы акупацыйныя.

---

*⇨— Перехожу к демонстрации антисоветских газет и журналов, издающихся в английской зоне с ведома и при участии британских военных властей.*
*У наших гостей вытягиваются физиономии и тревожно бегают глаза. Хорошо вышколенная стенографистка мисс Лейстер „на всякий случай“ прекращает записывать.*
*На стол выкладывается газета, каждая строчка которой полна ненависти к советскому строю. Румянцев поясняет:*
*— 8—10 месяцев назад эта газета под названием „Апекас“ впервые вышла в лагере „Сауле“. Ее издатель — Теодор Силкалин. Газета выходит при активном содействии господина Кильмана, директора отдела ЮНРРА при 220-м английском военном управлении.*
*Румянцев демонстрирует антисоветские листки „Час“, „Балтийское обозрение“, „Латвийский вестник“ и т. п. Все они издаются националистическими группками и „комитетами“, состоящими из людей, продавших Родину Гитлеру, а теперь перешедших в услужение к новым хозяевам. Майор перечисляет фамилии англичан, ответственных за появление этих газет.*
*С минуту мистер Вэлтон и компания молчат, припертые к стене неоспоримыми доказательствами. Затем Вэлтон просит дать ему некоторые экземпляры газет для „дальнейшего расследования“. Мы даем, но советуем при этом получить самые свежие номера у названных нами англичан — заботливых опекунов этой, с позволения сказать, прессы.*
*После визита Вэлтона англичане больше не требовали доказательств. Они молчали, а газеты между тем исправно выходили. Английская сторона продолжала попирать дух и букву Крымских соглашений...“ (Брюханов, А. С. 114—115).*

Не, рататарныя гумарыстычныя часопісы выходзілі[60] — „Маланка“, „Дзіда“, „Сьмех на здароўе“, „Сьмехам па галаве“[61]. Толькі былі яны перш-наперш выразна палітычныя (пераважна антыкрывіцкія) і выдаваліся яны на *сваіх* тэрыторыях, у *сваіх* лягерах, і чыталі іх *свае*. У Ватэнштэце быў выпадак, калі камэндант лягернай паліцыі, не ўпадабаўшы жарт пра паліцыянтаў на гумарыстычнай бачыне часопісу „Шляхам жыцьця“, паслаў сваіх падначаленых канфіскаваць нумар[62].

А тут зьявілася двойчы падпольная ўлётка — без дазволу на друк і ў тым самым скрытыкаваным лягеры!

От цяпер вернемся да справы „Загаду старое казы“.

22 красавіка 1947 г. пэдагагічная рада Беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе ў складзе дырэктара Аляксандра Орсы й настаўнікаў — Мечыслава Рагажэцкага, Парфірыя Трысмакава, А. Омаля, Аўгена Каханоўскага, А. Акановіча, М. Кругловіча, Міколы Кунцэвіча, Гіпаліта Паланевіча, Івана Мухі, Наталі Орсы і Ю. Заруцкага на паседжаньні, прысьвечаным „Загаду старое казы крывіцкага барабаншчыка“, асудзіла ўлётку, ейнага імавернага аўтара Юрку Віцьбіча ды пастанавіла склікаць агульны сход бацькоў вучняў гімназіі для абмеркаваньня сытуацыі, у якой, паводле дырэктара, існаваньне гімназіі больш немагчымае (!), а таксама давесьці аб справе да ведама дырэктара *UNRRA* ў Каме й лягернай адміністрацыі[63].

[60] Гумарыстычныя часопісы выдаваліся і ў часе вайны — „Камар на чужыне“ (Бэрлін, 1944), „Крывіцкая камарыньня“ (Бэрлін, 1944). Аўтарам, рэдактарам і выдаўцом абодвух быў Баляслаў Барткевіч.

[61] „Сьмехам па галаве“ выдавалі Янка Сурвілла і Аляксей Васіленя. Апошняму належаць і малюнкі. На малюнках адлюстраваныя эміграцыйныя дзеячы: на першай старонцы першага нумару — Адварды Будзька з капустаю, на другой — Мікола Шыла, на пятай бачыне — Вітаўт Тумаш.

[62] Брылеўскі, Уладзімер. Мае сустрэчы з Хведарам Ільляшэвічам // Беларус. №271—272. Лістапад—сьнежань 1979. С. 3. Леанід Галяк згадвае й такую спробу цэнзуры: *„У пачатку красавіка 1946 году выйшаў першы нумар часопісу „Шляхам жыцьця“, выданы рататарным спосабам Я. Сурвіллам ад імя лягернага камітэту. Паколькі ў гэтым не прыймаў удзелу С. Коўш і ў часопісе ён наагул не ўспамінаўся, дык хутка прыйшла контаракцыя. Праз некалькі дзён быў скліканы сход, як Коўш называў, актыву. На гэты сход былі запрошаныя, з аднаго боку, група інтэлігентаў, а з другога боку — група каўшоўскіх актывістаў. На гэтым сходзе добра праінструктаваныя „актывісты“ на чале з Акуловічам населіся на інтэлігентаў, закідаючы, што тыя ўсё нешта пішуць, а актывісты ня ведаюць, што. Як выхад з гэтага цяжкога палажэньня „актывісты“ прапанавалі, каб усё напісанае насілася на праверку камэнданту лягеру Каўшу. Той чытаў бы, ацаняў бы і або зварочваў, або кідаў у кош. Ніхто не лічыў нават патрэбным адказваць на гумарыстычныя прапановы, апрача Хведара Ільляшэвіча, які стараўся давесьці, што ён ні ў чым не вінаваты. С. Каўшу хадзіла аб задэманстраваньне, што ягоныя „актывісты“ варожа настаўленыя да інтэлігенцыі, і што ён пануе над палажэньнем“* (Галяк. С. 61).







Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе 19 красавіка 1947 г.

Ужо назаўтра, 23 красавіка, за старшынёўствам Ксэнафонта Вайцяхоўскага бацькоўскі сход адбыўся. На ім вырашылі ня толькі асудзіць аўтараў улёткі, але й прасіць лягерную адміністрацыю склікаць сход усіх жыхароў лягеру. Таксама ўтварылі спэцыяльную камісію, задачаю якой было выявіць тых аўтараў.

Камісія дзеяла хутка, напорыста й неўзабаве даслала копіі пратаколу з апісаньнем дазнаньняў у Беларускі цэнтральны дапамаговы камітэт, Беларускі камітэт на Ангельскую зону, Дырэкцыі Беларускай

[63] Варта адцеміць, што настаўнікі ў лягерах былі даволі моцнаю сілаю. У Ватэнштэце 14.07.1947 г. нават паўстала Згуртаваньне беларускіх настаўнікаў на чужыне (старшыня Аляксандар Крыт, заступнік Язэп Гладкі, сакратар Вацлаў Пануцэвіч, скарбнік Кастусь Сіткоўскі, сябра Баляслаў Лішчонак).

гімназіі ў Міхэльсдорфе і ў Прэзыдыюм Бацькоўскага камітэту ў Міхэльсдорфе. Па ўсім, чакаўся паказальны й зусім не таварыскі суд. Але апошняе слова ў справе паставіла рашэньне Селішчнай Рады:

*„Заключэньне Селішчнай Рады*

*У справе пратэсту Бацькоўскага Камітэту й Пэдагагічнай Рады Беларускае Гімназіі ў Міхэльсдорфе на зьявіўшуюся ананімную лістоўку „Загад старое казы барабаншчыка“.*

*19.4.1947 г. у Беларускім лягеры Міхэльсдорф зьявілася ананімная лістоўка „Загад старое казы барабаншчыка“. Пэдагагічная Рада Беларускай Гімназіі пастановай сваёй ад 22.4.47 г. выказала пратэст супроць выпуску гэтай лістоўкі, знайшоўшы, што гэта лістоўка скіравана супроць Беларускай Нацыянальнай культурнае працы, т. я. лістоўка датавана 19.4.1947 г., у дзень выпуску матурыстых з гімназіі, і што лістоўка гэта скіравана ня толькі супраць гімназіі, але й супраць скаўтаў, тэатральнае групы і г. д., і ў сувязі з гэтым вынесла пастанову склікаць агульны сход бацькоў вучняў гімназіі для абгаварэньня сытуацыі, у якой далейшае існаваньне гімназіі лічыла немагчымым.*

*На другі дзень 23.4.47 і быў склікан Пэдагагічнай Радай агульны сход бацькоўскага Камітэту, які падтрымаў пастанову Пэдагагічнай Рады, і зь ліку ўдзельнікаў сходу была абрана камісія ў складзе сп.сп. Кунцэвіча, Чэрніка і Асмалоўскага, якая павінна была выявіць аўтараў лістоўкі і перадаць іх суду.*

*Як бачна з матар'ялаў дасланага Дырэкцыяй гімназіі і старшынёй бацькоўскага Камітэту, камісіяй гэтай праароблена наступная праца па выяўленьні аўтара ананімнай лістоўкі „Загад старое казы барабаншчыка“, а менавіта дапытана цэлы шэраг сьведак, якія сьцьвердзілі наступнае:*

*1. Руссак Арсеній — будучы ў Волаха чуў, як Сіцько чытаў лістоўку „Загад“, дзе ён яе браў — ён ня ведае, і які зьмест лістоўкі не паказана. Чытаючы, пасьмейваўся.*

*2. Волах Аляксандар таксама толькі чуў, як Сіцько чытаў лістоўку, і зьмест яе не паказан.*

*3. Гарох Павал чуў у хаце Волаха, як Сіцько чытаў лістоўку — зьмест не паказан, ён бачыў, як гэту лістоўку са стала забрала жонка Харытончыка.*

*4. Якаўлеў Анатолі — чытаў у той самы час гэту лістоўку, будучы ў Волаха, якая ляжала на стале, лістоўка прачытана часткова, яму дачытаў яе Сіцько, і як ён пайшоў у хату Волаха, лістоўка засталася там — зьмест не паказаны.*

*5. Харытончык Юрка сьцьвердзіў, што ён даведаўся ад жонкі, што ў Волаха ёсьць нейкая лістоўка, у якой напісана і аб ім. Ён прасіў жонку, каб яна гэту лістоўку прынесла, што яна й зрабіла. Яму казаў Бута[64], што лістоўка напісана на машынцы Віцьбіча, быццам ён пазнаў па літарах. Што аб ім было напісана ў лістоўцы, ён не сказаў, а таксама аб зьмесьце лістоўкі нічога не сказана. Гэту лістоўку ён перадаў, каб высьветліць справу, але каму, не сказаў.*

*6. Бута Аляксандар — чытаў лістоўку ў Харытончыка, і ён лічыць, што лістоўка напісана на машынцы Віцьбіча. Лістоўка засталася ў Харытончыка.*

*7. Стукаліч — згаджаецца, што лістоўка была напісана на яго машынцы, адказнасьць за лістоўку ён зь сябе зьнімае. Хто напісаў лістоўку, яму невядома, але машынка пазычалася Буту, Каралевічу і інш.*

*8. Дзедавец Барыс — аб лістоўцы нічога не сказаў, так як яе не чытаў, але зьмест яму вядомы. Чуў толькі ў канцылярыі Камітэту ад Сіцько, што „ўкралі белую баварскую кабылку й хочуць на ей ехаць“, і што Сіцько, Галожын і Цупрык[65] радасна абгаварвалі лістоўку і ў гутарцы назвалі Хмыза[66] карытнікам усіх карытаў.*

*9. Міцкевіч[67] — толькі чуў ад Сяднёва[68], які яму казаў, што пасварыўся са Стукалічам за лістоўку, але Сяднёў чамута сам не дапытан.*

[64] **Аляксандар Бута** (1923—1998), грамадзкі дзеяч. Скончыў 7 клясаў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, быў кіраўніком беларускага скаўтынгу ў амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, аб'яднанага ў штандар „Баварыя“. У 1948 г. у складзе „Дванаццаткі“ пераехаў у Вялікабрытанію.

[65] **Іван Цупрык** (1913—1983), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую гімназію і Варшаўскі ўнівэрсытэт. З 1944 г. — на эміграцыі, спачатку жыў у Нямеччыне, а ў 1948 г. пераехаў у ЗША (Саўт-Рывэр).

[66] Імаверна, маецца на ўвазе Мікола Хмыз.

[67] **Міхась Міцкевіч** (псэўд. **Антон Галіна,** 1897—1991), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, брат Якуба Коласа. Падчас нямецкай акупацыі працаваў інспэктарам беларускіх школаў на Стаўпецкі раён. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягерах для перамешчаных асобаў, настаўнічаў, выпусьціў чатыры чытанкі для дзяцей. З 1950 г. — у ЗША, актыўны дзеяч БАПЦ. Некалькі гадоў быў рэдактарам газэты „Беларус“ і каля 15 гадоў — часопісу „Голас царквы“.

[68] **Масей Сяднёў** (1915—2001), паэт, празаік. З 1943 г. жыў у Нямеччыне, з 1950 г. — у ЗША.

*10. Сябра камісіі, які праводзіў сьледзтва, сп. Кунцэвіч, даў асьведчаньне, што яму казала Кабыш Ірэна, што ў яе пытаў Цупрык, як ёй падабаецца лістоўка, але сама Кабыш гэтак сама не дапытана.*

*11. Бакуновіч Уладзімер[69] асьведчыў, што і яму таксама казаў Сяднёў, што да яго прыходзіў Стукаліч і прыносіў рукапіс для праглядy нешта як „барабаншчык старое казы", хочучы яго выпусьціць пад фірмай „Шыпшыны", на што Сяднёў быццам не згадзіўся.*

*Сп. Сіцько лістоўку чытаў і даваць паказаньні адмовіўся.*

*Пасьля праведзеных допытаў Камісія Бацькоўскага Камітэту прыйшла да выснаву й знайшла дапушчэньне, што ініцыятарамі-ўкладальнікамі лістоўкі зьяўляюцца: сп.сп. Стукаліч, Галожын, Цупрык і Сіцько, і гэта дапушчэньне аснавана толькі на паказаньні Дзедаўца Барыса, які сьцьвердзіў, што Сіцько, Галожын і Цупрык радасна абгаварвалі лістоўку і ў гутарцы называлі Хмыза карытнікам усіх карытаў, і чуў, як Сіцько казаў, што ўкралі баварскую кабылку і хочуць на ёй ехаць. Іншых довадаў, як бачна з паказаньняў апытаных, няма, і ніхто ня бачыў і не давёў тактычна, што лістоўка напісана і выдадзена Галожыным, Цупрыкам або Сіцько. Што датычыцца Стукаліча, так яго камісія Бацькоўскага Камітэту лічыць таксама ўдзельнікам складаньня лістоўкі толькі таму, што яна выдрукавана на ягонай пішучай машынцы. Сам Стукаліч згаджаецца з тым, што лістоўка напісана на яго машынцы, але адначасна заявіў, што машынку ў яго пазычалі сп.сп. Бута, Каралевіч і інш., пагэтаму адказнасьць за лістоўку ён зь сябе здымае, хто пісаў лістоўку, яму невядома. Іншых фактаў і довадаў, сьцьвярдзяючых прыняцьцё ўдзелу з боку Стукаліча ў выданьні лістоўкі, няма, бо ні адна з дапытаных асобаў ня ведае, хто друкаваў і пісаў лістоўку, а заяву Міцкевіча і Бакуновіча, што яны чулі ад Сяднёва, быццам ён сварыўся са Стукалічам за лістоўку, нічога новага для ўстанаўленьня факту ўдзелу Стукаліча ў выданьні лістоўкі не даюць, ды на што іх па гэтай справе заявы, калі Сяднёў сам асабова мог даць адпаведнае тлумачэньне, а гэта Камісія не ўлічыла патрэбным зрабіць. Гэтаксама і заява сябра Камісіі, праводзячага сьледзтва, сп. Кунцэвіча, які сьцьвердзіў, што яму казала Ірэна Кабыш, што Цупрык у яе пытаў, ці падабалася ёй лістоўка, але сама яна не дапытана і гэтакія сьцьверджаньні ні ў якім разе не даюць падстаў думаць, што Цупрык вінаваты ў выданьні ананімнай лістоўкі.*

*На імя Рады лягеру Міхэльсдорф ад сп. Стукаліча атрыман пратэст, у якім ён скардзіцца на дзейнасьць сьледчай Камісіі, вызначанай праз Бацькоўскі Камітэт, што яна ў палове дванаццатай гадзіне ночы 24.4.47 прыходзіла да яго ў пакой. Самаго Стукаліча ў той час не было ў хаце, і што Камісія пабудзіла і напалохала яго сям'ю ды застаўляла старую маці шукаць яго, Стукаліча. Скардзячыся на дзейнасьць Камісіі, прасіў бараніць яго элемэнтарныя чалавечыя правы і адначасова просіць прыцягнуць Камісію да адказнасьці.*

*16 траўня 1947 года справа пратэсту Пэдагагічнай Рады Бацькоўскага Камітэту й дасланы імі сьледчы матар'ял, а гэтак сама й пратэст сп. Стукаліча на дзейнасьць сьледчае Камісіі была разгледжана на паседжаньні Рады, якая прымаючы пад увагу:*

*1. што паказаньнямі цэлага шэрагу сьведак, дапытаных праз Камісію, вызначаную Бацькоўскім Камітэтам, фактычна не даведзена, што ўдзел у рэдагаваньні ананімнай лістоўкі прымалі сп.сп. Галчын, Цупрык, Сіцько і Стукаліч.*

*2. што некаторыя сьведкі па справе ні дапытаны самі, а сьведчаньні за іх давалі іншыя, як то: за сьведку Сяднёва асьведчаньне далі сп.сп. Міцкевіч і Бакуновіч, а за сп. Кабыш Ірэну сп. Кунцэвіч, з чым згадзіцца ніяк нельга.*

*3. да справы не далучана лістоўка, якая выклікала пачатак узьнікненьня гэтае справы, без чаго нельга судзіць, у чым выражаецца абраза гімназіі, Бацькоўскага Камітэту, Скаўтаў альбо іншых асобаў.*

*4. што частка асобаў, якім з боку Бацькоўскага Камітэту робіцца закід у рэдагаваньні ананімнай лістоўкі „Загад старое казы барабаншчыка", не дапытана, і*

*5. лічачы патрэбным праверыць сапраўднасьць пратэсту Стукаліча на дзейнасьць Камісіі, Селішчная Рада вызначыла з свайго складу трох сяброў Рады: сп. Розмысла[70], сп. Канецкага і сп.*

[69] **Уладзімер Бакуновіч** (1926—1992), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў беларускіх лягерах у Рэгенсбурзе й Віндышбэргердорфе. У 1950 г. разам з бацькамі выехаў у Аўстралію. У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў ступень доктара эканомікі. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансўіку (штат Нью-Джэрзі), а з 1968 г. — у Дэтройце (Мічыган), дзе працаваў як спэцыяліст па падатковых справах. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасьці БАЗА й Рады БНР.

[70] **Сяргей Розмысл** (1905—1969), грамадзкі дзеяч. Удзельнік Беларускай Краёвай Абароны. Дэлегат на Другі Ўсебеларускі кангрэс ад Лідзкай акругі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль у 1950 г. адзін, безь сям'і — у Аўстралію. Актыўны ўдзельнік беларускага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця ў Мэльбурне. Трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

*Палягошка*[71]*, якім даручыла канчаткова высьветліць справу і аб выніках на чарговым паседжаньні далажыць Радзе.*

*У выкананьне пастановы Рады ад 20.5.47 ад Старшыні Бацькоўскага Камітэту й Дырэкцыі гімназіі запатрабавана далучыць арыгінал ананімнай лістоўкі, якая выклікала пратэст і пачатак гэтай справы і прапанавана даць асьведчаньне асобам, якія, будучы прысутнымі ў лягеры, ня самі давалі асьведчаньні, а за іх сьведчылі іншыя.*

*1. Сп. Масей Сяднёў, склаўшы ўласнаручнае сьведчаньне, заявіў, што аўтар лістоўкі яму невядомы, лічыць абразьлівым і сьмешным паказаньні сп.сп. Міцкевіча і Бакуновіча, якія, ня ведаючы відавочна самі нічога па сутнасьці, заявілі, што яны чулі ад яго пра вядомага, але тым самым замаскаванага злачынцу, далей дзякуе ім як дармовым і ганаровым адвакатам і яшчэ раз падкрэсьлівае, што пра лістоўку нічога ня ведае.*

*2. Дапытаная спн. Кабыш Ірэна асьведчыла, што посьле зьяўленьня ў лягеры ананімнай лістоўкі яна дома ў гутарцы зь сям'ёй казала, што ў лягеры зьявілася нейкая лістоўка, зьмест яе невядомы, бо яна не чытала, і што ў прыватнай гутарцы пытаўся сп. Цупрык, якое ўражаньне ў яе аб лістоўцы. У часе гэтай гутаркі ў хаце быў прысутны сп. Стаськевіч. Кунцэвіча тады не было, але калі на другі дзень да яе прыйшоў сп. Кунцэвіч, каб зрабіць допыт, яна, ня ведаючы нічога пра лістоўку, адмовілася даць асьведчаньне і дадала, што са сп. Кунцэвічам ніякай гутаркі адносна лістоўкі ніколі не вяла і не прасіла сп. Кунцэвіча даваць за яе асьведчаньне.*

*3. Ад сп. Стукаліча атрымана дадатковае выясьненьне па справе ананімнай лістоўкі „Загад старое казы барабаншчыка", у якім ён падтрымоўвае поўнасьцю дадзены ў ёй пратэст і прыводзіць цэлы шэраг фактаў і мэтадаў барацьбы лідэраў „крывіцкае партыі" за апанаваньне ўлады ў лягеры Міхэльсдорф і іншых Беларускіх лягерах, і што яны ў сваёй практыцы ігнаруюць дэмакратычныя выбары і ўжываюцца мэтады аплёўваньня і кампрамэнтацыі асобаў, якія выбіраюцца дэмакратычным шляхам.*

*4. Сп. Сіцько Мікалай, настаўнік гімназіі, зложыў наступнае сьведчаньне: лістоўку ён чытаў і сьмяяўся, таму што ў лістоўцы трапна схарактарызавалі некаторыя лягерныя балячкі. Выясьненьне камісіі, вызначанай праз бацькоўскі камітэт, ён адмовіўся даць таму, што камісію лічыў няпраўнай і варожа да яго пастаўленай, так як яшчэ да пачатку сьледчай працы сябры камісіі разносілі чуткі, што ён, Сіцько, быў удзельнікам выданьня лістоўкі. Чытаючы лістоўку, абразы гімназіі або нацыянальнай ідэі ён ня бачыў. Зазначыў, што аўтар лістоўкі яму невядомы і сам ён асабіста ўдзелу ў выданьні лістоўкі не прымаў.*

*5. Сп. Цупрык Іван асьведчыў, што ён лістоўку чытаў і лічыць як сатыру на пэўных асобаў, і стараньні некаторых асобаў даказаць, што ў лістоўцы абражаюцца нашыя нацыянальныя эмблемы, лічыць нізкімі. Сваю размову са сп. Кабыш ён бы мог пацьвердзіць сп. Кунцэвічу асабіста, але ў яго чаму-та камісія не нашла патрэбным запытаць. Сьледзтва гэта ён лічыць як чарговую кампанію супраць яго.*

*6. Сп. Галожын Герасім зложыў сьведчаньне: лістоўку чытаў у кватэры сп. Ліцягі, якую даў прачытаць вучань гімназіі Карась*[72]*. Лістоўку ўважае як сатыру і ня бачыць абразы ані гімназіі альбо іншых культ. установаў. Вылучаная бацькоўскім сходам камісія была складзена з зацікаўленых асобаў і займалася ганьбуючымі бацькоў справамі — наведаньне прыватнай кватэры а 12 гадзіне ночы. Ён лічыць, што камісія ўмяшалася ў кампэтэнцыю Селішчнай Рады, і ўчынкі гэтай камісіі змусілі рэагаваць супраць яе, так як ён, Галожын, у той час быў старшынёй Селішчнай Рады і нёс адказнасьць за правапарадак у лягеры.*

*7. Як бачана з асьведчаньня сп.сп. Карася, Марговіча і Маляўкі, лістоўка гэта была ўзята сп. Маляўка ад сп. Харытончыка і перадавалася ад аднаго да другога, нарэшце зьвернута сп. Маляўка назад, якая і засталася ў яго.*

[71] **Пётра Палягошка** (1893—1961), грамадзкі дзеяч. У 1930-х г. быў рэпрэсаваны. Падчас нямецкай акупацыі — працаўнік беларускай адміністрацыі ў Смалявічах і Рудзенску. З 1944 г. — на эміграцыі. У 1968 г. у Нью-Ёрку выйшлі ягоныя мэмуары „Ўспаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу".

[72] **Леанід Карась** (1923—1954), грамадзкі дзеяч, журналіст. Працаваў настаўнікам. Ўлетку 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лягеры ў Міхэльсдорфе працаваў у лягернай ахове й вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі" ў 1948 г. працаваў у вугальных капальнях у Вялікабрытаніі. У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Вучыўся на агранамічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У пачатку 1954 г. пераехаў у Мюнхэн, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне". Загінуў пры нявысьветленых акалічнасцях — цела з адзнакамі катаваньняў знайшлі ў рацэ Ізар. Паводле адной з вэрсіяў, да гэтага мела дачыненьне савецкая выведка.

*Толькі 26 траўня на просьбу Рады Дырэктар гімназіі перадаў для далучэньня да справы копію ананімнай лістоўкі, арыгінал заставіў у сябе.*

*Як бачана з паказаньняў цэлага шэрагу зацікаўленых асобаў і іншых, Пэдагагічная Рада стараецца даказаць, што лістоўкаю абражаны: гімназія, скаўты, тэатральная група і інш., тады як другія лічаць гэту лістоўку звычайнай сатыраю і ня бачаць у ёй абразы гімназіі і іншых культ. установаў. Ёсьць патрэба прывесьці поўны тэкст ананімнай лістоўкі, зьмест яе наступны:*

*Копія*

*Загад старое казы барабаншчыка і будучага старшыні крывіцкага лягеру Міхэльсдорф*

*1. Надзвычайная Нашая Тройка ў складзе: Яцкевіча, Садоўскага (робяцца захады, каб яго вызваліць) і Сакалоўскага (з ангельскае зоны) мусіць:*

*а. адарваць галовы ўсім, на каго я пакажу пальцам;*

*б. зрабіць адначасна даносы на ўсіх, хто ідзе супраць мяне ва ўсе крымінальныя і палітычныя паліцыі сьвету. З гэтымі паліцыямі і надалей трымаць самую шчыльную лучнасьць;*

*в. спачатку фізычна зьняважыць, а потым выкінуць зь лягероў усіх расейцаў і палешукоў;*

*г. пазбавіць емінаў усіх тых беларусаў, якія ўжываюць расейскую мову. Выдаць дадатковы паёк усім, хто будзе наведваць курсы польскае мовы, кіраўніцтва якімі ўскладаю на сп. П-іча (не паляк, а крывіч);*

*д. пазбавіць емінаў усіх праваслаўных, якія ня хочуць зракчыся Беларускага Епіскапату й прыняць багаслаўленьне Ягонае Эксцэленцыі Патрыярха ўсіх крываартадоксаў інжынэра Тамашчыка*[73] *альбо ад Ягонага Прэпадобія сьвятара Аляксея Вініцкага (ня блытаць з другім Аляксеем — савецкім патрыярхам*[74]*);*

[73] **Уладзімер Тамашчык** (у манастве **Васіль,** 1900—1976), беларускі грамадзкі й рэлігійны дзеяч, япіскап БАПЦ. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Беластоку, быў сябрам Беларускага народнага аб'яднаньня, намесьнікам рэдактара газэты „Новая дарога“. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1948 г. пастрыгся ў манахі, у 1949 г. узьведзены ў сан япіскапа адноўленай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

[74] **Аляксій I** (у сьвецкім жыцьці **Сяргей Сіманскі,** 1877—1970), патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі ў 1945—1970 гг.





*Заўвага: Усякі, хто пяройдзе ў вунію, атрымае новыя падноскі.*

*2. Спадар Х-з мае пераняць уладу над усімі селішчнымі карытамі. Як пакутнік за нацыянальную ідэю і нязломны барацьбіт за незалежнасьць атрымлівае адначасную ўзнагароду — скрынку мыла. Паводле майго сьпісу мусіць выдаць шэрагу асобаў каштоўныя падарункі без залічэньня іх у картатэку.*

*Заўвага: чуткі аб тым, што сп. Х-з зьбіраўся пераехаць у Віндышбэргердорф, каб абняць уладу над тамтэйшымі карытамі і адначасна паводле Майсеевага закону абрэзацца, не адпавядаюць сапраўднасьці.*

*3. Спадар Ках-скі атрымлівае ад мяне дыплём аб сканчэньні Кэмбрыдзкага Ўнівэрсытэту і на годнасьць доктара і прафэсара ўсіх навукаў. Спадару Бута загадваю выдаць на рататары манумэнтальную навуковую працу доктара й прафэсара Ках-скага „Мінулае, сучаснае й будучае «крывіцкіх рэгулямінаў»“.*

*4. Спадарыня Гм (*<u>?</u>[75]*) мае як найхутчэй разгарнуць культурную працу. Штовечар тройчы мусіць ставіцца „На Купальле“. На пасаду канфэрансье запрасіць сп. Ад-іча. Ён жа аднаўляе выданьне „Ведамак“ з дадаткам для жанчынаў — „Дзёньнік старое крывіцкае бабы“. Усе дзеці, пачынаючы ад двох год, сустракаючыся з дарослымі, мусяць рабіць „шпагат“, усе жыхары да 88 год мусяць скакаць „Мяцеліцу“. Хор ад золку да золку выконвае песьні з „Новага крывіцкага (беларускага) песеньніка для школаў“ Брачыслава Скарыніча.*

*5. Спадар Кендыш, галоўны старшыня Крывіцкага Акруговага Камітэту, атрымлівае ад нас тытул „Намесьніка бога Ярылы на зямлі“, захоўваючы пры гэтым свой ранейшы тытул — галоўнага падпанка. У прызначаны для гэтага сьвяточны дзень Спадар Кендыш урачыста ўяжджае ў Міхэльсдорф на белым кані (Надзвычайная Тройка ўначы набывае яго ў баўэра) пад гукі (*<u>*у арыгінале закрэсьленае нечытэльнае слова*</u>*) маршу. Адразу ж накладае наступныя падаткі:*

*а. 20 марак ад душы на пабудовы Крывіі;*

*б. 20 марак ад душы на перасяленьне ў Грэнляндыю;*

*в. 5 цыгарэтаў ад душы на газэту „Крывія“, якая мае выйсьці 32 траўня г. г.;*

*г. 3 шакалядкі ад душы на пабудову помніку доктару Янку Станкевічу (хвігура дубовая, лоб медзяны);*

[75] Тут і далей вылучаныя заўвагі, зробленыя Селішчнай радай.

*д. 1 кавалак мыла ад душы на пабудову крэйсара „Падам да ног“;*

*е. 200 грамаў бон-кавы ад душы на нашыя асабістыя сакрэтныя справы;*

*і. 100 грамаў брэнт-сьпірту ад душы для крывічоў Остэргофэну (там жа купляюць мыліцы);*

*Калі толькі хто адмовіцца заплаціць вышэйадзначаныя падаткі альбо патрабуе ў Спадара Кендыша справаздачы аб грошах, раней ім накалядаваных, дык той адразу ганьбуецца як агент Масквы і сябра Вышынскага*[76] *, а потым перадаецца Надзвычайнай Нашай Тройцы.*

*6. Спадар Ст-іч атрымлівае тытул — Галоўнага УНРРА'ускага Шаптуна.*

*7. Спадару М-ку надаю годнасьць крывіцкага маршала з захаваньнем за ім пасады баракавага.*

*8. Спадар П-уд як самаахвярны змагар за Крыўю атрымлівае новыя белыя шарачковыя порткі.*

*9. Розныя „абухі“, „шумавіньне“ і ўвогуле простыя людзі (<u>у закрэсьленым тэксьце арыгіналу расшыфравана: Русакі, Гарогі, Бакуновічы, Дашкевічы</u>) і розныя іншыя палешукі, сустракаючыся з прадстаўнікамі чало крывіцкага руху, мусяць прывітаць іх вялікім крывіцкім прывітаньнем — узьняцьцём угару рукі.*

*10. Спадар Харытончык прызначаецца нашым дажывотным галоўным халуём і тройчы на дзень мусіць ваксіць мне боты (Па-ічу і сьвятару Аляксею Віціцкаму таксама). Гэтая пасада застаецца за ім і пасьля пераезду ў Грэнляндыю, а таксама і на Бацькаўшчыну.*

*Старое казы барабаншчык /подпіс/*

*Гаспода Нашая*
*19.4.1947.*

*1. Як відаць з тэксту прыведзенай лістоўкі, у ёй няма ніводнага слова й месца, абражаючага гімназію як навучальную ўстанову, ёсьць закранутыя некаторыя настаўнікі гімназіі як прыватныя асобы, а не як настаўнікі, і рабіць з гэтага вывад, што лістоўка ставіць гімназію пад пагрозу ліквідацыі гімназіі — нельга.*

[76] **Андрэй Вышынскі** (1883—1954), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1933—1939 гг. — намесьнік пракурора і пракурор СССР, быў дзяржаўным абвінаваўцам на фальсыфікаваных палітычных працэсах 1930-х гг. У 1949—1953 гг. — міністар замежных справаў СССР.





*2. Па шляху выяўленьня аўтара лістоўкі дадзеныя выясьненьні ні дапытаных камісіяй праз бацькоўскі камітэт асобаў — нічога новага не далі, а наадварот, дапытаныя спадары Сяднёў і Кабыш адкінулі паказаньні тых асобаў, якія за іх сьведчылі, і гэтым ліквідавалі магчымасьць улічыць Стукаліча альбо Цупрыка ў выданьні лістоўкі, тым больш, што ўлікі гэтыя былі абаснаваны на адкінутых асьведчаньнях сп.сп. Міцкевіча, Бакуновіча й Кунцэвіча.*

*3. Што датычыцца абразы Нацыянальных вартасьцей і пачуцьцяў, так яны могуць утварыцца з боку тых асобаў, якія ўяўляюць сабе, што калі сп. Кендыш будзе ехаць вярхом на кані, якога яму павінны набыць ноччу ў баўэра, будзе пахож на рыцара з Пагоні.*

*4. Пратэст сп. Стукаліча на дзейнасьць камісіі пацьвердзіўся паказаньнем сп. Галіды Анатоля.*

*5. Паводзіны камісіі бацькоўскага камітэту ў часе расьсьледаваньня ў адносінах да Стукаліча не былі аб'ектыўнымі. Гэта відаць ня толькі з абурэньня ў часе сходу, але і зьяўленьне а 12 гадзіне ночы на кватэры Стукаліча. Камісія гэта, як складзеная з асобаў зацікаўленых у справе, павінна быць распушчана.*

*6. Згодна Абавязваючых Праўных Нормаў судовае паступаньне мае права запачаткаваць кожная зьняважаная асоба, чаго не зрабіла ні адна з асобаў, якая лічыць сябе зьняважанай, і сваё асабістае незадавальненьне пераносіць на агульна-нацыянальны бок, што, аднака, не знаходзіць ніякага пацьверджаньня ў актах справы.*

*7. Так як допытам цэлага шэрагу заінтарасаваных асобаў і сьведак фактычны аўтар лістоўкі не ўстаноўлен і ў мэтах недапушчэньня ў лягеры далейшага пашырэньня непатрэбнага антаганізму, сваркі і палемікі вакол справы, гэту трэба лічыць скончанай і далейшае вядзеньне яе спыніць.*

*Выпіска з пратаколу паседжаньня Рады Беларускага Лягеру Міхэльсдорф ад 13 чэрвеня 47 года.*

*Слухалі: Справу Пэдагагічнай Рады гімназіі на ананімную лістоўку.*

*Пастанавілі: Сьцьвердзіць, што ананімная лістоўка, аўтар якой ня выяўлены, зьяўляецца адным зь неадпаведных спосабаў перавыбарчай агітацыі. У лістоўцы няма месца, абражаючага гімназію як навучальную ўстанову. Некаторыя настаўнікі закрануты як прыватныя асобы. У мэтах недапушчэньня далейшага пашырэньня непатрэбнай сваркі і антаганізму справу гэту спыніць і лічыць скончанай“.*

На заканчэньні гісторыі ўлёткі „Загад старое казы барабаншчыка“ застаецца толькі дадаць, што яе аўтарам сапраўды быў Юрка Віцьбіч.

### Бацькоўскія парады д-р Малецкага[77] Юрку Віцьбічу і адказ яму[78]

*Адкрыты ліст да Беларускае Грамадзкасьці*

*Астатнім часам на старонках прэсы пачынае пасьля значнага перарыву там-сям мільгаць назва гэтак званага Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту. Першай ластаўкай у гэтай галіне зьяўляецца адкрыты ліст „крывіцкага“ прарока Р. Склюта[79] ў газ. „Українска Трибуна“[80] №45 ад 22 чэрвеня 1947 г., дзе ён, пералічаючы ўсе „крывіцкія“ камітэты, створаныя па прынцыпу дрындушкі — Янка тут, Янка там, — зусім слушна адносіць да іхняга ліку Беларускі (крывіцкі) Цэнтральны Дапамаговы Камітэт і зусім справядліва падкрэслівае: „такая яго афіцыйная назва“.*

*Пазьней са „Скаўцкае Інфармацыйнае Службы“ (№8 за 17 жніўня 1947 г.) мы даведаліся, што гэты самы „Беларускі (крывіцкі) Цэнтральны Дапамаговы Камітэт“ вітаў тэлеграмай Другі зьезд кіраўнікоў крывіцкіх скаўтаў у Остэргофэне. Яшчэ пазьней яму выносіць падзяку партыйная „крывіцкая“ газэта „Бацькаўшчына“ (№1 ад 31 кастрычніка 1947 г.). Нарэшце на агульнаселішчным сходзе ў Міхэльсдорфе грамадзянін Вініцкі Аляксей у сваёй прамове настойліва рэкамэндуе сябе старшынёй гэтага самага гэтак званага „Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту“.*

[77] **Язэп Малецкі** (1906—1982), грамадзкі дзеяч, лекар. Актыўны ўдзельнік беларускага руху ў 1930-х гг. у Польшчы. Падчас вайны быў кіраўніком мэдычнай школы ў Баранавічах, у 1944 г. — намесьнік прэзыдэнта БЦР на Вялейскую акругу. У 1944 г. выехаў у эміграцыю, першапачаткова жыў у Нямеччыне, у 1949 г. выехаў у Аўстралію, дзе быў старшынём аўстралійскага сэктару Рады БНР.

[78] Гэтак рукою Віцьбіча была падпісаная тэчка з арыгіналамі выдрукаваных ніжэй лістоў.

[79] Псэўданімам „Р. Склют“ падпісваў некаторыя свае працы Антон Адамовіч.

[80] **„Українська трибуна“** — грамадзка-палітычны тыднёвік (з 1948 г. — паўтыднёвік) нацыяналістычнага кірунку, які выходзіў у Мюнхэне ў 1946—1949 гг. Знаходзіўся пад уплывам Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў Сцяпана Бандэры.





*На працягу першае паловы 1947 г. дзейнасьць „БкЦДК“ насіла сярод свае беларускае эміграцыі пазавугольны характар — грамадзянін Вініцкі Аляксей, разьяжджаючы па польскіх лягерах, займаўся плёткамі на сваіх грамадзкіх і партыйных супрацоўнікаў. Між іншым, у нас няма падставы сьцьвярджаць, што гэтае плявузганьне часам мяжавала з даносамі. І мы цалкам разумеем, чаму „дзейнасьць“ грам. Вініцкага насіла ў гэты час канспіратыўны характар.*

*Яшчэ ўвосені 1946 г. на паседжаньні БЦДК было вырашана перабраць яго на дэмакратычных падставах на працягу бліжэйшых трох месяцаў. Намесьнік старшыні БЦДК грам. Вініцкі Аляксей і сакратар грам. Кунцэвіч Мікола, выконваючы загад „крывіцкае“ партыі, зыгнаравалі гэтую пастанову. Не заклікаючы на паседжаньні БЦДК яго-ных сяброў з дэмакратычнага асяродзьдзя (сп. др. Шч-с, сп. др. Баг-іч, пісьменьнік Ю. Стукаліч і інш.), і адначасна запэўніваючы іх, што такія паседжаньні ў сувязі з падрыхтоўкаю да новых выбараў увогуле не адбываюцца, яны такім чынам ператварылі БЦДК у „БкЦДК“, перарабілі яго з грамадзкай установы ў партыйную, „крывіцкую“. Пасьля гэтага факту патаемная „дзейнасьць“ грамадзянаў Вініцкага й Кунцэвіча й перад іншымі нацыянальнасьцямі зрабілася злачынствам, бо яны ня мелі ад гэтае эміграцыі аніякіх паўнамоцтваў на прадстаўніцтва. Трэба між іншым адзначыць, што самачынны сакратар самачыннага гэтак званага „БкЦДК“ гр. Кунцэвіч пачаў рэпрэзэнтаваць нашую беларускую грамадзкасьць у Паразумеваўчым Камітэце, хаця абраны для гэтае мэты быў зусім ня ён, а Спадар Доктар Шч-с.*

*Той „паважнай“ прычынай, якая дазволіла грам. Вініцкаму Аляксею заявіць аб сваім існаваньні сваёй жа беларускай эміграцыі зьяўляецца вылучна... лаянка „таварыша“ Вышынскага. Гэты агульнавядомы „таварыш“, пералічваючы ў сваёй агульнавядомай прамове шэраг нацыянальных камітэтаў, што дзейнічаюць на чужыне, назваў выпадкова і імя грам. Вініцкага. Сталася гэта ў сувязі з тым, што калі яшчэ ў 1945 г. грам. Вініцкі кароткі час выконваў абавязкі старшыні Акруговага Камітэту ў Рэгенсбургу, адзін з прыбліжаных ім супрацоўнікаў гэтага Камітэту нечакана выехаў у БССР і, відаць, склаў там адпаведную інфармацыю. Атрымаўшы праз два гады лаянку „таварыша“ Вышынскага, грамадзянін Вініцкі цалкам пераключыў яе на сваю „дзейнасьць“ у самачынным „БкЦДК“. Зь відавочнай падзякай да аўтара, ён зачытвае гэтую прамову на ўсіх сходах і зьездах і спрабуе нажыць на ёй палітычную капейку.*

*Мы маем цывільную адвагу ўзяць на сябе ролю адваката грам. Вініцкага. Кажны беларус-выгнанец добра ведае, што грам. Вініцкі не адыгрываў і не адыгрывае ў жыцьці беларускае эміграцыі аніякае больш-менш паважнае самастойнае ролі. Ён усяго толькі паслухмяны выканаўца загадаў „чало крывіцкага руху“. Фігуральна кажучы, ён сярод „крывічоў“ ня кіт, а плотка. Таму, калі грам. Вініцкі на сходах выцягвае з бакавое кішэні свае марынаркі патрапаную газэту з „гістарычнай“ прамовай, дзе прыгадваецца ягонае імя, мы цалкам разумеем ягоную радасьць. Нам успамінаецца ў гэты момант адзін зь вядомых чэхаўскіх герояў. Дробны чыноўнік з дробнага мястэчка, ён аднойчы ўначы, трымаючы ў руках газэтку, пабудзіў сваіх сваякоў і знаёмых радасным крыкам: „Мяне ведае ўся Расея!!“*

*Тыя прачыталі ў разьдзеле здарэньняў пэтытам надрукаваную зацемку, што гэты чыноўнік (пададзена прозьвішча) у нецьвярозым стане трапіў пад рамізьніка, аглаблёй якога заехала яму ў рот. Успамінаецца таксама засьцянковы шляхціц Антэк Старабабец з-пад Ашмянаў, які ўсё жыцьцё ганарыўся тым, што атрымаў аплявуху ад самога маршала Пілсудзкага й, паміраючы, прасіў суседзяў, каб гэтая падзея знайшла адбітак у ягонай магільнай эпітафіі. Слава гэтых чыноўніка й шляхціца наведала сёньня й грам. Вініцкага Аляксея. З ласкі „таварыша“ Вышынскага ён набыў сусьветную вядомасьць.*

*Я ні на каліва не сумняваюся ў тым, што грам. Вініцкі й ягоныя шэфы адзначаць супадзеньне мае акцыі супраць грам. Вініцкага з акцыяй „таварышча“ Вышынскага супраць яго. Але тут ёсьць адна вялікая розьніца. У той час, як абвінавачваньне „таварышча“ Вышынскага зьяўляецца ў дачыненьні да асобы грам. Вініцкага памылковым, дык маё абвінавачваньне грам. Вініцкага ў самачыннай няпраўнай дзейнасьці ёсьць слушным і справядлівым. Практыка шэфаў грам. Вініцкага носіць у дачыненьні да БЦДК назву палітычнае авантуры. Гэтая брудная практыка мусіць нарэшце стацца вядомай і ўсім братом беларусам выгнанцам і іншым нацыянальнасьцям, што разам з намі апынуліся сёньня на эміграцыі.*

*Сябра Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту Юры Стукаліч.*

*Міхэльсдорф, 14.11.1947 г.*

*Высокапаважаны Спадар Віцьбіч!*

*Ваш зварот да грамадзянства наводзіць на чытача дрэннае пачуцьцё й кідае цень на Вашу асобу. Прыпомніце сабе, як паўгоду таму*





*назад радзіў Вам не пачынаць іррэдэнду*[81] *ў Беларускім Камітэце, а арганізаваць канструктыўную, а не дэструктыўную апазыцыю. Вы на гэта не пайшлі, а распачалі акцыю, якая мела падарваць аўтарытэт і становішча Беларускага Камітэту як найстарэйшай і ў той час адзінай беларускай арганізацыі. Пасьля гэтага Вашага дэструкцыйнага кроку Вы пішаце ўжо ня першае выясьненьне, і што ж у іх прасачваецца: Вы атакуеце ўжо нешта пятага беларускага дзеяча, з каторых не адзін будзе залатымі літарамі адцемлены ў беларускай гісторыі. Адважыцца выступаць супраць такога чалавека, як Кушаль*[82]*, і старацца яго асьмяшыць ці здыскрэдытаваць, гэта высока не патрыятычны чын. Было мне вельмі прыкра пачуць аб „Старой казы бараб.“, падпісаную Віцьбічам, бо я ведаю Вас як літаратара й іншага ад Вас спадзяваўся. Думаю, што й Вам было прыкра. Далей Вы атакуеце цяпер Вініцкага й Кунцэвіча. Вініцкі ёсьць ведамым дзеячом беларускім ад пачатку Польшчы, і імя яго нічуць не паявілася на эміграцыі. Камэнтаваць Вам Вышынскага зусім без патрэбы, мы ведаем, што значаць яго словы.*

*Далей Вы атакуеце М. Кунцэвіча, майго калегу з лаўкі школьнай і акадэмічных студыяў. Гэты чалавек толькі дабро рабіў для нашага народу й толькі дабро рабіць будзе, аб гэтым, напрыклад, часткова ўспамінае і №1 „Бацькаўшчыны“, што ён, Маг. М. Кунцэвіч, а ніхто іншы ўзяў на сябе труд аформіць газэту.*

*Зь якіх прычын Вы выступаеце, то сапраўды для мяне ня ясна. Калі гэта Вашая палітычная мэтода барацьбы, то яна ў нас спаткаецца толькі з ад'емнай ацэнкай, а калі вы даходзіце гэтай дарогай прызнаньня й сатысфакцыі для свае асобы, то Вы нешчасьлівы палітык, бо Вам замнога й не па сілах будзе даказаць сваё алібі. Чапаеце Вы людзей, якіх грамадзянства ведае прынамсі ад 20 гадоў. І ці ня лепш Вам застацца літаратарам, спакойна працаваць у гэтым напрамку, а не перакідвацца на палітычна-грамадзкі грунт, дзе ставіце даволі няўдалыя крокі.*

*Тако ж вельмі несымпатычны акцэнт мае намернае злоўжываньне словам Крывія. Гэта справа ёсьць ужо выясьненая. Я. Станкевіч са*

---

[81] ***Irredenta*** *(італ.)* — агульнае значэньне „радыкальны нацыянальны рух“.

[82] **Францішак Кушаль** (1895—1968), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны быў на розных пасадах у Менску, у 1944 г. — камандзір Беларускай Краёвай Абароны. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, з 1950 г. — у ЗША.

*сваімі прапазыкамі астаўлены на старане, і лішне тут Крывію перасьмейваць добраму патрыёту не прыходзіцца.*

*Разумеючы, трэба сказаць, што Вам трэба моцна задумацца аб сваёй дзейнасьці як палітыка. Трэба ясна сабе адказаць на пытаньне, якая мая роля ў палітыцы.*

*Пісьмо гэта ёсьць толькі прыватным ліставаньнем паміж Вамі й мной і з маёй стараны нікому да ведама пададзена ня будзе. Напісаў я ў ім тое, што адчуў, стоячы крыху збоку ад заінтарасаваных старон. Пажаданым было б, каб падобныя выясьненьне было апошнім і каб Віцьбіча мы зналі як добрага літаратара й выдаўца газэт, а ня аўтара непаважных пасквіляў, задзяваючых добрае імя нашых запраўды заслужаных братоў.*

*З пашанай Др. Малецкі.*

*Эшвэге, 21.11.1947 г.*

*Міхэльсдорф 29.11.1947 г.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Малецкі!*

*Прабачце, але мяне зьдзіўляе характар Вашых лістоў да мяне. Мяне зьдзіўляе самае Вашае зьдзіўленьне (абурэньне) з тае прычыны, што я не выконваю парады, якія Вы мне далі паўгады таму назад. Пры ўсёй маёй пашане да Вас я не магу глядзець на вакольны сьвет Вашымі вачмі, калі маю свае ўласныя. Менавіта таму я ніколі й не даваў ніякіх парадаў Вам і не зьбіраюся даваць іх. Я таксама зусім не зьбіраюся накідваць Вам свае думкі ці пагляды. Адсюль і вось гэты ліст зьяўляецца толькі адказам на парушаныя Вамі ў сваім лісьце пытаньні.*

*Вы пішаце, што я атакую „з раду ўжо нешта пятага беларускага дзеяча“. Справа гэтая выглядае так. На працягу апошніх год „крывічы“ выкінулі з нашых грамадзкіх камітэтаў каля двох дзясяткаў выдатных беларускіх дзеячаў, якія, між іншым, стварылі гэтыя самыя камітэты. Гэтыя дзеячы без асаблівага шуму адыходзілі ўбок, захоўваючы за сабой толькі ролю абсэрватараў далейшага „крывіцкага“ гвалту. Калі ж „крывіцкая“ рука пацягнулася да жаўнера Віцьбіча, дык той разьвярнуўся й трахнуў аднаму, другому, трэцяму, чацьвёртаму, пятаму (я не падлічваў) „крывіцкаму“ (не беларускаму) дзеячу. Гэтая падзея вельмі заскочыла вышэйпададзеных дзеячоў, бо дагэтуль яны амаль не сустракалі аніякага супраціву. Таму пасьля гэтага яны ўзьнялі вэрхал на ўсю Нямеччыну аб тым,*





*што Віцьбіч — русафіл, русацяп, зарубежнік, былы камуністы, дывэрсант, агент Вышынскага й г. д. Мяне гэтыя тытулы мала абыходзяць — я досыць загартаваны чалавек. І мая роля ва ўсёй гэтай справе зусім ясная й выразная. Проста Віцьбіч зьяўляецца тым камянём, на які трапіла „крывіцкая“ каса, спрабуючы зьнішчыць нашую беларускую дэмакратычную рунь.*

*Памыляецца той, хто думае, што Віцьбіч у беларускім дэмакратычным лягеры адыгрывае ролю першай скрыпкі. Гэта ня так. Зусім ня так. Але не памыляецца той, хто думае, што Віцьбіч у гэтым лягеры зьяўляецца найбольш зацятым. 3-га лістапада ў Марбургу „крывічы“ не дазволілі мне зачытаць ліст аб пакутах остэргофэнскіх беларусаў. Спадар доктар Орса з пагардай заўважыў: „Нейкія Цімашукі напісалі гэты ліст“.*

*Нейкіх Цімашукоў, а менавіта беларусаў налічваецца 20 мільёнаў, і разам зь імі заўсёды Віцьбіч. Заўвага ж спадара доктара Орсы вельмі характэрная для прадстаўніка нашага „бліскучого відокремленьня“, г. зн. да „чало крывіцкага руху“.*

*Дарэчы, аб злоўжываньні мною тэрмінам „крывіч“, якім, на Вашую думку, у нашых эміграцыйных умовах зьяўляецца толькі спадар Янка Станкевіч. Для нас „крывіч“ — гэта носьбіт таталітарнага „крывіцкага“ сьветапогляду, гэта сябра альбо сымпатык недэмакратычнае „крывіцкае“ партыі. „Крыўя“ для нас не гістарычнае й геаграфічнае разуменьне, а палітычнае. Для нас яно не сынонім Беларусі. Таксама як „крывіч“ у нас не асацыіруецца з крывічом. У мінулым мне давялося як кіраўніку адмысловых навуковых экспэдыцыяў раскапаць 76 крывіцкіх курганаў. У сучасным мне давялося актыўна ўдзельнічаць у раскапаньні пэўнай колькасьці „крывіцкіх“ васіных гнёздаў. Зыходзячы з гэтае жыцьцёвае практыкі магу толькі адзначыць адно, што паміж крывічамі й „крывічамі“ столькі ж агульнага, сколькі агульнага паміж арламі й пацукамі.*

*Аніяк не магу ўзяць на сябе адказнасьць за ўсе антыкрывіцкія лістоўкі. Тым больш што сёньня сам народ стварае антыкрывіцкі фальклёр. Вось, напрыклад, пішу Вам гэты ліст, а ў суседнім пакоі пад гукі гармошкі сьпяваюць дрындушку:*

*Сьцёпка грае на гармошке,*
*Кушаль скачыць гапака.*
*Праігралі сваю „Крыўю“*
*Два „крывіцкіх“ дурака.*

*Гэтая рэзкая для вуха інтэлігентнага й досыць нескладаная па форме, але разам з тым недвухсэнсоўная па зьмесьце дрындушка зьяўляецца водгукам нядаўніх выбараў у нашым селішчы. Аўтарам яе я не зьяўляюся. Напісалі й сьпяваюць яе „нейкія Цімашукі“. На маім стале ў папцы „Крывічы“ ляжаць некалькі дзясяткаў антыкрывіцкіх лістовак, і таксама я ня маю аніякага дачыненьня да іхнага аўтарства — я проста перахапіў іх па дарозе. Што датычыць памфлету „Загад старое казы барабаншчыка“, дык нікім і нічым не даведзена, што Віцьбіч зьяўляецца ягоным аўтарам. Ёсьць толькі дапушчэньні ў гэтай галіне. З аднолькавым посьпехам я магу прыпусьціць, што, напрыклад, сп. Адамовіч ёсьць аўтар „Вопросов ленінізма“ й „Майн Кампфу“. Прынамсі, гэтыя творы сугучныя для „крывіцкае“ ідэалёгіі.*

*Аб Кушалю й „залатых літарах“. Я дрэнна ведаю гісторыю беларускага нацыянальнага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Мне здаецца, што галоўны запраўдны аўтарытэт у гэтай галіне гэта, у чым Вы асабіста пераканаліся ў Марбургу, ёсьць Адамовіч. Ён у нас з апломбам сямейнага Заратустры адных заносіць у гісторыю залатымі літарамі, другіх запісвае на чорную дошку. Хто ведае, можа ім Кушаль і запісаны залатымі літарамі ў гісторыю Заходняй Беларусі як выдатны й славуты нацыянальны змагар. Я ведаю Кушаля за нямецкія часы й пасьля капітуляцыі. Ведаю як вайскоўца й камэнданта лягеру Ды-Пі. Мне ня хочацца парушаць гэтую тэму, бо баюся пакрыўдзіць Вас у Вашых самых найлепшых патрыятычных пачуцьцях. Мушу толькі адзначыць, што залатымі літарамі будзе запісваць у гісторыю тыя ці іншыя імёны не Адамовіч і ня Віцьбіч, а „нейкія Цімашукі“ альбо паводле „крывіцкага“ лексыкону — „абухі“, „шумавіньне“, „ёлупы“, „азіяты“ й г. д.*

*Вы зусім слушна адзначылі, што я не палітык. Крый мяне Божа ад славы Гебэльса*[83] *й Вышынскага. Я ўсяго толькі беларускі журналісты й пісьменьнік. Дзе найбольш віхурыла жыцьцё, там быў заўсёды й я са сваім пёркам разам зь „нейкімі Цімашукамі“. Ніколі не стаяў убаку. Можа, таму НКВД павыбівала мне палову зубоў і прысудзіла да расстрэлу. Можа, таму тут, на эміграцыі, атрымаў за год ад „нейкіх Цімашукоў“ выгнанцаў 480 лістоў. Ніколі не зачыняюцца таксама ў маім пакоі дзьверы. Таму я добра ведаю, аб чым „нейкім Цімашукам“ ходзіць, чым яны дышуць, да чаго імкнуцца. І таму, калі я вось цяпер гляджу на паліцу з гэтымі лістамі, я не адчуваю да „крывічоў“ аніякага іншага пачуцьця, акрамя пагарды.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас, Юр. Віцьбіч*

*П. С. Мяне крыху зьдзіўляе падкрэсьліваньне Вамі тае акалічнасьці, што Ваш ліст да мяне Вы не давядзеце да ведама больш шырокіх колаў нашае грамадзкасьці. Я ня думаю, каб сёньня нашая грамадзкасьць толькі б жыла думкаю, як бы гэта прачытаць ліст да Віцьбіча ці да каго іншага. Занадта мы маленькія людзі ў параўнаньні з тымі вялікімі падзеямі, якія сёньня адыгрываюцца ў сьвеце. Менавіта таму мяне да пэўнае ступені зьдзівіла, што спадар магістар Галяк*[84] *набіў на ратататары й шырока распаўсюджвае даўжэзны ліст нейкага Птаха да Віцьбіча. Няўжо гэта Галяк, апраўдваючы сваё прозьвішча, зґалеў да таго, што на прыватных лістох трэцяе асобы да „не палітыка“ Віцьбіча спрабуе нажыць палітычны капітал? Для мяне гэтае незразумела.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*З пашанай, Юр. Віцьбіч*

**ЗБВ**

Згуртаваньне настаўнікаў было далёка не адзіным аб’яднаньнем, створаным нібы па-за палітыкаю. Аб’ядналіся ў свае згуртаваньні мэдыкі, вэтэраны. Наагул, новыя арганізацыі — партыі, франты, каапэратывы, аб’еднаньні, задзіночаньні, згуртаваньні — паўставалі ў кожным лягеры, і на першых паседжаньнях зацьвярджалася назва й абмяркоўваліся абавязковыя статуты, якія, пасьля ўлётак, цалкам могуць прэтэндаваць на самы пашыраны жанр лягернага друку.

У Рэгенсбурзе 5 ліпеня 1947 г. ініцыятыўная група вэтэранаў склікала зьезд, на які зьехаліся прадстаўнікі з усіх зонаў. Група зь лягеру Міхэльсдорф нават прывезла свой варыянт статуту, але перамаглі ўсё ж гаспадары. Другім параграфам статуту новапаўсталай арганізацыі

[83] **Ёзэф Гёбэльс** *(Goebbels)* (1897—1945), адзін з нацысцкіх лідэраў, з 1929 да 1945 гг. быў імпэрскім міністрам прапаганды.

[84] **Леанід Галяк** (1910—1980), грамадзкі дзеяч. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі працаваў юрыстам у Менску. З 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на чужыне, браў удзел у аднаўленьні Рады БНР. З 1949 г. жыў у ЗША, быў першым рэдактарам газэты „Беларус“.

сцьвярджалася, што *„мэтай Задзіночаньня ёсьць аб'яднаць усіх вэтэранаў для праводжаньня й паглыбленьня традыцыі вызвольнай барацьбы ды ўсебаковай узаемнай маральнай, праўнай і матэрыяльнай падтрымкі сваіх сяброў, таксама для апекі над былымі вайскавікамі й іх сем'ямі“.*

Па прыняцьці статуту распачалася дыскусія адносна назвы арганізацыі. Было дзьве прапановы: ЗБВ і ЗБКВ. Згуртаваньне беларускіх вэтэранаў і Згуртаваньне беларускіх крывіцкіх вэтэранаў. За апошні галасавалі Янка Станкевіч, Кісель, Аляксей Вініцкі.

Бальшынёю галасоў была зацьверджаная першая прапанова, а ў статут дадаўся параграф 4: *„Задзіночаньне ёсьць беспартыйнай, гуманітарнай і культурна-асьветнай арганізацыяй“.*

Абралі кіраўніцтва: Францішак Кушаль — старшыня, радныя — д-р Станіслаў Грынкевіч, Аляксей Вініцкі, Алесь Марговіч, Родзька, Клінцэвіч, Янка Чарнэцкі, Мечыслаў Рагажэцкі й Аляксандар Стагановіч. У рэвізійную камісію ўвайшлі Кабыш, Вадэйка і Ўладзімер Русак. Меліся яшчэ выбраць ганаровы суд, але вырашылі адкласьці да наступнага зьезду.

16 жніўня 1947 г. у Міхэльсдорфе адбыўся першы сход вайскоўцаў, на якім Францішак Кушаль паінфармаваў пра мэты й заданьні ЗБВ, пасьля абралі мясцовы ўрад: Маляўка — старшыня, заступнік — Чэрняк, сакратар — Крэсла.

Да канца 1947 г. у Задзіночаньне запісаліся каля 70 сяброў, і было б яшчэ болей, але парушэньне параграфа 4 зрабілася нясьцерпна-відавочным: ЗБВ адкрыта стала на бок прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, што натуральным чынам прывяло да закалоту ў арганізацыі.

От тады і зьявіўся на сьвет „Праект“ — непадпісаны, але за аўтарствам „жаўнера Віцьбіча“, як сам сябе ён назваў у лісьце да д-ра Малецкага. Дый увесь тэкст, фактычна, ёсьць адказам доктару наконт Кушаля й „залатых літараў“:

*„Мы, ніжэйпадпісаныя беларускія вэтэраны, абвяшчаем сябе ініцыятыўнай групай, якая мае стварыць Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў на чужыне. Мы адначасна падаем да ведама беларускіх вэтэранаў тыя прычыны, якія прымушаюць адных з нас устрымацца, а другіх выйсьці з існуючага сёньня Саюзу Вэтэранаў.*

*Перш за ўсё мы выказваем свой недавер да старшыні й кіраўніка Саюзу Вэтэранаў Спадара Палкоўніка Кушаля, выходзячы з наступных меркаваньняў.*





*Спадар Палкоўнік Кушаль, зьяўляючыся начальнікам БКА, не прыняў аніякіх больш-менш эфэктыўных захадаў, каб эвакуяваць афіцэрскія кадры, а па магчымасьці й шарагоўцаў БКА на захад, і першы сам эвакуяваўся, узяўшы на сябе незайздросную пры ягоным становішчы ролю камэнданта эшалёну цывільных уцекачоў. Нават яшчэ больш. Калі пад Стоўпцамі гэты эшалён уцекачоў сустрэў батальён БКА, які пасьля акцыі на сталінскіх бандытаў рушыўся на ўсход, дык Спадар Палкоўнік Кушаль ня толькі не прыняў аніякіх мераў, каб выратаваць хаця б гэты батальён, што гераічна рушыўся насустрач сьмерці, а наадварот, разьвітальна махаў яму ўсьлед рукой.*

*Спадар Палкоўнік Кушаль у Нямеччыне ў 1945 г. зноў меў намер дэзэртыраваць, і толькі пад прымусам з боку Спадара Прэзыдэнта Астроўскага ўзяў на сябе камандаваньне дывізіяй „Беларусь“. Пазьней ён прылучыў гэтую беларускую дывізію да расейскае ўласаўскае дывізіі палкоўніка Мальцава*[85]*, зь якім разам і трапіў у амэрыканскі палон. Гэтае далучэньне да расейцаў мы лічым здрадай нашай беларускай нацыянальнай справе. Спробы Спадара Палкоўніка Кушаля ўжо пасьля капітуляцыі апраўдаць гэты свой крок у адмысловых лістоўках, дзе ён адзначае, што „30 красавіка нашая дывізія, вольная ад ніякае „апекі“, прарвала нямецкі фронт у раёне Цьвізэлю й далучылася да амэрыканскае арміі“, зьяўляюцца фікцыяй і яшчэ больш падкрэсьліваюць няздольнасьць ягонага ўчынку. Спадар Палкоўнік Кушаль знаходзіўся ў гэты час пад апекай расейскага генэрала Ўласава*[86]*, які зьяўляўся ворагам Незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі.*

*Спадар Палкоўнік Кушаль, трапіўшы ў вайсковы палон, першым уцёк зь яго й, апынуўшыся на волі, у процілегласьць украінскім афіцэрам, не прыняў аніякіх эфэктыўных захадаў, каб ратаваць тых беларусаў вайскоўцаў, што засталіся ў турме. У выніку саветчыкі вывезьлі ў БССР каля 500 жаўнераў з дывізіі „Беларусь“.*

---

[85] **Віктар Мальцаў** (1895—1946), расейскі вайсковец-лётчык, палкоўнік Чырвонай Арміі. Быў рэпрэсаваны савецкімі ўладамі, дзеля чаго падчас вайны пайшоў на супрацу зь немцамі. Займаўся фармаваньнем Расейскай усходняй авіяцыйнай групы, затым падразьдзяленьняў ВПС Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Здаўся ў палон амэрыканцам, выдадзены імі савецкім уладам, прысуджаны да сьмяротнага пакараньня, павешаны.

[86] **Андрэй Власаў** (1901—1946), расейскі вайсковец, падчас Другой сусьветнай вайны — камандзір Расейскай вызваленчай арміі, сфармаванай немцамі з савецкіх ваеннапалонных. Павешаны.

*Спадар Палкоўнік Кушаль у 1946 г. зьвярнуўся зь лістом да польскага генэрала Андэрса*[87] *, у якім дамагаўся дазволу на стварэньне ў складзе корпусу Андэрса беларускае вайсковае часткі. Такую спробу перадаць беларусаў вайскоўцаў пад апеку польскага генэрала Андэрса, які зьяўляецца ворагам Незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі, мы лічым здрадай нашай беларускай нацыянальнай справе. Гэты ўчынак Спадара Палкоўніка Кушаля тым больш недвухсэнсоўны, што пасьля капітуляцыі ён штомесячна атрымліваў ад палякаў грошы.*

*Гэта толькі частка тых паважных прычынаў, якія прымушаюць нас зь вялікімі засьцярогамі ставіцца да Спадара Палкоўніка Кушаля як да беларускага вайсковага дзеяча. Мы ня можам у далейшым давяраць яму свой лёс і зьвяртаем увагу ўсіх беларускіх вэтэранаў на ягоныя ўчынкі.*

*Існуючы сёньня Саюз Вэтэранаў не зьяўляецца апартыйным, якім мусіць быць кажны вайсковы саюз, а мае выразны партыйны характар. Таму менавіта паасобныя сябры гэтага Саюзу Вэтэранаў паводле інструкцый „крывіцкае“ партыі прымаюць самы чынны ўдзел у лягернай партыйнай барацьбе, каб дапамагчы „крывічам“ апанаваць сытуацыю ў тым ці іншым беларускім лягеры. Таму менавіта старшыня й кіраўнік гэтага Саюзу Вэтэранаў Спадар Палкоўнік Кушаль на ўсіх сходах і канфэрэнцыях займаецца вылучна плявузганьнем на ўсіх ворагаў „крывіцкае“ партыі. Карацей кажучы — існуючы сёньня Саюз Вэтэранаў зьяўляецца партыйнай вайсковай арганізацыяй.*

*Мы заклікаем у свае шэрагі ўсіх тых чэсных беларускіх патрыётаў вэтэранаў, для якіх агульнанародная справа вызваленьня нашае Маці-Беларусі з-пад тэрору сталінскіх катаў стаіць вышэй за справы партыйныя, групавыя, сямейныя ці асабістыя.*

*Мы заклікаем у свае шэрагі беларусаў вайскоўцаў зь „Літоўска-Беларускай Дывізіі“, былых булак-балахоўцаў, былых удзельнікаў слуцкага й вяліскага паўстаньняў, былых самаахоўцаў, былых афіцэраў і шарагоўцаў БКА й Беларускага Легіёну.*

*Мы заклікаем у свае шэрагі ўсіх чэсных беларускіх патрыётаў вайскоўцаў незалежна ад таго, ці была ў іх калісьці на шапцы чэшка*

[87] **Уладыслаў Андэрс** (*Anders*) (1892—1970), польскі генэрал, стваральнік пасьля выбуху нямецка-савецкай вайны польскага ўзброенага фармаваньня на тэрыторыі СССР.





*царскага салдата, ці „чырвоная зорка“, ці „ожал бялы“, ці латвійскія тры зоркі, ці ўкраінскі „трызуб“ і г. д., бо затое ў сэрцах іхных заўсёды была нашая „Пагоня“.*

*У нашых шэрагах ня знойдзе мейсца той, хто сьвядома або несьвядома, выконваючы ролю трэцяй сілы, спрабуе разьбіць нашую эміграцыю на заходнікаў і ўсходнікаў, праваслаўных і каталікоў, „крывічоў“ і „радзімічоў“, „магістраў“ і „простых“, „палянафілаў“ і „русафілаў“.*

*У нашых шэрагах знойдзе месца кожны той беларус, які кожную хвіліну гатовы ахвяраваць сваім жыцьцём, каб толькі зьдзейсьніць Незалежнасьць нашае Маці-Беларусі.*

*Жыве Беларусь!“*

## Вольны час у Ватэнштэце
## (Невядомы твор Антона Адамовіча)

Другою непрыемнаю неспадзяванкаю для акупацыйных уладаў — пасьля адмовы ўцекачоў вяртацца на радзіму — быў прыгнечаны настрой насельнікаў лягераў. Ну, здавалася б: усё ёсьць — які-ніякі свой кут, дах над галавою, бомбы ня падаюць, есьці выдаюць спраўна й занятку фактычна ніякага! І разам з тым у лягерах панавала роспач.

Выгнанцы апынуліся ў сытуацыі, калі на працу ў лягерах ці невялічкіх гарадках, што далі ім прытулак, уладкоўваліся шчасьлівыя адзінкі — не таму шчасьлівыя, што зараблялі гэтак каштоўныя цыгарэты — галоўную валюту тых часоў, а што мелі занятак рукам, падчас якога можна было ня думаць пра заўтра.

Рэшта ж, якая складалася з абсалютнай бальшыні, была вымушаная туляцца па бараках ці сядзець на лавах каля іх, бавячы час у бясконцых размовах пра будучыню, якая ад іх аніяк не залежала, а замест пагрозы прымусовай рэпатрыяцыі нэрвавалі скрынінгі. Жылі разам, адасобіўшыся дашчанаю перагародкаю ці проста коўдраю, ня маючы магчымасьці пабыць сам-насам. Жылі чуткамі.

Усё гэта не найлепшым чынам уплывала на маральны стан. Гарэлку дастаць у мясцовых жыхароў было нескладана, выменьваючы на харчы, выдаваныя Ды-Пі, і п’яныя бойкі сталіся галоўнаю праблемаю для *MP* і мясцовых уладаў.

Нягледзячы на немагчымасьць прыватнага жыцьця, сэкс заставаўся ягонаю неад’емнаю часткаю. Тое й зразумела: немалы адсотак жыхароў складалі былыя остаўцы, а дзяўчат і хлапцоў у Нямеччыне

трымалі асобна. Лягерны лекар Ватэнштэту (імаверна, Мікалай Мінкевіч) у справаздачы за паўгодзьдзе (1.07 — 31.12.1946 г.) пазначаў, што нарадзілася 15 дзетак, і дадаваў: *„Калі ходзіць аб захворваньні вэнэрычныя, дык і ў гэтай галіне лягер меў вельмі нізкія лічбы — усяго два выпадкі. Лічба гэтая суцяшальна нізкая ў прыраўнаньні да падобных лічбаў у суседніх іншанацыянальных лягерах, дзе ў некаторых яна на тысячу працэнтаў і болей вышэйшая“*[88].

Інтэлектуалы намагаліся даць сабе рады.

Паколькі, асабліва напачатку, грошай на друк бракавала, дый дазвол на выданьне дастаць было складана, выраблялiся рукапісныя часопісы, газэты, календары.

Складваецца ўражаньне, што Мікола Панькоў выключна гэтым і займаўся — столькі засталося (а колькі не захавалася?) невялікіх кніжачак, запоўненых ягоным шчыльным почыркам, кірыліцаю й лацінкаю: сэрыя „Зборнік выгнанца“, бібліятэчка „Сучаснасьці“, выпускі „Кнігапісу“, „Штодзённы крывіцкі лісток“ (99 нумароў), „Этапы“, „Кагарка“, „Ліхтар“, зборнічкі ўласных твораў і абразкоў жонкі, Ніны Змагаркі, нават „Беларускі каляндар выгнанца на 1947 год“ — сапраўдны каляндар з датамі, табліцамі кшталту „Колькасьць калёрыяў і вітамінаў у харчах“, „Калі ў Нямеччыне поўнач“, „Наша плянэта“, „Вялікшыя гарады сьвету“.

Зьмест выдаваных ім кніжачак, часам аздобленых выцінкамі з замежных газэтаў, падзіўляе разнастайнасьцю: „Правадыры і палітыкі. Людзі нашых дзён“, „Парыская канфэрэнцыя 1946 году“, „Беларускія народныя казкі“, „Праўда аб Маскве“, „Мы і яны ў Сыбіры“, „Тэхніка сёньня“.

Натуральна, наклад такіх выданьняў быў мізэрны, але колькі працы ўкладзена — і колькі часу! І гэта не рахуючы ліставаньня, пра якое ён у эсэ „Лісты“ (часопіс „Этапы“) пісаў:

*„Асабліва прыемна атрымліваць лісты гэткім, як я, якія апынуліся ў самоце поўнасьцю ў чужым асяродку, як на нейкай абтоцы. Мінаюць дні за днямі, адныя павольна, марудна, смутна, іншыя лятуць як пасьпешны цягнік зь пярэстасьцю ўражаньняў, радасьцю. Мінаюць ночы з моцным, цяжка абуджаным сном і бяз сну. Але штодзень каля 12 гадзін вуліцай лягеру праходзіць лістанос. Пачынаецца прыймо гасьцей і наведвальнікаў. Часопісы я адкладаю часова ўбок. Хай не перашкаджае нам шырокі сьвет. Уважліва адчыняю кажны*

[88] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Мінск, 1994. С. 172, 174.







Mikola Pankoŭ
Name - Nom - Name
WHITE RUTHENIAN
Date of Birth - Date de Naissance
Geburtsdatum
Nationality - Nationalité
Nationalität
DP Camp Oldenburg
Address
Adresse
Adresse
is a member of / est membre du / ist Mitglied der DPWR Scout Group Number / Groupe Scout Numéro / Pfadfindergruppe Nummer (1)
registered with the D.P. Division of the Boy Scouts International Bureau.
enregistré à la Section P.D. du Bureau International du Scoutisme.
registriert mit der D.P. Abteilung des Internationalen Pfadfinderbüros.
Signature
Signature
Unterschrift
Traveling Commissioner for D.P. Scouts in Germany and Austria
Commissaire Volant pour les Scouts P.D. en Allemagne et Autriche
Reisekommissar für die D.P. Pfadfinder in Deutschland und Oesterreich
BOY SCOUTS INTERNATIONAL BUREAU D. P. DIVISION
STAMP—CACHET—STEMPEL
Signature
Signature
Unterschrift
Chief Scouter - Chef Scout - Pfadfinder Leiter
WHITE RUTHENIAN
Nationality
Nationalité
Nationalität
WHITERUTHENIAN SCOUTS ASSOCIATION HEADQUARTER
Identity Card No.
Carte d'Identité No.
Ausweis Nummer 293
Issued on
Délivrée le
Ausgegeben am

Скаўцкае пасьведчаньне Міколы Панькова

*канвэрт. Бяру ў рукі й простую, часта дужа дрэнную паперу, часта проста выраваную із звычайнага сшытку, старога, скарыстанага, нярэдка пабруджанага. Але за ім стаіць нейкі жывы чалавек. Я ўсьміхаюся да яго: як добра, што на сьвеце шчэ жывуць гэткія добрыя людзі, кажу я сам сабе й змахваю вільгаць з вачэй, якая ёсьць выяўленьнем чыстай радасьці.*

*Або таму, што я быў на пасадах розных грамадзкіх арганізацыяў, або таму, што я лічуся нібы пісьменьнікам, які мусіць усё магчы й ведаць, мне давяраюцца самыя разнаякія непалады й жыцьцёвыя вузлы, якія мушу памагчы залагодзіць ці разьвязаць. У іх і цяжар працы, маральнае паніжэньне, сямейныя вузлы, да хвараблівасьці*

*балючая туга па Бацькаўшчыне, розныя комплексы душы. На кажны выпадак мушу знайсьці адказваючыя словы, шчырыя, сардэчныя, каб яны далі сапраўднае супакаеньне. Часам думаеш: як шмат часу я трачу гэтак намарна. Каб ты склаў усё разам, дык быў бы гатовым не адзін з задуманых твораў. Я праглядаю сшытак ліставаньня за мінулы год. Там стаіць: атрымана 725 лістоў, выслана 617. Калі б на кажны зь іх было выдаткавана толькі 15 хвілін часу, дык і тады атрымаем больш 154 працоўных гадзін ці цэлы тыдзень*“[89].

Уяўленьне ж пра характар лістоў Панькова можа даць дасланы ім у Ватэнштэт, праўдападобна, Вітаўту Тумашу:

*„Oldenburg, 7.7.1947*

*Высока Паважаны Спадару!*

*Справы скларіся гэтак, што выехаў з надзеяй хутка быць зноў у Вас, нават не разьвітаўшыся з Вамі, за што прашу выбачыць.*

*Насамперш прыміце маё шчырае дзякуй за ўсё, што меў за свой побыт. У хаце знайшоў сапраўды непрыемныя й пільныя справы, якія толькі цяпер улагодзіў.*

*На мой мэмарандум у Mil. Gov’у адказалі, што ў найбліжэйшым часе адбудзецца „скрынінг“ IRO, і тады самі па сабе ўсе нацыянальнасьці на жаданьне будуць выдзеленыя ў асобныя лягеры, і цяпер за гэта яны не бяруцца. Мне вельмі хацелася б ужо цяпер перабрацца да Вас, але вельмі палохае матэрыяльны бок справы. Тут апрача дадатковага пайка я маю яшчэ пэнсію, на што ёсьць магчымасьць тое-сёе прыкупіць збоку. Асабіста я б згодзен грызьці скарынку, каб толькі нечым быць карысным роднай справе, але сям’я накладае свае абавязкі, і з гэтым мушу лічыцца, хоць жадаў бы сяньня быць адным. Ліць ваду на кола мужацкага млыну мне вельмі брыдка, але ня бачу нічога іншага, а галоўнае выхаду з гэтага становішча, бо ў Вас таксама цяжка з памешканьнем і дровамі. Дайце раду, і я з радасьцю буду ўдзячан, і, думаю, разам мы б здолелі нешта больш зрабіць.*

*Мае рукапісы засталіся ў сп. Ільляшэвіча, калі яны на нешта дададуцца, дык, калі ласка, буду вельмі Вам дзякаваць.*

*Дадаю „плод аднае ночы“, як сказала жонка. Гэта магчыма надрукаваць на ратататары прыгажэй і даваць кажнаму эмігруючаму далей ад імя Зоннага Камітэту.*

[89] Этапы. 1—4. Oldenburg—Wentorf—Cuxhaven—Lesum—Bremen, 1944—1950. С. [7—8].





*Наколькі бачыў, дык у нашых школах няма падручнікаў. Я канчаю апрацоўваць падручнік матэматыкі для II, III і IV кл. ды Радзімазнаўства (IV кл.), толькі як з выдаўцамі? Калі б у нас было нешта сталася, дык можна было б падумаць і аб далейшым. Жадаў бы ведаць Вашыя думкі.*

*Як з альбомам? Я перадаў усе матэрыялы Ч. Будзьку*[90] *і I частку для ангельцаў думанага нарысу. Засталося толькі геаграфічна-эканамічны агляд. Ці ўжо здалі ў друк? Калі трэба, дык дзеля гэтага кіну ўсё на пару дзён і прыеду.*

*Прыміце шчырае прывітаньне!*

*З пашанай, М. Панькоў*

*10 сталёвых загадаў Беларусу-выгнанцу.*

1. *Нідзе й ніколі на чужыне не забывай, што зьяўляесься прадстаўніком Беларускага Народу й рэпрэзэнтантам Беларусі! Ад Твайго паводжаньня чужынцы зробяць апінію ўсяго нашага народу. Не заплямай імя свайго народу й Беларусі — трымайся ўсюды й заўсёды так, каб Цябе ўсе паважалі. Будзь уважлівым на словах і ў працы, бо гэта заменіць няведаньне чужой мовы.*
2. *Не чакай, каб усюды было гэтак, як у сваім лягеры. Задаволься тым, што ёсьць; магло быць хужэй. Не крытыкуй чужога народу, будзь абдуманы ў сваіх словах і тады, калі чужынцы й ня ведаюць тваёй мовы.*
3. *Заўсёды памятай беларускую ветлівасьць, сардэчнасьць, спагадлівасьць і над усё — упартую вытрываласьць.*
4. *Паважай сяброў па працы й людзей на вуліцы, у памешканьні й сродках камунікацыі. Калі Ты будзеш ветлівы зь іншымі, і да Цябе будуць ветлівыя. Трымайся гэтак, як Ты жадаеш, каб трымаліся госьці ў Тваёй хаце.*
5. *Ніколі не забывайся падкрэсьліць, што Ты беларус і змагар.*
6. *Не ганіся за вялікім заробкам і ўласным дабрабытам, але дбай і аб духовых вартасьцях: вучыся і ўдасканаляй сябе; пазнаёмся з краінай і народам навокал, зь іншай працай і жыцьцём, імкніся найхутчэй вывучыцца чужое мовы, якая зьяўляецца зброяй у*

[90] **Часлаў Будзька** (1913—1985), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у лягеры ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі. З 1948 г. жыў у Вялікабрытаніі, з 1951 г. — у ЗША.

*барацьбе за Цябе й будучыню Твайго Народу. Спрыяй, кіруй і дапамагай таксама іншым асьвяціць дух, сэрца й розум.*

7. *Шануй і беражы чужыя законы і ўласнасьць. Неабдуманасьць можа зрабіць шмат непрыемнасьцяў.*
8. *Ты ня ведаеш, як доўга яшчэ будзеш на выгнаньні, а таму імкніся ўперад — на працы і ў навуцы, выконвай свае абавязкі да беларускай грамады й свой абавязак перад вечнай Бацькаўшчынай.*
9. *Далёка ад Бацькаўшчыны Беларусі беларусу бел-чырвона-белы колер зьяўляецца даражэйшым і сьвяцейшым сымбалем. Не стыдайся яго — з гэтым знакам Ты пераможаш. Надыйдзе час, калі кажны беларус пажадае яго насіць, але яго нададуць толькі па заслугам.*
10. *Па-над усё памятай стогн і ўздыхі Маці Беларусі. Без напамінаў рабі ўсё, як толькі можаш, і лепш, каб чужыя людзі на чужыне зразумелі, чаму мы тут і як мала мы жадаем — нашу адабраную краіну, нашу вольную Беларусь.*

*Калі выканаеш гэтыя загады —*
*сам хутчэй падрыхтуеш шлях звароту.*
*Жыве Беларусь!*

*М. Вольны*“.

Варта зьвярнуць увагу на другі пункт Панькоўскіх „сталёвых загадаў“: значыць, было разуменьне, што лягеры — палёгка на эміграцыйным шляху ды не пустая страта для саміх сябе?!

Прынамсі, нястратным гэты час стаўся для тэатру — найбольш папулярнага й запатрабаванага мастацтва ў лягерах.

Рэпэртуар меў свае асаблівасьці. Пастаўленыя пад кіраўніцтвам прафэсіянала Вячаслава Сэляха-Качанскага п’еса Тодара Лебяды „Загубленае жыцьцё“, музыку да якой напісаў Алімпі Мяленьцьеў (спэктакль суправаджаўся сьпевамі хору з 24 асобаў), „Шчасьлівы муж“ Францішка Аляхновіча, Купалаўская „Паўлінка“, „Пінская шляхта“ ішлі з аншлягам, але ўсё ж мелі меншы посьпех, як пастаноўкі кшталту „Дажынкі“ й „Купальле“, упершыню паказаныя гледачу ў лягеры Рэгенсбург у 1946 г.

Вялікім посьпехам карысталася „жывая газэта“.

Тэатральная група пад кіраўніцтвам Міколы Куліковіча-Шчаглова стварыла нешта падобнае да тэатру мініятураў, калі ў адным „спэк-







Bielaruskaja Teatralnaja Studyja
Belarussian / Whiteruthenian / Artistik School

Piersaja Bielaruskaja Teatralnaja Studyja na emihracyi.
[Infarmacyja z Bielaruskaha kulturnaha zyccia]

U Amerykanskaj zonie Niamieccyny', u Bielaruskim D. P. lahiery (Michelsdorf b. Cham) adcynilasia Bielaruskaja Teatralnaja Studyja, jakaja maje na mecie padrychtavac novyja artystycnyja sily dla reprezantacyi bielaruskaha teatralnaha mastactva na emihracyi.

Zasnavalnikam i mastackim kiraunikom Studyi zjaulajecca Sp. Auhien Kavalieusky, znany mastak bielaruskaje sceny.

Sviedamaje bielaruskaje hramadztva horaca vitala adkryccio Bielaruskaje Teatralnaje Studyi u Michelsdorfie, deklarujucy maralnuju j mataryjalnuju padtrymku Studyi.

Tearytycny (padrychtoucy) kurs Studyi razlicany na 4 miesiacy.

Z casam Bielaruskaja Teatralnaja Studyja maje peratvarycca u staly Bielaruski Teatar-Studyju, jaki budzie absluhouvac bielaruskaje hramadztva j hramadztva insych nacyjanalnasciau na emihracyi.

Kiraunictva B. T. S.

Абвестка пра заснаваньне Беларускай тэатральнай студыі
пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага

таклі“ спалучаўся аднаактавы вадэвіль, акрабатычныя нумары ў выкананьні скаўтаў, патрыятычныя песьні, народныя танцы.

Ахвотных выступаць на сцэне было гэтак шмат, што 10 чэрвеня 1947 г. у Остэргофэне пачалі дзеяць Тэатральная студыя беларускага драматычнага тэатру й Тэатральная студыя беларускага народнага ансамблю. Агульны курс навучаньня плянаваўся тры месяцы, пасьля чаго мусіла быць „стажыроўка“ — непасрэдна на сцэне. Студэнтам прапаноўваўся інтэрнат; падчас навучаньня яны мусілі засвоіць сцэнічную мову й мастацкае чытаньне, майстэрства грыму, рытм і плястыку, танцы, тэорыю музыкі, гісторыю літаратуры — як беларускай, гэтак і клясычнай, гісторыю драматургіі, тэатральную гімнастыку й спорт.

Толькі лічаныя з п’есаў, ці, дакладней кажучы, сцэнарыяў, трапілі ў друк і такім чынам захаваліся. У часопісе „Шляхам жыцьця“, выданым у Ватэнштэце, была выдрукаваная казка „Ў Калядную ноч“[91] Сьвятаслава Каўша, аўтара, які яшчэ ў 1943 г. у „Баранавіцкай газэце“

[91] Шляхам жыцьця. №12. 25 сьнежня 1946. С. 15—23. Было й асобнае выданьне: Коўш, Сьвятаслаў. У Калядную ноч. Сцэнічны мантаж для дзяцей. Выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту ў Ватэнштаце, 1946.


Bielaruski Kancertny

ANSAMBL

Whiteruthenian Theatrical Croup

16. 4. 1946

1.

Outside performance of the Whiteruthenian National Croup

2.00—2.30 p. m. children's performance

2.30—3.30 p. m. concert of Whiteruthenian songs

1. Choir — Whiteruthenian National songs
2. Whiteruthenian duets
3. Whiteruthenian songs and arias
4. Whiteruthenian Folklor songs
5. Whiteruthenian Folklor Ensemble
6. Arias from the Whiteruthenian operas
7. Choir- Whiteruthenian national songs

3.30—4.00 p. m. show of Whiteruthenian dances

2. "Polka"
5. "The flax", Whiteruthenian dance, performed by girls-scouts

4.00—5.00 p. m. concert of Whiteruthenian songs and dances

2. Whiteruthenian "Lubok"
3. The folklore songs group
7. Folklore songs
8. Women's quintet

Улётка пра выступ Беларускага канцэртнага ансамблю ды праграма „Беларускага шоў“ у траўні 1946 г.

зьмясьціў гістарычную драму „Рагвалодава крыўда“, і літаратурна-мастацкі драматычны мантаж Хведара Ільляшэвіча „Ў Купальскую ноч“[92].

Абодва аўтары скарысталі казачных пэрсанажаў для стварэньня на сцэне нацыянальна-патрыятычнай фээрыі — з выхаваўчымі мэтамі. Калі ў першай зь іх Бацькаўшчына толькі згадваецца адным з герояў, дык у другой ідэя служэньня ёй кладзецца ў падмурак сюжэту: хлопчык у пошуках папараць-кветкі трапляе ў сьвет фантастычных іррацыянальных істотаў, і будзіць яго толькі стары скаўт (згадаем: *Стары Скаўт* — адзін з псэўданімаў Хведара Ільляшэвіча). Прачнуўшыся, хлопчык далучаецца да вызваленчага руху:

*Мы — праўда,*
*Мы — сіла,*
*Мы — радасьць,*
*Мы — рух,*

[92] С. З. У Купальскую ноч. Літаратурна-мастацкі мантаж для дзіцячага тэатру // Шляхам жыцьця. №6. 24 чэрвеня 1946. С. 11—17.





*Выцягваем крылы*
*Мы ў сонца, ў зару.*
*Мы ймкнем на узвышшы,*
*Нам межаў няма.*

*Здаецца нам прышласьць*
*Праменнай, як май!*
*Ніхто нас ня спыніць*
*У лёце да зор!*

*Мы імпат няўпынны,*
*Мы — моц,*
*Мы — віхор!*
*Мы выйшлі з народу,*
*З Крывіцкай сям'і,*

*І ў кожнай нагодзе*
*Зь ім побач стаім.*
*Мы з краем каханым*
*Расьцём угару.*

*Мы — сьвежасьць,*
*Мы — раньне,*
*Мы — радасьць,*
*Мы — рух!*[93]

Алесь Змагар пераўтварыў казку „Рэпка“[94] ў драматычную сцэнку таксама з павучальным зьместам — пра неабходнасьць паразуменьня ў нацыянальнай сям'і, каб не зьвяртацца па дапамогу да чужых і самім даваць сабе рады.

Блізкія па сэнсу й творы Натальлі Арсеньневай, што ставіліся ў Рэгенсбурзе, — „У гасьцёх у Каляды“ й мантаж у трох дзеях „Кастусь Каліноўскі“.

Не цураўся гэтага жанру й Антон Адамовіч. У часопісе „Сакавік“ пад псэўданімам С. Смутніца ён выдрукаваў літмантаж „У Месячных сецях“[95] зь вершаў Максіма Багдановіча, у цэнтры якога вобраз героя, які сузірае казачны сьвет зьмей, вадзянікоў, русалак. Па сутнасьці, праз

[93] С. З. У Купальскую ноч... С. 17.

[94] Змагар, Алесь. Рэпка. Казачны абразок. Лінц, 1946.

[95] Смутніца, С. У Месячных сецях // Сакавік. №2 (3). Остэргофэн, 1948. С. 6—9.

сродкі драматычнай інтэрпрэтацыі адбывалася знаёмства маленькіх наведнікаў, скаўтаў з творчасьцю клясыка.

Тыя тэатры ў колькасьці гледачоў і актораў прайгравалі хіба толькі іншаму тэатру — палітычнаму.

Пазасталыя дакумэнты ўсё ж сьведчаць пераважна пра нейкія незвычайныя падзеі (як паляваньне за невядомым аўтарам улёткі), што выклікалі патрэбу, жаданьне паведаміць у лістах, зафіксаваць для памяці ў дзёньніку. Нашае ўяўленьне пра рутыннае, побытавае жыцьцё даволі цьмянае, і таму асаблівую цікавасьць выклікае знойдзены ў архіве Антона Адамовіча сшытак, названы проста — „Частка І“ — і датаваны 17.04.1948 г.

Сшытак напісаны рукой Адамовіча, прычым відавочна — паводле почырку ды атраманту — што пісаўся тэкст не за адным разам. Твор не мастацкі, дый заўвагу Вітаўта Тумаша, зробленую ў лісьце да Віцьбіча з нагоды „Ўсяночнай“, што *„аўтар [Адамовіч], па ўсім характары сваёй творчасьці наскрозь празаік-рэаліст, адбівае там з своым сабе натуралізмам...“*, можна цалкам дастасаваць тут таксама. І хоць пра наведваньне лягеру Ватэнштэт (БЦР) Адамовічам (БНР) тымчасам невядома, героі ў тэксьце — рэальныя, таму й адлюстраваным там падзеям можна верыць, робячы адпаведную карэкцыю на партыйную заангажаванасьць аўтара вершыку на матыў Янкі Купалы:

*— Хто ты гэткі?*
*— Крывічанін!*
*— Чаго хочаш?*
*— Тое стане.*
*— Што ж настане?*
*— Край паўстане,*
*Люд расстанецца з прымусам.*
*— Чым быць хочаш?*
*— Ня быць „русам“!*

* * *

*„Цёплы красавіцкі вечар пахне сьвежаю вясною, маладымі лісткамі распускаючых дрэў ды, рэдка павяваючы, вецярок нясе яшчэ за сабою астаткі смародуючага пылу і сажы ад фабрычных трубаў Ватэнштэту...*

*Дзённы шум машынаў, уключыўшы ў сябе ажыўленыя крыкі дзяцей і гутарку бесклапотных жанчын, часам прымаючы незвычайны характар, зьмяніўся прывабнаю мёртвай цішынёй...*





*У паветры, нібы дзесь з расчыненай бутэлькі каштоўнага французскага парфюму, уносіцца чуць прыкметны прыемны пах, які калінікалі перабіваецца досыць непрыемным смуродам, цягнучыся зь сьмецьцевых ямаў і рознай тлені па-за нізкімі дашчанымі баракамі лягеру.*

*Я накіраваўся да клюбу, надзеючыся знайсьці нешта падобнае, што змагло б мяне вывесьці із стану таямнічай засмучонасьці, прычыны якой, часам, ня ў сілах кожны з нас растлумачыць, хоць крыжуюцца яны амаль усе ў адным агульным пункце, але выходзяць да розных шляхоў. Яны ці ўюцца чуць прыкметнымі сьцежкамі да досыць даходных і карысных спраў і задавальненьня свайго ціхага прахудалага існаваньня, ці набыцьця славы шляхамі бясьсьмертнага Нэрона. Хоць імя яго, мажліва, застаецца недаступным для распазнаньня тоесамасьці сярод кустарнікаў і зарослых быльнякоў, дзе, на думку маладых вынаходцаў з прыпазьнелымі розумамі, не праходзіла ні адна нага, ці ідуць уніз. У іншым выпадку, гістарычныя факты настолькі няточныя ў параўнаньні з разьвіцьцём сучаснай тэхнікі, што некалькі тысячагодзьдзяў змогуць павярнуцца разам з усёю зямлёю і заляцець далёка наперад, ці зьявішча, процілеглае гэтаму, можа здарыцца таксама. Інакш кажучы, чалавек, які ўвесь час аддаваў па кавалку свайго здароўя для выздараўленьня Бацькаўшчыны, пад старасьць можа зусім нэрвова расстроіцца і перад сабою больш нічога жывога не зайважаць, у той час чуцца зусім здаровым і працаздольным на арганізм, што дае мажлівасьць адкрываць усё навейшыя і навейшыя вынаходы для жывой душы, інакш кажучы, для Бацькаўшчыны, і быць, так сказаць, нечым падобным да Спартака, Цэзара ці да навейшага героя Напальёна Банапарта. Але бывае часам і такая трагедыя, што ўсе рыскі характару, або некаторыя зь іх, не супадаюць з характарам гэтых выдатных герояў, тады нешта агульнае патрэбна падшукаць у найбольш вядомага палкаводца, хоць з крыху нетактычнымі мэтадамі для таго часу, Дон-Кіхота.*

*Аб тых, хто аказаўся пад нагамі, увогуле няма чаго гаварыць. На іх зараз, пакуль што, увагі не зьвяртаюць і так.*

*Зялёна-сіняе цёмнае неба загарэлася тысячамі мігаючых зорак, такіх прыгожых і вабячых у прасторы бязьмежных абшараў. Але я неяк прастадушна гляджу на ўсё.*

*Да майго вуха далятаюць гукі прыцішанага незразумелага шэпату аднекуль недалёка. Хоць я ні стараўся зьвяртаць увагу на іхныя сакрэты, але досыць сьмешныя і да некаторай ступені дзікія*

*паводзіны іх мяне зьдзівілі. Я затрымаўся каля вакна свайго пакою, разглядаючы ў цемнаце кучу дроў, навожаных суседам із лесу, якія чакалі немца з бульбаю ці мясам, розныя панакіданыя палкі і анучы, што жанчыны часам мыюць падлогі ў сваіх пакоях, ды і самому калінікалі прыходзілася трохі навадзіць парадак, на нейкую каляску новую, пастаўленую тут, драты рознай формы і шмат іншай усячыны, на якую да гэтага часу я ніколі не зьвяртаў увагі.*

*Дзяўчынка адзывалася па імю да свайго кавалера, і мне было ўжо ўсё вядома, у чым справа, толькі з трудом верылася, што гэтае дзіцё забаўляецца ў такія забаўкі. Бо ўсім недарослым да 14 гадоў давалі малако на кухні і шакаляд, што, ці па свайму мізэрненькаму выгляду ці па далікатнасьці бацькоў, сумела выкарыстоўваць і яна.*

*Гэта зусім ня дзіва, што ў жыцьці кожнага бываюць ці то маленькія непаразуменьні, ці то проста памылкі, якіх самому трудна й распазнаць, хоць чужому тут няма зусім ніякай справы. Калі часам прыяжджаюць ангельцы праверыць стан здароўя малышоў да 14-ці гадоў, і сярод іх трапляюцца некалькі дзясяткаў з крыху звышнатуральным ростам, то гэта не бяда, бо з пачаткам вайны лічбу сваіх гадоў можна пераблытаць. Гэта зусім не патрабуе доўгіх доказаў, падобных геамэтрычным тэарэмам па альгебры, а проста чалавек, перажыўшы цяжкія пэрыяды бамбардзіровак, трэскі розных франтоў, можа забыцца ня толькі на гады, імя бацькі, маткі, бабкі, дзедкі і яшчэ штось.*

*Няхай сабе кожны ўявіць такія зьявішчы. Жывём недзе на Нямецкай вёсцы. Тата, мамка тут. Толькі вось свайго старога дзядулю ня ўсьпелі захапіць перад уцёкамі ад рускіх. І колькі перажываньняў, колькі сьлёз, колькі ўспамінаў. Няхай бы і ён сабе крыху спакойна тут адпачыў.*

*— Наш бедны дзядулька! Няхай яму Бог дапаможа ў тым праклятым іхнім калгасе. Але нічога ня зробіш. Такі ўжо час нам Бог паслаў. Гасподняя Воля.*

*Толькі вось я заўсёды завідую іншым самотным. Ён — як маятнік, дзе павярнуўся, там і ўсё. Ні аб кім ні клапот, ні забот. Бог ведае, дзе хто дзеўся...*

*Бывала, пачуеш, за некалькі дзясяткаў ці соцень кілёмэтраў разбамбілі горад амэрыканцы. Колькі страху. Колькі турбот. А як тыя рускія, бандыты, яшчэ страшней. Лягаш спаць — так сэрца й стукае, каб бомба хоць тутака не звалілася.*

*О, Божа, Божа!..*





*Мы ўжо і не пісаліся беларусамі. Бо дадуць, дзеткі, гэты OST немцы, а потым прыдуць рускія ды забяруць. А так хоць Ды-Пі, ня так страшна.*

*Гэта яшчэ каменныя людзі, што такі страх перажываюць.*

*Пачуеш, бывала, як кулямёты праклятыя трашчаць, так і ўсё... Хоць закапывай ужо ў магілу... Усе нежывыя.. Колькі страху... А зараз гэтыя скрынінгі яшчэ на нашую галаву навязаліся... Усё калаціся... Усё бойся...*



Каля лягеру ў Міхэльсдорфе.
Паўла Урбан і Галіна Русак

*Закаханую пару прыкрывае ад дарогі штабэль складзеных дроў пад сьцяною барака, і з другога боку стаіць будка, зробленая із іржавай бляхі, для курэй, якая захоўвае іх ад падаючага ваконнага сьвятла. Хвіліны іхняга шчасьлівага каханьня запаўняліся вясёлым сьмехам і размовамі на розныя тэмы, хоць крыху ў нязручным месцы, бо занадта шмат нехта пазносіў сюды паламаных ложкаў і розных жалезных рэчаў.*

*З прычыны той, што закаханы кавалер крыху падвыпіўшы, то тэма яго размовы часам даходзіла да нявытрыманасьці, і цяжка ўсяму паверыць, але супярэчыць таксама непрыемна, то ёй заставалася толькі маўчаць і слухаць. У іншым выпадку — згаджацца.*

*Нарэшце ён ураўнаважыўся і распачаў больш-менш паважную размову, інакш кажучы, тое, што ён хацеў сказаць ёй за ўвесь вечар:*

*— Ты, М., ведаеш, колькі я дома маю штаноў і сарочак? Каб я зараз прывёз сюды дзясятую частку, то быў бы самы багаты ў гэтым лягеры, хоць я іх і так маю досыць. Можа, болей, як хто іншы. Ты падумай, я добра зарабляю штодня. Як паеду ў Гамбург з цукерамі на чорны рынак і адтуль прыеду зь селядцамі, то маю найменей з*

*тысячы марак за 3 дні. А дома хватае таксама ўсяго. Гэта, што на кухні атрымоўваем, то аддаём жабракам-немцам. Гэта для мяне барахло! Я хочу жаніцца, М. Купіць проста дом у немцаў і жыць. У мяне грошай хваціць! Ты бачыш, я штодня п'ю малясоўку*[96].

*Паколькі маёй мэтаю было пайсьці ў клюб, я прыбавіў крокі і пайшоў далей.*

*Із Народнага дому — так называюць тут лягерны клюб — даносяцца сьпевы, грукат, абрыўкі слоў, нарэшце, цэлых выразаў, падобных на выкананьне роляў нашых найлепшых лягерных артыстаў у прадстаўленьні новай драмы нейкага невядомага аўтара, дзе пастаноўкі так дзейнічаюць на ўражаньні гледачоў як сюжэтам твору, так і талентамі выкананьня артыстаў, хоць, часам, яны не падыходзяць да віду такой прафэсіі, што жыхары зь вялікім задавальненьнем раскупліваюць устаноўленыя па цане чорнага рынку білеты, каб паглядзець ня што і як выконваецца, а толькі хто выконвае. А нат болей: што няма дзе дзецца і што рабіць у вольны дзень ад працы.*

*На вялікую шкоду для мяне, тут нікога не было. Толькі пару гімназістаў із І-га курсу сабралі малых дзяцей і паднялі гэты шум.*

*Пры першым маім зьяўленьні ўсе малыя, нібы спалоханыя мышы, на міг заціхлі, павярнуўшы да дзьвярэй свае разгубленыя твары. Большыя, не зьвяртаючы ні на што ўвагі, скакалі адзін другому на плечы і езьдзілі па сцэнічнай пляцоўцы, выдаючы нейкія асаблівыя цікавыя галасы.*

*Але таму, што Народны дом ніколі дарэмна не адчыняўся, і запаленыя лямпы ў ім сьведчылі аб нечым новым, я парашыў запытацца, у чым справа.*

*— Што вы тут робіце?*

*— Гуляем!*

*— А хто вас сюды ўпусьціў?*

*— Самі прыйшлі!*

*— Што тут будзе сёньня?*

*— Агульны сход.*

[96] Назоў гэты паходзіць (магчыма, праз польскую мову) ад *molasses — a thick brownish syrup produced in refining raw sugar*. „Ангельска-беларускі слоўнік“ Валянтыны Пашкевіч перакладае *molasses* як „патаку“. З гэтай цукровай цёмна-карычневай патакі аматары выпіць рабілі самагон і назвалі яго паводле крыніцы паходжаньня.





*Гімназісты не пераставалі забаўляцца і так крычалі, што цяжка было распазнаць размову малышоў, ды яны і самі заняліся сваёю справаю, я вырашыў пакінуць іх у спакоі.*

*Наперадзе перад мною вырасла высокая тонкая постаць чалавека ў вялікім капялюсе і ботах з высокімі галянішчамі і галіфэ. Ён некуды сьпяшаўся.*

*— Ідзіце хутка на сход! А то адзін другога чакаюць, а то прыйдзе паглядзець і зноў назад.*

*— У выніку чаго ён адбудзецца?*

*— Інфармацыйны па выбарах!*

*— Там толькі дзеці.*

*— Зараз усе будуць!*

*Старшыня выбарчай камісіі, у той час загадчык кухні і кладаўшчык бульбяного складу сп. Мілішкевіч, падаўся далей. Ён мяне яшчэ паведаміў, што ўжо час адбыцьця гэтага сходу даўно мінуў з прычыны нясвоечасовага збору жыхароў лягеру. Было чуваць, як бляковыя бегалі кожнаму на кватэру, бразгалі гучна дзьвярыма, крычэлі:*

*— На сход! Не марудзьце часу! Ужо даўно вас усе чакаюць!*

*Нейкі новапрыбыўшы стары гучным голасам адказаў так, што добра чуваць стала на дварэ (таму што ўсе баракі тут зробленыя із дошчак):*

*— Я нічога ня знаю! Выбірайце там безь мяне!*

*— Гэта ня выбары, а толькі сход!*

*Мала-памалу насабіралася 54 асобы, хоць іх даўно надаела кіраўнікам чакаць у пакоі камэнданта лягеру. На сцэну выступіў Сьвятаслаў Коўш*[97] *— камэндант гэтага лягеру.*

*— Паважаныя сябры! Я дазволіў сабе сёньня склікаць агульны сход жыхароў лягеры АВС у Ватэнштэце! Першым пытаньнем, якое стаіць перад намі, гэта будуць надыходзячыя выбары ў Беларускую Цэнтральную Раду. Але для вядзеньня агульнага сходу патрэбна выбраць кіраўніцтва — старшыню і сакратара. Так што, паважаныя сябры, прашу падаць кандыдатуры.*

[97] **Сьвятаслаў Коўш** (1917—1997), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, сын сьвятара Аляксандра Каўша. Падчас Другой сусьветнай вайны ў канцы 1943—1944 гг. — начальнік Клецкага павету. У 1944 г. эміграваў на Захад. У паваеннай Нямеччыне — камэндант беларускага лягеру ў Ватэнштэце. З 1949 г. — у ЗША. Стаў праваслаўным сьвятаром, у 1976—1986 гг. быў адміністратарам беларускіх (кананічных) парафіяў у Паўночнай Амэрыцы.

*Ён яшчэ не закончыў прамовіць апошняга слова, як некалькі чалавек разам закрычалі на ўсё горла:*

*— Пунтус!*

*Па клюбе рэха пракацілася, як па пустой бочцы, і зноў заціхла.*

*— Сакратаром, паважаныя сябры, я вызаву сп. Хведара Ільляшэвіча. А зараз вы ўзнаеце дакладна ад старшыні агульнага сходу сп. Пунтуса аб умовах нашых майбутніх выбараў. Усе вас цікавячыя пытаньні зь вялікаю ахвотаю і задавальненьнем будуць растлумачаныя сп. Пунтусам. Прашу заняць месцы!*

*Абапёршыся дзьвюма рукамі аб стол і схіліўшы ўніз уцягнутую ў плечы галаву, малады мужчына, год прыблізна 30-ці, досыць грубым голасам, з запынкамі амаль на кожным слове, прагаварыў:*

*— Паважаныя спадары!.. Сход... Агульны сход... Я сёньня лічу адкрытым... Першым пытаньнем... на павестцы... дня... будзе... гэта... выбары... у Беларускую Цэнтральную Раду... із ангельскай акупацыйнай зоны... і другім... гэта... іншыя...*

*Па-першае... З прычыны таго, што наш беларускі... народ... павінен выбраць сабе кіраўніцтва... якое будзе клапаціцца над намі... тут... на эміграцыі... Для гэтага... мы павінны... заўтра... 18 красавіка 1948 г... выбраць сабе прадстаўніцтва... у Цэнтральную Раду... із Брытанскай акупацыйнай зоны...*

*Там ёсьць тры сьпіскі... кандыдатаў... Першы — гэта наш... Другі — Гановэрскі... Трэці — Зээдорф... Пачнуцца выбары ад васьмі... гадзін дня... да дзесяці гадзін вечара... Каму што незразумела? Калі ласка!*

*Досыць салідны па свайму вонкаваму выгляду, з зачэсанымі ўгару завітымі чорнымі валасамі, робячы адкрытым, хоць вузкім, лоб, і напушчаныя нізка бровы з калючымі чорнымі вачыма прыдаюць досыць суровы выгляд твару. Крыху прагнутае наперад тулава з кароткімі нагамі надаюць падабенства чалавеку, які аднекуль вылез, дзе мала каго было, ці закалёны характарам новага жыцьцёвага кірунку. Кажацца, што новыя абставіны зь іншым сьветам не пакінулі ніякіх сьлядоў сваёй дзейнасьці, абудзіўшы ўнутры барацьбу зь цяжкімі супярэчнасьцямі.*

*Выпрастаўшыся і пакачнуўшыся з аднаго боку на другі, ён абвёў вачыма заль.*

*— Ну, калі ласка... Каб тады ня бегалі... за вугламі... ці да суседзяў... ды балталі, што гэта несправядліва... што нешта не зразумелі... не ўзбуджалі людзей...*





*Нехта з задніх радоў прагаварыў ціхім голасам:*

*— А хто ўзбуджае, калі ня вы.*

*Зноў наступіла сьмяротная цішыня. Было б чуваць, каб якая-небудзь блудная муха заляцела ў гэты клюб і праляцела цераз увесь заль. Пару старэйшых мужчынаў, што нейкім выпадкам папалі сюды, мусіўшы прымусова слухаць гэтую нескладаную мову аратара, упёрліся неяк упарта ў зямлю сваімі вачыма і калі-нікалі паглядаючы на Пунтуса, як на ашалелага быка.*

*Трохі падвыпіўшы паліцай, што стаіць на ахароне ў дзьвярэй, прысланіўшыся плячыма да жалезнай шафы каля сьцяны, часта пазяхае, шырока раскрываючы рот, із заплюшчанымі вачыма, праснуўшыся, напэўна, ад гарачых слоў прамоўцы, мэханічна хватаецца за белую павязку на рукаве, як жаўнер, баючыся загубіць зброю, папраўляе яе і зноў застаецца ў спакою.*

*— Я зьвяртаюся яшчэ раз... давайце запытаньні!.. Няма!.. Тады я папрашу нешта... сказаць... спадара Каўша.*

*Пунтус, цяжка апускаючыся, сеў на стул, падпёршы твар рукамі і, нібы разгублена, нібы зь недаверам ці падазрэньнем, аглядае прысутных. Із другога раду ўстаў высокі стройны мужчына, апрануты ў чорны пінжак і жоўтыя стракатыя галіфэ ў хромавых ботах, чуць не на высокіх каблуках. Ён з апушчаную ўніз галавою, робячы шырокія шагі, выйшаў на карытападобную залю. Яго доўгія тонкія вушы, неяк войстра ўзьдзёрнутыя ўгару, надаюць падабенства добрага аратара ці, у крайнім выпадку, быць добрым сьвяшчэньнікам, а мутныя вочы, абыякава гледзячыя на ўсё акружаючае, хаваюць хітрую ўсьмешку.*

*Коўш стаяў нібы ўтаміўшыся ці ў нечым расчараваны, з пакрыўджаным і зусім безнастраёвым выглядам, і на твары застыгла халодная ўсьмешка. Мыляючы губамі паўрасчыненага роту, ён нібы абнюхваў сваімі кароценькімі чорнымі вусамі згушчаную вячэрнюю атмасфэру.*

*Трое мужчын, а потым яшчэ некалькі ўсталі і накіраваліся да выхаду. Яны пакінулі заль.*

*— Паважаныя спадары! На долю... майго лёсу... прысуджана было стаць камэндантам беларускага лягеру ў Ватэнштэце. Гэта было тры гады таму назад — у самыя цяжкія хвіліны нашага жыцьця. Калі шмат каму пагражала апаснасьць з розных бакоў, калі ў кожную хвіліну можна было надзеецца на рэпатрыяцыю, калі ў кожную*

*хвіліну можна было разлучыцца з жыцьцём. І гэты сьвяты абавязак паў на мой лёс. Тады я быў для ўсіх добры. Я ня хочу сябе хваліць, як думае можа хто із вас, таму што зьяўляюся кандыдатам на выбары. Але дазволю сабе сёньня зьвярнуць вашую ўвагу на акружаючыя нас абставіны.*

*Апынуўшыся на эміграцыі, кожны із нас марыць аб пакінутым родным краю, дзе ён нарадзіўся і жыў. Кожны із нас зь вялікім цяжарам на душы чакае тэй хвіліны, калі ён зможа шчасьліва зьвярнуцца на свае пакінутыя палеткі, зарослыя травою і быльняком. Але сёньняшнія абставіны ў лягеры шмат каго турбуюць. Шмат хто яшчэ не арыентуецца ў тым, што творыцца навокал, у той час сымпатызуючы іншым групоўкам, якія варожа настроены нашай нацыянальнай справе, якія не прызнаюць і ня хочуць прызнаць акта 25 сакавіка. І прыйдзе час, калі яны апомняцца, або мы іх прымусім прызнаць свае памылкі, хоць, можа, будзе і позна для каго.*

*Некаторых дзівяць падзеі, якія адбываюцца навокал нас. Усякія групоўкі, то крывіцкія, то дрыгавіцкія, то зарубежніцкія, то дэмакраты, то сацыялісты, то эсэры і шмат іншых, якіх трудна і ўспомніць. Але зь іншага боку, паважаныя сябры, калі паглядзець на жыцьцё ў іншых лягерох, то што мы там заўважаем?*

*Для прыкладу, возьмем украінскія лягеры. Галічане ня хочуць украінцаў зь вялікае Ўкраіны і хочуць аддзяліцца, казакі патрабуюць сваёй аўтакефаліі, а закарпатаўцы сабе. Творыцца такая неразьбярыха, што цяжка і разабрацца шэраму чалавеку. А што тады нам застаецца рабіць?*

*Нарэшце, калі ўзяць польскія лягеры. Там, паглядзім, адзін падтрымоўвае Мікалайчыка*[98] *, другі ідзе супраць яго. Адзін едзе ў Польшчу, другі вяртаецца назад. Увогуле, абставіны на сьвеце запутаныя, і нам цяжка разабрацца.*

*Што датычыцца нашага лягеру, то мы заўважаем тут наступнае. У мінулым годзе ў нас выбухнула магутная групоўка крывічоў, якія хацелі пашкодзіць нашаму грамадзкаму жыцьцю на эміграцыі. Яны хацелі перайменаваць нашую Бацькаўшчыну. Яны хацелі ўзяць уладу ў свае рукі. Але ж, на вялікі жаль для іх, зь іхніх плянаў нічога ня выйшла. Народ іх разьбіў і выселіў зь лягеру. Дзе яны зараз жывуць і з кім, невядома.*

[98] **Станіслаў Мікалайчык** (*Mikołajczyk*) (1901—1966), польскі палітык, прэм'ер польскага ўраду на выгнаньні падчас Другой сусьветнай вайны.





*Але гэта яшчэ не канец. У нас засталіся паасобныя людзі, якім нешта не падабаецца. І дастаткова толькі назваць кожнага прозьвішча, як я скажу, да каго ён належыць і куды ён цягне. Аб гэтым, паважаныя сябры, будзьце ўпэўненыя! Я не памыляюся!*

*І што далей? Калі на сьцяну павесіць аб'яву, што ў клюбе будзем дзяліць нейкія лахманы ці дадуць па кавалку хлеба, то ўсе б зьявіліся сюды! І так забілі б гэтае памешканьне, што і не прайшоў бы. А калі сказалі — агульны сход жыхароў лягеру і патрэбна кожнаму зьявіцца, то нікога. Гэта не цікавіць і ніхто не ідзе. Калі і прыйшоў, то паслухаў, што для яго гэта не падабаецца — сабраўся і назад дадому. Такія адносіны да нацыянальнай справы нікуды ня годныя!*

*Будзьце ўпэўнены, паважаныя сябры, калі затрашчыць скура на мне, то затрашчыць і на кожным із вас! Тады пабачым, хто будзе вінаваты, а хто апраўданы. Ці вы, ці я! Калі хто не разумее і ня хоча зразумець, супрацоўнічаючы з кім іншым, то тады будзе позна. Гэта не дзяліць нешта ў складзе — сігарэты ці лахманы, гэта — вырашэньне нацыянальнай справы. Правакацыйнае ўзбуджэньне народных масаў прыйдзе, урэшце, некалі зноў да рашучага канца. Калі было кожнаму паведамлена, што адбудзецца сход па прычыне выбараў у Цэнтральную Раду, то гэта нікога не цікавіць! Шкода, што няма чырвонага капялюша. Можа, камэндант лягеру зьняў бы перад некім, і тады прыйшлі б усе на агульны сход? А так нейкіх маем 700 жыхароў, калі ня болей, а прыйшло толькі паўсотні, калі яшчэ й гэта ёсьць! Нішто вас не цікавіць! То што ж тады вам цікава?*

*Запомніце толькі адно — хто задумае правакаваць ці байкатаваць нашую нацыянальную справу, то абіжайцеся тады ўжо самі на сябе.*

*Я закончыў. Я думаю, трохі падрабней па пытаньню выбараў нам растлумачыць спадар старшыня выбарчай камісіі Мілішкевіч.*

*Коўш сеў на сваё старое месца. Некалькі прысутных зноў выйшлі. Запанавала зноў цішыня.*

*Із самага пераду, з занятых лавак, устаў высокі худы мужчына. Яго закручаны тонкі нос пахож на дзюбу савы:*

*— Я вам толькі магу сказаць адно, — скрыжаваўшы рукі на грудзях, як мусульманін перад малітваю, — што нідзе я ня бачыў, каб старшыня выбарчай камісіі даваў указаньні ці растлумачэньні ў дачыненьні да выбараў, а ні ў польскіх, а ні ў нямецкіх, а ні ў якіх іншых. На гэта ёсьць адпаведныя органы, якія вядуць гэтую справу. Я яшчэ раз паўтараю, што я нідзе гэтага ня бачыў.*

*Ён гаворыць хутка і без затрымак.*

*Праслухаўшы ўсё з зацікаўленьнем, запрасіў слова настаўнік гімназіі Васілеўскі. Ён гаварыў вельмі доўга, паўтараючы тыя самыя пытаньні ў вельмі пашыраным маштабе. Уносіў свае папраўкі з досыць глыбокім пачатковым зьместам, хоць пад канец яны сходзяць амаль у нішто. Але паколькі ён зьяўляецца вельмі добрым пэдагогам і зь немалым стажам працы, то ў яго выпрацавалася досыць прыемная рысачка характару — захоўвацца на сходах і ўвогуле ў грамадзтве. Гэта вельмі задавальняе прысутных, а ў асаблівасьці кіраўніцтва лягеру, хоць каб слухаць, заўсёды трэба мець пару таблетак у кішэні ці, у іншым выпадку, перад сходам трэба выпіць пару стаканаў моцнай кавы".*

## Скаўтынг

Тэатар — ва ўсіх сваіх лягерных праявах — быў далёка не адзіным інструмэнтам, з дапамогаю якога старэйшае пакаленьне намагалася выхоўваць моладзь у сваіх традыцыях і аберагала ад чужынскіх уплываў — нямецкіх, польскіх, расейскіх, украінскіх. Скаўтынг — вось дзе была зброя!

1946-ты быў юбілейны для беларускага скаўтынгу: споўнілася 25 гадоў ад заснаваньня першага зьвязу ў Клецкай гімназіі. За ёю, у 1922 г., былі заснаваныя дружыны ў Віленскай беларускай гімназіі. У Вільні праз год існавала ўжо больш за 100 беларускіх скаўтаў, у 1926—1929 гг. тут дзеяла скаўцкая арганізацыя „Сёстры вогнішча"[99].

Ані за Саветамі, ані падчас вайны дзейнасьць скаўтаў дазволеная не была. Арганізацыя аднавілася ў Нямеччыне, у лягеры Ватэнштэт, дзе 6—8 ліпеня 1946 г. адбыўся першы зьлёт дэлегатаў з усіх акупацыйных зонаў. Тады і заснавалі Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне (ЗБСЧ) ды абралі галоўнае кіраўніцтва: Вацлаў Пануцэвіч — галоўны кіраўнік (шэф скаўтаў), Валянціна Жукоўская — галоўная кіраўнічка скаўтак, Д. Сямёнаў — рэфэрэнт прапаганды, Віктар Войтанка — рэфэрэнт міжнароднай сувязі ды інш. Ватэнштэт таксама прызначаўся Галоўнаю кватэраю ЗБСЧ.

У 1947 г. арганізацыя атрымала афіцыйнае прызнаньне ад лёнданскага Міжнароднага скаўцкага бюро, што было вельмі важнаю справаю[100].

[99] Skaut. Časapis Kryvickich skautau. №6. Лістапад 1946. С. 3—4.
[100] Skauckaja Infarmacyjnaja Služba. №9. 1947. С. 2.






Zhurtavannie Bielaruskich Skautau

Skautmajstarskaje Pasviedcannie
Scoutmaster Certificate

№

Registered with DP Division, Boy Scouts International Bureau (No 1, 2, 3 DPWR) 30. 12. 1947.

Whiteruthenian Scouts Association

Пасьведчаньне беларускага скаўтмайстра

Ужо ў 1948 г. ЗБСЧ налічвала 512 сяброў і сябровак у пяці штандарах у трох акупацыйных зонах. Паводле веку: ваўчанятаў — 80, юнакоў — 80, скаўтаў — 75, старэйшых скаўтаў — 80, сталых скаўтаў — 35; пралесак — 50, юначак — 55, скаўтак — 25, старэйшых скаўтак — 20, сталых скаўтак — 12[101].

Было чым пахваліцца і ў выдавецкай галіне: скаўцкіх часапісаў — 6 найменьняў (10 тысяч асобнікаў), спэцыяльнай літаратуры — 15 найменьняў, мастацкай і навукова-пазнавальнай літаратуры — 25, а таксама каляндар на 1948 г, паштоўкі, скаўцкія й нацыянальныя значкі[102].

Цікавыя дэталі зь лягернага побыту й жыцьця скаўтаў занатаваў Кастусь Верабей; чытаючы іх, разумееш троху лепей характар і настрой тагачаснай моладзі:

[101] Skauckaja Infarmacyjnaja Služba. №14. 1 лістапада 1948. С. 2.
[102] Тамсама. С. 4.




Скаўцкая паштоўка. Ватэнштэт 1947 г.

*„Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыне людзі пазьяжджаліся ў лягеры „перамешчаных асобаў“ (Ды-Пі). У Ангельскай зоне акупацыі быў вялікі лягер у горадзе Ватэнштэт, які складаўся з частак „А“, „В“ і „С“. Будынкі часткі „А“ разабралі для ацяпленьня баракаў, бо спачатку не прывозілі вугаль для аграваньня. Людзі вечарамі й ноччу цягалі дошкі, і, дзякуючы гэтаму, трымалі жытло цёплым і гатавалі ежу.*

*Улетку быў зьезд скаўтаў — джэмбары*[103] *ў Амэрыканскай зоне ля гораду Нюрнбэргу. Скаўты прыехалі туды цягніком, а ў лясны лягер нас прывязьлі грузавіком. У прыгожым лесе было шмат намётаў з паходнымі ложкамі. Лягер быў падзелены на пяць частак, якія насілі назвы частак сьвету: Эўропа, Амэрыка, Азія, Афрыка, Аўстралія. Нам давялося быць у лягеры пад назовам Афрыка, і, як я памятаю, каля нашых двух намётаў былі францускія скаўты. Я пасябраваў з адным зь іх, якога звалі Маркам. Ён наведваўся да нас амаль штодня даведацца, што за стравы гатавалі ў нас на кухні на абед. Найчасьцей мы мелі суп з падсмажкай або безь яе. Калі кухары нядобра гатавалі, то іх замянялі іншымі.*

*У шматнацыянальным джэмбары мы камунікавалі зь іншымі скаўтамі па-нямецку. У мяне там быў яшчэ адзін прыяцель харват, які навучыў мяне сьпяваць па-харвацку песьню „Мартыралю“. Такім чынам мы мелі шырокі абмен думкамі з нашымі равесьнікамі зь іншых краінаў. Вельмі прыязныя адносіны былі з украінцамі, бо ў іх былі тыя самыя думкі, што і ў нас, аб вызваленьні свайго краю ад расейскай камуны.*

*Харч нам выдавала UNRRA. Штораніцы мы мыліся, а потым падымалі наш бел-чырвона-белы сьцяг, які спускалі з заходам сонца.*

*Назьдзіў потым мы даведаліся, што ў лягеры былі й расейскія скаўты. Сьпярша мы думалі, што гэта дзеці савецкіх вайскоўцаў з савецкай зоны акупацыі, але гэта было ня так. Аднойчы я размаўляў з адным такім расейцам і запытаў яго, як ён не баіцца называцца расейцам, калі савецкія вайскоўцы паўсюль ловяць былых савецкіх грамадзянаў, каб потым вывезьці іх назад „на Родзіну“? Хапалі тады ня толькі расейцаў, але й беларусаў з украінцамі, ня надта зважаючы на тое, у якой краіне яны жылі да вайны. Ён мне адказаў, што ня мае грамадзянства й знаходзіцца пад абаронаю нейкага міжнароднага закону.*

*Аднойчы вечарам усе скаўты сядзелі ля вогнішча й спаборнічалі, якая нацыянальная група найлепш засьпявае сваю песьню. Лепшыя павінны былі атрымаць узнагароду. Падчас сьпеву адной групы другая павінна была трохразова падтрымліваць іх гучнымі заклікамі. Мы, беларусы, ухваляючы, крычалі: „Добра, добра, вельмі добра!“ Чуваць былі й выгукі па-ангельску: „Good, good, very good!“ Украінцы крычалі: „Гарна, гарна, дужэ гарна!“ І гэтак на ўсіх мовах. Калі была нашая чарга сьпяваць песьню, то расейцы падтрымалі нас выкрыкам: „Паразі, паразі, паразіцельна!“ Ніхто з нас ня чуў, каб гэтае слова было пахвальбою. Яно нам нагадвала слова „паразіт“. Таму ўсе вырашылі, што расейцы крычалі гэта, толькі каб абразіць нас. Каб*

[103] *„Джэмбары — гэта сусьветны зьлёт скаўцкай моладзі, які ў перадваенных часох адбываўся раз на 4 гады ў розных краінах Эўропы. Джэмбары прыпамінаюць спартовыя Алімпіяды, куды ўсе народы, належачыя да скаўцкага згуртаваньня, пасылаюць сваіх найлепшых юнакоў“* (Skaut. Časapis kryvickich skautau. №1 (7). Студзень 1947. С. 10).

*нешта падобнае мы пачулі ад якой іншай групы, то, магчыма, праігнаравалі б, але толькі не ад расейцаў. Калі ўсе пачалі разыходзіцца да сваіх намётаў, нашыя хлопцы вырашылі ісьці да расейцаў і адпомсьціць за тое, што яны зьдзекваюцца над намі яшчэ і ў Нямеччыне. Хацелі хоць аднаму зь іх усадзіць нож пад рэбры. Такія ў нас былі ўяўленьні. Аб нашым намеры нейкім чынам даведаўся кіраўнік скаўтынгу й паабяцаў разгледзець гэтую справу заўтра, а на гарачую руку нічога не рабіць. Назаўтра былі іншыя заданьні, іншыя гульні, заняткі, і ўсё гэта трохі ахаладзіла наш намер. Тым больш што кіраўнік патлумачыў, што выкрык расейцаў ня быў абразьлівым на іх мове.*

*Пазьней мы наведалі спартыўную арэну, якая пасьля сканчэньня будаўніцтва павінна была стаць найбольшаю ў Эўропе, але вайна не дала скончыць будову.*

*Хутка да нас прыехалі бацькі, якія хацелі даведацца, як мы жылі ў лесе, ці сумавалі мы па іх і па хатняй ежы.*

*Па заканчэньні джэмбары запрасілі жыхароў навакольля, для якіх скаўты сьпявалі й паказвалі розныя жарты.*

*Вярталіся ў свой лягер мы цягнікам, мусілі пераначаваць і зрабіць перасадку ў Мюнхэне, бо ехалі мы з адной зоны акупацыі Нямеччыны ў другую, а межы паміж імі ў той час былі як паміж рознымі краінамі. Часам нам шанцавала ехаць у першым клясе. Дарогу нам аплочвала UNRRA. Нас часта дапытваліся, што мы за скаўты, бо на кашулях мы мелі надпіс „KRYVIA“, але ўніформа была амэрыканская. Шмат хто думаў, што мы прыехалі з Амэрыкі.*

*Час у лесе мы правялі добра й яшчэ лепш адпачылі, бо наш лягер быў разьмешчаны ў прамысловым раёне, дзе з фабрычных трубаў ляцела сажа, і ўсё было ёю забруджана“*[104].

Варта адзначыць: хоць у 1936 г. у Віленскай беларускай гімназіі дзейнасьць скаўтаў была адноўленая менавіта з ініцыятывы тагачаснага дырэктара Радаслава Астроўскага[105], у Нямеччыне скаўты пераважна належалі да *крывічоў*. Іхны ўдзел у палітычным змаганьні старэйшых быў непазьбежны; дастаткова хіба згадаць выпадак зь сьцягамі ў лягеры Міхэльсдорф[106]. І гэта толькі адзін выпадак, што атрымаў шырокі розгалас; варажнеча ж была зьяваю штодзённаю — побытаваю:

[104] Верабей, Кастусь. Скаўцкі зьлёт-джэмбэры // Беларус. №516. Студзень 2006.
[105] Skaut. Časapis kryvickich skautau. №1 (7). Студзень 1947. С. 8.
[106] Гл.: Максімюк, Я. С. 100—103.





*„Пратакол паседжаньня Ўраду і сяброў
Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня з дня 23.5.1948 г.*

*Прысутнічалі: Архіяпіскап Філафей, а. протаярэй М. Лапіцкі, а. ярэй Е. Кайко, сп. Ф. Шыбут, сп. М. Ігнатовіч, сп. Я. Мілевіч, сп. М. Запольскі, сп. М. Парэцкі, сп. Радзюк, сп. Ю. Дашкевіч, сп. І. Дашкевіч і сп. П. Палягошка.*

*Разглядалі: 1. Справу далейшае працы Аб'еднаньня; 2. Справу Статуту БПА; 3. Справы выданьня часапісу „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі“; 4. Справу сябра Аб'еднаньня сп. А. Асіпчыка; 5. Розныя.*

*Да пункту 1. Беручы пад увагу, што сярод беларускай эміграцыі ўжо ад даўжэйшага часу існуе групка т. зв. „крывічоў“, якая вядзе сыстэматычны паход супраць праваслаўя: Беларускай Праваслаўнай Царквы, яе ярархаў, духавенства і вернікаў, падносячы як пратэст праваслаўным беларускую вунію, а ў сапраўднасьці вядуць антырэлігійную і антымаральную працу, што ўжо ня раз было сьцьверджана. Прыкладам гэтага служыць:*

*1. Антырэлігійныя выступленьні „крывічоў“ у друку (газэта „Бацькаўшчына“, двухтыднёвік „Беларус на чужыне“ і цэлы шэраг антырэлігійных лістовак);*

*2. Публічныя выступленьні лідэраў „крывіцкае“ плыні на агульных сходах супраць рэлігіі (Адамовіч А.);*

*3. Сыстэматычнае вядзеньне антырэлігійнага і антылюдзкага выхаваньня моладзі ў скаўтах і ў гімназіі апекунамі скаўтаў „крывічамі“ Францішкам Кушалем і Аляксандрам Орсаю, доказам чаго зьяўляюцца наступныя факты:*

*а. У ноч з 31.12.1945 г. на 1.1.1946 г. кіраўніком скаўтаў З. Сямёнавым і старэйшымі скаўтамі У. Кушалем, Ольгай Кендыш, Лявонам Вініцкім, Б. Вініцкім, П. Яськевічам у Рэгенсбургу быў наладжаны фармальны зьдзек над праваслаўным Япіскапам Афанасіем.*

*б. У Вялікую Пятніцу перад Вялікднём 1946 г. у Рэгенсбургу падчас вынасу плашчаніцы скаўты і вучні гімназіі з сваімі настаўнікамі пры царкве гулялі ў мяч, на што рэагаваў а. М. Лапіцкі з царкоўнае амбоны ў прысутнасьці Япіскапа Афанасія.*

*в. Падчас Божае Службы ў царкве ў нядзелі і сьвяты кіраўнік скаўтаў А. Бута нарочна выводзіў скаўтаў у лес на нейкія заняткі.*

*г. Забарона апекунамі скаўтынгу Кушалем Францішкам і Орсаю Аляксандрам удзельнічаць у спатканьні і быць прысутнымі ў часе Службы Божае ў царкве падчас прыезду ў лягер Міхэльсдорф Галавы Беларускае Праваслаўнае Царквы Мітрапаліта Панцеляймона.*



Беларуская царква ў Рэгенсбурзе. 1945 г.

*д. Публічнае выступленьне скаўтаў на агульных селішчных сходах аб ненаведваньні царквы (Вострыкаў).*

*е. Публічнае выступленьне кіраўніка скаўтаў Буты з абразьлівымі словамі на Ярархію праваслаўнай царквы (гэты самы Бута, як сьцьверджана, у прошлым быў камсамольцам і супрацоўнікам НКВД, аб чым ведалі апекуны, аднак вызначылі яго на кіраўніка скаўтаў).*

*ж. Сучасны кіраўнік скаўтаў Ул. Бакуновіч хадзіў па прыватных памешканьнях жыхароў лягероў і адкрыта праводзіў агітацыю супраць праваслаўнага духавенства (у жыхароў Дашкевічаў Юркі і Івана і інш.).*

*з. Неаднаразовае сьцьверджаньне на агульных сходах, што гімназісты (яны ж і скаўты) наладжвалі ў бурсе прафанацыю Службы Божае.*

*і. Апекуны скаўтаў Кушаль Ф. і Орса А. стварылі т. зв. скаўцкі актыў, які займаўся выкрадваньнем прыватных лістоў і тэрорам (стэрарызаваньне вучня Шастакоўскага).*

*к. У ноч перад Новым Годам п'яныя скаўты, т. зв. „актыў" на чале са штандаровым на Баварыю Бутам, зьбілі да паўсьмерці жыхара лягеру Камкова Гр.*

*л. Выступленьні Кушаля Ф. і Орсы А. перад скаўтамі і пахвала іх ганебных учынкаў як нацыянальных.*





*Усе вышэй прыведзеныя факты змушаюць Урад БПА павесьці рашучае змаганьне з антырэлігійным і антымаральным выхаваньнем моладзі і прыняць рашучыя крокі да ратаваньня моладзі, а дзеля гэтага прапануюцца наступныя мерапрыемствы: прасіць Беларускі Саюз Япіскапаў заняць рашучае становішча і выступіць перад адпаведнымі дзейнікамі і арганізацыямі аб зьняцьці з пасадаў дырэктара гімназіі і апекуна скаўтаў Орсу Аляксандра і адсунуць ад апякунства скаўтамі Кушаля Францішка.*

*У сувязі з вышэйпададзеным Урад БПА пастанаўляе:*

*Прыняць усе захады, каб у далейшым моладзь выхоўвалася ў духу хрысьціянскае і агульналюдзкой маралі, дзеля гэтага зьвярнуцца да адпаведных дзейнікаў амэрыканскіх установаў і Беларускіх арганізацыяў аб неадкладным звальненьні Орсы Аляксандра з кіраўніка гімназіі і апекуна скаўтаў і Кушаля Францішка з апекуна скаўтаў.*

*Да пункту 2. Даручыць а. М. Лапіцкаму сабраць матэрыялы хрысьціянскіх брацтваў і аб'яднаньняў і апрацаваць Статут БПА.*

*Да пункту 3. Аднавіць выданьне рэлігійна-грамадзкага часапісу „Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі" (на гэту мэту Архіяпіскап Філафей ахвяраваў тысячу ням. марак).*

*Да пункту 4. Былога сябру БПА Асіпчыка Аляксандра за ягоныя выступы супроць праваслаўных ярархаў Беларускага Сабору Япіскапаў і за ягоныя выступы ад імя Ўраду БПА, ня маючы на гэта ніякага ўпаўнаважаньня, якія кампрамэтуюць арганізацыю, завесіць яго з арганізацыі.*

*Да пункту 5. Наладзіць урачыстае сьвяткаваньне дня 5 чэрвеня 1948 г. у беларускай праваслаўнай царкве ў Рэгенсбургу як сьвята Прэпадобнай Еўфрасіньні Полацкай у чэсьць якое і асьвечана царква. Арганізацыю сьвяткаваньня даручыць а. М. Лапіцкаму".*

У *зарубежнікаў* паўстала свая Галоўная кватэра на чале зь Юркам Сянькоўскім, і з спрыяньнем камэнданта лягеру Сьвятаслава Каўша Ватэнштэт, а за ім і Міхэльсдорф сталіся іхнымі галоўнымі цэнтрамі. Лікам яны былі меншыя, а таму вайну вялі галоўным чынам праз друк, выпускаючы ўлёткі, а часам наважваючыся й на большае: 16 нумар крывіцкага выданьня „Скаўцкая інфармацыйная служба" па-партызанску выдалі менавіта яны.

Зрэшты, скаўцкія арганізацыі сярод усіх беларускіх у Нямеччыне былі найбліжэй да паразуменьня. У іншым выданьні, „Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў", адзначалася, што ў чарговай справаздачы Вацлаў Пануцэвіч закрануў пытаньне падзелу арганізацыі як шкоднага




Беларускія скаўцкія часопісы

зьявішча для ўсяго руху, зазначыўшы, што пераадоленьню гэтага перашкаджае ціск старэйшых палітыкаў[107].

Трэба таксама адзначыць, што шэраг скаўтаў імкнуліся пазьбягаць зацятасьці старэйшых:

*„Міхэльсдорф, 10.11.1949 г.*

*Паважаны сябра Сярдэчанка! Апынуўшыся выпадкова ў Міхэльсдорфе, я даведаўся, што нібыта зь Мітэнвальду Вы адаслалі назад перасланыя Вам часопісы, матывуючы гэта тым, што Вы не распаўсюджваеце зарубежніцкае літаратуры. Пры гэтым быў далучаны досыць нетактоўны суправаджальны ліст. Вельмі цікавае зьявішча! Зь якога гэта часу ў Вашым уяўленьні існуе 2 скаўтынгі, а менавіта нейкі „зарубежніцкі“ й беларускі? Ды й наагул, як даўно сталі Вы гэткім актыўным скаўтам? Наколькі я памятаю, у часе здацьця Мітэнвальдзкім сьцягам прысягі (22.11.48) Вы стаялі зусім збоку, гледзячы на „дзіцячыя забавы“. Прысяга ж была наладжаная ў Вас амаль цалкам скаўтамі, якія сяньня выдаюць гэты часопіс. Ведаеце, вельмі сьмешна выглядае той факт, што зноў уступіўшыя сябры ЗБСЧ адразу ж стараюцца вырабіць сабе нейкі, я б сказаў, змагарна-*

[107] Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў. Галоўная кватэра. №19. С. 3.







Вучні й настаўнікі перад будынкам беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе. 1948 г.

*палітычны стаж! Мы працуем у ЗБСЧ вось ужо 3 гады, а тым часам яшчэ нідзе й ніхто з нас не сканстатаваў , што існуюць два скаўтынгі. Я не называю зусім нармальна ўзросшага незадавальненьня Гал. кіраўніком нейкім 2-м скаўтынгам. Наагул, як я ўяўляю, Вы зусім ня маеце на ўвеце кансалідацыю нашае моладзі, каб зьнішчыць падзел старэйшага грамадзтва, а ўступілі ў арганізацыю з мэтай стварэньня „дзеяцкага аўтарытэту“ ў г. зв. „крывіцкім“ лягеры беларускае эміграцыі. Я б вельмі хацеў абмяняцца з Вамі пару лістамі, бо нам, маладым, усё ж трэба знаходзіць супольную мову, а не выступаць адзін перад другім у якасьці прадстаўнікоў-прапаведнікаў тое ці іншае плыні. [...] Напагатове! З пашанай Вітаўт Кіпель“*[108].

Выратавалі моладзь ад далейшага ўцягваньня ў канфлікт выезд у краіны расьсяленьня ды закрыцьцё лягераў.

### Пакаленьне Ды-Пі

Гэтак, школы й скаўцкія зьвязы былі цэнтрамі нацыянальнага выхаваньня, але ці ўсе ж дзеці былі запісаныя ў іх? Пераяжджаючы з аднаго лягеру ў другі, імкнучыся хутчэй адарвацца ад наступу савецкіх войскаў, дарослыя занадта часта пакідалі дзяцей без увагі.

[108] Ліст Вітаўта Кіпеля да Міколы Прускага. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

У эміграцыйнай мэмуарыстыцы бадай што нямашака ўспамінаў тых, хто глядзеў вакол сябе, на Нямеччыну падлеткавымі вачыма й быў староньні што да палітычных падзеяў і падзелаў. Менавіта праз гэта такую цікавасьць выклікаюць успаміны Сьвятаслава Шабовіча[109], народжанага ў 1932 г., — захаваньнем чысьціні й непасрэднасьці далёкіх у часе ўражаньняў і апісаньнем таго, на што старэйшыя або проста не зьвярталі ўвагі, або лічылі непатрэбным (ці нават — немагчымым) занатоўваць.

Ангельскамоўныя ўспаміны пісаліся асобнымі разьдзеламі й дасылаліся, у прыватнасьці, Міколу Прускаму, які ў 2008 г. пераслаў тэкст Янку Запрудніку, ад каго ў сваю чаргу й атрымаў іх аўтар гэтых радкоў. Ніжэй друкуецца адзін з разьдзелаў[110].

*Тырсгайм: у блізкім суседзтве зь немцамі*

*Была позьняя восень 1945-га, калі дзядзька Ян [Жарскі], цётка Тоня, стрыечныя сястра й брат, Тая й Вова, а таксама я зь сёстрамі Фаінай і Нінай прыехалі ў Тырсгайм (Thiersheim) — маленькі ціхі правінцыйны гарадок, акружаны лугамі й палеткамі. Мястэчка шчасьліва пазьбегла ваеннага спусташэньня. Жыхары працягвалі займацца сваімі справамі, падтрымліваючы амаль даваенны ўклад жыцьця. Крамнікі ахайна падмяталі ходнік перад сваімі будынкамі, заадно замятаючы й друз з броўкі. Такія паводзіны, без сумневу, часткова дыктаваліся спадчынным гонарам за іхную старадаўнюю грамаду й агульны дом; з другога боку, у гэтым прысутнічала й пачуцьцё абавязку — спрычыніцца да таго, каб гарадок і надалей заставаўся чыстым і прыгожым. Фэрмэры, у сваю чаргу, сачылі за тым, каб жывёла была добра накормленая, разьмяшчалася ў дыхтоўных стайнях, і каб яна не бадзялася па вуліцах мястэчка (апошні факт усіх вельмі радаваў). Машын тады амаль не было, калі не лічыць адзінкавых матацыклаў. У гэтым пастаральным антуражы выразна раздаваўся пераззвон царкоўных званоў, які было чуваць як зблізку, так і здалёк.*

*Мы прыехалі ў Тырсгайм з Вайдану (Weidan), каб прылучыцца да суполкі ўцекачоў, якую складала сьвятарства вышэйшага рангу Беларускай праваслаўнай царквы, а таксама людзі зь іхнага атачэньня. Уся суполка жыла ў адным доме на Гаўптштрасэ (Haupt Strasse) — гэта была галоўная вуліца гарадка, былая Гітлерштрасэ (Hitler Strasse). Наш прытулак быў мажным двухпавярховым цагляным будынкам з прасторным пакатым гарышчам. Сьцяна разгароджвала дом пасярэдзіне на дзьве роўныя часткі. На кожным паверсе было тры-чатыры пакоі, агульная кухня й купальня з ваннай і душам. Ацяпленьня ў пакоях не было; у халодныя месяцы году насельнікі ратаваліся пад цёплымі коўдрамі, выкарыстоўвалі перасоўныя электрычныя награвальнікі. Адпаведна, засьцерагальнікі, якія знаходзіліся на гарышчы, вельмі часта перагаралі. Высокі кацёл для вады награваўся на печцы, якую трэба было прапальваць вугалем ці дровамі — такім чынам мы атрымлівалі гарачую ваду для ванны або душа. Гэта была неверагодная раскоша, даступная толькі тады, калі шанцавала дзесьці дастаць вугаль ці дровы. У сутарэньні стаяла вялікая скрыня на вугаль і меншыя скрынкі, у якіх захоўваліся бульба, морква, слоікі з салёнымі гуркамі й іншыя прадукты.*

*Да капітуляцыі Нямеччыны ў гэтым доме жылі школьныя настаўнікі. Дом акурат і стаяў каля пачатковай школы, аддзелены ад яе невялікім дворыкам. Калі мы там жылі, у школе працягвалі вучыцца дзеці. Трэба думаць, пасьля вайны настаўнікі знайшлі сабе жытло не ў такіх аскетычных умовах.*

*Нам дастаўся пакой на першым паверсе, вокны якога выходзілі на галоўную вуліцу. У ім, невядома як доўга, мы павінны былі жыць усямёх. У суседнім пакоі жыў украінскі сьвятар Барышкевіч з жонкай і сынам гадоў дваццаці. Іншымі нашымі суседзямі былі архіяпіскап Рыгор, ягоная старэнькая матуля й ягоны эксцэнтрычны сын Сева, якому, мабыць, было ўжо пад трыццаць.*

*Як я цьмяна прыгадваю, у абліччы Севы было штосьці незвычайнае, штосьці, што выбівалася з агульнапрынятых стандартаў таго часу. Ён выглядаў цалкам замкнёным у сваім унутраным сьвеце, абыякавым да заняткаў людзей, што былі вакол яго. Магчыма, ён не хацеў, каб яго адвабліваlі ад ягоных думак. А яшчэ Сева меў іншую асаблівасьць: ён любіў сьпяваць на ўвесь голас, каб усе яго чулі. Перад тым, як засьпяваць, ён расчыняў дзьверы свайго пакою, і ягоны барытон раскатваўся па ўсім будынку, ён быў чуцен ня толькі на першым паверсе, але й вышэй. Адной зь ягоных улюбёных песьняў была „Дванаццаць разбойнікаў“. Аднак асноўную частку песеннага рэпэртуару Севы складалі царкоўныя сьпевы. Сева таксама сьпяваў у царкоўным хоры — ня выключана, што нейкі час ён нават быў яго рэгентам.*

*Цяжкасьці пайставалі на кожным кроку. Не пасьпелі мы яшчэ як сьлед распакаваць валізаў, як нам ужо трэба было ісьці шукаць паліва — і для кухоннай печкі, і каб нагрэць ваду для ванны. У нашых*

[109] Гл. пра яго: Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск, 2007. С. 422—427.

[110] Пераклад Віялеты Кавалёвай.

*суседзяў заставалася трохі вугалю, але ён ужо заканчваўся, і ніхто ня ведаў, калі вугаль прывязуць наступны раз. Вугаль распаўсюджваўся паводле нормаў на кожнага чалавека, і суседзям ня вельмі хацелася дзяліцца рэшткамі паліва з новапрыбылымі. Ну што ж, нам заставалася толькі адно: пайсьці ў лес і назьбіраць там сухастою. Я й Вова падахвоціліся схадзіць у лес. Да нас далучыліся яшчэ двое хлапцоў. Здаецца, адным зь іх быў малады Барышкевіч. Нямецкі фэрмэр пазычыў нам вазок на чатырох колах, і мы пайшлі. Да найбліжэйшага хвойніку трэба было ісьці некалькі кілямэтраў. Дрэвы былі высокія, на зямлі было поўна сухіх галінак і сухадрэвінаў. Ого, якая багатая спажыва! — падумаў я. Мы нагрузілі вазок з каптуром і пакацілі яго назад у гарадок, усю дарогу расьпяваючы песьні.*

*Нарэшце нам прывезьлі вугаль. Грузчыкі засыпалі вугаль у скрыню праз шахты, якія ішлі па задняй сьцяне будынку. Гэтая падзея ўзбудзіла ўсіх жыхароў лягеру. Але праблемы на тым ня скончыліся. Паўстала наступная: як разьдзяліць такое багацьце паміж насельнікамі? Яшчэ перад тым, як нам прывезьлі вугаль, архіяпіскапы выказалі свой поўны давер дзядзьку Яну. Яны прызначылі яго „камэндантам“ лягеру, і ён мусіў цяпер вырашаць усе асноўныя пытаньні, зьвязаныя з жытлом і побытам. Дзяльба вугалю паміж жыхарамі лягла на дзядзькавы плечы; як і трэба было чакаць, задача аказалася ня зь лёгкіх. Дзядзька Ян вырашыў падзяліць вугаль „па галовах“, гэта значыць, пароўну паміж усімі жыхарамі, незалежна ад іх веку альбо сямейнага стану. Сьвятар Барышкевіч рашуча запярэчыў гэтаму. Ён прапанаваў падзяліць вугаль пароўну не паміж жыхарамі, а паміж пакоямі (бо пры такім падзеле ён сам апынаўся ў больш выгадных варунках). Завязалася гарачая спрэчка. Але дзядзька Ян цьвёрда трымаўся сваёй пазыцыі — і ён перамог.*

*Барышкевічыха, з свайго боку, дапякала цётку Тоню й стрыечную сястру Таю сваім спосабам. „Яна цалкам захапіла кухню; толькі я хачу нешта згатаваць, як яна ўжо там“, — ціха скардзілася цётка Тоня ў нашым пакоі. „Ваня, зрабі ты з гэтым штосьці!“ — прасіла яна дзядзьку. „Не хачу я ў вашыя справы ўмешвацца, разьбірайцеся вы самі“, — такі быў ягоны звыклы адказ. Кузіна Тая выношвала свае ўласныя пляны на прадмет таго, як насаліць жонцы Барышкевіча. Колькі напяцьця, колькі фрустрацыяў! Што можа раздражняць жанчыну больш, чым неабходнасьць дзяліць кухню зь іншай жанчынай? Я б сказаў — хіба толькі нявернасьць мужа альбо каханка. Але адчай адчаем, а толькі цётка Тоня й Тая мала што маглі зрабіць адносна*





*манапалізацыі кухні Барышкевічыхай. Яны мусілі з гэтым неяк пагадзіцца. І яны прымірыліся.*

*Раздражненьне звычайна толькі памнажаецца з часам. „Бедныя вы мае сіроцінячкі!“ — прычытала Барышкевічыха кожнага разу, як бачыла на кухні Ніну й Фаіну. Пры гэтым яна абавязкова гладзіла іх па галоўцы. Прылюднае выяўленьне пяшчоты да Ніны й Фаіны ўвайшло ў ейную звычку — што выклікала яшчэ большую злосьць з боку цёткі Тоні й Таі. Яны папросту не маглі гэтага больш цярпець. Нават і сёньня Тая ўзгадвае Барышкевічыху нядобрым словам, калі пра яе заходзіць гаворка. Але, хоцькі-няхоцькі, паступова жанчыны мусілі зрабіцца больш талерантныя. Нягледзячы на цяжкасьці жыцьця ў перанаселеным доме, яны — трэба аддаць ім належнае! — навучыліся даволі добра суіснаваць адна з адной.*

*Лёс наканаваў нам жыць побач зь некаторымі выбітнымі суайчыньнікамі. Па-першае, тут трэба назваць мітрапаліта Пацеляймона[111], які ачольваў у часе вайны Беларускую праваслаўную царкву. Рангам ніжэй за Яго Эксцэленцыю знаходзілася кагорта зь пяці архіяпіскапаў. Гэта былі: Філафей[112], Рыгор[113], Венедыкт[114], Дзьмітры й*

[111] **Панцеляймон** (сьвецкае **Павал Ражноўскі**, 1867—1950), праваслаўны сьвятар, царкоўны й грамадзкі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. У гады Другой сусьветнай вайны браў удзел у арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі Беларусі. Фармальна спрычыніўся да аднаўлення БАПЦ, адзін з арганізатараў і старшыня Часовай мітрапалітальнай управы Беларусі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, пазней зь ярархамі епіскапату БАПЦ перайшоў у Расейскую зарубежную праваслаўную царкву.

[112] **Філафей** (сьвецкае **Ўладзімер Нарко**, 1905—1986), праваслаўны сьвятар, архіяпіскап БАПЦ. У гады Другой сусьветнай вайны ўдзельнічаў у аднаўленьні й фармаваньні царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ. На Ўсебеларускім царкоўным саборы ў Менску ў 1942 г. быў прызначаны япіскапам Магілёўскім і Мсьціслаўскім, узьведзены ў сан архіяпіскапа. З 1944 г. — на эміграцыі. Разам з трыма іншымі ярархамі епіскапату БАПЦ у 1946 г. перайшоў у Расейскую зарубежную праваслаўную царкву.

[113] Відаць, маецца на ўвазе **Рыгор** (сьвецкае **Георгі Барышкевіч**, 1889—1957), праваслаўны сьвятар украінскага паходжаньня, у гады Другой сусьветнай вайны дзеяч БАПЦ. У 1943 г. быў высьвячаны на япіскапа Гомельска-Мазырскага, адначасова быў сьвятаром Гарадзенскага катэдральнага сабору. Пасьля прыходу савецкіх войскаў эміграваў у Нямеччыну і ў 1946 г. перайшоў пад юрысдыкцыю Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы. Пасьля быў япіскапам Бабэрскім і вікарыем Бэрлінска-Германскай япархіі, ⇨

*Апанас[115]. На радзіме ў Беларусі архіяпіскапы стаялі на чале дыяцэзіяў.*

*У доме жылі яшчэ й пяцёра сьвятароў: чатыры сьвецкія й адзін манах. Дзядзька Ян Жарскі пасяліўся ў лягеры апошнім. Да яго тут ужо жылі: айцец Барышкевіч з жонкай, а таксама іхны дарослы сын; айцец Лапіцкі з жонкай, іхная дачка-падлетак і сын, меншы за яе; айцец Лычко з жонкай і дзецьмі — дарослым сынам, дачкой-падлеткам і малодшым сынам. Манах Юліян ня меў нікога, кім ён мусіў бы апекавацца. Ён сам падпарадкоўваўся непасрэдна мітрапаліту Панцеляймону: быў ягоным памочнікам, сакратаром, пасыльным, аканомам (называйце як хочаце).*

*У нашым лягеры была рэпрэзэнтаваная й шляхта: у асобе графа Мяшчэрскага й ягонага сына гадоў пяці, бляндына з прыгожымі кучавымі валасамі.*

*Шараговыя ж насельнікі лягеру ўяўлялі сабой разнастайную грамаду людзей, сярод якіх пераважалі нежанатыя. Тым ці іншым чынам усе яны спрычыніліся да агульнага дабра й, у пэўных выпадках, нават да шчасьця асобных індывідуўмаў. Іван Касяк, інжынэр з прафэсіі й*

⇨архіяпіскапам Чыкагаўскім і Кліўлэндзкім, Чыкагаўска-Дэтройцкім і Сярэдняга Захаду.

[114] **Венедыкт** (сьвецкае **Васіль Бабкоўскі**, 1876—1951), праваслаўны сьвятар, архіяпіскап БАПЦ. З 1941 г. — япіскап Берасьцейскі, вікары Менскай япархіі. У 1942 г. далучыўся да БАПЦ, быў архіяпіскапам Гарадзенскім і Беластоцкім, экзархам Усходняе Прусіі. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну і ўвайшоў у склад клеру Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы. З 1946 г. — чалец Архірэйскага сыноду РЗПЦ, з 1950 г. — архіяпіскап Бэрлінскі й Германскі.

[115] **Апанас (Афанасій)** (сьвецкае **Антон Мартас**, 1904—1984), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. У сакавіку 1942 г. у Менску высьвячаны на япіскапа Віцебскага й Полацкага. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. далучыўся да Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы, але не губляў кантактаў і зь беларускім рухам. У душпастырскай працы карыстаўся беларускай мовай, выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў зь беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету на беларускай мове. У 1950—1955 гг. — вікарны япіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Япіскап (пазьней архіяпіскап) Буэнас-Айрэскі й Аргентынска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу „Белорусь в исторической государственной и церковной жизни“ (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РЗПЦ забараніў чытаньне й распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасьці.





*вылучны беларускі патрыёт, быў у нас, гэтак бы мовіць, „міністрам замежных справаў“. Андрэй Кандратавіч (гэта ягонае імя па бацьку) раней быў настаўнікам, а ў лягеры ён бясплатна вучыў дзяцей — у тым ліку й мяне з Вовам. Потым, там была яшчэ Ларыса Паўлаўна (таксама імя па бацьку). Яна жыла з сынам гадоў чатырох-пяці. Ці яна была ўдавой, ці яна разьвялася, а мо разышлася з мужам ці каханкам — я ніколі й не даведаўся, гэта было ахутана таямніцай. Ларыса была высокая, стройная, бледнатварая — вельмі прывабная маладая жанчына. Ёю апекаваўся архіяпіскап Філафей, і яна паўсюль сьледавала за ім. У яе было вельмі прыгожае сапрана, і, да ўсеагульнай прыемнасьці, яна сьпявала ў царкоўным хоры ў нядзелю. Але я пералічыў тут толькі некаторыя імёны. Людзей у лягеры было значна больш.*

*Гэтая супольнасьць, большую частку якой складалі духоўныя асобы, спараджала атмасфэру амаль манастырскага жыцьця. Архіяпіскапы заўсёды апраналі чорныя шаты, якія спадалі да пятаў. На грудзях яны насілі адмысловыя мэдальёны, якія сымбалізавалі сабой іхны статус у царкоўнай ярархіі. Наколькі мне вядома, ніводны архіяпіскап ніколі не выйшаў з свайго пакою бяз гэтай рэгаліі. Забаўна было назіраць, як прэлат расчэсваў на прабор свае густыя вусы або прыгладжваў пышную бараду. Сьвятары, з свайго боку, дазвалялі сабе больш вольнасьці ў адзеньні, калі знаходзіліся ўнутры будынку. Яны з задавальненьнем пакідалі свае рызы ў пакоі на вешаку. Але ў пэўных выпадках яны таксама — усе без выключэньня — апраналі чорныя шаты, паверх якіх на тоўстых срэбных ланцужках віселі нагрудныя срэбныя крыжы (памеры якіх маглі дасягаць трох дзюймаў ушыркі й пяці — уздоўж). Адным з такіх выпадкаў магла быць аўдыенцыя ў архіяпіскапа. На публіку ж і ў падарожжа сьвятары часьцей надзявалі, на заходні манер, чорную рызу й кашулю зь белым падкаўнерыкам. Аднак, калі сьвятар выпраўляўся кудысьці недалёка й ненадоўга, безумоўна, куды зручней было накінуць сутану проста на хатняе адзеньне.*

*Жыцьцё поўнае нечаканасьцяў. Часам сюрпрызы абарочваюцца непрыемнасьцямі, але бывае й так, што яны прыносяць неспадзяваную радасьць. Гэтак, аднойчы перада мной нечакана зьявіўся — нібы з паветра саткаўся — манах Юліян, памочнік мітрапаліта. Я адклаў убок кніжку, якую чытаў. „Яго Высокаправялебнасьць мітрапаліт хоча бачыць цябе“, — сказаў мне ён. З другога канца пакою да мяне падышла цётка Тоня. Яна ідавочна разгубілася й ня ведала, што*

*думаць. „Славік, прычашыся“, — сказала яна й потым паляпала мяне па плячы, прашаптаўшы нешта сабе пад нос. Бяз доўгіх цырымоніяў айцец Юліян правёў мяне ў пакой мітрапаліта, які знаходзіўся на другім паверсе. Калі мы ўвайшлі, айцец Юліян паказаў мне рукой, каб я прайшоў наперад, туды, дзе за сваім сталом насупраць акна сядзеў мітрапаліт Панцеляймон. Мітрапаліт выйшаў з-за стала, добраславіў мяне й працягнуў мне правую руку тыльным бокам дагары; не марудзячы, я пацалаваў яе, як належыць. Ён павітаў мяне й запрасіў сесьці на крэсла, якое стаяла насупраць ягонага крэсла, сьпераду пісьмовага стала. Упершыню ў жыцьці я бачыў мітрапаліта не ў царкве падчас службы, а гэтак зблізку, у хатняй абстаноўцы, і мне было вельмі цікава за ім назіраць. Не далей як за чатыры футы ад мяне сядзеў, выпраставшы сьпіну, высокі хударлявы мужчына сталага веку, апрануты ў беласьнежныя рызы. На грудзях у яго вісеў авальны мэдальён, адпаведны ягонаму духоўнаму рангу. Яго шырокая сівая барада была акуратна прычасаная; ягоныя доўгія валасы (адметна багатыя для 81-гадовага, як я даведаўся потым, мужчыны) былі гладка зачасаныя назад. Густыя сівыя бровы прыгожа выступалі на гладкім, амаль без адзінай зморшчынкі, лобе. Вочы мітрапаліта глядзелі надзіва ясна й пранікліва, і ён не насіў акуляраў. Для свайго паважанага веку мітрапаліт знаходзіўся ў вельмі добрай фізычнай форме. Ён адхіліўся трошкі назад у сваім крэсьле, паглядзеў проста на мяне, усьміхнуўся й загаварыў. Голас у яго быў глыбокі, але крышталёва чысты. Ён прывітаў мяне як новага чальца ягонай паствы. Мітрапаліт пацікавіўся, ці я й мае сёстры ўжо абжыліся добра ў нашым новым „доме“. Я адказаў яму, што так. Мітрапаліт працягваў задаваць мне пытаньні. Ён хацеў ведаць, калі й пры якіх абставінах мы страцілі нашых бацькоў. Я пачаў расказваць; раз-пораз мяне перапаўнялі эмоцыі, але я стараўся расказваць пасьлядоўна й сьцісла, час ад часу спыняючыся, каб сабрацца з думкамі. Мой аповед відавочна зацікавіў мітрапаліта, і ён сказаў, што хацеў бы сустракацца са мной і ў будучыні. Ён падняўся й добраславіў мяне знакам крыжа. Я пацалаваў ягоную руку й выйшаў.*

*Пры адным памятным выпадку нашая размова пачалася з агляду раньняга ўсходняга праваслаўнага хрысьціянства: а менавіта, як яно прыйшло да ўсходніх славянаў. Пралат папрасіў мяне расказаць, што я ведаю на гэты конт. Мае веды пра гісторыю ўсходняга праваслаўя былі вельмі сьціплыя, але я распавёў яму ўсё, што мог. Каротка кажучы, я сказаў наступнае: першымі сярод усходніх славянаў*





*былі ахрышчаныя з паганства ў хрысьціянства жыхары Кіеўскай Русі, на загад іхных князёў. З Кіева праваслаўнае хрысьціянства хутка распаўсюдзілася ў незалежныя тады беларускія княствы і ў Расею. Калі агляд вытокаў Усходняга хрысьціянства скончыўся, мітрапаліт перавёў гаворку на супярэчлівую й цяжкую тэму — пра дачыненьні з Рыма-каталіцкай царквой.*

*Ён пачаў выказваць свае сумневы наконт царквы-сястры. Я сядзеў і слухаў. Наколькі я магу ўзгадаць, ключавымі момантамі ягонай прамовы былі наступныя. На працягу стагодзьдзяў ярархі каталіцкай царквы настойліва спрабавалі падарваць адзінства ўсходняй праваслаўнай веры. Калі ў іх не атрымалася напрасткі заваяваць сэрцы адданых праваслаўных вернікаў, Рым паставіў перад палякамі задачу параканаць праваслаўных, якія жылі на польскай тэрыторыі, каб яны навярнуліся ў каталіцызм. Палякі актыўна ўзяліся выконваць загад. Дзяржава прыняла маштабныя захады, каб змусіць беларускіх і ўкраінскіх праваслаўных хрысьціянаў адступіцца ад іх спрадвечнай веры. Гвалтоўны ўціск на праваслаўе працягваецца і ў нашыя дні, але цяпер у завуаляванай форме. Рым не пазбыўся сваіх цёмных намераў наконт праваслаўя. Мы знаходзімся ў небясьпецы. Пратэстанты, зь іншага боку, лепей абароненыя ад небясьпекі насоўваньня на іх рыма-каталіцызму менавіта таму, што іх вера не прызнаецца каталікамі кананічнай. Таму мы, праваслаўныя вернікі, мусім усімі сіламі захаваць нашую Богам дадзеную ўсходнюю праваслаўную веру. Мы мусім быць напагатове кожную хвіліну, каб абараніць самі сябе ад разбурэньня, мы не павінны паддавацца ні на якія змовы.*

*Скончыўшы свой маналёг, мітрапаліт Панцеляймон адкінуўся ў сваім крэсьле, пагладжваючы бараду. Ён заплюшчыў вочы (магчыма, каб нічога не адваблівала яго ад разважаньняў), рысы ягонага твару разгладзіліся. Праз хвіліну-другую прэлат нахіліўся наперад, пільна ўглядаючыся ў мяне. „Паабяцай мне, Славік, што ты застанесься верным праваслаўю. Гасподзь узнагародзіць цябе за тваю веру“, — сказаў мне ён. „Я нарадзіўся праваслаўным і памру праваслаўным“, — адказаў я бязь ценю ваганьняў. Пачуўшы гэта, мой духоўны настаўнік усьміхнуўся й падняўся. Нашую дыскусію, сказаў ён, мы працягнем іншым разам. Ён добраславіў мяне, і я выйшаў.*

*Аддзяленьне ўсходняй царквы ад заходняй, або лацінскай, пачалося з падзелам Рымскай імпэрыі на дзьве часткі пры імпэратары Канстантыне Першым. Фармальны падзел цэркваў адбыўся ў 1054 г. Усходняя (візантыйская) і заходняя (рымская) канфэсіі праз доўгі час*

*разыходзіліся ў пытаньнях дактрыны. У пераліку іншых разыходжаньняў, усходняя царква не прымала патрабаваньня рымскай пра захаваньне сьвятарамі цэлібату. Спрэчкі паміж Рымам і Канстантынопалем прывялі да схізмы (разьдзяленьня) дзьвюх цэркваў. У 1054 г. Папа Леў IX і канстантынопальскі патрыярх Міхаіл Цэруляріюс наўзаем адлучылі адзін аднога ад царквы; гэтая падзея сталася апошняй кропкай, пасьля якой дзьве царквы канчаткова разышліся. У наступныя стагодзьдзі прагал паміж канфэсіямі толькі павялічваўся, і да сёньняшняга дня яны застаюцца разьдзеленымі. Толькі ў XX стагодзьдзі, на знак узаемнай павагі, Папа й Патрыярх скасавалі адлучэньне ад царквы адзін аднога. Але ўсходняя праваслаўная царква не прызнае вяршэнства Папы.*

*Нашыя сустрэчы зь мітрапалітам працягваліся без усялякага раскладу — раз на тры, на чатыры тыдні. Падчас сустрэчаў гасьцінны гаспадар усё больш і больш распытваў пра мяне, сёстраў і пра людзей, якія займалі значнае месца ў маім жыцьці: напрыклад, пра майго дзядзьку Яна Жарскага й маю цётку Тоню. Мітрапаліт цікавіўся маімі плянамі на будучыню, у прыватнасьці, плянамі наконт вучобы. Ён усяляк пераконваў мяне, што я мушу вучыцца далей. Я адказаў, што прыкладу ўсе намаганьні, каб ён ува мне не расчараваўся. Чым далей працягваліся нашыя сустрэчы, тым глыбей на задні плян адступалі пытаньні рэлігіі. Іхнае месца займалі тэмы пра жыцьцё наагул. Я памятаю, як аднойчы мой настаўнік гаварыў са мною пра пісаньне лістоў. Часам, казаў ён, чалавек адчувае абавязак напісаць камусьці ліст, але ня ведае, з чаго пачаць. Тады варта пачынаць зь любога месца, бо як толькі ты пачнеш, ідэі самі пачынаюць нараджацца ў галаве. Калі я стаў дарослым, я шмат разоў пераконваўся ў бясспрэчнай карыснасьці гэтай парады.*

*Мітрапаліт Панцеляймон быў адзіным чалавекам, каму я адкрыў сваё мінулае да драбніцаў. Іншыя людзі ў лягеры маглі расказаць свае ўласныя гісторыі, ня менш цяжкія, бо падчас той страшнай вайны на долю кожнага выпала нямала бяды. Нават цяпер я памятаю, як Рыгор Іванавіч (Грышка) распавядаў групе людзей, дзе прысутнічаў і я, пра жахлівыя начныя бамбаваньні Дрэздэну 13—14 лютага 1945 г. Уначы 13 лютага васямсот амэрыканскіх і брытанскіх бамбавікоў накрылі горад дзясяткамі тысячаў запальных бомбаў. Горадператварыўся ў мора агню. Такога пажару Дрэздэн ня бачыў ніколі. Сотні людзей спрабавалі ўратавацца ад агню ў мэтро, дзе яны задыхнуліся, бо пажар высмактаў адтуль увесь кісларод. Я ня памятаю ўжо, дзе знайшлі прытулак у тую жахлівую ноч сам Грышка й архіяпіскап Дзьмітры — відаць, непадалёк ад іхнай рэзыдэнцыі. Калі Грышка сказаў архіяпіскапу, што іхны будынак гарыць, архіяпіскап закрычаў: „О, мой Божа! Золата, золата!“ — і выбег са сховішча, бо ўзгадаў пра свае скарбы. Дарэмна Грышка спрабаваў затрымаць архіяпіскапа. Адчайны ўчынак Дзьмітрыя прынёс посьпех: архіяпіскапу ўдалося ўратаваць скарбніцу й не разьвітацца з жыцьцём. А вось Грышка сапраўды страціў у тыя дні свайго сябра: той загінуў не на пажары, а ад кулі... Той хлапец узяў сабе ровар з часткова разбуранага складу. Яго затрымалі нямецкія ўлады, абвесьцілі марадэрам і расстралялі. Агулам падчас бамбаванняў і ў вагні пажараў у Дрэздэне тады загінулі дзясяткі тысяч чалавек; паводле некаторых падлікаў, тыя ночы забралі восемдзесят тысяч жыцьцяў мірных людзей.*

*У даваенны час на эўрапейскім ляндшафце Дрэздэн цешыўся рэпутацыяй вытанчанага культурнага цэнтру. Горад ганарыўся тым, што яму ўдалося захаваць гэты дух і падчас вайны. З вайсковага гледзішча не было аніякіх абгрунтаваных прычынаў выпальваць Дрэздэн дазваньня. У горадзе або ягоным навакольлі не базаваліся вялікія вайсковыя фармаваньні, не было там ні ваеннай прамысловасьці, ні буйных складоў зброі. Вынік вайны быў ужо перадвызначаны. Ну чаму тады, зь якой прычыны гэтая навала абрынулася на цывільнае насельніцтва мірнага прыгожага места? Сьляпая, кіпучая, бязьлітасная помста, без сумневу, адыграла тут сваю ролю. Але ня выключана таксама, што ў катастрофе прысутнічаў і элемэнт садызму, які ляжыць на сумленьні брытанскага генэрала паветраных войскаў, які сплянаваў, санкцыянаваў і правёў бамбаваньні гораду. Бамбаваньне Дрэздэну працягвалася да сярэдзіны красавіка. На вайне мяжа паміж абгрунтаваным зьнішчэньнем праціўніка й злачынствам тонкая, як лязо. Мы павінны пільна сачыць за сабой, каб не паддацца залішняму абурэньню. Ня толькі японцы зьдзейсьнілі ганебныя ўчынкі падчас Другой сусьветнай. Іншыя краіны таксама спрычыніліся да бясслаўных акцыяў.*

*Нашыя побытавыя ўмовы працягвалі паляпшацца. UNRRA (United Nation Relief and Rehabilitation Administration) пачала дастаўляць нам пасылкі з таварамі, недаступнымі на адкрытым рынку ў той час. Першапачаткова гэтыя пасылкі прызначаліся для распаўсюду праз Чырвоны Крыж сярод амэрыканскіх грамадзянаў, захопленых у палон немцамі. Манна зь нябёсаў? Не! Вядома ж — з Амэрыкі. Зьмесьціва пасылак перакрочвала нашыя самыя сьмелыя чаканьні.*

*Сыпіс ачольвалі пяць пачкаў цыгарэтаў (марак „Philip Morris“, „Chesterfield“, „Camels“, „Pall Mall“ і „Lucky Strike“). Распушчальная кава, кубікі цукру, печыва, джэм, ялавічная тушонка, сардынкі, сухая садавіна, вітамін C і іншыя прадукты складалі пераважнае зьмесьціва пасылак. Туды ўкладаліся таксама некаторыя рэчы туалету, улучаючы зубную пасту.*

*Ніхто з нас не паліў і ня піў кавы. У тыя дні мы пілі гарбату, калі яна была. Такім чынам, цыгарэты й кава, прадукты рэдкія, якія вельмі цаніліся немцамі, зрабіліся каштоўнымі таварамі для абмену на чорным рынку. У Нямеччыне таго часу існавала карткавая сыстэма. Прадукты прадаваліся выключна паводле талёнаў. Тым ня менш, было ня вельмі цяжка ўпрасіць уладальніка крамы або фэрмэра зрабіць „выключэньне“, калі вы прапаноўвалі яму трохі цыгарэтаў. Гаворка не ішла пра дзясяткі пачкаў цыгарэтаў або пра кіляграмы каваных зярнятаў. Я памятаю два выпадкі, калі цётка дала мне зусім трошкі кававага зерня й паслала мяне абмяняць яго на прадукты. Я быў вельмі зьдзіўлены й нават адчуваў сорам, калі гаспадар крамы даў мне вялікі пучок морквы й гуркі ў абмен на тое, што мне здавалася зусім няшчымнай колькасьцю кававых зярнятаў. Наступным разам мяне паслалі на фэрму, каб памяняць кававае зерне на бульбу. І той фэрмэр таксама не паскнарнічаў пры абмене.*

*Некаторыя з рэчаў, якія мы атрымлівалі ў пасылках узімку 1945-га, былі вельмі экстраардынарныя. Так, аднойчы нам прыслалі сьнегаступы; потым — гель для выпрамленьня валасоў (я думаю, ён першапачаткова прызначаўся для чорных). На давяршэньне ўсяго, мы атрымалі кансэрвы зь ежай для сабак. Не здагадваючыся, што гэта такое, мы з Вовам апялі ледзь ня ўсю бляшанку, і толькі потым даведаліся, што кансэрвы прызначаліся для „лепшага сябра чалавека“. Безумоўна, потым было шмат жартаў на гэтую тэму. Стрыечная сястра Тая доўга яшчэ пыталася Вову, як яму спадабалася на смак сабачая ежа.*

*Нам было вельмі цесна жыць — семярым у адным пакоі (чацьвёра чалавек у сям'і дзядзькі, плюс мае дзьве сястры й я). Пачалі пытацца ў суседзяў, ці ня ўзяў бы хто аднога зь дзяцей начаваць да сябе. Такі чалавек знайшоўся: Іван Касяк*[116]*, які жыў адзін і займаў маленькі пакой, пагадзіўся браць аднога зь дзяцей да сябе на ноч. Здагадайцеся, каму так пашанцавала? Мне. Пакой Івана Касяка знаходзіўся ў іншай палове будынку, на верхнім паверсе, у самым канцы калідору. У суседзтве з Касяком жыла сям'я сьвятара Лычка зь пяці чалавек, а таксама архіяпіскап Філафей і Ларыса Паўлаўна са сваім малым сынам. Зрэдку ўлетку я начаваў на самым версе ўсходаў, што вялі на гарышча ў нашым крыле будынку.*

*Досыць часта я меў раскошу спаць адному ў пакоі Івана Касяка, бо мой гаспадар часта падарожнічаў. Ягоныя паездкі здаваліся бясконцымі, большасьць зь іх была зьвязаная з грашовымі апэрацыямі — Іван спэкуляваў валютай. Калі я заставаўся адзін у ягоным пакоі на ноч, мяне нічога не адваблівала, і я міжволі прыслухоўваўся да галасоў, гукаў і рухаў, што даносіліся з калідору.*

*Вяртаючыся ў думках на паўстагодзьдзя назад, у тыя ночы, я чую лёгкія гукі босых ног на калідоры, потым ледзь чутны стук у дзьверы. Відаць, камусьці ня сьпіцца. Я пачынаю разважаць, хто б гэта мог быць. Чамусьці й я не магу цяпер заснуць, я кручуся й варочаюся ў ложку. Урэшце я запальваю сьвятло й пачынаю чытаць. Чытаю да глыбокай ночы, але той бяды — раніцай я магу паспаць даўжэй. У мяне ж няма ніякай працы ці заняткаў, якія б прымушалі мяне ўставаць рана. Ночы прыходзяць і сыходзяць; зноў і зноў працягваюцца таямнічыя перасоўваньні ў калідоры. Зь іншага боку, жыхары мусяць карыстацца агульнай прыбіральняй — дык няма нічога дзіўнага, што часам чуюцца крокі на калідоры ў неадпаведныя гадзіны содняў. Ня маючы начнога гаршка ў пакоі, я й сам раз-пораз мушу бегаць басаном у прыбіральню пасярод ночы.*

*Аднойчы ўночы здарылася нешта нечаканае. Вяртаючыся з прыбіральні ў свой пакой, я пачуў прыцішаны сьмех з пакоя архіяпіскапа Філафея — і гэта быў жаночы сьмех без сумневу! Я прыпыніўся каля ягоных дзьвярэй на хвіліну — сьмех сьціх, запанавала цішыня. Я засьпяшаўся вярнуцца да сябе. У тую ноч мне сапраўды хацелася спаць, дык я заснуў адразу. Надышла раніца. Хто ж была гэтая начная госьця ў пакоі архіяпіскапа? Можа, Ларыса Паўлаўна? Мая юначая цікаўнасьць распалілася неймаверна. У наступныя дні я пачаў прыглядацца з увагай да насельнікаў будынку — куды й калі кожны зь іх*

[116] **Іван Касяк** (1908—1990), грамадзка-палітычны дзеяч. Да Другой сусьветнай вайны жыў і вучыўся ў Заходняй Беларусі, удзельнічаў у камуністычным руху. З пачаткам нямецкай акупацыі працаваў у генэральным камісарыяце ў Менску, быў дзеячам Беларускай народнай самапомачы, ⇨ у сакавіку—чэрвені 1944 г. выконваў абавязкі паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай Цэнтральнай Рады ў Глыбоцкай акрузе. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША.

*звычайна ходзіць. Мая падвышаная пільнасьць хутка прынесла вынікі. Я заўважыў, што ўдзень Ларыса Паўлаўна часта заходзіла ў пакой архіяпіскапа Філафея. Ну дык што ў гэтым такога, думаў я. Ларыса, без сумневу, чуецца самотнай, ёй няма да каго прытуліцца й няма ад каго атрымаць падтрымку ў гэтыя няпэўныя часы. Наколькі мне было вядома, архіяпіскап Філафей мог быць ейным духоўным настаўнікам. Дый хто б іншы лепей пасаваў для гэтай ролі? Ён быў вельмі таварыскім, гарадзкім, адукаваным чалавекам. А паколькі ён жыў тут жа, у суседзтве, дык да яго можна было лёгка зьвярнуцца пры патрэбе. Чаго ж больш хацець чалавеку, думаў я?*

*Архіяпіскап Філафей на свой час мог лічыцца чалавекам вышэй сярэдняга росту. Ён быў стройны й даволі малады для свайго высокага рангу ў ярархіі Беларускай усходняй праваслаўнай царквы. Ягоныя раскошныя цёмна-брунатныя валасы, што на яркім сьвятле адлівалі золатам, былі акуратна прычасаныя назад за плечы. У густой барадзе й вусах не было ні ценю сівізны. (Ува ўсходнім праваслаўі кожны сьвятар, які хоча стаць япіскапам, павінен сьпярша далучыцца да манаскага ордэну, а гэта, у сваю чаргу, вымагае, каб ягоныя валасы на галаве й твары расьлі вольна й без перашкодаў — падстрыгаць іх манахам забараняецца.) На лобе й шчоках архіяпіскапа Філафея не было аніводнай зморшчынкі; нос быў прапарцыйным і не парушаў сымэтрыі твару; у карых вачах гарэлі агеньчыкі. Я ня ўспомню, каб я хоць аднойчы бачыў яго нахмураным — ён заўсёды быў падцягнуты і таварыскі, часам сузіральны. Трымаўся ён струнка. Заўсёды насіў манаскі ўбор, адпаведны свайму чыну: чорную сутану й нагрудны знак.*

*Ларысе Паўлаўне, здаецца, магло быць крыху за трыццаць. Высокая й шчуплая, яна была, без сумневу, прывабная жанчына. Яе твар выглядаў добра дагледжаным, фарбаваныя бялявыя валасы маляўніча ільсьніліся. Скура на твары, а таксама на руках і нагах у яе была вельмі сьветлая. Выразныя рысы твару зь першага погляду выклікалі прыемнае ўражаньне. У яе былі прыгожыя ногі, і яна сачыла за тым, каб яе абутак быў таксама паглядным (у тыя часы жанчыны не насілі сандаляў, дзякаваць Богу). Яе рукі былі грацыёзнымі, пальцы — доўгімі й роўнымі. Блакітныя вочы выдавалі яе нардычнае (беларускае) паходжаньне.*

*У дадатак да павабнай зьнешнасьці, Ларыса Паўлаўна была адораная прыгожым сапрана, і ейны голас зачароўваў усіх нас. Яна сьпявала ў царкоўным хоры; апроч таго, яна й яшчэ адзін насельнік лягеру, Сева, па чарзе кіравалі хорам на набажэнствах усходняй праваслаўнай царквы ў Тырсгайме. Яна была гаваркая, незалежная, адукаваная жанчына шырокіх поглядаў, гатоваая сама вырашаць свой лёс. Жыла яна з маленькім сынам, якому было, я думаю, гадоў 4—5. Сын яе таксама быў бялявы. Ніхто ня ведаў, ад каго яна яго нарадзіла. У дадзены момант жанчына жыла адна, ня маючы партнэра. Ці я памыляўся на гэты конт?*

*Аднойчы мне ізноў давялося начаваць аднаму ў пакоі Івана Касяка (гаспадар быў у ад'езьдзе). Пасярод ночы мне спатрэбілася выйсьці ў прыбіральню, якая была ў самым канцы цёмнага калідору. Вяртаючыся ў свой пакой і стараючыся ступаць нягучна, я затрымаўся насупраць пакою архіяпіскапа Філафея й прыслухаўся (згодны, што гэта было ня вельмі прыгожа з майго боку...). Ледзь чутныя гукі даляталі да мяне з-за дзьвярэй — штосьці там безумоўна дзеялася. Што б гэта магло значыць? Я спрабаваў здагадацца. І раптам, нечакана, зь цемры за зачыненымі дзьвярыма да мяне данёсься жаночы стогн, стогн асалоды... потым яшчэ адзін... яшчэ адзін... Я застыў на месцы, зь цяжкасьцю стрымліваючы эмоцыі, якія мяне перапаўнялі. Мая цікаўнасьць зашкальвала, але розум падказаў, што я мушу вяртацца да сябе. У сваім пакоі я працягваў абдумваць тое, што пачуў. Я быў упэўнены, што той невядомай жанчынай у пакоі архіяпіскапа была Ларыса Паўлаўна. Ну хто іншы адважыўся б на такую адчайную авантуру?*

*Мне здаецца вельмі дзіўным, што некаторыя мужчыны даюць урачысты зарок зачыніцца ад зямных радасьцяў дзеля таго, каб заслужыць вечнае жыцьцё ў нябёсах. Як мала ведаюць яны пра тое, што рай можна знайсьці тут і цяпер, у абдымках каханай жанчыны... І дзе ў Сьвятым Пісаньні сказана, што мужчына ня можа служыць Госпаду й людзям, калі ён не аддаліцца ад жанчын? Я ня ведаю такога месца ў Біблії — пра такія бязьлітасныя забароны. І я ніколі ня мог зразумець патрэбы цэлібату шараговых сьвятароў Рыма-каталіцкага касьцёлу, якога вымагае ад іх папскі сталец. На маю думку, у гэтым няма ніякага сэнсу. Цэлібат мусіць быць выключна добраахвотнай зьявай — кожны сьвятар сам павінен вырашаць, ці ён хоча быць самотным чалавекам альбо мець жонку. Нават калі ён ажэніцца, ён усё адно можа прапаведаваць слова Божае й настаўляць сваю паству на праведны шлях. Здаецца, Усходняя праваслаўная царква зрабіла слушны крок, на працягу стагодзьдзяў дазваляючы сваім сьвятарам мець сям'ю. Як тут не падзякаваць ёй за гэта! Я ўпэўнены, што жанатыя сьвятары таксама не пазбаўленыя Божай ласкі.*

*Інтымныя дачыненьні паміж архіяпіскапам Філафеем і Ларысай Паўлаўнай не былі такім ужо страшэнным сакрэтам, як гэта здавалася мне напачатку. Іншыя жыхары нашага перанаселенага лягеру таксама не маглі не заўважаць іх. Але ўсе тактоўна стараліся не абмяркоўваць гэтай тэмы публічна; у тыя часы людзі ўмелі шанаваць прыватныя справы. Наколькі мне вядома, шчыльныя стасункі ахіяпіскапа й Ларысы Паўлаўны працягваліся безь перашкодаў і без умяшаньня з боку трэціх асобаў. Ларыса Паўлаўна знаходзілася пад пратэкцыяй архіяпіскапа Філафея; яна працягвала суправаджаць яго паўсюль, куды б ён ні накіроўваўся.*

*Я шчыра перакананы, што зарок цэлібату ня мусіць быць пажыцьцёва непарушным. Наадварот, гэтае пытаньне трэба пакідаць на сумленьні індывіда. Калі тактоўныя дачыненьні паміж нежанатым сьвятаром і дарослай жанчынай прыносяць ім абодвум асалоду й напаўняюць іх радасьцю, такая сувязь не павінна абражаць Бога; не павінна яна таксама й перашкаджаць сьвятару ў ягоным сьвятарскім служэньні.*

*У Тырсгайме я чуўся калі й не зусім як дома, дык, прынамсі, сярод добразычлівых людзей. Іншыя жыхары лягеру адчувалі, мне здаецца, штосьці падобнае. Нашыя нямецкія суседзі ўспрынялі нашую часовую прысутнасьць сярод іх без усялякіх праяваў варожасьці. Я ня памятаю, каб хтосьці хоць аднойчы абазваў мяне словамі verflueht auslander („пракляты чужынец“). Нічога не баючыся й не асьцерагаючыся, я хадзіў дзе хацеў — і па мястэчку, і вакол яго. Падчас нашага побыту ў Тырсгайме мне давялося сутыкацца шмат з кім зь мясцовых жыхароў. І нават калі некаторыя з насельнікаў нашага лягеру перакрочвалі межы прынятых паводзінаў, як зрабіў гэта айцец Барышкевіч, гараджане рэагавалі на такія ўчынкі больш з гумарам, чым з асуджэньнем.*

*За квартал ад нашага дому была лаўка мясьніка. У ёй цётка Тоня часта купляла косткі для булёну, на якім яна потым варыла суп; астатнія рабілі тое ж самае. Пры драбіне шацунку яны маглі б, відаць, падкупіць гаспадара, каб ён прадаў ім мяса або кілбасу — прадукты, што распаўсюджваліся толькі па прадуктовых купонах, якіх мы, уцекачы, ня мелі. Як цяжка даводзілася тым, хто пражыць ня мог бяз мяса! Калі айцец Барышкевіч зайшоў у ятку мясьніка аднойчы раніцай, выгляд сьвежых кілбасак, разьвешаных па ўсёй краме, відаць, пазбавіў яго розуму. Ад адной толькі думкі пра пах сьвежых кілбасак, калі яны сквірчаць на гарачай патэльні, у яго пацяклі сьлінкі. Няздольны супрацьстаяць спакусе, айцец Барышкевіч зрабіў нечуваную рэч: ён схапіў адну з кілбасак і схаваў яе пад сутанай, пакуль мясьнік у дальнім куце крамы адважваў яму косткі. Як кілбаска магла ўтрымацца пад сьвятарскай рызай, застаецца для мяне загадкай. На вялікі жаль для сьвятара, ягоныя хітрыкі не падманулі мясьніка. Вярнуўшыся да прылаўка, мясьнік рашуча запатрабаваў ад айца Барышкевіча вярнуць кілбаску, схаваную пад сутанай. Спачатку айцец Барышкевіч спрабаваў усё адмаўляць, але, бачачы безвыходнасьць сытуацыі, ён усё ж дастаў кілбаску й аддаў яе мясьніку. Гэтак мара айца Барышкевіча пасьнедаць смажанай кілбасой марай і засталася...*

*Мясьнік не надаў гэтаму эпізоду вялікай вагі: ён ня склаў афіцыйнай скаргі на айца Барышкевіча, але замест таго расказаў пра гэты выпадак усім, каму мог. Нашыя суседзі-немцы смакавалі падрабязнасьці інцыдэнту, жыхары ж лягеру, у пераважнай большасьці, праігнаравалі яго. Мне невядома, ці камітэт архіяпіскапаў выклікаў айца Барышкевіча, каб той вытлумачыў свае паводзіны, — калі гэта й было насамрэч, рашэньне камітэту засталося канфідэнцыйным. Інцыдэнт з кілбаскамі зрабіўся легендарным і застаўся ў памяці жыхароў гораду на доўгія гады, яго пераказвалі адзін аднаму нават пасьля таго, як наш лягер выехаў з Тырсгайму — але пра гэта я даведаўся нашмат пазьней, дык ня буду забягаць наперад.*

*Быў і яшчэ адзін выпадак, які прыцягнуў немалую ўвагу грамады — гісторыя з парсюком. У ёй адну з галоўных роляў грала цётка Тоня. Усё пачалося з самых лепшых цётчыных намераў: яна надумалася пачаставаць сям’ю сьвежанінай, а па тым часе гэта быў неверагодны дэлікатэс. Мясцовы фэрмэр пагадзіўся прадаць цётцы маладога парсючка. (Натуральна, гандаль мусіў адбывацца ў строгім сакрэце, бо такія апэрацыі лічыліся тады незаконнымі.) І вось аднойчы ўвечары фэрмэр перадаў цётцы Тоні жывога парсючка. Як бедную жывёліну ўдалося даставіць з хлява ў наш будынак, за некалькі кварталаў, застаецца для мяне загадкай. Відаць, нехта дапамагаў маёй адчайнай цётцы. Бесьперастаннае верашчаньне парсюка на ўсім шляху ад хлява да дому не магло не прыцягнуць увагі жыхароў гарадка. Няшчаснага кабанчыка прывалаклі на задні двор будынку й праз маленькае квадратнае акно ўсунулі ў сутарэньне, дзе яго неўзабаве й закалоў Грышка, пратэжэ архіяпіскапа Дзьмітрыя.*

*Справа на тым ня скончылася. Мясцовыя ўлады дазналіся пра нелегальную гандлёвую апэрацыю, і цётку Тоню выклікалі ў магістрат, што знаходзіўся ў іншым горадзе. Я памятаю, як яна выпраўлялася*

*туды, апранутая адпаведна сытуацыі: спадніца, блюзка й жакет. Трымалася яна заклапочана. Без сумневу, зь ёй тады мусіла паехаць яе дачка Тая, якая вольна гаварыла па-нямецку. Да вялікай палёгкі кожнага з нас, цётка Тоня выкрабілася з гэтай прыкрай гісторыі досыць лёгка: яе прызналі вінаватай у нелегальнай трансакцыі, прымусілі заплаціць невялікі штраф і загадалі больш такога не рабіць.*

*Калі ў чэрвені 1994 году я быў у чатырохтыднёвым падарожжы па Эўропе, жаданьне наведаць Нямеччыну, асабліва Баварыю, зрабілася проста нясьцерпным. Я папрасіў маю стрыечную сястру Гэлену Герман і яе мужа Багуслава (яны жылі ў польскім горадзе Шчэціне) суправаджаць мяне ў гэтай паездцы й вельмі цешыўся, калі яны з радасьцю пагадзіліся. З прычыны таго, што я быў абмежаваны ў часе, з маршруту паездкі давялося выкінуць шматлікія геаграфічныя пункты, якія б мне хацелася наведаць. Але Тырсгайм застаўся, дый як бы я мог абмінуць яго? Прыехаўшы туды, мы прыпаркаваліся на гарадзкой плошчы. Адтуль нясьпешным крокам мы падняліся на пагорак да пратэстанцкай царквы, якая месьцілася ў самым дальнім канцы плошчы. Велічны будынак царквы, што налічваў некалькі стагодзьдзяў, узвышаўся над дамамі, ствараючы ўражаньне поўнай гармоніі з навакольлем.*

*Я прысеў на лаўку. Нахлынулі ўспаміны з тых далёкіх часоў. Усе яны былі зьвязаныя з гэтай пратэстанцкай царквой, збудаванай з каменьня й дрэва, якая стаяла зусім блізка ад мяне, на пагорачку. Успаміны вялі мяне ў сярэдзіну бажніцы, за яе муры мэтровай таўшчыні. Масіўныя драўляныя дзьверы былі ўмацаваныя жалезнымі кратамі; такія ж масіўныя дзьверы, замкнёныя на вісячы замок, ахоўвалі ўваход у тунэль, які пачынаўся ўнутры царквы. У мінулыя стагодзьдзі царква, відаць, неаднойчы была для жыхароў мястэчка ратункам і сховішчам ад марадэраў.*

*Падчас нашага перабываньня ў Тырсгайме сьвятары нашага лягеру дамовіліся з пастарам царквы, і ён даў дазвол на правядзеньне ў ёй набажэнстваў згодна з усходнім праваслаўным абрадам. Мне было даручана прыслугоўваць у аўтары — гэта была ўжо добра вядомая мне праца.*

*Менавіта там, у глыбіні аўтара, я натрапіў на фатаграфіі жаўнераў — нарадзінцаў Тырсгайму, якія загінулі на палях Першай сусьветнай вайны. Фатаграфіі былі сабраныя пад агульнай рамкай, за шклом. Там было можа з два тузіны здымкаў, калі ня больш. Усе мужчыны былі ў вайсковай форме, шмат хто ў сьпічастых касках; цяпер, узгадваючы іхныя твары, я пачаў задумвацца, пры якіх абставінах яны маглі загінуць. Безумоўна, вырашыў я, усе яны паляглі на пярэднім краі. Некаторыя, відаць, загінулі ў артылерыйскай перастрэлцы, спрабуючы схавацца ад снарадаў у сваіх акопах. Іншых маглі зрэзаць кулямётныя чэргі, калі яны ішлі ў атаку на пазыцыі праціўніка. Я намагаўся ўявіць сабе жахі пярэдняга краю той гіганцкай вайны. Залпы цяжкіх вінтовак; выбухі снарадаў; няспыннае стракатаньне кулямётаў; выбухі гранатаў; стогны й крыкі параненых і тых, хто памірае, адгукаліся ў маёй галаве.*

*Гэтыя мужчыны мусілі пакінуць свае сем'і й дарагіх ім людзей, каб загінуць у нейкіх чужых краёх. Дзеля чаго, разважаў я? Навошта была патрэбная тая вайна? Чым можна апраўдаць такі жахлівы канфлікт? Няўжо яго немагчыма было пазьбегчы? І чаго такога дасягнулі ў выніку, чым можна было б апраўдаць гіганцкія страты маладых жыцьцяў? У дзяцінстве я ня мог знайсьці адказу на гэтыя пытаньні. Толькі потым, з узростам, я зразумеў, што вайна прынесла некалькі станоўчых вынікаў: Аўстра-Вугорская імпэрыя прыйшла да развалу, у выніку чаго некаторыя ўсходнеэўрапейскія й балканскія народы вызваліліся й атрымалі магчымасьць самыя вырашаць свой лёс; вайна спрычынілася таксама да распаду Асманскай імпэрыі, вызваліўшы іншыя народы з-пад турэцкага ярма (на жаль, курды не ўвайшлі ў іх лік). Падзеі Першай сусьветнай мелі й нэгатыўныя наступствы: у выніку вайны адбылася бальшавіцкая рэвалюцыя ў Расеі, якая прынесла людзям, што жылі ўва Ўсходняй Эўропе й на шырокіх прасторах Азіі, дэспатычны камуністычны рэжым — тыранію нечуванага размаху, беспрэцэдэнтную ў гісторыі чалавецтва. Калі аглядаесься назад, разумееш, што з рэальнасьцю не паспрачаесься: у нас няма іншага выйсьця, як толькі прыняць усе падзеі Першай сусьветнай, уключаючы найбольш катастрафічныя, менавіта так, як яны адбываліся, бо гісторыя, непрадказальная й магутная сіла, заўсёды выбірае свой уласны шлях.*

*Раптам перада мной зьявіліся мая стрыечная сястра з мужам, і гэта вярнула мяне з падарожжа ў мінуўшчыну. Я падняўся з лаўкі, і мы падышлі да фантану. Ён распырскваў у паветра чыстую ваду, зусім гэтак, як у даўнейшыя часы. Вось толькі чырвоныя рыбкі, якія плавалі раней на дне басэйну, зьніклі. Побач з фантанам зьявіліся дзьве мэталічныя панэлі: на адной былі выбітыя імёны вайскоўцаў, што загінулі ў Першую сусьветную вайну, на другой — імёны ахвяраў Другой сусьветнай. Гэты мэмарыял быў пабудаваны ўжо пасьля*

*таго, як мы пакінулі Тырсгайм — без сумневу, тады, калі закончылася амэрыканская акупацыя гэтай часткі Нямеччыны. Плошча была абсаджаная цяністымі дрэвамі. Калі б хто хацеў пасядзець у спакоі й паразважаць пра жыцьцё, лепшага месца, чым у засені гэтых раскідзістых дрэваў, цяжка было б знайсьці. Шматпавярховыя будынкі пашыхтаваліся па абодва бакі плошчы. Усе яны выглядалі добра дагледжанымі й былі ў выдатным стане. Уціснутая паміж імі, стаяла гарадзкая ратуша. Памяць ізноў выплюхнула на паверхню ўспаміны. Тады, у 1946 годзе, я сабраў усю сваю мужнасьць і прыйшоў у ратушу, каб паразмаўляць з бурмістрам — я хацеў папрасіць яго, каб ён выдаў мне талён на пакупку футбольных бутсаў, бо без талёнаў тады абутак не прадаваўся. Бурмістар, чалавек у паважных гадах, прыняў мяне ветліва, але ў маёй просьбе адмовіў. Ён растлумачыў мне, што талёны выдаюцца толькі жыхарам Нямеччыны, а паколькі я меў статус уцекача, пра мяне мусіць клапаціцца UNRRA. Але ж ці магла тая UNRRA забясьпечыць усе мае патрэбы? Я меў моцныя сумневы на гэты конт. Спачатку я спрабаваў спрачацца з бурмістрам, але калі ўсьвядоміў марнасьць сваіх аргумэнтаў, выракся сваёй просьбы й пайшоў ні з чым.*

*Успаміны ізноў адступілі ў мінуўшчыну, і я зьвярнуў увагу на наваколльле. Калі паглядзець праз плошчу, то за галоўнай вуліцай — Гаўптштрасэ — воку адкрываліся раскошныя зялёныя палеткі й сенажаці. Неймаверна, але яны ўсё яшчэ выглядалі такімі самымі, як у маім юнацтве! Іх не захінулі аніякія высокія будынкі, і з самага цэнтру гораду можна было любавацца цудоўным пастаральным краявідам. Усё сьведчыла за тое, што зьмены, якія адбыліся зь сярэдзіны 1940-х гадоў у гэтай квітнеючай супольнасьці, былі толькі да лепшага.*

*Размаўляючы пра мястэчка, мы ўтраіх працягнулі нясьпешную прагулку да месца, дзе была прыпаркаваная ўзятая напракат машына. Праз некалькі хвілінаў мы ўжо пад'яжджалі да будынку на галоўнай вуліцы, дзе калісьці разьмяшчалася памятная сяліба майго юнацтва — наш лягер уцекачоў.*

*Будынак нядаўна пафарбавалі ў ружовы колер; вокны па пэрымэтры й рагі дому абвялі белым. Пад вокнамі віселі скрынкі, поўныя рознакаляровых кветак. Як гэта прыгожа, падумаў я, і чаму ж мы не падумалі завесьці такія кветнікі, калі жылі тут? Цяпер жыхары будынку мелі сваю стаянку, дзе я запаркаваў аўтамабіль, і мы ўтраіх накіраваліся да ўваходу ў дом (з таго боку, дзе я калісьці жыў). Нас сустрэла жанчына — адна зь цяперашніх жыхарак дому. Мы ад-*





*рэкамэндаваліся, і я расказаў ёй пра мэту нашага нечаканага візыту. Жанчына прыняла нас сардэчна й зь цікавасьцю. Я запытаўся, ці памятае яна ўцекачоў, якія жылі тут у 1940-х гадах.*

*„Ну хіба ж мы маглі б забыцца на вас?" — адказала яна з усьмешкаю. „Але што вам запомнілася найбольш пра лягер уцекачоў?" — працягваў дапытвацца я. Жанчына расьсьмяялася: „Пра кілбаскі й парсючка". І тут жа, не чакаючы просьбаў, яна распавяла нам усю гісторыю з пакупкай парсючка — у тым выглядзе, у якім яна засталася ў памяці мясцовых жыхароў. „Не сумняюся анітрохі, што гэты аповед — чыстая праўда", — сказаў я й дадаў: „Ці не маглі б Вы завесьці мяне ў сутарэньне? Я б вельмі хацеў пабачыць, як яно цяпер выглядае". Жанчына ахвотна згадзілася. (Гэлена й Багуслаў не пайшлі са мной — яны засталіся ў вэстыбюлі будынку, размаўляючы з жыхарамі, чыю ўвагу мы прыцягнулі сваім візытам.)*

*Жанчына паказала мне квадратнае вакно, праз якое няшчаснага парсючка зацягнулі ў сутарэньне, пры гэтым яна дадала новыя дэталі тае прыгоды. Я агледзеўся. Ня дзіва, што скрыня з вугалем зьнікла; замест яе тут цяпер стаяў газавы кацёл, які награваў ваду для купальняў і кухняў. О, як цудоўна гэта было б — залезьці ў ванну, адкруціць кран з гарачай вадой і з асалодай паплёскацца ў ёй, але ў нашыя часы такая раскоша была нам недаступная.*

*„Гісторыя пра парсюка, якую Вы распавялі, вельмі цікавая, а што гэта за прыгода з кілбаскамі?" — запытаўся я ў жанчыны. Яна ізноў весела расьсьмяялася. Увесь час хіхікаючы, яна пераказала нам увесь эпізод зь няўдалай спробай крадзяжу кілбасак. У яе маляўнічай інтэрпрэтацыі інцыдэнту факты перапляталіся з чуткамі й плёткамі. Гэта ж трэба! — падумаў я. Два маленькія й нязначныя выпадкі разрасьліся да памераў легендарных здарэньняў, і, на жаль, толькі яны засталіся ў памяці мясцовых жыхароў на гады й дзесяцігодзьдзі.*

*Безумоўна, я ня мог не наведаць пакою, дзе я жыў з сваімі дзьвюма сёстрамі й сям'ёй дзядзькі Яна. Жанчына пазнаёміла нас зь людзьмі, якія займалі гэты пакой цяпер: гэта была пара людзей сталага веку, якія прынялі нас вельмі сардэчна. Гаспадар быў вэтэранам Другой сусьветнай вайны, ён змагаўся ў войсках Вэрмахту на Ўсходнім фронце, а потым выжыў у савецкім лягеры для ваеннапалонных. На сьцяне вісела намаляваная ад рукі каляровымі алоўкамі мапа, дзе паказаныя былі ягоныя ваенныя маршруты. Пакуль мы сядзелі на канапе, размаўляючы з гасьціннымі гаспадарамі, я разпораз вяртаўся ў думках у мінуўшчыну. Як маглі мы ўсемярых —*

*трое дарослых і чацьвёра дзяцей — цясьніцца ў адным пакоі й не нажыць нэрвовых расстройстваў? Ды вось жа неяк здолелі.*

*Цяпер у гэтым будынку жылі ня самыя ўдачлівыя пэнсіянэры, якія працавалі на грамадзянскай службе, а таксама вэтэраны Другой сусьветнай. Дом і звонку, і знутры знаходзіўся ў выдатным стане, але ж побытавыя ўмовы для насельнікаў заставаліся вельмі сьціплыя, паводле цяперашніх стандартаў, — адзін пакой для жыцьця, агульная кухня й агульная купальня з прыбіральняй.*

*Для нас, падлеткаў, якія прапусьцілі некалькі гадоў школы, Тырсгайм быў паваротным пунктам — адсюль шлях ізноў прывёў нас у школьныя клясы. Нас траіх — мяне, маю сястру Фаіну й стрыечнага брата Вову — запісалі ў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы, у якой мы павінны былі распачаць заняткі ўвосені. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы была тыповай эўрапейскай сярэдняй школай, якая рыхтавала вучняў да паступленьня ва ўнівэрсытэт. Знаходзілася яна ў Міхэльсдорфе (Michelsdorf), у ваколіцах Каму (Cham). Дачка сьвятара Лапіцкага Лёля й дачка сьвятара Лычка Галя таксама мусілі распачаць школьнае навучаньне ўвосень 1946 году.*

*Для нас, будучых вучняў, кожная хвіліна была дарагая. Вайна перапыніла нашую адукацыю. Некаторым з нас вельмі трэба было дапоўніць веды з асноўных дысцыплінаў — да гэтай катэгорыі вучняў, без сумневу, належаў і я. На нашае шчасьце, выбітныя насельнікі лягеру ўзяліся падрыхтаваць нас да гімназіі. Архіяпіскап Філафей стаў маім настаўнікам беларускай мовы. Звычайна, калі я ўваходзіў у ягоны пакой, я бачыў яго за пісьмовым сталом: ён шмат пісаў. Архіяпіскап махаў мне рукой, каб я сядаў побач зь ім. Празь непрацяглы час ён адсоўваў убок тое, над чым працаваў, і наш урок пачынаўся. Да сёньняшняга дня я вельмі ўдзячны архіяпіскапу Філафею за ягоную бескарысьлівую дапамогу. Андрэй Кандратавіч стаў маім настаўнікам матэматыкі. Мне вельмі пашанцавала — ён быў геніяльны пэдагог, які выдатна тлумачыў матэрыял. Усё, чаму ён навучаў мяне, я схопліваў зь лёту. Мой стрыечны брат Вова таксама студыяваў матэматыку пад кіраўніцтвам Андрэя Кандратавіча. Хачу выказаць сваю запозьненую падзяку гэтаму выбітнаму чалавеку! Архіяпіскап Апанас, які бездакорна валодаў беларускай моваю, таксама займаўся зь дзецьмі. Напэўна, былі сярод жыхароў і іншыя настаўнікі.*

*Баварскія зімы халодныя й слотныя: у гэты час толькі й вучыцца або займацца нейкай справай для душы, якую можна рабіць у хаце.*





*Стрыечны брат Вова быў на сёмым небе, калі бацькі падарылі яму акардэон. Ён граў на ім кожны дзень. Мае ж музычныя здольнасьці пакідалі жадаць шмат лепшага, і гэтак яно засталося па сёньняшні дзень. Таму на розных урачыстых імпрэзах, накшталт Калядаў, я аддаваў перавагу чытаньню вершаў. Для такіх імпрэзаў нам звычайна давалі залю ў будынку гарадзкой управы. Памятаю таксама, як аднойчы да нас з канцэртам прыехалі гастралёры — беларускія танцоры й сьпевакі. Мясцовая канцэртная заля была перапоўненая, і гледачам канцэрт вельмі спадабаўся. Нягледзячы на ўсе гэтыя забавы, я зь нецярплівасьцю чакаў вясны, марачы пра дні, калі я буду гойсаць па маляўнічым навакольлі Тырсгайму.*

*І вось яна прыйшла, доўгачаканая вясна. Дрэвы павольна абуджаліся ад зімовага сну й пакрываліся маладой зелянінай; зацьвілі яблыні й вішні; там і тут распускаліся палявыя краскі, нібы пацьвярджаючы, што халады адступілі незваротна. Ад кветнікаў у некаторых прыватных дамах немагчыма было вока адвесьці — такіяяны былі прывабныя. Якраз з другога боку школьнага двара за плотам быў адзін з такіх кветнікаў, дзе цьвілі ўсемагчымыя краскі й пышна квітнела дэкаратыўнае кустоўе. Гэты сад-аранжарэя прыцягваў увагу ўсіх жыхароў, тым больш што ён быў вельмі добра відзён ад нашага дому. Мне здаецца, цётка Тоня часьцяком купляла ў тым садзе кветкі на розныя выпадкі.*

*Навакольная прырода вабіла мяне найбольш. Луг з празрыстым ручайком, які віецца скрозь густую траву; старадаўні лес — спакойны, непарушны, загадкавы, — усё гэта клікала мяне да сябе. Там, на самоце, я любіў слухаць птушак, назіраць за дзікай прыродай і, безумоўна, зьбіраць грыбы й ягады, калі на іх быў сэзон. Лес зрабіўся маім прытулкам. Вада таксама прыцягвала мяне, як магніт, калі я быў юнаком. За нейкіх дзьвесьце мэтраў ад дарогі, акурат за гарадзкой мяжой, на лузе была сажалка, каля якой у летнія месяцы, у цёплае сонечнае надвор'е зьбіраліся дзясяткі мясцовых жыхароў. Берагі сажалкі былі заўсёды запоўненыя людзьмі. Лежачы на посьцілках альбо ў складных пляжных фатэлях, дарослыя падстаўлялі свае бледныя целы сонечным праменям. Дзеці ў той час весела плюхаліся ў вадзе каля берагу. Я вельмі цешыўся, калі таксама адкрыў для сябе гэты маляўнічы куточак. Заставалася толькі вырашыць, як туды дабірацца. На маё шчасьце, адзін цудоўны й шчодры чалавек падарыў мне ровар. З таго часу я мог плаваць у цёплай вадзе сажалкі колькі хацеў, і я правёў там шмат пагодных дзён лета 1946 году.*

*Летнія дні адышлі ў гісторыю, і я разам зь іншымі падлеткамі выправіўся ў Міхэльсдорф, дзе распачаў навучаньне ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У Міхэльсдорфе я прабыў да канца навучальнага году. Калі ж наступным летам я вярнуўся ў Тырсгайм на вакацыі, сярод маіх першапачатковых плянаў было знайсьці добрае месца для купаньня. Поўны вялікіх надзеяў, я сеў на ровар і паехаў да маёй улюбёнай сажалкі, якая падарыла мне столькі прыемных хвілін мінулым летам. На маё зьдзіўленьне й расчараваньне, каля сажалкі не было ні душы, а яе берагі парасьлі высокай травой. Але ніколі ня ведаеш, дзе страціш і дзе знойдзеш. Адзін з апантаных купальшчыкаў у лягеры прапанаваў мне паехаць зь ім на возера, якое знаходзілася за некалькі кілямэтраў ад Тырсгайму, на ўзвышшы, і куды няцяжка было дабрацца на ровары. Я быў у захапленьні ад таго, што пабачыў: вада ў возеры была крышталёва-чыстая й вельмі спакойная. Ззаду возера крутыя схілы гор парасьлі хвойнікам, купкі лістоўных дрэваў былі раскіданыя па яго берагах. Азярко было невялікае, можна нават сказаць, што драбнюткае, але такое мілае! І тут не было натоўпу. Толькі адзінкі прыяжджалі сюды, каб адпачыць і расслабіцца.*



Спартовы гурток гімназіі імя Я. Купалы з настаўнікам Іванам Мухам.
Міхэльсдорф, 1947 г.





*А яшчэ адной маёй улюбёнай забавай быў футбол. Каманды, якія змагаліся ў раённым турніры, гулялі з фанатычным запалам, і футбольным заўзятарам гэта вельмі падабалася. Я таксама падхапіў „футбольную ліхаманку“. Дый чым яшчэ было заняцца ў нядзелю па абедзе маладому альбо маладому ў душы чалавеку?*

*Я памятаю маладога брамніка з футбольнай каманды Тырсгайму. Ён гуляў проста бліскуча; без сумневу, гэта быў самы лепшы гулец у камандзе, і ён выклікаў усеагульнае захапленьне. Ён прыводзіў сваіх фанатаў да экстазу, ловячы найцяжэйшыя мячы. Да сёньняшняга дня я памятаю некаторыя з гэтых момантаў, калі ён не прапусьціў мяча. Малады брамнік быў новым чалавекам у мястэчку — магчыма, уцекачом зь нейкіх тэрыторыяў, экспрапрыяваных у Нямеччыны пасьля вайны. Ён жыў непадалёк ад нас, на другім баку вуліцы: яго прытуліла адна сям’я, у якой была танюткая прывабная дачка гадоў васямнаццаці.*

*На жаль, німб футбольнай супэр-зоркі моцна пацямнеў, калі людзі даведаліся пра ягоныя пазафутбольныя прыгоды. З куратнікаў на нашай вуліцы пачалі прападаць куры. Справа дайшла да паліцыі. Спачатку думалі на лісіц, але пасьля пільнага дасьледаваньня прыйшлі да высновы, што курэй крадзе нехта зь мясцовых жыхароў. Шмат хто з футбольных фанатаў, і я ў іх ліку, вельмі перайманіся, калі высьветлілася, што галоўнае падазраньне падае на нашага ўлюбёнца-брамніка. Ён, аднак, вырашыў не чакаць, пакуль яго схопяць на гарачым, і ўцёк, пакінуўшы цяжарнай дачку гаспадара, у якога ён жыў. Мне было вельмі шкада, што мой горача любімы герой больш ня будзе цешыць нас сваім майстэрствам.*

*Напачатку лета 1946 году нас наведаў пляменьнік цёткі Тоні, Аркадзь ДэЧыла (яшчэ адзін мой стрыечны брат) з жонкай Лідай. Аркадзю было тады трошкі за трыццаць, я думаю. Ён быў высокі й шчуплы, з бледным тварам і цёмна-русымі валасамі, зачасанымі назад — прыгожы мужчына згодна ўсіх стандартаў. Па прафэсіі ён быў інжынэрам, выпускніком Варшаўскага ўнівэрсытэту. Аркадзь быў выразна гарадзкім індывідуўмам, касмапалітам, ён ня меў сантымэнтаў ні да якога філязофскага кірунку або руху. На першае месца ён ставіў асабістую свабоду, права кожнага чалавека выбіраць свой уласны лёс, незалежнасьць асобы ад уплыву дзяржавы або царквы.*

*Жонцы Аркадзя, Лідзе, магло тады быць каля трыццаці ці таксама трошкі за трыццаць. Яна была натуральнай бляндынкай з чысьцюткай белай скурай. Тонкія рысы яе твару беспамылкова сьведчылі*

*пра шляхетнае паходжаньне. Яна была напорыстай, упэўненай у сабе асобай: не вагалася ані хвіліны, калі хацела выказаць сваю думку на спрэчныя тэмы. Яе з поўным правам можна было назваць свабоднай жанчынай, жанчынай з будучыні, якая апярэджвала свой час. Яна была нарадзінкаю вельмі касмапалітычнага гораду — Варшавы. У рафінаваных колах даваенная Варшава мела славу „ўсходняга Парыжу“. Яе пасьпяховыя сыны й дочкі пражывалі сваё жыцьцё зь нязгасным запалам, пачасту выдаткоўваючы больш, чым яны маглі сабе дазволіць. Няма сумневу, што Ліда таксама спазнала смак бязьбеднага жыцьця.*

*Была й яшчэ адна выразная рыса, якая вылучала Ліду ад астатніх: яна была габрэйка. Неверагодна! Як ёй удалося перажыць Галакост? Відаць, сваю ролю адыгралі ўменьне знаходзіць выйсьце з кожнай сытуацыі, прыродная геніяльнасьць, прага да жыцьця й папросту ўдача. Ліда была змагарка ад прыроды. Калі ў жнівені 1944 году выбухнула Варшаўскае паўстаньне, яна далучылася да польскіх падпольшчыкаў, якія зрабілі адчайную, але няўдалую спробу вызваліць горад ад немцаў да прыходу Чырвонай арміі. Гэты крывавы супраціў доўжыўся некалькі тыдняў.*

*Я прыгадваю адну з ваенных гісторыяў, расказаных Лідай — мароз прабіраў па скуры ад аповеду пра тое, як ёй удалося высьлізнуць літаральна з-пад носу ў немцаў. Невялікая група польскіх падпольшчыкаў, у якой была Ліда, трапіла ў аблогу. Прарвацца праз нямецкае атачэньне не было аніякай магчымасьці. Здацца — значыць, гарантавана трапіць пад расстрэл. Што ж заставалася? Толькі надзея! Адзін з байцоў, чалавек з шурпатым тварам, пераканаў сяброў не паддавацца паніцы. Ён паабяцаў ім, што ўратуе іх, калі яны будуць ува ўсім яго слухацца. Адзінае, пра што ён іх папрасіў — цалкам даверыцца яму. Ён распавёў сваім паплечнікам, што да вайны працаваў у дарожнай службе й шмат разоў спускаўся пад зямлю, у каналізацыйныя люкі. Плян таго чалавека быў просты: яны будуць уцякаць праз сыстэму каналізацыі. Людзі ўбачылі ў гэтым надзею, некаторыя ўздыхнулі з палёгкай.*

*„Мы альбо патонем там у людзкім дзярме, альбо задыхнемся“, — прашаптаў нехта. „Калі мы будзем ісьці вельмі асьцярожна й глядзець, куды ступаем, усе застануцца жывыя“, — запэўніў іх выратавальнік. Падпольшчыкі спусьціліся сьледам за гэтым мужчынам у каналізацыйную трубу, якая ішла пад вуліцай. Намацваючы свой шлях у абсалютнай цемры, яны раптам трапілі ў воблака мотшлівага газу. (Немцы распылялі атрутныя газы ў сыстэме каналізацыі, спрабуючы выкурыць з-пад зямлі барацьбітоў супраціву.) Але гэтай групе падпольшчыкаў пашанцавала: канцэнтрацыя газу на іхным шляху аказалася не настолькі моцнай, каб перарваць іхнае падарожжа. Вочы іхныя сьлязіліся, і ў горле пяршыла, але яны былі здольныя ісьці далей. Змучаныя, людзі спыніліся перадыхнуць якраз пад каналізацыйным люкам. Раптам цішыню наверсе разрэзаў тупат нямецкіх ботаў і галасы жаўнераў. Жаўнеры хадзілі ўзад-уперад, якраз над галовамі ўцекачоў. Ліду працяў жах. І тут раптам адзін з уцекачоў закашляўся. У той жа момант былы дарожны рабочы, які вёў групу, схапіў гэтага мужчыну ззаду й заціснуў яму рот рукой. Той мужчына выжыў і потым шмат разоў расказваў гэтую самую гісторыю.*

*Група ўцекачоў здолела прайсьці падземным калідорам і падняцца на паверхню на бясьпечнай тэрыторыі. Перажыўшы гэтую падзею, ад якой стылі косткі, Ліда вырашыла, што зь яе хопіць, што прыйшоў ейны час адысьці ад супраціву й пакінуць змаганьне іншым. Пераапранутая да непазнавальнасьці, яна змагла выехаць з Варшавы.*

*Аркадзю таксама давялося перажыць падчас Варшаўскага паўстаньня момант, калі ён ледзь не загінуў. Недзе ў межах палаючага гораду яго спыніў на вуліцы нямецкі патруль. У партфэлі Аркадзь нёс не зусім звыклы груз: царскія залатыя манэты, ювэлірныя вырабы, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі, і пару пачкаў банкнотаў. Скарб быў ня толькі ягоны: частка рэчаў належала ягонай жонцы Лідзе, ейным бацькам, братам і сёстрам. Патруль пацягнуў Аркадзя ў вайсковы штаб. Змрочныя думкі перапаўнялі яго. Што чакае яго ў канцы дарогі — куля ў патыліцу каля бэтоннай сьцяны? На шчасьце, зь бязвыйснага, здавалася б, становішча, знайшоўся выхад. У памяшканьні вайсковага штабу Аркадзь спакойна папрасіў дазволу паразмаўляць з афіцэрам. Ён сказаў афіцэру, што ўцякае ад расейцаў; што савецкі рэжым перасьледаваў ягонага бацьку, сьвятара ўсходняй праваслаўнай царквы; што ён ня мае нічога супольнага з паўстанцамі й асабіста сам асуджае іхныя дзеяньні; і што калі яму дазволяць безь перашкодаў пакінуць горад, ён ахвотна падзеліцца з афіцэрам зьмесьцівам свайго чамадана. Да вялікай палёгкі Аркадзя, афіцэр кіўнуў галавой на знак згоды. Частка скарбу перайшла ў рукі афіцэра, а Аркадзя пасьля гэтага вывезьлі на вайсковым транспарце за горад, у бясьпечнае месца, якое ён сам выбраў.*

*Існуе іншая вэрсія гэтай Аркадзевай прыгоды. Адпаведна зь ёю, Аркадзь нёс скарб у валізе, каб перадаць яго польскім падпольшчыкам.*

*Калі яго спыніў патруль, жаўнеры бяз доўгіх цырымоніяў паставілі яго да сьценкі й хацелі расстраляць на месцы. Застаецца, аднак, загадкай, якім чынам Аркадзю тады ўдалося пазьбегнуць вернай гібелі. Мне асабіста гэтая другая вэрсія падзей падаецца малаверагоднай. Аркадзь быў вельмі рацыянальным чалавекам, ягоны халодны розум звычайна пралічваў кожную сытуацыю наперад, і для яго на першым месцы заўсёды стаяла асабістая бясьпека й дабрабыт. Калі ў 1939 годзе Польшча была падзеленая паміж нацысцкай Нямеччынай і савецкай Расеяй, Аркадзь жыў у Варшаве. Калі б ён жыў на „крэсах усходніх“ (тэрыторыі Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны), яго б, без сумневу, арыштавалі й пакаралі сьмерцю або выслалі ў ГУЛАГ, дзе б ён і загінуў бязь сьледу. Таму якую крыўду мог мець Аркадзь да нямецкіх акупантаў? Не хачу сказаць, што ён падтрымліваў зьнішчэньне нацыстамі габрэяў і іншых людзей. Наадварот, сам па сабе Аркадзь асуджаў гэтыя варварскія злачынствы. Але ён быў ня схільны — ад прыроды ці ад перакананьняў — рызыкаваць сваёй скурай дзеля іншых. Яго цалкам задавальняла становішча, калі змаганьнем займаліся іншыя, і ў лік гэтых іншых уваходзілі палякі.*

*Цягам усёй гісторыі палякі ўсімі сіламі спрабавалі зьнішчыць самаідэнтычнасьць беларускай і ўкраінскай меншыняў у межах польскай дзяржавы. І адной зь перашкодаў на шляху гэтых плянаў стала ўсходняя праваслаўная вера названых меншыняў. Як украінцы, гэтак і беларусы, што жылі ў Польшчы, былі пераважна праваслаўныя. Палякі ж, у абсалютнай сваёй большасьці — рыма-каталікі. Таму задача навярнуць усходне-праваслаўнае насельніцтва ў каталіцызм сталася Сьвятым Граалем Рымскай каталіцкай царквы, і застаецца такой да нашых дзён. Як і чакалася, ярархі ўсходняй праваслаўнай царквы рабілі ўсё, што ў іхнай моцы, каб адбіць напады з боку Каталіцкай царквы, і робяць гэта да нашага часу. У сваім імкненьні перарабіць сваіх грамадзянаў усходне-праваслаўнага вызнаньня на каталікоў польскі ўрад сягнуў да адкрытага прымусу. Не-каталікам было забаронена займаць большасьць дзяржаўных пасадаў, уключаючы працу ў паліцыі і ў школах. Існаваў цэлы сьпіс іншых абмежаваньняў для праваслаўных. Аркадзь цьвёрда трымаўся сваёй праваслаўнай веры, да вялікай радасьці ягонага бацькі, які быў шчырым і адданым сьвятаром Усходняй праваслаўнай царквы на „крэсах усходніх“. Хіба ж усіх гэтых прычынаў было недастаткова, каб Аркадзь трымаўся далёка ўбаку ад непасрэднага ўдзелу ў Варшаўскім паўстаньні? На маю думку, больш як дастаткова.*





*Дзядзька, цётка й Тая былі вельмі радыя, што Аркадзь і Ліда затрымаліся ў нас у гасьцях на некалькі дзён. Мы, дзеці, цешыліся зь іхнай кампаніі таксама. У мяне засталіся вельмі прыемныя ўспаміны пра Аркадзя й Ліду. Я ня памятаю, каб я сустракаўся з Аркадзем калісьці раней.*

*Лета заканчвалася. Неўзабаве я, мая сястра Фаіна й стрыечны брат Вова будзем выпраўляцца ў Міхэльсдорф, у Беларускую гімназію імя Янкі Купалы, каб узнавіць нашую адукацыю, перарваную вайной на доўгі час. Лёля, дачка сьвятара Лапіцкага, і Галя, дачка сьвятара Лычко, таксама рыхтаваліся да паездкі ў Міхэльсдорф, каб працягнуць там навучаньне ў беларускай школе, якая рыхтавала да ўнівэрсытэту. Мая сястра Ніна заставалася дома: было вырашана, што яна яшчэ замалая, каб выйсьці з-пад нагляду апекуной, яе дзядзькі й цёткі. Стрыечная сястра Тая на той час ужо выехала з Тыргайму, каб студыяваць мэдыцыну ў Мюнхэне (Munich). Малады хлопец, імя якога я забыўся, таксама пакінуў лягер і студыяваў мэдыцыну недзе ў Нямеччыне.*

*У 1946 г. мітрапаліт Панцейляймон у згодзе зь іншымі беларускімі архіяпіскапамі, якія жылі ў нашым лягеры, прынялі нечаканае рашэньне. Яны — сынод — вырашылі выйсьці зь Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы й далучыцца да Рускай усходняй праваслаўнай царквы ў замежжы. Гэтае рашэньне мела глыбокія нэгатыўныя наступствы як для рэлігійнага, гэтак і для палітычнага жыцьця беларускіх эміграцкіх суполак таго часу. Яно пасеяла зерне разладу й недаверу, у вялікай ступені спрычыніўшыся да расколу й сварак спасярод беларускіх эмігрантаў. Водгульле гэтай падзеі працягвала вярэдзіць жыцьцё беларускай грамады празь дзесяцігодзьдзі, потым ужо ў іншых краінах, куды пераехалі беларускія эмігранты. Ці можна, паклаўшы руку на сэрца, сказаць, што былі нейкія грунтоўныя й важкія прычыны, якія змусілі сьвятароў да адступніцтва? Я ня буду абмяркоўваць гэтай тэмы. Лічу, што час сам расставіць усё на месцы й што суд гісторыі — самы справядлівы.*

*Калі зьвесткі пра тое, што мітрапаліт і архіяпіскапы адышлі ад Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, зрабіліся набыткам грамадзкасьці, я амаль не зьвяртаў увагі на тое, як іх успрынялі людзі. Але я памятаю рэакцыю Івана Касяка: ён быў проста прыбіты такой навіной.*

*Толькі тры беларускія сьвятары: мой дзядзька Ян Жарскі, айцец Лапіцкі й айцец Лычко — не пайшлі за архіяпіскапамі. Яны*

*пацьвердзілі сваю незалежнасьць ад сыноду, набываючы тым самым волю вырашаць свой уласны лёс, служыць Госпаду й людзям, як падказвала ім іхнае сумленьне.*

## Дакумэнты (улёткі, адозвы, звароты)[117]

### *Літаратурны бандытызм*

*Самавольства ў выпраўленьні тэкстаў нашых паэтаў, якога дапусьціўся Брачыслаў Скарыніч (ведамы ўжо нашаму асьвечанаму грамадзтву псэўдонім!) у выдадзенай нядаўна друкам кніжцы пад назовам „Новы песеньнік крывіцкі (беларускі) для школаў" (Аўгсбург, 1946), нельга назваць інакш як літаратурны бандытызм.*

*Мы ня будзем зусім спыняцца над пэдагагічна-дыдактычнай вартасьці гэтага песеньніка (здаровае нацыянальна і маральна грамадзтва не дапусьціць яго ў школы), дзе спатыкаем такія песьні, як „Зажурылась пападзьдзя", розныя любоўныя песьні і інш., ня будзем спыняцца над „апіскамі" „ўкладаньніка" (новае слова!), у выніку чаго, напр., верш „Наперад" мае быць... народным творам, над правапіснымі памылкамі. Пераконваць заўзятага „ўкладаньніка" мы не зьбіраемся.*

*Мы хочам толькі выказаць сваё абурэньне і змабілізаваць грамадзкую апінію супроць неспатыканага ні ў водным культурным грамадзтве злачынства, якога дапушчаецца выдавец.*

*Мала таго, што „ўкладаньнік" песеньніка ўсюды бесцарамонна перапраўляе слова „Беларусь" на „Крывіччына", але ён выпраўляе і зьмяняе зьмест і стыль вершаў жывучых яшчэ і памёрлых ужо нашых песьняроў. Вось некалькі красачак для ілюстрацыі: Верш М. Багдановіча „Завіруха" выпраўлены на „Зіма" (чаму ня „Восень"?), замест „у бубны дахаў вецер б'е" праўшчык зьмяняе „у бубны стрэхаў вецер б'е" (выходзіць нешта накшталт „палатняных званоў"!); у вершы Я. Коласа замест „О, край родны, край прыгожы" мы чытаем „Краю родны, краю гожы", у вершы Я. Купалы „Не пагаснуць зоркі ў небе" замест „Не загіне край забраны" чытаем „Не загіне край крывіцкі". І толькі там, дзе Скарыніч ніяк ня мог зьмяніць зьненавіджанага ім слова „Беларусь", ён гэтае слова пакідае (як відаць, „укладаньнік" яшчэ разьбіраецца ў рыфмах).*

*Мы ня хочам пераконваць выдаўца, што ён ня мае ніякага права зьмяніць тэксты паэтаў бязь іх згоды, што калі б кожны пачаў правіць творы, дык ня было б ніякай літаратуры. Мы хочам зьвярнуцца да нашага грамадзтва з пытаньнем: што рабіць супроць гэткага самавольства? Калі яшчэ жывыя паэты і могуць нейкім чынам знайсьці праўныя санкцыі, дык як захаваць ад зьдзекаў нябожчыкаў?*

*Мы прызвычаіліся ўжо неяк замаўчваць розныя злачынствы безадказных асобаў, усё ў добрай веры, што гэта „каб людзі не сьмяяліся", „нашто шумець", „хай будзе ўжо паміж намі". Але калі знаходзяцца Дон Кіхоты, якія, вымахваючы мячом супроць уяўленых млыноў, пачынаюць зачапляць (сьвядома ці несьвядома) нашыя нацыянальныя сьвятасьці, — нельга маўчаць!*

*Пара пакончыць з гэтымі сьмяхосамі, якія прыносяць сорам нашаму грамадзтву!*

*Заклікаю ў першую чаргу нашае літаратурнае згуртаваньне, як найбольш пакліканае й пакуль што адзіна аўтарытэтнае на чужыне, заняць сваё становішча ў дачыненьні да выдадзенае кніжыцы.*

*С. Залужны*[118]

*На правах рукапісу*

### *Выясьненьне*

*Дагэтуль у нас на чужыне нічога не друкавалася. Ад гэтага вялікая шкода нашай эміграцыі і нашаму беларускаму ці іначай крывіцкаму народу, а ворагам ягоным уцеха. Нашыя ворагі хацелі б, каб у нас і далей нічога не друкавалася. Дзеля таго калі, балеючы душою за свой народ, пачаў я выдаваць друкам беларускія кніжкі і ўжо выдаў „Новы песеньнік крывіцкі (беларускі) для школаў", яны паднялі крык, хочучы гэтым запыніць пачатую работу. Як бы на заказ маскоўскай чорнай і бальшавіцкай сотні напаў на мяне ў „Шляхам жыцьця" С. Залужны.*

*Ён вінаваціць мяне ў гэткім:*

*першае, што ў маім песеньніку ёсьць адна жартлівая песьня пра пападзьдзю і ёсьць, між іншага, любоўныя народныя песьні;*

*другое, што часткова я слова „Беларусь" замяніў на „Крывія";*

*трэйцяе, што я зрабіў некаторыя іншыя праўкі ў мове вершаў.*

*Я адкажу па парадку. Ёсьць у нашага народу жартаўлівыя песьні і прыказкі пра сялян і пра іншыя станы. Ёсьць жартаўлівыя песьні і пра духавенства, і яны друкаваліся ў кажным зборніку песьняў, і*

[117] Ва ўсіх пададзеных дакумэнтах захаваныя асаблівасьці правапісу арыгіналаў.

[118] Шляхам жыцьця. №12. 25 сьнежаня 1946. С. 40.

*ніхто за гэта ніколі не нападаў на выдаўцоў. Не нападаў і бязбожны „абаронькік" духавенства Залужны. Дык за што ж нападаць за лёгка-жартаўлівую песьню пра пападзьдзю (яна ж і не духавенства!), песьню, каторая магла б быць друкавана нават пра сьвятога! А што да любоўных песьняў, дык бальшыня народных песьняў — любоўныя, і няма ў гэтым нічога благога. Нікому і ніколі такія народныя песьні ня шкодзілі. Значыцца, прычына нападу Залужнага на мяне тут іншая.*

*Адказваю на другі закід. Ужо даўно насьпела пара вярнуць нам стары наш праўдзівы назоў „Крывічы" замест накіненага нам Масквою і шкоднага назову „Беларусы". Дзеля таго ідэйныя сьвятлейшыя людзі гэта робяць. Дзеля таго і ў маім песеньніку, дзе толькі дазваляў верш, назоў „Беларусь" заменены на „Крывія". Падобныя замены робяцца ня толькі ў папулярных выданьнях, але і ў навуковых. Прыкладам, гэтак робяць украінцы із сваімі старымі памяткамі, замяняючы ў іх стары свой назоў на новы „Ўкраінцы". Гэтак жа было зроблена ў вершу Багдановічам „Пагоня", дзе слова „літоўскай" заменены на „крывіцкай", бо слова „літоўскі" мае цяпер інакшае значэньне. Ніхто супроць гэтага ня выступіў. Зусім нядаўна хтось пераклаў на нашу мову запіскі сакратара Сьцяпана Батуры пад назовам „Пад Полацкам дажджы"[119]. Запіскі гэтыя ёсьць гістарычнай памяткай. Перакладнік іх усюды словы „ліцьвін", „Літва", як тады зваўся наш народ, замяніў на „беларус, Беларусь". Пераклад быў зроблены ў тым самым лягеры Ватэнштэце, дзе жыве Залужны, і ані ён, ані ніхто іншы супроць гэтага ня выступілі. Дык тут ізноў прычына нападу не ў замене, а ў тым, што заменены маскоўскі назоў „Беларусы" на наш спрадвечны „Крывічы".*

*Назоў „Крывічы" ня толькі пачалі ўжываць на чужыне, але ўжывалі яго і ў Беларускай савецкай сацыялістычнай рэспубліцы, а сьмялейшыя людзі ўжываюць яго й цяпер у Бацькаўшчыне, дарма што там за гэта НКВД вельмі карае, ссылае на Салоўкі і іншае, а нават сьмерцяй. Мы ня ведаем, зь якой гэта ласкі Залужны пераймае на сябе заграніцаю работу НКВД.*

*Адказваю на трэйці закід. Назоў вершу „Зіма" замест „Завіруха" лучыў з прычыны карэктарскага недагляду. А польскі германізм „дах" („у бубны дахаў вецер б'е") я замяніў на „страху" („у бубны стрэхаў вецер б'е"). Стрэхі, ведама, бываюць розныя: саламяныя, з гонтаў, бляшаныя і інш. і толькі недаволі знаючаму нашу мову Залужнаму здаецца, што калі „панская" страха, дык мусіць „па-панску" і звацца. У вершы Коласавым пастаўлены ў мяне клічны склон там, дзе ён павінен быць. Прызнаюся, што гэта зрабіў я бяз згоды Коласа, бо нас дзеліць зялезная бальшавіцкая заслона. Няўжо ж Залужны дастаў ад яго правамач на абарону?*

*У вершы Купалавым „Не пагаснуць зоркі ў небе", каторы стаў нацыянальным гімнам, замест „Не загіне край забраны" я паставіў „Не загіне край крывіцкі". На ўсім сьвеце, калі верш робіцца нацыянальным гімнам, дык зьмест ягоны болей або меней мяняюць — каб прытарнаваць да вымаганьняў гімну. Таксама і тут, забраных краёў ёсьць шмат, а нам ідзе пра наш, крывіцкі край. Дзеля таго ўжо даўно некаторыя прабавалі замест „край забраны" пяяць „край наш родны". У замене слова „забраны" на „крывіцкі" сэнс застаўся той самы, папраўка прыдала яму толькі яснае, кажнаму зразумелае значаньне. Але вось у іншым вершы таго самага Купалы, у радку, дзе кажацца, што Крывія зойме свой „пачэсны пасад між славянамі", рэдакцыя выходзячых у Парыжы „Беларускіх Навінаў"[120] (нумар 1 з 5.1.47, парэдні артыкул унізе) замяніла слова „славянамі" на „народамі". Тут ужо зьменена ня толькі слова, але і значэньне. Відавочна, зьмену зрабілі з тае прычыны, што гэтая фраза сталася лёзунгам.*

*Разгледжанымі трыма і агранічаюцца мае праўкі мовы вершаў, а тым часам Залужны падаў іх як прыклады, а быццам папраўкаў у песеньніку мноства. Гэтым ён сьвядома хвальшыва прадставіў справу.*

*Хачу тут зазначыць, што кажная рэч добрая на сваім месцы. У існуючых вякі літаратурных мовах, з выняткам гімнаў, гэтак ня робяць. Але ў такіх мовах, як нашая, што толькі ўзыйшла на літаратурную дарогу, бывае, папраўкі канечне трэба рабіць. Гэныя два вершы, у каторых зроблены папраўкі, былі напісаны перад першай сусьветнай вайной, тады, калі ў нас яшчэ літаратурнай мовы не было і не было граматыкі. Дзеля таго ж няма ў нас ніводнага падручніка чытаць, у якім бы ня толькі былі зробленыя папраўкі мовы паэтаў і пісьменьнікаў. Бо кажная кніжка на тое выдаецца, каб служыла нашаму народу, а ня шкодзіла яму, засьмячаючы ягоную мову. Ведама,*

[119] Маецца на ўвазе выданьне: Гайдэнштайн, Р. Над Полацкам ізноў дажджы: Фрагмэнты ўспамінаў. Рэгенсбург, 1946.

[120] **„Беларускія навіны"** — беларуская газэта, якая выдавалася ў 1945—1947 гг. у Парыжы Лявонам Рыдлеўскім. Усяго выйшла 8 нумароў.

*папраўляць могуць адно тыя, што добра знаюць родную мову, а не якісь Залужны, што гавора нячыстай крывіцкай моваю і які думае, што „панскія" рэчы мусяць быць названы па-польскі, а рэвалюцыйныя па-маскоўску.*

*Калі б Залужны пісаў шчыра, дык можна было б яму дараваць, бо ці мала цёмных людзей на сьвеце, не заўсёды яны вінны сваёй цямноце. Але ён сьвядома піша няпраўду, бо ён ведае тое, што тут выясьнена.*

*Якая ж прычына гэтага нападу Залужнага? Прычына ня толькі ў непрыязьні да мяне, але галоўна ў тым, што ён апынуўся ў маскоўскай арганізацыі. Як бачыце, другая прычына вялікая. Але і першай прычыны я ня змог бы здолець, бо я слабы там, дзе бязь „літраў" не патыкайся. Нецікава ведаць, ці ў гэтым нападзе толькі адрыгнулася няслаўная мінуласьць Залужнага, ці гэта праява ейнага адраджэньня.*

*[1947 г.]* — *Брачыслаў Скарыніч*

### *Зварот да Беларусаў Амэрыканскае Зоны Нямеччыны!*

*30 чэрвеня 1947 г. UNRRA закончыла сваё існаваньне. Далейшы лёс DP пераняла ў свае рукі новая міжнародная арганізацыя, так званая IRO. У той час як галоўным заданьнем UNRRA была рэпатрыяцыя высяленцаў у свае краіны, аснаўным заданьнем IRO ёсьць урэгуляваньне праўнага становішча высяленцаў. Такім парадкам прымусовая рэпатрыяцыя нікому цяпер не пагражае — належыць да недалёкай жудаснай мінуўшчыны.*

*У сваёй дзейнасьці IRO падпарадкоўваецца гаспадарчай камісіі Арганізацыі Задзіночаных Народаў. IRO распачне сваю работу з выдачы высяленцам новых дакумэнтаў, больш-менш падобных да Нансанаўскіх пашпартаў. Найгалоўнейшым, аднак, заданьнем IRO будзе арганізацыя выезду высяленцаў зь Нямеччыны і Аўстрыі ў іншыя краіны Эўропы або за акіян, на сталае месца працы. У аснову сваёй працы IRO кладзе шырокі нацыянальны прынцып. Гэта значыць, што кожная нацыянальная група можа жыць у асобных лягерах, у сувязі з чым усе высяленцы падзелены на 22 нацыянальныя групы. Мы, беларусы, амаль усе ўключаны ў групу „польскія беларусы".*

*Нягледзячы на такія шырокія магчымасьці выдзяленьня беларусаў з чужых лягераў, многія беларусы і да гэтага часу застаюцца ў польскіх, расейскіх ці ўкраінскіх асяродках.*

*Беларусы! Выкарыстайце нацыянальна-праўныя магчымасьці міжнароднай арганізацыі для высяленцаў! Галоўная Гаспода IRO загадала ... *





*пэўніла Беларускі Камітэт на Амэрыканскую зону Нямеччыны, што выдзеліць усіх беларусаў у асобныя нацыянальныя беларускія лягеры або ўтворыць новыя для ўсіх беларусаў-высяленцаў.*

*У сувязі з гэтым неабходна:*

1. *Як найхутчэй у кожным чужым лягеры ўлажыць іменныя сьпіскі ўсіх беларусаў згодна з далучанымі раней фармулярамі.*
2. *Беларусы, каторыя запісаны палякамі, расейцамі або ўкраінцамі, павінны быць таксама запісаныя на агульную лісту. Увага: трэба памятаць каждаму беларусу, што ў пераважаючай большасьці выпадкаў беларускіх высяленцаў адміністрацыя UNRRA запісвала паміма іх волі палякамі паводле іх ранейшай дзяржаўнай прыналежнасьці, а беларусаў, пражываючых у расейскіх або ўкраінскіх лягерох, запісвалі паводле нацыянальнага характару лягеру.*
3. *Неабходна выясьніць менш сьведамым і нерашучым беларускім высяленцам неабходнасьць пераходу з нацыянальна чужых у свае беларускія лягеры.*
4. *Выпаўненыя сьпіскі безадкладна належыцца прывесьці пасланцам у Беларускі Акруговы Камітэт на мюнхэнскую акругу пад адрасам: Munchen-Feldmoching, DP Lager, Barrack 140 або ў Беларускі Камітэт на Амэрыканскую зону Нямеччыны пад адрасам: Weissruthenisches DP Lager, Osterhofen, Kreis Vilshofen.*

*Недатрыманьне абавязку запісу пацягне за сабою вельмі непажаданыя вынікі, як:*

1. *Выдачу паспартоў праз IRO на чужую нацыянальнасьць, чаго зьмяніць потым ня ўдасцца праз цэлы час прабываньня на эміграцыі.*
2. *Дабравольнае зрачэньне з усіх грамадзка-праўных, культурна-асьветных і рэлігійных прывілеяў, якія дае кожнаму ўласны лягер для свайго жыхарства.*
3. *Застаючыся і надалей у чужым лягеры, кожны беларус тымсамым дабравольна зракаецца з прыналежнасьці да сваёй нацыянальнасьці і паддаецца сам і пацягае за сабою сваю сям'ю на шлях поўнай дэнацыяналізацыі.*
4. *Выезд зь Нямеччыны ў краіны Эўрапейскага кантынэнту альбо за акіян з нацыянальна чужых лягераў выкліча яшчэ большую нашу расьцярушанасьць, у той час як эміграцыя з сваіх уласных*

*асяродкаў дае поўную магчымасьць выезду большымі альбо меншымі нацыянальнымі групамі, аселеным на выгнаньні разам з сваімі блізкімі і знаёмымі, роднымі па мове, звычаях і культуры беларусамі, нам не адчуецца так балюча ўтрата сваёй дарагой бацькаўшчыны, як гэта было б у нацыянальна чужых асяродках. Кожны беларус хоча жыць поўнасьцю сваім собскім жыцьцём.*

*Закінуты нядоляй у ўмовіны чужых грамадзкіх асяродкаў, беларус як адзінка, як чалавек траціць сваё нацыянальнае аблічча, становіцца ня толькі бяздомным, але і нявольнікам чужога яму акружэньня.*

*Беларусы! У абліччу поўнай пагрозы нашай нацыянальнай сьмерці тут на чужыне, у абліччу поўнага духовага паняволеньня, у абліччу маральнай адказнасьці за нявыканаты наш абавязак перад сваёй Бацькаўшчынай на выгнаньні, у абліччу гераічных змаганьняў нашых братоў і бацькоў, якія зрашваюць сваею крывею абшары нашай далёкай і дарагой радзімы, змагаючыся за волю ўсяго Беларускага Народу, хай не застанецца ніводнага беларуса ў чужых нацыянальных асяродках нашага часовага выгнаньня, хай ні адзін з вас ня здрадзіць вялікай Беларускай сям'і!*

*Мюнхэн, 17.8.1947* *Беларускі Акруговы Камітэт*

### *Да Беларускага Акруговага Камітэту ў Остэргофэн*

*А ці ведама Беларускаму Акруговаму Камітэту, што „Беларускі" Архіяпіскап Філафей вывез зь Менску грамадзка-царкоўных грошаў больш як 200.000 нямецкіх марак.*

*А ці ведама..., што архіяпіскап Філафей яшчэ ў Львове жыў з жонкай аднаго Польскага Афіцэра, які, даведаўшыся аб гэтым, гнаўся за ім і хацеў застрэліць яго ў Варшаве ў пакоях Мітрапаліта Дзіянісія*[121].

*А ці ведама..., што архіяпіскап Філафей разьбіў сямейнае жыцьцё сп. Шастакова і жывець цяпер зь яго жонкай Ларысай.*

*А ці ведама..., што на Каляды архіяпіскап Філафей абходзіў Беларускі лягер па калядзе ў Herrenbergu, назьбіраў там хлеба, прадаў яго і купіў сабе на гэтыя грошы радзіоапарат у тым самым лягеры.*

[121] **Дыянісій** (сьвецкае **Канстанцін Валядзінскі**, 1876—1960), праваслаўны дзеяч, мітрапаліт Варшаўскі, з 1924 г. — кіраўнік Польскай праваслаўнай аўтакефальнай царквы.





*А ці ведама..., што „Беларускі Япіскапат" у канцы месяца жніўня 47 г. пасылаў сьвятара Мікалая Лапіцкага, І. Касяка і сьвятара-ўкраінца Ф. Барышкевіча шукаць месца каля Швайцарскай граніцы, каб там схавацца ад беларускай грамадзкасьці.*

*А ці ведама..., „Беларускі Япіскапат" 30 жніўня г. г. пасылаў сьвятара Ф. Барышкевіча і І. Касяка ў бок гор. Landshut да расейцаў прасіцца, каб іх туды прынялі, і ім у гэтым адмовілі.*

*А ці ведама..., што так званы „Беларус" Іван Касяк, які знаходзіцца на паслугах у „Беларускіх Япіскапаў", імі ж пазбаўлен споведзі і Сьв. Прычасьця на тры гады, пачынаючы ад леташняга году.*

*А ці ведама Беларускаму Акруговаму Камітэту, што жыхары Беларускага лягеру ў Ватэнштаце запрасілі да сябе адведаць іх „Беларускага" Мітрапаліта Панцеляймона, і ён ім у гэтым адмовіў.*

*Вось якога мы маем „Беларускага Першаіерарха".*

*А нарэшце ці ведама.., што „Беларускі Епіскапат" збіраіць друкавы матар'ял, у якім нібы ёсьць нешта, абражаючае Япіскапаў, і тых асоб, якія гэта пісалі, пацягнуць да судовай адказнасьці.*

*А ці ведама, што жыхары Беларускага лягеру ў Майнлейзе прасілі „Беларускі Епіскапат" назначыць ім Сьвятара-беларуса, і ім у гэтым адмовілі.*

*13.10.1947 г. гор. Рэгенсбург.*

### *Грамадзяне!*
### *Праваслаўныя Браты Беларусы!*

*Нашае сумленьне як праваслаўных беларусаў змушае нас зьвярнуцца да Вас з гэтымі словамі праўды і перасьцярогі. За ўсё чыста, што тут напісана, бяром поўную адказнасьць і ўсё гэта давядзём.*

*Што за былы беларускі япіскапат? Былы беларускі япіскапат складаецца з чатырох расейцаў — Панцеляймона, Венедыкта, Сьцяпана*[122] *і Грыгорыя — і двух — Філафея і Афанасія — хоць і беларускага паходжаньня, але ўзгадаваных у расейскім духу і па янычарску адданых расейскай палітыцы. Яны чужыя па духу (а бальшыня і па крыві) беларускаму народу. Ім зусім ня дорага патрэбы нашага народу. Пра гэта сьведчыць хоць бы той факт, што калі яны пасьля*

[122] **Сьцяпан** (свецкае **Сямён Сеўба**, 1872—1965), праваслаўны дзеяч, падчас Другой сусьветнай вайны япіскап Смаленскі і Бранскі БАПЦ. У 1944 г. эміграваў за мяжу. З 1946 г. — архіяпіскап Венскі й Аўстрыйскі пад юрысцыкцыяй Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы.

*вайны апынуліся ў амэрыканскай зоне, дык у сваім лісьце-просьбе да генэрала Айзэнгауэра*[123] *яны ані словам не закінулі за сваю мільённую паству, якая, ператрываўшы ад нямецкага нацызму нячуваныя мучэньні, апынуліся перад страхам высылкі ў СССР, дзе іх чакала сьмерць. Не, яны толькі прасілі за самых сябе — за шасьцёх япіскапаў. На іх сумленьні ў вялікай ступені ляжыць факт, што каля мільёну нашых братоў зьвезьлі ў сталінскую катоўню. Адныя зь іх ужо ў магіле, іншых жджэ магіла на Салоўках, у Казахстане і інш. Дык за што гэта япіскап Афанасі на пропаведзі ў Рэгенсбургу прыраўнаваў Сталіна да сьвятога Канстанціна Раўнаапостальскага*[124] *?*

*Здэмаралізаваныя царска-расейскай, польскай, нямецкай і расейска-бальшавіцкай палітыкаю, гэтыя япіскапы гатовы пайсьці на службу да кажнага, ад каго спадзяюцца сабе асабіста карысьці, а найахватней да ворага беларускага народу, бо кажны панluючы над беларускім народам чужнік і свой вырадак-беларус яму, беларускаму народу, непрыяцель. Вось жа гэты япіскапат выракся сьвятой аўтакефальнай беларускай праваслаўнай царквы і ўлiўся ў расейскую зарубежную царкву. Часьць япіскапаў расейскай зарубежнай царквы зьяўляюцца савецкімі грамадзянамі і прызнаюць маскоўскага патрыярха. Таксама мітрапаліт Евлогій*[125] *, што стаяў на чале ўсяе Расейскае зарубежнае царквы, прыняў быў савецкае грамадзянства, прызнаў маскоўскага патрыярха і благаславіў праваслаўных варочацца ў СССР. Па яго сьмерці бальшавікі прыслалі ў Францыю ленінградзкага*

[123] **Дўайт Дэйвід Айзэнгаўэр** (*Eisenhower,* 1890—1969), амэрыканскі вайсковец і палітык, 34-ы прэзыдэнт ЗША, 1953—1961 гг. Зь сьнежня 1943 г. быў вярхоўным галоўнакамандуючым экспэдыцыйным войскамі саюзьнікаў у Заходняй Эўропе, у 1945 г. — камандуючым акупацыйнымі сілмі ЗША ў Нямеччыне.

[124] Маецца на ўвазе **Канстантын** (272—337), рымскі імпэратар у 306—337 гг., пры якім хрысьціянства фактычна стала дзяржаўнай рэлігіяй у Рыме, і які за гэта быў залічаны да ліку сьвятых і стаў шанавацца хрысьціянскімі канфэсіямі як роўнаапольстальны.

[125] **Яўлогі** (сьвецкае **Васіль Георгіеўскі**, 1868—1946), праваслаўны дзеяч у 1920—1940-х гг. Адзін з галоўных расейскіх праваслаўных ярархаў на эміграцыі. З 1921 г. быў кіраўніком расейскіх праваслаўных прыходаў Маскоўскай патрыярхіі ў Заходняй Эўропе. Зь лютага 1931 г. быў у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. З канца жніўня 1945 г. лічыў сябе ў юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату, узначальваючы Заходнеэўрапейскі экзархат Расейскае праваслаўнае царквы.





*і арлоўскага мітрапалітаў*[126] *, каб гэтыя на чало ўсей расейскай зарубежнай царквы паставілі архіяпіскапа Серафіма*[127] *— пэўне ж іхняга прыхільніка. Гэты Серафім цяпер прызначае праваслаўных сьвяшчэньнікаў на прыходы ў беларускіх лягерах.*

*Чаму яны, япіскапы, пайшлі ў расейскую зарубежную царкву? Самі япіскапы Філафей і Афанасій неаднойчы заяўлялі, што пайшлі таму, што іх расейская зарубежная царква можа лепей забясьпечыць. І праўда, гэта побач зь іхнім „русским духом“ адзіная прычына іхнага ўліцьця ў расейскую зарубежную царкву. Расейская зарубежная царква ў Амэрыцы прызнае маскоўскага патрыярха і залежыць ад яго, і вось яна прысылае расейскай зарубежнай царкве на Нямеччыну тысяча дзьвесьце даляраў у месяц. Нецікава, якія гэта грошы, бо ведама, хто залежыць ад савецкай улады, той спаўняе загады гэтай улады, робіць тое, што ўлада патрабуе.*

*Здраду былых беларускіх япіскапаў Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы і ўліцьцё япіскапаў у Расейскую зарубежную царкву можна толькі прыраўняць да здрады высшым беларускім праваслаўным духавенствам сваей беларускай праваслаўнай царквы і да ўніі гэнага духавенства з каталіцкім касьцёлам у Берасьці ў 1596 г. Тады сьвятую беларускую праваслаўную царкву ўратавалі праваслаўныя вернікі. Цяпер толькі яны яе ўратуюць. Нам, праваслаўным беларусам, няма чаго спадзявацца ад гэтага япіскапату. Гэты япіскапат аддаў (ці прадаў, як заяўляюць расейцы) беларускую царкву ў Рэгенсбургу расейцам, і ў ёй цяпер не ўспамінаюць праваслаўных беларускіх сьвятых, ані навет сьвятой Ефрасіньні Полацкай, пакравіцельніцы гэтай царквы.*

*Няма дзіва, што гэты епіскапат супрацоўнічае з расейскай партыяй, дзеючай сярод беларусаў, на чале якой стаяць былыя (цяперашнія не) камуністы — Малевіч, Ігнатовіч, Галожын, што заганяў у калхозы, Асіпчык, што скідаў крыжы з цэркваў, слаўны*

[126] У жніўні 1946 г. у Парыж у сувязі зь сьмерцю мітрапаліта Яўлогія прыяжджала дэлегацыя Расейскай праваслаўнай царквы на чале зь мітрапалітам Ленінградзкім Грыгорыем (сьвецкае Мікалай Чукаў).

[127] **Серафім** (сьвецкае **Аляксандар Лук'янаў**, 1879—1959), дзеяч Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы. У 1927—1945 гг. — архіяпіскап (з 1938 г. — мітрапаліт) Заходнеэўрапейскі. У 1945 г. прызнаў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату, быў прызначаны патрыяршым экзархам Заходняй Эўропы.

*кантралёр калхозу Віцьбіч, Родзевіч, што ўкраў памяшчэньне Беларускага Камітэту ў Мюнхэне (гэты апошні ня быў камуністам).*

*Разам з расейскай партыяй япіскапат агітуе за арганізаваньне расейскіх лягераў, хоць перад беларусамі япіскапы фальшыва кажуць, што быццам яны стараюцца аб вылучэньні беларусаў з чужых лягераў.*

*Разам з расейскай партыяй яны гналі ваду на расейскі млын, агітуючы за выезд разам з расейцамі ў Аргентыну. Выехаць ніхто ня выехаў, але расейцы на гэтым шмат зарабілі як грашмі, так і тым, што прыцягнулі пэўную частку нашых людзей у свае лягеры. Усё дасюлешняе вылучэньне беларусаў з чужых у свае лягеры правёў Беларускі Акругowы Камітэт, працуючы ў найцяжэйшых варунках.*

*І сяньняшняе вялікае сьвята япіскапат зладзіў супольна з расейскай партыяй. З цэлага сьвята зрабілі палітычную работу, каб амэрыканцам паказаць, што беларуская маса зь імі, а масе паказаць, што зь япіскапамі і расейскай партыяй амэрыканцы.*

*Каб прыцягнуць праваслаўных беларусаў на гэтае сьвята і выкарыстаць іх дзеля сваей палітычнай спэкуляцыі, паміж расейскай партыі пашырылі непраўдзівыя чуткі, што кіраўнікі гэтае партыі Ігнатовіч, Галожын і Віцьбіч езьдзілі прасіць япіскапат выйсьці з расейскай зарубежнай царквы. Яны ў сапраўднасьці ня толькі гэтага ня будуць прасіць, але, наадварот, хочуць упрэгчы ў расейскую работу ўсіх беларусаў.*

*Вельмі прыкра і шкодна, што сьвята і сьвятую праваслаўную царкву выкарыстоўваюць дзеля палітычнай спэкуляцыі.*

*Япіскапат здрадзіў Беларускай Праваслаўнай Царкве, але яе, як і ў 1596 г., павінны ўратаваць самі праваслаўныя беларускія вернікі. І яны яе ўратуюць. Да паможа нам Госпадзь наш Ісус Хрыстос і Яго-ная верная служка сьвятая Ефрасіньня Полацкая!*

*Беларускія Праваслаўныя Аўтакефалісты [1947]*

### *Заклік да Беларускай грамадзкасьці на Чужыне*

*У Рэгэнсбургу на эвангеліцкіх могілках пахаваныя трагічна загінуўшыя беларускі артыст і рэжысор Іван Кір'янаў*[128] *і лейтэнант, інвалід Беларускай Краёвай Абароны Станіслаў Манюк. Па ўсёй Нямеччыне раскіданыя падобныя ж нязнаныя і занядбаныя магілы змагароў за вызваленьне нашай Бацькаўшчыны Беларусі і нашых суродзічаў, якія памерлі на чужыне. Сьвяшчэньным абавязкам усіх беларусаў зьяўляецца належнае шанаваньне памяці адыйшоўшых нашых суродзічаў.*

*Рэфэрат сацыяльнай апекі Галоўнай Управы Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва выступае з ініцыятывай стварэньня фонду на пабудову помнікаў, утрыманьне ў парадку магілаў і ўлажэньня сьпісаў з адрасамі ўсіх беларусаў, якія памерлі на чужыне, і асабліва магілаў тых, якія працавалі для Беларускае Нацыянальнае Справы.*

*Заклікаем усю беларускую эміграцыю падтрымаць нашу ініцыятыву, складаючы ахвяры на гэтую мэту, прыводзячы ў парадак магілы і зьбіраючы весткі аб месцы і пэрсаналіях пахаваных беларусаў.*

*Шануйма памяць нашых памёрлых суродзічаў!*

*Інж. Аляксандар Русак*[129]*, Галоўны старшыня Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва.*

*Уладзімер Лазарэвіч*[130]*, рэфэрат сацыяльнай апекі Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва.*

*Рэгенсбург, дня 10.6.1948 г.*

### *Беларусы й Беларускі Остэргофэну*

*Беларус з тых 40 беларусаў, якіх прывёз з Пассаў Крэстовіч Барыс. Помні, што ты зробіш, як апошні мярзотнік, калі аддасі свой голас за пагарджаных даношчыкаў крывічоў, якія бясчэльна выкінулі беларуса Крэстовіча з Отэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.*

*Беларус з тых 180 беларусаў, якіх прывёз зь Дзінгольфінгу Беня Іван. Помні, што ты зробіш, як ганебны здраднік, калі аддасі свой голас за польскіх падпанкаў крывічоў і за іхніх цыгарэтных халуёў, якія подла выкінулі беларуса Беню з Отэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.*

[128] **Іван Кір'янаў**, беларускі дзеяч. Скончыў жыцьцё самагубствам.

[129] **Аляксандар Русак** (1907—1957), грамадзкі дзеяч, інжынэр. У 1939—1941 гг. закладаў беларускія арганізацыі ў Познані, Горадні й Баранавічах, у 1943—1944 гг. — бурмістар Баранавічаў. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне арганізатар і старшыня лягеру ў Рэгенсбурзе. Займаў шматлікія адказныя пасады ў эміграцыйнай БЦР. З 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэньня Кангрэсу беларусаў Амэрыкі і Беларускага кангрэсавага камітэту.

[130] **Лазарэвіч Уладзімер** (1908—1965), вайсковы дзеяч. Афіцэр польскага войска. У 1941—1944 г. жыў у Менску, працаваў у гарадзкой управе загадчыкам аддзелу ўліку насельніцтва. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з заснавальнікаў Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва ў Нямеччыне (1948). Выехаў у ЗША. Скончыў жыцьцё самагубствам.

*Беларус з тых 160 беларусаў, якіх прывёз з Ашафэнбургу Шостак Александр. Помні, што ты зробіш як брудны злачынца, калі аддасі свой голас за тых самых крывічоў, якія, ідучы бальшавіцкім сьледам, пазбавілі беларуса Шостака на паўгода выбарчых правоў. Ты добра ведаеш, што тут ходзіць не аб коўдры, а вылучна аб тое, што сп. Шостак зьяўляецца кандыдатам на камэнданта.*

*Беларус паляшук! Крывічы зьдзеквуюцца над тваім праваслаўным веравызнаньнем, над тваёй паляшуцкай мовай, над тваімі паляшуцкімі звычаямі. Іх цікавіць толькі ў часе выбараў твой голас, а паміж выбарамі твая кішэня. Твайго сьвяшчэньніка айца Іоана Лупіша, які хрысьціў тваіх дзяцей, вянчаў цябе, хаваў тваіх бацькоў, які, як сапраўдны пастыр, прыйшоў разам з табой, са сваім парафіянінам, з Бацькаўшчыны на чужыну, яны называюць на сходзе — бандытам. Твайму псаломшчыку, таксама паляшуку, сп. Стасюку цяперашні камэндант Станіслаў Станкевіч, увёўшы ў блуд УНРР'у, забараніў прыяжджаць у Остэргофэн. Тваю Царкоўную Раду, якую благаславіў Архіяпіскап, езувіты крывічы разьвязалі. Яны гэта робяць дзеля таго, каб гвалтам накінуць табе польскі каталіцызм. Дык галасуй за крывіцкую зграю, калі ты хочаш, як Юда Іскарыёт, зракчыся роднага праваслаўя і тым самым плюнуць на магілкі сваіх дзядоў і прадзедаў. Дык галасуй за крывічоў, калі Рэч Паспалітая для цябе даражэйшая за роднае беларускае праваслаўнае Палесьсе.*

*Беларус усходнік! Беларус з-пад Менску і Віцебску, з-пад Магілёву і Гомелю, з-пад Слуцку і Смаленску! Родны брат беларуса заходніка. Дваццаць год ты пакутваў пад бальшавіцкім ботам. Ад гора твая матка выплакала ўсе свае сьлёзы, твае сёстры адвучыліся сьмяяцца, тваіх братоў закатавалі ў Сібіру. Падлізьнікі крывічы, якія лізалі і ліжуць зады палякам, бальшавікам і немцам, з шляхецкай пагардай называюць цябе „калгасьнікам“, „маскалём“ і плявузгаюць, што ты „савецкі агент“. Паводля свае партыйнае бандыцкае пастановы, крывічы маюць перадаць цябе і ўжо перадаюць зь вяроўкай на шыі ў лягеры савецкіх „падданых“. Дык галасуй за крывічоў, калі ты хочаш трапіць на бальшавіцкую вісельню.*

*Беларус селянін і работнік! Злодзеі крывічы прывязьлі з Бацькаўшчыны мільёны крывавых гітлераўскіх марак у той час, як ты прыйшоў з хатылём за плячыма, хаваючы па дарозе сваіх дзяцей. Ужо тут крывічы прымусам выкалацілі зь цябе больш чым сто тысяч марак на свае асабістыя справы. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб яны садралі зь цябе і з тваіх дзяцей апошнюю кашулю і порткі. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб за твае грошы яны набылі ў Амэрыцы фэрмы, а цябе зь сям'ёй спакінулі паміраць пад баварскім плотам.*

*Няхай жыве Маці-Беларусь!*

*Няхай загіне здрадніцкае насеньне — крывічы!*

*[1948 г.]* *[Ю. Віцьбіч]*





### *По старонках нашае жывое гісторыі. Характарыстыкі „крывічоў“ і іх прыбочнікаў*

*Аснавапаложнікам „крывіцкага“ руху на эміграцыі зьяўляецца др. Янка Станкевіч. Ён першы пачаў уводзіць назоў „Крывія“ замест назову Беларусь і назоў „крывічы“ замест назову беларусы. Гэтым назовам ён намагаўся ахрысьціць усіх беларусаў-эмігрантаў.*

*Што ж уяўляе зь сябе др. Янка Станкевіч як чалавек і дзеяч?*

*Др. Янка Станкевіч, безумоўна, чалавек працы і высілкаў, але зь нежыцьцёвымі падыходамі да справы. Аднак няўдачы не ўстрымліваюць яго ад каваньня ў адно і тое ж мейсца. Не пераборлівы ў сродках да асягненьня матэрыяльных карысьцяў з усяго, што надарыцца і можа даць прыбытак. Найлепш яго характэрызуе ў гэтых адносінах ягоны супрацоўнік і суродзіч др. Станіслаў Станкевіч, які гаворыць: „Зь дзядзькам Янкам Станкевічам можна доўга гутарыць, покуль справа ня дойдзе да грошаў. А калі гаварыць аб грошах, то не жадай ад яго выкананьня грашовых абавязкаў: што ўдасца, тое і пацягне, і гэта ўсё роўна, якою цаною і ў які спосаб. Грошы — гэта ягоная хвароба, як какаінізм і клептаманія“.*

*Др. Янка Станкевіч — антыбальшавік, але дакумэнтальны палянафіл. Калі на Беларусі была супрацьпольская акцыя і назоў „Беларусь“, „беларускі“ азначалі рэвалюцыйнасьць, Янка Станкевіч, як супроцьлегласьць, высунуў назоў „Крывія“ — як угода і пакора польскаму ўярмленьню*[131]*. У пэрыяд найбольшага змаганьня палякаў зь*

[131] Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што Янка Станкевіч усё ж такі быў ня першы, хто пачаў актыўна прапагандаваць у якасьці саманазвы для беларусаў назвы „Крывія“ й „крывічы“. Яшчэ ў 1920-х гг. гэта ўпершыню пачаў рабіць Вацлаў Ластоўскі, лічачы, што такая саманазва паспрыяе таму, што беларусаў перастануць атаясамліваць з расейцамі. Натуральна, што *„ўгоды і пакоры польскаму ўярмленьню“* ніхто пры гэтым на ўвазе аніякім чынам ня меў. Янка Станкевіч у гэтым пляне быў толькі пераемнікам Ластоўскага, і асноўнай ягонай заслугай было тое, што дзякуючы менавіта ягоным высілкам (а таксама Антона Адамовіча) „крывіцкая“ ідэя атрымала новае⇨

*беларусамі, калі выэлімінавалі беларускае апазыцыйнае прадстаўніцтва ў Сойме*[132]*, то па польскаму ўрадаваму сьпісу ў польскі Сойм сродкамі паліцыі прайшоў і др. Янка Станкевіч*[133]*. У Сойме быў ён бай-*

⇨жыцьцё пасьля вайны ў беларускіх эміграцыйных асяродках. Празь нейкі час праблема набыла палітычны характар, і „крывічамі“ сталі называць прыхільнікаў Рады БНР на чале з М. Абрамчыкам, у той час як беларусамі заставаліся прыхільнікі Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з Р. Астроўскім.

[132] Нельга сказаць, што беларускае парлямэнцкае прадстаўніцтва ў 1928 г., калі ў польскі Сойм першы й адзіны раз прайшоў Янка Станкевіч, было зусім „выэлімінаванае“ („ліквідаванае“). Акрамя Станкевіча, у Сойм прайшлі тады яшчэ 9 беларускіх паслоў, а ў сэнат — 2 сэнатары. Такім чынам, калі браць пад увагу чыста колькасны паказнік, то „выэлімінаванае“ беларускае парлямэнцкае прадстаўніцтва ўзору 1928 г. (10 паслоў і 2 сэнатары) нязначна адрозьнівалася ад „нявыэлімінаванага“ ўзору 1922 г. (11 паслоў і 3 сэнатары). Іншая рэч, што калі ў 1922 г. усе беларускія парлямэнтары прынамсі на першым этапе выступалі адзіным нацыянальным фронтам, то ў 1928 г. яны з самага пачатку былі падзеленыя на 3 узаемна варожыя лягеры: 1) цэнтрысцкі Беларускі пасольскі клюб (4 паслы і 2 сэнатары) на чале з Фабіянам Ярэмічам; 2) левардыкальны Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клюб „Змаганьне“ (5 паслоў) на чале зь Язэпам Гаўрылікам і 3) „дзікі“ (не далучаны ні да якай соймавай фракцыі) пасол Янка Станкевіч. Менавіта гэта разам з зусім іншымі, у параўнаньні з ранейшым часам, агульнымі палітычнымі ўмовамі стала прычынай відавочнага зьмяншэньня магчымасьцяў і ўплываў беларускага парлямэнцкага прадстаўніцтва.

[133] Янка Станкевіч атрымаў пасольскі мандат у польскі Сойм у сакавіку 1928 г., але прайшоў ён у Сойм зусім не паводле *„польскага ўрадавага сьпісу“*. Балятаваўся ён у Лідзкай выбарчай акрузе, выставіўшы свой уласны выбарчы сьпіс пад назвай „Беларускія сяляне й работнікі“. Гэты сьпіс, паводле задумы яго арганізатара, меў гуртаваць вакол сябе памяркоўных былых сябраў дэлегалізаванай польскімі ўладамі ў пачатку 1927 г. Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Іншая рэч, што гэты сьпіс карыстаўся пэўнай падтрымкай польскіх уладаў, якія бачылі ў ім некаторую супрацьвагу іншым, больш радыкальным і варожым да Польшчы беларускім арганізацыям. Сам Янка Станкевіч факт якой бы то ні было падтрымкі ягонага выбарчага сьпісу з боку польскіх уладаў заўсёды адмаўляў, але пры гэтым ніколі ня згадваў пра тое, што сваім посьпехам у Лідзкай акрузе ён у значнай ступені быў абавязаныануляваньню на Лідчыне беларускага сьпісу „Змаганьне за інтарэсы сялянаў і работнікаў“ (былыя радыкальныя грамадоўцы, цесна зьвязаныя з камуністамі), сьпісу Блёку нацыянальных⇨





*катаваны ўсімі прадстаўнікамі іншых народаў. За ўвесь час сваю дзейнасьць выявіў у падпісваньні платнічай лісты*[134]*, покуль выбары зь ягонай акругі не быліануляваны*[135]*.*

⇨меншасьцяў (у складзе якога ішлі на выбары дзеячы цэнтрысцкіх Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі й Беларускага сялянскага саюзу), а таксама польскай левай Сялянскай партыі (*Stronnictwa Chłopskiego*). За ўсе гэтыя ануляваныя сьпісы ў Лідзкай акрузе было разам пададзена 73 067 галасоў, у той час як станкевічаў сьпіс набраў толькі 35 076. Нават пераможцу ў выбарах на Лідчыне — праўрадаваму Беспартыйнаму блёку супрацоўніцтва з урадам — для атрыманьня 4-х пасольскіх мандатаў хапіла 61 856 галасоў выбарнікаў. Таму можна прыпусьціць, што, калі б не ануляваньне ўладамі іншых беларускіх сьпісаў, сьпіс Янкі Станкевіча мог бы не атрымаць на Лідчыне аніводнага мандата, у той час як без канкурэнцыі атрымаў два. Варта адзначыць, што пасьля адмены Вярхоўным судом Польшчы ў пачатку 1930 г. выбараў у Лідзкай акрузе пры правядзеньні паўторнага галасаваньня ў траўні 1930 г. сьпіс Станкевіча атрымаў усяго 1265 галасоў (для прыкладу: „змаганцы“ набралі 24 670 галасоў і здабылі 2 пасольскія мандаты).

[134] Гэтае сьцьверджаньне — чыста ідэалягічнае й ня мае пад сабой ніякага грунту. Янка Станкевіч у польскім Сойме паводзіўся даволі актыўна, за час выкананьня пасольскіх абавязкаў 5 разоў выступіўшы з соймавай трыбуны (для прыкладу, ягоныя крытыкі зь Беларускага пасольскага клюбу — 21 раз, але на 4-х паслоў, то бок мелі амаль такія ж самыя паказнікі, пры гэтым, быўшы аб'яднанымі ў фракцыю, мелі пэўныя перавагі перад „дзікім“ паслом Я. Станкевічам). Акрамя таго, Станкевіч праводзіў пэўную працу ў соймавых кулюарах, імкнучыся дабіцца прынамсі частковай падтрымкі беларускіх культурна-асьветных патрабаваньняў з боку левых і цэнтрысцкіх польскіх фракцыяў, прынцыпова адмовіўшыся толькі ад кантактаў з скрайняй лявіцай, бачачы рэальную небясьпеку дыскрэдытацыі праз гэта ўсёй беларускай справы. У выніку гэткая тактыка сябе ў пэўнай ступені апраўдала, бо ў канцы 1929 г. беларускім паслам удалося дабіцца вылучэння Соймам 200 тысяч злотых на пабудову беларускай гімназіі ў Наваградку, 250 тысяч злотых на беларускія настаўніцкія курсы й беларускую настаўніцкую сэмінарыю, а таксама 50 тысяч злотых на друкаваньне беларускіх падручнікаў. Дасягненьні цяжка, вядома, лічыць заслугай выключна Станкевіча, але нейкі ягоны ўнёсак у іх усё ж такі быў. Сам ён пазьней тлумачыў, што посьпеху ўдалося дасягнуць, *„паразумеўшыся зь лідэрам ППС Недзялкоўскім, з маршалкам Сойму Дашынскім (таксама ППС), і, маючы падтрыманьне ППС, з прадстаўнікамі левых клюбаў, вылучаючы Пяста“*.

[135] Гэта адбылося ўвесну 1930 г.

*Наступна бачым др. Янку Станкевіча ўласьнікам кнігарні ў Вільні на рагу Гетманскай і Вострабрамскай №4. Гэты склепік быў чыста польскім, і сам др. Янка Станкевіч ніколі ні з кім з гасьцей ня гутарыў па-беларуску, а выключна па-польску, нават са знаёмымі*[136] *.*

*У часе выбараў у Сойм уваходзіў у кантакт з начальнікам бясьпекі Віленскай акругі Кіртыклісам*[137] *, атрымліваў ня раз ад яго „дыспазыцыйныя" грошы для акцыі на карысьць польскае ўгоды.*

*Пасьля купляе з Мурашкам*[138] *маёнтак у Валожыншчыне*[139] *і, зразумела, у выніку „дружбы" пушчае кантам свайго кампаньёна. Тое*

[136] Тут відавочная неабазнанасьць аўтара ў рэаліях віленскага беларускага жыцьця міжваеннага часу. Насамрэч на адзначаным ім месцы, г. зн. на рагу вуліцаў Вострабрамскай і Гетманскай, месьціліся адна насупраць другой ажно дзьве беларускія кнігарні, але ні да адной зь іх Янка Станкевіч ня меў наўпраставага дачыненьня. Першая з гэтых кнігарняў, якая знаходзілася на Вострабрамскай, д. 1, належала Беларускаму выдавецкаму таварыству, а ўладальнікам другой, з адрасам Вострабрамская, д. 2, быў вядомы беларускі дзеяч Станіслаў Станкевіч — хоць і аднавяскоўец ды нават сваяк Я. Станкевіча, але тым ня менш зусім ад яго незалежны. Янка ж Станкевіч уласнай кнігарні ў Вільні ніколі ня меў, аднак на мяжы 1920—1930-х гг. рабіў больш ці менш удалыя спробы адчыніць іх у правінцыйных гарадах: Маладэчне, Ашмянах, Валожыне, Лідзе, Браславе ды інш.
Што тычыцца моўнага пытаньня, то сьцьверджаньне аўтара артыкулу занадта неверагоднае для таго, каб быць праўдай, бо Янка Станкевіч, якраз наадварот, быў усеагульна вядомы як чалавек, у пытаньнях мовы дастаткова бескампрамісны, і якраз, паводле сьведчаньня зусім ня добразычліва да яго настроенага Аляксандра Стагановіча, сам *„не хацеў гаварыць з тымі, што ня ведалі свае роднае мовы"* (Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНіМ. №. 32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 264).

[137] **Стэфан Сэвэр Кіртыкліс** (*Kirtiklis*) (1890—1951), польскі дзяржаўны дзеяч, прыхільнік Юзэфа Пілсудзкага. У другой палове 1920-х гг. быў начальнікам аддзелу бясьпекі Ваяводзкай управы ў Вільні. У 1930—1931 гг. — віленскі, у 1931—1936 гг. — паморскі, у 1936—1937 гг. — беластоцкі ваявода.

[138] **Юстын Мурашка** (?—1952), грамадзкі дзеяч. Да беларускага руху далучыўся ў 1917 г., быў сябрам Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, у 1918 г. уваходзіў у якасьці яе прадстаўніка ў склад Рады БНР. У чэрвені 1919 г. быў выбраны сакратаром прэзыдыюму Беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Сябра Беларускай вайсковай камісіі. У 1920-х гг. жыў у Заходняй Беларусі, у 1928 г. балятаваўся ў сойм зь сьпісу Янкі Станкевіча. Быў фармальным старшынём Беларускай сялянскай партыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны — у эміграцыі, браў удзел у першым Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі ў канцы 1949 г.⇨





[139] Публічная дыскусія адносна маёнтка, купленага Янкам Станкевічам на мяжы 1920—1930-х гг., бярэ пачатак яшчэ з таго часу, калі той быў толькі набыты. Перад паўторнымі выбарамі ў польскі сойм у Лідзкай і Сьвянцянскай акругах (выбары адбываліся, адпаведна, у траўні і ў ліпені 1930 г. пасьля таго, як польскі Вярхоўны суд прызнаў папярэднія выбары (сакавіцкія 1928 г.) у гэтых акругах сфальсыфікаванымі) у газэце беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў „Беларуская крыніца" (№15. 18 красавіка 1930) быў апублікаваны матэрыял, аўтар якога сьцьвярджаў, што Я. Станкевіч *„на супалку зь Юстыном Мурашкам (кандыдатам у Сойм ад нумару 41 у Сьвянцянскім вокрузе) закупіў 600 дзесяцін зямлі. З ласкі панскай купіў ён гэту зямлю дужа танна з той мэтай, што адпрадасьць яе нашым сялянам і шмат заробіць"*. У адказ на гэта Станкевіч палічыў патрэбным выказаць у друку свой погляд на рэчы, надрукаваўшы ў віленскай газэце „Наперад!" (№16. 30 красавіка 1930. С. 4) свой адкрыты ліст ад 19 красавіка 1930 г. пад характэрнай назвай „Адказ дэмаралізатарам беларускага жыцьця", у якім адносна сваіх зямельных справаў заявіў наступнае:
*„А запраўды ёсьць начай.*
*З належачага да А. Аляксандрава ўрочышча Рудня (каля 600 гэктараў), Жойдзішнае вол., Вялейскага павету часьць купіў Язэп Сьвятліцкі з в. Руда Яворская, Курылавіцкае вол., Слонімскага пав., часьць Ю. Мурашка й каля 200 гэктараў запісана пры куплі на мяне. Ю. Мурашка купіў наймяней. Точныя лічбы нявадамы, бо зямля яшчэ не памерана.*
*Была думка, каб якая беларуская арганізацыя купіла сама ўсю Рудню дзеля таннай парцэляцыі паміж безьзямельнымі й малазямельнымі беларускімі сялянамі ды каб даць частку пад санаторыю для хварэючых на сухоты беларускіх дзеячоў. Але дзеля таго, што арганізацыі ня мелі грошаў, дык часьць купіў Я. Сьвятліцкі й часьць Ю. Мурашка. Калі ж арганізацыя ня мела грошаў і на астатніх 200 гэктараў (прыблізна), дык грошы на куплю іх пазычаў я ў свайго швагры доктара мэдыцыны Яр. Новака ў Празе, а тысяча (1.000) зал. пазычыў у свайго айчыма Антона Чатыркі. Рабіў я гэта маючы на ўвеце тыя самыя мэты, дзеля якіх гэную зямлю манілася купіць арганізацыя, г. зн. каб потым парцэляваць без заробку паміж безьзямельнымі й малазямельнымі беларускімі сялянамі ды даць частку пад санаторыю. Але заплаціўшы за зямлю пазычанымі грашыма, каб зябясьпечыць іх, мусіў зямлю запісаць на сябе.*
*На пазычаныя ў швагры грошы я маю дакуманты (грошы прысланы праз банк), а на пазычаныя ў айчыма Антона Чатыркі цікавыя могуць пабачыць у яго мой вэксаль (адрэс А. Ч.: Арляняты, Крэўскае вол., Ашмянскага п.).*
*„Biel. Krynica" піша, што, „З ласкі панскай купіў ён гэту зямлю дужа танна з тэй мэтай, што адпрадасьць яе нашым сялянам і шмат заробіць".*
*Ня ведаю, скуль „Biel. Krynica" ведае аб такіх плянах нейкіх ласкавых да мяне паноў зрабіць мяне багатым.* ⇨

*самае прарабляе і зь нейкім Каралём, якога падсоўвае пад нейкае абвінавачваньня, але грошы ў суме 28.000 злотых палажыў сабе ў кішэню і больш ня лез у ніякія палітычныя справы. Кіртыкліс застаўся з „носам“.*

*У часе барацьбы паміж беларусамі і палякамі ў гэтай справе пальцы мачалі й бальшавікі. Разам са сваім сябрам Бабровічам*[140] *др. Янка Станкевіч бярэцца весьці выдавецтва ад імя камуністычнае партыі Заходняй Беларусі*[141]*, і на гэтую мэту бярэ ад Бабровіча гро-*

⇨*Але праўда, што ўсе тры мы купілі гэтую зямлю вельмі танна, бо разам з доўгам у банк гэктар абыйшоўся па 65 зал., а бяз доўгу ў банк, каторы трэба плаціць у працягу 51 г. — 40 зал. Але не было тут нічыей ласкі. Гэтую „ласку“ я магу пераўступіць кожнай беларускай арганізацыі, калі толькі яна забавяжацца выпаўніць тыя заданьні, дзеля каторых куплена запісаная на мяне часьць Рудні й толькі верне мне тыя грошы, каторыя я заплаціў. Навет няхай паразумеецца з маімі пазычэльнікамі (з тымі, што мне пазычылі грошы) і доўг зь мяне перавядзе на сябе. Я із свайго боку абяцаю ўсякую помач у гэтай справе.*
*„Bieł. Krупіса“ сьвядома хвалшуючы справу куплі Рудні, хоча прадставіць мяне ў вачох нашага сялянства як чалавека, каторы забагацеў з пасольскага мандату. Гэтыя хвалшывыя закіды якраз робіць тая група, сябры каторай, будучы пасламі, пакуплялі сабе й сваім сваякам зямлю й ня толькі зямлю. Гэтак, кс. Адам Станкевіч купіў сваёй сястры Ганьне Гарлуковічысе 18 гэктараў найлепшай зямлі ў Карпуцішках ля Барун і 3 гэктары ў Смалянцы недалёка Барун, другой сваёй сястры Амэлі, што замужам у Вішнёўцы, Крэўскае вол., пераставіў увесь будынак, ня кажучы ўжо аб іншых ягоных падарках.*
*Я заяўляю, што ў згодзе з мэтамі, зь якімі была купляна запісаная на мяне часьць Рудні, я гэную часьць магу памяняць на зямлю, купленую кс. А. Станкевічам яго сястры Г. Гарлуковічысе навет на адны яе Карпуцішкі. Зробленыя ў гэтым лісьце заявы прашу прыняць як пропозыцыі“.*

140 **Янка Бабровіч** (1902—1943), радыкальны дзеяч. У 1922—1925 гг. вучыўся ў Праскім унівэрсытэце, дзе далучыўся да левых рухаў. З 1925 г. — сябра Кампартыі Чэхаславаччыны, з 1926 г. — сябра КПЗБ. Быў прадстаўніком КПЗБ пры ЦК БСРГ, палітычным рэдактарам шэрагу грамадоўскіх газэтаў. У 1928 г. арыштаваны польскімі ўладамі, прысуджаны да 15 гадоў турмы. У верасьні 1932 г. паводле абмену вязьняў перададзены ў СССР, дзе ў 1933 г. яго арыштавалі ў справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ й асудзілі на 10 гадоў зьняволеньня. Загінуў у лягерах.

141 Цяжка сказаць, на якіх падставах аўтар артыкулу залічыў Янку Бабровіча да сяброў Янкі Станкевіча. Хоць гэтыя дзеячы й вучыліся ў свой час разам у Празе, яны заўсёды былі ідэалягічнымі апанэнтамі й лідэрамі супрацьлеглых, прынцыпова варожых адна адной беларускіх груповак. Дзеля таго⇨





*шы наперад. Пасьля першае канфіскаты выдавецтва не адноўлівае, грошы, на жаданьне Бабровіча, не варочае.*

*Яшчэ адзін характэрны выпадак. Сухоты даядаюць беларускага змагара Скаповіча*[142]*, і ён знаходзіцца напярэдадні сваe сьмерці, але яшчэ ў поўнай прытомнасьці. Яго наведвае др. Янка Станкевіч як стары знаёмы. Гутарка ня вяжацца. На разьвітаньне др. Янка Станкевіч прапануе паміраючаму прыняць баптызм*[143]*. Агульнае зьдзіўленьне, бо ўсім ведама, што Скаповіч паходзіць зь сям'і вельмі*

⇨выглядае малаімавернаю магчымая супраца гэтых двух дзеячаў і на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўжо пасьля вяртаньня іх абодвух з вучобы на радзіму. Да 1928 г., калі Бабровіч быў арыштаваны польскай паліцыяй і ўжо пасьля гэтага ніколі нязмог аднавіць сваёй актыўнай палітычнай дзейнасьці непасрэдна ў Заходняй Беларусі, Станкевіч актыўна ствараў лаяльную ў дачыненьні Польшчы Беларускую сялянскую партыю, выдаваў памяркоўную газэту „Народ“, балятаваўся пры пэўным спрыяньні мясцовай адміністрацыі ў польскі Сойм, і таму незразумела, як і дзеля чаго ён у такіх умовах мог узяцца за такую рызыкоўную справу, як *„вядзеньне выдавецтва ад імя камуністычнае партыі Заходняй Беларусі“*. Нават з чыста матэрыяльнага гледзішча (калі гіпатэтычна прыпусьціць, што Янка Станкевіч і сапраўды быў абсалютна амаральным чалавекам, які ўсё рабіў толькі й выключна дзеля сваёй асабістай выгады, як яго хоча падаць аўтар артыкулу) супраца з палякамі ў тых умовах была куды больш выгадная, ня кажучы ўжо пра бясьпечнасьць.

142 Пра існаваньне ў міжваеннай Заходняй Беларусі беларускага дзеяча на прозьвішча Скаповіч зьвестак ня выяўлена. Магчыма, тут аўтар мае на ўвазе кагосьці зь вядомых братоў Стаповічаў — каталіцкага сьвятара й паэта Канстанціна (творчы псэўданім Казімер Сваяк) ці грамадзка-палітычнага й культурнага дзеяча Альбіна (памёр 18 сьнежня 1934 г.). Аднак жа вельмі сумнеўна, каб Янка Станкевіч мог рабіць такія прапановы камусьці зь іх. Канстанцін Стаповіч памёр 6 траўня 1926 г. сапраўды ад сухотаў, але прапаноўваць яму перад самай сьмерцю перайсьці ў іншую канфэсію мог бы толькі чалавек, зусім незнаёмы ні зь ягонай творчасьцю, ні зь ягоным сьветапоглядам, у чым Янку Станкевіча западозрыць цяжка. Да таго ж Станкевіч у той час яшчэ давучваўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе, і ў Вільні адсутнічаў проста фізычна. Што тычыцца Альбіна Стаповіча, то ён увогуле памёр 18 сьнежня 1934 г. зусім не ад сухотаў, а ад хваробы сэрца, і сьмерць ягоная не была чаканай.

143 Тут відавочна праяўляецца слабая арыентацыя аўтара артыкулу ў справах пратэстанцкіх цэркваў. Янка Станкевіч і сапраўды падчас навучаньня ў Празе перайшоў з рыма-каталіцтва ў пратэстанцтва, але належаў не да баптысцкай, а да мэтадысцкай царквы.

*рэлігійных беларусаў-каталікоў і сам шчыры каталік. На гэтае зьдзіўленьне Станкевіч адказвае: „Ну і што ж з таго. Паміраючаму ўсё роўна, а я на гэтым што-небудзь ды зараблю“. Адсюль выснаў, што др. Янка Станкевіч бярэцца за ўсякую працу, дзе можна хоць што-небудзь зарабіць.*

*Др. Янка Станкевіч у мінулым умеў выкупляць тыя выдавецтвы, якія не адпавядалі ягонаму духу і поглядам, а потым гэтыя выдавецтвы заглушваў*[144]*. У др. Янкі Станкевіча ёсьць свой прынцып і тактыка падыходу да рэчаў. Каб дасягнуць пастаўленае мэты (што яму не заўсёды ўдаецца), ён здолен на любую подласьць у адносінах да свайго праціўніка.*

[144] Цяжка прыгадаць нейкае канкрэтнае сур'ёзнае беларускае выдавецтва ці проста друкаванае выданьне, якое Янка Станкевіч у міжваенны час у кагосьці выкупіў, а пасьля сьвядома „заглушыў“. Найбольш вядомая выдаваная ім тады газэта „Народ“, якая з розвай пэрыядычнасьцю выходзіла ў Вільні з 18 жніўня 1927 г. да канца 1929 г. як орган „папяровай“ Беларускай сялянскай партыі. Галоўным рэдактарам лічылася спачатку жонка Я. Станкевіча Марыя, а празь некалькі месяцаў яе зьмяніў іншы сваяк — Браніслаў Станкевіч. Гэтую газэту, аднак, Станкевіч ні ў кога не выкупляў, але заснаваў з нуля. Спынілася ж яе выдаваньне таксама ня дзеля нейкіх сьвядомых Станкевічавых спробаў нешта „заглушыць“, а дзеля элемэнтарнай нястачы сродкаў пасьля таго, як польскія ўлады пераканаліся, што справа стварэньня ляяльнай адносна Польшчы аўтарытэтнай беларускай арганізацыі пад кіраўніцтвам Янкі Станкевіча ня мае посьпеху. Гэтак, ужо напрыканцы 1928 г. у справаздачы аб палітычным руху й нацыянальных адносінах на тэрыторыі IX корпусу акругі (DOK) (з цэнтрам у Берасьці) за трэці квартал пісалася:
*„Надзеі, якія адміністрацыйныя ўлады й органы бясьпекі ўскладалі на арганізацыю Янкі Станкевіча й ягоных памочнікаў, не апраўдаліся. Трэба самім прызнаць, што палянафільскі рух сярод беларусаў ня мае нават самых малых шанцаў на разьвіцьцё, і што ўсе намаганьні ў гэтым кірунку не дадуць значных вынікаў, бо беларускае насельніцтва ў палянафільскіх дзеячах бачыць перакупленых польскім урадам здраднікаў, ад якіх вельмі ахвотна прымае матэрыяльную дапамогу, але адгароджваецца, нягледзячы на гэта, ад усялякіх маральных уплываў. Трэба думаць, што раней ці пазьней палянафільскі рух Янкі Станкевіча скончыцца тым самым, чым скончыўся рух Паўлюкевіча — стратай часу й грошай“* (Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie. Dowydztwo Okrkgu Korpusu IX. Sygn. I.371.9/A.127. Podteczka 6. K. 10).





*У часе акупацыі Беларусі немцамі ў часе апошняй вайны др. Янка Станкевіч некаторы час жыў і працаваў у Менску, пераехаўшы туды з Прагі (Чэхаславаччына)*[145]*. Працаваў ён як сакратар у арганізацыі „Самапомач“*[146]*. Выкарыстоўваючы сваё становішча, выдае на рахунак Самапомачы свае кніжкі*[147]*. Увесь наклад выбірае сабе на ўласнасьць, частку яго прадае той жа Самапомачы, а пасьля яшчэ патрабуе ад Самапомачы ганарару. Акрамя таго, у выдаванай у той час у Менску „Беларускай газэце“ займаецца прапагандаю назову „Крывія“ і праз „Куток мовы“ ў гэтай газэце засьмечвае беларускую літаратурную мову архаізмамі і вузкімі правінцыялізмамі.*

*Гэтага, здаецца, дастаткова для павярхоўнай характарыстыкі др. Янкі Станкевіча.*

*Наступны з гэтага грона Аўген Каханоўскі, ён жа і Аўген Калубовіч у недалёкім мінулым. Гэта чалавек зусім іншага складу.*

*Хто ён з паходжаньня, мы добра ня ведаем. Адно нам добра ведама, што да апошняй сусьветнай вайны ён жыў пад Саветамі і займаў адказную пасаду ў Народным Камісарыяце Асьветы, блізка стаяў да камуністкі Фрумкінай*[148]*, кіруючай асобы ў гэтым Камісарыяце. Калі Калубовіч уступіў у ВКП(б), дакладна невядома, але без сумніву да ВКП(б) належаў, бо беспартыйных на адказныя пасады ў Саветах не*

[145] Насамрэч Янка Станкевіч перад выбухам нямецка-савецкай вайны жыў і дзеяў у Варшаве. Тут яго, відаць, пераблыталі з Іванам Ермачэнкам.

[146] Маецца на ўвазе Беларуская народная самапомач (БНС) — нацыянальная арганізацыя, якая дзеяла ва ўмовах нямецкай акупацыі ў Генэральнай акрузе Беларусь.

[147] Янка Станкевіч падчас нямецкай акупацыі выдаў у Менску й Вільні пры дапамозе Беларускай народнай самапомачы наступныя кнігі: „Крыўя-Беларусь у мінуласьці“ (1942), „Lemantar pierachodny z łacinicy na kirylicu“. Гэтыя кнігі сталі адзінымі, якія афіцыйна выйшлі пад шыльдай БНС, хоць насамрэч кніг, выдадзеных пры ўдзеле БНС, было болей.

[148] **Марыя Фрумкіна** (пс. Эстэр) (1880—1941), актыўная ўдзельніца рэвалюцыйнага руху ў Расеі, нарадзінка Менску. З 1901 да 1919 гг. была адною зь лідэраў Бунду, пасьля далучылася да Камуністычнай партыі. З восені 1920 г. займала пасаду наркама асьветы БССР. З 1921 г. кіравала габрэйскай сэкцыяй маскоўскага Камуністычнага ўнівэрсытэту нацыянальных меншасьцяў Захаду імя Ю. Мархлеўскага, у 1925—1936 гг. была рэктаркаю гэтага ўнівэрсытэту. Рэпрэсаваная.
Натуральна, што блізкасьць Калубовіча да М. Фрумкінай падчас ейнай працы ў Наркамаце асьветы БССР — нічога іншага як выдумка аўтара, бо Калубовічу ў той час было ня больш як 10—11 гадоў.

*дапушчалі. За праступства крымінальнага характару*[149] *ссылаецца ў Сыбір у Байкала-Амурскія лягеры. Ссылку ў горадзе Свабодным адбывае не як звычайны зьняволены, а залічваецца працаўнікам КВЧ (Культурно-воспитательная часть). Установа цесна зьвязаная з ІСЧ, або Інфармацыйна-сьледчаю часткаю, заданьнем якой было сачыць за кожным палітвязьнем. Кадры КВЧ складаліся з пракраўшыхся партыйцаў-камуністых, якія самаахвярнай працай павінны былі загладзіць свае партыйныя грахі і зноў вярнуцца ў партыю сьвядомымі і загартаванымі камуністамі. Ад ягонай ацэны залежала ўсё. За выдатную працу ў гэтай галіне амністуецца і варочаецца паўнапраўным грамадзянінам у Менск. Хто хоць трохі знаёмы з савецкімі парадкамі, той ведае, што права пражываньня ў сталічным горадзе ды яшчэ пасьля ссылкі ў лягеры НКВД даецца за асабліва адданую камуністычнай партыі верную працу.*

*Далей спатыкаем Калубовіча на становішчы Галоўнага інспэктара камуністычнага выхаваньня ў школах і наглядчыка за ўкладаньнем падручнікаў і школьных праграмаў навучаньня. Калубовіч — правая рука Ўралавай*[150] *, Народнага Камісара Асьветы БССР. Калубовіч вядзе чыстку школ ад нацдэмаў, і сотні іх павандравалі ў Сыбір, а то і ціхачом загінулі ў савецкай сыстэме чыстак.*

*У 1939 годзе, пасьля заняцьця Заходняй Беларусі саветамі, Калубовіч зьяўляецца туды ў ролі Галоўнага візытатара з даручэньнем Наркамасьветы. Многа хто памятае ягоныя ўкрадчывыя прамовы, выхваляючыя савецкую сыстэму выхаваньня і напамінаючыя аб лёсе непакорных.*

*Другая сусьветная вайна. Калубовіч уцякае ў Маскву, але з Масквы зноў варочаецца ў Менск, але ўжо ў якасьці асобы даверанай пры немцах. Ён — адказны ўрадавец па аддзелу культуры і тэатру. Выступае супроць бальшавікоў па радыё, ладзіць імпрэзы. Калубовіч уваходзіць у склад сталых супрацоўнікаў-карэспандэнтаў філіалу Розэнбэргаўскага інстытуту ў Менску*[151] *. Піша рэфэраты на заданыя немцамі тэмы. Калубовіч з абурэньнем нападае на тых, хто падобных прапаноў не прымае, і папярэджвае аб магчымых рэпрэсіях. Калубовіч уваходзіць ва ўсе галоўныя нямецкія рэпрэзэнтацыі і зьяўляецца верным слугою Сівіцы*[152] *і Бэкера*[153] *, Шульца*[154] *і Кубэ*[155] *... і шмат калі ў ціхім паўзмроку вядзе гутаркі з вышэйшымі прадстаўнікамі нямецкае палітыкі.*

*Нарастае апазыцыя супроць палітыкі немцаў, ёсьць нагода сказаць праўду ў вочы і паставіць жаданьне. Калбовіч атрымлівае заданьне быць дакладчыкам. А даклад поўны самых страшных аскарджаньняў, і Калубовіч чытае, тлумачыць Ганько*[156] *. Калубовіч абліваецца потам, на нямецкіх лавах рух, немцы пратэстуюць. Калубовіч усхваляваны, ён поўны прэтэнзіяў за завойстрываньне адносінаў зь немцамі. Калубовіч у страху, што яго забяруць у СД і зьліквідуюць, ён пераходзіць у стан маніі перасьледаваньня, але патроху варочаецца да свае ролі.*

*Пры камплектаваньні Беларускае Цэнтральнае Рады аўтаматычна ўваходзіць у яе склад і там становіцца адным з галоўных дарадчыкаў у Аўстроўскага і засядацелем ува ўсіх канфэрэнцыях. Калубовіч распрацоўвае праграму ІІ Усебеларускага Кангрэсу й рэдагуе ягоныя рэзалюцыі. Калубовіч прызнае ў той час найбольшым аўтарытэтам Астроўскага і не шкадуе для яго пахвалы. Калубовіч і Кандыбовіч*[157] *прымаюць на сябе ролю фільтра палітыкі Астроўскага і надаюць ёй адпаведны падыск.*

---

[149] Аўген Калубовіч быў арыштаваны ды правёў тры гады ў сібірскіх ды далёкаўсходніх канцлягерах (Вішарскія лягеры, Дальлаг, Бамлаг) за прыналежнасьць да патаемнай арганізацыі альтруістаў — то бок за ўчынак чыста палітычнага характару.

[150] **Еўдакія Ўралава**, міністарка асьветы БССР у 1938—1947 гг.

[151] **Альфрэд Розэнбэрг** (*Rosenberg*) (1893—1946), нямецкі палітык, адзін з ідэолягаў нямецкага нацыянал-сацыялізму, з 1941 г. быў міністрам акупаваных вайсковых тэрыторыяў.

[152] **Ёзэф Сівіца** (*Siwitza*), сілескі немец, якога ў кастрычніку 1941 г. прызначылі кіраўніком Школьнага інспэктарату Генэральнага камісарыяту Беларусь. Добра ведаў польскую мову, а зь цягам часу нядрэнна вывучыў і беларускую. Акрамя працы ў Школьным інспэктараце, кіраваў таксама выданьнем школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі.

[153] **Е. Е. Бэкер**, з канца 1943 г. нямецкі гарадзкі камісар Менску.

[154] **Герман Шульц**, кіраўнік моладзевага аддзелу Генэральнага камісарыяту Беларусь, ажыцьцяўляў нагляд за рознымі моладзевымі арганізацыямі, у першую чаргу за мужчынскай часткай Саюзу беларускай моладзі. Займаўся мабілізацыяй насельніцтва на працу ў Нямеччыну.

[155] **Вільгельм Кубэ** (1887—1943), кіраўнік нямецкай цывільнай адміністрацыі ў Генэральнай акрузе Беларусь у 1941—1943 гг.

[156] **Міхась Ганько** (1918—?), грамадзка-палітычны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны працаваў у аддзеле прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. З 1943 г. узначальваў Кіраўнічы штаб СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, далейшы лёс невядомы.

[157] **Сымон Кандыбовіч** (1891—1972), палітык і гісторык, нарадзінец вёскі Старыца на Случчыне (цяпер Капыльскі раён). З 1926 г. — сябра ЦК КП(б)Б,⇨

*Карыстаючыся з свайго службовага становішча, Калубовіч выбірае самыя каштоўныя ўнікумы Беларускай Дзяржаўнай Бібліятэкі й перадае іх у прыватную ўласнасьць свайму шэфу — немцу Сівіцы. Калубовіч вывозіць у Маравію Беларускі Музэй і арганізоўвае пры ім філіял Розэнбэргаўскага інстытуту, сьцягвае туды навукоўцаў і дае ім да распрацаваньня тэмы.*

*Вось галоўныя зарысы палітычнай і грамадзкай дзейнасьці Калубовіча-Каханоўскага ў мінулым. Цяпер жа ён — адзін з заснавальнікаў Крывіцкай Нацыянал-Дэмакратычнай Партыі на эміграцыі, сябра БНЦ, сябра Рады і Прэзыдыюму Рады БНР пры Абрамчыку.*

*Наступнаю фігураю зьяўляецца Сымон Кабыш, ён жа Сымон Кандыбовіч у мінулым.*

*Кандыбовіч — партыец-кар'ерыст. Былы вучыцель і царскі афіцэр. Адразу пасьля Кастрычніцкага перавароту пераходзіць на бок бальшавікоў і нешта недзе для іх робіць. Але ня ў гэтым сутнасьць. Сутнасьць у тым, што пасьля заканчэньня грамадзянскае вайны Кандыбовіч як сеў на верх савецкага Алімпу, дык і пратрываў на ім да самага астатку з маленькаю карэктаю, бо будучы адказным за пагалоўе быдла і мясанарыхтоўкі дапускае растрату каля 2-х мільёнаў рублёў, за што быў пасаджаны, але сям'я застаецца нерэпрэсаванай. Гэта сьведчыць аб крымінальным характары ягонага злачынства, а не аб палітычным.*

*Апошнія годы перад вайною Кандыбовіч знаходзіцца на пасту кіраўніка справамі Саўнаркому БССР, ён жа і сябра Саўнаркома, сябра Эканамічнага савета (Экасо), сябра Савету труда і абароны (СТО). Падобныя становішчы былому царскаму афіцэру дарэмна не даюцца.*

*У Зборніку законаў і распараджэньняў БССР за 1927 год ёсьць надрукаванае справаздаНьне з працэсу над Прышчэпавым[158] (камісарам земляробства БССР), Лёсікам[159] і іншымі[160], дзе Кандыбовіч быў даклад-*

⇨у 1931—1933 гг. — кіраўнік справаў СНК БССР, у 1935 г. — начальнік Наркамхарчпраму СССР пры СНК БССР. Падчас Другой сусьветнай вайны — сябра Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, Беларускай Цэнтральнай Рады. З 1944 г. — на эміграцыі, працаваў на радыё „Вызваленьне" і ў мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР.

[158] **Дзьмітры Прышчэпаў** (1896—1940), дзяржаўны дзеяч БССР, у 1924—1929 гг. — намесьнік наркама й наркам земляробства БССР.

[159] **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца й публіцыст, акадэмік АН БССР.

[160] Відаць, маецца на ўвазе суд над лідэрамі „Саюзу вызваленьня Беларусі", якія адбываўся не ў 1927-м, а ў 1930 г.





*чыкам і, зразумелая рэч, у духу партыі жадаў пакараньня вінаватых, што, безумоўна, і было зроблена. Кандыбовіч бярэ актыўны ўдзел у абвінавачваньні Старшыні Саўнаркому Галадзеда[161] і Саакяна[162]. Знае Кандыбовіч і справу Баліцкага[163] (Наркома асьветы). Кандыбовіч граміць нацдэмаўскі рух. У выніку ўсяго гэтага ён заслугоўвае на давер з боку партыі, таму ацалеў праз усе чысткі ў радох камуністычнай партыі. Свой дабрабыт ён будуе на касьцях беларускіх патрыётаў.*

*Прыяцелі Кандыбовіча ў ягонай кватэры ў II Доме Саветаў зьяўляюцца: Волкаў[164] — другі сакратар ЦК КП(б)Б, Закоўскі[165] — упаўнаважаны НКВД, Дубоўскі — упаўнаважаны Камісарыяту абароны, камандант Дому Саветаў Сулкоўскі, камуністкі Сыфф і Лей.*

*У 1934 г. Кандыбовіч разам са Сьмірновым і Аўчынікавым судзілі Камісара земляробства Ракіцкага і зь ім Масюкова, Паніматко, Матусава, Шчэрбакова і ўсіх асудзілі.*

*Пасьля суду над Тухачэўскім і іншымі[166], у Менску і ў іншых месцах, вычысьцілі амаль усіх камуністых, але Кандыбовіч застаўся ў партыі і карыстаецца ўсімі благамі камуністычнай славы і дабрабыту.*

*Немцы ў Менску. Кандыбовіч вольны, спрытам уваходзіць у ЦТО (Цэнтраля гандлю Ост — нямецкая інстытуцыя па абіраньню насельніцтва). Тут дабрабыт ягоны поўнасьцю забясьпечаны; тое, што павінна было раздавацца насельніцтву, вывозіцца аўтамі ў Слуцк і выменьваецца на сала. У Кандыбовіча горы дабра, ягоная сьвіта не адстае ад яго.*

*Зьяўляецца на відоўні Астроўскі. Кандыбовіч паддабрываецца да Астроўскага і робіцца найлепшым прыяцелем Астроўскага. Пры*

[161] **Мікалай Галадзед** (1894—1937), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, у 1927—1937 гг. — старшыня СНК БССР.

[162] **Саакян** у 1937 г. быў намесьнікам старшыні СНК БССР.

[163] **Антон Баліцкі** (1891—1937), дзяржаўны і грамадзкі дзеяч БССР, у 1926—1929 г. — наркам асьветы БССР. Адзін з актыўных творцаў і праваднікоў палітыкі беларусізацыі.

[164] **Аляксей Волкаў** (1890—1941), савецкі партыйны дзеяч, у 1937—1938 гг. выконваў абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б.

[165] **Леанід Закоўскі** (сапр. **Генрых Штубіс**) (1894—1938), адзін з найвышэйшых кіраўнікоў НКУС і галоўных арганізатараў палітычных рэпрэсіяў у СССР у 1930-я гг. З 1932 г. быў паўнамоцным прадстаўніком АДПУ ў БССР, у 1934 г. — наркамам унутраных справаў БССР.

[166] Суд над маршалам Міхаілам Тухачэўскім і шэрагам іншых савецкіх военачальнікаў адбыўся ў Маскве ў чэрвені 1937 г.

*ўтварэньні БЦР вынікаюць галасы супроць Кандыбовіча, але Астроўскі сваім аўтарытэтам яго абараняе. У БЦР Кандыбовіч займае кіраўніцтва гаспадаркай і фінансамі і падбірае сабе працаўнікоў з самымі бруднымі рукамі. Вынікае скандал. Астроўскі сваім аўтарытэтам загладжвае гэты скандал.*

*З гэтаю ўдзельнаю вагою і прыяжджае Кандыбовіч на эміграцыю і тут прыстройвае сваю сямейку на выдуманыя і добрааплатныя пасады.*

*Сяньня Кандыбовіч — вораг Астроўскага, Астроўскі ў яго — квісьлінг*[167]*, а ўсе сябры БЦР — ворагі народу (за выключэньнем, бязумоўна, самога Кандыбовіча-Кабыша і ягоных аднадумцаў).*

*Амаль найбольшым аўтарытэтам у „крывічоў“ зьяўляецца другі прапагатар заўзяты „Крывіі“ Антон Адамовіч (першы — Янка Станкевіч, а трэці — Калубовіч-Каханоўскі). Гэта чалавек веды, навуковы багаж яго даволі зьмястоўны. Надзвычайна выпуклымі рысамі ягонага характару зьяўляюцца страшэнная жоўчнасьць і нецалерантнасьць да свайго праціўніка (да інакш думаючага). Ня зносіць ніякіх заўваг. Хвараблівая манія вялікасьці і непамыльнасьці. Падтопча пад ногі і зьмяшае з гразёю кожнага, хто забярэ голас супроць ягонай непамыльнасьці.*

*А вось маленькая інфармацыя аб ягонай прошласьці. Вучыўся ў Менску на ўнівэрсытэце. Калі пачалася нагонка на нацдэмаў, папаў у ссылку. Казалі ў Менску, што да ягонай трагэдыі прычыніўся Калубовіч-Каханоўскі. Канчаецца тэрмін ссылкі, і Адамовіч варочаецца ў Менск і далей наведвае ўнівэрсытэт. Зноў чыстка, і паўторны арышт Адамовіча, але Адамовіч варочаецца назад у Менск. Пайшла пагалоска, што Адамовіч заламаўся і злажыў капітуляцыйную перад камуністычнымі вымаганьнямі*[168]*.*

*Прыход немцаў. Адамовіч прыймае на сябе з даверу нямецкіх уладаў кіраўніцтва беларускаю прэсаю, якая выдавалася нямецкімі палітычнымі дзейнікамі. Адамовіч гне без утрымку самую вострую ўгоду, якой немцы нават і не вымагалі. Адамовіча просяць, папярэджваюць. Адамовіч узмагае служэньне немцаў да перасады. Каля Адамовіча зьвіваюць гняздо савецкія агенты і дывэрсанты. Адамовіч пачаў страшэнную сварку і калатню сярод сваіх. Адносіны завойстрываюцца. Адамовіч страшэнна войстра атакуе праваслаўнае духавенства, даходзячы да пашквіляў і зьнявагі. Пратэсты не дапамагаюць. Пасьля замардаваньня цэлага раду відных беларускіх дзеячоў настроі завойстрываюцца. Адамовіч ня ўнімаецца і войстра атакуе ўсіх, хто пападаецца яму пад руку. Прэса, кіраваная Адамовічам, набірае прысмаку прыватнай крамкі, зь якой Адамовіч як адказная перад немцамі асоба да друкаванага слова мае шырокі доступ. Немцы ссаджваюць Адамовіча і пераводзяць яго ў Бэрлін, дзе даюць яму адказнае становішча ў аддзеле прапаганды. Тут ён выводзіць нацыянальную праступнасьць сусьветнага жыдоўства і разьвівае тэорыю нацыянал-сацыялізму. Поўнасьцю падпарадкоўваецца нямецкаму расізму*[169]*.*

*Да Астроўскага захоўваўся ў той час з належнаю пашанаю, але быў сухім і афіцыяльным. Пагляды сваіх нікому не выказваў. Казалі, што ягоныя працы ў Бэрліне нямецкія палітычныя дзейнікі лічылі за надзвычайныя і рыхтаваліся выдаць іх друкам.*

*З кім Адамовіч можа быць у згодзе, сказаць трудна. Таксама трудна зразумець і тое, чаму ён расцэньвае Астроўскага як квісьлінга і нямецкага стаўленьніка, а сябе залічае да носьбітаў традыцыяў шырокага дэмакратызму.*

*Адамовіч — адзін з ідэёвых кіраўнікоў „крывіцкага“ руху.*

*Наступнаю фігураю „крывіцкага“ руху зьяўляецца др. Станіслаў Станкевіч. Гэта чалавек, які мог бы многа зрабіць добрага, каб меў волю. Быў беларусам, але пасьля таго, як палякі прыціснулі, і быў залежны ад ласкі на працу і пасаду, стаўся настаўнікам паляністыкі ў Друйскай польскай гімназіі, адначасова і выхаваўцам у аднэй з клясаў гэтае гімназіі. На гэтай пасадзе на пагранічну мог быць толькі „годны заўфаня поляк“. Камэнтарыі тут непатрэбныя. Здабывае ўрадавую стыпэндыю і едзе на студыі заграніцу. Ясна, каб хоць*

[167] **Відкун Квісьлінг** (*Quisling*) (1887—1945), нарвэскі палітык, арганізатар (1933) і лідэр фашысцкае партыі ў Нарвэгіі. У 1942—1945 гг. быў прэм'ер-міністрам калябарацыянісцкага нарвэскага ўраду. Ягонае імя стала сымбалічным ва ўсім сьвеце для азначэньня супрацы з гітлераўцамі пачас вайны.

[168] Тут аўтар артыкулу, відаць, мае рацыю. Сёньня вядома, што ў 1930-я гг. Антон Адамовіч актыўна супрацоўнічаў з НКУС. Пра гэта сьведчыць ягоная расейскамоўная аўтабіяграфія, напісаная ў 1935 г. і не прызначаная для друку. У ёй утрымліваюцца даносы на некаторых тагачасных знаёмых Адамовіча.

[169] Насамрэч Адамовіч быў пераведзены не ў Бэрлін, а ў горад Фрэйбург (*Freyburg*), і асноўная праца яго была перакладчыцкая. Пра гэты перыяд жыцьця дзеяча можна больш падрабязна даведацца ў публікацыі: Адамовіч, Антон. Лісты да Натальлі Арсеньневай 1944—1945 // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 121—216.

*словам заікнуўся аб сваёй беларускасьці, яму гэтага палякі ніколі б не далі б*[170].

*Прыход бальшавікоў у Заходнюю Беларусь. І тут Станкевіч верны сын асвабадзіўшага народу і партыі. Атрымлівае пасаду загадчыка навучальнай часткі ў адной са школаў і вядзе прасавецкае нагінаньне і да праграмы, і да палітыкі. Уводзіць пастрах.*

*Бальшавікі адышлі. Станкевіч прыймае нямецкае запрашэньне на камісарыйнага бурмістра акругі ў Барысаве. Што ён там натварыў, можа сказаць і Астроўскі, але Астроўскі выхаваны ў большай этычнасьці. Трэба толькі дзівіцца, што Станкевіч мае бяссорамнасьць самым бруковым спосабам біць супроць Астроўскага.*

*На палітычную і грамадзкую відоўню ўсплывае Беларуская Цэнтральная Рада. Станіслаў Станкевіч паслушна і пакорна ставіцца да спаўпрацы з БЦР і прыймае пасаду Намесьніка БЦР на баранавіцкую акругу, дзе самым шчырым спосабам праводзіць у жыцьцё ўсе ўказы і распараджэньні БЦР. Бярэ надзвычайны ўдзел у фармаваньні паліцыі, войска, арганізацыі выбараў дэлегатаў на Другі Ўсебеларускі Кангрэс.*

*А сяньня выступае супраць таго, што ўчора сам тварыў. У заключэньне характарыстыкі трэба адзначыць, што Станкевіч чалавек бязвольны і заўзяты алкаголік.*

*Акрамя вышэйпералічаных асобаў да „крывіцкага“ руху належаць яшчэ некалькі буйнейшых і драбнейшых фігураў. Спынімся на некаторых зь іх.*

*Францішак Кушэль, капітан польскай арміі і выхаваўца кадэтаў. Пры немцах працуе ў Менску пры Беларускай Цэнтральнай Радзе пад кіраўніцтвам Астроўскага як камандзір беларускіх збройных сілаў — БКА (Беларуская Краёвая Абарона). Дэкрэтамі Астроўскага атрымлівае вышэйшыя вайсковыя намінацыі аж да палкоўніка ўключна. Цяпер выступае супроць Астроўскага. Прыходзіцца дзівіцца, як лёгка і хутка чалавек мяняе пагляды, забываючы афіцэрскі гонар.*

*Аляксей Вініцкі з багабойным настроем крочыў па сьлядох Астроўскага. Расьпінаўся ў сваёй адданасьці беларускай школе. Відаць, грызла сумленьне, калі ўглядаўся ў свой польскі пашпарт і свой пас-*

[170] Аўтар забываецца або ня ведае, што ў 1936 г. у Вільні выйшла на польскай мове праца Станіслава Станкевіча „Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі“. Улічваючы гэта, адмаўляць дзеячу ў беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці ў той час неправамоцна.





*лужны сьпіс пры паляках, дзе бачыў, як палякі трымалі яго на пагранічч настаўнікам польскае школы. Як ведама, беларусаў, ды яшчэ праваслаўных, палякі не трымалі настаўнікамі польскіх школаў на пагранічч; на гэтай пасадзе павінен быў быць толькі паляк-каталік.*

*Што тычыцца Аляксандра Стагановіча*[171]*, дык гэта надзвычай мілы і бяскрыўдны чалавек, і яго, беднага, заўсёды выкарыстоўвалі іншыя. Адзін раз праехаўся і на камуністычным возе*[172]*, за што атрымаў чатыры гады турмы, выліў цэбры сьлёз на Лукішках і сам ня ведаў, за што сядзеў. „Які я, браткі, палітык? — зазвычай казаў Стагановіч. — Мне б кавалачак поля ў Нясутычах*[173] *ды курыную гаспадарку“. Так і цяпер. Калі б у яго запытацца, ці ён „крывіч“, дык, напэўна, ня змог бы даць адказу на гэтае пытаньне, як ня мог адказаць, ці быў у сваім часе з камуністамі. Сьлёзы, шчырыя сьлёзы былі заўсёды спадарожнікам Стагановіча, і цяжка паручыцца, ці і цяпер ён ня плача, папаўшыся ў новае, ужо „крывіцкае“ сіло.*

*Аляксандар Орса. Гэта чалавек падпарадкаваньня, хоць і зь зялезнаю воляй. Гнуў увесь народ, які трапляўся яму пад руку, да безапэляцыйнага вызнаваньня аўтарытэту Беларускай Цэнтральнай Рады і Астроўскага. Але цяпер „крывічы“ яго самога сагнулі, і ён стаўся вернаю служкаю „крывічоў“ і Абрамчыка*[174].

*Эміграцыя, 27.7.1948 г.*

[171] **Аляксандар Стагановіч** (1890—1988), палітычны і грамадзкі дзеяч. У 1928—1929 гг. пасол польскага Сойму. У 1929 г. асуджаны на 6 гадоў цяжкой турмы. У гады Другой сусьветнай вайны — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы на Наваградзкі павет. Пасьля 1944 г. — на эміграцыі, удзельнічаў у аднаўленьні дзейнасьці Рады БНР. У канцы 1940-х гг. пераехаў у ЗША, дзе быў сябрам Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў і епархіяльнай рады БАПЦ. З 1957 г. — намесьнік прэзыдэнта Рады БНР.

[172] Маецца на ўвазе тое, што ў Сойм у 1928 г. Стагановіч балятаваўся паводле сьпісу Беларускага сялянска-работніцкага выбарчага камітэту „Змаганьне“, у выбарчай кампаніі якога бралі актыўны ўдзел камуністы. Пасьля менавіта за супрацу з камуністамі Стагановічу давялося адбыць тэрмін зьняволеньня.

[173] **Нясутычы** — родная вёска Аляксандра Стагановіча, цяпер Наваградзкі раён Гарадзенскай вобласьці.

[174] **Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітык і грамадзкі дзеяч. Перад вайной жыў у Францыі, запачаткаваў там арганізацыю беларускіх эмігрантаў „Хаўрус“. У гады Другой сусьветнай вайны жыў у Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай „Раніца“. У 1947 г. стаў прэзыдэнтам Рады БНР. Жыў у Парыжы.

## *Беларусы Віндзішбергердорфу*

*Наш лягер знаходзіцца сягоньня пад крывіцка-бальшавіцкім кіраўніцтвам. Нашы лягерныя кіраўнікі: Кабяко*[175] *, Кушаль, Клінцэвіч*[176] *, Курыла, Орса — гэта сьляпыя папіхалы ў руках бальшавіцкіх агэнтаў. Сапраўдныя кіраўнікі нашага лягеру сягоньня — гэта шматгадовыя камуністычныя партыйцы і высокія дзеячы ўраду БССР, якія, зьмяніўшы прозьвішчы свае, спатайка вядуць дывэрсыйную работу сярод беларускай эміграцыі. Вось некаторыя зь іх:*

*Кандыбовіч Сямён — бальшавіцкі партыец больш за 20 гадоў. Ён быў упраўляючы справамі ўсяго Саўнаркому БССР і сябрам Саўнаркому, сябрам Савету труда і абароны. Ён разам з Панамарэнкай*[177] *на працягу даўгіх гадоў праводзіў крывавыя „чысткі“ тых урадаў БССР, якія мелі беларускае нацыянальнае аблічча. Ён быў „дакладчыкам“ у ЦВК (Цэнтральны Выканаўчы Камітэт) БССР па справе ліквідацыі беларускіх нацдэмаў. У Саўнаркоме ён „граміў“ тых урадаўцаў, якія сталі ў абароне сялянства супроць калгасаў. Найлепшымі прыяцелямі яго былі Ванкоўскі — упаўнаважаны прадстаўнік ГПУ (НКВД) для ўсяе БССР і Валковіч*[178] *— сакратар ЦК Камуністычнае партыі (бальшавікоў) БССР.*

*Калубовіч Аўген — шматгадовы камуністы. За крадзеж грошай быў высланы ў лягер, але працаваў там упаўнаважаным НКВД па палітычным наглядзе над высланымі. Ён асабліва зьдзекваўся над зьняволенымі сьвятарамі. За выдатную працу па ліквідацыі беларускіх нацыяналістых у лягерох ён быў звольнены ад кары й прызначаны інспэктарам камуністычнага выхаваньня пры Саўнаркоме ў Менску. Тут ён арганізуе знанымі савецкімі мэтадамі пагром выдатных беларускіх навукоўцаў, частка якіх высылаецца й расстрэльваецца. Па далучэньні Заходней Беларусі да БССР Калубовіч, як асабліва даверaная асоба, дэлегуецца туды праз ЦК Камуністычнай партыі і для ліквідацыі беларускага нацыянальнага духу і прапаганды камунізму.*

*Кандыбовіч і Калубовіч — гэта жорсткія каты беларускага народу, якія па вушы плавалі ў крыві нявінных ахвяраў бальшавізму і прысланыя на юдаву работу да нас.*

*Крывіцка-бальшавіцкія заправілы стараюцца аддаць пад савецкі нож беларускую эміграцыю, абвінавачваючы яе, разам з савецкімі забойцамі — Молатавым*[179] *і Вышынскім як квісьлінгаў. Для падтрыманьня гэтай крывавай работы яны выкарыстоўваюць сваё панаваньне ў лягеры Віндзішбергердофе, усякімі няпраўдамі адбіраюцца крошкі ад нашых удоваў, сіротаў, інвалідаў і шлюць іх у крывіцка-бальшавіцкі цэнтр Остэргофэн.*

*Для асягненьня сваіх мэтаў крывіцка-бальшавіцкая банда стасуе крывавы тэрор. Па іх загаду быў забіты барацьбіт з бальшавізмам Трухновіч Мікалай. Яны загубілі шматгадовага змагара з камунізмам Сазыку Міхаіла*[180]*. Спосабамі НКВД яны не дапушчаюць да голасу масаў беларускага насельніцтва лягеру.*

*У надыходзячых выбарах лягернае Рады ўсе беларусы антыбальшавікі выступаюць адзіным фронтам супроць крывіцка-бальшавіцкага панаваньня ў Віндзішбергердорфе і абіраюць сваіх людзей у лягернае кіраўніцтва.*

*Далоў крывіцка-бальшавіцкіх катаў.*
*Далоў іх адміністрацыю ў Віндзішбергердорфе.*
*Хай жыве вольнасьць.*
*Хай жывуць дэмакратычныя выбары новай лягернай Рады.*

*Эміграцыя, 22.1.1949 г.* *Антыбальшавіцкі Беларускі Блёк (АББ)*

*Камэнтары Алеся Пашкевіча і Лявона Юрэвіча*

175 Маецца на ўвазе беларускі дзеяч Аўген Кабяка.

176 Маецца на ўвазе **Даніла Клінцэвіч** (1905—1967), вайсковы й грамадзкі дзеяч, пляменнік Міколы Абрамчыка. Да беларускага руху далучыўся ў міжваенны час. У часе нямецкай акупацыі служыў у 13-м батальёне СД. З 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Сябра БАЗА, у 1959—1960, 1961—1964 гг. — старшыня Нью-ёрскага аддзелу арганізацыі. Сябра Згуртаваньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Адзін з ініцыятараў выдання газэты „Беларус“.

177 **Панцеляймон Панамарэнка** (1902—1984), савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, у 1938—1948 гг. — першы сакратар ЦК КП(б)Б.

178 **Даніла Валковіч** (1900—1937), савецкі партыйны дзеяч. У 1934—1937 гг. — другі сакратар ЦК КП(б)Б, у 1937 г. — старшыня СНК БССР. Рэпрэсаваны.

179 **Вячаслаў Молатаў** (1890—1986), савецкі партыйны дзеяч, адзін з найбольш блізкіх паплечнікаў І. Сталіна. У 1930—1941 гг. — старшыня Савету Народных Камісараў СССР, у 1939—1949 і 1953—1956 наркам, а затым міністар замежных справаў СССР.

180 **Міхаіл Сазыка** (1895—1949), сьпявак і вайсковец, актыўны дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў другой палове 1940-х гг.

***Барыс Данілюк***

# ЛІСТЫ ПРА ОСТАЎЦАЎ І ДЫПІСТАЎ У ФРАНЦУСКАЙ ЗОНЕ[1]

07.29.09

Паважаны Спадару Лявон!

Мае ўспаміны й дазнаньні з жыцьця ў лягерах Ды-Пі ня вельмі шмат змогуць Вам выясьніць ці дадаць да ўспамінаў Вініцкага[2], бо я жыў у францускай зоне, дзе нашае жыцьцё не было зусім такое, як Ды-Пі ў амэрыканскай і ангельскай зонах. Яно, магчыма, не было й зусім такое, як у іншых лягерах у той жа францускай зоне.

Але, перад тым як пачаць гаварыць пра жыцьцё пасьля капітуляцыі Нямеччыны, думаю, што варта ўспомніць і пра тыя пару месяцаў, якія давялося пражыць у лягеры „остарбайтэраў“ перад тым.

Вось жа, пасьля таго як мы, заехаўшы за Каліш у Польшчы, на пачатку жніўня 1944 г., здалі вазы й коней ды прайшлі праверку на „арыйскасьць“ у апусьцелым амаль лягеры для „фольксдойчаў“ у Здуньскай Волі, нас завезьлі таварным цягнікам ажно ў места *Osnabrueck*, недалёка ад галяндзкае мяжы. Тамака пасялілі невялікі наш транспарт зь мешаніны колькіх нацыянальнасьцяў у бараках, або малым лягеры для „остарбайтэраў“ пры вялікай паперні. Тых баракаў стаяла там простакутнікам чатыры: у адным зь іх урадаваў камандант, быў склад, пральня й, здаецца, нешта наўпадоб лазьні ды туалет. Тры засталыя баракі нясьцісна займалі прымусова вывезеныя ўкраінскія дзяўчаты, „остарбайтэркі“, якіх перад нашым прыездам сагналі ў адзін.

[1] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

[2] Маецца на ўвазе кніга Алеся Вініцкага „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах“ (у трох частках), першапачаткова выдадзеная невялікім накладам у Лос-Анджэлесе ў 1968 г. і перавыдадзеная ў скарочаным варыянце ў Менску ў 1994 г.





Частку з нашага транспарту, у тым ліку й нас з маімі бацькамі, пасялілі ў бараку, перагароджаным фанэрай на каморкі, у якіх стаялі двухпавярховыя ложкі з напханымі саломай сеньнікамі й адной на ўвесь барак жалезнай печкай, што мела грэць цэлы будынак і на якой можна было штосьь зварыць, калі было з чаго.

Другой частцы нашага транспарту далі барак з заляй без перагародак, і людзі адгароджвалі свае мейсцы радзюжкамі ці іншым спосабам.

Горш яшчэ было зь ежай: на полудзень нам давалі місачку няшчымнага рэдкага супу з рэдзькі, часам з крышынкай бульбы й, мусіць, нічога болей, а на сьнеданьне й вячэру кавалак хлеба, нешта не памятаю, каб зь якою помазяй.

На працу ў паперні пагналі зараз жа на другі дзень, мяне на дзённую зьмену, падчас якое быў з старым немцам, што навучыў мяне, як гэта рабіць. Трэба было вельмі хутка скідаць на ваганэткі цяжэзныя сувоі ўпакоўнае паперы, што няспынна плыла з адумысловае машыны, і маланкай закладаць новыя шпяні на наступныя.

У канцы тыдня мяне перакінулі на начную зьмену й, як здавалася, на лягчэйшую работу, бо трэба было толькі сядзець на лавачцы пад трохмэтравае шырыні стужкай паперы, што бяз спыну плыла з машыны пад моцнай электрычнай лямпай, і сачыць, каб у паперы не было браку, а калі такі паказваўся, закладаць у край сувою адпаведную шкодзе каляровую паперку.

Пасьля васьмігадзіннага гэткага занятку балела ўсё: галава, вочы, карак, плечы й сесьце — ды сьвет быў нямілы, бо хацелася толькі заснуць, каб не адчуваць дакукі.

Наш невялікі лягер быў даволі чысты, і пасярэдзіне, між баракамі, цьвілі нават кветачкі, але ўвакол была высокая агароджа з калючага дроту, бо выходзіць „остарбайтэрам“ у адлеглае паўтара ці два кілямэтры места было забаронена, але ў загарадзе й каля паперні можна было пахадзіць без „остарбайтараўскіх“ нашывак, пра якія нам нават і ня згадвалі.

Недзе недалёка быў і мужчынскі, пераважна ўкраінскі, лягер зь яшчэ слабейшай дысцыплінай, як у нашым, і ў кожную нядзелю адтуль прыходзіла грамада дзецюкоў, у выніку чаго адна зь дзяўчат гадавала дзіця.

Нашае галоднае, але спакойнае жыцьцё, на жаль, патрывала толькі каля двух тыдняў, у канцы якіх пачалося пекла, бо заходнія хаўрусьнікі ўсур'ёз узнавілі налётную кампанію й у першую чаргу ўдзень моцна збамбавалі чыгуначную станцыю ў *Osnabrueck*'у.

Усім мужчынам з нашага лягеру зараз жа загадалі назаўтра з-за цямна яшчэ ўставаць і пад наглядам аднаго немца маршыраваць да места й празь места да чыгуначнае станцыі. Там мы засыпалі бомбавыя выварaты, зносілі ў кучы паламаныя шпалы й рэйкі ды клалі новыя, хоць з голаду не было сілы, а ў галаве была толькі адна думка — як і дзе знайсьці штось зьесьці. З гэтым зрэдка шанцавала: раз знайшлі мы ў згарэлым вагоне й набралі ў пазавязваныя верхнія кашулі па колькі кіляграмаў цукру, другі раз па пары булак зацьвілога хлеба ды колькі разоў, калі нас цягнікам адвозілі за места, на пакопаных машынамі баўэрскіх палёх мы выграблі па крысе бульбы.

Варочаючыся ўвечары дамоў, мы часам заставалі яшчэ нямецкіх жаўнераў, што засыпалі бульбу ў вагоны, і тыя ніколі не адмаўлялі ўсыпаць па шуфлі ў нашыя торбачкі, што нам пашылі нашыя жонкі. Але ўсяго гэтага было мала, і было яно незаўсёды.

А нашай працы на чыгунцы не было відаць канца, бо як толькі мы канчалі паправу, зноў налятaлі амэрыканскія бамбавікі й разьбівалі ўсё нанава ў ламачча, не шкадуючы й места. Гэта паўтаралася тры разы, і за трэцім разам я з бацькам, не паехаўшы адвозным цягнікам, амаль не загінулі пад бомбамі.

У роспачы ад гэтага ўсяго я зьвярнуўся да майго прыяцеля Аляксея Васілені[3], што кіраваў канцылярыяй ген. Езавітава[4] ў Беларускай Цэнтральнай Радзе ў Бэрліне, каб той прыслаў мне й майму бацьку[5] пакліканьні ў беларускае войска, што пачынала тварыцца ў тую пору.

Тымчасам таму, што я даволі добра гаварыў па-нямецку, загадалі мне выбраць яшчэ пяць памочнікаў, і нас паслалі на дапамогу настаўні-

[3] **Аляксей Васіленя** (1899—1978), вайсковы й палітычны дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны быў намесьнікам старшыні й старшынём Беларускай народнай самапомачы на Слонімскую акругу, служыў у Беларускай Краёвай Абароне. З 1944 г. — на эміграцыі: спачатку ў Нямеччыне, а пасьля ў Аўстраліі.

[4] **Канстанцін Езавітаў** (1893—1946), грамадзка-палітычны й вайсковы дзеяч. На II Усебеларускім кангрэсе ўзначаліў Галоўную ваенную ўправу БЦР і быў генэральным інспэктарам беларускага вызваленчага войска, фармаванага на тэрыторыі Нямеччыны. Пасьля рэарганізацыі БЦР — ваенны міністар.

[5] Бацькам Барыса Данілюка быў беларускі сьвятар **Хведар Данілюк** (1887—1960). Больш інфармацыі пра апошняга можна знайсьці ў: Данілюк, Барыс. Слова пра бацьку // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск, 2007. С. 227—233; Данілюк, Барыс. Успаміны // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 413—455.





ку, што кіраваў вывазам абсталяваньня мясцовых школаў у сельскія, на што былі патрэбныя самаходы, якія было цяжка дастаць. Таму мы больш часу праседжвалі, дрэмлючы, на падстрэшшах школьных будынкаў, дзе яшчэ было цеплавата ад сонца, а часам і пячных комінаў, як працавалі. А дрымота ці нават сон нам былі вельмі патрэбныя, бо над *Osnabrueck*'ам удзень і ўначы лёталі хаўрусьніцкая самалёты, і ў кожным гэткім выпадку трэба было абавязкова бегчы з баракаў у бамбасховішча й там сярод ночы праседжваць гадзінамі. Дакучаў, ведама, і голад, бо хоць той немец-настаўнік прыносіў нам кожнае раніцы колькі яблыкаў і лустак хлеба, мы іх адразу ня елі, а хавалі для сумояў на вячэры.

Каб крыху памагчы ў гэтай бядзе, я й малады гамяльчанін Грачоў адважыліся колькі разоў пашнырыць у руінах збамбаваных дамоў, у падмосьцях некаторых зь іх знаходзячы цэлыя полкі садавінных сочываў, якія за пару разоў забіралі дачыста. Але так мы папрацавалі адно пару тыдняў, калі прыйшлі пакліканьні, і мы падаліся, сьпярша бязь сем'яў, у Бэрлін.

У Бэрліне мы прабылі каля трох месяцаў, жывучы зь сем'ямі й вайскоўцамі ў зборнай казарме-школе й харчуючыся той крыхай прадуктаў, што немцы давалі на картачкі.

Вялікіх налётаў на Бэрлін у гэтым часе не было, аж да аднаго дня ў канцы студзеня ці пачатку лютага, калі амэрыканскія бамбавікі моцна пахвасталі места, і хто мог, насуперак гітлеравае забароны, пачалі ўцякаць ува ўсе бакі.

Зьявілася й чутка, што й Беларуская Цэнтральная Рада будзе эвакуяваная недзе на захад. Я, не чакаючы на гэта, з Васіленевай дапамогай дастаў зь нейкага нямецкага ўраду дазвол зьвезьці і ўладзіць сям'ю ў паўдзённа-заходняй Нямеччыне й вярнуцца ў беларускае войска. З гэтым дазволам мы й рушылі чыгункай на Дрэздэн, дзе 12 лютага мусілі, нядрэнна пад'еўшы, пераначаваць у падмосьці пад станцыяй, на адну ноч апярэдзіўшы страшэнны налёт на тое места.

Мэтай нашага падарожжа было мястэчка Заўльгаў у Вюртэмбэргу (Швабіі), куды адразу, у ліпені 1944 г., эвакуявалася й была расьселеная па прыватных кватэрах амаль уся слонімская „сьмятана“. Працы яны падаставалі ў местачковых фабрычках і майстэрнях, а харчаваліся купленай на картачкі ежай.

Нам, на жаль, месца ў Заўльгаў не знайшлося, і нас накіравалі ў суседняе меншае мястэчка — Альтгаўзэн, а адтуль у недалёкую вёсачку да баўэраў. Мяне з жонкай і немаўлём-сынам накіравалі да амаль

безьзямельнага баўэра, якому я толькі два ці тры разы памагаў прывезьці зь лесу дровы й пасадзіць бульбу, пры гэтым не канём, а каровай. За гэта ён мяне тады частаваў кавалачкам смачнае каўбасы, з лустачкай хлеба й кубкам мошту (пастаялы разьведзены вадою яблычны сок зь ледзь чутной крыхай алькаголю), а рэшту часу мы жылі на скупым харчы з картачак, зрэдзь да якіх баўэрыха тайком ад мужыка давала крыху больш малака для дзіцяці.

Маім бацькам выпала горш, бо яны трапілі да баўэра зь вялікай гаспадаркай, што з жонкай прыганяў іх да найцяжэйшае работы ад цямна да цямна — майму бацьку даводзілася ўвесь час перш выкідаць гной з хлявоў і ўсьлед накідаць гэты гной на воз ды вывозіць у поле й раскідаць там. А карміў іх баўэр толькі тым, што прадавалася ў крамах на картачкі. Пасьля больш як месяца такое катаргі мае бацькі зьнядужалі й адмовіліся так цяжка працаваць, за што баўэр забраў іхныя харчовыя картачкі. У выніку ім давялося штодня хадзіць на недалёкую чыгуначную станцыю, дзе ў рэстаране можна было бяз картачак купіць місачку *Stam*'у — няшчымнага й рэдкага супу, а я з жонкай амаль нічым ім не маглі памагчы, бо й самыя ледзь хадзілі галодныя.

У тых ваколіцах Вюртэмбэргу, дзе мы тады жылі, не было вялікае прамысловасьці й лягераў з баракамі для замежных работнікаў, толькі сям-там у баўэраў працавалі палякі й „остарбайтэры“.

У гэткіх вось абставінах прыйшла й капітуляцыя Нямеччыны, якое мы й не заўважылі б, каб каля нашае вёсачкі не разьбегся натоўп гнаных няведама куды вязьняў канцлягераў, амаль усіх палякаў, што, пабіўшы морды ўсім гаспадарам, пасяліліся ў баўэрскіх дамох і патрабавалі, каб іх кармілі шчодра й смачна. Пасьля яны парахманелі й, пакуль не паехалі дамоў, памагалі немцам у гаспадарцы.

Нам жа французы сьпярша далі нядрэнныя кватэры ў мястэчку, дзе пачалі выдаваць і даволі, каб адужаць, даўно не каштаваныя прадукты, як мяса й тукі.

Увосені французы чамусьці надумалі перакінуць чужынцаў, пераважна з нашага краю, перш у адну, а ўсьлед і ў другую, зусім блізкую ад мястэчка Заўльгаў вёску ды пасяліць там у баўэрскіх хатах. Гэта й быў лягер Ды-Пі, „камандантам“ якога паставілі мяне з абавязкам раз на тыдзень забіраць з складу ў мястэчку прадукты й раздаваць іх насельнікам, ды ўсё.

Паважаны Спадару Лявоне!

Пасылаю Вам тое, што пасьпеў дагэтуль напісаць праз жыцьцё Ды-Пі ў Нямеччыне. Датычыць яно, як бачыце, пары перад капітуляцыяй,





але мне здаецца, што бяз гэтага ў апісаньні жыцьця Ды-Пі ня будзе пачатку. Далей пастараюся напісаць, як змагу, найхутчэй.

З пашанай,
Барыс Данілюк

8.08.09

Паважаны Спадару Лявон!

Варочаючыся да „остарбайтэрскіх“ лягераў, варта зацеміць, што ў іхных насельнікаў кіпеў савецкі патрыятызм, што адчуваўся й заўважваўся звонку. Мне нават здаецца, што там былі й патайныя камсамольскія арганізацыі. Таму й масавая рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян адбылася мамэнтальна пасьля капітуляцыі Нямеччыны. Праз пару наступных год савецкія рэпатрыяцыйныя місіі палявалі толькі на невялікую колькасьць іхных грамадзянаў і неграмадзянаў, што ад масавага павароту выкруціліся. Падобная сытуацыя была й з палякамі, але ў меншай ступені.

Як я ўжо сказаў, у найбліжэйшых ваколіцах, дзе мы былі, вялікіх лягераў Ды-Пі не было, а пасяленьні ў вёсках лічыліся лягерамі. Затое ў недалёкім месьце Равэнсбургу такі польскі лягер, мабыць, быў, але ў ім не было адукаваных палякаў, дык ім польскі камітэт стварылі й ачолілі „беларускія дзеячы“, а гэта *„prezes“* Эмануіл Ясюк[6] і ня ведаю які начальнік, былы ад'ютант Р. Астроўскага, Анатоль Плескачэўскі[7], што ганяўся на здабычным матацыклі ў польскім вайсковым мундзіры.

У Равэнсбургу адчынілася й польская гімназія, дырэктарам якое стаў былы дырэктар і настаўнік беларускае дзесяцігодкі ў Баранавічах, якую я коратка наведваў пры Саветах, Канстанцін Вадэйка. Гімназія, здаецца, не пратрывала доўга, але пасьпела, як думаю, выдаць атэстаты сьпеласьці колькім з нашых прышлых *UNRRA*'ўскіх студэнтаў, што былі замаладыя, каб атрымаць такія дакумэнты на Бацькаўшчыне.

У тым мястэчку, дзе мы былі, Альтгаўзэне, знайшлося зь пяцьдзясят беларусаў, што згадзіліся заснаваць беларускі камітэт пад

---

[6] **Эмануіл Ясюк** (1906—1977), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Падчас нямецкай акупацыі — старшыня Стаўпецкага раёну, удзельнічаў у II Усебеларускім кангрэсе. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З пачатку 1950-х гг. жыў у Пасэйку (Нью-Джэрзі, ЗША).

[7] **Анатоль Плескачэўскі** (1911—1980), грамадзкі дзеяч, у 1944 г. — ад'ютант прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. З 1949 г. жыў у ЗША, браў актыўны ўдзел у працы мясцовых беларускіх арганізацыяў.

старшынствам доктара Віктара Войтанкі[8], на які дазволіў і францускі камандант. І нейкі час усё йшло добра, покуль раптам зь нейкае прычыны той камандант узьеўся на доктара Войтанку, і той мусіў выехаць у суседні Заўльгаў. Пасьля яго старшынства камітэту абняў хісткі беларус Аляксей Шудзейка[9], што зьмяніў камітэт зь беларускага на камітэт польскіх грамадзянаў, у выніку чаго арганізацыя распаўзлася.

Тымчасам нашыя зрусіфікаваныя землякі ў Заўльгаў выкапалі аднекуль генэрала фон Лямпэ[10], што быў апекуном над белай эміграцыяй яшчэ ад Лігі нацыяў[11], і той пачаў выдаваць пасьведчаньні апатрыдзтва, ці безграмадзянства, усім тым, каму сапраўды пагражала прымусовая рэпатрыяцыя ці гэтак толькі здавалася. Але ніякае арганізацыі нашыя пярэваратні й сапраўдныя расейцы не стварылі — ім было даволі манархістычнае царквы.

Мне давялося ў канцы 1945-га й пачатку 1946 г., калі пачаў наведваць унівэрсытэт *UNRRA*[12], пажыць і ўва ўкраінскім студэнцкім „гуртжытку“ ў Мюнхэне, што займаў будынак нямецкае школы. Дачыненьні паміж намі й імі былі вельмі прыязныя й прыемныя, яны запрашалі нас на іхныя ўрачыстасьці, а мы зладзілі там у 1946 г. сьвяткаваньне 25 Сакавіка. Крыху пазьней паўстала й арганізацыя беларуска-ўкраінскае студэнцкае дружбы, што, на жаль, патрывала толькі да закрыцьця ўнівэрсытэту *UNRRA* на пачатку лета 1947 г.

[8] **Віктар Войтанка** (1912—1972), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, лекар. Падчас Другой сусьветнай вайны — бурмістар Баранавічаў, доктар-інспэктар Беларускай Краёвай Абароны. З 1944 г. — на эміграцыі: да 1949 г. жыў у Нямеччыне, пасьля пераехаў у ЗША. Напрыканцы жыцьця стаў сьвятаром.

[9] **Аляксей Шудзейка** (1913—1969), грамадзкі дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны ўзначальваў Беларускае прадстаўніцтва ў Торуні, пазьней працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё „Вінэта“. З 1949 г. жыў у ЗША.

[10] **Аляксей фон Лямпэ** (1885—1967), расейскі генэрал. Падчас Грамадзянскай вайны ў Расеі служыў у войсках Дзянікіна і Врангеля, пасьля ў эміграцыі займаў пасады вайсковага прадстаўніка расейскай арміі ў розных эўрапейскіх краінах, а ў 1924 г. узначаліў 2-гі аддзел Расейскага агульнавайсковага саюзу (РАВС) у Бэрліне. З 1938 г. — кіраўнік РАВС (?) у Нямеччыне. З 1946 г — намесьнік старшыні, з 1957 г. і да канца жыцьця — старшыня РАВС.

[11] **Ліга Нацыяў** — заснаваная ў 1919 г. міжнародная арганізацыя, якая мела за афіцыйную мэту разьвіцьцё супрацы паміж народамі й гарантыю міра. Фармальна працягвала сваё існаваньне да 1946 г.

[12] Унівэрсытэт *UNRRA* адчынілі ў Мюнхэне адмыслова для перамешчаных асобаў у 1945 г. і зачынілі ў 1947 г., пасьля ліквідацыі самой *UNRRA*.





Усе насельнікі „гуртжытку“, дарэчы, харчаваліся ў харчоўні *UNRRA* ў *Deutches Museum*[13], дзе быў і ўнівэрсытэт ды жыло колькі нашых студэнтаў і студэнтак, а я, здаецца, у лютым 1946 г., атрымаў прыватную кватэру — маленькі, але прызваіты пакойчык у старэйшых ужо бязьдзетных немцаў, якім нешта плаціў за гэтую прыемнасьць.

Вярнуўшыся навесну 1946 г., пасьля першага сэмэстру, у сяло Бондорф каля Заўльгаў, дзе жыла мая жонка й бацькі, я якраз трапіў на навед савецкае рэпатрыяцыйнае місіі, на допыт якой склікалі ў аддзел *PDR* (*Prisoniers, Deportees, Refugees*) францускае адміністрацыі ўсіх падазраваных у савецкім грамадзянстве, у тым ліку й нас. Гэткіх перад будынкам назьбіралася ладная грамада, апытаць якую спатрэбіўся б тыдзень. Таму выклікалі адно колькі чалавек, у тым ліку й маладую дзяўчыну, што на пытаньне, хто быў польскім прэзыдэнтам перад вайною, адказала Астроўскі, што задаволіла саветчыкаў, і ўсю нашую грамаду адпусьцілі дамоў.

У *PDR*, між іншым, працавалі дзьве дзяўчыны — былыя працаўніцы слонімскага гебітскамісарыяту, а таксама былы сакратар слонімскае раённае ўправы, што пазьней быў акруговым ці раённым судзьдзём.

Неўзабаве пасьля рэпатрыяцыйнага допыту звыш 20 сем’яў ДыПі перавезьлі пад суседняе павятовае мястэчка (*Kreis*) *Ehingen*, дзе часткова пасялілі ў самым мястэчку й ваколічных вёсках, а большасьць, у тым ліку й нас, у чатырох бараках каля вялікае цэлюлёзавае фабрыкі ў блізкай да мястэчка вёсачцы *Dettingen*. У той фабрыцы меліся й пачалі працаваць працаздольныя мужчыны за роўную зь немцамі плату.

З увагі ж на тое, што большасьць перавезеных былі праваслаўныя сланімчане, зьявілася жаданьне адпраўляць у нядзелі й сьвяты ў вясковай капліцы Божыя службы. Па дазвол і прызначэньне да гэтага абавязку мой бацька зьвярнуўся з просьбай да архіяпіскапа Апанаса, ад якога не атрымаў ніякага адказу. Затое Апанас прызначыў у Эгінген русафіла протаярэя Кузьму Місуну, што атрымаў у мястэчку добрую кватэру й нядрэнную месячную заплату ад нямецкіх уладаў. Мой жа бацька пайшоў на фабрыку прыбіральнікам і на працу не наракаў.

Мая жонка неўзабаве таксама дастала працу ў бухгальтэрскім бюро складу *PDR*, і нашае фінансавае становішча значна паправілася.

[13] ***Deutches Museum*** (Нямецкі музэй) — музэй у Мюнхэне, які лічыцца адной з найбуйнейшых установаў такога кшталту ў сьвеце ў галіне прыродазнаўства й тэхнікі.

Нягледзячы на тое, што большасьць мужчынаў зарабляла на фабрыцы, нам *PDR* далей выдавала раз на тыдзень прадукты, за якія, мабыць, плаціла *UNRRA*, ці пазьней *IRO*, а разьдзяляў „камандант“, наш добры патрыёт, што страціў вока ў бойцы з партызанамі, былы лясьнічы Ніл Краўцэвіч. Краўцэвіч, дарэчы, здаецца, у 1919 г. наведваў курсы беларусаведы ў Маскве пад кіраўніцтвам праф. Янчука[14].

Апрача прадуктаў, час ад часу нам давалі выбіраць дарованую амэрыканцамі адзежу й абутак, зь якіх часам можна было выбраць і зусім добрыя рэчы. Але найдаражэйшым падаркам ад амэрыканцаў былі пасылкі з шакалядай, цыгарэтамі й банкай кавы, якія нам зрэдку давалі. Зь іхнага зьместу кава была найважнейшым таварам, бо за яе немцы не шкадавалі нічога — я, напрыклад, купляў у баўэраў скрынкі яблыкаў, за дзьве зь якіх браў, памятаю, пад весну ад габрэяў, што шнáралі па чыгуначнай станцыі ў Мюнхэне, па 700 старых марак, а гэта быў нядрэнны заработак.

Гаспадарнейшыя насельнікі нашага лягеру не жылі, аднак, толькі з таго, што атрымоўвалі з замежнае ласкі. Пры лягеры быў даволі вялікі і ўраджайны палетак, які падзялілі на гароды, і мая жонка, вялікая аматарка гародніцтва, трымала ў гэтым пяршынства. Мы нават паставілі з аполкаў хлеўчык, у якім, як і пара іншых сем’яў, трымалі парсючка.

У пачатку нашага побыту з *Dettingen* былі чуткі, што палякі займаліся іншай гаспадаркай — начамі грабілі баўэраў.

Як з гэтага відаць, мы былі збольшага забясьпечаныя ўсім, апрача малака й дроў, якія трэба было купляць у баўэраў, прычым дровы даўжэйшымі штукамі, рэзаць якія на калодкі наймалі немца з маторнай тасьмавай пілою.

Пры гэтым усім дакучала, аднак, няпэўнасьць, як да падзеяў у сьвеце, гэтак і да нашае будучыні.

Вось гэтулькі я даў рады напісаць да сёньня. Спадзяюся, што наступным разам неўзабаве тэму скончу.

Жадаю ўсяго найлепшага!

З пашанай,
Барыс Данілюк

[14] **Мікалай Янчук** (1859—1921), беларуска-ўкраінска-расейскі навуковец-славіст і пісьменьнік. У 1918—1921 гг. — сябра Беларускага навукова-тэхнічнага таварыства ў Маскве. Удзельнічаў у працы камісіі па арганізацыі Беларускага ўнівэрсытэту, у 1921 г. — прафэсар катэдры беларускай літаратуры й этнаграфіі БДУ.





19.08.09

Паважаны Спадару Лявон!

Працягваю спавядацца перад Вамі з таго, што ўспамінаецца з жыцьця ў лягерах Ды-Пі ў францускай зоне й гэтым разам спадзяюся скончыць.

Як я ўжо папярэдня сказаў, мой бацька, Краўцэвіч і я ў вольны час займаліся палітыкаваньнем, але таго вольнага часу было гэтулькі, што спатрэбілася яшчэ й нейкая разрыўка, якой стала гульня ў карты. На гэтую патрэбу склалася чацьвёрка старэйшых сланімчанаў: мой бацька, Краўцэвіч, мой хросны й яшчэ адзін „інтэлігент“; яны часта вечарам зьбіраліся ў лягернай канцылярыі-складзе гуляць у прэфэранс, а калі каго зь іх не было, падвучылі гуляць мяне, і я заступаў адсутнага.

У гэтым часе д-р Войтанка наладзіў лучнасьць з Пануцэвічам (Папуцэвічам)[15], што намовіў яго зарганізаваць беларускую скаўцкую дружыну ў францускай зоне, а д-р Войтанка ў сваю чаргу націснуў на мяне ды завэрбаваў маладога касаўляніна Валодзю Жыромскага, і мы гэтую трохасабовую, бо ні дзяцей, ані моладзі зусім не было, дружыну зарганізавалі й нават вялі нейкае ліставаньне з начальствам, хоць і ад фікцыйнае арганізацыі.

Доктар Войтанка яшчэ больш як скаўтынгам займаўся ды намагаўся аднавіць аўтакефалію Беларускае праваслаўнае царквы, і хоць гэтая справа, галоўным чынам, вялася Радай БНР і Беларускім Нацыянальным Камітэтам у амэрыканскай зоне, ён перапісваўся з архіяпіскапамі Філафеем і Апанасам ды гасьціў у апошняга цэлы тыдзень у ягонай кватэры ў Заўльгаў.

На жаль, ягоныя слабыя ўжо надзеі намовіць гэных юдаў вярнуцца й ачоліць беларускую аўтакефалію былі дарэмныя, бо прыперты да сьцяны Апанас паставіў гэткія фінансава-матэрыяльныя вымогі, на здаваленьне якіх нам не даводзілася нават і марыць. У выніку ўсяго гэтага дайшло да скліканьня 5 чырвеня 1948 г. Сабору ў Канстанцы, на якім было ўхваленае й абвешчанае ўзнаўленьне папярэдне Праваслаўнае Беларускае Аўтакефальнае Царквы пад новым назовам: Беларуская

[15] **Вацлаў Пануцэвіч** (сапр. **Папуцэвіч**, 1911—1991), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Зьяўляўся адным з арганізатараў „руху маладых адраджэнцаў“ у Заходняй Беларусі. Падчас Другой сусьветнай вайны займаўся культурна-асьветніцкай працай на акупаванай тэрыторыі. З 1944 г. — на эміграцыі. Узначальваў Задзіночаньне беларускіх скаўтаў на чужыне. З 1949 г. — у ЗША. Жыў у Чыкага, выдаваў шэраг рэлігійна-гістарычных часопісаў.

Аўтакефальная Праваслаўная Царква, галавенства якое абняў адпушчаны Сынодам УАПЦ япіскап Сергій (Ахатэнка).

На гэты Сабор з нашага лягеру запрасілі Краўцэвіча, мяне й майго бацьку, але зьезьдзіў адзін Краўцэвіч, бо я, здаецца, быў у Мюнхэне, а мой бацька ставіўся да гэтае задумы зь недаверам. Прычыны на гэта былі тыя, што, па-першае, бацька лічыў д-ра Войтанку фантазёрам, па-другое, ён яшчэ з 1919—1920 гг. ня меў павагі да Мікалая Дзямідава[16], што прычапіўся тады да гэтае справы.

Больш-менш у гэтым часе адбылася й грашовая рэформа: немцам і Ды-Пі выплацілі па 40 новых марак на асобу, і хто нідзе не працаваў, давялося жыць цяжкавата. Дапамогай у гэтай бядзе некаторым мужчынам стаў высек лесу, які ў тую пору французы пачалі ў Шварцвальдзе[17], працаваць на якім бралі Ды-Пі й, здаецца, нядрэнна плацілі, ды дазвалялі даволі танна купляць гарэлачныя пітвы ў іхным „эканамаце“. Але й нямецкую гаспадарку рэформа ажывіла проста, як дзіва, — у працягу тыдня крамы сталі поўныя тавараў, як перад вайною.

Нашую сям'ю рэформа моцна ня выцяла, бацька й мая жонка далей зараблялі, а я жыў на іхнай ласцы. Ня дужа закранула рэформа й іншых насельнікаў нашага лягеру, што далей працавалі й зараблялі на цэлюлёзнай хвабрыцы.

Але наш працоўны лягер быў, здаецца, ня толькі адзіны гэткага роду ў бліжэйшых паветах, але й адзіны там наагул, бо Ды-Пі жылі на прыватных кватэрах у мястэчках або ў баўэраў у вёсках.

Занятак прадпрыймальніцтвам памятаю толькі адзін — у Заўльгаў Сяргей Грамыка й паэт Іван Макарэвіч[18] адчынілі камісійную краму, у якой немцы перад рэформай збывалі на пражыцьцё добрыя рэчы, і гешэфт ішоў нядрэнна.

[16] **Мікалай Дзямідаў** (1888—1967), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Удзельнічаў у стварэньні беларускіх вайсковых фармаваньняў падчас польска-савецкай вайны 1919—1921 гг., у міжваенны час жыў і працаваў у Латвіі. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў у Латгаліі, быў школьным інспэктарам у Лідзкай акрузе, вёў працу ў стварэньні БКА. Пасьля вайны жыў на эміграцыі, з 1950 г. — у ЗША.

[17] **Шварцвальд** (ням. *Schwarzwald* — чорны лес) — горны масіў у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг на паўднёвым захадзе Нямеччыны.

[18] **Іван** (Янка) **Макарэвіч** (1909—1995), паэт. Паводле некаторых зьвестак, родам зь Берасьцейшчыны. У 1944 г. апынуўся ў эміграцыі. З 1949 г. жыў у Аўстраліі, дзе браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці.





P. S. Я передумаў і, каб выпадкам не прапала, пасылаю Вам тое, што пасьпеў напісаць.

Наступную й апошнюю частку — пра падрыхтоўку да эміграцыі й самую эміграцыю — пастараюся даслаць неўзабаве.

З пашанай,
Барыс Данілюк

24.08.09

Паважаны Спадару Лявон!

У тым, што я дагэтуль напісаў, трэба недзе ўставіць зацемку, што як толькі ў паветавых мястэчках адчыніліся аддзелы *PDR*, пры іх зьявіліся, ці да іх былі прымацованыя, ахвіцэры польскае арміі Андэрса[19]. Якія былі іхныя заданьні ці чым яны займаліся, мне цяжка сказаць, але відаць іх было часта. Калі адчынілася эміграцыя, амаль усе яны падаліся за акіян — у Заўльгаў два маладыя ахвіцэрчыкі пабралі замуж беларускіх дзяўчат, якіх я ўспамінаў, і паехалі ў Аўстралію.

Таксама варта адзначыць, што я ня чуў, каб у францускай зоне былі школкі для дзяцей якіх-колечы нацыянальнасьцяў, але на гэта я гарантыі не даю. Успомненая мною польская гімназія ў Равэнсбургу, наколькі я зразумеў, не праіснавала доўга.

А цяпер пра эміграцыю за акіян.

Гэтая справа стаяла на мёртвым пункце гадоў тры, і першыя зварухнулі яе, як маю ўражаньне, тайком дзейныя нямецкія нацысты. Між сланімчанаў у Заўльгаў быў адзін, а можа й два былыя працаўнікі СД. Першы зь іх — Юры Шэрэмэтынскі, жанаты на касаўлянскай дзяўчыне сын белага эмігранта, і другі, жанаты з жыраўлянкай мужчына з Чамяроў, каля Слоніму, Барыс Чыгрын. Абодва яны пасьля капітуляцыі Нямеччыны ня вельмі афішаваліся іхнай прысутнасьцяй.

Раптам, аднак, хоць афіцыйна ніякае эміграцыі яшчэ не было, Шэрэмэтынскі, ці ня ўлетку 1948 г., захапіўшы з сабою бацькоў, цясьцёў, шваграў і адну сям'ю сваякоў, а Чыгрын з жонкай, спакаваліся й непрыкметна, праз Італію, падаліся ў Бразылію. Неўзабаве паехала туды й выйшлая замуж за латыша малодшая сястра Надзеі Барт, Людміла.

[19] **Армія Андэрса** — польскае вайсковае фармаваньне, створанае генэралам Уладыславам Андэрсам у 1941—1942 гг. на тэрыторыі СССР паводле пагадненьня савецкага кіраўніцтва з польскім урадам на эміграцыі. У 1943—1945 гг. ваявала ў складзе Брытанскай арміі. У 1946 г. яе жаўнераў перавялі на тэрыторыю Вялікабрытаніі, дзе цягам некалькіх гадоў дэмабілізавалі.

Усе яны, здаецца, апынуліся ў Сан-Паўлу, але дакладнейшых вестак я пра іх ня маю.

Пасьля таго бралі на работы, ці ня ў шахтах, у Англію, але з тых ваколіцаў, дзе я быў, паехаў толькі адзін беларускі хлопец. У Францыю ня чуў, каб каго бралі — паехала туды толькі жонка б. лейтэнанта Трусава[20] зь дзецьмі. Таксама не было чутно, каб можна было выехаць у Канаду.

Усьлед нечакана ці вясною або ўлетку 1949 г. адчынілася даволі лёгкая магчымасьць эміграцыі ў Аўстралію, і шмат Ды-Пі, не падумаўшы, кінулася туды ехаць.

Ці не падчас або зараз жа пасьля адплыву вялікай хвалі Ды-Пі ў Аўстралію. Кангрэс ЗША прыняў пастанову таксама ўпусьціць у Амэрыку 200 000 Ды-Пі, і сярод засталых у Нямеччыне пачалося шуканьне за акіянам „спонсараў“, што падпісалі б патрэбныя на ўезд „афідавіты“.

Пачалі й мы шукаць тых „спонсараў“ — перш я зьвярнуўся да Беларускае нацыянальнае рады ў Чыкага, і Лабач[21] памог мне знайсьці бацькавага аднавяскоўца, што выехаў у ЗША перад Першай сусьветнай вайною, але таго „спонсарства“ ні ад аднаго, ані ад другога не дастаў.

Па нейкім часе, ужо ў роспачы, я нейкім чынам знайшоў адрас д-ра Янкі Станкевіча, што выехаў раней і адразу пачаў займацца дапамогай у гэтай патрэбе. Памагаў яму рабіць паперы сьвятар, здаецца, Весялоўскі, з украінскае праваслаўнае царквы на 14-й вуліцы ў Мангэтане, якое сёньня ўжо няма.

Доктар Станкевіч не адмовіў, і па нейкім часе бацька й я тыя „афідавіты“ атрымалі, ды засталося толькі чакаць на амэрыканскую прыймальную камісію.

Паколькі ж колькасьць Ды-Пі значна зьменшала й мелася яшчэ больш зьменшыць, францускія ўлады ці *IRO* або разам пачалі звозіць спадзеўных на эміграцыю ў зборныя лягеры, якіх, як мне ведама, было два. Наш невялікі лягер зачынілі, і нас перавезьлі ў шмат большы, у былых нямецкіх і ўласаўскіх вайсковых бараках у мястэчку Мюнзінген. Мой бацька страціў заробак, маю ж жонку, таму, што ў гімназіі наўчылася крыху па-француску, узялі ў *PDR* выпаўняць эміграцыйныя дакумэнты. Гэта, апрача платы, дало нам прывілей купляць таньней і лепшыя, як у местачковых нямецкіх крамах, тавары ў францускім „эканамаце“, на што мы ўсё роўна рэдка маглі сабе дазволіць.

[20] Імаверна, маецца на ўвазе Аўген Трусаў, што па вайне асеў у Францыі.

[21] **Ігнат Лабач**, адзін з найбольш актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША ў перадваенны пэрыяд. Жыў у Чыкага. У 1935 г. быў адным з заснавальнікаў Беларуска-амэрыканскага грамадзкага задзіночаньня, у 1941 г. — Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады.





У мюнзінгенскім лягеры была мешаніна нацыянальнасьцяў, але знайшлося даволі расейцаў і русафілаў, каб залажыць расейскую парахвію, якую ачоліў прыехалы з намі таксама русафіл-беларус протаярэй Кузьма Місуна, дастаючы далей урадавую плату. Пачаў правіць Божыя службы й а. Сьцяпан Войтанка[22], але не ўва ўладжанай царкве, а ў вольнай нядзелямі залі ў адным з баракаў, куды прыносілі й там расстаўлялі багаслужбовыя патрэбнасьці ягоны сын і нявестка.

Нарэшце недзе ўлетку нас у Раштат выклікалі, і мы, заехаўшы туды, пераначавалі ў нейкім вялікім будынку, што кішэў гэткімі ж, як і мы, Ды-Пі. Мне ўжо загадзя было ведама, што амэрыканская камісія галоўную ўвагу зварочвала на рэнтгенаўскія здымкі й пры найменшым падозраньні сухотаў аплікантаў адкідала. Паколькі ж улетку 1939 г. я тыдняў тры хварэў якраз на лёгкія, мне было з гэтым неспакойна. Я даведаўся, што даглядчыкам, ці майстрам, у будынку працуе беларус, прозьвішча якога я ўжо забыўся, і што праз яго можна за нейкую заплату дамовіцца з рэнтгенатэхнікам, каб здымкі выйшлі чыстыя. Так мы й зрабілі.

На жаль, той тэхнік ці на нашую дамову забыўся, ці пераблытаў здымкі, і на маім паказалася плямка на лёгкіх. Але мяне зусім не адкінулі, але адлажылі маю справу на 6 месяцаў. З гэтае прычыны ў нас зьявілася праблема з бацькамі, якіх прынялі, але яны баяліся самыя ехаць. Усё ж мы іх на гэты крок угаварылі, бо каб яны засталіся чакаць на нас, магла б прапасьці магчымасьць выезду ў Амэрыку цэлае сям’і. У жнівені 1950 г. яны падаліся ў дарогу, а мы засталіся чакаць.

Нашае чаканьне, аднак, ня скончылася ў Мюнзінгене, бо недзе ўвосені, відаць, перад ліквідацыяй лягеру, нас перавезьлі ў паўночную частку францускае зоны, у лягер *Kuhberg*, каля места *Bad Kreuznach*. Жонка страціла працу, але атрымоўвала ад немцаў дапамогу для беспрацоўных.

Але ў пачатку 1951 г. нас зноў выклікалі ў Раштат, і гэтым разам, паколькі на маім рэнтгенаўскім здымку не паказаліся ніякія зьмены,

[22] **Сьцяпан Войтанка** (1886—1968), сьвятар, дзеяч Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Удзельнік зьезду 5 чэрвеня 1948 г. у Канстанцы. З 1950 г. жыў у ЗША, арганізатар парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі).

прынялі на ўезд у Амэрыку. Мой „гешэфт“ з рэнтгенатэхнікам, варта заўважыць, ня быў адзіны — напрыклад, былы старшыня раённае ўправы ў Слоніме, Сямён Цітовіч, незаўважна прайшоў камісію з адкрытым тубэркулёзам, ад якога неўзабаве й памёр ужо ў Амэрыцы.

Пасьля добрага выніку ў Раштаце мы хутка папакавалі ў чамаданы й скрыні патрэбныя й непатрэбныя рэчы ды ў пачатку лютага 1951 г. падаліся з групай іншых Ды-Пі ў Брэмэргавэн, дзе на пару дзён затрымаліся ў апошнім лягеры Ды-Пі, каб скончыць засталыя яшчэ фармальнасьці, пасьля якіх узыйшлі на вайсковае транспартнае плыўно *General Blatchford* і адплылі ў найбольш бурны месяц за акіян.

Нашыя памяшчэньні на тым плыўне ўсё ж нагадвалі лягерныя ўмовы, бо спалі мы ці ляжалі, хварэючы на марскую хваробу, ня ў ложках, а ў гамаках, цесна павешаных у вялікіх залях.

Гэтак вось скончылася нашае лягернае Ды-пісцкае жыцьцё.

Усяго Вам найлепшага!

З пашанай,
Барыс Данілюк

*Камэнтары Алеся Пашкевіча й Натальлі Гардзіенкі*



Барыс Данілюк



*Тэма нумару: Беларусы ў Нямеччыне*

**_Надзея Запруднік_**
*Самэрсэт*

# БЛУКАНЬНЕ ПА ЛЯГЕРАХ У ПАВАЕННАЙ НЯМЕЧЧЫНЕ (1945—1950)

З заканчэньнем вайны палавіну гораду Дэсаў (*Dessau*) занялі амэрыканцы, палавіну — саветы. Мы апынуліся ў амэрыканскай зоне, але небясьпека заставалася: нас маглі перадаць бальшавікам. Трэба было ўцякаць, каб ўратаваць жыцьцё. І мой брат Міхаль Рагалевіч, у якога быў знаёмы немец з матацыклам, перавёз усю сям'ю глыбей у амэрыканскую зону, у недалёкую вёску. Знайшлі там нейкае гумно, дасталі саломы й паслаліся на ноч. У вёсцы стаялі амэрыканскія салдаты. Разам з намі была яшчэ адна сям'я. Хлопец з тае сям'і пасадзіў нашу Тамару на ровар павазіць. Нейкім чынам здарыўся нешчасьлівы выпадак: Тамара моцна пашкодзіла сабе пяту. Прыйшоў амэрыканскі санітар зрабіць ёй перавязку. Даў таблеткі. У міжчасе зьявіліся два салдаты, адзін амэрыканец, другі саветчык, і сказалі, што нас павязуць у лягер, куды звозяць усіх, хто з Савецкага Саюзу. Ізноў небясьпека! Трэба было неяк ратавацца. І тут дапамагла Тамарына параненая пята. Брат дастаў ад амэрыканскага санітара даведку, што Тамара павінна ляжаць у ложку. Гэтак мы й засталіся там. А ў лягер павезьлі толькі тую другую сям'ю.

Брат адразу ж паслаў мяне ў Дэсаў у лягер даведацца, дзе нашы людзі. І я пабегла ў выведкі па разьбітым горадзе. Дарога была заваленая машынамі, усюды развал, на вуліцах трупы салдатаў і цывільных. Нарэшце я неяк дайшла да таго лягеру. А там — ні душы. Я пабегла хуценька назад. Сказала брату, што ў Дэсаў нікога няма. Міхаль кажа: *„Па нас прыедуць саветы, уцякайма!“* І мы падаліся ў лес ды там перачавалі ў нейкім шалашы. Нараніцу прыйшлі нямецкія гаспадары й пачалі зрываць страху, каб выжыць нас адтуль.

У вёсцы мы бачылі, як амэрыканцы выкідалі пярыны праз вокны. Адзін амэрыканец сфатаграфаваў нашу сям'ю й прапанаваў нам нейкую пачку. Браць пачку мы баяліся, але я адважылася. Бачу — цукеркі!

Мы доўга іх жавалі, аж пакуль амэрыканец не паказаў нам, як іх трэба жаваць. Аказалася, што гэта былі жуйкі! У вёсачцы той мы прабылі пару дзён і вярнуліся назад у Дэсаў, у амэрыканскую частку гораду. Бачылі, як танкі пераяжджалі праз барыкады, як людзі рабавалі дамы. Пасяліліся мы ў нейкім двухпавярховым будынку — можа, гэта была школа. Недалёка стаяла вялікая цукровая фабрыка. Людзі з нашага будынку набралі там цукровай патакі й пачалі гнаць самагонку. Мне, як у тых Жыткавічах, давялося зноў стаяць вартаўніцаю каля самагоннага апарату.

Горад яшчэ ня быў канчальна падзелены паміж амэрыканскай і савецкай уладамі. Яшчэ чутна была страляніна. Усе вуліцы былі забарыкадаваныя, дамы паруйнаваныя. Аднойчы, калі я стаяла ля вакна, у пакой уляцела граната, прасьвістала сінім агнём, вылецела праз другія дзьверы й выбухнула.

Сярод руінаў дому пабачыла нямецкага салдата. Паўзь яго праехаў амэрыканскі танк, пакінуўшы салдата стаяць. Як толькі танк мінуў яго, салдат той раптам сарваў зь сябе ўніформу і, бачу, стаіць у цывільным. Мне аж страшна стала ад такога відовішча. Немцы змагаліся зацята да самага канца.

Пасьля таго, як баі сьціхлі, мы бачылі амэрыканскіх салдатаў на джыпах, вясёлых такіх, з нагамі, задранымі ўгару, з выкрыкамі аб перамозе. Але небясьпека для нас яшчэ ня скончылася. Празь дзён дватры прыехалі амэрыканцы разам з саветамі, каб адвезьці савецкіх грамадзянаў на савецкі бок гораду па другі бок Эльбы. Ехала нас некалькі грузавікоў. Пад'яжджаем пад вялікі мост і бачым, як з машынаў, што пераехалі ў савецкую зону, шпурляюць багаж у раку. Гэтак таварышы бальшавікі адразу ж пачалі „вызваляць“ сваіх падапечных ад лішняга грузу. Але да нас, на вялікае шчасьце, гэтае „вызваленьне“ не дайшло, бо раптам наш грузавік заварочвае ў іншы бок і едзе ў польскі лягер у амэрыканскім сэктары гораду. Нехта на грузавіку сказаў, што мы ўсе — „палякі“ ды што нас павязуць у Францыю.

### Паваеннае лягернае жыцьцё.
### Швэбіш-Гмюнд (Schwäbisch Gmünd). Лета 1945

Прыехалі мы ў вялікі лягер. Пасьля кароткага побыту там нас пасадзілі на цягнік, у гэтак званы цялятнік, вагонаў так зь дзесяць, і павезьлі на захад, казалі, што ў Францыю. Па дарозе, калі цягнік стаў, пайшлі чуткі пра трускаўкі на недалёкім полі. Бачу, шмат хто выйшаў зьбіраць іх. Пабегла й я босая з збанком. А цягнік тым часам, патрубіўшы, пачаў рухацца. Я ў страху пусьцілася наўздагон. Паабівала аб шпалы ногі. Ледзь дапяла да апошняга вагону. Там мяне падхапілі за руку й уцягнулі ў сярэдзіну. У вагоне было шмат моладзі, усе гаварылі папольску. Мовы гэтай я ня ведала й баялася загаварыць. І гэтак моўчкі праехала даволі доўга. А ў маім вагоне мяне ўжо аплаквалі, бедавалі, што я, бедная, буду рабіць на тым трускаўкавым полі. Пра ўсё гэта я даведалася, калі на наступным прыпынку дабралася да свайго вагону.





У Францыю мы не паехалі, а прывезьлі нас у мястэчка Швэбіш-Гмюнд у вялізарны польскі лягер, разьмешчаны ў вайсковых казармах. У бараку, у вялікім пакоі з падвойнымі ложкамі, наша сям'я заняла куток. У тым жа пакоі разьмясьціліся й іншыя сем'і. Харчаваліся ў сталоўцы.

Неўзабаве па прыбыцьці ў лягер зьявіліся саветчыкі ў суправаджэньні амэрыканцаў. Іхная мэта была знайсьці савецкіх грамадзянаў і рэпатрыяваць іх. А ў загадчыка бараку быў сьпіс жыхароў. І той, сустрэўшы Міхаля на калідоры, параіў яму зьмяніць імёны дзяцей зь беларускіх на польскія. Міхаль адразу ж згадзіўся. Гэтак я сталася Ядзьвігай, Сяргей — Ежым, Жэня — Зэновіяй, Тамары таксама далі нейкае новае імя, братовая Яфімія сталася Эміліяй, толькі Алекс і Галіна засталіся пры сваіх імёнах. Кіраўнік бараку сказаў саветчыкам, што ў ягоным будынку ўсе палякі. Але зьмены імёнаў было замала. Усё роўна мы баяліся, што нас могуць аддаць саветам, і мы яшчэ пару дзён хаваліся ў лесе. Некаторыя беларускія сем'і, у тым ліку Мартусевічы, сядзелі ў лесе каля двух тыдняў.

Хутка пасьля гэтага лягернікі пачалі арганізоўваць школу. Перапісалі ўсіх дзяцей. Хоць я ўвесь час жыла ў сям'і брата, лічылася, што я без бацькоў, і мяне хацелі былі адаслаць у Англію. Я страшэнна перапалохалася, перахвалявалася. Калі даведалася, прыйшоўшы з школы, пра небясьпеку адсылкі ў Англію, пачала плакаць. Міхаль нарэшце сказаў, што падпіша адпаведную паперку за мяне й будзе мной апекавацца. Гэтак я фармальна замацавалася пры ягонай сям'і.

### Ратуем Галіну ад сьмерці.
### Васэральфінген (Wasseralfingen). Лета 1945 — восень 1945

Двухгадовая Галіна моцна расхварэлася ад недаяданьня. Шкрэблася бесьперапынна, плакала. Ляжала, уся абматаная бінтамі — рукі, цела. Брат пайшоў да лекара й кажа: дзіцё памірае. Тады яе завезьлі ў лягерны шпіталь. У міжчасе людзей зь лягеру пачалі развозіць на

прыватныя кватэры. Лекар кажа: выяжджайце й вы на прыватку, бо тут неадпаведныя ўмовы. Дзеяць трэба было хутка. Я пабегла шукаць па лягеры Міхалёвых дзяцей. Галіну выкралі з шпіталю, і ўсе разам паехалі на амэрыканскім ваенным грузавіку ў невялікую вёсачку Васэральфінген. Гэта было паселішча з малых хатак. Можа, там некалі жылі вайскоўцы, можа, габрэі, якія выехалі ў Амэрыку. Там нас і пасялілі ў маленькім дамку. Нас нанізе, а наверсе — Рачынскіх, нашых землякоў. Цэлая вуліца дамкоў была заселеная людзьмі, прывезенымі з Швэбіш-Гмюнду. У дамку побач з намі жыў Мікола Сільвановіч[1], беларус зь Вялейшчыны. Былі іншыя беларускія сем'і. Але найбольш аказалася палякоў. Прабылі мы там да зімы.

Галіну лячылі як маглі. Як толькі наставала раніца, яе вывозілі на двор. Доктар сказаў, дзіцё патрабуе чым больш сьвежага паветра й ежы. Ела яна вельмі шмат. Ёй давалі згушчанае малако, какаву, яйкі. За месяц яна набрала вагі, акрыяла. Хто ведае, ці гэты эпізод паўплываў на ейны характар. Але трэба сказаць, што змалку Галіна адзначалася малітоўнасьцю й шчодрасьцю да іншых. Якасьці гэтыя яна захавала праз усё далейшае жыцьцё аж да сёньня.

Палякі хутка арганізавалі сваю школу, скаўтынг, мелі свайго „Сокала“[2], вялікую групу старэйшае моладзі. Пад восень нам сказалі, што будуць развозіць па іншых лягерах. Хто куды хацеў, туды мог і запісацца. Міхаль з Рачынскім хадзілі зьбіраць подпісы беларусаў, каб ехаць усім разам у адно месца. Рачынскага нехта палічыў за шпіёна й данёс уладам. Яго арыштавалі. Міхаль зь Сільвановічам хадзілі паручыцца за яго, і яго выпусьцілі.

### Этлінген (Ettlingen). Зіма 1945/46.<br>Гэрэнбэрг (Herrenberg). Вясна 1946

Нарэшце група беларусаў, сабраўшы сваю невялікую маёмасьць, села на амэрыканскі грузавік і з узьнятым бел-чырвона-белым сьцягам гучна выехала зь вёсачкі Васэральфінген. Шмат хто з палякаў, якія, можа, і ня ведалі пра наяўнасьць сярод іх беларусаў, зьдзіўлена пазіралі на гэтае відовішча. Нас прывезьлі ў Этлінген, што каля Карлсруэ (*Karlsruhe*). Там стаяла поўна вялікіх казармаў. Але нас не захацелі прыняць, бо лягер быў украінскі. Доўга тарокаліся з вартаю. Нас прыехала адна машына, чалавек 25. Брат з Рачынскім хадзілі да кіраўніцтва лягеру й дамагаліся пасяленьня там, казалі, што мы прыехалі на пастанову амэрыканцаў. Міхаль пайшоў шукаць беларусаў у лягеры. Напаткаў Васіля Рагулю[3]. Запрасіў яго да сябе, сказаўшы жонцы, што сустрэў аднаго адукаванага беларуса. Васіль Рагуля, былы сэнатар польскага Сойму, жыў там, бо не захацеў ехаць да нявесткі ў лягер Шляйсгайм (*Schleißheim*) пад Мюнхэнам. Нас нарэшце прынялі. Як выявілася, у лягеры жылі ня толькі ўкраінцы, але й палякі. Была там і праваслаўная царква. Я пайшла туды аднойчы з малой Галінай, якая ўпорыста прастаяла на каленях на цэмэнтовай падлозе ўсю службу й шчыра малілася.

У лягеры хапала ўсякага люду, у тым ліку й аматараў крадзяжу. Аднойчы група лягернікаў украла ў баўэра карову. Каб не было сьлядоў, надзелі ёй на ногі чаравікі й завялі па сходах на другі паверх ды там распатрашылі. Злачынцаў шукала амэрыканская вайсковая паліцыя, бегалі па ўсіх бараках, але гэтак і не знайшлі вінаватых. Братовая казала, што арганізатары крадзяжу раздавалі пасьля мяса людзям.

У Этлінгене мы прабылі пару месяцаў. Шэсьць-сем беларускіх сем'яў, якія жылі там, дамагаліся пераезду ў беларускі лягер. Скончылася тым, што раньняй вясной 1946-га нас перавезьлі ў Гэрэнбэрг. Там уцекачы жылі ў прыватных дамох, пераважна расейцы й беларусы. Наша сям'я й іншыя беларускія сем'і пасяліліся ў нейкім будынку. Брата назначылі выдаваць адзеньне ў складзе. А Хіма займалася доглядам сваіх дзяцей. У адным з дамоў была ўладжаная царква. Міхаль зацікавіўся царкоўным жыцьцём. Адпраўляць багаслужбы прыяжджаў япіскап Філафей. Служыў ён вельмі прыгожа, казаў красамоўныя пропаведзі. У аднэй зь іх расказваў, як пад камуністамі людзі перахоўвалі іконы. Гаварыў так прачула, што людзі плакалі. Сяргей з Алексам прыслужвалі ў царкве. Былі яшчэ малыя, шмат чаго не разумелі. З кадзілам

[1] **Мікола Сільвановіч** (псэўданім **Вярба**, 1917—1975), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік і філятэліст. Адзін з стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб'яднаньня „Шыпшына“, арганізатар майстроўні беларускага мастацкага рамяства „Раніца“. Выдаваў беларускія паштоўкі. З 1949 г. жыў у Канадзе.

[2] **„Сокал“** — назва спартовых таварыстваў, якія з XIX ст. узьнікалі ў розных славянскіх краінах. Мэтай такога таварыства была фізічная й духовая падрыхтоўка, а таксама абуджэньне нацыянальнага духу. Польскае гімнастычнае таварыства „Сокал“ вяло сваю гісторыю з 1867 г.

[3] **Васіль Рагуля** (1879—1955), грамадзкі й палітычны дзеяч. У 1922—1927 гг. — пасол польскага Сойму, у 1928—1930 гг. — сэнатар. Падчас Другой сусьветнай вайны — бурмістар Дзятлава, удзельнік II Усебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, Бэльгіі, ЗША.

сустрэліся ўпершыню. Калі трэба было яго падаць, адзін казаў другому: *„Падай кракадзіла“*.

Школы там не было, але быў скаўтынг. Прыяжджаў наведаць нас кіраўнік беларускіх скаўтаў Алесь Бута, увесь абвешаны шнурамі. Ён арганізаваў беларускую дружыну, да якой і я належала.

На Вялікдзень 1946 г. прыяжджаў наш здольны да музыкі суродзіч Рымко Юльлян, і зь невялікай дапамогай іншых адслужылі ўсяночную. Царква была поўная людзей, у бальшыні расейцаў. Рэлігійнае жыцьцё сталася важнай часткай нашага побыту. Галіна, калі хто прыходзіў у хату, адразу ж сядала каля ног наведніка, каб пачысьціць яму чаравікі. Гэтак яна зьбірала фэнігі на куплю сьвечкі ў нядзелю. Усе дзеці рэгулярна наведвалі царкву. Міхаль строга даглядаў гэтага.

У Гэрэнбэргу мы жылі да восені 1946-га.

### Майнлёйз (Mainleus). Восень 1946 — лета 1947

З Гэрэнбэргу перакінулі нас, пяць беларускіх сем'яў, у тым ліку Васіль Рагуля й Іван Любачка[4], у Майнлёйз, у барачны лягер. Там жылі розныя нацыянальнасьці, але было больш беларусаў. Кіпела грамадзкае жыцьцё. Беларускімі скаўтамі кіраваў Пётра Саўчыц. У гэты час прыехаў таксама Палікарп Манькоў[5] зь Міхэльсдорфу. Хутка арганізавалі беларускую школу, у якой настаўнічалі Любачка, Рагуля, Манькоў, а таксама Ніна Рачынская. Была там ужо арганізаваная царква. Служыў а. Георгі Паўлюсік, які жыў зь сям'ёй (дзьве сястры, брат, пляменьнік). Зь імі былі харысты пінскага сабору. Сьвятар выкладаў рэлігію, а сьпевам вучыў нейкі расеец, Мікалай Мікалаевіч (прозьвішча ня памятаю). Я сьпявала ў царкоўным хоры на падбадзёрваньне рэгента. Ён казаў: *„Слухай і паціху сьпявай. Ты будзеш сьпяваць!“* Пасьля я сьпявала ў трыё („Да исправится молитва моя“). Хадзіла таксама ў школу, належала да скаўтынгу. Школу наведвалі таксама Жэня, Сяргей і Тамара. Беларускую мову выкладаў Манькоў, гісторыю — Любачка.

[4] **Іван Любачка** (1915—1977), пэдагог і гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША. У 1972 г. выдаў кнігу *Bielorussia under Soviet Rule, 1917—1957* („Беларусь пад бальшавіцкім кіраваньнем, 1917—1957“).

[5] **Палікарп Манькоў** (1910—1998), грамадзкі дзеяч. У 1942—1943 працаваў у слонімскім гебітскамісарыяце, з чэрвеня 1943 г. узначаліў СБМ на Слуцкую акругу. З 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў выкладчыкам Беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе (1946—1949), удзельнічаў у пленумах (зьездах) БЦР, заангажоўваўся ў выдавецкія справы.





Былі сякія-такія ратататарныя дапаможнікі. У маёй 3-й клясе вучылася сямёра вучняў. Манькоў быў нашым клясным настаўнікам. Пасьля экзамэнаў мне выдалі пасьведчаньне.

Мікола Сільвановіч адкрыў майстэрню інкруставаных саломкай касэтак, шкатулак, альбомаў ды іншага. Я хадзіла да яго вучыцца гэтаму майстроўству. Старалася. Падрыхтавала першую сваю налепку ўзораў, а майстар прыйшоў, сьцёр усё й сказаў: *„Цяпер пачынай усё спачатку“*.

Прыяжджалі ў наш лягер скаўцкія кіраўнікі даваць інструкцыі: Вітаўт Кіпель[6], Янка Жучка[7]. Кіпель за адзін вечар навучыў нас чатыры песьні („Мароз“, „Каліна“, „Мы Беларусі вольнай арляняты“ й „Як шырока і далёка беларуская зямля“). Наведала нас таксама тэатральная трупа „Жыве Беларусь!“ на ўрачыстасьць высьвячэньня скаўцкага сьцягу.

Лягернае жыцьцё было поўнае падзеяў, здарэньняў ды прыгодаў. Хадзілі мы красьці яблыкі ў баўэра. А той пусьціў аднойчы на нас сабаку. Уцякалі мы, аж пяты блішчэлі. У лягеры шмат хто гадаваў парасят. Аднаго дня чую крык і лямант: *„Укралі парася! Укралі парася!“* Прыехала амэрыканская паліцыя з сабакамі. Шукалі, шнырылі, пераглядзелі ўсё, але злодзея не знайшлі.

Аднойчы беларускія скаўты маршыравалі зь сьцягам, ідучы ў лес на гульні. Раптам крык. Аказалася, што скаўт Шура Яневіч зваліўся з абрыву. Выцягнулі яго адтуль з паламанай рукой.

Група нас езьдзіла ва ўкраінскі лягер у Байройт (*Bayreuth*) на вялікі міжэтнічны фэстываль. Нашай кіраўнічкай была Ніна Рачынская. Там былі гульні, спаборніцтвы. Сяргей Рагалевіч заняў першае месца ў бегу зь мяшком на нагах.

### Гібэльштат (Giebelstadt). Восень 1947 — вясна 1949 гг.

З Майнлёйзу некаторыя беларусы паехалі ў Шляйсгайм каля Мюнхэну (Старасельскія й інш.), а другія за акіян у Аргентыну (Саўчыцы). А

[6] Вітаўт Кіпель (нар. 1927) у той час актыўна займаўся арганізацыяй беларускага скаўтынгу.

[7] **Янка Жучка** (1928—2010), інжынэр-будаўнік, журналіст, дзеяч беларускай дыяспары ў Бэльгіі. У гады Другой сусьветнай вайны — сябра СБМ і БНС. З 1944 г. — на эміграцыі, вучыўся ў Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургзе (затым у Міхэльсдорфе), а пасьля скончыў Лювэнскі ўнівэрстытэт. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім жыцьці, быў радным БНР.

нашым наступным лягерам стаў Гібэльштат. Туды падаліся ўсе настаўнікі, Дульскія, Рачынскія. У Гібэльштаце быў аэрадром, а каля яго — вялікія цагляныя дамы, відаць, былыя казармы. Туды зьвезьлі беларусаў, расейцаў і, напэўна, іншых — чалавек больш за сотню. Наша сям'я разьмясьцілася ў адным пакоі вялікага будынку. Кухня была асобна для агульнага карыстаньня, у выніку чаго паўставала часамі цэлая катавасія. Міхаль працаваў качагарам, даглядаў пяць двухпавярховых будынкаў. Часта ўначы трэба было дапільноўваць, каб была адпаведная тэмпэратура.

Дзеці вучыліся добра, бацька строга дапільноўваў гэтага. Сяргей, у якога вочы аслабелі пасьля шкарлятыны, мусіў насіць акуляры. А ён катэгарычна адмаўляўся, бо дзеці сьмяяліся зь яго. У школе занняткі вяліся па-беларуску.

У лягеры зрабілі царкву. Служыў той жа а. Паўлюсік. Я сьпявала ў хоры. Калі ў лягер прыехалі а. Емяльльян Кайка, бацька Лізы Літаровіч, ды Кузьміцкі, вельмі добры сталяр, рашылі адкрыць беларускую царкву. Да гэтага праекту падключыўся й Міхаль. Надыходзіў Вялікдзень. Перада мной паўстала балючае пытаньне: у якую царкву ісьці? Я ж сьпявала ў хоры ў расейскай царкве. Моцна змагалася з сабой, раілася з братам. А той кажа: *„Ідзі куды хочаш“*. А я ж цэлы вялікі пост шчыра пасьціла, нават малака ў рот ня брала. Хадзіла на сьпеўкі, уцягнулася ў іх. Дык зь цяжкім сэрцам пайшла на ўсяночную ў расейскую царкву. Пагатоў што ў беларускай справы заставаліся яшчэ няўладжанымі. Айца Кайку накіраваў у Гібэльштат а. Мікалай Лапіцкі. Брат запрасіў а. Кайку на абед. Той еў і піў усё. Папытаўся, чаму Надзя ня есьць. А брат кажа: *„Надзя посьціць“*. Думаю, што ў той мамэнт а. Емяльльян чуўся не зусім добра.

## На курсе машыністак. Сватаньні. Лета 1949

Тварыскае жыцьцё ў Гібэльштаце было абмежаванае. Будынкі сталі далёка адзін ад аднаго раскіданыя ў лесе, месца, каб дзе сустрэцца моладзі, не было. На Вялікдзень увесь дзень я прасядзела ў хаце. Без сукенкі й туфляў, паглядала праз вакно, як сяброўка Маруся Дульская, прыгожа апранутая, хадзіла па вуліцы. Гэта быў адзін з самых цяжкіх момантаў у маім лягерным вандраваньні. І думалася: калі яно ўжо скончыцца, калі настане нармальнае жыцьцё?

Тым часам кожны дзень вывешвалі абвесткі пра краіны, што бралі імігрантаў. На аднэй абвестцы пісалася пра курсы машыністак у Швайнфурце (*Schweinfurt*). Я папыталася Міхалёвай думкі: *„Ехаць?“* — А ён абыякава: *„Рабі што хочаш“*. І мне гэта моцна забалела ды можа падштурхнула да пастановы: ехаць! І вось нас траіх, Дульскія Марыя й Валя ды я, падаліся на тыя курсы.

У Швайнфурце быў пераходны лягер для тых, хто выяжджаў за мора. Курсы трывалі тры месяцы. Праводзіліся яны ў вялікім будынку (відаць, былыя казармы). Нас траіх і тры ўкраінкі жылі ў адным пакоі. Усіх курсантак было больш за трыццаць. Займаліся групамі да абеду й пасьля. Нас вучыла нейкая літоўка. Нам далі машынкі, і мы практыкаваліся ў пісаньні. Вывучалі таксама ангельскую мову. Падручнікаў не было, карысталіся нейкай ад рукі напісанай кніжыцай. На завяршэньне прайшлі тэст, пасьля якога я атрымала пахвалу за акуратнасьць. Пісала я няхутка, але дакладна. Былі там таксама рамесьніцкія курсы для хлапцоў. Маруся займела сабе нейкага кавалера. У яе гэта хутка выходзіла.

На курсах было крыху тварыскага жыцьця, танцаў. Аднойчы мы пайшлі на танцы. А ў мяне былі старыя паношаныя туфлі, дык я чулася страшэнна зьбянтэжанай. Станцавала раз ды пайшла дамоў. А Маруся з Валяй гулялі далей. Ад украінак мы навучыліся крыху іхных песень дый іх таксама навучылі. Да іх заляцаліся хлопцы-ўкраінцы. Раз за нашым вакном на другім паверсе, дзе мы жылі, мы пабачылі на палцы плякат Сталіна. Гэта тыя заляцалы надумаліся спалохаць нас. Дык я іх правучыла — змазала ручкі дзьвярэй іхнага пакою пастаю да чаравікаў. А яны бяду зьвярнулі на ўкраінак.

Са Швайнфурту я напісала свайму сябру Жоржу ліст на машынцы, зразумела, лацінскімі літарамі. А ён мне ў адказ: *„Я нічога не магу разабраць, што ты мне пішаш“*. Курсы машыністак завяршыліся пасьведчаньнямі, але бяз працы. Думка працаваць машыністкай мне падабалася, было адчуваньне прафэсіі.

У Швайнфурце старэйшая пара расейцаў праходзіла камісію на выезд і запрапанавала мне ўдачарэньне. Людзі гэтыя былі бязьдзетныя й хацелі выехаць разам зь некім малодшым. Угаворвалі мяне, пераконвалі. Пачуцьцё ад такой прапановы ў мяне было непрыемнае, бо завастрала адчуваньне беспрытульнасьці. Мяне хацелі ўдачарыць два разы перад гэтым. Першая была немка, а другі раз — у польскім лягеры. Гэтак, як Вадэйкі хацелі ўсынавіць Геню Кудасава[8].

[8] Маецца на ўвазе будучы першы муж Надзеі Запруднік Аўген Кудасаў (1922—1983).

Пакуль я праходзіла курс машыністак, Міхаля зь сям'ёй перавезьлі з Гібэльштату ў Бакнанг (*Backnang*). Туды я з Швайнфурту й паехала. Бакнанг бурліў жыцьцём: скаўтынг, вечарынкі, царква, хор. Багаслужбы адпраўляў а. Мікалай Лапіцкі, а царкоўным хорам кіраваў Вячаслаў Качанскі[9]. Там я пазнаёмілася зь Лізай Кайкай, у якое адразу заўважыла бант у кучы валасоў, ды Людай Каліноўскай. У Амэрыцы ўжо яны сталіся маімі найбліжэйшымі сяброўкамі. Жылі мы праз калідор. Наша Жэня казала пра іх: *„Як бочачкі"*.

### На кравецкім курсе ў Людвігсбурзе (Ludwigsburg). Лета—восень 1949

У Бакнангу я ў школу не хадзіла, бо была занятая доглядам братавых дзяцей. Доўга там, аднак, не затрымалася, паехала на кравецкія курсы ў Людвігсбург, недалёка ад Бакнангу. Паехала сама. Курс трываў тры месяцы. Курсанткі былі розных нацыянальнасьцяў. У маім пакоі жылі чатыры полькі й адна расейка. Сяброўства вялікага ў нас не завязалася. Расейка Галіна мела бацькоў, а полькі былі гуляшчыя. Там стаяла вартаўнічая кампанія, і гуляць было з кім. Заняткі на кравецкіх курсах адбываліся кожнага дня папаўдні. Было некалькі групаў. Вучыліся на газэтах рабіць выкрайкі. Але матэрыялу, зь якога можна было б пашыць нешта, да мяне не дайшло. Зрабіла выкрайку блюзкі. Навучылася здымаць мерку. Настаўніцамі там працавалі славянкі. За курсы ім плаціла *UNRRA*, а пазьней — *IRO*. Было ў мяне там некалькі прыгодаў.

Перад ад'ездам брат купіў мне туфлі, якія я моцна цаніла й шкадавала адзяваць. Адна полька, не пытаючыся ў мяне, узяла мае туфлі й пайшла на танцы. Пашарпала мне іх ушчэнт. Мне так было шкада іх.

[9] Маецца на ўвазе **Вячаслаў Сэлях** (на эміграцыі **Качанскі**, часам пісаўся **Сэлях-Качанскі**, 1885—1976), опэрны сьпявак, тэатральны й грамадзкі дзеяч. Скончыў Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю. Вучыўся ў Пецярбурскай кансэрваторыі, сьпяваў у Марыінскім тэатры. У 1925 г. пераехаў у Менск, дзе працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме й кіраваў музычнай сэкцыяй пры Інстытуце беларускай культуры. Паставіў першую оперу па-беларуску — „Русалка". З 1927 г. быў дырэктарам БДТ-1 (сёньня Купалаўскі тэатр). У 1933 г. рэпрэсаваны. Па вызваленьні жыў у Ленінградзкай вобласьці. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў кіраўніком аддзелу культуры й мастацтва пры БНС, потым узначальваў аддзел культуры ва ўрадзе БЦР. З 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стварыў тэатральна-мастацкую групу „Жыве Беларусь", зь якой гастраляваў па беларускіх асяродках. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры.





Аднойчы прыйшоў п'яны паляк да свае паненкі. Пачаў буяніць, дамагаючыся, каб яго ўпусьцілі ў пакой. Дзяўчаты выправілі мяне ўгаворваць яго. Мне неяк удалося яго суняць, за што атрымала ўдзячнасьць ад сябровак.

Там я сустрэла Мішу Бахара[10]. Мы ішлі зь Міхасём Кузьміцкім па вуліцы й гутарылі па-беларуску. А Бахар праходзіў міма й пачуў нашу гаворку. На яго, згаладалага па сваіх людзях, гэта так падзеяла, што ён пачаў плакаць. Гэтак ён даведаўся, што ў Бакнангу ёсьць беларусы. Бахар быў толькі што прыехаўшы ў Людвігсбург з польскага лягеру.

### Ізноў у Бакнангу. Зіма 1949/50 — лета 1950

Пасьля трох месяцаў я вярнулася ў Бакнанг. Тады ўва Ульме (*Ulm*), у вялікім Ды-Піўскім лягеры, адкрыўся курс ангельскай мовы. Мы зь Федзем Дубініным паехалі на той курс. Там спаткалі Асю, жонку Барыса Шчорса[11], і нашу паэтку Натальлю Арсеньневу. На курсе трэба было карыстацца толькі ангельскай мовай. Нам далі экзамэн, пісьмовы й вусны. Мы яго здалі, але, як выявілася, уся праграма навучаньня канчалася ўжо. Апрача гэтага, у мяне не было грошай, каб купіць падручнік ангельскай мовы. Пасьля часта чула ад іншых самазадаволеных асобаў: *„Скончыла школу, маю дыплём"*. Але тыя, што хваліліся асьветай, жылі з бацькамі, мелі дапамогу. Мне ж памагчы не было каму. Я ня мела нават маральнай падтрымкі.

Запамятаўся выпадак, як некаторыя супэрпатрыёты ў Бакнангу білі нейкага п'янага, які сьпяваў савецкія песьні. Лупілі яго неміласэрна, а

[10] **Міхась Бахар** (1929—2007), грамадзкі дзеяч. Улетку 1944 г. разам з бацькамі выехаў на эміграцыю. Па капітуляцыі апынуліся ў француcкай акупацыйнай зоне Нямеччыны. Вучыўся ў расейскай гімназіі ў Штутгарце. З 1951 г. жыў у ЗША. У1961 г. пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці, быў сябрам рэдкалегіі часопісу „Беларуская моладзь", належаў да БККА (у 1980-я — віцэ-прэзыдэнт), парафіі сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

[11] **Барыс Шчорс** (1916—1975), грамадзкі дзеяч, брат Міколы Шчорса. У паваеннай Нямеччыне быў камэндантам лягеру ў Міхэльсдорфе. У 1949 г. перабраўся ў ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Узначальваў тут Беларускі выдавецкі фонд, уваходзіў у рэдкалегію часопісу „Беларуская думка". Быў ініцыятарам пабудовы Беларускага грамадзкага цэнтру пры царкве сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

той крычаў нямым голасам. Прыяжджала паліцыя разьбірацца. Айцец Лапіцкі залагоджваў скандал.

Настаў час разьезду з Бакнангу. Бальшыня нашых знаёмых ад'яжджала ў Амэрыку. Выехалі Лапіцкія, Качанскія й іншыя. Сьпевакоў у царкоўным хоры стала менш. Мы рыхтаваліся да Вялікадня. Кіраўніцтва хорам пераняў кампазытар Дзьмітры Верасаў[12]. Кіраваў ён царкоўным хорам упершыню. Кантраст паміж ім і Качанскім быў вялікі, але Верасаў хутка апанаваў рэгенцтва, і мы шмат чаго навучыліся зь ім.

У Бакнангу мы прабылі да раньняга лета 1950 году. Адтуль пераехалі ў Эльванген (*Ellwangen*), дзе перад тым быў украінскі лягер і куды зьвезьлі Ды-Піўскі інтэрнацыянал. Разьмясьцілі нас у казармах, вялікіх цагляных дамох, расстаўленых далёка адзін ад аднаго. Уся наша сям'я жыла ў адным вялікім пакоі. Айцец Ян Жарскі адкрыў у лягеры малую каплічку, у якой адбываліся багаслужбы. Брат зрабіў печку, у якой пяклі прасфоркі. Карповічыха мела службоўнік, якім карысталіся харысты (4—5 чалавек). Кіраўніка хору не было. Там была, праўда, украінская праваслаўная царква, але мы хацелі мець сваю. Прыхаджанаў у нас было вельмі мала, усяго некалькі сем'яў.

Кожны дзень людзей нечакана выклікалі на камісію. Мы з Валяй Дульскай памагалі тым, хто выяжджаў, цягаць валізкі, а самі думалі, калі ж гэта прыйдзе наша чарга. Цяганіна па лягерах гэтак ужо надакучыла, хацелася нармальнага жыцьця.

Аднойчы сяджу ў двары, чытаю кніжку. Аж тут праяжджае міма амэрыканская ваенная машына, зь якое салдаты шпурляюць мне нейкі пакет і жэстамі паказваюць: *„Вазьмі, вазьмі!“* Узяла, распакавала. А там — дзьве сукенкі, панчохі, зубная шчотачка, паста. Сукенкі не былі новыя, але ў добрым стане, і мне вельмі спадабаліся. Я была такая шчасьлівая!

### Выезд у Амэрыку. Жнівень—верасень 1950

Хутка брата выклікалі на камісію, недзе ў чэрвені й мы паехалі ў Людвігсбург. Хадзіў ён на тую камісію раней, але затрымалі дзеля Сяргея, у якога знайшлі старую пляму на лёгкіх. Сказалі чакаць, каб упэўніцца, ці не адкрыўся тубэркулёз. Мяне таксама выклікалі на камісію раней, але я папрасіла консуля, каб адклалі, бо хацела ехаць разам з братавай сям'ёй. Неўзабаве, прайшоўшы камісію, мы былі гатовыя да ад'езду. З сабой брат узяў куфар з вопраткай, а я — малую валізку й

[12] **Дзьмітры Верасаў** (1909—1985), кампазытар. З 1944 г. жыў на эміграцыі. У ЗША кіраваў хорам царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.





малы куфэрак. З асабістых рэчаў у мяне былі падушка, коўдра, іконка, пара бялізны, блюзка, спадніца. Захаваўся здымак, як мы стаім ля ўваходу ў пасажырскі цягнік перад ад'ездам зь Людвігсбургу 26 жніўня 1950 г. Паводле гэтага здымку Ірэна зрабіла пасьля вялікі прыгожы малюнак, які зьмешчаны ў нашым альбоме „Беларускія мастакі замежжа“ (2001 г.). У Брэмэргафэн (*Bremerhaven*) прыехалі пад абед таго самага дня й безадкладна загрузіліся на амэрыканскі ваенны карабель „Генэрал Блэчфард“. Адплылі адразу ж. На караблі была маса людзей. Спалі пад палубай на падвойных ложках, мужчыны асобна, а жанчыны зь дзецьмі асобна. У першы дзень дарогі, пасьля сну, я ўстала й бачу, што ў пакоі нікога няма. Выйшла на палубу, а там усе ванітуюць — ляжаць, стогнуць, ледзь дыхаюць. Адна жанчына ляжала, узяўшыся за жывот, а тады кажа: *„Нехта есьць селядзец. Дайце мне хоць галаву абсмактаць“.* Найбольш пакутавала, як мне здавалася, братава жонка, якой дарога моцна далася ў знакі. Ад марское хваробы давалі таблеткі, фрукты (аранжы й інш.), але гэта памагала ня ўсім. Некаторыя не маглі нічога ў рот браць. Я ела менш-больш нармальна. Выратоўваў селядзец, які мы прашмуглявалі, бо ежу на карабель браць было забаронена.

У дарозе мы прабылі дзесяць дзён. Шлях аказаўся гладкі, бяз бураў. На моры, калі глядзіш навокал і ня бачыш нічога іншага, апрача вады, чуесься маленькім бездапаможным чалавечкам. На караблі былі нейкія мастацкія паказы, пасажыраў нечым забаўлялі, але я нічога з гэтага ня бачыла. Брат працаваў на кухні, а нам з Жэняй, старэйшай Міхалёвай дачкой, хапала клопатаў з доглядам дзяцей. Трэба было пільнаваць, каб паелі ды не адыходзіліся задалёка.

Прыплылі ў Нью-Ёрк 5 верасьня 1950 г. Апошнюю ноч на вадзе начавалі каля статуі Свабоды. Першае ўражаньне ад Нью-Ёрку ашаламляльнае. Калі выселі з карабля, нас чакаў квадратны пасажырскі аўтамабіль (*station wagon*). Шофэр, чорны, палічыў нас усіх і схапіўся за галаву ад колькасьці дзяцей. Ён завёз нас на чыгуначную станцыю, там мы селі на цягнік і паехалі на працу да фармэра ў Экран (*Akron*) у штаце Пэнсыльванія.

Першая сувязь з сваякамі ў Беларусі пачалася недзе ў першай палавіне 1950-х гадоў праз Польшчу. Там жыў зь сям'ёй дзядзька майго першага мужа, Гені Кудасава, Аляксандар Сасноўскі. Празь яго мы паведамілі ў Пасталы[13], што Міхаль зь сям'ёй жыве ў Амэрыцы.

*Аповед запісаў Янка Запруднік (лета 2007 г.)*

[13] **Пасталы** — пасёлак у Дзякавіцкім с/с Гомельскай вобласьці.

***Вітаўт Кіпель***
*Гаўарт*

# МОЛАДЗЬ У ЛЯГЕРАХ ДЫ-ПІ
*(успамін)*

Вялікім посьпехам у лягерах Ды-Пі, улучна зь беларускімі, карысталіся адукацыйныя курсы. Профіль іх быў розны: аўтамабільныя, першай дапамогі (санітарна-тэхнічныя), аграномічныя й да т. п. У Міхэльсдорфе (*Michelsdorf*), прыкладам, на аўтамабільных курсах было ад 50 да 70 слухачоў-вучняў. Выкладаньне вялося пераважна на трасянцы, бо настаўнікі ведалі толькі расейскую тэрміналёгію, але вялі курс па-беларуску. Дык мова курсу была беларуска-расейская. У Міхэльсдорфе выкладчыкамі былі Іван Нядзьвіга (Дзядзя Ваня) і Іван Палобка. Навучаньне вялося на амэрыканскіх машынах, пераважна *GM* і *Ford*. Бэнзін і машыны пастаўляла *UNRRA*. У лягеры Ватэнштэт (*Watenstedt*) выдалі беларускамоўны „аўтадапаможнік“ (1947). Курсы былі бясплатныя, але настаўнікі атрымоўвалі ад адміністрацыі лягеру нейкую плату цыгарэтамі. Прыпамінаецца гэткае: *„Што такое карданны вал?“*. Адказ: *„Гэта жалязяка, сагнутая ў тры пагібелі“*.

У Рэгенсбурзе (*Regensburg*) працавалі шавецкія й кравецкія курсы. Апошнія — асабліва актыўныя. Былі адна-дзьве швеймашыны. Пераважна перараблялі цывільную вопратку для тых, хто выходзіў з палону. Немцы прыносілі ў лягер *Siedlung* пінжакі, порткі — мянялі на прадукты. Дарэчы, калі арганізоўваўся беларускі пасёлак на *Siedlung*, то там таксама гналі самагонку. Але найболей самагонкі хіба было ў „літоўскіх“ дамах.

Калі арганізоўваўся беларускі лягер, то прыехала шмат беларусаў „з-за Дунаю“: частка Рэгенсбургу цераз мост па „той“ бераг Дунаю. Тыя беларусы жылі „за Дунаем“ яшчэ з часоў „нацыстаў“, г. зн. да траўня 1945 г. Дарэчы, „за Дунаем“ было шмат складоў, адтуль бралася ўся мэбля для гімназіі, асабліва калі беларусаў перавезьлі ў Міхэльсдорф.

На пачатку лета 1946 г. дыпісты ладзілі спаборніцтвы ў лоўлі рыбы ў Дунаі. Пераплываць Дунай пабойваліся: шырокі, глыбокі й бурлівы





(зусім як Чапай: *„Урал, река бурлива и широка“*). Цікавы такі факт: каля Рэгенсбургу ў 1945 г., лета—восень, было шмат палонных: власаўцы, мадзяры, украінцы, беларусы. Было шмат уцёкаў, і нямецкая паліцыя рабіла аблавы, разам з *MP* (*Military Police*). Адзін раз я трапіў у такую аблаву. Пасьля пару гадзінаў затрымання пачалі адпускаць паводле прынцыпу нацыянальнасьцяў: крычаў паліцай *„Weissruthenien“*, беларусы выходзілі, бо нацыянальныя групы мелі свае камітэты, дзе выдаваліся дакументы. Тыя, хто меў дакумэнты, выходзілі на волю, без дакумэнтаў — затрымоўвалі.

Ці карысталіся дыпісты нямецкай эканомікай-жыцьцём? Мала. Час-часам хадзілі ў магазыны купіць прадукты (рэдка) і яшчэ радзей наведвалі бібліятэкі. Але наведвалі. Найчасьцейшыя кантакты былі з шпіталямі й часта карысталіся цягнікамі — бязь іх не абыходзіліся. Зьніжак Ды-Пі ня мелі ніякіх.

Чым асабліва беларусы зьвярнулі на сябе ўвагу, гэта Купальлем і скаўтынгам.

У канцы чэрвеня ў Рэгенсбурзе зладзілі Купальле. Удзельнічалі каля 120—150 асобаў, а гледачоў было па-над 1000. Арганізавалі паказ Мікола Шчаглоў[1], Мікола Равенскі[2], Лідзія Янушкевіч[3], Барбара

[1] **Мікола Шчаглоў-Куліковіч** (1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. З 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансэрваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадзкім тэатры. Аўтар опэраў „Кацярына“ (1939 ці 1941), „Лясное возера“ (паставілі ў 1942 г.), „Усяслаў Чарадзей“ (паставілі ў 1943 г.), апэрэты „Ў вырай“. З студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзелу пры БЦР. З 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатар эстрады, які гастраляваў па лягерах Ды-Пі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазьней перабраўся ў Кліўлэнд, а з 1959 г. жыў у Чыкага й кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы.

[2] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазытар. У 1903—1914 гг. — кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Менску. Скончыў рэгенцкія курсы ў Маскве (1915), Маскоўскую кансэрваторыю (1930). У 1930-х выкладаў у Менскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансэрваторыі. У 1938 г. яго выключылі з Саюзу кампазытараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў рознарабочым на тартаку ля Мюнхэну. У 1950 г. пераехаў у Лювэн (Бэльгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювэнскім унівэрсытэце. Аўтар музыкі гімну-малітвы „Магутны Божа“ (словы Натальлі Арсеньневай).⇨




Беларускае скаўцкае пасьведчаньне — „Кніжачка ваўчка“

Вержбаловіч[4], Аўген Кавалеўскі[5]. Газэты пісалі, што такое ў Рэгенсбурзе было ўпершыню.

[3] **Лідзія Янушкевіч-Нядзьвіга** (?—1969), сьпявачка й акторка. Уваходзіла ў трупу Менскага Першага беларускага тэатру (БДТ-1). У 1944 г. у Бэрліне ўдзельнічала ў заснаваньні беларускай канцэртна-эстраднай групы „Жыве Беларусь“. Пазьней выехала ў ЗША, дзе працягвала сьпеўную дзейнасьць.

[4] **Барбара Вержбаловіч (Вербіч)** (1901—1967), опэрная сьпявачка. Мела добрую музычную адукацыю. На эміграцыі жыла ў Нямеччыне й ЗША. Была актыўнай удзельніцай нацыянальнага жыцьця на эміграцыі, апякункай Галіны Ганчарэнкі. Загінула ў няшчасным выпадку ў Мюнхэне.

[5] **Аўген Кавалеўскі** (1921—1963), літаратар, актор. Вучыўся ў школе пры беларускім Дзяржаўным драматычным тэатры. У 1944 г. выехаў у ⇨





Беларускія скаўты на чужыне ўзялі за аснову свае дзейнасьці праграму й статут міжнароднага скаўтынгу. Дэвіз гэтае моладзевае арганізацыі „Напагатове“ выгравіравалі на беларускай скаўцкай лілейцы — адзнацы міжнароднае скаўцкае арганізацыі й скаўцкага руху. Беларускія скаўцкія аддзелы на чужыне пачалі арганізоўвацца ў Заходняй Нямеччыне хутка па заканчэньні вайны. У Рэгенсбурзе Беларускі скаўцкі зьвяз імя К. Каліноўскага быў створаны ў кастрычніку 1945 г. Арганізатарамі былі Палікарп Манькоў, Сьцяпан Кірылік, Вітаўт Кіпель і Аляксандр Бута. Прыблізна ў тым самым часе скаўцкія аддзелы паўсталі і ў ангельскай (арганізатары Вацлаў Пануцэвіч, Хведар Ільляшэвіч, Віктар Літаровіч[6], Міхась Сенька[7], Валянціна

⇨Нямеччыну. Жыў у лягерах Ды-Пі ў Рэгенсбурзе, Міхэльсдорфе, Остэргофэне (*Osterhofen*). Арганізаваў з прафэсійных актораў на эміграцыі ансамбль песьні й танца „Жыве Беларусь!“, пазьней ператвораны ў Тэатар эстрады, які езьдзіў з гастролямі па розных лягерах. У 1947 г. у Міхэльсдорфе выдаў адмысловы „Кароткі курс навучаньня актора“. Пісаў таксама апавяданьні, фэльетоны й п’есы, якія публікаваліся на старонках эміграцыйных пэрыёдыкаў, а таксама выходзілі асобнымі выданьнямі. У 1949 г. перабраўся ў Францыю, дзе быў вымушаны працаваць у парыскай кравецкай майстэрні. Быў сябрам Аб’яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі (АБРФ), а таксама сакратаром і кіраўніком аддзелу культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі.

[6] **Віктар Літаровіч** (1923—1967), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у адміністрацыі на Барысаўшчыне. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны быў у брытанскай акупацыйнай зоне, настаўнічаў у беларускай пачатковай школе ў Гановэры. У канцы 1940-х разам з бацькамі й братамі пераехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры (*South River*). Адзін з арганізатараў Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту ў Амэрыцы, заснавальнікаў парафіі ў Саўт-Рывэры.

[7] **Міхась Сенька** (нар. 1922), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі скончыў Баранавіцкую медычную школу, працаваў кіраўніком аптэкі ў Стоўпцах. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэньні вайны быў ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце, дзе скончыў гімназію, браў актыўны ўдзел у скаўтынгу. У 1947—1949 гг. вучыўся ва Ўкраінскім тэхнічна-гаспадарчым інстытуце ў Мюнхэне. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Працаваў на заводзе „Форд“. Браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. У 1950-х узначальваў Аб’яднаньне беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у царкоўную ўправу беларускага прыходу сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Шматгадовы сакратар управы БККА.

Жукоўская[8]) і францускай (ініцыятары Віктар Войтанка і Ўладзімер Жыромскі) зонах. З восені 1945 да лета 1946 г. было арганізавана ў Зах. Нямеччыне па-над дзясятак скаўцкіх аддзелаў. Гэтыя суполкі ўваходзілі ў склад мясцовых міжнародных скаўцкіх бюро. У ліпені 1946 г. у Ватэнштэце адбыўся Першы зьлёт беларускіх скаўтаў на чужыне. На зьлёце прадстаўнікі скаўцкіх арганізацыяў вырашылі аб'яднацца ў адну пад назовам Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў на чужыне (ЗКСЧ). На тым жа зьлёце прынялі рэгуляміны і вызначылі структуру арганізацыі, зацьвердзілі ўніформу ды сплянавалі супрацу беларускае арганізацыі зь іншымі. Беларуская скаўцкая арганізацыя сталася часткай міжнароднага скаўцкага руху.

На першым зьлёце выбралі й кіраўніцтва арганізацыі. Структура беларускага скаўтынгу была такая: большая скаўцкая адзінка называлася штандар, які звычайна ахопліваў геаграфічны рэгіён: прыкладам, штандар „Баварыя“, штандар „Франконія“, штандар „Гарц“ і г. д. Штандар складаўся зь сьцягоў, якія нумараваліся: першы сьцяг штандару „Баварыя“ ці другі сьцяг штандару „Гарц“. Сьцяг складаўся зь зьвязаў, якія насілі беларускія назовы-сымбалі: зьвяз імя К. Каліноўскага, зьвяз імя І. Грынявіцкага, зьвяз імя А. Цёткі й г. д. Зьвязы складаліся з дружынаў (тры-чатыры ў зьвязе). Дружыны мелі назовы зьвяроў — дружына Баброў, дружына Арлоў ці кветак — дружына Васількоў, дружына Пралесак. На чале арганізацыі стаяў (выбіраны) Галоўны кіраўнік, які, на параду скаўцкіх радаў, прызначаў штандаровых, штандаровыя — сьцяжных, сьцяжныя — зьвязовых, а дружыны — сваіх кіраўнікоў, дружыновых, выбіралі. Кіраўнікі адзінак тварылі скаўцкія рады. Кіраўнікі мелі адзнакі на ўніформах, а ўсе скаўты на рукавох мелі нашыўкі „Крывія“.

[8] Маецца на ўвазе **Валентына Пашкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 1916—2004), грамадзкая дзяячка, пэдагог. Скончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах (1935), вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. Падчас Другой Сусьветнай вайны жыла ў Бэрліне, працавала ў перакладніцкім бюро „Вінета“. Па капітуляцыі Нямеччыны апынулася ў Ватэнштэце, апекавалася беларускім скаўтынгам. У ліпені 1949 г. пераехала ў Таронта. Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, арганізавала танцавальны гурток. Кіравала беларускай суботняй школкай пры царкве сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Выдала „Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў“ (Кліўлэнд, 1968), ангельскамоўны падручнік „Беларуская мова — *Fundamental Byelorussia*“ (1974, 1978). Падрыхтавала „Ангельска-беларускі слоўнік“ (30 тыс. словаў і формаў), які выйшаў у 2006 г. у Менску.





Пачынаючы ад сьцяжнога, кіраўнікі мусілі мець спэцыяльную скаўцкую падрыхтоўку. Першыя кіраўнікі беларускага скаўтынгу прайшлі трэнінг на званьне „скаўтмайстра“ на міжнародных курсах. Міжнародныя скаўцкія рады зацьвердзілі й шмат беларускае скаўцкае літаратуры, ды з ангельскае мовы было зроблена парадачна перакладаў скаўцкіх спраўнасьцяў.

Векам скаўтынг ахопліваў моладзь ад 7 да 19 гадоў. Моладзь у дружынах падбіралася, калі было мажліва, паводле зацікаўленьняў. Хлапецкія й дзявочыя дружыны былі асобныя, але зьвязы мелі й хлапецкія, і дзявочыя дружыны. З 1947 г. з ініцыятывы й інтэнсіўнае падрыхтоўчае працы скаўтак Зоры Савёнак[9], Натальлі Куліковіч[10] і Тамары Карповіч дзяўчаты дамагліся вылучэньня ў асобныя сьцягі, якіх было некалькі.

Адбылося тры зьлёты беларускіх скаўтаў: у 1946, 1947 і 1949 гг. З 1947 г. арганізацыя пачала называцца Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне (ЗБСЧ). Галоўнымі кіраўнікамі былі Вацлаў Пануцэвіч,

[9] Маецца на ўвазе **Зора Кіпель** (дзяв. **Савёнак**, 1927—2003), грамадзкая дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, жонка Вітаўта Кіпеля. У 1936—1941 гг. у сувязі з высылкай бацькі жыла з маці ў Крычаве. Па вяртаньні ў Менск вучылася ў беларускай школе, потым у настаўніцкай сэмінарыі. Працавала ў „Беларускай газэце“ й газэце „Голас вёскі“. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1945—1948 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы, потым на мэдычным факультэце Тубінгенскага ўнівэрсытэту. Арганізатарка беларускага дзявочага скаўтынгу ў Амэрыканскай зоне, стваральніца беларускіх бібліятэк у Міхэльсдорфе і Остэргофэне. У 1949—1954 гг. вучылася на хімічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У 1955 г. прыехала ў ЗША. У 1966 г. скончыла Ратгерскі ўнівэрсытэт (Нью-Джэрзі) і пачала працу ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. У 1982 г. заняла пасаду намесьніка кіраўніка Славянска-балцкага аддзелу *NYPL*. У 1986 г. скончыла факультэт параўнальнага літаратуразнаўства Ратгерскага ўнівэрсытэту. Сябра Амэрыканскай асацыяцыі славістаў. Сябра БАЗА, у 1979—1983 гг. была сакратаркаю Галоўнай управы арганізацыі. У 1980—1990-х гг. — рэдактарка і сябра рэдкалегіі газэты „Беларус“. Радная БНР, сябра БІНіМу. Аўтарка больш як двухсот беларусаведных публікацыяў у шэрагу навуковых выданьняў, найперш у галіне беларускай літаратуры й крыніцазнаўства, складальніца шэрагу бібліяграфіяў.

[10] Маецца на ўвазе дачка Міколы Куліковіча Натальля (Туся), што пазьней пабралася шлюбам з сынам Натальлі Арсеньневай і Францa Кушаля Ўладзімерам і памерла ў 1967 г. ва ўзросьце 37 гадоў у Рочэстэры (*Rochester*, *ЗША*).

Юрка Сяньkоўскі[11], а дзявочым скаўтынгам кіравала Валянціна Жукоўская. У беларускіх скаўцкіх арганізацыях было каля 800 асобаў.

У траўні 1946 г. у Рэгенсбурзе адбылася міжнародная гульня-джэмбары (*jamboree*). Удзельнічалі каля 450 скаўтаў. Дружына „Рысь“ — кіраваў я, В. Кіпель, — узяла першае месца, другая беларуская заняла трэцяе месца. Гэта быў фурор!

Скаўцкія арганізацыі вялі актыўную працу як паводле праграмаў агульнага скаўтынгу, гэтак і ў галіне беларусазнаўства. Скаўты слухалі лекцыі з гісторыі й геаграфіі Беларусі, ладзілі літаратурныя вечары, вогнішчы, алімпіяды. Друкавалася ладна скаўцкае мэтадычнае літаратуры: дапаможнікі, спадарожнікі, кнігі спраўнасьцяў — а таксама пэрыядычнае літаратуры: скаўцкія часопісы „Зважай“[12], „Напагатове“[13], „Беларускі скаўт“[14] і інш. Праводзіліся курсы рыхтавання кіраўнікоў, а некалькі беларускіх скаўтмайстраў навучаліся на міжнародным скаўтмайстарскім курсе Гільвэля. Шмат спрыялі беларускія скаўты пашырэньню інфармацыі пра Беларусь, бываючы на сотнях міжнародных сустрэчаў, джэмбары, у скаўцкіх лягерах.

Беларускі скаўтынг дзейнічаў у Нямеччыне прыблізна да паловы 1950 г., калі амаль уся беларуская эміграцыя падалася за акіян. Праўда, у гадох 1951—1953 беларускія скаўцкія адзінкі яшчэ былі дзейсныя ў Англіі й ЗША, але практычна беларускі скаўтынг згас. Хоць у ЗША пры некаторых асяродках былі зарганізаваныя скаўцкія аддзелы, але яны былі часткаю амэрыканскага скаўтынгу.

[11] **Юрка Сяньkоўскі** (1926—1995), грамадзкі дзеяч, журналіст. Скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Вільні. Удзельнік СБМ. У паваеннай Нямеччыне жыў у Ватэнштэце, скончыў тут беларускую гімназію, з 1949 г. кіраваў скаўтынгам. У 1950 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту. Удзельнічаў у Беларускім студэнцкім хоры. Быў сябрам Саюзу беларусаў Бэльгіі. Па сканчэньні ўнівэрсытэту працаваў на радыё „Вызваленьне“, а зь сярэдзіны 1980-х гг. быў тут кіраўніком Беларускай сэкцыі.

[12] **„Зважай“** — часопіс беларускіх скаўтаў, які рэдагаваў Вітаўт Кіпель. Выходзіў у Рэгенсбурзе ў 1946 г. Усяго выйшла два нумары.

[13] **„Напагатове“** — часопіс беларускіх скаўтаў, які выходзіў у 1947—1949 гг. у Міхэльсдорфе. Выдаўцом была пазначана скаўцкае выдавецтва „Крыніца“, пазьней — выдавецтва „Рунь“. Рэдагавалі часопіс Вітаўт Кіпель і Кастусь Вайцяхоўскі. Усяго пабачылі сьвет 9 нумароў.

[14] **„Беларускі скаўт“** — часопіс Першага сьцягу Ватэнштэту. Адзіны нумар часопісу пабачыў сьвет у 1946 г.







Беларускія скаўты. 1948 г.

Пазнаўшы ўвосень 1945 г., што такое скаўтынг, я застаўся дзейным у беларускім скаўтынгу з 1945 да 1948 гг., калі падаўся на ўнівэрсытэт, аднак вярнуўся ў актыўны амэрыканскі скаўтынг у 1965 г. і быў у ім аж да 1977 г., скончыўшы зь дзясятак кіраўнічых курсаў і будучы скаўтмайстрам — адна з найстарэйшых амэрыканскіх адзінак, заснаваная ў 1910 г.

Відавочна, працуючы з моладзьдзю, кіраўнік мусіць быць падрыхтаваны сустрэцца шмат з чым — добрым, выдатным, благім. Бо моладзь мае свае галовы, і часта розум накіраваны ня ў добры бок. Аднак адно здарэньне з працы зь беларускім скаўтынгам урэзалася на ўсё жыцьцё...

Год 1948-мы. Вясна. Беларускія скаўты ў лягеры Міхэльсдорф вельмі дзейсныя, іх каля 200—220 асобаў, адміністрацыйна зьвязаныя з Рэгенсбургам. Г. зн. часта езьдзім на сустрэчы, курсы, спаборніцтвы. Недзе ў пачатку 1948 г. (я якраз здаваў матуральныя экзамэны — час быў гарачы) у Рэгенсбурзе адбывалася спаборніцтва скаўцкіх спраўнасьцяў — малое джэмбары, прысьвечанае памяці Бодэн Паўла[15]. Зь Міхэльсдорфу ў Рэгенсбург паехаў на спаборніцтвы вялікі грузавік — амэрыканскі трак (*truck*). Асобаў 30—35. Паехаў і я.

[15] **Робэрт Стэфансан Сміт Бодэн-Паўэл** (*Baden-Powell*, 1857—1941), заснавальнік сусьветнага скаўцкага руху.

Спаборніцтвы адбыліся: беларускія скаўты ўзялі шмат прызоў, былі вельмі задаволеныя. Вярталіся назад у Міхэльсдорф увечары ў нядзелю. Дарога — тады шмат дзе брукаваная — з Рэгенсбургу пераважна ідзе каля рэчкі Рэген, але дзе-нідзе адступае. Дарога досыць крутая, а рэчка прабіла даліну, то й дарога ў шмат якіх месцах ідзе высакавата.

Наш шафёр Іван Гукоўскі, родам са Слуцку, быў сапраўды добрым кіроўцам. І тым ня менш на адным з пакручастых пад'ёмаў наш грузавік нахіліўся й паляцеў пад адхон у бок рэчкі! Грузавік перакуліўся адзін раз, пачаў куляцца другі... і застыў. Добра, што апоры, якія трымалі брызэнт, былі жалезныя — яны куляньне вытрымалі, нікога не прыдушыла! Аднак калі трак затрымаўся, каб вылезьці ззаду, трэба было разьвязаць вяроўкі, а шофэр яшчэ неяк бокам вылазіў з кабіны. У мяне ж быў вялікі нож, і я брызэнту разрэзаў, зрабіўшы вялікую дзірку, каб скаўты маглі выпаўзьці.

Шофэр вылез, скаўты выпаўзьлі. На шасэ яны затрымалі нейкую машыну, каб у першым жа тэлефоне засыгналізаваць аварыю.

Усё гэта было зроблена. Правазіліся мы там, здаецца, гадзіны 3—4, а ўначы даехалі ў грузавіку, які падало *MP* (амэрыканцы).

Выцягнулі й той „беларускі“ грузавік. Але, калі той грузавік дасьтавілі ў лягер, сп. А. Банкет[16], які быў „шэфам транспарту“, выставіў мне (скаўтам) рахунак за парэзаны брызэнт! Рахунак, вядома, не аплацілі, але гісторыйку я запомніў добра.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[16] Маецца на ўвазе Аляксандар Банкет, грамадзкі дзеяч, які пазьней пераехаў у ЗША, быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.





***Алесь Марговіч***

# ШЛЯХ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ВАПОШНЮЮ ВАЙНУ[1]

Аднойчы ў сяброўскай гутарцы (здаецца, у Лювэне) хтосьці выказаў думку, што ні ў нашай прэсе, ні асобнымі выданьнямі не закранаюцца паасобныя аспэкты нашага нацыянальнага жыцьця ў часе апошняе вайны. Калі ж часамі гэтыя пытаньні падымаліся, дык гэта не было роблена з мэтай рачовага перагляду й дакумэнтацыі падзеяў, а хутчэй валкавалася адзіная вострая тэма: апраўдаць дзейнасьць тых ці іншых палітычных дзейнікаў ці закляйміць яе. І гэтая тэма адцягвала ўсю ўвагу. А калі навет у сувязі зь ёй пабочна гаварылася ці пісалася аб змаганьні й жыцьці *ўсяе нацыі*, дык усядно яно было разглядана праз прызму якраз вось гэтае вышэй названай тэмы.

Калі пацікавімся эміграцыйнай прэсай і літаратурай нашых суседзяў — украінцаў, палякаў ці расейцаў, дык пабачым, што не было найменшае палітычнае ці грамадзкае падзеі ў іхных краінах у часе апошняе вайны, якая б не знайшла свайго адлюстраваньня на бачынах. Нейкая нязначная бойка з бальшавіцкім ці нямецкім аддзелам, нейкая тайная сходка моладзі, праца мясцовага актыву ў нейкім глухім мястэчку — усё гэта задакумэнтавана адпаведнымі матэрыяламі ці ўспамінамі непасрэдных сьведкаў ці ўдзельнікаў. У нас жа, апрача пытаньня дзейнасьці ізноў тых жа палітычных дзейнікаў, мала што рабілася ў гэтым кірунку.

Праўда, былі да гэтага й прычыны ад нас зусім незалежныя. Няпэўная сытуацыя кожнага з нас адразу пасьля вайны ды асабліва ў сувязі з рэпатрыяцыйнымі акцыямі прымушала як найменш гаварыць ды ўспамінаць аб мінулым. Людзі, якія ніколі не маглі б быць пасуджаныя ў

[1] Тэкст быў упершыню надрукаваны: Галубіцкі, А. Шлях беларускіх дзяцей у вапошняю вайну // Бацькаўшчына. №24 (254). 12 чырвеня 1955. С. 2, 4; №25 (255). 19 чырвеня 1955. С. 2, 4; №26 (256). 26 чырвеня 1955. С. 1, 4; №28 (258). 10 ліпеня 1955. С. 2—3; №29 (259). 17 ліпеня 1955. С. 1—2; №30—31 (260—261). 21 ліпеня 1955. С. 2; №34 (264). 21 жнівеня 1955. С. 2—3.

нейкай калябарацыі, якія акрамя ахвярнай грамадзкай працы нічога больш ня ведалі ў часе вайны, потым баяліся навет прызнацца да гэтае працы. І так праходзілі гады. А разам з гэтым усё тое, што мы перажывалі, што рабілі, у якіх умовах, для чаго й зь якімі вынікамі — паступова пакрываецца забыцьцём. У выніку можа дайсьці да таго, што будучыя пакаленьні, разглядаючы Другую сусьветную вайну й падзеі на Беларусі, нічога больш не пабачаць, акрамя *„геройскага змаганьня беларускага народу за савецкую айчыну пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна“*.

У часе тае самае гутаркі была паданая канкрэтная прапанова пачаць зьбіраць матэрыялы і ўспаміны аб Саюзе беларускай моладзі, што згуляў гэтак выдатную ролю ў галіне нацыянальнага ўсьведамленьня й патрыятычнага выяўленьня нашае моладзі. Навет калі няма сёньня пад рукамі ні адпаведных матэрыялаў, ні дакумэнтаў, дык прынамсі ёсьць на эміграцыі ладная колькасьць былых сяброў гэтае арганізацыі, якія сваімі ўспамінамі з працы ў паасобных аддзелах маглі б у значнай меры спрычыніцца да дакумэнтаваньня мінулага гэтае арганізацыі. Ня трэба разглядаць гэтага як пісаньне нейкіх навуковых расправаў: найважнейшае — сабраць непасрэдныя й жывыя сьведчаньні ды ўражаньні тых асобаў, якія ў гэтай арганізацыі працавалі ці мелі зь ёй які-небудзь сутык. А гэта паслужыць у будучыні цэннай крыніцай для таго, хто захацеў бы поўнасьцяй усебакова прастудыяваць гісторыю СБМ.

Мы спадзяемся, што былыя сябры арганізацыі адгукнуцца на наш заклік і пастараюцца прыслаць як свае ўспаміны, так і іншыя матэрыялы, якія дапамогуць адлюстраваць цярністыя шляхі беларускае моладзі ў вапошнюю вайну.

Аўтар гэтых радкоў у СБМ апынуўся зусім прыпадкова ўжо ў Нямеччыне й працаваў зь беларускімі дзяцьмі ў веку 8—14 гадоў, эвакуяванымі з Усходняй Беларусі й над якімі апеку пераняў СБМ. У сувязі з тым, што ўжо адзінаццаць гадоў прамінула з таго часу, некаторыя прозьвішчы, а таксама даты цяжка сёньня ўспомніць. Прозьвішчы ж тых кіраўнікоў і наогул сяброў СБМ, аб лёсе якіх сёньня няведама, ня будуць зусім падавацца ці толькі ў ініцыялах. Сяброў і сяброўак СБМ, што прайшлі аналягічны шлях, просіцца зьвярнуць увагу на эвэнтуальныя недакладнасьці, а перад усім дапоўніць і пашырыць вобраз жыцьця гэтых дзяцей сваімі собскімі ўспамінамі[2].

[2] Заклік аўтара так і застаўся незаўважаным. Толькі празь дзясятак гадоў іншы беларус, Алесь Вініцкі, распачаў адмысловае зьбіранне ўспамінаў, прысьвечаных дзейнасьці СБМ, а таксама беларускай эміграцыі ў Нямеччыне.





### Крымічаў (*Crimmitschau*) — Дэсаў (*Dessau*) (Альтэн, *Alten*)

У Карынцкіх Альпах над ракою Дравай знаходзіцца маленькая мясцовасьць Мальта. Сюды, у вайсковы падрыхтоўчы лягер, 16 красавіка 1944 г. прыбылі першыя сто беларусаў. У ціхай мясцовасьці, адрэзанай ад сьвету горамі, проста ня верылася, што дзесьці праходзяць франты, дымяць пад бомбамі гарады. І толькі падзеі, аб якіх пісалася ў лістох з Бацькаўшчыны, трывожылі штораз больш.

У чэрвені прыйшоў з Бэрліну загад: адабраць групу (здаецца, 15 асобаў) больш здольных хлапцоў і накіраваць у распараджэньне Галоўнага кіраўніцтва СБМ на Нямеччыну. Даволі няясна гаварылася, што маем займацца й апекавацца нейкімі дзяцьмі. Для нас тады няважна было, што маем рабіць: самае галоўнае — здаралася магчымасьць вырвацца з глухіх гораў на шырокі сьвет.

*„Бывай мой родны кут і зьвяз...“*, абяцаньні трымаць пісьмовую лучнасьць — традыцыйнае разьвітаньне гэных часоў. У Шпіталі (*Spittal*) сядаем у перапоўнены бэрлінскі экспрэс.

Першы этап — Крымічаў. Невялікі саксонскі горад. Тут ёсьць лягер СБМ. Усіх цікавіць, як у запраўднасьці такі лягер выглядае. Аказваецца — гэта не баракі, а тыпавая нямецкая *Turnhalle*[3]. Велізарныя рады павярховых ложкаў. Знаёмімся з СБМаўцамі. Ясна, знаходзяцца знаёмыя й ледзь не сваякі. Некаторыя зь іх ужо прабылі ў Нямеччыне каля двух гадоў. Нам, што толькі тры месяцы як пакінулі Беларусь, проста ня верыцца, як столькі часу можна прабыць на чужыне.

Умовы жыцьця й працы СБМаўцаў параўнальна лепшыя, чымся іншых работнікаў з Усходу. Дзеля чаго іх ня любяць г. зв. „остаўцы“, называючы іх здраднікамі й фашыстымі. Праўда, юнакі ўжо з гэтым звыкліся й не зьвяртаюць на гэта ўвагі.

Пераначаваўшы, едзем далей і тут ужо бачым сьляды сьвежых налётаў. Нецікава выглядае гэты шырокі сьвет: у гарах было спакайней. Наступны этап — Дэсаў, цэнтар самалётных фабрыкаў „Юнкерс“. Тут з аднаго боку разьлёгся даволі прыгожы й маларазбураны горад, з другога боку — бясконцая маса велізарных фабрычных блёкаў і лягерных баракаў з чужынцамі. Сярод гэтых апошніх — шмат беларусаў.

Крыху воддаль ад іншых знаходзіцца СБМаўскі лягер Альтэн, у якім жыве каля 400 юнакоў ад 16 да 18 гадоў. Кіруюць імі свае кіраўнікі. Дысцыпліна тут напаўвайсковая. На працу ходзяць строем.

[3] *Turnhalle* (ням.) — спартовая заля.

У сьвяточныя дні абавязкавая СБМаўская ўніформа. Працуюць 10—12 гадзін. Наогул жа атмасфэра тут шмат прыямнейшая, чымся ў Крымічаў, можа таму, што чыстыя баракі выглядаюць куды весялей за панурую *Turnhalle*. Адносіны з „остаўцамі“ тут таксама лагаднейшыя, таму што сярод апошніх шмат беларусаў, якія сябруюць зь юнакамі.

Затрымоўваемся тут на некалькі дзён. Юнакі расказваюць пра жахі налётаў. На шчасьце, да гэтага часу іх не было шмат. Мы ж яшчэ ня маем уяўленьня, як выглядае масавы налёт. І вось першы папераджальны алярм. Мы дзівімся, што ніхто нікуды не хаваецца. Праўда, праходзіць мінут 20, і алярм адклікаецца.

## Лягер Лертэ (*Lehrte*)

Дзесяцём з нас прыходзіць загад ехаць далей, цяпер ужо проста ў той лягер, дзе знаходзяцца эвакуяваныя дзеці. Мінаем Магдэбург. Тут ужо сапраўды відаць усю руйнуючую дзейнасьць налётаў. Тое самае ў Браўншвайгу (*Braunschweig*). Але дзівіць нас спраўнасьць руху пасажырскіх цягнікоў у гэтакіх умовах. Не даяжджаючы колькі кілямэтраў да Гановэру, высядаем на даволі вялікай станцыі Лертэ.

Нарэшце пабачылі мы гэтых дзяцей. Больш жудасны малюнак цяжка сабе ўявіць. У лягеры, абнесеным дротам, некалькі панурых баракаў, а ў іх на голых нарах брудныя, у лахмоцьцях, заплаканыя дзеці ў веку ад 8 да 14 гадоў. Абышлі мы ўсе баракі. Усюды аднолькавы малюнак: дзяўчаты групамі плачуць, хлопцы лаюцца міжсобку. Аказваецца, тысячу гэтых дзяцей прывезьлі некалькі дзён таму проста зь Беларусі. Немец, часовы кіраўнік лягеру, абсалютна ня ведае, што гэта за дзеці й што зь імі рабіць. Просіць, каб мы разышліся па бараках і паспрабавалі ўгаварыць іх больш ня плакаць. Прабуем, як можам, — вынікаў ніякіх. Ды як тут угаварыць, калі ў пэўных момантах гэты плач ахоплівае даслоўна ўсе баракі й чуецца адзін суцэльны бесьперапынны лямант і здаецца, што гэта ня дзеці, а нейкая тайная велізарная моц галосіць. Калі нарэшце пад вечар лягер крыху супакоіўся, мы стараліся ўгаворваць, што цяпер будзе лепш, што пераедзем у другое месца. Дзяўчаткі на ўсялякія намовы й пытаньні проста маўчалі ці зьвярталіся з адзіным *„дзядзенька, завязеце нас дадому“*. І што на гэта адкажаш? Што ім паабяцаеш? Вышукаўшы некалькі старэйшых і спакайнейшых хлапцоў, удалося нарэшце даведацца, што бальшыня іх з Магілеўшчыны й Віцебшчыны, хоць таксама шмат і з Смаленшчыны. Калі падыходзіў савецкі фронт, немцы іх эвакуявалі, пакідаючы бацькоў.





Калі ім выясьнілі, што мы таксама зь Беларусі, што цяпер будзем апекавацца імі, што дастанем вопратку й лепшую ежу, лягер значна супакоіўся, але затое цяпер дзе ні пакажыся, дык адусюль пытаньні: *„дзядзька, праўда, што вы ня немцы?“* На гэтае пытаньне лёгка было адказваць, але за тое што адкажаш на пытаньне: *„А калі паедзем дадому?“*

Вечарам зьбіраемся ў сваім бараку й дзелімся ўражаньнямі. Ува ўсіх прыгнечаны настрой. Некаторыя ўжо шкадуюць, што згадзіліся на гэтую працу. Сябра М. С. заяўляе адкрыта, што калі б ведаў гэта, хутчэй бы згадзіўся пайсьці на фронт. Гэтыя разважаньні перарывае папераджальны алярм. У нейкім бараку падымаецца ізноў плач. Хаця б ён толькі не перакінуўся й на іншыя баракі. Потым алярм адклікаецца, і лягер паступова заціхае.

Надышла раніца. Дзеці, паведамленыя яшчэ ўчора, што маем сёньня ехаць у іншае месца, даўно ўжо ня сьпяць. Мы ж маем іх падзяліць на 10 групаў па 100 асобаў і, атрымаўшы дзённы правіянт, ісьці на станцыю. Тым часам ізноў алярм. І хутка пагоднае блакітнае неба зацягваецца дымнымі палосамі. Эскадра за эскадрай лятуць самалёты. У лягеры няма ня толькі бункераў, але навет самых прымітыўных равоў. Дзяцей цяжка ўтрымаць у бараках, асабліва хлапцоў. Збоку, пад Гановэрам, пачынае біць артылерыя, і ім здаецца, што гэта ўжо падаюць бомбы. Неба пакрываецца чорнымі дымкамі. Мінае паўгадзіны, гадзіна. Эскадры за эскадрамі лятуць у розных кірунках.

Нарэшце каля дзясятае гадзіны адкліканьне алярму. Пачынаем дзяліць гэтую дзіцячую масу на групы. Яны баяцца, што іх разьдзеляць і павязуць у розных кірунках. Прыходзіцца ізноў намаўляць і пераконваць. Кажны з нас стараецца як можа навесьці парадак у сваёй групе. Пасьля гэтага калёна за калёнай падыходзіць да таварнае станцыі, дзе на запасных рэйках стаяць ужо вагоны. Пабачыўшы цягнік, пачаліся ізноў пытаньні *„куды паедзем?“*. І калі мы сказалі, ня хлусіўшы, што едзем прыблізна на 200 кілямэтраў на ўсход, гэта значыць у кірунку дому, дык гэтая вестка адразу абляцела ўсе вагоны. Павесялелі твары, і там-сям можна было ўжо пачуць і сьмех. Будучы больш за паўтары тысячы кілямэтраў ад дому, гэтыя дзеці цешыліся двума соткамі кілямэтраў бліжэй да сваіх. Зьдзівіла іх таксама й тое, што апрача нас дзесяцех нікога больш няма, і вагоны не замыкаюцца. І калі абыходзячы вагоны перад ад'ездам папераджалася не выхіляцца зашмат, на затрымках не аддаляцца, у часе алярмаў слухаць загадаў, дык адусюль чулася ветлівае *„так, дзядзенька, добра“*. І тут мы пераканаліся, што ўжо ня так страшна будзе працаваць з гэтымі дзяцьмі, як нам яшчэ

здавалася ўчора. Дзіўным толькі гучэў, без прызвычаяньня, гэты новы зварот „дзядзенька“ ці „дзядзька“, зь якім дзеці да нас зьвярталіся.

У пасьляабедня гадзіны прыбываем у Браўншвайг. Цягнік затрымоўваецца на неакрэсьлены час. Дзеці просяць вады. Напаўняем усякую пасуду, што маецца пад рукамі. Да цягніка падыходзяць нейкія дзьве жанчыны й гутараць зь дзяцьмі. Калі я праходжу каля вагона, адна зь іх са злосьцяй кідае мне: *„Ты, фашысцкая сволач“*. З вагону чуюцца галасы: *„Цёця, гэта ня немец“*. Жанчыны адыходзяць. У далейшым падобныя сцэны будуць нашымі неадлучнымі спадарожнікамі.

Пачынаецца алярм, а мы ўсё яшчэ стаім у масе іншых транспартаў на велізарнай станцыі. Падыходзяць колькі чыгуначнікаў і пытаюцца, што мы думаем рабіць зь дзяцьмі, бо да сховішчаў адгэтуль даволі далёка. Што мы маглі рабіць з такой масай, ды першы раз апынуўшыся ў такой сытуацыі? Машыністы, які хацеў адцягнуць транспарт далей ад станцыі, ня мог нічога зрабіць без дазволу. Прыйшлося чакаць у вагонах. Сэкунды здаваліся мінутамі, мінуты гадзінамі. Якой цудоўнай мэлёдыяй здаліся гукі адкліканьня алярму! Нейкі стары чыгуначнік падыйшоў да вагону й яшчэ з узрушаньнем гаварыў: *„Дзякаваць Богу, што скончылася, такая сытуацыя й столькі дзяцей, дзякаваць Богу“*.

### Лягер Капэн (*Kapen*)

Мы ведалі, што транспарт зь дзяцьмі накіроўваецца ў Капэн каля Дэсаў, але як выглядае тамашні лягер і дзе ён ляжыць — ніхто не задумоўваўся. Ужо было зусім цёмна, калі цягнік спыніўся ў нейкім лесе. Прынамсі адно цешыла, што знаходзімся каля дзесяцi кілямэтраў за горадам. Пачалі выладоўвацца. Групы сабіраліся. Ды зрэшты як тут захоўваць нейкі парадак з тысячнай масай змучаных і галодных дзяцей поцемку ў лесе. На шчасьце за мэтраў трыста быў ужо лягер. Атрымаўшы вячэру, прыйшлося разьмяркоўваць дзяцей па бараках. Колькі не пераконвалася, што гэта разьмеркаваньне толькі на адну ноч, што заўтра кажны можа перайсьці ў той барак, які ён хоча, усядно той не хацеў пакінуць сястру, іншы сяброў з аднае вёскі й г. д. Толькі позьняй ночай усё супакоілася.

Назаўтрае першым чынам пайшлі ў вагляд лягеру. Аказалася, што мы занялі толькі малую частку яго. Асноўная ж маса баракаў пустуе. У лягеры жыве некалькі дзесяткаў палякаў, французаў, бэльгійцаў і расейцаў — тэхнічны пэрсанал. Лягер знаходзіцца ў лесе, і апрача гэтага над баракамі й вуліцамі завешаны сеткі для маскаваньня. Такім чынам,





гледзячы зьверху, не заўважаецца розьніцы між навакольным лесам і самым лягерам. На першы погляд — больш ідэальнае месца для дзяцей цяжка знайсьці. Але хутка даведваемся, што дзесьці недалёка ў лесе знаходзяцца падземныя фабрыкі амуніцыі й, што яшчэ горш, ужо аднаго разу самалёты круціліся над лесам і месцамі кідалі бомбы. Ува ўсякім выпадку тут здавалася шмат бясьпечней, чымся ў якім-небудзь прамысловым горадзе.

Пачалі мы знаёміцца з новымі ўмовамі. Першы сутык з адміністрацыяй лягеру вывязаўся ў справе харчаваньня. Мы ведалі нямецкія нормы для дзяцей. Тымчасам аказалася, што на іх месца выдаецца толькі зупа з гнілой бручкі ды малы кавалак хлеба. Ясна, што ў гэтых умовах цяжка было намаўляць галодных дзяцей на нейкі штрайк, але на нарадзе кіраўнікоў было пастаноўлена, што ў выпадку, калі харчаваньне ня зьменіцца, мы самі робім гэтакі штрайк. Адміністрацыя вымаўлялася непадрыхтаванасьцяй да такое колькасьці дзяцей і абяцала за колькі дзён справу палепшыць.

Першыя дні аказаліся найбольш цяжкімі. Ніводнае інструкцыі, ніводнага настаўленьня: маеш сто дзяцей і апякуйся імі, як знаеш. Праўда, Галоўны кіраўнік СБМ на Нямеччыну[4] быў з намі, але ж што ён мог парадзіць там, дзе справу мелася не зь юнакамі, а зь дзяцьмі й то ўдабавак зь дзяцьмі галоднымі, босымі, у лахмоцьцях. Ім трэба было прад усім зааргнізаваць усё неабходнае да фізычнага існаваньня, а пасьля думаць аб нейкім узгадоўваньні, шкаленьні. Аднак зь першага моманту, усе мы пераканаліся, што, не чакаючы на палепшаньне матэрыяльнага боку, трэба прыдумоўваць для дзяцей нейкія заняткі ці гульні, бо інакш хапала пакінуць іх на колькі гадзінаў у бараку, як адразу пачынаўся агульны лямант. Уцягнуўшыся ж, хоць спачатку й

[4] Галоўным кіраўніком СБМ на Нямеччыну быў **Генрык Барановіч** (1916—2002), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Барунах, а пазьней у Віленскай настаўніцкай сэмінарыі. У 1939 г. быў прызваны ў польскую армію, трапіў у нямецкі палон, адкуль вызваліўся ў 1940 г. намаганьнямі Беларускага прадстаўніцтва ў Нямеччыне. Перабраўся ў Бэрлін, дзе каля 1943 г. стаў супрацоўнікам аддзелу моладзі ў Міністэрстве акупаваных усходніх тэрыторыяў. 12.11.1943 быў прызначаны кіраўніком Працоўнай групы СБМ і ўпаўнаважаным на Нямеччыну. Выдаваў у Бэрліне часопіс „Малады змагар“. У 1945 г. трапіў у амэрыканскі палон, быў перададзены савецкай рэпатрыяцыйнай місіі, але ўцёк зь лягеру ў Заходнюю Нямеччыну. З 1948 г. жыў у Канадзе. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, радным БНР.

неахвотна, у нейкую гульню, яны хутка забываліся аб сваёй долі, і нярэдка чуўся шчыры сьмех.

Якраз у гэтых днях прыходзілася наражацца на розныя прыкрасьці, лаянку й насьмешкі з боку пару дзесяткаў чужынцаў, што жылі ў лягеры і ў вачох якіх мы былі ворагамі гэтых дзяцей, іхнымі прыганятымі й адказнымі за іхную эвакуацыю. Мы ніколі ня думалі, што ў будучыні з гэтымі чужынцамі навяжуцца такія сяброўскія адносіны. Але гэта надышло ўжо пазьней, калі яны пабачылі на практыцы, што мы прадстаўляем для гэтых дзяцей і як імі займаемся. І тады ўжо ў падобных выпадках якраз гэтыя дзеці былі нашымі абаронькамі.

### Пачаткі

Церазь некалькі дзён мы пераходзім у іншыя баракі. Цяпер чуемся тут быццам у самастойнай беларускай калёніі. Баракі тут распалажаныя з краю лягеру ў форме вялікага чатырохкутніка й робяць уражаньне асобнага лягеру, тым больш, што й уваходная брама тут асобная, толькі для гэтага блёку. На абшырным пляцы пасярэдзіне блёку растуць дрэвы, а вольныя прасторы між імі завешаныя сеткамі для маскаваньня. Навет у самы поўдзень тут заўсёды прыемны напаўзасень.

Пры разьмеркаваньні баракаў дзеці дабіраюцца па 50 паводля сваіх жаданьняў. Дзяўчаты займаюць адзін бок лягеру, а цераз пляц насупраць — хлопцы. Мы цяпер ужо займаемся толькі хлопцамі. Для апекі над дзяўчатамі прыслалі сюды некалькі кіраўнічак гітлераўскае моладзі. Да гэтых новых апякунак беларускіх дзяцей мы спачатку адносіліся з засьцярогай. Гэта — немкі, што нарадзіліся й жылі аж да вайны на Ўкраіне. Зьвяртаюцца яны да дзяцей у мяшанай расейска-ўкраінскай мове, аб Беларусі нічога ня ведаюць, а дзеля таго ня могуць спрычыняцца да рэалізацыі тых намераў, якія мы ставім у вадносінах узгадоўваньня гэтых дзяцей. Але так, як кіраўнічак СБМ тут яшчэ няма, ня можа быць і іншай разьвязкі. Трэба, аднак, сказаць, што адносіны гэтых немак да дзяцей беззаганныя, хоць і не хапае тэй блізіні й цеплыні, якую маглі б даць гэтым дзецям кіраўнічкі беларускія. За карэктнасьць адносінаў трэба хіба таксама ў значнай меры заўдзячваць галоўнай кіраўнічцы Аньні (прозьвішча ня памятаю), якая дзяцей вельмі любіла й якой іншыя кіраўнічкі былі падпарадкаваныя.

Да кожнай жа пяцідзесяціасабавай групы хлапцоў прымацоўваецца адзін кіраўнік СБМ. Кіраўнікі ж спаміж сябе выбіраюць галоўнага кіраўніка, які групы сваёй ужо ня мае й зьяўляецца адказным за цэласьць. У практыцы нашаму кіраўніку падпарадкоўваюцца й нямецкія кіраўнічкі, хоць тэарэтычна гэта не прадугледжваецца. На чале ж усяго лягеру стаіць немец, падпарадкаваны беспасярэдне Бэрліну, які, аднак, вядзе толькі справы адміністрацыйныя і ў справы занядкаў ці наогул узгадоўваньня ня ўмешваецца.





У гэтым новым блёку маем ужо й вялікую ўмывальню зь цёплай вадой і душамі. Справа гігіены наладжваецца. Хутка паўстае й мясцовая амбуляторыя, у якой працуе малады ўкраінскі доктар і мэдычная сястра ды якія цёпла й з спачуваньнем адносяцца да сваіх малых пацыентаў. Тут ужо ў значнай меры паляпшаецца й харчаваньне, што, зразумела, было найважнейшым для дзяцей.

### Нашы дзеці

Як ужо гаварылася, век іхны хістаецца ад 8 да 14 гадоў. Сярод жа дзяўчат нейкім чынам апынуліся дзьве, што мелі каля 16—17 гадоў. Яны ўжо тут шмат апякуюцца найменшымі, а ў будучыні, пасьля заканчэньня адпаведных курсаў, зь іх выйдуць кіраўнічкі СБМ.

Асноўная маса — гэта сялянскія дзеці. І толькі групка каля 20 асобаў з самога гораду Смаленску. Гэта адзіныя, што гавораць па-расейску; іншыя ж, навет тыя, што жылі ў калгасах даволі далёка на ўсход ад Смаленску, гавораць прыгожай беларускай мовай з тымі ці іншымі мясцовымі асаблівасьцямі. (Трэба прызнацца, што сутык зь дзецьмі Смаленшчыны быў для мяне асабіста вялікай практычнай лекцыяй. Калісь у часе настаўніцкіх курсаў у Глыбокім адзін з выкладчыкаў-„спэцыялістых“ у прыватнай гутарцы даводзіў, што нам, беларусам, няма чаго думаць аб Смаленшчыне, бо там ужо насельніцтва поўнасьцяй зрусіфікаванае. Паставіць бы тады гэтага „спэцыялістага“ перад дзецьмі Смаленшчыны!..) Гэтая група смаленскіх „мяшчанаў“ значна розьніцца ад сялянскіх дзяцей. Ня лічачы таго, што яны расьлі ў горадзе, некаторыя зь іх ня памятаюць сваіх бацькоў і ўзгадоўваліся ў дзіцячых дамох. Пару зь іх ужо курыць. Ад іх нярэдка чуваць і расейскую лаянку. Наогул жа, трымаюцца яны свабодна, да кіраўнікоў зьвяртаюцца на „ты“ ды нічым не праймаюцца. Маем зь імі спачатку шмат клопатаў, тым больш што іншыя дзеці скардзяцца на іх. У далейшым, аднак, усё наладзіцца, і смаленчукі ня будуць розьніцца ад іншых ні сваёй мовай, ні сваёй ветлівасьцяй.

Шмат з гэтых дзяцей ня ўмее ні пісаць, ні чытаць. Бальшыня ж была свайго часу ў першай, другой ці трэцяй, некаторыя і ў чацьвёртай

клясе пачатковае школы, але ўжо даўно не займаючыся, амаль усё забылі.

Зьвяртае на сябе ўвагу стан здароўя гэтых дзяцей. Хоць худыя й выгаладаныя ды перажыўшы ўсю трагедыю вывазу, яны трымаюцца надзвычайна, і апрача штодзённых дробных выпадкаў, як пакалечаньне нагі ці парэзаньне нажом пальца, няма абсалютна хворых. Навет адміністрацыя дзівіцца, што пры тысячнай масе дзяцей амбуляторыя амаль пустуе.

### „Дадому ў гэтым годзе ня вернемся“

Ліпень прыносіць з сабой цяжкія псыхалягічныя перажываньні. Чытаем у газэтах камунікаты аб здабыцьці саветамі Менску, Слуцку, Полацку, Маладэчна... *„Сяньня ўжо мяне фронт разьдзеліць з домам“*, — кажа адзін. Заўтра тое самае паўторыць іншы. А потым... уся Беларусь ужо па-за фронтам. Нейкае дзіўнае, новае пачуцьцё. Як-ніяк, але да гэтага часу, хоць зрэдка, прыходзілі лісты з дому... А цяпер: дом і мы — два розныя сьветы. Вестка аб заняцьці бальшавікамі ўсяе Беларусі, зразумела, як ні дзіўна, але навет тыя дзеці, мясцовасьці якіх былі ўжо акупаваныя да гэтага савецкага наступу, толькі цяпер пачынаюць поўнасьцей разумець гэты факт. Аднаго дня, калі я чытаю газэту, колькі хлапцоў падыходзіць і просіць ім перакласьці навіны з усходняга фронту.

— Дык што ж цяпер, — пытаецца адзін зь іх, — дадому ўжо хіба ў гэтым годзе ня вернемся?

— Хіба што не, — адказваю.

Гэтыя новыя падзеі нейкі час прыгнятальна адбіваюцца на настроі дзяцей. Але цяпер яны пачынаюць паступова пераключацца на новую канцэпцыю: трэба чакаць канца вайны, і толькі тады можна будзе паехаць дадому. У які ж спосаб гэтая вайна мае закончыцца — іх гэта не абходзіць.

### Нашыя заняткі

Лягер Капэн лічыцца толькі пераходным. Тут дзеці мусяць перадусім адпачыць, набраць сілаў, звыкнуцца із сваім новым палажэньнем, а таксама здысцыплінавацца.

Укладаецца наступнае разьмеркаваньне дня: а 8-й гадзіне пад'ём і раньняя гімнастыка, потым сьнеданьне; ад 9 да 12 заняткі, потым абед і прымусовы адпачынак у ложках да 3-й гадзіны; ад 3 да 6 ізноў заняткі, пасьля вячэры таксама часамі гадзіна заняткаў, а гадзіне 10-й — начная цішыня. Што ж уваходзіць у гэтыя заняткі? Прыблізна з гадзіну ў дзень пасьвячаецца на вывучэньне групаў хадзіць строем. Трэба сказаць, што хлопцам гэтыя страявыя заняткі вельмі падабаюцца. Рэшта часу разьмяркоўваецца між гульнямі, сьпевамі, гутаркамі й г. д. Тут прыходзілася ўжо паклікацца на сваю собскую фантазію. Добра зладжылася, што сярод кіраўнікоў ёсьць маладыя настаўнікі, а некаторыя былі свайго часу ў скаўтынгу.

Ня ведаю, ці ў скаўцкіх падручніках можна было знайсьці больш розных гульняў, чымся іх праводзілася ў Капэне. Да абеду займаемся звычайна ў лягеры ці каля яго. Пасьля ж абеду група за групай выходзяць зь лягеру й зьнікаюць у навакольным лесе. Для хлапцоў жа гэтага веку ды ў такіх групах хіба няма больш нічога прыцягальнага, як лес. Тут мы становімся партызанамі й падкрадаемся мінаваць чыгунку (як раз тут праходзіць празь лес), тут мы зьяўляемся паліцыяй і нападаем на партызанаў, становімся індыянамі й змагаемся міжсобку ці высочваем трапэраў. Часамі колькі такіх індыйскіх плямёнаў злучаецца й нападае на белых. Лес гучыць ад маладых галасоў. Часамі забываесься аб сваёй ролі судзьдзі ў гэтых змаганьнях і робісься актыўным удзельнікам.

Хіба нічога не выпрабляе больш ініцыятывы, дысцыпліны, пачуцьця прыналежнасьці да групы й зьбліжэньня між ейнымі сябрамі, як такія гульні. Зьнікае ўжо тая неарганізаваная маса, выпрабляюцца здысцыплінаваныя юнакі, спасярод якіх выбіваюцца ўжо свае лідэры.

Любілі яны таксама й гістарычныя апавяданьні. Выбіраем дзе-небудзь у лесе прытульнае месца, выгадна расьсядаемся й... пачынаецца. Жыцьцё дагістарычных людзей, Усяслаў Чарадзей, Вітаўт, народныя паўстаньні, Каліноўскі — вось тэмы гэтых апавяданьняў. Тут ня трэба гістарычных дэталяў, але затое часамі трэба ўвесьці, хоць і негістарычныя, дыялёгі між героямі й іхнымі ворагамі, трэба, як у фільме, паказаць прабег тае ці іншае бітвы, трэба ведаць, якога героя пахваліць, а якога зганіць. Адным словам — такое апавяданьне мусіць расказвацца, як яны самі прасілі, і „страшна“, і „сьмешна“, і „жаласна“. Не агледземся, як ужо й на вячэру трэба ісьці. А для заўтрашняга дня ёсьць новая тэма гульняў у лесе: змаганьне каліноўцаў з маскалямі.

Пасьля вячэры ўсе групы зьбіраюцца разам на сьпевы. Вывучаюцца й сьпяваюцца беларускія народныя й патрыятычныя песьні. Зразумела, пачынаем ад „Люблю мой край“. Дзяўчаты ж нярэдка пасьля заняткаў зьбіраюцца самі меншымі групкамі й сьпяваюць розныя

народныя песьні. Рэпэртуар іхны здаецца невычэрпным. І здараецца, што цягнучы якуюсь сумную мэлёдыю, у вадней ці іншай пакажуцца сьлёзы, а тады ўжо гэтым заражаюцца й іншыя, мэлёдыя абрываецца й група разыходзіцца ўсхліпваючы. Тады ўжо трэба ўважаць, каб побач не было хлопцаў, бо гэтыя „мужчыны-героі“ адразу ж пачынаюць насьміхацца з „бабаў“.

**Сябры ад'яжджаюць**

Прыблізна ў другой палове ліпеня прыйшоў загад накіраваць чатыры групы хлапцоў і чатыры групы дзяўчат (разам 400 асоб) у суседні Дэсаў, дзе яны маюць жыць у лягеры Вэркгайм Норд III. Кіраўнікі гэтых групаў, Стась С., Ігнат Ш., Міхась С. і Васіль Ч., маюць ехаць разам зь імі.

Тыя, што астаюцца, з аднаго боку зайздросьцяць ад'яжджаючым, бо ў Дэсаў маюць выдаць дзецям СБМаўскія ўніформы; з другога ж боку — усім вядома, што ў Дэсаў вельмі небясьпечна ў часе налётаў.

І вось цераз пару дзён, з таго самага глухога прыстанку ў лесе, дзе колькі тыдняў таму ўпоцемках выладоўвалася тысячная маса галодных і змучаных дзяцей, ад'яжджаюць у Дэсаў зарганізаваныя групы, весела махаючы рукамі на разьвітаньне тым, што астаюцца.

Лягер заўважна пацішэў, і аж да вечара адчуваецца ўсюды гэты настрой разьвітаньня.

Праходзіць яшчэ колькі дзён, і да нас прыяжджаюць госьці: Ігнат Ш. і Васіль Ч. Яны прыводзяць з сабой таксама двух хлапцоў, якія хочуць спэцыяльна паказацца ды расказаць, як яны маюцца на новым месцы. Трэба было бачыць, зь якой важнай мінай у сваёй новай працоўнай вопратцы расхаджвалі па лягеры гэтыя два хлопцы. Іхная вопратка, расказы аб Дэсаў ды факт, што яны разьяжджаюць сабе з кіраўнікамі, — рабілі зь іх герояў у вачох усяго лягеру.

У далейшым узаемныя адведзіны будуць паўтарацца штораз часьцей ды наогул сувязь паміж гэтымі двума лягерамі будзе вельмі цеснай.

**Алярмы й будні**

Ад'езд васьмёх групаў нічым не зьмяніў нармальнага жыцьця лягеру. Цяпер, аднак, пачынаюцца штораз часьцей алярмы, а ў часе іх забаронена займацца вонкі лягеру. Забарона матывуецца тым, што дзесьці недалёка ёсьць супрацьпаветраная артылерыя, і ў выпадку агня па самалётах навокал падаюць адломкі артылерыйскіх ядраў. Хутка, зрэшты, у гэтым пераканаліся й самі. Аднойчы, будучы із сваёй групай даволі далёка ад лягеру, прыйшлося перачакаць алярм пад дрэвамі. Хапіла некалькіх выстралаў артылерыі, як ужо ў лесе чутны былі сухія трэскі перасяканых адломкамі галінаў.

Назаўтрае прыгожая пагода, на небе ні хмурынкі. Пастанаўляем займацца ў лягеры, бо кажны мамэнт можа пачацца алярм. І сапраўды, ужо пад дзясятую гадзіну выюць гудкі. Дзесьці чуваць глухія грымоты. Праходзіць паўгадзіны, і бачым, як на гарызонце неба накрываецца цёмнымі хмаркамі. Яны прыбліжаюцца, і між імі бачым сярэбраныя пункты самалётаў. Пералятаюць над лягерам й навокал пачынаецца пекла артылерыйскага вагню. Усе хочуць паглядзець, ці будзе зьбіты хоць адзін самалёт. Дзяцей цяжка ўтрымаць у бараках, а ўжо пачынаюць падаць першыя адломкі. Цераз пару хвілінаў чуваць іншыя ўзрывы. Гэта ўжо бомбы, што сыплюцца на Дэсаў. Горад ляжыць ад нас каля дзесяці кілямэтраў, і мы бачым, як у тым баку па-над лесам падымаюцца хмары чорнага дыму. А там жа нашыя! Пад вечар толькі атрымоўваем весткі: у лягеры дзяцей Вэркгайм Норд III, як таксама і ўспамінаным лягеры СБМ Альтэн, усё ў парадку. Дзень гэты здаваўся нам бязьмежным, пакуль нарэшце гэтыя весткі не прыйшлі. Затое ж нашыя „капэнцы“ ўжо больш не зайздросьцілі „дэсаўцам“.

За гэтыя тыдні выявіліся ў паасобных групах некаторыя вельмі здольныя хлопцы. Цяпер частку дагляду за групай заўсёды можна было пакінуць на іх. Прыкладам, у маёй групе выбіўся наперад Міхась С., якога група выбрала сваім старшынём. Яго ўсе іншыя слухалі, і не было зусім патрэбы ўмешвацца ў тыя справы, якія ён сам мог заладзіць у паразуменьні зь сябрамі. Гэта давала магчымасьць такім хлопцам разьвіваць свае здольнасьці кіраваньня, для іншых жа яны былі ўзорам для насьлядоўваньня.

Дзіўна зьмяніліся адносіны да нас чужынецкіх работнікаў, якіх пару дзесяткаў жыло па суседзтву. З фашыстых, якімі мы былі ў іхных вачах спачатку, мы паступова сталіся сваімі людзьмі, беларускімі патрыётамі. Яны цяпер зразумелі сапраўдную сытуацыю й не вытакалі нам больш ні ўніформы, ні фашыстоўскіх салютаў пры афіцыяльных візытах кіраўніцтва з Бэрліну. Мала гэтага, між намі завязаліся самыя прыяцельскія адносіны.

Ад пачатку жнівеня прыйшла вестка, што ў лягер прыбывае група кіраўнікоў і кіраўнічак СБМ, эвакуяваных зь Беларусі, ды якія маюць цяпер абняць апеку над дзяцьмі. Мы маем быць адасланыя назад у свой

аддзел. Але аказваецца, што нашага аддзелу ў Мальце ўжо няма: частка хлопцаў зь яго пайшла на савецкі фронт, іншыя далучыліся да новых фармацыяў. Перш яшчэ, чымся прыехалі новыя кіраўнікі й кіраўнічкі, я атрымаў загад пераехаць у Дэсаў — Вэркгайм Норд III. Тут ужо праца з групай мела іншы характар.

### Вэркгайм Норд III

Побач велізарных блёкаў самалётных фабрыкаў „Юнкерсу" разьлёгся лягер чужынецкіх работнікаў Вэркгайм Норд. Фактычна гэта тры асобныя лягеры з аднолькавым назовам і толькі маюць сваю нумарацыю. Тут можна знайсьці прадстаўнікоў усіх краінаў Эўропы, акупаваных немцамі. Мы знаходзімся ў Вэркгайм Норд III, дзе жыве колькі тысяч работнікаў і які ў сваю чаргу падразьдзяляецца яшчэ на некалькі нутраных лягераў. І так адразу пры ўваходзе знаходзіцца беларускі лягер (дзяцей, прывезеных сюды пару тыдняў таму), далей знаходзіцца лягер г. зв. „остаўцаў", побач, асобна абцягнуты дротам, лягер савецкіх палонных, яшчэ далей — лягер летувісаў... а што за гэтым было, ніхто з нас ня ведаў, бо так далёка не прыходзілася заходзіць. Да ўсіх гэтых нутраных лягераў быў прызначаны адзін нямецкі адміністратар, які падпарадкоўваўся галоўнаму камэнданту ўсяго лягеру. Адміністратар беларускага лягеру аказаўся вельмі сымпатычным чалавекам. Ён прыходзіў раніцай у канцылярыю й пытаўся, ці ўсё ў парадку; калі што трэба было палагодзіць — ён палагоджваў, і потым ужо цэлы дзень ніхто яго ня бачыў. Такім чынам, да нашых дзяцей, падобна як і ў Капэне, нямецкае кіраўніцтва лягеру ня мела ніякага дачыненьня — усё было даручана нам. І таксама, як і ў Капэне, да кажнай асабовай групы быў прызначаны адзін кіраўнік, што быў адказным за яе. На галоўнага кіраўніка мы выбралі Стася С. із Слоніма, які быў адказным за цэласьць беларускага лягеру. Тут ужо нашаму галоўнаму кіраўніку былі падпарадкаваныя нямецкія кіраўнічкі. Ня толькі практычна, але й фармальна, што іх спачатку крыху непакоіла.

### Працоўны дзень у лягеры

Першы дзень майго пабыту ў гэтым лягеры быў адведзены на азнаямленьне з нутранымі парадкамі. Спачатку цяжка было наогул зарыентавацца, што тут робіцца: адныя групы ішлі на працу, іншыя ў школу, яшчэ іншыя ішлі проста гуляць у лес ці ў поле, а некаторыя наогул





асталіся ў лягеры. Разьмеркаваньне працоўнага дня тут устанаўлялася заўсёды толькі на адзін тыдзень наперад, хоць фактычна ніякіх зьменаў у яго з тыдня на тыдзень ня ўводзілася. У сувязі з тэхнічнымі ўмовамі ўвесь лягер быў падзелены на чатыры працоўныя групы (для яснасьці назавём іх I, II, III, IV), і ў кажную зь іх уваходзіла адна група хлапцоў і адна група дзяўчат, значыць, разам 100 асобаў. А 8-й гадзіне раніцы група I і II ішлі на фабрыку й працавалі да 12-й гадзіны; група III ад 8-й да 10-й гадзіны займалася ў школе, група IV да 10-й была ў лягеры, а ад 10-й да 12-й група III была ў лягеры, а група IV ішла ў школу. Ад 12-й да 2-й — абед і перапынак. Ад 4-й да 6-й на фабрыку ішлі III і IV групы, а I і II займаліся на зьмену па 2 гадзіны ў школе. Такім чынам, у гэты працоўны час заўсёды дзьве былі на фабрыцы, адна ў школе й адна ў лягеры. Пасьля ж вячэры звычайна выходзілі ў поле ці лес ды праводзілі там пару гадзінаў на гульнях.

### Фабрыка

У адносінах для дзяцей гэтае слова гучыць даволі грозна. Фактычна ж справа прадстаўлялася зусім іначай. Тут пры фабрыках быў асобны аддзел вышкаленьня, дзе будучых работнікаў уводзілі ў тэхніку фабрычнае працы, знаёмілі з прыладамі гэтае працы, ад найбольш прымітыўных да найбольш складаных. І так, прыкладам, нашы „работнікі" атрымоўвалі кусок зялеза й пільнік, майстар паказваў, як замацоўваць гэтае зялеза, як правільна трымаецца пільнік, як правільна апілоўваецца зялеза й г.д., пасьля чаго дзеці практыкаваліся самі. Потым атрымоўвалі, прыкладам, па два квадраты бляхі, заклёпкі й маленькія электрычныя бураўчыкі; тут трэба было ў гэтых квадратах выбуравіць дзіркі й пры дапамозе заклёпак зьнітаваць квадраты; калі дзеці апаноўвалі гэтую тэхніку, нітаваньне, ім загадвалася зьнішчыць бураваньнем заклёпкі, каб такім чынам разлучыць квадраты. Трэба адзначыць, што нямецкія майстры не маглі надзівіцца здольнасьці й інтэлігенцыі нашых дзяцей. Калі ж мы сказалі, што гэта дзеці сялянскія й з такімі тэхнічнымі прыладамі ніколі ня мелі дачыненьня, яны нам проста не хацелі верыць. Пры гэтым яны прызнаваліся, што засваеньне нейкага тэхнічнага прыёму нямецкім дзецям, якія тут жа побач праходзяць такое самае вышкаленьне, займае амаль у два разы больш часу. Калі я неяк аднаго разу расказваў хлапцом аб гэтых пахвалах, дык слаўны Мішка із Смаленску (аб ім яшчэ будзе далей) горда заявіў: *„Гэта ўсё дрэнь, што мы робім, во каб яны нам пазволілі рабіць тое,*

*што кажнаму падабаецца, тады б яны пабачылі“.* Папраўдзе вельмі часта яны й рабілі якраз тое, *„што падабаецца“.* Майстар, часамі, паясьніўшы й задаўшы новае заданьне, выходзіў у іншы цэх на гадзіну, а то й на больш, пакладаючыся на прысутных кіраўнікоў. Тады сапраўды можна было пабачыць здольнасьці й інтэлігенцыю гэтых дзяцей. Ведаючы, што мы ня маем нічога супраць, яны адразу даставалі з варштату загадзя падрыхтаваныя кускі алюмінія, сталі й г. д. ды пачыналі рабіць, „што падабаецца“: алюмінаеыя грабяні, нажы, кінжалы й г. д. Хлопцам наогул падабаліся гэтыя чатыры гадзіны „працы на фабрыцы“, для дзяўчат, ясна, гэтыя заняткі былі больш нуднымі.

Як ужо гаварылася, тут жа побач праходзілі гэткае самае вышкаленьне й нямецкія дзеці, г. зн. *„гітлераўскае моладзі“.* Вось гэтыя апошнія былі задзірлівые ў адносінах да нашых дзяцей і аднаго разу пабілі навет аднаго хлопца. Калі здарыўся яшчэ адзін падобны выпадак, мы пабачылі, што афіцыйным шляхам гэтага палажэньня нельга зьмяніць, бо што з таго, што нямецкі кіраўнік пакарае сяньня сваіх юнакоў, калі заўтра тыя яшчэ больш мсьцяцца на нашых. Пры разьбіраньні гэтых выпадкаў было заўважана, што нашыя хлопцы навет у вабароне баяцца выступіць супраць немцаў. Тады нашым больш дарослым хлопцам мы выясьнілі, што ў падобных выпадках яны не нясуць ніякае адказнасьці, што адказваць будзем мы. Ім жа толькі гэтага й трэба было. Цераз пару дзён ужо дзесяць нямецкіх юнакоў абыходзіла вакол нашага аднаго й толькі з прызваітай адлегласьці выкрыквалі: „бандыты“! Пасьля гэтае адплаты больш ужо падобных выпадкаў не было.

Адносіны ж нямецкіх майстроў да нашых дзяцей былі сапраўды беззаганныя.

### Школа

Тут жа побач цэхаў знаходзілася школа. Адзін клясны пакой адпушчаны для нас. Вялікі сьветлы пакой, белыя сьцены, школьныя лаўкі, дошка, крэйда... аж ня верыцца. Заходжу першы раз у клясу. Дзеці ўстаюць, „Жыве Беларусь!“, дружны адказ — „Жыве!“ Зусім таксама, як там, на Беларусі... Прабягаюць думкі: хто паверыў бы ў той час, як прыйшлося пакідаць школу ды ісьці ў войска, што вось цераз пяць месяцаў буду стаяць ізноў перад клясай.

Як усё падобнае й адначасова як рознае. Там былі арганізаваныя клясы, былі праграмы, былі хоць і ў абмежаванай колькасьці, школьныя дапаможнікі. Тут — у клясе 100 дзяцей з розным векам і ведамі, сшыткі й алавікі ды першы нумар часопісу „Беларуская школа“. Праграму трэба ўкладаць самім, дапасоўваючы яе да ўзроўню дзяцей і тэхнічных магчымасьцяў. Такім чынам, мы, г. зн. Ігнат Ш. і я, як былыя настаўнікі, зьяўляемся тут адначасова настаўнікамі, інспэктарамі й міністэрствам асьветы — вышэйшае інстанцыі ў гэтых справах не існуе.

Кожная група падзяляецца тут на дзьве „клясы“: пачынаючых і тых, што ўжо ў школу хадзілі, але за гады вайны ўсё забыліся. Навучаньне пачынаючых вядзецца больш-менш нармальна, як і ў звычайнай першай клясе. Горш крыху з заавансаванымі, бо ўзровень іхны вельмі розны, а для некаторых прадметаў іх прыходзіцца дзяліць на дзьве „падклясы“, а нярэдка даваць індывідуальныя заданьні. У нашай „праграме“ прыймаюцца наступныя прадметы: арытмэтыка, беларуская мова, нямецкая мова ды, як мы між сабой называлі, беларусаведа, куды ўваходзілі гутаркі з гісторыі й геаграфіі Беларусі, а таксама й беларускі катэхізм (таксама паводля собскай тэрміналёгіі) на базе брашуры „Што трэба ведаць кожнаму беларусу“. Прыпамінаюцца словы таго ж Ігната Ш., які раз сказаў: *„Часу мы маем няшмат, пару месяцаў, паўгоду найбольш, а дзеля таго адукацыі тут шмат не дасі, будучых жа патрыётаў зрабіць можна“.* І рабілася ўсё магчымае. Сяньня, можа, многія не паверыць, калі сказаць, што ў ваднэй з клясаў нямецкай школы ў сярэдзіне Нямеччыны ў 1944 г. беларускія юнакі чулі ад настаўніка наступнае: *„Хто раскулачваў, арыштоўваў ды вывозіў нашых бацькоў? Бальшавікі. Хто вывез нас на чужыну? Немцы! Усе яны аднолькавыя. Мы як падрасьцем, у будучыні павінны змагацца за тое, каб наша Беларусь была свабодная, тады ніхто нас нікуды ня будзе „вывозіць“.* Трэба было бачыць тады рэакцыю гэтых дзяцей на такія словы. Праўда, крыху пасьлей мы даведаліся, што камэндант лягеру меў сярод дзяцей свайго даносчыка. Быў ім адзін хлопец зь Віцебшчыны, які, працуючы на Беларусі пры нямецкай кухні, навучыўся крыху па-нямецку. Аднак небясьпекі тут не было, бо гэты хлопец прызнаўся аднаму кіраўніку, што камэндант загадваў яму пераказваць усё, аб чым гавораць кіраўнікі. Аднак з боку камэнданта мы ня мелі ніколі нікае заўвагі, а гэта сьведчыць аб тым, што гэты хлопец нас ня здраджваў.

Жнівеньскі адвячорак. Сонца ўжо пачынае заглядаць у клясу. Адна група засвойвае скамплікаваную для яе тэхніку пісаньня нейкае літары. Іншыя маюць перад сабой „Беларускую школу“. Адна дзяўчына чытае голасна. Гэта апавяданьне аб Усяславе Чарадзею „Званы клічуць...“ Сапраўды ня верыцца, што на сьвеце вайна.

## „Здраднікі радзімы“

Да гэтага часу здаралася так, што чужыцкія работнікі толькі кіраўнікоў СБМ лічылі „здраднікамі“, „фашыстымі“ й г. д., а да дзяцей адносіліся з спачуваньнем. Тут жа, у Дэсаў, справа выглядала ня так проста. Тут ужо гэтыя мянушкі нярэдка падалі й пад адрасам самых дзяцей. Першай прычынай да гэтага паслужыў той факт, што дзеці атрымалі ўжо СБМаўскія ўніформы, у якіх яны горда пахаджвалі ў нядзелю па лягеры. Па-другое, яны хоць жылі ў гэтым лягеры, сталаваліся, аднак, па-за лягерам у сталоўцы, прызначанай для францускіх, італьянскіх і бэльгійскіх работнікаў, дзе харчаваньне, зразумела, было значна лепшае, чымся ў сталоўках т. зв. „остаўцаў“. Калі ўзяць на ўвагу век нашых дзяцей, дык гэтая апошняя прычына ня мусіла б іграць ніякае ролі. На жаль, для бальшыні ўсходніх работнікаў было нармальным, што французы ці бэльгійцы могуць мець лепшае харчаваньне, але затое калі гэткае харчаваньне маюць беларускія дзеці — гэта толькі таму, што яны „фашыстыя“. Гэтых работнікаў дзівіла й злавала таксама прывязанасьць дзяцей да кіраўнікоў. І гэтая прывязанасьць была яшчэ аднэй з прычынаў, каб лічыць дзяцей такімі самымі „фашыстымі“, як і кіраўнікоў. Яшчэ спачатку работнікі ўсякімі спосабамі пробавалі бунтаваць дзяцей супраць нас ды намаўляць іх да непаслухмянасьці. Пабачыўшы, аднак, што гэта не дае ніякіх вынікаў, яны пакінулі дзяцей у пакоі, а толькі нам час ад часу кідалі пагрозы ды напаміналі, што для „здраднікаў“ існуе Сібір.

Зрэшты, ня ўсе так паступалі. Былі й такія, што поўнасьцяй нас разумелі. Прыкладам, аднойчы адводзячы аднаго хлопца да доктара, сустрэў я на вуліцы знаёмага зь лягеру „остаўцаў“, які сказаў, што хацеў бы ў бліжэйшых днях сустрэцца зы мной па-за лягерам і пагутарыць аб чымсьці важным. Пры наступнай сустрэчы ён у мяне папытаўся, што я думаю рабіць, калі будуць набліжацца бальшавікі. Я прызнаўся, што яшчэ аб гэтым ня думаў і ніякіх плянаў не рабіў. Ён папярэдзіў, што ў выпадку якой-небудзь зьмены, мясцовыя палонныя й група камуністых першыя кінуцца на нас. Ён абяцаў інфармаваць мяне аб намерах гэтых апошніх ды радзіў загадзя падрыхтаваць цывільную вопратку ды трымацца насьцярожана, каб можна было ў адпаведны момант уцячы.

Трэба сказаць, аднак, што паступова жыхары прывыклі да СБМаўскіх уніформаў, дачыненьні зьмяніліся, і прыкрыя інцыдэнты здараліся штораз радзей. Жанчыны ж наогул ня бачылі ніякіх ні „здраднікаў“, ні „фашыстых“: нашы юнакі былі для іх нешчасьлівымі





адарванымі ад сям'і дзяцьмі. Колькі разоў праходзячы праз лягер ці спэцыяльна сюды заходзячы, жанчыны не маглі нацешыцца гэтымі „малышамі“, як яны казалі. Нярэдка яны прыходзілі, каб пабачыць, як дзеці гуляюць ці строем маршыруюць па вуліцы й тады адусюль чулася *„какие славные ребята!“*.

## Эльба, гульні й дадатковая „праца“

У нядзелю да абеду дзеці застаюцца ў лягеры. Яны апранаюць СБМаўскія ўніформы ды рыхтуюцца да пасьляабедняга выхаду. Калі пагода добрая, зразумела, ідзем на Эльбу. Да ракі тут усяго каля паўтара кілямэтра. *„Мы Беларусі вольнай арляняты“,* — разьлягаецца на ўсю ваколіцу маршовая юнацкая песьня. Маторнымі лодкамі пераяжджаем на другі бок Эльбы, дзе на кілямэтар раскінулася велізарная пляжа. Народу тут — не прайсьці! Але знаходзіцца месца й для нас. Некаторыя юнакі плаваюць надзвычайна, і іх цяжка ўтрымаць пры беразе. Кожны з гэтакіх, хочучы пахваліцца перад іншымі, а перад усім перад дзяўчатамі (а былі тут ужо ня толькі сымпатыі, але й каханьні) стараецца адплысьці як найдалей. Хутка мінае час над ракою, ня хочацца вяртацца ў лягер.

Часамі ж ідзем у поле ці ў лес. Выбіраем там прыгодную палянку й пачынаюцца гульні. Падобна, як і ў Капэне, цэлая ваколіца поўніцца тады маладымі галасамі й крыкамі. І як разгуляецца гэтая дзецярня, дык ніяк нельга пераканаць, што ўжо параісьці ў лягер. Яшчэ ў полі хлопцы ідуць вольным крокам, але ўжо прыбліжаючыся да лягеру, калёна выраўніваецца, усе папраўляюць вопратку, дапасоўваюць крок. Дамаўляемся загадзя, якую песьню маем сьпяваць. Каля лягеру і ў лягеры, як звычайна ў нядзелю, шмат народу на вуліцы. Бачачы гэта, юнакі зь нецярплівасьцяй чакаюць на загад *„Песьня! Тры — чатыры!“* І як гойкнуць, дык і тыя, што ў бараках, выходзяць на двор, каб пабачыць гэтую „армію“.

У вадну нядзелю пад канец жнівеня адміністратар лягеру паведаміў, што патрабуецца група каля 20 юнакоў на працу ў вагародах на нейкай ваколічнай фэрме. Праца там трывае толькі да 2—3 гадзін папаўдні. У першую нядзелю ледзь назьбіралася патрэбная колькасьць добраахвотнікаў на гэтую працу. У наступную нядзелю — ужо трэба было выбіраць паміж добраахвотнікамі, якіх было ў некалькі разоў больш, чым трэба. А яшчэ цераз адну нядзелю адміністратар фэрмы адмовіўся ад гэтае дапамогі, бо аказалася, што ўбытак, які цярпеў

агарод і сад у часе працы юнакоў, не пакрываў прыбыткаў зь іхнае дармовае працы. Шкадавалі хлопцы гэтых дадатковых гадзінаў „працы“.

**„Трэба злажыць песьню“**

А 10-й гадзіне вечарам дзеці павінны ісьці спаць. Але гэта справа не такая лёгкая: нягледзячы на тое, што раніцай ім трэба падымацца ўжо а 7-й гадзіне, вечарам ніяк іх нельга супакоіць. Той яшчэ хоча перад сном памыцца, іншы расказвае свае прыгоды, яшчэ іншыя проста перакідаюцца словамі. Дзяжурны кіраўнік мусіць дапільнаваць, каб ужо а 10:15 была цішыня. Але толькі выйдзеш з бараку, як ужо чуеш, што гутаркі пачынаюцца ізноў. Вось так аднойчы давялося мне тры разы заходзіць у вадзін з баракаў, каб супакойваць гэтых гаваруноў. Але за апошнім разам я, удаючы, што выходжу з бараку, стукнуў дзьвярыма, а сам затрымаўся ў кутку, каб нарэшце даведацца, хто тут парушае цішыню. Прайшло, мусіць, зь мінуту, і дзеці, думаючы, што я ўжо адышоў далёка, загаманілі. Расказваў спачатку адзін, а іншыя збоку дадавалі свае заўвагі. Я ўжо хацеў запаліць сьвятло, каб пабачыць гэтага „пачынальніка“, як раптам зьмест гутаркі зацікавіў мяне, і я заставаўся ў кутку.

— Трэба злажыць песьню „жаласную-жаласную“. І як затрымаемся на якой-небудзь станцыі, як засьпяваем усе разам, дык усе людзі будуць плакаць… — чуўся голас з глыбіні пакою.

— Але песьня мусіць пачынацца з таго, як нас вывозілі, — дадаў нехта зь іншага боку.

— Ну й будуць жа дзівіцца ўсе, як пабачаць нас жывымі, выказаў нехта сваю думку.

Ужо запануе на момант цішыня ды потым ізноў хтосьці пачынае. І ўвесь час тая самая тэма: як будзем ехаць дадому, як будуць нас сустракаць, як будзем расказваць аб сваіх перажываньнях на чужыне. Была ўжо напэўна гадзіна адзінаццатая. Я ціха адчыніў дзьверы ды таксама як мага цішэй выйшаў з бараку. Спаць не хацелася. Як можна было змушаць іх да маўчаньня?

**Дэсаў пад бомбамі**

Прыгожы ясны жнівеньскі дзень. Пад гадзіну адзінаццатую — раптоўны алярм. Нашыя групы із школы й з фабрыкі прыбываюць у лягер. Сабраўшы ўсіх, хочам хутка выйсьці ў лес, але кіраўніцтва лягеру ня радзіць нам рабіць гэтага, бо так як не было папераджальнага алярму,





самалёты, магчыма, ужо недалёка, і мы можам папасьціся ў вадкрытым полі пад адломкі артылерыйскіх ядраў. І сапраўды, ужо церазь некалькі мінут дзесьці ў ваколіцы грыміць артылерыя. Дзеці заходзяць у бункеры. Гэта фактычна ня бункеры, а равы, з тэй толькі розьніцай, што ацэментаваныя й пакрытыя зьверху. Пачынае біць дэсаўская артылерыя й, толькі прыглядаючыся да дымкоў артылерыйскіх узрываў, заўважаем сярэбраныя пункцікі, што прыбліжаюцца ў нашым кірунку. Яны ўжо амаль над горадам. Выходзім у бункеры й тут адусюль пытаньні: *„Спадар кіраўнік, будуць нас сёньня бамбіць?“* Вось і адказвай на такое пытаньне! Зрэшты, ужо й адказу ніхто не пачуў бы: артылерыя вырабляе такое пекла, што ўжо проста не паасобныя ўзрывы, а праразьлівы суцэльны гром урываецца ў вушы. Але вось праз гэты гром прабіваецца яшчэ іншы гук: жахлівае выцьцё й нейкі хрыпаты шум. Усе разумеюць, што гэта значыць: адныя падаюць на падлогу, іншыя затыкаюць пальцамі вушы, некаторыя, асабліва дзяўчаты, плачуць, некалькі чалавек роспачліва прыціскаецца да мяне, нешта крычаць, і я не магу разабраць словаў. А потым, можа зь мінуту, можа менш ці больш, ужо адчуваецца ня гук, а беспрапынныя колікі ў вушох, здаецца, і бункер і ўвесь сьвет хістаецца й хутка разьляціцца на кавалкі. Пасьля першай сэрыі бомбаў — другая, потым трэцяя. Перад апошняй сэрыяй выхіляю галаву з бункеру (дзьвярэй тут няма) і бачу, што баракі нашыя стаяць, але лягер авеяны дымам.

Як хутка пачалося, так хутка й скончылася. Калі выходзім нарэшце з бункераў, адразу бачым чорныя клубы дыму ў тым месцы, дзе яшчэ колькі мінут таму стаялі фабрычныя блёкі. Горад таксама гарыць, і толькі тры крайнія баракі разьвернутыя, у іх, зрэшты, ніхто ня жыў.

**Прыезд новых кіраўнікоў**

Чакалі мы іх ужо даўно. Яшчэ ў пачатку ліпеня нас паведамілі, што эвакуяваныя зь Менску кіраўнікі СБМ маюць прыехаць да нас і калі ня поўнасьцяй пераняць апеку над дзяцьмі, дык прынамсі дапамагаць нам. Што да гэтае будучае дапамогі, дык некаторыя з нас мелі паважныя засьцярогі. Справа заключалася ў наступным: мы не зьяўляліся „прафэсійнымі“ кіраўнікаму СБМу й, будучы тут толькі часова прыдзеленымі, ня вельмі зьвярталі ўвагу на розныя бюракратычныя інструкцыі ці пажаданьні Галоўнага кіраўніцтва СБМ на Нямеччыну ды наогул вялі сябе даволі незалежна ад Бэрліну. Прыезд жа сапраўдных кіраўнікоў СБМ з поўнасьцю захаванай сваёй герархіяй, на думку некаторых

з нас, моцна пагражаў нашай незалежнасьці ды прарочыў поўнае падпарадкаваньне гэтай герархіі. Як, аднак, аказалася ў будучыні, гэтыя засьцярогі былі дарэмныя.

І вось у жнівені нас паведамілі, што ўжо ў Капэн прыехалі новыя кіраўнікі. Зразумела, усе мы зь нецярплівасьцяй чакалі на магчымасьць сустрэчы зь імі — як-ніяк, яны ж адносна нядаўна выехалі зь Беларусі. А дзеля таго, пры першай нагодзе маючы крыху вольнага часу, мы пачалі адзіночна езьдзіць у Капэн і знаёміцца зь імі. Неўзабаве ж частку зь іх прыдзялілі да нас у Дэсаў. Найбольш усіх цешыла тое, што тут былі ўжо й беларускія кіраўнічкі, якія занялі месца адклікaных з гэтага кіраўнічак нямецкіх. Уплыў гэтае зьмены ўжо ў хуткім часе пачаў заўважацца, бо дзяўчаткі атрымалі нарэшце тое, чаго ім да гэтага часу не хапала: сапраўдную мацярынскую апеку, спагаду й любоў. Тут нельга ня ўспомніць кіраўнічку В. К., якая аддавала ўсю сваю энэргію на ўзгадоўваньне гэтых дзяцей, і якія, у сваю чаргу, любілі яе, як родную маці.

Амаль разам з новымі кіраўнікамі прыбыла ў лягер і група (каля 30 асобаў) нашых суродзічаў, што ўцяклі перад бальшавіцкай навалай. Для іх быў выдзелены адзін барак, і яны былі часова прыпісаны пры нашым лягеры. Яны сталаваліся разам зь дзяцьмі й на працу, прынамсі часова, не хадзілі, што выклікала нянавісьць да іх з боку іншых чужанецкіх работнікаў. У гэтай групе было пару чалавек у веку за 60 гадоў, і мы, пагутарыўшы з адміністрацыяй лягеру, перавезьлі іх потым у Капэн, дзе было куды бясьпечней і спакайней.

## Сэрбскі „дыктатар“

У гэтым жа часе ў Капэне наступіла невялічкая зьмена: прыбылі новыя жыхары. Гэта былі сэрбскія дзеці, эвакуяваныя з захопленых партызанамі раёнаў Сэрбіі. Як аказалася, іхныя бацькі былі пераважна ў партызанах. З гэтай групай (па-над 50 асобаў) не было нікога старэйшага, а дзеля таго адміністратар лягеру папрасіў нашых кіраўнікоў займацца імі. Да іх быў прызначаны адзін мой блізкі сябар, які на кожным кроку праклінаў сваё новае назначэньне. Трэба сказаць, што між гэтымі сэрбскімі й нашымі дзяцьмі не было ніякага параўнаньня. Цяжка сказаць, якое пекла мусілі прайсьці яны яшчэ ў Сэрбіі, факт толькі, што гледзячы на іх, мелася ўражаньне, быццам гэта група нейкіх малых дзікуноў, зласьлівых і непаслухмяных да немагчымасьці. Нашыя дзеці баяліся іх і абыходзілі здалёк. Нашага кіраўніка яны ня толькі ня слухалі, але й лаялі яго па-свойму. Быў затое сярод іх адзін хлопец гадоў





можа 12, які вонкава абсалютна нічым не вырозьніваўся, аднак быў для цэлае групы ня толькі кіраўніком, але сапраўдным дыктатарам. Ён так тэрарызаваў сваіх равесьнікаў, што яны даслоўна дрыжалі перад ім і выконвалі ягоныя найменшыя капрызы. Прыкладам, калі той ішоў мыцца, дык з бакоў яго ішло двух „слугаў“, якія несьлі ручнік і мыла. Хто яму не падабаўся — хадзіў з разьбітым носам ці зь сінякамі пад вачыма. У выніку, роля нашага кіраўніка зводзілася толькі да абароны гэтых дзяцей ад іхнага собскага „дыктатара“.

## Паветраныя налёты й смаленскі Мішка

Побач іншых фабрычных блёкаў быў тут адзін блёк, дзе выпрацоўваліся самалётныя маторы. Бесьперапынны гул гэтых матораў быў чутны на некалькі кілямэтраў. Жывучы, аднак, у Дэсаў, прывыкалася да гэтага гуку, і толькі калі маторы спыняліся, адразу заўважалася нешта ненармальнае. Калі гэта здаралася ночай, дык чалавек адразу прачынаўся. Але гэткае ўзьдзеяньне раптоўнае цішыні мела для нас свае добрыя бакі. Тут было правіла, што маторы спыняліся заўсёды за 15 мінут да алярму. Вось жа ночай, прачнуўшыся ад раптоўнай цішыні, можна было паволі апрануцца, закурыць цыгарэту й, калі пачыналі свае выцьцё гудкі, быць поўнасьцяй гатоваму ісьці ў бункеры. З другога боку, гэта дазваляла й псыхалягічна быць ужо падрыхтаванаму да алярму ці эвэнтуальнага налёту. У часе начных алярмаў трэба было заўсёды дапільнаваць, каб усе дзеці выйшлі ў бункеры, бо бывалі й такія „героі“, для якіх алярм — гэта нічога, і толькі калі пачынала біць артылерыя, яны выходзілі ў бункеры.

У часе дзённых алярмаў мы нярэдка вялі дзяцей за горад у навакольныя ляскі. У гэткіх выпадках ад такіх алярмаў найбольш цярпелі баўэрскія сады. З гэтае прычыны некаторыя хлопцы спэцыяльна чакалі толькі алярмаў, каб магчы „бяскарна“ пагуляць у садох. Прыкладам, ужо ўспамінаны Мішка з Смаленску раніцай, калі была добрая пагода, пaглядаў на неба, паціраў рукі й задаволена сьцьвярджаў: *„Ну, сягоньня, здаецца, будзем есьці яблыкі“.* І калі часамі ягоныя разьлікі не апраўдваліся, алярму не было, дык ён лаяў і ангельцаў, і амэрыканцаў ды лічыў, што гэтыя апошнія крыўдзяць яго, не даючы нагоды пайсьці ў баўэрскі сад. Калі ж ягоныя надзеі спраўджваліся, дык пасьля налёту Мішка задаволены прыходзіў да нас у канцылярыю ці ў нашае памяшканьне й частаваў сваёй здабычай.

Тут мімаволі хочацца аб Мішку сказаць крыху больш. Гэта быў 13-гадовы хлопец з натурай бандыта-джэнтльмэна, вельмі інтэлігентны, ганаровы й амбітны. З кожным кіраўніком ён гаварыў як з роўным сабе, і пры гэтым ён так „лягічна“ падыходзіў да ўсіх справаў, што нярэдка кіраўніка пераконваў у тых выпадках, дзе наогул ня мусіла б дапускацца нейкая дыскусія. Прыкладам, калі ў часе алярму трэба было заставацца ў лягеры, ён заяўляў кіраўніку, што ідзе ў поле, г. зн. у сады. Пры гэтым дадаваў: *„Няўжо вам шкада баўэрскіх яблыкаў? Калі ж мяне зловяць, скажу, што ўцёк бяз вашага ведама“*. Аднойчы, караючы за адну бойку, загадалі Мішку прастаяць гадзіну ў кутку ў канцылярыі. Цераз пару дзён ён прыходзіць ізноў да нас і становіцца ў кутку. *„Валодзя сказаў, што я жулік, дык я мусіў даць яму ў морду“*, — паведаміў ён спакойным голасам ды прыпомніў нам зазначыць дакладна час ягонага прыходу, каб яму не прыйшлося стаяць зашмат. Такім быў „Мішка Смаленскі“.

### Ніці БНП

Пачынаючы прыблізна з канца ліпеня 1944 г. у Нямеччыне значна павесялела (для нас, ясна): калі перш тут былі толькі беларусы ў г. зв. „остаўскіх лягерах“ ды тыя, што працавалі на фэрмах, а такім чынам рухі як адных, так і другіх па-за працай былі абмежаваныя, дык затое цяпер раптам зьявіліся тут масы беларусаў, якія й з „маршбэфэлямі“, і бязь іх, з мэтай і бяз мэты, езьдзілі з аднаго канца Нямеччыны ў другі, запаўняючы ўсе куткі гэтага краю. Калі перш сустрэць беларуса па-за лягерам ці фабрыкай было даволі цяжка, дык цяпер можна было наткнуцца на свайго земляка амаль даслоўна на кожнай станцыі, у кожным мястэчку. У гутарцы з такім суродзічам пасьля першага стандартнага пытаньня *„Адкуль з Бацькаўшчыны?“* пачыналіся даведніцкія пытаньні тыпу *„Ці ня сустракалі вы часам Х.?“*, *„Ці ведаеце У. зь Менску ці Слоніму?“* і г. д., і г. д.

Паявілася ў Нямеччыне гэтым часам і група людзей, якія выкарыстоўвалі ўсе магчымасьці, каб як найбольш езьдзіць зь месца на месца ўсюды, дзе толькі можна было сустрэць беларусаў. Яны, аднак, езьдзілі зь ясна акрэсьленай мэтай. Гэта былі лучнікі й сябры падземнай Беларускай незалежніцкай партыі (БНП). Яны пашыралі ўсюды сярод сьведамых і патрыятычна настроеных беларусаў бюлетэнь свае партыі. Я ня ведаю, ці хто-небудзь з капэнскіх ці дэсаўскіх кіраўнікоў моладзі належаў да БНП, факт толькі, што літаратура гэтае партыі чыталася як





у Капэне, так і ў Дэсаў. Зразумела, такога характару літаратура не магла чытацца ў прысутнасьці дзяцей, а дзеля таго прыходзілася ў такіх выпадках з гэтым хавацца.

Але паасобныя ідэі ці тэмы зь бюлетэню БНП распрацоўваліся, прытарноўваліся да ўзроўню дзяцей ды падаваліся ім у форме практыкаваных патрыятычна-ўзгадаваўчых гутарак.

### Малыя „панічы“ ў новых касьцюмах

Ня памятаю ўжо, адкуль прыйшло паведамленьне, з Бэрліну ці адміністрацыі лягеру, што ёсьць магчымасьць атрымаць для дзяцей цывільную новую вопратку. Адна толькі тэхнічная нявыгада была пры гэтым: аказалася, што гэтая вопратка знаходзіцца ня ў нейкім складзе ў Дэсаў, але... у Лодзі (*Łódź*). Адтуль, у сувязі з франтавымі падзеямі, немцы вывозяць склады матэрыялаў і вопраткі, а ў гэтай сытуацыі можна й нам скарыстаць. Атрымаўшы належныя дакумэнты, выбіраецца туды Міхась С. і Ігнат Ш.

Мінае колькі дзён, а ад іх ніякае весткі. Дзеці, якія ўжо загадзя цешыліся атрыманьнем новае вопраткі, пачынаюць хутка сумлявацца, што наогул з гэтага штось выйдзе. Сумляемся й мы самі. Мінае яшчэ некалькі дзён. Але вось раптам у лягер зьяўляюцца нашыя высланьнікі радасныя й з трыюмфальным выглядам.

На запасовых рэйках, ня вельмі далёка ад лягеру, стаіць заплямбаваны таварны вагон. Адчыняем яго — і вачом ня верыцца: ледзь не да самай столі запакавана дзіцячымі касьцюмамі. Усё новае з іголкі. Цэлае паабедзьдзе займаемся праважаньнем гэтых скарбаў у магазын.

Выпытваем нашых высланьнікаў, як ім удалося здабыць цэлы вагон і такое першараднае вопраткі. Аказваецца, у Лодзі пануе такі балаган, што, маючы крыху спрыту, можна рабіць самыя фантастычныя рэчы.

Пасьля нейкага часу дзіцячая маса мяняе свой выгляд. Аднолькавага колеру й крою СБМаўская ўніформа рабіла зь дзяцей нейкую суцэльную, бескалёрную, зблякаваную масу. Цывільныя ж касьцюмчыкі, розныя як кроем, так і колерам, унесьлі сюды нейкую больш свабодную й весялейшую атмасфэру. Тым больш, што сваёй якасьцяй гэта была вопратка, якой дзецям, напэўна, яшчэ ніколі ў жыцьці не прыйшлося насіць. А зь якой акуратнасьцяй і пільнасьцяй сачылі яны за ейнай чысьцінёй ды вастрынёй кантаў на портках.

## Адведзіны з цэнтру

Гэта самае непрыемнае, што можа здарыцца ў лягеры. Ужо за тыдзень трэба рыхтавацца, рэпэтаваць прывітаньні, трэба, каб лягер сапраўды зіхцеў па-нямецку. Адным словам, прыйшлося папрацаваць і самім, і намучыць дзяцей.

І вось нарэшце прыехалі яны: Галоўны кіраўнік СБМ на Нямеччыну сп. Б.[5], сп. Мэнцэль з Аддзелу моладзі пры Ўсходнім міністэрстве ды яшчэ нейкія тыпы й афіцыяльны рэпартэр Усходняга міністэрства. Прыглядаліся яны да заняткаў нашых дзяцей, ставілі пытаньні, як ім і даводзіцца, ды наогул былі ўсім задаволеныя. Дзеці ж і мы таксама былі найбольш задаволеныя, калі яны нарэшце ад'ехалі. Трэба сказаць, аднак, што мясцовае нямецкае кіраўніцтва зь яшчэ большай павагай адносілася да гэтых дзіўных, незалежных ад яго *Weissruthenen*, якіх зь вялікім шумам наведваюць навет высокія ўрадаўцы Ўсходняга міністэрства.

## У „Крывію“

У канцы жнівеня загадам з Бэрліну паасобныя кіраўнікі й кіраўнічкі пачалі накіроўвацца ў школу „Крывія“, што знаходзілася каля Майнінгену (*Meiningen*) у Цюрынгіі (*Thüringen*). Аб гэтай школе ў будучым будзе гаварыцца асобна.

Туды накіроўваліся пасьля й здольнейшыя дзеці — хлопцы й дзяўчаты. Адтуль яны ўжо выходзілі калі не кіраўнікамі, дык прынамсі іхнымі заступнікамі.

Туды вось прыйшлося паехаць Міхасю С. і мне. Не хацелася пакідаць свае групы, зь якой ужо моцна зжыўся.

Раніцай я сабраў хлопцаў свае групы, каб на разьвітаньне сказаць ім пару словаў. „Смаленскі Мішка“, хоць і не належаў да гэтае групы, зьявіўся таксама. *„Дрэнь дзела, спадар кіраўнік, хто ведае, калі пабачымся. Вы ж толькі пішэце да нас...“* — сказаў ён ціха й паважна, што ў яго рэдка здаралася. Некалькі хлопцаў прасілі дазволу праводзіць нас на станцыю. Тут далучыліся да нас яшчэ два кіраўнікі з Капэну, што таксама ехалі ў „Крывію“. З хлопцамі, што адводзілі нас на станцыю, мы разьвіталіся не як зь дзецьмі, якімі нам даручылі апекаваньне, але як з роднымі братамі.

Юнацкая школа „Крывія“ знаходзілася пару кілямэтраў ад прыгожага цюрынскага гарадка Майнінген — у вёсцы Драйсігакер (*Dreißigacker*). Гэта быў даволі вялікі будынак, відаць, сядзіба нейкага абшарніка, а дзеля таго мясцовыя сяляне называлі яго „шлёсам“ — замкам.

[5] Маецца на ўвазе Генрык Барановіч.





За майго пабыту ў гэтай школе дзяцей яшчэ амаль не было. Тут былі толькі кіраўнікі СБМ, што яшчэ не атрымалі накіраваньне на працу ў лягер моладзі, а таксама некалькі старэйшых настаўнікаў, якія выкладалі тут розныя прадметы, як гісторыю Беларусі, беларускую літаратуру й г. д. Апрача выкладаў і рэфэратаў тут шмат часу адводзілася на спорт і крыху на страявыя заняткі.

Кіраўнік школы, сп. Зыгман, быў сымпатычным чалавекам, і, як на тыя часы й абставіны, ён быў даволі лібэральным. Хопіць толькі для прыкладу сказаць, што якраз у гэтай школе нам першы раз давялося амаль сыстэматычна слухаць аўдыцыі зь Лёндану, што ў той час не было так простым.

Пасьля нашага ад'езду адгэтуль у „Крывію“ пачалі накіроўваць меншымі й большымі групамі больш здольных дзяцей з дэсаўскага й магдэбурскага лягераў. Дзеці, прайшоўшы школу й вярнуўшыся ізноў у свой лягер, ужо ў значнай ступені дапамагалі ў працы кіраўнікам, а нярэдка й пераймалі іхныя функцыі.

## Падарунак ад дзяцей

У пачатку кастрычніка 1944 г. у „Крывію“ прыехаў лучнік з Галоўнага кіраўніцтва СБМ у Бэрліне й прывёз усім кіраўнікам новыя накіраваньні на працу. Трэба было раз'яжджацца па адным ці па двох ува ўсе куткі Нямеччыны. Міхасю С., Алесю М., Аркадзю Г. і мне быў загад зьявіцца ў Бэрлін, адкуль мы мелі быць накіраваны ў беларускі кадравы батальён, што меў арганізавацца ў Бэрліне.

Беручы на ўвагу, што зь дзецьмі больш працаваць нам ня прыйдзецца, мы пастанавілі заехаць па дарозе ў Дэсаў, каб апошні раз наведаць сваіх былых выхаванцаў, тым больш, што парудзённае спазненьне ў Бэрлін можна было апраўдаць частымі ў той час паветранымі налётамі.

Калі мы прыехалі ў дэсаўскі лягер, дзеці ўжо даўно спалі. Назаўтра ж раніцай вестка аб нашым прыезьдзе ababegла ўвесь лягер, і наш слаўны „Смаленскі Мішка“ даслоўна выгнаў нас з ложкаў сваім штомінутным загляданьнем празь дзьверы й спраўджаньнем, ці мы ўжо ня сьпім. У нас у лягеры ніколі не было звычаю вітацца падаваньнем рукі. На гэты ж раз, калі я зьявіўся ў былой сваёй групе юнакоў і неяк мімаволі выцягнуў руку да першага зь іх, дык да мяне сунуўся раптам лес

рук, і я ня ведаў, адкуль пачынаць. Пры гэтым кожны зь іх нешта казаў, кожны штосьці пытаўся перакрыкваючы адзін другога, і трэба было некалькі добрых часін, пакуль я зарыентаваўся ў гэтым хаосе й змог адказаць на першыя пытаньні. Калі ж я сказаў, што прыехаў толькі наведаць іх і заўтра раніцай еду ў Бэрлін, дык група загаманіла ізноў: адныя лаялі немцаў, іншыя казалі „проста ня ехаць" і г. д.

Назаўтра раніцай заходжу ў іхны барак разьвітацца. Яны акружылі мяне наўколам. Бачу, выштурхоўваюць аднаго наперад, падбадзёрваючы: „Сьмела, сьмела!" Той разгублена паглядае навокал, а тады выходзіць наперад і нясьмела пачынае гаварыць. Я ўжо ня памятаю дакладна словаў, але ў кожным выпадку гэта была своеасаблівая разьвітальная прамова. Пасьля вылічэньня ўсіх маіх „заслугаў" перад імі, яны мне жадаюць *„шчасьлівенька даехаць, здароўя і ўсяго такога"*, а на дарогу перадаюць падарунак. Гляджу — цягнуць дзьве вялікія пачкі, напэўна, кожная па кіляграмаў шэсьць. Аказваецца — яны падрыхтавалі мне „перакуску ў дарозе": свае штодзённыя порцыі хлеба, маргарыну, каўбасы й г. д. І гэта ў той час, калі самі напэўна ж сытымі не былі! Такі самы падарунак атрымаў і Міхась С. ад сваіх юнакоў, а як пасьлей аказалася, атрымалі іх і капэнскія кіраўнікі ў Капэне. Вось якімі былі нашыя дзеці ў тыя страшныя часы!

### Лістоўныя весткі

Такім чынам, праца мая й беспасрэдная лучнасьць з гэтымі дзяцьмі закончылася. Тым ня менш, далейшы лёс іхны мяне заўсёды цікавіў, і дзякуючы лістоўнай сувязі з бальшынёю юнацкіх асяродкаў можна было мець сякі-такі абраз іхнага далейшага жыцьця.

І цяпер вось, хоць бы для прыкладу, колькі дробных урыўкаў з тагачасных лістоў:

*„...Я жыву толькі надзеяй, што хутка ўсё кончыцца й шчасьліва вернемся на сваю Радзіму.*

*Дзеткі нашы гадуюцца добра, часта ходзяць на „крабы", а таксама ў лес па дзікія яблыкі. Мы зь іх варым смачныя рэчы. Прыяжджай хутчэй, будзе чым частаваць..."* (Ліст ад кіраўнічкі Веры К.[6] з Дэсаў, у палове кастрычніка 1944 г.).

[6] Верагодна, гэта **Вераніка Катковіч** (у замужжы Клентак. 1918—?), дзяячка СБМ. У часе нямецкай акупацыі была кіраўнічкаю юначак СБМ у Менску. Улетку 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Працавала ў лягеры ў Дэсаў. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны працавала ў Польскай вайсковай місіі ў⇨





*„...З гэтым днём* (налёт на Магдэбург 28.09.44. — ***Аўт.***) *шмат чаго пераҗылося, а найбольш страху. Дзякуючы налёту амэрыканцаў, малюнак стварыўся страшэнны. Усе часткі гораду былі траплены ўзрыўнымі й апальвальнымі бомбамі. Не мінуў гэтага й наш лягер. Тры вялізныя бомбы ўпалі ў адлегласьці 5—10 м ад бункеру, у якім знаходзіліся амаль усе дзеці й мы. Адна частка бункеру завалілася, засыпала невялікую групу дзяцей і двух забіла цэмэнтовымі абломкамі. Жывых адкапалі й далі ім першую дапамогу. Баракі часткова пашкоджаныя, умывальня, куды ўпала адна бомба, зьнікла бясьсьледна. Ужо прайшло тры дні, але ніхто не пасьпеў ачуняць ад пераҗытага кашмару..."* (Ліст ад кіраўніка Тодара Е. з Магдэбургу).

*„...У нас шмат навін. Капэн разьехаўся ў „дрэбезгі", словам, ніхто не астанецца ў Капэне.*

*Мы, г. зн. „дэсаўцы", пакуль што на месцы. Нас нікуды не адпраўляюць, бо нам прысылаюць капэнскіх малышоў і работы хопіць.*

*З харчамі ў нас як бы пагоршылася, а з курэньнем дык і зусім дрэнь!"* (Ліст ад кіраўніка Пятруся Н.[7] з Дэсаў, 17.10.44).

*„...Ужо другі тыдзень жывем у іншым лягеры, які шмат выгаднейшы за папярэдні. Дзеці чуюцца весялейшымі, куды весялейшымі, таму што пакоі менш-больш адпаведныя да жыцьця, поле блізка, а галоўнае, што разьбіты бункер не наводзіць на дзяцей жаху. Працы маем досыць, але ёсьць надзея на дапамогу, а менавіта: 20 юнакоў кончылі курс у Драйсігакер і ўчора прыехалі зноў да нас. Яны нам будуць сякоютакою дапамогаю..."* (Ліст ад таго ж Тодара Е. з Магдэбургу, 7.11.44).

*„...Зараз па тваім выезьдзе адʼехалі ад нас „старыя" дзеці, а прыехалі з Капэну. Спачатку мела вельмі многа працы, пакуль іх прывучыла да новага парадку.*

*У нашым бараку шмат павесялела, сабралася нас большая сямейка — усе кіраўнічкі з Капэну. Яшчэ ніколі тут не было так весела, як*

⇨Бэрліне. У 1948 г. Выехала ў Польшчу, у 1949 г. Пасялілася з мужам у Вроцлаве, але была дэпартаваная ў СССР і да 1956 г. адбывала пакараньне ў Кінгірскім лягеры. Пасьля вярнулася ў Вроцлаў.

[7] Імаверна, маецца на ўвазе **Пётра Нядзьведзкі** (1919—2000), грамадзкі дзеяч, сябра СБМ. Быў намесьнікам кіраўніка СБМ у Вялейцы, настаўнікам сьпеваў у альбярцінскай Краёвай школе СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў у лягеры Дэсаў. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры ў Ватэнштэце (*Watenstedt*), дзе кіраваў мужчынскім хорам. Пры канцы 1940-х выехаў у ЗША.

*гэтыя дні. Праўда, гэта ўжо нядоўга патрывае: заўтра Галіна Б.*[8] *едзе ў Мульдэнштайн (Muldenstein), Ванда Ч.*[9] *у Эбэрбах (Eberbach). І так па аднэй ад'едуць ад нас.*

*Для дзяцей часта робім сяброўскія вечары, на якіх заўсёды прыпамінаецца Бацькаўшчына...*“ (Ліст тае ж Веры К. з Дэсаў, 14.11.44).

„*... І сапраўды прыехалі* (штандаровы Б. і сп. Мэнцэль з Остміністэрыюм. — **А. Г.**). *Усё пайшло вельмі добра. Усе былі ў добрым настроі, але ў найлепшым, мусіць, быў Мэнцэль. Дзеці цэлы вечар танцавалі для ўсякае „сьмятанкі“, а пасьля былі запрошаныя танцаваць для нямецкіх юнакоў. У гэты вечар шмат разоў іх фатаграфавалі й маюць паказваць у фільмовых дадатках...*

*...Адразу пасьля сьвят выехалі ў Цюрынгію* (у школу „Крывія“. — **А. Г.**). *Краявіды тут сапраўды надзвычай прыгожыя. Дзеці каталіся на санках... Было б нам тут вельмі добра, калі б ня сум па дзетках, да якіх сапраўды так чалавек прывык, што здаецца найлепш — гэта тут, у Дэсаў. Сапраўды можна сказаць, што Дэсаў — гэта другі дом...*“ (Ліст кіраўнічкі Лены В. Л. з Дэсаў, 12.01.1945).

„*...У Магдэбургу вельмі неспакойна. Кожны дзень кідаюць „цукеркі“. Сяньня бамбілі станцыю зусім недалёка ад нас. У падвале згасла сьвятло, і дзеці нарабілі піску й крыку. На Новы год таксама прывезьлі „паздраўленьне“...*“ (Ларыса З., Магдэбург, 16.01.45).

„*...Жыцьцё нашае цяпер ня вельмі добрае. Блукаемся з кутка ў куток. Лягер наш згарэў, як вам, напэўна, вядома. Пасялілі нас зь дзецьмі ў мужчынскім чужынецкім лягеры. У пакоях вельмі цесна. Пакой, дзе я жыву з маімі дзяўчаткамі, не замыкаецца, і мы заўсёды баімся надыходу ночы. Вельмі дрэнна ў гэтых бараках... Ох, зь якою прыемнасьцю паехала б зноў у Драйсігакер... Там, як на Бацькаўшчыне: лес, узгоркі, сьнег, а цяпер зноў муры й разваліны ды сумна, сумна бясконца.*

*...Выбачце, што пісала алавіком — вядома, пагарэльцы, дык нічога ня маем...*“ (Ларыса З., 25.01.45).

Ліст ад кіраўнічкі Ларысы З. быў апошняй весткай, якую мне ўдалося атрымаць перад капітуляцыяй Нямеччыны. Зь першых дзён лютага наш аддзел быў пераведзены з Бэрліну ў першую Беларускую дывізію, і з таго часу ўсякая сувязь зь лягерамі юнакоў парвалася.

Што зь імі сталася ў мамэнт капітуляцыі? Вывезьлі бальшавікі? У якіх абставінах? Куды? Што сталася з кіраўнікамі — цэлы шэраг пытаньняў, якія ўсіх нас павінны абыходзіць, і якія, у меру магчымасьцяў, мусяць быць высьветленыя. Цяжка дапусьціць думку, што сяньня няма на эміграцыі ніводнага навочнага сьведкі апошніх дзён дзіцячых лягераў, і яшчэ цяжэй — каб такім сьведкам хапіла абыякавасьці маўчаць аб гэтым.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

---

[8] Маецца на ўвазе **Галіна Бузук** (1924—?), дзяячка СБМ. Вучылася ў Наваградзкай гімназіі, а ў часе нямецкай акупацыі атрымала атэстат у мясцовай настаўніцкай сэмінарыі. Была культурным рэфэрэнтам у Кіраўнічым штабе СБМ. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну, дзе працавала зь дзецьмі ў лягеры Дэсаў, кіравала лягерам у Мульдэнштайне. Не скарыстаўшыся з магчымасьці эвакуацыі на Захад, засталася пры дзецях, трапіла ў савецкую зону акупацыі, была арыштаваная савецкімі ўладамі. Далейшы лёс невядомы. Вытрымкі зь ейных лістоў зь Нямеччыны можна знайсьці ў працы Юрыя Туронка „Людзі СБМ“ (Вільня, 2007. С. 68—69, 127).

[9] Маецца на ўвазе **Ванда Чарнэцкая** (у замужжы Махнач, 1918—2007), дзяячка СБМ. Вучылася ў Віленскім унівэрсытэце, была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Працавала настаўніцай у Ляхавічах. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1950 г. перабралася ў ЗША. Жыла каля Чыкага. Ейныя ўспаміны можна знайсьці ў згаданай вышэй кнізе Юрыя Туронка (с. 87—89), а таксама падпісаныя „Вольга“ — у кнізе Алеся Вініцкага „Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох“ (Менск, 1994. С. 29—33).

***Івонка Сурвілла***
*Гатыно*

## ДЫ-ПІ-ЛЯГЕРЫ Ў ДАНІІ[1]

У Даніі я была ў шасьці лягерах — з траўня 1945-га да 1948 году. Адразу пасьля прыезду нашая сям'я папалася ў лягер *Hovelte*, дзе былі перадусім немцы з Усходняй Прусіі, а разам зь імі — уцекачы з розных краінаў Усходняе Эўропы, якія перабраліся ў Данію праз Усходнюю Прусію. Гэта былі вайсковыя казармы. Лягер атачаў дрот, была варта. Мы папаліся ў стайню. Спалі на саломе на зямлі. Там памерла мая сястрычка Прадслава.

Другі лягер быў для ўцекачоў *ня-немцаў*, у палацыку *Bremersvold*, на высьпе *Lolland*. Было там каля 150 асобаў. Там трактавалі й кармілі нас добра. Нашая сям'я мела свой пакойчык. Ніхто не пільнаваў, мелі магчымасьць зьведаць ваколіцы.

Трэці лягер быў ізноў палацык, у горадзе *Skodsborg*, за 25 кілёмэтраў на поўнач ад Капэнгагену. Лягер быў мультынацыянальны. Жылі ў агульнай залі, мелі поўную волю рабіць што хочам. Але не было грошай.

Чацьвёрты лягер, таксама мультынацыянальны, быў адным зь дзьвюх вялікіх гатэляў гэтай самай мясцовасьці. Будынкі, дзе мы жылі, яшчэ стаяць. Мы жылі разам з украінскай сям'ёй у адным пакойчыку, усяго сем асобаў. Кармілі нармальна, памятаю аўсянаю кашку на сьняданьне. Моцна не захаплялася я ежай. Там нам ужо давалі пяць кронаў на тыдзень на асобу — на розныя малыя выдаткі.

Адтуль нас перанесьлі на другі курорт, *Rungsted*, 30 кілёмэтраў на поўнач ад Капэнгагену. І там жылі разам зь іншай сям'ёй. Хаця з намі там была вялікая група беларусаў (дваццаць ці трыццаць чалавек), быў гэта лягер перадусім польскі. Людзі жылі дружна. Тата заклаў беларускую арганізацыю — ніякіх праблемаў з гэтым не было. У нашым пакоі заўсёды было поўна суродзічаў, сяброў.

[1] Успамін напісаны ў 2009 г. на просьбу Лявона Юрэвіча й захоўваецца ў ягоным прыватным архіве.





Пасьля *Rungstedtu* нас перасялілі ў апошні лягер у Даніі, на *Klovermarket* у Капэнгагене. Там былі ўцекачы розных нацыянальнасьцяў, уключна зь немцамі. Лягер, здаецца, быў адмыслова пабудаваны для ўцекачоў. Баракі. Быў вялізны. Мы мелі адзін пакой для нашай сям'і. Здаецца, была агульная кухня, але тады тата[2] працаваў па прафэсіі ў горадзе.

Лягер быў даволі сумны; уяўляю, што даволі падобны да лягероў Ды-Пі ў Нямеччыне. Было мала зеляніны. Але былі ў цудоўным горадзе. Жылі нармальна. З братам хадзілі ў школу, а ў нядзелю тата вадзіў па музэях.

Хто кіраваў першым лягерам, ня ведаю. Праўдападобна, дацкае войска або міліцыя. Унутры лягеру выглядала, што кіравалі ўсім немцы. І лекары ды мэдсёстры былі нямецкія. Ува ўсіх наступных лягерах дырэктарамі былі дацкія афіцэры, насілі ўніформу. У *Rungstedt* была жанчына, таксама ва ўніформе. Былі гэта людзі ветлівыя й добразычлівыя. Жонка аднаго з дырэктараў вазіла мяне з сабой у Капэнгаген. Дырэктар у лягеры *Klovermarket*, калі дазнаўся, што я ведаю дацкую мову, сам завёў мяне й запісаў у дацкую школу. Дзеці зь лягераў звычайна не хадзілі ў дацкія школы.

Не было ў лягерах ні паліцыі, ні турмы. П'янства й боек, здаецца, не было. Была поўная воля; толькі ежу давалі ў пэўныя гадзіны. Час ад часу раздавалі адзежу, якую прысылалі ўцекачам з Амэрыкі. Мама тады набыла машыну да шыцьця й сама шыла сабе й дзецям адзежу з купленага матар'ялу. Таксама падзарабляла, перашываючы людзям амэрыканскія сукенкі. Так зарабіла сабе на новае паліто. Тата, калі пайшоў працаваць, купіў сабе ў краме касьцюм. У самім лягеры крамаў не было.

Тата вучыў брата й мяне пісаць па-беларуску, дыктуючы нам „Гісторыю Беларусі" Найдзюка[3] — іншых беларускіх кніг у нас не было, пакуль нам не прыслалі з Францыі „Сымона-Музыку" Коласа й вершы

[2] Бацька Івонкі Сурвіллы **Ўладзімер Шыманец** (1911—1977), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Скончыў Віленскую тэхнічную школу (1932). Працаваў у Стоўпцах. Зь лета 1944 г. разам зь сям'ёй — на эміграцыі. Жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. З 1952 г. жыў у Сартрувілі (*Sartrouville*) пад Парыжам, браў удзел у працы Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, дзейнасьці ўраду БНР (міністар фінансаў).

[3] Маецца на ўвазе кніга папулярных нарысаў з гісторыі Беларусі аўтарства Язэпа Найдзюка „Беларусь учора і сяньня", першае выданьне якой выйшла ў 1940 г. у Вільні, а другое — у 1944 г. у Менску.

Ларысы Геніюш. Таксама вучыў мяне й брата матэматыцы, уключна з альгебрай. Дзякуючы яму, у школе мы ніколі ня мелі праблемаў па гэтым прадмеце.

Тата маляваў, пачаў рабіць дацка-беларускі слоўнік. Перакладаў казкі Андэрсэна. Апошні год ён працаваў інжынэрам у Капэнгагене, шмат дапамагаў суродзічам, бараніў тых, што былі з БССР, ад мусовага вяртаньня ў Савецкі Саюз. Нядзелямі часта хадзілі па музэях, адведвалі наваколье. Брат і я вучыліся граць на піяніна. Раз на год хадзілі да фатографа рабіць сямейныя здымкі.

Быў яшчэ транзітны лягер у *Kolding*, дзе наша беларуская грамада апынулася на два тыдні перад выездам у Францыю. Было гэта якраз у сакавіку, так што там адсьвяткавалі ўрачыста 25 Сакавіка. Тата запрасіў на сьвята маіх дацкіх сяброў (праўда, мы заўсёды казалі „данскіх“ — ад „Даніі“).

Умовы ў Даніі былі непараўнальна лепшыя, як у лягерах у Нямеччыне, апрача як у першыя месяцы пасьля вайны, калі дацкія лекары нават адмаўляліся лячыць нямецкіх „дзяцей“, г. зн. дзяцей уцекачоў, якія сотнямі тысяч апынуліся ў маленькай Даніі, зусім нядаўна яшчэ акупаванай Нямеччынай. Разам з маёй сястрычкаю тады памерлі сотні дзетак. Помнік ёй цяпер уважаецца за свайго роду нацыянальную каштоўнасьць — пра яго апублікавалі брашурку для турыстаў.

Я памятаю тры рэчы, якія бацькі прывезьлі з сабой з Даніі ў Францыю: маміну машыну для шыцьця, якая яшчэ стаіць у нашай хаце ў Францыі, татаву машынку для пісаньня (друкарку), драўляную валізку з дацка-беларускім слоўнікам (у форме картачак), ну й нашыя беларускія кнігі й паперы, зьвязаныя зь беларускім арганізацыйным жыцьцём у Даніі.

Бальшыня беларусаў з Даніі выехала ў Францыю. Толькі сям’я Гімпеляў зь Міра выехала ў Аргентыну, і адзін хлапец, Карыба, выехаў у Аўстралію, а потым пераехаў у Канаду.





# ВЫБРАНАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ МАТЭРЫЯЛАЎ ПРА ЛЯГЕРЫ ДЫ-ПІ З ГАЗЭТАЎ „БАЦЬКАЎШЧЫНА“ Й „БЕЛАРУС“

## Агульныя пытаньні

**Аблічны. І ў Брытанскай зоне саюз прэсы ДП** // Бацькаўшчына. №14 (17). 2 травеня 1948. С. 3.

Мікола Панькоў.

**Агульная зборка Саюзу ліцэнцыятаў ДП-прэсы. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. №9 (53). 6 красавіка 1949. С. 4.

**Агульны зьезд Цэнтральнага Задзіночаньня Чужынецкіх Уцекачоў. [Нямеччына]** // Бацькаўшчына. №13—14 (613—614). Сьнежань 1963. С. 7.

**Ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую зону** // Бацькаўшчына. №20 (23). 13 чырвеня 1948. С. 4.

Да справы вылучэньня беларусаў з чужых лягераў.

**Ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту (БНК) у Нямеччыне** // Бацькаўшчына. №1 (45). 2 студзеня 1949. С. 1.

Подпіс: Старшыня БНК інж. Ул. Тамашчык. Віншавальны зварот да ўсіх беларускіх арганізацыяў на чужыне.

**А лягер — не турма, тут аховы няма...** // Бацькаўшчына. №5 (8). 22 лютага 1948. С. 2.

Амэрыканскія вайсковыя ўлады не дазволілі савецкім журналістам наведаць лягеры Ды-Пі.

Палкоўнік Эйстэр.

**А. М. Набывайце прафэсіі!** // Бацькаўшчына. №26 (29). 5 верасьня 1948. С. 2.

Пра неабходнасьць мець прафэсію пры выэміграваньні зь Нямеччыны.

**А. М. Справы ДП** // Бацькаўшчына. №3 (6). 8 лютага 1948. С. 3.

„Таймз“ аб праблемах Ды-Пі. Іміграцыйны цэнтар *IRO* ў Штутгарце (*Stuttgart*).

**А. М. Справы ДП. Ці лёгка выехаць у Амэрыку?** // Бацькаўшчына. №37 (40). 21 лістапада 1948. С. 3.

**Амэрыканскі часапіс аб скаўтах ДП** // Бацькаўшчына. №6 (9). **22 лютага 1948. С. 3.**

**Амэрыканскі Чырвоны Крыж для ДП** // Бацькаўшчына. №33 (36). 24 кастрычніка 1948. С. 4.

**Амэрыканскія баптыстыя за дапамогу ДП** // Бацькаўшчына. №5 (8). 22 лютага 1948. С. 3.

Прэзыдэнт Трумэн; сьвятар А. Клаўпік, В. Льюіс, генэральны сакратар хаўрусу баптыстаў.

**Апошняя прэсавая канфэрэнцыя IPO** // Бацькаўшчына. №3 (82). 20 студзеня 1952. С. 4.

Томас Джэмсан.

**Байнаровіч, А. Справы ДП. Каб адно не запозна...** // Бацькаўшчына. №6 (9). 22 лютага 1948. С. 3.

Да прыняцьця пляну Маршала.

**Барыс С. „Беларускае Культурна-Прасьветнае Таварыства“** // Бацькаўшчына. №10 (13). 4 красавіка 1948. С. 4.

З жыцьця беларусаў Францускае зоны.

**Бедныя душы...** // Бацькаўшчына. №3 (6). 8 лютага 1948. С. 1.

Маршал Сакалоўскі турбуецца пра савецкіх грамадзянаў у Нямеччыне. Адказ генэрала Л. Д. Клея.

Станіслаў Рыклік, Аляксандар Кэмпа.

**Беларускі, Тодар. Нашая прамова на Агульным зьезьдзе Задзіночаных Нацыяў** // Бацькаўшчына. №15 (18). 9 травеня 1948. С. 3—4.

Зварот беларускіх Ды-Пі да Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў.

**Беларусы ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерах у Нямеччыне** // Бацькаўшчына. № 69. 31 жніўня 1951. С. 4.

**В. Б. ДП будуць прыймацца на працу ў Нямеччыне** // Бацькаўшчына. №33—34 (164—165). 30 жніўня 1953. С. 8.

**В. Д. Голас з Ангельскае зоны. (Па кутках эміграцыі)** // Бацькаўшчына. №12 (15). 18 красавіка 1948. С. 4.

Роля Беларускага дапамаговага камітэту ў Ангельскай зоне.

Радаслаў Астроўскі, Барыс Рагуля, Юры Сабалеўскі, сьвятар Анатоль Кунцэвіч.





**Віндзішбэргердорфскі. Пад развагу нашага грамадзтва ў ЗША** // Беларус. №2 (26). 24 студзеня 1953. С. 3—4.

Да вытокаў грамадзкай дзейнасьці беларускай эміграцыі.

**Віт. Кам — Бэрхтэсгадэн скаўцкім маршам** // Бацькаўшчына. №23 (26). 4 ліпеня 1948. С. 4.

**Выясьненьні Ўраду Беларускага Дабрадзейнага Згуртаваньня (БДЗ) у Францускай зоне** // Бацькаўшчына. №18 (21). 30 травеня 1948. С. 4.

**Вялічка, Р. Справы ДП** // Бацькаўшчына. №11 (14). 11 красавіка 1948. С. 3.

Перасяленьне мэдычнага пэрсаналу; канфэрэнцыя паразуменьня Брытанскае зоны Нямеччыны, жыцьцё ў Бэльгіі.

**Галубіцкі, А. На мяжы надзеі й рэзыгнацыі** // Бацькаўшчына. №51—52 (281—282). Каталіцкія Каляды 1955. С. 6, 8.

Лёс беларусаў у санаторыі нямецкага мястэчка Гаўтынг (*Gauting*).

**Госьць. Беларусы, украінцы, летувісы — заадно. (Француская зона)** // Бацькаўшчына. №6 (9). 22 лютага 1948. С. 4.

**Гр. Справы ДП. Чарговая прэсавая канфэрэнцыя IPO** // Бацькаўшчына. №37 (40). 21 лістапада 1948. С. 3.

**Да беларусаў у Нямеччыне** // Бацькаўшчына. №33—34 (164—165). 30 жніўня 1953. С. 7; №35 (166). 6 верасьня 1953. С. 4.

Кангрэс ЗША зацьвердзіў біль аб прыняцьці 214 тыс. новых эмігрантаў, у тым ліку 30 тыс. з-за жалезнай заслоны.

**Дзясятая прэсавая канфэрэнцыя IPO. (Справы ДП)** // Бацькаўшчына. №27 (30). 12 верасьня 1948. С. 3.

**ДП у Канадзе** // Бацькаўшчына. №34 (37). 31 кастрычніка 1948. С. 3.

**Дэлегат. Па кутках эміграцыі. Зьезд беларусаў у Францускай зоне** // Бацькаўшчына. №4 (7). 15 лютага 1948. С. 4.

Радаслаў Астроўскі.

**Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне аднавіла сваю дзейнасьць** // Бацькаўшчына. №11—12 (90—91). 25 сакавіка 1952. С. 8.

**Жыцьцё дыпіўскае** // Бацькаўшчына. №6 (9). 22 лютага 1948. С. 3.

**Загародны, В. Па кутках эміграцыі. Ялінка на 1300 мэтрах** // Бацькаўшчына. №2 (5). 31 студзеня 1948. С. 4.

Калядная ялінка для беларускіх і ўкраінскіх дзяцей у Альпах.

„Нацдэмы“ пратэставаліся: *„Рэвалюцыянэр! Колькі ў турмах папасядзеў! Сябра Беларускае Сацыялістычнае Грамады!“*

І тыя, і тыя рацыю мелі: адначасна быў — кансэрватар-рэвалюцыянэр.

Бо такі — кансэрватыўна-рэвалюцыйны — і кажны сапраўдны (і сучасны) нацыяналізм.

[...]

...у сабе насамперш нямецкі гітлерызм, правёўшы сваю бяскроўную рэвалюцыю. І італьянскі фашызм, і гішпанскі фалянгізм, і кажны рух новых нацыянальных рэвалюцыяў.

*Der Starke ist am machtigsten allein!*

А Максім Гарэцкі ўсё ж назваў бы Каганца „бацькам“: *„духоўным бацькам нашаніўства і сам пачаткавы нашанівец“.*

І здаецца, памыліўся. Факты адарваньня ад „Нашае Нівы“, слабога, рэдкага супрацоўніцтва ў ёй — мусіць, больш прамаўляюць на карысьць іншага меркаваньня М. Касьпяровіча.

Чаму адасабняўся, не ішоў разам із „Нашай Нівай“? Можа, не задавольваў ейны багушэвіцкі, абаронны толькі нацыяналізм? Згодніцтва? Прымірэнства? Палавінчастая рэвалюцыйнасьць?

А можа — глыбей — Шылераўская спрэчка зь „Вільгельма Тэля“:

Штаўффахер: У гурце падужэюць і слабыя.

Тэль: Хто дужы — найдужэйшы той адзін.

Нашаніўскае штаўффахерства можа найлепш выказаў тады Гальляш Леўчык: *„і злучэмся ў шнур, як гусі, на дабро ўсёй Беларусі“.*

І далей — банальная сэнтэнцыя пра венікі: лёгка зламаць па дубцу.

Гусь жа сяньня ўяўляецца проста гербам нашаніўства (не памерла, жыве й сяньня). Як у іншых народаў — арол.

(І такая добрая рыфма: гусь — Беларусь. Гусі — зь Белай Русі. Абшчыпаныя гусі...)

Не дубцом у веніку, а магутным, старэтным дубам пачуваў сябе Карусь Каганец. І мог дазволіць сабе раскошу — быць зусім самотным, адным.

Гербам, пэўна ж, меў Пагоню — гордага коньніка, што наперад імчыць таксама адзін — адзін проці цэлага сьвету.

„Хто дужэйшы — найдужэйшы адзін“. — *„Der Starke ist am machtigsten allein!“.*





*Дзьве лініі*

Гэтак выясьняюцца дзьве лініі ў беларускай літаратуры, у беларускім руху (сынонімы шмат у чым).

На аднэй — бацька Багушэвіч, „маці „Наша Ніва“. Пазьней — у палітыцы — Луцкевіцка-Лёсікаўская „Найвышэйшая рада“, згода з палякамі... А далей — із „таварышамі“. Нарэшце — „Маладняк“, выраджэньне ў савецкай беларускай літаратуры.

На другой — адзінкі із сваім шляхом, найчасьцей — проці плыні. Карусь Каганец — бацька? Сяргей Палуян — *„быў, як месяц адзінокі, самотна жыў, самотна ўмёр“.* Максім Багдановіч — *„Страцім-Лебядзь, горды, моцны птах“.* У палітыцы — урад Ластоўскага, вернасьць акту 25 сакавіка, Пётра Крэчэўскі. І апошнія — узвышэнцы (узвышэнская меншасьць).

І для ўсіх іх як прыстае прысуд Карскага ў заключных словах пра Каганца:

*„Вообще, он большой сепаратист и ненавистник всего русского“.*

Ці ж не такія й мы, сяньняшнія?

## Аўтабіяграфія

Я нарадзіўся 26 чэрвеня 1909 г. (26.06.1909) у г. Менску ў сям'і службоўца (бухгальтара). Хрышчаны ў рымска-каталіцкім веравызнаньні.

У 1924 г. скончыў сямігадовую школу, у 1928 г. — пэдагагічны тэхнікум (сярэдняя пэдагагічная асьвета), у 1931 г. — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт у Менску на Літаратурна-лінгвістычным аддзеле Пэдагагічнага факультэту (дыплём Нр. 261).

Яшчэ на школьнай лаўцы, у 1921 г. уступіў у „Беларускі хаўрус моладзі“ ў Менску — беларускую нацыянальную арганізацыю моладзі, за год па тым разагнаную бальшавікамі. Тады ж, пачаўшы цікавіцца беларусаведай і беларускай літаратурай асабліва, наведваў летнія курсы беларускае літаратуры, чытаныя ў Менску прыежджым зь Петраграду ведамым беларусаведам, акадэмікам Е. Карскім, і вытрымаў у яго каляквіюм наймалодшым зь ягоных слухачоў.

У 1926 г. я пачаў пісаць і друкаваць у беларускіх часопісах літаратурна-крытычныя рэцэнзіі. У тым жа годзе ўступіў у згуртаваньне беларускіх пісьменьнікаў „Узвышша“. У 1928 г. надрукаваў у часопісе

„Ўзвышша“ найбольшую сваю літаратурна-крытычную працу — манаграфію аб творчасьці пісьменьніка — заснавальніка беларускай мастацкай прозы Максіма Гарэцкага („Максім Гарэцкі. Спроба манаграфіі аб творчасьці“ — часопіс „Узвышша“, ад Нр. 1 па Нр. 10 за 1928 г., усяго каля 10 друкаваных аркушаў). У гэтай працы, апрача аналізу творчасьці пісьменьніка, спрабаваў разьвязаць і агульную літаратуравядную праблему аб *„пануючым тыпе ў мастацтве“*, закранутую ўпершыню ведамым мастацтваведам Гіпалітам Тэнам[1].

Наступнымі гадамі былі надрукаваныя яшчэ дзьве мае большыя літаратурна-крытычныя працы, прысьвечаныя аналізу творчасьці маладых беларускіх пісьменьнікаў: „Паўлюк Трус“[2] („Узвышша“, 1929 г., асобным адбіткам) і „Хада на ўсход“ (разгляд творчасьці Васіля Каваля[3], „Узвышша“, 1930 г.). У тым жа часе надрукаваў я ў тым жа часопісе „Ўзвышша“ рад літаратурна-крытычных рэцэнзіяў (значнейшыя — на „Тэорыю санэту“ праф. А. Барычэўскага[4], на II том збору твораў клясыка беларускае літаратуры Максіма Багдановіча і інш.), а таксама колькі заценак з галіны лінгвістыкі, прысьвечаныя паасобным дробным пытаньням беларускае літаратурнае мовы (у ваддзеле „Культура мовы“ часопісу „Ўзвышша“).

Мае працы, таксама некаторыя публічныя выступленьні, выклікалі адмоўную рэакцыю з боку бальшавіцкае крытыкі, як ідэалягічна й палітычна варожыя камуністычнай ідэалёгіі й марксізму (асабліва „Паўлюк Трус“). У часопісе „Полымя“ за 1931—1932 гг. зьявіўся вялікі артыкул, прысьвечаны „разгрому“ маіх працаў, пад загалоўкам „Буржуазная мэтадалёгія ў літаратуразнаўчых працах Ант. Адамовіча“ (аўтар Куніцкі). Шмат увагі прысьвяціў мне й О. Канакоцін у сваёй кніжцы „Літаратура — зброя клясавай барацьбы“ (Менск, 1931 г., б. 81 і інш.). Ставілася мне ў віну навет тое, што некаторыя мае выступленьні былі падтрыманыя ў Польшчы ў „буржуазнай“ газэце *Kurjer Wilenski*.

Па сканчэньні ўнівэрсытэту мяне адразу ж былі пакінулі мае прафэсары А. Барычэўскі (літаратуравед) і П. Бузук[5] (мовавед) пры беларускай Акадэміі навукаў у Менску, дзеля падрыхтаваньня да навуковай акадэмічнай годнасьці й працы. Але ўсяго за месяц па гэтым мяне арыштавала ГПУ, вінавацячы ў беларускім нацыянал-дэмакратызьме, што выявіўся ў маіх літаратурна-крытычных працах. Разам зь іншымі беларускімі дзеячамі, вучонымі й пісьменьнікамі (усяго каля 300), абвінавачанымі ў тым жа „нацыянал-дэмакратызьме“, я, прасядзеўшы ў турме „пад сьледзтвам“ 11 месяцаў, атрымаў ссылку на поўнач Расеі, якую я адбываў да 1934 г. у г. Глазаве Ўдмурцкае Аўтаномнае Рэспублікі, а ад 1934 г. — у г. Кіраве (б. Вятка). У 1935 г. назначаны мне спачатку пяцёхгадовы тэрмін ссылкі без усякай матывацыі быў працягнуты яшчэ на два гады. У 1937 г., перад самым сканчэньнем гэтага апошняга тэрміну, я быў зноў арыштаваны й, пасьля канчальнага „сьледзтва“, што цягнулася 13 месяцаў, праведзеных мною ў турме, — нарэшце вызвалены ад далейшых падобных пакараньняў (вызваленьню гэтаму паспрыяла *„ліквідацыя перагібаў яжоўшчыны“*, што якраз пачалася ў той час).

Арышт і ссылка зачынілі мне дзьверы да навуковай працы й друку. Навет выкананыя мною для „Літаратурнай энцыкляпэдыі“ ў Маскве артыкулы пра беларускіх пісьменьнікаў Лукаша Калюгу[6] й Тодара

---

[1] Маецца на ўвазе **Гіпаліт Адольф Тэн** (*Taine*, 1828—1893), францускі філёзаф-пазытывіст, пісьменьнік, гісторык, псыхоляг, эстэт.

[2] **Паўлюк Трус** (1904—1929), паэт. Скончыў Менскі пэдагагічны тэхнікум. Працаваў у рэдакцыі гомельскай газэты „Палеская праўда“, вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленьні пэдагагічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Быў сябрам літаратурнага аб'яднаньня „Маладняк“.

[3] **Васіль Каваль** (Васіль Кавалёў, 1907—1937), пісьменьнік. Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленьні пэдагагічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у рэдакцыі часопісу „Маладняк“. Сябра Саюзу пісьменьнікаў СССР з 1934 г. У 1936 г. рэпрэсаваны. Прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня.

[4] **Аўген Барычэўскі** (1883—1934), літаратуразнавец і перакладнік, прафэсар. Вучыўся ў Бэрлінскім і Маскоўскім унівэрсытэтах. Працаваў у БДУ, Менскай цэнтральнай партыйнай школе (1924—1927), Інбелкульце й Інстытуце літаратуры й мастацтва АН БССР (1927—1933). Рэпрэсаваны.

[5] **Пётар Бузук** (1891—1938), літаратуразнавец, лінгвіст, пісьменьнік, пэдагог, прафэсар. Вучыўся ў Ціраспалі, Адэсе. Працаваў у Новарасійскім унівэрсытэце, адкуль у 1925 г. яго запрасілі ў Менск. У Інбелкульце ўзначальваў дыялекталягічную камісію. У 1930 г. арыштаваны ў справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“, але празь некаторы час вызвалены. З 1931 г. — дырэктар Інстытуту мовазнаўства АН БССР. У 1934 г. ізноў арыштаваны і высланы ў Волагду на тры гады. Працаваў бібліятэкарам, потым выкладаў нямецкую мову ў Валагодзкім пэдынстытуце. У 1937 г. ізноў арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу.

[6] **Лукаш Калюга** (сапр. Канстанцін Вашына, 1909—1937), пісьменьнік, перакладнік. Скончыў Беларускі пэдагагічны тэхнікум. Працаваў стыльрэдактарам у навукова-дасьледчым Інстытуце прамысловасьці ВСНГ, на Беларускім⇨

Кляшторнага[7], прынятыя да друку й навет аплачаныя ганарарам, так і не пабачылі сьвету.

Аднак, не марнуючы часу на ссылцы, наколькі гэта было магчыма, я займаўся вывучэньнем эўрапейскіх моваў і падрыхтаваньнем далейшых працаў зь беларусаведы. У 1936 г. я скончыў завочна „Інстытут замежных моваў" у Маскве й атрымаў годнасьць перакладчыка вышэйшай кваліфікацыі зь нямецкай мовы (дыплём Нр. 12). Далей студыяваў завочна ў тым жа Інстытуце ангельскую мову, але гэтыя студыі незадоўга перад заканчэньнем спыніў вышэйуспамінаны арышт НКВД. За гэты ж час я падрыхтаваў да друку, апрача розных драбніцаў, дзьве вялікія навуковыя працы: „Гісторыя беларускай літаратуры" й „Спроба нарматыўнае граматыкі беларускае літаратурнае мовы", выдрукаваць якія мне, аднак, дагэтуль не ўдалося.

Вызваленьне пасьля адбыцьця кары, паводле савецкіх звычаяў, не адчыняла мне дзьвярэй ані да друку, ані навуковай акадэмічнай працы, ані навет да выкладаньня ў унівэрсытэце ці іншых вышэйшых навучальных установах. Аж да прыходу немцаў у 1941 г. у Менск я мусіў выкладаць беларускую й расейскую мовы ў менскім Хімічна-тэхналягічным тэхнікуме харчовае прамысловасьці, ды навет гэтую працу ўдалося мне здабыць пасьля цэлага году беспрацоўя, калі ніводная ўстанова не хацела браць на працу сьвежа вызваленага ссыльнага й арыштанта.

З прыходам немцаў адчынілася некаторая магчымасьць друкавацца, хоць адзіная выдаваная ў Менску „Беларуская газэта" й не магла адпусьціць вялікага месца для паважнейшых працаў. Усё ж, працуючы ў рэдакцыі гэтае газэты, мне ўдалося надрукаваць пару большых літаратурна-крытычных артыкулаў (пра кірунак „Узвышэнства" ў беларускай літаратуры, пра паэтку Натальлю Арсеньневу[8] й інш.), а таксама шмат зацемак з галіны культуры мовы. Дзеля таго, што навуковых працаў друкаваць нельга было ў газэце, і наагул выказваць думкі ў простай форме можна было толькі тыя, якія не выклікалі пярэчаньня ў немцаў, я напаў на думку заняцца больш мастацкай бэлетрыстыкай, у форме якой лягчэй было вуаляваць і супярэчныя немцам выказваньні. Так, пад псэўданімам Д. Забранскі я надрукаваў колькі імпрэсіяў, у якіх часам удавалася то правесьці завуаляваную паралель між Гітлерам і Напалеонам, конь якога ўпершыню спатыкнуўся ў Менску пры ягоным паходзе на ўсход (імпрэсія „Менск") або мімабегам успомніць пра ведамае пабіцьцё немцаў-крыжакаў пад Грунвальдам. Гэта прайшло незаўважаным, але большую маю рэч, пад тым жа псэўданімам Д. Забранскі — „Несантымэнтальнае падарожжа", дзе я спрабаваў падаць свае сапраўдныя ўражаньні ад Нямеччыны, якую пабачыў упершыню ў 1942 г., зьезьдзіўшы туды за перакладчыка з дэлегацыяй беларускіх сялянаў, якіх знаёмілі зь нямецкай гаспадаркай — цэнзура забараніла скончыць друкам, знайшоўшы там *„неразуменьне нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны"*. Давялося зьмяніць псэўданім на С. Юстапчык, і пад ім у тэй жа „Беларускай газэце" былі надрукаваныя мае аповесьці „Ўсяночная" (у 1946 г. выйшла асобнай брашурай) і „Трывога", у якіх вонкава апісвалася савецкае жыцьцё, але пад камуністымі лёгка завуалёўваліся нацыстыя й асабліва некаторыя добразнаныя ў Менску фігуры іх (сам „гаўляйтар Беларусі" Вільгельм Кубэ, ягоны беларускі квісьлінг д-р Ермачэнка й інш.).

Апрача гэткае літаратурнае формы рэзыстансу, у гэтым часе я бяру ўдзел і ў падпольным антынямецкім руху. У 1942 г. разам зь іншымі, галоўна маладымі беларусамі, бяру ўдзел у заснаваньні нелегальнае антынямецкае „Беларускае незалежніцкае партыі", па лініі гэтае партыі прычыняюся да падрыхтаваньня ліквідацыі нямецкага агента Акінчыца. У 1943 г., пасьля выдрукаваньня мною ў „Беларускае газэце" тэксту „Беларускае Марсэльезы" паэты Ю. Сергіевіча[9], словы якога,

---

⇨радыё. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне „Ўзвышша". У 1933 г. рэпрэсаваны, прысуджаны на 5 гадоў пазбаўленьня волі. Тэрмін адбываў у Ірбіце Сьвярдлоўскай вобласьці. У 1937 г. паўторна арыштаваны й расстраляны.

[7] **Тодар Кляшторны** (1903—1937), паэт, перакладнік. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне пэдагагічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў на радыё, у рэспубліканскіх газэтах і часопісах. Быў сябрам „Маладняку", „Узвышша", БелАППу. У 1936 г. арыштаваны. Прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня.

[8] Натальля Арсеньнева (1903—1997) у той час таксама працавала ў рэдакцыі „Беларускай газэты". Пра асаблівасьці дачыненьняў Адамовіча й Арсеньневай у той час глядзі: Гардзіенка, Натальля. Лісты з часу страчаных надзеяў: Антон Адамовіч да Натальлі Арсеньневай, 1944—1945 гг. // Запісы БІНіМ.⇨ №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 111—120; Адамовіч, Антон. Лісты да Натальлі Арсеньневай // Тамсама. С. 121—216.

[9] **Юльлян Сергіевіч** (1910—1976), паэт. Скончыў сельскагаспадарчыя курсы. Быў актывістам Беларускай сялянска-работніцкай грамады й Таварыства беларускай школы. Пісаў сцэнары для самадзейных калектываў. У 1939 г. як жаўнер польскага войска трапіў у палон. Перабываў у розных лягерах, на працы ў нямецкага баўэра. У савецкі час працаваў настаўнікам пачатковай школы на Маладэчаншчыне. Быў рэпрэсаваны, жыў у Сібіры й Казахстане. Пасьля рэабілітацыі працаваў у калгасе імя Леніна Маладэчанскага раёну.

скіраваныя супраць „прыблудаў“-акупантаў, немцы прынялі на свой адрыс, я атрымоўваю ад нямецкіх уладаў прапанову выехаць на працу ў Нямеччыну, бо мая праца ў Менску іх „не здавальняе“. Пакуль я думаў дзень над гэтаю прапановаю, у маім стале знайшлася міна, толькі выпадкам выкрытая адным супрацоўнікам за 20 мінут да выбуху. Пасьля такіх выразных „папярэджваньняў“ давялося згадзіцца на прапанову выезду ў Нямеччыну. Апынуўшыся там, я ўсё-ткі навязаў сувязі зь беларускімі газэтамі ў Бэрліне й пасылаў туды свае далейшыя бэлетрыстычныя спробы. Частка зь якіх была надрукаваная зь некаторымі цэнзурнымі купюрамі (завязка раману „Каханы горад“ у газэце „Беларускі работнік“, выйшла асобным выданьнем у 1948 г., навэлі пад псэўданімам В. Бірыч — „Вароты скрыпяць“ і „Нявольнік Дагамэі“ ў газэце „Раніца“).

У гэтыя й асабліва пазьнейшым часе, па капітуляцыі Нямеччыны, я ня кідаў займацца й навуковымі працамі. За гэты час мною падрыхтаваная вялікая літаратурна-крытычная праца аб творчасьці паэткі Натальлі Арсеньневае (уводныя часткі зь яе ўдалося надрукаваць у часопісе „Сакавік“, Нр. 1 за 1947 г. — „Пад нацыянальным сьцягам“, Нр. 1 (2) за 1948 г. — „Ля вытокаў нацыянальнага“), а таксама працы з галіны гісторыі Беларусі — „Гісторыя беларускага нацыянальнага руху“ (некаторыя разьдзелы ў канспэктыўным выглядзе выйшлі асобнымі брашуркамі пад псэўданімам Н. Недасек — „1917—1947“ і „1918—1948“, а таксама ў брашуры „Белая кніга ў справе нашага нацыянальнага назову“, вып. 1, 1948 г.) і „Гісторыя Беларусі XVI—XVIII ст.ст.“. Цяпер працую над гісторыяй Беларусі да XVI ст., але абставіны жыцьця Ды-Пі не дазваляюць аддацца ёй як належыць, таксама як і абставіны беларускага эміgranцкага друку не даюць ніякіх надзеяў на апублікаваньне бліжэйшым часам таго, што ўжо ёсьць у рукапісах, асабліва большых агульных працаў („Гісторыя беларускае літаратуры“, „Спроба нарматыўнае граматыкі беларускае літаратурнае мовы“, „Гісторыя беларускага нацыянальнага руху“, „Гісторыя Беларусі XVI—XVIII ст.ст.“. Як і раней, больш удаецца друкаваць рэчы бэлетрыстычныя (надрукаваныя навэлі „Безруч“, пад псэўданімам С. Юстапчык — „Сакавік“, Нр. 2 (3) за 1948 г., ды „Афрадыта-Ост“ і „Эміграцкая песьня“ пад псэўданімам В. Бірыч — „Сакавік“, Нр. 1 за 1947 г. і Нр. 1 (2) за 1948 г.) і публіцыстычныя (за ўвесь час мае працы выдрукавана шмат большых і меншых маіх артыкулаў гэтага характару на розныя тэмы беларускага нацыянальна-грамадзкага жыцьця).

На заканчэньне мушу зазначыць, што ад 1945 г. жыву ў лягерах Ды-Пі (Ды-Пі карта Нр. 840181). Са мною на маім утрыманьні старыя бацькі (Івашкевіч Паўліна — Ды-Пі карта Нр. 840353 і Івашкевіч Аляксандар — Ды-Пі карта Нр. 840354).







Press Certificate

Nr. 92

Valid untill

Name

born ... in Minsk

is Chief editor

of

authorized UNDP Publication Nr.
by EUCOM Hqs CAD and member of the Authorized Publishers Association US-Zone Germany.

All Allied and German officials are requested to assist the bearer to carry out his duties as an Allied journalist.

I R O Hqs Chief
Public Information Department:

Bad Kissingen,
the 1st July 1948

Пасьведчаньне Антона Адамовіча як галоўнага рэдактара газэты „Бацькаўшчына“, 1948 г.

З моваў свабодна валодаю беларускай, расейскай, украінскай, польскай і чытаю ўва ўсіх іншых славянскіх мовах; з эўрапейскіх моваў — нямецкай, ангельскай (чытаньне блізу бяз слоўніка) і францускай (чытаньне із слоўнікам).

Ад самога заснаваньня (у 1946 г.) належу да Беларускага навуковага таварыства ў Нямеччыне — „Крывіцкае навуковае таварыства Франціша Скарыны“, як сябра-заснавальнік, а да 1949 г. — і як сакратар. Таксама належаў сябрам да „Беларускага навуковага таварыства“ ў Менску пры немцах ад самага ягонага заснаваньня (у 1942 г.)

### Чужое гора

Імчыцца стралою паўночнай парой
Муж знатны ў багатым уборы,
Магутнае сілы, у зброі цяжкой.
І гукнуў бясьпечна ў глушы лесавой:
— Якое мне можа быць гора!

Так едзе ён трухам, гудзіць глушыня,
Тутпяць аб карэньне капыты.
Аж з дуба, няўзнак, хтосьці — скок на каня.
— Гэй, хто за плячыма там, што за чартаўня?
Зы мной сьцеражыся і квіта!

І мацае войнік свае павужы,
Шукае ў кажнай аборы.
Аж чуе адказ ён: — Я тут не чужы!
Зь мінуўшчыны, браце, дарма не дрыжы —
Вязеш бо Ўсяслава гора.

— Ну, маеш сабе, кажа, ты, ночная сказь,
Дапраўды, было б гэта дзіва!
Якая твая з Усяславам сувязь?
У Сафейскім саборы крывіцкі сьпіць князь,
А гора хіба яшчэ жыва?

І далей ён едзе, чакаючы дня,
З заплечнікам борзда па бору.
Аж зноў да яго хтосьці — скок на каня
І шэпча на вуха: Мне той не раўня:
Я, вою, маскавіцкае гора.

— Ох, мабыць, ня ў добры я выехаў час!
Бач, напасьць якая бывае!
Што шышак яловых, тут сыплецца вас! —
Так думае войнік, хмарнейшы штораз,
А конь ужо крокам ступае.

І конскую сілу знурыла цягло,
Пачаў патыкацца ён скора.
А тут вось ізноў хтосьці — скок за сядло.
— Якога там ліха яшчэ прынясло?
— Я, брацейка, ляскае гора!

— Далоў вас! І месца няма за сядлом,
Мне плечы зусім аддушыла!
— Не, вою, як селі — далоў не зыйдзём!





І едуць яны на кані, што вазом,
І ломіцца конская сіла.

— Эх, думае войнік, — каб зь лесу ды вон,
Ды ў поле — паймчаў бы ў прасторы!
І як так бяз бою папаўся ў палон?
Чужое, бач, гора цягаць прымушон —
Чужое — мінуўшчыны гора!

[Нямеччына, 1947—1948]

**Антон Адамовіч да а. Пятра Татарыновіча**[10]

30.XII.48.

Правялебны войча!

Даўно ўжо маніўся напісаць Вам пару словаў, бо некаторыя тутэйшыя, ведаю, лістуюцца з Вамі, але ўсё то тое, то другое. Дый, думаю, мо й забыліся самі, што калісь сяды-тады спатыкаліся з такім адным кругадухам, які быў *„сам рэдактар усіх газэт“*, як у „Тарасе на Парнасе“, а цяперача — проста сабе *nihil*.

Ну, але ткі напішу. Найперш, як належыцца, пажадаю Вам вясёлага й памыснага Новага Году (бо Каляды ўжо, на жаль, прайшоўшы). І каб жа ён сапраўды новым быў, каб неператоптваў старых сьлядоў, каб і Вам, і ўсім людзям добрае волі й нашай справе прынёс тое, што нанова адновіць... адным словам, заблытаўся я ў гэтым „нова“ й „нова“, дык проста — няхай будзе Новы Год і ўсё.

Я ведаю, што зайздрасьць — не хрысьціянскае пачуцьцё, але дадушы ж усё-ткі зайздрошчу Вам, што Вы гэтак далёка ад розных прыкрасьцяў г. зв. „грамадзкага“ (ці яшчэ „нацыянальна-грамадзкага“) жыцьця, а так блізка да жыцьця чыста духовага. У паасобку — да кніжнага. Божа мой, каб гэта мне так дзе можна было ўкапацца ў кніжкі, вычытваць зь іх тое, што трэба, проста глытаць...

Дык прызнаюся ўжо і ў наступным граху — усё роўна ж ужо, дый перад кім жа спавядацца лепш, як не перад Вамі? У грунце гэтага маяго звароту да Вас ляжыць гэтая самая кніжная корць. Чуў я, што маеце

[10] **Пётра Татарыновіч** (1896—1978), каталіцкі сьвятар, пэдагог і публіцыст. Перад Другой сусьветнай вайной працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Рыме, дзе выдаваў беларускі каталіцкі часопіс „Źnič“, заснаваў Беларускую рэдакцыю радыё „Ватыкан“.

самі магчымасьць доступу да некаторых кніжак, што цяперака мне — за сямі пячацямі. У паасобку — „Крывіч“ Ластоўскага[11] . На першы раз мне карцела б даведацца, што там у самым №1 (за 1923 г.) пісала пра назоў „Гуды“[12] , якім нас дражняць ліцьвіны-летувісы-жмудасы. Цяпер гэта актуальна ў сувязі зь некаторымі дыскусіямі зь імі. Дык каб я мог дастаць ад Вас адпаведную выпіску аб гэтым адтуль — быў бы Вам удзячны аж да скону. „Ці ж гэта замнога?“ Дык маю надзею...

Калі б ліставаньне навязалася ў нас з Вамі, напісаў бы й больш, але на першы раз не хачу напрыкрацца. Тым болей, што чуў я ад аднаго нашага сябры, празь якога перасылаю й гэтую цыдулку, што маеце крыху прыкрага ад некаторых залішне разьвязных індывідаў. Праўда, што да гэнага, што цяпер там у Вас з Бэльгіі прыбыўшы й ледзь не да Самога Сьв. Айца дабіцца хоча — дык, знаючы яго, хацеў бы параіць Вам не пераймацца вельмі[13] . Гэта проста авантурысты з надзвычайным аплёмбам і ня меншым анальфабэтызмам ува ўсіх дачыненьнях. Пэўна, шкоды ён нарабіць можа кампрамэтацыяй, але тут я проста раіў бы Вам, адкінуўшы некаторыя далікатныя тармазы, папярэджваць усюды наперад пра гэтага Хлестакова, бо іначай зь ім цяжка.

Ну, тым часам на гэтым і скончу. Яшчэ раз жадаю Вам усяго-ўсяго найпамысьнейшага, спадзеючыся, што не навязну Вам у зубах так, як гэты бэльгіец.

Заўсёды Ваш, А. Адамовіч

### Пётра Татарыновіч да Антона Адамовіча

Высокапаважаны спадар Рэдактар,

Шчыра дзякую за памяць ды навагоднія пажаданьні. Прашу прыняць такія ж і ад мяне. Але я жадаю болей „шчасьлівага“, чым „новага“; ня ўсё бо тое добрае, што новае, так як ня ўсё тое благое, пагарды годнае, што старое.

Ваша „зайздрасьць“ кніжных роскашаў ёсьць самаапраўдальнай. Гэткіх „зайздросьнікаў“ і „пэнітэнтаў“ прыемна было б спавядаць. На жаль, іх так мала! Ці не таму гэта, што „радных“ і „міністраў“ замнога? Гэтым вось апраўдваецца часткова й мая старча-ўпартая корць і прагавітасьць тых „роскашаў“.

Далей. Непатрэбна дамняваецеся, што я „забыўся“ пра Вашу Дастойную Асобу, якую меў гонар спатыкаць, праўду кажаце, толькі „сяды-тады“. Ля Яе бо ўсьцяж віліся думкі, бо ж „Рэдактар“, паміма нашых шырокабуйных ілюзіяў, усё яшчэ, шчыра кажучы, зьяўляецца ў нашым эмігранцка-адраджэнскім віры адзіным усётрымаючым шпянём; тым болей, што Вы былі ім (пішу ня дзеля падхлебніцтва) *„па całą gębę“ ojszystą tową* кажучы. І — ня *„проста сабе nihil“*, як пішаце, а — шпянём тым, водля чутак, астаяцеся й далей, хоць пад іншай назовай, дзеля дыскрэтнасьці якое я пазволіў сабе й далей велічаць Вас — старою...

Ну што ж, замест узаемнай зайздрасьці застаецца толькі ў „адпомсту“ пажадаць: шчасьці Божа ды сьцеражы Божа ад далейшых *„прыкрасьцяў нацыянальна-грамадзкага жыцьця“*!

Вось мне як духоўнаму дык, прызнаюся, крыху стыднавата было з гэтых прыкрасьцяў спавядацца, дык мо й не заслужыў на гэткія тонкаветлівыя спачуцьці, якімі Вы мяне апатольваеце ў Сваім пісьме. Каб Я. Ч. ня тузаў так за язык і кішэнь ды каб не змушаў апраўдвацца штораз мацней, дык мо даклады мае аб тутэйшай сумнай рэчаіснасьці й не былі б так „жырным шрыфтам“ пісаны.

З дазволу Вашага адносна адкрываньня на яе вачэй тутэйшай уладзе тымчасам зафасцынаванай пабожнай позай нашага „героя“, яшчэ, выбачайце, дагэтуль не скарыстаў; шукаю тымчасам іншага спосабу. Можа, горкаасьмяшаючы самадосьлед „Хлестакова“ нашага ацьвярозіць.

Жаданы адпіс тут залучаю. Стараўся зрабіць па-магчымасьці дакладна, ня сьмеючы папраўляць памылак арыгіналу, асабліва пісьменскіх знакаў. Выбачайце за марудзтва. У гэтым мо крыху вінавата й пошта, пісьмо бо Ваша ішло нешта 7 дзён. [...]

На гэтым тымчасам і канчаю, яшчэ раз жадаючы ўсяго найлепшага.

Ваш

*Падрыхтоўка да друку й прадмова Лявона Юрэвіча, камэнтары Алеся Пашкевіча й Натальлі Гардзіенкі*

[11] **„Крывіч“** — беларускі літаратурна-навуковы й грамадзкі часопіс, які выдаваўся Вацлавам Ластоўскім і Клаўдзіем Дуж-Душэўскім з чэрвеня 1923 г. да сакавіка 1927 г. у Коўне за літоўскія ўрадавыя субсыдыі.

[12] Маецца на ўвазе гісторыка-крытычны нарыс Юр'я Верашчакі (Вацлава Ластоўскага) „Аб найменьнях — „Гуды“ — „Крывічы“ — «Русь»“, надрукаваны ў першым нумары „Крывіча“ за 1923 г. (с. 17—24).

[13] Маецца на ўвазе **Янка Чарнэцкі** (1894—1984), грамадзка-палітычны дзеяч. У міжваеннай Польшчы жыў у Ляхавічах, супрацоўнічаў зь беларускімі хадэкамі. Падчас вайны ўзначальваў у Ляхавічах Беларускую народную самапомач. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе ў Рэгенсбурзе быў адным з выдаўцоў газэты „Adradžeńnie“. Пазьней выехаў у ЗША.

**_Аляксандар Асіпчык_**

# ПРАЎДЗІВАЯ ДАВЕДКА[1]

Дзеля таго, што І. Касяк з бацюшкам Лапіцкім 15.11.1957 г. выпусьцілі на мяне спэцыяльны пашквіль зь перакручаньнем майго жыцьця[2] для сваіх ганебных мэт, каб такім чынам зганьбіць мяне за тую крытыку беларускага зарубежжа, у якое яны завялі частку Беларусаў, і з гэтага яшчэ хочуць зрабіць нейкае „геройства“ — я змушаны сказаць аб сабе шчырую праўду, бо я лепш ведаю сябе як нейкі там з глухое вёскі Глыбоччыны Касяк[3] ці яго ашуканчае маркі Лапіцкі, хай і духоўнага сану.

Дата майго нараджэньня зусім правідловая: 1 красавіка 1909 г. Радзіўся якраз у вёсцы Пляшкі, а з Акунінава паходзіла мая матка, у 2-х км ад Пляшкоў. Знаходзяцца яны ў 20 км ад Слоніма на поўдзень па дарозе на Жыровіцы, у кірунку Івацэвіч і Косава ад Берасьце-Менскае чыгункі, таксама ў адлегласьці 20 км.

Бацькі мае называліся Восіп з Магеяў Асіпчык, а маці Паўліна з Савіцкіх. Абое паходзілі зь сялянства, з маёмасьцяў паншчыны нейкага графа Сьлізьня ў Дзявяткавічах. Зазначу й тое, што радзіўся я ў курнай хаце, якая была без падлогі.

Калі выбухла вайна 1914 г., мне было пяць гадоў, а ў шостым, г. зн. 1915 г., неяк у жніўні, бо якраз звозілі снапы з поля ў гумна, наехала з захаду дзіч расейскіх казакаў, якія пачалі гвалтам выганяць людзей у

---

[1] Гэты тэкст быў выдрукаваны ў выглядзе ўлёткі ў Чыкага ў 1957 г. невялікім накладам як частка палемікі з Іванам Касяком.

[2] Маецца на ўвазе: „Хто такі А. А.?“. [ЗША, 1957 г.]. Трэба адзначыць, што ў наступным, 1958-м, годзе пабачыла сьвет публікатка Аляксандра Асіпчыка „Хто ж такі Іван Касяк?“.

[3] Насамрэч Іван Касяк паходзіў зь вёскі Горы на Вялейшчыне. Відаць, уяўленьне пра ягонае глыбоцкае паходжаньне склалася дзеля таго, што падчас нямецкай акупацыі Касяк нейкі час працаваў намесьнікам прэзыдэнта БЦР на Глыбоцкую акругу.





бежанства, падпальваючы хаты. Гэтак і мне прыйшлося зь сям’ёю „эвакуявацца“ зь Беларусі на ўсход, і як памятаю, праехаўшы праз Бытэнь на шлях шашы Берасьце—Слуцк—Магілёў—Калуга, неяк у лістападзе пагрузілі нас у вагоны й адправілі ў Астрахань. Сям’я мая была досыць вялікая: сем асобаў. Таму едучы дарогай, яшчэ разам, бацька мой начаваў пад возам, а пры частых дажджах прастудзіўся на лёгкія й пасьля пяці гадоў памёр на сухоты, ужо ў Сібіры Чэлябінскае губэрні. У хуткім часе яшчэ ўмярлі мае дзьве сястры, і я астаўся з маткай і дзьвюма сёстрамі, адной малодшай, другой старэйшай.

Помню, чатыры гады хадзіў я да школы, там навучыўся пачатковае асьветы, пры якой вучылі й стараславянскай мовы. Гэта было 1916—1920 гг. Летам неяк старэйшая мая сястра выйшла замуж за ўкраінскага каляніста да вёскі Раманава, і мы асталіся трое: матка, я адзінаццацігадовы й сястра восем гадоў.

Раз праходзіла нейкае войска, якое называлі „белым“, а другі раз увайшлі „чырвоныя“, і пачалі ўстанаўляць сваю ўладу „без цара й Бога“.

Неяк увосені 1921 г. валасны камісар паклікаў усіх „бежанцаў“ і паведаміў ім, хто хоча вярнуцца на сваю радзіму, можа зьбірацца, вайна кончана, а падводы адвязуць на чыгуначную станцыю, каб пагрузіць і выслаць на захад. Нашыя землякі грамадна кінуліся да выезду, а ў нас было два выбары: астацца ў сястры, якая мела із сваім мужам гаспадарку, або ехаць на сваю бацькаўшчыну.

Я як дзіця не разумеў усіх падзеяў, але зацікавіўся тым назовам, што наш край называлі Беларусьсю, і вось я ўпёрся, каб пабачыць гэтую „Белую Русь“, дзе мы радзіліся й жылі. Маці неахвотна згаджалася на маю просьбу, але я ўзяў яе плачам, і мы, сабраўшыся зь іншымі, выехалі праз Чэлябінск—Екацерынбург—Самару—Смаленск—Менск—Слонім на сваю родную бацькаўшчыну. Ехалі мы зімою. Ехалі ў таварных вагонах. Навокал быў холад і голад, а хвароба й сьмерць былі штодзённым здарэньнем дня й ночы.

Пакуль заехалі да Слоніму, амаль усё распрадалі за кусок хлеба, не знаходзячы ад нікога апекі. Нат цёплае вады не было на станцыях, а каб дзе атрымаць якую помач, трэба было ісьці ў горад, стацца жабраком або днямі стаяць у чарзе пры ўрадах.

Неяк пасярод зімы наш эшалён вагонаў тры дні стаяў на станцыі ў Пензе. Мама мая пайшла шукаць у горадзе нейкае дапамогі, але ў гэтым часе ўзьнік пажар між стоячых вагонаў, а каб наш эшалён уратаваць ад пажару, вывезьлі на наступную станцыю. Маці мая асталася. Шукаючы нас, толькі за некалькі дзён знайшла, але ўжо будучы хворай

і галоднай. Цяжкае запаленьне лёгкіх і параліж аблажылі яе забойча. Штось у працягу месяца, калі наш эшалён вагонаў стаяў у Смаленску — маці мая ўмерла ня толькі ад хваробы, але й голаду й холаду. Страшная сьмерць была мае маці...

Дзесь у канцы лютага былі мы ўжо ў Баранавічах, а неяк у сакавіку 1922 г. у Слоніме. Зусім зразумела, што ў гэткай бядзе нас дваіх сіратаў ніхто не хацеў браць, каб мець лішні клопат, таму перавёз нас Чырвоны Крыж да прытулку ў будынкі Жыровіцкага манастыра, месца дзяржаўнае апекі. Неяк вясною перавязьлі нас у групе іншых дзяцей у Варшаву, а летам да Чанстаховы. Адзеўшы й накарміўшы, вучылі нас у школе, дзяўчатаў асобна, а хлопцаў асобна. Гэтак прайшло да 1926 г.

З канцом школьнага году некаторых старэйшых хлопцаў летам перавезьлі зноў у Варшаву й перадалі ксяндзам Салезыянам[4], якія ад сябе накіравалі ў свой маёнтак, што падаравала ім кн. Марыя Радзівіл у Дварцы пад Наваградкам, дзе яны, адчыніўшы Рамесьленую школу, вучылі падрастаючых хлопцаў рамясла. Я выбраў сабе сталярства й за тры гады скончыў адпаведны курс, маючы пры гэтым і тэарэтычную школу, якая вялася штодзённа чатыры гадзіны вечарам у праграме сярэдняе школы.

Вясною 1930 г. пусьцілі 20-гадовых рамесьнікаў, выдаўшы адпаведныя пасьведкі, на волю самастойнага жыцьця. Бясспрэчна, ехаў я на бацькаўшчыну, там жа мая радня й зямля, і належыцца мне нейкая арэнда. Адбыўшы лета, гэтага ж часу паклікалі на пабор у войска, а восеньню ўжо накіравалі да 4 палка лётчыкаў у Торунь, дзе й адбыў няцэлыя два гады вайсковае службы. Усяго — 10 гадоў навукі.

Па войску, адведаўшы сваю родную вёску, накіраваўся да Вільні, і жыў у ёй тры гады, да 1935 г. Меў я тады 26 гадоў. І дапраўды, прызнаюся шчыра, што праз тры гады нічога я ня бачыў разумнага, у духу беларускім, каб сёньня ўспамінаць той час, што Вільня беларускі горад, па сваім зьмесьце й насельніцтву. Проста трудна было пабачыць нешта беларускае, а нашыя дзеячы такія самыя былі сварлівыя, як яны сёньня на эміграцыі. Праўда, я іх тады ня ведаў, сёньня я іх ведаю ўсіх, а „Ўспаміны“ В. Рагулі[5] яшчэ раз пацьверджваюць, якія яны ўзапраўды.

[4] **Салезіяне** (салезіянцы) — манаскі ордэн у Каталіцкім касьцёле, заснаваны ў сярэдзіне XIX ст. у Італіі. За асноўную мэту дзейнасьці гэтага ордэну дэкляравалася шчырае служэньне моладзі.

[5] Маюцца на ўвазе ўспаміны Васіля Рагулі, выдадзеныя ў 1957 г. у Нью-Ёрку (перавыдадзеныя ў 1993 г. у Менску).





Штонядзелю і ў сьвяты наведваў я царкву, аднак нічога беларускага ў ёй ня бачыў. Дзе былі тады нашыя дзеячы? Бог іх ведае. Ня раз наведваў і Пятніцкую царкву[6], і, апрача чатырох бабак і некалькі асобаў хору, царква была пустою. А гэта ж быў беларускі прыход, нават на аналоях віднеліся нацыянальныя колеры бела-чырвона-белыя. Найпрыгажэй, аднак, сьпявалі ў сэмінарскай Сьв. Тройцы. Але моладзі ў ёй зусім не было, а тут жа на панадворку была й Дух. сэмінарыя й Бел. гімназія. Праўда, часамі ладзіліся спэктаклі ў гімназіі, але нечага асаблівага мала было. Бачыў у кнігарні й беларускія, і якраз накупляўшы кніжак, прывёз іх у сваю родную вёску, каб шырыць беларускую асьвету. На жаль, большую частку пазьней забрала польская паліцыя.

Чатыры гады да 1940 г. быў я паміж сваіх суродзічаў і ня быў згоршаньнем для сваіх землякоў. Пабудаваўшыся, быў прыкладам культуры й беларускасьці. Ня скрыўдзілі ані мяне, ані я каго, калі прыйшлі бальшавікі, хаця ў першым месяцы ня быў дома, будучы змабілізаваны да войска 5-га палка лётчыкаў у Лідзе. Калі шчасьліва вярнуўся, зараз запрасілі мяне ў Акунінава за настаўніка ў школе, дзе прабыў два школьныя гады. У Слонім пазьней перабраўся таму, што перад вайной купіў сабе там пляц і падчас ужо бальшавіцкае акупацыі перанёс свой дом з Пляшкоў, каб жыць у горадзе, а не калхозе.

З надыходам немцаў 1941 г. жыў месяц-два ў Акунінаве, а пазьней даручыў мне школьны інспэктар (Грынко) арганізаваць у Слоніме Рамесную школу, даўшы для фірмы-рэпрэзэнтацыі папоўскага сынка (20 год) Кашэня. Школа пачала сваю дзейнасьць у канцы верасьня, і паміж 250 вучняў шмат было працы. Патрабаваліся ня толькі настаўнікі, але й інструктары па рамясьле, а гэта ўсё было ў жыдоўскіх руках. Але неяк адчыніліся чатыры прадметы: кравецтва для дзяўчатаў і хлопцаў, сьлесарства-кавальства для хлопцаў і шавецтва ды вырульніцтва. Школьная навука праводзілася на перамену групаў кожны дзень. Мне прыйшлося выкладаць гісторыю й геаграфію Беларусі й часта замяняць іншыя прадметы, да якіх бракавала настаўнікаў. Працы хапала, а тут яшчэ паклікалася ў Камітэт Самапомачы, да настаўніцкага хору, выступленьні, паездкі й г. д. Мы ведаем, як нам бракуе ініцыятараў, а ўсе хаваюцца ў шчыліны. А Слонім быў жа горад, і трэба было яго беларусізаваць на свой спосаб.

[6] **Пятніцкая царква** — віленская царква, збудаваная ў XIV ст. У міжваенны час была цэнтрам беларускага праваслаўнага жыцьця. У 1920-х гг. у ёй служыў вядомы беларускі сьвятар Аляксандар Коўш, а з канца 1920-х гг. лічылася бажніцаю Віленскай беларускай гімназіі.

У міжчасе на весну 1942 г. ажаніўся я з інструктарам нашае школы Верай Сілівончык, якая, як мне ведама, адбыла 10 гадоў ссылкі ў г. Магадане не за што іншае, а за маю й сваю працу для беларускай нацыянальнай справы ў школьным прадмеце.

Неяк увосені 1943 г. з прыездам тэатральнае групы Менскага тэатру прайшлі арышты з даносу мясцовага беларускага актыву на сваю апазыцыю. Між іх і я быў арыштаваны, бо ж знаўся з аднымі й з другімі, і вельмі быў зьдзіўлены, чаму яны ня хочуць жыць у згодзе. Арышты не былі навіной у горадзе, арыштоўваліся нягледзячы, хто на каго падаваў данос, абы што-небудзь можна было выдумаць. Найбольш дзіўна было, што немцы арыштоўвалі беларусаў-нацыяналістаў, а як цяпер аказваецца — гэта рабілася дзякуючы даносам падобных да Касяковых пашквіляў і выконвалася тая прыказка: бі свайго, каб чужы баяўся. Да найбольш арыштаваных у Слоніме прычыніўся Дакіневіч[7] і Данілюк, безь віны вінаватых, проста, здавалася ім, і скарэй беглі да немцаў, а тыя выслалі сваё СД і паарыштоўвалі. Таму Дакіневіч пазьней даступіўся даверу Астроўскага й стаўся намесьнікам БЦР у Слонімскай акрузе. А празь яго ў цюрму папалі: Стэфа Лыскавец[8], народная сьпявачка, Сяргей Новік (Пяюн)[9], дырэктар Слонімскага музэю, паэт, што й сёньня сьпяваем яго песьню „На чужыне“, а ўратаваўшы сваё жыцьцё ў немцаў сёньня высланы ў Сыбір, паэт Міско (Івэрс)[10] уцёк у лес, а жонку яго

[7] **Язэп Дакіневіч** (1906—?), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Перад вайной быў афіцэрам польскага войска. Падчас нямецкае акупацыі — афіцэр Беларускае Краёвае Абароны, начальнік БКА ў Слонімскай акрузе. Сябра Беларускай незалежніцкай партыі, удзельнік арганізацыйных нарадаў партыі ў Менску. З 1944 г. — на эміграцыі., спачатку ў Нямеччыне, а пасьля перабраўся ў Польшчу.

[8] **Стэфа Лыскавец** — сьпявачка, артыстка Менскага беларускага тэатру. Загінула ў выніку акцыі менскіх савецкіх падпольшчыкаў.

[9] **Сяргей Новік-Пяюн** (1906—1994), паэт і празаік. На пачатку 1940-х гг. працаваў дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музэю. У 1943 г. арыштаваны СД; адпраўлены ў лагер смерці „Калдычэва“. У 1944 г. падчас расстрэлу групы вязьняў быў паранены, прыкінуўся мёртвым, што й выратавала. Пасьля вызваленьня Слоніму працаваў дырэктарам Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музэю. У сьнежні 1944 г. арыштаваны органамі НКДБ; асуджаны за „здраду радзіме“ на 10 гадоў пазбаўлення волі й адпраўлены на Калыму. Вызвалены й рэабілітаваны ў 1958 г. У 1959 г. вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясьвіжы; з 1960 — у Менску.

[10] **Анатоль Івэрс** (сапр. **Іван Міско,** 1912—1999), паэт. У часе нямецкай акупацыі быў адным з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, ⇨ зь лістапада 1943 г. — партызан брыгады імя Ракасоўскага, у сакавіку 1944 г. абраны сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэту. Выдаваў антыфашысцкую газэту „Беларусь“. У паваенныя гады працаваў у Слонімскім гарсавеце, у рэдакцыі раённай газэты „За перамогу камунізму“, у лесахімічнай прамысловасці. У 1976—1984 гг. — сакратар слонімскага раённага аддзяленьня Таварыства аховы помнікаў гісторыі й культуры.





замучылі ў СД, настаўнік Сенько, што вучыўся ў Віленскай гімназіі, Пытэль, перакладчык пры Бібіц камісару[11], заступнік бургамістра гораду Мароз, др. Войтанка й другія. Палавіну з арыштаваных выпушчана, а іншыя высланы ў Калдычава па разглядзе ўжо Баранавіцкага СД.

І сёньня было б тое самае, каб прыслухоўваліся чужынцы на даносы ад Касяка ці „крывічоў“.

Пасьля я атрымаў працу ў гарадзкой бібліятэцы, у народным доме й культурным згуртаваньні як загадчык усіх трох гэтых установаў. Два разы езьдзіў у Вільню па беларускія кніжкі, і тады толькі мог бачыцца зь некаторымі віленскімі дзеячамі. Быў і ў касьцёле кс. А. Станкевіча[12], і на рэфэраце ў Беларускім нацыянальным камітэце. Езьдзіў тры разы ў Менск, ад Самапомачы на дажынкі й на ІІ-гі Кангрэс і скрозь падаваўся як настаўнік, а ня нейкае СД.

Хто я такі? Можа, Касяк дакладней спытаецца ў Суравога[13] ў Лёндане, Цупрыка[14] ў С.-Рывэры, Анцуту ў Пасэйку, Кіслага[15] ў Патэсоне —

[11] Імаверна, маецца на ўвазе „гебітскамісар“.

[12] **Адам Станкевіч** (1891—1949), грамадзка-палітычны, рэлігійны й культурны дзеяч, адзін з заснавальнікаў і лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Цягам усёй сваёй сьвятарскай дзейнасьці зьвяртаўся да вернікаў з казанямі на беларускай мове. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у віленскім касьцёле сьв. Міхала — менавіта яго й мае на ўвазе А. Асіпчык.

[13] **Барыс Суравы** (1907—1998), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар, кіраўнік СБМ на Слонімскую акругу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Вялікабрытаніі. Быў сярод заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, старшыня Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў.

[14] **Іван Цупрык** (1913—1983), грамадзкі дзеяч. Выпускнік Навагрудзкай беларускай гімназіі й Варшаўскага ўнівэрсытэту. З 1944 г. — на эміграцыі, з 1950 г. жыў у Саўт-Рывэры (ЗША). Актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху.

[15] **Канстанцін Кіслы** (1898—1980), грамадзка-культурны дзеяч. Перад вайной і падчас яе арганізоўваў беларускае культурнае жыцьцё ў Беластоку. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Бэльгіі, з 1956 г. — у ЗША. У канцы 1970-х гг. вярнуўся ў Беласток.

яны ўсе ў беларускім зарубежжы, і я не баюся таго, што яны скажуць дрэннага аба мне. Суравы нават скажа, што я быў праз увесь час апекуном СБМ у Слоніме й ня меў ніякага становішча ўрадовага, каб мучыць людзей, як гэта рабіў Касяк.

Выехаў на эміграцыю, каб уратаваць сваё жыцьцё, бо зашмат уцягнуўся ў працу, што бальшавікам не спадабалася. Хаця б толькі за тое, што на сьвяткаваньне Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка казаў разьвесіць беларускія сьцягі на брамах царквы й касьцёлу, на стражацкай вежы й народным доме, а на магіле палеглых БКА паставіў крыж Ярылы. Усё гэта была мая ініцыятыва 1944 г., калі БЦР выслугоўвалася немцам, а мне прыходзілася вучыць босых жаўнераў БКА гісторыі й геаграфіі, каб сьпярша навучыць, а пазьней вымагаць абавязкаў сьведамасьці.

Аб эміграцыйных падзеях менш можна расьпісвацца. Я дапраўды спачатку верыў, што Касяк із сваім зарубежжам неяк навядзе парадак, але цяпер — канцы ў воду.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Алеся Пашкевіча*



*Эпісталярыі*

**Натальля Гардзіенка**
*Менск*

# ЛЮДВІК ГАЛУБОВІЧ (ЗАРЭЧНЫ) І ДЗЬМІТРЫ КАСМОВІЧ У ЛІСТАХ 1951—1953 ГГ.

У архіве Дзьмітрыя Касмовіча (1909—1991), што захоўвае цяпер Згуртаваньне беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“[1], можна знайсьці шмат цікавых лістоў пачатку 1950-х гг., калі беларускія палітычныя дзеячы намагаліся актыўна прыцягнуць увагу ўрадаў і спэцслужбаў заходніх краінаў да беларускага пытаньня. Адным з тых, хто працаваў у згаданым кірунку, акрамя самога Касмовіча, быў Людвік Галубовіч (на эміграцыі Зарэчны, 1915—1964).

Даваенная й ваенная біяграфія Касмовіча была больш-менш вядомая калегам на пачатку 1950-х дзякуючы ягонай актыўнасьці. Дзеяч захаваў вялікае кола кантактаў з часоў былой дзейнасьці, нездарма яго ўпаўнаважылі ўзначаліць замежны сэктар Беларускай незалежніцкай партыі (чалавеку невядомаму гэта наўрад ці б даверылі). Ведаем пра Дзьмітрыя Касмовіча й мы — дзякуючы напісаным пазьней ягоным успамінам[2]. А Людвік Галубовіч як быў на пачатку 1950-х, гэтак і цяпер застаецца асобай малавядомай. Існуюць некалькі варыянтаў ягонай аўтабіяграфіі[3], якія не зусім суадносяцца адзін з адным. Дакумэнты ж

[1] Падрабязьней пра архіў гл.: Гардзіенка, Натальля. Архіў Дзьмітрыя Касмовіча // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 482—498.

[2] Успаміны Дзьмітрыя Касмовіча публікаваліся на старонках часопісу „Спадчына“ (№№2—6, 2001; №№1—4, 2002), а пазьней пабачылі сьвет асобнай кнігай (Касмовіч, Дзьмітры. За вольную і сувэрэнную Беларусь. Вільня, 2006. — 224 с.).

[3] Першы варыянт распаўсюджваў сам Галубовіч з 1952 г., размножыўшы яго на рататары. Другі, знойдзены ў архіве БІНіМу, раней ужо друкаваўся на старонках „Запісаў“. Гл.: Юрэвіч, Лявон. Танальнасьць біяграфіі як энцыкляпэдычнага жанру // Запісы БІНіМ. №30. Нью-Ёрк—Менск, 2006. С. 223—230.

з архіву Дзьмітрыя Касмовіча дадаюць цікавыя рысы да біяграфіі гэтага героя, і ня толькі пачатку 1950-х.

У адной з тэчак знойдзены ліст жонкі Людвіка Галубовіча Антаніны, напісаны праз чатыры гады пасьля сьмерці мужа. Гэты ліст раскрывае некаторыя моманты даваеннага жыцьця Галубовіча (мова арыгіналу захаваная):

*„Мюнхенгладбах 30.12.68*

*Дорогой Дима!*

*Письмо я Ваше получила, за которое я Вас очень благодарю. Особенно что Вы мне хочете помочь*[4]*. Дима, Вы спрашиваете, почему нужно 6 лет, если только не хватает 4 месяца? По социальным законам нужно иметь самое наименьшее 60 месяцев, которые официально заферзихерованы*[5]*. Людвику признали 36 месяцев немецкого вермахта, и 20 месяцев он работал на фабрике. Так что всего 56 месяцев, а 4 месяца не хватило. У немцев вышел новый закон, что хайматлозе ауслендер*[6] *имеют право сделать нахферзихерунг*[7] *за годы, которые работали дома. Для меня было бы лучше всего иметь посветку за 2 года, что Людвик работал в Хабаровске, которую Вы имеете. Дима, почему Людвик работал от 16 лет, это я Вам хочу описать. Когда Людвик оканчивал среднюю школу, у него заболел отец, так как у них была большая семья и все дети были еще малые, то Людвик должен был кинуть учебу и пойти работать, но в 16 лет в учреждение на работу не брали, а Людвик хотел работать и учиться. Поэтому он прибавил себе два года, когда выставлял паспорт, и как 18-летний поступил на работу в Минске в Министерстве (ЛЕСБЕЛ). Вначале как помощник*

[4] Крыху раней, у 1965 г., Антаніна Галубовіч ужо зьвярталася да Дзьмітрыя Касмовіча па дапамогу ў зьбіраньні дакумэнтаў, неабходных для атрыманьня пэнсіі па сьмерці мужа. Аднак іншых лістоў ад гэтай жанчыны з пэрыяду 1965—1968 гг. у архіве ня знойдзена.

[5] Тут, імаверна, вытворнае ад нямецкага слова *versichern* — „спраўджваць, пацьвярджаць“. Маецца на ўвазе, што тыя месяцы працы афіцыйна прызнаныя й пацьверджаныя дакумэнтамі.

[6] ***„Хайматлозе ауслендер“*** (ад ням. *heimatlos ausländer*) — замежнік без радзімы, уцякач.

[7] ***„Нахферзихерунг“*** (ад ням. *Nachversicherung*) — пацьверджаньне ранейшым часам.





*секретаря, а через несколько время выбился выше и был секретарем в каком-то отделе*[8]*.*

*И так ему удалось днем работать, а вечерами он окончил среднее образование. Когда он хотел пойти студеевать, то в это время он уже добро зарабатывал, и нужно было поддерживать семью, поэтому он отложил студию на пару год*[9]*. Но в 1935 году была большая чистка, и он попал разом с другими как враг народа на Сибирь, на 5 лет заключения, но Людвика освободили на год раньше. Он должен был как вольнонаемный два года работать в Хабаровске*[10]*. Вот этих два года мне нужно и доказать сверками, или же 3 или 4 года, что он работал в Минске.*

*Дима, никакой роли не играет для ферзихерунга*[11] *с каких год, от 16 или от 18. Главное, что это важно посветку сделать, как я Вам подала. Потому что стоит все так в антраге*[12]*, что я делала для ренты,*

[8] У варыянце біяграфіі з архіваў БІНіМу Людвік Зарэчны сьцьвярджаў пра значна большыя ўласныя працоўныя посьпехі: *„У юнацкія гады ў часы росквіту так званага НЭПу, калі бальшавізм яшчэ не паказаў свайго сапраўднага аблічча, прымкнуў да Камуністычнага Саюзу Моладзі (Камсамолу) Беларусі — ЛКСМБ. Працаваў у дзяржаўных установах БССР: быў Сакратаром Аддзелу Кадраў трэсту „Лесбел“, Сакратаром Народнага Камісара Земляробства БССР, Загадчыкам Асабовага Складу Наркамзема й Сакратаром Калегіі Наркамзема БССР. Працаваў Кіраўнікòм Спраў Паўнаважнага Прадстаўніцтва Народнага Камісарыяту Саўгасу СССР пры СНК БССР, быў Сакратаром Спэцыяльнае Калегіі Вярхоўнага Суда БССР“* (Юрэвіч, Лявон. Танальнасьць біяграфіі... С. 226).

[9] У згаданай вышэй аўтабіяграфіі Галубовіч сьцьвярджаў, што скончыў вышэйшую юрыдычную асьвету.

[10] У той самай аўтабіяграфіі сам Галубовіч падаваў іншую вэрсію свае працы ў лягерах і пасьля іх: *„У лягерох прымусовае працы ў БАМлягу НКВД працаваў як вязень на розных работах: ляпіў цэглу, грузіў пясок, капаў канавы, а нарэшце быў і ў лягернай адміністрацыі: быў Інспэктарам Атэстацыйнае Камісіі, Старшым Інспэктарам Аддзелу Прапаганды (КВЧ), быў і заступнікам начальніка гэтага ж аддзелу. З БАМлягу нарэшце перакінулі ў так званы Бурлаг НКВД. У гэтым лягеры пэвен час быў Камэндантам Штабу, а па звальненьню ад кары змушаны быў надалей заставацца на працы ў гэтым жа лягеры й каля двух гадоў займаў становішча Начальніка Адміністрацыйна-гаспадарчае Часьці Штабу Бурлягу НКВД“* (Юрэвіч, Лявон. Танальнасьць біяграфіі... С. 227).

[11] *„Ферзихерунг“* (ад ням. *versicherung*) — пацьвярджэньне, страхоўка.

[12] *„Антраг“* (ад ням. *antrag*) — заява, хадайніцтва.

*и если что-нибудь переделывать, то получится путаница. Дима, для Вас я хочу еще сообщить, почему Людвик опять имел правильный год рождения. В 1942 году, когда Людвик был в немецком плену, то отец Людвика хотел забрать его из лагеря*[13]*. Для этого нужна была посветка, что Людвик действительно его сын. И отец принес старую метрику, в которой стоял год рождения не 1913, а 1915, и поэтому Людвик добавленных 2 года так потерял. Дорогой Дима, это я Вам хотела вкратце описать, как получилось, что Людвик от 16 лет был уже на работе. Но это ничего не имеет общего с посветкой, которую мне нужно. Дима, я и не знаю, какую Вы хочете выставить, из Минска или из Хабаровска. Если Вы выставите из Минска, то нужно два светки, а если из Хабаровска, то только один светок. Дима, мне нужно ту или иную, а не на 6 лет, как Вы зразумели. Извините, что я так плохо пишу, но я думаю, что на машинке лучше поймете. Дима, насчет архива, то я еще ни одной поперки не пошевелила, и это все нужно разобрать. Как я это сделаю, то я Вам пришлю. Еще раз Вам большое спасибо, что Вы стараетесь нам помочь. У нас слава богу все живы и здоровы, чего и Вам желаем от всей души. Приветанье Нади и деткам.*

*Ваши Тоня и дети*
*А. Голубович“*

Нічога невядома болей наконт перадаваньня Антанінай Галубовіч Касмовічу архіваў мужа. Прынамсі сярод папераў кіраўніка БНП і Беларускага вызвольнага фронту, што трапілі ў Менск, няма дакумэнтаў, якія маглі б належаць Галубовічу. Як не захавалася тут і іншых лістоў ягонай жонкі. Ёсьць толькі некалькі лістоў самога Людвіка й чарнавікоў адказаў Касмовіча, напісаных на пачатку 1950-х.

[13] Галубовіч сьведчыў пра сваё жыцьцё на пачатку савецка-нямецкай вайны наступным чынам:
*„Ад працы ў лягерох прымусовае працы ў Сібіры канчаткова звольніўся ў чэрвені месяцы 1941 г., але па дарозе да дому захапіла вайна. Дома прабыў толькі адныя суткі й быў змабілізаваны на фронт ваяваць супроць немцаў. У Чырвонай Арміі скончыў кароткатэрміновую афіцэрскую школу і ў ранзе лейтэнанта заняў становішча Заступніка Начальніка ПФС Штабу палка 19-й Арміі, якая дзейнічала на Заходнім Фронце. У адным з баёў быў ранены й захоплены немцамі ў палон.*
*Знаходзячыся ў палоне да вясны 1942 г., працаваў санітарам у нямецкім вайскова-палявым шпіталі №2/531, які знаходзіўся ў горадзе Вязьма. Нарэшце, як беларус, быў звольнены з палону...“* (Юрэвіч, Лявон. Таленасьць біяграфіі... С. 227).





Гэта быў час, калі пачыналася халодная вайна й заходнія палітыкі ды вайскоўцы актыўна кантактавалі з прадстаўніцтвамі народаў, што знаходзіліся ў зоне ўплыву СССР. Яшчэ не было зразумела, у што ўсё гэта выльецца: нехта чакаў вайны, нехта спадзяваўся на палітычнае ўзьдзеяньне на савецкае кіраўніцтва. Яшчэ толькі закладаліся ў Нямеччыне праекты Інстытуту вывучэньня СССР, радыё „Свабода“, радыё „Вызваленьне“... У беларускіх дзеячаў былі таксама розныя надзеі і кантакты з заходнімі палітыкамі, а таксама своеасаблівая барацьба за ўплыў на іх. З пачатку 1950-х і Дзьмітры Касмовіч, і Людвік Галубовіч пачалі актыўна ўдзельнічаць у гэтай барацьбе. Яе акалічнасьці ды тыя варункі, у якіх адбываліся падзеі палітычнага жыцьця ня толькі беларускай эміграцыі й ня толькі ў Нямеччыне, выразна відаць зь ліставаньня двух дзеячаў.

Дзьмітры Касмовіч на той час ужо пасяліўся (як аказалася, на стала) у Штутгарце (*Stuttgart*), узяўшы прозьвішча Кісялеўскі, а Людвік Галубовіч, назваўшыся Зарэчным, спачатку жыў у Білефэльдзе (*Bielefeld*), потым перабраўся ў Лянгенфэльд (*Langenfeld*). Першы зь лістоў, сярод іншага, пацьвярджае колішняе знаёмства Галубовіча з Касмовічам з часоў вайны:

*„Людвік Галубовіч,*
*(21-а) Білефэльд/Вэстф.*
*Шусьлерштраса №8/о*

*24 лютага 1951 году*

*Вельмі шаноўны Дзядзька Дзіма!*

*Даруйце, калі ласка, што так велічаю, бо зараз усё так пераблытана, што інакш і не выпадае велічаць.*

*Вы напэўна не дагадаецеся, ад каго можа быць гэты ліст — прозьвішча маё хаця і не эмігранцкае, але зь цягам часу яно не засталося ў Вас у памяці, напэўна? Але каб не было нейкага непрыемнага разважаньня, пакуль што напомню Вам, хто я такі: можа, памятаеце старога Бярдзяева ў Смаленску — а ў яго працаваў калісь адзін беларус, эвакуіраваны із Вязьмы. Пазьней, у 1943 г., гэты самы беларус быў у Ст. Дарогах, і Вы зь Вітушкай*[14] *наведвалі яго, калі прыяжджалі да Кобзава. Ён быў у Вас у Менску, калі ехаў на экскурсію ў*

[14] Маецца на ўвазе **Міхась Вітушка** (1907—2006), вайсковы дзеяч. У 1941—1944 гг. — арганізатар вайсковых антысавецкіх аддзелаў на Смаленшчыне, Браншчыне, Магілёўшчыне. З 1945 г. узначальваў нацыянальны партызанскі рух на тэрыторыі БССР.

*Нямеччыну, і Вы сустракаліся зь ім на зьезьдзе БЦР у Эльвангене ў 1948 г.*[15] *Адным словам, Вы мяне павінны памятаць!*

*Адрас Ваш я атрымаў ад Радаслава К.*[16]*, калі ён быў яшчэ ў Гёкстары і доўгі час зьбіраўся напісаць да Вас, але справа, аб якой неабходна было з Вамі пагутарыць, усё неяк адкладалася па не залежных ад мяне абставінах. А справа гэта наступная. Мае прыяцелі па рабоце (ангельцы) зараз вельмі зацікаўлены Беларускім пытаньнем, асабліва пытаньнем збройнае сілы Беларусі ў часе акупацыі. Пад гэтым пытаньнем разумееца БКА і батальёны О.Д. Адносна БКА справа больш-менш высьветлена, а вось О.Д. — мне хоць і знаёма, але ёсьць пэўныя непаразуменьні. І мне трэба парадзіцца зь людзьмі, якія гэта пытаньне больш-менш ведаюць. Радаслаў К. з гэтай справай не знаём, да і к таму ж яго няма зараз у Эўропе — ён выехаў да сваёй дачкі ў Аргентыну, выехаў яшчэ перад Калядамі, і Ваш апошні ліст я скіраваў да яго ў Аргентыну. Выехаў, можна сказаць, зусім неспадзявана, і калі выяжджаў, дык прасіў мяне, каб я асабліва не распаўсюджваў ягоны выезд з Эўропы, бо для эміgranцкіх кругоў ён лічыцца ў Эўропе. І таму прашу Вас, каб Вы гэта таксама трымалі ў сакрэце.*

*Вярнуся ж зноў да цікавячага пытаньня. Напэўна ў наступным тыдні я атрымаю заданьне паехаць у Мюнхэн і па дарозе буду ў Штутгарце. Дык ці не былі б Вы настолькі ветлівы і ці зрабілі б так, каб я мог заехаць да Вас у Эсьлінген? Я буду ехаць цягніком і толькі сам адзін. Буду таксама прасіць, калі часам пытаньне, аб якім буду з Вамі гутарыць, будзе больш-менш аб'ёмістае, то ці не згадзіліся б Вы распрацаваць яго тэхнічна? Гэта справа будзе не за дзякуй, безумоўна. Вось, усё тое аб чым хацелася з Вамі падзяліцца!*

*Як жа асабістае пытаньне адносна Вашае эміграцыі? Я чуў ад Рад. К. не зусім прыемнае ў гэтым напрамку*[17]*... Як здароўе Ваша і Вашае сям'і? — Ад Мая*[18] *ведаю, што ў Вас расьце сынок...*

*На гэтым скончу. Вельмі прашу, адкажэце мне як найхутчэй, бо Ваш адказ у выпадку, калі ён зацягнецца, будзе тармазіць маю справу. Буду вельмі рад, калі Вы не адмовіце мне ў маёй просьбе. І так, бывайце здаровы! Жадаю Вам і сямейству ўсяго-ўсяго самага найлепшага!*

*З глыбокай пашанай, Людвік Галубовіч*

(рукапісны дадатак 1)

*Ліст шлеце на адрас:*
*Ludwig Golubowitsch*
*(21a) Bielefeld/Westf.*
*Schuslerstrasse №8/o*

(рукапісны дадатак 2)

*Было б вельмі добра, каб Вы вызначылі тэрмін, калі можна з Вамі сустрэцца? Мне думаецца, было б лепш у нерабочы дзень, калі Вы будзеце не заняты ў IRO. Адным словам, мяркуйце, калі ласка, самі“.*

Згаданы ліст пацьвярджае зьвесткі пра супрацу Галубовіча з брытанскімі акупацыйнымі ўладамі. Прынамсі, у „БІНіМаўскай“ аўтабіяграфіі сьцьвярджалася, што з 1949 да 1953 г. ён працаваў у *„сыстэме Брытанскай Кантрольнай Камісіі на Нямеччыну на становішчы Дарадчыка па пытаньнях савецкае сыстэмы й яе ворганаў“*. Імаверна, менавіта з гэтай працай зьвязаная неабходнасьць падаць інфармацыю пра БКА і ОД. Насьцярожвае іншае — у згаданай вышэй аўтабіяграфіі Галубовіч (Зарэчны) сьцьвярджаў, што сам у часе вайны працаваў начальнікам паліцыі (ОД) гораду Вязьмы, а пазьней Вяземскай акругі. І калі гэта праўда, дык незразумела, навошта яму для напісаньня інфармацыі неабходна было радзіцца *„зь людзьмі, якія гэта пытаньне больш-менш ведаюць“*. Гэта ізноў адносна таго, чым насамрэч займаўся Галубовіч у Беларусі ў гады нямецкай акупацыі.

Відавочна, што Касмовіч быў патрэбны Галубовічу ў ягонай працы ня толькі як крыніца інфармацыі, але й як ідэйны саюзьнік у шэрагах адноўленай БЦР, а таксама як памочнік у наладжваньні „вызвольнай барацьбы“ з дапамогай заходніх спэцслужбаў. Менавіта таму Галубовіч пасьпяшаўся й асабіста спаткацца з Касмовічам. Сустрэча адбылася 11 ці 12 сакавіка 1951 г. Пра яе вынікі, а таксама пэўныя надзеі на арганізацыю падпольля на савецкай тэрыторыі, далейшае разьвіцьцё падзеяў у сьвеце і ў Беларусі гаворыцца ў наступным лісьце. Тут сярод іншага

[15] Маецца на ўвазе Пленум БЦР, які адбыўся 8—9 траўня 1948 г., на якім аднавілася дзейнасьць БЦР як палітычнай структуры.

[16] Маецца на ўвазе прэзыдэнт БЦР Радаслаў Казіміравіч Астроўскі.

[17] Дзьмітры Касмовіч, як і іншыя беларускія эмігранты, намагаўся выехаць зь Нямеччыны на стала ў ЗША. Аднак з гэтым узьніклі складанасьці, у тым ліку й зьвязаныя зь ягонай дзейнасьцю ў часы Другой сусьветнай вайны. Паводле інфармацыі з карэспандэнцыі Дзьмітрыя Касмовіча з амэрыканскімі беларусамі, яго нават зьнялі з парахода, на якім мусіў накіроўвацца ў ЗША.

[18] Маецца на ўвазе Эмануіл Ясюк, які ў той час жыў у ЗША.

варта зьвярнуць увагу й на пошукі інфармацыі пра Міхася Вітушку, а таксама першыя згадкі пра паездкі Галубовіча „ў той бок“, г. зн. на савецкую тэрыторыю.

*„Білефэльд, 22 сакавіка 1951 г.*

*Даражэнькі Дзядзька Дзіма!*

*Шлю Вам і Вашаму сямейству маё шчырае прывітаньне і самыя найлепшыя пажаданьні на будучыню.*

*Дадому дабраўся ў мінулую суботу а 7-й гадзіне раніцы. Ехаць было не зусім добра — было мала мейсц, і таму ўсю ноч прыйшлося ня спаць.*

*Учора быў у мяне мой шэф — др. Эрдман. Перадаў я яму для перакладу тыя абодва нумары газэты з матар'ялам аб Вітушку*[19]*. Ён мне абяцаў, што дастане і ўсе іншыя нумары, у якіх толькі зьмешчан гэты матар'ял. Немцы гэтым таксама цікавяцца, і калі знойдуць яго, будзем мець зь ім сустрэчу. Калі б у выпадку чаго ім не ўдалося яго знайсьці, то я вазьму на сябе абавязак пры наступнай паездцы ў той бок знайсьці гэтага чалавека іншым шляхам.*

*Да канкрэтнай дзейнасьці з тым бокам, мне здаецца, ангельцы не зусім гатовы. Мой шэф выказаў сваю думку, што гэтым пытаньнем павінны больш цікавіцца амэрыканцы. Але тут ёсьць адно „но“: амэрыканцы больш падтрымліваюць „единонеделимцев“, а ангельцы наадварот. Ангельцы зацікаўлены мець вольнымі ад Расейскага імпэрыялізму нацыянальныя меншасьці і гатовы бачыць Расею падзеленай для выкарыстаньня прынцыпу „разделяй и властвуй“. Можа, у сувязі з гэтым усім будзе лепш арганізаваць толькі нейкую сувязь для перадачы інфармацыі абодвума бакамі? — Каб на тым баку ведалі, што робіцца тут, а на гэтым баку каб ведалі, што робіцца там. Гэта важна яшчэ і з другога пункту гледжаньня. Амэрыканцы, між намі кажучы, плянуюць вайну па новай стратэгіі, яны баяцца ісьці фронтам і заваяваць прасторы, на чым пацярпелі крах усе, пачынаючы ад Напалеона. Каб унікнуць такога зьявішча, яны гатовяцца высадзіць у адпаведны час танкавыя арміі дэсантам у раёнах Горкага, Уралу і Ленінграду. Для*

[19] У лісьце Дзьмітрыя Касмовіча да Міхася Маеўскага ад 09.04.1953 ёсьць падказка пра тое, што гэта маглі быць за газэты: *„Вітушка — мой кузэн і быў увесь час маім заступнікам па вайсковай частцы і мае псэўданім „Кошка“ — і вядомы цяпер з прэсы швэдзкай і нямецкай у амэрыканцаў як „чорная кошка“. Артыкулы аб ім у нямецкай газэце маю“.*





*гэтае мэты яны будуюць важкія транспартныя самалёты як сродак паветранага транспарту, і будуюць лёгкія, але скараходныя танкі з моцным узбраеньнем. Вось, як бачыце, пытаньне стаіцьме так, каб у першую чаргу паралізаваць цэнтар, а тады прасоўвацца з флянгаў — фронтам. Нам трэба з гэтымі поглядамі лічыцца, каб на выпадак такога зьявішча можна было апанаваць сытуацыю на мейсцы, а гэта можа быць зроблена толькі пры адпаведнай арганізованасьці, якая можа быць наладжана пры адпаведнай сувязі з тым бокам.*

*Падумайце Вы самі над гэтым пытаньнем і напішыце, калі ласка, Бацьку*[20]*, цікава, што ён скажа на гэтыя пытаньні? Бо займацца нейкай адсябяцінай або „партызаншчынай“ — не салідна і шкодна.*

*У кожным разе, пішэце, калі ласка, што ў Вас новага і як Вы думаеце адносна закранутых мною пытаньняў. Бо я проста хачу парадзіцца з Вамі, як з старэйшым братам. Хочацца рабіць нешта карыснае для свайго грамадзтва і ня хочацца пашкодзіць агульнай справе.*

*На гэтым сканчу. Прымеце шчырае прывітаньне ад маёй жонкі і перадайце наш агульны паклон Вашай жонцы!*

*Як чуецца Юрык?... — Наш ужо пачынае хадзіць.*

*Бывайце здаровы, — дай Божа Вам усяго самага найлепшага.*

*З глыбокай пашанай, Людвік.*

(друкаваны дадатак)

*Пасылаю Вам грошы, шчыра дзякую за пазычку.*

*Вельмі прашу Вас, прышлеце як найхутчэй матар'ял пра ОД. Пішэце як найкарацей, каб маглі хутчэй скончыць“.*

Пасьля гэтага ліста ў карэспандэнцыі Людвіка Галубовіча й Дзьмітрыя Касмовіча адбыўся першы колькімесячны перапынак. Ён скончыўся лістом Галубовіча, дзе гаворка ішла пра новыя магчымасьці супрацы з брытанцамі, імаверна, у справе арганізацыі падпольля, і настойлівай просьбай да Касмовіча прыехаць у Білефэльд.

*„Білефэльд, 4 чэрвеня 1951 г.*

*Добры дзень, даражэнькі Дзядзька Дзіма!*

*Даруйце, калі ласка, што так доўга не адказваў на Ваш апошні ліст. Справа склалася так, што ня меў магчымасьці. Трэба было выяжджаць у іншыя гарады па справах службы. У сьлед за гэтым*

[20] Верагодна, маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

*хадатайстваў адносна паспарта, рыхтаваўся к працэсу, выяжджаў у Брусэль на паседжаньне Міжнароднае Камісіі па разгляду справы аб канцэнтрацыйных лягерох у СССР. З Брусэлю вярнуўся ў мінулым тыдні. Маё выступленьне на працэсе друкавалася ў шмат якіх інастранных газэтах: у амэрыканскай „Нью-Ёрк Таймс“, у Бэльгійскай цэнтральнай газэце, у францускай і нямецкай газэтах. На працэсе я прэд'явіў дакумэнт, у якім гаварылася, што ў СССР не „іспраўвіцельно-трудавые“, а канцэнтрацыйныя лягеры. Гэты дакумэнт я маю ў арыгінале. Яго сфатаграфіравалі як даказацельства. Усе падрабязнасьці гэтае справы раскажу Вам, калі спаткаемся.*

*Пры гэтым накіроўваю Вам Вашыя дзьве газэткі, у якіх зьмешчан матар'ял адносна Вітушкі. Другіх нумароў з гэтым матар'ялам дастаць не ўдалося — радакцыя ня мае запасных нумароў.*

*Па справе „ОД“ прышлося арыентавацца Вашымі расказамі. Апісаў так, як падсказывала памяць, аб чым мы гутарылі. Работа палучылася салідная, яна заняла больш за 60 старонак. Я прасядзеў над гэтым пытаньнем амаль два тыдні. БКА і брыгада „Зіглінг“ яшчэ чакаюць чаргі. Зараз займаюся іншымі справамі.*

*Маю весткі ад Радаслава Казіміравіча. Ён піша, што ягоны Віктар ужо пераехаў у Аргентыну, разам з жонкай і сынам. У нашым Камітэце ў ЗША перамены. Сабалеўскі падаў у адстаўку: пасаду Старшыні Калегіі БЦР займаціме Касяк*[21]*. Р. К. піша: „трэба аздараўляць БЦР!“ Можа гэта і добра? — Бог яго ведае...*

*Даражэнькі Дзіма! Ёсьць адна справа, адносна якой нам трэба было бы спаткацца і перагаварыць адзін на адзін. Тое, аб чым мне калісьці гаварыў Тарас Бульба*[22]*, для нас выглядаціме інакш. Мае калегі па працы запрапанавалі нешта зусім новае. Ініцыятыва перадаецца ў нашы нацыянальныя рукі. Сродкі і магчымасьці таксама ёсьць.*

*Мае калегі прасілі мяне перадаць Вам іх просьбу, каб Вы прыехалі сюды. Я адмовіўся ад гэтага варыянту, пакуль пэрсанальна не абгавару з Вамі гэты плян. Адным словам, прашу Вас паведаміце мяне,*

[21] Маецца на ўвазе Іван Касяк.

[22] **Тарас Баравец (Бульба-Баравец)** (1908—1981), дзеяч украінскага нацыянальнага руху. Стваральнік украінскіх збройных фармаваньняў Палеская Сеч, Украінская паўстанцкая армія (пазьней Украінская народна-рэвалюцыйная армія). У 1943—1944 гг. знаходзіўся ў канцлягеры Заксэнгаўзэн (*Sachsenhausen*). З 1948 г. жыў у Канадзе, дзе заснаваў сваю Ўкраінскую нацыянальную гвардыю й выдаваў пэрыёдык „Меч і Воля“.





*калі ласка, калі можна было б спаткацца з Вамі? Думаю, што з адказам на гэты ліст Вы не заставіце доўга чакаць?*

*Як жа здароўе Вашае жонкі? Як расьце Юрэк? Як чуецеся Самі? — Мой сынок ужо пачаў хадзіць і напэўна скора будзе гаварыць.*

*На гэтым скончу сваё пасланьне... Ад усяе душы жадаю Вам усяго-ўсяго самага найлепшага!*

*Прымеце, калі ласка, паклон ад маёй жонкі.*

*З глыбокай пашанай, Людвік*“.

Амаль праз два месяцы Галубовіч і Касмовіч ізноў меліся спаткацца для абмеркаваньня супольных справаў. Гэтым разам сустрэча мела сямейны характар, бо Галубовіч на яе зьбіраўся разам з жонкай. Магчыма, адной з прычынаў спатканьня была й неабходнасьць прыспешыць прыезд Касмовіча ў Білефэльд для спатканьня з брытанскімі кіраўнікамі ягонага карэспандэнта.

„*Білефэльд, 27 ліпеня 1951 года*

*Даражэнькі Дзядзька Дзіма!*

*Даруйце, калі ласка, што так доўга не адказваў на Ваш ліст, атрыманы мной яшчэ ў мінулым месяцы — чэрвені. Маю даручэньне быць у Вас у наступным тыдні. Зь Білефэльду выеду ў пятніцу 3.VIII вечарам і буду ў Вас а 12-й гадзіне дня ў суботу — 4.VIII.*

*Даражэнькі Дзіма! У сваім лісьце Вы прасілі мяне вымяркоўваць час так, каб быць у Вас не інакш як у сярэдзіне тыдня, паколькі ў суботу і нядзелю не бываеце дома... Як жа быць у такім выпадку, калі, як бачыце, інакш не выпадае? — Можа не адмовіце, каб, як кажуць, адзін раз паламаць Вашыя пляны?*

*Праект, аб якім будзем мець размову, ужо зацьверджаны Лёндам, і яны чамусьці сьпяшаюцца.*

*Я мог бы, канечна, і ў сярэдзіне тыдня быць у Вас, але гэта можа быць толькі яшчэ адзін тыдзень пазьней, бо гэта будзе зьвязана тады з маім отпускам, а на такую адсрочку адносна спатканьня з Вамі я ня маю санкцыі — маю даручэньне зрабіць гэта як найхутчэй! А таму, вельмі прашу Вас, не адмоўце, калі ласка, і пагадзецеся з тэрмінам, які ўжо сказан вышэй. Калі б, урэшце, здарылася так, што Вы не змаглі бы прыняць мяне ў вызначаны вышэй тэрмін, то вельмі прашу Вас паведаміць аб гэтым загадзе. Але ўсё ж спадзяюся, што Вы не адмовіце.*

*Буду ехаць з жонкай. Сынка пакідаем дома.*

*Адначасна прашу Вас, абдумайце пытаньне: чы можаце Вы прыехаць у Білефэльд? Мне думаецца, што здароўе Пані Надзі Вам не дазволіць гэтага? Прыезд Ваш у Білефэльд неабходзен. Тут мае састаяцца адна спэцыяльная нарада ў Вашай прысутнасьці. Калі адчуваеце сябе слаба на працы, то можаце разьлічваць на адпаведную пасаду, аб чым мы з Вамі ў прынцыпе дагаворымся. На гэтым пакуль што скончу. Бывайце здаровы! Прымеце мой і жончын паклон і найлепшыя пажаданьні Вам і Вашаму сямейству.*

*З глыбокай пашанай, Людвік“.*

Верагодна, Галубовічу ўдалося пераканаць Касмовіча ў магчымасьцях супрацы з брытанскімі спэцслужбамі ці, прынамсі, неабходнасьці спаткацца зь іх прадстаўнікамі. Далей у архіве захоўваецца чыгуначны квіток на імя Kisselevskiy (прозьвішча, зь якім на той час жыў Касмовіч) на праезд зь Білефэльду ў Штутгарт 9 верасьня 1951 г. Аднак з пазьнейшага ліставаньня відавочна, што спатканьне й перамовы ніякіх канкрэтных вынікаў для Касмовіча ня мелі, бо Людвік Галубовіч проста зьнік.

Праўда, у архіве маецца ягоны ліст да іншага карэспандэнта Касмовіча ў Нямеччыне, таксама сябры кіраўніцтва Беларускай незалежніцкай партыі — Міхася Маеўскага. Відавочна, апошні пераслаў гэты ліст свайму калегу. З гэтага дакумэнту зразумела, чым найбольш актыўна займаўся Людвік Галубовіч узімку 1951/1952 гг. — рыхтаваньнем базы для трэнінгу беларускіх дывэрсантаў на тэрыторыі Брытаніі. Сярод іншага, аўтар ліста адзначае:

*„Вярнуўся з Англіі ў канцы мінулага тыдня, прабыўшы там тры тыдні. На мейсцы ўдалося шмат што зрабіць, а самае галоўнае — удалося атрымаць вілу непадалёка ад Лёндану, у якой будзем праводзіць справу. Адпаведная колькасьць людзей ужо прайшла мэдыцынскую і палітычную праверку, і „машына“ пушчана на поўны ход!*

*Англіяй я вельмі задаволены, задаволены патаму, што маем там такую сілу, зь якой можна варочаць горы! Людзі маладыя, прайшоўшыя школу жыцьця, былыя вайскоўцы, або службоўцы паліцыі...“*[23].

Заняты справамі супрацы з брытанскімі спэцслужбамі, Людвік Галубовіч „зьнік“ больш як на год для таго, каб потым ізноў зьявіцца ў жыцьці Дзьмітрыя Касмовіча з аповедам пра посьпехі ўласнай дзейнасьці й „экскурсіі на той бок“.

[23] Ліст Людвіка Галубовіча да Міхася Маеўскага ад 29 студзеня 1952 г. Захоўваецца ў архіве Д. Касмовіча. Скрыня 1. Тэчка 8.





*„Лянгенфэльд, дня 24.10.1952 г.*

*Даражэнькі Дзядзька Дзіма!*

*Сёньня быў на пошце і прынес Ваш ліст на імя прафэсара А., зь якога і даведаліся, што Вы яшчэ жывеце на старым мейсцы, што ўсе Вы здаровыя і чуецеся добра.*

*На Ваш ліст, які я атрымаў вясною гэтага году, пасылаў адказ на постфах у Штутгарце але, на жаль, адказу не паступала і думалася, што Вас ужо няма на старым мейсцы. Прыкра, але нічога ня зробіш, і, калі ласка, не вініце і нас у такой непунктуальнасьці.*

*Два тыдні таму зноў быў у Англіі, езьдзіў разам з праф. А., правялі некалькі сходаў і парушылі наперад нашыя грамадзкія справы.*

*Вярнуўшыся дадому — застаў жонку ў шпіталі. Зноў маю яшчэ аднаго, ужо другога! Сына — радзіўся 7 кастрычніка. Як бачыце, сямейка прыбаўляецца і паступова, адны старэюць, а другія растуць. Старэйшаму сынку ўжо 2 гады і 4 месяцы, а новаму толькі тры тыдні. Тоня чуецца добра, усё прайшло як найлепш.*

*На грамадзкім грунце шмат чаго новага. Ужо скора год як распачалі працу з тым бокам. Арганізавалі вышкаленьне нашага афіцэрства для падземнага руху. Сам тожа адвучыўся і здаў экзамэн на падпалкоўніка. Быў пару разоў за „жалезнай заслонай“ — лятаў на самалёце. Першая група нашых „піонераў“ удала зрабіла экскурсію і вярнулася назад*[24]*. Там маем даволі моцныя кадры, але ўсяго не апішаш, і можна будзе расказаць пры спатканьні.*

*Будучы ў Англіі, у сакавіку г. году, праводзіў Канфэрэнцыю нашых вайскоўцаў і ўтварыў Вайскова-Рэвалюцыйную арганізацыю, вядомую пад назовам БЕЛАРУСКІ ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ, на чале якой стаіць Галоўны Штаб, якім я кірую. Сяброў маем даволі шмат, сёньня БВР*

[24] Гісторык Юры Грыбоўскі падае зьвесткі пра акцыю, што мела месца ў 1952 г. на тэрыторыі Польшчы. Сюды былі засланыя ў якасьці агентаў адмыслова вышкаленыя раней у Брытаніі й Нямеччыне беларусы Васіль Завадзкі й Аляксандар Петраш. Нягледзячы на тое, што польскія спэцслужбы выкрылі апошняга даволі хутка, брытанскі беларус здолеў у пэўны момант выйсьці з-пад іхнага кантролю й вярнуцца на Захад, як вярнуўся туды й Васіль Завадзкі. (Гл.: Грыбоўскі, Юры. Службы бясьпекі ПНР і „беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх нацыяналістычныя цэнтры на Захадзе (1945—1974)“ // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №28. Białystok, 2007. S. 158—192.) Верагодна, Зарэчны меў дачыненьне да гэтай акцыі, але ці менавіта яна згадваецца ў лісьце — невядома.

*адна мацнейшая беларуская арганізацыя на эміграцыі з корнямі на Бацькаўшчыне. Прышлося пераżыць і шмат розных „атакаў“ з боку нашага ж БЦР. — „Лідэры“ страцілі галаву і баяліся, што нехта пачне адбіраць партфэлі. Аднак памыліліся, але і самі пачалі нешта рабіць — пакончылі зь „мертвячынай“ і бязьдзеяньнем!*

*У Вашым баку быў толькі адзін раз і то праездам на Мюнхэн. Не было часу затрымацца ў Штутгарце. Калі дазволіце, то пры наступнай паездцы ў той бок загляну і да Вас?*

*Як жа чуецеся? Як здароўе Жонкі і як растуць Дзеткі?*

*З Вашага ліста вычуваю, што мелі спатканьне напэўна з амэрыканцамі ў той самай справе, аб якой калісьці гутарылі? Гэта вельмі паважная рэч і трэба далажыць усіх стараньняў, каб мець гэту справу ў сваіх руках. Гасп. А. Вам напіша сам па гэтаму пытаньню.*

*На гэтым скончу. Бывайце здаровы!*

*Паклон Жонцы і пацалуйце Дзетак! Прывітаньне Вам і ад маёй Палавіны.*

*З пашанай,*

*Людвік.*

(рукапісны дадатак)

*P.S. Працую вельмі шмат, часамі сяджу да позьняй ночы, і, калі часамі буду рэдка пісаць, то, калі ласка, ня лайцеся“.*

Сапраўды, за час перапынку ў ліставаньні Людвік Галубовіч (Зарэчны) пасьпеў з мэтай выкарыстаньня таго значнага патэнцыялу беларускай грамады ў Брытаніі, што складалася большай часткай з былых вайскоўцаў, стварыць арганізацыю „Беларускі вызвольны рух“. Мэтай было ня проста гуртаваньне (зрэшты й ня толькі ў Брытаніі) былых вайскоўцаў дзеля дапамогі адзін адному й захаваньня вайсковых ведаў і навыкаў на выпадак магчымай вайны, але й актыўная „*вызвольна-рэвалюцыйная*“ барацьба, удзел у стварэньні й дзейснае падтрыманьне антысавецкага падпольля на тэрыторыі Польшчы й Беларусі.

Відавочна, у гэты час Галубовіч (Зарэчны) пачуваўся ўпэўнена ў сваёй дзейнасьці, нягледзячы на тое, што ягоная актыўнасьць і сама асоба выклікалі супрацьдзеяньне з боку вярхоў БЦР (за выключэньнем самога Астроўскага). Ужо ў траўні 1952 г. віцэ-старшыня калегіі БЦР Аляксандар Русак ад імя таксама Міколы Шчорса, Івана Касяка й Юрыя Сабалеўскага пісаў прэзыдэнту БЦР пра тое, што неабходна





зьняць Людвіка Зарэчнага з пасады начальніка Штабу БВР[25]. Дзьмітры Касмовіч гэтым часам, калі меркаваць паводле ягонай карэспандэнцыі, не падтрымоўваў асабліва шчыльных кантактаў з БЦРаўскай элітай, аднак ён і без таго быў раззлаваны на Галубовіча праз ягонае нечаканае зьнікненьне. Ліст з Штутгарту ў адказ быў ня надта прыемны:

*„25.10.1952*

*Паважаны сп. Людвіг!*

*Ваша пісьмо сяньня атрымаў. Ад сэрца віншую Вас і сп. Тоню з прыбыткам — сынком — хай расьце на пацеху бацькам і на карысьць народу.*

*Дзякую за газэты і Бюлетэнь[26].*

*Шчыра ўсьцешыўся, калі даведаўся, што справу распачалі. Гэта ўжо паважны крок уперад. Адно толькі мяне зьдзівіла — няшчырасьць, чаму Вы мне адразу не напісалі ці не прыехалі, як мы ў Вас дагаварыліся, каб я ўзяў удзел у гэтай цяжкой працы. Пасьля таго, як мы з Вамі апошні раз вялі гутарку ў гэтым кірунку і Вы бачылі з майго боку шчырасьць і поўную адданасьць і гатоўнасьць увайсьці ў гэтую цяжкую справу, і пасьля таго, як я выехаў ад Вас і чакаў аканчальнага адказу — ад Вас не атрымаў ні слова. Сапраўды я гэтага не чакаў.*

*Вы мелі мае два адрасы ды і былі ў мяне некалькі разоў і заўсёды маглі быць у лучнасьці са мной. Вы зрабілі інакш.*

*Пісаў Вам, але лісты вярнуліся, і быў пэўны, што Вы выехалі ў Амэрыку, бо Вы тагды былі пакліканы на камісію.*

*Шкада, што так здарылася, бо час ляціць, а няшчырасьць толькі шкодзіць агульнай справе.*

*У шчырасьці, злучанасьці і самаадданасьці справе, у шчырым служэньні ідэі, без эгаістычнай сяброўскай зайздрасьці, бачу залог перамогі. Вось мой погляд на нашу справу. Такім я ёсьць із працы.*

*Зьдзівіўся таксама Вашаму пытаньню, ці я дазволю Вам заглянуць да нас. Я Вам ніколі гэтага не забараняў, а наадварот, заўсёды шчыра і сардэчна Вас вітаў.*

---

[25] Ліст Аляксандра Русака да Радаслава Астроўскага ад 21.05.1952. Захоўваецца ў архіве беларускай царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

[26] Маюцца на ўвазе асобнікі газэты „Незалежная Беларусь“ і „Бюлетэню Галоўнага Штабу БВР“, што пачала выдаваць новапаўсталая арганізацыя Галубовіча.

*Вашых думак я ня ведаю.*

*Па атрыманьні Вашага ліста зь Лёндану напісаў Вам два лісты, якія назад не вярнуліся. Чакаў ад Вас адказу. Вычуў у Вас нейкую таямнічасьць, што хвіліна вымагае маўчаньня, быў дыскрэтны і не пісаў больш, чакаў ад Вас весткі альбо Вас — каб падзяліцца пэўнымі справамі. Хіба ж ня ўходзіць было з крывічамі ў кантакт, хаця яны ўсімі сіламі дырэктнымі і індырэктнымі стараюцца мяне ўцягнуць у працу.*

*Аднак я маю надзею, хаця як Вы пішаце, у Вас усюды сяброў ёсьць зашмат. Спадзяюсь, аднак, што ў хуткай прышласьці і я заслужу ў Вас хоць становішча „разночынца".*

*Вось гэта ўсё, што я магу Вам сказаць у адказ на Ваш ліст.*

*Прывітаньне ад нас для Вас і Вашай жонкі. Вашых цалуйце.*

*Дз. Касмовіч".*

Нягледзячы на атрыманьне такога непрыязнага ліста, Людвік Галубовіч, відаць, быў сур'ёзна зацікаўлены ў Касмовічы, таму ў адказ і выбачаўся, і апраўдваўся, і напускаў туману, і пераходзіў да змагарнае патэтыкі.

*„Лянгенфэльд, дня 14 лістапада 1952 г.*

*Дарагі Дзядзька Дзіма!*

*Ліст з 25 кастрычніка атрымаў, шчыра дзякую за прамату думак, і прашу прабачэньня, што трохі пазьнюся з адказам. Паверце мне, ня маю ніякае злое волі! — Загружаны працай, часта прыходзіцца выяжджаць, а гэтым часам набіраецца шмат пісаніны па грамадзкім справам, і ня ведаю, за што раней ухапіцца.*

*Пісьмо Ваша чытаў некалькі разоў. Чытаў, думаў над ім і, прызнаю за Вамі рацыю... Вінаваты я хаця і не ўва ўсім, але апраўдвацца ня буду. Некалі, можа праз пару тыдняў, заеду да Вас і тагды — хочаце казьніце, хочаце — мілуйце, усё раскажу! Што мяне змусіла замаўчаць і не падаваць аб сабе прызнакаў жыцьця? Канешна — ня Ваша і не мая віна. Былі пэўныя падставы, ці лепш кажучы — былі такія ўмовы і варункі, якія змушалі мяне замкнуцца і быць адарваным. Аднак, пры добрае волі і здаровым разуменьні, можна было ўсё гэта абыйсьці, але я вінаваты перад Вамі і прашу прабачэньня.*

*Ясна, не падумайце, што я кіраваўся нейкімі чыста эгаістычнымі поглядамі ў гэтым выпадку. Не, такіх поглядаў у мяне не было!*

*Нязгодзен трохі з адным, сказаным у Вашым лісьце, што „ў мяне ўсюды сяброў ёсьць зашмат"... Альбо Вы ня так мяне зразумелі, альбо нейкая няўвязка ў маім сказе. Калі я і пісаў аб гэтым, то напэўна пісаў аб нейкіх іншых сябрах, ці то аб сяброх арганізацыяў, ці то аб сяброх у чужаслоўі, якімі часта называю сваіх ворагаў. Адным словам, нешта недарэчнае, і так я ня мысьліў у адносінах да Вас. Я не настолькі хам і ня страціў яшчэ розуму, каб напісаць Вам, іменна Вам, такую „ахінею"...*

*Мне не прыходзіцца Вас агітаваць. Вы ўжо скончылі курс „паліт-граматы" і маеце атэстат сьпеласьці антыкамуніста. А гэта ўсё падставы для таго, каб мець Вас і прыяцелем, і другам, і сябрам. І хаця мы называем адзін другога „на Вы", але ў душы? — Вы для мяне — брат, прыяцель, і друг па зброі!*

*Пяройдзем да пытаньняў службовых. Памятаеце, напэўна, мой плян, над якім некалі думалі і строілі рашчоты. Скажу Вам праўду: ён прайшоў толькі на 50%! Пачалі з малога, з зародку самое арганізацыі падземнага руху, ці лепш кажучы — пачалі з разьведкі нашых сілаў на тым баку. Адносна Міхася В. даведаліся няшмат. Ён апошні раз быў у Лодзі ў пачатку 1947 году. Па-за тым ніякіх прызнакаў жыцьця. Што зь ім сталася? Дзе ён? Жыве, загінуў, змагаецца ці здаўся? — Нічога ніхто ня ведае!.. Можа, адрасы нашы былі слабаватыя? Можа, пайшлі не па таму шляху? — Ня ведаю, рабілі так, як маглі і на што маглі палажыцца. Між іншым, праф. А.*[27] *зараз у Мюнхэне і паваротнаю дарогаю загляне да Вас, пагаворыце зь ім, і ён Вам раскажа больш падрабязна. А калі не, то хутка буду ў Вас, і тагды — пагаворым аб усім.*

*Цяжка нам, жабракам, здабыць нешта на аўтар вызвольнае барацьбы нашае нацыі. Кожны бачыць у табе нешта нізшае аб сябе, нешта невыразнае, што трэба вывучаць і задумвацца. А наш актыў... Даруй мне Божа, што называю іх актывам. — Спалі, спалі мёртвым сном. Сварыліся, чакалі маннае кашы зь неба, гулялі ў „міністраў" ды „эксцэленсыі"... А калі я пачаў тварыць арганізацыю Беларускі Вызвольны Рух, калі падняў на ногі вайскоўцаў ды так званую чарназёмную сілу, дык яны ж, самі „дзеячы" (за выключэньнем Р.К.) пачалі абліваць мяне гразёй, пачалі крычаць „ратуйце!" — разбурае наша грамадзкае жыцьцё, займаецца дывэрсіяй, адбярэ партфэлі! — Выканчыць нас!!! (крычаў Сабалеўскі). Але маса разумее інакш, і яны сустрэлі моцны адпор. Урэшце, дайшло да таго, што пачалі загрожваць мне апублікаваньнем маёй аўтабіяграфіі, арганізацыяй акцыі супроць БВР і г. д. І я змушаны быў падаць ім сваю*

[27] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

*аўтабіяграфію*[28] *і папярэдзіць Русака, што калі дабавяць да яе хоць адно слова няпраўды або плётак, перадам справу ў Суд. І гэта змусіла іх замаўчаць, а Русак — падаўся ў дэмісію.*

*Бачыце, Дарагі Дзіма, калі сабака ляжыць на сене, то і сама ня есьць і казлу не дае, і тагды прыходзіцца пароць яе палкай, зганяць з сена, і тагды ўсё ідзе так, як павінна быць. Так і тут. Людзі думалі, што яны ўзялі патэнт на кіраваньне вызвольнай барацьбой, што яны — гэта „соль і пуп зямлі", а ўсе іншыя — нешта накшталт „унтэрмэншаў". Але памыліліся, і хаця злуюцца на мяне і БВР — як арганізацыю, урэшце ж сядуць на сваё мейсца і альбо будуць працаваць, альбо — няхай здаюць свае „патэнты"! Незамянімых не існуе, а займацца палітычным сабатажам — не пазволім, прыйдзе час і змушаны будуць даць справаздачу! Але, прадбачу, што яны ўсе думаюць аб амэрыканскім грамадзянстве, і беларуская справа для іх — „забытое письмо разлюбленной девушки..." Яны застануцца на эміграцыі!*

*Адзін чалавек, каго мы павінны шанаваць і хто нам ня здрадзіць, гэта — прафэсар Астроўскі. Нам трэба за ўсялякую цану ўтрымаць яго ў Нямеччыне, а на выпадак вайны — пойдзем на Беларусь невялічкай групай і там пачнем мантаваць наш апарат. Сёньня ж, да пачатку вайны, будзем паступова, крок за крокам, пасоўваць нашы сілы ў стан ворага, будзем мантаваць нашу падземку, будзем рыхтавацца да рашучага змаганьня. Іншага выхаду я ня бачу, а жыць — дзеля таго, каб жыць, няма патрэбы. Мы павінны паставіць перад сабою адно: жыць для ідэі і, калі трэба, памёрці для ідэі! Тагды мы праможам і толькі тагды, здабудзем волю і незалежнасьць для нашай Нацыі і Радзімы! І вось, хто падзяляе гэтыя ідэалы, той дастоен быць на Бацькаўшчыне. Іншыя ж, не здабыўшы сілаў быць сапраўднымі змагарамі за ідэю, павінны ўступіць і не перашкаджаць другім. Той, хто не працуе сам і перашкаджае другім, павінен быць нашым заклятым ворагам!*

[28] Маецца на ўвазе варыянт аўтабіяграфіі, які Галубовіч (Зарэчны) выкарыстоўваў як афіцыйны на той час. Ён быў выкладзены ім у лісьце да Ўладзіслава Рыжага-Рыскага 30 ліпеня 1952 г., а потым адбіты ратататарам і распаўсюджаны сярод сябраў БВР. У ім Галубовіч акцэнтуе ўвагу на досьведзе працы ў НКВД да Другой сусьветнай вайны, а таксама піша пра пераход на антыкамуністычныя пазыцыі й сьведчаньні ў Брусэлі пра савецкія злачынствы. Гэты варыянт аўтабіяграфіі сваёй публікацыяй перасьледаваў пэўныя апераджальныя мэты ў адносінах нядобразычлівцаў Зарэчнага, што пагражалі „выкрыць цёмнае мінулае" дзеяча. Аднак ён не зусім суадносіцца з дакумэнтам, знойдзеным у архівах БІНіМу, дый зь зьвесткамі з прыведзенага вышэй ліста Антаніны Галубовіч.





*Я ведаю Вас задобра і знаю, што Вы падзяляеце мае погляды. Выбачце, што дагэтуль не высказваўся так, як павінна быць у гэтым напрамку, і што арганізацыю распачынаў бяз Вашага ўдзелу. Аднак спадзяюся і веру, што Вы не адмовіцеся працаваць супольна і заняць адпаведнае мейсца ў Галоўным Штабе Беларускага Вызвольнага Руху. Праўда, сёньня цяжка. Мы ня маем сродкаў акром тых, што дае нам наша грамадзтва, аб'еднанае ў радах БВР, аднак веру, што мы перетрываем да лепшых дзён і блізка той час, калі будзем мець матар'яльную базу. Каб дапамагчы Вам матар'яльна, трэба, мне думаецца, нешта распачынаць на амэрыканскім грунце. Можа Р.К. і расскажа Вам нашы пляны? Калі не, то пры спатканьні я Вам раскажу. Трэба шукаць выхад з сытуацыі, і тагды Вы будзеце мець больш магчымасьцяў працаваць і існаваць.*

*На гэтым скончу. Яшчэ раз прашу Вас, ня гневайцеся на мяне, я ня меў і ня маю супроць Вас ніякіх кепскіх або нячэсных думак. Перадавайце паклон мой і Тоні, Вашай Палавіне, і цалуйце дзетак. Жадаем Вам усім усяго самага найлепшага!*

*З глыбокай пашанай,*

*Людвік*".

Дзьмітры Касмовіч, сам заняты ў гэты час дзейнасьцю Беларускай незалежніцкай партыі, замежным сэктарам якой ён быў упаўнаважаны кіраваць, не прыняў прапановы ўвайсьці ў Галоўны штаб БВР. Аднак да самой арганізацыі Галубовіча паставіўся спачатку даволі прыхільна. У лісьце да прадстаўніка БНП у Канадзе Кастуся Станюша ад 1 сьнежня 1952 г. Касмовіч пісаў: *„Зь Бел. Вызвольным Рухам мы ў некаторых пунктах не згаджаемся. Але гэтая арганізацыя маладая, і калі не сайдзе з дарогі — будзем падтрымліваць — але згодна статуту да яе належаць сябры БНП"*[29].

Відавочна, Галубовічу ўдалося наставіць свайго штутгарцкага карэспандэнта на пазытыўны лад, бо тон наступнага ліставаньня палагоднеў.

*„Лянгенфэльд, дня 29.12.52 г.*

*Дарагія Сп. Дзіма, Надзя і Дзеткі!*

*Вельмі ўдзячны за апошні ліст і яшчэ больш — за павіншаваньні. Прыміце ж, калі ласка, узаемна, нашыя найлепшыя Калядныя і Навагоднія пажаданьні як найлепшага здароўя, сілаў, і посьпехаў!*

[29] Ліст Дзьмітрыя Касмовіча да Кастуся Станюша ад 01.12.1952. Захоўваецца ў архіве Д. Касмовіча. Скрыня 1. Тэчка 8.

*Даражэнькі Дзіма, Вы просіце газэты... на вялікі жаль, першы і чацьверты нумары маю толькі архіўныя і паслаць з гэтых ня маю магчымасьці. Я напісаў сваім, каб пераслалі, і як атрымаю, зараз жа дашлю Вам. З Інфармацыйным Бюлетэнем тое ж самае. Мы выдаем яго вельмі мала — усяго нейкіх каля 400—500 экз., і як разашлем па ўсім краінам, то да мяне даходзяць толькі 3—5 экз., каб было што паслаць па зацікаўленым установам. Надалей будзем пасылаць рэгулярна. Сорамна, але, на жаль, прыходзіцца сцьвярджаць, што сёньня ў нашым „лягеры“ толькі прэса БВР выходзіць рэгулярна. Нашая ж „Трыбуна“, якую выдае Русак*[30] *, дык як дапатопная стрэльба „адкусі патрон“ — б'е з інтэрвалам раз у чатыры месяцы!*

*У нас усё пакуль што па-старому. Усе жывы і здаровы. Сынка хрысьціў Архіяпіскап Філафей, і назвалі мы яго Паўлікам. Адным словам, маю двох сыноў: калі бацьку заб'юць, то два сыны будуць помсьціць!*

*Пераказ на 10 дм. Атрымаў, шчыра дзякую! Асобным пакетам высылаю новую газэту, сьвяточны нумар.*

*Пакуль што бывайце здаровы. Усяго Вам найлепшага. Шчасьлівага Новага Году і Радасных Калядных Сьвятаў. Пацалуйце сваіх дзетак і перадайце, што мы ім жадаем расьці вялікімі, слаўнымі і моцнымі — на радасьць Бацьком і на славу Нацыі!*

*Ваш Людвік і з прывітаньнем Тоня і Дзеткі“.*

На пачатку 1953 г. стала зразумела, у чым палягала зацікаўленасьць Людвіка Галубовіча.

*„Дня 23.1.53 г.*

*Даражэнькі Сп. Дзіма!*

*Калі памятаеце, у часе апошняга побыту ў Вас я расказваў Вам адносна Мэморыялу Галоўнага Штабу БВР да Генэрала Рыджвэя*[31] *...*

*Учора атрымалі адказ з Галоўнае Кватэры НАТО, чы лепш кажучы — з канцылярыі Рыджвэя. На наш Мэморыял яны ўнесьлі параду зьвярнуцца з нашай прапановай да зацікаўленага Ўраду Дзяржавы,*

[30] Маецца на ўвазе газэта „Беларуская трыбуна“, што выходзіла ў 1950—1953 гг. у ЗША. Рэдактарамі былі Мікола Шчорс і Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль). Усяго выйшла 17 нумароў.

[31] Маецца на ўвазе **Мэт'ю Рыджўэй** (*Ridgway*, 1895—1993), генэрал арміі ЗША. У траўні 1952 г. ён замяніў Дўайта Эйзэнгаўэра (*Eisenhower*) на пасадзе саюзніцкага галоўнакамандуючага *NATO* ў Эўропе.





*гэта значыць — зьвярнуцца да Ўраду ЗША, дзе Прэзыдэнтам, як ведама, сёньня ёсьць Айзэнгаўэр. Па гэтаму пытаньню мы падрыхтоўваем спэцыяльны даклад і пэўны плян, які будзе перакладзены на ангельскую мову.*

*Я прыпомніў, што Вы маеце пісьмо за подпісам Айзэнгаўэра, і расказаў аб гэтым нашаму Р.К... і ён даручыў мне зьвярнуцца да Вас з просьбай, каб Вы сфотакапіравалі ліст — адказ Айзэнгаўэра і 1—2 фотакопіі прыслалі на мой адрас з мэтаю, каб гэтым дапоўніць падрыхтоўваемы мэморыял да Прэзыдэнта ЗША.*

*Ветліва прашу Вас, Даражэнькі Сп. Дзіма, не адмоўце ў гэтай справе, здайце ліст у першую фотамайстэрню і зрабіце гэтых пару фотакопіяў і прышліце іх сюды. Усе кошты фотакапіроўкі мы Вам вернем.*

*Для перакананьня пасылаю фотакопію ліста, атрыманага з канцылярыі Рыджвэя, і прашу па азнакамленьню вярнуць мне назад.*

*Будучы ў Вас, я недзе пакінуў рэбы Рабіновіча. Здаецца, яна засталася на радыёапараце? Калі знойдзеце, прышліце, бо яна мне патрэбна.*

*Справы адносна Аддзелу Контрвыведу пасоўваюцца наперад. Ужо здаў на афармленьне праект, і цяпер чакаю на вынікі, якія, трэба спадзявацца, будуць прыемныя для нас. А ў сувязі з гэтым вельмі было б пажадана, каб Вы ўжо зараз памаленьку пачыналі разгортваць працу, хаця бы ў напрамку падбору канфэдэнтуры на польскі сэктар. Я ведаю, што для гэтага патрэбен час і сродкі на падарожжа, але пакуль што, можа, магчыма было бы, каб Вы падалі хаця бы кандыдатуры. Калі маеце нейкія цікавыя інфармацыі — прысылайце, калі ласка. Інфармацыі цікавяць адносна дзейнасьці савецкай агентуры, адносна працы камуністаў нямецкіх сярод іностранцаў, а таксама адносна фальшывых грошай: выпуск іх і гандаль імі, і праступствы, скіраваныя на выкананьне актаў тэрору, рабункаў і забойстваў. Адным словам, ня мне Вас вучыць — Вы самі добра ведаеце, што можа быць цікавым!*

*На гэтым пакуль што ўсё. Бывайце здаровы. Прывітаньне Сп. Надзі і цалуйце Дзетак. Ага, а ці Юрачка не зьбіраецца да нас? — Тут у нас блізка рэчка і ёсьць з кім пазабаўляцца.*

*З пашанай,*
*Прывітаньне Вам ад маёй Палавіны“.*

Ліст ад генэрала Эйзэнгаўэра ня знойдзены ў архіве Дзьмітрыя Касмовіча, таму пра ягоны зьмест можна меркаваць толькі паводле ўскосных сьведчаньняў. Відавочна, што ён быў важны для тагачасных беларускіх палітыкаў як своеасаблівы факт прызнаньня прадстаўніком заходняй кіроўнай эліты. Менавіта таму ягонай копіяй гэтак хацеў падмацаваць уласны зварот да новага галоўнакамандуючага сіламі NATO ў Эўропе кіраўнік БВР. Аднак Дзьмітры Касмовіч не сьпяшаўся аддаць своеасаблівы „козыр“ у рукі канкурэнта. Дый адносна прапанаванай Галубовічам працы ў контравыведцы ў штутгарцкага дзеяча былі пэўныя засьцярогі.

*„26.01.1953, Stuttgart*

*Даражэнькі Людвіг!*

*Ваш ліст атрымаў — не адкладаючы ані хвіліны даў зрабіць фотакопіі і сеў за ліст. Раней, аднак, хацеў бы падрабязьней ведаць аб Вашых плянах, бо як я зразумеў зь пісьма са штабу Рыджвэя, Вам трэба зварочвацца да North Atlantic Council як вышэйшай улады Ridgway'я, альбо да кожнай паасобнай дзяржаўнай улады, рэпрэзэнтаванай у North Atlantic Council, у тым ліку і да ўраду ЗША.*

*Ня ведаючы, якія Вы робіце мэморыялы, пляны і даклады, мне цяжка што-небудзь сказаць. Адно толькі што трэба шырэй стукаць і то супольнымі сіламі, пакуль не адчыняць. Толькі трэба ў важных справах рабіць усё абдумана, каб з намі адпаведна лічыліся.*

*Маю агульную думку ў гэтай справе я выказаў у лісьце да п. Астроўскага, які адначасна высылаю. Калі гэта выключна робіцца ад імя БВРуху, то можа ліст генэрала Айзэнгаўвера да мяне, як да прадстаўніка БНП, будзе не па мейсцу? Магчыма, лепей выкарыстаць ліст, адрысаваны да мяне, гдзе выразна ён згадзіўся нас прыняць у Антыбальшавіцкі фронт, калі гэта будзе ад яго палітычна залежаць.*

*Каб было яшчэ больш аўтарытэтна, гэта мусіць зрабіць спадар Астроўскі як Прэзыдэнт БЦР, які нас усіх рэпрэзэнтуе. Бо будзе няўвязка, калі БВР будзе паслугоўвацца адказам генэрала Айзэнгаўвера да БНП, якая зьяўляецца незалежнай партыяй, існуючай ад 1941 г., што было ў лісьце да Айзэнгаўэра пазначана.*

*Магчыма, сп. Прэзыдэнт Астроўскі выкарыстае перад Айзэнгаўэрам гэты ліст калі ня ў чыста вайсковым кірунку, дык у кірунку супольнай барацьбы супраць камунізму, як Амэрыканскі Антыкамуністычны камітэт ці штось такое?*

*Ваша прапанова ўжо распачаць працу ў аддзеле Контр-Выведу, дык я Вам скажу, даражэнькі, што гэту справу ня можна пачынаць, ня маючы канкрэтнага дазволу адпаведнай улады і ўпаўнаважаньня для паасобных асоб, бо адразу ўсе могуць апынуцца за кратамі, пакуль усё выясьніцца. Лепей памаленьку — але „зыхер“. А калі пачнем, дык напэўна будзе зроблена.*

*Перасылаю пакінуты сьвіток, хаця лепей такіх грамат поштай не высылаць.*

*Калі ласка, прышлеце „Бацькаўшчыну“, якую Вы, аднак, кепска „падзялілі“, а таксама перасылаю ліст Рыджвэя.*

*Прывітаньне і „бузякі“ ад нас усіх*

*Д. Касмовіч“.*

Такім чынам, Дзьмітры Касмовіч, таксама як і тагачасныя вярхі БЦР, баяўся, што спрытны дзеяч Галубовіч будзе паўсюль выступаць выключна ад свайго імя як кіраўніка БВР, нягледзячы на тое, што гэтая арганізацыя нібыта ўваходзіла ў структуру БЦР і на практыцы ў рэгіёнах абапіралася на тых самых людзей. Аўтарытэт Астроўскага як прэзыдэнта БЦР быў даволі значны, а Галубовіч у вачах дзеячаў ягонага кола выглядаў як авантурнік-выскачка, і сваёй бурлівай ды не кантраляванай нікім актыўнасьцю толькі настройваў супраць сябе палітычна спрактыкаваных суродзічаў. Да таго ж асьцярожны Касмовіч зь ягонай БНП стаў бачыць у БВР арганізацыю-канкурэнта ў стасунках з заходнімі структурамі. І ў гэтым бачаньні ён быў не адзіны. Праз колькі дзён пасьля напісаньня адказу Галубовічу Касмовіч атрымаў ліст ад таго ж Маеўскага зь ягонымі меркаваньнямі адносна ініцыятывы кіраўніка БВР. Сярод іншага, калега па партыі пісаў:

*„… лічу Вашае становішча зусім правільнае адносна мэмарыялу, аб каторым пісаў сп. Л. Галубовіч. Ужо сам факт, што аб гэтым пісаў сп. Галубовіч, сьведчыць, ад чыйго імя будзе ён высланы. Фотакопію ліста, які Вы атрымалі ад ген. Айзэнгаўэра зь яго штабу ў 1951 годзе, я асабіста ня радзіў бы Вам даваць у якія-колечы рукі. На гэта складаюцца таксама розныя прычыны. Калі мы наладзім свае нутраныя справы па лініі БНП, тагды будзе ясным, у якой форме можна будзе яго скарыстаць, безумоўна, не зацягваючы нашых спраў. […]*

*Адносна сп. Л. Галубовіча можна даволі шмат чаго пісаць. Найбольш аб ягонай няшчырасьці […] У гутарках са сп. Галубовічам давялося вычуваць, што хоча раней сабе збудаваць матар'яльную вагу, як гэта кажуць, дай Божа, каб я мыліўся…“*[32].

[32] Ліст Міхася Маеўскага да Дзьмітрыя Касмовіча ад 28.01.1953. Захоўваецца ў архіве Дз. Касмовіча. Скрыня 1. Тэчка 6.

Закіды ў першаснасьці матэрыяльных інтарэсаў былі даволі папулярныя ў тагачасным эміграцыйным асяродзьдзі. Людзям даводзілася ўладкоўваць свой побыт, дбаць пра сем'і, а таму часам грамадзкая дзейнасьць адыходзіла на другі плян або ператваралася таксама ў спробы зарабіць. Таму, напэўна, і кантакты з заходнімі ўрадоўцамі разглядаліся ня толькі ў рэчышчы ідэйнай супрацы, але й матэрыяльнага падтрыманьня канкрэтных арганізацыяў ды іх праектаў.

Атрымаўшы адказ Дзьмітрыя Касмовіча з пытаньнямі й прапановамі не сьпяшацца Людвік Галубовіч традыцыйна на месяц зьнік, а пасьля вярнуўся зноў з прапановамі супрацы, але ўжо не ў аддзеле контравыведкі, а ў *„замежным інфармацыйна-апэратыўным аддзеле“*, што, па сутнасьці, відаць, было тое самае. Прычым справа працы тут Касмовіча выглядала ўжо цалкам залагоджанай, а пра недасланыя фотакопіі ліста Эйзэнгаўэра згадвалася толькі мімаходзь.

*„Лянгенфэльд, дня 11 сакавіка 1953 году.*

*Даражэнькі Сп. Дзіма!*

*Пасьля доўгага маўчаньня (нарэшце) адказваю на Ваша пісьмо і хачу падзяліцца навінамі ў напрамку ўжо вядомай Вам справы. У сваім пісьме Вы застанавіліся на неабходнасьці фармальнага афармленьня працы на карысьць новапаўсталага Аддзелу. Цяпер гэта справа канчаткова вырашана, і я магу паведаміць Вам наступнае.*

*Наш Інастранны Інфармацыйна-Апэратыўны Аддзел Бундэсфэрфасунгшуцамту, пачынаючы з дня 1 сакавіка 1953 году афіцыйна зацьверджаны і ўжо распачаў сваю дзейнасьць. Так, як мы тагды гаварылі, Вас хацелася б мець на становішчы Кіраўніка польскага сэктару. Адносна Вас я ўжо пісаў і з фармальнага боку няма ніякіх засьцярогаў. Праўда, былі пэўныя запытаньні ў справе вашага былога становішча ў Вярхоўным Савеце, але Р. К. даў аб гэтым вычарпальную апінію. Пачынаючы з дня 1-га сакавіка г/году Вы ўжо лічыцеся афіцыйна на працы ў нашым аддзеле. Як робіцца для ўсіх, так і для Вас устаноўлены трохмесячны іспытацельны тэрмін. На гэты час Вам устанавілі зарплату (аснаўную) 150 марак плюс да 100% надбаўка. Гэта значыць каля 300 марак на месяц. Акром гэтага, на апэратыўныя выдаткі можаце мець столькі грошай, сколькі будуць вымагаць як Вашыя паездкі, так і апэратыўныя справы. Пасьля пробнага трохмесячнага тэрміну зарплата будзе падвышана да 300—350 марак і, само зразумела, будзе падвышаны і % надбаўкі за добрапастаўленую работу па польскаму сэктару.*





*Вось жа цяпер астаецца слова за Вамі: як Вы думаеце распачаць працу і што Вам для гэтага патрэбна? — Напішыце аб гэтым як найхутчэй, каб у працягу ўжо гэтага (сакавіка) месяца мець хоць бы нейкія вынікі па Вашаму сэктару.*

*Напэўна ў канцы гэтага месяца я і яшчэ адзін прадстаўнік із Бону будзем у Штутгарце і пагаворым больш дэтальна аб усім, а таксама і аформім патрэбныя анкеты і падпіскі. Між іншым, ня варта, каб на дзьвярах вашае кватэры вісела шыльдачка „Касмовіч“, трэба захаваць былую — „Кіселевскі“. Афіцыйна Вы можаце быць Касмовічам, але навонкі і для апэратыўнае дзейнасьці трэба заставацца і надалей Кіселевскім. У гэтай справе мне зьвярнулі ўвагу, і заступнік Шэфа Бундэсфарфасунгшуцамту высказаўся за тое, каб Вы для вонку і надалей засталіся Кіселевскім.*

*У сфэру Вашае апэратыўнае дзейнасьці ўваходзяць польскія эмігранты, а таксама і іншыя эміграцыйныя групы, якія пражываюць у Штутгарце, Ульме, Мангайме, Гайдэльбэргу, Франкфурце і іх ваколіцах. Паступова падбірайце сабе надзёжных людзей і ўтварайце сетку конфэдэнтуры. Прозьвішчы і пэрсанальныя дадзеныя людзей, прыцягненых Вамі для працы, паведамляйце нам.*

*Праца павінна быць скіравана супроць: 1. Савецкае агентуры і агентуры сакрэтных службаў дзяржаў, увяходзячых у арбіту СССР; 2. Нямецкіх камуністых, якія вядуць працу сярод эмігрантаў, а таксама — супроць эмігрантаў, якія працуюць на карысьць компартыі; і 3. Супроць падрыхтоўку актаў сабатажу, тэрору, рабункаў і забойстваў, каго б то ні было — немцаў ці чужынцаў, без выключэньня. Свае службовыя дэкадныя сводкі і матар'ялы будзеце падпісваць псэўдонімам БРЭМЗЭР.*

*Працу мы толькі распачынаем, яна будзе карыснай для нашае палітычнае і нацыянальнае будучыні. Пагэтаму, дарагі Сп. Дзіма, я вельмі прашу Вас сур'ёзна да маёй прапановы аднесьціся і хаця і трудна, аднак, не лічэцеся калі ласка зь ня так значнымі матар'яльнымі варункамі. Тут трэба кіравацца і добрай воляй зрабіць нешта карыснае для дабра нашае вызвольнае барацьбы. Я падкрэсьліваю: матар'яльныя магчымасьці для пачатку невялікія, аднак, гэта важна і патрэбна для нашае будучыні!*

*Вашае фотакопіі пісьма ад ген. Айзэнгаўэра так і недачакаўся... — Ня ведаю, чым гэта тлумачыцца? Але Вам гэта відней. Па лініі БВР мы апрацавалі мэморыял на імя ген. Айзэнгаўэра і ўжо выслалі ў Амэрыку. Пабачым, што скажа „Айк“ на нашы прапановы?*

*Як Вам падабаецца наша газэта? Ці ня мелі бы што-небудзь із матар'ялаў для друку? Наступны нумар выйдзе з ангельскім тэкстам.*

*Пакуль што скончу. Бывайце здаровы. Паклон Сп. Надзі і цалуйце Дзетак.*

*З глыбокаю пашанаю,*

*Ваш Людвік.*

(рукапісны дадатак)

*P.S. Тоня і сыны Вам кланяюцца".*

Прапановы Галубовіча выклікалі нэгатыўную рэакцыю Дзьмітрыя Касмовіча, які, магчыма, ня надта давяраў свайму карэспандэнту.

*„13.03.1953*

*Даражэнькі Людвік!*

*Ліст Ваш сёньня атрымаў і адразу шчыра на яго адказваю.*

*Па-першае, я не прызвычаены да такой формы высказваньня думак, як гэта Вы робіце ў сваім лісьце да мяне, і не хачу прызвычайвацца.*

*Па-другое, я для Нямеччыны не патрабую ні ад каго ніякіх апіній ці паясьненьняў аба мне.*

*Па-трэцяе, не патрабую праходзіць скрозь сіта іспытаў, калі за што бярусь, дык зраблю, іначай не распачынаю працу. І лічу для сябе занізка, каб кожны мяне пытаў ці іспытваў.*

*Па-чацьвертае, Вы лічыце, што ўжо ўсё ў парадку, аформілась, і машына пайшла сама сабой. Я ж лічу, калі гэта справа сапраўды паважная, дык яе трэба залатвіць іншым спосабам, больш паважным і адпаведным, бо іначай усё блюф.*

*Адным канцылярыйным рошчыркам усяго ня зробіш, не абхваціш, патрэбна ўсебакова асабіста абгаварыць усё ад А да Z.*

*Для паважнай справы я заўсёды гатоў, аднак нерассудных авантур высьцерагаюся.*

*Бальшавікоў, камуністаў і ворагаў нашых заўсёды не шкадаваў і ведаю, што зь імі трэба рабіць.*

*Да справы фотакопіі лісту ад Айзэнгаўвера ня Вы павінны дзівіцца і чакаць, але наадварот, я дзіўлюся і чакаю Вашага адказу, бо ня Вы і не сп. А. не адказалі дырэктна на мае запытаньні і прапановы.*

*Прывітаньне для Вас усіх ад нас*

*Ваш Дз. Касмовіч".*





Наступныя лісты Галубовіча й Касмовіча, на жаль, не захаваліся, таму невядома, якім менавіта чынам разгортваліся падзеі вакол магчымай працы кіраўніка замежнага сэктару БНП у контравыведцы. З далейшага ліставаньня вынікае, што прапанову Касмовіч гэтак і не прыняў, і Галубовіч застаўся працаваць у тым наваствораным аддзеле сам. Тым ня менш, кантакты дзеячаў захоўваліся прыязныя, нават на ўзроўні сяброўства сем'ямі.

*„Лянгенфэльд, дня 28 траўня 1953 г.*

*Даражэнькія Дзіма, Надзя, Юрык і Раіска!*

*Выбачце, калі ласка, што так даўно не пісаў да Вас і што не аддзякаваў за апошнюю карэспандэнцыю. Весткі Вашыя з Швэйцарыі і Францыі мы атрымалі і часта задавалі сабе пытаньне: ці Надзя зь Дзімаю адны ў падарожжы, ці паехалі разам зь дзеткамі? — Я быў за тое, што паехалі разам з малышамі, а Тоня — наадварот, казала, што „калі паехалі зь дзяцьмі, то не адпачнуць, а толькі больш змарацца!" — Так мы і ня ведаем, былі Вы адны ці з малышамі? Але ведаючы добра характар Юрыка, знаю, што ён не пусьціў бы Вас адных, яму ж надта надаела быць дома, бо і мне некалі казаў: „Я і так у Вас даўно жыву!"*

*18-га траўня быў у Штутгарце. Выехаў перад палуднем, вечарам каля шостае гадзіны прыехаў у Штутгарт, а ўначы — а палове першай — зноў выехаў дадому.*

*У Штутгарце, у Зюд Дойчэ Рундфунк'у, два разы на месяц адбываюцца так званыя дыскусійныя вечары па ўсходнеэўрапейскім праблемам. Я ўведзены ў склад як бы гэтае карпарацыі і атрымоўваю цяпер запросіны на кожны такі дыскусійны вечар.*

*І вось здарэньне: прыходжу ў салю, дзе адбываюцца дыскусіі, а адбываюцца яны ў так званай Віле БЭРГ. У салі бачу знаёмага м-ра Бушмана — кіраўніка палітычнага аддзелу паўдзённае групы амэрыканскае арміі ў Нямеччыне. Разам з Бушманам стаіць нейкі высокага росту мужчына. Бушман пабачыў мяне і падышоў, каб прывітацца са мною, і падводзіць да мяне і гэтага мужчыны. Знакомімся, ён называе сябе, здаецца, так: ДЭЛЕР — немец з Прыбалтыкі. Прывіталіся, і распачынаецца гутарка, ён вельмі добра гаворыць па-расейску. У размове ён мяне і пытае: ці ня ведаю я па Менску і Смаленску двох беларускіх афіцэраў? І расказвае мне як яны, гэтыя афіцэры, выглядалі. І я бачу, што рэч, напэўна, ідзе аб Касмовічу і Вітушцы і называю яму гэтыя прозьвішчы. Ён як пачуў, кажа: „да, да, вот,*

*вот, Вітушка і Касмовіч, — где же оні теперь?“ — Адказваю, як яно фактычна ёсьць: Вітушка — на тым баку, а Касмовіч — жыве тут, мае жонку і ўжо мае двох дзетак... Ён быў гэтым вельмі заскочаны.*

*Каб Вы пабачылі, як ён узрадаваўся і як быў даволен, што можа з Вамі спаткацца. Ён ужо напэўна ў Вас быў, бо казаў, што пры першай лепшай нагодзе адведае Вас, так як жыве ў Штутгарце. — Гэта былы афіцэр з аддзелу Айнсца, і, здаецца, зараз нешта робіць у гэтым фаху, бо пасколькі калегуе з Бушманам, то для мяне ўсё сказана.*

*Наступны дыскусійны вечар адбудзецца 22 чэрвеня, і я зноў прыеду туды, але ёсьць такая наша супольная просьба, каб Вас туды ўвесьці як сталага нашага дэлегата, бо жывеце Вы на мейсцы, і ня трэба плаціць на падарожжа. А рэч гэта паважная, так як з гэтага мае быць утвораны радыёцэнтар для паняволеных народаў, і сёньня інстытуцыя гэта знаходзіцца пад апекаю Бостанскага Ўраду.*

*Газэту выслаў і дзякую за грошы. Выбачце, што так здарылася: на Нямеччыну распаўсюджвае газэты Сенька*[33]*, і ён раней Вам пасылаў, але чаму так здарылася, што гэты раз не атрымалі, дык проста ня ведаю!*

*Навін больш ніякіх. Р.К. амаль увесь красавік правёў у Англіі, а мы — сядзім на старым мейсцы, я займаюся той справай, аб якой Вам пісаў і на якую Вы так гостра зарэагавалі. І, так, бывайце здаровы. Усяго Вам найлепшага. Паклон ад нас усіх. Паклон сп. Надзі ад Тоні асабліва. Цалуйце дзетак.*

*З глыбокай пашанай, Людвік“.*

Кантакты зь невядомымі людзьмі „адтуль“ выклікалі ў Дзьмітрыя Касмовіча вялікую занепакоенасьць. У той самы дзень,

[33] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўладзімер Сенька** (1918—1997), беларускі грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі ў Стоўпцах і Віленскім унівэрсытэце. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Скончыў школу афіцэраў рэзэрву ў Замброве й быў прыпісаны да баранавіцкага палка пяхоты. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам. Быў начальнікам паліцыі ў Стоўпцах. З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў Службе досьледаў Усходняе Эўропы. Быў настаўнікам у беларускай гімназіі лягеру Ватэнштэт, а пасьля яе дырэктарам і кіраўніком лягеру да канца яго існаваньня. Рэдагаваў пэрыёдык „Жыве Беларусь!“, а пасьля выдаваў „Інфармацыйныя сшыткі“ ў нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у бундэсвэры. У рангу маёра выйшаў на пэнсію.





калі Людвік Галубовіч пісаў свой ліст (25 траўня), з Штутгарту ў Лянгенфэльд пайшоў невялікі тэрміновы запыт пра „нейкага перабежчыка“, які зьявіўся да Касмовіча, верагодна, ад імя кіраўніка БВР. Ліст жа Галубовіча павінен быў задаволіць лідэра БНП, паколькі, як вынікае з наступнага ліставаньня, ён пагадзіўся на прапанову ўдзельнічаць у згаданых дыскусійных вечарах, а на наступным нават зрабіў уласны даклад.

*„Дня 04.07.1953 г.*

*Даражэнькі сп. Дзіма!*

*Дадому даехалі мы ўдачна — а сёмай увечары ўжо былі ў хаце! Дома чакала шмат рознае перапіскі і патаму, выбачце, але ня меў часу напісаць Вам аб усім па крысе.*

*На Бэрмудзкую канфэрэнцыю мэморыял зложан, і ён пойдзе ад імя БЦР. Пісаў яго праф. А., копію мэморыялу далучаю пры гэтым. — Можа і дасьць якія-колечы вынікі, але аб іх мы ведаць пакуль што ня будзем, здаецца, бо падзеі разгортваюцца не на нашу карысьць. Чэрчыль хаця і „захварэў“ посьле Бэрлінскага скандалу, аднак вайны яшчэ доўга ня будзе, бо ўсе яны настроены гуляць у дружбу і цалавацца з бальшавікамі.*

*У нас усё безь перамен, і дні праходзяць так, што іх цяжка заўважыць: прасьнесься — раніца, пасядзіш за машынкай — вечар, а там зноў сон, і так без канца. Словам, час так ляціць, што цяжка ўгледзіць...*

*У Амэрыцы — закончыўся пленум БЦР, а гэта значыць — кончылі сварыцца, можа Бог дасьць набяруцца новых сілаў і пачнуць дзейнічаць, а можа яшчэ горш пасварацца, і тагды хто ведае, да чаго дакоцімся.*

*З Мюнхэну пакуль што ніякіх вестак ня маю, там тожа „трашчыць по всем швам“ і ня клеіцца, но доларчыкі — уплываюць!*

*Сеньку напісаў аб усім, што Вы мне гаварылі — ён сапраўды тут ня мае слушнасьці, і так нельга ж нічога рабіць. Праўда, можа гэта магчыма вытлумачыць ягонай працай у школе, але гэта не звальняе ад грамадзкага абавязку, а тым больш, калі такі абавязак на чалавека ўзложаны.*

*Як жа ў Вас прайшла справа лекцыяў? Цікава якія былі запытаньні і як добра яны арыентуюцца ў нашым пытаньні? Можа, будзеце мець магчымасьць, то напішыце аб гэтым хоць пару слоў.*

*Паклон сп. Надзі. Прывітаньне Вам усім ад маёй жонкі і цалуйце дзетак. Праф. А. таксама шле Вам сваё прывітаньне.*

*Бывайце здаровы, усяго найлепшага!*

*З глыбокай пашанай,*

*Людвік“.*

Гэта апошні з захаваных у архіве Дзьмітрыя Касмовіча лістоў Людвіка Галубовіча. Складана сказаць, ці быў ён сапраўды апошнім, аднак нават калі не, дык карэспандэнцыя ўсё адно мусіла ў хуткім часе перарвацца. Пры канцы 1953 г. стаў высьпяваць канфлікт Радаслава Астроўскага зь Людвікам Галубовічам (Зарэчным), у выніку якога 5 лютага 1954 г. зьявілася адмысловая пастанова прэзыдэнта БЦР, якой ён адклікаў Людвіка Зарэчнага з пасады начальніка Галоўнага штабу БВР. Галубовіч не падпарадкаваўся, і ў арганізацыі адбыўся раскол. Усё гэта суправаджалася „вайной кампраматаў“: прыхільнікі БЦР і яе прэзыдэнт публічна абвінавачвалі Галубовіча (Зарэчнага) у п’янстве, савецкім НКВДэшным мінулым і г. д. У адказ кіраўнік БВР вінаваціў Радаслава Астроўскага ў самаўпраўстве, дыктатарстве ды палітыканстве. У гэтай „вайне“ ўжо ў сакавіку 1954 г. адзначыўся й сам Дзьмітры Касмовіч. У гэты час ён выдаў „Адозву Цэнтральнага Камітэту Беларускай Незалежніцкай Партыі да ўсіх сяброў БНП, грамадзкасьці й моладзі“. Згаданы дакумэнт быў своеасаблівым адказам на папярэдні зварот Людвіка Галубовіча (Зарэчнага), у якім ён адмаўляўся пакінуць пасаду кіраўніка БВР і заклікаў стварыць новы палітычны цэнтар беларускай эміграцыі па-за Радай БНР і БЦР. У сваёй адозьве Касмовіч сярод іншага адзначаў:

*„Апошнімі часамі такой разьбівальніцкай і шкоднай для беларускае справы працай заняўся хворы, відаць, на „фюрэрства“ (а можа й на што горшае?) Зарэчны.*

*Паявіўся ён зь небыцьця ў 1952 г. БНП з радасьцю вітала стварэньне братняй вайсковай арганізацыі ды ўсюды даручала сваім сябрам супрацоўнічаць і падтрымліваць БВР, аднак да асобы Зарэчнага БНП ставілася з засьцярогаю з прычыны ягоных кардынальных памылак у працы.*

*[...] увесь „зварот“ Зарэчнага выразна сьведчыць аб ём, як аб асобе неэтычна і непачытальнай, якой справы асабістыя бліжэйшыя ад спраў беларускіх“.*

Далей у адозьве быў зварот да *„сябраў, грамадзянаў і маладых арлянятаў“*, каб не далі сябе ашукаць *„розным лжэ-патрыётам і дэмагогам, якія сваё нацыянальнае сумленьне „прапілі“, альбо яго зусім ня мелі“*[34].

Вынікам паўгадавога змаганьня стала, з аднаго боку, захаваньне Галубовічам (Зарэчным) часткі сваіх прыхільнікаў і, адпаведна, сваёй пасады кіраўніка БВР, зь іншага боку — зьяўленьне новай арганізацыі на аснове другой часткі былога Руху — Беларускага вызвольнага фронту. І кіраўніком гэтай структуры на загад Радаслава Астроўскага ад 27 кастрычніка 1954 г. стаў... той жа Дзьмітры Касмовіч. Такім чынам, на некалькі гадоў былыя карэспандэнты і ледзь не калегі сталі на чале наўпрост варожых арганізацыяў.

Праўда, у адрозьненьне ад Касмовіча, што кіраваў БВФ да сваёй сьмерці ў 1991 г., Галубовіч пакінуў пасаду кіраўніка БВР ужо 1 траўня 1955 г. на канфэрэнцыі ЦК арганізацыі ў Мюнхэн-Глядбаху. Нечакана былы актыўны змагар за ідэю абвясьціў пра сыход з прычынаў перагружанасьці працай для прыватных патрэбаў[35]. Можа быць, гэты крок стаў вынікам расчараваньня ў магчымасьцях рэальнай вызвольнай барацьбы й падтрыманьня з боку Захаду: вайна з СССР усё ніяк не пачыналася, і хуткага выніку такой зацятай працы быць не магло.

Пасвараны амаль з усімі буйнымі беларускімі палітыкамі на эміграцыі Людвік Галубовіч (Зарэчны) адышоў ня толькі ад БВР, але наагул ад грамадзкай дзейнасьці. Праз некаторы час ён стаў падпісвацца як *„ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касьцёлу“.* А ў 1964 г. памёр у Мюнхэн-Глядбаху пры нявысьветленых акалічнасьцях.

Людвік Галубовіч (Зарэчны), з сваімі рознымі варыянтамі аўтабіяграфіі, ахутаны чуткамі пра сваё мінулае й сучаснасьць, гэтак і застаўся для суродзічаў асобай незразумелай і авантурнай. Магчыма, з часам некаму і ўдасца адказаць на пытаньне, кім жа насамрэч быў гэты чалавек...

[34] Адозва Цэнтральнага Камітэту Беларускай Незалежніцкай Партыі да ўсіх сяброў БНП, грамадзкасьці й моладзі. Сакавік 1954 г. Нямеччына. Подпіс: Кіраўнік ЦК БНП (замежны сэктар) Каршун. Копія звароту ўтрымліваецца ў архіве Д. Касмовіча. Скрыня 2. Тэчка 11.

[35] Інфармацыйнае паведамленьне Канфэрэнцыі Цэнтральнага Камітэту БВР // Інфармацыйны Бюлетэнь Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху. №25. 1955. С. 3.

***Аляксандар Пашкевіч***
*Менск*

# ДРУГІ „ЭТАП“ ЮР’Я САБАЛЕЎСКАГА

У 31-м томе „Запісаў БІНіМ“, выдадзеным у 2008 г., друкаваліся ўспаміны вядомага беларускага дзеяча Юр’я Сабалеўскага „На этапах“, прысьвечаныя пераважна жыцьцю й дзейнасьці гэтага дзеяча падчас працы ў менскім земстве ў 1917—1919 гг.[1] Гэтыя ўспаміны папераджаліся маёй прадмовай „Адзін „этап“ Юр’я Сабалеўскага“[2], у якой на аснове разнастайных крыніцаў аднаўлялася біяграфія Сабалеўскага з часу ягонага нараджэньня ў 1889 г. да ўдзелу ў выбарах у польскі Сойм у якасьці беларускага кандыдата ад Блёку нацыянальных меншасьцяў Польскай Рэспублікі ў канцы 1922 г. Напрыканцы згаданай прадмовы адзначалася, што друкаваныя пры ёй мэмуары не адзіны твор падобнага жанру, які выйшаў з-пад пяра Сабалеўскага, бо *„ў беларускім эміграцкім друку ўжо зьяўляліся ягоныя мэмуары, прысьвечаныя дзейнасьці ў міжваеннай Заходняй Беларусі Беларускай сялянска-работніцкай грамады“*[3]. Улічваючы тое, што згаданыя мэмуары друкаваліся ў свой час на старонках эміграцыйнага выданьня з малым накладам, сёньня даволі рэдкага, а ў Беларусі і ўвогуле амаль што недаступнага[4], ніжэй яны перадрукоўваюцца з адпаведнымі навуковымі камэнтарамі, а ў гэтай прадмове да іх я паспрабую крытычна разгледзець наступны этап жыцьця й дзейнасьці

[1] Сабалеўскі, Юры. На этапах // Запісы БІНіМ. №31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 158—260.

[2] Пашкевіч, А. Адзін „этап“ Юр’я Сабалеўскага // Тамсама. С. 144—157.

[3] Тамсама. С. 156.

[4] Сабалеўскі, Ю. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада // Аб’еднаньне. 1956. №4 (62). С. 11—14; №5 (63). С. 11—14; №6 (64). С. 12—15; №7 (65). С. 8—14; №8 (66). С. 16—22; 1957. №1 (67). С. 14—16; №2 (68). С. 16—19; №3 (69). С. 8—11; №4 (70). С. 11—14; №5 (71). С. 6—10; №6 (72). С. 10—15; 1958. №3 (75); №4 (76). С. 14—18; №5 (77). С. 7—11; №6 (78). С. 4—7; 1959. №2 (80). С. 7—9; №3 (81). С. 13—17.





Юр’я Сабалеўскага — міжваенны, калі ён быў грамадзянінам Польшчы і ў пэўны пэрыяд актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальным руху.

Мінулым разам мы разьвіталіся з нашым героем у момант заканчэньня парлямэнцкіх выбараў 1922 г., на якіх яму, каб стаць паслом польскага Сойму, не хапіла зусім трошкі галасоў. Не здолеўшы атрымаць пасольскага мандата, Сабалеўскі застаўся жыць у родных Стоўпцах і цягам 1923—1925 гг. праводзіў тут даволі актыўную дзейнасьць, якая рэгулярна знаходзіла сваё адлюстраваньне на старонках справаздачаў мясцовых адміністрацыйных і паліцыйных уладаў. Гэтак, у 1923 г. у адной з штомесячных справаздачаў аб стане справаў на тэрыторыі Навагрудзкага ваяводзтва адзначаліся намаганьні Юр’я Сабалеўскага разам з двума іншымі мясцовымі дзеячамі, Язэпам Шнаркевічам і Янам Біцюковічам, арганізаваць у Стаўпецкім павеце сетку беларускіх каапэратываў, што ім у пэўнай ступені ўдалося[5]. У тым жа годзе Сабалеўскі выступаў у якасьці прадстаўніка ад стаўпецкіх сялянаў падчас іхнай спрэчкі зь мясцовым касьцёлам за зямельны пляц[6].

Пераважна, аднак, Сабалеўскі зьяўляецца ў гэты час на старонках афіцыйных справаздачаў і рапартаў паліцыйных канфідэнтаў у якасьці аднаго з асноўных арганізатараў антыпольскага й адначасова пракамуністычнага руху на Стаўпеччыне. Гэтак, канфідэнт ІІ аддзелу Генэральнага штабу Польскага войска Ян Мусевіч 20 красавіка 1923 г. пісаў у сваім чарговым рапарце: *„Беларуская сэкцыя баранавіцкай ячэйкі мае кантакт зь ячэйкай у Міры (Нясьвіскага павету) праз Пушкарскага, былога чыноўніка тэлеграфу ў Міры, а ў Стоўпцах праз Сабалеўскага, кандыдата ў паслы з 16, які ў сваю чаргу, падаецца, мае кантакт з Расеяй праз Сошка з Стоўпцаў, супрацоўніка лясной габрэйскай фірмы, якая пастаўляе будаўнічую драўніну ў Гданьск праз Польшчу [...] Напад на кватэру старасты графа Чапскага, як і выкраданьне п. Калечыца ў Стоўпцах ды вываз яго ў Расею, былі, падаецца, таксама выкананыя зь іхнага ведама, бо за гэтым стаяў сіяніст Дварэцкі, на самой справе камуніст, які ня мог цярпець Калечыца як прыхільніка Балаховіча. Арыштаваны па гэтай справе Міхневіч быў у цесным кантакце з Сабалеўскім“*[7].

[5] Gomółka, K. Białorusini w II Rzeczypospolitej // Zeszyty Naukowe Politechniki Gdańskiej. Ekonomia. ąXXXI. 1992. S. 28.

[6] Надужываньне ўлады (Пісьмо з Стоўпцаў) // Беларуская справа. 13 чэрвеня 1926. №17. С. 3.

[7] Centralne Archiwum Wojskowe (CAW). Oddział II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2683. Podteczka 5.

Колькі праўды, а колькі фантазіі было ў гэтым і падобных сьведчаньнях, з абсалютнай упэўненасьцю сказаць цяжка. Несумненна, аднак, што гэтыя рапарты таксама ў пэўнай ступені мусілі спрычыніцца да таго, што ўначы з 1 на 2 красавіка 1925 г. Юры Сабалеўскі апынуўся ў ліку дзеячаў, арыштаваных польскай паліцыяй падчас правядзеньня шырокамаштабнай акцыі дзеля ліквідацыі антыпольскага руху ў Наваградзкім ваяводзтве. Паводле інтэрпэляцыі ў гэтай справе, якую 27 красавіка 1925 г. падаваў маршалку Сойму Беларускі пасольскі клюб, усяго на Навагрудчыне за 2 дні паліцыя арыштавалі 1500 чалавек[8]. Як сьцьвярджалася ў справаздачы аб палітычным руху нацыянальных меншасьцяў на тэрыторыі Камандаваньня акругі корпусу (DOK I) з цэнтрам у Варшаве за пэрыяд з 1 чэрвеня да 1 жніўня 1925 г., Сабалеўскі сярод іншага падазраваўся ў *„стасунках з ГПУ і ўдзеле ў некалькіх дывэрсійных нападах“*[9]. У іншай падобнай справаздачы сьцьвярджалася, што Сабалеўскі разам з пасламі Незалежнай сялянскай партыі Станіславам Балiным і Фэліксам Галавачом у пачатку 1923 г. нібыта стварылі канспірацыйную Беларускую рэвалюцыйную пралетарскую грамаду[10].

Пазьней мэтазгоднасьць і абгрунтаванасьць вышэй згаданай масавай рэпрэсіўнай акцыі, праведзенай польскімі ўладамі, шматразова ставілася пад сумнеў рознымі польскімі палітыкамі, грамадзкімі дзеячамі й адвакатамі. Крытыкі ўладаў наўпрост казалі пра тое, што ў аснову абвінавачаньня былі пакладзеныя не рэальныя доказы віны, а сумнеўныя паказаньні паліцыйных агентаў[11]. Так, соймавы пасол ад леварадыкальнай Незалежнай сялянскай партыі Станіслаў Балін (дарэчы, беларус паводле паходжаньня й самаўсьведамленьня) у сваім выступе з соймавай трыбуны 26 лістапада 1925 г. казаў пра тое, што з 4-х паліцыйных агентаў, якія далі ў гэтай справе паказаньні сьледзтву, траіх пасьля дыскваліфікаваў польскі суд, а адносна няшчырасьці чацьвёртага нібыта таксама меліся дакладныя доказы[12]. Варта тут дадаць, што ў абвінаваўчых дакумэнтах справы, у якой праходзіў Сабалеўскі, сярод іншага першапачаткова пазначалася, што *„гэтыя банды мусілі быць арганізаваныя «Камітэтам чыну»“*, а праз нейкі час супрацоўнікі II аддзелу Генэральнага штабу самі высьветлілі, што „Камітэт чыну“ быў усяго толькі плёнам фантазіі іхнага нядобрасумленнага канфідэнта й адначасова вядомага беларускага дзеяча Вячаслава Адамовіча (Язэпа Дзергача)[13].

Нягледзячы на вышэй адзначаныя нюансы, справа ўсё ж такі пацціху разьвівалася, і вызваляць яе фігурантаў польскія ўлады не сьпяшаліся. Асабісты лёс Юр'я Сабалеўскага аказаўся, аднак, значна адрозным ад лёсу іншых ягоных таварышаў па барацьбе, бо ўжо ў траўні 1925 г. у Вільні ад далейшай працы ў Сойме афіцыйна добраахвотна, але насамрэч, як выглядае, пад моцным ціскам сваіх калегаў зь Беларускага пасольскага клюбу адмовіўся выбраны ў 1922 г. па Наваградзкай акрузе

8 Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. 1 (1921—1929 гг.). Минск, 1962. С. 277—278.

9 CAW. Oddział II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2475. K. 160—161.

10 CAW. Oddział II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2696. Raport narodowościowy za kwartał 4-ty 1926 roku Dowództwa Okręgu Korpusu Nr. III. K. 2.

11 У справаздачы за першы квартал 1926 г. II аддзелу Камандаваньня корпусу акругі III з цэнтрам у Горадні сытуацыя выкладалася наступным чынам: *„У лістападзе 1925 г. у Наваградку быў арыштаваны нейкі Браніслаў Янцэвіч, функцыянэр тамтэйшай палітычнай паліцыі, які, хутчэй за ўсё, праводзіў працу „на два франты“, і нібыта нават зарабляў на жыцьцё шпіёнствам. Гэты Янцэвіч здолеў з турмы пераслаць паслу Васілю Рагулю ліст, у якім заявіў, што яго (Янцэвіча) наняла палітычная паліцыя ў Наваградку з мэтай справакаваньня паслоў Галавача, Рагулі й Сабалеўскага, а апрача іх яшчэ нейкага Макоўскага, а таксама каля сотні іншых асобаў. Далей Янцэвіч пісаў, што падчас сьледзтва яго мучылі⇨ ўсялякімі спосабамі, сярод іншага электрычным токам, з мэтай змусіць яго да пацьверджаньня паказаньняў, за якія яны абяцалі яму заплаціць 5000 амэрыканскіх даляраў.*
*Гэты ліст Янцэвіча пасол Рагуля завёз у Вільню й аддаў яго Р. Астроўскаму. Той зьняў зь яго некалькі копіяў, а арыгінал аддаў паслу Рагулю. Віленскія беларускія дзеячы зь Вільнацбелкаму азнаёміліся зь зьместам гэтага ліста й вырашылі шырока выкарыстаць „гэты дакумэнт“ для сваіх палітычных мэтаў. [...]*
*Арыгінал ліста Янцэвіча пасол Ярэміч, знаходзячыся ў Маскве, перадаў сакратару Галоўнага камітэту МОПРу, які зрабіў зь яго такі ўжытак, што зьмясьціў яго ў менскай „Зьвязьдзе“ ў №38 за 16 лютага 1926 г. пад назвай „Як польская дэфэнзыва правакавала беларускіх паслоў у Сойме“* (CAW. Oddział II Sztabu Gieneralnego. Sygn. I.303.4.2696. Raport narodowościowy za kwartał 1-szy 1926 roku Dowództwa Okręgu Korpusu Nr. III. K. 27—28).

12 Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 256 posiedzenia z dnia 26 listopada 1925 r. J. CCLVI/45.

13 Пашкевіч, А., Чарнякевіч, А. Атаман Дзяргач: невядомыя старонкі біяграфіі, ці да гісторыі палітычнага авантурызму ў беларускім нацыянальным руху // Берасцейскі хранограф. 2004. Вып. 4. С. 325—328.

Міхал Кахановіч[14]. Паводле чарговасьці пастаноўкі кандыдатураў на выбарчым сьпісе, вызваленае ім месца ў парлямэнцe мусіў заняць якраз Сабалеўскі. Урэшце гэтак яно й сталася, хоць вырашэньне фармальнасьцяў з вызваленьнем навасьпечанага пасла з турмы добра такі зацягнулася з-за неабходнасьці праходжаньня ўсіх неабходных працэдураў, прадугледжаных соймавым рэглямэнтам. Супольную прапанову двух існых на той час беларускіх пасольскіх клюбаў аб прыпыненьні крымінальнай справы супраць Сабалеўскага на час выкананьня ім пасольскіх абавязкаў падалі ў Сойм толькі 28 кастрычніка 1925 г. (чаму не раней, сказаць цяжка), пасьля чаго, адпаведна з вызначанай працэдурай, маршалак адправіў яе на разгляд соймавай камісіі ў справах рэглямэнту й пасольскай недатыкальнасьці[15]. З разглядам гэтага пытаньня згаданая камісія асабліва не сьпяшалася, і падштурхнуць яе да больш актыўных дзеяньняў (разам з паскарэньнем разгляду ўсёй крымінальнай справы, у якой разам з Сабалеўскім да таго часу праходзілі 300 чалавек) якраз і намагаўся пасол Станіслаў Балін у сваім згаданым ужо вышэй выступе з соймавай трыбуны 26 лістапада 1925 г. Праўда, ягонае патрабаваньне аб пазачарговым разглядзе ў камісіі справы Сабалеўскага тады не падтрымаў маршалак Сойму[16], дзеля чаго гэтая справа па-ранейшаму засталася чакаць сваёй чаргі. 12 сьнежня 1925 г. падалі яшчэ адну прапанову, гэтым разам ад імя паслоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады й Незалежнай сялянскай партыі. Дакумэнт меў доўгую назву ды такі ж шырокі зьмест — *„у справе неадкладнага вызваленьня з турмы пасла Сойму Сабалеўскага і ўсіх бязьвінна арыштаваных у красавіку г. г. і да гэтага часу зьняволеных на падставе правакацыйных паказаньняў агентаў дэфэнзівы Янцэвіча й іншых, а таксама ў справе стварэньня Соймам адмысловай камісіі для дасьледаваньня падрабязнасьцяў правакацыі навагрудзкай палітычнай управы й аддачы вінаватых пад суд“*[17]. Скончылася ж нарэшце дадзеная эпапэя 30 сьнежня 1925 г., калі ў соймавай камісіі ў справах рэглямэнту й пасольскай недатыкальнасьці нарэшце дайшла чарга да разгляду прапановы двух беларускіх клюбаў двухмесячнай даўніны, у выніку якога прынялі пазытыўнае для Сабалеўскага рашэньне. У той самы дзень рашэньне камісіі падтрымаў Сойм[18], і ўжо на наступным соймавым паседжаньні, якое адбылося 12 студзеня 1926 г. (пасьля калядных вакацыяў) Юры Сабалеўскі прыняў пасольскую прысягу[19] й такім чынам пачаў непасрэднае выкананьне пасольскіх абавязкаў.

Час, у які Сабалеўскі пераступіў парог польскага Сойму, быў для беларускага прадстаўніцтва вельмі няпросты. 24 чэрвеня 1925 г. раней фармальна адзінае беларускае парлямэнцкае прадстаўніцтва афіцыйна падзялілася на 2 часткі: больш памяркоўны Беларускі пасольскі клюб (БПК) і пасольскі клюб Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Адзін зь лідэраў БПК Васіль Рагуля ў сваіх пазьнейшых успамінах сьведчыў, што Сабалеўскі пасьля прыняцьця пасольскай прысягі яшчэ ня меў цьвёрдай думкі, да якога зь беларускіх клюбаў яму належыць далучыцца: *„Сабалеўскі хістаўся, куды прыстаць: да нас ці да Грамады. Я яму сказаў, што калі ён думае шукаць у будучыні ратунку на ўсходзе, дык няхай ідзе ў Грамаду, калі ж думае застацца ў Польшчы, дык лепш далучыцца да нас, не задумоўваючыся аб тым, што нас чакае“*[20]. Цяжка сказаць, колькі ў гэтым выказаным праз шмат гадоў цьверджаньні праўды — Рагуля ў сваіх выдадзеных ужо на эміграцыі ўспамінах імкнуўся мінулым днём падаць самога сябе як перакананага ад самага пачатку праціўніка камуністаў (хоць гэта было не зусім так). Дзеля таго ня выключана таксама, што разам з самім сабою ён паспрабаваў пры нагодзе стварыць больш пазытыўны вобраз і Сабалеўскаму, які быў, як сам Рагуля прызнаваўся, ягоным сябрам. У любым выпадку Сабалеўскі ўрэшце прыняў рашэньне на карысьць свайго далучэньня да пасольскага клюбу БСРГ, але адбылося гэта сапраўды не адразу ж у студзені, а, як сьведчыць афіцыйнае парлямэнцкае выданьне, у лютым 1926 г.[21] Прадстаўнікі II аддзелу польскага Генэральнага штабу ў сваёй справаздачы за першы квартал 1926 г. таксама

[14] Пра сытуацыю зь Міхалам Кахановічам, які нібыта занадта злоўжываў алькаголем і дзеля гэтага быў урэшце змушаны кіраўніцтвам Клюбу да адмовы ад мандату, даволі падрабязна напісаў у сваіх мэмуарах Васіль Рагуля. Гл.: Рагуля, Васіль. Успаміны. Менск, 1993. С. 41—42.

[15] Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 246 posiedzenia z dnia 28 października 1925 r. Ł. CCXLVI/57.

[16] Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 256 posiedzenia z dnia 26 listopada 1925 r. Ł. CCLVI/45—46.

[17] Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 259 posiedzenia z dnia 12 grudnia 1925 r. Ł. CCL˛X/94.

[18] Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 265 posiedzenia z dnia 30 grudnia 1925 r. Ł. CCLXV/8.

[19] Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 266 posiedzenia z dnia 12 stycznia 1926 r. Ł. CCLXVI/4.

[20] Рагуля, Васіль. Успаміны... С. 43—44.

[21] Parlament Rzeczypospolitej Polskiej 1919—1928 / Pod. red. H. Mościckiego i W. Dzwonkowskiego. Warszawa, 1928. S. 342.

згадвалі пра Юр'я Сабалеўскага ўжо як пра сябру Беларускага пасольскага клюбу, адзначаючы, праўда, што той *„сьвежа ўступіў у клюб і не пасьпеў сябе праявіць; у любым выпадку, па сваіх перакананьнях належыць да скрайняй лявіцы, таму, хутчэй за ўсё, далучыцца да Грамады“*[22].

Адносна дзейнасьці Сабалеўскага ў якасьці соймавага пасла большасьць аўтараў прысьвечаных яму біяграфічных артыкулаў звычайна абмяжоўваюцца адно толькі згадкай пра яе наяўнасьць як такой. Толькі польскі дасьледнік Чэслаў Бжоза (*Brzoza*) адзначыў, што Сабалеўскі *„браў удзел у паседжаньнях Цэнтральнага камітэту БСРГ, хоць, як падаецца, фармальна ў ягоны склад не ўваходзіў. Не ідэнтыфікаваў сябе цалкам з палітычнай лініяй Клюбу й партыі, відаць, з-за яе залішняга радыкалізму й сувязі з камуністычным рухам“*[23]. На жаль, нам не ўдалося высьветліць, выкарыстаньне якіх крыніцаў дазволіла польскаму дасьледніку зрабіць такую сьмелую, нечаканую й абсалютна памылковую выснову. Памылковасьць яе робіцца відавочнай пасьля азнаямленьня з г. зв. „аўтабіяграфіяй“ старшыні БСРГ Браніслава Тарашкевіча, напісанай ім на загад сьледчых НКВД у 1938 г. Тарашкевіч, апісваючы гісторыю прыходу на пасаду кіраўніка сакратарыяту Грамады нікому перад гэтым невядомага Максіма Бурсевіча зь вёскі Чамяры на Слонімшчыне, двойчы згадвае, што той быў абавязаны сваім вылучэньнем менавіта Сабалеўскаму, які *„працаваў раней з [савецкім] паўпрэдзтвам па іншай лініі“* й быў *„асабістым знаёмым Ульянава“*[24]. Таксама пратэжэ Сабалеўскага, паводле сьведчаньня Тарашкевіча, нібыта зьяўляўся й іншы вядомы грамадоўскі дзеяч, юрысконсульт арганізацыі Фабіян Акінчыц. Урэшце, Тарашкевіч сьведчыў, што Сабалеўскі трымаўся дастаткова радыкальных пазыцыяў і *„хадзіў нават да Войкава* [тагачаснага савецкага пасла. — ***А. П.***] *з скаргай на маю „нерэвалюцыйнасьць“ і з свайго боку прапаноўваў арганізацыю путча, каб „даць магчымасьць“ СССР і Літве (!) умяшацца ў польскія справы“*[25].

[22] CAW. Oddzial II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2696. Raport narodowościowy za kwartał 1-szy 1926 roku Dowództwa Okręgu Korpusu Nr. III. K. 9.

[23] Brzoza, Cz. Sobolewski Jerzy // Polski Słownik Biograficzny. T. 39. Z. 163. Kraków—Wrocław—Warszawa, 2000. S. 574.

[24] Валахановіч, А., Міхнюк, У. Споведзь у надзеі застацца жывым. Мінск, 1999. С. 65.

[25] Тамсама. С. 67.





Якія з усяго гэтага можна зрабіць высновы? У першую чаргу, што Сабалеўскі, відаць, ня быў у Грамадзе і ўвогуле ў тагачасным заходнебеларускім радыкальным руху нейкай зусім ужо малаўплывовай асобай (як гэта часам падаецца), нягледзячы на тое, што той жа Тарашкевіч у адным месцы сваёй аўтабіяграфіі й адзначыў, што ён *„да кіраўніцтва Грамады не належаў“*. Падаецца ўсё ж, што роля Сабалеўскага была ў Грамадзе куды большая, чым можа на першы погляд здавацца, проста яна зь нейкіх меркаваньняў ні тады, ні пазьней асабліва не афішавалася. Сабалеўскі ўвесь час імкнуўся заставацца (не выключана, што зусім сьвядома) у ценю, але пры гэтым, як вынікае з вышэй згаданых фактаў, меў магчымасьць расстаўляць на важныя пасады ў партыі сваіх людзей і асабіста, „праз галаву“ афіцыйнага кіраўніцтва Грамады, сустракацца зь яе галоўнымі куратарамі ў савецкім пасольстве. Трэба прызнаць, што „не сьвяціцца“ атрымлівалася ў Сабалеўскага проста бліскуча. У гэтым сэнсе цікава прыгадаць, як запомніўся гэты дзеяч некаторым актыўным удзельнікам тагачаснага беларускага палітычнага жыцьця ў Польшчы. Антон Луцкевіч Сабалеўскага разам з Максімам Бурсевічам і Пятром Мятлой *„мала ведаў, рэдка зь імі сустракаючыся“*[26]. Янка Станкевіч нібыта пра Сабалеўскага *„да нямецкае акупацыі ў 1941 г. [...] адно толькі прыпадкам чуў“*[27]. Характэрна, што й афіцэры II аддзелу Генэральнага штабу Польскага войска, якія пільна адсочвалі й натавалі ўсе працэсы, якія адбываліся ў беларускім руху, адводзілі Юрыю Сабалеўскаму месца толькі ў другой, г. зв. „выканаўчай“ пяцёрцы кіраўнічых органаў Грамады разам з Уладзімерам Самойлам, Аляксандрам Каўшом, Мітрафанам Кэпелем і Антонам Войцікам[28].

Адносна канкрэтнай працы Сабалеўскага ў сьценах Сойму нельга сказаць, што ён вызначаўся надта ўжо выключнай актыўнасьцю, але ў той жа час ня быў і зусім бязьдзейсны. За час свайго пасольства ён 4 разы выступіў з соймавай трыбуны: 24 сакавіка 1926 г. у дыскусіі над справаздачай соймавай камісіі ў справе абсьледаваньня стану польскіх турмаў, 21 ліпеня 1926 г. — у дыскусіі над праектам закону аб наданьні прэзыдэнту Польшчы паўнамоцтваў выдаваць распараджэньні, якія будуць мець моц закону, 25 студзеня 1927 г. — у абарону сваіх арыштаваных 15—17 студзеня 1927 г. калегаў-паслоў з Грамады, 27 студзеня

[26] Луцкевіч, Антон. Да гісторыі беларускага руху. Беласток—Вільня, 2010. С. 254.

[27] Станкевіч, Янка. За родную мову й праўдзівы назоў. Вільня, 2006. С. 265.

[28] Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мінск, 2009. С. 249.

1927 г. — у дыскусіі над папярэднім праектам бюджэту на 1927/1928 гг. Для парлямэнтарыя, якому свае абавязкі давялося выконваць фактычна толькі трохі больш за паўтара года, такія паказьнікі выступаў былі зусім ня дрэнныя (было шмат такіх паслоў, якія ні разу не выступілі й за пяць гадоў дзеяньня свайго мандату). Акрамя таго, з 25 сакавіка да 16 лістапада 1926 г. Сабалеўскі падаў ад свайго імя маршалку Сойму 13 інтэрпэляцыяў (запытаў) наконт розных злоўжываньняў польскіх уладаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў дачыненьнях зь мясцовым насельніцтвам. Асноўнай тэмай гэтых інтэрпэляцыяў быў пратэст супраць шматлікіх арыштаў на заходнебеларускіх землях, супраць злоўжываньняў судоў і пракуратураў, а таксама супраць неналежнага ўтрыманьня вязьняў у турмах[29].

Не заставаўся Сабалеўскі ўбаку й пры правядзеньні грамадоўскай дзейнасьці па-за сьценамі парлямэнту. Відаць, галоўным кірункам, за які ён у той час адказваў у партыі, была арганізацыя абароны палітычных вязьняў падчас шматлікіх у той час судоў над імі, арганізаваных на тэрыторыі Заходняй Беларусі польскімі ўладамі. Гэтак, на працэсе супраць лідэраў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які адбываўся ў Вільні ўвесну 1928 г., у якасьці сьведкаў у справе сярод іншых выступілі некалькі вядомых віленскіх адвакатаў, якія галоўным чынам абаранялі беларусаў падчас шматлікіх тагачасных палітычных працэсаў: Стэфан Міцкевіч, Юзаф Чэрніхаў, Вацлаў Родзевіч, Павал Андрэеў. Усе яны ў адзін голас сьцьвярджалі, што ў 1926 г. перамовы адносна абароны на судзе арыштаваных радыкальных дзеячаў амаль заўсёды праводзіў зь імі ад імя Грамады менавіта Сабалеўскі, які сам часта іхныя паслугі й аплочваў, хоць не заўсёды быў у гэтай справе акуратны. Сярод іншага, Сабалеўскі дабіваўся ў той час таго, каб усе найманыя адвакаты пагадзіліся браць аплату за свае паслугі паводле ўніфікаванай стаўкі, хоць разуменьне такая прапанова знайшла далёка ня ў кожнага зь іх[30]. Улічваючы такую „спэцыялізацыю“ Сабалеўскага ў Грамадзе, зусім натуральным выглядае тое, што менавіта ён узначаліў сьледчую камісію Грамады падчас высьвятленьня сумнавядомага выпадку жорсткага разгону паліцыяй 5 сьнежня 1926 г. павятовага зьезду БСРГ у Старабярозаве Бельскага павету, калі ў ліку пацярпелых аказаліся і „недатыкальныя“ грамадоўскія паслы Павал Валошын і Пятро Мятла[31]. За некалькі ж месяцаў перад гэтым прыкрым здарэньнем, 4 жніўня 1926 г., Сабалеўскі разам з Браніславам Тарашкевічам, Іванам Савіцкім і Міхаілам Заморыным браў удзел у міжпартыйным сходзе прадстаўнікоў БСРГ, Незалежнай сялянскай партыі й лявіцы віленскіх прафсаюзаў. На гэтым паседжаньні быў створаны Міжпартыйны камітэт барацьбы за амністыю, і Сабалеўскі быў выбраны яго сакратаром[32].

Аднак расьсьледаваньнем чыненых уладамі злоўжываньняў і абаронай палітычных вязьняў актыўнасьць Сабалеўскага ў Грамадзе й іншых тагачасных заходнебеларускіх арганізацыях далёка не абмяжоўвалася. Гэтак, 22 жніўня ён разам зь Пятром Мятлой і Сымонам Рак-Міхайлоўскім прысутнічаў на павятовым зьезьдзе БСРГ у Паставах (хоць там не выступаў). 8 верасьня 1926 г. Сабалеўскі прысутнічаў на надзвычайным паседжаньні Віленскага цэнтральнага гуртка Таварыства беларускай школы, але ў кіраўнічыя органы яго не абралі. 19 верасьня 1926 г. Сабалеўскі разам зь Пятром Мятлой быў на зьезьдзе БСРГ Стаўпецкага павету ў Новым Сьвержані й выступіў там з прамовай. 19 кастрычніка 1926 г. Сабалеўскі разам з Браніславам Тарашкевічам, Пятром Мятлой, паслами ад НПХ Сільвэстрам Ваявудзкім і Станіславам Балінымбраў удзел у нарадзе, якая адбылася на кватэры Радаслава Астроўскага й была прысьвечаная забойству старшынём гуртка БСРГ зь вёскі Сьценкі Туміловіцкай гміны Андрэем Юдзенічам агента палітычнай паліцыі Нікадзіма Івашкевіча, а таксама рэпрэсіям уладаў у дачыненьні грамадоўскіх гурткоў. Урэшце, у сьнежні 1926 г. ён разам зь іншымі грамадоўскімі паслами прымаў у Вільні дэпутата ангельскага парлямэнту Шэдфэрда[33].

Да сказанага можна дадаць, што 7 лістапада 1926 г. Сабалеўскі склікаў у Баранавічах зьезд беларускіх дзеячаў Стаўпецкага, Баранавіцкага й Навагрудзкага паветаў з мэтай прыцягненьня да БСРГ элемэнтаў, якія да гэтага часу заставаліся па-за яе межамі, у першую чаргу прыхільнікаў у свой час вядомага беларускага палянафільскага дзеяча Паўла Алексюка, што на той час адышоў у цень. Аднак жа пастаўленай ад пачатку мэты Сабалеўскаму дасягнуць не ўдалося праз залішне

[29] Skorowidz osobowy do sprawozdań stenograficznych z posiedzeń plenarnych Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej od 28 listopada 1922 r. do 3 listopada 1927 r. Okres I. S. 620—621.

[30] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НА РБ). Ф. 882. Воп. 1. Адз. зах. 27. Арк. 66—68, 73—74, 125.

[31] Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Т. 1. С. 443—444.

[32] Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). Ф. 3. Воп. 1. Спр. 195. Арк. 61.

[33] БДАМЛіМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 195. Арк. 72, 74, 81, 96, 103.

вялікія патрабаваньні, якія выставіў Аляксюк[34]. Акрамя ўсяго згаданага, Сабалеўскі часам выступаў на старонках заходнебеларускай прэсы з артыкуламі, у якіх тлумачыў беларускаму сялянству ягоныя правы паводле польскіх законаў[35].

Такая даволі звычайная для тагачаснага беларускага парлямэнтарыя ў Польшчы дзейнасьць мусіла, аднак, скончыцца ў студзені 1927 г., калі польскія ўлады перайшлі ў адкрыты наступ на беларускі радыкальны рух, арыштаваўшы 4-х паслоў БСРГ і пасла Фэлікса Галавача з ідэалягічна блізкай Незалежнай сялянскай партыі (НПХ). Сабалеўскі ў такой сытуацыі аказаўся адзіным з паслоў-грамадоўцаў, хто застаўся на волі, а неўзабаве ён на непрацяглы час выехаў з Польшчы на тэрыторыю Нямеччыны й Вольнага гораду Гданьску. Менавіта гэтым некалькім месяцам ягонага жыцьця прысьвечаныя ўспаміны, што друкуюцца ў гэтым нумары часопісу. У іх Сабалеўскі даволі падрабязна апісаў свае перажываньні й развагі, распавёў пра ўласныя маральныя ваганьні ва ўмовах як непасрэднага, гэтак і прыхаванага ціску на сябе з боку функцыянэраў КПЗБ з мэтай змусіць да выезду на сталае жыцьцё ў СССР. Урэшце Сабалеўскі аказаўся здольны на прыняцьце даволі нестандартнага для тагачасных радыкальных дзеячаў рашэньня, адхіліўшы прапановы камуністаў і наважыўшыся на вяртаньне назад у Польшчу. Відавочны „пракол“ камуністаў у справе выезду Сабалеўскага пасьля знайшоў адлюстраваньне нават у паказаньнях, дадзеных у 1937 г. падчас допытаў у НКВД тагачасным дарадцам савецкага пасольства ў Варшаве Аляксандрам Ульянавым, які фактычна закуліснa накіроўваў разьвіцьцё левaрадыкальнага руху ў Заходняй Беларусі: *„У Менск меркавалася перакінуць Сабалеўскага — пятага дэпутата Грамады, які быў агентам 2-га аддзелу польгалоўштабу. Аднак, калі Сабалеўскі быў ужо ў Данцыгу, ён спалохаўся й адмовіўся ад далейшай паездкі, бо адзін украінскі дэпутат паведаміў яму, што ў СССР, на Ўкраіне, адбываюцца арышты ўдзельнікаў раскрытых антысавецкіх арганізацыяў“*[36]. У праўдзівасьці гэтага сьведчаньня, нягледзячы

[34] CAW. Oddzial II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2696. Raport narodowościowy za kwartał 4-ty 1926 roku Dowództwa Okręgu Korpusu Nr. III. K. 25.

[35] Сабалеўскі, Ю. Дарожная павіннасьць // Беларуская справа. 1926. 17 ліпеня. №24. С. 2—3; Сабалеўскі, Ю. Натуральная павіннасьць // Беларуская справа. №25. 21 ліпеня 1926. С. 2; №26. 24 ліпеня 1926. С. 2—3.

[36] Илькевич, Н. Н., Платонов, Р. П. Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР. (Фальсификация органами НКВД уголовных дел в 1937—1938 гг.) Минск, 1997. С. 26.





на спэцыфічныя ўмовы, у якіх яно было дадзена, у нас няма ніякіх падстаў сумнявацца, паколькі яно нават у дробных дэталях супадае з тым, што апісаў на старонках сваіх успамінаў сам Сабалеўскі.

Дакладнай даты, калі Сабалеўскі вярнуўся з Гданьску ў Польшчу, мы ня ведаем, але адбыцца гэта мусіла не пазьней за жнівень ці верасень 1927 г. 7, 8 і 10 жніўня 1927 г. датуюцца лісты Сабалеўскага да нейкіх Антона Канкаловіча й Баляслава Хлебнага з Валожына, а таксама да А. О. без канкрэтнай геаграфічнай прывязкі, выяўленыя намі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе Прадстаўніцтва КПЗБ пры ЦК КПБ(б)[37]. Сутнасьць пытаньняў, якія ў іх уздымаюцца, не зусім зразумелая — гэта можа быць як звычайная прыватная карэспандэнцыя, пры дапамозе якой Сабалеўскі вырашаў свае асабістыя, не датычныя палітыкі справы, гэтак і шыфраваны ліст, у якім за фармальна бяскрыўднымі й малацікавымі для ня ўведзенага ў кантэкст чалавека хаваецца зусім іншае значэньне[38]. Немалаважна, аднак, тое, што ў

[37] НА РБ. Ф. 242-п. Воп. 1. Адз. зах. 14. Арк. 172, 174—178.

[38] У якасьці прыкладу ніжэй прыводзіцца тэкст аднаго зь лістоў Сабалеўскага, напісанага па-расейску да Антона Канкаловіча 8 жніўня 1927 г.:
*„Паважаны Антон.*
*Сегодня пошел было отправить письмо, но получил уведомление о прибытии инструментов. Великое спасибо тебе и всем причастным в этом деле. Хорошо, что это удалось вырвать, а, может быть, получу и другое... Ты хорошенько читай мои письма, чтобы не перепутать. Сегодня высылаю письмо к Хлебному о твоем долге. Жулик по жульницкому, не хочет платить и взваливает на меня. Я к этим деньгам никакого не имею отношения. В прошлом году писал Хлебный, что деньги выслал тебе на полк. Потребуй от Хлебного мою отчетность и в ней найдешь отметку об уплате мною 85 злотых в злоте. Он, за время моего сидения, что хотел, то и делал, я же оплатил более 2000 зл. по всем его счетам. По получении письма ты спроси у него, что он думает делать с твоими деньгами. Ты его не бойся, он тебя не рассчитает, потому что боится задираться, а, вдобавок, страшно труслив.*
*На всякий случай материал собирай, а если удастся вырвать инструменты без суда — тем лучше. Со своим землемерством ты далеко не уйдешь (дойдешь, разве, до того поля, где пропали мои сапоги).*
*Не покупай ничего лишнего, собери монету, она тебе очень пригодится на черный день.*
*Дело мое будет вести против Хлебного брат ОВ в Новогрудке — Кляевский.*
*Будь здоров — твой Ю. Собол.“* (НА РБ. Ф. 242-п. Воп. 1. Адз. зах. 14. Арк. 174).

якасьці зваротнага адрасу на ўсіх капэртах пазначаецца „Warszawa, Sejm“, да таго ж у лісьце да Б. Хлебнага (у якім ішла гаворка пра запазычаныя аўтару грошы) гаварылася пра намер Сабалеўскага ў хуткім часе падаць на яго ў суд. Натуральна, апошняе магчыма было толькі ў тым выпадку, калі б Сабалеўскі легальна знаходзіўся ў Польшчы. Дзеля таго мы можам прыпусьціць, што ў пачатку жніўня 1927 г. Юры Сабалеўскі ці ўжо вярнуўся ў Польшчу, ці меў цьвёрды намер гэта зрабіць найбліжэйшым часам[39].

Ва ўспамінах Сабалеўскі падае прынятае сабой рашэньне аб вяртаньні ў Польшчу як акт выключнай самаахвярнасьці, паколькі на радзіме яго нібыта непазьбежна чакаў арышт і далучэньне да справы зьняволеных раней калегаў-„грамадоўцаў“. Нічога падобнага, аднак, не адбылося. Ці то польскія ўлады не планавалі ўжываць адносна апошняга з грамадоўскіх паслоў рэпрэсіўныя захады ад самага пачатку (і ён быў пэўным аналягам „няўлоўнага Джо“ зь вядомай казкі), ці то перад вяртаньнем Сабалеўскаму ўдалося нейкім чынам дабіцца ад іх пэўных гарантыяў бясьпекі (пра што ва ўспамінах аніводным словам ня згадваецца), аднак, прыехаўшы ў Польшчу, Сабалеўскі ня толькі застаўся на волі, але 19 верасьня 1927 г. нават заявіў пра свой выхад з пасольскага клюбу Беларускай сялянска-работніцкай грамады (фактычна ўжо няіснага) і падаў заяву на ўступленьне ў Беларускі пасольскі клюб на чале з Фабіянам Ярэмічам[40]. У тым, што гэтая заява зьявілася дастаткова позна (калі прыняць вэрсію, што Сабалеўскі вярнуўся яшчэ ў жніўні), няма нічога дзіўнага, бо на гэты дзень проста прыпала першае пасьля 13 ліпеня паседжаньне Сойму.

Аналізуючы апошні згаданы крок Юр’я Сабалеўскага, варта адзначыць, што ён меў у першую чаргу сымбалічнае значэньне, бо пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў выбранага ў 1922 г. няўхільна набліжаўся да канца, і паседжаньне, падчас якога Сабалеўскі абвясьціў пра сваё далучэньне да БПК, стала для Сойму гэтага скліканьня фактычна апошнім (хоць фармальна парлямэнт быў распушчаны толькі праз 2 месяцы). Таму сваёй заявай Сабалеўскі, відаць, меў намер ня столькі ўзмацніць беларускую нацыянальную соймавую фракцыю, колькі публічна засьведчыць свой асабісты разрыў зь левацыкальным рухам.

Сабалеўскага прынялі ў Беларускі пасольскі клюб адразу ж і без аніякіх пытаньняў. Відаць, сярод іншага, гэтаму паспрыяла ягонае даўняе сяброўства з адным зь лідэраў клюбу, Васілём Рагулем, які незадоўга перад гэтым таксама перажыў падобную эвалюцыю[41]. Ва ўсялякім выпадку, калі 4 лістапада 1927 г. на паседжаньні БПК разглядалася пытаньне аб прыняцьці ў клюб былых паслоў Незалежнай сялянскай партыі Шакуна й Шапеля (абодвум у гэтым адмовілі), Сабалеўскі быў ужо паўнавартасным сябрам клюбу й нават выконваў абавязкі клюбнага сакратара[42].

Несумненна, што, прымаючы ў свае шэрагі Юр’я Сабалеўскага, лідэры Беларускага пасольскага клюбу ўлічвалі й набліжэньне чарговых парлямэнцкіх выбараў, якія мусілі адбыцца ўвесну 1928 г. У тагачаснай палітычнай сытуацыі вялікае значэньне мела, на баку якой з палітычных сілаў выступяць шматлікія былыя прыхільнікі нядаўна забароненай Грамады. Сабалеўскаму як аднаму з грамадоўскіх лідэраў належала сваім уласным выбарам паказваць прыклад іншым, менш значным дзеячам. Небясьпеку магчымага ўплыву былога пасла на сытуацыю добра ўсьведамлялі лідэры радыкальнай плыні былой Грамады, якія адразу ж на старонках сваёй прэсы распачалі акцыю дыскрэдытацыі Сабалеўскага. Ужо ў сярэдзіне лістапада 1927 г. ягоныя паводзіны сталі адным з галоўных аб’ектаў крытыкі радыкальнай беларускай прэсы ў артыкуле пад характэрным назовам „Дэмаралізацыя“. Сабалеўскі там называўся *„перапалоханым і самазрокшымся паслом“*, ягоныя паводзіны — *„палітычным самагубствам“*. Акрамя таго, сьцьвярджалася, што *„як мора выкідае нягодныя, непатрэбныя яму трэскі, так і тут выкінула мора працоўных — непатрэбных яму вырадкаў, якія пайшлі сьвядома на службу варожым народу стыхіям,*

[39] Дастаткова туманны зьмест караценькага ліста Сабалеўскага да нейкага А. О. ад 8 жніўня 1927 г. асабіста мяне змушае схіляцца хутчэй да другой вэрсіі: *„Дорогой А. О. Я уже готов окончательно воспользоваться обещанным Вами 15/8. Думаю, что это уже верно и окончательно. Новых причин не может быть, потому что нахожусь нравственно в „аду“. После устройства семьи, если потребуют этого условия нашей страны, могу появиться снова, но с другим настроением. Ваш .... 8/8 1927 г.“* (НА РБ. Ф. 242-п. Воп. 1. Адз. зах. 14. Арк. 172).

[40] Перамога нацыянальнага фронта // Сялянская ніва. 1927. 21 верасьня. №68. С. 1.

[41] Пра эвалюцыю Васіля Рагулі і ўвогуле пра працэс фармаваньня двух супярэчных палітычных кірункаў у межах раней адзінага Беларускага пасольскага клюбу гл. падрабязьней: Пашкевіч, А. Беларуская сялянска-работніцкая Грамада ў першае паўгоддзе існавання (чэрвень—снежань 1925 г.) / / Гістарычны альманах. Т. 12. 2006. С. 23—36.

[42] Паслы Шакун і Шапель не прыняты ў Беларускі Пасольскі Клюб // Сялянская ніва. №81. 5 лістапада 1927. С. 3.

*пайшлі заціскаць разам з палітычнымі спэкулянтамі яшчэ цясьней пятлю на шыю беларускім працоўным гушчам [...] „Інтэлігентаў“, розных „паслоў“ — няма чаго шкадаваць. Балота — ідаць, родная ім стыхія!“*[43].

Згаданы артыкул ня быў пэрсанальна скіраваны толькі супраць Сабалеўскага — у ім ён крытыкаваўся разам зь іншымі дзеячамі, якія мелі рэпутацыю перакананых палянафілаў ці проста падазраваліся ў супрацы з польскімі ўладамі. Тым ня менш, адчуўшы ў гэтым матэрыяле небясьпеку ў першую чаргу для сябе, Сабалеўскі паспрабаваў перахапіць ініцыятыву, выступіўшы з адкрытым лістом да рэдактара радыкальнай газэты „Праца“, у якой быў апублікаваны вышэй цытаваны артыкул. У гэтым даволі доўгім допісе ён, у прыватнасьці, пісаў:

*„Думалася мне перш, што мы разышліся безь недагаворак. [...] Я ішоў разам, пакуль для сябе лічыў магчымымісьці. Мая добрая воля, ці йсьці далей, ці спыніцца. Нікому ніякіх абавязкаў я не даваў, вэксалёў не падпісваў, а таму ніякіх даўгоў за сабою не прызнаю. Я адышоў бяз мэты рэканструкцыі... На жаль, Пане Рэдактар, Вы ў дыктатарскі спосаб накідваеце чытачу свой прыгавар, свой асуд, але не прытачваеце таго матэрыялу, паводле каторага Вы судзілі.*

*Якое харобрасьці Вы ад мяне жадаеце? Вам добра вядомы ўсе прычыны і абставіны майго выхаду з „Грамады“ і чаго я, узапраўды, спалохаўся (а Вы ўпарта аб гэтым маўчыцё). Што Вы лічыце самагубствам у маім становішчы? Ці тое, што я не павёў „Грамаду“ ў падпольле? Ці тое, што я, маючы ўжо гатовы акт абвінавачаньня па 102 арт. К. К., не баюся пакаштаваць Лукішак або Вронак* [вядомая польская турма недалёка ад Познані. — ***А. П.***] *і ці тое, што я не пайшоў па лёсу палітычнага эмігранта? А раз Вы гаворыце і не дагаварываеце, то запрашаю Вас, Пане Рэдактар, да далейшага разьвіцьця свайго артыкулу „Дэмаралізацыя“. Дайце больш* канкрэтнага матар'ялу [вылучэньне Ю. Сабалеўскага. — ***А. П.***] *для чытача аб маіх грахох і нявыкананых абавязках, толькі, калі ласка, не скупіцеся на друк і паперу. Друкуйце ўвесь матар'ял, які ўбачылі пад маім парасольчыкам. У залежнасьці ад Вашага матар'ялу буду публікаваць свае адказы.*

*У сваей дэклярацыі я агранічыўся тым, што хацеў стаць на ўбоччу, „не чапаю я Вас — не чапайце ж і Вы мяне“. Але, на жаль, „Праца“ ўбівае асінавы кол у пабудаваную мне магілу і пачынае варочаць мае косьці і паліваць іх брудам. Гэтага залішне. Я схапіўся за Ваш кол і*

[43] Дэмаралізацыя // Праца. №3. 12 лістапада 1927. С. 1.





*вылажу з магілы... Я яшчэ жывы і поўны сілы і маю магчымасьць бараніцца і мерацца сіламі і таксама, ідучы Вашымі дарогамі, прыпадняць і над Вамі парасольчык і сказаць аб Вашых схованках...“*[44].

У гэтым выпадку трэба прызнаць, што Сабалеўскі добра разьлічыў свае дзеяньні й сапраўды часова перахапіў з рук сваіх апанэнтаў ініцыятыву. Апошнія, несумненна, мелі на Сабалеўскага шмат кампрамату, але ўступленьне ў публічную дыскусію з прывядзеньнем канкрэтных фактаў у той сытуацыі шкодзіла б перш за ўсё не яму асабіста, а зьняволеным паслам Грамады.

Між тым 28 лістапада 1927 г. нарэшце прынялі даўно чаканае рашэньне аб роспуску парлямэнту. Новыя выбары прызначылі на сакавік 1928 г. Юры Сабалеўскі, натуральна, не зьбіраўся заставацца ўбаку ад гэтай кампаніі, і 7 сьнежня 1927 г. разам з Фабіянам Ярэмічам, Вячаславам Багдановічам, Янкам Пазьняком, Васілём Рагулем, Паўлам Карузам, Альбінам Стаповічам, Іванам Куніцкім і Лукашом Голадам узяў удзел у заснаваньні Беларускага цэнтральнага аб'яднанага выбарчага камітэту (БЦАВК)[45].

28 сьнежня 1927 г. у Вільні адбыўся ўрачысты зьезд вышэйзгаданага камітэту, які плянаваў праводзіць выбарчую кампанію ў складзе новастворанага Блёку нацыянальных меншасьцяў. Сабалеўскі выступіў на гэтым сходзе з дакладам пра адносіны БЦАВК да іншых беларускіх нацыянальных партыяў, і падчас гэтага выступу яскрава выявілася тое, што захаваньне ім, у адрозьненьне ад калегаў-„грамадоўцаў“, асабістай свабоды й далучэньне да былых палітычных праціўнікаў Грамады далёка ня ўсімі беларускімі актывістамі ўспрымаецца станоўча. Малодшы рэфэрэнт віленскай паліцыі Р. Вульц, які прысутнічаў на зьезьдзе як прадстаўнік ад уладаў (гэта прадугледжвалася тагачаснымі польскімі законамі) у сваёй разгорнутай справаздачы пра зьезд пісаў пра выступленьне Сабалеўскага гэтак:

*„На сцэну выходзіць былы пасол Сабалеўскі. Адныя сьвісьцяць, а другія сустракаюць яго воплескамі. Адзін запытвае Сабалеўскага, ад імя якой палітычнай партыі ён выступае. Сабалеўскі заяўляе, што цяпер зьяўляецца беспартыйным і выступае тут як зусім беспартыйны. Гэты дэлегат крычыць: „Ты — здраднік беларускай справы“.*

[44] Адкрытае пісьмо пасла Сабалеўскага // Сялянская ніва. №86. 23 лістапада 1927. С. 3.

[45] Грамадзяне Беларусы! Сяляне і Работнікі! // Сялянская ніва. №91. 10 сьнежня 1927. С. 1.

*Старшыня супакойвае сабраных і просіць выслухаць заяву Сабалеўскага. Сабалеўскі пачынае ад палітычных зьменаў, якія адбыліся пасьля 1925 г., стараецца абгрунтаваць неабходнасьць стварэньня блёку, зноў намагаецца давесьці, што левыя польскія партыі ідуць адзіным фронтам супраць нацыянальных меншасьцяў, не шкадуе словаў крытыкі для Ўмястоўскага, Паўлюкевіча й „Аб'яднаньня“* [палянафільскія дзеячы й арганізацыя. — ***А. П.***]. *Тлумачыць свой выхад з Грамады тым, што ён бачыў, што беларускія паслы з Грамады знаходзяцца пад уплывам некаторых левых польскіх паслоў, да якіх ён меў падозраньне, што яны зьяўляюцца агентамі палітычнай паліцыі. Аказалася, кажа, што так і было. Цяпер група, якая гуртуецца вакол часопісу „Права працы“, пастаянна на мяне нападае. Яны ад мяне патрабавалі, каб я скіраваў партыю ў падпольле. На гэта я пагадзіцца не захацеў, бо лічыў, што ўжо й так даволі беларусаў сядзіць у турмах. Далей ён чытае свае лісты, якія ў свой час надрукаваў у газэце „Сялянская ніва“.*

*Так як інцыдэнт з Сабалеўскім пачынае завастрацца, дэлегат, які кінуў яму ў твар слова „здрада“, энэргічна дамагаецца слова. Ярэміч ставіць прапанову, каб справу Сабалеўскага зьняць з парадку дня. Сабраныя на гэта не пагаджаюцца. Яны лічаць, што трэба даць дэлегату некалькі хвілін часу, каб ён мог выказацца. Гэты дэлегат атрымлівае тры хвіліны часу. Ён зноў заяўляе, што лічыць Сабалеўскага здраднікам беларускай справы, а героі — гэта зьняволеныя беларускія паслы. „Хай жывуць беларускія паслы, якія знаходзяцца ў турме“, — крычыць ён.*

*Я загадаў паліцыянту, каб ён высьветліў асобу гэтага дэлегата. Аказалася, што гэта быў нейкі Міхал Мальцаў, сын Мікалая, сталы жыхар вёскі Малыя Князікоўцы Лідзкай гміны“*[46].

Згаданы зьезд выбарнікаў адбываўся адкрыта й публічна, таму проста замаўчаць гэты прыкры для Сабалеўскага выпадак, даючы на сваіх старонках справаздачу зь зьезду, не маглі нават друкаваныя органы партыяў, якія ўваходзілі ў БЦАВК. Дзеля гэтага аўтар матэрыялу пра зьезд, зьмешчанага ў газэце Беларускага сялянскага саюзу „Сялянская ніва“, згадаў пра гэты інцыдэнт, але паспрабаваў яго па магчымасьці зьмякчыць, перавесьці ў сфэру непаразуменьня: *„Уся саля зацікавілася гэтым, думаючы Бог ведае аб чым. Але ж выясьнілася, што грамадзянін, які зрабіў закід п. Сабалеўскаму ў здрадзе, лічыць гэтую здраду ў факце адыходу п. Сабалеўскага ад Грамады. Пасьля гэтага*

[46] Lietuvos centrinis valstybės archyvas (LCVA). F. 15. Ap. 2. B. 385. L. 26.





*стала ясным, што той грамадзянін, робячы закід, сам памыліўся, бо Грамада не існуе, а знача няма каго здраджаць. Цяпер былыя сябры Грамады, як ведама, зьяўляюцца пераважна беспартыйнымі, якія могуць кіравацца ў далейшым згодна сваіх асабістых перакананьняў“*[47]. У сваю чаргу, аўтар справаздачы зь зьезду, надрукаванай у органе Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі „Biełaruskaja Krynica“, паспрабаваў выпадак з Сабалеўскім падаць як зусім малазначны, адзначыўшы, што *„асоба быўшага пасла з Грамады была прынята вельмі прыхільна“*, і назваўшы выступленьне супраць яго *„ня вельмі ўдалым выпадам“*, пасьля якога нібыта *„калі гр. Сабалеўскі даў адпаведныя выясьненьні, то і сам выступаючы проціў Сабалеўскага, як здаецца, астаўся цалком здаволены“*[48]. Сваю карысную для Сабалеўскага інтэрпрэтацыю падала й газэта „Праваслаўная Беларусь“, орган Беларускага праваслаўнага дэмакратычнага аб'яднаньня: *„П. Сабалеўскі спакойна выслухаў гэты закід і пасьля даклада адказаў на яго гарачай прамовай. Ён паказаў, што працаваў шчыра з „Грамадой“ да гэтых пор, пакуль думаў, што яна ідзе па шляху нацыянальнага і сацыяльнага адраджэньня беларускага народу, а калі зь вядомай справы б. п. Ваяводзкага і іншых пераканаўся, што ўва ўсей гэтай акцыі кіруе нейкая іншая злая воля, якая творыць розныя вопыты над жывым целам беларускага народу, якая наўмысьні справакавала і кінула ў турму лепшых яго прыяцеляў, пакутуючых цяпер ува Вронках, ён ня мог ня выйсьці адтуль, бо здрадай беларускаму народу было б там аставацца і там працаваць таму, у каго адчыніліся вочы на такую справу“*[49].

Было, аднак, відавочна, што такія абцякальныя аргумэнты наўрад ці маглі быць асабліва пераканаўчыя. Радыкальная беларуская прэса, скарыстаўшыся з сытуацыі, адразу ж назвала ўсе апраўданьні Сабалеўскага *„недарэчнымі“*, саму сытуацыю, якая склалася — *„запраўдным скандалам для кіраўнікоў зьезду“*, а на тлумачэньні, выказаныя на старонках „Сялянскай нівы“, адказала: *„Паночкі! Праўда — Грамада не існуе і, як здаецца, ня ў здрадзе Грамадзе рэч. Ярэміч і Рагуля таксама не здраджалі сваей партыі, але што яны здраднікі беларускіх працоўных гушчаў — аб гэтым ведае хіба кожны, як таксама і аб іхных*

[47] Зьезд выбаршчыкаў, які быў скліканы Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарным Камітэтам // Сялянская ніва. №1. 1 студзеня 1928. С. 2.

[48] Biełaruski Pradwybarny Źjezd // Biełaruskaja Krynica. №2. 5 studnia 1928. S. 2.

[49] Зьезд выбаршчыкаў, скліканы Цэнтральным Аб'яднаным Беларускім Выбарным Камітэтам (Блёку Нацыянальных Меншасьцяў) // Праваслаўная Беларусь. №1. 1 студзеня 1928. С. 14.

*кумпанох*“[50]. Пасьля гэтага рэгулярна, амаль у кожным нумары прэсы гэтай палітычнай арыентацыі з розных нагодаў зьяўляліся абвінавачаньні Сабалеўскага ў здрадзе й супрацы з польскімі ўладамі[51]. Праўда, звычайна гэтыя газэты адразу ж у друкарні канфіскоўваліся ўладамі й да чытачоў не даходзілі, але несумненна, што такая самая агітацыя адначасова вялася былымі грамадоўцамі й пры іх непасрэднай працы з насельніцтвам ды, падобна на тое, трапляла на ўдзячную глебу.

Урэшце, прааналізаваўшы сытуацыю, кіраўніцтва БЦАВК прыйшло да высновы, што ўдзел такой здыскрэдытаванай і непапулярнай асобы, як Сабалеўскі, у выбарчай кампаніі камітэту прынясе апошняму больш шкоды, чым карысьці. Відаць, менавіта гэтым можна патлумачыць тое, што кандыдатуру Сабалеўскага гэтак і ня ўнесьлі ў выбарчыя сьпісы Блёку нацыянальных меншасьцяў ні на выбарах у Сойм, ні на выбарах у Сэнат. Спроба БЦАВК у адказ на паведамленьне радыкальнай газэты „Сіла працы“, што *„гэты факт тлумачыцца споркай яго за месца па Наваградзкаму ваяводзтву з Рагуляй і страшэннай непапулярнасьцю Сабалеўскага ў гэтай выбарнай акрузе, а асабліва ў роднай яму Стаўпеччыне, дзе яго лічаць, як і належыць, здраднікам працоўных гушчаў*“[52], патлумачыць дадзеную сытуацыю тым, што *„беларускае грамадзянства хіба ж ужо даўно ведае, што п. Сабалеўскі адышоў ад палітычнай працы... аднак жа не пераставаў, здаецца, працаваць наколькі магчыма на культурна-асьветнай і грамадзкай беларускай ніве*“[53], выглядала ў той сытуацыі абсалютна непераканаўчай спробай хоць бы чыста вонкава захаваць „гонар мундзіру“.

Вышэй апісанымі падзеямі фактычна й завершылася актыўная палітычная дзейнасьць Сабалеўскага ў міжваеннай Польшчы. Аднак да спакойнага сямейнага жыцьця яму было яшчэ далёка, бо ў той час усё яшчэ заставалася незакрытай даўняя крымінальная справа, заведзеная перад атрыманьнем пасольскага мандату. 8 траўня 1928 г. паводле ра-

[50] Наша хроніка. Прадстаўленьне з прыгодамі // Думка працы. №1. 4 студзеня 1928. С. 5.

[51] Наша хроніка. Выбарная хроніка. Сельсаюзьнікі з маной даходзяць да вар'яцтва. (Замест фэльетону) // Думка працы. №3. 11 студзеня 1928. С. 2—3; Наша хроніка. Да працэсу Грамады // Думка працы. №4. 14 студзеня 1928. С. 4; Наш адказ // Думка працы. №5. 18 студзеня 1928. С. 1; Яшчэ раз наш адказ Ярэмічаўскай кампаніі // Думка працы. №7. 25 студзеня 1928. С. 1.

[52] Выбарная хроніка. Сабалеўскі выкінуты са сьпіску кандыдатаў Блёку меншасьцяў // Сіла працы. №4. 9 лютага 1928. С. 3.

[53] Выбарная фільма. Праўда „Сілы Працы“ // Сялянская ніва. №17. 18 лютага 1928. С. 2.





шэньня сьледчага судзьдзі пры Акруговым судзе ў Вільні былога пасла арыштавалі ў Стоўпцах, а затым, яшчэ праз амаль паўтара году папярэдняга сьледзтва, судзілі паводле артыкулаў 100 і 102 дзейнага ў той час у Польшчы Крымінальнага кодэксу *„ў сувязі зь ліквідацыяй камуністычна-дывэрсійных групаў на тэрыторыі Навагрaдзкага ваяводзтва*“[54].

Разгляд справы Юр'я Сабалеўскага ў Віленскім акруговым судзе адбыўся на двух паседжаньнях, 6 і 9 верасьня 1929 г. Прысуд быў дастаткова суворы: 6 гадоў цяжкай турмы з залічэньнем 2 гадоў і 1 месяца прэвэнтыўнага арышту[55]. Але сядзець аж столькі Сабалеўскаму не давялося, бо ягоны адвакат Казімер Петрусевіч падаў апэляцыю, а Апэляцыйны суд прыняў рашэньне на карысьць былога пасла, у выніку чаго таго з турмы датэрмінова вызвалілі. Адбылося гэта, калі верыць іншаму быламу беларускаму паслу Аляксандру Стагановічу, які ў той час таксама адседжваў у віленскай турме на Лукішках уласны шасьцігадовы тэрмін зьняволеньня, 15 красавіка 1930 г.[56]

Справа як зь зьняволеньнем, гэтак і з наступным вызваленьнем Юр'я Сабалеўскага выглядае дастаткова дзіўна, бо далёка ня ўсё ў ёй цалкам лягічна. У тым, што арыштаваць і асудзіць Сабалеўскага польскія ўлады мелі ўсе фармальныя падставы, няма ніякага сумневу, улічваючы згаданую наяўнасьць незакрытай крымінальнай справы. Зьдзіўленьне выклікаюць толькі тэрміны, у якія гэта адбылося. Як мы памятаем, Сабалеўскага выпусьцілі з турмы на патрабаваньне Сойму ў пачатку 1926 г. дзеля выкананьня пасольскіх абавязкаў. Прыпыненьне справы супраць пасла, паводле тагачасных польскіх законаў, мусіла дзеяць да таго часу, пакуль ён карыстаўся парлямэнцкім імунітэтам, г. зн. да заканчэньня тэрміну адпаведнай кадэнцыі Сойму. Паводле гэтага правіла, Сабалеўскага мусілі ўзяць пад варту ўжо ў лістападзе 1927 г., пасьля афіцыйнага абвешчаньня роспуску парлямэнту й прызначэньня новых выбараў. Між тым, як мы маглі пераканацца вышэй, анічога падобнага ў той час не адбылося: Сабалеўскага ня толькі не арыштавалі, але ён нават без аніякіх перашкодаў з боку дзяржаўных уладаў намагаўся ўдзельнічаць у новай выбарчай кампаніі, дзе пры пэўных умовах меў шанцы паўторна здабыць пасольскі мандат і адпаведна працягнуць для сябе дзеяньне парлямэнцкага імунітэту.

[54] Archiwum Akt Nowych (AAN) w Warszawie. Ministerstwo Spraw Wewnętrznych (MSW) 1918—1939. Sygn. 1023-dopływy. K. 37.

[55] Białorusini // Warszawska Informacja Prasowa. Wszystkie Stronnictwa. №33 (114). Wrzesień 1929. S. 404.

[56] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск, 2011. С. 90.

Арышт Сабалеўскага адбыўся толькі праз два месяцы пасьля заканчэньня парлямэнцкіх выбараў, у той час, калі ён, здыскрэдытаваны й фактычна пракляты сваімі былымі палітычнымі паплечнікамі, не ўяўляў нейкай рэальнай небясьпекі для інтарэсаў польскай дзяржавы. Навошта ж у такіх абставінах патрэбна было згадваць пра амаль забытую даўнюю справу й асуджаць паводле яе чалавека, які да гэтага часу ўжо перажыў значную палітычную эвалюцыю (фактычна прызнаў свае ранейшыя памылкі), на дастаткова строгае пакараньне? Мы можам выказваць толькі гіпотэзы. Пры ўсёй, на першы погляд, парадаксальнасьці такой высновы, нельга выключаць, што арышт Сабалеўскага й наступнае яго асуджэньне зьдзейсьнілі дзеля ягонай уласнай карысьці й зь ягонай уласнай згоды — каб такім чынам зьняць зь яго павешанае камуністамі кляймо здрадніка й правакатара. У той час у Вільні якраз ішоў судовы працэс над лідэрамі Грамады, на якім Сабалеўскі мог пры пэўных умовах стаць вельмі важным сьведкам абвінавачаньня. Камуністы ж незадоўга перад гэтым выразна засьведчылі сваю рашучасьць змагацца з падобнымі небясьпечнымі для іх інтарэсаў людзьмі, не спыняючыся ў выпадку неабходнасьці нават перад фізычным зьнішчэньнем (найбольш выразным прыкладам чаго можа быць расправа 16 сакавіка 1928 г. з былым лідэрам т. зв. сэцэсіі ў КПЗБ Міхалам Гурыным, выступленьне якога на працэсе „56-ці" над лідэрамі Грамады ў Вільні лічылася камуністамі вельмі непажаданым). У такіх умовах сам Сабалеўскі мог бы ўспрымаць сваё зьняволеньне палякамі на пэўны (фармальна вялікі, але фактычна нашмат зьменшаны) тэрмін як найменшае зло, якое дазваляла яму пазьбегнуць куды большай небясьпекі.

Як бы там ні было, але ў выніку амаль 2 гады, з траўня 1928 г. да красавіка 1930 г., Сабалеўскаму давялося правесьці ў турме на Лукішках, адкуль ён выйшаў, фармальна ачысьціўшыся перад польскай дзяржавай за ранейшыя грахі. Пасьля гэтага Сабалеўскі змог вярнуцца да сваёй ранейшай прафэсійнай дзейнасьці, і працаваць у Стоўпцах прыватным каморнікам, у палітычныя працэсы практычна ня ўмешваючыся. Праўда, паводле зьвестак польскай дасьледніцы Крыстыны Гамулкі, у 1931 г. ён падтрымаў ляяльную ў дачыненьні Польшчы віленскую беларускую арганізацыю „Адраджэньне", створаную Фабіянам Акінчыцам[57], аднак групоўка фактычна існавала толькі на паперы. У цэлым жа, паводле інфармацыі газэты „Przegląd Wileński" („Віленскі агляд"), у сярэдзіне 1930-х гг. Сабалеўскі *„цалкам адышоў ад палітычнага жыцьця й стала жыве ў Стоўпцах, ведучы ціхае жыцьцё маламястэчкавага гаспадара"*[58].

[57] Gomółka, K. Białorusini w II Rzeczypospolitej... S. 90.





Падставай для гэтае згадкі пра Сабалеўскага на старонках віленскай польскай дэмакратычнай газэты стаў ягоны прыезд па нейкіх справах у Вільню ў траўні 1934 г. З гэтага скарыстаўся нехта з аўтараў „Przeglądu Wileńskiego" з крыптанімам *Ol.* (ці не Францішак Аляхновіч?), каб узяць у былога пасла інтэрвію, паколькі незадоўга перад гэтым у Менску адбыўся працэс у сфабрыкаванай справе т. зв. Беларускага нацыянальнага цэнтру, дзе ў якасьці галоўных абвінавачаных праходзілі колішнія калегі Сабалеўскага — лідэры Грамады, якія пасьля вызваленьня з польскай турмы выехалі ў БССР. Запытаны адносна таго, як ён ставіцца да асуджэньня былых сваіх калегаў бальшавіцкімі ўладамі, Сабалеўскі адназначна заявіў, што *„безумоўна, абвінавачваньні, якія выстаўленыя былым грамадоўскім паслам у Менску — недарэчныя. Блізка сутыкаючыся зь імі як у палітычным, так і ў прыватным жыцьці, я катэгарычна сьцьвярджаю, што ўсе закіды савецкіх уладаў на іх адрас — гэта прадукт злой волі. Зрэшты, падобныя абвінавачваньні супярэчаць нават здароваму глузду, бо людзі, якія адседжвалі некалькігадовае турэмнае пакараньне ў Польшчы, не маглі быць асуджаныя за супрацоўніцтва з органамі дзяржаўнае бясьпекі"*.

Адказваючы на пытаньне журналіста адносна сваіх ранейшых і актуальных палітычных поглядаў, Сабалеўскі засьведчыў, што *„я зьяўляюся беларускім нацыяналістам з радыкальнымі сацыяльнымі поглядамі і ў прынцыпе адхіляю парлямэнцкую форму кіраваньня"*. Розлагалосьсі ж з былымі аднапартыйцамі нібыта палягалі на тым, што *„яны* [аднапартыйцы. — ***А. П.***] *— занадта часта бескрытычна схіляліся на бок Камінтэрну, не надаючы належнай увагі беларускім нацыянальным інтарэсам"*. Вельмі крытычна пры гэтым былы пасол паставіўся да актуальнай польскай дзяржаўнай палітыкі ў Заходняй Беларусі:

*„Беларускі селянін гнецца пад цяжарам падаткаў і цярпіць з-за жорсткасьці пры іх спагнаньні. Недахоп зямлі, адсутнасьць дапамогі на правядзеньне рацыянальнай гаспадаркі, чужая мова ў школе й дзяржаўных установах, нават на гмінным узроўні, ставарае настрой прыгнечанасьці й характэрнай для беларуса абыякавасьці ды бездапаможнасьці, адначасова выклікаючы ў ім жаданьне зьмены*

[58] Ol. Nasroje wsi białoruskiej (Rozmowa z b. posłem Sobolewskim) // Przegląd Wileński. №10. 1 czerwca 1934. S. 4.

*становішча, хоць ён і ня ведае, адкуль гэтая зьмена мае прыйсьці. Марыць нават, як бы дзіўна гэта ні выглядала, пра вайну, цешачы сябе надзеяй, што яна зьменіць цяперашні бязрадасны стан…*

*Калі нядаўна насельніцтва непрыхільна глядзела на калгасы, якія ўводзяцца ў Саветах, то цяпер пад уплывам матэрыяльных цяжкасьцяў бяднейшая частка насельніцтва, якая зьяўляецца найбольш шматлікай, нават савецкі экспэрымэнт лічыць лепшым за сваё сучаснае становішча. Карацей кажучы, сытуацыя адчайная*“[59].

Улічваючы такія выразна апазыцыйныя настроі Сабалеўскага, наўрад ці варта асабліва зьдзіўляцца, што ў 1939 г., падчас чарговых масавых „зачыстак“ у асяродзьдзі нацыянальных меншасьцяў, яго разам зь іншымі беларускімі дзеячамі зноў арыштавалі й накіравалі ў канцэнтрацыйны лягер у Картуз-Бярозе. Праўда, наяўныя на сёньняшні дзень біяграфічныя даведнікі падаюць на гэты конт настолькі супярэчлівую й няпэўную інфармацыю[60], што на яе аснове цяжка сказаць, калі гэта магло адбыцца — незадоўга перад пачаткам Другой сусьветнай вайны ці адразу пасьля яе пачатку, ды нават больш за тое — ці меў гэты факт месца ўвогуле. Аднак калі нават новае зьняволеньне былога пасла напрыканцы існаваньня міжваеннай польскай дзяржавы сапраўды мела месца, то ў любым выпадку яно гэтым разам доўжылася зусім няшмат. Ужо ў верасьні 1939 г. у пэрсанальным жыцьці Юр’я Сабалеўскага, як і ў жыцьці ўсяго насельніцтва тагачаснай Заходняй Беларусі, завяршыўся чарговы важны этап ды пачаўся новы, ня менш цікавы, цяжкі й супярэчлівы…

***

Успаміны Юр’я Сабалеўскага „Беларуская сялянска-работніцкая грамада“ друкуюцца паводле першапублікацыі ў 17-ці нумарах часопісу „Аб’еднаньне“ за 1956—1959 гг. Тэкст зьмяшчаецца цалкам з поўным захаваньнем лексычных асаблівасьцяў мовы. Шчыра дзякую сп. Лявону Юрэвічу зь Нью-Ёрку за ласкавае перасыланьне мне ксэракопіі ўспамінаў, без чаго дадзеная публікацыя была б увогуле немагчымая.

[59] Ol. Nasroje wsi białoruskiej (Rozmowa z b. posłem Sobolewskim)… S. 4—5.

[60] Параўн., напрыклад: Саўчанка, Н. Сабалеўскі Юрый Аляксандравіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 6. Кн. 1. Мінск, 2001. С. 184; Чарнякевіч, А. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909—1939 гг. (Біяграфічны даведнік). Мінск, 2003. С. 206; Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991: Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. Т. 3. Кн. 2. Лабадаеў—Яцына. Мінск, 2005. С. 257.



*Успаміны*

***Юры Сабалеўскі***

# БЕЛАРУСКАЯ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЯ ГРАМАДА

**Напярэдадні разгрому Грамады (15.I.1927 году)**

Была даволі вострая зіма. Сьнегу на вуліцах Вільні было многа. Галоўны Сакратарыят Грамады з дня на дзень чакаў арыштаў і ліквідацыі Грамады. Вынікі судовых працэсаў былі да прадбачваньня.

Урад і ягоную адміністрацыю ў Польшчы дзяржаўная канстытуцыйнасьць не абавязвала. Дзяржаўна-праўнаю формулаю для іх была



Юры Сабалеўскі

„Польская Рацыя Стану“[1], і ў яе рамках мог кожны ўрадовец, кожны польскі шавіністы стасаваць бяскарна самаволю, прыкрываючыся патрыятызмам.

У асяродзьдзе Грамады для правакацыі была закінена як польская, так і бальшавіцкая агентура, і разабрацца ў ёй не было магчымасьці. Галоўны Сакратарыят Грамады фактычна ішоў на спатканьне акцыі польскага ўраду, падрыхтоўваючы настроі ў масах аб уплянаваных польскім урадам рэпрэсіях, пагромах і чаканьні судовых працэсаў, на якіх адкрыта практыкавалася падтасоўка фактаў і паслугоўваньне правакатарамі, а пры ўступным паліцыйным сьледзтве — стасаваньне катаваньня. На чарговыя сходы Грамады Стаўпеччыны быў вызначаны я, як абазнаны і з тэрыторыяй, і з народам.

Напярэдадні (14.I.1927 г.) выезду, вечарам, я зайшоў у Галоўны Сакратарыят Грамады, каб забраць пошту ды па дарозе паслаць тэлеграму ў Стоўпцы аб прыезьдзе на наступны дзень на вызначаныя сходы аддзелаў Грамады.

Цягнік зь Вільні адыходзіў пасьля поўначы, таму час мне дазваляў наведаць перад ад'ездам яшчэ г. Астроўскага[2] пад Вільняю — прыгарадзе Калёнія[3]. Пагутарылі, паслухалі радыё, якое тады толькі пачынала ўваходзіць у свае правы. Была пара зьбірацца да цягніка. Ноч зорная і мароз крапчэў. Трэба было пераапранупца ў цяплейшае і ехаць ужо зраньня на наступны дзень. На вакзале Вільні было пуста. Незаўважліва мы з жонкаю прайшлі праз паштовы двор і хутка апынуліся ў сваёй хаце на Антаколі[4]. Звычайна назіраючых за памешканьнем шпікоў на гэты раз не было.

Раніцаю наступнага дня ўбягаюць да мяне сыны гг. Астроўскага і Бурсевіча[5] і перадаюць аб масавых арыштах сяброў Галоўнага Сакратарыяту Грамады — усіх паслоў Сойму, іх бацькоў — Астроўскага і Бурсевіча. Ясна, што мяне ў сувязі з высланаю тэлеграмай меліся забраць у Стоўпцах, што потым і пацьвердзілася.

Чакаць на арышт дома было безрассудна. У такіх выпадках заставалася адно — уцякаць. Насьпех апранаюся і праз садовую фортку выходжу на бакавую вуліцу. Надараецца возьнік. Кутаю галаву ў каўнер футра і еду на Завальную вуліцу да знаёмага па Лукішках[6]. Прымае ветліва. Знаёмы і яго жонка выйшлі ў горад за інфармацыямі. Вярнуліся, паведамляючы, што арышты беларусаў ідуць па ўсёй Заходняй Беларусі, і ня толькі Грамады, але і „Незалежнай Партыі Хлопскай“[7] (радыкальная польска-каталіцкая партыя). Нараджаемся аб далейшым маім пастунаньні. За граніцу ўцякаць недарэчна, а таму пастанаўляю застацца ў Польшчы і чакаць на разьвіцьцё выпадкаў у Варшаве, на тэрыторыі Сойму.

Праз галоўны віленскі вакзал ехаць немагчыма — пазнае паліцыя. Ехаць трэба з маленькага чыгуначнага пункту толькі пасажырскім рабочым цягнікам — найлепш з падгароднага вакзалу Ляндварова[8]. З гораду трэба выехаць вечарам або над змрокам. Грыміруюся. Рэчаў пры сабе ніякіх. Мая сям'я паінфармавана аб маім месцы знаходжаньня і плянах. Жонка прыняла весткі аб арыштах спакойна і вытрымана.

Мароз спаў і паваліў густы лапчасты сьнег. Надзейны шофэр таксі бярэцца адвезьці ў Ляндварова, але прадбачыць цяжкасьці з-за сьнегу. Выехалі... Вуліцамі гораду было магчымым памалу пасоўвацца, але, выехаўшы ў поле, машына пачала буксавацца. Бэнзыны аказалася мала. Варочаемся. Замяняю таксі на коннага возьніка. Набягае ноч. Сьнегу часамі каню па бруха, але сьціхла і выплыў поўны месяц. Дарогу завеяла, і мы ў полі заблудзілі. Едзем на далёкі полыск агню і трапляем на пагранічны польскі пост ад Літвы. Дзівяцца, як можна ў такую замець ехаць; раяць чакаць да раньня. Я тлумачу гандлёвымі меркаваньнямі, каб апярэдзіць канкурэнта ў двары Тышкевіча[9], і пушчаем-

[1] *„Рацыя стану“* (польск. *racja stanu*) — нацыянальныя інтарэсы.

[2] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі, які ў 1924—1936 гг. быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, а таксама ў 1925—1927 гг. — віцэ-старшынём Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

[3] **Калёнія** — у міжваенны час усходняе прадмесьце Вільні, цяпер частка гораду.

[4] **Антокаль** — адзін з гістарычных раёнаў Вільні, які ляжыць на левым беразе Вяльлі.

[5] **Максім Бурсевіч** (1890—1937), заходнебеларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Быў кіраўніком сакратарыяту БСРГ. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі па справе Грамады, асуджаны на 8 гадоў зьняволеньня, у 1930 г. вызвалены згодна з распараджэньнем прэзыдэнта Польшчы. Выехаў у БССР, дзе ў 1933 г. быў рэпрэсаваны. Расстраляны.

[6] **Лукішкі** — самая вядомая ў міжваеннай Заходняй Беларусі турма, якая знаходзілася ў цэнтры Вільні. Функцыянуе да цяперашняга часу.

[7] **Незалежная сялянская партыя** (*Niezależna Partja Chłopska*, НПХ) — радыкальная сялянская арганізацыя, якая дзейнічала ў Польшчы ў 1924—1927 гг. Фактычна яна была аналягам Беларускай сялянска-работніцкай грамады на этнічна польскіх землях.

[8] **Ляндварова** — горад, чыгуначны вузел на Вільню, Горадню й Коўна, які знаходзіцца за 18 км на паўднёвы захад ад Вільні. Цяпер афіцыйна называецца Лянтварыс (*Lentvaris*).

[9] Ляндварова зь сярэдзіны XIX ст. была сядзібай графаў Тышкевічаў.

ся ў дарогу пры ветлівым паясьненьні яе камэндантам. Аб самапачуцьці ў гэты час гаварыць не прыходзіцца. Каты, як кажуць, сэрца скрэблі кіпцюрамі.

Ляндварова я знаў перад Першаю ўсясьветнаю вайною 1914 г. Гэта быў вельмі рухлівы прыгарад. Сяньня тут пуста і глуха. Гатэляў — ніякіх. Адна захудалая карчма. Далі мне начлег на падзёртай канапе. Аб сну не было мовы. Пасажырскі зборны цягнік адыходзіць на Варшаву перад усходам сонца. Купляю ў карчмара ручнік, бо „мне баляць зубы". Укручваю ім галаву, бяру білет і лезу ў асабліва набіты вагон, машчуся ў кут… „мне баляць зубы".

У Варшаве буду позна вечарам. У галаве рой думак… Справа грамадзка-палітычная на першым месцы, але я не абазнаны з многімі ўстаноўкамі свайго цэнтру. Памылак тут дапушчаць нельга. Выясьніць трэба, што пастаўлена фармальным матывам абвінавачваньня? Не на апошнім месцы пытаньне аб сям'і, бо я нядаўна толькі з турмы, і фінансавы стан далёкі да забясьпечваючага патрэбы дня. Вымагаецца асьцярожнасьць, удумлівасьць і развага. Трэба спадзявацца, што калі і не заарыштуюць, то трэба будзе спаткацца з падстаўляньнем сьлізкіх кладак з розных напрамкаў. На лёгкі кантакт з арыштаванымі разьлічваць нельга. Калі і будуць пераказваць парады, то вельмі спозьненыя і таму неактуальныя ў часе.

А цягнік падсоўваецца пад Варшаву, і тут новае пытаньне — куды і да каго ехаць? Сойм на калядным яшчэ адпачынку, і мне зьяўляцца на панадворку Сойму — рызыкоўна. Выпадкі будуць разгортвацца прысьпешаным парадкам, і паўстае пытаньне, ці я пасьпею адпаведна зарыентавацца? Скампрамэтавацца неадпаведным ходам лёгка; і я пачаў шкадаваць, што не падзяліў лёс сваіх сяброў за кратамі Лукішак, зь якімі я ўжо так дакладна абазнаны!

Непакоіць узможаная дзейнасьць правакатараў, а што агентура закінена — у гэтым няма сумліву. Усплываюць у памяці розныя адарваныя мамэнты з гутарак і спатканьняў, і на іх пачынаюць напружана будавацца розныя магчымыя і ўвязкі, і разьвязкі.

Прыпомнілася якраз гутарка з г. Тарашкевічам[10] апошнім часам. Ехалі разам у Вільню з Варшавы. Тарашкевіч папераджаючы гаварыў,

[10] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892—1938), грамадзка-палітычны й культурна-асьветны дзеяч, аўтар „Беларускай граматыкі для школ". У 1922—1927 гг. — пасол польскага Сойму, у 1925—1927 гг. — старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). У 1933 г. выехаў у СССР, дзе быў арыштаваны й расстраляны.





што польская палітыка ўперлася ў сьцяну і чакаюцца надзвычайныя выпадкі, падчас якіх Грамада будзе паклікана да вырашальнага ўдзелу ў адбудове беларускай незалежнасьці. Расказваў, што адбываецца ўжо падрыхтоўчая праца, дзеля чаго нельга ад яго (Тарашкевіча) вымагаць яснасьці. Калі ён часамі спасылаецца, што забываецца аб выкананьні даручэньняў нашага цэнтру, то гэта толькі тактычны ход зь яго боку, каб ня шкодзіць аснаўным палітычным плянаваньням у гэтай галіне, адначасна прасіў не дамагацца ад яго расшыфроўкі.

Тарашкевічу мы ўсе давяралі і крэдытавалі ягоныя палітычныя хады, але што? Мы і ня ведалі, і не намагаліся ведаць аб дакладным зьмесьце ягоных ходаў. Чакаўся перадтэрміновы роспуск Сойму і выбары наступнага. Фактычна выпадкі ішлі і чаргаваліся чахардою — рознымі пераскокамі, і арыентавацца ў іх было вельмі цяжка.

Палітыка Пілсудзкага адбівала ягоны эксцэнтрычны характар і такія ж самыя ягоныя погляды: адным канцом упіраліся яны ў заалягічны клерыкальны нацыяналізм, а другім — у атэістычны анархізм. Каля Грамады аціраліся рознае палітычнае афарбоўкі людзі.

Сябра Рак-Міхайлоўскі[11] мне перадаваў, што Тарашкевіч знаходзіцца ў цесным кантакце праз пасла Сойму Вэндзягольскага[12] з масонамі[13], аб якіх я ведаў толькі па наслыху…

[11] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885—1938), заходнебеларускі дзеяч, пасол польскага Сойму (1922—1927), адзін зь лідэраў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

[12] **Браніслаў Вэндзягольскі** (*Wędziagolski*, 1876—1941), польскі вайсковец і палітык, у 1922—1927 і 1930—1935 гг. — пасол польскага Сойму. У 1922 г. атрымаў пасольскі мандат у Віленскай выбарчай акрузе №63 (якая ахоплівала горад Вільню й Віленскі павет) зь сьпісу Польскай народнай партыі „Пяст".

[13] **Масоны** („вольныя муляры") — міжнародны этычны рух, які ўзьнік у XVIII ст. у выглядзе закрытай арганізацыі. Мае на мэце духовае ўдасканаленьне асобы й братэрства людзей розных нацыянальнасьцяў, рэлігіяў і поглядаў. Масонства існуе ў форме мясцовых ложаў — звычайна невялікіх групаў колькасьцю да 40—50 чалавек, аб'яднаных тэрытарыяльна. Браніслаў Тарашкевіч у пачатку 1920-х гг. належаў да масонскіх ложаў „Праўда" (у Варшаве) і „Траўгут" (у Вільні), але прыблізна ў 1923 г. быў „усыплены" (выключаны) дзеля палітычных рознагалосьсяў з польскімі масонамі. Пра ўсё гэта Тарашкевіч сам даволі падрабязна апісаў у сваіх пазьнейшых паказаньнях, дадзеных сьледчым НКУС. Гл.: Валахановіч, А., Міхнюк, У. Споведзь у надзеі застацца жывым. Мінск, 1999. С. 34—40, 53.

Але што мне належыць рабіць сяньня, я сабе ня мог улажыць у дарозе пляну. Некаторыя пытаньні трэба будзе пушчаць самацёкам, пры няяснасьцях не ангажавацца і абсалютна нічога не крэдытаваць.

Да многіх зь ліку сяброўства Тарашкевіча я і шмат хто спасярод нас ставіліся зь вялікаю засьцярогаю. Адным з такіх, які меў на Тарашкевіча вялізарны ўплыў, быў пасол Сойму зь Незалежнай Партыі Хлопскай Сыльвэстар Ваевудзкі[14]. У маёй расцэнцы ён выразны польскі правакатар вялікага маштабу, але канечнасьць наказвае сяньня мне зь ім спаткацца і спрабаваць даведацца аб плянаваньнях і палітычных увязках Тарашкевіча.

Цягнік зь лязгам і грукатам затрымліваецца на Віленскім загародным вакзале ў Варшаве. Народ паваліў зь цягніка валам з кашамі, мяхамі, скрынкамі. З натоўпам і я на вуліцы.

### У Варшаве

Еду да аднаго знаёмага маладога інжынэра. На твары яго зьдзіўленьне, што я на волі. Прымае зь непакоем, бо баіцца, як кажа, сваёй вельмі цікавае дамовае работніцы. Першы дзень я правёў у ложку, як хворы. Гаспадар сабраў патрэбныя інфармацыі і навязаў кантакт з сэнатарам В. Багдановічам[15]. Арышты на Беларусі носяць масавы пагромны характар і налічваюцца тысячамі.

Нацыяналістычная польская прэса Вільні падае весткі аб раскрыцьці, нібыта, прыгатаваўчай акцыі паўстаньня і ўцягваньня Грамадою ў змову войска. Трохі падобна да рэчаіснасьці ў нашых плянаваньнях, як тэарэтычнасьць, але не як акцыя стасаванага плянаваньня.

Сойм падрыхтаваны ў бальшыні складу на выданьне заарыштаваных паслоў. Маршалак ведае, што я высьлізнуўся з-пад арышту, але нічога канкрэтнага не гаворыць аб маёй нетыкальнасьці. Можна спадзявацца на пасіўныя адносіны зь ягонага боку ў выпадку заарыштаваньня перад Соймам, на гарадзкой тэрыторыі. Гэта гаворыць за тое, што бяз выдачы пленумам паліцыя ня будзе дапушчана на тэрыторыю Сойму. Трэба трапіць у Сойм праз паліцыйныя рагаткі.

Наведаў мяне „фальшывы доктар“ і накіраваў мяне ў „шпіталь“. Я на новым памешканьні ў багатага студэнта-сіяніста[16]. Пачуваюся тут значна свабадней. Наведваюць мяне сябры па соймавый працы — украінцы. Памаглі мне скантактавацца з Ваевудзкім. Спаткаў ён мяне вельмі холадна. Дараджаў, каб выступіць на мітынгу варшаўскіх трамвайных работнікаў і выклікаць там дэманстрацыю. Не выключаецца, што ў выніку буду заарыштаваны, але гэта палітычна будзе вельмі эфэктоўным.

Па пытаньнях аб плянаваньнях Тарашкевіча даў да зразуменьня, што плянаваньні часткова зрэалізаваны, але зьместу ён ня ведае, а каб нават і ведаў, то аб іх гаварыць ня змог бы. Для мяне было ясна, што ён ведае аб сакрэтах Тарашкевіча.

Ад прапановы выступіць мне на мітынгу, які ён можа хутка арганізаваць, я адмовіўся і са свайго боку, на ўсякі выпадак, у мэтах асьцярожнасьці падаў яму свой адрас недакладна[17].

---

[14] **Сыльвэстар Ваевудзкі** (*Wojewódzki*, 1892—1938), польскі грамадзка-палітычны дзеяч. Меў маёнтак на Лідчыне. У 1919—1921 гг. — штатны афіцэр II аддзелу Галоўнага камандаваньня Польскага войска . У 1922—1927 гг. — пасол Сойму Польшчы, выбраны зь сьпісу Польскай народнай партыі „Вызваленьне“. Адзін з стваральнікаў і лідэраў Незалежнай сялянскай партыі. З 1928 г. жыў у Гданьску. Удзельнік Эўрапейскага сялянскага кангрэсу 1930 г. у Бэрліне. З 1930 г. — у Менску. У 1931 г. арыштаваны, у 1933 г. прысуджаны на 10 гадоў лягераў. У 1936 г. праведзена дадатковае расьсьледаваньне. 25 красавіка 1938 г. прысуджаны да расстрэлу. Расстраляны.

[15] **Вячаслаў Багдановіч** (1876 — пасьля 1939), рэлігійны й грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст. У пачатку 1920-х гг. выконваў абавязкі рэктара Віленскай праваслаўнай сэмінарыі. У 1922—1930 гг. — сэнатар Польскай Рэспублікі, сябра Беларускага пасольскага клюбу. У 1927—1930 гг. — старшыня Беларускага дэмакратычнага праваслаўнага аб’яднаньня. Пасьля прыходу ў Вільню савецкіх войскаў 30 верасьня 1939 г. арыштаваны. Далейшы лёс невядомы.

[16] **Сіяністы** — прыхільнікі аднаго з кірункаў габрэйскага нацыянальнага руху, мэта якога — аб’яднаньне й адраджэньне габрэйскага народу на ягонай гістарычнай радзіме — у Ізраілі (Эрэц-Ісраэль). У міжваеннай Польшчы сіяністцкая ідэалёгія была адной з найбольш распаўсюджаных у габрэйскіх асяродках.

[17] Чамусьці Сабалеўскі ня згадвае тут, што ўжо на другі дзень пасьля першай партыі арыштаў, 16 студзеня 1927 г., пад ягоным подпісам выйшаў адмысловы камунікат з пратэстам супраць арыштаў. Датаваньне гэтага камунікату трохі дзівіць, бо выпускаўся ён ад імя пасольскага клюбу Беларускай сялянска-работніцкай грамады, але падпісаны адным толькі Сабалеўскім, хоць у гэты дзень на волі знаходзіўся яшчэ й Пятро Мятла. Можна было б прыпусьціць, што пры падрыхтоўцы да друку тэксту камунікату пры наборы яго даты зрабілі звычайную друкарскую памылку, і насамрэч ён быў выдадзены прынамсі на дзень пазьней, але камунікат друкаваўся адразу ў двух грамадоўскіх газэтах, і ў абедзьвюх стаіць дата менавіта 16 студзеня 1927 г.: Апавяшчэньне Бел. Сял.-Раб. Грамады // Наша справа. 22 студзеня 1927. №7. С. 1; Apawiaščeńnie Bieł. Siał.-Rab. Hramady // Narodny Zwon. 4 lutaha 1927. №4. S. 5.

Празь некалькі дзён распачынаецца доўгая сэсія пленуму Сойму[18]. Я павінен зьявіцца адразу на залю паседжаньняў. Пытаньне толькі, як туды праскочыць. Рыхтуюся да выступленьня. Галава ледзь асвойвае апрацоўку заданьня. У гэтым часе знаходжуся ў жывым і беспасрэдным кантакце з сэнатарам В. Багдановічам. Дома зь сям'ёю ўсё ў парадку, хоць паліцыя прысылала да жонкі гаспадыню дому некалькі разоў за інфармацыямі аб маім сховішчы. Наказы паліцыі яна перадавала без засьцярог і прасіла толькі трымаць у сакрэце.

Па меры набліжэньня дня адкрыцьця сэсіі пленуму нэрвовае напружаньне ўзмагалася, і я ледзь панаваў над сабою. За сябе страху ня меў ніякага, але за палітычны прэстыж Грамады хваляваўся. Нанятыя ўкраінцамі таксі абсэрвавалі дарогу і заяжджалі на панадворак Сойму. Усюды бачылі безьліч паліцыі і пасты рэзэрваў у панадворках прылеглых да Сойму дамоў. Гаворым аб магчымасьці роспуску Сойму. Праўрадавая прэса была поўная выступленьняў супраць Сойму за ягоны радыкалізм і таленрацыю „антыдзяржаўнае“ дзейнасьці нацыянальных „мнейшосьці“[19]. Зразумела, што гэта абстрэл перад нейкай акцыяй пілсудчыны, якая фактычна перайшла ўжо ў стан неабмежанай дыктатуры.

Прыпаў на маю долю непасільны цяжар палітычнае адказнасьці, а да гэтага я быў ані прыгатаваны, ані пачуваўся на сілах, але, аднак, стараўся валодаць прыгнечаным настроем у адказным мамэнце.

Да двух таксі прылучылася трэцяе, і я з пад'езду дому на хаду ўскочыў у сярэдзіну аўта і поўным ходам з сыгналамі паімчаліся на панадворак Сойму. Перад пад'ездам на вуліцы было процьма паліцыі. Круты віраж... і я каля ўваходу ў галоўны будынак. Спатыкаюць мяне са зьдзіўленьнем. Кулюары пад уражаньнем арыштаў паслоў. Прадбачыцца выдача іх пленумам, і польскія партыі вядуць у сувязі з гэтым мабілізацыю сваіх сілаў.

Каля маёй асобы паўстала фармальнае запытаньне, бо я ня так даўно звольнены з турмы, і мая справа ўстрымана ў сьледстве да канца мандату, а па Грамадзе ёсьць ад пракуратуры нейкая карэспандэнцыя з абвінавачваньнем у дадатковых параграфах Карнага кодэксу[20]. Маршалак Сойму на звароты да яго маіх сяброў ухіляецца ад высьвятлення

[18] Першае паседжаньне Сойму пасьля калядных вакацыяў было прызначанае на 25 студзеня 1927 г.

[19] *„Мнейшосьці“* (ад польск. *mniejszości*) — меншасьцяў.

[20] *„Карны кодэкс“* (польск. *Kodeks Karny*) — г. зн. Крымінальны кодэкс.





і папераджае, што ўсе матэрыялы будуць пададзены да ведама пленуму пры разглядзе пытаньня аб выдачы. Няма сумліву, што пленум выдасьць усіх, а ў тым ліку і мяне. Вытвараецца вельмі складанае становішча, і я пачынаю баяцца, што нэрвовы стан ня вытрымае да таго часу, калі на маю долю прыпадзе выступаць з трыбуны ў абароне палітычнага становішча Грамады. Найтрагічнейшае для мяне тое, што я адзін, а сыстэме сяброў Тарашкевіча (па лініі Ваевудзкага) я не давяраю.

У маёй падсьвядомасьці ўлажылася перакананьне, што гэта правакатар, або савецкі, або польскі, а то і двайнік у мэтах нішчэньня беларускага вызвольнага руху, які аднвчасова шкодны як адным, так і другім. Ваевудзкі адчувае мае да яго адносіны і мантуе адпаведны контраход. Сілы, магчымасьці і здольнасьці ў нас розныя, і я ў гэтай распачатай барацьбе з ваевудчынаю слабей узброены. Памагае мне Рагуля[21] і Багдановіч, часткова кс. Станкевіч[22]; са зьменным настроем падыходзіць да мяне Ярэміч[23], але я поўнасьцю пакладаюся на ягоную высокую этычнасьць і помач у адказную хвіліну.

Ваевудзкі распачынае варожую да мяне акцыю і натраўлівае камуністычную фракцыю на выпуск супроць мяне лятучкі аб выламе быццам маім з радоў змагаючыхся за вызваленьне Беларусі. Лятучка павінна выйсьці зь беларускіх радоў, і ідуць пошукі толькі аўтара. Гэтая вестка моцна мяне дэнэрвуе, але на чарзе маё выступленьне з трыбуны.

[21] **Васіль Рагуля** (1879—1955), палітык і грамадзкі дзеяч, пэдагог. Да рэвалюцыі працаваў настаўнікам, зьяўляўся перакананым праціўнікам беларускага руху. У 1922 г. быў выбраны паслом у польскі Сойм як беларускі кандыдат. Пасольскія абавязкі выконваў у 1922—1927 гг., у 1928—1930 гг. — сэнатар. Сябра Беларускага пасольскага клюбу. Адзін зь лідэраў Беларускага сялянскага саюзу. Падчас Другой сусьветнай вайны быў бурмістрам у Дзятлаве. Пасьля вайны — на эміграцыі, спачатку ў Бэльгіі, пасьля ў ЗША.

[22] **Адам Станкевіч** (1891—1949), грамадзка-палітычны, рэлігійны й культурны дзеяч, ксёндз, адзін з заснавальнікаў і лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Цягам усёй сваёй сьвятарскай дзейнасьці зьвяртаўся да вернікаў з казанямі ў беларускай мове. У 1922—1927 гг. быў паслом польскага Сойму.

[23] **Фабіян Ярэміч** (1891—1958), грамадзка-палітычны дзеяч. Зь вясны 1920 г. — старшыня Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту. У 1922—1935 гг. быў паслом польскага Сойму трох скліканьняў. У 1925—1930 гг. — старшыня Беларускага пасольскага клюбу, адзін зь лідэраў Беларускага сялянскага саюзу.

Здаю сабе справаздачу, што гэта апошняе маё выступленьне[24], і я павінен пакінуць трыбуну ў поўнай сьведамасьці, што свой абавязак пасла ад Беларусі выканаў, і што пагадненьне з накінутым на нас ярмом польскай, прымусовай для нас дзяржаўнасьцю абсалютна выключаецца.

Урэшце надыходзіць чарга для майго выступленьня. Я на трыбуне. Паную над сваім нэрвовым станам. Прадбачу неспакойны прабег выступленьня. Узыходзячы на падвышэньне, пабачыў нэрвовы стан маршалка. Ясна, што маё зьяўленьне ня ў плян ягонай палітыкі. Міністэрская лёжа перапоўнена. Каля бар'ера трымаюцца натоўпам. Так званая „лявіца“ на залі; нацыянальныя меншасьці, відаць, у камплеце і адтуль нясуцца пад маім адрасам гучныя воплескі. „Цэнтар“ злавешча маўчыць. З радоў правых і кансэрватараў даносяцца крыкі пратэсту і лаянкі. Шум павялічваецца. Пачынаецца слоўная перастрэлка левых з правымі. Маршалак звоніць. Я чакаю і тым часам укладаю плян свае прамовы, прадбачачы перашкоды. Прамова павінна быць вострай і пратэстуючай... Пачынаю... і на паўслове перарываюць. Нарэшце запанавала цішыня... Раздаецца пратэст справа, што выступленьне не на тэму... Умешваецца маршалак. Мяне перарывае і пагражае пазбаўленьнем голасу. Я трымаюся напорыста тэмы. Нарэшце маршалак адбірае ад мяне слова і жадае злажэньня прапановы. Нарастае шум. Я скарочваю прамову і сканчаю прапановаю. Шум і лаянкі не сьціхаюць. Я пакідаю трыбуну ў сьведамасьці, што ўплянаваны ход выканаў. Падбягаюць украінцы і вітаюць, што ня даўся стэрарызавацца. Правіца абкідае нас living рознымі мянушкамі. У перарыве запрашае маршалак і паведамляе, што частка прамовы пасьля пазбаўленьня мяне голасу будзе сканфіскавана і вычыркнена із справаздачы. Прыняў я гэтае асьведчаньне моўчкі. Мне прапануюць злажыць пратэст і зажадаць адмысловага асьведчаньня на пленуме. Я не пачуваўся на сілах. З другога боку — гэта не істотнае пытаньне. Усё паступаньне маршалка здраджвае ягоны ўдзел у зговары з польскай урадавай лініяй[25]. Тым больш што, як перадавалі слухачы з нашага лягеру, вывязаўся я зусім адпаведна. Мне гэта шмат каштавала, але сілы мяне не пакінулі, хоць пасьля наступіла нэрвовая рэакцыя, і я ня мог ані есьці, ані, галоўным чынам, заснуць. Помсьлівая акцыя Ваеводзкага, аднак, ня спала, і я ня ведаў, зь якіх прычын і для якіх меркаваньняў. Чым гэтая распачатая барацьба скончыцца, я мала цікавіўся, але пастанавіў рашуча, што на падсоўваныя кампаніяй Ваевудзкага кладкі ніколі не ўзыду.

Асоба Ваевудзкага вымагае больш падрабязнага затрыманьня над ёю. Бессумліўна, што праз Тарашкевіча і Антона Луцкевіча[26] Ваевудзкі меў магчымасьць дзейнічаць у глыбінях беларускага вызвольнага змаганьня. Тарашкевіч і Луцкевіч лічылі яго за вялікага прыхільніка беларускага адраджэньня. Якія на гэта ў іх былі падставы — я ня ведаю[27]. У

[24] Насамрэч гэтае выступленьне аказалася не апошнім, бо праз два дні, 27 студзеня, Сабалеўскаму ізноў давялося прамаўляць з соймавай трыбуны, у якой ён абвінавачваў польскія ўлады ў парушэньні правоў беларускага народу ў Польшчы й па-ранейшаму заступаўся за грамадоўскіх паслоў (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 313 posiedzenia z dnia 27 stycznia 1927 r. Ł. CCCXIII/37—43.).

[25] Як цяпер вядома, тагачасны маршалак Сойму Мацей Ратай сапраўды быў загадзя паінфармаваны пра антыграмадоўскія рэпрэсіі й даў сваю папярэднюю згоду на арышт паслоў БСРГ. Згодна зь ягонымі пазьнейшымі ⇨ ⇨ўспамінамі, ён нават уласнаручна рэдагаваў першапачаткова ня вельмі пераканаўчыя тлумачэньні Мэйштовіча, каб надаць ім большую верагоднасьць. Падрабязьней гл.: Rataj, M. Pamiętniki 1918—1927 / Do druku przygotowai J. Dębski. Warszawa, 1965. S. 453—468; Разгром „Грамады“: за кулісамі палітычнага скандалу / Падрыхт. да друку, пераклад і прадмова А. Смаленчука // Гістарычны альманах. 2003. Т. 8. С. 214—227.
Адносна выступленьня Сабалеўскага М. Ратай занатаваў у сваім дзёньніку наступнае: *„Пасол Сабалеўскі з „Грамады“ выказаў прапанову, каб Сойм запатрабаваў неадкладнага вызваленьня арыштаваных. Я адмовіўся паставіць гэтую прапанову на галасаваньне; патрабаваньне аб вызваленьні — гэта кампэтэнцыя маршалка, і я з гэтага права не скарыстаўся; калі Сойм лічыць, што я зрабіў кепска, то ён можа выбраць сабе іншага маршалка. [...] Украінцы, беларусы й камуністы выказалі мне вотум недаверу. Галасаваньне па гэтай прапанове праходзіла 26 студзеня. За прапанову галасавалі вышэйзгаданыя й дадаткова немцы. ППС выйшла з залы! Таму — дробная меншасьць!“* (Rataj, M. Pamiętniki 1918—1927... S. 459).

[26] **Антон Луцкевіч** (1884—1942), нацыянальны дзеяч, адзін з галоўных ідэолягаў беларускага нацыянальнага руху. У 1918—1919 гг. быў прэм'ерам БНР. У міжваеннай Польшчы некаторы час быў нефармальным лідэрам беларускага руху.

[27] Калі наконт цёплых адносінаў паміж Сыльвэстрам Ваевудзкім і Браніславам Тарашкевічам асаблівых пытаньняў не ўзьнікае, паколькі гэтаму факту ёсьць шмат пацьверджаньняў з самых розных крыніцаў, то адносна стаўленьня Антона Луцкевіча да Ваевудзкага далёка ўсё ня так адназначна. Думкі пра нібыта асаблівае спрыяньне плянам Ваевудзкага з боку гэтага дзеяча звычайна выказваліся толькі ягонымі зацятымі палітычнымі супраціўнікамі падчас вострых ідэалягічных палемік, прычым гэтае абвінавачваньне, як правіла, выстаўлялася разам з шэрагам іншых, далёка ня ўсе зь якіх былі належным чынам аргумэнтаваныя.

маіх расцэнках гэтая асоба была варожай нашаму вызвольнаму руху, хоць канкрэтных доказаў на гэта я прадставіць тады ня мог. Адносіны мае да яго былі пад вялікім знакам запытаньня, і з гэтым я ня крыўся.

Па некаторых выяўленьнях дапушчаю, што Ваевудзкі быў паінфармаваны аб складзе нашай да яго пэрсанальнай апазыцыі. Складалася яна з Нацыянальнага камітэту[28] за выняткам Луцкевіча, асабліва востра быў настаўлены супроць Ваевудзкага Рагуля, у Грамадзе — я, Рак-Міхайлоўскі і Мятла[29]. Для высьсненьня некаторых старон ваевудчыны і Ваевудзкага, на падставе ведамых мне фактаў зь ягонага жыцьця, я хачу затрымацца больш падрабязна.

### Ваевудзкі

Не бяруся падводзіць дакладнай падсумоўкі зьместу гэтага чалавека. Асоба надзвычай складаная, мэфістофэльскі хітрая, сьмелая, настойлівая і па зьместу разумная. З прозьвішчам Ваевудзкага я сустрэўся ў часе першае акупацыі палякамі Менску ў 1920 г.[30] Армія Пілсудзкага акупавала тады Беларусь, мала мела ў сабе вайскова-стратэгічнага зьместу, затое вельмі многа праяваў палітычных і тактычных для кантраляваньня беларускага жыцьця.

Польскі вайсковы наступ на бальшавікоў падобны быў на мэханічнае вымятаньне бальшавікоў зь Беларусі без вялікага высілку, і прылучэньне ачышчанае беларускае тэрыторыі да новапаўсталай польскай дзяржавы, як трафэю пераможнай зброі, без ніякіх засьцярогаў і браньня пад увагу, што край гэты заселены пераважна намі — беларусамі, маючымі свае нацыянальныя, гістарычныя і культурныя асаблівасьці. Палякам і іх арміі да гэтых фактычных дадзеных не было ніякага дзела, а рэгулюючым мамэнтам была толькі брутальная сіла ў самым дзікім праяве.

Час быў парэвалюцыйны, а палітычныя настроі павышаны. Рэвалюцыя пасьпела кінуць у масы некалькі розназьмесных клічаў да перабудовы грамадзкага і палітычнага жыцьця, але ніводнага зь іх на карысьць паўстаючай абшарніцкай Польшчы.

Праз гушчар бальшавіцкае навалы і жудасьць нішчэньня беларускага перадавога элемэнту тэрорам ваеннага камунізму прасачывалася з Варшавы вестка аб заіснаваньні Польшчы як сувэрэннай дзяржавы на сваіх былых тэрыторыях. У беларускіх сялянскіх масах гэтыя весткі ўспрымаліся зь вялікімі засьцярогамі і былі вельмі непапулярныя. Сялянская маса зь яе інтэлігенцыяй Польшчу прадбачылі ў выданьні практыкі абшарніцкага двара сучаснасьці і гістарычнае мінуўшчыны, якая сяньня ўзнаўляецца ўжо безь ніякіх паўстрымліваючых самаволю дзейнікаў, таму аб новапаўстаючай Польшчы на Беларусі гаварылася ціхачом і вельмі асьцярожна ў коле толькі абшарнікаў, ксяндзоў, засьцянковай шляхты і часткова сярод спольшчаных цераз польскі каталіцкі касьцёл беларусаў.

Рабіліся спробы ўцягнуць у гэтую палітычную арбіту беларускую сьведамую інтэлігенцыю, рэклямуючы сыстэму польскага ладу як самую дэмакратычную. На гэтую прынаду спасярод паважна думаючых, аднак, ніхто не пайшоў. Уся спадчына з польскай папярэдняй дзейнасьці расцэньвалася як нацыянальна варожая ўсяму, што мае ў сабе беларускае, а нішто не варажыла на зьмену гэтага становішча ў сучаснасьці. Сялянскія масы, бачачы навочна бальшавіцкае зло і магчымы прыход палякаў, у іх расцэнцы як меншае для сябе зло затрымліваліся на бальшавіках, чакаючы ў прышласьці ад іх для сябе большай свабоды, чымсь ад паўстаючай польскай рэспублікі.

Беларускі народ, канчаткова зьняверaны ў адносінах да палякаў і іх характару, таму, у гэты цяжкі час перажываньняў, іх прырачэньням не давяраў. Гэта ўжо гістарычны факт, пацьверджаны сучаснасьцю, і трэба з жалем канстатаваць, што пропасьць гэта паміж вызнаваных нашым народам пэрспэктыў і стаўленымі палякамі палітычнымі мэтадамі штораз паглыбляецца, і на гэта ўжо не вымагаецца агітацыйнага высілку ў асяродзьдзі беларускім.

Узьняты сотні гадоў таму назад польскі меч на права жыцьця беларуса на сваёй тэрыторыі паводле сваіх вызнаваньняў пры кожнай на-

[28] Маецца на ўвазе **Беларускі нацыянальны камітэт** (БНК), каардынацыйны прадстаўнічы орган беларускіх нацыянальна-дэмакратычных партыяў і арганізацыяў у Заходняй Беларусі. Існаваў у Вільні ў 1921—1938 гг. У 1926 г. у аб'яднаньні адбыўся раскол, дзеля чаго пэўны час існавалі адразу два БНК у Вільні — адзін пад эгідай Грамады й яе наступнікаў, другі — пад кіраваньнем дзеячаў зь Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі й Беларускага сялянскага саюзу.

[29] **Пятро Мятла** (1890—1936), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. У 1922—1927 гг. — дэпутат польскага Сойму. Адзін з стваральнікаў і лідэраў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

[30] Упершыню палякі занялі Менск 8 жніўня 1919 г., а мусілі зь яго адступіць пад ціскам Чырвонай Арміі 11 ліпеня 1920 г.

годзе ўсамадзельненьня Польшчы крывавіцца ў беларускай крыві, і на перагляд гэтага становішча з боку палякаў няма ніводнага чалавека. Адсюль з нашага боку лягічная і канечная рэакцыя і аб супольнай мове, нават у гадзіну найцяжэйшага для нас іспыту, ня можа быць і гутаркі.

Цэнтры польскага нацыянальнага і палітычнага жыцьця аб гэтым добра ведалі і дакладна арыентаваліся ў зьмесьце, калі ўзьнялі штандар польскай незалежнасьці ў 1919 годзе, таму праўдзівым іх плянаваньнем было — зламаць непакорных да сябе беларусаў сілаю і тэрорам, застасаваўшы да гэтага аслаўлены дэвіз „Агнём і мячом“[31], але крыху ў адменных формах, каб дадаць большай пякучасьці агню і танчэй вывастранага мяча, як поступ у сучаснасьці.

Польская нацыяналістычная вайсковая арганізацыя пры падтрымцы аўстрыяцкага ўраду яшчэ перад вайною 1914 году раскінула на Беларусі ў падпольлі сваю вайсковую сетку „П.О.В.“ (Польска Організацыя Войскова)[32], якая цяпер за сабою мела дасьведчаньне з часоў вайны 1914 г. Найменшы польскі вайсковы аддзел, раскватараваны на Беларусі, станавіў лякальную камэндатуру, абнімаючы адміністрацыйныя функцыі, а праз ПОВ уваходзіў у засакрэчаную сыстэму нутраное разьведкі. У адносінах да беларусаў стасаваліся розныя спосабы падыходу: ад найма галадаючага інтэлігента на працу і да бязьлітаснага бою, да акалечваньня і мардаваньня. Сьведама ўводзілася дэзарыентацыя беларускага насельніцтва, напрыклад: польскія цягнікі зь Вільні ў Менск прыходзілі з надпісамі на вагонах *„Віленьско-Бялоруска Дырэкцыя Польскіх Колеі Паньствовых“*[33].

Калі польскім палітыкам вытыкалася дзікасьць паступаньня іх адміністрацыі, то на гэта было тлумачэньне, што перажываецца пераходны час. Моладзь, якая становіць аснову кадраў войска і адміністрацыі, зрэвалюцызавана і таму мала дысцыплінавана, здольна да чынаў не

[31] **„Агнём і мячом“** — назва першага раману з знакамітай гістарычнай трылёгіі польскага пісьменьніка Гэнрыка Сенкевіча, прысьвечанай падзеям XVII ст.

[32] **Польская вайсковая арганізацыя** (ПВА) — патаемная вайсковая арганізацыя, утвораная ў жніўні 1914 г. у Варшаве на ініцыятыву Юзэфа Пілсудзкага. Першапачаткова дзеяла толькі на тэрыторыі расейскага „забору“, потым пашырылася на Галіччыну й Велікапольшчу. Пераважна займалася ажыцьцяўленьнем дывэрсійных акцыяў і вайсковым рыхтаваньнем сваіх сябраў. Пасьля набыцьця Польшчай незалежнасьці ў лістападзе 1918 г. распушчаная на загад Пілсудзкага.

[33] *„Віленска-Беларуская дырэкцыя польскіх дзяржаўных чыгунак“* (польск.).





заўсёды вытрыманых, але палітычны польскі цэнтар стаіць за прынцып фэдэрацыі, дэмакратызму і соймаўладзтва; распаўсюджваліся пры гэтым чуткі, што ў Вільні будзе Краёвы Сойм, а ў Варшаве Цэнтральны. У доказ „праўдзівасьці“ сваіх слоў часта спасылаліся на нямыя дэкарацыйныя вывескі. Ствараліся розныя „паразумеваўчыя“ камітэты з польска-беларускімі надпісамі, як і вайсковыя арганізацыі, але ўсе яны былі, аднак, з пэўным падборам наяўнасьці палянафільства і матэрыяльных выгад уступаючаму на гэты шлях.

Не бяз пэўнага закіду тут цэлы рад імёнаў нашых „аўтарытэтных“ дзеячоў. Трэба з найбольшаю катэгарычнасьцю сьцьвердзіць, што найбольшыя праявы самаволі, бяскарнасьці, дапякаючых і абражаючых зьдзекаў над беларусамі за час акупацыі Беларусі чужымі арміямі ад 1914 году і да 1945 было з боку польскай арміі, асабліва з боку аддзелаў, фармаваных зь беларускай засьцянковай шляхты і ўмундураваных шляхцянак. Прынцыпам іх было як найглыбей дапячы і абразіць пачуцьцё беларуса.

На беларуса-інтэлігента, выразна стоячага на няпольскіх пазыцыях, арганізоўваліся дзікія нагонкі[34], і гэтая катэгорыя асобаў змушана была часта жыць па-за домам, каб да іх не магла дабрацца польская моладзь з суседняй шляхоцкай ваколіцы.

Вялікую дзікасьць выявіла польская паліцыя і бальшавіцкае НКВД, але ў іх была сухая дзікасьць, а там, у палякаў — дзікае абражаньне і таптаньне вартасьці чалавека як чалавека, па-за рамкамі польскае ілюзорнае лепшасьці.

Добрым словам трэба памянуць памяць толькі каталіцкага біскупа Лазіна-Лазінскага[35] ў Менску, які ня раз, словам пратэсту і перасьцярогі, заклікаў польскае войска і адміністрацыю да належнага парадку і дысцыпліны, і гэтая тэма заўсёды ставілася ім у аснову касьцельнага навучаньня. Тут спатыкаем гэтую адзіную сьветлую карту на фоне гісторыі польскага каталіцкага панаваньня на Беларусі на працягу і вякоў, і апошніх гадоў.

Вось у гэтым складаным сплёце разнаякіх палітычных акалічнасьцяў у 1920 г. выплывае ў Менску пастаць маёра 2-га аддзелу арміі Пілсудзкага — Сыльвэстар Ваевудзкі (вайсковая разьведка).

Густа раскіненая ў часе вайны і, асабліва ў часе рэвалюцыі сетка ПОВ да прыходу ў Менск у 1920 годзе арміі Пілсудзкага мела ў сваіх

[34] *„Нагонка“* (ад польск. *nagonka*) — перасьлед, цкаваньне, нападкі.

[35] **Зыгмунт Лазінскі** (*Łoziński*, 1870—1932), каталіцкі дзеяч, з 1918 г. — менскі біскуп, у 1925—1932 гг. — пінскі біскуп.

руках усе дадзеныя аб жыцьці і палітычных настроях на Беларусі. Трэба зазначыць, што ў рады ПОВ прымаліся людзі зь вельмі дакладным падборам і вылучна з радоў польскай інтэлігенцыі, здольныя на вялікую ахвярнасьць і рызыкоўную сьмеласьць. З прыходам польскае арміі частка іх, відаць, па заданьню, выплыла на паверхню і служыла кантактам у зносінах беларусаў з польскаю адміністрацыяй. Дзьверы кабінэта маёра[36] Ваевудзкага былі шырока расчынены для беларускай інтэлігенцыі. З наведвальнікамі заўсёды быў ён паказова ветлівы і „шчыры". Здавальняў многія просьбы аб злагоджаньні караў, звальненьні арыштаваных, ды ў залежнасьці ад інтэлектуальнага ўзроўню наведвальніка заводзіў гутаркі аб польска-беларускіх узаемаадносінах[37].

Запэўняў пры гэтым аб польскай дзяржаўнай і палітычнай дэмакратычнасьці, соймаўладзтве, роўным удзеле ў жыцьці дзяржавы ўсіх грамадзянаў і г. д. Бальшыня наведвальнікаў выходзіла з кабінэту Ваевудзкага абнадзеенай аб зьмене фактычнага стану беззаконнасьці і гвалту польскай адміністрацыі на лепшае. Ім здавалася, што трэба толькі перачакаць пераходны час...

[36] Насамрэч вайсковае званьне Сыльвэстра Ваевудзкага было куды ніжэйшае. Паводле характарыстыкі на ягоную асобу, напісанай шэфам II аддзелу Галоўнага камандаваньня для вэрыфікацыйнай камісіі легіённых справаў 25 лістапада 1920 г., падчас працы ў Менску Ваевудзкі быў усяго толькі падпаручнікам, хоць і працаваў „на капітанскай пасадзе (*na etacie kapitana*)" (Centralne Archiwum Wojskowe (CAW). Kolekcja Akt Personalnych. Sygn. 1177 (Sylwester Wojewódzki).

[37] Захавалася шмат сьведчаньняў як зь беларускага, гэтак і з польскага боку, у якіх Ваевудзкі падаецца менавіта з такога гледзішча. Гэтак, тагачасны кіраўнік Менскай акругі Цэнтральнай управы ўсходніх земляў Уладзіслаў Рачкевіч з кепска схаваным сарказмам называў С. Ваевудзкага *„беларусам большым, чым самі беларусы"*, а кіраўнік палітычнага рэфэрату пры Літоўска-Беларускім фронце Марыян Касьцялкоўскі адзначаў, што С. Ваевудзкі ў 1919—1920 гг. *„патрабаваў для беларусаў больш, чым яны самі патрабавалі"*. Падрабязьней пра Сыльвэстра Ваевудзкага ў кантэксьце беларускага нацыянальнага руху ў часы польска-савецкай вайны 1919—1921 гг. гл.: Чарнякевіч, А., Пашкевіч, А. Кароткі нарыс гісторыі ўзаемаадносін беларускага нацыянальнага руху і II аддзелу Галоўнага камандаваньня (Генэральнага штабу) Войска Польскага ў 1918—1923 гг.) // Arche Пачатак. 2009. №9. С. 33—46; Чарнякевіч, А., Пашкевіч, А. Замест пасьляслоўя. Кароткі нарыс гісторыі ўзаемаадносін беларускага нацыянальнага руху і II аддзелу Галоўнага камандаваньня (Генэральнага штабу) Войска Польскага ў 1918—1922 гг. // Кароткі нарыс беларускага пытаньня. Мінск, 2009. С. 347—361.





Нашая група земскіх работнікаў[38] яму ня верыла, адкрыта трымалася ад яго здалёк і прадбачыла не палепшаньне, але пагоршаньне адносін палякаў да беларусаў пасьля вайны. Нішто не гаварыла за тое, што да ўлады ў Польшчы прыдуць дэмакратычныя элемэнты. Ясна было, што веда аб дзяржаўным ладзе была ў руках толькі асьвечаных абшарнікаў, і таму палітычнае раўнаньне паўінтэлігенцыі ішло па іх лініі, а іншымі, як абшарнікамі ў сваім духовым і маральным заложаньні, яны быць не маглі. Думаю, што адносіны земскай самаўрадавай групы былі ведамы Ваевудзкаму, а празь яго — Пілсудзкаму, але, нягледзячы на выразны і катэгарычны настрой „земцаў", калі яны зварочваліся часамі да Ваевудзкага, пераважна ў пэрсанальных справах у сувязі з арыштамі, ён іх прымаў ветліва і нават памагаў.

Пры арміі Пілсудзкага на Менскую акругу дзейнічалі два бюра па нутраной разьведцы: армейская палявая жандармэрыя — пад камандаю капітана Кавэцкага[39], і бюро Ваевудзкага. Кавэцкі захопліваў у свае турмы ўсё, што было найбольш ярчэйшага ў беларускіх радох, а далейшая апрацоўка спачывала ў руках Ваевудзкага.

Польская армія два разы адыходзіла ад Менску, але заўсёды пакідала на беларускіх землях свае вочы — ПОВ. Магчыма, што гэтыя вочы ўтрымаліся і пры Саветах, бо агентура польскага падпольля ў часе нямецкай акупацыі 1941—1945 гг.[40] закідвалася па нейкаму акрэсьленаму ключу і па канспірацыйных кантактах.

Папулярнасьць Ваевудзкага моцна трымалася ў асяродзьдзях расейскіх, жыдоўскіх, літоўскіх і часткова беларускіх. Усе прыхільнікі Ваевудзкага мелі для сябе нязьбітыя „доказы" ягоных „справядлівых" адносінаў да пацярпеўшага, і то часта зь вялікаю рызыкаю, нібыта для

[38] Сабалеўскі ў той час працаваў у менскім земстве, пра што сам пісаў у сваіх успамінах „На этапах". Гл.: Сабалеўскі, Ю. На этапах // Запісы БІНіМ. №31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 158—260.

[39] **Гэнрык Кавэцкі** (*Kawecki*) (1886—1942), польскі дзяржаўны дзеяч. У 1915—1916 гг. — сябра Грамадзянскай варты ў Варшаве, затым служыў у Польскай вайсковай арганізацыі і ў Польскім войску. У 1921—1922 гг. — кіраўнік службы бясьпекі Сярэдняй Літвы, у 1922—1925 гг. — начальнік палітычнай паліцыі Польшчы. У 1925—1939 гг. працаваў кіраўніком аддзелу бясьпекі Міністэрства ўнутраных справаў Польшчы й намесьнікам міністра. У 1935—1938 гг. быў сэнатарам.

[40] Гэтак у арыгінале. Насамрэч нямецкая акупацыя Менску скончылася на год раней, у 1944 г.

самога сябе. Уратаваных ад кулі ягоныя прыхільнікі налічвалі вялікімі лічбамі[41].

## Пасьля Рыскага Трактату

Бальшавіцка-польская вайна скончылася, і польская дзяржаўнасьць пачала асядаць на свае фундамэнты. Вяшчальнікі польскага дэмакратызму і сацыялізму — адказныя работнікі ППС[42] (Польская партыя сацыялістычная) на чале з Марачэўскім[43] адходзяць у цень, і на месца ППС прыходзіць абшарнік са сваімі абшарніцкімі ўстаноўкамі, зь якімі не патрабуе крыцца.

Польскі каталіцкі клер са сваімі вернікамі ў поўным послуху да плянаў абшарніцкай дзяржаўнасьці. Адразу выплывае двуліцовасьць палітыкі: навонкі канстытуцыйнасьць і шырокі нібыта дэмакратызм, а ў практыцы — дыктатура абшарніцкае клясы, адміністрацыйны і паліцыйны тэрор, імпэрыялізм і актыўная барацьба супроць няпольскіх народаў у межах Польскай дзяржавы. Стасавальная дактрына: Польшча для палякаў і для каталікоў, па-за гэтым — нахілянне сродкамі і сіламі дзяржавы, а супраціў ідзе на вынішчэньне.

У гэтым часе ізноў спатыкаем Ваевудзкага, але ўжо ў цывільнай вопратцы ў ролі палітычнага дзеяча, зь вельмі радыкальнымі паўмарксістоўскімі поглядамі, і ў гэтым напрамку дзейнага актыўнага сябры

[41] Сярод вядомых беларускіх дзеячаў, пра якіх маюцца зьвесткі, што іх выцягнуў з польскай турмы ці нават уратаваў ад расстрэлу Сыльвэстар Ваевудзкі, можна згадаць Тамаша Грыба, Аляксандра Ўльянава, Эдмунда Русецкага. Пры гэтым інфармацыя пра падобныя факты паходзіць зь вельмі разнапляналых крыніцаў, такіх, напрыклад, як успаміны Паўліны Мядзёлкі, службовыя рапарты польскіх дзяржаўных чыноўнікаў, сьледчыя паказаньні Аляксандра Ўльянава й Браніслава Тарашкевіча й інш.

[42] **Польская сацыялістычная партыя** (ППС, *Polska Socjalistyczna Partia — PPS*) — левая палітычная партыя ў Польшчы, заснаваная ў 1893 г. Да 1918 г. дзеяла пераважна на тэрыторыі Каралеўства Польскага. Адным зь яе лідэраў быў Юзэф Пілсудзкі. У міжваенны час дзеяла на ўсёй тэрыторыі Польшчы й заўсёды мела даволі значны ўплыў.

[43] **Енджэй Марачэўскі** (*Moraczewski*, 1870—1944), польскі палітык, адзін зь лідэраў Польскай сацыялістычнай партыі. Быў перакананым прыхільнікам Юзэфа Пілсудзкага. У лістападзе 1918 — студзені 1919 г. быў прэм'ер-міністрам Польшчы, пасьля ў 1919—1927 гг. — паслом Сойму, займаў міністэрскія пасады ў розных урадах.





некаторых польскіх партыяў і арганізацыяў[44], але адначасна вызнаючага непахісна аўтарытэт Пілсудзкага.

Ваевудзкі прымае ўдзел у выбарах да першага Сойму[45]. Аб дзейнасьці яго з тае пары нічога ня ведаю, як ня ведаю аб кантактах пасьля першага Сойму і падрыхтоўкі выбараў у другі Сойм — кадэнцыі 1922—1927[46]. З захаваўшыхся ў памяці расказаў, Ваевудзкі меў ажыўлены кантакт з Антонам Луцкевічам.

У кадэнцыі другога Сойму я з Ваевудзкім спатыкаюся пасьля майго звальненьня з Лукішак у 1926 г. Што праўда, я асабіста ня меў ахвоты зь ім спатыкацца, але настаялі на гэтым сябры, паясьняючы, што Ваевудзкі зьяўляецца вядучаю асобаю апазыцыі ў Сойме і палітычным дараднікам у тактыцы няпольскіх партыяў і груповак. Нацыянальны беларускі Соймавы клюб[47] у адносінах да Ваевудзкага настаўлены быў нэгатыўна, затое Тарашкевіч поўнасьцю паддаўся ўплывам Ваевудзкага і стала адбываў зь ім закрытыя канфэрэнцыі.

Масква ў той час манэўравала і нібыта перабудоўвала сваю палітыку і эканоміку, вярбуючы для сябе сымпатыі па лініі НЭПу (Новая экономическая политика), ладжаньнем розных экскурсіяў. Ваевудзкі ў гэтых пытаньнях быў сваім чалавекам для Масквы, а таксама быў у кантактах і з Англіяй церазь лідэра работніцкага руху — МакДоналда[48]. Тое самае можна было бачыць у шырокіх яго кантактах з Францыяй. Польскія партыі ў адносінах да Ваевудзкага захоўвалі поўнае маўчаньне. Час ад часу Ваевудзкі зьяўляўся на пашыраныя нашыя сходы: нас

[44] Сыльвэстар Ваевудзкі спачатку быў адным зь лідэраў Польскай народнай партыі „Вызваленьне“, а ў 1924 г., выйшаўшы зь яе, заснаваў Незалежную сялянскую партыю.

[45] Маюцца на ўвазе выбары ў г. зв. Заканадаўчы сойм, якія адбываліся 26 студзеня 1919 г.

[46] Гэтыя выбары адбыліся 5 лістапада 1922 г. — у Сойм і 12 лістапада 1922 г. — у Сэнат.

[47] Маецца на ўвазе Беларускі пасольскі клюб, які існаваў пасьля афіцыйнага падзелу адзінай беларускай пасольскай фракцыі ў польскім Сойме ў чэрвені 1925 г. У гэты клюб уваходзілі паслы Антон Аўсянік (у 1926 г. з клюбу выйшаў), Васіль Рагуля, кс. Адам Станкевіч і Фабіян Ярэміч, сэнатары Вячаслаў Багдановіч, Аляксей Назарэўскі і Аляксандар Уласаў). Старшынём клюбу быў Фабіян Ярэміч.

[48] **Джэймз Рэмзі МакДоналд** (*MacDonald*, 1866—1937), ангельскі палітык, адзін з заснавальнікаў і лідэраў Лейбарысцкай партыі. У 1924 і ў 1929—1935 гг. быў прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі.

з украінцамі і жыдамі[49], прыносячы нібыта сакрэтныя весткі з акружэньня Пілсудзкага і ягоных плянаваньнях блізкага пагрому нацыяналістычнае ўлады польскай рэакцыі.

Трэба прызнаць, што Ваевудзкі мог пакідаць па сабе ўражаньне. Палітычная атмасфэра была насычана зусім магчымым зьяўленьнем на актыўным палітычным гарызонце Пілсудзкага, а тым самым нібыта зьмены адносінаў да беларусаў і ўкраінцаў. Па сутнасьці, тады была поўная дэзарыентацыя і палітычная нявырабленасьць бальшыні паслоў Другога Сойму. Ня ўсе пытаньні польскай нутраной палітыкі былі залежны толькі ад польскіх палітычных сілаў.

У пляне Вэрсаля[50] Польшча была прадугледжана на нясеньне ролі высуненага фарпосту інтарэсаў палітыкі Англіі і Францыі супраць магчымага ў прышласьці наступу на іх пасьля залечаньня атрыманых ранаў, Саветаў і Нямеччыны; і ў гэтай ролі Польшча вымагала адпаведнага заагледжваньня ў матэрыяльныя сродкі і мець у сябе больш разьвязаныя рукі для нутраное палітыкі. Разнаякія замежныя экспэрты і дараднікі крэдытуючых Польшчу дзяржаваў накідвалі ёй лінію „паводзін“, зь якімі Польшча лічылася, чарпаючы з гэтага немалыя даходы. Англія самастойна сачыла за настроямі ў Польшчы, як беларускімі, так і ўкраінскімі. Многія спасьцярогі сваёй разьведкі пераказвала польскай адміністрацыі да паліцыйных і пракурорскіх афармленьняў.

Пры судовых актах палітычных працэсаў знаходзіўся „закрыты“ матэрыял, які не фігураваў на працэсе. Сабраныя былі там характарыстыкі і дадзеныя сачэньня за падсуднымі. Па многіх палітычных зборных працэсах, пераважна з Палесься, інфармацыі траплялі ў пракуратуру і галоўную паліцыю ў Варшаве, пасрэдна цераз цэнтар разьведкі ў Англіі ад лясных гандлёвых ангельскіх фірмаў.

---

[49] Даволі цяжка паверыць у рэальнае правяденьне ў тыя часы, пра якія піша Сабалеўскі, пашыраных сходаў сябраў пасольскага клюбу Беларускай сялянска-работніцкай грамады з украінскімі і габрэйскімі пасламі. Калі сярод украінцаў сапраўды было шмат паслоў, блізкіх „грамадоўцам“ паводле духу, і таму кантакты прынамсі зь левай часткай Украінскага парлямэнцкага прадстаўніцтва несумненна існавалі, то Габрэйскае кола ў Сойме складалі выключна прадстаўнікі сіяніцкай і артадаксальнай ідэалягічных плыняў, якія дастаткова стрымана ставіліся нават да ўласных, габрэйскіх сацыялістаў, ня кажучы ўжо пра чужых.

[50] Маецца на ўвазе сыстэма міжнародных адносінаў, створаная ў Эўропе паводле Вэрсальскай мірнай дамовы 1919 г.





У маёй першай справе, дзе сьледзтвам было абнята 1385 асобаў[51], першая бачына актаў і распачынаецца тым, што ўступны матэрыял аб прыгатаваньні паўстаньня на Беларусі атрыманы Галоўнаю Камэндатураю Дзяржаўнай Паліцыі ад ангельскага галоўнага штабу палітычнай разьведкі. У ангельскай інфармацыі быў сьпісак западозраных чаловых асобаў.

У часе выбараў у польскі Сойм 1922 г. польская сацыялістычная партыя — ППС, і радыкальнае „Вызваленьне“[52] адцягнулі на сябе некаторыя беларускія галасы. Па сьпісках ППС на Беларусі прайшлі палякі (Пінск[53]), і на гэтым іх кантакт зь беларусамі скончыўся. Калі галасаваўшыя за іх беларусы пасылалі ў Сойм сваіх хадакоў з просьбамі аб абароне супроць неканстытуцыйнага пастунаньня польскай адміністрацыі на месцы, то іх ППСаўскія паслы папросту не прымалі і не хацелі дэманстрацыйна спатыкацца[54]. Са сваімі выбаршчыкамі па „Вызва-

---

[51] Маецца на ўвазе справа, паводле якой Ю. Сабалеўскага арыштавалі 2 красавіка 1925 г. і зьняволілі амаль на год, аж да самага вызваленьня ў сувязі з атрыманьнем пасольскага мандату. Паводле інтэрпэляцыі, пададзенай пасламі Беларускага пасольскага клюбу 27 красавіка 1925 г. на імя старшыні Рады Міністраў, у гэтай справе *„лічба арыштаваных даходзіла да 1500 асобаў“*.

[52] **Польская народная партыя (ПСЛ) „Вызваленьне“** (*Polskie Stronnictwo Ludowe (PSL) „Wyzwolenie“*) — польская сялянская партыя левацэнтрысцкай арыентацыі, якая дзеяла ў 1915—1931 гг. Мела даволі лібэральную праграму ў нацыянальным пытаньні, выказвалася за забесьпячэньне нацыянальным меншасьцям у Польшчы асноўных нацыянальных правоў.

[53] У Пінскай выбарчай акрузе (якая ахоплівала тагачасныя Пінскі, Лунінецкі й Сарненскі паветы) польскія сацыялісты здолелі на парлямэнцкіх выбарах 1922 г. здабыць тры пасольскія мандаты зь пяці, якія атрымалі Венчыслаў Бадзян, Станіслаў Баліцкі й Юзэф Дэнгелеўскі. Акрамя таго, ППС атрымала адзін (зь пяці) мандат у Берасьцейскай выбарчай акрузе (Берасьцейскі, Кобрынскі, Драгічынскі, Косаўскі, Пружанскі й Камень-Кашырскі паветы). Паслом ППС з гэтай акругі стаў Уладзіслаў Узембла.

[54] Хутчэй за ўсё, тут з боку Ю. Сабалеўскага мае месца значнае перабольшаньне, бо цягам усяго скліканьня Сойму стэнаграфічныя справаздачы рэгулярна фіксавалі інтэрпэляцыі й прапановы, пададзеныя пасламі ППС, выбранымі ў Палескім ваяводстве, у якіх зьвярталася ўвага на злоўжываньні „крэсовай“ адміністрацыі й на грубыя парушэньні правоў мясцовага насельніцтва. Іншая рэч, што эфэкт ад падачы падобнага роду дакумэнтаў звычайна быў далёкі ад пажаданага, але тое ж самае можна сказаць і пра шматлікія інтэрпэляцыі ды прапановы, пададзеныя беларускімі парлямэнтарыямі.

леньню“ прайшлі беларусы-католікі прапольскай палітычнай арыентацыі[55]. На тэрыторыі Сойму адчулі яны сваё разыходжаньне і адсутнасьць супольнае мовы з польскімі палітычнымі дзейнікамі; былі гатовыя ўключыцца ў склад беларускага пасольскага клюбу[56] (Балін[57], Шакун[58] і Шапель[59], на асаблівую ўвагу заслугоўвае Балін).

[55] Маюцца на ўвазе паслы Станіслаў Балін і Фэлікс Галавач (прайшлі ў Сойм зь Лідзкай акругі), Уладзімер Шакун (Наваградзкая акруга), Антон Шапель (Сьвянцянская акруга). Часта да іх ліку таксама далучаецца Адольф Бон зь Берасьцейскай акругі.

[56] Вядома пра намеры далучыцца да Беларускага пасольскага клюбу трох паслоў беларускага паходжаньня з клюбу ПСЛ „Вызваленьне“. Ні адзін з гэтых намераў, праўда, так урэшце і ня зьдзейсьніўся. Так, паводле сьведчаньня В. Рагулі, у 1924 г. Станіслаў Балін *„падаў заяву аб прыняцьці яго ў лік сяброў Клюбу, ды нават зьняў у клюбнай шафе для сябе месца. Рэшта гатова была пайсьці за ягоным прыкладам“* (Рагуля, В. Успаміны. Менск, 1993. С. 35). Аднак у той час Сыльвэстар Ваевудзкі здолеў зацікавіць Баліна пэрспэктывамі стварэньня новай, Незалежнай сялянскай партыі, і дзеля таго гэты пасол адмовіўся ад сваіх ранейшых намераў, увайшоўшы ў пасольскі клюб НПХ. Праз некалькі гадоў, у верасьні 1927 г., ужо паслы Ўладзімер Шакун і Антон Шапель падалі заявы на ўступленьне ў Беларускі пасольскі клюб (дарэчы, адначасова зь Ю. Сабалеўскім), але абодва яны ў БПК прынятыя не былі дзеля таго, што *„на працягу пяці гадоў зрабілі шмат шкоды беларускаму народу, належачы да розных польскіх, варожых да беларускіх спраў арганізацыяў, а таксама дзеля таго, што пасьля падачы ў Беларускі клюб заявы ня выказалі аніякіх пачынаньняў у кірунку направы іх мінулай шкодніцкай працы“* (Паслы Шакун і Шапель не прыняты ў Беларускі Пасольскі Клюб // Сялянская ніва. 1927. 9 лістапада. №82. С. 3).

[57] **Станіслаў Бальлін** (*Ballin*, 1897—1937), польска-беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. У 1917 г. — сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, з 1917 г. сябра ПСЛ „Вызваленьне“. Заўсёды падкрэсьліваў сваё беларускае паходжаньне. З 1922 да 1927 г. быў паслом польскага Сойму, першапачаткова ўваходзіў у пасольскі клюб ПСЛ „Вызваленьне“, пасьля зь яго выйшаў і стаў адным з заснавальнікаў і лідэраў Незалежнай сялянскай партыі. Пасьля роспуску гэтай арганізацыі выехаў у Гданьск і ўступіў у КПП. У 1928 г. быў у Нямеччыне, Бэльгіі й Францыі, дзе арганізоўваў кампанію дзеля абароны БСРГ. З 1929 г. — у СССР, вучыўся ў Міжнароднай ленінскай школе ў Маскве. Арыштаваны ў 1934 г. Расстраляны.

[58] **Уладзімер Шакун** (*Szakun*, 1883—1944), польска-беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Залічваў сябе да беларускай нацыянальнасьці. З 1922 да 1927 г. — пасол польскага Сойму, прайшоў у яго ў Наваградзкай акрузе паводле сьпісу ПСЛ „Вызваленьне“. З 1924 г. — адзін зь лідэраў НПХ. ⇨





Ваевудзкі падтрымліваў іх выхад з польскай палітычнай плятформы, але адсоўваў праект утварэньня разам зь іншымі апазыцыянэрамі-палякамі (др. Фідаркевіч[60] і Бон[61]) „Незалежнай Партыі Хлопскай“ у афармленьні польскім, але на плятформе поўнага ўнезалежненьня палітыкі як Украіны, так і Беларусі. Партыя павінна была разгарнуць дзейнасьць усьвядомленьня новай польскай палітыкі сярод каталіцкага асяродзьдзя і будаваць давер да „Новай Польшчы“ ў 5 іх выданьні.

Ходы Ваевудзкага прыкрываліся распаўсюджваньнем ім чутак, што за такую тактыку стаіць Пілсудзкі і на прышласьць, калі ён без сумніву прыйдзе да ўлады, партыя атрымае шырокія магчымасьці дзеянь-

⇨У 1927 г. — адзін з арганізатараў Радыкальнай сялянскай партыі беларускіх земляў. У верасьні 1927 г. разам з А. Шапелем падаваў заяву на ўваходжаньне ў Беларускі пасольскі клюб, але ня быў у яго прыняты. Пасьля сканчэньня пасольскіх паўнамоцтваў арыштаваны, пасьля вызваленьня з турмы пакінуў палітыку. Жыў па-за межамі Заходняй Беларусі. Падчас Другой сусьветнай вайны загінуў у канцэнтрацыйным лягеры Штутгоф *(Stutthof)*.

[59] **Антон Шапель** (*Szapiel*, 1891—1944 (?), польска-беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Залічваў сябе да беларускай нацыянальнасьці. З 1922 да 1927 г. быў паслом польскага Сойму, прайшоў у яго ў Сьвянцянскай акрузе паводле сьпісу ПСЛ „Вызваленьне“. З 1924 г. — адзін зь лідэраў НПХ. У 1927 г. — адзін з арганізатараў Радыкальнай сялянскай партыі беларускіх земляў. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас Другой сусьветнай вайны жыў у Варшаве, пасьля выехаў у родныя мясьціны. Далейшы лёс невядомы.

[60] **Альфрэд Фідэркевіч** (*Fiderkiewicz*, 1886—1972), польскі грамадзка-палітычны дзеяч, лекар. З 1922 да 1927 г. — пасол польскага Сойму, да 1924 г. — сябра пасольскага клюбу ПСЛ „Вызваленьне“, пасьля — НПХ. Быў шчыльна зьвязаны з Камуністычнай партыяй Польшчы (КПП) і блізкімі да яе арганізацыямі. Падчас Другой сусьветнай вайны дзеяў у падпольлі, неаднаразова арыштоўваўся немцамі. У 1943 г. зьмешчаны ў канцэнтрацыйны лягер у Асьвенцім, быў лекарам у бараках для сухотнікаў. У 1945 г. — сябра Краёвай рады нарадовай (КРН), прэзыдэнт гораду Кракава.

[61] **Адольф Бон** (*Bon*, 1890—1944), польска-беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Жыў у Берасьці. З 1921 г. — сябра ПСЛ „Вызваленьне“. З 1922 да 1927 г. — пасол польскага Сойму, спачатку ўваходзіў у пасольскі клюб ПСЛ „Вызваленьне“, з 1924 г. — у пасольскі клюб Незалежнай сялянскай партыі. Сябра сакратарыяту й старшыня Берасьцейскага акруговага камітэту НПХ. Рабіў няўдалыя спробы выданьня на Палесьсі газэтаў на расейскай мове „Борьба“ й „Пахарь“. У 1927 г. адзін з арганізатараў Радыкальнай сялянскай партыі беларускіх земляў. Пасьля 1928 г. займаўся каапэрацыяй.

ня, што будзе карысным і для беларусаў, і для ўкраінцаў, і для палякаў, якія імкнуцца вызваліцца ад прыгнёту сваіх жа абшарнікаў, капіталістых і рэакцыйнага каталіцкага клеру.

Якая была ў Ваевудзкага ўвязка з Тарашкевічам, па гэтаму пытаньню я ня ведаю, але яна была. Трэба думаць, што прыхільная. Характэрна, што з соймавай трыбуны Ваевудзкі ніколі не выступаў[62], але ня памятаю выпадку, каб якое-небудзь паважнейшае пытаньне было ім прапушчана. Ня ўсё і не заўсёды яму гэта ўдавалася, але многае — так. Зарыентавацца ў плянах Ваевудзкага было цяжка, спатыкаліся ўзаемавыключэньні і супярэчнасьці. Пасол Рагуля бачыў у гэтым хітры ход правакатара і здрадніка.

Мой першы выступ у Сойме ў справе Грамады запісаны ў стэнаграфічнай справаздачы 311 паседжаньня 25.I.1927 г. на бачыне CCCXI/5[63].

Высьвятленьне ролі Ваевудзкага як паліцыйнага агента падала тады газэта „Глос Праўды“[64], і на 314 паседжаньні Сойму 28 студзеня 1927 г. справу рэфэраваў пасол Панятоўскі[65]. Віцэ-прэм'ер Бартэль[66], спасылаючыся на ўрадавыя дакумэнты, пацьвердзіў, што Ваевудзкі зьяўляецца платным урадавым агентам польскай палітычнай разьведкі[67].

На працэсе Маршалкоўскага суда[68] дапытаны былі сьведкі з боку ўрадавых інстытуцый[69] і прагледжаны прадстаўленыя ўрадам дакумэн-

[62] Сыльвэстра Ваевудзкага сапраўды цяжка было назваць надта актыўным выступоўцам, але сьцьверджаньне, што ён увогуле ніколі не выступаў з соймавай трыбуны, — таксама перабольшаньне. Гэтак, напрыклад, афіцыйныя стэнаграфічныя справаздачы зафіксавалі выпадкі выступленьняў Ваевудзкага з соймавай трыбуны 19 лютага 1925 г. (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 178 posiedzenia z dnia 19 lutego 1925 r. Ł. CLXXVIII/13) і 25 чэрвеня 1926 г. (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 288 posiedzenia z dnia 25 czerwca 1926 r. Ł. CCLXXXVIII/51—58). Аднак у большасьці выпадкаў агучваць пазыцыю Незалежнай сялянскай партыі пры абмеркаваньні розных пытаньняў звычайна даводзілася калегу Ваевудзкага Станіславу Баліну.

[63] Пасьля гэтая прамова была таксама перадрукаваная ў выданьні: Posiowie rewolucyjni w Sejmie (lata 1920—1935). Warszawa, 1961. S. 305—307.

[64] **„Głos Prawdy“** („Голас праўды“) — штодзённая газета, якая выдавалася ў Варшаве ў 1926—1929 гг.

[65] **Юліюш Панятоўскі** (*Poniatowski*, 1886—1975), польскі палітык, адзін зь лідэраў ПСЛ „Вызваленьне“. Пасол Сойму ў 1922—1927 гг. ад гэтай партыі, займаў пасаду віцэ-маршалка Сойму.

[66] **Казімер Уладзіслаў Бартэль** (*Bartel*, 1882—1941), польскі дзяржаўны й палітычны дзеяч, навуковец-матэматык. У траўні—верасьні 1926, чэрвені 1928 — красавіку 1929, сьнежні 1929 — сакавіку 1930 — прэм'ер-міністар Польшчы. У верасьні 1926 — чэрвені 1928 займаў пасаду віцэ-прэм'ера й міністра рэлігійных веравызнаньняў і публічнай асьветы ва ўрадзе Юзэфа Пілсудзкага. Пасол Сойму ў 1922—1929 гг. Пасьля 1930 г. пакінуў палітыку.

[67] Карота сутнасьць гэтай справы такая. 28 студзеня 1927 г. праўрадавая варшаўская газэта „Głos Prawdy“ надрукавала артыкул пад „Пасол Ваевудзкі ў ролі новага Азэфа“, у якім гэты дзеяч абвінавачваўся, сярод іншага, у тым, што ўжо пасьля выбараў у паслы, як мінімум да 1923 г., ён выконваў ролю платнага агента Дэфэнзівы, зьбіраючы інфармацыю пра беларускіх паслоў. Пры гэтым менавіта ягоная інфармацыя нібыта магла спрычыніцца да вынясеньня арыштаваным паслам цяжкіх прысудаў. Вынікам скандалу, які выбухнуў пасьля гэтага паведамленьня, стала вынясеньне справы Ваевудзкага на разгляд Маршалкоўскага суда. Суд над С. Ваевудзкім адбываўся з 29 студзеня да 2 сакавіка 1927 г. Бясспрэчных доказаў віны Ваевудзкага ў наўмыснай правакацыі беларускіх парлямэнтарыяў суд у выніку сваёй працы ня выявіў, аднак усталявалі, што С. Ваевудзкі быў *„мужам даверу Рэфэрату нацыянальных адносінаў пры II аддзеле Польскага Генштабу“* й *„між іншым, дастаўляў інфармацыю аб палітыцы Беларускага клюбу ў Сойме і аб некаторых беларускіх дзеячах“*, а таксама *„браў грошы ад Рэфэрату нацыянальных адносінаў з расьпіскамі аб атрыманьні“*. Беларускіх паслоў у склад Маршалкоўскага суда не ўлучылі, хоць яны і зьвярталіся з просьбай. Сёньня стэнаграма паседжаньняў Маршалкоўскага суда над Сыльвэстрам Ваевудзкім апублікаваная: Sylwester Wojewódzki przed Sądem Marszałkowskim. Warszawa, 1997. — 272 s.

[68] **Маршалкоўскі суд** — соймавы суд гонару, разгляду якога падлягалі ўчынкі паслоў, *„якія ганьбавалі Сойм, але не падпадалі пад Крымінальны кодэкс“*. Да ягонай кампетэнцыі належаў *„разгляд справаў, у якіх гонар пасла быў пастаўлены пад сумнеў іншым паслом“*. Суд называўся маршалкоўскім дзеля традыцыі часоў Рэчы Паспалітай, хоць сам маршалак непасрэдна ў ягонай працы ня ўдзельнічаў. Суд складаўся з двух арбітраў і аднаго супэрарбітра, і ў ягоны склад маглі ўваходзіць віцэ-маршалак ці любы іншы пасол.

[69] На Маршалкоўскім судзе над Сыльвэстрам Ваевудзкім у якасьці сьведкаў апыталі баранавіцкага старасту Антонія Кульвеца, лідэра ПСЛ „Вызваленьне“ Станіслава Тугута, пасла Сойму з клюбу „Вызваленьне“ Людвіка Хамінскага, Антонія Галку, Яўстаха Рудзінскага, Казімежа Багінскага, Аляксандру Карніцкую, Станіслава Баліна, Аляксандра Цьвякоўскага, Яна Ледваха і Марыяна Зындрам-Касьцялкоўскага, грамадзяніна Ганэрку з Горадні, галоўнага рэдактара газэты „Głos Prawdy“ Войцеха Сьпічынскага, беларускага паланафільскага дзеяча Паўла Алексюка, начальніка Нацыянальнага аддзелу МУС Польшчы Гэнрыка Сухенэк-Сухоцкага, рэфэрэнта асобнага нацыянальнага рэфэрту DOK III (*Dowództwa Okręgu Korpusu*) з цэнтрам у⇨

ты, і суд прыйшоў да высснаву, што Ваевудзкі знаходзіўся на службе 2-га Аддзелу Генэральнага Штабу (разьведка) у прызначэньні сачэньня за беларускім рухам і беларускімі пасламі Сойму. Атрымліваў за гэта пабory і зварот выдаткаў на ўтрыманьне сваіх падагентаў. Справа прадстаўлена пленуму 327 паседжаньне 1927 г. і запісана на бачыне CCCXXVII/3—7[70].

Выдача пасло: Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Валошына[71], Мятлы і Галавача[72] адбылася 4 сакавіка 1927 г. і запісана ў справаздачы на бачыне CCCXVII/107.

⇨ Горадні Казімежа Ёбэля, былога начальніка нацыянальнага рэфэрату Міністэрства вайсковых справаў Тадэўша Крук-Стшалецкага, былога лідэра „сэцэсіі“ ў КПЗБ Міхала Гурына, галоўнага рэдактара газэты „Wychodźca“ („Эмігрант“) Міхала Панкевіча і былую супрацоўніцу II аддзелу Генэральнага штабу Юзэфу Блонскую.

[70] Агучаны 22 сакавіка 1927 г. маршалкам Сойму вэрдыкт Маршалкоўскага суда ў справе Ваевудзкага гучаў гэтак: *„Пасьля прагляду матэрыялаў, пададзеных віцэ-прэм'ерам панам доктарам Бартэлем і пасьля праслухоўваньня 22 сьведкаў на 13 паседжаньнях Суда, а таксама пасьля вывучэньня іншых дакумэнтаў Суд засьведчвае: што не было даказана, каб пан Сыльвэстар Ваевудзкі, зьяўляючыся паслом, выконваў функцыі канфідэнта (агента) т. зв. дэфэнзівы, і каб такім чынам атрымліваў у такім характары ўзнагароджаньне, а таксама каб даваў дэфэнзіве, зьяўляючыся паслом, інфармацыю пра сваіх соймавых калегаў. Суд устанавіў, што п. Ваевудзкі, зьяўляючыся паслом, аж да студзеня 1924 г. быў для беларускіх справаў довераны асобай II аддзелу Генэральнага штабу ў нацыянальным рэфэраце эвідэнцыйнага аддзелу. Сярод іншага, ён пастаўляў інфармацыю пра палітыку Беларускага клюбу ў Сойме й пра некаторых беларускіх паслоў. Атрымліваў у нацыянальным рэфэраце грошы паводле разьліковых квітанцыяў. Суд усталяваў, што пан Ваевудзкі часткова выдаткоўваў гэтыя грошы на аплату сваіх інфарматараў, а часткова на палітычную й выбарчую кампанію ў чатырох акругах паўночна-ўсходніх ваяводзтваў, на тэрыторыі якіх і сам быў кандыдатам у паслы Сойму“* (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 327 posiedzenia z dnia 22 marca 1927 r. J. CCCXXVII/5).

[71] **Павал Валошын** (1891—1937), палітычны дзеяч. У 1923—1927 гг. — пасол польскага Сойму, адзін з стваральнікаў БСРГ. З 1927 да 1932 г. — зьняволены ў польскай турме. З 1932 г. — у Менску. Рэпрэсаваны.

[72] **Фэлікс Галавач** (1886—1972), беларуска-польскі грамадзка-палітычны дзеяч. Паходзіў з Валожыншчыны. У 1917 г. быў сябрам БСГ. У 1922—1927 гг. — пасол у польскім Сойме, прайшоў у яго ў Лідзкай акрузе паводле сьпісу ПСЛ „Вызваленьне“. Падкрэсьліваў сваё беларускае паходжаньне.⇨





Справаздачы за гэты час знаходзяцца ў Публічнай цэнтральнай бібліятэцы Нью-Ёрку — Аддзел газэт і журналаў пры 137 Вэст, 25 Стр. пад знакам: зорка і лацінскае 3000.

Палітычнае жыцьцё Польшчы працякала хаатычна. На тэрыторыі Сойму змагаліся 22 палітычныя партыі[73], але ў адносінах да беларускага пытаньня ўсе яны ішлі адзіным фронтам на яго зьнішчэньне і падпарадкаваньне ўсіх праяваў нашай апрычонасьці польскаму вядучаму палітычнаму і эканамічнаму курсу. Беларусь павінна была стацца калёніяй польскай мэтраполіі, а найменшы наш праяў унезалежненьня нішчыўся, як нібыта здрада польскай дзяржаўнасьці. Фармальны бок такіх абвінавачваньняў польскіх палітыкаў не цікавіў, і з гэтым польскія дзейнікі ня крыліся. Польскі прэм'ер-міністар Скульскі на жалабу беларускіх паслоў аб стасаваным урадам ціску беларускага жыцьця з трыбуны Сойму заявіў, што недалёкі той час, калі ў выніку польскага змаганьня за свае дзяржаўныя інтарэсы ўсіх беларусаў у Польшчы цераз 50 год ня можна будзе знайсьці ўдзень са сьвечкаю[74]. Фактычна ў Польшчы была адрэстаўравана старая фэадальна-магнацкая самаволя.

⇨ У 1924 г. — адзін з стваральнікаў і лідэраў Незалежнай сялянскай партыі. Быў арыштаваны ў студзені 1927 г. разам з пасламі ад БСРГ. Вызвалены праз 18 месяцаў без суда. У 1939 г. арыштаваны савецкімі ўладамі, вывезены ў Казахстан. Падаваў заяву на ўступленьне ў армію Андэрса, аднак яе не задаволілі. Пасьля вайны жыў на захадзе Польшчы, займаўся арганізацыяй там дзяржаўнай адміністрацыі й харчовай прамысловасьці.

[73] Цяжка сказаць, адкуль Сабалеўскі ўзяў гэтую лічбу. Адразу пасьля пачатку дзейнасьці Сойму I скліканьня (1922—1927) у ім стварыліся наступныя парлямэнцкія фракцыі, якія можна лічыць польскімі: 1) Народна-нацыянальны саюз (эндэкі); 2) пасольскі клюб Польскай народнай партыі „Пяст“; 3) пасольскі клюб Польскай народнай партыі „Вызваленьне“; 4) Нацыянальная хрысьціянская партыя працы; 5) Парлямэнцкі саюз польскіх сацыялістаў (ППС); 6) Хрысьціянска-нацыянальны клюб; 7) Нацыянальная рабочая партыя; 8) Сялянская радыкальная партыя; 9) Саюз пралетарыяту гарадоў і вёсак (Камуністычная пасольская фракцыя); 10) Польская нацыянальная партыя (група Стапінскага). З часам некаторыя з гэтых дзесяці розных паводле колькасьці польскіх пасольскіх клюбаў дзяліліся, аднак іх агульная колькасьць аніколі нават не наблізілася да 22.

[74] **Леапольд Скульскі** (*Skulski*, 1878—1939), польскі палітычны дзеяч, у 1919—1920 гг. — прэм'ер-міністар, у 1920—1921 гг. — міністар замежных справаў Польшчы. Трымаўся нацыяналістычных поглядаў. Цытаваныя Сабалеўскім знакамітыя словы ён, аднак, ня мог сказаць у адказ на скаргу беларускіх паслоў, бо ў часы ягонага прэм'ерства беларусы яшчэ ня мелі сваіх прадстаўнікоў у польскім парлямэнце.

Вэрсальскі Трактат у 1920 г.[75] у адносінах да Польшчы ня меў намеру выяўленьня гістарычнае справядлівасьці ўзнаўленьня польскай дзяржаўнасьці на яе разабранай немцамі, аўстрыякамі і расейцамі тэрыторыях. Вэрсальскі Трактат бачыў, што вайна 1914—1920 гг. ня скончана, адбываецца толькі пярэрва ў гэтых падзеях і да збройнага голасу, як неадзоўнасьць, прыйдуць у першую чаргу немцы, а потым і бальшавікі, а таму яны, у прадбачаньні гэтых неўнікнёных падзеяў, павінны быць пад чужым наглядам і ў першую фазу актывізацыі — сьмела паўстрыманы крывёю і рукою найбольш загрожаным у беспасрэдным суседзтве — Польшчаю, а самім пасьпець змабілізавацца для большае акцыі супраціву.

Паводле гэтага пляну, Польшча павінна стацца баяздольнаю. На падкармленьне польскай дзяржаўнай касы прыгвозджвалася да польскай тэрыторыі на каляніяльных эксплюатацыйных падставах значная частка Беларусі і Ўкраіны. Палітычныя нутраныя няўвязкі ў Польшчы непакоілі яе апекуноў — галоўным чынам Францыю, з гледзішча нясеньня Польшчаю службы інтарэсаў правадыроў Вэрсалю. Польская дыпляматыя палітычныя няўвязкі ў сябе дома тлумачыла інтрыганствам звонку „Крэсув", як беларуска-ўкраінскіх, так і нямецкіх, ды жадала вольнай рукі ў справах нутраное палітыкі і прыдзелу Польшчы пазыкаў зь міжнароднага банку. Каб рабіць большае ўражаньне на распарадчыкаў банкамі, польская прэса і дыпляматыя падымалі сэзонныя акцыі ў разьдзьмухваньні непакою за свае граніцы і падаваньнем да ведама (у алярмуючым зьмесьце) аб „выкрыцьці" падрыўных акцыяў ці то беларускіх, ці то ўкраінскіх у той час, калі вельмі часта ў гэтым напрамку працавалі па заданьнях іх нанятыя правакатары, а ў дзяржаўных польскіх друкарнях укладаліся праклямацыі пераважна камуністычнага зьместу, якія масава друкаваліся і раскідваліся паліцэйскімі агентамі ў часе выбарчых кампаній.

Урадавыя дзейнікі на падставе „дакумэнтальных" доказаў „перасякалі" праступствы і зацiскалі праявы грамадзкага жыцьця. У выніку гэтага ўсе нашыя жалабы на недатрыманьне Польшчаю канстытуцыйных гарантый палітыкі Лігі Народаў[76] пакідалі без найменшай увагі.

[75] Насамрэч Вэрсальскую мірную дамову падпісалі 28 чэрвеня 1919 г.

[76] **Ліга Народаў (Ліга Нацыяў)** — міжнародная арганізацыя, заснаваная паводле рашэньня Вэрсальскай мірнай канфэрэнцыі ў 1919 г. Мэтай яе дзейнасьці было раззбраеньне, прадухіленьне ваенных дзеяньняў паміж краінамі, забесьпячэньне калектыўнай бясьпекі, урэгуляваньне спрэчак паміж краінамі шляхам дыпляматычных перамоваў. Фармальна існавала да 1946 г., але фактычна спыніла дзейнасьць пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны.





Нашая апазыцыя на зачэпную[77] акцыю польскага ўраду аказвала пасільнаю рэакцыяю, і барацьба ўзмагалася.

Перавага сілаў, зразумела, была на старане польскіх урадавых дзейнікаў, і з кожным годам сыстэма адміністрацыйна-паліцыйнага ўціску набірала на сіле. Намеры польскай каляніяльнай сыстэмы ў адносінах да нашага жыцьця былі ў сваім заложаньні пакрэўныя намерам ваеннага камунізму бальшавікоў, гатовы былі абабраць сабе дарогу канкістадораў[78], і таму толькі былі ад іх гуманьнейшымі, што польскі намер не пачуваўся на сілах да зрэалізаваньня сваіх ідэалягічных плянаў.

Калі прэм'ер-міністар Скульскі на нашыя пратэсты адказаў, што на працягу 50 гадоў ад нас, больш трох мільёнаў беларускага народу[79], нікога не пазастанецца ў Польшчы, то гэты ілюструючы зварот ачольваючай дзяржаву асобы гаварыў без аглядак пра ўплянаваную і вызнаваную сыстэму нашага вынарадаўленьня і вынішчэньня.

Гэтымі словамі Скульскага фактычна і адчытана была нам стасавальная закрытая польская „канстытуцыя" для „Крэсув Всходніх". Заканадаўчыя палаты — Сойм і Сэнат, у сваім складзе станавілі большыню і ў зьмесьці Скульскіх стаялі на варце будаваньня „Моцарствовае Польшчы"[80], а ў фактычным стане адміністраваньня „Крэсамі" бачылі дарогу да зрэалізаваньня агульнанацыянальных польскіх пастулятаў, надаючы ім, на дадатак, характар „культуральнай місійнасьці на Ўсходзе".

Увесь польскі дзяржаўны апарат, пачынаючы ад Прэзыдэнта і канчаючы падмятайламі касьцельных і войтаўскіх панадворкаў, на пытаньні пэрспэктыўнай польскай дзяржаўнасьці пазіралі ў пераломе акуляраў Скульскага.

Польская дзяржаўная дыктатура тым розьнілася ад іншых дыктатураў, што суседнія дыктатуры існавалі ўлегалізавана і адкрыта, нават

[77] *„Зачэпны"* (ад польск. *zaczepny*) — наступальны, агрэсіўны.

[78] **Канкістадоры** — сярэднявечныя гішпанскія заваёўнікі Амэрыкі.

[79] Сабалеўскі карыстаецца максымальнай ацэнкай колькасьці беларусаў у Польшчы ў міжваенны час. Гэтая лічба не аргумэнтаваная навукова, хоць пераважная большасьць як беларускіх, гэтак і польскіх гісторыкаў пагаджаюцца, што афіцыйныя вынікі польскіх перапісаў насельніцтва 1921 і 1931 гг. (якія фіксавалі каля мільёну асобаў беларускай нацыянальнасьці) не адлюстроўваюць сапраўднай нацыянальнай сытуацыі ў Заходняй Беларусі. Ацэнкі сучасных беларускіх і польскіх дасьледнікаў у дачыненьні колькасьці беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польшчы вагаюцца паміж 1,5 і 2,5 мільёна чалавек.

[80] *„Моцарствовая"* (ад польск. *mocarstwowa*) — вялікадзяржаўная.

і абвешчваліся ў зьмесьце распараджэньняў, затое польская дыктатура была прыцярушана канстытуцыяю і дзейнічала „ў чыстых рукавічках“, стараючыся не пакідаць па сабе сьлядоў. Замятаньне сьлядоў па сваіх злачынах уваходзіла ў зьмест службова-дзяржаўна-патрыятычнай службы і служыла падставаю ў расцэнках службовага авансу.

На ўвесь сьвет прэса разьнясла праўдзівыя весткі аб даконваемых на Ўкраіне пад Польшчаю пэрыядычных „пацыфікацыях“ сродкамі дзяржаўнага і паліцыйнага апарату. Пагромы адбываліся сярод белага дня на вачах масавых зборышч. Бессаромліва накідвалі „патрыёты“ ў выбарчыя скрынкі бюлетэні сваіх кандыдатаў і выбіралі адтуль для сябе неадпаведныя. Удаводнівалася паходжаньне раскіданых праклямацый антыдзяржаўнага зьместу з урадавых друкарняў, для мэтаў правакацыйных, каб сарваць выбары і назначыць свайго на становішча камісара.

Яшчэ ў сьвежай нашай памяці ёсьць арганізаваны кацэтр[81] у Картуз-Бярозе[82] для „неляяльных“, дзе паводле погляду паветавага старасты кіямі па рэбрах стасавалася сыстэма патрыятычнага перавыхоўваньня беларуса на „сумленнага обыватэля“. У дадатку да кія былі стасаваны рознага роду маральныя зьдзекі. На ўсе звароты і жалабы ўрадавая адміністрацыя, пракуратура, суд і нацыяналістычная прэса адказвалі, што гэта няпраўда, неўдаводнена ні сьведкамі, ні дакумэнтамі... а пасьля таго распачыналася нагонка за „вымыслы“ і абразы службоўцаў.

Трэба было дзівіцца бясстыднасьці судовых працэсаў, дзе складаліся ілжывыя сьведчаньні ўсякага наёмнага зброду і залічваліся як доказы на цяжкія прысуды.

Калі ў Вялейскім павеце вёска талакою пасеяла поле заарыштаваных і засуджаных ды сабрала грошы на абутак і вопратку дзецям, то пракуратура спрэпаравала абвінавачваньне супроць аратых і зборшчыкаў, а суд прысудзіў іх на чатыры гады быццам за тое, што яны належалі да бальшавіцкага „Мопру“[83] (Міжнародная арганізацыя дапамогі

[81] Гэтак у арыгінале. Маецца на ўвазе канцэнтрацыйны лягер.

[82] Сумна вядомы канцэнтрацыйны лягер у Картуз-Бярозе быў створаны нашмат пазьней за той час, пра які вядзе гаворку Юры Сабалеўскі — 12 ліпеня 1934 г.

[83] **Міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі (МОПР)** — камуністычная дабрачынная арганізацыя, створаная паводле рашэньня IV Кангрэсу Камінтэрну ў 1922 г. Мела аддзяленьні ў дзясятках краінаў сьвету, аказвала грашовую й матэрыяльную дапамогу зьняволеным рэвалюцыянэрам. У Польшчы мела афіцыйную назву „Чырвоная дапамога ў Польшчы“ (*„Czerwona Pomoc w Polsce“*) і была афіцыйна распушчаная разам з Камуністычнай партыяй Польшчы ў 1938 г.





палітычным). Памеры гэтае працы не дазваляюць прадставіць нашай падмене ілюстрацыі з ганебнага паступаньня палякаў супроць сьведамага беларуса, і я таму агранічваюся толькі да некаторых абагульненьняў і характарыстыкаў.

Шмат хто зь дзеячоў гэтае польскае дзяржаўнае „канстытуцыі“ для „Крэсув Всходніх“ знаходзіцца сярод нас на эміграцыі, шмат хто сярод іх укладаў „пшэпісы“[84] для сваіх умундураваных „палкароў“ у Картуз-Бярозе, дзе нашаму сэнатару Багдановічу на „сьнядане, як дане першэ“[85] давалі порцыю кіёў і застаўлялі на „чвораках“[86] бегаць і выкрыкваць на сябе зларэчча.

Факты, ведамыя ўсім, але не нацыяналістычна настаўленым палякам і, калі ім гэта выстаўляецца, выракаюцца і тлумачацца фальшыва, што ўпершыню аб гэтым чуюць, хоць самі ж гэтую „канстытуцыю для Крэсув“ і ўкладалі, і выконвалі (Всказувкі практычнэ[87]). Пад акорд картуз-бярозаўскага „канстытуцыйнага“ кія і захаванага сакрэту *„таемнічэй скшынкі выборчэй“*[88] Польшча была гатова сьвяткаваць сваю перамогу над сваім нутраным ворагам, і на лаве паслоў ад Беларусі засядаў кароткі час адзіны *„пожондны з Крэсув, пэлнёнцы обовёнзкі посла для бялорусінув“*[89], а потым і яго ня стала. У больш цынічным выданьні красавалася адна асоба і ў Сэнаце для вонкавае дэкарацыі аб удзеле беларусаў у „выбарах“[90].

[84] *„Пшэпіс“* (ад польск. *przepis*) — правіла, інструкцыя.

[85] На сьняданак як першая страва (польск.).

[86] *„На «чвораках»“* (ад польск. *na czworakach*) — на карачках.

[87] *„Всказувкі практычнэ“* (ад польск. *wskazówki praktyczne*) — практычныя ўказаньні.

[88] „Сакрэтнай выбарчай скрынкі“ (польск.).

[89] „Адзіны прыстойны з Крэсаў, які выконвае абавязкі пасла для беларусаў“ (польск.). Магчыма, Сабалеўскі мае тут на ўвазе **Генадзя Шыманоўскага** (1891—1981), які ў 1930—1938 гг. быў паслом Сойму зь сьпісу праўладнага Беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам (ББСУ) і пазыцыянаваў сябе як прадстаўніка ад беларускага насельніцтва, тым больш што быў паводле веравызнаньня праваслаўным.

[90] Магчыма, тут маецца на ўвазе селянін **Васіль Сядун**, які быў сэнатарам ад ББСУ ў 1930—1935 гг. і пазыцыянаваўся як беларус. Сабалеўскі мае рацыю, калі сьцьвярджае пра тое, што падобныя людзі выстаўляліся й праводзіліся ў парлямэнт з дапамогай польскіх уладаў толькі дзеля дэкарацыі. Гэтак, напрыклад, калі Беларускі нацыянальны замежны камітэт пасьля заканчэньня выбарчай парлямэнцкай кампаніі 1930 г. даслаў пэтыцыю ў Лігу Нацыяў з скаргай на шматлікія злоўжываньні й адкрытыя фальсыфікацыі⇨

Адсюль наказам для нас было ў апісваную пару, калі „канстытуцыйнасьць“ Польшчы поўнасьцю выявілася і пачалася стабілізавацца, кінуць высілкі шуканьня палітычнага спаўжыцьця з палякамі, у накіненай нам Вэрсалем прымусовай польскай дзяржаўнасьці, шукаць выхаду па-за тэарэтычнаю, а больш па-за практычна-стасавальнаю „канстытуцыяю“ Польшчы. Праанілізаваўшы ўсе абставіны прабегу прац польскага дзяржаўнага апарату, мы прыйшлі да выснаву, што Польшча, якая ёсьць сяньня ў абшарніцкім выданьні, ніколі не перабудуецца на іншую, праўдзіва-канстытуцыйную, таму мы не абавязаны яе падтрымліваць, а наадварот — перашкаджаць ёй у разбудове падобнай сыстэмы дзяржаўнасьці. У сувязі з гэтым Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада пастанавіла заняць лінію прынцыповай апазыцыі, выключаючы абсалютна канстытуцыйнае супрацоўніцтва з польскімі палітычнымі дзейнікамі.

Палітычная добрасумленнасьць наказвае мне пры гэтым сказаць, што гэты шлях значна раней сфармуляваў Базыль Рагуля і ўдаводніў[91] уласным паступаваньнем ягоную актуальнасьць.

Многае варажыла, што Рагуля стане на чале дзейнічаючай беларускай палітыкі, на гэта Рагуля меў усе дадзеныя, і якая шкода, што тое ня сталася.

Інтрыга Ваевудзкага, узмоцненая кароткаўзрочнасьцю[92] Тарашкевіча, зьбіла з абранага палітычнага накірунку Рагулю, а пры дапамозе Антона Луцкевіча беларускі рух быў уведзены ў зусім неадпаведнае рэчышча[93].

⇨ польскіх уладаў, якія не дазволілі беларусам правесьці ў Сойм больш як аднаго пасла (Фабіяна Ярэміча), палякі на адпаведны запыт міжнароднай арганізацыі бадзёра адказалі, што ад беларусаў *„цяпер у Сойме засядаюць 4 паслы і 1 сэнатар (Ярэміч, Шыманоўскі, Куц, Курусь і Сядун)“* (Archiwum Akt Nowych (AAN). Ministerstwo Spraw Zagranicznych (MSZ) 1918—1939. Sygn. 2273. S. 69). У той жа час з апошніх чатырох асобаў толькі Шыманоўскі праводзіў хоць нейкую дзейнасьць, а астатнія былі звычайнымі статыстамі, якія за час выкананьня пасольскіх і сэнатарскіх абавязкаў не прадэманстравалі ўвогуле аніякай актыўнасьці, тым больш скіраванай на абарону беларускіх інтарэсаў.

91 *„Удаводніў“* (ад польск. *udowodnił*) — даказаў.

92 *„Кароткаўзрочнасьць“* (ад польск. *krótkowzroczność*) — блізарукасьць.

93 Да ацэнак Ю. Сабалеўскім асобы Сыльвэстра Ваевудзкага й ягонай ролі ў падзеях пачатку 1927 г. трэба ставіцца надзвычай асьцярожна, паколькі ня выключана, што Сабалеўскі, як гэта нярэдка здараецца з мэмуарыстамі, ⇨





Я ім тут на гэтым месцы не судзьдзя. Шкада, што так сталася! Шкада, што так глыбока памыліліся і не распазналі бальшавіцкае правакацыі, і за гэта многія за свой давер заплацілі ў казаматах ЧЭКА і НКВД сваімі галовамі, сьвята вызнаючы пры гэтым барацьбу за зрэалізаваньне Беларускай Дзяржаўнай Незалежнасьці.

### Маёвы пераварот

Пілсудзкі пры ўладзе. Барацьба з вуліцы пераносіцца адразу на барацьбу з законапарадкам. Каля ўрадавых становішч пачалі гуртавацца людзі „камэнданцкага“ зьместу[94]. Многім спасярод нас здавалася, што Ваевудзкі зойме становішча беспасрэдна пры Пілсудзкім і пойдзе зь ім па лініі аздараўленьня нутранога палітычнага жыцьця на падставах законнасьці і абавязваючай канстытуцыі.

⇨не ўтрымаўся ад таго, каб заднім чыслом сьвядома ці несьвядома не прыпісаць сабе тагачаснаму пазьнейшыя думкі і адпаведна зь імі не апісаць свае тагачасныя дзеяньні й перажываньні. Пра тое, што насамрэч Сабалеўскі ў той час ня быў такім ужо непрымірымім праціўнікам Ваевудзкага й не лічыў яго правакатарам, можа сьведчыць хоць бы выдадзены Сабалеўскім у тыя дні камунікат, поўны тэкст якога прыведзены ў пазьнейшых успамінах аднаго з паплечнікаў Ваевудзкага — Альфрэда Фідаркевіча. Тэкст гэтага дакумэнту пачынаўся з наступнага абзацу (у перакладзе з польскай мовы):
*„Урад, арыштоўваючы паслоў Грамады, хацеў нанесьці сьмяротны ўдар вызваленчаму руху беларускага народу. Цяпер урад, ня маючы доказаў супраць арыштаваных паслоў, намагаецца скінуць адказнасьць за арышты беларускіх паслоў на пасла Ваевудзкага. Гэта манэўр, разьлічаны на падман грамадзкай думкі. Аднак кожны зразумее, што абвінавачваньне пасла Ваевудзкага, сябра Незалежнай сялянскай партыі, у правакацыі Грамады — гэта нонсэнс. Гэтае бруднае цкаваньне, распачатае супраць Ваевудзкага — гэта працяг перасьледу соймавай апазыцыі»* (Fiderkiewicz, A. „Dobre czasy“: wspomnienia z lat 1922—1927. Warszawa, 1958. S. 361).
Дадзены дакумэнт у тыя дні быў разам зь іншымі матэрыяламі дзела абароны С. Ваевудзкага апублікаваны на старонках афіцыйнага друкаванага органу Незалежнай сялянскай партыі — газэты *Zagon*, але два нумары гэтага выданьня былі тады канфіскаваныя польскай паліцыяй і дзеля таго сёньня цяжкадаступныя (гл.: Sylwester Wojewódzki przed Sądem Marszałkowskim. Warszawa, 1997. S. 12).

94 Тут маюцца на ўвазе людзі, верныя Юзэфу Пілсудзкаму. **Камэндант** — адна зь мянушак Пілсудзкага, шырока ўжываная ягонымі прыхільнікамі.

Фактычна ж атрымалася другое. Агітуючы папярэдне за Пілсудзкага, Ваевудзкі пасьля маёвага перавароту па выстаўленым палітычным вэксалям ня плаціць, ён дае нейкія туманныя паясьненьні, што маршалак напатыкае вялікія цяжкасьці як знутры, так і звонку, і часова прымушаны манэўраваць. Тактычна Ваевудзкі салідарызуецца з крайнімі левымі напрамкамі як у Сойме, так і па-за Соймам на розных камуністычных і пракамуністычных мітынгах, і пры кожнай нагодзе вельмі востра атакуе памаёвы ўрад Пілсудзкага, выстаўляючы выразна нерачовыя, зачэпнага характару, радыкальныя дамаганьні пад адрас ураду.

Тарашкевіч у неразлучным кантакце з Ваевудзкім, але мала чаго пераказвае нашаму калектыву. У той час, калі мы выказваем недавер пад адрасам Ваевудзкага, Тарашкевіч застаецца надалей у прыязных зь ім адносінах. Тых самых поглядаў быў і Антон Луцкевіч, пераняўшы прэсу Грамады ў свае рукі і дзейнічаючы па-над нашымі галовамі. Насьпяваў разлом, і на месца Тарашкевіча старшынёю клюбу Грамады намячаўся Пётра Мятла, чалавек высокай этычнасьці і самастойнай палітычнай сьведамасьці. Астроўскі быў разам з намі — бальшынёю, але зь нейкіх, яму толькі ведамых, хіба, прычынаў унікаў крутых паваротаў. Справа аздараўленьня нашага партыйнага і палітычнага жыцьця вымагала надзвычайнага высілку, бо правакацыя і агентура ўжо дзейнічалі ў асяродзьдзі Грамады з найвыразьнейшаю нахабнасьцю. Але дзе ляжала лінія разграніченьня паміж польскаю і бальшавіцкаю правакацыяй — разабрацца было цяжка. Тарашкевіч зануруўся ў вышэйшыя сфэры палітыкі і кантакт з намі — бальшынёю быў фактычна толькі чыста фармальны. Аснаўную працу вёў сакратар Бурсэвіч, які на Салаўках потым разьмяняўся і скончыў сваё жыцьцё зь вельмі забруджаным пашпартам[95].

Агульнае маё палажэньне аказалася вельмі складаным. На тэрыторыі Сойму быў я адзін. Трэба было прыняць на сябе барацьбу зь ведамымі і больш няведамымі перашкодамі. Нэрвовы стан пазбавіў мяне сну, і я засыпаў кароткімі дозамі па некалькі разоў на дзень. Не пакідалі мяне дваіх: В. Рагуля і ўкраінец, назваць якога я і сяньня яшчэ не магу,

[95] Відаць, Ю. Сабалеўскі паводле якіхсьці ўласных здагадак атаесамляў з Бурсевічам асобу нейкага „За-ніча“, які фігуруе ў вельмі нэгатыўным сьвятле, як даносчык і шпег, ва ўспамінах украінскага гісторыка й грамадзкага дзеяча Сямёна Падгайнага „Беларусы на Салаўках“. Гл. Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 127—130.





можа ён яшчэ і жыве ў Саветах[96]. Навокал мяне ўсё кіпела і бурлела, а таму адзін неасьцярожны ход мог быць згубным і для мяне, і для імя Грамады.

Некалькі разоў выступаў я з соймавай трыбуны і на розных камісіях, занятых абсьледам матэрыялаў пракуратуры аб Грамадзе, падсумоўваючы беззаконьні, дакананыя польскім урадам над беларускім жыцьцём.

Сэсія пленуму Сойму зацягвалася, і ў гэтым часе мне не пагражаў арышт на тэрыторыі Сойму. У горад не выходзіў, бо маглі ці то схапіць адны, ці то прыстрэліць другія. Узьняты шум каля Грамады па-рознаму камэнтаваўся прэсаю. Можна было заўважыць некаторае адпружаньне. Орган прэм'ера[97] Бартля (назову ня памятаю) падаў разгляд

[96] Нягледзячы на тое, што Сабалеўскі цягам усіх сваіх успамінаў сьвядома ня згадвае прозьвішча свайго прыяцеля-ўкраінца, па ўскосных зьвестках можна зь вялікай доляй верагоднасьці меркаваць, што ім быў **Андрэй Пашчук** (1891—1937). Нарадзінец Луцкага павету на Валыні, ён каля 1917 г. стаў сябрам Украінскай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, у 1919 г. быў прэсавым рэфэрэнтам ураду Ўкраінскай Народнай Рэспублікі. У пачатку 1920-х гг. вярнуўся на радзіму, займаўся на Валыні каапэратыўнай і асьветніцкай дзейнасьцю, быў старшынём таварыства „Просвіта“ ў Луцку. У 1922 г. абраны паслом Сойму ў Луцкай выбарчай акрузе, спачатку ўваходзіў у адзінае Ўкраінскае парлямэнцкае прадстаўніцтва, зь лютага 1924 г. выйшаў зь яго і далучыўся да навастворанага Ўкраінскага сацыял-дэмакратычнага клюбу (УСДК). У лістападзе 1924 г. разам з трыма іншымі сваімі калегамі з УСДК (Фамой Прыступам, Восіпам Скрыпам і Якавам Вайцюком) далучыўся да Камуністычнай пасольскай фракцыі ў Сойме. У 1928 г. выехаў у СССР, дзе ў 1933 г. быў арыштаваны за дзейнасьць у мітычнай Украінскай вайсковай арганізацыі й асуджаны на 10 гадоў лягераў. Пакараньне адбываў у Карэліі, дзе працаваў аграномам. У верасьні 1937 г. быў паўторна арыштаваны нібыта за вядзеньне ў лягеры контрарэвалюцыйнай агітацыі, 28 верасьня 1937 г. расстраляны. Пра лёс свайго бацькі ўжо пасьля распаду Савецкага Саюзу даведаўся і напісаў ва ўкраінскай эмігранцкай прэсе ягоны сын, таксама Андрэй, які пасьля вайны жыў у Нью-Ёрку. Гл.: Пащук, А. Як я дізнався про долю батька // Свобода. 8 грудня 2006. №49. С. 7.

[97] Казімеж Бартэль у той час, які апісвае Сабалеўскі, афіцыйна займаў пасаду віцэ-прэм'ера, але з улікам таго, што прэм'ерам быў сам Юзэф Пілсудзкі, які канцэнтраваўся пераважна на справах абароны й вонкавай палітыкі, Бартэль фактычна выконваў прэм'ерскія абавязкі. Менавіта з гэтым, відаць, і зьвязаная сталая блытаніна ва ўспамінах Ю. Сабалеўскага, калі Бартэль паперамення называецца то прэм'ерам, то віцэ-прэм'ерам.

аднаго майго выступу з шматлікімі закідамі супроць польскай палітыкі адносна беларусаў, зацытаваў некаторыя выбаркі, з многімі закідамі згадзіўся і выказаў гатоўнасьць вывучэньня гэтага пытаньня ды шуканьня лягічнага выхаду.

Ход прэм'ер-міністра пачалі камэнтаваць па-рознаму. Радыкальная прамарксістоўская групоўка на чале з Ваевудзкім убачыла ў гэтым выступе прэм'ер-міністра ход на разлом у беларускім асяродзьдзі. Я зләжыў інтэрпэляцыю ад надужыцьцях паліцыі пры арыштах грамадоўцаў, але выключыў удзел Ваевудзкага зь ягонаю групаю[98]. Мы сталі на адкрыта варожыя пазыцыі барацьбы. Віленская лібэральная польская прэса заклікала адказныя дзейнікі да асьцярожнасьці пры разглядзе справы Грамады і разграніčэньня грамадаўскае дзейнасьці ад падтасаванай пад грамадаўскі шыльд. Раіла асьцярожнае шуканьне дарог да спаўжыцьця.

Неспадзявана Ваевудзкі зьмяніў тактыку і цераз пасланца запрапанаваў мне спаткацца па „вельмі важнаму пытаньню". Вызначыў нейкі закавулак кулюараў. Пры спатканьні быў паблажліва ветлівым. Хваліў занятую мною пазыцыю і прасіў прыняць ягоную прыяцельскую параду, выцякаючую з пэўнай дагаворанасьці з Тарашкевічам. Казаў, што я павінен выявіць як найбольшую рэвалюцыйнасьць і ўвязаць у акцыю Грамады настроі працоўных мас Варшавы. З вачэй яго было відаць, што для яго было нямілай неспадзеўкай тое, што я на волі і не ўкладаюся ў ягоныя рамкі. Будучы повен захапленьня ў пахвалах Тарашкевіча, ён асьцярожна інфармаваў мяне аб характары дагаворанасьці Тарашкевіча з многімі партыямі і работніцкімі арганізацыямі, як у Польшчы, так і за граніцаю. На мне ж павінен ляжаць абавязак гэтую дагаворанасьць утрымліваць і прадоўжваць. Для гэтага неабходны ўвязкі і ўзгадненьні. Пачаў разьвіваць тэорыю надыходзячых вялікіх палітычных падзеяў і ўпэўненьне, што беларускае пытаньне ўжо стаіць на шляху рэалізаваньня ад Смаленску і па Берасьць. Зразумела, што ўсё гэта я прыняў за стопрацэнтовы фальш і правакацыю, але выразна сказаць яму аб гэтым ня мог.

Мая прынцыповая рэпліка была ў тым, што дагаворанасьць Тарашкевіча мяне не абавязвае, бо на гэты крок Тарашкевіча ніхто не ўпаўнаважніваў. Кожная дагаворанасьць Грамады можа адбывацца толькі са згоды ўсяго складу Прэзыдыюму Сакратарыяту. Акром таго, дагаворанасьць Тарашкевіча як для мяне, так і для ўсіх нас — навіна, а калі ж гэта, аднак, факт, то магу выказаць толькі жаль. Твар Ваевудзкага выявіў злосную нэрвовасьць, і мы вельмі холадна разьвіталіся.

Наступна пачалі да мяне прыяжджаць і прыходзіць асобы, пераважна палякі, якіх я ніколі перад гэтым ня бачыў. Нямала было і беларусаў, і жыдоў, але зь вельмі невыразнымі даручэньнямі. Заклікалі ў горад пераважна на мітынгі, на якіх трэба было выклікаць рад вострых эксцэсаў. Мяне гэта не пераконвала, і я ў бальшыні выпадкаў прымаў такія прапановы за правакацыю ззакулісовых камбінацый, аб якіх наведвальнікі мяне маглі і ня ведаць.

У хуткім часе нарастаць пачала з боку клікі Ваевудзкага да мяне адкрытая варожасьць. Распачалася кампанія на палітычнае зьнішчэньне і натраўліваньне на мяне моладзі. Іх дэлегацыя зь Вільні і Варшавы выставіла мне катэгарычнае дамаганьне пераводу Грамады ў падпольле і ўвязкі там з камуністамі, якія дадуць падтрымку. Паводле гэтага пляну я зь некалькімі сябрамі Грамады павінен быў бы перайсьці на нелегальнае становішча ці то ў Польшчы, ці то за граніцаю, і прыслухоўвацца да кіраўнічых радаў Ваевудзкага.

Атрымаў я весткі зь Вільні, што сярод застаўшыхся на волі працаўнікоў Галоўнага Сакратарыяту Грамады вядуцца спрэчкі над далейшым паступаньнем. „Прыхільнікаў" на пераход у падпольле — мала, большасьць трымаецца погляду, што трэба ўстрымацца зь дзейнасьцю, не выклікаць эксцэсаў, падаваць у прэсе толькі агульны інфармацыйны матэрыял і чакаць далейшага разьвіцьця выпадкаў. Характэрна, што на тактыку завострываньня адносін з польскім урадам і пераход у падпольле пайшла без вынятку моладзь — пераважна студэнты, якія

[98] 25 студзеня Юры Сабалеўскі падаў сьпешную прапанову Сойму ў справе неадкладнага вызваленьня з астрогу незаконна арыштаваных паслоў. Акрамя таго, у той жа самы дзень ён разам з пасламі іншых левых фракцыяў ад імя пасольскага клюбу БСРГ падаў яшчэ дзьве сьпешныя прапановы — у справе выказваньня недаверу маршалку Сойму і ўраду на чале зь Юзэфам Пілсудзкім (Прапазыцыі ў Сойме // Сялянская ніва. 1927. 2 лютага. №11. С. 2). Пры гэтым варта ўлічваць, што, згодна з патрабаваньнямі арт. 19 соймавага рэглямэнту, Сабалеўскі ня мог падаць аніводнай з гэтых прапановаў самастойна — для гэтага яму патрабавалася сабраць пад яе тэкстам подпісы ня менш як 15-ці паслоў, а дзеля таго, каб яму пасьля далі магчымасьць абгрунтаваць з соймавай трыбуны неабходнасьць тэрміновасьці яе разгляду — заручыцца падтрыманьнем ажно 45-ці паслоў. Пры тагачаснай расстаноўцы сілаў у Сойме Сабалеўскаму было б вельмі праблематычна выканаць гэтыя патрабаваньні без актыўнай згоды з боку пасольскага клюбу Незалежнай сялянскай партыі на чале з С. Ваевудзкім, таму да словаў пра *„выключэньне ўдзелу Ваевудзкага зь ягонаю групаю"* трэба ставіцца вельмі крытычна.

потым апынуліся часткова ў паланафільскім асяродзьдзі, а часткова — у радох камуністых. Супрацьлеглае становішча занялі старэйшыя інтэлігенты і людзі зь вёсак. Адныя і другія жадалі ад мяне адпаведных загадаў. Адныя і другія пры гэтым выказвалі ўзаемна яўны недавер і ўнікалі паміж сабой спатканьняў.

Аднаго разу, вярнуўшыся на сваё памешканьне ў соймавым гатэлі, я застаў там двух сяброў Грамады, Макоўскага[99] і (здаецца) Бабровіча[100] ці Мэнке[101] (зьбеларушчаны немец). На вачох іх была злосьць. Суха і вяла прывітаўшыся, паведамілі мяне, што новапаўсталае ЦК Грамады[102] пастанавіла перавесьці Грамаду ў падполле і для гэтае мэты пры-

[99] **Вячаслаў Макоўскі** (?—1929), заходнебеларускі дзеяч, намесьнік саквратара ЦК БСРГ, сябра КПЗБ. У 1928 г. арыштаваны польскімі ўладамі, год прасядзеў у турме, вызвалены пад заклад праз стан здароўя, памёр ад сухотаў праз 12 дзён пасьля вызваленьня. Яго пахаваньне ў Вільні 8 сакавіка 1929 г. ператварылася ў камуністычную дэманстрацыю.

[100] **Ян Бабровіч** (1902—1943), дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст. У 1922—1925 гг. вучыўся ў Праскім унівэрсытэце, дзе далучыўся да камуністычнага руху. З 1925 г. — сябра Кампартыі Чэхаславаччыны, з 1926 г. — сябра КПЗБ. Пасьля вяртаньня ў Заходнюю Беларусь быў прадстаўніком КПЗБ пры ЦК БСРГ і палітычным рэдактарам грамадоўскіх газэтаў. У 1928 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі й асуджаны на 15 гадоў турмы, у верасьні 1932 г. у выніку абмену палітвязьнямі перададзены польскімі ўладамі ў СССР. Рэпрэсаваны, памёр у зьняволеньні.

[101] **Лявон Мэнке** (1905—1943), заходнебеларускі радыкальны дзеяч, паходзіў зь вядомай нямецкай віленскай сям'і, прадстаўнікі якой бралі непасрэдны ўдзел у беларускім руху. Ягонымі роднымі сёстрамі былі Юльяна Вітан-Дубейкаўская (нявеста Івана Луцкевіча і жонка Лявона Вітан-Дубейкаўскага) і Ляля Мэнке. Скончыўшы Віленскую беларускую гімназію, вучыўся ва ўнівэрсытэце ў Празе. У 1926 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, далучыўшыся да дзейнасьці КПЗБ. Быў адным з камуністычных куратараў Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клюбу „Змаганьне". Пасьля выехаў у СССР, адкуль, паводле ўспамінаў сястры Юльяны, *„вяртаецца разам з жонкай у трагічных абставінах праз Фінляндыю ў 1935 г... запісваецца йзноў студэнтам на Віленскі ўнівэрсытэт і жыве ў Вільні"*. Падчас Другой сусьветнай вайны разам з сваякамі выехаў у Бэрлін, дзе трагічна загінуў.

[102] Новы Цэнтральны камітэт БСРГ, у які ўвайшлі, акрамя Юр'я Сабалеўскага, Сьцяпан Астапчык, Лявон Мэнке, Вінцэнт Грышкевіч і Вячаслаў Макоўскі, быў створаны, паводле інфармацыі польскіх спэцслужбаў, на месяц пазьней за той час, пра які распавядае Сабалеўскі — 5 сакавіка 1927 г. Аднак нейкай актыўнай дзейнасьці ён разгарнуць не пасьпеў, бо 21 сакавіка 1927 г. польскія ўлады афіцыйна дэлегалізавалі Грамаду.





гатавала друкам „маніфэст" за маім подпісам. Я катэгарычна запратэставаў і папярэдзіў, што калі гэтая пастанова будзе зрэалізавана, а „маніфэст" абвешчаны, то я неадкладна падам запярэчаньне і назаву іх паступак правакацыяй.

Пачалася вельмі вострая гутарка, пры якой захоўваньне іх карэктным назваць нельга было. Можна было зразумець, што яны да маёй пазыцыі былі прыгатаваны, але разьлічвалі на магчымасьць стэрарызаваць мяне. Выясьнілася ў гутарцы зь імі, што ад мяне сьведама ўкрывалі дагаворанасьць Тарашкевіча з Ваевудзкім, у выніку якой пры ЦК Грамады была арганізавана „чырвоная фракцыя Грамады", якая павінна была паступова пераключыць нацыяналістычныя настаўленьні на марксістоўскія. У доказ праўдзівасьці гэтага яны былі гатовы даставіць мне пісьмы ад Тарашкевіча з турмы. Паводле іх запэўненьня, кантакт з Тарашкевічам наладжаны празь „верных" стражнікаў, і абмен карэспандэнцыяй адбываецца бесьперабойна. Напрамак прэсы, гаварылі яны, надаваўся прэсаваю камісіяй „чырвонай сэкцыі" ў плянавым і ўзгодненым парадку.

Мае нэгатыўныя адносіны да Ваевудзкага і ягонай дзейнасьці яны расцэньваюць як злачын і палітычную нясьведамасьць, за што я павінен буду адказваць, і літасьці да мяне ня будзе. Многа часу яшчэ імі было казана пад маім адрасам, многа чаго я даведаўся аб укрываных ад мяне закулісах агентуры, закіненай у Грамаду.

У рэпліках я быў карэктным, але ніякае згоды ім ня даў. Наступіў яўны падзел на „Мы" і „Вы". Да некаторых уцягненых у гэтую авантуру я меў глыбокі жаль; некаторыя не здавалі сабе справаздачы аб наступствах іх паступаньня. Ігра была тонка прадумана і згубнаю для многіх, што і сталася. З гэтай спрэчкі, між іншым, выясьнілася, што для спаўпрацы па выдаваньню гумарыстычнага журналу „Маланка"[103] сьведама быў запрошаны карыкатурыст-паляк, працаўнік польскай вайсковай разьведкі, як сіла, якая *„памагала ламаць праявы шавіністычнага нацыяналізму"*.

Разышліся мы, не разьвітаўшыся. Гэтыя візыты цяжкім прыгнечаньнем лажыліся на маю душу. Нэрвовы стан даходзіў да астатніх межаў, і самаапанаваньне часамі мяне пакідала. Час ад часу атакоўвалі мяне карэспандэнты, іх стаўка была найчасьцей на павярхоўную сэнса-

[103] **„Маланка"** — беларуская гумарыстычна-сатырычная газэта, орган БСРГ. Выдавалася ў Вільні ў 1926—1928 гг. Шмат якія нумары былі канфіскаваныя.

цыйнасьць, больш паважней распытваў мяне карэспандэнт жыдоўскай газэты Зынгер[104], выдаванай у польскай мове[105], які падаў у кароткім зарысе статут Грамады і мае выясьненьні аб антымарксістоўскім настаўленьні Грамады. Прадстаўніка савецкага „ТАСС“[106] Брацiна[107] я не прыняў. Мне была ведама ягоная праўдзiвая функцыя, нічога супольнага ня маючая з афіцыйным становішчам. Таму ён мне прадстаўляўся больш небясьпечным, як Ваевудзкі.

У хуткім часе прыбыла зь Вільні дэлегацыя і сказала, што „чырвоная сэкцыя“ выдзеліла свой ЦК, уняважніла статут Грамады і будзе дзейнічаць у падпольлі пад назвай „Работніцка-Сялянская Грамада Заходняй Беларусі“, і прыгатаўляе супраць мяне адозву. Сытуацыя для мяне значна ўскладнялася. Зь меркаваньняў рознага характару я ня мог уваходзіць у палеміку і адкрытую спрэчку, хоць увесь час авантура Ваевудзкага мяне на гэты шлях сьпіхала. Вымагалася з майго боку палітычная акрэсьленасьць, і я далучыўся да Беларускага Нацыянальнага Пасольскага Клюбу, падаючы аб гэтым камунікат у прэсе безь ніякіх паясьненьняў[108]. Адна з польскіх газэтаў прысьвяціла хранікёрскую зацемку, называючы мяне „остатнім могіканінэм“[109].

У далейшым сваім паступаньні прыйшлося вельмі ўважліва сачыць за кожным сваім словам і кантраляваць свае хады. З чым я магу спаткацца ў наступную хвіліну — прадбачыць было цяжка. Ідучы ў той час па вобмацку, Тарашкевіч прадстаўляўся мне вельмі непаважным і чалавекам, і палітыкам, хоць усім нам здавалася зусім іншае за ягоным прафэсарскім запраўдным тытулам. Увязаўся ў відавочную авантуру, і то ў спосаб скрыты ад сваіх сяброў. Калі падабаліся яму сьцежкі да марксізму, мог ісьці адкрыта сам з сваімі спадарожнікамі. Зусім не адпавядала пры ягоным становішчы гуляць у хованкі і зацярушваць свае сьляды.

Ваевудзскі — страшылішча і правакатар вялікага калібру. Не разумею таксама Антона Луцкевіча, чым ён паслугоўваўся, ангажуючыся праз Ваевудзкага ў Бабровічаўскі марксізм, калі ў ягоным зьмесьці быў завостраны беларускі нацыяналізм? Для мяне было ясна, што гэтыя супярэчнасьці ў зьмесьце людзей будуць выцягвацца на паверхню

[104] **Бэрнард Зынгер** (*Singer*, 1893—1966), габрэйскі журналіст, публіцыст і палітык, адзін з заснавальнікаў фалькісцкага (народніцкага) кірунку габрэйскага руху ў Польшчы. Публікаваўся ў розных выданьнях на польскай мове, на ідыш і на іўрыце. З 1925 г. быў сталым фэльетаністам і парлямэнцкім карэспандэнтам польскамоўнай габрэйскай газэты *Nasz Przegląd*. Найбольш цікавыя парлямэнцкія фэльетоны былі перавыдадзеныя ім у 1962 г. у эміграцыі пад назвай *Od Witosa do Sławka* („Ад Вітаса да Славэка“).

[105] Маецца на ўвазе ***Nasz Przegląd*** („Наш агляд“) — польскамоўная габрэйская газэта, якая выдавалася ў Варшаве ў 1923—1938 гг. і мела прасіянісцкую ідэалягічную арыентацыю.

[106] **ТАСС** — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюзу.

[107] **Брацін**, карэспандэнт ТАСС і маскоўскай газэты „Известия“. Паводле паказаньняў Аляксандра Ўльянава, дадзеных ім НКВД, менавіта на кватэры Брацiна адбываліся ягоныя сустрэчы з Сыльвэстрам Ваевудзкім.

[108] Такі камунікат Сабалеўскі сапраўды выдаў, але адбылося гэта толькі празь некалькі месяцаў, 19 верасьня 1927 г., ужо пасьля ягонага вяртаньня зь Нямеччыны ў Польшчу (гл.: Перамога нацыянальнага фронта // Сялянская ніва. 1927. 21 верасьня. №68. С. 1). Пры гэтым публічнае тлумачэньне сваіх дзеяньняў Сабалеўскі, нягледзячы на ягонае адмаўленьне гэтага ў успамінах, насамрэч таксама тады даў у форме адмысловай дэкларацыі, прытым была яна даволі разгорнутая:
*„1. Далейшая акцыя Грамады наагул, а асобна і мая ў ёй будзе прычынай укіданьня ў польскія вастрогі лепшых беларускіх сіл. Я, будучы сынам*⇨ ⇨ *Беларускага Народу і з цэлай душы жадаючы палягчыць цяжкай яго долі, жадаю лепш сам цярпець у вастрозе, чымся прычыняцца да запаўняньня вастрогаў беларускімі сялянамі, і праз гэта да зьніштажэньня сем'яў, што асталіся на волі.*
*2. Беларуская Грамада вяла сваю працу пераважна ў кірунку ўсьведамляньня беларускіх гушчаў з палітычнага пункту гледжаньня, затое вельмі мала зварочвала ўвагі на рэчы важнейшыя для беларускай вёскі — на нацыянальнае ўсьведамляньне, на культурна-асьветную працу і на паляпшаньне гаспадарчага палажэньня Беларускага Народу.*
*3. Дасьледы мае на ніве арганізацыі вясковых гаспадарак, чэрпаныя з крытэрыяў культуры Захаду, а набытыя 20-летняй маей працай сярод Немцаў, Літвіноў, Латышоў — вучаць мяне, што шмат недамаганьняў у агульным жыцьці Беларускага Народу можна адсунуць праз прытарнаваных* [так у арыгінале. — ***А. П.***] *вышэйшай культуры ў гаспадарчым жыцьці гэтага Народу. Для зьдзейсьненьня затым гэтае мэты і намерваюся прысьвяціць далейшую сваю працу. Але дзеля таго, што гаспадарчае жыцьцё ёсьць рэзультатам усіх формаў палітычнага жыцьця народу, буду імкнуцца да ўспомненай мэты праз кансалідацыю гэтых беларускіх сіл дэмакратычных, якія шчыра працуюць над поўным вызваленьнем Беларускага Народу, як з пункту гледжаньня гаспадарчага, культуральнага, так і палітычнага“* (Дэклярацыя пасла Юрага Сабалеўскага // Сялянская ніва. 1927. 28 верасьня. №70. С. 1).

[109] „Апошні з магіканаў“ (польск.).

сьледзтва — для працэсу над Грамадою, і разьменьваць і людзей, і нашую церазь іх вызвольную ідэю. Бараніць паводзіны Тарашкевіча я ня мог з тактычнага становішча, думаючы, што многае пракуратуры вядома. Губляўся ў дагадках адносна свайго лёсу і ня мог што-небудзь пляніваць наперад. Адно абраў за прынцып: на сьледзтве і ў судзе цьвердзіць, *„што нічога ня знаю, нічога ня памятаю і нічога ня ведаю“*. Хай сьледзтва і суд робяць што хочуць, але зь мяне нічога ніхто ня выцягне больш таго, што ведама сьледзтву зь іншых крыніцаў. Мабілізаваў усе свае духовыя сілы стаяць на гэтым цьвёрда і не зыходзіць з абранага напрамку...

Прыяцель-украінец, утаямнічаны ў закулісы барацьбы, перадае, што Ваевудзкі абгаварывае ў сваім блізкім коле магчымую патрэбу майго фізычнага зьнішчэньня, але так, каб адказнасьць ускінуць на польскую паліцыю... Сытуацыя значна ўскладняецца, а рэалізацыя гэтага пляну зусім магчымая, і на гэта я маю пэўныя ілюстрацыі.

На адным з чарговых паседжаньняў пленуму Сойму выступае з дэклярацыйнаю прамоваю віцэ-прэм'ер Бартэль. Ваевудзкі зь месца яго перабівае рэплікамі і неэтычна атакуе. Віцэ-прэм'ер пры заканчэньні свае прамовы ў вельмі спакойнай, вытрыманай і паважнай форме адказвае Ваевудзкаму, што яму, Ваевудзкаму, як сакрэтнаму агенту польскага ўраду, належыць захоўвацца перад віцэ-прэм'ерам больш карэктна і пры гэтым дэмаскуе публічна Ваевудзкага, як правакатара.

Скандал! Ваевудзкі зьбянтэжаны. Саля не спушчае зь яго вачэй. Ваевудзкі ўзрываецца, нешта нэрвова выкрыквае і накіроўваецца да выхаду, а за ім ягоныя паплечнікі. Бартэль іранічна ўзіраецца на гэтую працэсію і зыходзіць з трыбуны. На наступны дзень урадавая газэта „Газэта Польска“[110] зьмяшчае абшырны артыкул супроць Сойму (здаецца, гэта быў артыкул Пілсудзкага з салдацкімі непрызваітымі лаянкамі) і дэмаскуе Ваевудзкага, як урадавага агента-правакатара. Выступленьне з дэмаскаваньнем Ваевудзкага падхапілі і іншыя газэты, а „Глос Правды“ з 28.1.1927 г. падаў з камэнтарыямі рэвэляцыйна-сэнсацыйнага зьместу.

Глыбокаю раніцаю, калі я быў яшчэ ў ложку, убягае да мяне ў пакой Ваевудзкі з кампаніяй сваіх паплечнікаў і жадаюць ад мяне пазачарговага выступленьня з пратэстам супраць прамовы прэм'ер-міністра і сьцверджаньня палітычнай добранадзейнасьці Ваевудзкага. Я катэгарычна адмаўляю ў гэтай просьбе. Крыху пазьней пасьля гэтага выступаю па беларускіх пытаньнях, а аб Ваевудзкім выказваю некалькі слоў без намеру бараніць яго перад абвінавачваньнямі прэм'ер-міністра. Пры спатканьні на перарыве прапанаваў ягоным паплечнікам апэляваць у Маршалкоўскі Суд, а пасьля разгляду справы выдаць афіцыйны камунікат. Я быў перакананы, што віцэ-прэм'ер-міністар ліквідаваў Ваевудзкага сьведама па выкананьні ім даручанай ролі. Звычайны спосаб адносін усюды да выкарыстанага кожнага правакатара.

Паступіла ад пракуратуры жаданьне выдачы мяне суду. Маршалак не пераказаў яго пленуму, з чаго можна было спадзявацца, што заарыштуюць мяне пасьля сэсіі і паставяць, такім чынам, Сойм перад дакананым фактам, калі ён будзе на фэрыях[111]. Гэта — найпрасьцейшая дарога і без разгалосу[112]. Арышт паслоў Грамады і іншых пленум пры-

[110] Тут Ю. Сабалеўскі штосьці блытае, паколькі штодзённае выданьне *Gazeta Polska* стала выходзіць у Варшаве толькі ў 1929 г.

[111] *„Фэрыі“* (польск. *ferie*) — парлямэнцкія вакацыі.

[112] Справядлівасьць гэтых прыпушчэньняў Сабалеўскага выклікае сумнеў з той прычыны, што, арыштаваўшы ў студзені 1927 г. паслоў Грамады без папярэдняй згоды на гэта Сойму, польскія ўлады перайшлі пэўны сымбалічны Рубікон, груба парушыўшы арт. 21 польскай Канстытуцыі, які адназначна вызначаў, што *„ўвесь час дзеяньня мандату паслы ня могуць быць прыцягнутыя да крымінальнай, адміністрацыйнай і дысцыплінарнай адказнасьці ці пазбаўленыя волі бяз згоды на гэта Сойму“*. Выключэньне з правіла мусілі складаць толькі тыя выпадкі, калі пасол затрымліваўся непасрэдна пры зьдзяйсьненні ім крымінальнага злачынства. У выпадку з арыштам грамадоўскіх паслоў ніякіх пераканаўчых доказаў таго, што іх схапілі на месцы злачынства, выканаўчыя ўлады ў Сойм не падалі, але нягледзячы на гэта, парлямэнт пераважнай большасьцю галасоў легітымізаваў іхныя дзеяньні й выдаў арыштаваных паслоў суду. Гэта сьведчыць пра тое, што большасьць соймавых паслоў успрымала парушэньне патрабаваньняў Канстытуцыі за меншае зло, чым далейшы працяг на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнасьці БСРГ, і дзеля таго была гатовая пайсьці нават на стварэньне небясьпечнага прэцэдэнту, які пасьля мог адгукнуцца й на іхных уласных лёсах. Пры такіх настроях соймавай большасьці малаімаверна, што далучэньне да сьпісу арыштаваных паслоў, якіх меркавалася выдаць суду, яшчэ й прозьвішча не арыштаванага Юр'я Сабалеўскага, выклікала б нейкія асабліва моцныя пратэсты, паколькі якраз у гэтым выпадку ўсё адбывалася б у поўнай адпаведнасьці зь літарай закону. Нельга сярод іншага забывацца й на тое, што становішча Сабалеўскага ўскладнялася існаваньнем незакрытай крымінальнай справы супраць яго, разгляд якой быў толькі часова прыпынілі на патрабаваньне Сойму да заканчэньня тэрміну дзеяньня пасольскага мандату, пры гэтым агаворвалася, што ⇨

няў да ведама без дыскусіяў, і канчатковае афармленьне выдачы адбудзецца па справаздачы Камісіі пасольскай недатыкальнасьці. Не падлягала сумліву, што камісія пацьвердзіць ордэр пракурора аб канечнасьці арышту затрыманых на „месцы праступства“.

Астатні дзень сэсіі пленуму перад агалошаным перарывам; было гэта, здаецца, 10 лютага 1927 г.[113] Спатыкаюся з прадстаўніком нямецкае прэсавае агенцыі. Відаць, што цікавіцца больш, як гэта патрэбна для звычайнай інфармацыі. Аб закулісовых змаганьнях унутры Грамады я не прагаварыўся аніводным словам. Падкрэсьліваў поўную салідарнасьць і згоду паміж намі. Парабіў ён выбаркі са статуту Грамады і прасіў аб перасылцы прэсы за апошні час.

Пасольскі Клюб на чале з Рагуляю арганізавалі пры дапамозе нямецкага соймавага клюбу[114] мой уцёк праз Катавіцы. Мая кватэра ў

⇨*„калі абвінавачваньні, выстаўленыя яму сьледчымі органамі, што займаўся антыдзяржаўнай дзейнасьцю, акажуцца слушнымі, то пракурорскія ўлады заўсёды маюць магчымасьць ужо пасьля складаньня ім пасольскай прысягі выступіць з прапановай да Сойму, які зможа гэтую справу згодна з працэдурай вырашыць“* (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 265 posiedzenia z dnia 30 grudnia 1925 r. Ł. CCLXV/8). Што тычыцца „разгалосу“, то няма ніякага сумневу, што ў выпадку чарговага арышту паліцыяй „недатыкальнага“ пасла бяз санкцыі на гэта Сойму ён быў бы куды большы, чым калі б гэтага пасла выдаў Сойм у строгай адпаведнасьці з прапісанай у законе працэдурай. Усё гэта дае падставы сумнявацца, што прычынай захаваньня Сабалеўскім асабістай свабоды ў пачатку 1927 г. сталі выключна ягоныя спрыт і вынаходлівасьць. Хутчэй за ўсё, самі ўлады зь нейкіх пакуль нам невядомых прычынаў папросту не былі ў той час надта зацікаўленыя ў арышце пасла Сабалеўскага, адпаведна й не прыкладалі дзеля гэтага асаблівых намаганьняў.

[113] Насамрэч перапынак у паседжаньнях Сойму быў абвешчаны не 10, а 14 лютага 1927 г. Аднак ня выключана, што выезд Ю. Сабалеўскага з Варшавы адбыўся яшчэ раней, паколькі ў прыкладзеных да стэнаграфічнай справаздачы з соймавага паседжаньня (на якім прымалася канчатковае рашэньне аб выдачы грамадоўскіх паслоў суду) ад 4 лютага 1927 г. выніках паіменнага галасаваньня ягонае прозьвішча адсутнічае як сярод тых, хто галасаваў „супраць“, гэтак і „за“ (Sejm Rzeczypospolitej Polskiej. Okres I. Sprawozdanie stenograficzne z 317 posiedzenia z dnia 4 lutego 1927 r. Ł. CCCXVII/107—118). Наўрад ці Сабалеўскі мог прапусьціць такое важнае паседжаньне, калі б знаходзіўся ў гэты час у Варшаве.

[114] Маецца на ўвазе **Аб'яднаньне нямецкіх паслоў** — нацыянальная нямецкая фракцыя ў польскім парлямэнце 1922—1927 гг., якая складалася з⇨





Сойме абстаўлена шпікамі. Служыцель перадаў мне па сакрэту, што са згоды маршалка Сойму пераказаны нутраной паліцыі дублікаты ключоў ад нашага памешканьня і клюбовай канцылярыі. Спраўджваю архіў і перапіску Тарашкевіча. Напатыкаюся на перапіску Тарашкевіча з правакатарам Кузьмою[115]. Раней Кузьма працаваў з даручэньня ОГПУ Менск, потым перайшоў на службу польскай паліцыі на стаўпецкім паграніччу і не адзін дзясятак людзей загнаў ён у польскі астрог. Думаю, што такія самыя яго паводзіны былі і па боку Саветаў, але там заўсёды — усе канцы як у ваду. Нішчу архівы, карэспандэнцыю, і мая роля дабягае тут да канца. Трэба ўцякаць, каб не папасьціся ў рукі паліцыі... але што далей? на гэтым жа яшчэ не канец!

Змыліць трэба ў першую чаргу чуйнасьць не спушчаючай зь мяне вачэй прыстаўленай сакрэтнай, у цывільнай вопратцы паліцыі, і пусьціць яе на фальшывы сьлед. Звычайна, каб уцякаць з Польшчы на Захад, дарога ляжыць праз Данцыг. Спадзявацца трэба, што там усё ўжо пастаўлена на варту. Мой самаход пастаўлены на панадворку разам з самаходамі міністраў. Сябры вынесьлі перш мае нялічныя рэчы ў кулюары, і то зусім непрыкметна, потым перакінулі ў самаход вопратку. Я без капелюша і паліто праходжуся па панадворку, хоць і было марозна. У маім пакоі штучны рух: то ўваходзяць, то выходзяць з чамаданчыкамі. Каля дзясятае ўвечары пачынаецца разьезд. Я ўжо ў сваёй машыне. Шофэр укліньваецца ў чаргу ўрадавых машын, і мы за брамаю, а далей — на вакзал. Я на пэроне і заходжу ў пасольскі вагон на Вільню, рэчы ж мае — у цягніку на Катавіцы, што адыходзіць на 40 хвілін пазьней. Пераглянуліся ўмоўна, і я саскочыў на другі бок цягніка, абышоў перад паравозам і ў паўценю стаў у праходзе паміж вагонамі цягніка на Катавіцы. Наш віленскі вагон відаць мне быў ясна. Нахлынула безьліч паліцыі аглядаць цягнік. У штацкай вопратцы шпікі не-

⇨ 17 соймавых паслоў і 4 сэнатараў. Выбарчую кампанію ў парлямэнт у 1922 г. нямецкія й беларускія палітыкі праводзілі ў складзе адзінага Блёку нацыянальных меншасьцяў Польскай Рэспублікі, і ўжо тады завязалі паміж сабой пэўныя сувязі, якія зь цягам часу, як выглядае, былі ўзмоцненыя й скарыстаныя ў гэтым канкрэтным выпадку.

[115] **Кузьма** ў сярэдзіне 1920-х гг. вёў на Наваградчыне падпольную камуністычную дзейнасьць і адначасова супрацоўнічаў з польскаю палітычнаю паліцыяй. Мясцовыя камуністычныя актывісты выкрылі Кузьму як правакатара ды забілі. Паводле падазрэньня ў забойстве арыштавалі сябраў КПЗБ Уладзімера Царука, Паўла Жалезьняковіча і Сымона Носа, якіх польскі суд асудзіў на пажыцьцёвае зьняволеньне.

калькі разоў праходзілі пасольскі вагон. Віленскі цягнік адышоў, і стала на пэроне пуста. Першы этап небясьпекі на гэты раз мінуў памысна. Сорак хвілін чаканьня адыходу цягніка на Катавіцы паказаліся мне вечнасьцю. Нарэшце цягнік рушыў. Плачу праваднiку за апеку і зьбіраюся, нібыта, спаць, хоць кожны скрып дзьвярэй на калідоры напамінае аб магчымасьці выкрыцьця.

### На граніцы

На месцы прызначэньня. Мова пераважна нямецкая, хоць афіцыйна тут Польшча. Нямецкай мовы я ня ведаю, і з гэтага мне трохі клапатліва. Іду на ўмоўлены адрас. Апранены я ў чорнае, а гэта ня ў тоне колеру публікі на вуліцы, дзе пераважае сьветлы колер. Прымаюць ветліва. Адпачываю — але патрэбны сон мяне пакінуў, і я як разьбіты. Арганізоўваецца пераправа цераз граніцу на нямецкі бок. Усё робіцца безь мяне. Наведваюць мяне з пасольскіх клюбаў і беларусы, і немцы. Празь іх даведваюся, што наказ быў паліцыі арыштаваць мяне пры цягніку. З паліцыяй быў разам і віцэ-пракурор для афармленьня арышту на месцы, як пры праступстве, дакананым на месцы — „горонцым учынку“[116].

Аднаго разу раніцою наведвае мяне кампанія і знаёмых, і незнаёмых немцаў, а спасярод іх доктар — жанчына-немка. Паказалі мне пашпарт аднаго з прысутных, вельмі да мяне падобнага. Наказалі пераапрануцца ў яго футра з кенгуравым каўняром, а свае рэчы пакінуць у гатэлі. Я „хворы“, і не павінен нічога гаварыць пры пастаронніх людзях. Павязуць мяне ў гэтай кампаніі, апрача двайніка, на нямецкі бок. Пры аглядзе самаходу польскай паліцыяй павінен стагнаць і ня надта падымаць галаву. На дварэ прыемна суха і марозна.

Машына нэрвова пабурчвае і чакае на пасажыраў. Садзімося. Наведвальнікі сьмяюцца з маскараду. Доктар-немка садзіцца на сярэдзіне, а я схілены ў яе бок. Траіх тоўстых немцаў закліньваюць самаход. На вуліцах малы ранішні рух. Горад ажывае, і ад непрывычнага прымаразку рухі людзей прысьпешаныя. Машына ідзе ўпэўненым ходам проста на стракатую перагародку папярод шырокае вуліцы няведамага мне гораду. Трохі далей відаць другая — гэта ўжо па нямецкім баку. Мы спушчаемся з узгорка, і відаць пэрспэктыва вуліцы далейшай часткі гораду. Немка-доктар цяжкаю да зразуменьня польскаю моваю паясьняе на вуха гэтую павэрсальскую геаграфію[117]. Настрой у мяне пры набліжэньні да загарадзі нарастае ў нэрвовасьці, але сьмелы і ўпэўнены стан спадарожнікаў дае падставы прадбачыць памысны зварот. Вось мы і пры самай рагатцы. Машына элястычна застопарыла. Траіх рослых польскіх паліцыянтаў на варце без наглядаемай зброі. Адсалютавалі і падышлі дваіх пад самаход. Адзін спраўджваў дакумэнты шофэра, другі падышоў пад адчыненае вакенца самаходу. Паказалі пашпарты на права пераезду граніцы. Фармальны ківок галавы, што ўсё ў парадку. Відаць, што спатыкаюцца людзі, ад даўна знаёмыя, і ўлажылася споўжыцьцё па-над наказамі павэрсальскае ўлады. Доктар усоўвае мне ў кішэню „мой пашпарт“. Яшчэ некалькі перакінута з паліцыянтам абменных жартаўлівых слоў па-нямецку. Адчуваецца запрыязьненасьць, а можа і дагаворанасьць у адбываемай праформе афіцыйнасьці. Разьвітальны салют паліцыянта. Адказ нашых пасажыраў. Паварот паліцыянта ў бок вартаўніка пры прапускной браме, узьняўшага ўжо ўгару руку на ланцуг ад „шлянбаўм“ — а пры нямецкай рагатцы ў цывільным прынёс у рэстаран нейкія паперы і даручыў свайму начальніку. Бачу, што на дакумэнце мая фатаграфія — значыць, пашпарт на ўлегалізаваны прыезд і побыт у Нямеччыне. Пры тостах мне яго даручаюць. Тлумачаць зьмест: права пражываньня на ўсёй тэрыторыі Нямеччыны і вольны выбар заняткаў безь ніякіх агранічэньняў, як чужынцу. Распрашчаліся. Па нямецкаму звычаю я, як госьць, ад удзелу ў выдатках па рэстарану звальняюся, і рахунак дзеліцца на ўдзельнікаў. Бачыў, што плаціў і начальнік установы.

Разышліся — і я ў гатэлі. Грошы на першую пару маю, але сьведамасьць сьвідруе думка — што далей? На гэтым жа не канец, а толькі чарговы этап. Апякуючыйся мною немец дае ў кантору па польскаму боку, дзе пакінены мае рэчы, і цераз кароткі час яны ўжо пры мне ў пакоі. Выдаткі мае па ўсіх справах пераезду — самыя мінімальныя. Па сутнасьці аказваецца, што я ўзапраўды вельмі хворы і нэрвовы. Стан моцна надвярэджаны і вымагае супакою і адпачынку.

Не магу зарыентавацца, ці гэткае падарожжа цераз паліцэйскія рагаткі надзвычайная ўдача, ці гэта вельмі простая па зьместу рэч? Думаў і думаю, што гэта надзвычайная ўдача.

Жыву некалькі дзён на новым паселішчы, і зьмест пэрспэктывы ўпіраецца ў сьцяну: трэба быць прыгатаваным на яшчэ большыя пера-

[116] *„Горонцы ўчынак“* (польск. *„gorący uczynek“*) — „гарачы ўчынак“.

[117] Відаць, Сабалеўскі праяжджаў праз памежны пераход у горадзе Забжэ (*Zabrze*) (па-нямецку *Hindenburg O.S.*), які ў міжваенны час быў падзелены паміж Польшчай і Нямеччынай.

жываньні і адказнасьці за тыя справы, якія ўзваліліся на мяне ў сувязі з арыштам маіх сяброў. Западаць пачынае трывога, ці давяду да належнага і вымаганага палітычным прэстыжам адпаведнага канца?

Надышоў кантакт цераз Пасольскі Клюб зь Вільняю. Пераказваю на гэты раз адкрыты і канкрэтны загад для Грамады, каб кожны, у чаканьні прысуду, застыў на сваім пасту і чакаў далейшых наказаў. Аб пераходзе ў падпольле раджу катэгарычна паўстрымацца, ды высьцерагацца радаў і падшэптаў. Што з таго атрымалася — сказаць не магу. Пазьней даведаўся, што было арганізавана пры ЦК і распачалася нутраная закрытая барацьба. Студэнты ў перавазе, і то вельмі значнай, пайшлі налева па марксістоўскаму напрамку, але не было ў іх цывільнае адвагі аб гэтым гаварыць адкрыта, і стасаваліся скрытыя, зацярушаныя хады. У першай фазе нутраное барацьбы пасьля разгрому паўстае Работніцка-Сялянская Грамада Заходняе Беларусі, з структуральна арганізацыйнай тэндэнцыяй дамінацыі, як вядучага актыву ў змаганьні за вызваленьне работніцкіх арганізацый Беларусі пры самадзельным існаваньні сялянства, як пралетарскае клясы на дзяржаўных землях у іх карыстаньні. Тым адкідвалі дактрыну савецка-бальшавіцкага марксізму. Умяшаўшаяся з падпольля КПЗБ актывізавала гэты падзел. Калі разлом стаўся фактам, пачалі біць трывогу, што гэта адпаведнік кулацтву і буржуазнасьці, шукаючы пагадненьня з польскаю рэакцыяй і тым супрацоўніцтва зь ёю на некарысьць вызвольнай барацьбе беларускага народу.

З гэтага асяродзьдзя выбіраецца група, вызнаючая дамінацыю ў барацьбе за вызваленьне работніцкай ідэі, частковым прыняцьцем прынцыпу марксізму. Элемэнты нацыяналістычныя павінны паступова пераходзіць на інтэрнацыянальнае вызнаваньне палітычных дактрын, а таму, у затытулаваньні арганізацыі, апушчаюцца нацыянальныя элемэнты, і арганізацыя прымае агульна-клясавы назоў „Змаганьне“[118].

[118] Тут Юры Сабалеўскі крыху апярэджвае падзеі, бо радыкальная арганізацыя пад назвай „Змаганьне“ фактычна афармляецца толькі ў лістападзе 1927 г., калі ў Польшчы пасьля роспуску Сойму й Сэнату пачалася парлямэнцкая выбарчая кампанія. Менавіта тады з прадстаўнікоў былога актыву БСРГ утварылася Беларускае сялянска-работніцкае аб'яднаньне (БСРА) „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“, на базе Цэнтральнага камітэту якога ў сьнежні 1927 г. паўстаў Цэнтральны выбарчы камітэт БСРА „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“. Больш падрабязна пра гісторыю стварэньня й дзейнасьці гэтай арганізацыі гл.: Даніловіч, В. Дзейнасць арганізацыі „Змаганне“ ў Заходняй Беларусі (1927—1930 гг.). Мінск, 2007.





Два папярэдніх ЦК — Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, як і Работніцка-Сялянская Грамада Заходняе Беларусі пад маім адрасам, нягледзячы на падзел, адзываліся пазытыўна, затое „Змаганьне“ рашуча ад мяне адмежавалася і выпусьціла адозву, закляймяючую мяне „здраднікам працоўных“. Я на гэта не рэагаваў адкрыта, але падаў да ведама, што гэта разьбівальніцкі ход на ліквідацыю нашага вызвольнага змаганьня закінутай у нашыя рады варожай нам агентуры, якая можа быць і польскай, і адначасна бальшавіцкай. „Змаганьне“ пачулася страшэнна абураным і выпусьціла супроць мяне яшчэ вайстрэйшую адозву, поўную чарненьня і зьнеслаўленьня[119].

На гэтым затрымлівацца нельга, і трэба шукаць больш свабаднейшага кантакту. Для мяне не было ўжо сумліву, што ў гэтым працэсе разломаў і перафарміраваньняў дзейнічае ня розум з асяродзьдзя масаў, а пляновая акцыя звонку, выкарыстоўваючая палітычную нявырабленасьць масаў, кідае ў іх павышаны настрой хаатычныя спосабы разьвязкі і тым вядзе на расклад і самаліквідаваньне ў нутраной барацьбе. Рабіць мне тут нечага, і трэба ехаць у Бэрлін шукаць сувязяў, хоць надзеі на адшуканьне амаль ніякай. Зноў я абсалютна адзінокі ў такой складанай для мяне сытуацыі.

## Я ў Бэрліне

Цягнік прыйшоў туды раніцою. Горад толькі набіраў разгону. Усё тут для мяне новае і незразумелае. Сьвет вялікі, горад прасторны, але дзецца мне няма куды. Я на раздарожжы, безь ніякага пляну на заўтрашні дзень. Дома — жонка з малым дзіцём. Ад першага дня замуства спадарожнічае ёй толькі гора і цяжкія іспыты ад перасьледу польскае ўлады. Зараз жа па шлюбе — высылка яе дыктатарствуючым помсьлівым абшарнікам, павятовым старастаю, на савецкі бок, потым правакацыйная бомба, і я па ягоным загадзе трапляю пад ваенна-палявы суд. Гадзіны майго жыцьця віселі даслоўна на валаску. Пабожны дыктатар-абшарнік, недасьпелы юнец, граф Чапскі[120], маючы не агранічаную нічым самаволю, як польскую ўладу на сваіх лятыфундыях,

[119] Згаданая ідэалягічная барацьба адбывалася крыху пазьней, ужо пасьля таго, як Сабалеўскі адмовіўся ад прапановы камуністаў выехаць на сталае жыцьцё ў СССР і вярнуўся ў Польшчу. Падрабязьней пра гэта гл. у прадмове да гэтых успамінаў.

[120] Маецца на ўвазе граф **Эмэрык Аўгуст Гутэн-Чапскі** (*Hutten-Czapski*, 1898—1979), які ў 1921—1923 гг. быў стаўпецкім павятовым старастам.

надрываўся ў высілках, каб мяне прызналі вінаватым у кінутай яму праз вакно бомбе (ён жыў у адным памешканьні са мною — маім доме), і мяне абавязкова расстраляць. Умяшаўся Сойм праз нашых паслоў, пазачарговая інтэрпэляцыя[121], і калі пазаставалася адна гадзіна і сорак хвілін да вызначанай і чаканай экзэкуцыі, мяне звольнілі з-пад арышту, паступаньне старосты адклікана і ўняважнена, і шлюб быў прызнаны за праўны...

Гэта — у прошлым ужо перажытым, хоць незабытым. На сяньня наступствы палітычнай сытуацыі з уласнага недагляду і з заблытанасьці палажэньня Тарашкевічам. Магу яго ў многім вінаваціць, але ня перад польскім пракурорам і судом. Я павінен навонкі з Тарашкевічам быць салідарным і ўтрымліваць яго палітычны прэстыж, як і ўсіх заарыштаваных па справе Грамады. Іншым, як усе за кратамі сябры, я выглядаць не магу. Хоць я ў душы выпісваю акт абвінавачваньня Тарашкевічу і складаю пад ягоным адрасам фармальную і маральную адказнасьць за многае, што адбылося ў зьмесьце Грамады, але судзьдзёю Тарашкевічу можа быць толькі наш народ, і толькі ён адзін мае права ўгляду ў зьмест ягонае працы і вынясеньня яму прысуду, я ж у той час павінен быў Тарашкевіча вывесьці з-пад разгляду ягонага зьместу польскім судом, але як і ў які спосаб? Не знаходзіў разьвязкі, бо ня ведаў сваёй сытуацыі ў магчымай на гэта ролі. Пастанавіў таму маўчаць і засланяцца, што „нічога ня ведаю“, а што я ведаю, ніякі польскі тэрор не павінен зь мяне выцягнуць. Пераглядаючы ў сучасны мамэнт мінулае ў сваёй сьведамасьці, знаходжу, што паступаньне маё поўнасьцю адпавядала зьместу ідэалёгіі Грамады. З Ваевудзкім разьвязка на адпаведным узроўні і нашыя падазрэньні, што гэта злосны правакатар, сьцьвердзіў віцэ-прэм'ер-міністар Бартэль і яму, як і прэсе, аб Ваевудзкім трэба ведаць. Бартэль — чалавек вельмі паважны і на вецер сваіх слоў ня кідае. Я не прыняў да ведама дагаворанасьці Тарашкевіча з рознымі напрамкамі палітычнага дзеяньня, якія па свайму зьместу былі ў супярэчнасьці з ідэалёгіяй Грамады, і ўважаю, што інакш разьвязаць пытаньне было нельга.

Ануляваньне падсуненага „маніфэсту“ і недапушчэньне Грамады на пераход у падпольле таксама на сваім і адпаведным месцы. Хто хацеў выламацца з датыхчасовага рэчышча Грамады — яго дзела, але я салідарызавацца з гэтым і маўчаць не павінен. Маё далучэньне да

[121] Прагледжаныя намі соймавыя матэрыялы за 1922—1923 г. не пацьвярджаюць інфармацыі пра наяўнасьць такой інтэрпэляцыі.





нацыянальнага Пасольскага Беларускага Клюбу павінна ачысьціць Грамаду ад рознакаляровых палітычных наляцеласьцяў і ўтрымаць надалей нацыянальны беларускі характар і зьмест Грамады. Як-ніяк, а сытуацыя была вельмі складаная, але больш складаная ляжала яшчэ наперадзе.

## Мае перажываньні і разважаньні

Доўга я сядзеў у вакзальным буфэце і абдумваў наступныя мае крокі, але ніводнага ня мог прыдумаць за адпаведны. Адзіноцтва і незарадаснасьць паралiжавалі мазгі, і рысавалася панарама адчаю і безвыходнасьці. Зайздросьціў зноў арыштаваным сябрам. Вастрожнае жыцьцё мне дакладна ведама, і ў ім я знаходзіў аддушыну. Тут, на волі, я гэтага ня меў і сумляваўся, ці патраплю знайсьці. У падобнай сытуацыі лёгка можна трапіць у рукі авантурнікаў, ад якіх пераважна немагчыма потым адцерабіцца.

Меў я некалькі адрасоў; прыпамінаю, што сын суседа-балагола[122] застаўся ў нямецкім палоне з вайны 1914 году і працуе краўцом у Бэрліне, але з адрасам трэба быць мне вельмі асьцярожным. Іду ў гатэль, дзе гавораць крыху па-польску. Бярэ змора, і я зараз жа лажуся спаць. Неспадзявана я праспаў цэлы дзень, і пачуўся амаль нармальна. Вечарэла, а сьвет рэклямовых нэонаў надаў гораду весялейшы выгляд, і гэта мяне разладавала ад непамернай нэрвовай напружанасьці. Абзаводжуся картамі гораду, знаёмлюся з камунікацыяй. Шукаю ў тэлефоннай кнізе адрас суседа-краўца, прозьвішча трохі падобна... можа, зьнямечана. Званю і, на вялікую радасьць, знаходжу. Забірае да сябе. Прымаюць вельмі гасьцінна. Жыве даволі заможна. Пры яго дапамозе адшукаў свайго былога вучня. Працуе ў савецкай гандлёвай кнігарні. Спатыкаюся зь ім. Гаворым па-сяброўску. Да сябе ён запрашаць ня можа, хоць бы гэтага і хацеў, бо аб кожным наведваньні яго з па-за складу афіцыйных савецкіх асобаў мусіць складаць вельмі дакладную справаздачу, а гэта часта пацягвае за сабою не зусім прыемныя наступствы. Я зразумеў, што ён партыйны, і таму насьцеражыўся. У гутарках прагаварыўся, што хацеў бы быць, як я, вольным, хоць я і ўцёк, але яму нельга ўцячы і няма куды. Ад яго я даведаўся па сакрэту аб некаторых баках савецкай бальшавіцкай рэчаіснасьці, а галоўнае — тое, што трэба ўсе савецкія камунікаты аб „радасным жыцьці“ чытаць у адваротным па-

[122] **Балагол** — габрэйскі рамізьнік.

радку. Жыццё ў Саветах страшэнна беднае і цяжкое пад маральным поглядам. Каб я надумаўся туды і паехаць, то трэба застанавіцца паважна і ўсе акалічнасьці ўзважыць, а калі ніякіх перашкодаў не знайду, каб вёз з сабою як найбольш рознага барахла, бо барахло ў Саветах ходкая валюта.

З гэтае кароткае гутаркі мне пачаў закрадацца сумліў адносна зьместу Саветаў і іх спосабу самарэклямы. Раз ён выклікаў мяне па тэлефону, спаткаліся ў нейкім глухім рэстаране, выказаў сваю гасьціннасьць і сказаў, што па некаторых меркаваньнях ён ня можа больш са мной спатыкацца і раіць мне небясьпеку лепш перажываць на захадзе, чым у Саветах. Прасіў першыя спатканьні захаваць у поўнай тайніцы. Пражыў я яшчэ некалькі дзён у Бэрліне, і для мяне стала ясным, што мне ў жыцьцё Бэрліна ўключацца нельга. А з чаго распачынаць?

Першы мой судовы працэс на час трываньня пасольскага мандату быў устрыманы і меў разглядацца па заканчэньні кадэнцыі Сойму. Над іншымі ж працэс адбыўся, і таму трэба спадзявацца па аналёгіі 12 гадоў паняволеньня[123] . Працэс Грамады гаворыць тое самае. Сям'я разьбіта, асабістае жыцьцё зломана, нічога не асягнуўшы ні для сябе, ні для народу. Зьмены на лепшае чакаць не прыходзіцца, як пад Польшчаю, так і пад Саветамі. Польскі тэрор, неканстытуцыйнасьць паступаньня ўраду і адміністрацыі ў поўнай сугучнасьці маўклівай згоды на гэта контарагентаў Вэрсалю. Унутры на Заходняй Беларусі заўважаецца тэндэнцыя прыстасаванасьці да абставінаў спасярод заможнейшых сялян, асабліва сярод працуючай інтэлігенцыі. Сялянская моладзь задыхаецца ў цеснаце, як эканамічнай, так і палітычнай, і сьведамая прычын сваёй бяды. Польскае вайсковае асадніцтва забрала ў свае рукі найлепшыя беларускія землі, збройна арганізавана, карыстаецца ўрадаваю матэрыяльнаю дапамогаю і прызначана на кантраляваньне беларускага жыцьця. Заціск праяваў беларускага жыцьця плянова спушчаецца зь вярхоў польскай дзяржаўнай улады і нарастае на сіле. Абвешчаная Скульскім праграма нашага вынарадаўленьня рэалізуецца з праявамі брутальнасьці і адкрытых гвалтаў. У першыя гады існаваньня Польшчы, калі пры ўладзе былі крайнія правыя элемэнты, абавязвала іх вонкавая этычнасьць, і была магчымасьць карыстацца судом і пракуратураю. У асабліва яркіх выпадках суд, з намераў вонкавай фармальнасьці, бараніў, хоць нехаця, польскі закон. Да ўлады ў Польшчы прыйшлі сяньня сацыялістыя-ППС, але польскія сацыялістыя для „славы“ Польшчы[124] . Вайскоўцы, а таксама і ўвесь зьмест польскай адміністрацыі і польскага фактычнага „права“, запазычаны з звычаяў этапнага камэнданта ў часе вайны на скрыжаваньні дарог забранага зброяю краю. Тут ён, камэндант, усё на ўсё і для ўсіх, хоць у зьмесьце сяржант, у вычышчаных толькі ботах. Права і лёгіка — проч! А ты, хлопе, слухай маёй каманды!

[123] Насамрэч у той час, калі Сабалеўскі выехаў у Нямеччыну, працэс у той справе, у якой яго зьняволілі перад атрыманьнем пасольскага мандату, яшчэ не завершыўся: 16 лістапада 1926 г. паслы з БСРГ падавалі адмысловую інтэрпэляцыю міністру юстыцыі ў справе неадкладнага яе разгляду. Што тычыцца канкрэтных тэрмінаў, якія пагражалі Сабалеўскаму, то артыкулы 100 і 102 тагачаснага Крымінальнага кодэксу, паводле якіх ён абвінавачваўся, прадугледжвалі пазбаўленьне волі да 15 і да 8 гадоў, адпаведна.





Запанавала брутальная сіла. Нехаця прыходзіцца лічыцца, што яе не абыдзеш бочнаю дарогаю, абмінуўшы гэты, поўны зьдзекаў, пост.

### Ці магчыма збройнае паўстаньне?

Адзіны выхад — рэвалюцыя, збройны бунт, каб запанаваўшую сілу зламаць сілаю. Настроі гэтыя ў нашых сялянскіх масах нарастаюць, а вера ў законапарадак у Польшчы канчаткова разьвеяна. Назіраюцца саматужныя дэманстрацыйныя выступленьні адкрытых незадавальненьняў і пратэстаў. Гэта ўжо ў наяве дадзеныя на падыход да заклiку на масавы акт бунту і выхаду на вуліцу зьбіваць засільніка. Над гэтаю адказнаю хвілінаю заклiку выхаду на вуліцу трэба вельмі паважна затрымацца. Можа быць правакацыя, каб выхадам на вуліцу з малымі сіламі даць пераважаючым сілам ураду затапіць нашае жыцьцё канчаткова ў нашай жа крыві і разьвязаць тым рукі тэрору на прышласьць. Для нашага бунту сваіх сілаў ня хопіць. Польскі ўрад мае заплечча ў Лізе Народаў і ў контарагентаў Вэрсалю. Да паслуг польскага ўраду міжнародны банк, і з тым бесьперабойны прыток матэрыяльных сродкаў на выпадак барацьбы польскага ўраду з нашым паўстаньнем. На акт рэвалюцыі нам патрэбен саюзьнік, матэрыяльная і маральная база

[124] Юры Сабалеўскі мае на ўвазе прыход да ўлады ў траўні 1926 г. Юзэфа Пілсудзкага, які да Першай сусьветнай вайны быў адным зь лідэраў ППС. Аднак, хоць травеньскі пераварот спачатку быў актыўна падтрыманы прадстаўнікамі польскіх левых партыяў, у тым ліку й ППС, хутка апошнія пераканаліся, што Пілсудзкі зусім не зьбіраецца праводзіць у жыцьцё сацыялістычную праграму. У выніку ў траўні 1927 г. ППС афіцыйна перайшла ў апазыцыю ўраду Пілсудзкага і цягам наступных гадоў, аж да 1939 г., пасьлядоўна яе трымалася.

заагледжваньня нашай рэвалюцыйнай акцыі. З голымі рукамі і з пустою кішэняю ў акцыю рэвалюцыі ангажавацца нельга. Здавалася б, найбліжэй і найпрасьцей — Саветы, Менск, але там раней за нас улічылі нашыя настроі на Заходняй Беларусі і акрэсьлілі сваё становішча на выпадак нашага бунту. Нам з найбольшай выразнасьцю сказана, што Менск зацікаўлены ў захаваньні поўнага супакою на Заходняй Беларусі.

Менск і ўвесь Савецкі Саюз стаіць на непарушальнасьці Рыскага Трактату і дадатковых умовах з Польшчаю. На выпадак бунту на Заходняй Беларусі Савецкі Саюз гэтай акцыі не падтрымае. Мала таго, кожнага перабежчыка ў выпадку перамогі ўрадавых сілаў Менск выдасьць польскаму ўраду, і лёс такога Саветаў цікавіць ня будзе. Гэта нутраное дзела Польшчы. Калі Польшча ня будзе пачувацца на сілах здушыць бунт і папросіць у Саветаў збройнай дапамогі, то на падставе ўмоваў Саветы ўвядуць свае войскі на тэрыторыю Польшчы для дапамогі ўтрыманьня нутранога дзяржаўнага ладу, а незалежная справа Польшчы — арганізаваць у сябе такі лад, якога Польшча сабе жадае. У рамках нутраное польскае дзяржаўнае арганізацыі мы можам змагацца за свае правы. (Аб гэтым мною падрабязьней запісана на іншым месцы, і спасярод нас сьведкаю гэтаму ёсьць яшчэ адзін чалавек.) Ясна, што гэта асьведчаньне з афіцыйных савецкіх колаў — па сутнасьці хаўтурны перазвон на кожную нашу адкрытую акцыю пратэсту. Тут не меркаваньні лаяльнасьці да ўмоваў, а небясьпека за свой стан пад уладаю Саветаў, а Саветы жартаў і сэнтымэнтальнасьці ў палітычныя абрахункі ня ўводзяць. Многае гаварыла за тое, што гэтая пазыцыя Саветаў была, апрача нас, пераказана і Польшчы. Аснаўная пазыцыя саюзьнікаў на нашае нішчэньне ўзгоднена. Немцы? Самі ледзь дыхаюць. Літва? Мініятурны падгалосак Англіі, той Англіі, якая сама душыла і душыць падбітыя ёю крывавою сілаю шматлікія некалі вольныя народы. Пры гэтай нагодзе прыпомніўся абразок з ангельскага паступаньня ў нейкім ілюстраваным журнале ў дзеда, дзе пасьля паўстаньня ў Індыі нацыяналістых-сіпаеў[125], схвачаных кіраўнікоў і камандзіраў паўстаньня ангельскія ўлады прывязвалі да дулаў арудзій і выстраламі рвалі ахвяры на кавалкі.

Англія ў сябе на востраве жорсткімі сродкамі прыводзіць да „агульнага назоўніка“ неангельскія плямёны і народы. Польшча падобна да пачынаючага вучня ангельскай каляніяльнай палітыкі і эксплюатацыі падабраных пад сябе слабейшых. Трэба затрымацца на выбары арыентацыйнай лініі ў нашым змаганьні: ці пакора і прыстасаваньне ў барацьбе за лепшае на нутраным полю змаганьня, ці рэвалюцыя, бунт, ламаньне перашкодаў? Перад сваім сумленьнем галасую за „бунт“.

На пазыцыі прыстасаванасьці, хоць і з востраю барацьбою, стаіць Беларускі Нацыянальны Пасольскі Клюб, Нацыянальны Камітэт, Сялянскі Саюз[126], Хрысьціянская Дэмакратыя[127], і часамі вытаргоўваюць яны нейкія палітычныя драбніцы, якія, па сутнасьці, носяць характар жабрачай падачкі і з гледзішча цаны нацыянальнае вартасьці гэтыя спосабы трэба выключаць. Больш, як на пачатку з кухоннага парога пана, згары аблічваць нельга. Застаецца адзіны сродак — рэвалюцыя, і нам трэба дакладна вывучаць законы нараджаньня і памысны развой канечнай і неадзоўнай на нашых землях рэвалюцыі, каб жыць беларусу на Беларусі сваім беларускім правам. Пад уладаю Саветаў рэвалюцыя выключаецца. Усе здольныя на гэты крок даўно выдушаны, і ніхто там не адважыцца падняць галаву і выказаць найменшае слова пратэсту. Пакуль што гэта магчыма ў Польшчы, бо польская ўлада яшчэ не дайшла да сілы Саветаў, але выявіла ўсе дадзеныя ісьці гэтаю дарогаю.

Паўстаньні, як і кожнае зьявішча, маюць свае законы, хоць яны нідзе і не запісаны ў кодэксы. Законы гэтыя трэба ўмець у пару толькі адчытаць і распазнаць адпаведны ход падзеяў. Паўстаньні выйграе дух народаў, ягоная спайка, дынаміка, і то на працягу магчыма кароткага часу. Падымае народ на паўстаньне кароткі аб’ядноўваючы лёзунг. Дапамагае ў паўстаньні, але яго не выйграе і не вырашае, вонкавая помач у зброі і грашох. Усе дадзеныя ў першай частцы на падняцьце паўстаньня маем, і ў гэтым сумліву няма. Народ падымаецца, і ёсьць, чым яго на гэта падбадзёрыць, але з чым у руках?

[125] **Сіпаі** — жаўнеры наёмных вайсковых фармаваньняў, якія набіраліся ангельскімі каляніяльнымі ўладамі ў Індыі зь ліку мясцовага насельніцтва. Былі асноўнай рухальнай сілай Індыйскага народнага паўстаньня 1857—1859 гг.

[126] **Беларускі сялянскі саюз** (БСС) — заходнебеларуская партыя, створаная ў лістападзе 1925 г., кіраўнікі якой падкрэсьлівалі супярэчнасьць інтарэсаў сялянства й гарадзкога пралетарыяту. Фактычна спыніла сваё існаваньне ў 1928—1929 гг., але афіцыйна не ліквідоўвалася, і нават у 1930-х гг. яе шыльда часам выкарыстоўвалася ў палітычнай дзейнасьці былымі лідэрамі.

[127] **Беларуская хрысьціянская дэмакратыя** — беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя, заснаваная ў 1917 г. як Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць. Яе заснавальнікамі й ідэолягамі былі беларускія каталіцкія ксяндзы. Пад назвай Беларуская хрысьціянская дэмакратыя арганізацыя існавала з 1926 да 1936 г., калі рэарганізавалася ў Беларускае нацыянальнае аб’яднаньне.

Сакрэт падрыхтоўкі ўтрымаецца, асабліва баяцца тут няма чаго. Маем доказы і дасьведчаньне. Калі польская армія ў 1920 годзе адступала з-пад Барысава, Менску і ягоных ваколіц на Налібокі (тракт панад рэчкаю Сулою[128]), то безь вялікага згавору паднялося некалькі дзясяткаў маладых хлопцаў з прысульскіх вёсак на партызанку. Былі ў іх перахаваныя з вайны 1914—1918 гг. кулямёты і ручная зброя. Вінтоўкі хавалі пазавешваныя ў лесе на лапчыстым ельніку. Заселі яны засакрэчана на скрыжаваньні дарог і распачалі сваю работу па расьцягненых калёнах польскага войска. На скрыжаваньнях і на паваротах адбываліся страшэнныя рэчы. Трупы ляжалі гарою, і іх прадбачана сьцягвалі ў Сулу. Польскае войска адступала калёнамі без авангардаў і прыкрыцьця, і панесла ў лясістых ваколіцах Сулы і Налібокаў, ад невялікае партызанкі, страшэнныя страты. Акцыя гэтых партызан не была выкрыта да апошніх дзён ані палякамі, ані бальшавікамі, хоць некалькі разоў палякі натыкаліся на яе сьляды. Зброя перахоўвалася каля Сулы цераз увесь час у вельмі просты спосаб, даступны да скарыстаньня ў самы кароткі час, каб зноў быць схованай і каб не было „засыпкі“. Мелася і артылерыя пад Міром. Адзін выпадак прыпадняў над гэтым сховішчам завесу. Гарэлі гумны, і з дагараючага стага саломы высунула морду трохдзюймоўка. Каля мястэчка Сьвержана ў часе пажару ўзарваўся склад артылерыйскіх снарадаў. Многа было зброі каля Карэліч і Сэрвэча. Не было за ёю належнага дагляду, і яна псавалася. Лепш было зь перахоўваньнем патронаў: пазакідвалі іх сяляне ў ямы для мочкі ільну, якіх больш не ўжывалі, або ў раскопы глінішчаў і тарфянікаў. У цынкавых гермэтычна запячатаных скрынках нават у вогкасьці патроны цераз доўгі час прыдатнасьці ня трацяць.

Прававерныя рэвалюцыянэры, у прадбачаньні патрэбы зброі, спраўджвалі свае запасы і прыходзілі да сумнага выснаву, што ствалы разьядала іржа, а патроны ў ямах заплывалі пасьля вясновых разьліваў, але на пачатак рэвалюцыйнай акцыі магло б і хапіць. Гэта толькі на пачатак, а на зацяжную акцыю трэба знайсьці больш надзейнае заагледжваньне. Трэба знайсьці той дзейнік, які б выклікаў трывогу ў рэгулярнай арміі, стан няпэўнасьці і пагрозу магчымасьці асачэньня расскватараваных раскіданых аддзелаў. Тут патрэбен вонкавы саюзьнік, зацікаўлены ў аслабленьні сілы дзяржавы, супроць рэжыму якое падымаецца рух паўстаньня. Ёсьць сьлізкае месца ў выбары саюзьніка, каб

[128] **Сула** — рака ў цяперашнім Стаўпецкім раёне Менскай вобласьці, правая прытока Нёмну.





ён сам не застаўся гаспадаром на ахопленай паўстаньнем тэрыторыі. Рэжым такога саюзьніка будзе, як звычай, горшым ад папярэдняга, і рэвалюцыйныя сілы будуць новым гаспадаром вынішчацца.

Польская літаратура з часоў польскіх паўстаньняў супроць Расеі была для нас актуальнаю лектураю. Іншага выхаду для беларуса пад Польшчаю з паняволеньня, бясправўя і фактычнага прыгону, як збройны бунт-рэвалюцыя, не было, і кожнаму голасу ў гэтым напрамку наш селянін верыў, і да яго прыслухоўваліся ўсе.

## Становішча Менску

У абсягу канкрэтнага матэрыялу адбываюцца рэвізіі поглядаў і расцэнак, асабліва пад адрасам савецкага Менску. Даўно прайшла і выветрылася паласа настрояў, што Саветы часова толькі акупуюць Менск і, пад націскам нацыяналістычных і дэмакратычных беларускіх настрояў, у падрыхтоўцы да адступленьня на Смаленск. У сьвятле фактычнага стану такія расцэнкі савецкіх плянаваньняў былі з нашага боку больш, як асьмешываючая нас наіўнасьць, а такіх спасярод нас было многа, асабліва інтэлігенцыі. (Усе яны заплацілі за гэтую наіўнасьць сваімі галовамі ў савецкіх катоўнях.)

Польская нутраная палітыка ў асяродзьдзях кіруючай абшарніцкай эліты і капіталістых базуецца на плятформе спаўжыцьця і спаўпрацы з бальшавікамі, бо бальшавікі спасярод усіх расейскіх палітычных партыяў і розных плыняў ды арыентацый, у польскіх расцэнках, ляяльна будуць прытрымоўвацца да ўмоваў аб разгранічэньні тэрыторый паміж Менскам і Варшаваю. Пры існаваньні ў Расеі ўлады бальшавікоў тым самым забясьпечваецца валоданьне Польшчаю часткай Беларусі і Ўкраіны з Валынем. Хто б не прыйшоў на зьмену бальшавікоў на расейскім троне, зь першага дня ўлады па бальшавіках наступіць павінна рэвізія разгранічэньня, і граніцы Польшчы падсунуцца пад Варшаву. Гэта — на ўсходзе. На захадзе могуць у той самы час забраць голас і немцы, ня будуць маўчаць чэхі, малыя жарты могуць быць і зь ліцьвінамі. З Польшчы „моцарствовай“ застанецца можа агрызак „паньстэвка“[129].

Увага палітыкі ў Польшчы была накіравана на ўтрыманьне добрасуседзкіх узаемаадносін з Саветамі і неабходнасьць іх падтрымліваць на міжнародным палітычным і дыпляматычным полю, а ў адносінах да

[129] *„Паньстэвка“* (польск. *państewko)* — дзяржаўка (зьедлівы выраз).

Нямеччыны, пад аслонай паблажлівасьцяў з боку Англіі і Францыі — трымаць немцаў „за мордэ“[130] і гарбаваць ім скуру. Цераз увесь інтэлектуальны польскі арганізм праводзілася гэтая лінія палітычных поглядаў і старальна рэалізавалася пры поўным маўчаньні насьвятленьня зьместу прэсаю. Гэта называлася польскай стасавальнай палітыкаю, вызнаваемай усім дзейнічаючым польскім арганізмам, ад скрайніх рэакцыянэраў і да камуністых, якія, арыгінальна, у масе былі адначасна і клерыкаламі-нацыяналістамі.

Беларускі народ на блізкія яму рэчы пазіраў сваімі вачыма. Зачэпнай акцыі чакаў з боку немцаў на свае даўнейшыя землі, апынуўшыся па Вэрсалю пад Польшчай, і таму мела наступіць чарга і нам на сваё рашучае і ўзброенае слова. Нарастаючы польскі наступ на беларускае жыцьцё павышае настроі да супраціву, і зьяўляюцца саматужныя паадзіночныя выпадкі збройнага тэрору і мардаваньня правакатараў і паліцыйных агентаў. Падросткі па вёсках зь вінтовак панаробліваі кароткіх абрэзаў і ўначы на выганах падымалі стральбу. Гэта дэнэрвуе адміністрацыю, і іх палахлівыя вочы бачаць у тым прыгатаваньне да збройнага паўстаньня, і перэтрасаюць западозраныя вёскі і нічога не знаходзяць.

Гэты стан рысуе ім кансьпірацыю і завастрае паліцыйны націск. Падымаецца прэса, і „выкрываюцца“ намеры „гурткув“[131] як неабаснаваная, але праўдападобная фантазія ў адказ на паводзіны дзяржавы да свайго грамадзяніна. Да гэтага далучыліся масава і дарослыя, і пачалі масава стасаваць узрывы вапеннага газу ў бутэльках з прытокам вады. Прыслухоўваючыся ў цёплыя летнія дні да гэтае стральбы, выносілася здалёк уражаньне, што страляе пяхота і ў перамежку лёгкая артылерыя і бамбамёты. Аматары ўражаньняў вечарамі на вогнішчах рвалі знойдзеныя неразарваныя снарады, асабліва пад Баранавічамі і далей па Сэрвэчу.

З таго рабіліся высновы, што адбываюцца манэўры гурткоў. Насторожвалася паліцыя і войска. А ўсё заставалася ня выкрытым, а для перастрашаных — зловарожым. Настроі з абодвух бакоў нарасталі. Можа ўпасьці іскра, і панясецца лявінаю помста... Усё гэта было б добра, але ў наступнай фазе што і хто прыйдзе на падмену дынаміцы настрояў? І тут над гэтым пытаньнем трэба паважна затрымацца. Англія аб гэтых справах на беларускіх землях ведае больш за Польшчу праз свае „гандлёвыя“ фірмы і пераказвае свае спасьцярогі польскай паліцыі і пракуратуры для выкарыстаньня. Усё гэта гаворыць за тое, што павэрсальскі Захад у сяньняшнім укладзе сілаў заўсёды будзе на старане польскага фактычнага ладу, і нам трэба адцягваць наш народ ад чыну і расхалоджваць яго настроі. І тут трэба вялікая асьцярожнасьць і захаваньне такту: бо разгарачаным галовам можа ўпасьці падазрэньне аб капітуляцыйнасьці і пагадненьні, а сутнасьць прычын іх стан ня можа зразумець. Людзі, у атмасфэры аддадзенасьці вostраму афэкту, ня ў стане разумець зьявішча аддаленага пэрспэктыўнага зьместу вынікаў і наступстваў.

Саветы не былі па суседзтву абыякавымі назіральнікамі нашага беларускага жыцьця пад уладаю Польшчы. Іх прэса прысьвячала вялікую ўвагу адбыванаму ў нас змаганьню, называючы яго прасавецкім, і тым выяўляла нашаму боку вялікую прыхільнасьць і выяўленьне гатоўнасьці наш рух успамагаць. Ладзіліся шумныя пратэстуючыя супроць польскай палітыкі на Беларусі мітынгі, зьбіраліся грошы на дапамогу пацярпеўшым ад польскага тэрору, актывізаваліся настроі, улучна да збройнай інтэрвэнцыі, і акцыя гэтая шырака апавяшчалася Саветамі, як у сябе дома, так і за граніцаю. Выглядала навонкі, што Саветы зьяўляюцца нашым саюзьнікам у барацьбе за нашыя канстытуцыйныя правы пад Польшчаю. Гэтае ўражаньне сталася для палітыкаў аксіёмаю.

### Спатканьне з камуністамі

А ў той жа самы час адбываецца ў мяне „прыпадковае“ спатканьне і гутарка на тэму аб настроях Заходняй Беларусі ў прысутнасьці савецкага адказнага прадстаўніка, майго былога добрага знаёмага па працы ў менскім земстве перад прыходам бальшавікоў. Быў эсэр, сяньня камуніст, чалавек культурны з грунтоўнаю асьветаю, адказны савецкі дыплямат[132]. Ціхачом шэпча на вуха многа каму па старой прыязьні, што савецкі рэжым „ужо“ выдыхаецца і ў генэральным адступе ад сваіх папярэдніх поглядаў, і нам, беларусам, трэба быць гатовым на ўсякі выпадак, бо Заходняя Беларусь будзе паклікана падзеямі да вельмі адказнае ролі... Былі яшчэ двое з савецкага алімпу ў тым жа самым зьмесьце, як асаблівыя людзі. Спатканьне было зроблена для іх, а мой былы прыяцель у ролі толькі гаспадара дому. Як бы мімаходам закраналася то адно, то другое пытаньне, але ўсё са зьместу зрэвалюцыязаваных

[130] *„За мордэ“* (польск. *za mordę*) — за морду.

[131] *„Гурткув“* (ад польск. *hurtków*) — гурткоў.

[132] Магчыма, маецца на ўвазе Аляксандар Ульянаў.

на Заходняй Беларусі настрояў і актывізацыі іх. Гаварылі яны і аб савецкіх плянах на менскай падсавецкай Беларусі, дзе прадбачваліся грандыёзныя пляны на блізкую будучыню, калі ня будзе перашкодаў з боку Англіі і Францыі цераз Польшчу ваеннымі пагрозамі. Гутаркі і выказваныя погляды расхаладзілі мой настрой і пакінулі ўражаньне, што Масква, а церазь яе і Менск, зь непакоем назіраюць падзеі на Заходняй Беларусі і папярэджваюць нас аб сваім прыхільным, з палітычнай канечнасьці, нэўтралітэце ў адносінах да польскай дзяржавы.

Калі ж бы паўсталі на Заходняй Беларусі рэвалюцыйныя завірухі, а Польшча не падолела іх зьліквідаваць, то Саветы на просьбу Польшчы прыйдуць ёй з дапамогаю, каб унармаваць парушаны нутраны лад. А што стане пасьля здушэньня, з адважыўшыміся на паўстаньне — гэта выключна нутраная справа самой Польшчы. Саветы пачуваюцца да абавязку нас, беларусаў, аб гэтым у Польшчы паінфармаваць і папярэдзіць аб савецкай лініі адносін да Польшчы.

Другое спатканьне, таксама „прыпадковае“, церазь невялікі адступ часу, але ў складзе больш пашыраным, з удзелам вайсковага экспэрта вышэйшае рангі. Тон быў у іх больш катэгарычны і насіў характар наказу. Відаць, што папярэдняе спатканьне было ўступным і агранічалася агульнаю даведкаю і зьбіраньнем матэрыялаў. Гэтае спатканьне канчаткова выясьніла адносіны Саветаў да магчымага беларускага паўстаньня, і іх наказ зводзіўся да наступнага:

*„Саветы патрабуюць максымальнага супакою, і ў авантуру Заходняй Беларусі ўмешвацца, а тым больш яе ўспамагаць — ня будуць.*

*Рыскі трактат пазастаецца ў сіле, як і ўсе выцякаючыя зь яго абавязкі Саветаў перад Польшчаю. На выпадак, аднак, паўстаньня, беларусы Заходняй Беларусі павінны разьлічваць толькі самі на сябе і ўлічваць абавязуючыя Саветы ўмовы з Польшчаю.*

*Калі Польшча змусіць адступіць паўстанцаў і яны апыняцца на савецкай тэрыторыі, то паўстанцы будуць інтэрнаваны і раззброены. На жаданьне Польшчы Саветы іх выдадуць Польшчы назад на польскую тэрыторыю. Саветы лёсам такіх ні цікавіцца, ні клапаціцца ня будуць.*

*Калі Польшча па зьместу Рыскага трактату зьвернецца ў выпадку паўстаньня за дапамогаю да Саветаў, то савецкая армія будзе ўведзена на тэрыторыю Польшчы і збройна дапаможа ўтрымаць палітычны лад на тэрыторыях разгранічэньня“.*

Ілюзіі тут скончаны. З другога боку — цэлы рад супярэчнасьцяў у тым, што тут мне было сказана.





**Супярэчнасьці**

Саветы ахвотна прымаюць да сябе нашую моладзь. Забясьпечваюць яе матэрыяльна і даюць дапамогі студэнтам. На судах у Польшчы даюць бясплатную праўную дапамогу палітычным заарыштаваным. Савецкая прэса заняла прыхільнае становішча да выяўленай намі барацьбы... як бы і ўзапраўды поўнасьцю па нашаму баку ўвесь савецкі зьмест. На гэтых спатканьнях гаварылі, як мне разьясьняў мой колішні спадарожнік па палітычнай працы, вельмі з адказных становішчаў маскоўскія цэнтральныя тузы і іх словы — паўнавартасны для нас мернік.

А калі ж тэмы гэтых нашых размоў выплываюць ужо з папярэдніх дагаворанасьцяў Саветаў з польскім урадам, і Саветы раней да гэтых размоў ужо злажылі сваё запэўненьне аб іх захаваньні на выпадак нашага збройнага паўстаньня і загарантавалі Польшчы свой прыхільны нэўтралітэт — то што тады чакаць і ад адных, і ад другіх? Поўны правал акцыі і агульная катастрофа. Што Саветы маглі ўжо ўвязацца з Польшчаю па-над беларускімі галовамі — зусім магчымая рэч... і супярэчнасьці нарастаюць у мяне пластамі. Нічога не разумею і не арыентуюся ў зьмесьце: супярэчнасьць едзе на супярэчнасьці, і ў іх заблытацца вельмі лёгка. Трэба, па сутнасьці, кідаць мне палітычную працу. Не сваім, я бачу, дзелам я заняўся. На падобную працу ня маю ні тэарэтычнай, ні практычнай падрыхтоўкі. Даходжу да разгубленасьці і адчаю, але гэта не вырашэньне пытаньня, і мозг пачынае асільваць і разглядваць скрытыя хады нашых магілакапацеляў.

Трэба выхаваць у сябе нахіл верыць людзям і адначасна навучыцца многаму ня верыць і яшчэ больш не давяраць, асабліва ў палітыцы.

Часамі наведваў мяне і гумар у моры адчаю, і тады я над самім сабой іранізаваў. Раздвайваўся і прадстаўляў самога сябе, як нираз залазіў у палітычнае балота, што здавалася яно мяне залясьне, і тут мне ўжо неўнікнёны канец. Да гэтага часу вылазіў, і ўсе мае папярэднія прыгачэньні кінуць гэты няўдзячны і рызыкоўны як бы спорт забываліся і распачынаўся, як бы сам сабою і нехацяй, новы чарговы этап з тымі самымі вельмі небясьпечнымі адхіламі ў неакрэсьленасьці. Як я цяпер буду вылазіць, на што абаперціся і дзе магу або павіснуць, або абарвацца? Сумніўная на сяньня рэч, але проч зь безнадзейнасьцю і сумлівам, да адчаю яшчэ далёка. Вывучыць трэба зьмест пытаньня, сьцягнуць зь яго прыкрыўкі і дэкарацыі, адчытаць сапраўднасьць і распачаць плянаваньне выхадных дарог. Спрабую...

Халодныя муры Бэрліну не падкажуць спосабу разьвязкі. А можа, зандавацъ дарогу далей празь Менск, пакінуць палітычную працу і заняцца фаховаю працаю дзе-небудзь пад Гімалаямі? Наіўна! Аб гэтым трэба было думаць тады, калі я быў у Менску, а цяпер ці там укрыеш сваю прошласьць? Мой удзел у кастрычнікавым змаганьні ў Маскве супроць чырвоных можа вылезьці на паверхню. Потым розныя ЧК і Асобыя аддзелы, Рэв. Ваен. Трыбунал... Уцякаў, як і цяпер. Палякі інтэрнавалі перш у Лідзе, потым у Ваўкавыску. Выкрыць гэта ўсё вельмі лёгка, не даруюць і крывава прыпомняць. Зацяжыць могуць новыя абставіны з апошняе барацьбы ў Сойме. Бальшавікі глыбока мачалі там свае пальцы. Заступнік варшаўскага паўпрэда беларус Ульянаў[133] гарой стаяў за Ваевудзкім. У сваім часе выцягнуў яго Ваевудзкі з рук палявой польскай жандармэрыі чуць жывога, з павыбіванымі зубамі і пакалечанага; за Ўльянавым і паўпрэд Войкаў[134] фаварызаваў Ваевудзкага, а я адважыўся павесьці змаганьне з ваевудчынаю. Абараніцца мне цяжка, скарэй — немагчыма. У памяці абразкі зь перажытага, калі безь ніякага сьледзтва і суду бальшавікі расстрэльвалі тысячы нявінных людзей.

### З Бэрліну ў Данцыг

Цераз восем месяцаў канчаецца кадэнцыя Сойму, і трэба гатавацца да пераходу ў першабытны стан. Дарога на паварот да фаховае працы мне зачынена ў Польшчы канчаткова. А Грамада? Сьведамасьць нацыянальнае крыўды павінна паказаць больш узможаную барацьбу супраць прыгнятальніка. Польская дзяржаўная рэчаіснасьць пагражае поўным вынарадаўленьнем беларусаў. Ад нашага жыцьця забірае ўсё беларускае, на чым можа нашая душа знайсьці адпачынак. Матэрыяльнае становішча магчыма для ўмыслова працуючага толькі ў выпадку поўнага самавырачэньня.

Грамада — гэта пратэст супроць уціску, гэта зборны крык набалелай душы, і гэтага апошняга права пратэсту адабраць ад жывога арганізму ніхто не патрапіць. Таму Грамаду сьпіхваюць у пропасьць... Грамада — пагроза запанаваўшаму на Беларусі гвалту, і беламу, і чырвонаму. Вызваленая Беларусь падапрэ дзьверы і Варшаве, і Маскве. Тут вось і разгадка навалы на Грамаду няпрошаных апекуноў, з мэтаю падсоўваньня яе пад катастрофу. Супольная зацікаўленасьць у ўсьмярочваньні яе жыцьця і разьвіцьця. Сродкі на гэта розныя, а мэты аднолькавыя. Многае заслонена для мяне туманам. Няма з кім падзяліцца спасьцярогамі.

Бэрлін зь яго абыякавымі адносінамі да чалавека, асабліва да мяне — чужынца, знайсьці выхад не дапаможа. Бэрлін — гэта толькі этап, я павінен наблізіцца да тэрыторыі катастрофы і зазірнуць цераз заслону, што там робіцца, каб на фоне адбываемай трагедыі шукаць адпаведнага наказу для сябе, і за сябе, і за народ. Пастанаўляю ехаць у Данцыг, каб зьвязацца з прыяцелямі і сябрамі, і калектыўна шукаць выхаду.

Даты ня памятаю, але гэта ня мае значаньня. Еду дзённым цягніком, каб назіраць краявіды. А колькі ж тут уложана працы? Аздобнасьць сама не паўстала, а ўзрасла пасьлядоўным высілкам пакаленьняў. У нас падобнага немагчыма бачыць. Край нішчыўся і вынішчаецца. Народ ня можа выйсьці са стану прымітывізму, хоць працуе больш за немца. Толькі воля і супакой у працы могуць тварыць тое, што я назіраю праз вакно цягніка. Нягледзячы на жорсткасьць нямецкага характару, ад якога ў часе вайны нямала Беларусь пабачыла ад немца ліха, спачуваю нямецкаму адраджэньню, і ад яго ня грэх павучыцца. Лёгіка падзей пустымі сантымэнтамі не паслугоўваецца. Польская аслаўленая „рацыя стану“ ня вытрымае спаборніцтва і павінна будзе ўступіць месца больш жыцьцяздольным арганізмам.

Мімаволі ўспаміны канцэнтруюцца на выпадках адбылай барацьбы з ваевудчынай. Прыходжу да пераконваньня, што ваевудчына не адарваны фрагмэнт, а частка нейкае засакрэчанае сыстэмы, але ў якім можа быць яна афармленьні? Хто такі Ваевудзкі па свайму духоваму і маральнаму зьместу? Чаму так лёгка варочаў мазгамі многіх, здавалася б, дасьведчаных палітыкаў? Прыяцель савецкіх уладаў і, як чуў,

---

[133] **Аляксандар Ульянаў** (1901—1937), беларускі савецкі дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ў Менску. У 1917—1922 гг. быў сябрам партыі эсэраў, у 1922 г. уступіў у камуністычную партыю. У 1922—1925 гг. займаўся ўсталяваньнем вонкавых гаспадарчых сувязяў СССР, у 1925—1927 гг. — на дыпляматычнай рабоце ў Польшчы. Быў аташэ, саветнікам паўнамоцнага прадстаўніцтва СССР, в. а. паўнамоцнага прадстаўніка СССР. Займаўся „разлажэньнем“ беларускай палітычнай эміграцыі, арганізоўваў вяртаньне ў БССР дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэньня. Удзельнічаў у рыхтаваньні Другой Усебеларускай канфэрэнцыі (Бэрлін, 1925), спрыяў стварэньню БСРГ. Пасьля выезду з Польшчы працаваў на розных дыпляматычных пасадах, у 1937 г. арыштаваны й расстраляны.

[134] **Пётар Войкаў** (1888—1927), савецкі дзяржаўны дзеяч, дыплямат. З 1924 г. — паўнамоцны прадстаўнік СССР у Польшчы. Забіты ў Варшаве Барысам Кавэрдам, які перад гэтым браў удзел у дзейнасьці Часовай беларускай рады А. Паўлюкевіча.

эмісар Камінтэрну[135] на Польшчу, адначасна ўдзельнік вярхоў ПОВ, дзецішча Пілсудзкага „генія“, апэрацыйны агент разьведкі вышэйшых заданьняў. З кім і супроць каго ён дзейнічаў? Саветы ведалі яго прошлае, і тут мала было на давер зь іх боку атэстацыі Ўльянава, які сам быў у эсэраўскім „пуху“. Тут у ігру ўступалі вышэйшыя дзейнікі, як Ульянаў і савецкі „барын“ Войкаў, якому саветы не давяралі поўнасьцю. Калі Ваевудзкі рабіў польскую работу па заданьням польскіх сакрэтных вярхоў, то дзеля чаго патрэбна было ліквідаваць і дэмаскаваць свайго агента-правакатара? Тое самае і ў сувязях з бальшавікамі, якія так самаахвярна баранілі Ваевудзкага супраць фактаў і дакумэнтаў. Калі Грамада — антыдзяржаўны вораг Польшчы, то дзеля чаго афіцыйны орган Бартэля замяшчае зварот пад адрасам польскай грамадзкасьці аб шуканьні спаўжыцьця зь беларусамі, і гэты тэрмін „бялорусін“, „Бялорусь“, пасол Беларускай Грамады ў укладзе паважных зваротаў упершыню спатыкаем у ўрадавых выступах у той час, калі раней былі толькі „Крэсы Всходне“ і зьнявагі.

Больш лібэральны ад іншых газэт „Кур'ер Віленскі“[136] потым пачаў паглыбляць гэты напрамак. У пагроме Грамады ляжыць беспасрэдны асабісты ўдзел самога Пілсудзкага на адбытай ім з „зубрамі Віленшчыны“ канфэрэнцыі[137], папераджаючай пагром Грамады, і гэтыя весткі падавала віленская прэса. На другім канцы Грамады начэпка чырвонага марксістоўскага закансьпіраванага сэктару, які супярэчыць сацыяльна-нацыянальнай культуры беларускага жыцьця. Чым больш удумоўваўся, тым менш разумеў разлажыўшуюся перад маімі вачыма палітычную панараму навакол Грамады.

Прыпамінаецца апошні дзень перад выездам з Варшавы. Ясна было кожнаму, што буду ўцякаць, а ўцертым звычаем сярод палітычных — цераз „калідор“ у вольны Данцыг. Сапраўдны маршрут трымаўся ў сакрэце, і аб ім ведалі толькі дваіх зь Беларускага Пасольскага Клюбу і некаторыя немцы зь іх Пасольскага Клюбу. Затое ведалі ўсе, што Ваевудзкі мною адсунен на гэты час ад Грамады, і зь ім церазь яго па фарватэру ваевудчыны востры прынцыповы канфлікт. Былі ў гэтай сытуацыі для мяне і прыхільнікі, і ворагі. Многа ўвагі і палітычнай салідарнасьці выявіла адна знаёмая карэспандэнтка, жанчына-лекар з Аддзелу грамадзкай апекі Варшаўскага магістрату. Працавала яна яшчэ ў польскім камітэце апекі над палітычнымі арыштаванымі, які вёў спадчыну ад царскіх часоў і ачольваўся арыстакраткай паняю Стэфаніяй Сэмпалоўскай[138], знанай асобай усяму польскаму палітычнаму сьвету зь перадваенных часоў 1914 году[139]. Часта мы спатыкаліся па справах апекі над турмамі, і яна, доктар, прымала вельмі актыўны ўдзел. Трымалася сацыялістычных поглядаў і супрацоўнічала з адпаведнай прэсай. Ярая барацьбітка зь пілсудчынаю і з аслаўленаю „польскаю рацыяю стану“. Была поўнасьцю па старане беларускага вызвольнага руху і ў адкрытай апазыцыі да Ваевудзкага, называючы яго сапраўдным лёкаем Пілсудзкага і тайным ягоным агентам. Такога погляду трымаліся вельмі многія ў Варшаве, і набліжэньне Ваевудзкага да камуністых лічылі за выведвальны наказ Пілсудзкага. Да камуністых стасавалася мая знаёмая зь вельмі востраю засьцярогаю, і трымалася ад іх на вялікай адлегласьці. Уважна прыглядалася да падзей сэсіі пленуму і прыслухоўвалася да закуліс. Дадатна расцэньвала ход Бартэля за мужнасьць выступу супроць Ваевудзкага. Сэсія дабягала да канца. Падышла ў кулюарах і, як бы разьвітваючыся перад маім ад'ездам, выказвала мне спаўчуцьцё. Выцягнула з сумачкі картачку і на вачах яе сьлёзы. Каля яе дзяўчынка-падростак. Супакоіўшыся, трохі ўсхалявана кажа:

*„Калі Вы будзеце патрабаваць рады і духовае дапамогі, то гэты чалавек будзе шчырым і дапаможным. Ён перажыў ня менш за Вас і перажывае яшчэ і цяпер“.*

Просіць пераказаць яму ад яе прывітаньне. Углядаюся ў картку — напісана алавіком. Пытаюся аб адносінах да яе. Уздрыгвалі яе плечы, хусткаю засланіла сабе твар: ціха ўсхліпваючы, плакала.

---

135 **Камінтэрн** (Камуністычны Інтэрнацыянал, Трэці Інтэрнацыянал) — міжнародная арганізацыя, якая ў 1919—1943 гг. аб'ядноўвала камуністычныя партыі розных краінаў. Была інструмэнтам у руках бальшавіцкіх уладаў СССР для рыхтаваньня сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

136 ***„Kurjer Wileński“*** („Віленскі кур'ер“) — польская газэта, якая выходзіла ў Вільні ў 1924—1940 гг.

137 Хутчэй за ўсё, Сабалеўскі мае на ўвазе сустрэчу Юзэфа Пілсудзкага з прадстаўнікамі буйной польскай арыстакратыі, якая адбылася ў кастрычніку 1926 г. у нясьвіскім палацы Радзівілаў. На гэтай сустрэчы буйныя землеўладальнікі абавязаліся аказваць Пілсудзкаму палітычнае падтрыманьне ўзамен на ягонае абяцаньне забясьпечыць ім удзел у кіраваньні дзяржавай і ўплыў на яе палітыку.

138 **Стэфанія Сэмпалоўска** (*Sempołowska*, 1870—1944), польская настаўніца й грамадзкая дзяячка, з 1919 г. рэпрэзэнтавала ў Польшчы Таварыства Чырвонага Крыжа.

139 Яшчэ падчас рэвалюцыі 1905 г. Стэфанія Сэмпалоўска арганізоўвала справу дапамогі палітычным вязьням, за што была рэпрэсаваная царскімі ўладамі.

*„Усяго добрага Вам... ад сэрца жадаю ўсяго найлепшага...“* — і, паўстрымліваючы плач і сьлёзы, адышла. У паўабарота дзяўчынка кідае мне ўпаўголаса: *„Гэта мой бацька, цалую яго...“*

Картку я гэтую захаваў. Дастаю ў Бэрліне, шукаю мясьціну па карце. Знаходжу: на граніцы Прус і Польшчы. Наводжу акольнымі дарогамі інфармацыі. Дараджаюць ехаць туды толькі морам пад нямецкім штандарам, бо праз „калідор“ можна папасьці ў рукі польскай паліцыі. Рада жанчыны мне падае некаторыя надзеі на дакладнейшую арыентацыю ў асабістай сытуацыі. Я яго наведаю, і то абавязкова. Калі ён падобны па зьместу хоць крыху да жонкі, адчыніць мне зможа вочы на многія непакоячыя мяне пытаньні.

## Жыцьцё ў Саветах

Падсумоўваючы надыходзячыя з Саветаў весткі аб абставінах жыцьця і працы пад бальшавіцкаю ўладаю, не хацелася проста верыць, каб так там была зацісьнена чалавека воля ў распараджэньні самым сабою. Мімавольна ўспаміналіся асабіста пераэжытыя хвіліны ў ЧК; паўсталі ў вачах асобыя аддзелы, расстрэлы і катаваньні. Так, усё гэта было, але надыходзілі весткі, што там ужо шмат зьмянілася на лепшае, што нашая моладзь цяпер там вучыцца, мае дапамогі, здабывае асьвету... Ёсьць свой беларускі тэатар, свая адміністрацыя, набліжаныя да чалавека ўстановы і г. д. Чалавек губляўся ў дагадках, бо адно супярэчыла другому.

Мой сябра[140] адчуваў адбываную ў маёй сьвядомасьці барацьбу ў расцэнках і ў вельмі асьцярожнай форме зварочваў увагу на факты ды паказваў спосаб на расшыфроўку маскаваных бальшавіцкіх ходаў. Кідалася ў вочы, што нашыя наведвальнікі, заангажаваныя ў бальшавіцкай працы, пры супольным спатканьні абсалютна нічога не гаварылі аб савецкай рэчаіснасьці. Паадзіночку прарываліся часам некаторыя сказы, але вычуваўся ўзаеманедавер, хоць пры спатканьні выяўлялі паміж сабою сяброўства. Затое іх жонкі разьвязвалі языкі і пры першых сутыках з крамамі ў Данцыгу на іх нападаў нейкі шал для закупак рознага бараxла. Пры гэтым паясьнялася, што ў іх нічога нельга дастаць, што ў Саветах людзі ходзяць галодныя, абадраныя, і толькі калі афіцыйна едуць за граніцу, то каб хоць крыху выглядаць на людзей, выдаюць па ардарах, але часта толькі на паездку, а потым трэба варочаць. Ад усяго

[140] Відаць, маецца на ўвазе Андрэй Пашчук.





гэтага веяла жахам і браў сумліў. Падобных выпадкаў потым было значна больш.

Аднаго разу на нашым панадворку зьяўляюцца маладыя — жанчына і мужчына, а зь імі двое маленькіх дзяцей — блізьнюкоў. Мой прыяцель іх пазнае, кідаецца на спатканьне і пры гэтым шырока адчыняе вочы ад зьдзіўленьня. Госьць палахліва азіраецца. У жанчыны пацяклі сьлёзы. Даецца знак „сьмела“! Уваходзяць. Аказваецца, што ён прабіраецца з Кіева. Па старых сувязях даведаўся адрас майго прыяцеля. Едзе, каб на граніцы здацца польскай паліцыі. Выпісаў жонку зь дзецьмі з Валыня на разьвітаньне. У сваім часе быў засуджаны ў Польшчы на чатыры гады, але ўцёк. У Саветах яго прынялі спачатку ветліва і далі працу, але патроху адціскаць пачалі на правінцыю. Хацеў навязаць сувязі са старымі перабежчыкамі, сваімі сябрамі, але даведаўся, што часткова іх парасстрэльвалі, а часткова павысылалі ў лягеры прымусовае працы як праступнікаў.

У абарону нельга сказаць там слова. Калі хто пачынае пратэставаць — адразу канец. Мой прыяцель пытліва зірнуў на мяне... „Значыць, праўда!“ Мяне абдало халодным потам, а характарызуючыя апісаньні плылі адно за другім. Новапрыбылы рад, што вырваўся, але мае страх, што яго могуць камуністыя распазнаць і выкрасьці. Мой прыяцель і гэта прадбачыць і дае перасьцерагаючыя рады. Спатыкалі іх яшчэ некалькі разоў. У канцы наш знаёмы падаўся на польскую граніцу, каб адседзець кару, хоць згары прадбачаны дадатак за пераход граніцы. Можна также спадзявацца, што пачнуць у Польшчы прышываць і шпіянаж. Аб псыхічным стане ягонае сям'і на гэтым месцы гаварыць не прыходзіцца.

## Савецкая агентура

Народу пераварочваецца ў нас нямала. Стараюцца, аднак, прыходзіць паадзіночку, або сыходзяць з дому, каб не спатыкацца зь іншымі. І якіх толькі тыпаў тут я не назіраў і з блізка, і з далёка?! Нямала было прафэсійных разьведчыкаў, якія за грошы прымалі заданьні ад каго хочаш. Паміж імі, аднак, была як бы нейкая карпарацыя і аб'еднаньне ў дапамозе здабываць добра паплатныя матэрыялы. А потым супольна дзяліліся. Чалавечыя адносіны мераліся імі заработкам, а ў сумленьне не заглядалі. Яго ў іх не было. Многія для *„дабра справы пралетарыяту“* хадзілі і па *„мокраму дзелу“* (забойствы і выкраданьне людзей жыўцом). Адбываліся афёры на ашуканствах багатых

разьведак. Труднасьці прадстаўляла для іх ангельская сыстэма, больш наіўнай была амэрыканская і самая нявырабленая — польская.

Мяне жах браў, слухаючы і назіраючы гэты расклад характараў. Мой сябра падкупаюча ўпадаў у тон расказчыкаў, і тыя паддаваліся ў апісаньнях. Пераважна гаварылі аб трэціх асобах, хоць адразу было відаць, што гэтыя „трэція" — найчасьцей яны самі. Нямала было наведваньняў інтэлігенцыі з савецкіх гандлёвых установаў, працаўнікоў кансулятаў. Яны дзяліліся на дзьве катэгорыі: недабіткі старой інтэлігенцыі або выхадцы зь яе — людзі да крайнасьці вычарпаныя і маўклівыя; другую катэгорыю тварыў савецкі парост, які мы тут назіралі. Яны былі задзірыстыя да хуліганства, безадказныя, а дэвізам іх было жыць так, каб мець усё і не папасьціся на злачынстве. Для іх існаваў толькі сяньняшні дзень, а аб заўтрашнім яны ня думалі. Бальшыня спасярод іх вельмі часта пападалася і вандравала ў „лягер", дзе была асаблівая сыстэма для спэцыфічнай кар'еры.

Даходзілі да нас інфармацыі, што наведвае Данцыг і Ваевудзкі, але вельмі патаемна і з намі не спатыкаецца. Мае вельмі агранічанае кола знаёмых.

У хуткім часе зьявіліся Макоўскі і Бабровіч з даволі вялікім штабам сваіх мала ведамых мне людзей. Спаткаліся са мною спакойна, як бы і ніколі нічога варожага паміж намі не адбывалася. Макоўскі ўкрадваецца ў давер; ён хворы на тубэркулёз, просіць ім апекавацца. Жонка прачулена прымае на памешканьне, каб потым адчуць самую дзікую зь яго боку правакацыю. Як потым аказалася, ён быў закінены па партыйнай лініі для беспасрэднага назіраньня за мною. Макоўскі па некалькі дзён адсутнічае. Гаворыць аб абавязках выкладчыка, аб фармаваньні нейкіх кадраў, аб падрыхтоўцы да выбараў у Польшчы... агаворваючыся, што гэтыя пытаньні выплылі са зьместу Грамады, але я ад іх удзелу вызвалены, бо хутка выеду... Пазьней я даведаўся, што была сапраўды арганізавана школа на тэрыторыі Данцыгу, а аддзелы яе былі на Заходняй Беларусі і ў Варшаве, якая пераносілася з аднаго месца на другое, каб не дабралася да яе разьведка з Польшчы. Там выкоўваліся кадры КПЗБ па загадваньню новай палітычнай партыяй „Змаганьнем", прычым загадчыкамі былі ўсе жыды, а падуладныя выключна беларусы. Загадчыкамі былі ўсе партыйцы-бальшавікі, а загадваемыя неканечна, але часткова — так.

Тэмаю „школьных заняткаў" былі надыходзячыя выбары ў Польскі Сойм, і гэтае пытаньне старальна ў „школе" вывучалася. Частыя прыезды да мяне Рагулі заўсёды выклікалі павышаную зацікаўленасьць.





Мой сябра-ўкраінец з Рагуляю жыў у запрыязьненых адносінах, і аднаго разу Рагуля расказваў нам, як ён у страху перад прысудам і магчымаю выдачаю Соймам хацеў уцякаць у Саветы, і шмат сваіх рэчаў праз Данцыг пераслаў у Менск на прызначаную яму кватэру. Затрымка з рэалізацыяй была толькі ў пытаньні аб дзецях. Пазьней, аднак, перадумаў, і які б лёс яго не спаткаў у Польшчы, ён у Саветы не паедзе. Ягоныя расказы, як характарызуючыя цэласьць пытаньня ўзаемаадносін паміж Польшчай і Саветамі, уносілі зусім новае насьвятленьне беларускай праблеме, але тады яны нам здаваліся фантазіяй; на адлегласьці часу аказалася рэальнасьцю. Рыскі ўклад — гэта ўклад на падзел роляў у грабяжы Беларусі і вынішчэньні яе нацыянальных сілаў, а ў цэнтры выкананьня гэтага пляну дзеіць Ваевудзкі са сваім штабам, зложаным з камуністаў і польскіх нацыяналістаў. Луцкевіч — у ролі дапамагатага, не аддаючага сабе справаздачы, што ён робіць і ў якой ён ролі ў сьвятле рэчаіснасьці.

Адначасна Рагуля нас паведаміў, што на грамадаўскім фронце ў сярэдзіне лета як бы ўсё заціхла і замерла.

### Маскоўская імпрэза

На нашым панадворку зьявілася новая пэрсона. Прозьвішча скрыта. Адрэкамэндаваўся „Як сен называ"[141], што было ў ягоным навыку паўтараць гэтыя словы вельмі часта. Галічанін, азартны прэфэрансіст. Лязгаць пачалі ў нас карты часамі праз увесь дзень. Значна пазьней аказалася, што гэта адказны працаўнік маскоўскай цэнтральнай разьведкі. Мы часта спрачаліся зь ім аб савецкай сыстэме дыктатуры пралетарыяту і аб несправядлівых адносінах Саветаў да сялянства. Ён мне параіў выказаць свае погляды ў прэсе. Я напісаў і паслаў у Вільню. Надрукавалі зь нязначнымі папраўкамі, пакідаючы аснаўную думку[142]. Пазьней я даведаўся, што гэта быў спрытны ход, каб злавіць мяне на дакумэнтацыі „праступнага" дзеяньня.

Чакалася, што з канцом так званага „агурковага сэзону", калі ўсе на вакацыях, наступяць у зьмесцы польскай нутраной палітыкі

[141] *„Як сен называ"* (польск. *Jak się nazywa*) — як называецца. Асобы камуніста нам высьветліць не ўдалося.

[142] Цяжка сказаць, якую публікацыю меў тут на ўвазе Юры Сабалеўскі. У беларускай прэсе, якая выходзіла ў Вільні ў 1927 г., артыкулаў на падобную тэматыку нам выявіць не ўдалося. Ня выключана, што Сабалеўскі даслаў свой артыкул у якое-небудзь віленскае польскамоўнае дэмакратычнае выданьне.

кардынальныя зьмены. Чакалі амністыі для палітычных, зьмены ўраду, нейкага ўльтыматуму з заграніцы, эканамічнай санацыі і г. д. У гэтым чаканьні канчаліся летнія месяцы.

Мой прыяцель трохі супакоіўся і менш гаварыў на сучасныя палітычныя тэмы. Нядаўна ён наведваў Амэрыку, і яго старальна распытвалі аб становішчы чалавека працы ў Амэрыцы[143]. Разыходжаньні з савецкімі інфармацыямі былі супрацьлежнага зьместу. Слухаючыя ня верылі стану амэрыканскага дабрабыту і палітычнай свабоды. Аднаго разу наведвальнік „Як сен называ" параіў яму паўстрымацца ад гэтых расказаў...

У другой палавіне лета адбываўся ў Маскве нейкі вялізарны зьезд, ці ня „Крестінтэрну" (Крестьянского Интернационала)[144]. У Данцыгу ішоў масавы запіс на гэты зьезд зь Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Нямеччыны. Макоўскі запрапанаваў ехаць і мне, але толькі па фальшываму савецкаму пашпарту. Я не згаджаюся ехаць наагул. Мой прыяцель выехаў раней ад другіх. Умовіліся карэспандаваць адкрыта, але па пэўнай характэрнай дамоўленасьці. Прызнаць трэба, што ў гэтым пытаньні меў ён вялікую здольнасьць замаскоўваць ад вока савецкага кантралёра нявіннымі і наіўнымі выражэньнямі вельмі складаныя палітычныя пытаньні. Я быў у ролі жанчыны, да якой ён меў пісаць прачуленыя лісты з дальняй дарогі.

Пачалі надыходзіць ад яго спачатку „пустыя" адкрыткі, але для мяне больш чым выразныя аб тым, што мяне абцяжвае ў Саветах многае: *„чамадан мой такі цяжкі, што адзін насільшчык не панясе...“* Папярэджаньні пачалі нарастаць. Масква была паінфармавана аб кожнай дэталі жыцьця і дзейнасьці Грамады. У адным лісьце расхвальвае ён савецкі лад і дапісвае, што мяне „чакаюць" і гасьцінна спаткае брат сябры нашага „Навакоўскі", і ўжо гатова для мяне кватэра з вакном на „Бароткіну Горку". Бабровіч і Макоўскі самі для мяне гэтую кватэру выбіралі. Сумлівам месца не засталося: „Навакоўскі" — камісар палітычнай паліцыі ў Вільні. „Бароткіна Горка" — шпацаровыя дарогі на пляцох Лукіскае турмы, і імі загадвае стары сяржант з часоў яшчэ царскіх — па прозьвішчу „Бародка". Надышло ад прыяцеля яшчэ некалькі лістоў з Масквы аб Бабровічу, які *„вельмі мяне хоча бачыць"*. Для мяне было ясна, што ўсё прыгатавана для маёй ліквідацыі, і ў гэтых закулісах пальцы мачаюць Бабровіч і Макоўскі. Я насьцярожыўся яшчэ больш.

Пачалі варочацца знаёмыя з Масквы, але амаль кожны зь іх вракаўся, што там быў. Макоўскі і Бабровіч прыехалі пазьней, тлумачачы, што былі ў Польшчы, і на доказ прывезьлі мне маю карэспандэнцыю. Наказана было ім усім аб паездцы ў Маскву маўчаць, хоць самі яе арганізоўвалі амаль адкрыта. Прыехаў і мой сябра. Пад страхам, уключна да каптуровай помсты, расказаў аб ачарненьні майго палітычнага становішча перад уладамі Масквы, а Бабровіч выказаў погляд аб неабходнасьці зьліквідаваць мяне. Менш варожасьці выяўляў Макоўскі, але трымаўся ўстаноўкі Бабровіча. Можна было даведацца з гутарак, што Бабровіч зьяўляецца даверанаю асобаю з боку Камінтэрну па пытаньнях Грамады.

Мой сябра зноў некуды выехаў. Папераджала нейкая нарада з двума прыежджымі ў вельмі патаемны спосаб. Гэта былі „джэнтльмэны" самых тонкіх вонкавых формаў. Прыяцель пасьля гэтага, як кажуць, „заныў душою". Курыў бязьмерна, глытаў моцную каву. Ня спаў начамі і прасіў аб нічым яго не пытацца. Аднае раніцы пакінуў запіску, што едзе на даволі доўгі час. Ліст ад яго я атрымаў зь Вены з прыбраным прозьвішчам і папярэджаньнем „сьцерагчыся з вагнём", бо кватэра вельмі блізка каля складу бэнзыны, дык можна „прапасьці з душою".

Наведвальнікамі Данцыга былі часта і былыя працаўнікі Галоўнага Сакратарыяту Грамады, але яны адразу паступалі пад загад нязнанага мне датуль „Корчыка"[145], а кантакт іх са мною выключаўся. Школа КПЗБ па пытаньнях „Змаганьня" была абсалютна ізалявана і старанна праходзіла праграмовую апрацоўку на бурэньне „кулацка-мяшчанскай" спадчыны. Былі ў мяне вельмі рэдкія прыпадковыя спатканьні з гэтым „Корчыкам" (сапраўднае прозьвішча — Лагіновіч) у кампаніі Макоўскага і Бабровіча. Ён быў поўнасьцю пад фанатычным

[143] Дадзеная згадка пра паездку сябра Сабалеўскага ў Амэрыку з'яўляецца дадатковым аргумэнтам на карысьць таго, што гэтым сябрам быў Андрэй Пашчук, паколькі дакладна вядома, што той у 1926 г. езьдзіў у ЗША дзеля арганізацыі дапамогі з боку ўкраінскіх эмігрантаў Камуністычнай партыі Заходняй Украіны.

[144] **Сялянскі Інтэрнацыянал** (Крестьянский Интернационал, Крестинтерн) — міжнародная сялянская рэвалюцыйная арганізацыя, якая існавала ў 1923—1933 гг. Аб'ядноўвала радыкальныя партыі й арганізацыі розных краінаў.

[145] **„Корчык"** (сапр. **Язэп Лагіновіч**) (1891—1940), палітычны дзеяч. Адзін з стваральнікаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі ў 1922 г., у ліпені 1923 г. кааптаваны ў склад ЦК КПЗБ. З восені 1925 г. да лютага 1936 г. — палітычны сакратар ЦК КПЗБ.

вызнаваньнем „службе часу“ па разбудове шляхоў да зрэалізаваньня „пралетарскай рэвалюцыі“. Гэта быў маньяк, але ветлівы ў формах выяўленьня неталеранцыі да яшчэ існуючых формаў грамадзкага ладу.

На пераломе лета 1927 г. у нейкі сьвяточны дзень было ў нас асабліва людна. Наехала безьліч знаёмых да майго сябры-ўкраінца. Дапушчаць можна было, што гэты прыезд не прыпадковы. Распачалася дыскусія па нутраных пытаньнях, і раздавалася нямала неспакойных галасоў пад адрасам сябры. Дыскусія вынеслася на ўзмор'е, а ў гэтым часе да мяне прыехаў Рагуля з супольнымі знаёмымі. Па поглядах і партыйных афармленьнях спаткаліся тут праціўнікі і ворагі. Кампанія сябры была трохі падвыпітая. Ветлівае супольнае спатканьне. Расьселіся на бальконе памешканьня. Гаспадаром быў сябра. На сталах зьявіліся пакункі з выпіўкаю і ядою. Мы з жонкаю дапоўнілі апеку над супольнымі гасьцьмі. Настрой быў ажыўлены і жартаўлівы. Першым заатакаваў камунізм Рагуля. Хоць і падпіты, але быў лягічны і аўтарытэтны. Яму пярэчылі слаба, больш фармальна. У гэтым часе жонка мая Кадаком[146] зрабіла некалькі здымкаў. У нармальных адносінах — рэч звычайная, але не ў падобных, дзе за адным сталом і камуністыя, і нацыяналістыя. У той самы дзень адбіта было шмат копій і раздана прысутным. Фатаграфіі апынуліся хутка і ў Менску, і ў Маскве, і распачалося з боку камуністых і іх верхавіны фармальнае сьледзтва...

Якія вынікі былі з таго — ня ведаю, думаю, што для многіх потым аказаліся фатальнымі. Казалі, што пасол Прыступа[147], украінец-камуніст, палітычна на гэтым спэкуляваў, абвінавачваючы перад сваімі ўладамі сваіх сяброў у „здрадзе працоўнага фронту“. Пры няўсталеных акалічнасьцях нэгатыў гэтае здымкі прапаў з шуфляды незамкнёнага стала. Мой сябра быў упэўнены, што выкралі яго сьвядома, а адбіткі некалі акажуцца пры актах абвінавачваньня і ў Варшаве, і ў Маскве. Чырвоныя будуць судзіць за кантакт зь белымі, а белыя — за кантакт з чырвонымі. І там здрада, і там тое самае, хоць і ў супрацьлежным насьвятленьні.

[146] Маецца на ўвазе, фотаапаратам вытворчасьці амэрыканскай фірмы *Kodak*.

[147] **Фама (Тамаш) Прыступа** (1890 — пасьля 1933), украінскі рэвалюцыйны й палітычны дзеяч, адзін зь лідэраў Украінскай сацыял-дэмакратычнай партыі, пасьля КПЗУ. У 1922—1927 гг. быў пaслом польскага Сойму, спачатку ўваходзіў ва Ўкраінскае парлямэнцкае прадстаўніцтва (зь лютага 1924 г. у яго сацыялістычную фракцыю), а ў лістападзе 1924 г. разам з трыма іншымі пасламі-ўкраінцамі далучыўся да Камуністычнай пасольскай фракцыі. Пасьля эміграваў у СССР, дзе ў 1933 г. быў рэпрэсаваны.





## Непрыемныя ўспаміны (на лекцыях „Робэрта“)

Адносны мой спакой скончыўся. Макоўскі настойліва пачаў дараджаць выяжджаць найхутчэй у Саветы, бо з падыходам „восені“ можна больш адпаведна ўстроіцца на працу. Анкета на атрыманьне савецкага пашпарту была на выгляд самага спакойнага зьместу. У рубрыцы, куды і на якую працу хачу ехаць — я запісаўся на дарожныя досьледы Сібіры. Праз пэвен час выклікалі ў данцыскі Савецкі консулят на перагаворы. З консулам я спаткаўся, але я ня ведаў аб ягонай службовай функцыі. Другі раз я быў разам з Макоўскім. Вялася „прыятная бяседа“ ў прысутнасьці новых і незнаёмых асобаў. Відаць было, што незнаёмыя маюць рангі, вышэйшыя ад консула.

Запрапанавана было ехаць на савецкім параплаве праз Ленінград. Макоўскі трымаўся больш разьвязна, як звычайна. Гэта відаць было ў рэзультаце здачы выкананага ім заданьня.

Да лічбы дараднікаў дадалася мне цяпер новая асоба — нейкі „Робэрт“[148]. Малады, прыгожы, настойлівы і нахабны жыд. Заўсёды ўпэўнены ў самім сабе. У прысутнасьці іншых паблажлівы згары, накідваючы свае погляды і не прымаючы ніякіх запярэчаньняў. Яго лічаць самым высокім савецкім давераным на Польшчу і Нямеччыну.

Крывадушнасьць і ілгарства Макоўскага і Бабровіча наказалі мне быць зь імі вельмі асьцярожным, ім ня верыць. Найлепш было б адагнаць іх ад сябе, але пры ўтворанай сытуацыі я ад іх вока ня мог адарвацца. Аб „Робэрце“ гаварылі яны зь вялікім захапленьнем. Па іх акрэсьленьні, „Робэрт“ — гэта такі чалавек, які патрапіў канчаткова адарвацца ад жыдоўскага мяшчанства і ўласным высілкам без грунтоўнай асьветы дайсьці да становішча аўтарытэтнага выкладчыка і камэнтатара марксізму ў партыі. „Робэрт“ быў для іх непамыльным аракулам у аналізе разьвіцьця падзеяў. Яны былі ўпэўнены, што Масква ў недалёкім часе прадыктуе наказ і для Варшавы, і для Бэрліну. Відаць была іх кар'ерная стаўка на „Робэрта“, а праз яго і для сябе.

[148] Пад псэўданімам **„Робэрт“** дзейнічаў **Абрам Розэншайн** (1898—1937), адзін зь лідэраў заходнебеларускага камуністычнага руху, сябра ЦК КПЗБ. Быў вядомы таксама пад псэўданімамі „Макс“ і „Максімоўскі“. Нарадзінец вёскі Лукомір Пружанскага павету (цяпер Бярозаўскі раён Берасьцейскай вобласьці). Пасьля завяршэньня дзейнасьці ў заходнебеларускім камуністычным падпольлі некаторы час быў адказным рэдактарам польскай газэты *Trybuna Radziecka* („Савецкая трыбуна“), якая выдавалася ў Маскве. Рэпрэсаваны, 26 кастрычніка 1937 г. расстраляны.

Аднаго разу Макоўскі пераказвае мне запросіны „Робэрта“ быць у яго на „прыватным“ памешканьні, дзе ён мае перадаць для мяне вельмі важныя весткі. Іду на вызначаны адрас і час. Гэта арыстакратычная частка гораду. Спатыкаемся з „Робэртам“ каля самае яго кватэры на вуліцы, але ён просіць прыйсьці да яго заўтра: сяньня ён страшэнна заняты. Каля яго натоўп чалавек каля 15, або і болей таго, і ўсе — не беларусы. Запрашае далучыцца і знаёміць з усімі на вуліцы, вымаўляючы маё прозьвішча і становішча асабліва выразна. Кожны вітаецца і называе нейкае прозьвішча, зразумела, важнае толькі на гэты раз. Вядзе па дарозе гутарку ўпэўненым тонам. Ён быў сярод прысутных на галаву вышэйшы і выглядаў на інструктара пры школьніках па фізкультуры. Зь ім разам былі Макоўскі і Бабровіч.

Назаўтра я ў „Робэрта“. Памешканьне асабліва выстаўнае, з выразнымі азнакамі буржуазнасьці. Немка-пакаёўка ў прыслугоўваючай уніформе, просіць пачакаць. Выходзіць „Робэрт“, фамільярна трэпле мяне па плячу, рассыпаецца ў танных, фальшывых камплімэнтах, тонам паблажлівасьці камандзіра да радавога з „вольноопределяющихся“. Пачынаюць падыходзіць тыя самыя людзі, зь якімі спатыкаўся я ўчора, да іх яшчэ больш новых, нязнаных. Знаёмімся. Астатнімі прыходзяць Макоўскі і Бабровіч. Асобна прыходзіць „Як сен называ“. Не вітаецца, а толькі агранічваецца кіўком галавы пад адрасам усіх і мосьціцца ў куток.

„Робэрт“ мэтадычна папівае каву і пачынае выкладаць палітычны агляд падзеяў у Польшчы, і навязвае яго да майго прыезду ў Данцыг. Аснаўною тэмаю была Грамада. З вывучанай манернасьцю аўтарытэтнага дакладчыка „Робэрт“ ціхім голасам і асаблівою інтанацыяю прапаведніка распачынае з характарыстыкі Грамады ў прыблізна такім зьмесьце:

*„Грамада, як пратэстуючае „начала“, спаткана была нашым пралетарыятам прыхільна, але паколькі Грамада сяньня пачала статутова афармляцца і займаць акрэсьленую самастойную лінію ў пытаньнях палітычнага змаганьня, то такі стан у жыцьці Грамады супярэчыць аснаўной лініі пралетарскай рэвалюцыі.*

*„Пратэстуючыя началы“ — зьявішчы дадатныя, і яны павінны не даваць буржуазіі спаць спакойна. Зьмест „пратэстуючых начал“ не адыгрывае ролі, і чым большае поле абхвату імі, тым для бальшавікоў лепш. Грамада пачынае афармляцца статутова, і гэта тады, калі на палітычнае афармленьне ёсьць адзін толькі статут — гэта статут камуністычнае партыі. Усе іншыя статуты, як самыя блізкія, так і далёкія, зьяўляюцца ворагамі пралетарыяту і павінны быць зьнішчаны ў самым зародку. Працэс над Грамадою ў Польшчы будзе спрыяць ачышчэньню яе ад буржуазнага налёту і з-пад абуха над ёю адваляцца пераходныя формы і выявяцца праўдзіва-пралетарскія сілы“.*

Цяжка сяньня прыпомніць усе аргумэнты і выснавы „Робэрта“, яны зводзіліся да аднаго: *„Грамада ня можа быць дапушчана да статутовага афармленьня, асабліва ўпярэдадні новых выбараў у Сойм. Тактыка бальшавікоў павінна быць так застасавана, каб распачаты палякамі пагром Грамады дайшоў ужо да самых глыбін, і тады адбудзецца сам сабою кантрольны адсеў шкоднага, няпэўнага і прыпадковага элемэнтаў. Гэта па зьместу, а па форме — належыць падымаць найбольшы крык пратэсту. Гэта моцна абцяжыць польскі ўрад і выкліча сымпатыі да Грамады, якая паступова ў гэтым часе перакуецца ў зброю пралетарыяту“*. Зь мінаю прафэсара скончыў „Робэрт“ сваю лекцыю і разважаньні. Прысутныя абдарылі яго ветлівымі позіркамі, і распачалася дыскусія на тэму Грамады. Некаторыя былі даволі разьбітныя ў стаўляньні палітычных пытаньняў, але трэсавальна[149] аднабока па трафарэту бальшавіцкай артадоксіі; другія, а іх бальшыня, свае погляды выкладалі вельмі хаатычна, паслугоўваючыся малазразумелым слоўным жаргонам, наборам слоў, высіляючыся папасьці ў „генэральную лінію“ поглядаў і расцэнак „Робэрта“. Агідна было назіраць ролю Макоўскага і Бабровіча. Людзі амаль з закончанаю вышэйшаю асьветаю перад дэмагагічным нахабствам местачковага гандляра моўчкі ківалі яму ў такт галовамі, паддаквалі, адобрывалі асабліва па бальшавіцкі крыклівыя акрэсьленьні. Лекцыя скончылася. Разыходзіліся на абед. Трэба пры гэтым адзначыць, што аўдыторыя карысталася толькі з дарагіх рэстаранаў.

Варочаўся я дадому ў штораз, то больш прыгнечаным настроі. На другі дзень была вызначана чарговая лекцыя, а ў ліку запрошаных — я.

Тая самая рытуальная ўступная частка самаўпэўненага „Робэрта“. Трэба прызнаць, што, трымаючыся вельмі павярхоўнага мэтаду аналізу ў чыста бальшавіцкай падтасоўцы фактаў, гаварыў складна. Расейская мова была ў яго бяззакідная. На чарзе была характарыстыка Тарашкевіча. „Мілы Бронэк“ было яго абагульняючым акрэсьленьнем зьместу Тарашкевіча. Наступным быў Ваевудзкі. Сальвэсь, Сальвэстры... Абодва яны расцэньваліся партыяй бальшавікоў вельмі высока, асабліва

[149] *„Трэсавальна“* (ад польск. *tresować* — дрэсураваць) — выдрэсуравана.

Ваевудзкі. Узаемна адзін другога дапаўнялі і зьяўляліся пэрламі ў палітычным руху ў Польшчы.

Тарашкевіч зразумеў памылковасьць ходаў у афармленьні Грамады самастойным статутам і дазволіў „прадстаўнікам пралетарыяту“ на заняцьце ў Грамадзе ролі „выпраміцеля“, а што ён маўчаў аб гэтым, на што я часта жаліўся, то гэтага вымагала тактыка „внедрения“. Паддаваць гэтае пытаньне дыскусіі было нельга. Чарговы этап у жыцьці і разьвіцьці Грамады наступіць пасьля працэсу над Грамадою. Варочаюся да асобы Тарашкевіча, „Робэрт“ паясьніў, што Тарашкевіч — кандыдат партыі бальшавікоў і мае часовы ўмоўны партыйны білет, а таму ў Тарашкевіча на першым месцы ўзалежненьне ад пастаноў партыі і абавязваючае захаваньне сакрэтаў ад сяброў па Грамадзе, як партыйца да непартыйцаў[150]. Такі закон бальшавіцкай партыі, і пад гэтым поглядам Тарашкевіч выказаў узорную бальшавіцкую дысцыплінаванасьць. За гэта Тарашкевіча хваліць толькі трэба. Тарашкевіч, паводле „Робэрта“, меў у адносінах да мяне засьцярогі ў напрамку майго „амяшчаненьня“ і вызнаваньня культу кулацтва сялян.

Аўдыторыя па завучанаму трафарэту, як на канцэртах, паддаквала „Робэрту“, а той набіраў большай цванлівасьці. Кожны раз я набіраў пераконаньня, што Грамада апынілася на лаве абвінавачваньня польскага суда не без удзелу ў тым бальшавіцкай вырашальнай верхавіны. Прыгавор над Грамадою па яе зьместу ня будзе выносіць польскі суд, а абвінавачваньне і кара ўжо вынесены бальшавікамі.

Рэфэраты і сэмінары ішлі па чарзе. Зьмест абвяшчаўся на ўступе. Мяне яны і цікавілі, і пужалі сваім цынізмам. З кожным разам пасьля адбытай робэртаўскай „навукі“ ніці на магчымае маё існаваньне на тэрыторыі Саветаў абрываліся адна за другою. Назіраная савецкая рэчаіснасьць ня больш, як дымавая завеса, за якою адбываецца страшэнна складаная сыстэма вынішчэньня нявыгадных для партыі элемэнтаў.

[150] Браніслаў Тарашкевіч уступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі ў сьнежні 1925 г., падчас працы IV канфэрэнцыі Камуністычнай партыі Польшчы (КПП). Пра гэта, у прыватнасьці, згадваў у сваіх пазьнейшых успамінах вядомы тагачасны партыйны функцыянэр Мікалай Арэхва (Орехво, Н. Дела и люди КПЗБ. Минск, 1983. С. 83—84), а таксама сам Тарашкевіч у сваіх паказаньнях, дадзеных сьледчым НКВД у канцы 1933 г. (Валахановіч, А., Міхнюк, У. Споведзь у надзеі застацца жывым... С. 62). Акрамя таго, паводле сьведчаньняў Тарашкевіча, у 1926 г. з грамадоўскага кіраўніцтва былі таксама прынятыя ў Камуністычную партыю Павал Валошын, Пятро Мятла й Радаслаў Астроўскі (Тамсама. С. 66).





Найменшае падазрэньне ў неадпаведнасьці сказвае на поўнае вынішчэньне. Новая там этыка, новая там мараль і канчатковая забарона чалавеку мець права на ўласны погляд.

Я рашыў ня ехаць. Але з чаго жыць і што распачынаць, бяз срэдзтваў на існаваньне для ўсіх траіх[151]?

Пробую разьвязаць матэрыяльнае становішча, але безь ніякіх надзей. Час бяжыць, а пацяшаючага абсалютна нічога. Грунт пад нагамі звужваецца і, ясна, хутка дойдзе да кульмінацыйнага пункту і тады — катастрофа.

Я прыхаджу заўсёды ў вызначаны час... Тая самая ўступная працэдура, але што раз, то ў трохі зьменным складзе слухачоў. Пападаюцца адзінкі беларусы, але трымаюцца яны на адлегласьці і ў гутаркі не ўступаюць. Хто яны? Адкуль? Якою дарогаю трапілі сюды? Відаць — сакрэт. Прыглядваe ў спосабе іх захоўваньня ўжо скончаная школа і адбытая практыка.

### Бальшавіцкая расцэнка Грамады

Наступнаю тэмаю зноў было аб Грамадзе. Я і мая дзейнасьць пасьля арышту сяброў. У прытарна-салодкіх словах уступу „Робэрт“ уматываваў выбар тэмы, бо я адзін застаўшыся на волі і на мне ляжыць значны абавязак, каб дапамагчы паставіць пытаньне аб Грамадзе на адпаведнае палітычнае месца. З кожнага сказу на мяне валіліся з вуснаў „Робэрта“ абцяжаньні і выліваўся патокамі бруд. Сьмяротнае маё праграшэньне — гэта недавер да Ваевудзкага, якому верыць сам Сталін і партыя ў цэлым. Другое — далучэньне да Беларускага Пасольскага Соймавага Клюбу. Трэцяе — адмова пераводу Грамады ў падпольле. Мае выступы ў Сойме, хоць і адпаведныя, але не адбіваюць праўдзівых настрояў „пралетарыяту“ Беларусі, які імкнецца да рэвалюцыі і аб’еднаньня зь Менскам. Уся пабудова маіх прамоваў у зьмесьце ідэалёгіі — праўдзіва кулацка-мяшчанская. Аўдыторыя, відаць, была прыгатавана часткова, і Макоўскі з Бабровічам не шкадавалі закідаў супроць мяне, паясьняючы, што яны выказвалі сваю гатоўнасьць у крытычную хвіліну дапамагаць мне, але я ўпорыста адкідваў іх рады і пайшоў у фальшывым напрамку. Асабліва мне дасталося за мой удзел у апецы над палітычнымі вязьнямі, дзе я трымаўся зусім фальшывага і шкоднага для партыі напрамку.

[151] Відаць, Сабалеўскі мае на ўвазе, акрамя сябе, таксама і жонку зь дзіцём.

*„У пралетарскай барацьбе,* — казалі яны, — *заданьнем ёсьць як найбольш прапусьціць людзей цераз буржуазныя турмы, паддаць іх там палітычнай апрацоўцы і намеціць сярод іх кадры для надыходзячай міравой рэвалюцыі. Можа, напрамак дзеяньня ўводзіў мяшчанскі сэнтымэнталізм як у адносінах да заарыштаваных, каб іх вызваліць з-пад прысуду, так і ў адносінах да іх сем'яў на волі. Усё разам узятае ў дзейнасьці маёй апекі над арыштаванымі супярэчыць заданьням палітычнага ўзгадаваньня і адцягвае ўвагу ад выпрацаваньня характараў у напрамку зрэалізаваньня рэвалюцыі і перамогі дыктатуры пралетарыяту“.*

Не было сумліву, што Бабровіч і Макоўскі папярэдне ролі свае ўзгаднілі з „Робэртам“ і зьявіліся на гэты сход прыгатаванымі, для выяўленьня на ім „голасу народу“.

У інтэрвалах выкладаньня пунктаў майго грэхадзеяньня падыходзіў да мяне „Робэрт“ і апякунча пахлопваў па плячы, абяцаючы „міласьцівае“ разграшэньне, тлумачачы мае грахі толькі палітычнай маёй нясьведамасьцяй. Злосны намер з боку майго ў гэтых справах выключаецца. Некалькі разоў іранічна „Робэрт“ праяжджаўся пад адрасам Рагулі, абзываючы яго рознымі паніжаючымі прозьвішчамі, як падгалоска ў руках хітрага езуіта ксяндза Станкевіча, запавядаючы, што зь імі разьлік на чарзе. Мяне трасло ад гневу і абурэньня, і ледзь панаваў над сабою. Аўдыторыя іранічна ўзіралася на мяне, назіраючы робэртаўскае глумленьне.

Агіда брала, слухаючы павучэньні гэтага дарваўшагася да бальшавіцкай улады местачковага балагола. Хто ён такі па ўзгадаваньню і асьвеце — я ня ведаў. Былі ў яго вярхі веды і глыбіня нахабства, аплёмбу і ўсязнайства. І гэтая духовая і маральная мізэрнасьць імкнулася дыктаваць волю беларускаму народу! Жах!

Хадзіў я на гэтыя зборкі і па запросінах, і без запросінаў. Хадзіў на гэтую агіду, як ходзяць гідратэхнікі і мэліяратары на адстойныя палі гарадзкіх адыходаў і калупаюцца ў кляаках; як ходзяць лекары і студэнты-мэдыкі ў празэктарыюмы[152] і моргі.

Рытуал „Робэрта“ на ўступе заўсёды распачынаўся зь пераадзяваньня выхаднога касьцюму на рабочы, і то ў прысутнасьці „аўдыторыі“, фамільярным прывітаньнем. Наказ пакаёўцы падаваць яму каву і розныя торты, па якасьці даступныя толькі вельмі багатаму і вымагальнаму буржуазнаму гастраному. Развальваньне ў мяккім крэсьле. Павольнае вывучанае жаваньне і ў гэтым часе чытаньне пошты; час ад часу кіданьне да „аўдыторыі“, ня гледзячы на яе, запытаньняў. Яна ж хорам і вельмі старальна, па хэдараўскай сыстэме[153], яму адказвала. Да закусачнага стала нікога ніколі не запрашаў. Па званку зьяўлялася выстраеная пакаёўка, спраўтварала стол, шалесьцячы накрухмаленым фартушком, ды мерна адыходзіла з падносам і недаедкамі. „Робэрт“ тэатральным ходам засядаў за пісьменны стол і пачынаў выцэджваць „ісьціны“.

У некаторыя дні зьяўляліся да „Робэрта“ ніколі перад гэтым не спатыканыя саноўныя асобы, трымаючыся вельмі таямніча. Як інфармаваў Макоўскі, гэта былі прадстаўнікі пасольстваў і консулятаў, безьліч рухавага маладняка, розных „сакратарак“, якія сваімі манэрамі здраджвалі сваю спралетарызаванасьць да вызбыцьця элемэнтарнага сораму і адрабіны гонару. Курылі папяросы амаль усе, і шмат пілі алькаголю. Заняткі разьбіваліся па групах, і былі нейкія „разведзяшчыя“ на розныя канцы гораду і прыгарады, пераважна курортныя мясьціны Цопат[154], Аліва[155] і Лянгфур[156]. Я мала знаў расклад гэтых аддзелаў, ня меў зь імі сутычнасьці. Трапіў раз прыпадкова ў інфармацыйнае бюро, дзе дзясяткі народу сядзела за сталамі, за машынамі. Зь безьліку газэт у розных мовах рабілі выразкі і наклейвалі на картоны і сыстэматызавалі. „Робэрт“ аблётам даваў заўвагі па нейкаму коду і перадказваў даручэньні. Праглядаў некаторыя матэрыялы і па аддзельных сказах можна было зразумець, што бюро вядзе працу статыстыкі па розных краінах, але якую — зразумець было нельга. Цікавіцца зблізка не выпадала, ды і ахвоты не было. Згары можна было быць упэўненым, што вялася праца на падрыў, ломку і вынішчэньне ўсяго, што не ўкладалася

[152] **Празэктарыюм** (*prosektorium*) — аддзел больніцы, мэдычнай або вэтэрынарнай навучальнай установы ці дасьледчага інстытуту, у якім праводзіцца ўскрыцьцё целаў мёртвых людзей ці жывёлаў.

[153] Відаць, маецца на ўвазе сыстэма навучаньня, прынятая ў габрэйскіх рэлігійных пачатковых школах — хедэрах.

[154] Маецца на ўвазе курортны горад **Сопат** (*Sopot*), які ляжыць паміж Гданьскам і Гдыняй і сёньня стварае зь імі адзіную гарадзкую агляммэрацыю пад назвай „Труймяста“ („Трайны горад“). У міжваенны час у беларускай мове была пашыраная нямецкая форма назвы гэтага гораду — Цопат (*Zoppot*). Так яго называе й Сабалеўскі.

[155] **Аліва** (*Oliwa*) — гарадзкі раён на захадзе Гданьску, які на поўначы мяжуе з Сопатам.

[156] **Лянгфур** (*Langfuhr*) — нямецкая назва гарадзкога раёну, які ляжыць на поўнач ад цэнтру Гданьску. Цяпер гэты раён называецца польскай назвай Вжэшч (*Wrzeszcz*).

добраахвоць у рамкі бальшавізму. Пры гэтай аказіі я бліжэй пазнаёміўся са сваім земляком са Стоўпцаў, як ён сам аб гэтым паясьніў[157], раней успомненым „Корчыкам", зь вельмі чоткаю і прыгожаю беларускаю вымоваю. Чамусьці ў параўнаньні з другімі апрануты быў вельмі бедна. Сядзеў у Стоўпцах у паліцыйным падвале пагранічнай паліцыі, і яму пагражала небясьпека за нейкую дзейнасьць супроць Польшчы. У часе нападу на Стоўпцы бальшавіцкай дывэрсыйнай банды ў 1925 г. яго вызвалілі[158]. Якою дарогаю сюды трапіў — не сказаў, як і не сказаў аб сваім становішчы ў гэтым бюро.

Бюро рабіла ўражаньне сапраўды працуючага. У складзе пераважаў маладняк студэнцкага тыпу, інтэлігенцкага зьместу. Перакідаліся чужаземнаю моваю, устаўляючы польскія і расейскія словы. Гэта былі не жыды і не расейцы. Скарэй французы і сухапарыя ангельцы. Часткова бляндыністыя немцы. Тут працавалі нейкія „спэцы".

Часта можна было спаткаць у „Робэрта" балбатлівага і ня менш самаўпэўненага ад гаспадара ягонага паплечніка — нейкага „Шашу". Аднаго разу ў перадпакоі кватэры „Робэрта", чакаючы са мною на выхад гаспадара, які быў на тую пару заняты прыёмам таямнічага наведвальніка, з напісаным на твары задавальненьнем расказваў мне „Шаша", як свайму добра ўжо знаёмаму з папярэдніх тут спатканьняў, што яму ўдалося набыць транспарт зброі і пераадправіць яго па фактуры „мыла" ў Шанхай. Апэрацыя ўся адбывалася на адкрытым моры, з транспарту на транспарт пры асабліва верных людзях, але якім трэба салідна плаціць. У руках „Шашы" быў цэлы жмут рознакаляровых паперак, сымулюючых гэтую апэрацыйнасьць[159]. Незнаёмы выйшаў,

[157] Насамрэч Язэп Лагіновіч (Павал Корчык) паходзіў ня з Стоўпцаў і нават не з Стаўпеччыны, а зь вёскі Заўшыцы Слуцкага павету (цяпер Салігорскі раён Менскай вобласьці).

[158] Налёт на Стоўпцы прасавецкіх партызанаў пад камандаваньнем Станіслава Ваўпшасава (54 чалавекі) адбыўся 3 жніўня 1924 г. Партызаны разграмілі гарнізон і чыгуначную станцыю, а таксама староства, павятовую паліцыйную ўправу, гарадзкі паліцыйны пастарунак, захапілі турму. Разам зь Язэпам Лагіновічам (Корчыкам) падчас гэтага налёту быў вызвалены кіраўнік вайсковай арганізацыі Кампартыі Польшчы Станіслаў Скульскі (Мэртэнс). Пры гэтым 8 паліцыянтаў былі забітыя, а 3 — параненыя.

[159] У Кітаі ў гэты час якраз ішла грамадзянская вайна паміж сіламі, падкантрольнымі кітайскім уладам, Гоміньданам і прыхільнікамі мясцовай Камуністычнай партыі. У красавіку 1927 г. у Шанхаі адбыліся масавыя арышты гоміньданаўцамі сваіх ранейшых тактычных саюзьнікаў, камуністаў, якія⇨





асабліва галянтна разьвітваючыся, а ўскінуты ў наш бок позірк „Робэрта" застыў у напрамку „Шашы". Кароткая інфармацыя „Шашы": *„усё, як найлепш..."* Вітаюцца асабліва прачулена. „Робэрт" прымае паперы. Хваліць „Шашу" за спрыт. Прадракае яму вялікую кар'еру. Фактам здарэньня і я пры іх... Гутарка аб грашах... Гэта не вырашальнае пытаньне, важна мэтазгоднасьць. Углядваюцца пры гэтым у паперкі. Абодва ў стане надзвычайнага здавальненьня. Больш спакойным тонам „Робэрт" паказвае 100-даляравы банкнот, выцягнуты з шуфляды стала, які, паводле ягоных словаў, „сваёй работы", і ня кожны экспэрт амэрыканскага банку яго распазнае. Для рысоўкі паслаў у горад разьмяняць. „Шаша" мігам справіўся з поўным посьпехам. „Робэрт" увайшоў у настрой апавяданьняў аб іншых валютах, пераважна высокіх курсаў, на якіх трымаецца этыка капіталізму, і бальшавікі патрапляюць лавіць для сваіх мэтаў „дуракоў аглупелага сьвету". Тут была прачытана амаль лекцыя аб умоўнасьці грашовае вартасьці і надыходзе тае пары, калі пытаньне грошай станецца перажыткам. А нас было толькі траіх і не разумеючая нас пакаёўка-немка, прыбіраўшая стол[160].

„Шаша" быў апрануты з паказною арыстакратычнасьцяй, і адразу было відаць, што гэта толькі непрывычная для яго дэкарацыя, кантраст з „Робэртам". З-пад гэтае вопраткі „Шашы" веяла мястэчковым прастацтвам, а вымова ягоная была проста карыкатурнай: польска-жыдоўскі жаргон з уплётам расейскіх слоў, у дадатак скалечаных вымоваю да непазнаньня.

### Харчовае пытаньне ў СССР

Можна было дапушчаць, што тэмы для лекцый не былі прыпадковыя. Ставіліся тыя пытаньні, якія ляжалі ў зьмесьце апазыцыйных настрояў супроць фактычнага стану бальшавіцкага дзеяньня. Была пабудавана як бы сыстэма разьясьненьняў, выясьненьня прычын і накіраваньняў. Праводная ўва ўсіх была адна — стары лад павінен быць да каранёў зьнішчаны. Ліквідуюцца ў першую чаргу асабліва

⇨ выліліся ў вынішчэньне апошніх. Гэтыя падзеі атрымалі назву Шанхайская разьня. На дапамогу абяскроўленым кітайскім камуністам, мабыць, якраз і накіроўвалася зброя, пра якую згадваецца ва ўспамінах Сабалеўскага.

[160] Увогуле выглядае даволі дзіўна і нават неверагодна, што камуністы, аснова дзейнасьці якіх у падпольлі заўсёды была найстражэйшая канспірацыя, маглі так вольна гаварыць пра падобныя справы ў прысутнасьці чалавека, якога не лічылі адназначна сваім.

небясьпечныя для бальшавізму асяродкі. Пакідаюцца часова перахадовыя і асабліва закараніўшыя. Залежна ад канструкцыі перашкодаў, ужываецца і зьменная тактыка ў нішчэньні. Бальшавізм, стаўшы на дарогу дыктатуры, не адступае, а толькі мяняе спосабы падыходу да свайго праціўніка. Загадвае ўсім бальшавіцкім дзеяньнем цэнтар партыі і спускае наказ для выкананьня. У наказе дзеяньня сканцэнтравана сутнасьць бальшавізму, і на гэтай дарозе няма адзінкі, няма індывідуальных патрэбаў, ёсьць толькі калектыў, дамінуючы над адзінкаю...

Пачаткуючаму слухачу гэтыя рэчы трудныя для зразуменьня. Тут месца нясьведамаму ўспрыняцьцю, а трэсура[161] ў падпарадкаваньні, бяз права зазіраньня і крытыкі цэнтру.

У мяне засталося ў памяці адно выясьненьне „Робэрта“ на тэму голаду ў Саветах і нястачы артыкулаў першае патрэбы. *„Прадуктаў харчаваньня*, — паводле „Робэрта“, — *як і гаспадарчых прыладаў, у Саветах больш, як пры царызьме. Партыя і яе ўрад прынялі тактыку прымусовага асвойваньня савецкім жыхарствам новага ладу. Прыдзел харчовых прадуктаў адбываецца ў простай залежнасьці ад выкананьня пэўнага партыйнага заданьня, як паасобнымі грамадзянамі, так і абласьцямі. На базе харчаваньня — партыя, а зь ёю і савецкі ўрад, вядуць назіраньне за чалавекам аб ягонай зараднасьці і спосабах разьвязваньня таго ці іншага пытаньня. Пры гэтым галоўнае — каб не прапусьціць магчымасьці пераканацца, ці чалавек толькі маскуецца, вонкава толькі ўкладаецца ў савецкую сыстэму, ці сапраўды стаўся савецкім, да партыі поўнасьцю ляяльным. Прагаварыць да чалавека цераз жывот значна прасьцей і аўтарытэтней, чымсь праз мазгі. Мазгі могуць прапусьціць і забыцца, але жывот — ніколі, ён прыпомніць чалавеку аб ягоных абавязках, і з таго атрымае надзею і на правы. Савецкі ўрад ня мае намеру абкормліваць ліцамераў і сваіх клясавых ворагаў. Кожны, хто ў стане прадставіць доказы вернасьці службе пралетарыяту, нястачы ў прадуктах харчаваньня ня мае, так, як і ў патрэбе вопраткі. Калі назіраецца ў Саветах сыстэма „закрытых распрэдзяліцелей“ для партыйных службоўцаў, дык гэта ня ёсьць карыстаньне з прывілегіяў, а толькі сыстэмаю прыдзелу здаўшых іспыт у адданасьці „народу“ — прыдзел тым, якія будуюць сацыялізм і на якіх партыя можа надзеяцца“.*

Цікавілі мяне заработкі спасярод тых, якія я спатыкаў на робэртаўскіх лекцыях. Пытаньне гэта належыць да абсалютна закрытых, але

[161] *„Трэсура“* (ад. польск. *tresura*) — дрэсура.





Макоўскі не ўстрымаўся, каб не падкрэсьліць сваіх пераваг над беспартыйнымі. Макоўскі мае на дзень 17 дал., Бабровіч значна больш, бо мае дадатковую нагрузку „па Грамадзе“. Пачаткуючы маладняк і нова прынятыя, якіх мы спатыкаем тут — 11 дал. Пры гэтым зварот усіх рэчавых выдаткаў, залежна ад патрэбы па выконваемым заданьням. Наведваньне рэстаранаў і адкрытых месцаў масавых сходаў належыць да абавязку партыйца з прызначаньня на гэтую працу. Адны наведваюць прытоны і партавыя карчмы, і там маюць сутык і кантакты ў адпаведным афармленьні, другія, з мэтаю спатканьня і вэрбаваньня кліентуры спасярод „кутящих“. Партыйныя жанчыны [робяць] тую работу, якая ім, як жанчынам, адпавядае, і партыя да іх поўна пашаны. Многія спасярод такіх жанчын жонкі партыйцаў і маткі сваіх дзяцей.

Назіраў гэтыя абразкі з асачваючай сучаснасьці ў самым шырокім разгаліненьні, і ня мог разумець і жыцьця, і працы гэтых людзей. Паўставала пытаньне, ці бачанае трэба аднесьці да катэгорый зьявішч бессыстэмных, ці да ўкладу гэтай бессыстэмнасьці ў нейкую сваістую савецкую сыстэму?

Скарэй за ўсё, што гэта ўсё ж сыстэма бальшавіцкага вынаходу, і тут крыецца нейкая іх сіла, якая патрапляе бурыць стары ўклад і дапамагае бальшавікам ня толькі ўтрымлівацца на сваіх нагах, але ў сваім паходзе жаху і сьмерці ісьці наперад!

На стале ў мяне шмат карэспандэнцыі зь Менску. Маладняк-студэнты ў захапленьні. Пішуць мне застаўшыяся ў жывых калегі па фаху, землеўпарадчыкі, і ў тым самым настрою. Адкрываецца ім новы сьвет, манячы сваею пазытыўнасьцю і рэальным вырашэньнем. Гісторыя „ЧЭКА“ асуджана, і вінаватыя панесьлі заслужаную кару... Пазьней я зразумеў, што насьвятленьне было няпоўнае і аднабокае. Пісаў гэтыя лісты элемэнт упраўленчаскі і кандыдаты на ўпраўленьне, але адсутнічае голас таго, кім гэты элемэнт упраўляе, голас савецкага аратага, якіх на беларускіх абшарах было 85%, людзей ад станка, гарадзкога і мястэчковага пралетарыяту, жыўшага з прыпадковай некваліфікаванай працы. Ня мелі яны ніякіх палітычных правоў за часоў царату[162], а яшчэ менш маюць пры ўладзе Саветаў. Абманам, стаўкаю на нясьведамасьць зманілі ў авангарды бальшавіцкага наступу, а потым, калі ўлада апынулася ў бальшавіцкіх руках і штыком і куляю яе аргумэнтавалі, каб не плаціць па сваіх рахунках і не апынуцца ў ролі палітычнага банкрота, элемэнт гэты або канчаткова разлажылі маральна для выкарыстаньня ў

[162] *„Царат“* (ад польск. *carat*) — царызм.

чарговых фалях наступу, або па выкарыстаньні павыстрэльвалі. Працэс гэты, узаконены фактам паступаньня бальшавікоў, трывае і па сяньня.

Ад імя працуючага безь яго ўпаўнаважаньня, насуперак інтарэсам праўдзіва працуючых, гаворыць бальшавіцкае чырвонае дваранства. Прыстаўленыя да людзей працы прыганятыя пільна сочаць над выкананьнем і перавыкананьнем наказу партыі і асабліва, каб чалавек працы аб сваіх патрэбах не пасьмеў загаварыць, або наступствы з таго да прадбачаньня. Таму савецкія кадры ўпраўленчаскага апарату такія мнагалікія і так там чалавек працы гэтаю чырвонаю апекаю ахоплены, што не бывае вольным ніколі. Вытварылася ў яго псыхалёгія раба з часоў старажытнасьці, а таму ў гэтым асяродзьдзі няма месца на рэформы ўкладу жыцьця, а толькі помста. У гэтым ціхім, глыбока скрытым працэсе адбываецца стабілізацыя фактычнага стану бальшавізацыі кожнай краіны пад уладаю маскоўскага расейскага бальшавізму, які ў сваіх складовых элемэнтах мае ўсю суму расейскай спадчыны будаваньня „Трэцяга Рыму“.

Часта ў дапамогу „Робэрту“ выступалі наежджыя лектары. За выняткам толькі аднаго выпадку, былі ў гэтых ролях вылучна расейцы, з асьветаю, выяўляўшыя манеры арыстакратызму старое школы. Гэта быў рэзкі кантраст паміж слухачамі, робэртамі і макоўскімі. Тэмаю ў іх была бальшавіцкая савецкая пэрспэктыва, у якую яны ўглядаліся, яе прадстаўлялі ў стане аддаленага зрэалізаваньня, а на сяньняшні стан зазіраліся, як на працэс ломкі, і ў ім каваньне і адкоўваньне новага ладу. Таму на гэтай дарозе і няўвязкі, і бязладзьдзе, і перабоі. Бальшавізм трэба прадбачыць у пэрспэктыве дзеяньня, і памылка затрымліваецца над ім у працэсе дзеяньня. Гэтыя лекцыі маладога слухача абарочвалі ў нішто і ўплывалі на выкліканьне настрояў ахвярнасьці ў службе камунізму, давер да паступаньня партыі і пакоры яе загадам. Уся сума фактычнай дзеючай жудасьці апраўдвалася пэрспэктываю бальшавіцкага ладу па ўстабілізаваньні яго на ўсім цывілізаваным абшары зямлі. Пад поглядам нацыянальнага ўдзелу ў працэсе бальшавіцкае працы, то можна было заўважыць, што загадваючымі вярхамі бальшавіцкага „алімпу“ былі вылучна расейцы, з дапамогаю зрусіфікаваных украінцаў і каўказцаў. На ролях прыганятых, прыказчыкаў і бязьлічных, і больш бяздушных былі жыды, на ролю рашучага вынішчэньня спадчыны — прыбалты, асабліва латышы. Элемэнты гэтыя замыкаліся шчыльна ў самых сабе і жылі сваімі бальшавіцкімі катэгорыямі ў атмасфэры ўзаемнага недаверу. На фоне, скарэй у падвалінах бальшавізму цяжкім пластом асеў антысэмітызм, вызнаваемы ўсім расейска-бальшавіцкім арганізмам па няпісанаму кодэксу і старальна маскаваны фальшаванаю дружбаю навонкі з жыдамі.

Жыды, у сваю чаргу, працэс гэты адчувалі і дакладна разумелі ягоны зьмест, і з таго паўзялі адпаведную сыстэму страхаваньня перад наступствамі. Вярхі жыдоўскай інтэлігенцыі, як інтэлектуальнай, так і фінансавай, старальна адабраны і вынішчаны. Уліўшаяся ў паток рэвалюцыі жыдоўская маса нацыянальна вынарадаўляецца. Працэс гэты адбываецца ў двух напрамках: зьверху ў плянаваньнях бальшавіцкіх вярхоў і зь нізоў з жыдоўскага жывога арганізму, які ўлічыў, што вайна за свае нацыянальныя правы, за сваё існаваньне ў сыстэме бальшавізму немагчыма, і то больш, як за царатам, таму старальна перамешваецца, дэнацыяналізіруецца і ў моры зьмешваньня расаў, плямён і народаў сьцірае свае нацыянальныя жыдоўскія апрычонасьці. Над гэтым пытаньнем затрымаюся трохі ніжэй і зылюструю яго матэрыяламі з асабістага назіраньня савецка-бальшавіцкай рэчаіснасьці.

**Бальшавіцкая тактыка**

У памяці адна робэртаўская лекцыя аб тактыцы бальшавікоў у чужым асяродзьдзі. Партыйцу даецца наказ знайсьці хоць найменшую супярэчнасьць у грамадзка-палітычным укладзе тае чужое краіны, дзе ён знаходзіцца, і завастрыць каля яе барацьбу, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці да заіснаваньня канфлікту. Калі для гэтага патрэбна грыміроўка і перафарбоўка для вока, партыец не павінен перад гэтым затрымлівацца. Каб падбіць ворага — усе сродкі і способы адпаведны. Раўналежна трэба партыйцу сачыць аб паступовым афармленьні канфліктаў у напрамку ўсясьветнай рэвалюцыі сіламі самых, узьняўшы рэвалюцыйныя пратэст. Камунізм прыходзіць толькі як улада, на афармленьне. Партыец павінен прымаць на сябе прапануемыя яму буржуазным укладам абавязкі службоўца, але пры гэтым іх выконваць так, каб мець на ўвазе вылучна дабро партыі і шкоду стану буржуазіі. Павінны ў першую чаргу заваяваць да сябе давер і выказацца службовым аўтарытэтам.

У факце дзеяньня мы бачым, што элементы бальшавіцкай канструкцыі і дэструкцыі па чужых непадбітых краінах сьцісла разгранічаны, і дэструкцыі ніколі ня ўводзіцца ў склад канструкцыйнага. Па тых жа няпісаных канонах бальшавіцкай партыі выкарыстаная дэструкцыя вынішчваецца потым як небясьпечная бацыла раскладу ад занясеньня ў творчы бальшавіцкі арганізм.

У тым жа самым разрэзе карыстаньня і выкарыстоўваньня належыць у бальшавікоў пытаньне дзяржаўнага ладу наагул. Бальшавіцкая

партыя не вызнае дзяржаўнага ўкладу грамадзкасьці і паслугоўваецца дзяржаўнаю формаю ў сябе, каб можна было па дыпляматычных сувязях на не апанаваных яшчэ бальшавікамі тэрыторыях выстаўляць для сябе маякі. Савецкая дыплямацыя ідзе вылучна па наказу партыі, і назіраны навонкі апарат самастойнага голасу на пасту дзеяньня ня мае. За памылкі караецца таксама, як і за праступствы. Памылкі могуць быць у зьмесьце дзеяньня партыі, але ня ў зьмесьце выкананьня наказаў партыі.

Найбольш спрыяючыя абставіны для падрыўной бальшавіцкай працы там, дзе камуністычная партыя ў падпольлі. Менш спрыяючыя абставіны ў адкрыта існуючых аддзелах партыі па-за граніцамі Саветаў. Паясьнялася, калі ў Польшчы паднята было пытаньне аб талеранцыі адкрытага існаваньня камуністычнай партыі, то трэба было бальшавіцкаму цэнтру ўжыць вельмі складаных хадоў і затраты грошай, каб гэтае пытаньне зьняць і камуністычную партыю ўтрымліваць у падпольлі. Памагаў бальшавікам у гэтым пытаньні той, які і ня думаў, што працуе ў бальшавіцкім пляне, і ягонае антыбальшавіцкае настаўленьне абернена было на бальшавіцкае служэньне.

„Робэрт“ часта адсутнічаў. Балбатлівы і хвасьлівы Макоўскі, сьляпы вызнавальнік робэртаўскага аўтарытэту, паясьняў, што „Робэрт“ выконвае вельмі адказныя наказы партыі. Тады зьяўляліся меншыя „Робэрты“, розныя „Шашы“, насьлядуючыя „Робэрта“ ў самых дробных ягоных манэрах, толькі безь пераадзяваньня і абслуг пакаёўкі. Гэты рытуал, відаць, быў замацаваны толькі за іх начальнікам.

У падсумаваньні вынесенага ўражаньня з гэтае гушчы бальшавіцкіх закулісаў асабліва яркае ўражаньне засталося аб зьмесьце бальшавіцкага антысэмітызму. Папярэджваў адзін факт, які я не расцаніў спачатку і лічыў яго за прыпадак, за якім нічога не ляжала.

Калі пасьля маёвага перавароту Пілсудзкага ў 1926 годзе ўзьнялася амністыйная акцыя[163] і на ногі была пастаўлена ўся левая і цэнтравая прэса, зарганізаваны быў адмысловы камітэт, і выпускалася вельмі крыклівая прэса. У камітэце ня бралі толькі ўдзелу правыя партыі і жыдоўскія артадоксы[164]. Уцягнуты былі да спаўпрацы замежныя

[163] Маецца на ўвазе грамадзкая кампанія, галоўнай мэтай якой было дабіцца амністыі для палітычных вязьняў у Польшчы.

[164] Пад жыдоўскімі артадоксамі маецца на ўвазе перадусім партыя Агудат Ісраэль, прыхільнікі якой выступалі за захаваньне габрэйскіх рэлігіі й традыцыі, а таксама габрэйскага грамадзтва на аснове традыцыйнага юдэйскага права — Галахі.





дзейнікі, найбольш французы і ангельцы. Вымена́ю была ня толькі прэса, але і частыя візыты і ад прэсы, і ад палітыкі.

Аднаго разу савецкае пасольства ў Варшаве ладзіла прыняцьце па ключу „амністыйнага камітэту“, якое насіла неафіцыйны паўзакрыты характар. Быў я ў ліку запрошаных. Ніякай не было праграмы, а толькі спатканьні і знаёмствы, і на іх разрозьненыя гутаркі. На прыняцьце пастаўлены былі савецкая закуска і пры тортах лікёр, і то вельмі аграмнічана. Адсутнічала „водка“. З асанкаю рускага барына пасол Войкаў вёў гутарку аб афармленьні пасольскага будынку ў форме грэцкага старажытнага клясыцызму, і гэты плян ужо пад ягоным даглядам рэалізуецца. У вялікай залі зьняты паркеты, і па грэцкіх узорах вылажаны мрамар...

Кожная група мела самастойную тэматыку пры каве. Савецкія дамы абслугоўвалі гасьцей. Я сядзеў у групе прадстаўнікоў жыдоўскай прэсы. Гутарка ішла аб псыхалягічных розьніцах сярод жыдоў — так званых „літвакоў“[165], г. зн. з паходжаньня былога Літоўскага Княства, і „мазавецкіх“, па насьмешліваму прозьвішчу „ічэмаераўцы“[166]. Антаганізм паміж гэтымі групамі такі, што выключаюцца на нізавых праслойках сужэнствы і гандлёвае супрацоўніцтва. Было некалькі столікаў у рэзэрве, і прыходзячыя іх занімалі безь ніякага ўступнага этыкету.

З бочных дзьвярэй да пасла падышоў новы, схіліўшыся, нешта яму пераказаў, пасол кінуў позірк у бок аднае дамы, прыўстаў, у напрамку падышоўшага паўголасна сказаў: „Прасеце“. Прысутныя насторажыліся ў перарваных гутарках. Галоўныя дзьверы расчыніліся, і ў залю ўвайшло траіх: адзін манерны, пэўны сябе наперадзе, трохі з боку з жалезнымі тварамі спадарожнічаючыя — таксама ў чорных касьцюмах, але з большаю прыгонкаю. Селі кожны паасобку на вольных месцах. Відаць, яны былі зарэзэрваваны. Агульны ківок галавы ў знак прывітаньня... Пасол з выявам залежнасьці нешта сказаў на прывітаньне.

[165] **Літвакі** — тэрытарыяльна-лінгвістычная падгрупа габрэяў ашкеназі і гістарычна зьвязаная зь імі артадаксальная плынь у юдаізьме. Звычайна так называлі габрэяў, якія паходзілі з тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага.

[166] Сярод габрэяў той часткі этнічнай Польшчы, якая ўваходзіла перад Першай сусьветнай вайной у склад Расейскай імпэрыі, было вельмі папулярнае імя Ічэ-Маер, дзеля чаго іх у той час часта прастамоўна называлі ічэмаерамі. Такое акрэсьленьне варшаўскіх габрэеў, напрыклад, шырока ўжываецца ў рамане вядомага габрэйскага пісьменьніка Шолам-Алейхэма „Марыенбад“.

Дамы пачалі застаўляць столік першага, мала зварочваючы ўвагу на дваіх. Першы госьць круціў у руках пастаўленыя бутэлькі, бальшыню адставіў, выцягнуў папяросы, асадзіў у доўгі цыбух, закурыў, пусьціў вялізарныя клубы дыму. Пачаў зачэсваць валасы, пакручваючыся на крэсьле і перакідваючыся словамі са знаёмымі.

Уся ўвага была зьвернута на гэтага манернага чалавека. Відаць было па адносінах пасла і дам, што гэта нейкая саноўная савецкая фігура. Твар выяўляў сваім нэрвовым перакошаньнем неспакой і жорсткасьць, зубы і вочы навыкаце і прыдавалі выгляд самаўпэўненасьці і рашучасьці. З такімі людзьмі лепш не спатыкацца, праляцела ў мяне ў галаве. Выявілася напружанасьць у настроі з прыходам гэтага госьця, які станавіў кантрастнае выдзяленьне спасярод прысутных.

Дамы пачалі выручаць і запрашаць да тортаў. Але хто гэта? Нарэшце госьць прагаварыў, што ён упаўнаважаны перадаць нам усім пралетарскае прывітаньне ад БССР і папраўіў у пятліцы чырвоны значок з гэтымі „дзяржаўнымі“ ініцыяламі. Зь першых выразаў можна было распазнаць у ім некультурнасьць, а вымова — карыкатура. Кінута было скрозь пакалечаныя зубы, што толькі пры бальшавіцкім ладзе можа адбывацца падобнае зладжанае спаўжыцьцё прадстаўнікоў ад розных народаў...

Чым больш гаварыў, тым больш выяўляў свой прымітывізм і чванлівасьць. Мой сусед пачаў выяўляць неспакой. Уважае, што гэта цэлёвая[167] дэманстрацыя супроць жыдоў, выстаўляючы гэтую карыкатуру — прывезенага жыда. Другія таксама гарачыліся, але спакайней. Заля пачала перакідвацца іранічнымі позіркамі, пасол насіляўся госьця адцягнуць ад гутаркі на „пралетарскія тэмы“, але бяз выніку. Наш „стол“ у паўголасе выказваў незадавальненьне, каб гэта не былі запросіны пасла, то належала б запратэставаць і выйсьці. Госьць паддаўся настойлівасьці дварцовай дамы і распачаў зь ёю ціхую гутарку, жэстыкулюючы моцна і крыклівa сьмеючыся. Пачаўся хутка і разыход. На запытаньне аднаго спасярод жыдоўскіх карэспандэнтаў аб зацікавіўшай яго пэрсоне дама адказала толькі *„фігура, ад якое многае залежыць“*. У гэтым замяшаньні пасол госьця адвёў у бочныя дзьверы, і ніхто зь ягонаю сьвітаю не абмяняўся і паўсловам. Пакінутае ўражаньне ад гэтага спатканьня было з пэўным асадам непрыемнасьці. Пазьней адзін з маіх суседзяў па сталу, соймавы карэспандэнт жыдоўскай газэты, у прыватнай гутарцы закідаў паслу, што ён прадбачана паказаў карыкатуру

[167] *„Цэлёвая“* (ад польск. *celowy*) — мэтавая.





жыда на савецкім становішчы, але зрабіць з гэтага публічны ўжытак, як карэспандэнт, ня мог.

### На пляжы

У Данцыгу чакалася дэлегацыя навукоўцаў зь Менску. У адну нядзельную раніцу аблётным парадкам запрашаюцца па сьпіскам на адну падгародную пляжу паміж Данцыгам і Цопатам. Едзем і мы з прыяцелем. Народу многа. Прынцып — не вітацца. Прыяцель папераджае, што адбываецца нейкі маскарад і, магчыма, што ніякага прыезду і ня будзе. Садзімося на тэрасе берагавога рэстарану. Навакол ідэальная чысьціня і ціша. Падыходзіць адзін зь беларусаў пры савецкім „алімпе“. У яго нейкае маньяцтва, што бальшавізм у адступе, блізкі банкроцтву, і час наказвае прыбіраць да рук спадчыну і будаваць Беларусь ад Берасьця і па Смаленск... а за гэты час улазіць у савецкія асяродзьдзі і сачыць за падзеямі. (Ходзяць чуткі, што яго потым самога зьліквідавалі.)

Наводдалі група школеных „змаганцаў“, але ізаляваная. Тут і „Робэрт“ на становішчы лучніка паміж раскінутымі групамі. Бальшыня пры піве, як курортнай звычаёвасьці. Падыходзяць і адыходзяць. Трэба трафу, што зьяўляецца вышэй апісаны госьць у значна большай асысьце[168]. Абводзіць паўзаметна яго па групах „Робэрт“. На гэты раз не прыкоўвае да сябе абсалютна ніякае ўвагі. Мімаходам затрымліваецца каля нашага стала. Ківок галавы... „бачыліся раней“... скрозь дым папяросы працадзіў стары знаёмы. Наш беларус спаткаўся, як роўны па рангу з роўным. Прыяцель зірнуў на мяне з усьмехам. Трохі яшчэ пасядзелі, і пранясласе пагалоска, што дэлегаты не прыедуць... Разышліся кожны ў сваім напрамку. Нашыя прыпушчэньні былі, што гэта адбылася нейкая люстрацыя „смотр командира“ аддзельнай часьці на бівуаку.

Вечар. У памешканьні прыяцеля спаткаў аднаго раней не спатыканага. Былі абодва ў „чайным настрою“. Прыяцель іранічна па-сяброўску запытаўся, ці я атрымаў „благаслаўленьне“ ад свайго „духаўніка“? Разумеючы арыгінальнага госьця на пляжы... Аказваецца, што гэта цэнтральная пэрсона ўраду БССР. Незаметна гутарка ўзышла на жыдоўскае пытаньне ў Саветах. Прыяцель пацягнуў за язык прысутнага. Ён быў з Масквы, зь нейкай партыйнай навучальні. Чалавек абазнаны і салідны ды бальшавіцкі, палітычны навуковец. Савецкая навука жыдоўскаму пытаньню прыдзяліла значнае месца ў напрамку

[168] *„Асыста“* (ад польск. *asysta*) — суправаджэньне.

выкарыстаньня жыдоўскіх асаблівасьцей на пэрспэктыву. Адбываецца працэс ліквідацыі палітычнай спадчыны, і ніхто спасярод жыдоўскай масы з традыцыямі спадчыны нічым не зьвязаны, таму і вынішчэньне іх рукамі будзе адбывацца пасьлядоўна і сыстэматычна, а ў кампэнсацыю жыдам можа быць падстаўлена часовая выгада з гэтых роляў у стабілізаваньні рэвалюцыі. Жыдоўства будзе заціснута кляшчамі рэвалюцыі і пастаўлена перад дылемаю, або перамагчы і зламаць стары ўклад, або, на выпадак перамогі рэакцыі, заплаціць па рахунках праробленай рэвалюцыйнай працы сваімі галовамі. Пакуль што рэвалюцыя плаціць ім па меры свайго стабілізаваньня, вышыня аплат будзе рэдукавацца і зраўняецца з агульным становішчам, як для ўсіх. У працэсе стабілізацыі адбудзецца сэлекцыя прыдатнага і дысцыплінаванага элемэнту і ліквідацыя гандлярства ў зьмесьце рэвалюцыі, як адбывалася ліквідацыя той жыдоўскай праслойкі, якая падпірала царызм. У пэрспэктыве жыдоўства перамяшаецца кроўна і дасьць новы элемэнт у скрыжаваньні расаў і народаў. Рэвалюцыя ў гэтым працэсе выйграе, а спэцыфічныя неспакойныя асаблівасьці жыдоўства, пазбаўленыя магчымасьці абагашчэньня праз спрыт, свой высілак уложаць у здабычы агулу, які будзе служыць кожнаму ў сыстэме партыі.

Гэта аснаўны ўклад бальшавіцкай думкі па вярхах іх плянаваньняў, і падобныя акрасьленьні прыходзілася чуць ня раз.

### Жыдоўскае пытаньне ў СССР

Пару разоў і „Робэрт“ падыходзіў да тэмы аб ролі жыдоўства ў рэвалюцыі. Тут быў выяўлены цынізм. Элемэнт, узгадованы на Біблії і Талмудзе, права на існаваньне ў савецкім ладзе ня мае, так, як ня маюць і тыя, якія з контрарэвалюцыямі Мілюкова[169] баранілі і жыдоўскага купца, і расейскага памешчыка. Расавы распадзел — штучнага парадку, і высілак сяньня накіроўваецца на стварэньне аднае новае расы, новага савецкага народу, і на гэты сплаў ідзе ўсё прыдатнае з бальшавіцкай ацэнкі, а непрыдатнае вынішчваецца. Разгранічэньне на адной тэрыторыі па нацыянальнасьці — зьявішча контрарэвалюцыйнае і павінна паступова ліквідавацца. На Беларусі той беларус, каго ўзгадавала беларуская геаграфічная тэрыторыі і спадчына; больш таго, хто культуру перавёў з лапця на боты, хто каваў жалеза і заводзіў машыны...

Жыдоўства ў масе рэвалюцыйна, і партыя гэта сьведама ўлічвае, як улічвае нахіл да рэвалюцыі хутараніна зь ягонымі градамі і садочкамі. Пад молатам рэвалюцыі пагінуць і хутаркі з садочкамі, і крамкі па жыдоўскіх мястэчках. А што сяньня ў авангардзе рэвалюцыі больш жыдоўскага актыву, то на гэта тая прычына, што дасюлешняя практыка партыі, каб становішчы пераказваць беларусам, якія потым аказваліся ў бальшыні хутарскі ўзгадованымі, дае непажаданы вынік, і ўсе спробы аказаньня даверу адплачаны недаверам, здрадаю і контрарэвалюцыяй. Таму пытаньні рэвалюцыі сяньня сьведама пераказваюцца ў больш надзейныя рукі, за якімі ня лічыцца ніводнага выпадку здрады і контрарэвалюцыі.

Прыводзіліся прыклады і статыстыка дзеяньня, і цьверджаньні „Робэрта“ былі ўгрунтаваныя.

На трэцім пакаленьні, па аблічэньнях партыі, як выкладаў „Робэрт“, нацыянальныя граніцы пад уладаю бальшавікоў сатруцца, і пачне вытварацца новы чалавек, савецкі чалавек з правам і абавязкам будаваць супольнае жыцьцё і з супольнага дабра карыстацца. Сяньняшні стан паступаньня ня ёсьць станам бальшавіцкага дзеяньня, а толькі ўступам да дзеяньня. Праграма бальшавіцкага дзеяньня будзе ўкладацца на спадчынах з уступнага дзеяньня, з бурэньня, звальненьня ад навыкаў і ўплываў, і з таго наказам для кожнага ў савецкай сыстэме працэс гэты ўспамагаць, ісьці зь ім у нагу.

Калі мне пазьней прыйшлося з жыдоўскім пытаньнем спаткацца на савецкім будаўніцтве, у гушчы рознанацыянальнага элемэнту, то яркаю лініяю разгранічвалася жыдоўская асаблівасьць з-пад бальшавіцкай апрацоўкі і застаўшаяся з-пад польскай спадчыны. Савецкія жыды былі зрушчаны, ня ведалі свае мовы, асабліва моладзь, не выконвалі рытуалу, а хто яго трымаўся, то старальна з тым крыўся, прыстасоўваўся да загадваючай бальшавіцкай верхавіны. На нізавых партыйных лініях выразны быў антаганізм, і савецкі расейскі і беларускі элемэнт пры кожнай нагодзе стараўся прыціснуць жыда і паставіць яго ў нявыгадныя жыцьцёвыя абставіны, і гэтыя паступаньні прымалі часта дзікі характар. Выпрацавалася сваістая тактыка не прыглядацца на заціскаваньне жыда на праізводствах, зразумела, на нізах. Загадваючыя адміністрацыйныя і гаспадарчыя вярхі ў савецкай сыстэме вылучна ў жыдоўскіх руках.

[169] **Павал Мілюкоў** (1859—1943), расейскі палітычны дзеяч, гісторык і публіцыст, лідэр Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (кадэтаў). Быў адным з найбольш яскравых прадстаўнікоў расейскага Часовага ўраду ў 1917 г., у сакавіку—траўні займаў у ім пасаду міністра замежных справаў. Рэзка нэгатыўна паставіўся да прыходу да ўлады бальшавікоў, пасьлядоўна выступаў за ўзброеную барацьбу зь імі. Зь лістапада 1918 г. дзейнічаў на эміграцыі.

Жыдоўскі элемэнт з-пад Польшчы быў больш самастойны ад савецкіх, і супроць спробаў заціскаць іх пратэставаў і змагаўся, старальна ўнікаючы адкрытых працэсаў з абвінавачваньня ў антысэмітызьме.

### Фінал

Прайшла даўно вясна, канец лета і распачынаецца восень, а вырашэньня свайго лёсу і акрэсьленьня становішча я ня маю ніякага. Матэрыяльна існую. Рагуля акуратна мяне наведвае і прывозіць належныя грошы з Сойму. Нас трое: я, Рагуля і прыяцель-украінец. Амаль усе ў аднолькавай сытуацыі. Усе пад судом і пасьля заканчэньня кадэнцыі распачнуцца парахункі.

Прыяцель-украінец чытае ў пэрспэктыве з польскага боку глумленьне над сабою, як над чалавекам, а з савецкага — зьнішчэньне; сярэдняй лініі няма. Успрымае зьнішчэньне перад глумленьнем, таму скарэй усяго, што ў Саветы паедзе. Ёсьць у яго надзея высьлізнуцца і дзе-небудзь зашыцца. Савецкія магчымасьці яму дакладна ведамы і патрапляе паміж імі праплываць незамечана. Лічыцца кніжнікам-тэарэтыкам, здольным на „ўклоны“, але да зьместу „контрарэвалюцыйнасьці“ яшчэ не дабраліся.

У камуністычных радох вялікі непакой. Адчуваюць у сваіх вышэйшых і нізавых цэнтрах закінутую разьведку. Пушчалі на спробу „трыкі“, і сьляды па іх аказаліся ў руках і ангельцаў, і палякаў. Губляюцца ў здагадках, і гэта парадзіла ўзаеманедавер. Партыйцы ўнікаюць адказных становішчаў. Не вядуць знаёмстваў, агранічваюцца толькі канечным складам спатканьняў.

Працэс сьледзтва над Грамадою дабягае да канца, і на сэнсацыю не заносіцца. Сьледчы матэрыял мяне ў агульны склад ня ўлічвае, а трымае ў рэзэрве, прышытым да некалькіх асобных працэсаў. Віленская пракуратура лічыць, што я выеду ў Саветы пры заканчэньні кадэнцыі, без удзелу ў астатніх паседжаньнях пленуму. Гэтыя настаўленьні ўзмоцнівае Беларускі соймавы клюб і больш асабіста Рагуля. Таго самага погляду трымаюцца і заарыштаваныя сябры. Аб магчымасьці майго павароту ў Польшчу весткі не прасачыліся. У палітычнай атмасфэры тагачасных настрояў такое вырашэньне выглядала б на непачытальнасьць[170] . У Рагулі прарываюцца аптымістычныя парывы на магчымасьць у часе надыходзячых выбараў у Сойм зьмерацца сіламі з КПЗБ, і дапушчае сваю над камуністамі перамогу. Ілюзіі ў мяне канчаюцца і надыходзіць пара сухое рэчаіснасьці, ад якой вее „непагодаю і віхрамі“. Мой прыяцель у нейкіх таямнічых і далёкіх падарожжах. Зьявіўся пад восень канчаткова разьбіты і ў адчаі і за сябе, і за сям'ю. Наперадзе катастрофа, якой абмінуць яму нельга. Ненавідзіць савецкі лад і бальшавікоў больш, як раней, але іншага выхаду няма, як падпарадкавацца іх вымогам і пакорна апусьціць галаву пад іх меч і ехаць туды на цяжкі іспыт, скарэй на сьведамую сьмерць.

Я ўжо катэгарычна вырашыў, што ў Саветы не паеду. Варочаюся ў Польшчу, і там вырашыцца зьмест майго лёсу. Астатняя нарада над паступаньнем і там, і тут. Я яго ня ведаю, і ён мяне ня ведае. Калі і спатыкаліся калі, то па соймавых справах і вельмі рэдка. Аб матэрыялах сьледзтва Грамады нічога ня ведаю, хоць усім ведама, што ведаю. У Польшчы такімі спосабамі манэўраваць можна, а ў Саветах — не. Там прымусяць загаварыць, і скажаш і тое, чаго і ня ведаеш... На вачах ягоных сьлёзы. Ягоная рэпліка — што тым, у каго могуць быць сьлёзы на вачах у часе іспыту, у палітыку ангажавацца нельга[171] .

Натоўп людзей таямніча зьяўляўся і таксама таямніча разьяжджаўся. Прывозілі весткі з Польшчы, Прыбалтыкі, Нямеччыны... Аднаго разу разьнясласе таямнічая вестка, што „Як сен называ“ прапаў, і сьлед па ім загінуў. Было прыпушчэньне, што яго ўкрала замежная разьведка

[170] *„Непачытальнасьць“* (ад польск. *nepoczytalność*) — поўная адсутнасьць памяці, непрытомнасьць.

[171] Андрэй Пашчук урэшце ўсё ж наважыўся пераламіць сытуацыю і пазьбегнуць выезду ў СССР, але, у адрозьненьне ад Сабалеўскага, ня быў у сваіх дзеяньнях пасьлядоўны. Спачатку ён публічна заявіў пра свой разрыў з камуністамі, выхадзе з Камуністычнай пасольскай фракцыі (КПФ) і далучэньні да нацыянальна арыентаванай Украінскай парлямэнцкай рэпрэзэнтацыі, а пасьля ў адмысловым інтэрвію з гэтай нагоды галоўнай украінскай нацыянальна-дэмакратычнай газэце „Діло“ (Львоў) (перадрукаваным пасьля беларускай „Сялянскай нівай“) пацьвердзіў сваё рашэньне, сказаўшы, што *„пераверыўшы дакладна свой сьветапагляд, пасьля глыбокай аналізы сваіх думак і пачуцьця, я ня мог даўжэй стаяць на становішчы камунізму і камуністым перастаў быць“*. Аднак жа ўжо праз кароткі час Пашчук некуды прапаў, а калі зьявіўся зноў, то запярэчыў сваім ранейшым словам і вярнуўся ў КПФ (гл.: Нацыяналізм і інтэрнацыяналізм // Сялянская ніва. №73. 8 кастрычніка 1927. С. 1; З украінскага жыцьця. Пасол Пашчук прапаў? // Сялянская ніва. №74. 12 кастрычніка 1927. С. 2; З украінскага жыцьця. Блытаніна пасла А. Пашчука // Сялянская ніва. №75. 15 кастрычніка 1927. С. 2). Праз кароткі час пасьля гэтага ён выехаў у СССР, дзе ў 1930-х гг. быў рэпрэсаваны.

пры дапамозе аднае жанчыны, ягонай знаёмай з Галіцыі. Можна было дапушчаць, што гэтая жанчына ўжо ў „іх“ руках. Сэнсацыі станавілі розныя стасавальныя сыстэмы абдурваньня ўзаемна разьведак. Пры нагодзе апішу некаторыя зь іх, як характэрныя. Дачны сэзонканчаецца, і на пляжах, і на вуліцах народу заметна меней. Пусьцей на канцэртах і ў рэстаранах. Насоўваецца восень і сум ад непагоды і ад пэрспэктывы незавіднага лёсу. Пытаньне аб выезьдзе ў Саветы зноў узьнята і апынулася ў руках „Робэрта“ пры дзейным удзеле Макоўскага. Прапазыкі то ставіліся, то мяняліся як з боку „ўлады“, так і з майго. Я не дапушчаў, што наагул аб нейкіх з бальшавікамі ўмовах ня можа быць і мовы. Ехаць і прыехаць у Саветы — значыць быць у залежнасьці бяз права голасу ў асабістым вырашэньні. Мне патрэбны час, каб дачакацца расьпісаньня пленуму Сойму і зьявіцца не раней адкрыцьця. Пасьля абгаворваньня некалькіх праектаў было запрапанавана мне застацца на савецкай службе пры кансулятах або ў Коўне, або ў Чэхіі. З паслом у Чэхіі (падвойнае прозьвішча — я забыўся[172]) я бачыўся і збольшага дагаварыліся. Савецкі пашпарт у мяне быў на руках. Ставілася ўмоваю, што жонка з сынам едзе ў Маскву, а я ў Чэхію, а потым я пераеду ў Менск. Гэта вымагаецца палітычнымі абставінамі ў сувязі з працэсам Грамады... Я сьцягваў з адказам і выказаў погляд, што такі спосаб ня ёсьць вырашэньне, а калі ехаць, то разам. Выбіраю прыдзел у гандлёвае прадстаўніцтва.

Была вызначаная мне па кароткім часе канчатковая нарада ў „Робэрта“. Прыходжу. Некалькі асобаў са складу папярэдніх спатканьняў і дваіх новых старэйшага веку. „Робэрт“ распачаў з „кадзіла“ пад маім адрасам. Аплёмб яго на гэты раз быў значна скрамнейшы. Манерна выслугоўваўся перад новапрыбылымі. Ясна, што гэта вышэйшая за яго савецкая ранга. „Робэрт“ чытаў мае грахі, і тут жа мяне разграшыў. „Робэрт“ прадставіў слухачам, што Грамада ўжо ў падпольлі, новае ЦК, і на гэты раз ужо з дамінацыяю ў ім работніцкай вядучай ідэалёгіі. Мой удзел у Грамадзе ўжо скончаны, і я павінен пераключыцца на іншыя заданьні, працуючы для народу (вымаўляючы гэты астатні выраз з асаблівым націскам).

[172] Паўнамоцным прадстаўніком СССР у Чэхаславаччыне ў 1924—1928 гг. быў **Уладзімер Антонаў-Аўсеенка** (1883—1938), вядомы савецкі рэвалюцыйны, а таксама партыйна-дзяржаўны й вайсковы дзеяч. Менавіта ён у кастрычніку 1917 г. камандаваў бальшавіцкім штурмам Зімовага палацу й арыштаваў Часовы ўрад.





Даюць мне да выбару выезд у Саветы, Прагу, Коўна або Амэрыку, але з тым, каб за граніцу ехаць катэгарычна безь сям'і, бо зь сям'ёю там будзе клапатліва, дорага пражыць, і таму дрэнна адаб'ецца на маёй працы. Сям'я паедзе спачатку ў Маскву, перш адпачне ў нейкай падмаскоўнай санаторыі дому адпачынку, жонка пачне працу лекарам і падасьць мне свой адрас. А дальшы цяг падкажа час і палітычныя абставіны. Новапрыбылыя гаварылі ў тым самым, закрадываючымся ў давер, напрамку. Я рэзэрвую час на канчатковае вырашэньне, а ў галаве цьвёрда засвоены плян: у савецкія лапы я не паеду. З канчатковым выбарам месца выезду прыйду праз некалькі дзён. Расталіся мы з выяўленым недаверам. На душы і трывожна было, і адначасна радасна, што канчаецца правалока і я выходжу з арбіты ўзьдзейнічаньня на мяне варожых мне сілаў, якое апошнім часам перайшло ў псыхалягічны тэрор.

### Фінальнае спатканьне

„Робэрт“ у вызначаны час у сваім памешканьні толькі адзін. Не выключалася, што ў другім пакоі хто-небудзь быў: дзьверы туды прыадчыненыя, але там ціха. Пытліва і іспытуюча пазірае мне ў вочы. Нэрвова сыпле словамі, што я хіба ўжо вырашыў свой выезд, і ў будучыні ён не праміне прыемнай нагоды спаткацца са мною. Я дзякую яму за атрыманыя ад яго павучаючыя выясьненьні палітычнай сутнасьці, зь якіх я многа атрымаў новага... Гэта выклікае ў яго часовае здавальненьне, і ён мне паціскае руку, а што тычыцца спатканьня зь ім у будучыні, — кажу яму, — то гэтага не адбудзецца. „Робэрт“ зьдзіўлена на мяне пазірае. Кароткая паўза.

— Я ў Саветы ня еду, — было маім адказам.

— Не разумею Вас? — пытаецца „Робэрт“. — Значыць, Вы застаецеся тут?

— Не, варочаюся ў Польшчу, — было маім адказам.

Злы, поўны ненавісьці, спачыў на мне позірк „Робэрта“.

— Гэта бязумства! Вы самі сябе падстаўляеце пад абух. Пашкодзіце таварышам! — усхвалявана адказвае мне „Робэрт“.

— Аб гэтым прашу не клапаціцца: адказваць буду я сам за сябе, і толькі.

— У такім выпадку я ня маю аб чым з Вамі гаварыць! Ці гэта Ваша канчатковае і беспаваротнае рашэньне?

— Так — канчатковае і беспаваротнае.

— Гэта ёсьць вызаў партыі, а партыя барацьбы не прайграе! — амаль выкрыкнуў гэты выраз ускіпелы „Робэрт“. Устаў з-за стала і павярнуўся ў раздум'і да мяне сьпіною.

Я зараз жа і выйшаў, не разьвітваючыся. На гэты раз ішоў дадому ў настроі адпаведна вырашанай заблытанай справы. Хутка схваляваны заходзіць да мяне на памешканьне Макоўскі, кароткая вымена слоў аб сутнасьці пытаньня аб нявыезьдзе ў Саветы. З боку Макоўскага злоснае маўчаньне, ніякіх запярэчваньняў. Я яму варочаю савецкі пашпарт да даручэньня ў савецкі консулят.

Ня бачу магчымасьці для сябе ехаць у Саветы. Варочаюся ў Польшчу. Што тычыцца працэсу ў судзе, то буду адказваць толькі сам за сябе, і ніводнага прозьвішча ў сваю справу на абарону не ўвяду. Макоўскі выйшаў. На парозе мы абмяняліся толькі на адлегласьць паўпаклонамі. З тае пары я больш нікога не спатыкаў са старых знаёмых, як бы адрэзала іх ад мяне. Вечарамі на вуліцу не выходзіў. Спадзяваўся помсты і крывавае расправы. Напісаў да брата, што варочаюся, аддаю першынства Лукішкам перад „савецкім раем“.

Макоўскі і ягоная кампанія зараз жа пачалі распаўсюджваць зларэчныя весткі аба мне, што я еду ў Польшчу „тапіць“ Грамаду, і гэта пачало каля мяне затручваць паветра. Прадбачыў сваю Галгофу. Зьвядуць са мною парахункі і палякі, і бальшавікі. Бальшавікі памогуць Польшчы судзіць мяне, але ня будуць самі судзіць мяне. У гэтым увесь мой на сяньня палітычны выйгрыш. Укладаць пачаў чамаданы на паваротную падарожу...[173]

*Ад рэдакцыі[174] :*

На гэтым і абрываецца прысланы нам нябожчыкам Ю. Сабалеўскім рукапіс аб Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. І хоць аўтар далёка выйшаў за рамкі азначанае тэмы, аднак у ўспамінах з свайго прыватнага жыцьця ён даў шмат вельмі цікавага матэрыялу. Спатыкаючыся ў Бэрліне і Данцыгу з камуністычнымі агентамі рознага калібру, зоркае вока аўтара падмячала найболей цікавыя і характэрныя рыскі як саміх агентаў, так і тэй акцыі, якую яны праводзілі ў некамуністычных краінах паводле інструкцыяў Маскоўскага Крамля.

На жаль, жыцьцё гэтага чалавека неспадзявана абарвалася 26 сьнежня 1957 году, а разам з гэтым нашая рэдакцыя страціла свайго найболей акуратнага журналіста і карэспандэнта.

У беларускім вызвольным руху сьв. памяці Ю. Сабалеўскі займаў не апошняе месца, і мы перакананыя, што будучы гісторык прысьвеціць яму не адну балонку.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Аляксандра Пашкевіча*

[173] Справу з зрывам з выездам Сабалеўскага ў СССР пазьней, падчас допытаў у НКВД у 1937 г., закранаў і Аляксандар Ульянаў, і ягонае бачаньне гэтага праблемы не адрозьнівалася ад выкладзенага Сабалеўскім: *„У Менск меркавалася перакінуць Сабалеўскага — пятага дэпутата Грамады, які быў агентам 2-га аддзелу польгалоўштабу. Аднак, калі Сабалеўскі быў ужо ў Данцыгу, ён спалохаўся і адмовіўся ад далейшай паездкі, бо адзін украінскі дэпутат паведаміў яму, што ў СССР, на Ўкраіне, адбываюцца арышты ўдзельнікаў раскрытых антысавецкіх арганізацыяў“* (Илькевич, Н., Платонов, Р. Александр Ульянов и версия НКВД об антисоветском подполье в БССР (Фальсификация органами НКВД уголовных дел в 1937—1938 гг.). Минск, 1997. С. 26).

[174] Маецца на ўвазе рэдакцыя часопісу „Аб'еднаньне“, дзе друкаваліся ўспаміны.

**Натальля Гардзіенка**
*Менск*

# ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСАЎ У МЮНХЭНСКІМ ІНСТЫТУЦЕ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР[1]

Сярод паваенных эмігрантаў розных нацыянальнасьцяў быў пэўны адсотак асобаў інтэлектуальнай і творчай працы: літаратараў, мастакоў, музыкаў, навукоўцаў. Кожная нацыянальная група на нейкім этапе прыходзіла да разуменьня неабходнасьці аб'яднаньня гэтых дзеячаў і стымуляваньня іхнае працы на эміграцыі. Аднак у гісторыі паваеннай эміграцыі была ўстанова, якая ў пэўны час аб'яднала навукоўцаў розных нацыянальнасьцяў — Мюнхэнскі інстытут вывучэньня СССР.

Дзейнасьць гэтай установы сёньня дасьледаваная мала. Ёсьць асобныя артыкулы пераважна расейскіх аўтараў (А. Папова, Д. Канстанцінава[2]) ды абароненая ў 1990 г. у Пітсбурскім унівэрсытэце дысэртацыя амэрыканскага дасьледніка Чарлза О'Конэла „Мюнхэнскі інстытут вывучэньня СССР. Паходжаньне й сацыяльны склад"[3], прысьвечаная, праўда, выключна часу стварэньня гэтай установы. Пры гэтым варта адзначыць прынцыповую розьніцу ў поглядах на стварэньне цэнтру з боку расейскіх і амэрыканскага аўтараў. Першыя даводзілі, што Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР (як ён першапачаткова называўся) быў арганізаваны выключна з ініцыятывы расейскіх навукоўцаў, а амэрыканскія спонсары, што зьявіліся пазьней, з часам падпарадкавалі сабе дзейсную ўстанову ды ўрэшце вырашылі яе лёс. Амэрыканскі ж дасьледнік, выкарыстоўваючы сярод іншага й архівы Амэрыканскай выведкі CIA (*Central Inteligence Agency*), даводзіць, што стварэньне інстытуту заініцыявалі самі амэрыканцы, найперш каб падтрымаць праект Цэнтру расейскіх дасьледаваньняў Гарвардзкага ўнівэрсытэту дзеля зьбіраньня сьведчаньняў уцекачоў з СССР[4]. Ён жа бачыць у інстытуце менавіта прапагандысцкую структуру, што была неад'емнай часткай палітыкі халоднай вайны[5]. Магчыма, што праўда традыцыйна знаходзіцца недзе пасярэдзіне. Аднак нас у большай ступені цікавіць менавіта беларускі сьлед у дзейнасьці Мюнхэнскага інстытуту, адмысловым вывучэньнем якога дасюль ніхто не займаўся.

Для асьвятленьня беларускага ўдзелу ў працы ўстановы варта найперш згадаць пра яго заснаваньне. Гэта адбылося 8 ліпеня 1950 г. Адзін з стваральнікаў інстытуту Абдурахман Аўтарханаў (у той час Кунта, 1908—1997), наступным чынам апісваў ажыцьцяўленьне гэтай ініцыятывы:

*„Калі да мяне ў Рэгенсбург прыехаў зь Мюнхэну Барыс Аляксандравіч Якаўлеў (Троіцкі), тагачасны кіраўнік Власаўскай арганізацыі, з прапановай стварыць супольна эміграцыйны Інстытут вывучэньня СССР, я адразу даў згоду быць адным зь яго заснавальнікаў.*

*Устаноўчы сход адбыўся ў 1950 г. у Богенгаўзэне ў расейскай бібліятэцы. Нас было некалькі былых савецкіх навуковых працаўнікоў — Якаўлеў, праф. К. Штэпа, праф. А. Філіпаў, праф. К. Крыптан, праф. Німан, палкоўнік Генэральнага штабу Савецкай арміі Няранін і аўтар гэтых радкоў. Мы ўзьнёсла абвесьцілі сябе „Інстытутам вывучэньня гісторыі й культуры СССР". Абралі дырэктарам Б. А. Якаўлева, намесьнікам дырэктара А. Аўтарханава і вучоным сакратаром В. Марчанка. Пазьней да нас далучыліся праф. Мілер, праф. Каванкоўскі, праф. Буданаў, праф. Іваноў, праф. Даўлетшын, доктар Шульц. Зразумела, не было ў нас ні памяшканьня для Інстытуту, ні капейкі грошай, ні высокага апекуна ці багатага мэцэната. Было толькі невымернае й шчырае жаданьне распавесьці Захаду пра тэорыю й практыку савецкай сыстэмы, якую Захад дасюль ведаў толькі паводле савецкіх кніг, часопісаў ды газэтаў. Была ў нас і непрыхаваная надзея, што калі мы ўласнымі намаганьнямі пачнем рабіць нешта карыснае*

[1] Аўтарка выказвае вялікую падзяку за дапамогу ў рыхтаваньні артыкулу д-ру Янку Запрудніку.

[2] Попов, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции // Новый исторический вестник. №1 (10). Москва, 2004. С. 54—70; Константинов, Д. Мюнхенский институт. (Из истории второй российской политической эмиграции) // Константинов, Д. Через туннель XX-го столетия. / Под ред. А. В. Попова, В. С. Карпова. Москва, 1997. С. 537—559.

[3] O'Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR. Pitsburg, 1990. — 46 p.

[4] O'Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR... P. 3—10.

[5] Тамсама. P. 30—32.

*й патрэбнае для разуменьня савецкага мінулага й сучаснасьці, то зьявіцца й мэцэнат. Сапраўды, так сталася, што стварэньне Інстытуту супала з прыездам у Мюнхэн гэтак званай „Гарвардзкай экспэдыцыі“ ў справе вывучэньня савецкага грамадзтва. „Экспэдыцыя“ прапанавала Інстытуту супрацу, і мы яе з энтузіязмам прынялі“*[6].

Такім чынам, інстытут ствараўся як карпарацыя навукоўцаў, што займаліся вывучэньнем СССР. Асноўнымі кірункамі працы Рады (ці дырэкцыі) былі арганізацыя канфэрэнцыяў, выдавецкая дзейнасьць, стварэньне бібліятэкі й архіву, усталяваньне навуковых сувязяў. У кіраўніцтва ўваходзілі пераважна расейцы (за выключэньнем чэчэнца Аўтарханава і ўкраінца Штэпы)[7], большай часткай удзельнікі нацыянальных расейскіх арганізацыяў на эміграцыі. З гэтага зразумела, чаму з 1951 г. фінансавае падтрыманьне інстытут стаў атрымоўваць ад Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі.

Установа знайшла сабе асобнае памяшканьне на *Augustenstrasse 46*, паступова павялічваўся штат працаўнікоў. З 1951 г. ладзіліся навуковыя канфэрэнцыі, што зьбіралі сотні дасьледнікаў, стаў выдавацца „Вестник института“. Да 1953 г. кола карэспандэнтаў дасягнула тысячы асобаў з 48 краінаў сьвету[8]. І тым ня менш, гэтая ўстанова заставалася менавіта расейскай паводле свайго зьместу, што ў сувязі з пэўнымі зьменамі ў сусьветнай палітыцы Амэрыканскаму камітэту было не зусім даспадобы й спрычынілася да радыкальных зьменаў у дзейнасьці.

Тут варта ўзгадаць, што ў сьнежні 1951 г. у Нью-Ёрку быў заснаваны ўласны Беларускі інстытут навукі й мастацтва, які меў на мэце гуртаваньне беларускіх інтэлектуальных колаў, выданьне навуковага пэрыёдыка, стымуляваньне дасьледнай працы й іншае. БІНіМ нэгатыўна ставіўся да дзейнасьці Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі, лічачы саму назву дыскрымінацыйнай. Тым ня менш, навуковыя кантакты зь Мюнхэнскім інстытутам, прынамсі абмен выданьнямі, былі. БІНіМ пакрысе наладжваў дзейнасьць па-за межамі Амэрыкі, меў сваіх сябраў у Эўропе, пачаў выданьне „Запісаў“.

[6] Авторханов, А. Мемуары. Frankfurt/Main: Possev-Verlag, 1983. Цытата паводле электроннага выданьня, зьмешчанага на сайце http://www.moreandr.narod.ru/.

[7] Варта ўзгадаць, што некалькі сябраў дырэкцыі папярэдне мелі некаторае дачыненьне да Беларусі. Гэтак, Барыс Якаўлеў у часы вайны быў у лягеры ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі, адкуль трапіў у Віцебск, дзе ўваходзіў у рэдкалегію акупацыйнага пэрыёдыка „За Родину“. Іншы з дырэктараў — былы савецкі вайсковы дзеяч Андрэй Няранін (ён жа Міхал Алдан) — у 1930-х служыў у Мазырскім умацаваным раёне.

[8] Попоў, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции...





У 1953 г., калі Амэрыканскі камітэт зьмяніў назву (стаў называцца Камітэтам вызваленьня ад бальшавізму), а разам зь ім і арыентацыю, перайшоўшы да падтрыманьня нацыянальных арганізацыяў ня толькі ўласна расейскіх, у БІНіМу зьявіўся й іншы інтарэс да Мюнхэнскага інстытуту. Пра гэты інтарэс згадаў у сакавіку—траўні 1953 г. сябра дырэкцыі БІНіМу Вітаўт Тумаш у лістах да Станіслава Станкевіча, які ў той час жыў у Мюнхэне й выдаваў газэту „Бацькаўшчына“.

*„17 сакавіка 1953 г.*

*Дарагі Стась!*

*Паколькі мне ведама, Амэрыканскі Камітэт мае створаны ў Мюнхэне „Інстітют фюр Эрфоршунг дэр Гешыхтэ унд Культур дэр УССР“, кіраўніком якога ёсьць расеец праф. Яковлев (адрыс: Аугустінстр. 46—1). Інстытут гэты дагэтуль быў чыста расейскаю арганізацыяю, у ягоных публікацыях друкаваліся працы амаль вылучна расейскія ды расейцаў. Цяпер Амэрыканскі Камітэт мае быццам намер яго прынамся фармальна „дэрусіфікаваць“ дарогаю пастаўленьня на чале яго на месца расейца аднаго прафэсара Вашынгтонскага Ўнівэрсытэту, амэрыканца (прозьвішча забыўся). Гэты прафэсар мае гэтымі днямі ехаць у Мюнхэн ды правясьці рэарганізацыю Інстытуту ў такім кірунку, каб ён быў даступны й для ўсіх іншых нацыянальнасьцяў СССР. У сувязі з гэтым Амэрыканскі Камітэт прасіў падаць нас адрысы сяброў Інстытуту ў Мюнхэне, зь якімі гэты прафэсар мог бы ў патрэбе скамунікавацца. Безумоўна, мы падалі ў першую чаргу твой адрыс (побач двох другіх сяброў — Тваёй жонкі*[9] *ды С. Кабыша*[10]*). Зь сяброў Інстытуту ў Нямеччыне яшчэ, як табе ведама, дац. Карповіч*[11] *(адрыс хіба маеш) ды ў перапісцы (карэспандэнт-супрацоўнік) мастак Чайкоўскі*[12].

*Паведамляючы аб гэтым адначасна ад Управы Інстытуту перадаю просьбу, каб у выпадку зьвярнуліся ад Інстытуту Амэрыканскага*

[9] Маецца на ўвазе таксама сябра БІНіМу Зіна Станкевіч.

[10] Маецца на ўвазе Сымон Кабыш-Кандыбовіч.

[11] Маецца на ўвазе кампазытар **Алесь Карповіч** (1908—1992).

[12] Маецца на ўвазе **Зьміцер Чайкоўскі** (1912—2002), мастак, які жыў у Мюнхэне.

*да Цябе ў справах навуковых належна рэпрэзэнтаваў і БІНіМ і ў першую чаргу нашых сяброў у Нямеччыне. Безумоўна, што да Тваёй дэцызіі застаецца справа, ці супрацоўнічаць ці не ад імені Інстытуту з Інстытутам СССР адкрыта пасьля яго пераарганізацыі (бо цяпер справа выключаная). На месцы лепш Табе будзе ў гэтых справах арыентавацца. У важнейшых справах, безумоўна, лепш паведаміць аб усім Управу Інстытуту. Асабліва важна было б дагледзець і высьніць справу магчымасьці друку ў выданьнях гэтага Інстытуту працаў нашых сяброў. Напр. ці не маглі б яны надрукаваць „Культурныя страты Беларусі“ — больш 560 імёнаў зьнішчаных бальшавікамі з кароткімі біяграфічнымі ды бібліяграфічнымі дапіскамі (4—5 аркушаў друку). Знайшліся б і іншыя працы. Усё, зразумела, залежыць ад таго, ці наагул зь імі можна будзе супрацоўнічаць.*

*Адну рэч мог бы зрабіць не чакаючы рэарганізацыі: ЗАПІСЫ для Інстытуту СССР у Мюнхэн высланы пару месяцаў таму, але на замен яны да гэтай пары яшчэ нічога ня выслалі з сваіх выданьняў. Ці ня мог бы зрабіць тэлефанічную інтэрвэнцыю ў гэтай да іх справе?*

*Разам шлю тэкст клепсыдры па М. Равенскім. Калі лічыш магчыма памясьціць у „Бацькаўшчыне“ — падай.*

*Прывітаньні,*

*Твой В. Тумаш“.*

Відавочна, Станіслаў Станкевіч зацікавіўся атрыманай інфармацыяй, аднак, напэўна, яшчэ ня маючы кантактаў з прадстаўніком Амэрыканскага камітэту, вырашыў больш дэталёва высьветліць справу магчымых дачыненьня БІНіМу й Мюнхэнскага інстытуту.

*„12 траўня 1953 г.*

*Дарагі Стась!*

*Справы зь Мюнхэнскім інстытутам СССР у нас такія: 4 месяцы таму Амэрыканскі Камітэт зьвяртаўся да Інстытуту* [БІНіМ. — **Н. Г.**]*, каб прыняць афіцыяльны ўдзел у навуковай канфэрэнцыі, якую ад імені гэтага Інстытуту арганізавалі ў Нью Ёрку. Паколькі Камітэт тады насіў яшчэ назоў „народаў Расеі“, ды меў такога „гадунца“, як КАЦАБ*[13]*, ды выразна вёў прарасейскую палітыку, дык мы адмовіліся ад гэтага, як адмовіліся й украінская Вольная Акадэмія ды Навукова Т-ва Шэўчэнкі. Гэтым хацелі рабіць і націск, каб Камітэт быў мякчэйшы пры перамовах палітычных. Таму ніхто з украінцаў на канфэрэнцыю не пайшоў, а з нашых выламаліся з-пад агульнаграмадзкай дысцыпліны толькі Адамовіч ды Сядура ды пайшлі туды пільнаваць свайго „хлеба куса“ — баяліся, што могуць згубіць стыпэндыі. Украінскія і стыпэндыяты не пайшлі, і нічога ім ня сталася, як не пайшоў і наш Акіншэвіч*[14]*. Дык малайцы „танчылі на двох лапках“ за „пайку з маслам“ безь ніякой нават і асабістай неабходнасьці. За гэта ты іх і выслаўляеш цяпер у „Бацькаўшчыне“.*

*Нягледзячы на такую „уводную увэртюру“, калі Амэрыканскі Камітэт лічыў змушаным мяняць кіраўніка свайго Інстытуту з расейца Яковлева на амэрыканца Баліса*[15] *(ягоны адрыс цяпер у Мюнхэне: 46 Аўгустэнстр.), дык папрасіў даць нам адрыс свайго прадстаўніка нашага Аддзелу ў Нямеччыне. Тады я й напісаў Табе ліст з просьбаю рэпрэзэнтаваць там нас і наш аддзел. Ці замену старшынаў ужо правялі афіцыяльна ці не — мне няведама, але Вільямс з Камітэту пару месяцаў таму мне казаў, што такую зьмену яны зробяць, каб даць дарогу туды іншым нацыянальнасьцям ды каб ставячы на чало амэрыканца, адсунуць гэтым рывалізацыю за кіраўніцтва.*

*Твая думка правільная, што не чакаючы на іхныя „запросіны“ трэба самым туды стукаць ды дамагацца свайго. Гэтымі днямі з боку Амэрыканскага Камітэту быў і намёк на тое, што праз Мюнхэн зусім магчыма можна будзе атрымліваць і некаторую дапамогу на навуковую працу й нам, ды што ў гэтай справе трэба гаварыць з праф. Балісам. Дык, па-мойму, Ты зусім маеш магчымасьці цяпер даказаць тут свой дыпляматычны спрыт ды нешта ад іх раздабыць на выдавецкія справы. Хаця пытаньне, ці яны будуць гатовыя даваць на старану, хутчэй запрапануюць друкавацца ў сваіх выдавецтвах.*

[13] Маецца на ўвазе **КаЦАБ,** Каардынацыйны цэнтар антыкамуністычнай барацьбы — створаная ў 1952 г. арганізацыя, што аб'яднала каля 20 расейскіх эміграцыйных арганізацыяў.

[14] **Леў Акіншэвіч** (1898—1980), гісторык, публіцыст, крытык. Нарадзіўся ў г. Санкт-Пецярбург. Вучыўся ў Кіеўскім унівэрсытэце, у 1918 г. прыняў грамадзянства БНР. У 1920-х г. працаваў ва Ўкраінскай Акадэміі навук, супрацоўнічаў зь БелАН і Інбелкультам. З 1933 г. — прафэсар Нежынскага пэдынстытуту. Быў абвінавачаны ў беларускім і ўкраінскім нацыяналізьме й звольнены. Падчас нямецкай акупацыі жыў ва Ўкраіне. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у цэнтры вывучэньня СССР у Вашынгтоне, супрацоўнічаў зь БІНіМам.

[15] У іншым месцы Тумаш называе прозьвішча Бэйліс.

*Нам, па-мойму, трэба дамагацца й аднаго, і другога: і месца ў іхных выдавецтвах і дапамогі на нашую навуковую працу, на Інстытут. Калі б такая дапамога была, можна было б у Мюнхэне разгарнуць і выдавецкую працу Інстытуту (БІНіМ).*

*Тут перамовы фронту „нацыяналаў“ тымчасам знайшлі завяршэньне ў афіцыяльным адказе адм. Стівэнса, у якім ён прапануе ў гэтых справах гаварыць з КаЦАБам! Але, выглядае, гэта болей для захаваньня „віду“, бо назаўтра ж яны самі неафіцыяльна паведамілі, што Камітэт наладзіць сам перагаворы (значыцца КаЦАБ ня будзе гаспадаром), ды каб у Эўропе чакалі на такую канфэрэнцыю.*

*З гэтага выглядае, што перабудоўваць свой КаЦАБ усё ж думаюць, і гэта неблагі знак і для справы, якую ты маеш падымаць з Інстытутам СССР. Можаш афіцыяльна выступаць як прадстаўнік нашага Інстытуту, але пільнуйся, каб Цябе ня ўпуталі ў нейкую палітычную справу, за якую мусіў бы тады адказваць Інстытут. [...]*

*17 траўня 1953 г.*

*Дарагі Стась!*

*Учора мы мелі паседжаньне ўправы Інстытуту, і на ім была абмеркаваная, між іншым, справа нашых адносінаў да Мюнхэнскага Інстытуту СССР. Мне даручана паведаміць аб прынятай лініі паступаньня Цябе, каб Ты мог адпаведна на месцы ў патрэбе дзеяць.*

*Агульна беручы, справа з гэтым Інстытутам стаіць сяньня так:*

*Адгэтуль высланы ўжо 6 тыдняў таму праф. Бэйліс (з стэйту Вашынгтон над Ціхім Акіянам, а не з сталіцы Вашынгтону) з мэтаю быццам абняць кіраўніцтва Інстытуту па праф. Яковлеве ды яго рэарганізаваць у кірунку ўцягненьня туды й прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, ня толькі расейцаў (нават у кіраўніцтва). Ці гэтую рэарганізацыю ён ужо распачаў, ці яшчэ не, нам няведама. У сувязі з тым, што Амэрыканскі Камітэт выкінуў з свайго назову абразьлівы для нас зварот „расейскіх народаў“ і галоўна ў сувязі з тым, што цяпер не бяз згоды й некаторай нават дапамогі гэтага камітэту мантуецца фронт „нацыяналаў“, сяньня няма ўжо паважнейшых прынцыповых перашкодаў у браньні ўдзелу ў працы Інстытуту СССР і нам, пад умоваю, ясна, правядзеньня ягонай рэарганізацыі ў духу раўнапраўнасьці ў ім усіх народаў зацікаўленых і пашаны іхных памкненьняў да волі.*





*Дык цяпер хіба час не чакаць на „запросіны“, але дабівацца й самым пераарганізацыі, зьменаў, помачы ў нашай навуковай працы ды дбаньня пра тое, каб беларуская дзялянка гэтай працы была належна дагледжаная ды ў меру магчымасьці пад нашаю калі не кантролаю, дык прынамсі пад нашым уплывам.*

*У гэтай справе ўжо некаторыя перамовы рабіліся нашым Інстытутам з Амэрыканскім Камітэтам, аб якіх тут і перадаю інфармацыю для толькі Тваіх, строга тайных, патрэбаў. З боку Інстытуту была выражаная просьба матар'яльнай дапамогі на ЗАПІСЫ ды на выданьне літаратурнага часапісу, паколькі аснаўная ідэалягічная лінія гэтых выданьняў ляжыць у плошчы антыбальшавіцкага змаганьня — мэты, для якой існуе і Амэрыканскі Камітэт. З боку Камітэту была выказаная прынцыповая на гэта згода пад двума ўмовамі: падтрымаць працу Інстытуту СССР у Мюнхэне, магчыма нават, увайсьці каму-небудзь з нашых Мюнхэнскіх сяброў у кіраўніцтва гэтага Інстытуту ў патрэбе, і, другое: магчымая помач можа быць толькі ў Эўропе, а не ў ЗГА (гэта статутовае правіла Амэрыканскага Камітэту).*

*Гаварылася й канкрэтна з нашай стараны аб разьмерах канкрэтнай помачы. На пачатках мы прасілі субсыдыяваць 4 нумары ЗАПІСАЎ і 2 нумары літаратурнага часапісу (па 6 аркушаў друку), на то трэба мець суму крыху больш 3 тысячаў даляраў. Усе матар'ялы ў сувязі з гэтымі перамовамі ці не пасланыя ўжо праф. Бэйлісу ў Мюнхэн.*

*З гэтай сытуацыі й выплывае лягічна для нас спосаб тактычнага паступаньня: для Амэрыканскага Камітэту патрэбнае нашае супрацоўніцтва, для нас іхная матар'яльная помач ды па магчымасьці ўплыў на працу Інстытуту СССР у беларускай дзялянцы. Таму з нашага боку й трэба ставіць як умоўную кампэнсату за супрацоўніцтва: дапамога на навуковыя ЗАПІСЫ ды на літаратурны часапіс. У далейшым таксама дапамога на паасобныя выданьні. Твая думка, каб праз іх выдаць аповесьць, ня ведаю, ці пройдзе, паколькі Інстытут, здаецца, пакуль што займаецца толькі канкрэтна навуковаю працаю, а не выдаваньнем літаратурных тэкстаў. Ды дзеля нашай жа карысьці ня трэба спачатку ціснуць на паасобныя кніжкі, а на дапамогу галоўнаму: ЗАПІСЫ ды літаратурны часапіс. Здабыўшы гэта, дамагацца далейшага: паасобныя кніжкі-працы ці нават і літаратурныя творы (хоць гэтым хіба будзе займацца нехта іншы). Як „плату“ за гэта, апрача магчымага дзейнага ўчасьця з працы*

*Інстытуту СССР, можам даваць і матар’ялы ў іхны „Вестнік“ ці паасобныя працы для асобнага выданьня (пасьля адыходу Якоўлева, аднак, ды перааргенізацыі Інстытуту на прынцыпах роўнага трактаваньня пытаньняў кажнага народу). Ясна, што вельмі было б важна мець уплыў на справы Інстытуту. Хоць у патрэбе нашыя працы могуць друкавацца й па-расейску (як цяпер друкуецца вестнік), але, па-мойму, нам трэба націскаць на тое, каб па магчымасьці ў публікацыях Інстытуту СССР карысталіся болей моваю ангельскаю, пакольці яе куды больш знае ўвесь заходні сьвет, і працы тады мелі б куды большае значэньне й пашырэньне (чаго не заўсёды хочуць расейцы). З другой стараны, нашага прадстаўніка справаю было б даглядзець, каб у публікацыях інстытуту больш тарнавалася ў чужых мовах тэрміналёгія „Уайтрутэнія“ чым русыфікацыйная „Белорашэ“. Чаму — мой погляд на гэта знаеш з дасланага ў папярэднім лісьце артыкулу. Вось прыклад пару справаў, якія для нас важныя ды якіх трэба было б пільнаваць у Інстытуце СССР, побач агульнай абароны ды рэпрэзэнтацыі нашых навуковых патрэбаў.*

*Інстытут СССР мае апірацца передусім на сіды Эўропы, дзеля гэтага тут падаю інфармацыю Табе, якімі навуковымі ці інтэлектуальнымі кадрамі распараджаецца цяпер Інстытут у Эўропе. Гэтымі тыднямі мы закладаем у Эўропе тры лякальныя аддзелы Інстытуту: у Нямеччыне, у Бэльгіі і ў Францыі. На кіраўніка нямецкага аддзелу просім згадзіцца быць Табе. Сябры Табе ведамыя: апрача Тваёй сям’і, Кандыбовіч, Карповіч, Чайкоўскі (як мастак). Гэтымі днямі запішацца хіба Вініцкі[16] ды мог бы запісацца ў літаратурную сэкцыю хіба і Сыч. Хоць колькасьць немалая, але, сам знаеш, практычна сіла гэта не такая вялікая. Апрача Цябе й Карповіча, мне сяньня няясна, ці шмат могуць навуковага зрабіць іншыя. Аднак для рэпрэзэнтацыі ў патрэбе, гэтага зусім дастаткова. Бэльгійскі аддзел мае „ачоліць“, здаецца, айцец Робэрт[17] (хоць гэта яшчэ канчаткова не дагаворана). Там афіцыйна сябрамі бэльгійскага аддзелу Інстытуту ёсьць ужо а. Смаршчок[18], др. Рагуля[19] й др. Набагез[20]. Зусім магчыма хутка*

[16] Маецца на ўвазе гісторык і грамадзкі дзеяч Алесь Вініцкі, які ў той час жыў у Нямеччыне.

[17] Маецца на ўвазе **а. Робэрт ван Кавэлярт дэ Ўілс** (1906—?), грэка-каталіцкі сьвятар, які апекаваўся беларускімі студэнтамі ў Лювэне (Бэльгія).

[18] **Аўген Смаршчок** (1914—1984), сьвятар, пэдагог, перакладнік. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю (1934), настаўнічаў. У 1939 г. мабілізаваны ў войска, браў удзел у абароне Варшавы, трапіў у палон. У 1940 г.⇨





*туды пераедзе ад Вас Карповіч. У Францыі хіба кіраўніком аддзелу будзе а. Леў[21], сябры там мастак Наўмовіч[22], інж. Абрамчык, інж. Рыдлеўскі[23] (здаецца, цяпер выехаў у Англію) ды кс. Чарняўскі[24]. Сілы,*

⇨ вызвалены. Працаваў на фабрыцы ў Бэрліне, вучыўся ў Бэрлінскім унівэрсытэце. У 1950 г. скончыў факультэт псыхалёгіі й філязофіі Філіпс-унівэрсытэту ў Марбургу. Зь верасьня 1950 г. высьвечаны на ярэя БАПЦ, пераехаў у Лювэн (Бэльгія) для абслугоўваньня рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, заклаў парафію БАПЦ. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт з ступеньню магістра псыхалёгіі й філязофіі. У 1960-х навучаўся ў Вольным інстытуце філялёгіі й гісторыі ўсходніх славянаў Брусэльскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень магістра славістыкі. У 1965—1980 гг. выкладаў расейскую мову ў Вышэйшай флямандзкай школе перакладнікаў у Антвэрпэне.

[19] Маецца на ўвазе Барыс Рагуля.

[20] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Набагез** (1919—2011), лекар, грамадзкі дзеяч, які ў той час вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце.

[21] Маецца на ўвазе **а. Леў Гарошка** (1911—1977), рэлігійны дзеяч, пэдагог, публіцыст. У 1946—1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

[22] **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), мастак, грамадзкі дзеяч. Пасьля вайны жыў у Францыі. Скончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы (1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці, спрычыніўся да стварэньня Беларускага незалежнага аб’яднаньня моладзі, выдаваў часопіс „Моладзь“.

[23] **Лявон Рыдлеўскі** (1903—1953), грамадзкі дзеяч. Каля 1908 г. пераехаў з бацькамі ў Слуцк. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасьля раззбраеньня паўстанцаў на польскай тэрыторыі, у 1921 г., жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. Скончыў Політэхнічны інстытут (1928) з дыплёмам інжынэра. У 1929 г. разам з М. Абрамчыкам выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у шэрагах францускага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэньні Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, выданьні „Беларускіх навінаў“, быў сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР. У сувязі з рэзкім пагаршэньнем здароўя (рак) і цяжкім матэрыяльным становішчам пераехаў пад апеку а. Часлава Сіповіча ў Лёндан, дзе неўзабаве памёр.

[24] **Францішак Чарняўскі** (1893—1979), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. У 1920 г. атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні. У 1924—1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім грыгарыянскім унівэрсытэце й Усходнім інстытуце. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях.⇨

*як бачыш, даволі вялікія колькасна, але слабыя якасна. Але трэба гаспадарыць тым матар'ялам, які нам гісторыя дала ды выцягнуць максымум зь яго магчымага. Дык у патрэбе можаш казырыць гэтымі аддзеламі ды іхнымі аўтарытэтамі. Апрача гэтага існуюць паадзіночныя сябры ў Англіі, Італіі. Аддзелы Інстытуту па-за Эўропаю арганізуюцца ў Канадзе ды Аўстраліі.*

*З працаў для эвэнтуальнага друку (аб СССР) апрача „Ахвяраў" Панькова, якая цяпер разраслася на болей як дзесяць аркушоў друку, існуе агляд прамысловасьці БССР. Але гэта ўсё не зусім даконччаныя рэчы. Няма часу за працаю, і таму нейкі аванс на іх заканчэньне таксама ня шкодзіў бы, тады праца пайшла б куды жывей.*

*З гэтага хіба будзеш добра зар'ентаваны, у чым справа, аб што ходзіць, ды будзеш ведаць, як у патрэбе пастуіпць. У выпадку патрэбы можаш выступаць як кіраўнік Аддзелу БІНіМ у Нямеччыне й рэпрэзэнтант Ньюёрскай Цэнтралі на Эўропу. Аднак пільнуйся, каб Цябе ня ўпуталі ў нейкія КЦАБы, ды наагул у важнейшых справах лепш, каб перш узгодніваў з Упраўаю Інстытуту. Ліманоўскі[25] гэтымі днямі мае выслаць Табе ў гэтых справах афіцыяльны ліст пангельску да праф. Бэйліса, каб зь ім мог зручней злажыць яму візыту ды справу выясьніць...*"[26]

⇨ Пераехаў у Бэльгію, у 1953—1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь „Божае слова". У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс „Сяўбіт".

[25] **Янка Ліманоўскі** (1896—1989), пісьменьнік, літаратуразнаўца. У часе Першай сусьветнай вайны служыў у царскай арміі. У 1920-х гг. працаваў у Наркамаце земляробства БССР. Быў сябрам „Маладняку" і БелАПП. У 1929 г. стаў дырэктарам Другога беларускага тэатру. Потым — намесьнікам кіраўніка Інстытуту літаратуры й мастацтва АН БССР. Праз выкрыцьцё зьвестак аб шляхецкім паходжаньні быў выключаны з партыі й зьняты з пасады. Працаваў на катэдры замежных моваў у Політэхнічным інстытуце. Падчас нямецкай акупацыі — загадчык літаратурнай часткі менскага гарадзкога тэатру. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952—1954 гг. — дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхэн для працы ў Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне", аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з В. Тумашам адышоў ад БІНіМу. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З часам абарваў кантакты зь беларусамі.

[26] Лісты Вітаўта Тумаша да Станіслава Станкевіча захоўваюцца ў архіве БІНіМу.







Станіслаў Станкевіч на канфэрэнцыі Інстытуту вывучэньня СССР. 1954 г.

Такім чынам, БІНіМ выказаў выразную зацікаўленасьць у супрацы з рэфармаваным Мюнхэнскім інстытутам. Аднак гісторыя пайшла, пэўна, не зусім так, як хацелася б Вітаўту Тумашу. Рэарганізацыя Інстытуту вывучэньня СССР заняла болей за год. Пастанову аб неабходнасьці працы ў навуковым цэнтры прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў СССР прынялі ў 1954 г. Барыс Якаўлеў ачольваў установу да Шостай канфэрэнцыі, што адбылася ў 1955 г. На пасадзе кіраўніка, якая цяпер была хутчэй прадстаўнічай, яго замяніў В. Мярцалаў, а праз два гады Г. Шульц, які й працаваў да спыненьня дзейнасьці інстытуту[27]. Аднак гэтыя людзі ўжо мала што вырашалі самастойна. З 1954 г. па ўзмацненьні кантролю Амэрыканскага камітэту сапраўды павялічылася фінансаваньне дзейнасьці Інстытуту вывучэньня СССР. У 1956 г. ён перайшоў у новае большае памяшканьне на *Mannhardstrasse 6*[28].

Аднак малаверагодна, што БІНіМ і ягоныя выданьні адразу атрымалі гэтак жаданае падтрыманьне сваіх ініцыятываў. Першы нумар літаратурнага пэрыёдыка „Конадні" пабачыў сьвет у 1954 г. у Нью-Ёрку, такім чынам, ад Амэрыканскага камітэту, што, калі верыць Тумашу,

[27] Константинов, Д. Мюнхенский институт. (Из истории второй российской политической эмиграции)... С. 546—547.

[28] Дзесяцігодзьдзе Інстытуту Вывучэньня СССР // Беларускі зборнік. №12. Мюнхэн, 1960. С. 5—8.

падтрымоўваў менавіта эўрапейскія праекты, фінансы на яго наўрад ці маглі пайсьці. Толькі ад №5—6 „Конадні" сталі выходзіць з пазнакай „Нью-Ёрк—Мюнхэн", а апошні, №7, што пабачыў сьвет у 1963 г., ужо пазначаўся як мюнхэнскае выданьне. Магчыма, толькі тады БІНіМу ўдалося атрымаць фінансаваньне на гэты часопіс праз Амэрыканскі камітэт. „Запісы" ж да 1954 г. выдаваліся таксама ў Нью-Ёрку, пасьля чаго адбыўся перапынак на восем гадоў, і толькі ў 1962—1970 гг. пяць нумароў пабачылі сьвет у Мюнхэне пад рэдакцыяй Станіслава Станкевіча.

Аднак нягледзячы на тое, што выдавецкія пляны БІНіМу ў дачыненьні супрацы з Амэрыканскім камітэтам і Мюнхэнскім інстытутам ажыцьцяўляліся не зусім так, як чакаў Вітаўт Тумаш, рэарганізацыя дала беларускім навукоўцам сапраўды ўнікальныя магчымасьці.

Верагодна, хутка па прыняцьці пастановы аб уключэньні прадстаўнікоў нацыянальных групаў у склад Інстытуту вывучэньня СССР у 1954 г. пры актыўным спрыяньні Міколы Абрамчыка й Антона Адамовіча тут стварылі Беларускі аддзел. Узначаліў яго той самы кіраўнік аддзелу БІНіМу ў Нямеччыне Станіслаў Станкевіч. Сталымі работнікамі Беларускага аддзелу сталі выпускнікі Лювэнскага ўнівэрсытэту Аляксандар Марговіч і Паўла Урбан ды Сымон Кабыш-Кандыбовіч. Пры гэтым Станкевіч уваходзіў і ў Навуковую раду. Пазаштатна супрацоўнічалі зь Мюнхэнскім інстытутам, друкаваліся ў ягоных беларускіх выданьнях Антон Адамовіч, Мікола Куліковіч, Вацлаў Пануцэвіч, а. Леў Гарошка, Янка Станкевіч, Алесь Карповіч, Уладзімер Глыбінны, Гіпаліт Паланевіч, Ізыдар Гуткоўскі, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель і іншыя беларусы[29]. Амаль што ўсе яны былі адначасова й сябрамі БІНіМу. (Цікава, што сам Вітаўт Тумаш якраз не публікаваўся на старонках пэрыёдыкаў Мюнхэнскага інстытуту.)

Не атрымаўшы грошай на друкі Беларускага інстытуту, тым ня менш беларусы займелі магчымасьць выдаваць два навуковыя пэрыёдыкі пад шыльдай Мюнхэнскага інстытуту: ангельскамоўны *Belorussian Review* ды пераважна беларускамоўны „Беларускі зборнік". У апошнім даволі часта публікаваліся беларускамоўныя варыянты ангельскамоўных публікацыяў зь першага. Аднак нельга сьцьвярджаць, што гэта былі цалкам ідэнтычныя паводле зьместу выданьні.

Акрамя таго, пад шыльдаю інстытуту сталі выходзіць і паасобныя беларускія выданьні. Ці ня першым зь іх было дасьледаваньне Антона Адамовіча (падпісанае псэўданімам Н. Недасек), прысьвечанае ўсталяваньню бальшавіцкай улады ў Беларусі, што пабачыла сьвет ужо ў 1954 г.[30] Потым былі выдадзеныя іншыя працы Антона Адамовіча, у тым ліку такія ведамыя, як „Супраціў саветызацыі"[31], а таксама Вацлава Пануцэвіча, Міколы Куліковіча, Уладзімера Сядуры-Глыбіннага, Янкі Станкевіча, Гіпаліта Паланевіча, Паўлы Урбана й іншых беларускіх навукоўцаў[32].

Дасьледаваньні, складаньне беларускіх бібліяграфіяў, клопат пра выданьні, побач з удзелам у канфэрэнцыях, быў асноўным кірункам працы Беларускага аддзелу Мюнхэнскага інстытуту[33]. Можна сьцьвярджаць, што 1955—1960 гг., калі выходзілі згаданыя беларускія пэрыёдыкі інстытуту ды багата выдавалася беларускіх дасьледаваньняў паасобнымі выданьнямі, былі значнымі й плённымі для беларускай навукі на эміграцыі. З пачатку 1960-х, нягледзячы на тое, што выданьне „Запісаў" было перададзенае ў Мюнхэн, праца Беларускага аддзелу Інстытуту вывучэньня СССР пайшла на спад. Вялікую ролю тут адыграў фактар зьмены вонкавапалітычнай дактрыны ЗША, пэўнага скарачэньня фінансаваньня інстытуту. У 1963 г. выехаў у ЗША старшыня аддзелу Станіслаў Станкевіч. У гэты час ягоны калега з інстытуту Сымон Кабыш-Кандыбовіч меў 72 гады. У 1967 г. пасьля цяжкай хваробы памёр Алесь Марговіч. У 1960-х адышлі ці перабраліся ў ЗША розныя беларусы, што супрацоўнічалі з установаю. Беларускі аддзел фактычна спыніў існаваньне. Зь ягоных супрацоўнікаў да канца дзейнасьці Інстытуту вывучэньня СССР застаўся толькі Паўла Урбан. Аднак і ён ужо працаваў у іншай структуры — у Біяграфічным аддзеле.

Пасьля росквіту дзейнасьці Мюнхэнскага інстытуту другой паловы 1950-х прыйшла некаторая стагнацыя 1960-х. А ў 1972 г. паводле пагадненьня амэрыканскага ўраду з СССР установа ўвогуле спыніла сваё існаваньне. Былы работнік Беларускага аддзелу Паўла Урбан пайшоў працаваць у Беларускую сэкцыю радыё „Свабода".

[29] Паводле сьведчаньня Янкі Запрудніка ў лісьце да Натальлі Гардзіенкі ад 25.07.2011. Захоўваецца ў архіве Н. Гардзіенкі.

[30] Недасек, Н. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Очерки истории большевизма в Белоруссии. Мюнхен: Институт по изучению истории и культуры СССР, 1954. — 68 с.

[31] Adamovich, A. Opposition to the Sovietization in Belorussian Literature (1917—1957). München: Institutefor the Study of the USSR, 1958. — 204 p.

[32] Гл.: Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

[33] Юрэвіч, Лявон. З архіўных тэчак БІНіМу // Запісы БІНіМ. №29. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 27—28.



Супрацоўнікі каля ўваходу ў Інстытут вывучэньня СССР.
Другая палова 1960-х гг. Здымак з калекцыі Паўлы Урбана

Аднак варта адзначыць, што беларуская гісторыя ўстановы не вычэрпваецца Беларускім аддзелам і на спыненьні ягонай працы не зусім скончылася. Быў яшчэ адзін сюжэт. З 1950-х гг. у Мюнхэнскім інстытуце дасьледаваньнем рэлігіі ў СССР займалася былая кіраўніца Саюзу беларускай моладзі Надзея Абрамава-Тэадаровіч. Яна ж выдавала пэрыёдык „Религия и атеизм в СССР“. Вось што пісала пра сваю навуковую дзейнасьць у Мюнхэне гэтая дасьледніца ў лісьце да Яніны Каханоўскай:

*„Не знаю, доходят ли до Вас мои работы. Они издаются на разных языках: на русском, немецком, английском. Если не видели никогда — напишите, пришлю Вам. Пишу о положении религии и Церкви всех вероисповеданий в СССР. Эта тема, как Вы знаете, всегда была для меня важна и интересна еще там. Теперь, когда изучаю положение верующих там, особенно хочется открывать глаза здешним оптимистам, которые, будучи спровоцированы советской агентурой, думают, что там уже давно произошла либерализация, демократизация и наступает коммунистический рай. Американцам трудно вдалбливать, что это далеко не так, им так хочется сосуществования. Но они не понимают, что и под флагом сосуществования коммунисты будут ловить свою рыбку в мутной воде, делать свое каиново дело — разжигать классовую борьбу, форсировать локальные инциденты, приближать «мировой пожар»“*[34].

Надзея Абрамава-Тэадаровіч займалася вывучэньнем ня толькі й ня столькі беларускай праблематыкі, колькі рэлігійнай. І ў адрозьненьне ад іншых інстытуцкіх працаўнікоў, яна не спыніла працы й пасьля ліквідацыі ўстановы.

*„Я еще палец о палец не стукнула, чтобы начать дело с моей пенсией. Живу на огрызок пенсии, который получаю от какого-то пенсионного комитета из Швейцарии, куда и мы, и за нас Институт выплачивал какие-то проценты от зарплаты. Шлют ее мне на 3 месяца. Последний месяц зубы надо класть на полку. Но это мне неважно, я человек нетребовательный. Барахлишко имею, на еду хватает.*

*Живу работой. Живу тем, что пишу то, что считаю нужным писать и бросать в народ, который так мало знает о происходящим там и так легко поддается на удочку советской пропаганды. Бью в набат, толку — конечно мало. Получаю множество писем от единомышленников. Они и благодарят, и поощряют, и распространяют мои сведения через доклады и беседы вокруг себя. Считаю, что и это важно, поскольку вокруг меня люди после закрытия Института сложили ручки на брюшке и молчат, доживая. Хочу дожить, продолжая свидетельствовать истину“*[35].

У той самы час у лісьце да Натальлі Арсеньневай Надзея Абрамава-Тэадаровіч згадвала й сваё выданьне:

*„Цяпер вось ладжу выданьне майго штомесячніка. І ён, як бачу, адбірае ўсю маю энэргію. Высылаю на 1400 адрасоў, карэспандэнцыя заўжды, чытаць прыходзіцца безьліч, мець клопаты з друкам, экспэдыцыяй. Спыніць гэтае працы ня маю права. Атрымліваю шмат лістоў з падзякай. Навукоўцы, духоўныя, журналісты выкарыстоўваюць дадзеныя, якія даю па-расейску і па-нямецку. Ня ўсе ж карыстаюцца з савецкага друку, ды й ня ўсе цікавяцца рэлігійнымі пытаньнямі — вось і служу гэтае працы“*[36].

---

[34] Ліст Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да Яніны Каханоўскай ад 10.05.1967. Абулікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі. Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. С. 154.

[35] Ліст Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да Яніны Каханоўскай ад 19.01.1973. Апублікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны... С. 163.

[36] Ліст Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да Натальлі Арсеньневай. Апублікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны... С. 166.

Часопіс „Религия и атеизм в СССР“ Надзея Абрамава-Тэадаровіч выдавала да сваёй сьмерці ў 1979 г. Пасьля справу пераняў др. П. Мадэста. Аднак, магчыма, толькі тады, у 1979 г., з адыходам гэтае дасьледніцы сапраўды скончылася беларуская гісторыя Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне.

Беларускі ўдзел у працы Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне быў даволі плённы для эміграцыйнай навукі. Беларускі аддзел установы, што дзеяў каля 1954—1962 гг., пасьпеў выдаць 8 нумароў *Belorussian Review* і 12 нумароў „Беларускага зборніка“, а таксама дзясяткі манаграфічных дасьледаваньняў, прысьвечаных гісторыі й культуры БССР. Супрацоўнікі аддзелу бралі ўдзел у распрацоўваньні й агульнаінстытуцкіх, найперш бібліяграфічных, выданьняў, выступалі на шматлікіх ладжаных інстытутам канфэрэнцыях. Аддзел пашыраў інфармацыю пра Беларусь у Заходніх навуковых колах у зразумелых тамтэйшым навукоўцам мовах, дапамагаў беларускім навукоўцам навязваць кантакты з калегамі. Сапраўднае значэньне беларускай дзейнасьці ў інстытуце, узроўню й характару публікаваных матэрыялаў, сувязяў інстытуту зь БІНіМам (як і адказ на пытаньне, ці сапраўды змог апошні ўплываць на беларускія дасьледаваньні ў першым) — усё гэта яшчэ патрабуе адмысловага вывучэньня.



Надзея Абрамава



*Установа*

## БІБЛІЯГРАФІЯ БЕЛАРУСКІХ ПЭРЫЁДЫКАЎ ІНСТЫТУТУ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР У МЮНХЭНЕ

*У архіве БІНіМу захаваўся лацінічны машынапіс, зроблены на кальцы й пазначаны наступным чынам: „Літоўская Бібліяграфічная Служба. Выданьне №66. Беларускі Зборнік і Belorussian Review. 1955—1960. Паказьнік артыкулаў. Уклаў Вольша (Аляксандар) Ружанец. Кіраўнік Літоўскай Бібліягр. Службы. Danville, Illinois, ЗША — 1963“.*

*У прадмове, датаванай 22 лютага 1963 г., аўтар-складальнік пазначыў:*

*„Бацькаўшчына“ (№40 (426) 1958 г.) пісала: „Іншым даволі патрэбным выданьнем, аб якім ужо пара падумаць, гэта „Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне“. Выданы калісьці сп. Паньковым такі паказьнік ахопліваў нашы выданьні 1945—1950 гг. Тым часам за апошнія 8 гадоў зьявіліся (хоць і ня так ужо шмат) новыя выданьні, якіх ужо часамі й ня так лёгка адшукаць. У такім паказьніку пад паасобнымі пазыцыямі мусілі б быць зацемкі анатацыйнага характару ў беларускай і яшчэ прынамсі ў ангельскай мове. У разьдзеле ж часопісаў і наогул пэрыёдыкі, пад паасобнымі нумарамі, мусілі б быць таксама зацемкі аб некаторых важнейшых артыкулах, зьмешчаных у гэтых часопісах“.*

*У 1959 г. Літоўская Бібліягр. Служба выдала паказьнік артыкулаў „Беларускага Зборніку“ дый „Belorussian Review“ 1955—1958 гг. На жаль, выданьняў 1959—1960 гг. з Інстытуту Служба не атрымала, нават не было адказана на 3 ці 4 лісты… Але ж паважаны сп. А. Каханоўскі параіў, да каго зьвярнуцца, а паважаны сп. Ул. Дунец пазычыў кнігі, якіх бракавала. Шчыра дзякуем дарагім суродзічам!*

*Трэба спадзявацца, што сп. М. Панькоў мусі быць ужо і ўлажыў паказьнік беларускіх выданьняў 1951—1960 гг., калі беларускія выдавецтвы іх прысылаюць.*

*Мусі быць, шаноўная нашая пясьнярка Натальля Арсеньнева мела на ўвазе падобных да мяне... пэнсіянэраў, калі пісала:*

*„Праробленае ўсё...*

*Я маю трохі часу.*

*Хоць гэта й дзіўна, часу для сябе...“*

*І гэты час, якога, магчыма, і ня так многа засталося, найлепш будзе скарыстаць для бібліяграфіі“.*

*Аляксандар Ружанцоў (1893—1966) — вядомы беларускі інтэлектуал, дасьведчаны бібліёграф, кнігазнаўца — займаўся стварэньнем паказьнікаў беларускіх і літоўскіх выданьняў яшчэ з часоў працы кіраўніком Цэнтральнай вайсковай бібліятэкі ў Коўне (1921—1940). Апынуўшыся ў 1949 г. у ЗША і пасяліўшыся ў невялікім горадзе Дэнвіл у штаце Ілінойз, ён працягваў сваю бібліяграфічную працу, кіруючы Літоўскай бібліяграфічнай службай. Сярод іншага ён склаў паказьнікі беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў „Веда“, „Запісы БІНіМ“, „Конадні“.*

*Такім чынам, ня дзіўна, што Аляксандар Ружанцоў узяў на сябе й складаньне бібліяграфіі двух беларускіх пэрыёдыкаў, выдаваных Інстытутам вывучэньня СССР у Мюнхэне: 12 нумароў „Беларускага зборніка“ (1955—1960) і 8 нумароў Belorussian Review (1955—1960). Усе артыкулы былі разьмеркаваныя паводле тэматычных разьдзелаў і падразьдзелаў з адмысловым бібліяграфічным шыфраваньнем. Назва кожнага разьдзелу падавалася, акрамя беларускай мовы, у літоўскай, францускай, ангельскай і нямецкай. Аднак у гэтай публікацыі мы пакінулі толькі беларускія назвы разьдзелаў, бо самі пазыцыі ў бібліяграфіі падаваліся выключна ў мове арыгіналу й не суправаджаліся іншамоўнымі анатацыямі. Таксама ў пададзенай ніжэй бібліяграфіі былі выпраўленыя некаторыя недакладнасьці, а апісаньні артыкулаў прыведзеныя ў адпаведнасьць з практыкай бібліяграфічных апісаньняў нашага пэрыёдыка.*

## 0 — Агульныя працы

*00 — Пачаткі, культура*

**Глыбінны, Уладзімер. Найноўшыя праявы змаганьня за самабытнасьць беларускай культуры** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 55—68.





**Запруднік, Ян. Беларусы ў Польшчы (Беларускае грамадзка-культурнае таварыства (хроніка)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 160—163.

**Hlybinny, U. Belorussian culture after World War II** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 45—59.

**Hlybinny, U. The latest developments in the struggle for the independence of Belorussian culture** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 17—25.

**Zaprudnik, Jan. Belorussian in Poland (The Belorussian social and cultural association)** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 168—169.

*06 — Навуковыя ўстановы*

**Дзесяцігодзьдзе Інстытуту вывучэньня СССР 1950—1960** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 5—8.

**Запруднік, Я. Сэсія Акадэміі навук БССР (хроніка)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 170.

**Р. М. Беларускі інстытут навукі й мастацтва (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 194—196.

**Я. С. Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства Пранціша Скарыны (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 190—193.

**J. S. The Francis Skaryna Kryvian (Whiteruthenian) society of arts and sciences in the U.S., Inc.** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 158—160.

**Niamiha, H. The academy of sciences of the BSSR (1936—1956)** // Belorussian Review. No 7. 1957. P. 126—143.

**Niamiha, H. The Belorussian academy of sciences (October 13, 1928 — July 7, 1936)** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 5—29.

**Niamiha, H. The Institute of Belorussian Culture** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 5—33.

**R. M. The Whiteruthenian institute of arts and sciences** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 160—162.

**Ten years of the Institute for a study of the USSR 1950—1960** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 85—87.

**Zaprudnik, Jan. Meeting of the Academy of sciences of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 171.

*07 — Журналістыка*

**Запруднік, Я. Расшырэньне пэрыядычнага друку ў БССР (хроніка)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 171.
**Станкевіч, Ян. Нашаніўства і бальшавізм (да 50-х угодкаў выхаду „Нашае Нівы“)** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 80—112.
**Zaprudnik, Jan. The extension of the periodical press in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 171—172.

## 2 — Рэлігія

*272 — Рэлігійны перасьлед*

**Гарошка, Леў. Савецкая рэлігійная палітыка пасьля 1942 году** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 5—67.
**Гарошка, Леў. Сучаснае рэлігійнае становішча ў Беларусі** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 114—136.
**Haroška, Leu. Religion in Belorussia today** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 102—119.
**Haroška, Leu. Soviet policy toward religion after 1942** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 5—36.

## 3 — Сацыяльныя навукі

*31 — Статыстыка*

**Волацiч, Мікола. Насельніцтва Заходняй Беларусі і яго перасяленьні між сучаснай Польшчай і БССР** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 5—40.
**Галубнічы, Усевалад. Некаторыя вынікі ацэны дэмаграфічных статыстык БССР** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 126—144.
**Даўлечын, Т. Аб пасыланьні моладзі на індустрыяльныя работы на Поўнач, Усход і ў Данбас** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 102—116.
**Dauletshyn, T. Labor transfers of youth in the Soviet Union** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 139—149.





**Holubnychy, Vsevolod. The population of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 112—122.
**Volacič, Mikola. The population of Western Belorussia and its resettlement in Poland and the USSR** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 5—30.

*32 — Палітыка, камуністы*

**Запруднік, Ян. Да гісторыі камуністычнай партыі Беларусі** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 50—75.
**Запруднік, Ян. Камуніст Беларусі. №№2, 3, 4, 5, 1957 г. (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 151—175.
**Запруднік, Ян. Камуніст Беларусі. №№6—12, 1957 г. (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 164—177.
**Запруднік, Ян. Камуніст Беларусі. 1957. №1 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 154—159.
**Запруднік, Ян. Трэці пленум ЦК ЛКСМ Беларусі (хроніка)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 167—169.
**Запруднік, Ян. XIX зьезд камсамолу Беларусі (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 177—183.
**Запруднік, Ян. XXII зьезд камуністычнай партыі Беларусі (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 172—176.
**Недасек, Н. Нацыянальнае самавызначэньне й Саветы** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 5—19.
**Урбан, П. Нацыянальнае пытаньне пасьля зьезду КПСС** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 31—50.
**Урбан, П. 40-я ўгодкі БССР і ейнай камуністычнай партыі** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 20—54.
**Nedasek, N. National self-determination under the Soviets** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 3—16.
**Urban, P. The twentieth party congress and the national question** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 83—95.
**Zaprudnik, Jan. Elections in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 172.
**Zaprudnik, Jan. Komunist Bielarusi. Minsk, 1957. No 1 (review)** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 165—167.
**Zaprudnik, Jan. Komunist Bielarusi. 1957. No 2, 3, 4, and 5. (review)** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 124—135.

**Zaprudnik, Jan. Komunist Bielarusi. 1957. No 6—12** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 125—132.
**Zaprudnik, Jan. The communist party of Belorussia. An outline of its history** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 23—39.
**Zaprudnik, Jan. The third plenary session of the central committee of the Belorussian Komsomol** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 169—170.
**Zaprudnik, Jan. The XIX congress of the Komsomol in Belorussia** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 148—153.
**Zaprudnik, Jan. The XXII congress of the communist party of Belorussia** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 145—148.

*33 — Народная гаспадарка, плянаваньне*

**Введзенскі, Г. Прамысловасьць БССР на працягу 40 год** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 138—169.
**Галубнічы, Усевалад. Разьмяшчэньне прамысловасьці ў тэорыі і практыцы на прыкладзе Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 98—119.
**Даўлечын, Т. Савецкія мэтады змаганьня за дысцыпліну працы да XX зьезду КПСС** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 97—113.
**Кабыш, Сымон. Арганізацыя Саўнаргасу і прамысловасьць Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 141—163.
**Кабыш, Сымон. Новая пастанова ў дачыненьні калгасаў і МТС** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 145—150.
**Кабыш, Сымон. Прамысловасьць і сельская гаспадарка ў аспэкце шостай пяцігодкі** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 67—101.
**Кабыш, Сымон. Саўгасы ў СССР на працягу 40 год** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 98—125.
**Кабыш, Сымон. Сельская гаспадарка Беларусі ў першым годзе новае пяцігодкі** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 130—152.
**Кабыш, Сымон. Сорак год сельскае гаспадаркі Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 170—204.
**Кабыш, Сымон. Уборка, хлебанарыхтоўкі і ўраджай 1955 г. у СССР** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 75—96.





**Davletshin, T. Soviet methods of labor discipline** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 133—144.
**Holubnychy, Vsevolod. The location of industries in Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 122—136.
**Kabyš, S. Agriculture in Belorussia during the first year of the sixth five-year plan** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 76—92.
**Kabyš, S. Belorussian agriculture and the 6th five year plan** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 96—112.
**Kabyš, S. Belorussian industry and the sixth five-year plan** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 120—132.
**Kabyš, S. The development of Belorussian agriculture under Soviet rule** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 99—125.
**Kabyš, S. The harvest in the USSR** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 98—114.
**Kabyš, S. The Sovnarkhoz and industry in Belorussia** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 97—111.
**Vvedensky, G. A. Forty years of industry in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 76—98.

*34 — Права*

**Вароніч, Л. Дзьве сыстэмы права ў Савецкім Саюзе** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 67—71.
**Даўлечын, Т. Зьмены ў савецкім працоўным праве** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 74—97.
**Davletshin, T. Changes in Soviet labor law** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 93—108.
**Varonič, L. Deux systemes de droit en URSS** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 155.
**Varonič, L. Two legal systems in the USSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 140.
**Varonič, L. Zweierlei Rechts Systeme in der UdSSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 147—148.

*35 — Дзяржаўная адміністрацыя*

**Запруднік, Я. Рэглямэнтацыя насельніцтва ў БССР (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 188—189.

**Zaprudnik, Jan. Reglamentation of the population in the BSSR** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 155—157.

*355 — Вайсковасьць*

**Барыц, І. Значэньне Беларусі ў ваенна-стратэгічных плянах Крамля** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 122—140.
**Baritz, Joseph J. Belorussia and the Kremlin's strategic plans** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 82—96.

*37 — Асьвета, узгадаваньне*

**Няміга, Г. Асьвета, культура і навука БССР за 40 год** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 75—94.
**Няміга, Г. Школьніцтва ў БССР да разгрому „нацдэмаўшчыны“ (1917—1930 гг.)** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 111—170.
**Няміга, Г. Школьніцтва ў БССР у няволі бальшавіцка-камуністычнай дактрыны** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 7—66.
**Niamiha, H. Education, culture and science in the BSSR. A brief survey of the Soviet period** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 40—50.
**Niamiha, H. Education in the Belorussia before the rout of „national democracy“, 1917—1930** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 34—66
**Niamiha, H. Education in the Belorussian SSR and the communist doctrine** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 59—101.

*39 — Этналёгія*

**Кулікові́ч, М. Беларускі савецкі песенны фальклёр** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 92—102.
**Станкевіч, Ян. Рапановіч, Яўген — Беларускія прыказкі, прымаўкі й загадкі. Менск, 1958 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 113—123.





## 4 — Моваведа

**Станкевіч, Ян. Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 49—110.
**Станкевіч, Ян. Некаторыя новыя зьмены беларускае нарматыўнае граматыкі й правапісу ў Беларускай ССР (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 153—163.
**Станкевіч, Ян. Русско-белорусский словарь. Москва, 1953 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 164—171.
**Stankievič, Jan. Руска-беларускі слоўнік (Russian-Belorussian dictionary) (review)** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 136—138.
**Stankievič, Jan. Some new changes in the Belorussian language as used in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 121—123.
**Stankievič, Jan. The language policy of the bolshevics in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 67—81.

## 5 — Прыродаведа

*55 — Геалёгія*

**Кіпель, В. Мінэральныя рэсурсы Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 100—114.
**Яловіч, А. Тарфяныя рэсурсы БССР і іх эксплюатацыя** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 61—73
**Jalovič. The peat resources of the Belorussian SSR and their exploitation** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 109—120.
**Kipel, V. A survey of Belorussia's mineral resources** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 142.
**Kipel, V. Die Mineralien-Vorkomnisse in Weissruthenia** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 149—150.
**Kipel, V. Ressources minerales en Bielorussie** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 157—158.

## 6 — Прыкладныя навукі

*626 — Гідратэхнічнае будаўніцтва*

**Будзімер, В. Праблема асушэньня Палескай нізіны** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 72—85.

**Кабыш, С. Палесьсе й праблема мэліярацыі ў БССР** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 103—112.
**Лебедзь, А. Да пытаньня гідратэхнічнага будаўніцтва ў Беларусі** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 51—60.
**Budzimier, V. Das Problem der Trockenlegung der Polessje-Niederung** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 148.
**Budzimier, V. Le probleme du drainage de la basse contree de Poliesse** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 155—156.
**Budzimier, V. The problem of draining the Polese depression** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 140—141.
**Kabуъ, S. Polesye and the problem of the reclamation of the peat bogs in Belorussia** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 65—74.
**Lebiedz. Hydraulic engineering works in Belorussia** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 113—121.

*63 — Сельская гаспадарка*

**Архімовіч, А. Культура лёну даўгунца ў Беларусі** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 165—173.
**Будзімер, В. Адмоўная роля кукурузы ў сельскай гаспадарцы БССР** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 187—202.
**Archimovič. The cultivation of long fiber flax in Belorussia** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 115—122.
**Budzimier, V. Problems of corn cultivation in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 121—130.

*634.9 — Лясная гаспадарка*

**Парамонаў, А. Сучасны стан лясоў Беларусі** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 134—143.
**Яловіч, А. Ахова прыроды і запаведнікаў у БССР** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 171—186.
**Яловіч, А. Беларускія дубровы** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 117—123.
**Яловіч, А. Лясы Беларускай ССР** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 86—99
**Jalovič, A. Die Wälder der Weissruthenischen SSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 148—149.





**Jalovič, A. Forests of the Belorussian SSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 141.
**Jalovič. Forests of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 107—120.
**Jalovič, A. Les foréts de la BSSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 156—157.
**Paramonov, A. The present condition of the Belorussian forests** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 75—84.

*656.2 — Чыгункі*

**Конаш, А. Тэхнічнае навучаньне на чыгунках Беларусі** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 113—129.
**Конаш, А. Чыгуначны транспарт Беларусі** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 101—133.
**Konash. Rail transport in Belorussia. The history of its development** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 49—64.

**7 — Мастацтва**

**Куліковіч, Мікола. Беларускае мастацтва 20-х гадоў іягоныя карэньні ў савецкай сучаснасьці** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 124—143.
**Куліковіч, Мікола. Беларускае народнае мастацтва пад савецкім кірункам** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 23—48.
**Куліковіч, Мікола. Выкарыстаньне мастацтва для падняцьця прадуктыўнасьці калгаснае працы** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 64—79.
**Куліковіч, Мікола. Падрыхтоўка мастацкіх кадраў у БССР** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 151—171.
**Куліковіч, Мікола. Сучаснае беларускае мастацтва ў БССР** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 174—196.
**Kulikovič, M. Belorussian national art under Soviet control** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 82—97.
**Kulikovič, M. Contemporary art in the Belorussian Soviet Socialist Republic** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 122—133.

*78 — Музыка*

**Карповіч, Алесь. Другі зьезд кампазытараў Савецкае Беларусі (хроніка)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 184—187.
**Куліковіч, Мікола. Крызіс беларускага музычнага мастацтва ў БССР пасьля вайны 1941—1945 гг.** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 115—136.
**Karpovič, A. The second congress of composers of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 153—155.
**Kulikovič, Mikola. Die Krise der Weisruthenischen Music nach dem Kriege 1941—1945** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 150—151.
**Kulikovič, Mikola. La situation critique de la musique bielorussiene après la guerre de 1941 — 1945** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 158.
**Kulikovič, Mikola. The crisis in Belorussian music after World War II** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 142—143.

*792 —Тэатар*

**Карповіч, Алесь. Кніга аб беларускім тэатры й драме „The Byelorussian theater and drama“ by V. Seduro, New York 1955 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 197—201.
**Куліковіч, Мікола. Беларускі тэатар на шляху дэнацыяналізацыі** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 85—100.
**Куліковіч, Мікола. Да пытаньня дэградацыі вядучага тэатра БССР** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 120—153.
**Karpovič, A. The Byelorussian theater and drama by V. Seduro, New York 1955 (review)** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 144—146.
**Kulikovič, Mikola. Soviet Belorussian opera** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 58—75.

*8 — Літаратура*

**Адамовіч, Антон. Афіцыйны савецкі Парнас беларускай літаратуры** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 82—91.
**Адамовіч, Антон. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Ўзвышша“** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 5—52.





**Адамовіч, Антон. Да 40-годзьдзя Купалавага антыбальшавізму** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 64—78.
**Адамовіч, Антон. Саветызацыя беларускай літаратуры і ейныя этапы** // Беларускі зборнік. №2. 1955. С. 7—22.
**Адамовіч, Антон. Сацыялістычны рэалізм і ягоныя сучасныя аспэкты** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 144—177.
**Адамовіч, Антон. Сорак год беларускае літаратуры ў БССР (хранікальны агляд)** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 95—122.
**Беразьняк, Алесь. Леташні літаратурны год у БССР** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 79—121.
**Беразьняк, Алесь. Убітым шляхам сацыялістычнага рэалізму (агляд часапісу „Полымя“ за 1956 г.)** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 5—39.
**Запруднік, Ян. Да пытаньня рэабілітацыі ў БССР** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 164—166.
**Няміга, Г. Дакумэнтальнае значэньне антынацдэмаўскай літаратуры** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 48—66.
**Станкевіч, Ст. Купала праўдзівы і Купала сфальшаваны** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 41—74.
**Станкевіч, Ст. Рэвізіяністычныя плыні ў беларускай савецкай літаратуры напярэдадні 40-годзьдзя БССР** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С. 123—137.
**Станкевіч, Ст. Якуб Колас (3.XI.1882 — 15.VIII.1956)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 5—30.
**Adamovič. UZVYŠŠA — the Belorussian literary club** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 23—55.
**Adamovič, Ant. The sovietization of Belorussian literature** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 98—106.
**Adamovič, Anton. Some notes on Kupała’s attitude to the bolshevicks** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 74—81.
**Adamovich, Antony. Forty years of Belorussian literature in BSSR** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 51—65.
**Adamovich, Antony. The official Parnassus of the Belorussian literature** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 26—34.
**Bierazniak, Ales. Recent Soviet Belorussian literature. A review of Polymia for 1956** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 34—57.

**Bierazniak, Ales. Soviet Belorussian literature in 1957** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 60—73.
**Niamiha, H. Die Dokumentare Bedeutung der anti-national-demokratischen bolchewistischen Literatur** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 147.
**Niamiha, H. L'importance dokumentaire de la literature antinationale et andemocratique sovietique** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 154—155.
**Niamiha, H. The documentary significance of bolshevik anti-national-democrat literature** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 139—140.
**Stankievič, St. Jakub Kolas (November 3, 1882 — August 13, 1956)** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 5—22.
**Stankievič, St. Kupała in fact and fiction** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 31—55.
**Stankievič, St. „Revisionist tendencies“ in Soviet Belorussian literature on the eve of forthiest anniversary of the BSSR** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 66—75.
**Zaprudnik, Jan. Rehabilitation in the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 170—171.

*8-1 — Паэзія*

**Kupała, Janka. Arise from out our people, native seer. Poem / Transl. by Luba U. Terpak** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 58.
**Kupała, Janka. To court. Poem / Transl. by Luba U. Terpak** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 57.
**Kupała, Janka. To the King of Heaven and the Earth. Poem / Transl. by Luba U. Terpak** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 56—57.

*92 — Жыцьцяпіс*

**Адамовіч, Антон. Да 40-годзьдзя Купалавага антыбальшавізму** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 64—78.
**Аляксей Густававіч Саргенфей** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 139—140.
**Станкевіч, Ст. Купала праўдзівы і Купала сфальшаваны** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 41—74.





**Станкевіч, Ст. Якуб Колас (3.XI.1882 — 15.VIII.1956)** // Беларускі зборнік. №6. 1956. С. 5—30.
**Adamovič, Anton. Some notes on Kupaia's attitude to the bolshevicks** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 74—81.
**Stankievič, St. Jakub Kolas (November 3, 1882 — August 13, 1956)** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 5—22.
**Stankievič, St. Kupaia in fact and fiction** // Belorussian Review. No 3. 1956. P. 31—55.

*93/99 — Гісторыя*

**Вароніч, Л. Гісторыя Беларусі ў працах савецкай гістарыяграфіі расейскаю моваю** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 131—164.
**Волаціч, Мікола. Лінія Керзона на фоне падзеяў і тэрытарыяльных зьменаў у Ўсходняй Эўропе** // Беларускі зборнік. №3. 1955. С. 68—130.
**Волаціч, Мікола. Сутнасьць ленінскай нацыянальнай палітыкі на прыкладзе тварэньня СССР** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 69—97.
**Запруднік, Ян. Нацыянальная палітыка КПСС на Беларусі** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 151—156.
**Касьцюк, Рыгор. Да 20-годзьдзя пакту Молатава-Рыбэнтропа і пачатку 2-й сусьветнай вайны (Да гісторыі змовы дыктатараў супраць міру і свабоды)** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 69—84.
**Марговіч, А. Кніга аб Беларусі ў ангельскай мове. Nicholas P. Vakar: Belorussia. The making of a Nation. Cambridge, Mass. 1956 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №5. 1956. С. 178—198.
**Марговіч, А. Раман Якемчук: La Ligne Gurzon et la II-e querre mondiale. Louvain-Paris, 1957 (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 176—180.
**Менскі, Язэп. Чаму ды як была ўтвораная Беларуская ССР** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 3—33.
**Няміга, Г. „Савецкая нацыянальная палітыка на прыкладзе Беларусі“, у насьвятленьні Н. Вакара. (рэцэнзія)** // Беларускі зборнік. №4. 1956. С. 137—150.

**Паланевіч, Г. Нацыянальная тэорыя й практыка бальшавізму ў Беларусі** // Беларускі зборнік. №12. 1960. С. 9—81.
**Станкевіч, Ст. Нацыянальная палітыка Крамля ў Беларусі** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 34—47.
**Урбан, П. Зварот да ранейшых догмаў у савецкай гістарычнай навуцы** // Беларускі зборнік. №8. 1957. С. 53—68.
**Урбан, Павал. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (кароткі гістарычны нарыс)** // Беларускі зборнік. №10. 1959. С.5—49.
**Урбан, Павал. Да пытаньня нацыянальнага супраціву ў СССР (на прыкладзе БССР)** // Беларускі зборнік. №9. 1958. С. 5—63.
**Урбан, Павал. Сучасныя палітычныя тэндэнцыі ў савецкай гістарычнай навуцы** // Беларускі зборнік. №7. 1957. С. 40—63.
**Урбан, Павал. 40-я ўгодкі БССР і ейнай камуністычнай партыі** // Беларускі зборнік. №11. 1959. С. 20—54.
**Kostyuk, H. The twentieth anniversary of the Molotov—Ribbentrop pact and Soviet Westward expansion** // Belorussian Review. No 8. 1960. P. 35—48.
**Marhovič, A. Belorussia. The making of a Nation by Nicholas P. Vakar. Cambridge, Mass. 1956 (review)** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 150—164.
**Marhovič, A. Romain Yakemtchuk: La Ligne Gurzon et la II-e querre mondiale. Louvain-Paris, 1957 (review)** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 122—124.
**Mienski, J. Pour quelles raisons et de quelle maniére la RSS Bielorussienne fut elle cree** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 152—153.
**Mienski, J. The establishment of the Belorussian SSR** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 137—138.
**Mienski, J. The establishment of the Belorussian SSR** // Belorussian Review. No 1. 1955. P. 5—33.
**Mienski, J. Weshalo und auf welshe Weise die Weissruthenische SSR gegründet wurde** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 144—145.
**Niamiha, H. Soviet nationality policy: The case history of Belorussia by N. Vakar (review)** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 134—143.





**Stankievič, Jan. The Soviet falsification of Belorussian history** // Belorussian Review. No 4. 1957. P. 56—82.
**Stankievič, St. Die Nationalitäten-Politik des Kreml in Weissruthenien** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 145—146.
**Stankievič, St. La politique nationale du Kremlin en Bielorussie** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 153—154.
**Stankievič, St. The Kremlin's national policy in Belorussia** // Беларускі зборнік. №1. 1955. С. 137—138.
**Urban, P. Belorussian opposition to the Soviet regime** // Belorussian Review. No 6. 1958. P. 30—44.
**Urban, Paviel. The Belorussian Soviet Socialist Republic. A brief historical outline** // Belorussian Review. No 7. 1959. P. 3—22.
**Varonič, L. The history of Belorussia in the works of Soviet historiography** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 73—97.
**Volacič, M. The Curzon Line and territorial changes in Eastern Europe** // Belorussian Review. No 2. 1956. P. 37—72.
**Zaprudnik, Jan. The nationality policy of the communist party of the Soviet Union in Belorussia** // Belorussian Review. No 5. 1957. P. 124—127.

*Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі*

## *Сьв. памяці Паўла Урбан*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ПАЎЛА УРБАН
# 27.03.1924 — 02.02.2011

Паўла Урбан нарадзіўся ў вёсцы Закаліўе (сёньня Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) у звычайнай сялянскай сям'і, дзе было сямёра дзяцей. У часе калектывізацыі бацька не хацеў уваходзіць у калгас, за што яго абвесьцілі кулаком і нават арыштавалі, а хутка па вызваленьні ўсё ж вымусілі далучыцца да калектыўнай гаспадаркі. У 1940 г. Паўла Урбан паступіў у школу фабрычна-завадзкога навучаньня ў Віцебску на спэцыяльнасьць сталяра.

Падчас нямецкай акупацыі вёска Закаліўе апынулася ў партызанскай зоне. Каб унікнуць вывазу ў Нямеччыну й дапамагчы бацькам Паўла Урбан пайшоў служыць у дапаможную паліцыю ў Лепелі. У 1944 г. разам з паліцэйскім аддзелам ён пакінуў Беларусь і быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Некаторы час быў у Францыі. Пазьней апынуўся ў Арміі Власава, па раззбраеньні якой некалькі разоў уцякаў ад савецкай рэпатрыяцыйнай місіі. Урэшце трапіў у лягер Ды-Пі ў Інгальштаце, адкуль праз некаторы час перабраўся ў беларускі лягер у Рэгенсбурзе. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы.

У 1948 г. разам зь сябрамі з „Дванаццаткі" выехаў у Вялікабрытанію на працу ў вугальных капальнях. Тут, як і іншыя ўдзельнікі суполкі, далучыўся да беларускай грамадзкай дзейнасьці. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё". Адначасова ўдзельнічаў у выданьні друкаванага органа „Дванаццаткі" — часопісу „Наперад!". На яго старонках публікаваліся літаратурныя спробы (апавяданьні й аповесьць) Урбана пад псэўданімам Паўлюк Вазёрны.

У 1950 г. Паўла Урбан выехаў разам зь сябрамі ў Бэльгію. Вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У часе навучаньня быў сакратаром і скарбнікам беларускай студэнцкай арганізацыі ў Лювэне, а таксама сакратаром Саюзу беларусаў Бэльгіі. Разам зь іншымі беларускімі студэнтамі сьпяваў у хоры, створаным Міколам Равенскім. У 1954 г. напісаў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. Па сканчэньні навучаньня амаль год правёў у Рыме, працаваў з матэрыяламі Ватыканскай бібліятэкі й архіваў.





З 1955 г. Паўла Урбан стала жыў у Мюнхэне. З красавіка 1956 г. і да закрыцьця ў 1972 г. працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР на пасадзе навуковага супрацоўніка й рэдактара ў агульным дасьледчым аддзеле. Пры гэтым ён меў магчымасьць займацца беларусазнаўчымі дасьледаваньнямі, у тым ліку й старажытнай гісторыяй Беларусі. Паўла Урбан быў адным зь першых, хто зрабіў адмысловае дасьледаваньне гістарычнага панятку „Літва". Адначасова ён пільна адсочваў усё, што адбывалася ў савецкай (агульнай і ўласна беларускай) гістарыяграфіі й рэагаваў на значныя падзеі на старонках беларускага эміграцыйнага друку, а таксама ў навуковых выданьнях інстытуту. У апошнія гады дзейнасьці інстытуту Паўла Урбан кіраваў біяграфічным аддзелам, быў сябрам прэзыдыюму й сакратаром навуковай рады.

Акрамя працы ў інстытуце Паўла Урбан як сябра Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў 1960-х гг. разам з Станіславам Станкевічам займаўся выданьнем у Мюнхэне пэрыёдыка „Запісы БІНіМ". У той жа час ён быў сурэдактарам газэты „Бацькаўшчына", скарбнікам і адміністратарам выдавецтва „Бацькаўшчына".

З самага стварэньня Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне" Паўла Урбан пісаў тэксты для яе праграмаў гістарычнай тэматыкі. А хутка па закрыцьці Інстытуту вывучэньня СССР, у 1974 г., перайшоў на радыё „Свабода" на сталую працу ў Беларускую рэдакцыю, дзе й заставаўся да выхаду на пэнсію ў 1989 г.

Праз усё жыцьцё Паўла Урбан заставаўся беларусам-гісторыкам. Ён аўтар каля дзьвюх соцень публікацыяў, прысьвечаных беларускай гісторыі, у беларускай, расейскай, ангельскай, нямецкай, францускай мовах. Ягоная навуковая спадчына, таксама як і архівы, яшчэ чакаюць сваіх дасьледнікаў.



Паўла Урбан. 1960 г.





***Паўла Урбан***

## УСПАМІНЫ

*З Паўлам Урбанам мы ўбачыліся толькі аднойчы, вясной 2006 г. На тэлефонную прапанову падзяліцца жыцьцёвымі ўспамінамі й стаць героем кнігі „Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў“, над якой я тады працаваў, Урбан адказаў цьвёрдай адмовай. Як і дзясяткі іншых нашых эмігрантаў, якія знаходзілі мноства аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў для таго, каб сказаць „не“. Але мяне не пакідала ўражаньне, што бальшыня суразмоўцаў палічыла за лепшае забраць гісторыю свайго жыцьця (а разам зь ім — і частку гісторыі паваеннай эміграцыі) ў магілу, чым атрымаць на Радзіме балючае кляймо „здрадніка й фашыста“.*

*Вось і Урбан, што зьбіраўся ў той час адзначыць 82-годзьдзе, баяўся, каб у роднай Беларусі яго ізноў не паставілі ў адзін шэраг з „паліцаямі-карнікамі“. Баяўся, што яго слабое здароўе ня вытрымае яшчэ аднаго артыкулу з абвінавачаньнямі й выкрываньнямі. Але, тым ня менш, мы сустрэліся. Ён пагадзіўся, каб я забраў частку ягонага кніжнага й газэтнага архіву, што акуратна захоўваўся ў сутарэньні дому на ўскраіне Мюнхэну.*

*Урбан падаўся мне тады эталёнам пасьпяховай інтэграцыі, аб якой гэтак часта дыскутуюць сёньня ў Нямеччыне. Вонкава — тыповы немец: акуратны, дысцыплінаваны, дасканала валодае нямецкай мовай. Уразіла, у якой чысьціні й парадку адзінокі хворы 82-гадовы мужчына падтрымлівае дом і гаспадарку (ці кавалак зямлі з садам, што прылягае да дому). Амаль цэлы пакой займала чытальня, што пад самы дах была запоўненая навуковымі кніжнымі навінкамі. Там, на стале, любіла загадкава назіраць за гаспадаром котка нейкай рэдкай афрыканскай пароды (яна мела рознакаляровыя вочы), якую пяшчотна любіў Урбан...*

*Гэта той самы Урбан, інтэлектуальны волат, які перад пачаткам вайны мог марыць толькі аб кар'еры... сьлесара. А аб чым яшчэ*

*маглі марыць сыны савецкіх „сялянаў-кулакоў“, „ворагі“, што да згубы прытомнасьці біліся ілбом аб сьцяну, якая аддзяляла іх ад „нармальнага“ савецкага грамадзтва? Сыстэма, а затым вайна зрабілі з Урбана ня сьлесара, а „лепельскага паліцая“, а пасьля — знакамітага гісторыка-журналіста, дасьледніка ватыканскіх архіваў, кнігі якога сталі бэстсэлерамі ў роднай, і ў той жа час чужой для аўтара незалежнай Беларусі.*

*На шчасьце, Паўла Урбан успаміны пакінуў. Напісаў ён іх на пачатку 1990-х. Але спачатку падамо ўрыўкі ліста Урбана да аўтара гэтых радкоў, якія дапамагаюць лепш зразумець шматгранную й неадназначную постаць вясковага інтэлектуала зь Віцебшчыны...*

Шаноўны Аляксандар Адзінец!

Вы жадаеце ад мяне, каб я напісаў нейкі сацыялягічна-філязофскі трактат або, прынамсі, абшырную й „навуковую“ АЎТАБІЯГРАФІЮ. 26 пытаньняў, на кожнае зь якіх аніяк не адкажаш адным сказам!

Але, як было сказана ў тэлефоннай гутарцы, я пачуваюся даволі кепска: галава часта баліць, здараюцца галавакружэньні, у сувязі з чым я мушу ўнікаць людзкога гармідару й асьцярожна сачыць за кожным сваім крокам (нават змушаны ласкава выбачацца, калі мая дачка або былая жонка запрашаюць да сябе ў госьці).

А якія лекі? Ды ўсе яны наркотыкі, кажа мой лекар, і толькі радзіць, каб я захоўваўся абсалютна спакойна, нічым не турбаваўся й не хваляваўся, ня браў на сябе непатрэбнай разумовай нагрузкі, і каб шмат знаходзіўся на сьвежым паветры, асабліва пажадана — у лесе!

Сюды дадаюцца яшчэ іншыя хваробы, асабліва надакучлівыя высокі ціск крыві й прастата.

Вось чаму ад нейкага часу я павінен быў спыніць усялякую „навуковую“ творчасьць і абмежавацца толькі да лёгкага чытаньня навейшай літаратуры з галіны сусьветных цывілізацый і культураў, рэлігіяў і разнастайных мітаў, літаратуры прыродазнаўчай і жывёльнага сьвету. Чытаю яшчэ навінкі спэцыяльных гістарычных дасьледаваньняў. Вось чаму я ня ў стане пайсьці насустрач, калі часам зь Беларусі да мяне зьвяртаюцца з просьбамі высьветліць тое ці іншае гістарычнае пытаньне або зрабіць у нашай Дзяржаўнай бібліятэцы фатакопію нейкай там кнігі. Дарэчы, з гэтай прычыны я ня мог дапамагчы й Янку Запрудніку, калі ён працаваў над кнігай „Дванаццатка“.

У Вашых пытаньнях ёсьць і насьвятленьне майго „Лепельскага“ пэрыяду жыцьця, і справа „30-й дывізіі“, і загадка 1-й дывізіі арміі Андрэя Власава (яго я бачыў толькі адзін раз, крыху здалёку на трыбуне — гэта быў высокі мажны чалавек), і насьвятленьне дзейнасьці „Інстытуту вывучэньня СССР“, які для былой савецкай прапаганды быў простым „асіным гняздом“ рознага гатунку „здраднікаў“ і „фальсыфікатараў“. Усе гэта было б добрай зачэпкай дзеля разьдзьмуханьня антыбеларускай гістэрыкі, яшчэ й таму, што ў мінулым пра мяне шмат, і шмат нэгатыўнага, пісалася ў былым беларускім савецкім друку.

Ня буду тут згадваць паасобныя пашквільныя артыкулы. Назаву толькі фактычна акадэмічнае выданьне „Дары данайцев“ (Минск, Изд-во „Беларусь“, 1987). Тут дасталася й дзеячам беларускага нацыянальнага адраджэньня, і дзеячам Беларускай Народнай Рэспублікі, і дзеячам беларускай навейшай эміграцыі, і ўсім беларускім каталіцкім сьвятарам на Захадзе. Вось некаторыя згадкі:

Стар. 250: *„Однако было бы неправильно связывать судьбу сегодняшнего белорусского буржуазного национализма на Западе только с кладбищами и похоронными маршами. В строю „освободителей Белоруссии“, ее „друзей и защитников“ осталось еще немало белбурнацких боевиков. Среди них, например, нынешний редактор „Беларуса“ Янка Запрудник, он же Арсень Загорный... Это и известный фальсификатор-историк Павел Урбан, продолжающий выпускать в свет один „труд“ за другим...“*

Стар. 152: *„Среди буржуазных фальсификаторов находятся и такие „специалисты“ из числа эмигрантов, как А. Адамович, П. Урбан, В. Сядура и другие. Труды которых они плодят в „Институте по изучению СССР“ в Мюнхене и в „Белорусском институте науки и искусства“ в Нью-Йорке еще в большей степени лишены какой-либо научности, пропитаны ненавистью к советскому строю и Коммунистической партии. Подтасовка фактов, бесстыжая фальсификация, крайняя тенденциозность — вот чем характеризуются их публикации“.*

Стар. 163: *„Модной темой буржуазного „белорусоведения“ стали „гадания“ о преимуществах возможных „некоммунистических альтернатив“ развития Белоруссии. Этот тезис особенно рьяно отстаивал П. Урбан в своей книге „У сьвятле гістарычных фактаў. У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага“. Книга отрицает исторические достижения белорусского народа за годы Советской власти. И повторяет стереотипный набор уже набивших оскомину домыслов о Белоруссии как «колонии России»“.*

Стар. 182: *„...Павел Урбан. Уроженец Лепельского района. В 1943 году поступил на службу в немецкий карательный отряд СД по борьбе с партизанами, дислоцировавшийся в Витебской области. Вместе*

*с оккупантами бежал из Белоруссии, боясь народного возмездия. Пригрет радиостанцией „Свобода“, сотрудник белорусской редакции“.*

Між іншага, гэтую апошнюю цытату бадай дакладна пераказаў заходненямецкі гісторык-камуніст: *Paul Kohl. „Ich wundere mich, daß ich noch lebe“. Sowjetische Augenzeugen berichten. Gütersloh, 1990. S. 135.* Толькі Паўль Коль пераказвае гэтую цытату вуснамі свайго „спадарожніка“, які суправаджаў яго ў паездцы па Віцебшчыне і ў Віцебску таксама. І з вуснаў таго „спадарожніка“ (пэўна, „чэкіста“!) вынікала яшчэ тая „праўда“, што гэта я ў Віцебску быў „карнікам“ і там у складзе „спэцыяльнай каманды“ расстрэльваў і яўрэяў, і савецкіх ваеннапалонных. Ну як ты дакажаш, што падчас вайны я наагул ня быў у Віцебску й ніколі не наведваўся туды?!

Цяпер крыху пра асабістае. У маіх бацькоў не было сямейнага архіву, і я ня ведаю, скуль маглі ўзяцца прозьвішчы Ўрбаноў, хоць у маёй вёсцы й наваколльлі было даволі шмат гэтых Урбаноў. Можна меркаваць, што далекаватыя прадзеды тых нашых Урбаноў належалі да вуніяцкага веравызнаньня, адсюль спачатку зьявілася імя Урбан, а пазьней і прозьвішчы Ўрбаны. Бо ж у беларусаў і палякаў былі й ёсць яшчэ прозьвішчы Ўрбановічаў і Ўрбанчыкаў. Дарэчы, яшчэ ў 16 ст. у Вільні былі месьцічы Ўрбаны, хоць, праўда, гэта маглі быць таксама аседлыя там іншаземныя прышэльцы.

Галоўнае ўражаньне зь юнацтва ў мяне засталося з аднае раніцы вясны 1938 году. Як звычайна ідучы са сваім крыху старэйшым братам Петрусём у школу, мы па дарозе сустрэліся з групкамі юнакоў і юначак, але некаторыя зь іх былі ціхмяныя, а дзяўчынкі плакалі. І высьветлілася, што іхных бацькоў уначы арыштавалі! А гэта былі звычайныя лесьнікі й працаўнікі Пышнянскай сярэдняй школы. Тады ж былі арыштаваныя й два настаўнікі нашай Пышнянскай сярэдняй школы. Гэта былі старэйшыя гадамі матэматык Гілевіч і мовавед Несьцяровіч. Даўно гэта было, і прозьвішча згаданага матэматыка магло быць не Гілевіч, а Перагуд, бо й гэтае прозьвішча чамусьці ўрэзалася ў памяці. У адным толькі паўдзённым накірунку ад мястэчка Пышна ў радыюсе 2-х км тады ў адну ноч былі схопленыя 4 лесьнікі й 2 супрацоўнікі сельсавету. У выніку адным махам было скалечанае жыцьцё 6-ці сем'яў!

Крыху пазьней зьнік яшчэ й трэці настаўнік, зусім малады чалавек, які ў ніжэйшых клясах таксама выкладаў беларускую мову й літаратуру.

Гэта не апраўданьне, але „лепельскім паліцаем“ я стаўся зусім не па сваёй добрай волі, а ў выніку аблавы на моладзь у нашых мясьцінах падчас вялікай антыпартызанскай акцыі пад назвай „Котбус“, якая адбывалася ў травені і ў чэрвені 1943 году. І гэта была звычайная самаабаронная паліцыя, а не „немецкий карательный отряд СД по борьбе с партизанами“. Зрэшты, тую нашую „лепельскую паліцыю“ ўзначальваў адзін немец, і ён насіў форму не „отряда СД“, а форму звычайнага нямецкага франтавіка.

Вось я напісаў усе гэта й пачуўся змораным. Узварушыў сваю памяць, а таму й зьявілася бяссоньніца. Адчуваю і ўсьведамляю, што проста не змагу выканаць усю Вашую просьбу. Ды й няма патрэбы ў гэтым з адзначаных тут мною прычынаў.

Дык бывайце шчасьліва!

Мюнхэн, 19.02.05





## Успаміны

Я, Паўла Урбан, нарадзіўся 27 сакавіка 1924 г. на Лепельшчыне ў вёсцы Закаліўе. Яна ляжала на даволі высакаватым узвышшы, за якім адразу пачыналася прыгожае возера, а сваю назву атрымала ад рачулкі Каліве, што з двух бакоў абмывала вёску. У паўднёвым кірунку ад майго Закаліўя пачыналіся вялікія лясы, якія цягнуліся да возера Плаўна й яшчэ далей. Там жа быў і ведамы Бярэзінскі запаведнік. Глыбіню тых лясоў зьмерыў і я ўласным крокам, калі быў яшчэ юнаком і заўзятым грыбнікам.

Мае бацькі — Кастусь і Аўгіньня — былі звычайныя сяляне й нават непісьменныя. Нарадзіліся яны адпаведна дзесьці ў 1882 і ў 1892 гг. Праўда, мой дзед (па бацьку), якога я прыгадваю быццам праз сон, здолеў адукаваць іншых сваіх двух сыноў, малодшых за майго бацьку. Лявон быў атрымаў пачатковую адукацыю, а наймалодшы брат майго бацькі Васіль — гімназіяльную, і ён марыў вучыцца далей. Гэты мой дзядзька Васіль загінуў у 1920 г., узначаліўшы на Лепельшчыне адзін з партызанскіх атрадаў, якія змагаліся супраць польскіх акупантаў. Пэўна ж, праз тую вайну прайшлі й мой бацька Кастусь, і ягоны малодшы брат Лявон, які, дарэчы, быў трапіў у нямецкі палон і вярнуўся дадому зь Нямеччыны толькі праз чатыры гады.

У маіх бацькоў было сем дзяцей: пяць сыноў і дзьве дачкі. Найстарэйшы мой брат Міхась, які быў любімцам у сям'і, памёр у 1938 г., пражыўшы ўсяго толькі 24 гады. Памёр ён хутка пасьля таго, як раптам захварэў на сухоты. Міхась быў крапаком і жыцьцярадасным, быў лагоднага характару й вельмі ж любіў усю дзетвару. Ягоную сьмерць асабліва балюча ўспрымала наша маці.

Цяпер выпадае сказаць, зь якіх прычынаў мае бацькі і ўся нашая сям'я былі трапілі ў катэгорыю гэтак званых „кулакоў"...

У валоданьні майго дзеда было толькі 5 дзесяцінаў зямлі. Гэта крыху больш за пяць гектараў. Пры падзеле дзедавай сям'і была падзеленая й гэтая ягоная зямля, палавіна якой дасталася майму бацьку, а другая палавіна — ягонаму малодшаму брату Лявону. Дзед мой жыў пры сям'і майго бацькі, і ён, здаецца, памёр у 1928 г. Бо як пазьней апавядала мне мая маці, мяне таксама ледзь не пахавалі разам зь дзедам. У тым годзе я таксама доўга хварэў на шкарлятыну, ляжаў пры сьмерці, а таму й для мяне бацька быў змайстраваў адпаведную дамавіну.

Інакш кажучы, гаспадаркі майго бацькі й ягонага брата Лявона належалі да катэгорыі гэтак званых „серадняцкіх" гаспадарак. Але, як ведама, была яшчэ хутарызацыя, якую неўзабаве пачнуць называць „прышчэпаўшчынай". Была палітыка перасяленьня сялянаў зь вёсак на хутары або ў невялікія пасёлкі, дзякуючы якой былыя малазямельныя сялянскія гаспадаркі маглі атрымліваць большыя зямельныя надзелы. Энтузіястам гэткай палітыкі быў тагачасны народны камісар земляробства Беларускай ССР Зьмітра Прышчэпаў, што і зьявілася прычынай для ягонага арышту ў 1930 г. Адным словам, мой бацька падаўся на хутар, а сям'я ягонага брата Лявона зь вёскі Закаліўе перасялілася ў бліжэйшы невялічкі пасёлак. Мой бацька быў атрымаў 9 гектараў зямлі, але гэта разам зь сенажацямі.

Аднак гэтая бацькавая радасьць трывала нядоўга, бо ў тагачаснай БССР калгасы пачалі ствараціца ў 1928 г., а масавая калектывізацыя аднаасобных сялянскіх гаспадарак была прысьпешаная ў другой палавіне 1929 г. Тады якраз і пачаліся арышты й высяленьне гэтак званых „кулакоў". Як прыгадваецца, у навакольлі вёскі Закаліўе звычайна арыштоўвалі й высылалі гаспадароў сем'яў і часта разам зь іхнымі старэйшымі сынамі. Хоць, праўда, крыху далей ад Закаліўя, абкружаныя лесам, было некалькі сялянскіх гаспадарак гэтак званай „засьцянкавай шляхты", дык гэтых „кулакоў" выслалі разам зь сем'ямі. Спачатку былі арыштаваныя бацькаў брат Лявон і ягоны старэйшы сын Мікола. Яны гэтак і прапалі. Быў арыштаваны таксама й мой бацька, і ён прасядзеў у Лепельскай турме штосьці каля 6 месяцаў, чакаючы на прысуд. Асабіста й я меў нагоду пазнаёміцца з гэтай турмой, а гэта ўвесну 1943 г. Цяпер у адной камэры той турмы сядзелі таксама зноў жа мой бацька і мой крыху старэйшы брат Пятрусь. Але пра гэта будзе гаворка пазьней. Тады ж, у 1929 г., бацька змушаны быў пакінуць сям'ю, яшчэ не дабудаваўшы хату на сваім хутары, і нашая сям'я пэўны час жыла ў гумне, у курнай будыніне, дзе звычайна сушылася збажына перад абмалотам на таку. Можна меркаваць, што бацьку выратаваў тады ад нейкіх там Салаўкоў славуты сталінскі артыкул „Головокружение от успехов", што на пачатку сакавіка 1930 г. быў надрукаваны ў газэце „Правда". Сталін „пашкадаваў" сялянства й пісаў у тым сваім артыкуле, што, маўляў, мясцовае начальства й актывісты пасьпяшаліся з калектывізацыяй, *„парушылі прынцып добраахвотнасьці"*. Дарэчы, здарылася тады яшчэ й гэткая цікавая зьява. Гэтак аўтары манаграфіі „Победа колхозного строя в Белорусской ССР" (1981) змушаныя былі сьцьвердзіць, што калі на 1 сакавіка 1930 г. у тагачаснай БССР было калектывізавана 457 513 сялянскіх гаспадарак, дык на 1 чэрвеня таго ж 1930 г. у калгасах засталося толькі 87 255 сялянскіх двароў. Інакш кажучы, у тым 1930 г. на працягу трох месяцаў гэтыя калгасы пакінулі 370 258 сялянскіх гаспадарак!

Вярнуўшыся з турмы, бацька адразу ўзяўся дабудоўваць хату. Трэба было таксама апрацоўваць зямлю, якую ён вельмі любіў. Уступаць у калгас занадта не сьпяшаўся, хоць наконт гэтага й была зь ім гаворка ў турме. Тымчасам, аднак, на бацькавую гаспадарку пасыпаліся розныя дадатковыя й завышаныя падаткі, сюды належала й ведамае „індывідуальнае ападаткаваньне". Здавалася, што адзіным выйсьцем з гэткай сытуацыі мог быць толькі калгас. І мой бацька стаўся „калгасьнікам", але ў тым жа калгасе яму было цесна. І тады, здаецца, у 1932 г., здарыўся выпадак, які стаўся прычынай для разьвітаньня з калгасам. У нашым хутарскім гумне, якое знаходзілася крыху далей ад жыльлёвай сядзібы, было шмат розных гаспадарчых забудоваў, і тут калгаснае начальства абсталявала конную малацілку, якая й пачала працаваць „ударнымі тэмпамі" — кругласутачна. Паганятым быў мой найстарэйшы брат Міхась, але калі коні часта мяняліся, дык для майго брата не знаходзілася замены. Будучы змучаным, аднаго разу Міхась прылег на шырокім дышлі й задрамаў, а тым часам нага дакранулася да шасьцярні, якая й абрэзала яму палавіну ступні. Абураны гэтым выпадкам, бацька й „выйшаў" тады з калгасу.

А як жылося ягонай сям'і пасьля гэткага кроку майго бацькі? „Абагульненая" раней зямля, адзін конь і адна „лішняя" карова засталіся, пэўна, у калгасе. Сям'я, аднак, магла затрымаць за сабой невялікі кавалак зямлі — агарод. Для падтрыманьня існаваньня вырошчваліся ў асноўным бульба й капуста, агуркі, цыбуля, буракі, морква й таматы. Зрэшты, нашыя лясы былі багатыя на ягады й грыбы, якія таксама падтрымлівалі жыцьцё й назапашваліся на зіму й вясну. Апрача таго, мой бацька быў „майстрам на ўсе рукі", быў добрым цесьляром і

муляром-печнікам, і ён, як мог, забясьпечваў сям'ю хлебам, хоць гэты хлеб і быў у тым часе сапраўдным „дэфіцытам“. Хапала, бясспрэчна, недаяданьня й голаду, асабліва ў 1933 і 1934 гг. Жылося нам гэткім чынам, як мізэрна існавалі тады сем'і калгасьнікаў. Можна ж было пачуць ад іх жарты накшталт гэткіх: Базыль або Сьцяпан — ты колькі атрымаў на свае калгасныя працадні? Штосьці зашмат, — адказваў гэты Базыль або Сьцяпан, — на сваёй сьпіне свой гадавы заробак я здолеў прынесьці дадому ў адным мяшку! Гэткая была рэчаіснасьць таго калгаснага „раю“... Сем'і калгасьнікаў таксама ў асноўным ратавала тое, што яны вырошчвалі на прыватнай прысядзібнай зямлі, — на добра ведамых „сотках“!

У 1939 г. у Беларускай ССР пачалася акцыя сьсяленьня хутароў і невялікіх пасёлкаў у калгасныя вёскі. Увесну таго году й да нас завіталі з падводамі калгасныя актывісты, якія тут жа раскінулі нашую хату й абвесьцілі бацьку: Кастусь, запісвайся ў калгас, і калгас дапаможа табе перавезьці хату, хлявы й пуню. Калі ж будзеш адмаўляцца, дык ты транспарту не атрымаеш, і ўвогуле з сваёй сям'ёй табе давядзецца выбірацца адсюль на ўсе чатыры бакі. Дык выбар заставаўся адзіны, і мой бацька гэткім чынам другі раз стаўся калгасьнікам. Дарэчы, гэткі гвалт быў дастасаваны ня толькі да нашай сям'і. Напрыклад, недалёка ад вёскі Закаліўе ў лесе, на паляне, былі сядзібы двух палясоўшчыкаў. Тых палясоўшчыкаў арыштавалі ў 1938 г., а калі ў 1939 г. дайшло да гэтага перасяленьня ў вёску й іхных сем'яў, дык і ім было абвешчанае тое ж папярэджаньне.

Штосьці я не прыгадваю, каб нас, дзяцей „былога кулака“, у асяродзьдзі вяскоўцаў або ў школе абзывалі вось гэтым пагардлівым тэрмінам. Зрэшты, у 1937 г., а затым яшчэ ў 1938 г., арыштоўваліся й калгасныя актывісты, і гэтак званыя „сельсаветчыкі“ — працаўнікі сельскіх Саветаў. У дадатак да прыгаданых двух палясоўшчыкаў увесну 1938 г. былі арыштаваныя яшчэ два старшыя лесьнікі, сядзібы якіх знаходзіліся ў недалёкіх ад нашай вёскі пасёлках. А гэта былі ўжо не „кулакі“, але самыя сапраўдныя „ворагі народу“. Дык вось, гэткая трагедыя яшчэ больш змацоўвала сяброўства паміж юнакамі й юначкамі — у школе таксама, бо арыштоўваліся й настаўнікі.

Аднак мне асабіста давялося зьведаць тую крыўду, што я быў сынам „кулака“. Паводля новага сталінскага закону, які зьявіўся ў 1940 г., навучаньне ў 8-ай, 9-ай і 10-ай клясах сярэдніх школаў сталася платным: за навучаньне ў гэтых клясах вымагалася сплачваць падатак па 150 рублёў штогоду. З гэтае прычыны апусьцелі тады названыя клясы Пышнянскай сярэдняй школы. Апусьцелі літаральна на другі дзень





пасьля таго, як дырэктар школы на сходзе школьнікаў быў абвесьціў той драконаўскі сталінскі закон. Мой старэйшы брат Пятрусь, які вучыўся ў 10-й клясе, падаўся на настаўніцкія курсы й пазьней нейкі час працаваў настаўнікам у „вызваленай“ тады Заходняй Беларусі — у Зэльве. А я, пакінуўшы 8-ю клясу, з намовы старшыні калгасу паехаў у Віцебск, каб пастуніць у школу фабрычна-завадзкога навучаньня (ФЗО). Гэта было напрыканцы кастрычніка 1940 г. Мне жадалася набыць прафэсію накшталт прафэсіі сьлесара, але гэтаму запярэчыла прыёмная камісія, якая, зазірнуўшы ў нейкія паперы, сьцьвердзіла, што я быў сынам „кулака“. Дык мой жа бацька працуе ў калгасе, а ягоны сын і мой старэйшы брат Ягор стаўся нават калгасным брыгадзірам, — зьдзіўлена запярэчыў я. Але зноў пачуў ад той камісіі: калісьці мой бацька быў „кулаком“, на што я таксама адказаў, што гэта — няпраўда, бо тады ці „калісьці“ свае 9 гектараў зямлі бацька мой быў атрымаў ад дзяржавы.

Тая гутарка кончылася на тым, што мне вызначылі прафэсію цесьляра — вызначылі прафэсію якраз майго бацькі. Страшэнна я пераажыў гэткае абыходжаньне, бо плакаў тры дні, не выходзячы з інтэрнату.

Быў яшчэ й гэткі выпадак, і ён здарыўся вясною або ўлетку 1942 г. Я хацеў наведацца да свайго былога школьнага сябры, які жыў у мястэчку Пышна. Па дарозе ў невялікім ляску мяне й пераняла невялікая група партызанаў (5 ці 6 чалавек), завадатарам якой, як мне паказалася, была таксама мая былая школьная сяброўка — Пашкевічанка. Яна й абвесьціла, што вось прыяцелі зь „Вялікай Зямлі“, каб пачаць змаганьне з „фашыстамі“ й іхнымі „памагатымі“. Тут я, пэўна, ня вытрымаў і нагадаў ёй, як разам мы ў школе выступалі ў сцэнічных пастаноўках, рыхтаваліся да паказу фігуральнай гімнастыкі. Пашкевічанка (імя ейнае штосьці не прыгадваю) спачатку неяк сумелася, але тут жа сыкнула: маўчы, сынок „кулака“, бо цябе тут мы можам і прыкончыць! Пасьля гэткай пагрозы я ня мог нагадаць ёй яшчэ й тую праўду, што й ейны бацька быў арыштаваны ў 1938 г. А ён працаваў на даглядзе пэўнага адрэзку шашы, якая ў нашай мясцовасьці была пабудаваная ў 1934 г.

У сувязі з тым, што ў былой савецкай прапагандова-партыйнай літаратуры ад даўжэйшага часу мне рабіўся закід, што ў Лепелі я служыў „паліцаем“, быў „памагатым фашызму“, варта яшчэ ведаць і пра гэткія факты, зь якімі мне давялося сутыкацца або перажыць іх асабіста. У школу я пайшоў у 1933 г., калі мне было 9 гадоў. Тыя гады былі цяжкім выпрабаваньнем для сям'і маіх бацькоў. Таму наведваў школу толькі крыху старэйшы мой брат Пятрусь, які й навучыў мяне пісаць і чытаць. Іншыя два старэйшыя браты, Міхась і Ягор, задаволіліся толькі

тым, чаму яны навучыліся яшчэ перад арыштам бацькі ў вячэрняй школе. Але гаворка пойдзе пра іншае й не пра пакараньне людзей толькі за тое, што на зжатым калгасным полі, на ржышчы яны зьбіралі гэтак званыя „каласкі“.

Дык вось, у 1937 г. былі арыштаваныя адзін за адным два настаўнікі маёй Пышнянскай сярэдняй школы. Адзін зь іх культгавы Несьцяровіч прыехаў у школу зь Менску, і ён выкладаў беларускую мову. Іншы зваўся Гілевічам і быў настаўнікам матэматыкі. Гэта — старэйшы чалавек і выдатны матэматык яшчэ „старой школы“. Магчыма, што той Гілевіч быў нейкім сваяком нашага пісьменьніка Ніла Гілевіча. У 1938 г. неяк незаўважна быў зьнік са школы яшчэ трэці настаўнік, які выкладаў беларускую літаратуру. А пра тое, што ён таксама быў арыштаваны й загінуў, магчыма, у Курапатах, мог сьведчыць той факт, што неўзабаве з Масквы была прысланая ў школу іншая настаўніца, якая і ўзяла на сябе выкладаньне рускай і беларускай літаратуры.

Нельга адмаўляць тае праўды, што дзетвара й юнакі заўсёды шалапутны народ, і свавольства магло здарыцца падсьвядома. Дык і школьнікі, асабліва ў часе перапынку, любілі перакідацца каменьчыкамі з рагулькаў. У адзін дзень, здаецца, на пачатку 1939 г. навучальнага году, гэткая забаўка разыгралася паміж мною й яшчэ іншым юнаком, якому было тады 14 гадоў. Ён быў адзіным сынам у маці, якая працавала прыбіральшчыцай у нашай школе, а ягоны бацька заўчасна памёр. Забаўка спынілася, калі празьвінеў званок, і вучні з школьнага двара пачалі разыходзіцца па клясах. Але гэты юнак хацеў яшчэ ўпурнуць з сваёй рагулькі ў мяне каменьчык, якраз заходзячы ў наш кляс, і гэты ягоны каменьчык незнарок трапіў у партрэт Варашылава. Здарылася гэта на вачох вучняў нашага клясу, і ўсе бачылі, хто гэта мог адпаліць такую штуку. Зрэшты, нічога асаблівага ня сталася таму Варашылаву, а разьбітае шкло ягонага партрэту хутка было замененае новым. Тым ня менш, празь нейкі час пасьля гэтага здарэньня ў школу завіталі два змрочныя тыпы, якія пачалі дапытваць некаторых вучняў (мяне таксама), бо ў іх было падазрэньне, што гэта мог быць зарганізаваны замах на партрэт Варашылава. Гэтыя тыпы й забралі з сабою таго юнака, і ён у школу больш не вярнуўся. Быў арыштаваны тады й дырэктар нашай школы, а разам зь ім зьнікла таксама й ягоная сям'я — жонка й двое дзяцей.

Хоць крыху іншага характару, але вымоўны быў яшчэ й гэткі факт. У 1938 г. адбываліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Ад галасаваньня адмовіліся жонка арыштаванага яшчэ ў 1929 г. майго дзядзькі Лявона,





а таксама сястра гэтае мае цёткі, муж якой працаваў лесьнікам і якога аднолькава арыштавалі ўвесну таго 1938 г. Як казала прапаганда, удзельнічаць у выбарах людзі быццам не змушаліся. Аднак гэтыя жанчыны былі арыштаваныя неўзабаве пасьля тых выбараў, кожная атрымала па 3 гады зьняволеньня, і яны з Салаўкоў вярнуліся дадому перад самым пачаткам вайны.

Як аднаму з выдатнікаў навучаньня дырэкцыя прыгаданай фабрычна-завадзкой школы дазволіла мне паехаць у красавіку 1941 г. на два тыдні дадому. Тут бацька й расказаў мне пад вялікім сакрэтам, што вось толькі што арыштавалі ў вёсцы Закаліўе двух братоў Корсакаў. Прычынай для арышту было нібы тое, што старэйшы Корсак згуртоўваў каля сябе вяскоўцаў, чытаў ім услых газэты й выказваў меркаваньне, што хутка можа пачацца вайна. Сапраўды, гэты старэйшы Корсак атрымліваў розныя газэты, у тым ліку „Правду“ й „Известия“, і ўжо ад даўжэйшага часу, калі мужчыны зыходзіліся пагаманіць каля кузьні, ён ім і пераказваў, пра што пісалася ў тых газэтах. Малодшы Корсак да гэтага ня меў аніякага дачыненьня, і ён вельмі рэдка наведваўся да свайго брата, бо як вольнанаёмны заўсёды працаваў дзесьці далей. Зрэшты, беспадстаўна было іх абвінавачаньне ў нейкім там распаўсюджваньні гэтак званых „хлусьлівых чутак“. Бо тады, напрыклад, і мой брат Ягор сьпешна быў пакліканы ў армію. Таксама па дарозе зь Лепелю ў сваю вёску мне былі сустрэліся два мае стрыечныя браты — сыны прыгаданага ўжо майго дзядзькі Лявона. Яны аднолькава мелі позвы ў гэтую армію. А калі я вярнуўся ў Віцебск, дык і там у нашай школе пачаліся вайсковыя муштры. У парашутысты я ня трапіў толькі таму, што лекар заўважыў маё слабое сэрца.

У гэтай школе сабраўся разнастайны люд, і гэта з усіх куткоў Беларусі. Пэўна, навучэнцы маўчалі, „хто быў кім“. Але як толькі пачалася вайна, яны сталі гуртавацца ў невялікія групкі й апавядаць адзін аднаму пра свае бядоты. Напрыклад, у групе, да якой належаў і я, быў юнак Алесь Мельнік, які нарадзіўся ў Віцебску. Ягоныя бацька й маці былі камуністамі, працавалі ў Віцебску на партыйнай рабоце й абодва былі арыштаваныя ў 1937 г. Алесь пасьля гэтага быў трапіў у дзіцячы дом. Дакладна гэткі лес меў і латыш з Дрысы Робэрт Кромэр. А сялянскі сын з Заходняй Беларусі, які, здаецца, зваўся Юркам, страціў бацьку ў 1940 г. — яго таксама арыштавалі.

У пэўным сэнсе навучальнай лекцыяй было й тое, што мы маглі даведацца наконт Заходняй Беларусі, наконт жыцьця ў ёй. Па тым шляху, які я ўжо прыгадаў, рухаліся войскі „вызваляць“ Заходнюю

Беларусь. Рухаліся яны па гэтай дарозе, калі вярталіся назад. І заўсёды тыя чырвонаармейцы затрымліваліся на начлег у сялянскіх дварах. Мая маці варыла для іх бульбу, даставала з бочкі агуркі або капусту. І здаралася, што некаторыя зь іх пачыналі расказваць, як іх сустракала насельніцтва Заходняй Беларусі або чым частавала: быў там і хлеб, было й сала, былі й каўбасы, і ад гэткага пачастунку проста гнуліся сталы. Апавядалі таксама пра багацьце харчовых магазынаў, або крамаў, у якіх прадаваліся абутак і ўсялякая вопратка. Чырвонаармейцы ўздыхалі й выказвалі жартаўлівае шкадаваньне, што, маўляў, і да тых „вызваленых братоў-беларусаў" хутка можа завітаць галеча. Дарэчы, гэтых братоў-беларусаў „вызваляў" тады й мой швагер, муж маёй старэйшай сястры Зінаіды, і ён аднолькава мог расказаць шмат пра што.

Вось пара прыкладаў тагачаснай нашай галечы. У мястэчку Пышна невялікая пякарня пачала працаваць толькі дзесьці ад верасьня 1940 г. А раней, каб купіць адзін або два боханы хлеба (на адныя рукі прадаваўся толькі адзін бохан), трэба было хадзіць у Лепель. Дабіраліся туды звычайна ўначы, каб выгадней стаць у чаргу. Часта здаралася, што дадому даводзілася вяртацца без таго бохана хлеба або чакаць у Лепелі на гэты бохан хлеба да наступнае раніцы. Я ўжо пісаў пра сваё наведваньне бацькоў у красавіку 1941 г. Тады я атрымаў ад бацькі 150 рублёў, каб мог дабыцца на нейкі гарнітур. Такі касьцюм, пэўна, не шарсьцяны, мне ўдалося „схапіць" у краме нашага мястэчка, але ён быў велікаваты для мяне. У ім і паехаў настаўнічаць у Заходняй Беларусі мой брат Пятрусь. У пошуках гэтага гарнітура ў Віцебску я абышоў усе найбольшыя магазыны, аднак паліцы ў іх былі пустыя. Праўда, у адным з тых магазынаў мне пашчасьціла купіць пінжачок, а ў іншым — яшчэ й порткі, адзіныя, якія былі ў ім, а таму нават караткаватыя для мяне. Порткі гэтыя, зрэшты, хутка разьляцеліся...

Нашая вёска, як і суседнія вёсачкі й пасёлкі, знаходзілася ў зоне, куды ўначы наведваліся партызаны, а ўдзень можна было чакаць і на прыход немцаў. Таму моладзь была чуйная й старалася не паказвацца на вочы. У адзін дзень пад вечар, было гэта, здаецца, у жніўні 1942 г., калі нашая сям'я сядзела за сталом пры вячэры, мая крыху старэйшая сястра Надзя зірнула ў вакно й ахнула: немцы выходзяць з кустоўя! У тым перапалоху ніхто з нас не заўважыў, што было яшчэ іншае, левае крыло немцаў, якое рухалася да іншага канца вёскі. Ад лесу мы былі адрэзаныя, і я з сваім братам Петрусём кінуліся ў кірунку старой вёскі Закаліўе, але трэба было праскочыць праз даволі шыракаваты лужок над рачулкай Калівец, а тут і засакаталі аўтаматы й кулямёты. Брата зрэзала, калі ён дабягаў да вёскі, а я схаваўся за ейнымі будынкамі, скуль пасьля падаўся да возера. Брату раструшчыла локаць левай рукі, а другая куля разрэзала жывот, праўда, не закранула кішкі. У тым нямецкім ланцугу знаходзілася пара знаёмых паліцаяў — два браты з суседняй вёсачкі, бацька якіх быў арыштаваны, здаецца, у 1933 г. Яны й дапамаглі, што параненага брата адразу забралі ў Лепельскую бальніцу.

На пачатку студзеня 1943 г. немцы абкружылі ўначы й спалілі вёску Слабодку, што ляжала крыху воддаль ад Закаліўя. Спалілі яе разам зь ейнымі жыхарамі, а там жыла й сястра майго бацькі, у якой было 7 дзяцей — усе дзяўчынкі. Іхны бацька памёр яшчэ перад вайной. Прычынай для гэтай зьверскай акцыі было тое, што партызаны забаранілі старасту вёскі накіроўваць людзей з падводамі дзеля вывазу нарыхтаванага лесу або ачысткі ад сьнегу шашы, якая ішла ў Лепель і праходзіла каля вёскі Студзёнкі, у якой разьмяшчаўся гарнізон пасьля таго, як партызаны яго выкурылі зь мястэчка Пышна. Цікава адзначыць, што нават у энцыкляпэдыі „Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне" (1990), у якой ёсьць пералік усіх „населеных пунктаў" Беларусі, спаленых немцамі разам з жыхарамі, гэткая вёска Слабодка таксама чамусьці ня згадваецца. Яна знаходзілася ў Пыльнянскім сельсавеце Лепельскага раёну. Выглядае, нельга было ківаць на віну партызанаў. Стараста вёскі Слабодкі з сваім сынам, які калісьці вучыўся са мною ў адной клясе, нейкі час хаваўся ў недалёкім лесе ад магчымага пакараньня яго немцамі. Былі яны ў лесе і ў тую страшную ноч, а пасьля падаліся да партызанаў. Па дарозе яны й былі расстраляныя партызанамі недалёка ад вёскі Пуцілкавічы. Проста былі замардаваныя, каб замесьці сьляды сваёй крывавай правакацыі. Пра гэтыя рэчы мы маглі даведацца ад сына нашых суседзяў, які быў зьвязаны з партызанамі й неўзабаве пайшоў да іх. Пра ўсё гэта людзі ведалі яшчэ зь іншых крыніцаў. Пуцілкавічы — гэта тая вёска, у якой нарадзіўся Пятрусь Броўка. І каля гэтай вёскі знаходзіўся штаб партызанаў. Застрэленую й часткова абгарэлую сям'ю сваёй сястры пахаваў тады на папялішчы Слабодкі й мой бацька. Дадому ён вярнуўся зусім сьсівелым чалавекам...

Пасьля таго здарэньня моладзь нашага наваколья пачала выстаўляць кругласутачныя пікеты, дамовіўшыся адначасна, якім чынам у выпадку небясьпекі перадаваць з аднаго канца вёскі ў іншы або зь вёскі ў вёску сыгналы папярэджаньня. Пазьней пачалі будаваць у розных мясьцінах бліжэйшага лесу зямлянкі для сваіх сем'яў.

Вясна 1943 г. пачалася рана й раптоўна. Дзесьці на пачатку красавіка аднаго ранку я пайшоў з малодшым братам Васілём на рэчку, каб

паглядзець, якая рыба была трапіла ў нашыя бучы. Рэчка працякала празь лес, і там мы наткнуліся на калёну немцаў, якія гуськом падыходзілі да места. Мы, пэўна, ірванулі назад, але як толькі дабеглі да канца вёскі, дзе жыла нашая сям'я, тут ужо выходзіла зь лесу яшчэ іншая нямецкая калёна, якая, як і тая першая, тут жа пачала абстрэльваць вёску. Здолеў уцячы толькі мой старэйшы брат Ягор, а таксама стрыечны брат Васіль, а я, мой бацька й брат Пятрусь, а таксама дзядзька — муж яшчэ аднае бацькавай сястры ды яшчэ адзін старэйшы сусед трапілі ў рукі немцаў. Гэтага нашага суседа немцы неўзабаве заб'юць, бо ён каля іншага прылеску няўдала памкнуўся ўцякаць. Праз нашую вёску гэтыя дзьве калёны рабілі наступ на мястэчка Пышна, у якім былі ўмацаваліся партызаны. Як маглі даведацца пазьней, тады немцы застрэлілі яшчэ двух юнакоў з старой вёскі Закаліўе, якія аднолькава выскачылі зь вёскі й хацелі дабегчы ў лясок над возерам. А нашую групку, быццам партызанаў, немцы забралі ў палон, і гэткім чынам мы трапілі тады ў Лепельскую турму.

По дарозе ў гэтую турму нас затрымалі на пару дзён у вёсцы Студзёнка, дзе, як згадвалася, знаходзіўся нямецкі гарнізон. Затрымалі, зачыніўшы ў нейкім цёмным невялікім будынку, і мы ўжо чакалі, што вось хутка яго падпаляць. Працуючы ў адміністрацыі лясьніцтва, у Студзёнцы, жыў іншы мой стрыечны брат Паўлюк — малодшы сын арыштаванага ў 1929 г. майго дзядзькі Лявона, які пабачыўся з намі й паабяцаў штосьці зрабіць для нашага выратаваньня. Можна меркаваць, што ён наладзіў кантакты з прыгаданымі й знаёмымі нам братамі-паліцаямі, якія зноў дапамогуць нам выбрацца з турмы. Але здарылася гэта праз добры месяц часу, бо сядзелі мы ў Лепельскай турме каля шасьці тыдняў. Тады з гэтай турмы мяне выводзілі капаць гнёзды для будучай абароннай траншэі. Маім ахоўнікам быў старэйшы немец-селянін з Баварыі, які паказваў мне фотаздымкі сваёй сям'і, частаваў мяне сваім пайком і цыгарэтамі й часта паўтараў, што „вайна — нядобрая рэч". Ён і паказаў мне жудасную мясьціну над ускрайкам лесу — недалёка на поўдзень ад чыгуначнай станцыі, — дзе былі пахаваныя замардаваныя лепельскія яўрэі ды шмат іншых жыхароў гораду. Там спачылі й мае школьныя сяброўкі-яўрэйкі дзьвюх сем'яў зь мястэчка Пышна.

У сваю вёску мы вярнуліся, калі ўжо рыхтавалася большая карная акцыя супраць партызанаў пад назвай „Котбус"[1]. Гэта мы маглі на-

[1] Карная апэрацыя „Котбус" (*Cottbus*) праводзілася ў Бягомльскім, Лепельскім, Плешчаніцкім і Халопеніцкім раёнах 20.05—21.06.1943.





зіраць па дарозе зь Лепелю, таму давялося нам скрочыць у лес і зрабіць па гэтым лесе вялікае абходнае паўкола. Як і іншыя жыхары, асабліва моладзь, у вёсцы доўга не затрымаліся й падаліся ў лес у нашыя зямлянкі, падрыхтаваныя раней. Там і перачакалі заканчэньне той антыпартызанскай апэрацыі ў нашай мясцовасьці. Калі здавалася, што небясьпека мінала, а запасы харчаваньня канчаліся, у другой палавіне чэрвеня жыхарства пачало пакідаць свае лясныя зямлянкі й вяртацца ў свае вёскі. Аднак тут на нас чакалі нямецкія вайсковыя пікеты, якія, апрача канфіскацыі выведзенай зь лесу жывёлы, пачалі, можна сказаць, „канфіскаваць" таксама й моладзь.

Моладзь гэтая зганялася ў Лепель, каб адсюль вывезьці яе на працы ў Нямеччыну. Там, знаходзячыся за калючым дротам, у коле былых школьных сяброў і нарадзілася ідэя „запісацца ў паліцаі", бо гэткім шляхам можна было выратаваць яшчэ ад вывазу ў Нямеччыну сваіх сясьцёр або братоў.

Мая „паліцэйская" служба ў Лепелі абмяжоўвалася ў асноўным да аховы мастоў, якіх на ўскраінах гораду было чатыры. Таксама асабіста ўдзельнічаў у трох невялікіх і яшчэ ў чацьвёртай крыху большай апэрацыях супраць партызанаў. Але ў тых апэрацыях партызаны звычайна ўхіляліся ад збройных сутычак, а калі ў адной зь іх яны пачалі моцна адстрэльвацца, дык нашае ў асноўным „паліцэйскае" войска змушанае было адступіць. Давялося таксама абараняцца, калі ў другой палавіне кастрычніка 1943 г. партызаны спрабавалі здабыць Лепель і атакавалі горад на працягу трох начэй.

Мушу адзначыць, што ў прыгаданых партызанскіх акцыях, у якіх я браў удзел асабіста, вёскі не паліліся, не тэрарызавалася таксама й цывільнае насельніцтва, хоць у некаторых вёсках, абкружаных лесам і аддаленых ад Лепелю, звычайна сустракалася няшмат іхных жыхароў. Людзі асьцерагаліся і ўважалі за лепшае пры першай пагрозе схавацца дзесьці глыбей у лесе.

Прыгаданае нашае „паліцэйскае" войска, якое звалася яшчэ „дапаможнай паліцыяй", пакінула Лепель каля 25 чэрвеня 1944 г., бо да гораду хутка набліжаўся фронт. І тут можна адзначыць цікавае здарэньне, якое палягала ў тым, што па дарозе адступленьня ў кірунку мястэчка Беразіно зь лесу выйшла групка партызанаў (здаецца, 7 або 8 чалавек), якая й далучылася да нашай калёны. Былі гэта раней знаёмыя хлопцы з навакольных вёсак, і яны пажадалі разам з намі „прабівацца" на Захад. Павадыром той нашай калёны, да якой яшчэ належалі сем'і цывільных уцекачоў, быў аўстрыец — афіцэр вышэйшага рангу вайсковай

жандармэрыі. Ён стойка абараняў ад усялякіх крыўдаў тых нашых „уцекачоў“.

Калі ўжо апавёў пра сваю „паліцэйскую“ службу ў Лепелі, дык выпадае сказаць яшчэ пра тое, дзе мне давялося блукаць пазьней. Вось жа, як тысячы іншых беларусаў, я таксама трапіў у гэтак званую 30-ю Ўсходнюю дывізію, якая неўзабаве была перакінутая ў Францыю. Яна скончыла свае існаваньне ў Эльзасе дзесьці напрыканцы лістапада або на пачатку сьнежня 1944 г. У якасьці абозьніка служыў я ў батальёне маёра Мураўёва, а гэты батальён, дарэчы, пры першай збройнай сутычцы з амэрыканцамі перайшоў на бок амэрыканцаў. Знаходзіўся я тады ў абозе зусім недалёка ад лініі фронту, а таму была магчымасьць даведацца, якім чынам быў „палонены“ гэты батальён. Далейшы лёс таго майго батальёну для мяне невядомы, але пазьней можна было пачуць, што марскім шляхам яго неўзабаве адвезьлі ў Савецкі Саюз.

Нас, абозьнікаў, перахапілі немцы й пагналі ў недалёкі тыл, загадаўшы акапацца дзеля абароны. Тут мы і трапілі пад шквал амэрыканскага артылерыйскага абстрэлу, і з гэтага пекла кожны ратаваўся як мог. Потым я наткнуўся на групу знаёмых хлопцаў з той 30-й Усходняй дывізіі.

Таксама часта можна было пачуць і прачытаць, напрыклад, у ведамай кнізе Джона Лофтуса, быццам тая 30-я Ўсходняя дывізія была Дывізіяй СС. Прынамсі, я асабіста гэтага не адчуў, бо пад пахай не насіў „кляймо эсэсаўца“. Мяркую, што гэтую праўду мог бы пацьвердзіць, напрыклад, пісьменьнік Канстанцін Акула, які ў сваёй аповесьці „Змагарныя дарогі“ (1962) апісаў якраз, дзе фармавалася гэтая 30-я Ўсходняя дывізія ды як пазьней яна развальвалася.

Затым мая вайсковая эпапэя была зьвязаная з 1-й дывізіяй ведамай „Вызваленчай арміі“ (РОА) генэрала Андрэя Власава. Узначальваў тую дывізію генэрал-маёр Сяргей Бунячэнка[2], а ў ейным 3-м палку я таксама кіраваў конным фургонам (даю, адным словам, падставы абвінавачваць мяне ў падвойнай „здрадзе“: у тым, што я быў „лепельскім паліцаем“, а яшчэ ў тым, што належаў да „власаўцаў“).

З гэтай 1-й власаўскай дывізіяй я разьвітаўся 12 травеня 1945 г. Тады, 11 травеня, у рэгіёне чэскага гораду Пльзэню (*Plzeň*) яна была раззброеная амэрыканцамі й перададзеная імі пад добры нагляд савецкіх вайсковых злучэньняў. Здаецца, няма патрэбы тлумачыць, што з гэткай хітравата наладжанай мышалоўкі ўдалося выкарабкацца толькі нямногім.

Да гэткіх „нямногіх“ належаў і я ды яшчэ добры хлопец і тагачасны мой сябра Генадзь, які паходзіў дзесьці з-пад Ноўгараду. Даволі шмат мы зьведалі прыгодаў, трапіўшы ў Баварыю. Напрыклад, не знаходзячы нейкага выйсьця й прытулку, у адзін дзень мы „добраахвотна“ селі на амэрыканскі транспарт і паехалі „на Радзіму“. Паехалі, здаецца, з гораду Штраўбінгу (*Straubing)*. Але зноў жа ўцяклі з той жа Чэхіі, бо не спадабалася нам рэгістрацыя ў зборным пункце, ды й той зборны пункт у нейкім старым чэскім гарадку быў абкружаны высокім, каля 4-х мэтраў, мурам. Там, магчыма, калісьці быў замак, пра што нагадвала яшчэ вышэйшая й сапраўды замкавая брама. Вярнуўшыся ў Баварыю, я й Генадзь зноў пачалі вандраваць па ейных дарогах. Мінуўшы Фрайзінг (*Freising*), мы прыселі адпачыць пры дарозе й пачалі частавацца кіслымі яблыкамі, сарванымі з прыдарожных яблыняў. Тут на нас і наткнуўся амэрыканскі патруль. Вясёлыя „янкі“ пасадзілі нас на сваю танкетку, прывезьлі ў Мюнхэн, дзе добра накармілі ў сваёй кантыне, а назаўтра адвезьлі зноў жа ў зборны пункт, які існаваў тады ў Мюнхэне пры савецкай рэпатрыяцыйнай місіі. Тут пазнаёмілі нас тыя „янкі“ з высокім чынам, на плячах якога красаваліся шырокія залацістыя пагоны, і трэба было згадзіцца, што „едем на Родину“.

Аднак і адсюль мы ўцяклі й даволі лёгка. Бо пад калючым дротам, якім быў абнесены й гэты мюнхэнскі зборны пункт, мы заўважылі ў адным месцы даволі глыбакаваты падкоп, празь які й выпаўзьлі ўначы.

Пасьля гэткіх ды яшчэ іншых прыгодаў мы, нарэшце, уладкаваліся на працу ў аднаго баварскага фармэра, гаспадарка якога ў адзіноце ляжала дзесьці крыху на поўнач ад гораду Фрайзінгу. За добрае харчаваньне прапрацавалі мы ў таго заможнага фармэра каля месяца часу, а затым (гэта было ў жніўні 1945 г.) падаліся ў Інгальштат (*Ingolstadt*), бо выпадкова даведаліся, што ў Баварыі існавалі яшчэ лягеры для людзей, якія з тых або іншых прычынаў не жадалі „вяртацца на Радзіму“. Гэта былі гэтак званыя Ды-Пі-лягеры.

У Інгальштаце мы зьвярнуліся ў адміністрацыю Ўкраінскага лягеру, бо ён знаходзіўся амаль у цэнтры гораду. Адсюль нас накіравалі ў іншы невялікі Ды-Пі-лягер, у якім жылі сем'і беларусаў і рускіх, а беларусы таго невялікага лягеру паходзілі пераважна з Усходняй Беларусі. Былі там, пэўна, адзіночкі або халасьцякі, і нас якраз падсялілі да трох

[2] **Сяргей Бунячэнка** (1902—1946), расейскі вайсковы дзеяч, палкоўнік Чырвонай арміі, удзельнік власаўскага руху.

хлопцаў з Заходняй Беларусі. Гэта былі пазьнейшыя мае сябры Янка Жучка, Сьцяпан Кісель і Васіль Шчэцька[3].

Тут выпадае растлумачыць сэнс тагачаснага падзелу на гэтак званых „заходнікаў" і „ўсходнікаў". Палітычна-каньюнктурны сэнс такога падзелу палягаў у тым, што пад крылом „заходнікаў" ці пад крылом былога польскага грамадзянства людзі спадзяваліся здабыцца на апякунства з боку ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі. Спадзяваліся ўхіліцца ад прымусовай рэпатрыяцыі. Аднак для сталінскага рэжыму ўсе гэта было нонсэнсам, бо й гэтыя „заходнікі" для гэтага рэжыму ад 1939 г. былі тымі ж „савецкімі грамадзянамі".

І тут ня трэба забывацца на дамоўленасьці ведамай Ялцінскай ці Крымскай канфэрэнцыі, якіх змушаныя былі трымацца й заходнія дзяржавы-саюзьнікі. Пэўна ж, маладыя людзі майго веку пра ўсё гэта маглі й ня ведаць. Але побач з намі жылі старэйшыя людзі, людзі адукаваныя, якія пільна сачылі за тым, што тварылася тады на арэне міжнароднай палітыкі. Дык паводля прыгаданай канфэрэнцыі, былыя Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна зноў далучаліся да БССР і УССР, і, такім чынам, тое былое „польскае грамадзянства" не магло распаўсюджвацца на гэтыя тэрыторыі. Апрача таго, тое ялцінскае пагадненьне забавязвала заходнія дзяржавы-саюзьніцы спрыяць прымусовай рэпартыяцыі „ўсіх савецкіх грамадзянаў". Тычылася гэта ня толькі гэтак званых „ваенных злачынцаў" накшталт „власаўцаў". Тычылася ня толькі й гэтак званых „нямецкіх супрацоўнікаў" ці „памагатых фашызму". Тычылася гэта й ваеннапалонных, якіх сталінскі рэжым аднолькава залічаў да „здраднікаў" і адмаўляўся дапамагаць ім, напрыклад, праз арганізацыю Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Нарэшце, тычылася гэта й масы людзей, якіх прымусова вывозілі на працы ў Нямеччыну або якія ехалі сюды паводля добраахвотнай вярбоўкі. А былі й гэткія

[3] **Васіль Шчэцька** (1923—2011), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў мэдычнай школе ў Баранавічах. У 1944 г. выехаў на эміграцыю ў Нямеччыну. Скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы. Працаваў сакратаром старшыні лягеру, актыўна займаўся скаўтынгам. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі" выехаў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытанію. У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту (1955). У 1959—1988 гг. працаваў у бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту. Быў сакратаром Галоўнай управы БАЗА, належаў да кіраўніцтва парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Быў адным з заснавальнікаў прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле.







Паўла Урбан. 1946 г.

вярбоўкі, асабліва ў 1942 г. Дык і з гэтае катэгорыі людзей шмат хто жадаў затрымацца на Захадзе.

Дык, фактычна, і вымушанае жаданьне схавацца пад крыло былога польскага грамадзянства не магло быць выратавальнай панацэяй. Таму шмат беларусаў, якія трапілі ў польскія Ды-Пі-лягеры, часта запісваліся там як чыстакроўныя палякі. Але ўсё ж і амэрыканскія вайсковыя ўлады (таксама брытанскія й францускія), якія апекаваліся гэтымі Ды-Пі-лягерамі, часта не пагаджаліся з гвалтам, асабліва ад часу, калі пачынаў нарастаць канфлікт паміж былымі дзяржавамі-саюзьніцамі. Як выратавальнай зачэпкай для іх і магло прыдацца вось гэтае „польскае грамадзянства" або той факт, што ты, маўляў, з Заходняй Беларусі. Гэта мог адчуць і я асабіста, калі давялося ў 1946 г. праходзіць праз гэтак званыя „скрынінгі". Мэтадам тых скрынінгаў выяўляліся якраз „былыя савецкія грамадзяне" й прыгадваныя „ваенныя злачынцы". Супярэчнасьць

наяўная, бо, як адзначалася, грунтуючыся на пагадненьнях Крымскай канфэрэнцыі, сталінскі рэжым дамагаўся таксама й рэпатрыяцыі насельнікаў вось і гэтай „Заходняй Беларусі“. Пазьней жа, калі распалілася сапраўдная „халодная вайна“, можна было гаварыць пра тое, што ты ўвогуле зь Беларусі, Украіны або Расеі. Можна было таксама мяняць на сапраўдныя, напрыклад, дату й месца нараджэньня, раней пададзеных фальшыва.

Але я вярнуся да таго нашага невялікага Ды-Пі-лягеру ў Інгальштаце. З гэтага лягеру я й мае новыя сябры, прыгаданыя беларускія хлопцы-„заходнікі“, на пачатку верасьня 1945 г. наведаліся ў Рэгенсбург (*Regensburg*), каб там зарэгістравацца ў Беларускім нацыянальным камітэце[4] й атрымаць пэрсанальныя дакумэнты — штосьці накшталт пашпарта. Там я й зрабіўся вось гэтым „заходнікам“. Апрача таго, у Рэгенсбургу мы даведаліся тады пра ідэю адчыненьня Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, а таму адразу „замэльдавалі“ й свае кандыдатуры. Калі пачаліся чуткі, што „дыпістаў“ гэтага нашага лягеру перакінуць у нейкія іншыя лягеры, я й мой сябра Генадзь паехалі ў горад Аўгсбург (*Augsburg*) пацікавіцца, як там жывуць. Сапраўды, там мы атрымалі рэгістрацыйныя карткі ад амэрыканскіх вайсковых уладаў, але ў Аўгсбургу мы не затрымаліся, бо адчулі непрыхільнае стаўленьне да нас адміністрацыі пераважна ўкраінскага Ды-Пі-лягеру, да якога нас прыпісалі. Гэта быў мой першы афіцыйны дакумэнт, атрыманы ад амэрыканскіх вайсковых уладаў, і яго я захаваў у сваіх архіўных паперах. У дакумэнце гэтым гаварылася, што носьбіт яго, якому гэтулькі гадоў, прыпісваецца да гораду Аўгсбургу й яму строга, пад пагрозай арышту, забараняецца выяжджаць з гораду. Калі дзе нарадзіўся гэты носьбіт або якая ягоная нацыянальнасьць, у дакумэнце не было гаворкі.

І нас параскідалі па іншых лягерах дзесьці ў сярэдзіне лістапада 1945 г. Тады я й разьвітаўся з гэтым маім рускім сябрам Генькам, хоць, праўда, ведаючы пра маё жаданьне навучацца ў Беларускай гімназіі, ён адведаў мяне ў Рэгенсбургу напрыканцы травеня 1946 г. Пра гэта сьведчыць пакінуты ім тады ягоны фотаздымак ды яшчэ з прыгожым сяброўска-зычлівым надпісам.

Неяк не прыгадваю, у лягер якога гораду маглі трапіць тады я й мае новыя сябры Янка Жучка, Сьцяпан Кісель і Васіль Шчэцька. Здаецца,

[4] Беларускі нацыянальны камітэт быў запачаткаваны ў чэрвені 1945 г. у Рэгенсбурзе й выконваў функцыі афіцыйнага прадстаўніцтва беларускіх эмігрантаў у Амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.







„Купальле“ ў Рэгенсбурзе. 1946 г. Злева направа гімназісты: Туся Куліковіч, Кастусь Вайцяхоўскі, Тамара Карповіч, Паўла Урбан, Зора Савёнак, Лявон Говар

гэта быў Штраўбінг (*Straubing*), бо мы апынуліся ў салідных мураванках былых нямецкіх вайсковых казармаў. Было там шмат разнастайнага народу, у тым ліку шмат беларусаў і расейцаў, не гаворачы ўжо пра ўкраінцаў. Зрэшты, у мяне няма поўнай упэўненасьці, ці была гэтая тройка новых сяброў разам са мною ў тым лягеры.

Ва ўсялякім выпадку, дзесьці ў сярэдзіне сьнежня 1945 г. мы сустрэліся зноў у Рэгенсбургу й там, у беларускім Ды-Пі-лягеры, пачалі жыць якраз у адным пакоі. Неўзабаве пачалося таксама навучаньне ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы.

Стаўшыся ўжо абітурыентамі (матуральныя экзамэны за 8-ю клясу гімназіі я здаваў экстэрнам), невялікая група нас, 11 хлопцаў, завэрбаваліся на працу ў каменнавугольных капальнях і ў студзені 1948 г. выехала ў Вялікабрытанію. Пакідалі мы Нямеччыну ўжо зь іншага беларускага Ды-Пі-лягеру, які знаходзіўся ў вёсцы Міхэльсдорф (*Michelsdorf*) недалёка ад гораду Кам (*Cham*)[5]. Апрача мяне, да гэтай групы належалі: Янка Жучка, Васіль Шчэцька, Янка Запруднік,

[5] Беларускі лягер Ды-Пі быў пераведзены з Рэгенсбургу ў Міхэльсдорф у ліпені 1946 г.

Уладзімір Цьвірка, Алесь Бута, Піліп Дзяхцяр, Цімох Вострыкаў, Леанід Карась, Алесь Марговіч і Леанід Швайчук[6]. Па дарозе далучыўся да нас яшчэ Павал Дзімітрук і гэтак стварылася 12-ка. Гэта тая „Дванаццатка", якая пачне выдаваць у Вялікабрытаніі ратататарным спосабам літаратурна-грамадзкі часопіс для моладзі пад назвай „Наперад!". Два першыя нумары часопісу, у выглядзе лісткоў і як орган „Адзінаццаткі", былі выдадзеныя ў зборным пункце і ў цягніку па дарозе[7]. У часопісе гэтым я выступаў пад псэўданімам: Паўлюк Вазёрны (у нашай мясцовасьці на Бацькаўшчыне было шмат азёраў).

Пасьля месячнай трэніроўкі ў Шатляндыі мы затым працавалі ў розных, але блізкіх, капальнях Цэнтральнай Англіі. Жылі ў былых вайсковых бараках недалёка гораду Тамворду[8], а ў тым нашым шахцёрскім гарадку было шмат палякаў, украінцаў і прадстаўнікоў іншых славянскіх і неславянскіх народаў. Часьцяком наведваліся ў Лёндан, бо ўжо тады там мацаваўся беларускі грамадзка-культурны цэнтар. Як кажа дата атрыманага мною сяброўскага білета Згуртаваньня беларусаў у В. Брытаніі, першы раз нашая „Дванаццатка" наведалася ў Лёндан каля 10 красавіка 1948 г.

Зь Вялікабрытаніяй мы разьвіталіся 13 сакавіка 1950 г., бо надарылася магчымасьць працягваць далейшае навучаньне ў Бэльгіі — у Лювэнскім (тады яшчэ адзіным Каталіцкім) унівэрсытэце. Хоць я марыў стацца архітэктарам, але, як і мой сябра Янка Запруднік, падаўся я ў гісторыю й запісаўся на факультэт філязофіі й іншых гуманітарных навук.

Шкада, што з той „Дванаццаткі" ў Лювэн не маглі прыехаць тры іншыя добрыя хлопцы: Бута, Дзяхцяр і Швайчук. Яны яшчэ ня мелі сярэдняй адукацыі. Пасьля нашага выезду зь Вялікабрытаніі Піліп Дзяхцяр неўзабаве павесіўся...[9]

[6] Больш падрабязна пра кожнага ўдзельніка „Дванаццаткі" гл.: Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью-Ёрк, 2002. — 510 с.

[7] Часопіс „Наперад!" выдаваўся з студзеня 1948 г. да сьнежня 1953 г. Дарогаю на сталае месца працы сябраў „Дванаццаткі" выйшла ня два, а пяць першых нумароў часопісу. Агулам пабачыла сьвет 24 нумары.

[8] Маецца на ўвазе ангельскае мястэчка *Tamworth*.

[9] Лёсы трох засталых у Брытаніі сябраў „Дванаццаткі" склаліся па-рознаму. Алесь Бута (1923—1998) ажаніўся з ангелькай, жыў у Брадфардзе, спачатку актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці, дзейнасьці ⇨








Лювэнскія студэнты ў піўніцы з нагоды прыезду Галіны Ганчарэнкі. 1953 г.

Апрача навучаньня й актыўнага ўдзелу ў нашым студэнцкім харавым і танцавальным ансамблі, якім кіраваў кампазытар Мікола Равенскі, даводзілася мне быць сакратаром і скарбнікам нашай Лювэнскай студэнцкай арганізацыі (а колькасьць беларускіх студэнтаў у гэтай арганізацыі даходзіла да 50-ці чалавек). Даводзілася таксама быць і сакратаром Саюзу беларусаў Бэльгіі, за што мяне аднолькава папракала пазьней савецкая прапаганда.

Нагадаю, што ў абавязкі, напрыклад, скарбніка, а быў я ім на працягу звыш аднаго году (1953—1954), уваходзілі рэгістрацыя выдаткаў і разьмеркаваньня фінансавых сродкаў, якімі распараджалася арганізацыя. Мы сталаваліся ў сваім уласным „Белым" (яго так называлі) студэнцкім доме, таму штомесячна рэгістравалася пэўная сума, якая выдаткоўвалася на харчаваньне. Але трэба было яшчэ апранаць таго

⇨ЗБВБ, аднак у 1960-х пераарыентаваўся на супрацу з прасавецкімі структурамі. Піліп Дзяхцяр (1926—1960) таксама пасяліўся ў Брадфардзе, дзе ажаніўся з італьянскай эмігранткай, быў актывістам мясцовага аддзелу ЗБВБ, аднак скончыў жыцьцё самагубствам. Леанід Швайчук (1926—?) абарваў сувязі зь беларусамі хутка пасьля выезду сябраў з „Дванаццаткі" ў Бэльгію.



Янка Запруднік і Паўла Урбан. Рым, 1951 г.

або іншага студэнта, забясьпечваць і ягоныя іншыя бытавыя патрэбы. Палову нашага студэнцкага бюджэту мы атрымлівалі тады ад Ватыкану, а другую палову — ад бэльгійскага ўраду.

Перанёсшы важнейшыя экзамэны на восень, сваё навучаньне ў Лювэнскім унівэрсытэце я скончыў у кастрычніку 1954 г., атрымаўшы ступень кандыдата гістарычных навук. Кандыдацкая дысэртацыя не абаранялася, бо яна ацэньвалася адпаведным прафэсарам і ў дэканаце. Тэма дысэртацыі была: „Вялікае княства Літоўскае за часоў вялікага князя Аляксандра, 1492—1506 гг.“. Гэтую тэму абраў і для сваёй доктарскай дысэртацыі, але, вядома, меўся распрацаваць яе шырэй і глыбей.

Аформіўшыся дактарантам Лювэнскага ўнівэрсытэту (гэта давала мне права далей атрымліваць стыпэндыю), я празь нейкі час выехаў у Рым, дзе ў асноўным працаваў (зьбіраў матэрыялы) у багатай бібліятэцы Ўсходняга інстытуту. Гэта, здаецца, быў езуіцкі інстытут. Меў таксама доступ у Ватыканскую бібліятэку й нават Ватыканскі сакрэтны архіў. Пропускі сюды мне дапамог атрымаць кардынал Тысэран[10], бо, наведаўшыся да беларускіх студэнтаў у Лювэн, ён сам і запрапанаваў вось гэткую сваю дапамогу.

[10] **Эжэн Тысэран** (*Tisserant*, 1884—1972), каталіцкі дзеяч, кардынал. Цікава тое, што з 1908 г. Тысэран быў сам зьвязаны з Ватыканскай бібліятэкай, пачаўшы працу там ад пасады захавальніка ўсходніх рукапісаў і даслужыўшыся да пасады прапрэфэкта ў 1930 г.





Бібліятэкарам у бібліятэцы Ўсходняга інстытуту быў заўсёды ціхмяны паляк, а дырэктарам Інстытуту — немец. Абодва яны хадзілі ў сутанах манаха. Вось жа, калі надышлі канікулы й бібліятэка таксама мелася зачыніцца на месяц часу, дык яны затрывожыліся: што ж ім рабіць са мною? А фактычна я быў сталым і бадай адзіным наведвальнікам гэтай бібліятэкі. Дык яны й пакінулі мне ключы ад уваходных дзьвярэй у Інстытут, а таксама ад запасных дзьвярэй самой бібліятэкі, зь якіх можна было выходзіць на іншую вуліцу. Праўда, папярэдзілі толькі, каб не курыў у бібліятэцы й добра замыкаў дзьверы, выходзячы зь яе або з Інстытуту.

Гэта было для мяне сапраўдным раздольлем, а ў бібліятэцы я мог працаваць гэты месяц да глыбокай ночы.

Тут можна дадаць, што я меў з сабою рэкамэндацыйны ліст ад свайго лювэнскага прафэсара, які згадзіўся назіраць за маёй доктарскай дысэртацыяй і быць абаронцам.

У Рыме я бліжэй сышоўся з айцом Аляксандрам Надсонам[11], які вучыўся тады ў Грыгарыянскім інстытуце. Пасябраваў таксама са

[11] **Аляксандар Надсан** (Бочка, нар. 08.08.1926), рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Скончыў курсы малодшых кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. У чэрвені 1944 г. стаў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе ў Італіі, дзе браў удзел у баявых дзеяньнях і быў паранены. У Вялікабрытаніі з 1946 г. Адзін з заснавальнікаў ЗБВБ, рэдактар яго часопісаў „Беларус на Чужыне“ і „На Шляху“, старшыня арганізацыі ў 1951—1953 гг. Скончыў матэматычны факультэт Лёнданскага ўнівэрсытэту. Увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме. 23 лістапада 1958 г. высьвячаны на сьвятара ўсходняга абраду. У ліпені 1959 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Нотынгэме (*Nottingham*) і ажыцьцяўляў душпастырскую дзейнасьць у Цэнтральнай і Паўночнай Англіі. З 1961 г. стаў адным з кіраўнікоў беларускай школы імя Кірылы Тураўскага ў Лёндане. З 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музеем імя Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай сэкцыі, Англа-беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. 30 чэрвеня 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацыяў з гісторыі беларускай царквы й культуры. Ганаровы доктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.



Паўла Урбан з жонкай Ларысай пасьля рэгістрацыі шлюбу. 1960 г.
На другім пляне зьлева направа:
Алесь Марговіч, сяброўка нявесты Нора, Ніканор Ляўковіч

сьпеваком Пётрам Конюхам[12] і айцом Пётрам Татарыновічам, які вёў беларускія перадачы на Ватыканскім радыё. Конюх пазнаёміў мяне з

[12] **Пётра Конюх** (1910—1994), беларускі сьпявак, дзеяч паваеннай эміграцыі. Нарадзіўся ў м. Турэц, сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл. У часе Другой сусьветнай вайны — у шэрагах арміі Андэрса. У 1945 г. атрымаў стыпэндыю для навучаньня ў Рымскай акадэміі мастацтва. Потым выступаў у Італіі, езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы. Удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам С. Жарава. Пераможца Міжнароднага конкурсу маладых вакалістаў у Рыме, выкладаў сьпевы ў школах Гамбургу й Нью-Ёрку.





сваім рымскім мастацка-музыкальным сьветам. У коле сяброў Конюха быў і дырэктар слаўнага Рымскага опэрнага тэатру!

Пакінуў я Рым і напрыканцы сьнежня 1955 г. пераехаў у Мюнхэн з тае прычыны, што за год часу ўсё-такі нельга было напісаць доктарскую дысэртацыю. Тымчасам пачаліся камплікацыі з атрыманьнем стыпэндыі зь Лювэну, а зь Мюнхэну мне паведамілі пра магчымасьць уладкавацца на працу ў Інстытуце вывучэньня СССР, у якім працавалі ўжо доктар Станіслаў Станкевіч і былы лювэнскі студэнт Алесь Марговіч. Дык і я пачаў працаваць у гэтым Інстытуце ад 1 красавіка 1956 г. і застаўся працаваць у ім да ліпеня 1972 г., калі Інстытут спыніў сваю дзейнасьць. Вельмі ж не падабаўся гэты Інстытут Савецкаму Саюзу, і амэрыканцы вырашылі яго ліквідаваць.

У Інстытуце вывучэньня СССР працаваў я навуковым супрацоўнікам і рэдактарам. У апошнія гады ягонага існаваньня ўзначальваў Біяграфічны аддзел, які рыхтаваў да выданьня біяграфічныя даведнікі. Адначасна быў таксама сябрам Прэзыдыюму Навуковай рады й сакратаром гэтай Рады. У гэтым Інстытуце працаваў я ў агульным дасьледчым аддзеле, а быў пры ім яшчэ невялікі беларускі сэктар, які ўзначальваў доктар Станіслаў Станкевіч, і ён выдаваў „Беларускі зборнік“ на беларускай і ангілйскай мовах[13].

У Мюнхэне бурліла ў тым часе й чыста беларускае грамадзкае жыцьцё, бо існавала яшчэ й Беларуская рэдакцыя Радыё „Свабода“. Выдавалася таксама беларуская газэта „Бацькаўшчына“, для якой аднолькава трэба было рыхтаваць матэрыялы й пісаць артыкулы. У дадатак да гэтага ад красавіка 1957 г. я быў скарбнікам і, фактычна, адміністратарам самога выдавецтва „Бацькаўшчына“, бо, апрача газэты, выдаваліся яшчэ кнігі мастацкай літаратуры й навуковы зборнік „Запісы“.

Можна сказаць, што выданьне „Бацькаўшчыны“ было спыненае ў 1966 г. ня гэтак з прычыны нястачы грашовых сродкаў, але ў сувязі з тым, што пачалі адыходзіць ейныя ранейшыя супрацоўнікі й аўтары. Рэдактар газэты Станіслаў Станкевіч выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, памёр у 1965 пісьменьнік Пётра Сыч і сур'ёзна захварэў іншы актыўны супрацоўнік і аўтар Алесь Марговіч (памёр у жніўні 1967 г.). Ён быў яшчэ карэктарам і „ламаў“ газэту ў друкарні.

[13] „Беларускі зборнік“ выходзіў у 1955—1960 г. у Мюнхэне. Усяго выйшла 12 нумароў. Частка матэрыялаў перакладалася ў ангельскую мову і друкавалася ў часопісе „Belorussian Review“, які таксама выходзіў у 1955—1960 гг. (разам выйшла 8 выпускаў).



Паўла Урбан у рэдакцыі радыё „Свабода“. Каля 1989 г.

Навуковы зборнік „Запісы“ быў органам Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (БІНіМ). Гэты Інстытут быў заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1951 г., але ягоная дзейнасьць у 1962 г. перамясьцілася ў Мюнхэн. Узначальваў Інстытут доктар Станіслаў Станкевіч[14], а я быў намесьнікам старшыні й сакратаром. У Мюнхэне былі падрыхтаваныя й выдадзеныя 5 кнігаў „Запісаў“ (1962—1970), пасьля чаго, а, праўдзівей, пасьля выезду Станкевіча ў ЗША, гэтая дзейнасьць БІНіМу зноў перамясьцілася ў Нью-Ёрк[15]. Я толькі даглядзеў выданьне ў Мюнхэне ў 1970 г. 5-й кнігі „Запісаў“[16].

[14] П. Урбан, верагодна, памыляецца. Станіслаў Станкевіч ня быў кіраўнікам БІНіМу. Ім заставаўся Вітаўт Тумаш. Магчыма, С. Станкевіч кіраваў Мюнхэнскай філіяй у часе яе існаваньня.

[15] Мабыць, выданьне „Запісаў БІНіМ“ перанеслі ў Мюнхэн у тым ліку й з прычынаў кошту друку. Вядома, што ў той самы час менавіта ў Нямеччыне друкаваліся наклады й лёнданскага часопісу „Божым шляхам“. Нягледзячы на тое, што самім выданьнем „Запісаў“ у 1962—1970 гг. апекаваліся мюнхэнскія беларусы, асноўны зьмест нумароў складалі публікацыі „амэрыканскіх“ сябраў БІНіМу.

[16] Маецца на ўвазе апошні выдадзены ў Мюнхэне нумар „Запісаў БІНіМ“, №5 (11).





Ад 16 красавіка 1974 г. я быў супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі Радыё „Свабода“. Пакінуў яе ў красавіку 1989 г. у сувязі з выхадам на пэнсію. Для беларускіх радыёперадачаў пісаў у асноўным скрыпты на тэматыку гісторыі Беларусі.

Жывучы ў Мюнхэне, дзе мая сям’я атрымала ў 1968 г. нямецкае грамадзянства, я зноў паспрабаваў абараніць доктарскую дысэртацыю ў Мюнхэнскім унівэрсытэце. Цяпер на тэму „Паўстаньне ў Беларусі 1863—1864 гг.“. Запісаўся на філязофскі факультэт 26 красавіка 1965 г., але перад гэтым на працягу году давялося чакаць на паведамленьне з дэканату адносна таго, колькі мне залічаць сэмэстраў навучаньня ў Лювэнскім унівэрсытэце. У гэтым часе ўдакладняў таксама з сваім прафэсарам-апекуном тэзісы й тэматычны падзел дысэртацыі. Гэта быў прафэсар Георг Штатмюлер, і ён узначальваў Сэмінар гісторыі Ўсходняй і Паўднёва-ўсходняй Эўропы. Прафэсар пацікавіўся, якое я маю матуральнае пасьведчаньне, і я змушаны быў прызнацца, што, фактычна, у мяне няма „вялікай латыні“. Пра гэта прафэсар і напісаў у дэканат, папрасіўшы праверыць там важнасьць гэтай маёй матуры. З дэканату адказ я атрымаў толькі ў травені 1966 г., у якім паведамлялася, што з маім матуральным пасьведчаньнем яны яшчэ не пазнаёміліся, але, каб быць дапушчаным да абароны доктарскай дысэртацыі, кандыдат павінен мець „6 гадоў латыні“. Пасьля гэтага я таксама напісаў ліст у дэканат, у якім тлумачыў, што два гады вывучаў латынь у Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу, а ў Лювэнскім унівэрсытэце на працягу трох сэмэстраў меў практычныя сэмінарскія заняткі, падчас якіх разьбіраліся й тлумачыліся лацінскамоўныя тэксты розных актаў Сярэднявякоўя. На гэта я зноў атрымаў адказ у 1968 г., у якім паведамлялася, што дэканат можа паспрыяць, каб я мог здаць экзамэны з латыні ў любой мюнхэнскай гімназіі. Гэтак я й застаўся толькі дактарантам.

У Мюнхэнскім унівэрсытэце я цікавіўся славістыкай і наведваў у асноўным (з дазволу дырэкцыі Інстытуту вывучэньня СССР) прасэмінарскія й сэмінарскія заняткі, набіраў і адпаведную колькасьць патрэбных навучальных пасьведчаньняў. Знаходзіўся я тут у добрых дачыненьнях з прафэсарам-славістам Кашмідэрам. Калісьці, перад вайной, ён быў прафэсарам Віленскага ўнівэрсытэту й добра ведаў віленскіх беларусаў, напрыклад, Антона Луцкевіча. Ён і хацеў зрабіць мяне сваім асыстэнтам, каб пазьней я мог пераняць і ягоную катэдру. Аднак Кашмідэр быў моваведам і філёлягам увогуле, а я — гісторыкам, ды мне трэба было абараніць яшчэ й доктарскую дысэртацыю. Зрэшты, у

Мюнхэне я таксама вывучаў стараславянскую мову, а ў прафэсара Шмаўза яшчэ й параўнальную гістарычную граматыку рускай, беларускай і ўкраінскай моваў.

У 1959 г. мяне вэрбавалі „вярнуцца на Радзіму“. Сувязным паміж тагачасным бэрлінскім камітэтам „За возвращение на Родину“ й мной быў беларус Станіслаў Рабэка, які жыў у Ландзгуце. Ня думаю, каб ён быў „савецкім агентам“, бо гаварыў мне, што яго змусілі на гэтыя кантакты, ды й сам ён ня радзіў мне вяртацца дадому. Нібы „шукаў“ мяне мой брат Пятрусь, але з кантэксту ягонага ліста вынікала, што гэта яго, Петруся, „знайшлі“. Свой адрас брат не падаваў, але пісаў, што працаваў настаўнікам каля Маладзечна. Прыгадаў ён і нашую маці, аднак не пісаў, дзе яна магла знаходзіцца з маім малодшым братам Васілём.

А ў 1960 г. я атрымаў ананімную пісульку, на канвэрце якой стаяў паштовы штамп Мюнхэну. На лісьце паперы быў намаляваны мой партрэт у выглядзе „чорціка“ й быў гэткі надпіс: *„Ты, брат, рогат и рогат давно. Жаль, но это так. Жаль, с первых дней рогат“.* Гэта, напэўна, быў намёк на тое, што й мая сьціплая асоба трапіла ў тым часе пад „абстрэл“ адмысловых органаў былога СССР.

Прызнаюся: ніякага гонару я не адчуваў, што мне давялося быць „лепельскім паліцаем“, а пазьней трапіць яшчэ ў 30-ю Ўсходнюю дывізію і ў дывізію РОА. Гэтыя рэчы доўгі час перамолваліся ў галаве. Але й тым, хто мяне абзываў „здраднікам“ або „ваенным злачынцам“, можна было б парадзіць добра задумацца над тым, якому ідалу яны служылі й якога характару будавалі „сацыялізм“. Бо, як пішуць цяпер, гэта быў монстар, які стаяў на касьцях безьлічы Курапатаў.

З сумам можна сьцьвердзіць, што шмат маіх былых сяброў і калегаў з „Дванаццаткі“ таксама ўжо адышлі з гэтага сьвету. Пад сваім крылом хавай і там іх, Божа!

У часопісе „Нёман“ прачытаў аўтарскую прадмову Васіля Быкава да новага выданьня ў Бэрліне ягонай аповесьці „Мёртвым не баліць“. У прадмове гэтай аўтар піша шырэй пра жорсткае самавольства на франтах вайны савецкіх „ваенных чэкістаў“, асабліва з органаў контрразьведкі СМЕРШ. З падобнымі, але ўжо „партызанскімі чэкістамі“ даводзілася сустракацца й мне асабіста, вобраз аднаго зь якіх асабліва застаўся ў памяці. Моладзь, пэўна, асабліва ў зімовую пару, зыходзілася на свае вячоркі-пасядушкі, куды наведваліся вось і гэтыя „партызанскія чэкісты“. Дык адзін зь іх любіў затрымаць таго або іншага хлопца й памахаць перад ягоным носам сваім пісталетам. Зрэшты, знарок ён выстаўляў напаказ гэты свой пісталет і ў тлуме вячоркаў.







Адведзіны Ўладзімера Цьвіркі ў Мюнхэнскім шпіталі. Пачатак 1990-х гг. Зьлева направа: Янка Запруднік, Уладзімер Цьвірка, Юрка Сянькоўскі, Паўла Урбан

Пазнаёміўся я таксама з страшным дакумэнтам, які апублікавала газэта „Літаратурна Україна“ (27.02.1992). Гэта — сакрэтны загад Л. Берыя й маршала Жукава, які быў датаваны 22 чэрвенем 1944 г. і тычыўся праекту выгнаньня з Украіны ўсіх украінцаў. Як казалі пункты гэтага дакумэнту, да высяленьня належалі ня толькі тыя ўкраінцы, *„которые работали и служили у немцев“*; дакумэнт гэты яшчэ загадваў: *„Во вторую очередь выслать всех остальных украинцев, которые знакомы с жизнью во время немецкой оккупации“.* Больш таго, гэты дакумэнт загадваў яшчэ ўзяць пад строгі нагляд „чэкістаў“ і тых украінцаў, якія знаходзіліся ў Чырвонай арміі, змагаліся на франтах вайны.

Усё гэта, бясспрэчна, магло тычыцца й Беларусі, бо й ейнае насельніцтва было *„азнаёмленае з жыцьцём падчас нямецкай акупацыі“.* Напрыклад, і тут разваліліся калгасы, а калгасная зямля й жывёла справядлівым чынам былі падзеленыя й трапілі ў валоданьне паасобных сялянскіх гаспадарак. Адсюль можна зразумець хваравіты недавер сталінскага рэжыму нават у дачыненьні партызанаў-беларусаў, пра што пазьней пісалася якраз у былым савецкім беларускім друку. Можна

зразумець таксама і ўчынак ужо прыгаданай мною невялікай групкі беларускіх хлапцоў-партызанаў, якія, далучыўшыся да „паліцаяў“, аднолькава пажадалі „прабівацца“ на Захад!

Магчыма, што й перад носам тых хлапцоў „партызанскія чэкісты“, прысланыя зь „Вялікай зямлі“, маглі размахваць сваімі пісталетамі...

*Падрыхтоўка да друку й прадмова Аляксандра Адзінца,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*



*Сьв. пам. Паўла Урбан*

# БІБЛІЯГРАФІЯ ПАЎЛЫ УРБАНА

*Аснову гэтага сьпісу складае бібліяграфія, створаная самім Паўлам Урбанам у траўні 2007 г. на аснове матэрыялаў ягонага хатняга архіву. Праўда, сам дасьледнік зрабіў такую пазнаку: „Пасьля падзеньня „Бэрлінскай сьцяны“ й развалу Савецкага Саюзу ў Мюнхэн пачалі наведвацца суродзічы зь Беластоку й з самога Менску. Яны цікавіліся нашай беларускай „эмігранцкай літаратурай“ і жадалі набыць яе, узяць з сабою. Адсюль мой раней багаты збор выданьняў выдавецтва „Бацькаўшчына“, Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, Інстытуту вывучэньня СССР дый выданьняў у Лёндане й Рыме паступова скарачаўся й растайваваў. У Менску апынулася нават уласная падшыўка ўсіх гадавікоў (ад першага да апошняга нумару) газэты „Бацькаўшчына“. Таму па-за гэтай бібліяграфіяй застануцца некаторыя дасьледаваньні пэрыяду маёй працы ў Інстытуце вывучэньня СССР, асабліва й поўнасьцяй артыкулы, што публікаваліся ў газэце „Бацькаўшчына“ ў 1959 годзе, а затым яшчэ ў 1962—1966 гадох“. Выкарыстоўваючы больш поўную бібліяграфію артыкулаў з газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, складзеную Лявонам і Аленай Юрэвічамі, сьпіс публікацыяў Паўлы Урбана ўдалося дапоўніць. Дадаліся тут таксама асобным разьдзелам літаратурныя спробы будучага гісторыка, робленыя ім на старонках часопісу „Наперад!“ — органу „Дванаццаткі“.*

*У гэтай бібліяграфіі ўлічаныя й публікацыі Паўлы Урбана, падпісаныя псэўданімамі й крыптанімамі: Паўлюк Вазёрны, П. Залужны, П. В. (Паўлюк Вазёрны), П. З. (Паўлюк Залужны), П. У. (Паўла Урбан).*

## Кнігі

**Urban, Paul. Le Grand Duché de Lithuanie sous le règne d'Alexandre, 1492—1506.** (Essai d'Histoire politique.) Mémoire présenté pour l'obtention du grade de Licencié en Sciences Historiques. Louvain: Université Catholique de Louvain, 1954. — 87 p.
**Урбан, П. К. Смена тенденций в советской историографии.** Мюнхен: Институт по изучению СССР, 1959. — 60 с.
**Урбан, Павал. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага і гістарычны тэрмін „Літва“**. Мюнхен: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1964. — 55 с.
**Урбан, Паўла. У сьвятле гістарычных фактаў. (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага.)** Мюнхен—Нью-Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1972. — 132 с.
**Who Was The Who In The USSR. A Biographic Directory.** Compiled by the Institute for the Study of the USSR. Munich, Germany / Edited by Dr. Heinrich E. Schulz, Paul K. Urban, Andrew I. Lebed. New Jersey: The Scarecrow Press, Inc. Metuchen, 1972. — IX + 678 p.
**Урбан, Паўла. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў**. Менск: ВЦ „Бацькаўшчына“ — МП „Бесядзь“, 1994. — 112 с.
**Урбан, Паўла. Старажытныя ліцьвіны. Мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць.** Мінск: Тэхналогія, 2001. — 220 с.

## Літаратурныя пачаткі

**Вазёрны, Паўлюк. Той самы Кастусь...** Апавяданьне // Наперад! №7. 25 сакавіка 1948.
**Вазёрны, Паўлюк. Ён дайшоў.** Апавяданьне // Наперад! №8. Красавік 1948.
**Вазёрны, Паўлюк. Нявольнік няпраўды**. Аповесьць // Наперад! №9. Травень 1948; №10. Чырвень 1948; №11. Ліпень 1948; №12. Жнівень 1948; №13. Верасень 1948; №14. Кастрычнік 1948; №15. Лістапад—сьнежань 1948.
**Вазёрны, Паўлюк. На начлезе.** Апавяданьне // Наперад! №11. Ліпень 1948.
**Вазёрны, Паўлюк. Каляды.** Апавяданьне // Наперад! №16. Студзень 1949.
**Вазёрны, Паўлюк. У сьнежных пярынах.** Апавяданьне // Наперад! №17. Люты 1949.





**Вазёрны, Паўлюк. Няміга.** Апавяданьне // Наперад! №18. Сакавік 1949.
**Вазёрны, Паўлюк. Жабрачка.** Апавяданьне // Наперад! №19. Красавік—травень 1949.
**Вазёрны, П. Сады цьвітуць.** Апавяданьне // Наперад! №25. Жнівень 1953.

## Артыкулы ў зборніках і пэрыядычным друку

*1956*

**Залужны, П. Трэба праводзіць паралель. (Наконт царскай эксплуатацыі беларускага сялянства)** // Бацькаўшчына. №46 (328). 11 лістапада 1956.
**П. В. Да пытаньня формулы „найменшае зло“** // Бацькаўшчына. №9 (291). 26 лютага 1956; №10 (292). 4 сакавіка 1956; №11 (293). 11 сакавіка 1956; №12—13 (294—295). 25 сакавіка 1956; №14 (296). 1 красавіка 1956.
**П. В. З нагоды зьезду камсамолу Беларусі** // Бацькаўшчына. №8 (290). 19 лютага 1956.
**П. В. Ня ўсё прыгожа, што блішчыць. (Да пытаньня ідэалягічнага ўзгадаваньня масаў у БССР)** // Бацькаўшчына. №5 (287). 29 студзеня 1956.
**П. В. Хрушчоў вярбуе моладзь** // Бацькаўшчына. №17—18 (299—300). 29 красавіка 1956.
**П. У. Аб сацыялістычным рэалізьме** // Бацькаўшчына. №32 (314). 5 жніўня 1956.
**П. У. Аб тэндэнцыйнасьці савецкай гістарычнай навукі** // Бацькаўшчына. №45 (327). 4 лістапада 1956.
**П. У. „Забытыя імёны“. (Ці пра забытую літаратурную спадчыну)** // Бацькаўшчына. №44 (326). 28 кастрычніка 1956.
**П. У. Крызіс у савецкім рэалістычным мастацтве** // Бацькаўшчына. №38 (320). 16 верасьня 1956.
**П. У. Лёс абаронцаў Берасьцейскай цьвярдыні** // Бацькаўшчына. №31 (313). 29 ліпеня 1956.
**П. У. Нацыянальнае пытаньне ў сучаснай савецкай гістарыяграфіі** // Бацькаўшчына. №24 (306). 10 чэрвеня 1956.
**П. У. Сутнасьць нацыянальнай палітыкі ў СССР** // Бацькаўшчына. №41 (323). 7 кастрычніка 1956.

**Урбан, Павал. Нацыянальнае пытаньне пасьля XX зьезду КПСС** // Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 6. Мюнхэн, 1956. С. 31—50.

**Урбан, П. К. К вопросу о советской самокритике в исторической науке** // Обзор важнейших событий в СССР. Институт по изучению СССР. №103. Мюнхен, 1956. С. 17—27.

*1957*

**Залужны, П. Ганебная слава. (Да „заслугаў“ расейскага народу)** // Бацькаўшчына. №48 (382). 1 сьнежня 1957.

**Залужны, П. Гэтак хвальшуецца гісторыя** // Бацькаўшчына. №49 (383). 8 сьнежня 1957.

**Залужны, П. „Дабравольны саюз раўнапраўных народаў“** // Бацькаўшчына. №50 (384). 15 сьнежня 1957.

**Залужны, П. Дыялектыка. (Да канцэпцыі „негістарычнасьці“ беларускага народу)** // Бацькаўшчына. №41 (375). 13 кастрычніка 1957.

**Залужны, П. Зрабаваная слава. (550-годзьдзе Грунвальдзкай бітвы)** // Бацькаўшчына. №44 (378). 3 лістапада 1957.

**Залужны, П. Ідэйны крызіс камсамолу** // Бацькаўшчына. №18 (352). 15 травеня 1957.

**Залужны, П. Крывавы білянс Кастрычніка** // Бацькаўшчына. №46 (380). 3 лістапада 1957.

**Залужны, П. Крыху аб гісторыі. (У сувязі з адмаўленьнем гісторыі беларускаму народу)** // Бацькаўшчына. №23 (358). 16 чэрвеня 1957; №25—26 (359—360). 30 чэрвеня 1957; №27 (361). 7 ліпеня 1957; №28 (362). 14 ліпеня 1957; №29 (363). 21 ліпеня 1957; №30 (364). 28 ліпеня 1957; №31—32 (365—366). 11 жніўня 1957; №34 (368). 25 жніўня 1957; №35—36 (369—370). 8 верасьня 1957.

**Залужны, П. Прыстасаванцы** // Бацькаўшчына. №39 (373). 29 верасьня 1957.

**Залужны, П. Расейска-бальшавіцкі цынізм** // Бацькаўшчына. №40 (374). 6 кастрычніка 1957.

**Залужны, П. Рэгабілітацыя паўночнакаўкаскіх рэспублік** // Бацькаўшчына. №9 (343). 3 сакавіка 1957.

**Залужны, П. Савецкае ўсеагульнае навучаньне** // Бацькаўшчына. №5 (339). 3 лютага 1957.





**Залужны, П. Трагедыя народаў** // Бацькаўшчына. №19 (353). 12 травеня 1957.

**Залужны, П. Трагікамэдыя ці савецкая рэчаіснасьць** // Бацькаўшчына. №10 (344). 10 сакавіка 1957.

**Залужны, П. Хто супраць Масквы** // Бацькаўшчына. №11—12 (345—346). 25 сакавіка 1957.

**П. В. Натхнёная хлусьня П. Броўкі. (З радыёвай хвалі „Вызваленьне“)** // Бацькаўшчына. №49 (383). 8 сьнежаня 1957.

**П. У. Да назоваў Белая і Чорная Русь** // Бацькаўшчына. №50 (332). 9 сьнежня 1956; №1—2 (335—336). 7 студзеня 1957.

**П. У. Новае пра Францішка Скарыну** // Бацькаўшчына. №9 (343). 3 сакавіка 1957.

**Урбан, П. О первой всесоюзной конференции советских востоковедов** // Обзор важнейших событий в СССР. Институт по изучению СССР. №115. Мюнхен, 1957. С. 31—41.

**Урбан, П. Поворот к прежним догмам в советской исторической науке** // Обзор важнейших событий в СССР. Институт по изучению СССР. №119. Мюнхен, 1957. С. 33—48.

**Урбан, Павал. Сучасныя палітычныя тэндэнцыі ў савецкай гістарычнай навуцы** // Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 7. Мюнхен, 1957. С. 40—63.

**Urban, P. The Aims of Soviet Eastern Studies** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. No. 7. Munich, 1957. P. 15—20.

**Urban, P. The Twentieth Party Congress and the National Question** // Belorussian Review. Institute for the Study of the USSR. No 4. Munich, 1957. P. 83—95.

*1958*

**Залужны, П. Беларусы — прасьветнікі Маскоўшчыны** // Бацькаўшчына. №8 (394). 23 лютага 1958.

**Залужны, П. „Вялікія дасягненьні“. (Да дасягненьняў у галіне грамадзкіх навукаў)** // Бацькаўшчына. №11—13 (397—399). 25 сакавіка 1958.

**Залужны, П. „Гістарычная“ ацэнка Вугорскай рэвалюцыі** // Бацькаўшчына. №18 (404). 4 травеня 1958.

**Залужны, П. „Жандары паломаных акоў“. (Пра выступленьне чарнасоценцаў „Российского Национального Движения“)** // Бацькаўшчына. №21 (407). 21 травеня 1958.

**Залужны, П. З чым жа выступяць?** // Бацькаўшчына. №10 (396). 9 сакавіка 1958.
**Залужны, П. Зыгзагі савецкай гістарычнай навукі** // Бацькаўшчына. №32 (418). 24 жніўня 1958; №33 (419). 31 жніўня 1958.
**Залужны, П. Кастусь Каліноўскі — „непрадрашэнец“** // Бацькаўшчына. №9 (395). 2 сакавіка 1958.
**Залужны, П. Патрэбны цьвярозы пагляд і наважанае супрацьдзеяньне. (Да падзеяў на Блізкім Усходзе)** // Бацькаўшчына. №31 (417). 17 жніўня 1958.
**Залужны, П. „Прынцыпы“ савецкай сацыялістычнай культуры** // Бацькаўшчына. №20 (406). 18 травеня 1958.
**Залужны, П. Расейскія „адкрыцьці“ ў гісторыі Беларусі** // Бацькаўшчына. №45—46 (431—432). 30 лістапада 1958.
**Залужны, П. Расейшчына й беларускае грамадзтва ў Польшчы** // Бацькаўшчына. №35 (421). 14 верасьня 1958.
**Залужны, П. Савецкае выкрыўленьне гісторыі** // Бацькаўшчына. №28 (414). 3 жніўня 1958.
**Залужны, П. Савецкае крывадушша** // Бацькаўшчына. №1—2 (387—388). 7 студзеня 1958.
**Залужны, П. Савецкі павільён на Бруксэльскай Міжнароднай Выстаўцы** // Бацькаўшчына. №26 (412). 13 ліпеня 1958.
**Залужны, П. Савецкія турыстыя на Бруксэльскай Міжнароднай Выстаўцы** // Бацькаўшчына. №27 (414). 20 ліпеня 1958.
**Залужны, П. Супраць выкрыўленьня запраўднасьці** // Бацькаўшчына. №6 (392). 9 лютага 1958.
**Залужны, П. Шляхам нявольніцкага паслухмянства** // Бацькаўшчына. №14—15 (400—401). Вялікдзень 1958.
**Залужны, П. Юбілейны хвальш і запраўднасьць. (Да адзначэньня 40-годзьдзя БССР)** // Бацькаўшчына. №37 (423). 28 верасьня 1958; №38 (424). 5 кастрычніка 1958; №39 (425). 12 кастрычніка 1958.
**Залужны, П. Яшчэ аб Хрушчоўскай рэформе сярэдніх школаў** // Бацькаўшчына. №41—42 (427—428). 2 лістапада 1958.
**П. З. Акадэмік Ул. Пічэта і этнагенэза Беларускага народу** // Бацькаўшчына. №49—50 (435—436). Каталіцкія Каляды 1985.
**П. З. Да пытаньня каланіялізму й двух поглядаў на каланіялізм** // Бацькаўшчына. №49—50 (435—436). 25 сьнежня (Каталіцкія Каляды).





**П. З. Каб ня гэтая бульба** // Бацькаўшчына. №40 (426). 19 кастрычніка 1958.
**П. З. Наступ савецкай рэакцыі. (Да наступу супраць „рэвізіянізму“)** // Бацькаўшчына. №41—42 (427—428). 2 лістапада 1958.
**П. З. Рэвалюцыя, ды ня тая...** // Бацькаўшчына. №43 (429). 9 лістапада 1958.
**П. У. Супольны канцэрт у Мюнхэне. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. №28 (414). 3 жнівеня 1958.
**Урбан, П. Да пытаньня нацыянальнага супраціву ў СССР (на прыкладзе БССР)** // Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 9. Мюнхен, 1958. С. 5—63.
**Урбан, П. Зварот да ранейшых догмаў у савецкай гістарычнай навуцы** // Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 8. Мюнхен, 1958. С. 53—68.
**Урбан, П. К вопросу о возрастающей экспансии советской исторической науки** // Обзор важнейших событий в СССР. Институт по изучению СССР. №120. Мюнхен, 1958. С. 1—15.
**Urban, P. Belorussian Opposition to the Soviet Regime** // Belorussian Review. Institute for the Study of the USSR. No 6. Munich, 1958. P. 30—44.
**Urban, P. The Re-Stalinization of the Soviet Historical Sciences** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. No 1. Munich, 1958. P. 46—52.
**Urban, Paul. Orientalistik und Asienpolitik der Sowjets** // Osteuropa. Zeitschrift für Gegenwartsfragen der Ostens. Haft 12. Stuttgart, 1958. S. 797—804.

*1959*

**Залужны. Наступ на нацыянальныя мовы** // Бацькаўшчына. №45 (481). 6 сьнежаня 1959.
**Залужны, П. XXI зьезд і савецкая гістарычная навука** // Бацькаўшчына. №7—8 (443—444). 22 лютага 1959.
**Залужны, П. Да пытаньня „дзяржаўнага разьмежаваньня“** // Бацькаўшчына. №15—16 (451—452). 19 красавіка 1959; №17 (453). 26 красавіка 1959.
**Залужны, П. Да русыфікатарскай палітыкі Масквы** // Бацькаўшчына. №18 (454). Праваслаўны Вялікдзень 1959.

**Залужны, П. Ідэялёгія й рэчаіснасьць** // Бацькаўшчына. №19 (455). 10 травеня 1959.
**Залужны, П. На маргінэсе III зьезду пісьменьнікаў СССР //** Бацькаўшчына. №23 (459). 7 чырвеня 1959.
**Залужны, П. На тэму дня //** Бацькаўшчына. №47—48 (483—484). Каталіцкія Каляды 1959.
**Залужны, П. Няўжо ж гэта не чарнасоценская рэакцыя?** // Бацькаўшчына. №3 (439). 18 студзеня 1959.
**Залужны, П. „Прагрэсіўнасьць“ расейскага каляніялізму** // Бацькаўшчына. №36 (472). 27 верасьня 1959.
**Залужны, П. Расейскі цынізм. (Ташкентская канфэрэнцыя)** // Бацькаўшчына. №24 (460). 14 чырвеня 1959.
**Залужны, П. Рэакцыя ў савецкай гістарыяграфіі** // Бацькаўшчына. №38—39 (474—475). 18 кастрычніка 1959.
**Залужны, П. „Сьвяточныя падарункі“ беларускаму народу** // Бацькаўшчына. №4 (440). 25 студзеня 1959.
**Залужны, П. Хатка на... калёсах //** Бацькаўшчына. №40 (476). 25 кастрычніка 1959.
**Залужны, П. Хвальба собскае крыўды** // Бацькаўшчына. №5 (441). 1 лютага 1959.
**Залужны, П. Цынізм савецкае моўнае палітыкі //** Бацькаўшчына. №35 (471). 20 верасьня 1959.
**Залужны, П. Чужымі створана рукамі. (Да артыкулаў Маргунскага ў беластоцкай „Ніве“)** // Бацькаўшчына. №10 (446). 8 сакавіка 1959; №11—12 (447—448). 25 сакавіка 1959; №13 (449). Каталіцкі Вялікдзень 1959.
**Урбан, П. XXI съезд КПСС и советская историческая наука //** Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №4. Мюнхен, 1959. Стр. 1—17.
**Урбан, П. 40-я ўгодкі БССР і ейнай Камуністычнай партыі //** Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 11. Мюнхен, 1959. С. 20—54.
**Урбан, П. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. (Кароткі гістарычны нарыс) //** Беларускі зборнік. Інстытут для вывучэньня СССР. Кн. 10. Мюнхен, 1959. С. 5—49.
**Урбан, П. Да пытаньня аб савецкай нацыянальнай палітыцы //** Бацькаўшчына. №40 (476). 25 кастрычніка 1959; №41 (477). 8 лістапада 1959; №42 (478). 15 лістапада 1959.





**Urban, P. Changing Trends in Soviet Historiography //** Caucasian Review. Institute for the Study of the USSR. No 9. Munich, 1959. P. 11—24.
**Urban, Paviel. The Belorussian Soviet Socialist Republic. (A Brief Historical Outline) //** Belorussian Review. Institute for the Study of the USSR. No 7. Munich, 1959. P. 3—22.

*1960*

**Залужны, П. „Акоў паломаных жандар“. (Пра антыбеларускія канцэпцыі Р. Шлапака) //** Бацькаўшчына. №50—51 (534—535). 25 сьнежня 1960. (Каталіцкія Каляды); №1—2 (536—537). 7 студзеня 1961. (Праваслаўныя Каляды).
**Залужны, П. Апошні прыклад савецкай дэмагогіі** // Бацькаўшчына. №42 (526). 23 кастрычніка 1960.
**Залужны, П. Балтыцкае пытаньне ў савецкай нацыянальнай палітыцы //** Бацькаўшчына. №18 (502). 1 травеня 1960.
**Залужны, П. Грунвальдзкая бітва ў савецкай інтэрпрэтацыі** // Бацькаўшчына. №44 (528). 6 лістапада 1960.
**Залужны, П. Змаганьне з „буржуазным нацыяналізмам“ завайстраецца** // Бацькаўшчына. №7 (491). 14 лютага 1960.
Залужны, П. Культурная рэвалюцыя ці рэакцыя **// Бацькаўшчына. №31—32 (515—516). 14 жніўня 1960.**
**Залужны, П. Нішчэньне гісторыі нерасейскіх народаў** // Бацькаўшчына. №45(529), 13 лістапада 1960.
**Залужны, П. Расейскі камунізм** // Бацькаўшчына. №28 (512). 17 ліпеня 1960.
**Залужны, П. Сьлядамі „Дабрасельцаў“ Кулакоўскага //** Бацькаўшчына. №11 (495). 13 сакавіка 1960.
**Залужны, П. У імя міжнароднай справядлівасьці //** Бацькаўшчына. №33 (517). 28 жніўня 1960.
**Залужны, П. Усё тое ж пераліваньне з пустога ў парожняе** // Бацькаўшчына. №6 (490). 7 лютага 1960.
**Залужны, П. Хоць-бы крыху аб'ектыўнасьці!.. //** Бацькаўшчына. №36—37 (520—521). 18 верасьня 1960.
**Залужны, П. „Цені на сонцы“. (Пра савецка-кітайскія дачыненьні) //** Бацькаўшчына. №24—25 (508—509). 26 чэрвеня 1960.

**Залужны, П. Чарговы наступ расейшчыны** // Бацькаўшчына. №16 (500). Вялікдзень, 1960.
**Залужны, П. Як зьнікаюць Беларусы і іншыя народы СССР** // Бацькаўшчына. №8 (492). 21 лютага 1960.
**Залужны, П. Яшчэ адна савецкая дывэрсія. (Наконт „Унівэрсытэту дружбы народаў“)** // Бацькаўшчына. №23 (507). 12 чэрвеня 1960.
**Залужны, П. Яшчэ пра зьнішчаньне гісторыі нерасейскіх народаў** // Бацькаўшчына. №46—47 (530—531). 27 лістапада 1960.
**Залужны, П. Яшчэ пра „хвальшаваньне гісторыі“** // Бацькаўшчына. №19 (503). 8 траўня 1960.
**П. В. На шляху да „сусьветнай славы“. (Праз расейскую мову і культуру)** // Бацькаўшчына. №23 (507). 12 чэрвеня 1960.
**П. У. XI Міжнародны Кангрэс гісторыкаў** // Бацькаўшчына. №35 (519). 11 верасьня 1960; №36—37 (520—521). 18 верасьня 1960; №38 (522). 25 верасьня 1960.
**П. У. Міжнародны кангрэс гісторыкаў** // Бацькаўшчына. №33 (517). 28 жніўня 1960.
**Урбан, П. К. О зигзагах советской национальной политики. (В связи с Ташкентской научной сессией советских историков)** // Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №12—13 (февраль—март 1960). Мюнхен, 1960. С. 74—90.
**Urban, P. The New Soviet Drive Against Nationalism in Turkestan** // The East Turkic Review. Institute for the Study of the USSR. No 4. Munich, 1960. P. 13—23.
**Urban, P. The Policy of the CPSU Toward the Nations of Central Asia** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. III. No 4. Munich, 1960. P. 64—82.
**Urban, P. The University of the Friendship of Peoples** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. III. No 5. Munich, 1960. P. 94—100.

*1961*

**Залужны, П. Адказ на „Адказ“. (Да канцэпцыяў гісторыі Беларусі А. Хацкевіча)** // Бацькаўшчына. №38—39 (573—574). 24 верасьня 1961.





**Залужны, П. Да пытаньня расейскага расізму** // Бацькаўшчына. №22 (557). 28 траўня 1961.
**Залужны, П. „Інжынеры людзкіх душ“ — партыйныя бюракраты** // Бацькаўшчына. №3 (538). 15 студзеня 1961.
**Залужны, П. Неабаснаванае хваляваньне. (Часапіс „Вопросы истории“ пра XI Міжнародны кангрэс гісторыкаў у Штакгольме)** // Бацькаўшчына. №4 (539). 22 студзеня 1961.
**Залужны, П. Некалькі слоў пра Кіеўскую канфэрэнцыю** // Бацькаўшчына. №24—25 (559—560). 25 чэрвеня 1961.
**Залужны, П. „Падтрымайце Францыю хлебам!“** // Бацькаўшчына. №41 (576). 8 кастрычніка 1961.
**Залужны, П. Пра культурную палітыку Масквы** // Бацькаўшчына. №7 (542). 12 лютага 1961; №8 (543). 19 лютага 1961; №9 (544). 26 лютага 1961; №10 (545). 5 сакавіка 1961; №11 (546). 12 сакавіка 1961; №12—13 (547—548). 26 сакавіка 1961.
**Залужны, П. Урачыстасьць з каляніяльным прысмакам** // Бацькаўшчына. №47 (582). 10 сьнежаня 1961.
**Залужны, П. Школьны камунізм. (Да партыйнай пастановы „Пра некаторыя зьмены ў школе“)** // Бацькаўшчына. №40 (575). 1 кастрычніка 1961.
**Залужны, П. Яшчэ аб моўнай рэформе ў СССР** // Бацькаўшчына. №19 (554). 7 траўня 1961.
**П. В. Дзіўная крыніца натхненьня. (Да сходу актыву творчай інтэлігенцыі БССР)** // Бацькаўшчына. №24—25 (559—560). 25 чэрвеня 1961.
**П. В. „Недыпляматычныя“ заўвагі. (Да заўвагаў Максіма Танка пра XV сэсію Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў)** // Бацькаўшчына. №23 (558). 4 чэрвеня 1961.
**П. У. Каліноўскі ў савецкай і польскай інтэрпрэтацыі** // Бацькаўшчына. №17 (552). 23 красавіка 1961.
**П. У. Кастусь Каліноўскі. (Да 97-й гадавіны сьмерці)** // Бацькаўшчына. №12—13 (547—548). 28 сакавіка 1961; №14—15 (549—550). Вялікдзень 1961.
**П. У. Ліст у рэдакцыю. (Адказ Міхасю Белямуку)** // Бацькаўшчына. №28 (563). 16 ліпеня 1961.
**Урбан, П. Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году** // Бацькаўшчына. №26 (361). 2 ліпеня 1961; №27 (562). 9 ліпеня 1961; №28 (563). 16 ліпеня 1961; №29—30 (564—565). 23 ліпеня 1961;

№31 (566). 30 ліпеня 1961; №32 (567). 6 жніўня 1961; №33 (568). 13 жніўня 1961; №34 (569). 20 жніўня 1961; №35 (570). 27 жніўня 1961; №36 (571). 3 верасьня 1961; №37 (572). 16 верасьня 1961.

**Урбан, П. Дзіва вартыя высновы ўкраінскага навукоўца //** Бацькаўшчына. №42—43 (577—578). 22 кастрычніка 1961.

**Урбан, П. Масква на шляху да ліквідацыі гісторыі народаў СССР** // Бацькаўшчына. №44 (579). 29 кастрычніка 1961; №45 (580). 12 лістапада 1961; №46 (581). 19 лістапада 1961; №47 (582). 10 сьнежаня 1961.

**Urban, P. La Universidad de la Amistad Entre los Pueblos //** Estudios sobre la Unión Soviética. Instituto de Estudios sobre la URSS. No 1. Munich, 1961. P. 95—104.

**Urban, Paul. Moskaus heutige Kulturpolitik gegenüber den nichtrussischen Völkerschaften der Sowjetunion //** Osteuropa. Zeitschrift für Gegenwartsfragen der Ostens. Haft 3. Stuttgart, 1961. S. 212—226.

**Urban, Pavel K. The Current Tasks Of Soviet Historians //** Journal of Human Relations. Vol. IX. №2. Wilberforce, Ohio, 1961. P. 275—283.

*1962*

**Урбан, П. Адзнакі нацыі адміраюць, а нацыі ўсьцяж існуюць //** Бацькаўшчына. №3 (587). 28 студзеня 1962.

**Залужны, П. „Заканамерныя“ асаблівасьці савецкай гістарычнай навукі** // Бацькаўшчына. №14 (598). 28 кастрычніка 1962.

**Залужны, П. У імя справядлівасьці** // Бацькаўшчына. No 7 (591). 8 красавіка 1962.

**Урбан, П. Засяленьне Беларусі ў сьвятле новых археалягічных дадзеных** // Бацькаўшчына. №1—2 (585—586). Праваслаўныя Каляды 1962.

**Урбан, П. Калі мерыць, дык трэба аднолькава** // Бацькаўшчына. №5 (589). 4 сакавіка 1962.

**Урбан, П. Новае хвальшаваньне гісторыі пачынаецца** // Бацькаўшчына. №10 (594). 1 ліпеня 1962.

**Урбан, П. Шчасьлівая разьвязка?.. (Скуль пайшоў назоў „Беларусь“?)** // Бацькаўшчына. №12 (596). 22 жнівеня 1962.





**Урбан, П. К. Изучение стран Латинской Америки в СССР //** Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №35—36. Мюнхен, 1962. С. 36—47.

**Урбан, П. К. О национальном сопротивлении советской молодежи (на примере Белоруссии) //** Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №38—39. Мюнхен, 1962. С. 122—126.

**Урбан, П. К. О реабилитации М. Н. Покровского //** Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №40 (168). Мюнхен, 1962. С. 31—47.

**Urban (Ourban), P. L’enseignement de l’histoire en U.R.S.S. après la réforme de 1959 //** Problèmes soviétiques. Institut d’études sur L’U.R.S.S. No 5. Munich, 1962. P. 127—135.

**Urban, P. Los Estudios Iberoamericanos en la URSS //** Estudios sobre la Unión Soviética. Instituto de Estudios sobre la URSS. No 3. Munich, 1962. P. 27—40.

**Urban, Paul. Die politischen Aufgaben der sowjetischen Historiker //** Sowjet Studien. Institute zur Erforschung der UdSSR. No 13 (Dezember 1962). München, 1962. S. 112—126.

**Urban, Paul. Moskaus Nationalitätenpolitik //** Osteuropa. Zeitschrift für Gegenwartsfragen der Ostens. Haft 1—2. Stuttgart, 1962. S. 113—117.

**Urban, Pavel. The Reorganization of Soviet Education //** Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. II. No 2. Munich, 1962. P. 89—103.

*1963*

**Залужны, П. Абаронца расейскага імпэрыялізму //** Бацькаўшчына. №12 (612). Лістапад 1963.

**Залужны, П. Беспадстаўна быць „добраахвотнымі нявольнікамі“** // Бацькаўшчына. №13—14 (613—614). Сьнежань 1963.

**Залужны, П. „Наша Ніва“ зноў пад абстрэлам //** Бацькаўшчына. №10 (600). 1 верасьня 1963.

**Залужны, П. Некалькі заўвагаў адносна сучаснае савецкае нацыянальнае палітыкі** // Бацькаўшчына. №3 (603). 25 сакавіка 1963.

**Залужны, П. Паварот да сталінскага „клясыцызму“** // Бацькаўшчына. №5 (605). 15 травеня 1963.
**Залужны, П. „Сацрэалізм“ ці нявольніцкае выслужваньне?** // Бацькаўшчына. №8 (608). 15 ліпеня 1963.
**Залужны, П. Як-жа ўзьнікла беларуская „буржуазная“ нацыя** // Бацькаўшчына. №1 (601). Праваслаўныя Каляды 1963.
**Урбан, П. У сотыя ўгодкі Паўстаньня 1863 года** // Бацькаўшчына. №3 (604). 25 сакавіка 1963.
**Урбан, П. К. Национально-историческая проблематика в белорусской советской литературе** // Материалы и сообщения Исследовательского отдела. Институт по изучению СССР. №48. Мюнхен, 1963. С. 233—243.
**Урбан, Павал. Кастусь Каліноўскі і „Мужыцкая праўда“** // Запісы БІНіМ. №2 (8). Мюнхен, 1963. С. 37—73.
**Urban, Pavel. Discussions on Soviet Historiography** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. II. No 4. Munich, 1963. P. 84—90.

*1964*

**Залужны, П. Незаслужаны юбілей** // Бацькаўшчына. №3—4 (617—618). Сакавік 1964.
**Урбан, П. Прачытаўшы працу М. Кулічэнкі** // Бацькаўшчына. №9—10 (623—624). Жнівень 1964.
**Урбан, Павал. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін „Літва“** // Запісы БІНіМ. №3 (9). Мюнхен, 1964. С. 37—73.
**Urban, P. Soviet Historical Science and the Position of Soviet Historians** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. Vol. XI. No 9. Munich, 1964. P. 24—32.
**Urban, P. Tapeas Impuestas a los Historiadores Soviéticos** // Estudios sobre la Unión Soviética. Instituto de Estudios sobre la URSS. No 9. Munich, 1964. P. 50—71.
**Urban, Pavel K. The New Soviet Line on the Process of History** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 20. Munich, 1964. — 7 p.





*1965*

**Залужны, П. Пра савецкія злачынствы** // Бацькаўшчына. №2 (629). Сакавік 1965.
**П. З. Лёс гістарычных помнікаў у БССР** // Бацькаўшчына. №3 (630). Красавік 1965.
**Урбан, П. К. Движущие силы исторического процесса. (Новые течения в советской историографии)** // Сообщения Института по изучению СССР. №1. Мюнхен, 1965. С. 126—134.
**Урбан, Павел К. Новые течения в советском понимании исторического процесса** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №350. Мюнхен, 9 февраля 1965. — 8 с.
**Urban, P. Soviet Historiography Between Dogmatism and Revisionism** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. Vol. XII. No 8. Munich, 1965. P. 26—38.
**Urban, Pavel K. The New Soviet Line on the Process of History** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. IV. No 4. Munich, 1965. P. 236—240.

*1966*

**Залужны, П. Незвычайныя адкрыцьці** // Бацькаўшчына. №1 (634). Сакавік 1966.
**Урбан, П. Кіеўская Русь ці незалежнае Полацкае Княства** // Бацькаўшчына. №2 (635). Чырвень 1966.
**Урбан, П. Спроба рэгабілітацыі гісторыі Беларусі ў БССР** // Бацькаўшчына. №1 (634). Сакавік 1966.
**Урбан, П. К. „Научный коммунизм“** // Сообщения Института по изучению СССР. №5 (191). Мюнхен, 1966. С. 21—33.
**Урбан, П. К. Советская историческая наука в свете решений XXIII съезда КПСС** // Сообщения Института по изучению СССР. №7 (193). Мюнхен, 1966. С. 67—74.
**Урбан, П. К. Советская историческая наука после XXIII съезда КПСС** // Сообщения Института по изучению СССР. No 9 (195). Мюнхен, 1966. С. 37—48.
**Urban, P. What is „Scientific Communism“?** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. Vol. XIII. No 9. Munich, 1966. P. 26—30.

**Urban, Pavel. Party Pronouncements on Ideological Conformity** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. VI. No 1. Munich, 1966. P. 35—39.

*1967*

**Урбан, П. К. Возрождение „национализма“ в историографии БССР** // Сообщения Института по изучению СССР. №12 (198). Мюнхен, 1967. С. 48—69.
**Урбан, П. К. Советская теория возникновения Киевской Руси** // Сообщения Института по изучению СССР. №15 (201). Мюнхен, 1967. С. 48—69.
**Урбан, Павел К. Новые тенденции в оценке Сталина и его теоретического наследия** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №448. Мюнхен, 28 марта 1967. — 8 с.
**Urban, P. A Soviet Discussion on the of Nationhood** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. Vol. XIV. No 5. Munich, 1967. P. 37—48.
**Urban, P. La science historique soviétique après le vingt-troisième congrès du P.C.U.S.** // Problèmes soviétiques. Institut d'études sur l'U.R.S.S. No 14. Munich, 1967. P. 64—73.
**Urban, P. Post-Congress Developmental Trends in Soviet Historical Science** // Bulletin. Institute for the Study of the USSR. Vol. XIV. No 2. Munich, 1967. P. 33—40.
**Urban, P. Qué es el „Comunismo Cientifico“?** // Estudios sobre la Unión Soviética. Instituto de Estudios sobre la URSS. Vol. VII. No 21. Munich, 1967. P. 62—66.
**Urban, P. Una Discusión Soviética sobre el Concepto de Nationalidad** // Estudios sobre la Unión Soviética. Instituto de Estudios sobre la URSS. Vol. VII. No 24. Munich, 1967. P. 69—80.
**Urban, Pavel. Soviet Attitudes to Stalin Display Ambiguity** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 448. Munich, 1967. — 7 p.

*1968*

**Урбан, Павел К. К перестройке управления советской военной исторической наукой** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №504. Мюнхен, 28 мая 1968. — 8 с.
**Урбан, Павел К. Новая советская интерпретация принципа государственного суверенитета** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №528. Мюнхен, 17 декабря 1968. — 8 с.
**Urban, Pavel. A New Soviet Concept of State Sovereignty** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 528. Munich, December 17, 1968. — 6 p.
**Urban, Pavel. Party Tightens Up on Writing of Military History** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 504. Munich, 1968. — 7 p.

*1969*

**Урбан, П. К. Новая советская интерпретация права наций на самоопределение и суверенитета социалистических государств** // Сообщения Института по изучению СССР. №21 (207). Мюнхен, 1969. С. 28—43.
**Урбан, Павел К. Столкновения по вопросам философии истории** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №570. Мюнхен, 14 октября 1969. — 8 с.
**Urban, Pavel. Soviet Historians Incur Party Displeasure** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 570. Munich, October 14, 1969. — 7 p.
**Urban, Pavel. The Nationality Question** // Studies on the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. Vol. IX. No 1. Munich, 1969. P. 56—72.

*1970*

**Урбан, Павел К. К предстоящему Московскому Международному конгрессу историков** // Анализ текущих событий в Советском Союзе. Институт по изучению СССР. №350. Мюнхен, 9 февраля 1965. — 8 с.
**Urban, P. K. Aufgaben und Organisation der heutigen sowjetischen Geschichtswissenschaft** // Sowjetstudien. Institut zur Erforschung der UdSSR. №28. München, 1970. S. 89—100.

**Urban, Paul. Moskaus Sprachenpolitik in Belorussland** // Osteuropa. Zeitschrift für Gegenwartsfragen der Ostens. Haft 2. Stuttgart, 1970. S. 104—113.
**Urban, Pavel. Los Historiadores Soviéticos se Preparan para el Congreso Internacional** // Análisis de Actualidades Soviéticas. Instituto de Estudios sobre la URSS. No 174. Munich, 15 de Julio de 1970. — 6 p.
**Urban, Pavel. Soviet Historians Prepare for International Congress** // Analysis of Current Developments in the Soviet Union. Institute for the Study of the USSR. No 605. Munich, June 23, 1970. — 6 p.

*1981*

**Залужны, П. Беларуска-ўкраінскі навуковы вечар** // Беларус. №293. Кастрычнік 1981.

*1984*

**Залужны, П. Ягайла. На 550-ыя ўгодкі сьмерці** // Беларус. №320. Чырвень 1984; №321. Ліпень—жнівень 1984; №322. Верасень—кастрычнік 1984; №323. Лістапад 1984.

*1988*

**П. У. Курапаты на аўстрыйскім ТБ** // Беларус. №354. Сьнежань 1988.

*1995*

**Урбан, Паўла. Яшчэ да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў** // Спадчына. №2 (110). Мінск, 1995. С. 11—26; №3 (111). Мінск, 1995. С. 3—7.

*1996*

**Урбан, Паўла. Мова старажытных ліцьвіноў** // Спадчына. №3 (117). Мінск, 1996. С. 3—15.

*Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі*



*Музэй*

# ЦАРКВА Ў МЮНХЭНЕ

У адным з раёнаў паўночна-ўсходняй часткі Мюнхэну месьціцца царква міру Ўсходу й Захаду. Невялікую драўляную бажніцу пабудаваў у 1952 г. сьвятар Цімафей Прохараў (1894—2004), казак, нарадзінец Растоўскай вобласьці Расеі[1]. Дапамагалі ў аздабленьні ды наладжваньні працы царквы беларусы Надзея Абрамава-Тэадаровіч, былая кіраўнічка Саюзу беларускай моладзі ў Беларусі ды тагачасная працаўніца мюнхэнскага Інстытуту вывучэньня СССР, ды ейны бацька мастак Аляксандар Абрамаў-Сушынскі. Менавіта з аднаго зь лістоў Надзеі Абрамавай і магчыма даведацца пра гісторыю стварэньня гэтай унікальнай сьвятыні:

*„Вас интересует история постройки церкви на окраине Мюнхена. Да, я хорошо знаю эту историю и помогала этой затее. Отец* [Аляксандар Абрамаў-Сушынскі. — ***Рэд.***] *для этой церкви нарисовал даже две иконы. Человек этот — казак из бывших послушников северокавказского монастыря. Когда громили большевики монастырь и убивали схимников, он, будучи ещё молодым человеком, убежал из монастыря. Работал в шахтах как мирянин. Каких-нибудь точных религиозных знаний в монастыре он не успел приобрести, а работая в шахтах, по-видимому, соприкасался с разными группами — со старообрядцами, с сектантами разных оттенков — и получилась в его мировоззрении религиозном такая перепутаница, что не разберешь: фрагменты самых разных верований.*

*Церковь он построил в стиле восточного православия, с куполом, с иконостасом (отец и я расписывали алтарь). При церкви махонькая часовня Божей Матери, в которую я помогала ему собирать со всех стран мира наиболее чтимые изображения Божей Матери. Таким образом, она является, в некотором смысле, музеем — там все Её лики, от черных (негритянских, индийских) да наших с Камчатки, где впервые был построен православный храм.*

[1] Гардзіенка, Алег. Беларускі след у цэнтры Мюнхена // Туризм и отдых. №13. 2010.

*Отец очень любил туда ходить. Церковка очень уютная. Строил её этот Тимофей со своей названной сестрой Наташей, вдвоем. Как они подымали эти стены, из тонких досок, но стены, один Господь Бог знает. Они мне говорили: „Вот не могём узнять, так Наташа как закричит „Дык што-ж, Ты, Господи, не видишь, што нам не в силу? Так памажы-ж!“ И, смотрим, идет человек дорогой: что это Вы тут делаете? А вот церковь Божию строим, да тяжко. Раздевает поддёвку, да и в помощь нам. Так вот святая Троица и позаботится“.*

*Так и построили храм. Тимофей со своей верой не признаёт никаких церковных юрисдикций. Чтобы им помочь, чтобы обезопасить их труд и землю защитить, на которой они всё это самочинно возвели, я хотела закрепить это при помощи церковных властей. Приглашала туда католического епископа. Он умилился. Благословил. И конечно бы помог, если бы Тимофей проявил какое-то желание подчинить сотворенное им церковной власти. Увидев его нежелание, подумала, может он не хочет под католическую защиту подвести его сооружение. Стала уговаривать его связаться с православным архиепископом. Ходила сама к архиепископу Мюнхенскому, говорила о церкви и просила, чтоб он как-то защитил сооруженное. Но Тимофей и тут дал мне бой. А сам нашел какого-то батю и стал звать его служить. Батя — московской (советской) патриархии приверженец. Я предупредила Тимофея, сказав, что советчикам только того и надо, что бы поставить в Мюнхене ногу и тем внести смуту в зарубежную церковную жизнь. В общем, Тимофей не хочет, чтобы его сооружение кому-либо было подчинено. Служить же, по его, в церкви могут все. Он в самом широком смысле экуменист, идущий гораздо шире объединения в молитве только христиан. Он искренне был рад, когда в его храме молилась еврейка. Торжествующе сообщил мне о том, что мусульмане и мормоны и „какие-то“ антропософы приходят к нему и молятся с ним. Он уверен, что никогда не умрёт, что эта церковка его будет той скинией небесной, которая, по Апокалипсису, будет вознесена на небо, спасая в себе 140 000 праведных душ. „Все они, миленькие, соберутся, как один, в этом храме, как только труба Господня возвестит“. Вот это общий облик того, что выросло из недр типично русской, бунтарской против всего и вся души, устремлённой непосредственно (без каких-либо церковных посредников из духовенства) к Богу. Признаться, мне нравилось, когда он разговаривал с католическим епископом и называл его на „ты“ и „дорогой брат“, и тот его тоже. Так обнявшись, они и обходили это рукотворение во*





*имя Бога, которого принято понимать иначе, и во имя церкви, какой по существу ещё нет на земле“*[2].

Пазьней была Алімпіяда 1972 г. у Мюнхэне, дзеля якой арганізатары зьбіраліся зьнесьці царкву. Аднак мюнхэнцы абаранілі будынак і яго стваральніка, напісаўшы зварот да гарадзкіх уладаў. Бажніца засталася на тым самым месцы. Айцец Цімафей пражыў працяглае жыцьцё, і на ягонае пахаваньне ў 2004 г. прыйшлі тысячы жыхароў гораду. Царква ж міру Ўсходу й Захаду засталася адной са славутасьцяў Мюнхэну й да сёньня[3]. Аднак гісторыя яе была зьвязаная ня толькі з двума пазначанымі вышэй беларусамі.

У фотаархіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны захаваліся здымкі зь цікавай падзеі, што выглядае ўласна на высьвячэньне царквы. Уважаючы на згадкі пра каталіцкага біскупа ў лісьце Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч, прысутнасьць каталіцкіх сьвятароў у царкве выглядае зразумелаю. Здымкі датаваныя 27 ліпеня 1958 г. і на іх адлюстраваныя тры беларускія каталіцкія сьвятары з трох розных краінаў: а. Часлаў Сіповіч (Вялікабрытанія), а. Леў Гарошка (Францыя) ды а. Уладзіслаў Салавей (Нямеччына), а таксама шэраг вядомых беларускіх дзеячаў з тагачаснай Нямеччыны: акрамя ўласна Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч, опэрная сьпявачка Барбара Вэржбаловіч, пісьменьнік і журналіст Пётра Сыч, працаўнік Інстытуту вывучэньня СССР Сымон Кабыш-Кандыбовіч і некаторыя іншыя. Такім чынам, можна меркаваць, што царкву айца Цімафея высьвячалі менавіта беларускія каталіцкія сьвятары.

Колькі цікавых здымкаў з жыцьця царквы захаваліся й ва ўласным фотаархіве Абрамавых, што трапіў у БІНіМ. І гэтыя здымкі, і тыя, што былі знойдзеныя ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны, публікуюцца ніжэй як гістарычныя сьведчаньні беларускай прысутнасьці яшчэ ў адным цікавым месцы на культурнай мапе Эўропы.

[2] Ліст Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч да Яніны Каханоўскай, недатаваны. Апублікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі. Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. С. 149—151.

[3] Гардзіенка, Алег. Беларускі след у цэнтры Мюнхена // Туризм и отдых. №13. 2010.

# *Музэй*

## НАТАТНІК ПЁТРЫ СЫЧА

*Літаратар і журналіст Пётра Сыч нарадзіўся 18 студзеня 1912 г. у в. Батурына Вялейскага павету Віленскай губэрні (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.). У 1929 г. скончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філялягічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, але вымушаны быў кінуць навучаньне ды ўладкавацца на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газэтаў у Вільні. У 1939 г. Пётру Сыча мабілізавалі ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны і ў чэрвені 1940 г. пераведзены зь вялейскай у полацкую турму ды асуджаны на 10 гадоў лягераў. Пакараньне адбываў у Комі АССР.*

*Калі пачалося стварэньне Арміі Андэрса, Пётра Сыч як былы польскі грамадзянін скіраваўся ў Сярэднюю Азію. У шэрагах Арміі прайшоў праз Іран, Ірак, Сырыю, Палестыну, Эгіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону й Балёнію. У сваім найбольш вядомым творы — аповесьці „Сьмерць і салаўі"— Пётра Сыч якраз і распавёў пра бітву за Монтэ-Касіна.*

*У 1946 г. жаўнер Арміі Андэрса разам зь іншымі такімі ж апынуўся ў Вялікабрытаніі. Тут навязаў сувязь з суайчыньнікамі, стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі ды Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адначасова Пётра Сыч, які няблага маляваў і пісаў, стаў актыўным аўтарам і супрацоўнікам часопісу „Беларус на Чужыне".*

*У 1951 г. журналіст пераехаў у Мюнхэн, дзе стаў супрацоўнікам газэты „Бацькаўшчына". На яе старонках часта можна сустрэць матэрыялы за подпісам „пс". Тут жа ў Мюнхэне Пётра Сыч выдаваў уласны сатырычны часопіс „Шарсьцень" (1952—1954). З 1954 г. быў намесьнікам галоўнага рэдактара Беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне". Журналісцкая й пісьменьніцкая кар'ера не была працяглая. 20 чэрвеня 1964 г. Пётра Сыч памёр там жа ў Мюнхэне.*





*З творчай спадчыны Сыча больш-менш дасьледаваная толькі аповесьць „Сьмерць і салаўі"[1]. Тым часам па-за ўвагай навукоўцаў застаюцца артыкулы й шматлікія фэльетоны аўтара. Арыгінальны гумар Сыча выяўляецца і ў ягоным нататніку. Гэты блізкі да фармату А5 сшытак захоўваецца ў фондах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Паводле датаў пад некаторымі запісамі, нататнік можна аднесьці недзе да 1953—1954 гг. Тут вершы, кароткія выслоўі вядомых людзей і ўласныя Сыча, а таксама малюнкі, накіды, пераважна партрэтнага характару. На жаль, складана сёньня адназначна вылічыць, каго менавіта маляваў Пётра Сыч, але найбольш імаверна, што гэта людзі з тагачаснага ягонага беларускага атачэньня: з радыё, з рэдакцыі „Бацькаўшчыны". Магчыма, нехта з гісторыкаў ці літаратуразнаўцаў зацікавіцца ідэнтыфікацыяй партрэтаў ды зьместам запісаў, часам даволі фрывольных.*



Пётра Сыч

[1] Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна. Артыкулы, дакумэнты. Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 124 с.


Мусім сказаць народу праўду,
а ён выратуе Радзіму.
(Lincoln)
Можна кахаць сваю партыю,
"...Вокруг нас рать! Кругом нас рать!
Вся Русь! —
Вскричал Мамай
и с раной побежал
в Сарай.
И битвою мать-Россия спасена..."
(из древней летописи)




Шурке.
Ваш нос
На дзьвух рос,
Ваш язык — на пяцёх,
Хоць ад доўгіх-жа ног
Добры Бог Вас сцярог.

Лета ўжо зулак. Вясна заціхае.
Адпеніцца бэзу ўпойны туман,
Апошняя свечка ў лісьці дагарае —
Як згаслы падсьвечнік цямнее каштан,
Салавей дапявае апошняе скэрцо;
Розходзяцца госьці. Скончыцца боль.
Лета гарачае выстудзіць сэрца.
Усьці неахвота... Так жаль вясны... Жаль!

На раньнюю пожню рушацца жнеі,
Не пайду зь імі — мне нечага жаць.
Но жаль, я нічога вясной не пасеяў,
Таму мне жніва неахвота чакаць.

Вясна мая бурай ліхой прамчала —
бурай грымотнай, стыхійнай, жывой.
Толькі шкада, што тэй буры не стала
І сёньня цярушыцца шэрай імглой.

Пассаў, 21.5.1953.









Vielleicht kann man glücklich sein, wenn man glücklich sein will, und ich habe einmal gelesen, ~~man könnte~~ man könnte das Glück auch lernen

Fontane

Niemand hat einen Begriff, daß der Mensch resignieren muß, wenn er zu etwas kommen will.

Goethe

Wenn der Mensch sich selbst bleibt, bleibt ihm viel.

Goethe


Бяда быць прарокам у сваім краі,
але горшая — быць разуменым сярод
украінцаў
16.7.






Чым бліжэй пазнаю Расійцаў,
тым больш шаную звяроў.
15.7.83.

Як добра, што мой ён сьвез,
Ня мог сабраць і ў даль панесьці.

Пашто нянчыў, жорсткі сьвет,
Меў-бы сьмяяцца поўны злосьці,
Што плакаў я, быццам паэт,
Па песьне, шчасьці, маладосьці?

Пассаў 7.10.1953.





(Успаміна апошняга
спатканьня з М. Равенскім)

Няўдаўна так, бо год назад —
Таксама плакаў лістапад.
Сьлязьмі сьцякаючы па шкле,
За вокнам мокла ноч у імгле.
Але ў пакой-сваёйска так,
Нас двух, піяніна і каньяк.
Да нас зышліся на Дзяды —
Чые зь зямлі час сьцёр сьляды,
Якіх зглушыла тундраў шыр,
Сьнягі тайгі, Байкал, Сібір...
Сталін пільнуецца над вякоў,
Як слуцкіх паясоў узор.
За іх спакой і за нам жаль
До-ре-мі-фа — запей крышталь...
Пасьля ў чужую ноч і цішэ
So-la-si-do — сьмянуў клявіш.
А з-за вакна, пад гамы тон,
Поўнач адбіў на вежы звон. —
З тонам мяшаўся сум і жар.
Апошні раз мне пеў пясьняр...

Не паставяць мне мармураў, хіба пляшку ў шынку,
Як агорне мяне непраглядная цьма —
З маёй хаты ня будзе рабіць нікто здымкаў —
Ды і хаты даўно ўжо няма...

Зарастуць мае сцежкі лебядою ды крапівой,
Калі будзе — магілка такжэ зарасце,
Пройдзе дзень і забудуцца ўсе што жыў-быў я,
Што кахаў я, што піў, што цярпеў.

І шкада і ня вельмі: надоела без толку
На чужых бездарожжах набіваць мазалі.
Дзе, зашто не хапіся — ўсё адну столку
І нікому сказаць, што баліць.

А я
Што не разбрахуся ў Тылі на рынку? —
Таксама ня повад да слёз і журбы:
Што-ж стаяў-бы вякі і нудзеў без спачынку,
Ды брудзілі-б лоб галубы.

Што чужая зямля? — Прыгажэй мо' свая-бы:
Такі жоўценькі, мяккі, сухенькі пясок!
Нахіленную бярозка валасамі трасла-бы,
Або крэпкі шумеў-бы дубок...





Але што-ж, — я прашу свае бронзы вясною,
Душы скарб разьмяняў на прыпол медзякоў;
Дом далёка, сон марыць... Эх! заснуць-бы спакойна
Пад сумны напеў журавоў

13. 10. 1953.



Песьні

I

Гора маё, Далібог!
Папакала мяне брат —
Падай на іх пусты канец —
Усе тры і — бяз яец...
Вось занзіканы мой лёс!
А мне сьніцца Нос ды Нос...

II

Калі Паласка выйдзе у людзі —
Будзе скула камусьці, ой, будзе!..
Праўда, будзе што мацаць і гладзіць
Усё-ж-пякучая скула на задзе,





Parzę się ogniem, który w Tobie krzesi;
Że biodra wibrują i drgają kolana,

Wdycham z rozkoszą mdławy zapach szui...
Spostrzegam błąd swój:
Żyś w swoim żywiole!
Już nie mam wzgardy dla tej chamskiej szui;
Wzniosłości tego zmywa się powoli,
Aż całkiem spada...
Już czuję się nagą,
Lekka, swobodna w bezwstydzie rozkoszy,
Oczyma Cię liżę —
nawet się nie wzdragam,
Ni Cię spoconych łap zachłanność płoszy.

Wyjdziesz stąd chwiejnie z mętną mgiełką w oku,
Bijąc ociężale przez ulic pustkowia,
Gubiąc po trochę całusy w rynsztoku —
Liczę brudnych, czy party? —
Zbyt trudna odpowiedź...

Jedno jest pewne: że nikt się nie schyli
Aby je podnieść, na sercu umieścić.





Jak talizmany... —
Zwiędną w tejże chwili;
W której zakwitły —
Bez śladu...
Bez treści...
Potym....
Wiek sama... —
Nie zostało echa
Pod ołowianym niebem tego świtu...,
I znowu pozostaś ludziom się uśmiechać,
Szukać podziwów, wyznań i zachwytów.

Bzów białe kiście straciły swe czary;
Zszarzały odorem, zeń biel się ulatuła,
Od chłodu poranku, czy pieśni Tych czaru...?
Jednak ich szkoda!
Były takie białe!..

11. 12. 1951.
München



Jeszcze raz Nonnie.
24. 12. 1957.

Ja nie Ci nie życzę.
Gdzie dziś tyle kanałów?
Jak nadać życzeniom rygory poetyczne?
Tej sieczki, zapewne, otrzymać nie mało,
Co nie Ci nie powie i nic też nie zmieni.
Czy trzeci list matki Ty będziesz oblewać,
Czy gubić całusy, jak płatki róż wonne —
Szmer życzeń nie będzie nadzieją rozbrzmiewać,
Bo będzie minionej radości podzwonne —
Choć może z nas któreś w tłum szumny ucieczce —
Samotność, jak polip, nas wszędzie omota,
Świadomość, jak portret, nam bagaż przywlecze;
W nim - gorycz piekąca, bolesna tęsknota...
Co w sercu ropiącą nam raną się gnoi,
Co w duszy cmentarzu nam tka nieprzytomnie,
[illegible] chciałby uśpić, ukoić
Ersatzem roskoszy, kaprysem zapomnień.

Lecz jest może wartość w tym głębiej ukryta:
Że coś w nas się zrywa, buntuje i żali,

Że jeszcze cierpimy, gdy inni - przestali



*Друкі*

**Міхась Швэдзюк**
*Конглтан*

## КАРОТКІЯ ЎСПАМІНЫ АЙЦА МІХАІЛА БАЖАР'ЯНАВА

*Bożerianow, M. Ks. Moja Odpowiedų „Ludziom Małym“. Tengeru, p/o Arusha, Tanganyika, (Africa), 1945. — 20 s.*

*Я не пераймаюся судом сьвету:*
*Да Бога дух і думкі сьпешаць...*
*Бог асудзіць, у Яго праўда!*
*Не ў людзей, што ў няведаньні сядзяць.*

*Айцец Міхаіл Бажар'янаў.*

У газэце „Беларус“, №450 і №479, а таксама ў газэце „Рунь“, №29, былі артыкулы пра сьв. пам. айца Міхаіла Бажар'янава (05.11.1911—20.08.1946). Вернемся яшчэ раз да гэтай сьветлай асобы.

У 1945 г. у лягеры Тэнгеру (*Tengeru*), каля мястэчка Аруша (*Arusha*) у Таньганьіцы (цяпер Танзанія), айцец Міхаіл Бажар'янаў напісаў машынапіс з 20 бачынаў, велічыні А4, на польскай мове, пад назовам *„Moja Îdpowiedź «Ludziom Małym»“* („Мой Адказ «Малым Людзям»“). У лягеры Тэнгеру былі польскія грамадзяне, якія выехалі з СССР у 1942—1943 гг., сярод іх — беларусы ды ўкраінцы. З тэксту выглядае, што а. Міхаіл меў намер выдаць брашурку аб варожым настаўленьні палякаў да праваслаўных у лягерах у Афрыцы.

Айцец Міхаіл апісвае адносіны палякаў і польскага ўраду да яго асабіста, да ягоных сваякоў, да нацыянальных меншасьцяў і да праваслаўя ў Польшчы да 1939 г., апавядае пра жыцьцё ў ссылцы ў СССР (1940—1942) і адносіны палякаў у Іране ў 1942—1943 гг. Машынапіс пачынаецца наступна:

*„Нацыянальныя й рэлігійныя суадносіны ў Польшчы пакідалі жадаць нашмат лепшага. Можна рызыкнуць сьцьвердзіць, што яны*



Айцец Міхаіл Бажар’янаў

*былі вельмі крыўдныя для меншасьцяў. Той, хто жыў на Крэсах* [Усходняя Польшча 1921—1939 гг. — ***М. Ш.***]*, той добра ведае способы й сродкі, якімі імкнуліся „за ўсялякую цану“ вынарадаўляць меншасьці, мэтаю чаго было штучнае „павялічваньне польскасьці“ свайго краю. Для меншасьцяў гэта надзвычай памятныя хвіліны страшнага пэрыяду, акрамя мілагучных назоваў, як „пацыфікацыі“ меншасьцяў і „рэвіндыкацыі“* [пазоў аб звароце страчанай уласнасьці, маёмасьці. — ***М. Ш.***] *праваслаўных цэркваў. Колькі ж то кроўных сьлёзаў пралій праваслаўны народ у Польшчы, можа сказаць толькі той, каму лёсы гэтых людзей не абыякавыя. Дык няма нічога дзіўнага, што такога кшталту ўчынак чальцоў тагачасных урадаў і асаблівая гарлівасьць некаторай часткі польскага грамадзтва, якая ня мела нічога супольнага з „пацыфікацыяй“ ці „рэвіндыкацыяй“, — зьнеахвоцілі меншасьць да ўрадаў Рэчы Паспалітай, якія змушалі яе (меншасьць) часта да самаабароны, а ня раз да супрацьдзеяньня. Верасьнёўская* [1939 г. — ***М. Ш.***] *трагедыя паказала ў сваёй яскравай паўнаце тую вялікую бездань, якая была выкапана паміж польскім грамадзствам і меншасьцю цягам 1918— 1939 гадоў...“*





І далей а. Міхаіл апісвае розныя крыўды, якія ён сам і ягоныя сваякі зазналі ад палякаў.

Бацькі а. Міхаіла мелі дамы ў Вільні й тры маёнткі ў передваеннай Польшчы. Адзін, каля Вільні, называўся Дукішкі-Пакроўскія. Там, у гародзе, была праваслаўная царква й магільнік, дзе былі пахаваныя родныя а. Міхаіла. Гэты маёнтак у 1922—1923 гг. быў незаконна адчужаны (экспрапрыяваны, распарцаляваны й прададзены за вялікую цану), але ў актах запісалі, што Бажар’янавым належыць кампэнсацыя. Кампэнсацыі яны не дасталі.

У 1923—1924 г. у адной частцы маёнтку разьмясьціліся польскія жаўнеры, якія дайшлі да таго, што *„царква была цалкам спустошаная, аўтар паломаны, іканастас і Царская брама разьбітыя, абразы сьвятых наўмысна парэзаныя альбо паламаныя“*. Гэтыя ж хуліганы-бязбожнікі спрафанавалі магілы родных а. Міхаіла, пахаваных там: ягонай маці, дзеда (генэрала царскай арміі й героя Крымскай вайны), бабкі й цёткі. Абурэньне выклікае ў чытача гэты разьдзел.

У 1923—1924 гг. польскія ўлады імкнуліся канфіскаваць іхны маёнтак Трабы-Запольцэ ў Валожынскім павеце. Але пасьля вялікага хабару чыноўніку маёнтак застаўся ў бацькі а. Міхаіла.

У 1924—1926 гг. на прапанову павятовых старастаў у Браславе й Дзісьне ўлады распачалі справу аб канфіскацыі маёнтку бацькі пад назовам Паўлінава. А рабілася гэта пад шыльдаю падзелу маёнтку між малазямельнымі людзьмі. Аднак у тым жа часе блізкія маёнткі, і то большыя, якія належалі польскім памешчыкам, не былі адчужаныя... У канцы Вярхоўны адміністрацыйны трыбунал у Варшаве не дазволіў далейшае адчужэньне.

Малады Міхаіл пасьля атрыманьня атэстату сталасьці распачаў навуку ў Віленскім унівэрсытэце імя Стэфана Баторыя. Браў актыўны ўдзел у акадэмічным жыцьці й разам зь іншымі студэнтамі закладаў рэлігійна-грамадзскі праваслаўны саюз.

У 1931 г. у Польшчы адбыўся ўсенародны перапіс насельніцтва. Да гэтай працы запрасілі й студэнта Міхаіла Бажар’янава. Урадоўцы далі інструкцыі, каб сьпісы былі дакладныя й праўдзівыя. Аднак практыка была зусім іншая. Мясцовы кіраўнік перапісу, сп. Чэрвінські, сказаў Міхаілу Бажар’янаву, каб той запісваў усіх жыхароў палякамі, хоць у акрузе Новэ Забудаваньня было шмат нацыянальных меншасьцяў. Студэнт не пагадзіўся й запісваў тую нацыянальнасьць, якую падавалі жыхары. А сп. Чэрвінські мяняў потым у аркушах ня-польскую нацыянальнасьць на... польскую.

Дзейнасьць Міхаіла Бажар'янава не падабалася польскім урадоўцам. Пачалі яны сачыць за ім і рыхтаваць правакацыю. І гэта зрабілі ў наступны спосаб. Дзьве радзіны на прозьвішчы Станьчык і Карэйва сказалі Бажар'янаву, што яны рыма-каталікі расейскай нацыянальнасьці. Гэтак і было запісана пры сьведку. Пасьля заканчэньня перапісу насельніцтва ў Віленскіх газэтах зьявіўся артыкул Чэрвіньскага, дзе ён заатакаваў Міхаіла Бажар'янава, што ў рубрыцы „нацыянальнасьць“ той упісваў беларускую, расейскую ці літоўскую замест польскай. Як прыклад, успамянуў радзіну... Станьчыкаў. Ня трэба было доўга чакаць, каб польскія віленскія газэты накінуліся на Бажар'янава, абвінавачваючы яго ў „варожай дзейнасьці“ да польскай дзяржавы. Паставілі яго пад суд. А суд быў... пародыяй на справядлівасьць. Суд не прызнаў паказаньня сьведкі, які прысутнічаў, калі вышэй памянёныя радзіны падавалі сваю нацыянальнасьць як расейскую. Засудзілі Міхаіла Бажар'янава на колькімесячны арышт.

Бацька Міхаіла Бажар'янава быў вельмі рэлігійным чалавекам і выхаваў свайго сына ў вялікай любові да рэлігіі й да Праваслаўнай царквы. У 1935 г. пасьля іспытаў Міхаіла высьвяцілі на сьвятара ў Варшаўскім мітрапалітальным саборы. Працаваў пачаткова ў Варшаўскай парафіі, а потым на місіянэрскай працы ў Карпатах і ў Львоўскім ды Кракаўскім ваяводствах.

У 1937 г. а. Міхаіл быў сьвятаром у вёсцы Сквіртнэ ў Кракаўскім ваяводстве, дзе пазнаёміўся зь мясцовым настаўнікам украінцам Мікалаем Юркоўскім, чалавекам высокай культуры й энэргічным правадыром свайго народу (русінаў). Шмат і ў добрых словах а. Міхаіл апісвае Юркоўскага й розныя падзеі ў рэлігійных ды нацыянальных справах у жыцьці ягоных вернікаў. Аднак дзейнасьць а. Міхаіла не падабалася польскім уладам, і яны зрабілі яшчэ адну правакацыю супраць яго.

Польскія ўлады пастанавілі пазбыцца настаўніка Мікалая Юркоўскага, а на ягонае месца пасадзіць... паляка. Мясцовыя людзі з гэтым не пагадзіліся й пачалі рабіць пратэсты. Палякі папрасілі а. Міхаіла, каб ён нагаварыў мясцовых людзей не пратэставаць і не рабіць дэманстрацыі з нагоды ад'езду Мікалая Юркоўскага. Айцец Міхаіл на гэта не пагадзіўся.

Пасьля гэтага пачаліся розныя прычэпкі да яго, сталыя наезды ад польскай улады: старасты, ягонага заступніка, камісараў паліцыі й аховы мяжы, чыноўнікаў з Кракава й г. д. Пагражалі яму й нават хацелі падкупіць. Аднак а. Міхаіл застаўся верным свайму сумленьню й прынцыповасьці.





У хуткім часе прыехалі да яго прыходзкага дому чыноўнікі з камісарам паліцыі й паліцыянтамі. Ваяводзкі чыноўнік ізноў настойваў, каб спынілі разьвітальную цырымонію з нагоды ад'езду Мікалая Юркоўскага. Пасьля гутаркі, што была просьбай і пагрозай, перайшлі да другога пакою, дзе на стале ляжаў пакунак, у якім былі бачныя... патроны! Камісар паліцыі паведаміў чыноўніку, што пакунак з патронамі знайшлі паміж кнігамі ў пакоі а. Міхаіла. Адразу а. Міхаіл прыняў гэтую знаходку як жарт, бо ў ягонай хаце перад гэтым ніколі не было такога пакунку ды яшчэ з патронамі.

Эпілёгам гэтага спантаннага разьвітаньня з нагоды ад'езду Мікалая Юркоўскага быў загад адаслаць а. Міхаіла Бажар'янава ў... ведамую турму ў Бярозу Картускую. Толькі дзякуючы Яго Правялебнасьці мітрапаліту Дзіянісію, галаве Праваслаўнай царквы ў Польшчы, а. Міхаіла не адправілі ў турму. Варта тут згадаць, што Бяроза Картуская ляжыць на Палесьсі. За польскіх часоў (1921—1939) там была строгая турма, куды саджалі пераважна палітычных актывістаў і дзеячаў, улучна з прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў.

Чорныя хмары завісьлі над праваслаўем у Польшчы перад вайной у 1939 г., а перадусім у 1938 г. Пры дапамозе паліцыі й часта вайсковых адзінак аховы межаў разбуралі праваслаўныя цэрквы. Ахвярамі сталі каля 130 бажніцаў. Праваслаўных сьвятароў выклікалі на розныя размовы з мэтай не дапусьціць іх да адпраўленьня службаў. Пацярпелі таксама абаронцы праваслаўя. Некаторыя праваслаўныя людзі нават „зьнікалі“ пры таемных акалічнасьцях...

Праваслаўныя япіскапы пратэставалі й пісалі лісты да польскага ўраду, каб спынілі гэтыя рэпрэсіі. Яны, япіскапы, наказалі трохдзённы пост і спэцыяльныя ўмялюшчыя набажэнствы для праваслаўных вернікаў.

У тым драматычным часе а. Міхаіл быў на Віленшчыне ў гасьцях у аднаго сьвятара, якога таксама выклікалі ва ўпраўленьне староства на „вельмі пільную“ канфэрэнцыю перад пачаткам набажэнства. Трымалі яго некалькі гадзінаў, думаючы, што вернікі паразыходзяцца па хатах. Айцец Міхаіл, зарыентаваўшыся, у чым рэч, адправіў набажэнства й сказаў спэцыяльную пропаведзь.

Хутка пасьля гэтага ў Міністэрства рэлігійных справаў і агульнай асьветы ў Варшаве прыйшоў нейкі ўрадавы ліст, у якім утрымліваліся дамаганьні пасадзіць а. Міхаіла ў Бярозу Картускую за адпраўленьне набажэнства нягледзячы на забарону.

Перад пачаткам Другой сусьветнай вайны (1939 г.) а. Міхаіл жыў у мясцовасьці Варшлак у Берасьцейскім павеце. З прыходам Саветаў у

1939 г. а. Міхаіла арыштавалі. Пасьля турмы й допытаў апынуўся ў лягеры. Ён вельмі добра ведаў літаратурную расейскую мову, таму часам працаваў у лягеры інтэлектуальна. За шчырую працу яго паважалі лягерныя зьверхнікі, а дзеля гэтага а. Міхаіл мог дапамагаць палякам. Аднак нават у лягеры а. Міхаіл меў крыўды ад некаторых былых польскіх урадоўцаў: яны даносілі на сьвятара, што ён займаецца рэлігійнымі справамі.

У сакавіку 1942 г. а. Міхаіл Бажар'янаў прыехаў у Іран. У Тэгеране хутка арганізаваў праваслаўнае жыцьцё, парафію. Распачаў выдавецкую працу. Выдаваў часопіс на польскай мове для праваслаўных вернікаў *Ziarenko Prawosławne* („Праваслаўнае зярнятка“). У кастрычніку 1942 г. у Тэгеране выдаў *Prawosławny modlitewnik* („Праваслаўны малітоўнік“).

У Тэгеране спаткаўся з крыклівым польскім патрыятызмам, шавінізмам, апатыяй да нацыянальных меншасьцяў і да праваслаўных вернікаў, *„якая пачала перараджацца ў адкрытую нянавісьць“* да іх. Распачалася кампанія прапаганды супраць а. Міхаіла. Польскія спэцслужбы й жандармэрыя сачылі за ім, распаўсюджвалі чуткі, што ён *„вораг польскага народу, што вядзе антыдзяржаўную працу“* й г. д. Нянавісьць да а. Міхаіла дайшла да такой ступені, што жандармэрыя сказала адкрыта спадару магістру Францішку Вілку (*F. Wilk*), сябру Народнай Рады ў Лёндане, што *„мусім зьліквідаваць сьвятара Бажар'янава, але мы ня можам злавіць яго“*.

Айцец Міхаіл успамінае прыкрасьці, якія мелі праваслаўныя людзі ў Тэгеране ад некаторых палякаў. Зацытуем тут некалькі:

— Зусім адкрыта можна было чуць выразы, што *„меншасьці трэба павыстрэльваць“*.

— Калі праваслаўныя людзі разыходзіліся пасьля набажэнства, то чулі такія выразы: *„...гэтую краму* [г. зн. праваслаўную капліцу] *і яе працаўнікоў* [г. зн. а. Міхаіла й вернікаў] *хутка зьліквідуем...“*

Такое стаўленьне мела падтрымку нават і ў „вярхах“.

У імя аб'ектыўнасьці трэба ўзгадаць, што сярод палякаў у Тэгеране былі людзі, якія спрыялі праваслаўю, як, напрыклад, спадар Віктар Стыбурскі — дэлегат ад польскага ўраду.

У лягеры ў Тэгеране працавала на пошце Людміла Шаўчук, праваслаўная. У яе было шмат працы, і дзеля гэтага а. Міхаіл пагадзіўся памагчы ёй у афармленьні сьпісаў лістоў, якія там прыходзілі, і часта забіраў і адвозіў лісты да галоўнай пошты. Аб гэтым ведала лягерная адміністрацыя і ўрадовец ад польскай спэцслужбы, які разьмясьціўся





насупраць памяшканьня а. Міхаіла й нават мог ключом адкрываць ягоныя (а. Міхаіла) дзьверы. Аднаго дня ўсе лісты з памяшканьня а. Міхаіла зьніклі. Хутка выявілася, што лісты „забраў“ ягоны сусед ад спэцслужбы. На наступны дзень, гэта было ў сакавіку 1943 г., а. Міхаіл выехаў да порту Ахваз у Іране з думкай, каб потым адплыць ва Ўсходнюю Афрыку.

У Ахвазе яго затрымалі польскія спэцслужбоўцы з прычыны трыманьня лістоў у сваім памяшканьні ў Тэгеране. Сьцьвярджалі, нібыта некаторыя лісты былі адкрытыя, што зь іх былі выбраныя чэкі, што ён паліў лісты й г. д. Выклікалі на допыты. Пасьля 54 дзён побыту ў Ахвазе яму вярнулі ўсе дакумэнты й сказалі, што ён можа ехаць да Афрыкі. Яго не судзілі, а затрыманьне ў Ахвазе было... бясправаем.

Сп-ню Людмілу Шаўчук таксама затрымоўвалі нібыта за розныя праступствы. Яе таксама не судзілі, і яна ўрэшце выехала да Танганьікі.

Амаль пры канцы свайго машынапісу а. Міхаіл узгадаў трохі аб сваёй жонцы. Зацытуем цалкам тое, што ён напісаў:

*„У мамэнце, калі я атрымліваў лісты з поўнымі прызнаньнямі й падзякамі за маю грамадзкую пазыцыю, у той самы момант, як іронія, маю жонку брутальна выкінулі з транспарту польскіх грамадзянаў, якіх меліся эвакуяваць з Расеі да Ірану. Дзеля гэтага яна й засталася ў Расеі. Засталася толькі дзеля таго, што была праваслаўнай і што жонкай „праваслаўнага папа“.*

*Гэтак зразумеў абвешчаныя тагачасным урадам Рэчы Паспалітай лёзунг грамадзянскай роўнасьці грамадзянаў бяз розьніцы рэлігіі той „шляхетны“ кіраўнік узгаданага транспарту, выкідаючы маю жонку зь цягніка“.*

Тут камэнтары непатрэбныя. Цікава ведаць, які быў далейшы лёс матушкі й дзе яна апынулася пасьля вайны. Можа, хтось адгукнецца?

Айцец Міхаіл абгрунтоўвае выданьне свайго машынапісу-ўспамінаў наступна. Ізноў цытуем яго:

*„Ведаю, што зьмест гэтай кніжачкі давядзе да злосьці многа людзей, але яна ёсьць шчырай праўдай. Дык калі хтось захоча вініць мяне за выданьне гэтай кніжачкі, то перадусім павінен вініць тых людзей, якія сваімі паводзінамі прычыніліся да стварэньня згаданых тут фактаў...“*

Свой машынапіс а. Міхаіл канчае наступна:

*„Няхай чытач ня думае, што варункі знаходжаньня праваслаўных людзей у польскіх лягерах у Афрыцы пазбаўленыя ад варожага падыходу з боку польскай большасьці.*

*Дзеля гэтага аб згаданых справах таксама пастараюся паінфармаваць грамадзянскую апінію на старонках іншай брашуры“.*

Нам пакуль невядома, ці а. Міхаіл Бажар'янаў пасьпеў напісаць такую брашурку, ці не. Але нам зразумела, што былі нагоды апісваць варожае стаўленьне некаторых палякаў-каталікоў да праваслаўных людзей. Мы пісалі ўжо трохі аб гэтым у газэтах „Беларус“, №450, і „Рунь“, №29.

Айцец Міхаіл мусіў мець вялікую адвагу, каб апісаць свае скаргі й нараканьні на палякаў да вайны і ў Іране ў 1942—1943 гг. ды выдаць брашуркай у 1945 г. у польскім лягеры ў Афрыцы. Бо трэба тут узгадаць, што ў 1945 г., калі а. Міхаіл пісаў гэты машынапіс, ён жыў у польскім лягеры Тэнгеру, дзе быў сьвятаром і дзе польская бальшыня была пераважна варожа настаўленая да яго асабіста й ягоных вернікаў.



*Угодкі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## НАШ ПЕРШЫ: ЯЗЭП ВАРОНКА

*Паглядзіце на цяпер ужо добра вядомае фота*
*Народнага сакратарыяту БНР — яе першага ўраду.*
*Трэці зьлева паміж двума вайскоўцамі —*
*самавіты цывільны мужчына*
*з упэўненым і крыху ганарлівым позіркам.*
*Гэта старшыня Сакратарыяту,*
*наш першы прэм'ер і міністар*
*замежных справаў Язэп Варонка.*

*Уладзімер Арлоў*

16 (4 паводле старога стылю)[1] красавіка 2011 г. споўнілася, але не адзначалася, 120 гадоў з дня нараджэньня Язэпа Варонкі; на 4 чэрвеня 2012 г. прыпадаюць 60-я ўгодкі ягонае сьмерці. Добрая нагода, каб згадаць неабы-якога дзеяча ў гісторыі Беларусі, пашукаць новыя, невядомыя матэрыялы; нагода, якой, зрэшты, тым часам ніхто не скарыстаўся.

Пошук у амэрыканскіх архівах выявіў толькі два, але важныя дакумэнты.

З дапамогаю першага ўдалося нарэшце высьветліць дакладнае месца нараджэньне Язэпа Варонкі: на картцы *„World War II Draft Registration Form“* за ягоным подпісам значыцца Кузьніца (Сакольскі павет).

Другі знойдзены дакумэнт — пасьведчаньне аб шлюбе: 2 верасьня 1932 г. Варонка ажаніўся з народжанаю ў Польшчы Маяй Пятроўскай (*Piotrowska*).

[1] Чамусьці шэраг сучасных публікацыяў падае дату 17 красавіка.



Язэп Варонка

Даваенная дзейнасьць Варонкі ў Амэрыцы даволі падрабязна — наколькі гэта дазвалялі архівы — насьвечана Вітаўтам Кіпелем у ягонай манаграфіі „Беларусы ў ЗША“. Праца дзеля арганізацыі беларусаў чалавека, пра якога Янка Чарапук казаў: *„Хто я? Я хрышчу вас толькі вадою, той, хто йдзе за мною, будзе хрысьціць вас жыцьцёвым агнём. Прышлеце грошы й выклічце яго зь Беларусі“*[2], — была цяжкая, складаная, але ўсё ж спакайнейшая, відаць, як у паваенны час, калі ў Амэрыку прыехалі паплечнікі. Прычым паплечнікі ў самым непасрэдным значэньні: людзі, зь якімі Варонка рабіў беларускую справу да сваёй эміграцыі. Такія, як Адварды Будзька ды Мікола Дзямідаў[3].

*„Чыкаго, 6 лістапада 1950 г.*

*Адварды Будзька Паважанаму Мікалаю Дзямідаву.*

*Сяньня а 12 гадз. дня я захадзіўся да Вас у готэль, алі Вас ні застаў дома. Я хацеў пагутарыць аб тым факці, які меў мейсца учора,*

[2] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 118.

[3] Пра Міколу Дзямідава гл.: Юрэвіч, Лявон. Да гісторыі беларускіх збройных сілаў // Беларус. №450. Студзень 1998. С. 4—5.





*5 лістапада, між 9 і 10 гадз. раніцай, падчас Рускай радыёпірадачы ў Чыкаго, калі Вы як дырэктар Беларускіх радыёаўдыцый ад імя — як Вы казалі — супрацоўнікаў Беларускіх радыёаўдыцый у Чыкаго віншавалі Дырэкцыю рускіх радыёпірадач у Чыкаго з нагоды 17-гадовай дзейнасьці Рускіх радыёпірадач у Чыкаго. Я, дасюляшні супрацоўнік Ваш у Беларускіх радыёаўдыцыях у Чыкаго ня быў папярэджаны Вамі аб Вашым намеру — віншаваць ад імя супрацоўнікаў Вашых. Ну і — ведама — віншавалі Вы бяз майго ведама і бяз маей салідарнасьці з Вашым намерам.*

*Дзень раней, падчас беларускай Радыёаўдыцыі, мне прыйшлося адчытаць крытыку на бальшавіцкую ўрачыстасьць — 5-6-7 лістапада з нагоды 33-й гадавіны „Октябрьской“ рэвалюцыі. А як Вам ведама, Дырэкцыя рускіх радыёпірадач у Чыкаго (у сераду і ў нядзелю) пад адной фірмай з двума дырэктарамі-супольнікамі — іншых ёсьць поглядаў на аўтарытэт „Октябрьской“ рэвалюцыі. Дырэкцыя рускіх радыёпірадач у Чыкаго ўгодліва, або пазытыўна адносіцца да патронаў і бацькоў „Октябрьской“ рэвалюцыі, а мы — крытычна і нэгатыўна. Таму лічу нітактоўным Ваш выступ з павіншаваньнем для той Дырэкцыі рускіх радыёперадач, якая к рэжыму нашых угнетателей адносіцца — моўчкі (а „молчание — знак согласия“), а, нават, час ад часу спагадліва рэклямуюць прыяцеляў нашых угнетателей, трымаючыся „дружеских отношений“ із імі.*

*А з погляду нацыянальнага беларускага сказаць можна, што рускія радыёпірадачы ў Чыкаго ні даюць для беларускіх эмігрантаў нацыянальнага беларускага усьведамленьня, ды — ёсьць горш — ад нацыянальнага беларускага усьведамленьня аддаляюць, калі беларусы-дырэктары Рускіх радыёпірадач кажуць беларускім эмігрантам праз радыё: „наше русское Чыкаго“, „наш русскій юбілей“ і іншая што, падобная да патрыятычнага сказу: „здесь русскій дух, здесь Русью пахнет!“!*

*Такшто, ні салідарызуючыся з Вашым павіншаваньнем „ад імя супрацоўнікаў Беларускіх радыёаўдыцый у Чыкаго“ для Дырэкцыі рускіх радыёпірадач у Чыкаго, змушаны чуюся: ад далейшага супрацоўніцтва з Вамі ў Беларускіх радыёаўдыцыях адмовіцца.*

*Да Вас як да грамадзкага беларускага дзіяча і асабіста да Вас астаюся з паважаньням“*[4].

[4] Ліст Адвардага Будзькі да Міколы Дзямідава пададзены з захаваньнем арыгінальнага правапісу. Гэты ліст, як і ўсе наступныя прыведзеныя дакумэнты, захоўваецца ў архіве БІНіМу.




Кніга Язэпа Варонкі „Беларускі рух“ (Коўна, 1920)

Каб цалкам зразумець усю сытуацыю, трэба ведаць, што тыя Рускія радыёперадачы былі гадунцом Язэпа Варонкі, іх заснавальніка й дырэктара.

Сапраўды, Варонка, як трапна зазначыў Вітаўт Кіпель, хадзіў сваймі сьцежкамі[5]: ён быў сябрам *Русского Народного Православного Общества*, уваходзіў у ягоную выдавецкую й школьную камісіі, стаўся рэдактарам *Русского Народного календаря на 1929 год* (Чыкага), дзе пад псэўданімам *В. Полесский* пісаў пра творчасьць Фёдара Дастаеўскага, Лява Талстога, Фёдара Салагуба[6].

[5] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША... С. 122.

[6] Падрабязьней пра выданьне гл.: Юрэвіч, Лявон. Расейскі эміграцыйны друк як крыніца па гісторыі беларускай эміграцыі // Сонца тваё не закоціцца і месяц твой не схаваецца. Зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годзьдзя з дня нараджэньня і 50-годзьдзя сьвятарства айца Аляксандра Надсана. Менск, 2009. С. 381—382.





Зразумела, гэта не магло ня выклікаць занепакоенасьці ў сяброў новае — абрамчыкавае — Рады БНР.

Захаваўся пратакол нарады беларусаў у Чыкага, напісаны рукой Міколы Абрамчыка. Ягоны тэкст важны ня толькі фармуляваньнем прэтэнзіяў актыву да Беларускай нацыянальнай рады ў Чыкага, да Рускіх перадачаў і непасрэдна да Язэпа Варонкі. У сваім дакладзе, нечым падобным болей на палітынфармацыю, Мікола Абрамчык агучвае сваё бачаньне сытуацыі беларускай эміграцыйнай справы ў сьвеце на пачатку 1950 г. ды тлумачыць прычыны расколу:

*„Пратакол нарады беларусаў у Чыкага*[7]

*Нарада адбылася 29.1.1950 у памешканьні грам. Варонкі І. пад адрысам 1112 N. Oacley Rd., Chicago.*

*Прысутнічалі: 1. Прэз. сп. Абрамчык; 2. сп. Аблажэй; 3. сп. Варонка; 4. сп. П. Дзямідаў М.; 5. сп. Змагар-Чарапук; 6. Лабач Іван.*

*На старшыню нарады быў выбраны аднагалосна сп. Чарапук-Змагар. Сакратар сп. Пл. Дзямідаў Мікола.*

*Павесткай дня прынята:*

*Інфармацыйны даклад сп. прэз. Абрамчыка М.*

1. *Арганізацыйнае жыцьцё беларусаў у З. Г. А*[8]*. і Беларуская Нацыянальная*[9] *Рада ў Чыкага.*
2. *Справа нова прыбываючых у З. Г. А беларусаў — Д. П.*
3. *Царкоўныя справы.*

*Даклад прэз. Абрамчыка М.*

*Прэз. Абрамчык прадстаўляе трагічную сытуацыю беларускага народу падчас нямецкае акупацыі: 1. нямецкая правакацыйная палітыка накіраваная на вынішчэньне беларускага народу і выкарыставаньне імі (немцамі) палякаў да свае мэты; 2. бальшавіцкая „партызанка“; 3. беларускі рух апору, які змагаўся супраць немцаў, палякаў, бальшавікоў і невялічкай групы беларускіх авантурыстых: Ермачэнкі-Акінчыца ды апошняга выступу перад эвакуацыяй немцаў зь Беларусі Р. Астроўскага, зламаньня ім ідэі беларускай дзяржаўнасьці праз прыняцьце ад акупацыйных паліцэйскіх уладаў тытула*

[7] На дакумэнце штамп: *„KANC. URADU BNR NO 57 DATA AHIZSINSIW-MIPRIDS“*.

[8] **З.Г.А.**, Задзіночаныя Гаспадарствы Амэрыкі — ЗША.

[9] У арыгінале Мікола Абрамчык у некалькіх месцах замест „Нацыянальнай“ пісаў „Народнай“.

*прэзыдэнта, якім Астроўскі намагаўся ўвесьці ў блуд беларускі народ, ды без патрэбы шкоднай праведзенай ім мабілізацыі.*

*Сп. Пал. Кушаля сп. прэз. Абрамчык прадставіў як чалавека, які ўратаваў прэстыж беларусаў тым, што ён, увайшоўшы ў кантакт з Амэрыканскім вайсковым камандаваньнем, прарваў нямецкі фронт і перайшоў з сваёй дывізіяй на бок Амэрыканцаў;*

*4. Пасьля капітуляцыі немцаў:*

*Спад. Прэз. Абрамчык прадстаўляе перадусім абраз сытуацыі ў Беларусі:*

- *a. Помста і тэрор павярнуўшыхся бальшавікоў над беларускім насельніцтвам.*
- *b. Беларуская партызанка.*

*Затым пераходзіць да сытуацыі беларускіх бежанцаў, што апынуліся ў Нямеччыне пасьля капітуляцыі немцаў.*

- *a. Прымусовая „рэпатрыяцыя“ беларусаў.*
- *b. Неразуменьне нас англа-амэрыканскмі акупацыйнымі ўладамі.*

*На гэтым мейсцы сп. Прэз. Абрамчык выказаў настроі жалю беларускіх бежанцаў да беларускай старой эміграцыі ў З. Г. А. і ў асаблівасьці да Беларускай Нацыянальнай Рады — якія ня выступілі адкрыта ў абароне і дапамозе беларускім уцекачам, як гэта рабілі іншыя эмігранты — украінцы, прыкладам, і іншыя, і што ў беларускай новай эміграцыі склалася ўражаньне, што Беларуская Нацыянальная Рада стаіць на пазыцыях БССР і супрацоўнічае з акупантамі Беларусі, дзеля чаго сярод моладзі новае эміграцыі асабліва пануе настрой неапісанага абурэньня.*

*5. Сучасны стан беларускай эміграцыі і беларускай справы наогул прэз. Абрамчык прадстаўляе непараўнаўча палепшанымі з папярэднімі гадамі.*

*У 1947 годзе дзякуючы нашым захадам спынена прымусовая „рэпатрыяцыя“. Беларускае арганізаванае жыцьцё набрала легальных формаў у Нямеччыне зах. дэм. зонах. Маюцца значныя дасягненьні дыпляматычнага парадку:*

*a. паразуменьне і заключэньне дагавору ўзаемнай прыязьні Ўраду БНР з урадамі Эстоніі, Лацьвіі, Украіны і становўча з шэрагам іншых паняволеных бальшавікамі народаў. Вядуцца перагаворы (пакуль што бяз вынікаў) зь летувісамі і палякамі. Маюцца цяжкасьці: зь першымі пытаньне Вільні, уступкі якой ад нас летувісы дамагаюцца, а мы зразумела пайсьці на такія ўступкі ня можам.*





*А з апошнімі — палякамі — справа яшчэ горшая, бо польскі эміграцыйны ўрад заяўляе, што адрачэньне ад граніцы 1939 г. немагчыма, пакуль іх забавязвае іхняя канстытуцыя. З гэтае прычыны ў Беларусаў з апошнімі двума суседамі суадносіны досыць напружаныя. На вонкі — пры акцыях, праводжаных усімі падняволенымі народамі супраць акупантаў — мы салідарызуемся, але ўнутры як з боку беларускага грамадзянства, так і польскага і летувіскага з другога боку пакуль узаемны непакой на будучыню.*

*Паўстала яшчэ ініцыятыва, каб у наступным леце арганізаваць канфэрэнцыю ўсіх падняволеных бальшавікамі народаў, на якой бы ўпарадкаваліся прынамсі ў аснаўных прынцыпах усе міжсуседзкія дачыненьні гэтых падняволеных народаў. Я маю на мэце, калі такая канфэрэнцыя адбудзецца, у якасьці прапазыку, каб у справах гранічных эміграцыйныя ўрады ўсіх падняволеных сяньня народаў зрабілі публічную дэклярацыю, што яны заабавязваюцца, „што пры гранічных спрэчках у будучыні ніякім чынам ня будзе ўжыта вайсковая сіла, а будзе прыняты прынцып этнаграфічны і воля народу“.*

*6. У народаў дзяржаўных маем здабытыя сымпатыі і спачуцьці.*

*У гэтым напрамку справа значна цяжэйшая, бо як ведама, яны афіцыяльна прызнаюць СССР. Ад нашай таму дыпляматы вымагаецца вялізнай гібкасьці такту.*

*Нягледзячы, аднак, на ўсе гэтыя цяжкасьці, нам удалося беларускую справу ў поўнай яе выпукласьці прадставіць і здабыць сымпатыі амаль ува ўсіх дзяржаўных народаў вольнае Эўропы ды некаторых дзяржаваў Амэрыкі. Усе народы перадусім вельмі добра паінфармаваныя аб нас, аб нашых імкненьнях, аб належных нам правах, аб нашых запраўдных граніцах. Нашыя мэморыялы ўсюды даходзяць і чытаюцца.*

*7. У царкоўных справах.*

*a. Маем поўнае зразуменьне нас з боку Ватыкану ў справах апекі беларускіх каталікоў. Беларуская дэлегацыя ў 1947 г. была прынята папам. Сьв. Айцец зрабіў цікавую заяву: ён сказаў: я ведаю, што беларускі народ найбольш церпіць, таму ён найдаражэйшы майму сэрцу. Я ўжыву ўсіх сілаў, каб дапамагчы беларусам.*

*Помач была запраўды хутка аказана беларускай студэнцкай моладзі, дзякуючы чаму сёньня маем каля 50 студэнтаў на Лювэнскім унівэрсытэце — а гэта ж нашы будучыя кадры, што нас заступяць.*

*b. У справе праваслаўнай царквы вялося доўгае змаганьне з расійскімі зарубежнымі япархіямі, але кончылася поўнай нашай перамогай. Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква аднаўлена.*

Маем сяньня ўжо свой япіскапскі сабор. У гэтай барацьбе за Бел. Аўт. Пр. Цар. народ наш проста запраўды здаў экзамэн нацыянальна палітычнай сьведамасьці.

Арганізацыйнае жыцьцё беларускай эміграцыі разьвіваецца памысна, нягледзячы на надзвычай цяжкія матэрыяльныя ўмовы.

Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускай Эміграцыі, цантраля якой знаходзіцца ў Парыжы, аб'ядноўвае ў сабе больш за 50 розных беларускіх арганізацыяў. Да САБЭ ўходзяць цантралі беларускіх арганізацыяў: Францыі, Бэльгіі, з краінаў Нямеччыны, Аўстрыі, Італіі, Англіі, Аўстраліі, Канады, Аргентыны. Спадзяюся, што арганізацыйнае жыцьцё ў З.Г.А. хутка пачне разьвівацца, і што яна таксама ўвальецца ў рады нашы агульна вызвольнага руху, закончыў такімі словамі свой даклад сп. Прэз. Абрамчык.

Пытаньні: Дыскусіі.

1. Спадар Лабач задаў пытаньне, чаму так сталася, што адкалолася група Астроўскага, і на чым разыходжаньні.

Адказ Пр. Абрамчыка:

Астроўскі намагаўся, каб мы прызналі Б.Ц.Р. як дзяржаўную рэпрэзэнтацыю беларускага народу. У гэтым беларускі палітычны актыў пабачыў правакацыю, бо падводзіць беларускі нацыянальны вызвольны рух пад фірму, створаную нямецка-паліцэйскімі ўладамі — азначае сьмяротную кампрамэтацыю ўсяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

А па другое, той актыў, які каля сябе сабраў Астроўскі — вельмі далёкія (можна сказаць у 90% свайго складу) ад канцэпцыі нацыянальнай незалежнасьці Беларусі ды з пункту гледзішча маральнага і палітычнага моцна скампрамэтаваныя.

У далейшай дыскусіі спадар Варонка і сп. Лабач выясьняюць, што закіды беларускай новай эміграцыі Бел. Нац. Радзе ў Чыкаго аснованы на непаразуменьні. Б. Нац. Рада заўсёды стаяла і стаіць на пазыцыях БНР. Тыя ж асобы, якія сымпатызавалі СССР — сябрамі БНР — гэта была іх прыватная справа. Пазьней таму яны і адышлі з БНР. Тое, што БНР мала выявіла актыўнасьці ў дапамозе новай эміграцыі, былі і іншыя прычыны, а перадусім праз недахоп матэрыяльных сродкаў ды брак кантактаў з новай эміграцыяй. Адносна аўдыцыяў Чыкаскага радыё пад кіраўніцтвам сп. Варонкі, дык уражаньне аб яго савецкасьці зьяўляецца таксама непаразуменьнем. Радыё гэта зьяўляецца прыватна камэрцыйным прадпрыемствам, дзеля чаго яно ёсьць даступным для рэклямаў якіх бы то ні было фірмаў і арганізацыяў, за зьмест якіх і адказваюць гаспадары тых рэклямаў, а не дырэктар радыё.





Тым ня менш сп. Варонка заявіў, што ён будзе старацца па меры магчымасьці ў сваіх праграмах звужаць гэныя прасавецкія рэклямы.

Хацеў бы даўно ўжо напоўніць праграму беларускімі песьнямі, але, на жаль, нельга дастаць нідзе беларускіх плыт.

У зьвязку з побытам прэз. Абрамчыка ў Чыкаго сп. Варонка Яз. згадзіўся бясплатна ўдзяліць у сваім радыё месца для выступу прэз. Абрамчыка — з зваротам да беларусаў старое эміграцыі ў З.Г.А. — у нядзелю 5.2. а 9-й раніцы.

А таксама сп. Варонка прыняў на сябе зарганізаваньне банкету на чэсьць прыезду прэз. Абрамчыка ў Чыкаго, дзе будуць госьцьмі мясцовыя беларусы і чужынцы.

З прычыны запозьненасьці з часам паседжаньне нарады перанесена на заўтрае — нядзелю 30.1. у памешканьне спадара Лабача, які таксама адначасна запрасіў да сябе на абед усіх прысутных.

30.1.1950.

У справе дапамогі аншурансамі для ўезду беларусаў ДП у З.Г.А. сп. Лабач і сп. Аблажэй заявілі, што яны справу гэтую мусяць паставіць на абгаварэньне агульнае сходкі сяброў Рады, якая мае незадоўга адбыцца, а гэта дзеля таго, каб людзям, якія яшчэ прыедуць, запраўды мець працу і кватэру, што цяпер ня так лёгка. Будуць яны, аднак, намагацца дапамагчы сваім новым прыбываемым суродзічам, бо поўнасьцю іх разумеюць і спачуваюць.

Сп. Лабач як сакратар БНР згадзіўся пашыраць продаж марак БНР між сваімі сябрамі і беларусамі наагул у Чыкага, каб такім чынам дапамагчы фінансава Ўраду БНР на чужыне.

У справе царкоўнай спадар Варонка Я. прадбачае магчымасьць улагодзіць Владыку Васіля (Тамашчыка) па прыезьдзе ў Чыкага ў некалькіх мілях ад Чыкага і сарганізаваць там беларускі прыход, дзеля чаго сп. Варонка абяцае пад'ехаць у той раён сам асабіста з сп. Пал. Дзямідавым для падгатоўкі прыходу.

~~Рэзалюцыя~~. Дэкляцацыя.

Беларуская Нацыянальная Рада ў Амэрыцы.

Дзеля таго, што на нарадзе беларусаў Чыкаго, якая адбылася 29—30.1.1950, выявілася, што сярод новай беларускай эміграцыі ў Эўропе склалася ўражаньне аб невыразнасьці палітычнай плятформы Беларускай Нацыянальнай Рады ў Амэрыцы, Управа Беларускай Нацыянальнай Рады ў З.Г.А. выясьняе, што:

*1. Арганізацыя Беларуская Нацыянальная Рада ў Амэрыцы заўсягды салідарызавалася і салідарызуецца з вызвольным змаганьнем беларускага народу, кіраванага Радай і Ўрадам БНР.*

*2. Беларуская Нацыянальная Рада ўважала і ўважае адзіным законным рэпрэзэнтантам беларускага народу — Раду і Ўрад БНР, на чале з прэзыдэнтамі раней П. Крэчэўскім, В. Захаркам, а цяпер М. Абрамчыкам.*

*3. Ляяльнае адношаньне да СССР падчас апошняе вайны нашае арганізацыі — трэба разглядаць не як сымпатыі нашае арганізацыі да бальшавіцкага рэжыму і супрацоўніцтва з бальшавікамі, а як павіннасьць грамадзян З.Г.А. у супрацоўніцтве з урадам З.Г.А. і прэзыдэнтам Рузьвельтам у вайне з гітлерызмам.*

*4. Беларуская Нацыянальная Рада не зьяўляецца адказнай за тых нешматлікіх сяброў, якія па інэрцыі салідарнасьці з СССР пад час вайны — пакаціліся і адкаціліся на супрацоўніцтва з СССР у сваёй салідарнасьці і спаўпрацы супраць дэмакратыі.*

*5. Беларуская Нацыянальная Рада не намерана супрацоўнічаць і з тымі беларусамі, якія гэтак жа па інэрцыі свайго супрацоўніцтва зь немцамі ня могуць нат распрашчацца з гітлераўскімі фірмамі ды стараюцца іх накінуць беларускаму дэмакратычнаму вызвольнаму руху.*

*6. Беларуская Нацыянальная Рада будзе імкнуцца ўвайсьці ў найцясьнейшы кантакт і супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі на чужыне, што стаяць на грунце БНР, прызнаюць Раду і Ўрад БНР і належаць да Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускай Эміграцыі (САБЭ).*

*Сакратар БНР І. Лабач*".

Радыёпраграма выйшла ў этэр, Абрамчык выступіў з словам. Што адбывалася пасьля таго, невядома, але праз гады ў сваім невялікім успаміне Аляксандар Асіпчык піша: „*Я пазнаёміўся з жонкай Варонкі, якая пасьля сьмерці мужа працягвала радыёперадачы недзе да 1970 году. Вельмі прыхільна ставілася да беларусаў, хоць сама была польскага паходжаньня. Давялося й мне два разы выступаць у ейных перадачах: першы раз на ўгодкі 25 Сакавіка, другі — на ўгодкі сьмерці Язэпа Варонкі. Прасіла, каб я нічога не гаварыў з палітычнай прапаганды, бо, сказала, калі аднаго разу запрасіла выступіць Міколу Абрамчыка, дык той гаварыў па-беларуску супраць акупацыі Беларусі маскоўскімі камуністамі, і „рускія“ слухачы закідалі яе пісьмамі пратэсту*“[10].





Наўрад ці выяжджаў Абрамчык з Чыкага з пачуцьцём удала завершанай справы, не супакоілі яго прынятыя й занесеныя ў пратакол рэзалюцыі. Неўзабаве ён напісаў да Янкі Чарапука:

„*23.3.1950*
*N. York*

*Даражэнькі Рыцар!*

*Надоечы я выслаў ліст Палкоўніку* [Дзямідаву. — ***Рэд.***] *і праект прамовы для радыя к 25 Сакавіку.*

*Націсьніце абавязкова з Палкоўнікам на сп. Варонку, каб Вас пусьціў да свайго радыё, бо толькі стуль (іменна з радыё „Русский голос“) будзе мець значэньне, а ня зь нейкага ўкраінскага.*

*Пішыце мне, што ў Вас новага. Як бачу па лісту Палкоўніка, сп. Варонка нешта марудзіць.*

*На выданьне праектаванай намі брашуры — пачынаю ўжо на пазыку тую траціць надзею. Гэтак жа трачу надзею і на абяцаную мне падгатоўку таго вялікага веча ў Чыкага, аб якім мы гутарылі. Але што зробіш. Трэба шчэ трохі пацярпець, пабачым, што з гэных усіх нашых гутарак выйдзе.*

*Дзейнічае толькі з разрахункам і танцам.*

*Цісну Вам моцна Вашу Рыцарскую руку.*

*Ваш М. Абрамчык*

*P. S. Будзьце ласкавы пераказаць Палкоўніку, што Пратакол паседжаньня сэктару я атрымаў і наступным да яго лісьце яму зьвярну.*

*М. А.*

*Прывітаньне сп. сп. Чарнецкім. Атрымаў ад жонкі ліст, у якім яна мне пішаць, што ўсе ім замоўленьні яна хутка вышлець.*

*P. S. Для Вас асабіста.*

*Між іншым, тэкст падпісанай Вамі і сп. Варонкам прысягі, які быў пакінуты для подпісу Лабача, мне яшчэ не пераслены, як было ўмоўлена. Калі ў Вас будзе паседжаньне Сэктару Рады, выясьніце гэта неяк далікатна ў Варонкі, запытаўшыся, можа, спачатку ў яго, ці той тэкст прысягі падпісаў Лабач, ці не, і ці ён мне высланы.*

[10] Асіпчык, Аляксандар. Язэп Варонка ў Чыкага // Беларус. №402. Чырвень—ліпень 1993. С. 7.

Калі б паўсталі з гэтага нейкія камплікацыі, не рабіце з гэтага буры, далікатна запрапануйце тагды Варонку: 1. або выслаць толькі падпісаную Вамі двума без Лабача (раз ён ня хоча) 2. або зьнішчыць тагды і тую падпісаную Вамі ўдвух (раз і Варонка вагаецца), сказаўшы яму, што Вы хочаце быць аформленым, таму прапануеце індывідуальна падпісваць і індывідуальна мне перасылаць. Перасылаць такіе рэчы мне мусіце заказным лістом.

Наагул прашу Вас мне напісаць, якое Ваша ўражаньне аб сп. Варонку, ці незавагаецца ён нанова, ці можа гэта толькі яшчэ страх „перад всесільнымі бальшавікамі".

„6.4.50[11]
N.Y.

В. Паважаны й дарагі Рыцар,

Толькі што атрымаў Ваш ліст, дзякую. Выбачце, што адказваю на Ваш ліст на такой паперы. Як раз мушу сядзець у хаце, чакаю нейкага журналіста — Шварцара з Вашынгтону, ён даведаўся аб маім тут побыце й прасіў інтэрвію, дык не магу выйсьці з хаты, і хачу выкарыстаць час, каб Вам адказаць.

Чыкага! Канешне, я захопліваўся ягонай разьлеглай прыгажосьцю! Праўда, было і так, але было і начай часамі. Часамі і сьціскалася сэрца. Але я, даражэнькі рыцар, навучыўся за свае асабліва 7 апошніх гадоў рэагаваць ня сэрцам... Можа, сказаў троху замоцна „навучыўся", лепш сказаць „хачу" рэагаваць ня сэрцам. Кастусь Каліноўскі на судзе сказаў маскалём, што „прайгралі паўстаньне таму, што яго саюзьнікі-палякі мелі сэрца не ў грудзёх, а ў галаве". У гэтых простых словах Каліноўскага крыецца глыбокі сэнс палітычнай філязофіі.

Мець сэрца „не ў галаве" запраўды рэч ня лёгкая. Палітыка, на жаль, патрабуе гэтага амаль што як асноўнай рэгулы. Трымаць моцна сэрца на сваім мейсцы, не дапускаць яго падымацца, а калькуляваць і абраховываць толькі сухім розумам — бяз помачы, без удзелу сэрца. Я вось і намагаюся, стараюся і вучуся гэтак дзеяць.

Прыглядаючыся да палітычнай сфэры — сьвету рафінаванага ў гэтым сэнсе, мы знойдзем, што яны запраўды так дзеюць, так навучыліся дзеяць, як быццам таго сэрца і зусім ня маюць. Можа, гэта і непрыгожа ўжо там выглядае, але ж ня нам зламіць гэтыя векавыя

[11] Ліст у скароце друкаваўся ў: Юрэвіч, Лявон. Сьвет эміграцыйнага эпісталярыю // ARCHE. №3. 2001. Тут ліст падаецца цалкам.





традыцыі, векавыя рэгулы. Непрыгожыя „традыцыі" ў змаганьні — войны, забіваючыя людзёў — але пакуль такі сьвет існуе, не абыйдземся і мы без такой формы змаганьня.

У мабілізацыі сяньня нашых сілаў мусім вэрбаваць ня толькі рыцараў, на 100% беззаганных нацыянальна і ахвярных людзёў. Такіх людзёў у нашым грамадзтве, як і ў кожнага народу, няшмат.

Пішыце, Чыкагу ня шэньціць на нашу інтэлігенцыю. Праўда, моцна ня шэньціць! На гэтым прыгожым-разьлеглым прасторы Мічыгану ўсе гэныя Будзькі, Новікі, Абрамчыкі дзеюць проці нас, за іх наша цела і сэрца наша не павінна турбавацца.

Тыя ж, якія хвалююць Ваша, дарагі Рыцар, сэрца, паверце, хвалявалі моцна і маё. Аб гэтым з Вамі шмат гутарылася.

Вар[онка] — безумоўна — нашая трагедыя. І магчыма, гэта трагедыя для яго самога яшчэ большая.

Я ведаю, на ягоным мейсцы Вы б зарэагавалі начы. Вы б загаварылі на ўсе дзьве гадзіны так, як я гаварыў 12 мінут. Вы б загаварылі так, як гаварыць належыць 100% адданаму ідэі нашай вызвольнай справы чалавеку.

Я ад В. гэтага не спадзяваўся, балела сэрца, але цешыўся, што будзем мець ад яго хоць нейкіх 30%, хоць 10 нейкіх працэнтаў. На сухі палітычны розум рахавалася і гэта здабыткам. Па Вашым апошнім лісьце ставіцца й гэта пад сумніў.

Відаць, на В. не зрабіў і я ўплыву, а калі й быў уплыў, дык толькі хвілёвы.

Што ж цяпер рабіць? Падняць проці яму акцыю, пачаць яго біць, наразе нявыгадна нам.

Але трэба, аднак, яго Вам, узяўшы моцна „сэрца ў жменю", старацца трымаць пры сабе, хоць на 10% ці 5% выкарыстоўваць. А галоўна тармазіць яго, каб іншыя % не выкарыстовывалі чужыя.

Калі б В. не займаў у нашай гісторыі такога мейсца, безумоўна, гульні такой, цацканьня такога зь ім мець не было б сэнсу. Або калі б гэта было ў Бацькаўшчыне, таксама загаварылі б зь ім іншай мовай. Ня выключана, што зьменяцца абставіны і тут настолькі, што начы загаворам зь ім і тут. Сэрцам нат загаворым да яго!

Іншая рэч, калі заўважыце, што В. нас ашкувае і дзеіць „там". Тагды ўжо, безумоўна, мусім прыступіць да апэрацыі, хоць як бы яна благой не была.

Палкоўнік, добры чалавек, толькі яго, безумоўна, моцна трэба трымаць за полы. У яго выяўляюцца праявы, якія бываюць у многіх старых людзей. А ён моцна старэе.

*Згодзен, што Вам патрэбна помач. Яе чакаем. На жаль, ня ўсё гэта залежыць ад нас.*

*Ці зможа да Вас прыехаць Каханоўскі — сумлеваюся. З маім ад'ездам ён будзе моцна патрэбны тут, у N. Yorku, але знойдуцца іншыя. З каталікоў быў бы для Вас добры Папуцэвіч (судзьдзя), добры быў бы і япіскап Васіль (Тамашчык). Аб гэтым яшчэ будзем гутарыць.*

*Я застаюся яшчэ тут аж да 1 жніўня. Мог выехаць і раней, але не дастаў мейсца на параплаве, усё пазаймалі турысты. Заледзьве і на жнівень дастаў, то мушу яшчэ прыплаціць 55 даляраў!*

*Гэта змушае мяне ўстрымацца тым часам з паездкай да Вашынгтону. Дарэчы, я прасіў у Вас у папярэднім лісьце адрэсу а. В. Тарасевіча ў Вашынгтоне. Прышліце мне яе.*

*Адносна прапанаваных Вамі 3-х асобаў, якім Урад БНР павінен бы быў выставіць падзяку, то гэту справу лепі адкласьці. А то з тых прычынаў, што, спадзяюся, наш урад будзе незадоўга тут, цяпер жа яны ўсе амаль рассыпаліся — на паўварожыя — па розных [неразб.] і г. д.*

*Я да Вас на той вялікі мітынг, калі б Вам удалося яго сарганізаваць, прыехаў бы з ахвотай. Пастарайцеся неяк на гэтую справу абкруціць Вар. І таго анархіста — яны ж тагды абяцалі, а таго Ар. Валодзькіна, здаецца, нат была ягоная такая* <u>*ініцыятыва*</u>*.*

*У* <u>*мае*</u> *выдаткі трэба было б урахоўваць толькі дарогу. Доўга б у Вас не затрымаўся, а зпачаваў бы ў сваіх знаёмых украінцаў.*

*Калі б для такога мітынгу Вар. не згадзіўся, а Лабач і Аблажэй згадзіліся, то, думаю, маглі б сьмела рабіць і так. Даць толькі абвестку ў польскія газэты, па радыё ў* <u>*Варонкі*</u> *і ўкраінцаў, дык публікі, думаю, будзе, а больш там нічога і ня трэба. Калі б гэта справа набрала рэальнасьцей, я тагды Вам прышлю тэму свайго дакладу, пастараюся выбраць такую, каб прыцягнула публіку. Трэба было б, пэўне, пры ўваходзе зрабіць невялікую аплату, на пакрыцьцё выдаткаў.*

*Словам, у гэтай справе за мной астаноўкі ня будзе. Думаю, аднак, што брацца за арганізацыю такога мітынгу можаце толькі тагды, калі сп. Лабач і Аблажэй згодзяцца ўзяцца за яе, бо Вам аднаму будзе не пад сілу.*

*Было б, безумоўна, шчэ лепі, каб і Вар. узяўся, прынамсі пасіўна — г. зн. каб даў Вам з пару агалашэньняў па радыё — зразумела, з адрасам.*

*Баяцца нейкіх „скандалаў“ і „нападаў“* <u>*няма ніякай падставы*</u>*. Усё гэта можна, зрэшты, забясьпечыць звычайным паведамленьнем паліцыі, зрэшты ж, і бальшавікі не такіе ўжо дурні, каб ісьці на так невыгодныя ім афэры.*





*А пакуль бывайце здаравенькі і не падайце духам, Рыцару, „яшчэ мы прыйдзем палямі ўзорнамі“*[12] *да тых вёсак... і тэй вёскі Гарадзеншчыны з касьцёлам Беларускім.*

*Ці ж Вы ня верыце ў гэта, Рыцар? Я моцна веру.*

*А на Каханоўскага ня крыўдзіцеся „за вашае ўлучэньне“. Калі б я ў Вас не пабываў у Чыкага, з Вамі не пагутарыў, дык таксама напэўне б напісаў Вам такі ліст.*

*Каханоўскаму ж адкажыце хоць у пару словах, а то ён у мяне пытае Вашых адрэсаў (Вашай і Варонкі), бо дапускаў, што яго лісты не атрымалі вы.*

*Выбачце за хаатычнасьць майго лісту.*

*Жыве БНР!*

*Ваш М. Абрамчык“.*

У лістах да старшыні ўраду БНР Аўгена Каханоўскага Абрамчык казаў наўпрост: *„У Чыкага — Вар. — трусіць і трасецца. Чарапук ходзіць героем. Акадэмію яны зладзілі пад аховай паліцыі. Паліцыя езьдзіла на аўта па вуліцы і кожныя 10 хвілін давалі пражэктарамі з аўта на вакно залі сыгналам „што ўсё ў парадку“. Здаецца, што такую параду Чарап. уладзіў пад уражаньнем панічнасьці Вар. На малебені было каля 100 бел. Чарапук і яго прыяцелі „Рыцары Калюмба“ трымалі пачотную варту ў уніформе з шпагамі“* (03.04.1950); *„Папуцэвіч усталяваўся ў Чыкага. Паслалі яго туды мы. Вар. — і рэзка — ізноў заламаўся і ўнікае ад Папуцэвіча. З усякай яго папулярызацыяй трэба ўстрымацца. Чарапук-Змагар маладзец“* (07.06.1950).

І акцыя, пра якую Абрамчык намякаў Чарапуку, адбылася:

*„Канцылярыя*
*Старшыні Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Пастанова*
*У справе сяброўства Рады БНР сп. Я. Варонкі, —*
*Пастанова 2-га паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР з дня 19.8.1950 г.*

*Заслухаўшы, што*

[12] Мікола Абрамчык цытуе радок зь вершу Ларысы Геніюш „Новы Год“: *„Мо вясною палямі ўзорнымі / ў родны, вольны наш Край завядзе“.*

1. *Спадар Я. Варонка быў сябрам Рады БНР ад пачатку ўканстытуяваньня Рады БНР (сьнежань 1917 г.) да 1921 г.,*
2. *быў Старшынёю першага Ўраду (Сакратарыяту) БНР,*
3. *Спадар Язэп Варонка адыйшоў з Рады БНР у 1921 г., стаўшыся міністрам Летувіскага Ўраду па справах Беларускае нацыянальнае меншыні і прыняўшы летувіскае подданства,*
4. *пераехаўшы ў ЗГА ср. Я. Варонка працуе яшчэ на грунце беларускага вызвольнага руху, арганізуючы беларусоў у ЗГА, але потым паступова ўліваецца ў расейскія арганізацыі і вядзе чыста расейскую культурна-палітычную працу сярод беларускай эміграцыі; дакумэнтальным доказам гэтага зьяўляецца выданы ім (як рэдактарам) „Русскій Народный календарь“ за 1919 год і распачатыя радыёперадачы з 1933 году;*
5. *у часы другой сусьветнай вайны і пасьля яе радыёчас пад дырэктарствам сп. Варонкі Язэпа вядзе прасавецкую прапаганду, якая выклікае абурэньне сярод беларускае антыбальшавіцкае эміграцыі,*
6. *з прыездам Прэз. М. Абрамчыка ў Чыкаго, дня 27 сьнежня 1949 г., сп. Варонка заявіў, што ўражаньне ў Эўропе аб ягоным быццам бы саветафільстве ёсьць фальшывае; што ён (сп. Варонка) ніколі ня быў, ня ёсьць і ня будзе бальшавіком, гэтую заяву сп. Варонка паўтарыў і на нарадзі беларусаў у Чыкаго дня 28 сьнежня 1949 г., і на банкеці — ладжаным у чэсьць прыезду ў Чыкаго сп. Прэз. М. Абрамчыка — 5.1.1950 г.;*
7. *на падставе такіх асьведчаньняў і на падставе падпісанай сп. Варонкам прысягі аб ягонай вернасьці прынцыпам БНР сп. Прэз. М. Абрамчык апрабаваў паварот сп. Варонкі ў рады сяброў Рады БНР, прыняўшы яшчэ пад увагу ягоныя ранейшыя заслугі перад беларускім вызвольным рухам 1917—1920 гадоў і прыймаючы пад увагу ягоную дэклярацыю, што радыё-час, дырэктарам якога зьяўляецца сп. Варонка, будзя ачышчаны ад уплываў саветафільскага элемэнту;*
8. *сьцьверджана, што сп. Варонка Язэп сваіх абяцанак, зробленых у заяве сп. прэз. М. Абрамчыку, і ў заявах на нарадзе беларусаў у Чыкага і на банкеце не датрымаў і што ад часу выезду сп. Прэз. М. Абрамчыка з Чыкага нічога не зьмянілася ў суадносінах сп. Варонкі з прасавецкім элемэнтам, —*

*пятая сэсія Рады БНР на другім сваім паседжаньні дня 19.8.1950 г. пастанавіла:*





1. *лічыць заяву сп. Варонкі аб павароце да рады БНР за адхіленую;*
2. *уважаць сп. Варонку Язэпа за выбыўшага ня толькі з радоў Рады БНР; гэтак жа і за адыйшоўшага ад беларускага нацыянальнага руху наагул;*
3. *прасіць прэз. М. Абрамчыка аб зацьверджаньні гэтае пастановы.*

*М. Махноўскі, Старшыня паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР.*
*М. Рагуля, сакратар.*

*Пастанову 2-га паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР з дня 19.8.1950 г. у справе сяброўства Рады БНР спадара Язэпа Варонкі, — пацьвярджаю.*

*Ныю Ёрк. Дня 22.8.1950.*
*М. Абрамчык, Старшыня Рады БНР“.*

З рэакцыі Адвардыя Будзькі на праграмы Рускага радыё лёгка ўявіць, што ягоныя погляды падзяляў шмат хто зь сябраў Рады, і ўсё ж пастанова выглядае неапраўдана жорсткаю... калі, вядома, не існавала яшчэ нейкая, значна больш важная прычына, акром русафільскай дзейнасьці Варонкі.

Зь ліста Станіслава Грынкевіча да Янкі Чарапука (07.09.1951): *„Сам мне прызнаеш, што ягоная [Варонкава] дзейнасьць за апошнія 10 гадоў ня толькі што не ліцуе з маральнасьцяй носьбіта адказнага працаўніка Ўраду БНР, але нат палітычна граматнага і маральнага грамадзяніна!“* І далей: *„Я не сумлеваюся, што Варонка ня раз шкадуе, што залез, як муха ў павуціну. Пробаваў праўрвацца за бытнасьцю сп. Абрамчыка, аднак павуціна аказалася мацнейшая, затрымаўся ў вязьніцы, а на пакаяньне громка зьбіраў подпісы пад „Стакгольмскі Заклік Міру“.*

Вось яно!

Стакгольмскі Заклік Міру, або *Стокгольмское воззвание*, — гэта зварот Сталага камітэту Сусьветнага кангрэсу прыхільнікаў міру за забарону атамнай зброі, прыняты 15—19 сакавіка 1950 г. у Стакгольме. Ініцыяваны СССР заклік і збор подпісаў падтрыманьня рахаваўся ў ЗША як падрыўная дзейнасьць, а агітатары, зборшчыкі подпісаў ставіліся на ўлік Фэдэральным бюро дасьледаваньняў.

І робіцца зразумелым страх Міколы Абрамчыка, што Раду БНР ды іншыя беларускія арганізацыі, падпарадкаваныя Радзе, ФБД магло



Да Беларусаў Сьвета!

25 сакавік — ёсьць Беларускім Нацыянальным сьвятам. Гэта значыцца, што ўсе беларусы бяз розьніцы рэлігійных ці палітычных паглядаў у гэты Вялікі Дзяржаўны Дзень — усе душою і сэрцам звернецеся з чуцьцямі да Бацькаўшчыны Беларусі.

Да часу вольных выбараў на Беларускай зямлі мы першыя прадстаўнікі Б.Н.Р. — уважаем, што Найвышэйшым Прадстаўніком Б.Н.Р. зьяўляецца М. Абрамчык — усе вайсковыя і цывільныя установы на сьвеце павінны аказаць усю яму помач.

— Быўшы Прэмьер-Міністр Б.Н.Р.
Язэп Варонка

Быўшы Міністар Надзвычайных Спраў
Янка Чарапук-Змагар

24 сакавіка 1952
Chicago.

Зварот Язэпа Варонкі й Янкі Чарапука-Змагара „Да Беларусаў сьвета“. 24.03.1952





палічыць зьвязанымі з Варонкам, а як вынік — забарона дзейнасьці ў ЗША, спыненьне фінансаваньня, праблемы з прыездам у краіну беларусаў зь лягераў Ды-Пі, магчымыя дэпартацыі.

Страх падмацоўваўся тым, што ў 1950 г. распачаўся гучны працэс супраць Юліюса й Этэль Розэнбэргаў, абвінавачаных у шпіянажы на карысьць СССР, і таксама зьвязаным зь ядраваю зброяй.

Гэтак ці інакш, але акцыя адбылася: Язэп Варонка, першы прэм'ер, быў выключаны з Рады БНР.

Зрэшты, нэкралёг у газэце „Бацькаўшчына“ наводзіць на думку, што гісторыя на гэтым ня скончылася й мела працяг:

*„Першыя гады за акіянам былі для яго вельмі цяжкія. Былы прэм'ер Беларускага ўраду, ён прабаваў наладзіць і тут беларускае жыцьцё, хапаўся тае ці іншае фізычнае працы й прыняў шмат пакутаў, асабліва маральных.*

*Як у жыцьці блізу кожнага чалавека, так і ў жыцьці Язэпа Варонкі здаралася рознае. Жывучы даўгія гады ў Чыкага, далёка ад Бацькаўшчыны й горкіх і крывавых падзеяў, што давялося ёй перажыць пад бальшавіцкім панаваньнем, ён заламаўся, а нават трапляў пад уплыў шырока разгорнутае бальшавіцкае прапаганды аб „шчасьлівым“ жыцьці ў БССР. Аднак, зразумеўшы ўсю ману гэтае прапаганды, ён урэшце ізноў непахісна стаў на баку БНР і прызнаў сяньняшнюю Раду БНР на эміграцыі за адзіна праўнага й справядлівага спадкаемцу традыцыяў змаганьня за незалежнасьць Беларусі з 1918 г. Аб гэтым прызнаньні сьведчыць зьмешчаная свайго часу на балонках прэсы кароткая дэкларацыя, падпісаная нябожчыкам Варонкам і іншым былым міністрам першага Ўраду БНР Янкам Чарапуком-Змагаром“*[13].

У газэце „Беларус“ быў зьмешчаны аналягічны нэкралёг[14] (даволі рэдкая зьява — розьніліся толькі назовы) — відаць, „спушчаны“ па партыйнай лініі, і таксама ананімны — не падпісалі ні Рада БНР, ні ўрад, ні хтосьці асабіста. Але ліставаньне Абрамчыка дазваляе бадай беспамылкова аддаць аўтарства менавіта яму.

Невялікі нэкралёг у газэце *Chicago Daily Tribune* (06.06.1952. С. 24) нібыта паўтарае ўжо нам вядомае (у тым ліку згадвае пра ролю Варонкі ў першым незалежным урадзе Беларусі), але, тым ня менш, пацьвярджае ягоную канфэсійную прыналежнасьць: адпяваньне адбывалася ў саборы Сьвятога Георгія[15] (юрысдыкцыя Праваслаўнай царквы ў Амэрыцы).

[13] Сьв. памяці Язэп Варонка // Бацькаўшчына. №29 (108). 20 ліпеня 1952. С. 2.

[14] Памёр Язэп Варонка // Беларус. №4 (10). 14 чырвеня 1952. С. 2.

Зь лістоў ***Станіслава Грынкевіча*** да ***Янкі Чарапука***:

*„Мой даражэнькі Ян礎чка. На Тваe рукі як апошняга носьбіта беларускага сувэрэнітэту схіляю галаву перад ценем сьв. п. Язэпа Варонкі. Адыйшоў ад нас узноў адзін са змагароў, якога жыцьцё было перапоўнена барацьбой за волю й незалежнасьць. Былі мамэнты, якія стаўлялі пад сумнїў, ці Ягоная асоба можа перайсьці, як крыштальная, у гісторыю. Лічу, што гэта толькі дзякуючы Табе імя Варонкі чыстае можа быць перададзенае мінуўшчыне як змагара ды патрыёты. Я дужа рады, што гэту рэгабілітацыю Ты правёў. Гэткім чынам даў прыгожы прыклад для будучыні“* (11.06.1952).

*„Я сам ня ведаю дакладна, як далёка мелі расейцы, а потым бальшавікі да яго непасрэдна, ці ўскосна, рыкашэтам праз нейкія зьвязкі з N. Yorku. З нашага пункту гледжаньня ня толькі з агульнае этыкі пашаны да кожнага памёршага, але й з нацыянальнага інтэрэсу, калі толькі ёсьць дадзеныя на гэта, трэба бараніць і рэгабілітаваць імя Варонкі для нашае незалежніцкае справы. У гэтай дылеме Ты знойдзеш найлепшы выхад“* (30.06.1952).

Пакуль нявысьветлена, на якіх могілках пахаваны Язэп Варонка і ў якім стане помнік. Аляксандар Асіпчык згадваў: *„Даркевіч завёз мяне на магілу Варонкі, ад чаго ў мяне зьявілася думка наладзіць над магілай успомненую паніхіду. Даркевіч сказаў, што нехта зьбіраўся паставіць над ёй больш помнік. Гэтак і я думаў, але што зробіш адзін без грамады. Такім чынам, помнік застаўся той самы, які ледзь-ледзь відзён між травы“*[16].

## На Немане[17]

*На реках Вавилонских*
*тамо седохом и плакахом*
*Псалом 137*

*Безмолвно, день и ночь, без ропота и стона,*
*Я слушаю и жду твоих, гонец, вестей,*
*Когда придут они из царства Вавилона,*
*С заглохших пепелищ, с унылых площадей...*
*Но ты, о, Неман мой, загадочно-угрюмый,*
*Молчишь в своих крутых зеленых берегах,*
*От слуха моего тая лихие думы*
*И вести громкие, и радости, и страх.*
*Быть может там, средь нив и пущ завороженных,*
*Где кровью братскою напоены снопы,*
*Уже проснулся он, страдалец миллионный,*
*Уже отогнуты и косы, и серпы,*
*Уже понесся клич, заговорили горны?!*
*Скажи, все это есть? Немой, заговори*
*И миру расскажи, что после ночи черной*
*Увидели и мы лучи своей зари.*

*Ковно, Литва*

## Пасхальное

*Колокола тревожат сон Чикаго,*
*На горизонте брезжит утра лик,*
*Автомобилей пестрая ватага*
*На перекрестке замерла на миг.*
*Заутреня отходит... Здесь, средь прерий, —*
*Нам, одиноким, вольности даны, —*
*Свои средь ересей и суеверий*
*Имеем мы законы и чины...*
*В такой момент о чем в висках тревожно*
*Какой-то гном, что молоточком, бьет?..*
*В такой момент не думать невозможно:*
*За океан свершает мысль полет...*
*Там Исаакий факелами ярко*
*Горит над площадью; шумит народ;*
*Там кивера и шляпы из поярка*
*С косынками заводят хоровод...*
*Христосуются.. Все же как-то странно*
*Я помню — было так! Но сколько лет...*
*Пойдемте все на берег Мичигана,*
*Посмотрим на восток: встает ли свет?*

*Чикаго, Иллиной*

15 *917 North Wood Street, Chicago, Il.*
16 Асіпчык, Аляксандар. Язэп Варонка ў Чыкага...
17 Вершы Язэпа Варонкі выдрукаваныя ў „Русском народном календаре на 1929 год“ пад псэўданімам *Юрий Вегов*.

### Мичиган

*Вы когда-либо видали на рассвете Мичиган?*
*Там, на севере, у парка, где — зеленая площадка,*
*Где проснувшаяся чайка выпрямляет гибкий стан*
*И с дружком на парапете поцелуется украдкой...*
*Вы когда-либо видали на рассвете Мичиган?*
*Долго нежится в тумане на рассвете — Мичиган:*
*Будто спины змей, лоснятся воды озера немого;*
*Солнце, красный глаз гиганта, из далеких смотрит стран,*
*А внизу — стада барашек, стаи чаек, много, много...*
*Вы припомните, видали на рассвете Мичиган?*
*На рассвете сердцу близок сизоводый Мичиган..*
*Сердце выпрыгнуть стремится в это маленькое море, —*
*Так и бьется, разорвется грудь — пылающий вулкан, —*
*Взор свою родную ищет в каждом слове, каждом взоре...*
*Вы когда-либо видали на рассвете Мичиган?*

*Чикаго, Иллиной*



*Публікацыі*

**Макс Шчур**
*Прага*

# ВІКТАР ВАЛЬТАР, АЛЬБО САМАЗАБОЙЧЫ ТЭРАКТ ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯНЬНЯ

*„Усё, што я пішу, начыненае дынамітам,*
*які аднойчы выкіне ў паветра*
*ўсе муры, пабудаваныя вакол мяне.*
*Калі мне гэта ня ўдасца — значыць,*
*дынаміту было замала“.*

*Гэнры Мілер*

### 1. Пра „шчасьлівых і карысных“

Зьяўленьне „Выбраных твораў“ Віктара Вальтара ў „Беларускім кнігазборы“, здаецца, успрынялі ў Беларусі як тыповае „вяртаньне забытай спадчыны“, на якую глядзяць, быццам на якуюсьці гуманітарную дапамогу зь мінуўшчыны: вярнулі — і дзякуй на добрым слове, „гістарычная справядлівасьць“ адноўленая, нашчадкам перадалі нейкі там пыльны артэфакт, на які гэтыя нашчадкі маюць поўнае й выключнае права, у тым ліку й права адразу ж пра яго забыцца ці папросту не заўважыць. Гэтаксама як у выпадку Міхася Явара, паэта-самагубцы з Мастоў і сучасьніка Вальтара, увага зьвяртаецца не на літаратурныя, а на біяграфічныя моманты й гістарычныя каардынаты „адкрыцьця“, разглядаецца не самакаштоўнасьць твору ці аўтара, а іх „карысная вартасьць“ для „сучаснага беларускага жыцьця“. Вось як „апраўдвае“ публікацыю Вальтара ў „Дзеяслове“ ня хто-небудзь, а „сам“ старшыня Саюзу пісьменьнікаў („сапраўднага“) Алесь Пашкевіч, аўтар гістарычнага раману пра Вальтараву эпоху „Пляц Волі“: маўляў, раман Вальтара — гэта *„ня толькі біяграфія беларускага эміграцыйнага побыту, але й біяграфія душэўнага станаўленьня герояў (зь іхняй няпэўнасьцю, мяккасьцю, непасьлядоўнасьцю — і рамантычнай прагай шукальніцтва*

*свайго месца, сваёй дарогі). А галоўная думка „Роджаных пад Сатурнам“ стала новай для беларускай літаратуры: карысным грамадзтву можа быць толькі шчасьлівы чалавек...“*[1]

Невядома, што такое „шукальніцтва“ (нейкае шуканьне дзеля шуканьня?), пагатоў яго „рамантычная прага“, але дзіўна, што Пашкевіч называе раман „ня толькі біяграфіяй эміграцыйнага побыту“, але яшчэ й выстаўляе яго гэткім Більдунгсраманам — можна было б сказаць пра раман і першае, і другое (у адваротнай пасьлядоўнасьці), калі б ён толькі зьмяшчаўся ў гэткія вузкія межы. Што да „галоўнай думкі раману“, то яна ня толькі не галоўная — яе там зусім няма, а навізна раману (запозьненая, на жаль, і таму адносная) палягае ў нечым зусім іншым.

Прыкра, што на падставе болей як сьціплых біяграфічных зьвестак ад раманіста застаецца *„рамантык з наддзьвінскіх берагоў“* (аўтарка прадмовы Лідзія Савік), а ад раману — так сабе аўтабіяграфічны більдунгсраманчык. „Байранаўская“ сьмерць героя ў канцы раману дае інтэрпрэтатарам як быццам нейкі „казырны аргумэнт“ — дарма што сама такая інтэрпрэтацыя супярэчыць рэшце тэксту... „Купляецца“ на гэтую вэрсію й Павал Касьцюкевіч, які праводзіць паралель між героем аўтара й юным Вэртэрам: апрача факту „юнасьці“, сугучнасьці імёнаў ды таго факту, што *„за труной (Вальтара, аднак, а не ягонага героя) не ішоў ксёндз“*, агульнага між Вальтарам і Вэртэрам ня гэтак і шмат, калі казаць, прынамсі, пра „Роджаныя пад Сатурнам“. Паралель была б больш апраўданай у выпадку героя навэлы „Аднабочнікі“, але й тая паводле сваёй сутнасьці ёсьць далёка не рамантычнай. А так атрымліваецца — усё „рамантыка“, „хваробы росту“ (улучна зь фізычнымі), апрача, вядома, „біяграфіі эмігранцкага побыту“, быццам у аўтара няма іншага клопату, як быць летапісцам навакольнага замежнага жыцьця: *„А дзе найлепш рэфлексуецца, як не ў Залатой, масарыкавай, непатоплечанай таталітарызмам Празе, на тле стракатага маскараду эмігранцкага жыцьця?“*[2]

Па прачытаньні раману зробіцца відавочным, што „Залатой масарыкаўскай Прагі“ там, можа, і ёсьць які кволы водбліск, але духу — няма, а „стракаты маскарад“ хавае пад сабою сапраўдную жыцьцёвую драму — прычым не аднаго „аўтабіяграфічнага“ героя, а некалькіх...

[1] Дзеяслоў. №3 (16). Травень—чэрвень 2005. С. 108.

[2] Касьцюкевіч, Павал. Адроджаныя пад Сатурнам. http://nn.by/?c=arprint&i=29210.





Маўляў, аўтар *„не пасьпеў выдаць раман кнігай“*, піша там жа Касьцюкевіч — а ёсьць нейкія доказы гэтага аўтарава намеру? Няўжо факт спробы выданьня кнігі Езавітавым у 1932 г., пасьля сьмерці Вальтара, можа быць такім доказам? Ці гэта так ужо бясспрэчна, што аўтар хацеў быць толькі „сьведкам“ пэўнай грамадзкай зьявы (эміграцыі) у пэўны гістарычны пэрыяд, і яму гэтак карцела як мага хутчэй выліць сваё вядро вады (ці, хутчэй, чаго іншага, калі меркаваць паводле самога раману) на нацыянальны млын?

Зрэшты, такія спробы „нацыяналізацыі“ й экспрапрыяцыі Вальтара падаліся мне невыпадковымі й заканамернымі: яго папросту ўпіхнулі ў загадзя падрыхтаваную нішу, перапахавалі, як таго Эдгара По, яшчэ раз, „па-людзку“, паводле ўсіх ідэалягічных правілаў канвэнцыйнай прыстойнасьці, пад цьвёрдай вокладкай — дый па ўсім. Але гэтым перазахаваньнем пад „рамантычным“ надмагільлем немагчыма, спадзяюся, схаваць глыбіннай анты-прыстойнасьці, магчыма нават анты-„людзкасьці“, а праз гэта й „нязручнасьці“ нябожчыка.

Перадусім здаецца, што ў асобе Вальтара, гэтаксама як і на старонках ягонага (бадай, першага закончанага ў гісторыі беларускай літаратуры) раману, маладая, кволая яшчэ (нова)беларуская культура ўпершыню сутыкаецца твар у твар з усясьветнай культурай ува ўсёй ейнай шырыні й праблематычнасьці — і ўпершыню выходзіць з гэтага сутыкненьня пасьпяхова, у якасьці прызнанай „дарослай“ суразмоўцы, якой ёсьць што сказаць „у тэму“. Прызнаюся, што й Багушэвіч, і Гарун, і Ластоўскі, і Гарэцкі, і нават Абдзіраловіч (бадай, усе, за выключэньнем Багдановіча) пасьля прачытаньня раману раптоўна ператварыліся ў папярэднікаў Вальтара, якія „ўсяго толькі“ рыхтавалі ягоны прыход (і якім ён неаднаразова за гэта дзякуе пасярэдніцтвам цытатаў) — у, так бы мовіць, жаўнераў ягонага нябачнага войска, якое ён выводзіць „на шырокі прастор“, на гэткія „палявыя вучэньні“ насустрач уяўным супернікам — Ніцшэ, Дастаеўскаму, Гётэ, Талстому, Шэкспіру — рыхтуючы „спалучэньне сілаў“ у якімсьці „крыжовым паходзе“ за гонар і годнасьць чалавека... Наагул, гэтак не прасякнуты „літаратуршчынай“ ніводны вядомы нам айчынны дакараткевіцкі твор — натуральна, раман пра жыцьцё інтэлектуала быў бы непраўдзівым, калі б герой рабіў выгляд, што дайшоў да ўсіх сваіх ідэяў сам. А ідэі Вальтара — гэта, як ні круці, самае каштоўнае, што ёсьць у рамане. Пры гэтым усе літаратурныя ўплывы ўпісваюцца ў твор надзвычай арганічна, нідзе няма якогасьці „самамэтнага“ цытаваньня (часта яно ёсьць прыхаваным), каб павыстаўляцца сваёй эрудыцыяй, няма „снабізму“ — і ў гэтым таксама

выяўляецца высокая культура аўтара (відавочна, што такім узроўнем абазнанасьці ва ўсясьветнай клясыцы „вясковы настаўнік“абавязаны ня проста некалькім гадам аўтаравага навучаньня ў расейскай і беларускай гімназіях, а перадусім ягонай праўдзівай зацікаўленасьці літаратурай). Адзін з прыкладаў інтэртэкстуальнасьці — паралелізм лёсаў Тугоўскага й Загорскага, яўна запазычаны з аповесьці Гарэцкага „Дзьве душы“, якую аўтар цытуе як імпліцытна, так экспліцытна[3]. Высокае валоданьне прозай як рамяством выяўляецца ў Вальтара і ў некаторых момантах кампазыцыі: напрыклад, „Споведзь самагубцы“ гучыць у рамане двойчы, у момант стварэньня, і ў самым канцы — рэфрэнам, як быццам анулююючы ілюзорны час жыцьця героя й тыя падзеі, што адбыліся паміж двума гэтымі пэрфарматывамі.

Зрэшты, з гледзішча літаратурнага майстэрства ня меншай увагі вартыя нашмат больш дапрацаваныя ў гэтым пляне „Аднабочнікі“. Што да „Роджаных пад Сатурнам“, то іхная галоўная вартасьць палягае па-за сфэрай „чыстай“ літаратуры, чыста „эстэцкага“ стаўленьня да пісьма, хоць некаторыя апісаньні выдаюць у аўтару цалкам сфармаванага „мастака“ й тонкага псыхоляга: *„Яго старэчы, досыць поўны твар зусім не выяўляў тае хваробы, якая чулася ў енках голасу: здавалася, ён енчыць наўмысьля, у той час як твар яго сьвяціўся сваёй заўсёднай хітрасьцю“*[4]. *„Вобраз быў цікавы. Самае вабнае ў ім вочы. Яны сьмяяліся раней, чым яна хацела сьмяяцца“*[5]. Але падобныя апісаньні ў Вальтара — не самамэта. Можна сказаць, што ягоная вера ў мастацтва (у тым ліку і ўласнае) — меншая, чым ягонае зацікаўленьне філязофіяй, то бок пошукамі сэнсу жыцьця ад першай — унівэрсальнай — асобы.

### 2. „...і касілі, як жывёлу“

Хульё Картасар у свой час раіў ствараць не інтэлектуальныя, а інтэлігентныя раманы. Яму самому з аднолькавым посьпехам даваліся абодва „жанры“, ці хутчэй нейкі кампраміс паміж імі, але ён, відавочна, лічыў, што падрабіць другі цяжэй, як першы — магчыма, гэта й так, хаця практычная адсутнасьць першага тыпу раману ў беларускай літаратуры сьведчыць хутчэй пра адваротнае. Пра тое, што Вальтараў раман перадусім філязафічны, можна меркаваць ня толькі паводле яго

[3] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам // Вальтар, Віктар. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 255.

[4] Тамсама. С. 89.

[5] Тамсама. С. 103.





больш як стрыманай рэцэпцыі ў беларускіх інтэлектуальных колах, але й таксама (прынамсі) паводле таго, што ўсе ў ім разважаюць да бясконцасьці. Зрэшты, ад часоў Рабле й Сэрвантэса інтэлектуальны раман — гэта перадусім дыялёг пра сьвет, які вядуць між сабою яго галоўныя героі: Пантагруэль і Панург, Кіхот і Санча, Кандыд і Панглёс, містэр Шэндзі й дзядзька Тобі... Сама наяўнасьць двух галоўных герояў, Тугоўскага й Бурачэўскага, дае Вальтару магчымасьць разгортваць доўгія дыялёгі ў духу Дастаеўскага. То бок галоўнае ў рамане ня столькі й ня толькі тое, што ў ім, уласна, адбываецца, а тое, пра што ў ім размаўляюць. Аднак замест таго, каб проста пераказваць доўгія размовы галоўных герояў, я паспрабую іх упарадкаваць паводле ўяўнага тэматычнага „дрэва сэфіротаў“, сукупнасьць якіх у выніку магла б нам даць цэласную карціну тэарэтычнага мысленьня аднаго з галоўных (ці найгалаўнейшага з) герояў — Тугоўскага. Пра ягоную асаблівую блізкасьць да аўтара (якая зусім ня ёсьць такой відавочнай, калі задумацца) сьведчыць перадусім тое, што менавіта ягоныя інтраспэктыўныя разважаньні займаюць у рамане найбольш месца: Тугоўскі ня толькі „прадуманы“, але й „прачуты“ лепш за астатніх пэрсанажаў (што, на шчасьце, зусім ня сьведчыць пра „плыткасьць“ ці меншую ідэйную „прапрацаванасьць“ іншых).

Што да „аўтабіяграфічнасьці“ Тугоўскага як пэрсанажа, то, як казаў Борхэс, усялякая літаратура ёсьць аўтабіяграфічнай. Падабенства між Вальтарам і ягоным героем здаецца мне важным у адным, але, магчыма, галоўным моманце: апісаньні жыцьцёвага досьведу Тугоўскага насамрэч супадаюць зь зьвесткамі пра дзяцінства й маладосьць самога аўтара — то бок уласны досьвед апошняга (ня толькі жыцьцёвы, трэба сказаць, але й літаратурны, чытацкі) набывае значэньне дзякуючы таму, што менавіта на ім грунтуецца сьветапогляд пэрсанажа. *„Ён пачынаў разумець, што гэтая нянавісьць да сучаснага ладу жыцьця, да задаволеных людзей радзілася ў яго нават не цяпер, а ў дзяцінстве, у цёмным падвале каменнага дому, з матчынай песьняй над яго калыскай“*[6].

Нягледзячы на ўтоенае тут абяцаньне „фрайдысцкага падыходу“, Вальтар сыходзіць ня столькі з падзеяў дзяцінства, якія ягоны герой хутчэй дадумвае й рэканструюе ў духу ўжо згаданага Гарэцкага, а з падзеяў уласнага юнацтва — то бок эпохі зараджэньня „дарослай“ сьвядомасьці, а не з „пад“сьвядомасьці. Гэтак ён апісвае Харкаў часоў грамадзянскай вайны, дзе сам быў у эвакуацыі: *„Вось яны, прыгожыя дамы! Яшчэ на іх вачох валяліся прыкрытыя рагожай, акрываўленыя*

[6] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 109.

*трупы матросаў і жаўнераў, а яны хацелі новых ахвяр, новай крыві. Па вуліцах гналі на расстрэл кучкі людзей (хто ведае, вінаватых ці не), нёслых галаву за ідэю ці, можа быць, проста за якую-небудзь помсту якога-небудзь узлаванага абываццеля. Іх вялі сьветлым, радасным, сонечным днём, калі ўсё казала аб жыцьці, калі ў мясцовых садах гуляў разубраны натоўп і чырыкалі весела птушкі, вялі на круты бераг... і там кулямётам касілі, як жывёлу*“[7].

З пэўнай доляй перабольшаньня можна сказаць, што ў гэтым кароткім апісаньні ўтрыманыя *in nuce* як Тугоўскі, так і сам раман зь яго ідэалёгіяй. Перад намі вобраз несправядлівасьці — сацыяльнай, палітычнай ці, можа, адпачатнай, так бы мовіць, мэтафізычнай? Сам аўтар выказваецца на карысьць трэцяй вэрсіі — нас будзе цікавіць перадусім, якім чынам ён дайшоў да гэтага адказу.

Зробім тут крок убок і прыгледзімся да практычных дзеяньняў героя ў апісанай гістарычнай сытуацыі: ці займае ён тады, у момант свайго фармаваньня, нейкую пэўную пазыцыю, ці выказвае нейкія сымпатыі да аднаго з бакоў?

*„Што было рабіць? Трэба было жыць... Трэба было прытарнавацца да новых абставінаў! І Тугоўскі, згубіўшы веру ў чалавека, з сумам у грудзёх пачаў жыць, пачаў вучыцца. Ён быў ужо ў апошняй клясе рэальнай школы, і яму заставалася толькі некалькі месяцаў да яе сканчэньня. Вучыцелі ўжо абяцалі атэстаты з царскім арлом. Як раптам... Дзянікіна пагналі з-пад самага Арла. Не пасьпелі нават апамятацца, як фронт апынуўся пад Харкавам, і генэрал Куцепаў абвясьціў мабілізацыю ў першую чаргу вучняў апошніх клясаў гімназіі, рэальнай школы.*

*Загорскі паступіў дабравольцам на бронецягнік. Тугоўскі разам зь некалькімі жыдкамі-вучнямі рашыў дэзэрціраваць*“[8].

*„І з сумам думаў Тугоўскі, як ён жыў пры бальшавіках, як кожны ранак ён нёс сваёй матцы бялізну ў чырвонаармейскую пральню. З сумам думаў ён, як заходзіў у склеп, поўны духаты, смуроду і пары, цёмны і шумны, дзе ў куце выцягвала бялізну з машыны, надрываючы свае апошнія сілы, матка*“[9].

*„Тугоўскі сумны ішоў па вуліцах, а ў гэты час міма яго праносіліся аўтамабілі, у якіх сядзелі „спэцы“, адукаваныя людзі „добрых старых*

[7] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 115.

[8] Тамсама. С. 115.

[9] Тамсама. С. 116.





*часоў“. Хто чымсьці быў раней, той і зараз займаў добрае палажэньне. Не заставалася нічога рабіць. Тугоўскі паступіў у адчынены бальшавікамі Тэхналягічны інстытут, дзе выдавалі студэнтам пэнсіі і паёк*“[10].

Як бачым, Вальтараў герой яшчэ ў 1918 г. (то бок да выданьня „Адвечным шляхам“ Абдзіраловіча, дзе такое стаўленьне абгрунтоўваецца „тэарэтычна“, „цывілізацыйна“), падлеткам, інстынктыўна ўспрымае як „белую“, гэтак і „чырвоную“ ўлады як раўназначныя, пазірае на іх як бы „збоку“, імкнецца да іх усяго толькі „прытарнавацца“ — а вось на што ён ня можа глядзець абыякава й незацікаўлена, дык гэта на тую самую несправядлівасьць, якая чыніцца людзям пры абедзьвюх уладах. Гэтай несправядлівасьці ён ужо тады шукае й знаходзіць не палітычнае, а менавіта філязофскае тлумачэньне: *„Усё старое, як сам сьвет. І ён спомніў дзесьці вычытаныя словы нейкага філёзафа: „Рабства на сьвеце не зьнікае. Мяняюцца толькі яго формы“. Сапраўды, ці не аднолькавае рабства, калі яго матка раней мыла бялізну пані Загорскай, а зараз мые бялізну чырвонаармейцаў... Зьмянілася толькі форма, нават стала горшай, але істота рабства, эканамічнага рабства — тая самая*“[11]. Зьвярну ўвагу на адно з шматлікіх адрозьненьняў між Вальтарам і Абдзіраловічам: у апошняга старыя формы душаць дух, творчую сутнасьць; у першага — як старыя, гэтак і новыя формы маюць адную й тую ж сутнасьць, і сутнасьць гэтая — хоць і „адвечная“, але зусім ня творчая... *„Фарматворчасьць дзеля самой фарматворчасьці“* ў кожным разе ня ёсьць Вальтаравым ідэалам. „Хто быў нічым, то і стаўся нічым“, іранічна перафразоўвае Вальтар словы „Інтэрнацыяналу“, скідаючы з п’едэсталу саму ідэю рэвалюцыі: *„Рэвалюцыя ўвайшла ў свае берагі... Рэвалюцыя, як мора, ускалыхнуўшае ўсё, што было на дне, зноў апусьціла на дно тое, што там было. Хто быў нічым, той і застаўся нічым*“[12]. *„Можа быць, тыя людзі, якія памерлі дзеля рэвалюцыі, былі таксама лішнімі?..*“[13]

Іншымі словамі, рэвалюцыя з гледзішча Вальтара *„ня вартая сьлязы дзіцяці“* (параўнайма рэвалюцыйны ці нацыянальны патас твораў Вальтаравых сучасьнікаў, прыгадваючы чамусьці „Босыя на вогнішчы“) — а сьлёз дзяцей і дарослых у часе гэтай самай рэвалюцыі яму,

[10] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 117.

[11] Тамсама. С. 117.

[12] Тамсама. С. 116.

[13] Тамсама. С. 249.

відаць па ўсім, давялося пабачыць шмат. Адсюль, на маю думку, і „растуць ногі“ ягоных далейшых перакананьняў — ня толькі й ня столькі палітычных, колькі менавіта філязафічных, якія мы й зьбіраемся ў далейшым разгледзець, запыніўшыся папярэдне на абавязковым „псыхалягічным партрэце“ галоўнага героя.

### 3. У пошуках „чаго-небудзь людзкага“

Вось як Вальтар падае датычны ваенных часоў успамін аднаго з сваіх суседзяў па інтэрнаце, украінца, разам з рэакцыяй Тугоўскага на ягоны аповед:

*„Начальнік, кончыўшы допыт, усьміхнуўся і сказаў: „Ну, хлопцы, думаю, што на допыце вы пакажаце сябе інтэлігентнымі ў адносінах да гэтых трох дам. Іх трое — і вас трое. Выбірайце сабе любую...“ Далей пайшло ўсё добра, яна мне на памяць дала залаты гадзіньнік, яна сьпявала ў маіх абоймах, як птушка ў абоймах кошкі, рамансы аб каханьні. Гэта была, напэўна, яе лебядзіная песьня, бо назаўтра зраньня...*

*Ён замаўчаў і пачаў падкладваць вугольле. Вугаль успыхнуў, і ў чырвонай печцы загуло.*

*— Што назаўтра зраньня? — запытала некалькі чалавек.*

*— Назаўтра мы адступілі ад гэтага мейсца.*

*— А яна? — запытаў Серада з кута. Кінуўшы гуляць, ён прыслухваўся да размовы. — Ты яе забіў?*

*— Яе? — неахвотна перапытаў апавядальнік, выбіваючы люльку. — Не... Я на разьвітаньне толькі перацягнуў яе пару раз. Але яе, здаецца, потым расстралялі.*

*Усе замаўчалі. Тугоўскі глядзеў на сядзеўшых у пакоі людзей і вушам сваім ня верыў. Куды ён трапіў? Гэта вертэп нейкі, а не студэнцкі інтэрнат“*[14].

У гэтым моманце — па-мойму, адным з наймацнейшых у рамане — няма ніякай сэнтымэнтальнасьці, адно строгая фіксацыя пачутага. І тым ня менш, у думках Тугоўскі дадае: *„Хоць і ў іх трэба знаходзіць што-небудзь людзкага“*[15]. А што „людзкага“ мы знойдзем у ім самім?

Галоўнай псыхалягічнай уласьцівасьцю героя зьяўляецца, з аднаго боку, чульлівасьць, здольнасьць спачуваць „прыніжаным і абражаным“, а з другога — ненавідзець тых, каму „ўсё ўдаецца“. Гэта — два бакі

[14] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 157.
[15] Тамсама. С. 158.





адной і той жа „манэты“, як адваротным бокам божай любові ёсьць божы гнеў. *„Цяпер ужо ён ня мог без агіды глядзець на людзей у лякірках, у фраках, сытых і чырвоных. Ён гатоў быў выхапіць нож і нанесьці ім рану, як разбойнік зь вялікай дарогі. Часамі ён думаў: чаму? Адкуль у яго такая нянавісьць да людзей, задаволеных жыцьцём. Няўжо ён гатовы зрабіць казарму для ўсіх і забараніць усім сьмяяцца, няўжо ж ён павінен адняць ад іх вопратку, калі на ім вісяць лахманы? Хто вінны гэтаму? Сацыяльныя варункі? Несправядлівая капіталістычная сыстэма? Бог, стварыўшы гэтую сыстэму, ці ён сам, ня маючы сілы палепшыць жыцьцё, як іншыя?“*[16]

Перадусім у здольнасьці да эмпатыі, суперажываньня зь іншымі, „ужываньня ў іхную скуру“ — сапраўдная геніяльнасьць Вальтара як пісьменьніка (менавіта гэтая здольнасьць, а не якаясьці „інтэлектуальная падрыхтоўка„ ці „эрудыцыя“, ёсьць *conditio sine qua non* праўдзівага мастака-псыхоляга). Ён ня толькі ўкладае іншым свае развагі, але й наадварот, пераймае іхныя, уваходзіць, так бы мовіць, у іхнае становішча. У ягоным героі, Тугоўскім, гэтая здольнасьць асабліва вострага сьветаўспрыманьня даведзеная да крайнасьці, нездарма айцец Кірыла гаворыць пра яго як пра паэта: *„Ты паэт, Тугоўскі, — нарэшце вымавіў ён. — Гэтым усё сказана. І ў гэтым тваё няшчасьце. Паэт не такі, які творыць сабе славу і славу свайму народу вершам, але паэт па натуры, па свайму ўспрыманьню сьвету, па свайму падыходу да жыцьця. Ты безумоўна загінеш...“*[17]

А вось якім мы бачым Тугоўскага вачыма галоўнай гераіні раману, Вярхоўскай: *„У ім было нешта, магчыма, вышэйшае за іншых студэнтаў. Ён адзін з тых нямногіх, якія з самага пачатку гутарылі зь ёй не аб стыпэндыі, не аб сваёй кар'еры, але аб літаратуры і грамадзянскіх справах. Мяркуючы па лісьце, можна было падумаць, што ў ім яшчэ было нешта жывое, прыгожае, можа быць, нават паэтычнае... Зь ім чулася нейкая няпэўнасьць, у грамадзянстве зь ім было непрыемна сядзець у якім-небудзь рэстаране ці на якім-небудзь канцэрце. Наогул, праз некалькі дзён ён, напэўна, стаў бы нецікавым і шэрым, як пажоўклая старая кніга. Зусім іншая справа з Загорскім“*[18].

Як характарызуе Тугоўскі сам сябе, у сваіх прамовах і нутраных маналёгах? Акрамя таго, што ён саромеецца сябе самога й займаецца

[16] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 109.
[17] Тамсама. С. 195.
[18] Тамсама. С. 187—188.

звышкрытычным флягелянцтвам, ён, перадусім, не хавае сваіх „адмоўных“ (з гледзішча грамадзтва) рысаў.

*„Не, брат, я належу да тых людзей, якія здольныя на безразважнасьць. Слабыя людзі моцныя сваім адчаем. І сёньня, калі я ў адчаі, я моцны.*

*— Кінь ты, Гамлет няшчасны! Зноў пачынаеш плясьці дурніцы. Выпі піва лепш, супакойся“*[19].

З гледзішча бальшыні, „паэт“ Тугоўскі — неўраўнаважаны тып, чалавек крайнасьцяў і зьменлівых настрояў, няздольны авалодаць сваімі пачуцьцямі: *„І хоць над галавой вісеў востры меч камітэту на выдачу стыпэндыі, хоць трэба было здаць пэўную колькасьць экзамэнаў, — ён ня мог працаваць. Ён блукаў, як непрытомны, па шумных залях Студэнцкага дому — толькі каб пабачыць яе, пачуць гук яе голасу, яе звонкі сьмех і дыхнуць парфумы, што ап’яняла думкі, як віно“*[20]. Заўжды, калі справа тычыцца пачуцьцяў, ён выяўляе тыповую для маладога чалавека апантанасьць, што мяжуе з фанатызмам: *„Ну што ж, няхай сьмяюцца зь яго сябры! Урэшце, кожны жыве, як умее. Каму якая справа да яго жыцьця? Ён кахаў і кахае, у гэтым ёсьць для яго ўнутранае апраўданьне“*[21]. Як усе „рамантыкі“ (прашу тут ня блытаць героя з аўтарам!), ён ставіць сваё каханьне на п’едэстал, на покуць, а сябе — у поўную залежнасьць ад яго посьпеху: *„Калі б магло стацца, што Вярхоўская ішла б зь ім за руку як жонка, ён мог бы сказаць, што не дарма прыехаў у Прагу!“*[22] Дзеля каханьня ён не шкадуе ні высокіх словаў, ні шырокіх жэстаў: *„І так, усё скончана. Ён пакіне Вярхоўскую, пакіне Прагу, усё пакіне, толькі зараз адмовіцца ад стыпэндыі. Раз ён пакідае ўсё, было б нячэсна яшчэ лічыцца стыпэндыятам. Ён крыху падумаў і напісаў другую паперу ў Чэска-Ўкраінскі камітэт: „Прашу мяне выключыць з дапамогі па майму ўласнаму жаданьню“. На адну хвіліну яму самому стала жудасна. Што ён зрабіў? Ён, фактычна, канчаў самагубствам. Ён нішчыў тое, да чаго сам імкнуўся, што было мэтай яго жыцьця, у імя чаго ён ехаў у Прагу. Якой барацьбой, якімі мукамі была даступна стыпэндыя, і цяпер ён так лёгка ўласнай рукой адкідваў яе“*[23]. Тугоўскаму, як і ўсім закаханым, не чужая здоль-

[19] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 192.

[20] Тамсама. С. 147.

[21] Тамсама. С. 155.

[22] Тамсама. С. 167.

[23] Тамсама. С. 185.





насьць да эфэктаў і выкалькуляваны патас: *„А мне гэты мітынг падабаецца зусім па іншай прычыне, — задуменна сказаў Тугоўскі, гледзячы ў цёмную залю. — Таму, што апошні раз бачыў я раскошны будынак, сьцены ў люстэрках, драбіны, засланыя каберцамі, і ў апошні раз сядзеў з вамі“*[24]. Аднак усе гэтыя сродкі выяўленьня ягонай шчырасьці не знаходзяць адпаведнай рэакцыі ў адрасаткі ягоных пачуцьцяў: *„Мне толькі шкода Вас, шкода, як дзіця, ад якога аднялі цацку“*, — піша яму Вярхоўская[25].

Сапраўды, агульнае зь дзіцём у Тугоўскім тое, што ён аддаецца абедзьвюм крайнасьцям свайго характару напоўніцу: ён моцны як у суперажываньні зь іншымі, гэтак і ў гневе. Зафіксаваўшы сваю нянавісьць да „пасьпяховых“ людзей на сваім альтэр-эга Загорскім, Тугоўскі на п’яную галаву кідаецца ў бойку зь ім — але, як паказвае разьвіцьцё ягонага характару, з часам знаходзіць у сабе сілы й для халоднай, пралічанай помсты. Прычым маральныя аспэкты гэтае помсты (якія ўсьведамляе сам аўтар) адыходзяць убок: як праўдзівы фанатык, Тугоўскі ўсё падпарадкоўвае дасягненьню сваёй мэты й ня грэбуе нават „стукацтвам“: *„...Тугоўскі з палёгкай уздыхнуў. І пасьля зь непрыемнасьцю падумаў: «Ужо ўся кар’ера Загорскага загінула, больш ён ня будзе гаспадаром у прыгожай віле»“*[26].

Гэты эпізод падае нам адзін з мноства прыкладаў таго, што аўтар не атаесамляе сябе „сьлепа“ з уласным героем, але здольны ідэалягічна адмежавацца ад яго, спачуваць ягонаму альтэр-эга: *„Ён* [Загорскі. — **М. Шч.**] *перажыў цэлую трагедыю. Адзін раз уначы сяджу я на адной станцыі ў Сьміхаве. Гляджу, ідзе Загорскі з чамаданам. „Куды так?“ — пытаю. — „Эх, разьбіта маё жыцьцё і каханьне. Чэшка мяне прагнала. Прыехаў яе брат-інжынэр і зазначыў мне, што я павінен выбрацца падабру-паздарову, адкуль прыйшоў, інакш падасьць мяне ў суд за шантаж. Ну што ж, сабраў свае інструмэнты ды вось і еду. На тое мы эмігранты, каб разьяжджаць“. Тамашэвіч засьмяяўся. Тугоўскі ня мог схаваць свайго задавальненьня і праз усьмешку казаў:*

*— Так і трэба такім здраднікам...“*[27].

Як бачым, Тугоўскі здольны ня толькі да помсты, але й да абгрунтаваньня гэтай помсты (у чым яно — разгледзім пазьней). Жыцьцё

[24] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 253.

[25] Тамсама. С. 188.

[26] Тамсама. С. 209—210.

[27] Тамсама. С 241.

іншага чалавека ня так і шмат для яго азначае. Ён лічыць, што мае права „судзіць“ Загорскага — сацыяльна вышэйшага й больш удачлівага ў каханьні да Вярхоўскай суперніка. Аднак і сама Вярхоўская трапляе пад ягоную „гарачую руку“, ён імкнецца заразіць яе полавай хваробай: *„Няхай, — стукала ў скроні, — заражу яе моднай хваробай. Усё роўна яна камсамолка... Гэта ёй узнагарода за яе буржуазнае паходжаньне, за яе здраду з патрыцыем Загорскім“. І ён доўга цалаваў яе твар, быццам жадаў ува ўсе месцы пацалункаў уліць кроплі жахлівага яду“*[28].

Здольнасьць да апраўданьня практычна ўсіх сваіх дзеяньняў „філязофскімі“ аргумэнтамі — яшчэ адзін „моцны“ бок Тугоўскага як пэрсанажа. Сымбаль такога ўнівэрсальнага тлумачэньня (ён не адмаўляе наяўнасьці нейкай першапрычыны ўсяго, але ідэя „сьляпога кону“ больш сымпатычная яму за ідэю „бога“) для яго — плянэта Сатурн, пад якою ён нібыта нарадзіўся: *„І чаму, уласьне, лёс, ці выпадак, ці праклятыя Сатурн зрабіў так, што яна ўзбудзіла ў ім пачуцьцё ў той момант, калі ён быў хворы, што яна пачула да яго нейкі наплыў сымпатыі і каханьне ў той момант, калі ён быў ахоплены новым росквітам хваробы? Ці не была зноў тут чыясьці злая і злачынная насьмешка? Хаця якая насьмешка? Такая самая насьмешка, як тая сіла прыроды, што гоніць чамусьці матыля на вагонь і прымушае яго апаліць крыльлі? Разумнага ў гэтым няма нічога, а між тым, гэта імкненьне матыля, і яго спыніць бясьсільна якая-небудзь лёгіка“*[29]. Як бачым, уласныя дзеяньні ён тлумачыць не суб’ектыўнай, а аб’ектыўнай неабходнасьцю — так бы мовіць, „умывае рукі“ й перакладае адказнасьць за свае дзеяньні на фатум.

Вядома, Вальтар ня быў бы Вальтарам, а ягоны раман інтэлектуальным, калі б аўтар ува ўсім „падпісваўся“ пад развагамі свайго аўтабіяграфічнага героя. Наадварот, ён імкнецца выклікаць да Тугоўскага ня толькі спачуваньне чытача, але й падае мноства матэрыялу да болей цьвярозага й крытычнага стаўленьня да яго. Гэтак, ён не хавае ад нас шматлікіх комплексаў Тугоўскага, якога, з аднаго боку, характарызуюць цьвёрдыя перакананьні й пагарда да грамадзкага меркаваньня, а з другога — няздольнасьць да канца пазбавіцца пэўнай аглядкі на меркаваньне іншых: *„Яшчэ які-небудзь насьмешнік толькі пасьмяецца над яго трупам. Не... Застрэліцца ня шутка. Гэта ніколі ня позна. Але вось выжыць, паказаць на зьдзіўленьне ўсіх, што і пры цяжкіх абставінах Тугоўскі выжыў, што ўсё ж ён можа быць прадметам людзкой павагі — вось гэта было б геройствам. Пакута навучыла яго, што трэба жыць так, каб людзі зайздросьцілі, а не шкадавалі. Так! Да ўсіх чартоў з самагубствам! Ён выхапіў свой сшытак „Споведзь самагубцы. Кніга для ўсіх і ні для кога“, сшытак, які ён насіў пры сабе заўсёды, як запісную кніжку, і ўжо зрабіў некалькі рухаў рукамі, каб парваць яго на дробныя кавалкі, як зноў спыніўся. Нейкая думка ўкалола яго: „Але ж няма выхаду... А што, калі надзеі Вярхоўскай на стыпэндыю былі толькі балотнымі агнямі?.. Тады зноў застаецца цагельня. І так да сьмерці павінен буду застацца работнікам!“ Ён зноў схаваў свой сшытак у кішэню. І сумна думаў аб тым, што няма выхаду“*[30].

Адзін з самых выразных комплексаў Тугоўскага — ягонае непераадольнае ўсьведамленьне ўласнай плебейскасьці: *„Я яму пакажу, — дрыжэў Тугоўскі. — Я яму пакажу плебея... Няхай ён успомніць, што плебей стаў чалавекам“*[31]. Калі ў выпадку бойкі з Загорскім змаганьне плебея за права „людзьмі звацца“ не пазбаўленае пэўнага налёту геаічнасьці, то ў іншых момантах гэтае памкненьне галоўнага героя да пераадоленьня сваёй „плебейскасьці„ ня можа ня выклікаць сьмеху: *„Першы раз у сваім жыцьці Тугоўскі рашыў ужыць парфумаў. Але студэнцкія рэсурсы дазволілі яму купіць толькі маленькую бутэлечку самых дрэнных пахучых зёлак. Перад ад’ездам на вечарыну ён выліў усю бутэлечку на свой касьцюм, выпрасаваны ўласнай рукой, і, стаўшы нейкім дзівам, — ад паху такога трэба было ўцякаць за вярсту, — ён выйшаў вясёлы з інтэрнату. Каб не спазьніцца, ускочыў у трамвай, адразу заліўшы яго сваім пахам. Нейкі стары, які сядзеў каля яго, аж пачаў задыхацца і, увесь зморшчаны, некалькі разоў азірнуўся на Тугоўскага. Нарэшце ён ня выцерпеў і голасна на ўвесь трамвай прахрыпеў: „Фуй, сядзець няможна. Вы так напарфуміліся, чалавеча, што я дыхаць не магу“. Усе засьмяяліся на чале праважатага вагона. Тугоўскі пачырванеў. Ён толькі засьмяяўся і адсеў далей ад ненавіснага старога“*[32]. (Цікава, што прыблізна ў той самы час, толькі ў Мадрыдзе, з „адным геніем“, Сальвадорам Далі, здарылася штосьці вельмі падобнае, аднак самазакаханы гішпанец, як сьведчыць прынамсі ягонае ўласнае „Таемнае жыцьцё“, рэагаваў на сытуацыю зусім іначай, чым Тугоўскі.)

[28] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 244.
[29] Тамсама. С. 244.





[30] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 229.
[31] Тамсама. С. 136.
[32] Тамсама. С. 175.

Але, нават усьведамляючы ўласныя комплексы, Тугоўскі тлумачыць іх узьнікненьне жыцьцёвымі абставінамі, шукае іх выток у рэмінісцэнцыях дзяцінства накшталт гэтай:

*„Пётра зь вінаватым выглядам глядзіць на яго і хоць ціханька датыкаецца маленькім пальчыкам да тоўстых шынаў, да бліскучай паліраванай паверхні аўтамабіля.*

*— Гу-гу-гу, — гудзіць Ян і ляціць праз увесь пакой, круцячы нагамі. Пётра ляціць за ім бокам, увесь час стараючыся не адстаць ад аўтамабіля. Ён сьвішча, падскоквае і стараецца падпіхнуць рукамі машыну хоць ззаду, але Ян горда адштурхоўвае яго. Пётра нейкі час скача, але ўсё цішэй і цішэй, і потым сумна спыняецца ў кутку. Ён, напэўна, думае, як дрэнна радзіцца пралетарыем… У яго маленькую душу закрадваецца нянавісьць да тых, хто мае маленькі ўласны дзіцячы аўтамабіль“*[33].

Ці магчыма, не стаючыся „вульгарным матэрыялістам“, грунтаваць жыцьцёвую філязофію на факце адсутнасьці ў дзіцяці нейкае цацкі? Я далёкі ад таго, каб падазраваць у гэтым Тугоўскага, а пагатоў Вальтара: аднак праўда тое, што *„маленькі ўласны дзіцячы аўтамабіль“* — адзін з мноства раманавых сымбаляў, які праходзіць цягам жыцьця Тугоўскага шэраг пераўвасабленьняў, Жаданы аб'ект сам па сабе (фрэйдысты ці ляканаўцы маглі б тут разгарнуць свой тэрміналягічны арсэнал напоўніцу) набывае рысы то дыплёму, то вілы, то прызнаньня, то Вярхоўскай… Сэнс жыцьця пэрсанажа трывала палягае ў вонкавым, а не нутраным сьвеце, нездарма „туга“ па-чэску азначае менавіта „прагу“, жаданьне, пажадлівасьць — магчыма, гэтая чэская, а не беларуская „туга“ й ёсьць праўдзівай этымалёгіяй прозьвішча галоўнага героя. У адным месцы ён сам ускосна прызнаецца, што дэтэрмінаваны менавіта прагаю посьпеху, прызнаньня: *„Ёсьць для адных людзей шляхі шчасьця, калі ім усё ўдаецца, калі яны высоўваюцца наперад і робяцца „знамянітымі“; — і наадварот… ёсьць шляхі няшчасьця, калі людзям нічога не ўдаецца, калі яны пры ўсіх сваіх здольнасьцях не высоўваюцца наперад і гінуць невядомымі — дык нашто жыць?“*[34] Іншымі словамі, у адрозьненьне ад аўтара, Тугоўскі — „паэт“ адно вонкава, але, як кожны сапраўдны „аб'ёмны“, а не „пляскаты“ пэрсанаж (паводле клясыфікацыі Форстэра), цягам раману „расьце“.

У пэўным сэнсе, некаторую „павярхоўнасьць“, гэткую самастылізацыю Тугоўскага інтуітыўна адчуваюць і ягоныя найбліжэйшыя сябры

[33] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 111.

[34] Тамсама. С. 92.





(ці хутчэй знаёмцы, якіх ён называе сябрамі, бо сапраўдным сяброўствам гэтыя стасункі цяжка назваць), што кажуць пра яго: *„Хлопец ён нічога. Хоча быць толькі арыгінальным. Але гэта не бяда“*[35]. Прынамсі, айцец Кірыла верыць у ягоны асабісты патэнцыял: *„Больш веры ў сябе… Вы геніяльны чалавек, Тугоўскі! Так, ня сьмейцеся!“*[36]

Чаму, аднак, Тугоўскі ня можа ці ня хоча даць ім веры, чаму адрынае іхны „пазытывізм“ і аптымізм у дачыненьні сябе самога? У чым сапраўдная прычына ягонай непрыстасаванасьці да сьвету? Інакш кажучы, у чым палягае ягоная праўдзівая арыгінальнасьць? Думаецца, што ўсе вышэйпералічаныя псыхалягічныя рысы ягонага характару самі па сабе яшчэ не настолькі адметныя, каб патлумачыць сутнасьць ягонага сьветапогляду. Мы казалі дагэтуль хутчэй пра тое, у чым Тугоўскі падобны да астатніх — але ў чым ягонае глыбіннае адрозьненьне ад іх, якое без сумневу прысутнае ў ім побач з уласьцівай іншым непрактычнасьцю, закамплексаванасьцю, прагай „арыгінальнасьці“ й прызнаньня?

Адказ на гэтае пытаньне, на маю думку, утрымліваецца ў адной зацемцы „астральнага чалавека“, якую пазьней перафармулёўвае й прымае за сваю Тугоўскі: *„Ведаеце — чалавечая псыхалёгія: „нашыўкі“, „зьвёзды“, „мэдалі“, „чыны“…“*[37]

*„Адзіная зброя процiў іх — гэта дыплём. Змагайцеся зараз за дыплём. Усімі сіламі за дыплём інжынэра ці доктара… Інакш вас заўтра ў жыцьцё ня пусьціць дурань з дыплёмам. Дыплямаваны дурань. Разумееце вы гэта, так ці не?*

*— Выбачайце, — пачаў Тугоўскі, — я вучуся для навукі, а не для дыплёму…*

*— Ах, як вы мяне не разумееце, мілы чалавек, — заварушыўся астроляг на коўдрах. — Справа ня ў выразах, мы не гімнасты з вамі, каб спрачацца з-за слоў. Усё роўна, як вы там будзеце вучыцца: для навукі ці не, але вам патрэбны дыплём. Паверце мне, астральнаму чалавеку з дагарэўшым жыцьцём“*[38].

Хто ён, гэты *„астральны чалавек з дагарэўшым жыцьцём“*, якому даручаная чыста літаратурная роля „нутранога голасу“, амаль што нерэальнага суразмоўцы? У рамане гэта нібыта нейкі русін, „вечны

[35] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 215.

[36] Тамсама. С. 160.

[37] Тамсама. С. 98.

[38] Тамсама. С. 160.

студэнт“, аматар астралёгіі й містыкі — то бок якісьці знаўца законаў будучыні, якому Тугоўскі, у адрозьненьне ад астатніх, урэшце дае веры… Ёсьць адно простае тлумачэньне ягонага вобразу: пад ягонай маскай схаваны сам Віктар Вальтар, але Вальтар часоў напісаньня раману, Вальтар за некалькі гадоў да сьмерці — тым часам як у Тугоўскім, умоўна кажучы, можна пазнаць крыху маладзейшага Вальтара зь ягонай студэнцкай пары (яшчэ адно сьведчаньне на карысьць праблематычнасьці поўнага атаясамленьня галоўнага героя з аўтарам).

Нельга не адзначыць, што веданьне астралягічных законаў (эўфэмізм будучыні), якога малады Тугоўскі (пакуль) ня мае, прыносіць „астральнаму чалавеку“ зусім ня радасьць і не ўласьцівую праўдзівым містыкам надзею на вечнае жыцьцё ці ўратаваньне душы, а надзяляе яго ўсяго толькі стаіцызмам твар у твар зь сьмерцю; тым часам, сутнасьць ягонай парады — даволі цынічная. „Астральны чалавек“ нагадвае ў чымсьці дух Гамлетавага бацькі, старога Гамлета, які містычным чынам зьяўляецца юнаму Гамлету (тоеснасьць імёнаў у Шэксьпіра невыпадковая), каб распавесьці яму праўду пра яго самога — у Вальтара „астральны чалавек“ зьяўляецца не зь мінуўшчыны і не зь цяперашняга, а ў пэўным сэнсе — з будучыні. Мудрасьць „астральнага чалавека“ — у жыцьцёвым досьведзе, які ён імкнецца патлумачыць юнаму студэнту не ўва ўласных, а хутчэй у ягоных катэгорыях (Сатурн, прадвызначанасьць, фаталізм), якія Тугоўскі здольны прыняць і зразумець. Трагізм гэтай дадзенай самому сабе запозьненай парады ў тым, што яна ўжо невыканальная, таму гэта хутчэй нават не парада, а папрок. Тым ня менш, фіктыўны Тугоўскі робіць спробу прыслухацца да голасу „астральнага чалавека“, які гучыць настолькі кантрастна ў параўнаньні з „жывымі“ галасамі астатніх герояў раману: *„Без дыплёму яго „затруць у жыцьці“, як казаў астральны чалавек. Трэба сапраўды кінуць на час каханьне і Вярхоўскую. Адно павінна стаяць перад ім зараз — гэта дыплём. Ён пачаў акуратна хадзіць на лекцыі“*[39].

Аднак Тугоўскі ня быў бы Тугоўскім (а Вальтар — чытачом Дастаеўскага), калі б пагадзіўся з высновай „астральнага чалавека“, не аздобіўшы яе сваім уласным, больш узьнёслым і ідэалістычным тлумачэньнем; калі б не паспрабаваў пайсьці „вышэй, далей і глыбей“ за гэтую параду „бацькі-Дэдала“ ды стаць тым „Ікарам“, якім ён сам сябе ўяўляе: *„Ён хацеў унутрана перарадзіцца, стаць лепшым праз перажытыя самім зьдзекі. Хацеў пражыць па формуле „Пакутай усё ачышчаецца“. Усе гэтыя паўгоду толькі пакутаваў. Ён цярпеў зьдзекі ад майстра і чэхаў-работнікаў. У яго былі акрываўленыя рукі ад шурпатых цаглін, якія браў голай рукой. У яго балела пасьля працы ўсё цела, быццам пабітае неміласэрна палкамі, як у арыштанта на катарзе. Бывалі дні, калі ня мог устаць і ішоў на працу зусім разьбіты. Праўда, пазьней усё гэта зьнікла. Ён прызвычаіўся да працы, да пераноскі цаглін, сам пашыў сабе скураныя рукавіцы, прыміры́ўся зь сябрамі-чэхамі і завёў добрыя знаёмствы, але ўсё ж яго жыцьцё заставалася такой самай пакутай, добраахвотна пакладзенай на сябе, як і раней. І вось, што ж „ачысьцілася“ яго пакутай? Стаў ён лепшым, ці пачуў сябе перарадзіўшымся, новым чалавекам, пачуў у сабе новыя сілы да змаганьня? Ён мог толькі адказаць: „Не!“ Пакута ачысьціла ў ім яго дробныя інтарэсы, дробныя адносіны да людзей — яна падняла ў яго вачох значэньне і вагу чалавека, але пакута забіла ў ім самім чалавечы гонар, прытупіла яго адчуваньне болю і зьдзеку, зрабіла зь яго пакорнага чалавека. Болей таго, праз сваю абразу, праз выпітае да дна гора ён пазнаў чалавека ў іншым сьвеце, чым раней, і пабачыў, што людзі паважаюць толькі сілу і грамадзкае становішча чалавека“*[40].

Уласна кажучы, на гэтай выснове Тугоўскага пра ўласнае грамадзкае банкруцтва й сэнс (ці бессэнсоўнасьць) чалавечых пакутаў можна было б і паставіць кропку на ім як на пэрсанажы („памудрэў, так бы мовіць — і супакойся, шуруй у будысцкі кляштар“), калі б насамрэч галоўныя праблемы й ідэалягічныя пытаньні раману не пачыналіся менавіта тут. Перадусім, кідаецца ў вочы, што, насуперак парадзе „астральнага чалавека“, Тугоўскі ідзе не вучыцца, а працаваць, ня бачачы (у духу марксізму) розьніцы паміж інтэлектуальнай і фізычнай працай: „змаганьне за дыплём“ апрыёры бачыцца яму нічым ня больш годным ці вартым павагі, чым нашэньне цэглы — канец канцоў, абое ёсьць толькі спосабам барацьбы за выжываньне. Тугоўскі трапляе ў парадаксальнае становішча: ён ідзе працаваць, каб здабыць да сябе павагу як да чалавека, але ўсё сканчаецца тым, што *„пакута забіла ў ім самім чалавечы гонар“*, і адбылося гэта менавіта ў момант, калі Тугоўскі паспрабаваў быць да людзей бліжэй, чым калі дагэтуль. Урэшце, усё сканчаецца тым, што Тугоўскі зноў перакладае адказнасьць за сваю няўдачу на свой лёс, які прымусіў яго дбаць пра кавалак хлеба (заўважу, што ён сам абірае гэты шлях) і не дазволіў дасягнуць вышэйшых мэтаў: *„Ён быў „лішні чалавек“, нікому не патрэбны, ні для каго не цікавы, не для*

[39] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 161.

[40] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 223.

*гэтага сьвету створаны. Яго пацягнула ў „вышэйшыя сфэры“, хапаць зоры зь неба, але, на жаль, ён не радзіўся ў сям'і барона, яму, як на злосьць, даводзілася штодня змагацца з чорным практычным жыцьцём, самому рабіцца практычным і вечна думаць аб кавалку хлеба. У гэтым было яго няшчасьце*“[41].

Іншымі словамі, Тугоўскі ўвесь час варочаецца ў заганным коле свайго мысьленьня (падобным чынам апісвае гэтае сацыяльна-эканамічнае кола І. Абдзіраловіч: *„Выходзіць нейкі зачарованы круг: для сацыяльнай творчасьці павінна быць творчая адзінка, але ўзгадаваньне гэтай адзінкі ў значнай частцы залежыць ад разьвіцьця сацыяльнай творчасьці*“[42]) і як быццам не разумее ці ня хоча разумець сапраўдных прычынаў сваёй адпачатнай непрыстасаванасьці да грамадзтва — менавіта таму нам і варта паспрабаваць усё-ткі іх адшукаць. Аднак ужо цяпер, прынамсі, можна зрабіць папярэднюю выснову, што Тугоўскі — гэта ня столькі Віктар Вальтар, колькі даведзены да крайнасьці й „перабольшаны“ ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі фікцыі малады Віктар Вальтар — прыблізна ў той жа ступені, у якой справядлівае Флябэрава выказваньне *„Мадам Бавары — гэта я*“, але ня болей за тое.

### 4. „І скажа мне прыгожая Сьмерць: „Мілы мой, любы. Бачу, ты шчыра пакахаў мяне“

Хто яны, уласна, *„народжаныя пад Сатурнам*“? Сам „астральны чалавек“ гэтак спрабуе тлумачыць іхную псыхалёгію:

*„Людзі, якія радзіліся пад Сатурнам, звычайна не выносяць падуладнасьці, не пужаюцца думкі аб сабе грамады, але разам з тым баяцца быць сьмешнымі, недаверлівыя, працавітыя, любяць земляробства і навукі, ня любяць войны і жаўнераў... Людзі, якія радзіліся пад Сатурнам, абыякавыя да сям'і і дзяцей.*

*— Гэта няправільна, — зазначыў Тугоўскі.*

*— Маўчы... Правільна! — крыкнуў Кірыла. — Я цярпець не магу ні сям'і, ні дзяцей. Мяшчанства, брат!*

*— Людзі, якія радзіліся пад Сатурнам, цікавыя да ўсяго і разам з тым сумныя. Мэлянхолія заўсёды кладзе на іх твар сваю пячатку. Гэтыя людзі таксама нічым не задаволены, ні адна партыя ня будзе ім да душы, ні адзін палітычны лад не задаволіць іх. Гэта вечна ўсім незадаволеныя, усё крытыкуючыя людзі, рэвалюцыянэры па духу!*

*— Брава! — закрычаў Тугоўскі*“[43].

Як бачым, у апісаньні „астральнага чалавека“ псыхалягічная характарыстыка *„роджаных пад Сатурнам*“ мяшаецца з характарыстыкай іхнага сьветапогляду. Ці ёсьць, уласна, падобная схільнасьць да крайнасьцяў рысай строга псыхалягічнай — ці *„роджаным пад Сатурнам*“ свомыя ўсё-ткі нейкія глыбінныя перакананьні, а ня проста „сьляпое“ радыкальнае адмаўленьне ўсяго? (Зноў праводзячы паралель з Абдзіраловічам: *„Ёсьць другі тып сьветагляду: „усё існуючае — неразумна“. Тады нехапаючая папярэдняму тыпу актуальнасьць у грунтоўным перабудаваньні жыцьця кідаецца ў другую скрайнасьць*“[44]).

Да першага адказу ў рамане схіляецца „айцец“ Кірыла Бурачэўскі, які называе свайго сябра Тугоўскага „паэтам“ (*„Ты паэтычна падышоў да лекцый, да таго самага залатазубага прафэсара, ты занадта блізка прыняў да сэрца яго сьцьверджаньні і паэтычна абурыўся*“[45]), разумеючы пад гэтым ягоны псыхалягічны тып: *„Не накрывай на сябе плашча Гамлета — табе гэта зусім не падыходзіць. Такія Гамлеты, ведаеш, страляюцца... А страляцца, — ён сплюнуў, — глупства*“[46]. Характэрна, што, будучы марксістам, Бурачэўскі бачыць за кожным псыхічным станам якуюсьці матэрыяльную прычыну, якой заўжды можна даць рады:

*„Стыпэндыя? — зарухаўся Тугоўскі. — Поўная стыпэндыя?!. Вельмі дзякую! Скажы ім, калі ласка, што яна мне не патрэбна.*

*— Што ты, звар'яцеў? — ускочыў Кірыла. — Табе не патрэбна стыпэндыя? Нашто ты тады ехаў у Прагу?*

*Тугоўскі змаўчаў.*

*— Я думаю, ты ня герцаг які-небудзь, якому не патрэбна стыпэндыя*“[47].

У дадатак працытую, бадай, самы характэрны дыялёг паміж двума героямі, якія, пры ўласьцівай ім абодвум схільнасьці да „любамудрасьці“, падкрэсьлівае розьніцу ў іхных падыходах, якая ёсьць асноўнай крыніцай немагчымасьці іхнага паразуменьня. Гэтая розьніца ёсьць

[41] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 248.

[42] Абдзіраловіч, Ігнат. Адвечным шляхам. Львоў, 2007. С. 23.

[43] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 172—173.

[44] Абдзіраловіч, Ігнат. Адвечным шляхам... С. 30.

[45] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 195.

[46] Тамсама. С. 123.

[47] Тамсама. С. 123.

настолькі выразнай і ў чымсьці нават схематычнай, што дае нам поўнае права ўспрымаць пастаць Бурачэўскага як чарговы канструкт Вальтаравай фікцыі, праграмовую ідэалягічную процівагу Тугоўскаму:

*„Ведаеш, ёсьць моманты, больш важныя за хлеб, за ежу, за стыпэндыю. Ёсьць моманты, калі ня хочацца ні піць, ні есьць. Ты, напэўна, чуў, што ў турме часам арыштанты аб'яўляюць галадоўку? Так вось, брат: значыць, ёсьць мукі і больш цяжкія, чым голад, ёсьць так званыя й маральныя мукі. Вось гэтыя мукі прымушаюць мяне адмовіцца ад стыпэндыі. Ты робіш зноў зьдзіўлены твар... Ну добра... Дапусьцім, што я згаджуся атрымаць стыпэндыю, стану студэнтам. Ну й што пасьля гэтага? Жыць, калі ты чуеш поўны ўпадак сіл, калі ў цябе баліць сэрца, мучыцца сьвядомасьць... Слухай, айцец Кірыла: жыць бяз таленту, без аднаго хоць якога-небудзь таленту, жыць разачараванаму ў самім сабе, жыць з пэўнасьцю, што табе ўсё роўна нічога ня ўдасца, згадзіся сам — немагчыма.*

*— Цьфу! — плюнуў айцец Кірыла. — Адкуль ты ведаеш, што табе нічога ня ўдасца? Бяры, што ты можаш зрабіць, бяры па сваіх сілах — і табе ўсё ўдасца. Каб табе нічога не ўдалося б — так-такі зусім, зусім нічога — гэта немагчыма. Ні адзін жывы чалавек гэтага ня скажа. Калі ты так думаеш, тады ўжо ты, запраўды, нежывы чалавек, тады толькі рухомы труп. Тады я ў табе вельмі памыліўся.*

*— Так, айцец Кірыла, я стаў ужо трупам. Я — чалавек, катораму толькі што мінула 24 гады, стаў ужо трупам!.. Трагедыя, годная пяра Шэксьпіра, праўда? А калі гэта так, дык нашто трупу яшчэ бадзяцца па сьвеце?.. Нашто яму стыпэндыя?.. Няхай карыстаюць зь яе тыя, хто яшчэ жывы, хто думае ў імя чагосьці разьбіваць сабе галаву. Няхай твораць камэдыю комікі, якія ўмеюць сьмяяцца...*

*— Так, брат, нэўрастэнія ў цябе, вострая нэўрастэнія“*[48].

Калі айцец Кірыла схільны тлумачыць настрой Тугоўскага „нэўрастэніяй“ і „інтэлігенцкай хваробай“, комплексам Гамлета, то сам Тугоўскі адназначна прыхіляецца да другога варыянту адказу на пытаньне, чым ёсьць *„народжаны пад Сатурнам“*: псыхалёгія тут, паводле яго, зусім ні пры чым, падставы ягоных уласных перакананьняў — выключна разумовыя, лягічныя, то бок — філязафічныя. Гэтыя свае перакананьні разам зь іх перадумовамі ён спрабуе выказаць у сваім адзіным творы з надзвычай характэрнаю назвай, якая ўжо сама па сабе ўтрымлівае ня толькі алюзію на Ніцшэ, але й фактычную „філязофскую праграму“ самога Тугоўскага, шмат у чым абавязаную таму ж Ніцшэ: *„«Споведзь“ самагубцы. Кніга для ўсіх і ні для кога», — прыгожа вывеў ён на вокладцы“*[49].

Сама па сабе „Споведзь самагубцы“, магчыма, ня ёсьць самым яскравым, а пагатоў „арыгінальным“ зь філязофскага гледзішча момантам кнігі (і тут аўтарава любоў да праўды перамагае памкненьне „ўпрыгожыць“ Тугоўскага й зрабіць яго разумнейшым, чым насамрэч) — яна дапамагае зразумець філязофію самога раману не непасрэдна, а ўскосна, пасярэдніцтвам набліжэньня нас да філязофіі й „мысьлярскага вобразу“ галоўнага героя. Натуральна, калі б ён быў насамрэч глыбокім філёзафам і быў здольны падаць у сваіх нататках нейкі ўнівэрсальны адказ на вечныя пытаньні, то самога раману магло б і не адбыцца, і сам Вальтар быў бы не пісьменьнікам, а акадэмікам. Тым ня менш, асобныя пасажы „Споведзі“ вартыя таго, каб іх працытаваць:

*„Кажуць: „Чалавек родзіцца для шчасьця, як птушка для палёту“. Але пароды птушак бываюць розныя, і палёты бываюць розныя. Адны роджаны для таго, каб стаць вераб'ямі, і як бы яны ні хацелі, ім не падняцца вышэй страхі маленькай хаты, не адляцець далей нейкага мейсца чалавечага жыльля. Другія ж родзяцца каршунамі, каб лётаць высока пад небам, каб у пэўны момант накінуцца на слабейшых і адняць ад іх жыцьцё і шчасьце. Людзі родзяцца і жывуць, як птушкі... Ніхто ня ведае, што вылупіцца зь яйка, ніхто ня ведае, чым стане чалавек. Як птушка, у гнязьдзе якой пакладзена зязюлінае яйка, ня ведае, што яна выседзіць зязюлю, так ніхто ня ведае, што выйдзе з растучага чалавека: зязюля ці каршун. Але чалавек расьце. Ён чуе, што ў яго адрастаюць крылы. Ён бачыць, што пад небам лётаюць сакалы. І ў сэрцы яго кладзецца жаданьне: чаму я ня сокал, чаму я не магу лётаць над сьветам... Паляту... І ён ляціць. Ён прабуе зрабіць гэта раз... Не выходзіць. Ён чуе, што яго крылы слабыя; ён прабуе падняцца другі, трэці, чацьвёрты, дзясяты раз — і ня можа. Тады ён пакідае сваё жаданьне. Ён пачынае задумвацца і знаходзіць, што ён ужо зусім ня сокал, ён жа радзіўся вераб'ём... Так пазнаюцца законы жыцьця“*[50].

Тут Вальтар пацьвярджае сваё веданьне Ніцшэ: Тугоўскі падзяляе людзей на дзьве адмысловыя ПАРОДЫ, між якімі існуе апрыёрная й непераадольная розьніца. (Зьвернем увагу на далёка не ніцшэанскую

[48] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 123—124.

[49] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 119.

[50] Тамсама. С. 119.

інтэрпрэтацыю гэтых „піродаў“ у Абдзіраловіча: *„...вышэйшая чалавечая парода, найболей сумленная парода творцаў“*[51].) Кажучы словамі Вальтаравага чэскага сучасьніка Ладзіслава Клімы, *„між геніем і звычайным чалавекам такая ж розьніца, як між чалавекам і вярблюдам“* — з той розьніцай, што Вальтараў „каршун“ зусім не азначае „генія“. Як бы ні высільваўся „верабей“, *„ён ня можа стаць сакалом. Так рашыла прырода, такі закон жыцьця. Аднак мы прарочым дзіцёнку вялікую будучыню, мы кажам: ён будзе інжынэрам, прафэсарам. Хоць між тым лёс чалавека ўжо вырашаны: ён будзе ўсё жыцьцё канцылярскім чыноўнікам. Здаецца, так проста і ясна: лёс чалавека існуе ракой яго жыцьця. Адны будуць вераб'ямі, другія сакаламі... А ўсё ж што вельмі проста, то вельмі мудра. Людзі ня хочуць прызнаць, што лёс існуе і кіруе жыцьцём. Яны кажуць: мы вольныя птушкі, давайце будзем лётаць пад небам, над нязьведанымі краямі. Можа быць, гэта і хвароба, можа быць, трэба сьпяваць гэтай безразважнасьці песьню, але ўсё ж гэта безразважнасьць. Закон жыцьця строгі і бязьлітасны, як судзьдзя. Цяпер трэба даведацца, дзе ў чалавека знаходзяцца крыльлі? Крыльлі гэтыя знаходзяцца ў мозгу. Так, у мозгу...“*[52]. Што разумее Тугоўскі пад „мозгам“ — спосаб мысьленьня ці нейкія зьвесткі папулярнай тады ілжэнавукі фрэналёгіі? Для яго, як і для Клімы ці Вайнінгера, адно другога не выключае: *„І можа быць, мілыя сосны, праз 300 гадоў, калі ўжо і вас ня будзе, у лес прыйдзе чалавек і раскажа, што ён прыдумаў такія прамяньні, як зараз рэнтгенаўскія, якія праходзяць праз чарапны кошык і адразу паказваюць, што гэты чалавек будзе вераб'ём, гэты — каршуном ці сакалом... Можа быць, тады вераб'ёў будуць нішчыць, як непатрэбных? Тады запануе толькі здаровая, разумная людзкасьць і жыцьцё стане прыгожым. Аб гэтым нават думае новая навука. Але пакуль гэтага няма. Вераб'і жывуць і спакойна сабе чырыкаюць...“*[53]

Абмяжуемся пакуль гэтым супрацьпастаўленьнем двух „рэвалюцыйных“ сьветапоглядаў (умоўна кажучы, „марксісцкага“, свомага айцу Кірылу, і „ніцшэанскага“, уласьцівага Тугоўскаму) *„роджаных пад Сатурнам“* герояў, безь іхных глыбейшых характарыстык. Канстатуйма, што айцец Кірыла — гэта „адваротны бок мэдаля“ мысьленьня Тугоўскага, ягонае праўдзівае, то бок філязофскае альтэр-эга (у адрозьненьне

[51] Абдзіраловіч, Ігнат. Адвечным шляхам... С. 20—31.

[52] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 120.

[53] Тамсама. С. 120—121.





ад сацыяльнага альтэр-эга — Загорскага, жаночага — Вярхоўскай і г. д.). Дык якога з двух герояў падтрымлівае ў спрэчцы аўтар? Можна было б з пэўнай доляй справядлівасьці сказаць, што ніводнага, калі б не адна дэталь: тым часам як Загорскаму й Вярхоўскай Тугоўскі за іхную „іншасьць“ адпомшчвае сам (гэтаксама як урэшце бярэ ўласны лёс, ці ўласную сьмерць, у свае рукі, „разьбіраецца“ сам з сабою), то ў выпадку сымпатычнага Тугоўскаму айца Кірылы гэтая задача перакладаецца на ягоны раманавы „лёс“, то бок, на самога аўтара: „айцец“ Кірыла (фальшывы „айцец“, у адрозьненьне ад „айца“ сапраўднага, „астральнага чалавека“; штосьці накшталт узурпатара Кляўдыя ў параўнаньні з Гамлетавым бацькам) стаецца ахвярай, і ня проста ахвярай „іроніі лёсу“, а ідэалягічнай канструкцыі сюжэту, то бок яго сканструяванасьці ў адпаведнасьці з аўтаравым перакананьнем, што менавіта аптыміст Кірыла Бурачэўскі, а ня хто іншы, ПАВІНЕН стаць ахвярай сухотаў. Чаму — павінен? Бо ён, у адрозьненьне ад „астральнага чалавека“, не разумее (а ў адрозьненьне ад Тугоўскага й не прадчувае) неабвержнасьці законаў сьвету, ён спрабуе іх перайначыць, змагаецца зь імі „на паверхні“ — таму няма дзіва, што ён правальваецца ў мэтафізычную багну й гіне ў ёй. Таму сьмерць ягоная — магчыма, і выпадковасьць з гледзішча звычайнага жыцьця, але паводле законаў фікцыі яна, натуральна, ёсьць ня менш неабходнай за сьвядомае забойства бабкі-працэнтніцы Раскольнікавым.

Гэты архаічны спосаб разьвязаньня сюжэту, вядомы нам з часоў Арыстотэля (праўда, у лацінскім перакладзе) як *Deus ex machina*, у духу паганскай міталёгіі ставіць фатум і прадвызначэньне па-над чалавечай воляй, свабодай выбару й іншымі гуманістычнымі ды пратэстанцкімі, новазапаветнымі каштоўнасьцямі (заўважым мімаходзь, наколькі малую ролю ў кнізе адыграе хрысьціянства, што ўсяго толькі некалькі разоў стаецца аб'ектам кпінаў — параўнайма гэта з частымі спасылкамі на Біблію ў „аптымістычнага“ Абдзіраловіча) — аднак у выпадку філязофскага раману Вальтара менавіта гэтая „беспадстаўная“, нічым апроч аўтаравага хаценьня не матываваная сьмерць сьведчыць на карысьць таго, што сам аўтар трымаецца нават не дагуманістычных, а анты-гуманістычных перакананьняў — і што гэтыя перакананьні, хутчэй за ўсё, ёсьць у тым ліку й перакананьнямі ідэйнага „пераможцы“, Тугоўскага. Карыстаньне такой разьвязкай набліжае Вальтара да Фэрнанда дэ Рохаса („Сэлестына“) і маркіза дэ Сада („Жустына“): у апошняга ўнутрана справядлівая й набожная галоўная гераіня пасьля безьлічы перанесеных пакутаў і зьдзекаў з боку людзей

і лёсу ўрэшце гіне ад удару маланкі. Паказальна, што менавіта Бурачэўскі спрабуе пераканаць Тугоўскага: *„Ня вер ніякім уплывам Сатурна! „Чалавек — гэта гучыць горда“, разумееш?.. Кожны — сам каваль свайго шчасьця, і зусім начхаць на Сатурн. Гэта тэорыя знайшла ў тваім „я“ адпаведны грунт, таму што ты хворы інтэлігент. Але ўсё ж, думаю, пакалупаць цябе пальцам — дык усярэдзіне тваёй акажацца здаровы селянін“*[54].

„Здаровы селянін“, насамрэч — гэта і сам Бурачэўскі (нагадайма, прозьвішча архетыпальнага й карыкатурнага ўвасабленьня „здаровага селяніна“ ў рамане — Бурак, якога ад расейскага „дурня“ дзеліць адна літара), і ў чымсьці — філязафічны антыпод Вальтара, „анархіст“ Абдзіраловіч. Айцец Кірыла забываецца пра сьмерць, забываецца пра тое, што ўсе людзі, у пэўным сэнсе, *„народжаныя пад Сатурнам“* — нягледзячы на тое, што менавіта „астральны чалавек“, пад маскаю якога ў рамане, на нашу думку, хаваецца аўтар, сам папярэджвае яго пра гэта.

*„Ты думаеш, што кажаш страшэнна мудрыя рэчы. Нічколькі, выбачай. Твая, з дазволу казаць, філязофія ня мае ў сабе нічога цікавага. Хоць бы што-небудзь годнае ўвагі, над чым трэба было б прызадумацца. Пустата... Пагляд на жыцьцё нэўрастэніка.*

*— Паважаны айцец Кірыла! Ты толькі пацьвярджаеш маю думку аб самім сабе. Чым далей, тым больш пераконваеш мяне, што мне жыць ня варта...*

*— Калі так, дык памірай. Я ў табе памыліўся. Я думаў, што ты з працоўных, зь сялян ці работнікаў, што ты моцна, па-дзедаўску, гатоў чапляцца за жыцьцё, нягледзячы ні на якія мукі й болі. Я думаў, што ты прыйдзеш у нашу грамаду і станеш у шэраг тых, хто гатоў гінуць за работнікаў, як кажуць, за вялікую справу ўсялюдзкага кахання... А ты — інтэлігент, хворы інтэлігентнымі хваробамі. Такіх інтэлігентаў я цярпець не магу. Тады жадаю табе шчасьлівай сьмерці, як і ўсякаму інтэлігенту“*[55].

Нават у гэты момант айцец Кірыла не ўсьведамляе, што, жадаючы сьмерці Тугоўскаму, ён жадае яе фактычна самому сабе.

У гэтым выпадку Вальтар, зусім у духу „астральных навук“, насамрэч, судакранаецца зь містыкай (настолькі ўласьцівай сучасным яму праскім аўтарам — відавочна, што гэта была свомасьць ня месца, а менавіта часу, эпохі адчайнага пошуку *„альтэрнатывы памерламу Богу“*). І ў астатнім выпадковасьць у рамане ёсьць значна больш, як выпадковасьцю. Гэтак, калі Тугоўскі канчаткова пастанаўляе скончыць жыцьцё самагубствам, ён „выпадкова“ сустракае ў трамваі Вярхоўскую; аднак і дагэтуль ужо сама іхная сустрэча мае пэўнае містычнае адценьне — выяўляецца, што яны зь ёю знаёмыя даволі даўно, з самай лёсавызначальнай пары ў маладосьці героя:

*„Тугоўскі глядзеў на яе збоку і ўспамінаў.*

*— Вы былі ў Харкаве? — запытаў ён. — Мне здаецца, я вас бачыў тады. Я быў вучнёўскім камісарам і прыйшоў у вашу гімназію запрашаць на сьвята адзінай працоўнай школы. Вы аказаліся адны ў клясе, і я вам перадаў плякаты і адозвы.*

*— Так, так. Прыгадваю. Гэта былі вы. І вы настрашылі тады ўсю гімназію і прымусілі заўтра ў поўным складзе на чале з дырэкtаркай зьявіцца пад пагрозай зачыненьня школы.*

*Тугоўскі засьмяяўся.*

*— Так, так, — кіўнула Вярхоўская. — Ах, як гэта далёка. І як даўно мы знаёмыя з вамі.*

*— І як мы мала ведаем адзін аднаго, — дадаў Тугоўскі“*[56].

Містыка выдае ў аўтара якуюсьці прыхаваную веру ў патаемную, „звышнатуральную справядлівасьць“ сьвету — гэта тлумачыць вышэйзгаданую апантанасьць Тугоўскага помстай: ён папросту імкнецца выступаць у ролі *„інструманту“* такой інтуітыўна адчутай справядлівасьці, сам да канца не ўсьведамляючы таго. *„Зьвярыным гневам поўняцца яго грудзі. Узяць бы нож і, падобна „брацьцям-разбойнікам“,ісьці па местах і вёсках... Хто ён? Бадзяга з закончанай сярэдняй адукацыяй! Ён радзіўся пралетарыем, а стаў горш за пралетарыя. Хіба ён можа параўнаць сябе з чэскім пралетарыем? У таго — чыстыя прыгожыя пакоі з добрай мэбляю, з каберцамі, зь белымі пышнымі пярынамі, што красуюцца на пасьцелі, з кветкамі на вокнах і птушкамі ў клетках. А ў яго...“*[57]

Тугоўскі ўспрымае несправядлівасьць сьвету (ня толькі ў дачыненьні сябе самога, але й іншых падобных „вераб’ёў“) як адпачатную дадзенасьць, гэтаксама як гностыкі лічылі аксіяматычнымі недасканаласьць і „д’ябальскі характар“ стварэньня. Прыкладаў такой несправядлівасьці навокал безьліч — у рэальным (а не фіктыўным) сьвеце несправядлівасьцю ёсьць і сьмерць Бурачэўскага: *„Роджаны пад Сатурнам...*

[54] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 125.
[55] Тамсама. С. 124.





[56] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 254.
[57] Тамсама. С. 118.

*Чалавек памірае, калі яму застаўся адзін дзень да дыплёму*. [Заўважце, як пад маскаю спачуваньня з боку Тугоўскага хаваецца злая (сама)іронія з боку Вальтара. — ***М. Шч.***] *Памірае ў росквіце сілаў, ня маючы магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну, якую ён хацеў бачыць квятучым садам. Хіба гэта не няшчасьце? Хіба гэтыя людзі не радзіліся пад няшчаснай плянэтай Сатурн? Хіба ня цягне іх гэты праклёны Сатурн да магілы, калі яны самі цягнуцца да жыцьця? А колькі іх? Колькі іх у Празе, што імкнуцца, можа быць, шчыра, да палепшаньня свайго палажэньня і нават цэлага народу, церпяць фіяска ў разгар сваёй працы?*“[58]

Аднак, вядома ж, галоўнай ахвярай гэтай несправядлівасьці сьвету ёсьць у рамане перадусім сам Тугоўскі. *„Што такое быў ён, Пётра Тугоўскі, у велізарнай чашы жыцьця? Адзінокая пясчынка, якая ляжала без усякага руху ў агульнай масе пяску. Адзінокі чалавек, не знайшоўшы свайго ўласнага шчасьця. Разьбітая маладосьць, што прадвяшчала жахлівую, сумную і студзёную старасьць. Студзёная вясна, у каторай замерзьлі кветкі, пажоўклі лісты, як увосені, і ніколі ня ўстануць да жыцьця. Сапраўды, што такое быў ён, Пётра Тугоўскі? Для чаго ж радзіўся ён? У імя чаго прыйшоў у гэты сьвет? У імя якой-небудзь мэты ці проста так сабе, як непатрэбнае пустазельле на полі? Ува ўсякім выпадку, ён не прыйшоў у сьвет, як іншыя: думаць аб сваёй гаспадарцы і аб сваіх агародах. Яму брыдкае гэтае людзкое імкненьне разбагацець — накупіць болей зямлі, пабудаваць больш дамоў, на вокнах паставіць герані, павесіць клеткі з канарэйкамі і, шчасьліваму, сытаму, хадзіць па пакоях і слухаць прыбой людзкога гора, можа быць, паплакаць, можа быць, кагосьці пашкадаваць, камусьці працягнуць руку дапамогі. Ён усімі нэрвамі сваёй душы ненавідзеў гэтых сытых і задаволеных людзей, якімі б здольнасьцямі яны ні блішчэлі, і называў іх мяшчанамі. Мяшчане — гэта самы брыдкі від чалавека, які нагадвае, што чалавек недалёка адышоў ад жывёлы. Тугоўскі не радзіўся для таго, каб хваліць гэты сьвет толькі таму, што ў яго быў белы хлеб*“[59]. *„Якая насьмешка лёсу. Цяпер ён пачуў узаемнасьць жанчыны, каторую калісьці кахаў, цяпер, калі ў яго зьявіўся сыфіліс у другой стадыі. Яна ішла як ахвяра, ня ведаючы, каля якой жахлівай небясьпекі ішла, на каго хацела абаперціся, да каго даткнуцца сваімі гарачымі вуснамі. Яму стала шкода яе. Ён быў бы*

[58] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 216.
[59] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 247.





*злачынцам, яго можна было б па закону пасадзіць у турму, каб зараз ён даткнуўся да яе і перадаў ёй жахлівую пошасьць*“[60].

Назваць сьветаадчуваньне Тугоўскага „пэсымістычным“, гэтаксама як і яго самога „мэлянхолікам“ — відавочна, недастаткова, гэтаксама ж недарэчна глядзеліся б такія эпітэты ў дачыненьні, напрыклад, Кафкі: гэта хутчэй не мэлянхолія, а якісьці „сьвяты жах“ перад існаваньнем і ягонымі таямнічымі законамі. *„Я ўспомніў сваё жыцьцё, — прадаўжаў Тугоўскі, — і мне проста хочацца трапятаць і плакаць. Колькі памылак… Ах, колькі памылак… Якое няўдалае жыцьцё, якое цёмнае жыцьцё на дне, дзе капошацца чэрві…*“[61] Калі ў „гнастычным“ сьветаўспрыманьні Тугоўскага й ёсьць штосьці „рамантычнае“ (я зусім нічога ня маю супраць Гётэ ці Наваліса, якраз наадварот, аднак залішняя вульгарызацыя тэрміну „рамантык“ ды ягонае гістарычнае адценьне забараняе мне зь ім у дачыненьні Вальтара атаясаміцца; гэта, бадай, тое самае, што назваць „рамантыкам“ таго ж Ніцшэ: у лепшым выпадку — недакладнасьць, у горшым — неразуменьне), то гэта, безумоўна, ягонае стаўленьне да сьмерці як да сродку разьвязаньня ўсіх згаданых праблемаў — дакладней кажучы, самой Праблемы сьвету й ягонага ў ім існаваньня: *„Я не хачу чакаць таго часу, калі ты, Сьмерць, паклічаш мяне. Я сам іду да цябе, я ляту ў твае абоймы. Я зразумеў, што безь цябе жыць няможна. Як жыць курыцы зь яе мозгам, калі яна ведае, што існуе каршун, хітрэйшы за яе. Усякая курыца павінна была сама ляцець у твае абоймы, магутная Сьмерць. Яна гэтага ня робіць. Тым горш для яе. …Я ня клічу за сабой маіх братоў — людзей, маленькіх людзей вераб'інай пароды. Няхай яны жывуць… Няхай дыхаюць паветрам… Няхай хваляць сонца і прыклікаюць жыцьцё… Шчасьліва заставацца… І скажа мне прыгожая Сьмерць: „Мілы мой, любы. Бачу, ты шчыра пакахаў мяне*“[62].

Любоў да сьмерці… *„Вып'ем за маю сьмерць! Ну, падымай куфаль за духовую сьмерць Тугоўскага!*“[63] „Самагубства“ ў рамане — ці не найчасьцей ужыванае слова. Аднак раман цікавы сярод іншага тым, што ўвесь час трымае нас у напружаньні што да „канчатковых“ высноваў, існуе ў памежнай зоне між жыцьцём і сьмерцю, у пэрыяд „пасьля“ сьмерці духовай і „да“ сьмерці фізычнай. З аднаго боку, абгрунтава-

[60] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 243.
[61] Тамсама. С. 118.
[62] Тамсама. С. 121.
[63] Тамсама. С. 195.

насьць добраахвотнай сьмерці ёсьць для Тугоўскага (як і ўсё для таго ж Л. Клімы, пры палярна іншых аргумэнтах на карысьць гэткай абгрунтаванасьці) больш чым дастатковай, каб яе зьдзейсьніць: *„Кірыла Бурачэўскі памёр, ён адправіўся на вечны спачынак, але ці ня быў гэта самы найлепшы выхад з таго жыцьця, каторае прыводзіць людзей у тупік. Ён чуў, што прыйшоў у тупік, жахлівы, безнадзейны тупік, і так цяжка яму было адчуваць, што ён гіне, што ў яго няма будучыні, што больш у яго не засталося мэты, у імя чаго жыць і змагацца... Тады, ён пытаецца, для чаго яго пакута? Нашто добраахвотна мучыцца, калі гэта нікому не прыносіць карысьці? Кінуць нарэшце пакутаваць. Спачыць так, як спачыў Кірыла Бурачэўскі. Другога выхаду няма“*[64]. Пагатоў што „вялікі філёзаф Ніцшэ сказаў: *„Вы кажаце, што жыцьцё — бяссэнсіца? Правідлова! Так паспрабуйце скончыць гэту бяссэнсіцу!“*[65] З другога боку, пры ўсёй сваёй перакананасьці ў неабходнасьці добраахвотнай сьмерці герой Вальтара бачыць і адваротны бок рэчаў: ён зь недаверам ставіцца да ўсялякай ідэалёгіі, і ў гэтым выпадку — і да ўласна распрацаванай ідэалёгіі самагубства: *„Усё заставалася б, як цяпер, бо Тугоўскі быў маленькім, нікому непатрэбным вінцікам велізарнай машыны, і калі ён вываліўся — машына прадаўжалаісьці сваім ходам, нават ня ведаючы, ці быў такі вінцік. Як сьмешна! Застрэліцца! Страляюцца ці наогул канчаюць самагубствам з мэтай, каб зрабіць сваёй сьмерцю нешта жахотнае, нейкую дэманстрацыю, спадзеючыся, можа, хоць пасьля сьмерці знайсьці спачуваньне таго, каторы быў студзёным і жорсткім пры жыцьці. А які ж пратэст мог ён зрабіць сваім стрэлам у сэрца? Пратэст процiў таго, што ён маленькі, непатрэбны вінцік велізарнай машыны?“*[66] Як тут зноў не ўзгадаць памерлага ў часе Вальтарава знаходжаньня ў Празе Кафку, для якога, з аднаго боку, *„той, хто дзейнічае ў адпаведнасьці з спазнаньнем, ня можа ня зьнішчыць сябе“*, а з другога — *„ты, які ня здольны зрабіць самай звычайнай рэчы, задумаў зьдзейсьніць менавіта самагубства?“*[67]

То бок гаворка ў Вальтара (як і ў Кафкі й Клімы) вядзецца не пра *„ўвасобленае ў жыцьцё“* (наўрад ці тут дарэчы гэтае слова) рэальнае самагубства, а пра самагубства апасяродкаванае й адкладзенае, чыя

[64] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 223—224.

[65] Тамсама. С. 92.

[66] Тамсама. С. 228.

[67] Цыт. паводле: Calasso, Roberto. Kafka. S. 190.





ідэалёгія грунтуецца на барочным разуменьні таго, што ўсё жыцьцё ёсьць толькі адкладзенай сьмерцю, спосабам уміраньня (*vivo por que me muero*, як казалі гішпанскія містыкі), калі заўгодна — пра самагубства як Найвышэйшы й, магчыма, таму недасяжны Ідэал (гл. вышэй цытаванага Кафку). Парадаксальным чынам, ажыцьцявіць гэты ідэал, сярод іншага, азначала б... пазбавіцца гэтага (прынамсі нейкага) ідэалу. Як і пазбавіцца ўсяго астатняга, чаго насамрэч ня так і шкада — шкада сябе, як Чалавека Ідэалу, якім бы гэты ідэал ні быў... То бок для Тугоўскага важней марыць пра самагубства, чым канчаткова стаць самагубцам (шпэнглераўскае супрацьпастаўленьне *werden i sein* — гэтаксама як для Абдзіраловіча важней фармаваць, чымся с-фармаваць) — ці ўсьведамляе ён гэта да канца? І ці ўсьведамляе гэта ягоны аўтар? У выпадку героя, беручы да ўвагі ягонае далейшае разьвіцьцё, адказ гучыць — „не“, у выпадку аўтара — несумненна, „так“, іначай ён папросту не займаўся б літаратурай і апісаньнем мысьленьня патэнцыйнага самагубцы... Зноў-такі, калі ў сваю чаргу аддзяліць Аўтара раману ад канкрэтнага чалавека Віктара Вальтара (пра якога нам мала вядома й чыё імя я ўжываю паўсюль як сынонім функцыі „Аўтар“, калі заўгодна — у значаньні ягонага „Супэр-Эга“), то ў выпадку апошняга нельга ўжо быць такім пэўным (чалавек цягам жыцьця ёсьць усім, а ня толькі аўтарам раману) — аднак спэкуляваць наконт падабенства рэальнага чалавека з раманавым героем на падставе літаратурных тэкстаў ёсьць задачай можа й прывабнай, але не літаратурнай, а пагатоў не літаратуразнаўчай.

Такім чынам, у „ідэальнага самагубцы“ Тугоўскага, уласна, няма нутраной патрэбы ў ажыцьцяўленьні самагубства тут і цяпер — і тым ня менш, ён настолькі не сумняецца ў яго непазьбежнасьці, што ўжо цяпер лічыць сябе памерлым ці прынамсі асуджаным на сьмерць, як і „астральны чалавек“ альбо айцец Кірыла, толькі на сьмерць не ад цялеснай, а ад душэўнай хваробы (*„Сам я насіў на сваім твары пляму „плебей“, і таму як мне ня стаць у шэраг паніжаных і абражаных? Так, чалавеча, я звар’яцеў“*[68]). Тугоўскі хаця й называе сам сябе вар’ятам, але мусова ці рытарычна, усяго толькі пацьвярджаючы думку айца Кірылы — можна сказаць, што Тугоўскі лічыць сябе хворым не на галаву, а на Ідэал — празь немагчымасьць яго ажыцьцявіць ён абірае магчымасьць яго, так бы мовіць, „усьмерцявіць“. Гэты працэс ужо адбываецца і ўва ўяўленьні самога Тугоўскага тэарэтычна ўжо завяршыўся, што дапускае й айцец Кірыла:

[68] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 195.

*„Бываюць розныя выпадкі... Бывае, напрыклад, што чалавек памірае. Мала было ў іншых Грамадах выпадкаў, каб паміралі студэнты? Так уявіце сабе, што Тугоўскі памёр. Памёр для беларускай Грамады, і памяць нават па сабе ня кінуў. Уявілі — і ня будзем варушыць цені нябожчыка.*

*— Ты заўсёды ўсіх абараняеш, айцец Кірыла, — засьмяяўся Малевіч.*

*— Што? Перад тым, як чалавека абвінавачваць, трэба яго зразумець. Можа быць, каб мы маглі яго абвінавачваць...“*[69]

Парадаксальным чынам, калі жыцьцё перад вачыма патэнцыйнага самагубцы пераўтвараецца ў сьмерць, калі сьмерць робіцца галоўным і апошнім, *non plus ultra* сэнсам жыцьця, ягонай ідэалёгіяй, тады само ўміраньне, наадварот, бярэ на сябе шматлікія рысы жыцьця, стаецца стылем жыцьця альбо, калі заўгодна... спосабам выжываньня (міжволі згадваецца „Хагакурэ“ й Іпаліт Дастаеўскага). Калі жыцьцё ёсьць уміраньнем, то і... уміраньне ёсьць жыцьцём, а абраньне таго ці іншага спосабу ўміраньня ёсьць абраньнем таго ці іншага спосабу жыцьця.

З тэксту выплывае, што ўсе надзеі Тугоўскага на жыцьцё *„без ідэалу самагубства“* зьвязаныя для яго з Прагай і з магчымым ажыцьцяўленьнем іншага ідэалу, каханьня да Вярхоўскай (пра гэты „альтэрнатыўны ідэал“ мы пагаворым далей). А вось што да спосабаў *„жыцьця ў самагубстве“* (паводле аналёгіі з *„жыцьцём у праўдзе“*), то іх тэарэтычна можа быць вялікае мноства. Які зь іх абірае Тугоўскі? Напачатку — шлях распушчэньня ў натоўпе, шлях ананімнасьці й „аскезы Я“: *„А зараз я памёр: я кінуў вышэйшую школу, бо яна рыхтуе толькі кар’ерыстаў і лёкаяў для капіталістаў, да чаго калісьці заклікаў залатазубы прафэсар палітычнай эканоміі. Я кінуў прадмет каханьня, які таксама, мне здаецца, думае аб кар’еры і аб мужу-кар’ерысту. Я вырваў з болем сваё каханьне, кажу табе шчыра, айцец Кірыла, пакінуў у сваім сэрцы глыбокую рану, якая вечна застанецца са мной, пакуль будзе цячы кроў у жылах. Я памёр для гэтага сьвету, памёр для інтэлігенцыі, якая панясе эўрапейскую панскую культуру на Беларусь. Я сам сябе зажыва пахаваў у яму, каб ня стаў тым, каго болей усяго ненавіджу: інтэлігентам, якія ненавідзіць рабочых, бо яны сьмярдзяць. Ня ведаю, што такое творыцца са мной: можа быць, я вар’яцею, але я кахаю яго, чалавека паніжанага і абражанага“*[70].

[69] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 186.

[70] Тамсама. С. 194.





Найбольш цікавае пытаньне, наколькі шчырым ёсьць гэтае „каханьне“ Тугоўскага да „паніжанага й абражанага“ чалавека — ствараецца ўражаньне, што яно ёсьць толькі праявай каханьня да сябе й да ўласнага Ідэалу, да ідэалу самагубства. То бок і тут Тугоўскі ідзе далей за параду, атрыманую ў гэтым выпадку ад *„вялікага філёзафа Ніцшэ“*: ён марыць пра самагубства, у якім быў бы больш, чым проста асабісты, нейкі дадатковы ідэалягічны сэнс — каб яно было ўспрынятае як самаахвяраваньне. А каму ж яшчэ ахвяраваць сябе раманаваму герою, як не „прыніжаным і абражаным“ (у адрозьненьне ад іншага героя Вальтара, Лебядзька, які ў „Аднабочніках“ ахвяруе сябе каханьню)? *„Ён павінен застацца чэсным з сабой. І тады, можа быць, ён пакахае якую-небудзь сялянку. Хіба мала ёсьць прыгожых дзяўчат, на якіх не зьвяртаюць увагі „інтэлігенты“, асабліва тыя „інтэлігенты“, якія ствараюць Беларускую грамаду ў Празе? Ім патрэбны графіні, багатыя чэшкі, студэнткі, і ні адзін зь іх не падумае, што ёсьць тысячы прыгожых беларускіх сялянак, якія могуць быць прыгожымі жонкамі і добрымі гаспадынямі. Так, апрасьціцца! Скінуць зь сябе гэты горды і брыдкі ярлык „інтэлігента“, а стаць простым работнікам і мазолістай рукой тварыць сапраўдныя вартасьці. Так, не патрэбны яму болей гэты ўнівэрсытэт, і не патрэбна яму дачка папа Вярхоўскага! ...Выйсьці з гэтага сьвету з новым сэрцам, з новымі думкамі, выйсьці з гэтых шумных гарадоў, каб ніхто ня ведаў, дзе загінуў, як скончыў сваё карыснае жыцьцё Тугоўскі. Бывайце, блакітныя вочкі Вярхоўскай“*[71].

*„Загінуў, скончыў сваё карыснае жыцьцё...“* Як бачым, „карысны чалавек“ зусім не азначае „шчасьлівы чалавек“, насуперак меркаваньню шаноўнага А. Пашкевіча. Вяртаньне на бацькаўшчыну азначае для Тугоўскага нішто іншае, як спосаб самагубства — аднак самагубства з прысмакам самаахвяраваньня. Менавіта гэтак, у „латыскай глушы“, і ня меней „самаахвярна“ скончыў сам Вальтар, гэтак скончае герой „Аднабочкаў“ Лебядзёк, і гэтак марыць скончыць жыцьцё Тугоўскі.

### 5. „Наша шэрая, непрыгожая зямля“

Каб ахвяраваць сабой, трэба прынамсі прыблізна ведаць, дзеля чаго й дзеля каго ахвяруеш. Дык ці праўда, што *„нічога ў яго жыцьці не было такога, чаго ён мог чакаць, чым даражыць“*[72]? Хто яны,

[71] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 183.

[72] Тамсама. С. 249.

патэнцыйныя адрасаты ягонага ўчынку — суродзічы, землякі-беларусы? Ці трэба разумець „прыніжаных і абражаных“ шырэй, па-марксісцку? Што ж, разгледзім спачатку „патрыятызм“ Тугоўскага, ягонае разуменьне бацькаўшчыны й таго, што зь ёю зьвязана.

*„Няхай ветры пакоевай глушы сьпяваюць паніхіду па яго мінулым і па яго сучасным. У глушы родзіцца новы чалавек з новай верай, з новым сэрцам, родзіцца сапраўдны сын беларускага народу. Да новага жыцьця, разьвітаўшыся з усімі Вярхоўскімі, з усёй мяшчанскай Прагай!“*[73] *„Дык вып'ем за новага Тугоўскага! За новага чалавека, які пойдзе ў народ, каб самому стаць народам...“*[74]

Як бачым, самагубца-тэарэтык Тугоўскі вырашае яшчэ толькі СТАЦЬ сапраўдным сынам беларускага народу, у глушы нарадзіцца новым чалавекам з новай верай... Ці азначае гэта, што ён дагэтуль сапраўдным сынам беларускага народу ня быў? На карысьць такога адказу ў рамане ёсьць шмат сьведчаньняў — ад стаўленьня да *„беларускіх сялянак, якія могуць быць прыгожымі жонкамі і добрымі гаспадынямі“* (з другога боку: *„Скажы, калі ласка, ці сустракаў ты ўва ўсёй Беларусі хоць пару стройных жаночых ножак?“*[75]), — да стаўленьня да бальшыні беларускіх студэнтаў у Празе, зь ягонага гледзішча — „таўкачоў“ і кар'ерыстаў. Выглядае, што й беларусы яшчэ павінны СТАЦЬ чымсьці іншым, каб Тугоўскі іх палюбіў.

Наагул, „лапцюжная Беларусь“ — улюбёны (калі не адзіны ў рамане) эпітэт у дачыненьні бацькаўшчыны. *„Як бачыш, яшчэ боўтаюся ў Празе, хоць зьбіраўся ехаць <u>на Бацькаўшчыну ў якую-небудзь палескую глуш, далей ад праклятай культуры... Хоць да эскімосаў якіх-небудзь на паўночны полюс</u>* [вылучана намі. — ***М. Шч.***], *толькі б далей ад гэтых подлых масак, якія называюць сябе людзьмі. А цяпер вось жыву таксама сярод іх, стаў чорнаработнікам: нашу цэглы, мяшаю ванны на будынкі і ня думаю больш аб унівэрсытэце, аб нашых беларускіх кар'ерыстах і палітыцы“*[76]. Што да палітыкі, то ў Тугоўскага няма ніякіх канкрэтных зьвязаных з радзімай ідэалаў: *„Хай будзе на новай Бацькаўшчыне рабства. Ня страшна. «Рабства на сьвеце не зьнікае. Мяняюцца толькі яго формы»“*[77]. Пра бацькоў Тугоўскі гаво-

[73] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 189.
[74] Тамсама. С. 196.
[75] Тамсама. С. 103.
[76] Тамсама. С. 221.
[77] Тамсама. С. 118.





рыць збольшага з спачуваньнем, аднак і тут прабіваюцца крытычныя ноткі: *„Няхай нават рушыцца маленькае шчасьце, так бы мовіць, эгаістычнае, прыватнае шчасьце старых“*[78]. Заўважым, што ў нарысе „Лесьнікова сена“ Вальтар яшчэ больш небясьпечна набліжаецца да зьдзеклівай крытыкі сялянаў, якая нагадвае напісаны гадоў на дзесяць раней верш чэскага паэта й анархіста Францішка Гелнэра „Прывітаньне роднаму краю“, што заканчваецца сьмяротным прысудам: *„І ўдзячна родныя два мэтры сваімі трупамі ўгнаяць...“*

*„Мне здаецца, гэта ня вецер шуміць, гэта іграе віялянчэліст „Песьню трубадура“ Чайкоўскага, — сказаў Тугоўскі. Ён успомніў Бацькаўшчыну, успомніў, як на адным канцэрце прафэсар кансэрваторыі калісьці іграў „Песьню трубадура“. Успомніў, што тады ў гэтых гуках віялянчэлі яму пачуўся чалавечы голас, і яму здалося, што сыплюцца лісты, агаляюцца дрэвы, з кожным новым акордам апускаюцца рукі...“*[79] Вось што такое для Тугоўскага бацькаўшчына — успамін пра прыгожую, але зусім ня радасную мэлёдыю (нездарма ён плача на канцэрце беларускага хору пры выкананьні народных песень). *„Песьня... панеслася далей у чужое ёй чэскае паветра. Чулася, што разам зь песьняй падымаліся думы сьпевакоў і несьліся на далёкую Бацькаўшчыну, у далёкае мінулае...“*[80] Але трэба аддаць герою (і аўтару) належнае: выказваньне *„Наша шэрая, непрыгожая зямля“*[81] тычыцца нават не Беларусі, а ўсяе плянэты... Беларусь ёсьць толькі прыватным (і найлепей вядомым Тугоўскаму, як і Вальтару) выпадкам шэрасьці й непрыгажосьці.

*„Ён глянуў на сваіх землякоў. Яны запісвалі кожнае слова прафэсара, як фанограф запісвае гукі, нічколькі не задумваючыся над іх зьместам. Яны не маглі ці не хацелі глыбей спыніцца над тымі словамі, якія патокам ліліся ў іх маладыя сялянскія мазгі атрутай. Можа быць, яны былі згодны з прафэсарам? Недарма казалі пра аднаго студэнта з Прагі, які, заехаўшы да бацькі-селяніна, ня мог апрануць кажуха. „Сьмярдзіць“, — казаў ён сярдзіта“*[82].

Беларускія студэнты ў рамане не вызначаюцца ня толькі асаблівымі інтэлектуальнымі, але й маральнымі якасьцямі. Напрыклад, вось

[78] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 88.
[79] Тамсама. С. 109.
[80] Тамсама. С. 135.
[81] Тамсама. С. 99.
[82] Тамсама. С. 164.

як Бурак (які сам жыве за кошт сваёй каханкі-графіні) тлумачыць факт адмовы Тугоўскага ад стыпэндыі:

*„Я думаю, грамадзяне, што Тугоўскі зрабіў вельмі хітра: усё роўна вясной, пры праверцы экзамэнаў, яго маглі б прагнаць са стыпэндыі. А так, калі ён адмовіўся ад стыпэндыі дабравольна, яму па закону павінны былі выдаць наперад за месяц. Палітыка!*

*Усе прысутныя засьмяяліся і паглядзелі на Бурака.*

*— Сапраўды, так магло быць... Хітрыя беларусы, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Новую рысу характару адкрылі мы ў Празе“*[83].

Тамашэвіч (ці, слушней, сам Вальтар) іранічна абарочвае словы Бурака супраць яго самога, сквапнага да грошай і няздольнага да разуменьня ідэалістычных матываў чалавека — але не спыняецца на гэтым і распаўсюджвае ягоную выснову на ўсю грамаду,ператвараючы адзіночны лік у множны.

У апісаньні беларускіх палітычных і грамадзкіх дзеячаў Вальтар таксама не ашчаджае цынізму. На падставе ягоных характарыстык можна скласьці „асабістае дасье“ пэўных гістарычных асобаў; напрыклад, Янкі Станкевіча:

*„Ведаеце што? — прапанаваў Станкевіч. — Вы падайце заявы і папрасіце дапамогі. Я думаю, што вам якія-небудзь сумы адпусьцяць і ўлаштуюць на стыпэндыю.*

*— Мы пісалі ўжо, — і ніякай карысьці.*

*— Пішыце яшчэ раз. Стукайце часьцей, і адчыняць вам.*

*— Відаць адразу, што вучыўся ў духоўнай сэмінарыі, — насьмешліва паглядзеў на Станкевіча Загорскі. Яму было прыемна бачыць блішчэўшыя бясьсільным злобным агнём вочы Станкевіча. Загорскі ведаў, што Станкевіч нічога ня можа яму зрабіць, нягледзячы на свае ўплывы“*[84].

Вобраз Тамашэвіча (Тамаша Грыба) варты асобнай гаворкі. Стаўленьне галоўнага героя да Тамашэвіча ёсьць адпачатна іранічным: *„Падняўся студэнт Тамашэвіч. Ён паправіў свае доўгія „філязофскія“ валасы на галаве, кашлянуў і пачаў. Усе ведалі, што ён пачне доўгую прамову, бо ведалі, што ён умее гутарыць, як былы міністар унутраных спраў ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Загорскі шапнуў Вярхоўскай па-руску, глянуўшы на Тамашэвіча: «Всегда восторженная речь и кудри черные до плеч...»“*[85]. Ужо сам факт, што Тамашэвіч прыраўняны да альтэр-эга Тугоўскага, Загорскага, даволі красамоўна сьведчыць пра ягонае ўспрыманьне героем: *„Яны вельмі падобны адзін на аднаго: Тамашэвіч, напрыклад, беларуская рэвалюцыйная балалайка... А Загорскі грае на скрыпцы... і на жаночым сэрцы... Як бачыце, абодва музыканты, і абодва вам падабаюцца“*[86]. *„А ў гэты момант Тамашэвіч думаў зьдзівіць Прагу: ён чытаў толькі беларускія казкі. Тугоўскі мала слухаў яго чытаньне... „Хутчэй бы скончыў, — падумаў, гледзячы на яго, незадаволены Тугоўскі. — Сапраўды —«беларуская балалайка»“, — успомніў ён словы айца Кірылы. Тамашэвіч, нарэшце, скончыў. Вярхоўская вітала яго воплескамі, але відалася, што яна была зусім абыякавай да выступу Тамашэвіча“*[87].

А вось міністар „Случанін“ (у сапраўднасьці — Уладзімер Пракулевіч, 1887—1938, які браў удзел у Слуцкім паўстаньні, займаў розныя пасады ва ўрадзе БНР, вярнуўся ў БССР і быў рэпрэсаваны ў 1930 г.): *„Міністар Случанін, былы міравы судзьдзя, герой тамтэйшага Слуцкага паўстаньня, быў вельмі падобны да Сабакевіча. Ці паядаў яго літаратурны сабрат ледзь ня цэлы бок барана адразу, невядома, але памераў ён быў настолькі велізарных, што выклікаў зьдзіўленьне. Здавалася, з такой велізарнай грудной клеткі, як у яго, павінен быў вырвацца голас, што зь ерыхонскай трубы, ад якога павіннываліцца сьцены і ў страху дрыжаць людзі. А між тым, калі на пяцігодках усьвяткаваньня памяці абвяшчэньня незалежнай Беларусі выступіў з дакладам аб Слуцкім паўстаньні, апавядаючы, колькі было ў паўстанцаў кулямётаў, колькі стрэльбаў, колькі жаўнераў, — ён казаў такім нявінным тоненькім дыскантам, што ўсім стала сьмешна. „I як такога мядзьведзя, — усьміхаўся Тугоўскі, — ні адна куля не зачапіла“. Што было ня менш дзіўна і прымушала Тугоўскага заўсёды сьмяяцца ў душы, гэта тое, што ў гэтага мядзьведзя была вельмі прыгожая і досыць маладая жонка, таленавітая артыстка і арганізатарша беларускіх тэатраў. Як яна жыла з такім мужам, як ёй было сорамна праходзіць зь ім разам на якіх-небудзь балях ці дакладах паміж цікаўнага натоўпу і як магла проста сужыцца зь ім, як яна магла дастаць хоць бы пацалаваць яго, гэта было загадкай для ўсіх. Тут можна было даваць поўную волю сваёй фантазіі... Пакой быў вялікі, у поўным ранішнім беспарадку. Герой слуцкі ляжаў у пасьцелі бясформеннай велізарнай масай і пільна глядзеў на ўвайшоўшага...*

[83] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 187.

[84] Тамсама. С. 106.

[85] Тамсама. С. 132.

[86] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 216.

[87] Тамсама. С. 179—180.

*Тугоўскі ўстаў, падаў руку міністру, прычым той так павярнуўся, што пасьцель трэснула і ледзь не разваліласся пад ім, падышоў да ручкі жонкі і весела выйшаў з пакою... У гэты момант увайшоў, пыхкаючы, як паравоз-машына, міністар Случанін...*“[88]

А вось ніхто іншы, як Пётра Крэчэўскі: „*Пакой Крэчэўскага быў вельмі дэмакратычны, зусім не падобны да міністэрскага. На ўсіх крэслах, пасьцелі, сталах ляжалі велізарныя кіпы газэт і часопісаў, болей усяго „Савецкай Беларусі“. Тутсама на маленькай плітцы яго жонка пякла бліны. Стары сядзеў за кіпай газэт і чытаў ці пісаў вершы пад трэскат пліты. Гледзячы на гэты пакой, на згорбленага аслабелага старога, Тугоўскі яшчэ раз успомніў: «Гэта хутчэй Афанасій Іванавіч Таўстагуб, чым тварэц усёй палітычнай беларускай справы ў Празе»*“[89]. „*Старшыня Рады БНР Крэчэўскі насіўся па залі, патрасаючы сваёй біблейскай барадой. Міністры Заяц і Случанін з жонкай разгублена азіраліся па баках і сарамліва ўсьміхаліся знаёмым*“[90].

„*Стары Крэчэўскі сканфужана ўзьлез на сцэну і, відаць, хвалюючыся, што атрымаў слова першым, пачаў:*

*— Буду гутарыць менш за ўсіх, таму што паважаны дакладчык менш усяго гутарыў аб беларусах. На працягу сваёй гісторыі мы чулі на сабе цяжкую руку Масквы, зьнішчыўшую нашу культуру. А між тым, гэта культура была ў той час, як Масква пачыналася, і ў Полацку ўжо была гімназія, і з Полацку адпраўляліся маладыя людзі вучыцца за граніцу. Масква зьнішчыла ўсё, у 1859 годзе было забаронена друкаваць беларускія кнігі... Крэчэўскі адным вокам усё пагляд-ваў на Мілюкова, быццам баяўся, што той зараз выступіць з абвяржэньнем прыведзеных ім фактаў. Але Мілюкоў толькі спакойна запісваў усё ў сваю кніжку*“[91].

Беларускія студэнты „не адстаюць“ ад беларускіх міністраў ні ў чым:

„*Чэснасьць... — пакруціў галавой Малевіч і зачасьціў размову. — Дык з боку чэснасьці атрыманьне намі стыпэндыі з камітэту ад чэскага народу, можа быць, таксама нячэсна. Што мы, скажыце, зрабілі для яго? Ды што мы... Вунь беларускія міністры атрымліваюць палітычную стыпэндыю, сядзяць у найлепшых чэскіх кафэ, п'юць каву і гуляюць у шахматы. Гэта таксама, па-твойму, нячэсна?*

[88] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 229—231.

[89] Тамсама. С. 232.

[90] Тамсама. С. 250.

[91] Тамсама. С. 251.





*— Нячэсна! — адказаў Кірыла.*

*— Ну, што і трэба даказаць, — засьмяяўся Малевіч сьмехам пераможцы, горда гледзячы на натоўп. Але натоўп не сьмяяўся. Па яго сур'ёзных бліскучых паглядах відаць было, што ён больш стаіць на баку свайго любімага Кірылы*“[92].

А вось некалькі больш агульных характарыстык:

„*Як дзіўна створаны гэтыя людзі! Яны мяняюць свае адносіны залежна ад посьпеху чалавека. Яны лашчацца, яны каля яго, пакуль грыміць слава, пакуль чалавек ідзе ўгару і высока нясе сваё імя, але трэба яму крыху спатыкнуцца, як усе пакідаюць яго, і чалавек застаецца адзін. Як брыдка, што ўсе гэтыя <u>маленькія людзі</u>* [вылучана намі. — **М. Шч.**], *усе гэтыя тэхнікі Жукі, Буракі, Малевічы ставяць сябе вышэй за яго, зь нейкім пачуцьцём першынства, сьмеючыся, падаюць яму руку:*

*— Здароў, Тугоўскі! Ну, што ты цяпер: ні Богу сьвечка, ні чорту качарга?*

*Эх, хацелася б яму кінуць у іх вочы ганебны крык з горыччу і злосьцю, але ён прымушаны маўчаць, ён прымушаны цярпець іх насьмешкі*“[93].

„*Значыць, тады і ўсе нашыя студэнты ў Празе, — не адказваючы проста на пытаньне Тамашэвіча, зазначыў Тугоўскі, — таксама інтэлігенцыя? Кінь, дзядзька Тамаш...*“[94]

„*Хто выйдзе прарокам з нашага праскага Назарэту? Я думаю — ніхто. Большасьць з нас пакладзе свае косьці на чужыне, меншасьць будзе стыдацца апранацца ў бацькавы кажух, бо ён сьмярдзіць. Так пройдзем мы, пражане, па сьвеце, як пыл, — не нацешыўшы нікога ні сваім росквітам, ні сваёй моцай, толькі жаласьцю ці праклядцьмі*“[95].

Як пасьля ўсіх гэтых прыкладаў не прыгадаць мімаходзь кінутага на ранейшых старонках раману выразу „*згубіўшы веру ў чалавека*“... Як бачым, няма ў Тугоўскага ані веры ў „граматду“:

„*«Моцны той, хто адзін», казаў філёзаф, — зазначыў Тугоўскі. — Мне здаецца, грамада ня можа тварыць індывідуальнасьць.*

*— Правідлова. Адна грамада ня створыць індывідуальнасьці. Калектыў часта прыгнятае адзінку, але трэба прызнаць, што без грамады таксама ня можа быць разьвіцьця адзінкі. Рабінзоны Круза аджылі свой век.*

[92] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 152.

[93] Тамсама. С. 212.

[94] Тамсама. С. 213.

*— Потым, ня ўсякая грамада можа навучыць чаму-небудзь. Сапраўды, наша праская Грамада можа навучыць толькі гуляць у карты, п'янстваваць і рабіць кар'еру.*

*— Юпітэр, ты злуесься, значыць, ты ня правы, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Адкуль такія чорныя фарбы, даражэнькі? Наша моладзь ня горш усякай іншай моладзі. Ёсьць тыпы адмоўныя, безумоўна, але ёсьць і дадатныя.*

*Тамашэвіч спрачаўся менш упарта. Ён бачыў, што Тугоўскі мае нейкую сваю думку і ня хоча зь ім падзяліцца. Тугоўскі затое наўмысьля хацеў быць упартым — хоць у душы шмат згаджаўся з Тамашэвічам.*

*— І ўсё ж такі ня ў гэтым справа, — прадаўжаў Тамашэвіч, — справа ня ў нашай Грамадзе. Справа ў грамадзе наогул. Нашто табе наша Грамада? Калі ты чуеш сябе настолькі вышэй за нашую Грамаду, што можаш кідаць яе, дык маеш магчымасьць знайсьці Грамаду іншую, чэскую, напрыклад, баўгарскую, украінскую...“*[96]

Сапраўды, беларуская грамада ёсьць толькі прыватным выпадкам грамады, таму крытыка нацыянальнага характару ёсьць толькі прыватным выпадкам крытыкі людзей і іхнай сутнасьці, пра якую (то бок — любоў да дыплёмаў, чыноў і кар'еры) мы ўжо казалі вышэй. Індывідуаліст Тугоўскі зацята бароніцца ад зацягваньня ў любую грамадзкую справу не таму, што яна „беларуская“, а таму, што яна „грамадзкая“:

*„Нягледзячы ні на якія грамадзкія арганізацыі, справы, хаўрусы, — у кожнага чалавека ёсьць куток свайго „я“, цёмны куток, куды ніхто не заглядвае. Чым больш чалавек нешчасьлівы — тым больш ён адчувае адзіноту, тым больш ён бачыць, што грамадзкія арганізацыі — пусты гук, простая фікцыя! Але ён ня хоча быць адзінокі, ён ня хоча быць нешчасьлівы“*[97].

На такое стаўленьне Тугоўскага да беларускай грамады грамада гэтая (за выключэньнем старога Крэчэўскага) адказвае „ўзаемнасьцю“:

*„Ёсьць тут у нашай Грамадзе чалавек па прозьвішчы Тугоўскі. — Ён паморшчыўся. — Вы мо ня ведаеце? Не?*

*Вярхоўская паківала адмоўна галавой.*

*— Кажуць, што ён дзесьці загінуў, што яго ўжо няма ў Празе. Ён нідзе не паказваецца, ніколі не бывае ў Студэнцкім доме, словам — прапаў чалавек і толькі... Я вельмі хацеў ведаць, што зь ім, бо яму якраз цяпер з вамі выпісана стыпэндыя“*[98].

*„Ведаеш, цябе шукаюць у Празе. Не паліцыя, не, а Беларуская грамада ў Празе. Ніхто ня мог мне сказаць, дзе ты. Я толькі выпадкова цябе знайшоў...*

*— Ня трэба было знаходзіць, — сярдзіта сказаў Тугоўскі. — Я яшчэ нічога ні ў каго ня ўкраў, каб мяне шукалі... Я не прашу дабра ў людзей, — прадоўжыў Тугоўскі. — Я ні ў каго нічога не прашу. Калі я й загіну ў жыцьці, дык загіну... Ад гэтага нікому ня будзе ні студзёна, ні горача. Я прашу пакінуць мяне ў супакоі. Мне ўжо абрыдла людзкая ўвага. Я ведаю цану людзкому спачуваньню“*[99].

### 6. Адзіна магчымы сюжэт. „Экспэрымэнт“

Як бачым, Тугоўскі ёсьць ня проста „паэтам“, але й даволі сфармаваным паводле свайго сьветапогляду маладым чалавекам — менавіта гэтая залішняя канчатковасьць ягоных высноваў не дае яму магчымасьці знайсьці паразуменьне з сваімі суродзічамі. Аднак пабудаваць на супрацьстаяньні асобы й грамады магчыма ідэалёгію героя — але, бадай, не сюжэт раману. Гадар, здаецца, казаў, што для таго, каб зрабіць кіно, дастаткова жанчыны й пісталета — падобным мінімалісцкім шляхам „найменшага супраціву“ ідзе ў пабудове раману й Вальтар. Ён дае свайму герою яшчэ адну (натуральна, фальшывую, у поўнай адпаведнасьці з Арыстотэлеўскімі законамі драматычнай дзеі) надзею адшукаць сэнс жыцьця — прымушае яго зрабіць памылку, усьведамленьне якой у канцы раману прывядзе яго да „прасьвятленьня“ й спазнаньня праўды.

*„«Жанчына...» — ён разгладжваў маршчыны на сваім шырокім чале. Пры адным слове, пры адным гэтым слове яго душу, яго сэрца напаўнялі парфумы і мімаволі вусны складаліся для сьмеху. Ён любіў, можа быць, ня сам цялесны вобраз, а свой вобраз у гэтай жанчыне. Ён любіў у ёй сваю мару, свой ідэал. Нарэшце ён спаткаў свой ідэал. Быццам казачны прынц, які гуляў па садзе, нарэшце пабачыў кветку, якая прыветліва хіліла перад ім сваю пышную галоўку. Ён нахіліўся над гэтай кветкай, каб яе панюхаць. А што ж будзе пасьля?..“*[100] *„Ён*

[95] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 216.
[96] Тамсама. С. 213—214.
[97] Тамсама. С. 175.

[98] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 107—108.
[99] Тамсама. С. 122—123.
[100] Тамсама. С. 146—147.

*ішоў і бачыў, як усё жыцьцё начной Прагі круцілася каля аднаго цэнтру — жанчыны. Усе дбалі аб ёй, усе ішлі зь ёй, усе шукалі яе. Ён зноў пачуў сябе адзінокім...“*[101]

Гэтай памылкай ёсьць нішто іншае, як каханьне да Вярхоўскай — „Маргарыты“ Тугоўскага. У ролі Мэфістофэля выступае (а як жа іначай) айцец Кірыла: *„Я цябе пазнаёмлю з паненкай. Дзіўная паненка, каб ты ведаў... Нядаўна толькі прыехала. Усе студэнты перасталі з-за яе вучыцца, далібог. Толькі й ходзяць да яе ў Студэнцкі дом фліртаваць. Яна якраз вельмі хоча з табой пазнаёміцца. Яна выганіць зь цябе ўсякую нэўрастэнію! Вылечыць з гарантыяй. У такіх выпадках, як у цябе, калі ня хочацца ні піць, ні есьці, адзінае лякарства — жанчына. Захочаш і піць, і есьці...“*[102] Менавіта гэты момант ёсьць паваротным пунктам сюжэту — фактычна, калі б не было гэтага „раману“ з жанчынай, не было б і раману як такога, гэтаксама ж як і ў „Аднабочніках“.

Аднак сам Вальтараў герой нібыта ўсьведамляе ўласную „раманавасьць“, адпачатна стаўячыся да гэтага аўтаравага праекту больш чым скептычна: *„І цяпер яго ўласнае жыцьцё стала ня больш, як толькі праверкай тэорыі. Ён згубіў ужо тую непасрэднасьць пачуцьцяў, тую жывасьць адчуваньняў, якая бывае ў жывога, зацікаўленага жыцьцём чалавека; другімі словамі, ён глядзеў на жыцьцё, як дасьледчык глядзіць на марскую сьвінку, робячы над ёй розныя апэрацыі. Яго не цікавіць самая сьвінка, яе пачуцьці, радасьці і болі, а цікавіць, як адпраўляюцца функцыі яе органаў згодна ягонай тэорыі... „Што ж, — думаў Тугоўскі. — Я магу яшчэ жыць. Пагляджім, ці спраўдзіцца тэорыя аб «роджаных пад Сатурнам»“. І ён адклаў часова набок увесь сум „тэорыі“ і стаў жыць, Кірыла Бурачэўскі „ўводзіў“ яго ў грамадзянства. За гэтыя часы свайго жыцьця ў альтане Тугоўскі адвык ад людзей і таму трымаў сябе вельмі няпэўна ў Студэнцкім доме: яму здавалася, што рукі ў яго былі задоўгія, ногі вельмі крывыя і сьмешныя, і сам ён паходзіў на коміка, прывезенага зь вёскі“*[103]. Як бачым, Тугоўскі часова забываецца пра свае „сатурнаўскія“ тэорыі, але толькі дзеля таго, каб з дапамогаю экспэрымэнту спраўдзіць іхную слушнасьць ці няслушнасьць. Невыпадкова, што „Маргарыта“ зьяўляецца на даляглядзе пэрыядычна, каб „падштурхнуць дзею“ ці, слушней, адтэрмінаваць канец героя менавіта тады, калі Тугоўскі зноў і зноў схіляецца да пацьверджаньня сваіх поглядаў і ўжо зьбіраецца паслухацца парады „астральнага чалавека“ ды пайсьці шляхам самога Вальтара, паспрабаваць адшукаць спакою ў „глушы“:

*„Добрая рэч паставіць сабе адно ці тысячы самых добрых заданьняў, але пытаньне — як іх дасягнуць. І потым, я ня ведаю, чым гэта растлумачыць, я ня бачу ніякага задаваленьня ад таго, што я іх дасягну. Я ўдасканалюся па тваім рэцэпце — магу скончыць вышэйшую тэхнічную школу. Нарэшце, гэтага можна дасягнуць. Людзі нават бяз здольнасьцяў могуць скончыць курс 8-мі гадоў. Так, дапусьцім, што я стану інжынэрам. Я шукаю спакою: правінцыі, палескай глушы.*

*— Сну, паспаць хочацца? — засьмяяўся Тамашэвіч. — Тады, брат, нічога ня зробіш. Тады, можа быць, табе сапраўды трэба чароўнай Маргарыты... А вось і яна, Маргарыта...*

*Да іх падыходзіла Вярхоўская.*

*— Лёгкая на ўспамін, — жартаваў Тамашэвіч, — а мы толькі што гутарылі аб Маргарыце і аб Фаўсьце“*[104].

Вынік экспэрымэнту неаднаразова прадбачваецца Тугоўскім (*„Цяпер [не] захоча жыць толькі для экспэрымэнту... Скончана. Ён ведае, што такім людзям няма мейсца на зямлі. Ім ня варта жыць, у іх няма мэты, для якой варта жыць. І рашуча пастанавіў у гэтую ноч застрэліцца“*[105]), аднак да апошняга моманту амаль містычныя зьяўленьні Вярхоўскай замінаюць яму ў зьдзяйсьненьні ягонага намеру. *„Ён усьміхнуўся. „Быццам насьмешка чыясьці нада мной, — падумаў. — Трэба камусьці падаслаць яе з надзеяй“... Нейкі Мэфістофэль дражніў яго, як бясьсільнага старога Фаўста, прыгожым вобразам Маргарыты-Вярхоўскай. Мілая, вясёлая жанчына. Колькі жыцьця ў ёй, яно б'е крыніцай. І як сьпяшалася яна паведаміць яму — і дапамагчы, чым магла. Урэшце, яна не такая дрэнная, як здалося яму пасьля таго выпадку, яна вельмі сардэчная асоба — не пасаромелася падаць яму руку нават зараз, калі ён сапраўды выглядаў як бадзяга. Няўжо ж ён застрэліцца, ня выкарыстаўшы тых надзей, якія яна адчыняла яму, няўжо ён будзе легкадумам і ня выкарыстае ўсіх магчымасьцяў у жыцьці да канца?“*[106]

Можна сказаць, што сам раман ёсьць у значнай ступені экспэрымэнтам ня толькі ў сюжэтным, але й глыбейшым, філязофскім пляне:

[101] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 197.

[102] Тамсама. С. 125.

[103] Тамсама. С. 126.

[104] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 214.

[105] Тамсама. С. 226.

[106] Тамсама. С. 227—228.

аўтар імкнецца спраўдзіць, як доўга здольны „выжываць“ пры такіх максымалісцкіх поглядах ягоны герой, і ці здолее сам пісьменьнік пераканаць чытача ў праве героя на такія погляды, ці здолее падаць дастаткова доказаў абгрунтаванасьці ягонага расчараваньня ў жыцьці. Ролю аднаго з такіх доказаў і адыграе ў рамане гісторыя няшчаснага каханьня Тугоўскага да Вярхоўскай.

Ідэалістычнае (ці, кажучы словамі айца Кірылы, „паэтычнае“) стаўленьне галоўнага героя да Вярхоўскай абгрунтаванае ў тым ліку й ягонай нутраной патрэбай у ідэале, „альтэрнатыўным“ да самагубчага: *„Так... Так... Вы пратэстуеце... процій праўды... Можаце... — Ён працягваў: — Я, грамадзяне, пэўны, што толькі сьвядомая жанчына выхавае сьвядомага беларуса, што толькі з малаком маткі ўвальецца ў кроў сьвядомасьць тых, хто пойдзе за лапцюжную Беларусь. Ніякай агітацыяй мы не даб’ёмся таго, чаго можа дабіцца сьвядомая беларуска ў сям’і, не даб’ёмся тых уплываў, якія яна можа зрабіць на мужчыну. Будзе ў нас сьвядомая жанчына — будзе і беларускі рух“*[107]. Аднак іронія ў тым, што, як і Лебядзёк на пачатку „Аднабочнікаў“, Тугоўскі выказвае гэтыя думкі ў п’яным стане, хіба толькі ў адрозьненьне ад Лебядзька ідэалізуе ня ўсіх жанчын, а канкрэтную прысутную жанчыну, якую ён кахае („малако маткі“, відаць, прызначанае для іхнага будучага дзіцяці) і якая здаецца яму выключэньнем з агульнага шэрагу. Няма дзіва, што гэтаксама, як і „Аднабочнікі“, „Роджаныя пад Сатурнам“ ёсьць праграмовым абвяржэньнем такога ідэалістычнага стаўленьня да жанчыны.

Што, уласна, дае Вярхоўскай аб’ектыўныя падставы выступаць у якасьці „Маргарыты“ ў жыцьці Тугоўскага? Перадусім, тое, што:

*„...гэта прыгожая жанчына мае яшчэ мазгі Саламона. Ведаеш, такую бы пацалаваць раз — і памерці.*

*— Ого, ужо інакш гутарыш. Я казаў, што дам добрае лякарства. Ну што, вылечыць?*

*— Так, брат. Сёньня я першы раз пакаштаваў гэтае лякарства, адну кроплю толькі, але думаю, што вылечыць.*

*— Ну вось... Я так думаў. Цяпер бы толькі як-небудзь яе заманіць да нас на кватэру, каб бліжэй зь ёй пазнаёміцца... Інтымна, хе-хе, — засьмяяўся Кірыла“*[108].

Мэфістофэльскі сьмех айца Кірылы нагадвае адну байку ягонага аднадумцы Кандрата Крапівы, дзе з плебейскіх пазыцыяў „здаровага

[107] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 135.
[108] Тамсама. С. 129.





сэнсу“ высьмейваецца няздольны да жанячкі інтэлігент, які спачатку мусіць вывучыць прадмет свайго зацікаўленьня ў кніжках. Вось жа менавіта цікавасьць да кніжак, як спадзяецца Тугоўскі, здольная зьяднаць яго зь Вярхоўскай, вылучыць іх абаіх з агульнага статку. (*„Трэба зазначыць, што я вырасла і мой ідэал аформіўся ўжо ў часе рэвалюцыі. Я вырасла на кнігах Пісарава, Чарнышэўскага, Маркса“*[109]) Толькі яна, як яму здаецца, здольная зразумець ягоную папярэдне адкінутую (выключна дзеля экспэрымэнту) тэорыю пра *„роджаных пад Сатурнам“* — але ў сапраўднасьці Тугоўскі ня хоча й ня можа ад яе канчаткова адмовіцца, бо для яго, як для чалавека ідэйнага, гэта азначала б адмаўленьне ад уласнага „Я“:

*„Доўга, больш паўгадзіны, ён разьвіваў перад ёй сваю тэорыю „роджаных пад Сатурнам“. Каб паказаць сябе вучоным, ён ужываў розныя астранамічныя тэрміны і назовы зор. Яна слухала яго ўважна, час ад часу павяртаючы свой прыгожы твар у яго бок, асьвячаючы яго пытлівым сінім агнём сваіх вачэй. Яна горда запратэставала, як толькі ён скончыў.*

*— Ваша тэорыя, — прамовіла яна, — здаецца мне тэорыяй чалавека, які чуе сябе страшэнна змучаным, кінуў вёслы і думае плыць па цячэньні. „Няхай будзе так, як будзе“, — у гэтым ваша тэорыя. У гэтым істота і фаталізму. А гэта не правільлова. Трэба жыць процій цячэньня: „Проці цячэньня вады зможа толькі жывое паплыць“, — у Багдановіча.*

*...Тугоўскі ўспомніў пра Максіма Багдановіча. Размова перайшла на яго жыцьцё і выдатныя творы.*

*— Мне здаецца, калі ўважна ўдумацца ў яго жыцьцё, яно было нешчасьлівае, — сказаў на разьвітаньне Тугоўскі. — І я думаю, што ён, напэўна, радзіўся пад Сатурнам...*

*— У вас усе радзіліся, напэўна, пад Сатурнам.*

*— Чаму? Не... Талстой, напрыклад, радзіўся пад Сонцам. І таму жыцьцё яго было сапраўды сонечнае. А вось Дастаеўскі радзіўся пад Сатурнам. І таму жыцьцё яго было сапраўды жахлівае. Катарга, потым падучая хвароба, матэрыяльныя турботы. Што можа быць горш за гэта, скажыце?..“*[110]

Тугоўскі спадзяецца, што Вярхоўская — *„філязофка і шмат можа яму дапамагчы ў разьвязваньні таго вузла, які так непрыемна завязаўся“*[111]:

[109] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 253.
[110] Тамсама. С. 128.
[111] Тамсама. С. 167.

*„Ён запісваў у штодзёньніку той дзень, калі яна гутарыла зь ім даўжэй на якія-небудзь літаратурныя ці філязофскія тэмы... Ён мог бы напісаць ёй, што кахае яе за яе погляды, за яе „сьвецкасьць“, за тое, што ў яе яшчэ ёсьць ідэалы і яна гарыць чымсьці вышэйшым, ня так, як іншыя жанчыны, якія ўяўляюць зь сябе толькі, кажучы груба, кавалак мяса, якому мейсца толькі на кухні...*

*„Прывет вам і паклон, сьвядомыя жанчыны!.. — так пісаў ён у сваім штодзёньніку. — Як кахаю вас!..“ — І ўсё-ткі пісаць гэтага Вярхоўскай не адважыўся. Ён чакаў. Ён толькі сачыў за яе рукамі, і сэрца яго лавіла яе лёгкую паходку і білася ў такт яе крокаў“*[112].

## 7. Палітыка цела

Несумненна, той факт, што „Маргарыта“ вырасла на Марксе, прываблівае героя ня толькі інтэлектуальна. *„Тугоўскі быў на сёмым небе. Ён усю дарогу чуў яе пах, ён бачыў перад сабой дзіўныя глыбокія сінія вочы... Ён сапраўды пачуў, што пачынае ажываць і нейкая бадзёрасьць ахоплівае яго“*[113]. Пагаджуся, што раман ёсьць у тым ліку гісторыяй „залішне спарадычнага“ станаўленьня Тугоўскага як мужчыны — таму з пэўнай іроніяй можна было б назваць яго „Більдунгсраманам“, толькі не дыдактычным, а эратычным.

Наагул, што да эротыкі, то Вальтар тут ёсьць адным з найбольш „адкрытых“ аўтараў у межах магчымасьцяў тагачаснай беларускай літаратуры — упоравень з Багдановічам, адным зь „першапраходцаў“ тэмы (чые стасункі з жанчынамі, прызнаймася, таксама не зусім адпавядалі сёньняшнім уяўленьням пра „эротыку“). Тугоўскі адкрывае для сябе гэтую тэму, што называецца, „з чыстага аркуша“, будучы абсалютна недасьведчаным і цнатлівым у полавых пытаньнях чалавекам, калі верыць шматлікім аўтаравым напамінкам:

*„Ну скажы, Тугоўскі, што б ты рабіў, каб у цябе была дзяўчына? Ты, напэўна, ня ведаў бы, што рабіць?*

*Усе засьмяяліся.*

*...І тут ён ня меў спакою ад жанчын, і тут толькі гутарылі аб іх. Але як брыдка, як нізка ставілі тут жанчыну, якую нявольніцу сваёй похаці рабілі яны зь яе. Проста жахліва! Як далёкі ён ад таго, што ведалі гэтыя людзі з усіх краёў і ўсіх частак сьвету. Як лоўка*

[112] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 147—148.

[113] Тамсама. С. 129.





*цанілі яны жанчын розных рас — і чорных, і белых, і жоўтых, і каштанавых — быццам разглядаючы калекцыю розных матылёў...“*[114]

Нездарма з падобным незразумелым герою цынізмам ставіцца да жанчын альтэр-эга Тугоўскага, Загорскі: *„Ну што ж, — засьмяяўся ён, — калі яна і трапіцца ў рукі Тугоўскаму, дык ува ўсякім выпадку ня першай сьвежасьці“*[115]. Ня выключана, што аўтар наўмысна робіць свайго галоўнага героя ўвасабленьнем нявіннасьці, каб толькі болей падкрэсьліць тое расчараваньне, якое яго чакае: *„Як ня думаць, айцец Кірыла, мяне ж ніхто яшчэ ў жыцьці не кахаў. Ты разумееш, што гэта значыць? Дваццаць чатыры гады я рос на зямлі, ня ведаючы, што такое каханьне цела...“*[116]

Дваццаць чатыры гады! Зь сёньняшняга гледзішча — фактычна, духоўны подзьвіг і наўпроставая дарога ў БХД. Зрэшты, цалкам магчыма, што гэтая надзвычай дакладная дэталь ёсьць аўтабіяграфічнай (напрыклад, Барыс Рагуля ў сваіх успамінах становіць пачатак свайго інтымнага жыцьця на 22 гады). Прыведзеная аўтарам лічба, вядома, яшчэ не дае права рабіць нейкіх катэгарычных высноваў, але й сёньня, паводле нашых (і паважанага Кандрата Кандратавіча Крапівы) назіраньняў, схільныя да „залішніх разваг“ маладыя людзі пачынаюць інтымнае жыцьцё пазьней за сярэднестатыстычны век. Прынамсі, сам Тугоўскі яўна разглядае сябе ў гэтым сэнсе як „адсталага“ ў параўнаньні з сваімі беларускімі сунавучэнцамі, што таксама ёсьць адной з падставаў для ягоных комплексаў. Таму супольная паездка ў брычцы, калі Тугоўскі трымае сваю каханую на каленях, набывае ў яго вагу першага пачуцьцёвага досьведу на мяжы эротыкі, якому замінае перарасьці ў нешта большае толькі прысутнасьць яшчэ адной студэнткі:

*„Каб не яна, ён, здаецца, зацалаваў бы Вярхоўскую, засмактаў бы, як цукерку!..*

*Вярхоўская сядзела ціха і спакойна павярталася на каленях пад час размовы. Ёй і ў галаву не прыходзіла, што яна выклікае электрычны ток у целе Тугоўскага і кожны яе рух прабягае па ім, як электрычная іскра. Яна вельмі сьмяялася. Тугоўскі быў пад уплывам шчасьлівай мінуты, што завецца „ўдарам“, жартаваў без канца. Нават задуменная і сур’ёзная мэдычка, сядзеўшая каля яго, пачала сьмяяцца.*

[114] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 158.

[115] Тамсама. С. 205.

[116] Тамсама. С. 192.

*Яны доўга езьдзілі па Празе, бо Тугоўскі шапнуў фурману, каб ехалі даўжэй, і тайна сказаў маршрут. Яму хацелася, каб шчасьлівая мінута не скончалася. Калі яны ўсё ж нарэшце прыехалі да дому Вярхоўскай і дзьве жанчыны схаваліся ад яго вачэй у велізарным каменным доме, ён дзякаваў фурмана: „Маладзец, — казаў ён, — зразумеў справу“. На разьвітаньне ён адпусьціў яму чэскіх крон больш, чым трэба было“*[117].

Гэты „эратычны“ эпізод аддзяляюць ад наступнага (ужо практычна сэксуальнага) цэлых 60 старонак, цягам якіх Тугоўскі пасьпявае расчаравацца ў Вярхоўскай, таму гераіняй гэтага наступнага эпізоду зьяўляецца ўжо выпадкова сустрэтая Тугоўскім на вуліцы прастытутка, якая скарыстоўвае зь ягонай падпітасьці й сама зацягвае яго ў прыватны бардэль.

*„Ён спомніў, як яму было прыемна, калі ён шукаў яе сэрца... Ён першы раз слухаў жаночае сэрца. Алькаголь рабіў свае ўплывы на яго разьбітае, не пасьпеўшае расквісьці, каханьне... Эх, што будзе, то будзе...*

*Нарэшце яны засталіся адны. Можна было рабіць, што яны жадалі, схаваныя ад усіх людзей, ад усяго сьвету, ад усіх маральных законаў. З кожным выпітым бакалам ён рабіўся больш і больш прагавітым да ласкі, да жанчыны, каторую шукаў цэлае жыцьцё, а яна рабілася больш студзёнай, мармуровай. Яна сьмяялася студзёным каменным сьмехам.*

*— Ну, цалуй мяне, мой мілы студэнцік... Бяры маё сэрца.*

*Але ні адзін мускул яе не ажывіўся, ні адна частка цела яе не магла жыць, не магла адчуваць. Ён цалаваў мяккі студзёны камень, і пакуль у яго яшчэ была памяць, ён адчуваў нейкае незадавальненьне. Але потым усё стала яму прыемным. Потым усё зьлілося ў густы туман“*[118].

Тое, што Тугоўскі падхапляе ад прастытуткі полавую хваробу, ёсьць адным з найлепшых сюжэтных хадоў у рамане (тэарэтычна, аўтар мог гэты „факт“ і замоўчаць). Ад гэтага моманту да самага канца кнігі доктар шматразова супакойвае залётніка й сьцьвярджае, што ў Тугоўскага сыфілісу няма, аднак так гэта насамрэч ці ня мы з пэўнасьцю не даведваемся. Што, насамрэч, ня надта й важна: Тугоўскі ўсё адно пачуваецца хворым, бо нячыстым чалавекам — ня столькі целам, колькі ў духоўным пляне — то бок усьведамляе, што вымушана здрадзіў свайму

[117] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 139.

[118] Тамсама. С. 199—200.





„пробнаму“ ідэалу нумар два, каханьню. З тым большым імпэтам ён неўзабаве вернецца да ідэалу нумар адзін, самагубства.

*„Так... Сыфіліс — слова грэцкае і азначае: сыф — сьвіньня. Значыць: сьвінячае каханьне.*

*— Магчыма, доктар. Але дзе ж узяць сапраўднае каханьне, калі яго няма? Я ўсё жыцьцё сваё шукаў сапраўднае каханьне, але ня мог знайсьці, — патэтычна казаў Тугоўскі, — вось цяпер я маю сыфіліс...*

*— Не, чалавеча. На гэты раз Бог мілаваў, але другі раз вы не хадзіце да гэтых начных паненак, асабліва пад уплывам алькаголю. Другі раз вы так лёгка ня прыйдзецца...*

*— Дык я здаровы? — з радасьцю ўскрыкнуў Тугоўскі.*

*— Так. У вас ёсьць адна нязначная хвароба, фактычна, яе і хваробай няможна назваць. Я б назваў яе па-француску, але вы па-француску не разумееце. Гэта хвароба ад таго, што вы даўно ня мелі жанчыны...*

*— Праўда?*

*— Так, каб вы аканчальна сталі здаровы, я магу вам прыпісаць толькі адно лякарства: жанчыну...*

*— Вельмі дзякую, доктар, — засьмяяўся Тугоўскі, — але дзе яе ўзяць?*

*— Ну, што ж... Знайдзіце сабе якую-небудзь бабульку і жывіце з задавальненьнем. Тут ужо мэдыцына бясьсільна што-небудзь дапамагчы, — жартам параіў доктар“*[119].

Цынізм доктара тут ня проста той добра вядомы кожнаму й паводле роду заняткаў уласьцівы, бадай, усім, хто даваў клятву Гіпакрата, цынізм асаблівы: стары доктар уяўляе тут сабою „мудрасьць“ заходняй цывілізацыі самой па сабе, якая ня толькі ня здольная даць адказ у некаторых найважнейшых з гледзішча індывіда „прыватных пытаньнях“ (такіх, як каханьне, сьмерць, сэнс жыцьця; то бок ня столькі на пытаньне „як?“, колькі „дзеля чаго?“), але й не імкнецца дапамагаць яго шукаць, лічачы „ўратаваньне тапельцаў“ справай іхных уласных рук. Гэтага Тугоўскі не разумее й грамадзтву не даруе (заўважым, што той жа апантаны „грамадзкімі хваробамі“ Абдзіраловіч гэткіх пытаньняў наагул ня ставіў — *„бо занадта радзіму любіў“*, кажучы словамі Караткевіча). Стаўленьне Тугоўскага да грамадзтва насамрэч гамлетаўскае: ён цьмяна здагадваецца, што гэтае грамадзтва трымаецца на нейкай подлай (і адначасова сьвяшчэннай, гл. аповед Борхэса „Сэкта Фэнікса“)

[119] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 211.

таямніцы, якую ён імкнецца зразумець і выкрыць; таямніцы, якая ня мае нічога агульнага з узьнёслым каханьнем і ініцыяцыю ў якую ён павінен прайсьці сам, без дапамогі ведаў і прафэсараў — але дагэтуль ня меў такой магчымасьці (натуральна, калектыў ці грамада сьмяецца зь яго яшчэ й з гэтай прычыны). Таямніца гэтая — біялягічная, полавая, жывёльная дэтэрмінаванасьць чалавека („біёс“ Эгона Бонды) і ў прыватнасьці жанчыны (гл. „Антыхрыста“ Трыера). Гэтай цёмнай сутнасьці Тугоўскі адпачатна баіцца: ён ня можа даравваць Вярхоўскай менавіта спалучэньня ў ёй высокіх інтэлектуальных патрабаваньняў з патрабаваньнямі ейных інстынктаў, якія знаходзяць увасабленьне ў сувязі ня з кім-небудзь, а менавіта з Загорскім. Гэтак жа і самому сабе ён ня можа даравваць „падзеньня“ да іхнага ўзроўню: *„Як дзіка! Як страшна! Мала таго, што няма грошаў, але няма больш чыстаты, няма здароўя. Кажуць, ад такой хваробы можа праваліцца нос. Ах, хоць бы мінула яго гэтая кара... Ён зьбіраўся ехаць чыстым, ідэальным юнаком, а зараз ён павязе з сабою бруд, ён павязе з сабой жахлівую хваробу вялікага места. Фактычна, ён нікольки ня лепш за тых, на якіх ён нападаў як на кар'ерыстаў, буржуазных „інтэлігентаў“... Ён брудны, нягодны, няварты насіць імя чалавека“*[120]. То бок відавочна, што „чалавека“ ён разумее неяк інакш, чым проста біялягічна — таму „нізкая“ праўда аб ім ня можа яго не шакаваць...

Экспэрымэнт, пастаўлены Тугоўскім дзеля выяўленьня „надвышэйшай сутнасьці“ жанчыны, нечакана стаецца экспэрымэнтам дзеля выяўленьня адваротнага — ейнай нікчэмнасьці. Яму згадваюцца словы айца Кірылы: *„Ты занадта паэтычна аднёсься да Вярхоўскай. <u>Падумай, каго там кахаць? Па-мойму, гэта толькі пахучы кавалак мяса.</u>* [Вылучана намі. — ***М. Шч.***] *А ты паэтычна ідэалізаваў яе, ты закахаўся ў яе — што з-за яе пайшоў бы скочыць, як баран, у ваду“*[121]. Менавіта пад уплывам паводзінаў Вярхоўскай у Тугоўскім мацнее ягоная мізагінія: *„Тугоўскаму было брыдка глядзець на гэтае поўнае, мяккае цела, быццам нейкі цяльпук падстаўляў сябе пад сонца, і яшчэ больш брыдка, калі гэтая напалову голая пані надзявала на нос лярнэт, каб прачытаць кнігу“*[122]. Наўмыснае „падзеньне“ Тугоўскага зьяўляецца ягоным адказам на такое ж „падзеньне“ Вярхоўскай у ягоных вачох, да якога прыклаў руку Загорскі:

[120] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 201—202.

[121] Тамсама. С. 195.

[122] Тамсама. С. 224.





*„Ого, тады ты не марксістка, — сьмяяўся Загорскі. — Марксісткі прызнаюць свабоднае каханьне, а ты нейкая статуя з кляштару.*

*Яна маўчала, але не выходзіла з пакою.*

*Што было далей у пакоі, невядома. Толькі пасьля гэтага іх заўсёды бачылі разам, як брат зь сястрой, і яны заўсёды ў назначаны час хадзілі вячэраць у «Акадэміцку кавярню»“*[123].

„Невядома“ зусім ня значыць, што Тугоўскі насамрэч ня ведае, што там адбылося; проста ён, хутчэй за ўсё, на той момант ня мае з гэтым „невядомым“ ніякага асабістага досьведу. Наадварот, пасьля таго, як у яго гэты досьвед зьяўляецца (з прастытуткай), ён адразу ж імкнецца спраўдзіць сваю гіпотэзу наконт таго „невядомага“ на практыцы — то бок спрабуе спакусіць Вярхоўскую й даказаць сабе, што менавіта інстынкты, а не інтэлект, рухаюць ёю (як і іншымі жанчынамі):

*„У той самы час, як ён пачаў аглядаць навокал столікі, яго погляд спаткаўся зь пільным поглядам знаёмай жанчыны: за суседнім сталом сядзела ў купальным касьцюме Вярхоўская. Яна была як русалка, і яе чырвоная шапачка вельмі ішла да ружовага і поўнага твару. Мокры касьцюм шчыльна аблягаў яе стройную фігуру і выдзяляў высокі бюст, ад усяго вобразу несла маладым шалам і моцным здароўем.*

*Тугоўскі ад нечаканасьці пачырванеў і зьмяшаўся...*

*Яны выпілі піва, задаволеныя і ўзбуджаныя ўзаемнымі наглядамі. Тугоўскі стараўся не глядзець на яе. Яму было крыху сорамна бачыць яе ў такім выглядзе, але як на злосьць вочы яго мімаволі ўпіраліся ў яе прыгожы і высокі бюст. Ён нікуды ня мог схаваць сваіх вачэй.*

*Яна сама прыкмячала гэту яго сарамлівасьць, што прымушала яе чуць сябе няпэўнай.*

*— Пачакайце, — прамовіла яна нарэшце, — за намі пільнуюць. Крыху нязручна. Адну хвіліну — я апрануся...*

*Але яна ўзбуджала яго. Яна сама, быццам назло, вяла яго праз паўвостраў, далей і далей ад людзей — у поле, аблытваючы сьвядомасьць сеткай граху. Яны выйшлі ў поле і селі на траву. Стала цямнець. Ён узяў яе мяккую руку, каб пагадаць, як раптам, быццам непрыкметна, яго рука сьлізганулася па ўсёй фігуры. Яму падалося, што гэта будзе груба і яна за гэта можа непрыемна адудзячыць яму, але яна не зварушылася. Ён схапіў яе стан і, як непрытомны, прыцiснуў свой твар да яе пахучых валасоў.*

[123] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 143.

*— Што вы робіце? — шаптала яна, але не зварухнулася ні адным мускулам, яе рука пакорна ляжала ў яго руцэ, толькі яе рот сох і гарэлі вочы.*

*„Што сапраўды я раблю! Я злачынца, я арыштант, я заражу яе сыфілісам“, — стукала калючымі малаткамі ў мазгу, але пасмы валасоў прыемна казыталі вуха. Ён, ня памятаючы сябе, схапіў яе галаву, упіўся ў яе вусны гарачым даўгім пацалункам“*[124].

Гэтак завяршаецца „падзеньне“ галоўнага героя й галоўнае гераіні — у абдымках: але наколькі двухсэнсоўнымі й няшчырымі, цынічнымі з гледзішча Тугоўскага ёсьць гэтыя абдымкі! Тугоўскі дасягае сваёй мэты й адначасова помсьціць Вярхоўскай за ейную ранейшую недасяжнасьць, за тое, што *„ён чуў сябе такім адзінокім, так агалялася перад ім пустата жыцьця, што толькі чаканьне заўтрашняга дня, спатканьне стрымлівала яго ад таго, каб ня кінуцца галавой уніз у чорную бездань... Ён гатоў быў, здаецца, аддаць ёй усе свае сілы, усе думкі, сваё жыцьцё. А яна?“*[125] Тугоўскі зацягвае Вярхоўскую „ў бруд“, апраўдваючыся тым, што зь ягонага асабістага гледзішча яна ў гэтым адвечным брудзе ўжо была, не магла ня быць паводле вызначэньня. Прысуд ёй выносіцца нават ня ў сцэне, калі ён у вочы закідае ёй блізкасьць з Загорскім, а значна пазьней, пасьля інтымнай блізкасьці зь ёю: *„Вярхоўская гуляла ў натоўпе камсамольцаў, але вочы яе шукалі Тугоўскага. З таго часу, як іх вусны зблізіліся на пляжы каля Цэсарскай лоўкі, яна мімаволі цягнулася да яго і думала аб ім“*[126]. Прысудам тут ёсьць менавіта гэтае „мімаволі“.

Натуральна, калі б падзеі разьвіваліся іначай, ніякага раману, зноўтакі, не было б — але чаму яны ўсё-ткі разьвіваліся менавіта так? Чаму яна *„заставалася для яго маўклівым сьфінксам, і ніякія, напэўна, сілы не маглі прымусіць яе раскрыць свае тайны“*[127]?

„Фрайдысцкае“ (вельмі ўмоўна кажучы) разуменьне прыроды „сьфінкса без загадкі“, на якое намякае Павал Касьцюкевіч, прысутнае ў рамане, але яно ўласьцівае не галоўнаму герою, а ягонаму антаганісту, Загорскаму: *„Што было рабіць Загорскаму? Ён ненавідзеў усёй сваёй душой і марксізм, і сацыялізм, ён павесіў бы на адным суку ўсіх марксістаў і сацыялістаў, але яму прыемна было трымаць у сваіх руках гладкую, цёплую жаночую руку, прыемна было схапіць у свае абоймы мяккае жаночае цела. Ён пачаў хадзіць на сход ненавісных сацыялістаў, толькі каб потым быць зь Вярхоўскай і адпраўляцца зь ёю ў рэстаран“*[128]. Загорскі, як бачым, ня верыць у ідэі й робіць стаўку на „полавы дэтэрмінізм“ жаночых паводзінаў — ягонай мэтай ёсьць непасрэдная рэалізацыя сваіх жаданьняў. Наадварот, у „ідэаліста“ Тугоўскага закаханасьць у Вярхоўскую выклікае штосьці накшталт сублімацыі. Палітычны радыкалізм абуджаецца ў ім ня толькі ў сувязі зь ягоным антаганізмам да Загорскага, але і ў сувязі з сымпатыяй да Вярхоўскай: менавіта ў ейнай прысутнасьці ён дазваляе сабе адкрыта выступіць супраць свайго сацыяльнага альтэр-эга. Гэта азначае, што і яму самому, як і „адмоўнаму пэрсанажу“ Загорскаму, у пэўнай ступені ўласьцівая „біялягічная“ матывацыя (невядома, наколькі ўсьвядомленая самім аўтарам, але ён прынамсі ніяк з гэтай нагоды не іранізуе).

Вельмі сымптаматычна тое, наколькі ў Тугоўскага ідэйныя перакананьні крыжуюцца з ідэальным каханьнем, то бок палітыка — з эротыкай: ён лічыць, што галоўная памылка Вярхоўскай ня ў тым, што яна дазволіла камусьці больш, чым было трэба, але што дазволіла гэта менавіта Загорскаму, палітычна несьвядомаму й маральна нячыстаму (з гледзішча Тугоўскага) чалавеку. Нават *„мімавольна думаючы аб ім“* у натоўпе камсамольцаў, Вярхоўская пацьвярджае сваю „палітычную несьвядомасьць“ — ці, прасьцей кажучы, біялягічнае пераважае ў ёй над палітычным (інтэлектуальным), а менавіта гэтага Тугоўскі ня можа ёй даравацьь. *„Вярхоўская была б мейсцам, злучыўшым мой сьвет работніка з тым сьветам інтэлігента. Мне да апошняга часу яшчэ здавалася, што гэта магчыма...“*[129]

## 8. „Вельмі нізкае грамадзкае палажэньне такога, хто ня быў каханы“

Чаму абавязкова *„злучаць сьвет работніка зь сьветам інтэлігента“*? *„Тугоўскі... думаў аб кінутай ім загадцы: дачка папа і камсамолка“*[130] — менавіта гэтак ён фармулюе для сябе загадку сьфінкса-Вярхоўскай, у якой спалучаюцца, з аднаго боку, ненавіснае яму „мяшчанства“ (дачка папа) з уласьцівымі яму „разбэшчанымі“ сэксуальнымі

[124] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 242—243.
[125] Тамсама. С. 147.
[126] Тамсама. С. 250.
[127] Тамсама. С. 242.
[128] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 140.
[129] Тамсама. С. 196.
[130] Тамсама. С. 242.

паводзінамі, а з другога — інтэлектуальныя схільнасьці й тая палітычная сьвядомасьць (камсамолка), якой, на ягоную думку, у Вярхоўскай усё-ткі малавата, іначай яна папросту не магла б сысьціся з Загорскім. У гэтага шмат у чым ідэалістычнага, максымалісцкага перакананьня Тугоўскага — доўгая гісторыя, яно таксама грунтуецца на ягоным (і, напэўна, аўтаравым) асабістым досьведзе, пра які ён распавядае на самым пачатку:

*„Гэтыя жорсткія твары ўмелі прыкрываваца маскай усьмешкі і далікатнасьці, таму што ні адна з гэтых жанчын-кветак не глядзела праз вочы ў душу мужчын. Усе ганяліся за вонкавасьцю. „Ах, які прыгожы мужчына“, — казалі яны, гэтыя сьцюдзёныя жанчыны-кветкі, і чым на ім было болей бліскучак, тым даражэйшую кветку ён мог сарваць і кінуць сабе пад ногі.*

*Тугоўскі якраз ня мог бліснуць сваёй вонкавасьцю. Прырода ня доўга думала над яго партрэтам і фігурай, ён быў высечаны грубым майстрам: нейкі квадратны твар з кантаватым падбародкам, зроблены быццам з простага каменя, ногі тоўстыя і кароткія, грудзі вузкія — словам, нейкі „брак“ у майстэрні скульптара. І ўсё ж ткі гэта не замінала яму лічыць сябе ня горш за тых, у каго была бліскучая вонкавасьць. Зразумела, ён мог лічыць сябе ня горшым за тых, якія блішчэлі ад валасоў да лякіраваных чаравік, — але яны рвалі кветкі ў садзе жыцьця…*

*Адзін раз, памятае, даўно, яшчэ пры бальшавіках, калі ён быў студэнтам бальшавіцкага інстытуту ў Харкаве, іх аглядаў рэктар разам зь міласэрнай сястрой. Міласэрная сястра настолькі была стройная, поўная, чырвоная, настолькі прыгожы быў яе бюст, прыкрыты белым фартухам з чырвоным крыжам, так горда несла сваю галаву, што ўвесь інстытут глядзеў на яе, вывернуўшы вочы.*

*— Як яе прозьвішча? — запытаўся Тугоўскі ў сяброў. — Гэта сапраўдная Вэнэра!*

*— Нашто вам прозьвішча, — раптам сярдзіта агрызнулася адна студэнтка. — Вы гэтай сястры і падмёткі ня варты.*

*— А колькі каштуе яе падмётка? — агрызнуўся тады абражаны Тугоўскі пад агульны сьмех. Але гэтая фраза „і падмёткі ня варты“, сказаная яшчэ жаночымі вуснамі, прымусіла яго задумацца. Зразумела, гэта была праўда…*

*…і з той пары махнуў рукой на прыгожых жанчын, як на недасяжнае шчасьце“*[131].

[131] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 146—147.





Ад першапачатковых абвінавачаньняў жанчын у павярхоўнасьці герой з часам пераходзіць да аналізу сацыяльнага кампанэнту (магчыма, нават дэтэрмінанту) каханьня, над якім яго прымушае задумацца няўдалы вынік ягонага пачуцьцёвага экспэрымэнту, іначай кажучы — адкрыцьцё наяўнасьці гэтага сацыяльнага кампанэнту ў паводзінах нават такой „філязофкі“, як Вярхоўская:

*„Каханьне — атэстат сьпеласьці, які выдае жанчына мужчыне. Там прастаўляюцца розныя адзнакі за яго посьпехі і здольнасьці, там відаць, хто зьяўляецца найбольш здольны, каму даць сярэбраны ці залаты мэдаль. Чым больш у гэтым пасьведчаньні мэдалёў, тым, значыць, больш здольны чалавек, тым больш кахае яго жанчына. Раней, чалавеча, у маёй маладосьці я думаў, што бегаюць за жанчынамі пустыя людзі, бяз творчай карыснай працы. Тады я ня мог глядзець на іх інакш, як зьверху ўніз, але цяпер усё зьмяшалася: я гляджу на іх зьнізу ўверх. — Ён глытнуў крыху піва і прадоўжыў: — Я цяпер ведаю, што чым больш кахае жанчына мужчыну, тым ён здольнейшы, тым лепшы яна выдае яму атэстат…*

*Словам, жанчына жыве агульнай тэорыяй, яна фактычна кахае не мужчыну, а яго грамадзкае палажэньне. Праўда ці не? Я думаю: будзь ты самым першым прыгажуном у сьвеце, але служы ты ў абозе, ні адна жанчына ня гляне на цябе. І, наадварот, будзь ты самой пачварай, але займай міністэрскае крэсла, — ты не адаб'есься ад чароўнага полу. Такім чынам, мне здаецца, ясна, што жанчыны кахаюць не самога мужчыну, а толькі яго палажэньне ў жыцьці. І вось таму я кажу, што жанчына — гэта нейкі барометар, па якім можна азначыць грамадзянскую вартасьць чалавека, і каханьне — гэта атэстат вартасьці, які яна ведае. Па каханьні можна ацаніць чалавека. Скажы, хто цябе кахае, і я скажу, хто ты.*

*Кірыла голасна расьсьмяяўся:*

*— Філёзаф-самавук, — казаў ён праз сьмех“*[132].

Фактычна, тут задоўга да постмадэрну й фэмінізму ўздымаецца пытаньне ўзаемаадносінаў полу (сфэры сэксуальнага як такой) і ўлады (сацыяльнага становішча) — то бок прыроды й інстытуцыяналізаванага гвалту, якім ёсьць любая ўлада. З гледзішча Тугоўскага каханьне, падпарадкаванае грамадзкім канвэнцыям, ня можа быць „чыстым“, „натуральным“, „свабодным“ — у ім заўжды будзе сацыяльны кампанэнт, элемэнт „разьліку“, які (на ягоную думку) прыўносяць у „чыстае“

[132] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам… С. 192—193.

каханьне менавіта жанчыны зь іхным клопатам пра выхаваньне й будучыню патомства. (Да падобных „жаночых“ паводзінаў здольны ў рамане й беларускі селянін Бурак, якім Тугоўскі ў выніку пагарджае ня менш, чым Вярхоўскай ці Загорскім, не зважаючы на іхныя інтэлектуальныя адрозьненьні.) *„Які-небудзь Загорскі заўсёды будзе стаяць вышэй* [маецца на ўвазе, для жанчыны. — ***М. Шч.***], *нават нічога ня скончыўшы, бо сьвецкасьць у яго ў крыві зь дзяцінства, здабыта выхаваньнем. Выхаваньнем! Усё залежыць ад выхаваньня...“*[133]

Сувязь між „выхаваньнем“ і сацыяльным становішчам у вачах Тугоўскага простая: вонкавая культура ёсьць для яго толькі павярхнёвым выразьнікам апошняга, „другаснай полавай прыкметай“ мешчаніна, прадстаўніка паноўнай клясы. Таму сваю непрыдатнасьць як аб’екту каханьня Вярхоўскай Тугоўскі адпачатна схільны тлумачыць сваім „нізкім“ паходжаньнем (*„Не, мы ня можам быць добрымі сябрамі, — казаў ён сабе, — дачка папа і сын чорнаработніка! Лацінская мова і геамэтрыя не маглі дасыпаць рову, які ляжыць паміж дзьвюма паласамі. Дык грайце марш, Вярхоўская! Можа быць, яшчэ спаткаецеся на карнавале з Загорскім! Жадаю посьпеху!“*[134]), гэтаксама як тлумачыць стасункі Вярхоўскай і Загорскага іхнай сацыяльнай, а не духоўнай ці там „містычнай“ блізкасьцю:

*„З праскіх беларусаў манеры былі хіба ў Загорскага.*

*— Ах, не спамінайце болей мне гэтага імя. Я цярпець яго не хачу.*

*— Але ж вы кахалі яго, Галена Ўладзіміраўна?*

*— Кахала, не хаваю. Але цяпер ён мне брыдкі такі, што я проста ўспамінаю часы, каторыя праводзіла зь ім разам, з дрыжыкамі па целе. Якія ўсё ж ткі мы дурныя. Мы, жанчыны, ня бачым, што пад маскай часта хаваецца пусты чалавек...“*[135]

Як бачым, пад канец кнігі аўтар прымушае саму Вярхоўскую выносіць усім наагул жанчынам якраз той прысуд, які ў думках пасьпеў ім вынесьці раней сам Тугоўскі.

Калі „мяшчанскае каханьне“ ёсьць неабходнай сумесьсю біялягічнага інстынкту й сацыяльнага разьліку, то ў такім выпадку сама мяшчанская канцэпцыя „чыстага каханьня“ ёсьць толькі хлусьнёй, прыгожым мітам, які здольны ўвасобіцца хіба што ў межах адной сацыяльнай касты, тым часам як для прадстаўнікоў іншых слаёў грамадзтва недаступны. Значыць, дзеля дасягненьня посьпеху ў гэткай Вярхоўскай у кожнага Тугоўскага ёсьць тэарэтычна два шляхі: прыняць правілы гульні й заняцца, паводле прыкладу Бурака, „самавыхаваньнем“ (*„Можа быць, некалі новае пакаленьне сялян, працаўнікоў, работнікаў будзе мець такія школы, дзе зможа выхоўвацца з малых дзён сьвецкім, яму дадуць тое, чаго не маглі даць бедныя сяляне; можа быць, нарэшце, частка сялян будзе самавыхоўвацца, як, напрыклад, Бурак, будзе выхоўвацца пакахаўшай яго графіняй...“*[136]), то бок пайсьці на кампраміс зь існымі сацыяльнымі канвэнцыямі — альбо працягваць настойваць на ўнівэрсальным ідэале, на адмаўленьні сацыяльнага кампанэнту, патрабуючы „чыстага каханьня для ўсіх“ безважна да іхнага грамадзкага становішча. Аднак Тугоўскі ня здольны сфармуляваць апошняга патрабаваньня, а абірае шлях „найменшага супраціву“: лічачы „чыстае каханьне“ магчымым толькі для вышэйшых сацыяльных слаёў, ён адмаўляе яго разам зь іхнай культурай „чыноў і дыплёмаў“ і застаецца верным сабе й свайму ўспрыняцьцю сябе як *„роджанага пад Сатурнам“*, свайму „Ідэалу Самагубцы“: *„У наш капіталістычны век сапраўды так: каб быць каханым, трэба мець капітал або займаць высокае палажэньне на грамадзкай драбіне... Вярхоўская была б мейсцам, злучыўшым мой сьвет работніка з тым сьветам інтэлігента. Мне да апошняга часу яшчэ здавалася, што гэта магчыма. Я думаў праз сябе апрасьціць Вярхоўскую. Я думаў, яна пакахае мяне як чалавека. Але я бачу, што для яе я павінен таксама стаць кар’ерыстам, таксама, скончыўшы ўнівэрсытэт, павінен стаць панам, запамятаць аб сваім сацыялізьме і купіць сабе аўтамабіль. Не... Не хачу“*[137]. Заўважым: менавіта „апрасьціць“ Вярхоўскую, а не, скажам, „узьняцца да Вярхоўскай“, то бок у кожным разе застацца сабой — каб Вярхоўская кахала яго такім, якім ён ёсьць, што ў далейшым выяўляецца немагчымым: Вярхоўскую можна спакусіць, але немагчыма яе „прысвойтаць“, не прапануючы ёй узамен ніякіх „сацыяльных“ выгодаў.

У сваім памкненьні вызваліць каханьне ад сацыяльнага дэтэрмінізму Тугоўскі, такім чынам, трапляе ў лягічную пастку — будучы тэарэтычна супраць яго, ён на практыцы зьбіраецца яму падпарадкавацца, зрабіць „крок назад“:

*„Вып’ем за маю будучую жонку — простую сялянку.*

[133] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 182.

[134] Тамсама. С. 190.

[135] Тамсама. С. 255.

[136] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 182.

[137] Тамсама. С. 194—195.

*— Во, за тваю жонку-сялянку п'ю. Проці гэтага нічога ня маю. Я думаю, што ты можаш быць прафэсарам і мець жонку-сялянку.*

*— Не, я хачу знайсьці такую жанчыну, якая кахала б мяне як чалавека, незалежна ад таго, якое палажэньне я займаю. Без каханьня, без жанчыны я жыцьця сабе ня ўцямлю... Я хачу яшчэ выпіць гэтую чару каханьня да дна*"[138].

Але тут нельга не згадаць, што менавіта „вяртаньне на радзіму", да каранёў Тугоўскі падсьвядома ўспрымае як аналяг самагубства — і ўспрымае слушна, бо гэта было б прызнаньнем паразы ягонага асабістага „сацыяльнага праекту", падпарадкаваньнем існым канвэнцыям. Аднак гэтае прызнаньне, як і самагубства, ёсьць зь ягонага гледзішча вымушаным, абгрунтаваным самой прыродай, упарадкаваньнем сьвету й грамадзтва. Іншымі словамі, ён усьведамляе, што пошукі „жонкі-сялянкі" ёсьць чарговай утопіяй, нічым ня лепшай за атрыманьне дыплёму, — але іншага выйсьця для сябе ня бачыць. Зрэшты, чым скончыліся пошукі такой жанчыны ў беларускай вёсцы, паведамляе аповесьць „Аднабочнікі": да слова, Тугоўскі й Лебядзёк настолькі ідэйна блізкія між сабою, што можна лічыць іх гіпастасямі аднаго й таго ж героя (гэтаксама, як айца Кірылу й Рабскага) — гэты Гіпэргерой павінен мець з Аўтарам больш агульнага, чым узятыя паасобку Тугоўскі й Лебядзёк, два „варыянты" разьвіцьця адпачатна падобнага лёсу. Адным словам, яшчэ адна падстава для Тугоўскага „сысьці ў народ" — гэта ня толькі для жаданьне *„стаць праўдзівым сынам свайго (беларускага) народу"*, але й памкненьне адрынуць несправядлівую мяшчанскую культуру, дзе мужчыны дасягаюць каханьня з дапамогай грамадзкага становішча, а жанчыны — грамадзкага становішча з дапамогай каханьня...

*„ — Каханьне трэба заслужыць, — пачырванеўшы, прамовіла яна.*

*— Правідлова, Галена Ўладзіміраўна, але мне некалі будзе служыць.*

*— Як гэта некалі?*

*— Заўтра я еду ў Карпаты, каб у Карпатах перайсьці польска-чэскую граніцу*"[139].

### 9. Палітычная подбіўка

Менавіта эротыка, а дакладней — тонка адчутая й яшчэ лепей апісаная аўтарам сацыяльная няроўнасьць у каханьні, якая прывяла да паразы ягонага „пробнага" ідэалу, стаецца ў Тугоўскага дэтанатарам актывізацыі ягоных палітычных настрояў (наколькі можна лічыць палітычным учынкам канчатковае адрынаньне існага сьвету). Дагэтуль ягоная палітычная пазыцыя й нязгода з афіцыйнай ідэалёгіяй капіталізму, якую ім выкладае ва ўнівэрсытэце нейкі „залатазубы прафэсар", грунтавалася на ягонай „гіпэрэмпатыі" — сацыяльным чуцьці, якое ў сваёй неўтаймоўнасьці й максымалізьме часта мяжуе з дэмагогіяй:

*„Значыць, эканамічнае рабства — у прынцып! Правідлова сказаў нейкі мудрэц: „Рабства на сьвеце не зьнікае, мяняюцца толькі яго формы". Ён, Тугоўскі, згодны з гэтым. Але каб людзі гэтае рабства ўзводзілі ў прынцып, каб яны яго ўзводзілі ў права, у закон, нейкі час будзе „сацыяльнае" пытаньне. Значыць, няхай будуць вечна багатыя і бедныя, адны півавары і капіталісты ледзь носяць свае адкормленыя тушы, а на рагу вуліцы няхай стаяць убогія і галодныя. Няхай, значыць, вечна будуць войны, бо адзінкі хочуць багацець, хочуць рынкаў для збыту тавараў, а дзяржавы стаяць на варце іх інтарэсаў. Міністры і ўрады таксама нічым не адрозьніваюцца ад людзей, жадаючых разбагацець. Значыць, няхай будуць калекі і ўбогія, няхай будуць сіроты і ўдовы, няхай льюцца сьлёзы і кроў па ўсім абшары зямлі. І гэтыя крывавыя прыкупы як апошняе слова навукі прыпадносіць прафэсар моладзі. Гэтую атруту ўлівае ён у сэрца яе аўтарытэтам свайго слова і свайго палажэньня. Так прывучае ён думаць усіх прысутных у гэтай аўдыторыі, тое ж ён прымусіць адказваць студэнтаў на экзамэне. Так панясуць беларусы-студэнты яго думкі ў сваю лапцюжную Беларусь*"[140].

Упоравень з гэтым, Тугоўскі на ўласным прыкладзе ўсьведамляе незьнішчальнасьць эгаістычнай чалавечай псыхалёгіі, якая ляжыць у падмурку капіталістычных варункаў:

*„Так хацелася б у гэту студзёную пару забрацца ў адну з такіх вілаў, расьсесца каля каміна, слухаць трэск агню і марыць, падняцца ў паэтычныя далі, пад шум буры, што ломіцца ў вакно. І што было б, калі б яму сказалі: „Вось вы, грамадзянін Тугоўскі, сацыяліст. Добра... Мы даём во гэтую вілу ў поўную ўласнасьць. Жывіце ў ёй, колькі хочаце, перадавайце яе, каму хочаце, у спадчыну. Завадзіце пры віле сад, аб'ядайцеся яблыкамі і сьлівамі, таўсьцейце. А мы паглядзім, што стане з вашымі сацыялістычнымі поглядамі..."*

[138] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 196.

[139] Тамсама. С. 256.

[140] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 164.

*...Нейкі ўнутраны насьмешлівы голас казаў: „Зразумела, ты адмовіўся б ад вілы. Праз пару гадоў ты сам лаяў бы сацыялістаў. Значыць, усе людзі роўныя па свайму складу. Чалавечае ёсьць заўсёды чалавечае. І ўрэшце ўсё зводзіцца да аднаго агульнага назоўніка: кавалка хлеба. Значыць, тады прафэсар праў“. Не, ня можа быць. Тугоўскі ня мог дапусьціць, адчуваў нутром, ня розумам, а сэрцам, што ўсё ж трэба нешта дабавіць да яго, унесьці нейкую папраўку. Але якую, ён ня ведаў“*[141].

Як бачым, Тугоўскі заўважае лягічную супярэчнасьць між сваім глыбокім ніцшэанскім індывідуалізмам з аднаго боку й прагай дбаць пра калектыўнае дабро з другога, таму й кажа, што імкнецца быць сацыялістам ды спачувае „прыніжаным і абражаным“ „ня розумам, а сэрцам“. Можна было б сказаць, што ён ня столькі імкнецца быць сябрам „прыніжаных“, колькі спрабуе змагацца разам зь імі супраць супольнага ворага — мяшчанскай сыстэмы — магільніцы ягонай (і ўсялякай іншай) індывідуальнасьці. (Менавіта „мяшчанскі дух“ зь яго адданасьцю „мёртвым формам“ вінаваціць ува ўсіх няшчасьцях чалавецтва і Абдзіраловіч, ідэалягічна нашмат бліжэйшы да Кірылы Бурачэўскага, чымся да Тугоўскага).

Найбольш яскравай мэтафарай змаганьня між „буржуазным індывідуалізмам“ і „сацыялістычным калектывізмам“ зьяўляецца ў рамане супрацьпастаўленьне Сатурну й Сонца — Тугоўскага й Тамашэвіча (Грыба). Як мы ўжо казалі, стаўленьне галоўнага героя да апошняга ёсьць адпачатна недаверлівым і іранічным. Вось вынятак з прамовы Тамашэвіча на пачатку раману: *„Хутка скончыцца зіма, якая сквавала нашу лапцюжную Беларусь, трэсьне лёд, які пакрыў тоўстым слоем думкі і сэрца народу, трэсьне і на вялікіх беларускіх рэках паплыве, топлячыся і гінучы, пад уздоймам разбушаванай народнай стыхіі, якая затопіць берагі і зламае ўсе перашкоды, усе парканы... Лёд трэсьне пад гарачым дыханьнем сонца, сонца ўласнай культуры. Грамадзяне, мы ўсе імкнемся да гэтага. Увесь наш беларускі рух ад самага пачатку яго, ад доктара „вызваленых навук“ Скарыны і да нашых дзён, ёсьць барацьба за нашую ўласную культуру“*[142]. Вартая ўвагі й Тамашэвічава „элітарная“ (як на беларускія варункі — досыць „сучасная“, амаль паводле Б. Андэрсана) канцэпцыя нацыі, пагатоў цікавая з той прычыны, што ягоны прататып быў міністрам у Радзе БНР:

[141] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 166.

[142] Тамсама. С. 132—133.





*„Вучоныя яшчэ зараз спрачаюцца аб прыметах нацыянальнасьці, але ў апошнія часы запанавала сярод вучоных такая думка, што ня мова, урэшце, не тэрыторыя, зьяўляюцца прыметамі нацыянальнасьці; ёсьць народы, якія ня маюць сваёй тэрыторыі, як жыды, напрыклад, — а вось што: воля самога народу. Зьяўляецца ў народзе група адукаваных людзей, зьяўляецца ў групе пэўная воля, моцнае жаданьне да жыцьця, і гэта воля перадаецца народу. Вось тады зьяўляецца і нацыянальнасьць. Значыць, як бы там ні было, — воля, жаданьне самога народу ставіцца на першае мейсца. Калі народ хоча мець сваю дзяржаву, значыць, і ўсё: ён яе павінен мець, ён ужо ёсьць акрэсьленая нацыянальнасьць... Мы ўсе з вамі — гэтыя ластаўкі, грамадзяне; мы панясём культуру, уласную культуру ў свае родныя хаты. І што тады будзе, глядзіце, калі мы ўсе, далучыўшыся да сучаснай эўрапейскай культуры, зьявімся цэлай грамадой на родных палёх. Сапраўды, грамадзяне, будзе нешта новае ў гісторыі!.. Дык вып’ем за гэтае новае, вып’ем за вас, вып’ем за тварцоў і змагароў беларускай культуры.*

*Гучнае „ўра“ было яму адказам“*[143].

Такая „культурная канцэпцыя“ магла б быць прынятая самім Вальтарам (калі меркаваць паводле вядомых нам фактаў ягонай біяграфіі), аднак адрынаецца максымалістам Тугоўскім з ужо згаданых прычынаў — „эўрапейская культура“ бачыцца яму ўсяго толькі шырмай, пад якой квітнее сацыяльная несправядлівасьць (*„Удасканаліцца, каб стаць дырэктарам фабрыкі, ці што?“*[144], кпіць з Тамашэвіча Тугоўскі, у адказ на нэгатыўнае стаўленьне апошняга да сябе: *„Вядома, — падхопліваў Тамашэвіч. — На Бацькаўшчыне ёсьць дзясяткі здольных маладых беларусаў, якія жадаюць вучыцца пры ўсякіх варунках, перабіваюцца, што завецца, з хлеба на квас, каб толькі ўлезьці ў вышэйшыя школы. Замест таго, каб іх падтрымаць, мы падтрымліваем нейкіх Тугоўскіх, якія прыносяць нам толькі шкоды“*[145]). У далейшым разьвіцьці раману Тамашэвіч паступова прымае пазыцыю эсэраў (паводле Абдзіраловіча, *„гэтыя кірункі сацыялізму болей чулыя да справы агульначалавечага адраджэньня, „вераць у неабходнасьць“ творчай чалавечай адзінкі, меней апіраюцца на клясавы грунт“*): палітычныя погляды Тугоўскага й Тамашэвіча, адпачатна супрацьпастаўленых

[143] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 133—134.

[144] Тамсама. С. 213.

[145] Тамсама. С. 186.

на глебе індывідуалізму / калектывізму, пакрыёма збліжаюцца, аднак поўнай „гармоніі“ між імі не настае. Вінаваты ў гэтым ніхто іншы, як „Мэфістофэль“ — айцец Кірыла, яшчэ адзін *„роджаны пад Сатурнам“* максымаліст, аб'ектам бескампрамісных нападак якога з самага пачатку ёсьць менавіта буржуазная культура:

*„Сацыялісты? Правадыры народу — брахуны, — пачаў лаяць Кірыла, — ідуць у народ, нясуць яму кніжачкі. У кніжачках — пра свабоду. Дзеля чаго? Дзеля таго, каб потым сядзець на шыі гэтага народу. „Прыхільнікі народу — дабрадзеі пакрыўджаных працоўных мас“. Толькі паслухаць іх, як яны гавораць у сваіх перадвыбарчых прамовах, як яны стараюцца атуманіць народныя мазгі — і ўсё толькі для таго, каб потым стаць дэпутатамі. Дзе ж праўда пасьля гэтага?*

*— Айцец Кірыла, ты — анархіст. Ты нічога не прызнаеш, у табе жыве нейкая брутаўская жылка...*

*— Хто б я там ні быў — гэта ўсё роўна... Усе гэтыя — Тамашэвіч, Вярхоўская, Загорскі — ягадкі аднаго поля — інтэлігенты. Жывуць для народу! Падумаеш, якія пракокі... Ведаем... — Пільна паглядзеў на Тугоўскага: — Калі на вечарыне ў маёй кватэры Тамашэвіч гутарыў аб ластаўках культуры, якія паляцяць на Беларусь, я не хацеў спрачацца дзеля сьвята“*[146].

Айцец Кірыла, можа, найбольш радыкальны, але далёка не самотны ў сваёй пазыцыі:

*„Трэба зазначыць, што Беларуская грамада ў Празе развальвалася. Яна падзялілася на дзьве варожыя групы: адна гуртавалася каля Янкі Станкевіча, другая каля Тамашэвіча і айца Кірылы* [sic! — яшчэ адзін доказ таго, што „калектывісты“ Тамашэвіч і Бурачэўскі лягчэй разумеюцца між сабою, чым з Тугоўскім; нездарма „анархіст“ Абдзіраловіч спачувае эсэрам. **— *М. Шч.***]. *Адну групу — Янкі Станкевіча — называлі „правай“. Туды ўвайшлі больш заможныя людзі, сяляне — „сталыпінскія мужыкі“, у якіх былі то цэлыя фальваркі, то досыць вялікія хутары. Усе гэтыя [...] змагаліся за рэлігію і сучасны буржуазны лад жыцьця, усёй душой ненавідзячы сацыялізм.*

*— Нашто вам сацыялізм, — крычаў, напрыклад, на сходзе Янка Станкевіч, — калі ўсе гэтыя сацыяльныя справы вельмі лёгка можа вырашыць каапэрацыя?*

*Другая група — Тамашэвіча — наадварот, казала, што ўвесь ратунак у сацыялізьме. Беларускае пытаньне ёсьць пытаньне галоўным чынам сацыяльнае. Спачатку сацыяльнае вызваленьне, а потым ужо нацыянальнае. У гэтай групе сабраліся ўсе сацыялісты, ад самых левых да марксістаў — ледзь не камуністычнага напрамку. Да марксістаў стала належаць Вярхоўская“*[147].

[146] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 168.





Аднак і сярод „марксістаў“ узьнікае разьмежаваньне — калі для Тамашэвіча культура (стварэньне „ліючыхся формаў“) ёсьць мэтай, то для айца Кірылы — толькі сродкам у змаганьні: *„Каб біць буржуазію, трэба мець яе зброю ў руках — культуру. Бяз гэтага ўся наша зброя — толькі кардонны меч, якім мы па-дзіцячаму размахвалі ў паветры“*[148]. І Тамашэвіч, і Вярхоўская запісваюцца Кірылам Бурачэўскім у „інтэлігенты“:

*„Што Тамашэвіч? Беларуская балалайка і ўсё. Я хачу стварыць новую грамаду з моладзі, якая яшчэ не памерла ў балоце кар'еры і асабістых спраў. Вось з гэтай мэтай я і прыйшоў да цябе. Я хачу, каб ты запісаўся ў нашую новую, сапраўды працоўную групу.*

*— Дзякую за давер. Калі я падыду да вас, тады запісвай. А Вярхоўская як?..*

*— Вярхоўская? Што пра яе ўспамінаць? Дачка папа-інтэлігента. У нашай групе ня будзе ні аднаго, хто радніўся ад гэтых інтэлігентаў.*

*— Чаму ты інтэлігентаў так ня церпіш? — зьдзівіўся Тугоўскі.*

*— Мне здаецца, ад іх усё няшчасьце на зямлі. Ты падумай: капіталістаў на ўсім сьвеце, можа быць, набярэцца дзясятак, ня болей. Іх бы лёгка было зьнішчыць, дык яны не маглі б шкоды такой вялікай даць, каб ня гэтая мільённая армія інтэлігентаў, гэтых слугак капіталізму. Яны прызвычаіліся жыць у лепшых умовах, чым іншыя, яны крычаць аб камфорце, яны тварылі буржуазную культуру. Яны, гэтыя інтэлігенты, я перакананы, абселі каля смачнага капіталістычнага пірага. І спрабуй зараз гэты пірог зьнішчыць, што стане з гэтай чорнай, тараканавай арміяй?.. Інтэлігент, — казаў ён, уваходзячы ў інтэрнат, — па-мойму, той чалавек, які прадае сваю ўмысловую працу“*[149].

Тугоўскі таксама патрабуе ад інтэлектуала (у прыватнасьці, ад Вярхоўскай) парваць з сваёй „буржуазнай“ сутнасьцю, стаць на іншыя „клясавыя пазыцыі“. Аднак на практыцы адбываецца хутчэй наадварот,

[147] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 140.

[148] Тамсама. С. 196.

[149] Тамсама. С. 171—172.

чым у марксісцкай тэорыі: прадстаўнікі беларускага сялянства спрэс пераходзяць на пазыцыі капіталізму, пераймаючы ягоную культуру (разам з ідэалёгіяй) і выракаючыся „сваёй". Селянін Бурак, які хоча стаць графам (толькі не „арыстакратам духу", як Тугоўскі, а сапраўдным, матэрыялістычным арыстакратам) як быццам разбурае ягоную тэорыю пра птушак і мазгі-крылы: вось жа, і верабей можа прыкінуцца „сокалам", і мазгоў для гэтага зусім не патрэбна. З гледзішча марксіста Кірылы гэта ёсьць „клясавай здрадай", нездарма ж аганістычнае клясавае вучэньне трымаецца на пэўным дэтэрмінізьме: прорвы між клясамі ніколі не пераадолець — тым часам як „інклюзіўная" капіталістычная этыка кажа адваротнае: пераадолець яе магчыма, тым ці іншым спосабам, найбольш пашыраным зь якіх ёсьць „культурная асыміляцыя" ніжэйшай клясы, перайманьне ёю каштоўнасьцяў паноўнай буржуазіі. Супраць згаданай асыміляцыі й выступае айцец Кірыла: *„Багаты бацька пасылае свайго сына ў Прагу вучыцца на доктара ці інжынэра, зарабіць капітал, каб потым павялічыць сваю гаспадарку. Але калі аб гэтым думае наш брат безьзямельны і малазямельны, калі ён пачынае ганяцца за ўсімі „арыстакратамі", і носіць фракі, і пераймае, забываючы аб вонкавых манерах, — тады гэта сьмешна да брыдкасьці. Хочацца сьмяяцца ім у твар"*[150].

Тугоўскі, які спрабуе выстаўляць падобныя радыкальныя патрабаваньні „выбарачна" (уласна, толькі да Вярхоўскай, бо на прыкладзе іншых бачыць іхную неабгрунтаванасьць), ставіць пад сумнеў словы марксіста айца Кірылы з уласных, ніцшэанскіх пазыцыяў:

*„А можа быць, айцец Кірыла, гэта і трэба? Я заўсёды зайздросьціў такім людзям, як Бурак, якія ні аб чым ня думаюць, зь неба зор не хапаюць, у пясок філязофіі і непатрэбных пытаньняў галовы ня сунуць, а жывуць сабе толькі для таго, каб жыць. Яны бяруць ад жыцьця яго насалоды, яны сьмяюцца здаровым сьмехам, і здаровы румянец грае на іх тварах. Яны гатовы нават пакахаць графіню, зусім ня бачачы ў гэтым нічога камічнага. Бурак так перакананы ў сваім праве на жыцьцё і яго радасьці, што над сабой зусім не раздумвае. Калі б яго прывялі ў паркетную залю, напоўненую арыстакратамі, дык, я думаю, ён спакойна глядзеў бы навокал сябе і спакойна калупаў пальцам у сваім носе.*

*— Ня ў гэтым справа, — прадоўжыў Кірыла. — Калі б гэты Бурак заставаўся сабой і нават сярод арыстакратаў калупаў пальцам у носе, гэта можна было толькі вітаць.* [! — **М. Шч.**] *Але калі гэты просты палескі мужык Бурак нацягвае на сваю шырокую руку рукавічкі, калі ён хоча курчыць зь сябе арыстакрата, графа, — тады гэта толькі маўпаваньне. Над гэтым трэба сьмяяцца, праз сьлёзы. Чаму? Таму, што гэты чалавек — косьць ад косьці, кроў ад крыві простага народу, ня хочаісьці зь ім, ня думае змагацца за яго долю, ня хоча стаць у шэраг грамадзкіх працаўнікоў"*[151].

Зноў-такі, індывідуаліст Тугоўскі ня можа пагадзіцца з айцом Кірылам у гэтым пытаньні канчаткова — але часткова згаджаецца зь ім да той ступені, да якой буржуазнае грамадзтва ёсьць іхным супольным ворагам: яно папросту разбурае абедзьве іхныя максымалісцкія й ідэалістычныя тэорыі. Таму для абодвух *„роджаных пад Сатурнам"* усё што заўгодна лепшае, як быць „палітычнай балалайкай" — інтэлігентам — „асьветнікам" — інакшай кажучы, апалягетам існага ладу (*„закасьцянелай формы"*, як сказаў бы Абдзіраловіч), ня кажучы пра тое, каб быць апосталам яго экстрапаляцыі ў родную Беларусь, як большыня палітычна „несьвядомых" студэнтаў-землякоў. Як бачым, сваім палітычным выбарам Тугоўскі, зноў-такі, бароніць перадусім сваю тоеснасьць, выбітнасьць, індывідуалізм.

### 10. Тэрарызм як абранасьць

У пэўным сэнсе, прыбяганьне Тугоўскага да тэрарызму ёсьць разьвязаньнем непалітычным — ён згаджаецца стаць тэрарыстам, бо ня верыць у тое, што ягоныя сябры-беларусы з дапамогай сваіх ідэяў здолеюць зьмяніць сытуацыю на бацькаўшчыне. Беларускі рух *„ня ёсьць культурным зьявішчам"*, а сама Беларусь па-ранейшаму лапцюжная — вырвацца з гэтага заганнага кола можа дапамагчы толькі сапраўдны Ўчынак Асобы, які не супярэчыць філязофскаму Ідэалу самагубства — самаахвяраваньню. Пра слушнасьць раней выказанай намі высновы, што менавіта філязофскі, а не палітычны ідэал выступае тут у якасьці галоўнай матывацыі намеру Тугоўскага, сьведчыць наступны пасаж, у якім ідэйныя прычыны такога ўчынку выказвае ня сам герой, а нехта Карусь (яшчэ адзін з райцаў Тугоўскага, займеньнік „астральнага чалавека" — паводле камэнтатараў, ягоным прататыпам ёсьць былы беларускі партызан Васіль Русак):

*„У адной з суседніх з Чэхаславакіяй дзяржаў у мяне ёсьць пэўныя людзі — загартаваныя ў барацьбе паўстанцы. Табе давядзецца*

[150] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 169.

[151] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 170.

*нелегальна перайсьці граніцу і наладзіць зь імі сувязь і сетку паўстанцкай арганізацыі... Калі б мы магліаднавіць ува ўсёй дзяржаве тэрор з дапамогай украінскіх арганізацый, мы маглі б сказаць, што зрабілі вялікую беларускую справу. Кроў чалавека мы пераліլі б на аўтар Бацькаўшчыны. А людзкая кроў ніколі ня гіне дарэмна і на гістарычных вагах важыць вельмі шмат. Дык чым губляць сваё маладое жыцьцё бяссэнсава, лепш загубіць яго з карысьцю для грамадзянства, у імя гісторыі. Праўду я кажу ці не?*

*Тугоўскі, каторы за ўсё жыцьцё і мухі не забіў* [тут і далей вылучана намі. — ***М. Шч.***], *слухаў разважаньні Каруся аб тэроры зусім сур'ёзна, ня бачачы ў іх нічога фантастычнага. Яму здавалася, што ўсё ж ткі ў словах Каруся ёсьць лёгіка: замест таго, каб прыставіць дула рэвальвэра да свайго чала, лепш прыставіць яго да чала ворага і ўжо потым скончыць з сабой. Прыдаць свайму жыцьцю апошнюю і прыгожую вартасьць*"[152].

Нельга не пагадзіцца, што ад'езд Тугоўскага ў Карпаты ёсьць надзвычай літаратурным, так бы мовіць, „рамантычным", як ад'езд Пячорына на Каўказ альбо Байрана ў Грэцыю — гэта сапраўды ўцёкі ў пошуках сьмерці, але не ад неакрэсьленага спліну, як у разбэшчаных і перанасычаных жыцьцём рамантыкаў, а ад канкрэтнай немагчымасьці самарэалізацыі ў рэальных варунках (пагадзіцеся, што спроба Тугоўскага пайсьці ў народ і зарабляць на жыцьцё фізычнай працай, каб „ачысьціцца пакутай", выглядала нашмат менш „рамантычна" — але ж дарога ў тэрарысты ёсьць лягічным працягам „сыходу ў народ", ягоным варыянтам. Дылемы Тугоўскага могуць разьвязацца толькі сыходам / ад'ездам). З гледзішча ідэалёгіі й сюжэтнай пабудовы раману гэты ад'езд папросту неабходны: Тугоўскі павінен зрабіць урэшце спробу *„прыдаць свайму жыцьцю апошнюю й прыгожую вартасьць"*, іначай усе ягоныя папярэднія заявы й высновы зрабілі б зь яго толькі „балалайку" ці „таўкача", падобнага да Тамашэвіча (айца Кірылу ад падобнага ўчынку „ратуе" заўчасная сьмерць). Як бачым, і тут Вальтар, аматар Шэксьпіра, дадумвае й даводзіць лёс свайго героя да крайнасьці, прымушае яго па-макбэтаўску „адказваць за свае словы".

*„Ну дапусьцім, што страляць у іншых, каб потым быць самому расстрэляным, ёсьць асаблівы від самагубства. Я выбраў сабе гэты від самагубства, бо лепшага не знайшоў, і ўсё"*[153].

[152] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 245—246.

[153] Тамсама. С. 257.





Але і іншая, не эгаістычная матывацыя Тугоўскага ёсьць для ягонага ўчынку раўназначнай: гэта ўжо згаданая расчараванасьць у беларускім палітычным руху, усьведамленьне ягонай нежыцьцяздольнасьці, ідэйнай разарванасьці, аналягічныя нутраной барацьбе ў самім Тугоўскім. Гэтыя „сябры народу" ня меней за яго хворыя на ўласныя „інтэлігенцкія хваробы", якія яму самому й закідаюць:

*„Вы, крайне левыя, вы, рашучыя, кахаеце народ толькі тэарэтычна, але самі баіцеся ўвайсьці ў яго брудную хату і апрануць яго кажух, бо ён сьмярдзіць. Я не баюся жывога народу. І калі яму патрэбна маё жыцьцё, калі для таго, каб ён вярнуўся да жыцьця, патрэбна мая ахвяра, я аддаю сябе ўсяго з рашучай гатоўнасьцю. Вы маеце зьдзіўлены твар, Галена Ўладзіміраўна. Вы хочаце, напэўна, сказаць: як гэты нэўрастэнік Тугоўскі, гэта забітая істота, гэты некультурны дзікун, раптам апынуўся ў ролі рэвалюцыянэра? Вы правы, можа быць, гэта дзіўна. Але гэта лягічна, калі вы, прыпомніце, што ў гэтага нэўрастэніка больш нічога каштоўнага не засталося ў жыцьці. Засталася адна глыбокая нянавісьць да сучаснага ладу і да ўсіх сытых мяшчан"*[154].

Менавіта ў крытыцы беларускай нацыянальнай эліты раман Вальтара, на жаль, не састарэў ні на ёту. *„Беларускі рух ня стаў настолькі шырокім і моцным, каб зь ім лічыліся, як зь вялікім культурным зьявішчам. Яшчэ трэба несьці шмат мук, трэба праліць нямала крыві, каб нарэшце рух стаў ня толькі „крамолай", ня толькі „бунтам" незадаволеных галодных мас, але каб ён стаў моцным і глыбокім, як само жыцьцё, як патрэба жыць і дыхаць, каб ён атрымаў усясьветную сымпатыю. Толькі кроў, гэта неўміручае каханьне, можа выклікаць сымпатыю людзей; толькі ахвяры могуць прыняць вянок перамогі, і толькі жывыя людзкія ахвяры могуць прымусіць схіліць галаву самых заўзятых ворагаў. Болей ахвяр!"*[155] Цікава, што падобных поглядаў на практыцы прытрымліваўся ня хто-небудзь, а вялікі гуманіст і заснавальнік Чэхаславаччыны „татачка" Масарык. То бок, аднымі словамі нічога не дамагчыся — трэба дзейнічаць, а дзейнічаць — азначае забіваць... (да падобнай высновы прыходзіць у рамане „Літоўскі воўк" адзін з герояў сучаснага пісьменьніка Алеся Наварыча). Ёсьць і яшчэ адна прычына такога радыкалізму: жаданьне бачыць вынікі сваёй працы тут і цяпер, а ня ў нейкай далёкай будучыні.

[154] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 256.

[155] Тамсама. С. 234.

Сам Вальтар абраў сабе шлях больш сьціплы й бясьпечны (ізноў шлях найменшага супраціву?): паверыў „Сонцу Тамашэвіча“ й, што называецца, „панёс культуру ў масы“, вярнуўся на Бацькаўшчыну й заняўся настаўніцтвам — хаця, заўважым, у пару, калі прышчапленьне беларускаму народу беларускай культуры было ня проста самамэтай, а мела яшчэ глыбокі палітычны сэнс. Аднак ужо тады айцец Кірыла казаў пра сябе, нібы прадбачачы лёс Вальтара-настаўніка: *„Усё жыцьцё аддаў беларускаму руху, а чаго я дасяг... Паміраю, не дайшоўшы да зямлі абяцанай, паміраю дзесьці ў пустыні, адзін, пакінуты дзікім птушкам і зьвярам, як падаль...“*[156]

## 11. Між Сцылай і Харыбдай

Чаго не зразумеў „добраахвотны самагубца“ Тугоўскі й што зразумеў „нядобраахвотны самагубца“ Вальтар у тагачаснай палітыцы? Ці наадварот, Тугоўскі па-свойму зразумеў больш, як ягоны аўтар? У чым іхнае апошняе й галоўнае палітычнае разыходжаньне — іначай кажучы, чаму Вальтар „ня мог не забіць“ інтэлігента-плебея Тугоўскага, гэтаксама як і пралетара Кірылу Бурачэўскага — двух непапраўных максымалістаў, падобным да якіх не наважыўся стацца ён сам?

*„Апошняй выступіла Вярхоўская.*

*— Мы разумеем Беларусь па-рознаму, — сказала яна. — Янка Станкевіч думае: дайце нам незалежную Беларусь, усё роўна якую, хоць з княгіняй Радзівіл як каралевай на чале, хоць з чортам, нарэшце, абы толькі на шыльдах жыдоўскіх крам красаваліся б беларускія надпісы і ў установах гутарылі б па-беларуску. Але я думаю: для беларускага селяніна і работніка такая станкевічаўская Беларусь зусім не патрэбна. Ці ня ўсё роўна яму, што яго эксплюатуе расейскі і жыдоўскі капіталіст, ці што на фабрыцы будзе сядзець дырэктар фабрыкі — Янка Станкевіч — і размахваць залатым ланцужком на вялікім бруху, гутарыць па-беларуску і эксплюатаваць работнікаў па-старому. Я думаю, беларускі працоўны народ назаўтра пракляў бы такую Беларусь. Не, пакуль мы ня зьменім сацыяльных варункаў, пакуль мы не паставім у аснову нашай праграмы сацыяльнае вызваленьне беларусаў, — мы будзем пустымі або беларускімі здраднікамі.*

*Вярхоўская села пад буру авацый“*[157].

[156] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 220.

[157] Тамсама. С. 141.





Як бачым, асноўная дылема, якая тоіцца за выбарам між „нацыянальным“ і „народніцкім“ шляхамі разьвіцьця грамадзтва, тая ж, што і ў выбары між капіталізмам і сацыялізмам, між „заходнім“ і „ўсходнім“ геапалітычнымі кірункамі: што стаіць на першым месцы — інтарэсы асобнага чалавека, прыватніка, ці інтарэсы грамады? Ці заўжды гэтыя інтарэсы ідуць у згодзе адны з аднымі, як сьцьвярджаў „залатазубы прафэсар“? І хто каму шкодзіць больш: прыватнік грамадзе ці грамада прыватніку?

Калі казаць спрошчана, то ў той час гэтая спрэчка набыла форму супрацьстаяньня між Расеяй і Эўропай (паводле Абдзіраловіча — *„між Усходам і Захадам“*). Эўропа ў XX ст. зрабіла выбар на карысьць індывідуалізму ў ягонай самай скрайняй форме, зь якой урэшце ўзьнік скрайне правы фашыстоўскі рух — тым часам як Расея бараніла калектывізм, рух сацыяльны й сацыялістычны. Беларускія дзеячы былі вымушаныя выбіраць між адным і другім, між дзьвюма моцнымі ідэалёгіямі — у тым ліку й таму, што ня мелі адпаведна моцнай ідэалёгіі ўласнай (зрэшты, як і іншыя малыя дзяржавы таго часу, за выключэньнем хіба Чэхаславаччыны, што ёй ня надта дапамагло — іхныя ідэалёгіі былі ўсё-ткі вузка нацыянальнымі, а не ўнівэрсальнымі, прыдуманымі *ad hoc*: вялікія культуры й нацыі апярэдзілі маладзейшыя дзяржавы ня толькі ў тэхналягічным, але перадусім у ідэалягічным разьвіцьці; гэткай жа „вузка нацыянальнай“ і „сытуацыйнай“ ёсьць, калі задумацца, і ідэалёгія Абдзіраловіча, прынамсі што да ейнай „праграмы-мінімум“ — таму яна й засталася толькі ідэяй, гэтак жа як ягоная „праграма-максымум“, сугучная ў пэўных момантах анархічнаму максымалізму Штырнэра).

Ці быў, насамрэч, магчымы нейкі „трэці“ шлях? Вось як ён выглядаў бы паводле Тамашэвіча (які, імаверна, пасьпеў-такі прачытаць „Адвечным шляхам“ раней за самога Вальтара): *„Мы, „младабеларусы“, ідзём далей і сьмела кажам словамі Янкі Купалы, прарока нашага адраджэньня: „Годзе заходняй ці ўсходняй культуры. Для беларуса цана ім адна“. Мы хочам, мы павінны тварыць уласныя беларускія культурныя каштоўнасьці. Ніякія аўтаноміі, ніякія палавінчатыя хаўрусы з чужымі культурамі і дзяржавамі не дадуць нам нічога добрага, і мы заўсёды пойдзем на повадзе ў іх, ня маючы магчымасьці ўздыхнуць свабодна сваімі грудзямі. Толькі паветра ўласнай хаты дасьць нам магчымасьць разьвівацца духова, толькі на ўласнай зямлі дрэва беларускай культуры пусьціць ва ўсе бакі свае магутныя галіны“*[158].

[158] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 133.

У адрозьненьне ад Вальтара, які не застаўся „суб'ектыўным ідэалістам“, а зрабіў свой выбар на карысьць менавіта гэтага „трэцяга шляху“ ў ягоным уласным разуменьні, то бок практычнай літаратурнай і асьветніцкай дзейнасьці, Тугоўскі ня здольны адказаць на вышэйсфармуляваныя пытаньні дыялектычна — іначай кажучы, ня здольны ісьці на кампрамісы, бо ягонае *„самагубства шляхам тэрарызму“* — усё што заўгодна, толькі не кампраміс... Хаця кампраміс („трэці шлях“), паводле іроніі лёсу, не ўратаваў ані Вальтара, як не ўратаваў і „беларускай ідэі“: можа, у свае апошнія хвіліны сам Вальтар прыгадаў свайго *„роджанага пад Сатурнам“* героя, усьвядоміў усю глыбіню ягонай (цяпер ужо ўласнай) трагедыі, асэнсаваў марнасьць ягоных спадзяваньняў і прыняў за сваю ягоную веру ў наканаванае? Ня будучы да канца згодным з сваім героем, аўтар падзяляе ягоны лёс: вышэйшы Творца абыходзіцца зь ім дакладна так, як ён сам абышоўся з Кірылам Бурачэўскім... У гэтым палягае, можна сказаць, „нелітаратурны“ трагізм раману.

*„Я памёр для гэтага сьвету, памёр для інтэлігенцыі, якая панясе эўрапейскую панскую культуру на Беларусь. Я сам сябе зажыва пахаваў у яму, каб ня стаў тым, каго болей усяго ненавіджу: інтэлігентам, які ненавідзіць рабочых, бо яны сьмярдзяць“*[159]. Вось чым, уласна, сканчаецца духоўная эвалюцыя Тугоўскага, „плебея“ з душой паэта й філёзафа, чытача Ніцшэ. Фактычна, ён ня можа быць сваім ні між эўрапейскіх інтэлігентаў, ні між беларускіх пралетарыяў — але ня можа абраць ані „трэцяга шляху“, бо (у адрозьненьне ад таго ж Абдзіраловіча) у яго ня верыць. У гэтым ягоная трагедыя — ён, як Носфэрату, „ні жывы, ні мёртвы“: *„Калі звычайны работнік цярпіць сваё становішча як сацыяльнае зло і прыміраецца зь ім, дык у яго (Тугоўскага) дамешваюцца яшчэ маральныя мукі. На кожным кроку ўспамінае, што ён былы студэнт. Калісьці ў яго былі надзеі, а зараз ён раб, і вастрыё сучаснага ладу накіравана якраз на яго“*[160].

Спрошчана кажучы, Тугоўскі пайшоў у тэрарысты ад уласнай нявызначанасьці. Да канца раману ён вагаецца між двума крайнімі полюсамі, калектывізмам і індывідуальнасьцю — гэтаксама як вагалася ў той час само грамадзтва, сама ня толькі ідэйна, але й геаграфічна падзеленая Беларусь. Спрэчка з „залатазубым прафэсарам“ нічым не сканчаецца, але й не спыняецца: ці супярэчыць прыватны інтарэс „узбагачэньня“ й прыватная ініцыятыва дабру іншых, як кажуць сацыялісты, ці наадварот, спрыяе грамадзтву, як вучаць ва ўнівэрсытэце? І ці магчыма спалучыць гэтыя ідэі, знайсьці нейкі іхны дыялектычны сынтэз? Усё ж гэтак званыя „кар'ерысты“ (Станкевіч), уладкоўваючы прыватнае жыцьцё, прыносяць карысьць і іншым — можа, Тугоўскі папросту быў ня здольны ўладкаваць свайго жыцьця, быў „няўдачнікам“, таму й скончыў гэтак трагічна? Аднак можна ўбачыць у гэтай ягонай неўладкаванасьці й нявызначанасьці больш глыбокі сэнс, а менавіта ўсьведамленьне калі не філязафічнай, то прынамсі тагачаснай гістарычнай (а ня толькі асабістай) немагчымасьці вызначыцца — адсюль і нежаданьне вызначацца... Герой Вальтара адмаўляе саму сытуацыю абмежаванага выбару — то бок, сваю гістарычную дэтэрмінаванасьць...

Таму невыпадкова, што Тугоўскі („ідэальны“ Вальтар) памірае ня ў Празе (як Бурачэўскі) й не на радзіме (як Лебядзёк ці сам аўтар), а на паўдарозе да бацькаўшчыны — недзе ў Карпатах, сам-насам з сваім адзіным творам (разьвітальным допісам, які ўрэшце мае адзінага чытача — яго самога), задоўга да гэтага ўсьвядоміўшы, што Беларусь аб'ектыўна, цывілізацыйна не гатовая да „трэцяга шляху“, пагатоў да так званага эўрапейскага выбару — менавіта праз сваю адсталасьць і лапцюжнасьць:

*„Тугоўскі стаяў і пільна глядзеў усьлед гэтым маладым сілам, якія растуць дзеля таго, каб нішчыць сучасны лад. У іх было шмат нахабства, яны былі простыя, як сама вёска, яны былі дрэнна памыты, дрэнна прычасаны і дрэнна апрануты, і ўсё ж ткі ім не было як адмовіць у здольнасьці і працавітасьці ў дасягненьні сваёй мэты. І можна было не спачуваць у іх імкненьні да лепшай будучыні, да сьветлых ідэалаў, за палепшаньне жыцьця галодных мас — няхай хоць на паперы, а не ў жыцьці. Але ім ня можна было спачуваць за іх нахабства, грубасьць, за тое, што ў іх усё было спрошчана, аголена, абарвана. Яны здаваліся Тугоўскаму тым, чым быў ён сам, пакуль ня стаў чэскім работнікам, пакуль ня выпіў да дна горкую чарку пакуты. Ім, гэтым камсамольцам, трэба было б спачатку пацярпець і тады зразумець, што шлях да вызваленьня чалавека ляжыць праз яго духоўнае ўдасканаленьне. Ім трэба было б самім спачатку вырасьці культурна да буржуазіі... Нішчыць і ламаць — вельмі лёгкая штука. Але каб што-небудзь стварыць, трэба культура. Цяпер гэта зразумеў Тугоўскі. Цяпер ён гатоў быў гутарыць аб гэтым з усімі і кожным“*[161].

[159] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 194.
[160] Тамсама. С. 225.
[161] Вальтар, Віктар. Роджаныя пад Сатурнам... С. 236—237.

У адрозьненьне ад філёзафа Тугоўскага, пісьменьнік Віктар Вальтар зрабіў для рэалізацыі гэтай ідэалягічнай праграмы максымум магчымага — ня толькі напісаўшы вялікі раман, але й фактычна аддаўшы сваё жыцьцё за асьвету свайго народу. Але ж і самому аўтару была ўласьцівая падвоенасьць ягонага галоўнага героя, нездарма ж ён сам працаваў „на двух франтах“: ня толькі імкнуўся крытыкаваць нацыянальную інтэлігенцыю ў сваім рамане, сутыкаючы яе з падобнымі невырашальнымі ідэалягічнымі дылемамі, але й спрабаваў узьняць селяніна да эўрапейскай культуры. Калі першае сталася прычынай „аддаленага самагубства“ ягонага раману, дык апошняе ўрэшце каштавала жыцьця яму самому.

### 12. Заключэньне

Калі беларуская культура й „вырасла да буржуазіі“ (то бок да ўзроўню заходняй культуры), то толькі пры самым канцы мінулага стагодзьдзя, дый тое па-свойму „сачковым“ шляхам найменшага супраціву — шляхам „пераадкрыцьця„ (але ўжо меней пераўсьведамленьня) уласнай эўрапейскасьці: маўляў, навошта нам, уласна, расьці, калі мы яшчэ з часоў Скарыны даўно „ўрасьлі“ ў эўрапейскую глебу, варта толькі азірнуцца, вярнуцца да вытокаў... прычым сама сучасная „эўрапейскасьць“ досыць мала праблематызуецца й аналізуецца з ідэалягічнага гледзішча (што б на гэта сказаў Абдзіраловіч, пагатоў Вальтар?). Больш за тое, аніякіх яскравых і пераканаўчых доказаў беларускай „эўрапейскасьці“ ці „індывідуалізму“, апрача гістарычных, фактычна пададзена не было — таму да сёньня й няма ўцямнай ПАЛІТЫЧНАЙ „празаходняй“ канцэпцыі беларускай нацыі. Ёсьць эсэнцыялісцкая канцэпцыя Пазьняка, паводле якой нацыя ёсьць „дабром сама па сабе“ й не патрабуе, уласна, ніякіх іншых абгрунтаваньняў, апроч гістарычных прыкладаў сваёй велічы, ахвярнасьці й г. д. — гэтая канцэпцыя ня проста не зважае на патрэбу геапалітычнага выбару, але й апрыёры лічыць такі выбар „шкодным“. Ёсьць „больш мудрагелістая“ канцэпцыя „ўяўнай супольнасьці“, паводле якой нацыя існуе, пакуль здольная прадукаваць і захоўваць свае эліты (наконт крытыкі элітаў у Вальтара глядзі вышэй), што ў сваю чаргу будуць выпрацоўваць менавіта разнастайныя нацыянальныя канцэпцыі, аднак традыцыйна ня будуць пэцкацца іхным ажыцьцяўленьнем. Ёсьць і культурная канцэпцыя „нацыі-дыяспары“ з развагамі пра „нутраную эміграцыю“, да якой набліжаецца паўдзяцінская канцэпцыя „ліцьвінства“. Усе яны, як ільга лёгка даказаць на падставе Вальтара й Абдзіраловіча, ня новыя. Дзеля большай сучаснасьці не хапае яшчэ, можа, якой канцэпцыі „нацыі блогераў“ (усё тых жа „таўкачоў“), якая аб'ядноўвала б самых „прасунутых на Захад“ карыстальнікаў... Тым ня менш, усе гэтыя „тэорыі“, як і колішнія спрэчкі праскіх эмігрантаў, і сёньня застаюцца „карпаратыўнымі“ (у тым сэнсе, у якім цяпер гавораць пра „карпаратыўную літаратуру“): то бок канцэпцыямі элітаў і для элітаў. (Выключэньнем ёсьць, бадай, „постчарнобыльская“ канцэпцыя Ю. Шаўцова, аднак яна належыць да канцэпцый не „заходняга“, а „ўсходняга“ тыпу, гэтаксама як і постсавецкая дзяржаўная „нібы-канцэпцыя“ „трэцяга шляху“ — абедзьвюм уласьцівы значны перакос у бок „калектывізму“...)

Зрэшты, мы таксама прапануем „вярнуцца да вытокаў“, аднак не да Вітаўта й Грунвальда, а да больш сучасных і актуальных — у прыватнасьці, да Віктара Вальтара, які (прынамсі, у літаратуры) здаецца найлепшым доказам патэнцыйнай (і, на жаль, своечасова не рэалізаванай) беларускай эўрапейскасьці. Калі б у XX стагодзьдзі беларуская культура пайшла менавіта шляхам Вальтара, то бок шляхам самакрытычным (хай сабе на мяжы самагубства) і „субвэрсіўным“, а не саматужным і самаўпэўненым „трэцім шляхам“ (які ў рэчаіснасьці быў магчымы толькі як шлях вечных кампрамісаў), то ў канчаткова эўрапейскую яна магла б вырасьці значна раней, чым гэта адбудзецца насамрэч (хочацца верыць, што непазьбежна, але калі?). Замест гэтага яна цягам усяго стагодзьдзя збольшага заставалася ў рэчышчы культуры расейска-савецкай, калектывісцкай і пралетарскай, то бок ізноў пайшла шляхам „найменшага супраціву“ — не „адвечным“, а авечым; як і пазьней — шляхам „вяртаньня да каранёў“ (хай сабе й мёртвых, але галоўнае — агульных)... У межах ранейшай „калектывісцкай“ культуры, як „правай“ (эміграцкай і нацыяналістычнай), так і „левай“ (афіцыйнай), для праўдзівага індывідуаліста Віктара Вальтара не магло быць месца — але ці знойдзецца яно сёньня? Маем на ўвазе ня ўжо рэзэрваваную й згаданую напачатку „нішу ў калюмбары“, а менавіта „пачэсны пасад між імёнамі“...

Калі казаць пра самога Вальтара, дык ягонае жыцьцё здаецца нічым іншым, як адкладзеным (дзеля напісаньня раману) самагубствам — ужо сам факт таго, што ён не пайшоў да доктара й хадзіў „тры дні пешкі“ ў школу, пакуль не ацяклі ногі, яскрава сьведчыць не пра ягоную „волю да жыцьця“, як здаецца камэнтатарам, а менавіта да сьмерці. У ягоную сьмерць на сухоты (прадказаную ім сабе ў вобразе Кірылы Бурачэўскага) мне чамусьці ня хочацца верыць — яна была б

досыць банальнай для тагачаснага беларускага літаратара — у межах набліжэньня аўтара да свайго героя больш адпаведнай была б сьмерць менавіта ад падхопленага ў Празе сыфілісу, які па-беларуску, аказваецца, будзе „сьвінячае каханьне“ (прывітаньне М. Мартысевіч).

Што прынесла большыя вынікі — рэальная ахвяра настаўніка Віктара Вальтара ці фактычнае „мастацкае самагубства“ Аўтара „Роджаных пад Сатурнам“, якое вылілася ў маўчаньне ягонага тэксту цягам цэлага стагодзьдзя? Мы перакананыя, што апошняе. Сам Вальтар усьведамляў, што для ўспрыняцьця ягонага раману тагачаснае беларускае грамадзтва было не гатовае; аднак ягоная кніга здаецца бомбай адкладзенага дзеяньня (нашмат больш небясьпечнай за „бомбу“ ідэалістычнага анархіста Абдзіраловіча), якую аўтар сьвядома й глыбока заклаў у падмуркі „сялянскай“ беларускай культуры з мэтай ейнага (сама)зьнішчэньня. Новы, актуалізаваны выбух гэтай тэрарыстычнай бомбы адбыўся — ягонае ўсьведамленьне сучасьнікамі ёсьць перадумовай пераасэнсаваньня імі, як мінімум, уласнай „эўрапейскасьці“, як максымум — ...



*Публікацыі*

***Андрэй Блінец***
*Клецк*

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА НАВАГРАДЗКІ ЭСКАДРОН

Наваградзкі, Рагулеўскі, Першы беларускі эскадрон. Цяжка назваць іншую нацыянальную вайсковую адзінку часоў Другой сусьветнай вайны, пра якую было б так шмат напісана й так мала вядома. Першыя артыкулы, прысьвечаныя эскадрону, зьявіліся ў пэрыядычным друку яшчэ пры нямецкай акупацыі[1]. Пазьней былі публікацыі ў беларускай эміграцыйнай прэсе[2], згадкі ў працах савецкіх гісторыкаў[3]. Праўда, апошнія менш за ўсё кіраваліся жаданьнем наблізіцца да ісьціны. Для іх галоўным было намаляваць максымальна непрывабнае аблічча „гітлераўскіх памагатых“. Напрыклад, Васіль Раманоўскі абвінавацiў рагулеўцаў ледзьве не ва ўсіх сьмяротных грахах, прыпісваючы ім і п’янства, і марадэрства, і зьнішчэньне мірнага насельніцтва. Пры гэтым аніводнага дакумэнту й факту, якія б гэта пацьвярджалі, ён не прывёў. Апошнімі гадамі пра эскадрон і яго камандзіра нямала пісалі беларускія й расейскія аўтары. Варта адзначыць спэцвыпуск часопісу *ARCHE* „Жыцьцё пад агнём“, укладзены Лявонам Юрэвічам, які ўбачыў сьвет у 1999 г.[4], работу Сяргея Чуева[5]. Аднак у гісторыі гэтай вайсковай адзінкі ўсё яшчэ нямала белых плямаў. Дакладна не вядомы ні час яе фармаваньня, ні колькасны склад, ня вывучаны ўдзел у баявых дзеяньнях. Амаль няма дасьледаваньняў лёсаў асобных байцоў і афіцэраў эскадрону.

Прычына такой супярэчнасьці — у абмежаванасьці крыніцаў, якімі карысталіся дасьледнікі. Амаль усе аўтары абапіраліся фактычна на

[1] Чэмер, А. „Рагулінцы“ ў змаганьні // Беларуская газэта. №44. 3 чэрвеня 1944.
[2] Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Наперад! №№24—26. 1953.
[3] Раманоўскі, В. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964.
[4] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. Менск, 1999.
[5] Чуев, Сергей. Проклятые солдаты. Москва, 2004.

адзіную публікацыю — артыкул „Наваградзкі эскадрон“, надрукаваны ў 1953 г. у трох нумарах часопісу „Наперад!“ пад псэўданімам Рагулявец. Пры гэтым матэрыял успрымаўся надзвычай некрытычна. Ня ўлічваўся ні час, калі ён зьявіўся ў друку, ні матывы, якімі кіраваўся аўтар (Барыс Рагуля), ствараючы рамантычную й гераічную гісторыю сваёй фармацыі. Яскравым узорам такога выкарыстаньня мэмуараў Рагуляўца стала кніга Алега Раманька „Карычневыя здані Палесься“[6]. Аўтар фактычна паўтарае тэкст артыкулу з эміграцыйнага часопісу, нават не спрабуючы разабрацца, што тут адпавядае сапраўднасьці, а што не.

Сярод усіх публікацыяў выгадна адрозьніваецца артыкул Юр'я Грыбоўскага „Наваградзкі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае“[7]. Дасьледнік адыходзіць ад ужо стандартнай схемы апісаньня гісторыі фармацыі, крытычна разглядае ўспаміны Рагулі, супастаўляючы іх з архіўнымі дакумэнтамі. Нельга абмінуць і значны даробак Сяргея Ярша, які запісаў і надрукаваў успаміны шматлікіх байцоў[8]. Апошняе асабліва важна сёньня, калі пайшлі з жыцьця ўсе сьведкі і ўдзельнікі тых падзеяў. Сяргей Ёрш, з дапамогай былога беларускага афіцэра Ўладзімера Сіўка, здолеў расшыфраваць і значную колькасьць крыптанімаў, якія Барыс Рагуля выкарыстоўваў у сваіх успамінах.

Ніжэй чытачу прапаноўваецца яшчэ адна спроба асьвятліць утварэньне, арганізацыю й баявы шлях эскадрону, пабудаваная на супастаўленьні розных крыніцаў і аналізе раней невядомых успамінаў.

Гісторыю эскадрону лягічна пачаць з моманту яго фармаваньня. Рагуля піша, што гэты працэс распачаўся ў канцы лістапада 1943 г., калі зь Менску ў Наваградак даставілі зброю, вопратку й конскі рыштунак для будучай фармацыі[9]. Сам эскадрон паўстаў літаральна праз тры дні пасьля гэтага. Юры Грыбоўскі бярэ прыведзеныя зьвесткі пад сумнеў і лічыць, што фармаваньне швадрону пачалося пасьля 22 лютага 1944 г., калі Генэральны камісар Курт фон Готбэрг выдаў загад аб стварэньні чарговага беларускага палявога шума-батальёну (*Weiss-Schuma-F-Bataillon*), камандзірам якога прызначылі Барыса Рагулю[10]. Пры гэтым, дасьледнік ня ўлічвае адной, на мой погляд, важнай акалічнасьці.

24 лютага 1944 г. выйшаў першы нумар Наваградзкай акруговай газэты „За праўду!“. Ужо ў гэтым нумары былі зьмешчаныя матэрыялы, прысьвечаныя эскадрону[11]. Пры чым гаворка ішла не пра пачатак фармаваньня адзінкі, канстатаваўся факт яе наяўнасьці. Адзначалася, што наваградцы зжыліся з сваім эскадронам. Матэрыялы для нумара, які ўбачыў сьвет 24 лютага, мусілі быць падрыхтаваныя прынамсі за некалькі дзён да таго. У любым разе, яшчэ да 22 лютага — дня падпісаньня загаду. Ці магла публікацыя апярэдзіць саму падзею? Імаверна, на момант выхаду газэты эскадрон ужо існаваў і быў рэальнасьцю для Наваградку. Думаю, варта прыняць сьведчаньне Барыса Рагулі й пагадзіцца, што першыя захады ў арганізацыі новай беларускай вайсковай адзінкі рабіліся ў канцы 1943 г., а на пачатку 1944 г. яна ўжо існавала. На карысьць гэтага сьведчыць наступны эпізод. Рагуля ўспамінае, што коні мусілі быць пастаўленыя пасьля двухмесячнага вышкалу навабранцаў. Практычныя заняткі верхавой язды пачаліся ў сярэдзіне сакавіка 1944 г.[12], а значыць, вайсковая муштра ў эскадроне распачалася не пазьней, як у палове студзеня. 1943 г. у якасьці пачатку фармаваньня згадваюць і былыя „рагулеўцы“ Андрэй Вайтовіч і Ўладзімер Сіўко[13]. Загад фон Готбэрга, хутчэй за ўсё, выкарысталі для стварэньня на базе эскадрону асобнага паліцыйнага батальёну, у які, акрамя кавалерыі, увайшлі тры стралецкія роты. 15 сакавіка 1944 г. гэтая вайсковая адзінка атрымала парадкавы нумар — 68-мы беларускі палявы шумабатальён (*Weissruthenische Schutzmannschafts Bataillon F/68*)[14]. Цікава, што пры гэтым эскадрон захаваў пэўную адасобленасьць. Папаўненьне, якое атрымаў Рагуля ў пэрыяд з 22 лютага да 15 сакавіка 1944 г., накіроўвалі менавіта ў пешыя аддзелы. У газэце „За праўду!“ (№9. 23 сакавіка 1944) паведамляецца пра прысягу 26 сакавіка не ўсяго 68-га батальёну, што было б лягічным, а толькі — Першага беларускага швадрону. Менавіта „швадронам“, на польскі лад, байцы часта

6 Романько, О. Коричневые тени Полесья. Москва, 2008. С. 216—227.

7 Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №30. 2008. С. 101—114.

8 Ёрш, Сяргей. Вяртаньне БНП. Мінск—Слонім, 1999; Беларускі Рэзыстанс. №1 (5). 2008; 2(9). 2010.

9 Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 171.

10 Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 104.

11 Чэмер, А. Наваградскі эскадрон // За праўду! №1. 24 лютага 1944.

12 Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 171, 202.

13 Вайтовіч, А. Застаюся сябрам Беларускай незалежніцкай партыі // Беларускі Рэзыстанс. №1 (5). 2008. С. 100—136; Сіўко, У. Вецер паразносіў нас па ўсіх краінах і кантынентах // Беларускі Рэзыстанс. №2 (9). 2010. С. 5—19.

14 Грыбоўскі, Ю. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 107.

называлі сваю адзінку[15]. У далейшым тэрміны „эскадрон-швадрон“ і „батальён“ будуць выкарыстоўвацца там, дзе гаворка пра фармацыю ідзе ў вузкім і шырэйшым сэнсе.

Нельга пагадзіцца з тым, што Рагуля выстаўляў немцам шэраг папярэдніх умоваў — незалежнасьць ад мясцовага акупацыйнага кіраваньня, выбар тактыкі змаганьня з партызанамі, асабістыя гарантыі з боку генэральнага камісара[16]. Эскадрон сапраўды меў пэўную самастойнасьць, але гэта было адказам на патрабаваньні беларускага боку, а вынікала з агульнай зьмены нямецкай палітыкі ў дачыненьні нацыянальных сілаў. Зазнаючы паразы на фронце змаганьня з партызанамі, немцы былі гатовы даваць пэўныя прэфэрэнцыі новаўтвораным фармацыям, не губляючы ў той жа час апэрацыйнага кантролю над імі. Рашэньне аб выкарыстаньні рагулеўскага батальёну ў баявых акцыях прымалі паліцыйныя ўлады ў Менску[17]. Толькі гэтым можна растлумачыць пазьнейшае накіраваньне рагулеўцаў на Глыбоччыну для ўдзелу ў антыпартызанскай акцыі.

Беларускі актыў крытычна ўспрыняў фармаваньне батальёну. Шмат хто лічыў гэтую акцыю беспэрспэктыўнай, на фоне непазьбежнай паразы Нямеччыны. Школьны інспэктар Аляксандар Орса, шчыры патрыёт, шмат спрачаўся з Рагулям наконт гэтага, прасіў яго ня ўцягваць юнакоў у палітыку, не кампрамэтаваць іх перад савецкай уладай, якая вось-вось вернецца. На што апошні адказваў пытаньнем: *„А хто ж тады будзе народ бараніць?“*[18] Натуральна, ён не пераацэньваў значнасьці фармацыі й наўрад ці спадзяваўся неяк сур'ёзна паўплываць на становішча ў акрузе. Хутчэй за ўсё, галоўным для яго было атрымаць зброю й навучыць байцоў ёю карыстацца, стварыць узброеную рэзэрву, якую потым можна было б выкарыстаць у залежнасьці ад сытуацыі. Аналягічныя думкі выказваліся на старонках газэты „За праўду!“, рэдактарам якой быў Аляксей Анішчык (А. Чэмер), які ведаў Рагулю яшчэ з школьных часоў. У перадавым артыкуле першага нумара ёсьць такія радкі: *„...Творацца рэгулярныя беларускія вайсковыя часткі. Спрацаваныя беларускія рукі прагавіта выцягваюцца па вінтоўку або куля-*

[15] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[16] Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 171.

[17] Грыбоўскі, Ю. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 104—105.

[18] Клыкоўская, Ціна. Саюз беларускай моладзі — вяртаньне з забыцьця. Беласток, 2004. С. 148.





*мёт. Бальшавіцкая прапаганда, захлынаючыся ад злосьці, называе іх „нямецкімі наймітамі“. Хіба таму, што аружжа яны атрымліваюць ад нашага сёньняшняга натуральнага саюзьніка? Але паходжаньне аружжа ня важна, важна, на што яно будзе ўжыта. Важна ідэя, якая вядзе гэтыя ўзброеныя рады, а гэта ідэя — жаданьне дабра свайму народу, жаданьне росквіту гэтага народу, бо ўзрасла яна ў сэрцах верных сыноў гэтага народу. Гэта ўзброеныя змагары за нацыянальную праўду, і ў іх радах павінен знайсьціся кажны сумленны беларус, хаця б і з партызанскай вінтоўкай“*[19]. Варта пагадзіцца зь Юр'ем Грыбоўскім, што эскадрон мусіў мець ня столькі ваеннае, колькі ідэалягічнае значэньне. Гэтае імкненьне яго камандзіра цалкам супадала з пажаданьнямі асабовага складу[20].

Асновай для фармаваньня эскадрону сталі навучэнцы Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Гэтая ўстанова адыграла прыкметную ролю ў выхаваньні беларускіх патрыётаў. Менавіта ў сэмінарыі большасьць зь іх пазнаёмілася з сапраўднай гісторыяй свайго народу й адчула сябе беларусамі. Колькасьць ахвотных тут вучыцца была настолькі вялікая, што ўжо ў першы год свайго існаваньня ўстанова мела 10 паралельных групаў першага курсу[21]. Яе ролю ў выхаваньні моладзі пасвойму ацаніла й савецкая ўлада. У 1945 г. дырэктара сэмінарыі Пятра Скрабца арыштавалі й выслалі на восем гадоў у Магадан[22]. У сэмінарыі значная ўвага надавалася вайсковай падрыхтоўцы. Нейкі час настаўнікам гімнастыкі быў Язэп Сажыч. Ён апрануў юнакоў у самаробную ўніформу, праводзіў шыхтовыя й тактычныя заняткі. Паводле яго, менавіта з гэтых урокаў „гімнастыкі“ й пачаўся беларускі вайсковы рух на Наваградчыне[23]. Большасьць хлопцаў ставілася да такога вышкалу зь вялікім задавальненьнем. Акрамя таго, для добраахвотнікаў арганізоўваліся летнія лягеры, дзе юнакі атрымлівалі грунтоўную армейскую падрыхтоўку. Кожны дзень у летніку пачынаўся пабудкаю а пятай гадзіне раніцы. Адразу ж, незалежна ад таго, якое было надвор'е, бег ва-

[19] За праўду! №1. 24 лютага 1944.

[20] Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 106.

[21] Тавлай, В. Информация о положении при немецкой оккупации // Памяць. Навагрудскі раён. Мінск, 1996. С. 311.

[22] Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск, 2007. С. 123.

[23] Сажыч, Язэп. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкае акупацыі 1941—1944 гг. // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 234—235.

кол Замкавай гары (4 км). Пасьля гэтага ранішнія зборкі, падняцьце беларускага сьцягу, агульная малітва й сьціплы сьняданак. Затым ішлі практычныя й тэарэтычныя заняткі[24].

Адзін з курсантаў пазьней прыгадваў: *„Тэарэтычнымі выкладчыкамі былі Барыс Рагуля і бурмістар Навагрудку Буляк. Часам рабілі даклады прыежджыя афіцэры, як беларускія, так і нямецкія. Практычная падрыхтоўка складалася з страявой муштры і палявых заняткаў. Мне разы тры ці чатыры даводзілася „бараніць" старажытны замак, руіны якога і дагэтуль захаваліся на Замкавай гары. Практычныя заняткі праводзіліся часам у лесе, ля Навагрудку...*

*У казармах для самаабароны (на ўсялякі выпадак) мы мелі тры вінтоўкі. Страляць зь іх нас вучылі падафіцэры Янка Сечка і Янка Вялёнда. Пры ўваходзе ў казарму заўсёды стаяла ўзброеная варта"*[25].

Фактычна, дзеяла не афіцыйная, але цалкам легальная школа рыхтаваньня кадраў для беларускага войска. Адметна, што калі былыя сэмінарысты сталі ў шэрагі швадрону, то ўсе яны прынамсі ўмелі абыходзіцца з зброяй[26].

З улікам вышэйсказанага не даводзіцца сумнявацца ў тым, што эскадрон сфармавалі за лічаныя дні з добраахвотнікаў. Адсотак мабілізаваных быў невялікі. Дый мабілізацыя праводзілася вельмі своеасаблівa. Рагуля добра ведаў мясцовую моладзь і сам выпісваў позвы тым, каго хацеў бачыць у сваёй фармацыі. Рабілася гэта ня столькі дзеля прымусу, колькі для таго, каб абараніць сем'і пакліканых ад партызанскага тэрору. Маўляў, пайшоў у войска на загад — і хацеў бы застацца дома, дык нельга[27].

Колькі ж чалавек налічваў швадрон?

Адным зь першых сваю ацэнку гэтаму даў заходнебеларускі паэт і агент савецкай разьведкі Валянцін Таўлай. У сваёй справаздачы пра становішча ў Навагрудку ён гаворыць, што Рагуля пад пагрозай зброі змабілізаваў некалькі дзесяткаў чалавек[28]. Але гэта сьведчаньне трэба

[24] Навара, Павал. Кароткія ўспаміны // Голас часу. №24 (4). 1993. С. 32—37; №28 (1). 1994. С. 33—36; №29 (2). 1994. С. 33—37; № 31 (4). 1994. С. 35—38; №32 (5). 1994. С. 26—30.

[25] Навара, Павал. Кароткія ўспаміны...

[26] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г. Запіс захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[27] Гутарка зь Пятром Рашэтнікам, запісаная ў Баранавічах 07.08.2005 г. Запіс захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[28] Тавлай, В. Информация о положении при немецкой оккупации... С. 312.





ўспрымаць крытычна. Валянцін Таўлай быў беларускім патрыётам, да таго ж ёсьць зьвесткі, што менавіта Рагуля вызваліў яго з-пад нямецкага арышту[29]. Ён мог наўмысна занізіць колькасьць байцоў, каб не „падстаўляць" моладзь пад рэпрэсіі. Гэта ж датычыць і сьведчаньня пра гвалтоўны характар набору. Былыя байцы эскадрону падаюць іншыя лічбы. Барыс Мацюкевіч піша: *„У Навагрудзкім швадроне, я думаю, было каля 100 чалавек. Былі тры зьвязы, у кожным зьвязе па тры дружыны па 10 чалавек. Яшчэ былі дапаможныя службы"*[30]. Мікалай Радзевіч сьведчыць, што эскадрон складаўся з чатырох зьвязаў[31]. Гэта ж пацьвярджае і Ўладзімер Сіўко[32]. Сьведчаньні апошніх больш істотныя, бо яны самі былі зьвязовымі й ведалі сытуацыю лепш, чым шараговы Мацюкевіч. Такім чынам, можна пагадзіцца з словамі Рагулі, што ягоная фармацыя налічвала каля 150 байцоў[33]. Казармы разьмясьціліся ў будынку былой польскай школы на вуліцы 25 Сакавіка.

Камандзірамі зьвязаў на пачатковым этапе былі: 1-шы зьвяз — Уладзімер Сіўко, 2-гі зьвяз — Язэп Крака, 3-ці зьвяз — Юрка Мазура, 4-ты зьвяз — Мікалай Радзевіч[34]. Усе яны прайшлі сапраўдную службу ў польскім войску. Сіўко й Крака баявога досьведу ня мелі, пра Мазуру інфармацыі няма. А вось Радзевіч удзельнічаў у верасьнёўскай кампаніі 1939 г. у складзе 8-га палка лёгкай артылерыі. Разам з батарэяй адступаў ад прускай мяжы да Варшавы, дзе трапіў у палон пасьля капітуляцыі польскай сталіцы. Але ўжо напрыканцы 1939 г. быў адпушчаны й вярнуўся ў Любчу. З усіх рагулеўскіх камандзіраў Радзевіч быў адзіны, хто з самага пачатку ня верыў у посьпех акцыі й паставіўся да свайго прызначэньня без асаблівага энтузіязму[35]. Увогуле, невядома, які адсотак байцоў і камандзіраў швадрону мелі папярэднi баявы досьвед. Хутчэй за ўсё, гэтая лічба была нязначная.

Узбраеньне „рагулеўцаў" складалася зь вінтовак Мосіна, нямецкіх „маўзэраў", гранатаў і ручных кулямётаў Дзегцярова, па адным на кожны зьвяз[36]. Каманднай мовай была беларуская. Байцы насілі нямецкую ўніформу — шэра-зялёныя мундзіры й шынялі з чорнымі каўнярамі.

[29] Успаміны Уладзіміра Сіўко // Беларускі Рэзыстанс. №2. 2010. С. 12—13.

[30] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[31] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г...

[32] Успаміны Уладзіміра Сіўко // Беларускі Рэзыстанс. №2. 2010. С. 12.

[33] Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў... С. 506.

[34] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г...

[35] Тамсама.

[36] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...

Зімой выкарыстоўвалі белыя маскіровачныя халаты. У абмундзіраваньні шырока ўжывалася нацыянальная сымболіка. На пятліцах нашывалі бел-чырвона-белыя сьцяжкі, на пілётках насілі кукарды з Пагоняй[37]. Іх выкарыстаньне, відаць, было стыхійным і не рэглямэнтавалася ніякімі дакумэнтамі.

Паступова „рагулеўцы“ сталі неад’емнай часткай навауградзкага жыцьця. Некалькі разоў на дзень яны калёнамі праходзілі праз горад, ідучы на заняткі. Кожную раніцу на пляцы перад касьцёлам адбываліся шыхтовыя практыкаваньні. Упершыню за шмат гадоў на вуліцах старажытнай сталіцы загучалі беларускія каманды й беларускія вайсковыя песьні: „Чутны гоман — там войска сьпявае“, „Узьняты родны сьцяг дзяржавы“, „Бывай, мой родны кут і зьвяз“. Усё гэта моцна ўзьдзеяла на людзей. Адна жыхарка Навагрудку прыгадвае: *„Успамінаецца эпізод, калі я выходзіла з памяшканьня гебітскамісарыяту, а ў гэты момант вуліцу пераходзілі хлопцы з рагулеўскага швадрону й сьпявалі беларускую песьню. Я заплакала...“*[38].

Як піша Барыс Рагуля, з часам эскадрон пачалі адрозьніваць і ў навакольных вёсках. За гады акупацыі вяскоўцы прызвычаіліся да людзей з зброяй, і кожны раз іх зьяўленьне не абяцала нічога добрага. Незалежна ад таго, на якой мове яны размаўлялі, якую форму насілі, усе стараліся як мага больш забраць у селяніна. Гэтага ж напачатку чакалі й ад эскадронаўцаў. Але хутка сьцяна недаверу пачала крышыцца. „Рагулеўцы“ добра ведалі чым жыла вёска і ў чым яна мела патрэбу. Нават коней, так неабходных, не рэквізавалі, а куплялі[39]. Вяскоўцы хутка ацанілі гэта. Мікалай Радзевіч прыгадвае: *„Рагулеўцаў“ паважалі, яны былі адважныя хлопцы. Мы нікога ня грабілі й да нас добра ставіліся. Нават бялізну забіралі сьціраць, калі мы на вёскі выяжджалі. Самі бабы прапаноўвалі: „Давайце мы вам памыем“*[40]. Эскадрон ня браў удзелу ні ў карных акцыях, ні ў зьнішчэньні жыдоў. На гэтым фоне рэзкім дысанансам гучыць сьцьверджаньне Навагрудзкай раённай кнігі „Памяць“: *„Батальён Рагулі праводзіў карныя апэрацыі супраць мірнага насельніцтва. Самазваныя „выратавальнікі беларускага народу“ ўрываліся на конях у населеныя пункты, зьбівалі і рабавалі жыхароў. Па загаду Рагулі былі схоплены і адпраўлены на катаржныя работы ў Германію Марыя Сіда і Антаніна Макарчык зь вёскі Купіск...“*[41] Цяжка сказаць, чаго ў гэтай цытаце больш — водгукаў савецкай прапаганды або рэальных фактаў. Здаецца, пераважае першае. Але ў любым выпадку дачыненьні „рагулеўцаў“ зь мірным насельніцтвам варта дасьледаваць больш уважліва.

37 Гутарка зь Яўгенам Усюкевічам, запісаная ў Навагрудку 10.03.2007 г. Запіс захоўваецца ў архіве А. Блінца.

38 Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў... С. 113.

39 Вайтовіч, А. Застаюся сябрам Беларускай незалежніцкай партыі... С. 111.

40 Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г...





У сувязі з гэтым трэба зьвярнуць увагу на адзін эпізод з успамінаў Барыса Рагулі. Паводле яго, 10 сакавіка 1944 г. атрад, які складаўся зь нямецкай жандармэрыі, паліцыі й трох дзясяткаў байцоў Навагрудзкага эскадрону каля Загоры атакавалі партызаны. Некалькі паліцыянтаў загінула. Раззлаваны гэтым нямецкі афіцэр загадаў спаліць вёску, як „бандыцкае гняздо“. Але „рагулеўцы“ выступілі на яе абарону, накіраваўшы зброю на немцаў і прымусіўшы іх адступіць[42]. Гэты эпізод апісаны даволі падрабязна й маляўніча, але яго сапраўднасьць выклікае вялікія сумненьні. Узброены выступ супраць акупантаў не прайшоў бы дарма. Ужо праз некалькі дзён пасьля такога прынамсі частка эскадрону зьведала б на сабе нямецкія рэпрэсіі. У найлепшым выпадку яе б раззброілі й распусьцілі, у найгоршым — вывезьлі на працу ў Нямеччыну. Калі рагулеўскі падафіцэр і выступіў на абарону вёскі, то мусіў дзеяць ня зброяй, а словам, шукаючы аргумэнты, каб пераканаць немцаў у недатычнасьці яе жыхароў да партызанскіх вылазак.

Больш пераконліва выглядае паведамленьне Мікалая Радзевіча пра лёс Далятыцкіх хутароў. Сюды, на супрацьпартызанскую засаду, эскадронаўцы зьявіліся разам з аддзелам паліцыі. Засада выявілася беспасьпяховай, і паліцыянты (дарэчы, свае ж, беларускія) прапанавалі пусьціць хутары дымам. Але Радзевіч, які ажыцьцяўляў агульнае камандаваньне, і ягоныя байцы рашуча выступілі супраць. Паколькі колькасная перавага была на іхным баку, паліцыянты мусілі вяртацца ў Навагрудак, прыхапіўшы з сабой аднаго каня, якога кінулі партызаны[43].

Значэньне эскадрону як супрацьпартызанскай сілы, на нашую думку, вельмі перабольшанае. Яго лічаць беларускай адзінкай, якая найбольш актыўна ўдзельнічала ў баявых акцыях, чым істотна вылучалася на агульным фоне. Прыкладам, Аляксей Літвін у пятым томе шасьцітамовай „Гісторыі Беларусі“ сьцьвярджае: *„Толькі ў некаторых месцах былі створаны ўзброеныя атрады, якія прымалі ўдзел у барацьбе*

41 Памяць. Навагрудскі раён. Мінск, 1996. С. 298.

42 Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 192—195.

43 Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г...

*супраць партызан. Асабліва ў гэтых адносінах вызначыўся батальён Б. Рагулі на Навагрудчыне"*[44]. Тут паважаны дасьледнік паўтарае міт, які пачала ствараць беларуская прапаганда ў 1944 г., а потым падхапіла эміграцыйная прэса. Рэальная карціна была крыху іншая.

Першае сутыкненьне з партызанамі здарылася ў в. Сяльцо й было выпадковае. Эскадрон, яшчэ пешы, праводзіў начныя заняткі. Адпрацоўвалася тэма „Баявыя дзеяньні ў начных умовах". Мінаючы вёску, папярэдняе забесьпячэньне нарвалася на партызанскі раз'езд, які, хутчэй за ўсё, апынуўся тут прыпадкам. Пасьля кароткай перастрэлкі партызаны адступілі. Як з аднаго, гэтак і з другога боку стратаў не было[45]. Зімою 1944 г. распачаліся рэгулярныя выправы ў навакольныя вёскі. Але гэтыя акцыі мелі не ваеннае, а прапагандовае значэньне. Сутыкненьняў з партызанамі падчас іх не адбывалася, чаму жаўнеры шчыра радаваліся[46]. Напярэдадні мабілізацыі ў БКА, 25 лютага 1944 г., Барыса Рагулю прызначылі начальнікам Краёвай абароны Навагрудзкай акругі. 5 красавіка пастанова прэзыдэнта БЦР пацьвердзіла ягоны ранг старшага лейтэнанта[47]. У сакавіку асобныя аддзелы эскадрону накіраваліся ў раёны для правядзеньня мабілізацыі. У Любчу — зьвяз Язэпа Кракі, у Карэлічы — дзьве дружыны на чале з Данілам Мамчыцам[48]. Гэтыя аддзелы гарантавалі бясьпеку прызыўнікоў і іхных сем'яў, а таксама адбіралі лепшых навабранцаў для папаўненьня 68-га батальёну. Менавіта ў гэты час швадрон панёс свае першыя страты.

Уладзімер Сіўко прыгадвае: *„Калі ішла мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону, у Любчы зарганізаваўся цэлы зьвяз* [правільней было б „батальён". — ***А. Б.***]. *І тут прыйшла вестка, што каля Ачукевіч заўважылі вялікі партызанскі абоз з-за Нёману. Нехта падаў сыгнал, што яны нібыта хочуць зрабіць напад на Любчу. Тады зьвяз падняўся й пайшоў туды ў наступ. І там быў бой. Партызаны ўцяклі, а аднаго нашага забілі. Звалі яго Пеця Ханевіч, шараговы, родам з Ачукевіч"*[49]. Пётру Ханевіча пахавалі не ў Навагрудку, а ў Любчы. Гэтым можна растлумачыць той факт, што інфармацыя не зьявілася на старонках акруговай газэты. Першым паведамленьнем пра гібель „рагулеўца" ў ёй стаў нэкралёг Данілы Мамчыца, зьмешчаны 16 красавіка 1944 г.[50] Гэты падафіцэр быў паранены ў сутыкненьні з партызанамі каля в. Краснае Карэліцкага павету 13 красавіка й памёр у Навагрудзкай больніцы[51]. Хаўтуры ператварыліся ў сапраўдную нацыянальную маніфэстацыю, у якой удзельнічала ганаровая варта юнакоў і юначак зь сьцягам Саюзу беларускай моладзі[52]. Невялікія зьвесткі пра жыцьцёвы шлях гэтага камандзіра ўтрымліваюцца ва ўжо згаданым нэкралёгу. Нарадзінец Смаленшчыны Даніла Мамчыц рана асірацеў, але здолеў скончыць юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас акупацыі працаваў у Навагрудзкай павятовай управе, быў намесьнікам акруговага старшыні Беларускай самапомачы. У эскадрон запісаўся добраахвотна. Загінуў ва ўзросьце 26 гадоў[53].

Дзьвюма згаданымі эпізодамі й вычэрпваецца ўвесь баявы досьвед „рагулеўцаў" за першыя месяцы дзейнасьці. Невядома, ці мелі партызаны страты падчас гэтых сутыкненьняў. Увогуле, адносіны зь імі былі неадназначныя. Камандзір швадрону добра разумеў, што актыўныя баявыя дзеяньні прывядуць да ўзаемных ахвяраў і справакуюць новую хвалю тэрору. Таму байцы мелі негалосны загад, не чапаць лесавікоў акрамя тых выпадкаў, калі апошнія пагражалі іхнаму жыцьцю. Сваім жаўнерам ён неаднойчы гаварыў: *„Партызаны ў лесе такія ж беларусы, як і вы. Бяз крайняй неабходнасьці ня варта ў іх страляць. Лепей стрэльце паверх галоў"*[54]. Некаторыя байцы, якія сьвядома пайшлі да Рагулі, трымалі сувязь зь лесам. Андрэй Вайтовіч прыгадвае: *„Я пайшоў у эскадрон, а бацька й браты засталіся дома. Партызаны пачалі наведвацца да бацькі амаль кожную ноч і патрабаваць, каб я перадаваў ім зброю. І вось я пачаў тое-сёе зьбіраць і перадаваў бацьку, калі ён да мяне прыязджаў. Ён прывозіў зброю дадому, а там мой брат — Іван — рамантаваў яе й перадаваў у лес. А што яшчэ было рабіць?"*[55].

[44] Гісторыя Беларусі. Т. 5. Беларусь у 1917—1945 гг. Мінск, 2006. С. 517.

[45] Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 190.

[46] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...

[47] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 86, 101.

[48] Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 192, 204.

[49] Сіўко, У. Вецер паразносіў нас па ўсіх краінах і кантынентах... С. 13.

[50] За праўду! №16. 16 красавіка 1944.

[51] Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 204—205; Ліст ад Барыса Мацюкевіча ад 30.01.06. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[52] Клыкоўская, Ціна. Саюз беларускай моладзі — вяртаньне з забыцьця... С. 149.

[53] За праўду! №16. 16 красавіка 1944.

[54] Гутарка зь Пятром Рашэтнікам, запісаная ў Баранавічах 07.08.2005 г...

[55] Гутарка з Андрэем Вайтовічам, запісаная ў Слоніме ў лістападзе 2005 г. Запіс захоўваецца ў архіве А. Блінца.

Навучэнец настаўніцкай сэмінарыі, актывіст СБМ Янка Жамойцін сьцьвярджае, што паміж ляснымі камандзірамі й Рагулем было дасягнутае негалоснае пагадненьне аб узаемнай талеранцыі. Бакі абавязаліся не чапаць адзін аднаго. Пра дамоўленасьць зь мясцовымі партызанамі згадваў пазьней і сам Барыс Рагуля[56]. Менавіта гэта дало магчымасьць швадрону праводзіць свае „баявыя“ акцыі без ахвяраў. Гібель Пётры Ханевіча й Данілы Мамчыца шмат у чым была выпадковая.

Аналягічнай дамоўленасьці дасягнулі й з палякамі. У сакавіку 1944 г. Уладзімер Сіўко, Язэп Крака й Янка Прасьняк сустрэліся з камандзірамі атрадаў Арміі Краёвай у палацы графа Штольле недалёка ад Бярозаўкі. На сустрэчы вырашылі, што палякі ня стануць пераходзіць на левы бераг Нёмна, які лічыўся сфэрай беларускага ўплыву, і спыняць антыбеларускія акцыі. У адваротным выпадку беларускі бок быў гатовы распачаць рэпрэсіі супраць польскага насельніцтва, але гэтага не спатрэбілася. Акоўцы датрымалі слова. „Рагулеўцы“ маглі вольна заяжджаць нават у тыя мясцовасьці, дзе пераважала польска-каталіцкае жыхарства[57]. Аляксей Анішчык лічыў, што менавіта дзякуючы эскадрону польскі тэрор на Наваградчыне амаль спыніўся[58]. Спрацавала й тое, што сярод акоўцаў таксама былі колішнія вучні настаўніцкай сэмінарыі. Некаторыя зь іх нават камандавалі асобнымі аддзеламі. Яны добра ведалі й Рагулю, і ягоных жаўнераў ды ўсяляк імкнуліся пазьбягаць сутыкненьняў з сваімі ўчарашнімі калегамі[59].

У палове сакавіка „рагулеўцы“ нарэшце атрымалі коней. Кавалерыйскім вышкалам заняўся „лейтэнант Д-ка“ — Мікола Друцька. Гэта адна з найбольш супярэчлівых постацяў 68-га батальёну. Друцька быў выдатным кавалерыстам. Яшчэ падчас службы ў войску Польскім удзельнічаў у конна-спартовых спаборніцтвах, неаднаразова заваёўваў прызы[60]. Падчас службы ў карэліцкай паліцыі „адзначыўся“ актыўным удзелам у зьнішчэньні жыдоў. Асабіста ўдзельнічаў у расстрэлах, рабаваў яўрэйскую маёмасьць. Магчыма, якраз за апошняе ён і трапіў у тур-

[56] Рагуля, Барыс. Сем капеек за кулю // Наша Ніва. 30 чэрвеня 1997.

[57] Ёрш, Сяргей. Беларуска-польскія перамовы ў сакавіку 1944 г. // Беларускі Рэзыстанс. №1 (2). 2005. С. 98—105.

[58] Чэмер, А. Наваградская беларуская гімназія. Вільня, 1997. С. 109.

[59] Каржанеўскі, М. Мая белая партызанка // Грыбоўскі, Ю. Казак, К. Забытыя жаўнеры польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны. Мінск, 2003. С. 69.

[60] Сіўко, У. Камэнтары і заўвагі да публікацыі пра Наваградскі швадрон // Беларускі Рэзыстанс. №2 (9). 2010. С. 25.





му, адкуль яго „выцягнуў“ Барыс Рагуля. Нават у некаторых саслужбоўцаў ён выклікаў антыпатыю. Мікалай Радзевіч казаў: *„Друцька прыйшоў з паліцыі. Я зь ім кантакту не падтрымліваў. Ён паліцай — кепскі чалавек“*[61]. Забягаючы наперад, скажу, што Друцька адступіў на захад, ваяваў у Францыі. Паводле адной з вэрсіяў, яго забілі жыды ў Нямеччыне ўжо пасьля вайны[62].

26 сакавіка 1944 г. у дзевяць гадзінаў раніцы Першы беларускі швадрон прыняў прысягу ў Наваградку, каля Замкавай гары. Перад гэтым фармацыя атрымала свой сьцяг, вышыты сёстрамі аднаго з байцоў — бел-чырвона-белае палотнішча з чорным роўнабаковым трохкутнікам пры дрэўку з надпісам „Першы беларускі эскадрон“. На адным баку сьцяга была вышытая Пагоня, на другім — герб гораду[63]. Гэта быў адзін зь нешматлікіх выпадкаў, калі беларуская вайсковая адзінка мела ўласны сьцяг у гады Другой сусьветнай вайны[64]. Падчас адступленьня на захад сьцяг мусіў перахоўваць хтосьці з байцоў, сьляды якога згубіліся ў Польшчы. У далейшым пра лёс штандара ня ведаў нават Барыс Рагуля.

Празь месяц пасьля прысягі эскадрон выступіў у паход маршрутам: Наваградак—Гарадзішча—Мір—Карэлічы—Нягневічы—Наваградак. Ён абярнуўся найбольшымі стратамі за ўсю гісторыю швадрону й адначасова... стаў яго найбольш расхваленай акцыяй. Хаця шлях пралягаў праз даволі небясьпечныя мясьціны, Рагуля накіраваўся ў паход толькі з „старым“ складам. Прызыўнікі, якія папоўнілі 68-мы батальён, засталіся ў Наваградку. Дый эскадрон быў ня поўны — два конныя зьвязы (адзін заставаўся ў Любчы), і трэці зьвяз пешы, да таго ж ня ў поўным складзе, абоз. Разам недзе 80—90 чалавек[65]. Відавочна, з такімі сіламі нельга было разьлічваць ні на пацыфікацыю пройдзенага абшару, ні на посьпех у сутыкненьні з колькасна большымі партызанскімі аддзеламі.

[61] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г... Адметна, што Радзевіч дае станоўчыя характарыстыкі амаль усім жаўнерам і камандзірам эскадрону, якіх ён ведаў.

[62] Рашэтнік, П. Сустрэчы на жыцьцёвым шляху // Беларускі Рэзыстанс. №2 (3). 2005. С. 143.

[63] Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 203.

[64] Адмысловы сьцяг ужываўся таксама 34-м Стаўпецкім батальёнам Беларускай краёвай абароны імя Радаслава Астроўскага. Яго ўручыў батальёну прэзыдэнт БЦР 22 траўня 1944 г.

[65] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...

Застаецца толькі адно магчымае тлумачэньне гэтай акцыі — чарговы прапагандысцкі рэйд, пры якім да сутыкненьня з праціўнікам нават не рыхтаваліся. Трэба ўлічваць, што ў Гарадзішчы, Міры, Карэлічах сталі нядаўна ўтвораныя батальёны БКА, жаўнеры якіх ня мелі ні амуніцыі, ні дастатковай колькасьці зброі. „Рагулеўцы“ мусілі служыць свайго кшталту візытоўкай будучага беларускага войска, каб узьняць падупалы настрой „краёўцаў“.

Большая частка шляху прайшла спакойна. У Гарадзішчы й Міры адбыліся сустрэчы зь мясцовым актывам і батальёнамі БКА. А ў Карэлічах байцы дазналіся, што за дзень да іх прыходу партызаны атакавалі казармы краёвай абароны. Падчас бою загінуў прыкамандзіраваны да яе падафіцэр-„рагулевец“ Аўген Краскоўскі. Рагуля піша, што ў адказ на гэта прыняў рашэньне атакаваць партызанскі штаб у Забалацьці супольна з карэліцкай паліцыяй[66]. Але чацьвёра былых удзельнікаў акцыі, зь якімі даводзілася размаўляць і перапісвацца, у адзін голас сцьвярджаюць, што ні пра якую атаку гаворкі не было, ніхто ня згадвае й пра карэліцкую паліцыю. Барыс Мацюкевіч піша: *„...пра атаку на партызанскі штаб у вёсцы Забалацьце сказана гучна, сумніўна й нерэальна. Наколькі мне прыпамінаецца, падчас выступленьня з Карэліч паміж намі ішла гаворка, што проста маем паказаць, што швадрон можа бяз боязі рухацца празь вёскі. Гэта была як бы дэманстрацыя“*[67]. Можна толькі здагадвацца, што прымусіла камандзіра адхіліцца ад маршруту й заглыбіцца ў партызанскую зону.

Апэрацыя скончылася поўнаю няўдачаю. Партызаны падрыхтавалі засаду каля в. Руткавічы й сустрэлі „рагулеўцаў“ агнём. Барыс Мацюкевіч прыгадвае: *„...трэці зьвяз (ён быў няпоўны) рухаўся „гуськом“ па дарозе, другі конны зьвяз ішоў зьлева ад дарогі, а першы конны — справа. Пры падыходзе да вёскі дарога ішла на ўзвышшы, зьлева была паша й ад дарогі палогі склон уніз, а справа быў хмызьняк і круты склон уніз. Дарога ўваходзіла ў лясок. Мы падыходзілі да лесу, і тут пачалася страляніна. Мы залеглі, нічога нам не было відаць, каманд ніякіх не было, і мы ляжалі. У хуткім часе зь лесу выскачыла партызанская штурмавая група. Я бачу — пярэднія ўстаюць з паднятымі рукамі, і я зрабіў тое ж самае“*[68].

[66] Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 221—222.

[67] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 15.08.2006 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[68] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...





У палон трапіла 16 жаўнераў. У іх ліку — камандзіры дружынаў, зьвязовы Мікалай Радзевіч і шэф швадрону Васіль Кунашка[69]. Быў страчаны і ўвесь абоз з боекамплектам і харчаваньнем, паводле некаторых зьвестках — 5 вазоў[70]. Уратавалася толькі палова зьвязу, якая залегла далей ад лесу[71]. Астатні эскадрон заняў абарону й адкрыў агонь, на што партызаны не зьвярнулі ніякай увагі. Захапіўшы палонных, яны справядліва палічылі сябе пераможцамі ды адышлі ў лес. Рагуля мусіў адмовіцца ад задумы ісьці на Забалацьце й вярнуўся ў Наваградак. Кавалерысты ўвайшлі ў горад 1 траўня 1944 г. проста падчас урачыстага мітынгу. Якой была рэакцыя гараджанаў на гэта, сказаць цяжка. Адзіная крыніца, на якую дасюль абапіраюцца дасьледнікі, — успаміны Барыса Рагулі, дзе гэтая падзея апісваецца ледзьве не як трыюмфальнае шэсьце пасьля пераможнай бітвы. Там жа, шчыра кажучы, малагераічны эпізод пад Руткавічамі падносіцца як няроўны бой з мацнейшым ворагам (сьцьвярджаецца, што партызанаў было паўтары тысячы!), у якім апошні страціў 65 чалавек забітымі й столькі ж параненымі[72].

Невядома, ці быў Барыс Рагуля аўтарам гэтага міту, ці ён „творча“ разьвіў вэрсію, запушчаную прапагандаю, яшчэ ў 1944 г. А прапагандысцкая машына БЦР напоўніцу выкарыстала марш Наваградзкага швадрону. Спачатку ў акруговай газэце „За праўду!“, а потым у „Беларускай газэце“ зьявіўся рэпартаж аб паходзе, у якім падрабязна апісваўся шлях эскадрону й чатырохгадзінны бой пад Руткавічамі з кавалерыйскімі контратакамі. Пра палонных замоўчвалася, адно двухсэнсоўна паведамлялася, што швадрон *„не далічыўся палутара дзясятка сяброў“*[73]. Савецкая прапаганда, ужо пасьля вайны, стварыла свой міт. Паводле яго, у бой з эскадронам, які выехаў для рабаўніцтва (!) Руткавічаў, уступіла толькі двое (!) партызанаў. Прычым адным зь іх быў, натуральна, сябра падпольнага райкаму партыі. Яны нібыта стрымлівалі праціўніка да падыходу асноўных сілаў. Вынікам бою сталі 16

[69] Функцыямі шэфа швадрону: весьці справаводства, чытаць загады, выхаваўчая праца. Назву запазычылі з Польскага войска, дзе існавала пасада „шэф роты“.

[70] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...; Гутарка з Андрэем Вайтовічам, запісаная ў Слоніме ў лістападзе 2005 г...

[71] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 28.06.2006 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[72] Рагулявец. Наваградзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 222—232.

[73] Чэмер, А. „Рагулінцы“ ў змаганьні // Беларуская газэта. №44. 3 чэрвеня 1944.

палонных і 18 забітых „рагулеўцаў“[74]. Як бачым, рэчаіснасьць істотна адрозьнівалася ад абедзьвюх мітычных вэрсіяў.

Варты ўвагі лёс 16 эскадронаўцаў, якія трапілі ў палон. Партызаны правяралі зброю й нюхалі, ці пахне яна порахам. Аказалася, што ніхто не зрабіў аніводнага стрэлу[75]. Выявілася, што шмат хто меў сувязь з партызанамі, перадавалі праз сваякоў у лес патроны й гранаты, а ў аднаго брат быў сярод лесавікоў. Асобы аддзел цягам тыдня правяраў усіх палонных і прыйшоў да высновы, што караць іх няма за што. Жаўнерам вярнулі зброю й разьмеркавалі па атрадах 1-й Баранавіцкай партызанскай брыгады, па 4 і па 2 чалавекі на атрад, дзе яны служылі нароўні зь іншымі. Толькі адзін зь іх, дружыновы на мянушку „Цалька“, зьбег у Навагрудак. Там жыла ягоная сястра, і жаўнер баяўся, што яе пакараюць тое, што здаўся ў палон[76]. Ці вярнуўся ён у швадрон, невядома. У канцы траўня — пачатку чэрвеня дваіх палонных, прыдзеленых да гаспадарчага зьвязу, расстралялі, абвінаваціўшы ў спробе дэзэрцірства. Адным зь іх быў Сіўко (цёзка на прозьвішча з Уладзімерам Сіўком), прозьвішча другога невядомае[77].

Асаблівую ўвагу партызанскага камандаваньня прыцягнуў зьвязовы Мікалай Радзевіч. Менавіта ён першы падняўся з падняты ўгору рукамі. З самага першага дня знаходжаньня ў швадроне ён шукаў зручнага спосабу перайсьці ў лес. І вось скарыстаўся выпадкам. Як прыгадвае Радзевіч, на трэці дзень пасьля бою пад Руткавічамі ў Фрунзенскі атрад Баранавіцкай брыгады прыбыў генэрал-маёр В. Чарнышоў — камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэньня. Ён гутарыў з Радзевічам сам-насам, падрабязна распытваючы пра настроі ў эскадроне. На заканчэньне ўручыў былому зьвязоваму ліст да Рагулі з прапановай перайсьці на савецкі бок[78]. Магчыма, В. Чарнышоў спадзяваўся паўтарыць посьпех вілейскіх партызанаў, якім у жніўні 1943 г. удалося схіліць да пераходу 1,5-тысячную Расейскую нацыянальную брыгаду У. Гіль-Радзівонава. Пад камандаваньнем Рагулі было менш людзей, але ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам, і пераход у лес атрымаў бы шырокі рэзананс. Да таго ж, савецкая разьведка добра ведала, што Рагуля варожа ставіцца да немцаў і вядзе прапаганду ў выключна нацыяналістычным кірунку, выкарыстоўваючы любую магчымасьць для пашырэньня незалежніцкіх ідэяў[79]. Улічваючы няўдалую выправу на Забалацьце, лагоднае стаўленьне да палонных, партызанскае камандаваньне, здавалася б, магло разьлічваць на прыняцьце сваёй прапановы. Радзевічу вылучылі ахову, коней, і ён завёз генэральскі ліст у Ваўкавічы. Тут жыў ягоны стары знаёмы, яшчэ з часоў службы ў польскім войску. Менавіта празь яго да Рагулі трапіў зварот Чарнышова. Аднак той заявіў, што не жадае мецца з савецкім бокам аніякіх справаў. Гэты адказ Радзевіч і быў вымушаны перадаць свайму новаму камандаваньню[80].

Цікава, што сам Рагуля згадвае пра два выпадкі кантакту з партызанамі. У першым размова ідзе пра нейкага Віктара. Як вынікае з кантэксту, на пачатку красавіка 1944 г. Рагуля быў гатовы да правядзеньня супольных антынямецкіх акцыяў. Але перамовы партызанскага камандзіра з нацыяналістам не ўхваліла камандаваньне, і да рэальных справаў не дайшло[81]. Другім разам гэтак званы партызанскі ліст выявіўся правакацыяй СД[82]. Цяжка сказаць, ці былі гэтыя кантакты ў рэальнасьці. Пра ліст В. Чарнышова Рагуля ніколі й нідзе ня згадваў. Разам з тым, няма ніякіх падставаў сумнявацца ў словах Мікалая Радзевіча. Відавочна, пытаньне кантактаў з савецкімі партызанамі варта было б дасьледаваць больш грунтоўна на падставе дакумэнтаў, а ня толькі вусных сьведчаньняў.

Зьвестак пра ўдзел эскадрону ў баявых акцыях цягам траўня няма. Гэты час быў прысьвечаны арганізацыі 68-га батальёну. Барыс Рагуля пакінуў становішча акруговага начальніка БКА, перадаўшы пасаду капітану Філарэту Родзьку, былому афіцэру царскай арміі. Сам жа цалкам засяродзіўся на справах свайго батальёну. Юры Грыбоўскі сцьвярджае, што рагулеўскі эскадрон ніколі не ўваходзіў у склад БКА, застаючыся адным з шматлікіх шума-батальёнаў, хіба што з выразна акрэсьленым нацыянальным характарам[83]. Менавіта гэтым часам батальён дасягнуў максымальнай колькасьці асабовага складу. Акрамя эскадрону, у яго ўваходзіла тры пяхотныя роты й, паводле сьведчаньня інтэнданта

[74] В принёманских лесах. Воспоминания партизан и подпольщиков Гродненской области. Минск, 1975. С. 78.

[75] Гутарка зь Яўгенам Усюкевічам, запісаная ў Навагрудку 10.03.2007 г…

[76] Лісты Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 і 15.08.2006 гг.

[77] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г…

[78] Тамсама.

[79] Тавлай, В. Информация о положении при немецкой оккупации… С. 311.

[80] Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г…

[81] Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 206—207; Рагуля, Барыс. Сем капеек за кулю…

[82] Рагулявец. Навагрудзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 207.

[83] Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае… С. 108.

Канстанціна Мерляка, мэханізаваны аддзел[84]. У гэты ж час паўстала й артылерыйскае фармаваньне — палявая гармата на коннай цязе[85]. Барыс Рагуля ажыцьцяўляў камандаваньне цэлым батальёнам, а ўласна швадронам камандаваў Уладзімер Сіўко. Лепшых жаўнераў і падафіцэраў швадрону перавялі на камандныя пасады пяхотных ротаў. 68-мы батальён уяўляў сабой значную вайсковую сілу. У партызанскіх даняседьнях гаворыцца нават пра „армію Рагулі"[86]. Яе колькасьць ацэньваюць у 600—800 жаўнераў. Канстанцін Мерляк сьцьвярджае, што ў „асобным дывізіёне БКА" (так ён называе 68-мы батальён) было больш за тысячу чалавек[87].

У канцы траўня 68-мы шума-батальён накіравалі на Віцебшчыну для ўдзелу ў апэрацыі „Кармаран" („Баклан"). Гэта была адна з апошніх антыпартызанскіх апэрацыяў, якая праводзілася ў тыле групы армій „Цэнтар" з 25 траўня да 23 чэрвеня 1944 г. Мэтай апэрацыі было зьнішчыць партызанскія фармаваньні паміж Лепелем і Докшыцамі ды чыгункай Менск—Ворша. У акцыі поруч зь нямецкімі аддзеламі й рускімі часткамі бралі ўдзел і некаторыя батальёны нядаўнаўтворанай Беларускай Краёвай Абароны. У прыватнасьці, 15-ты Гарадзішчанскі батальён пад камандаваньнем Усевалада Родзькі й, імаверна, 33-ці Лагойскі — пад камандаваньнем Івана Кактура[88]. Старшы лейтэнант Усевалад Родзька за ўдзел у баях атрымаў Жалезны Крыж, а шэраг афіцэраў, падафіцэраў і стральцоў 15-га батальёну — адмысловыя ўзнагароды для ўсходніх народаў[89].

[84] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Менск, 1994. С. 25.

[85] З успамінаў Рагулі вынікае, што артылерыя была ў швадроне ўжо ў сакавіку 1944 г. (Рагулявец. Навагрaдзкі эскадрон // Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём... С. 198), але тыя жаўнеры, якія трапілі ў палон пад Руткавічамі, пра яго нічога ня згадваюць. Ня ведае пра гармату й Мікалай Радзевіч — былы артылерыст, які хутчэй за ўсё мог бы фармаваць яе разьлік. Разам з тым, факт наяўнасьці гарматы пацьвярджаюць успаміны Яўгена Ўсюкевіча.

[86] Памяць. Навагрaдскі раён... С. 336.

[87] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 25.

[88] У гістарычнай літаратуры ўсталявалася памылковае меркаваньне, што батальёны БКА бралі ўдзел у апэрацыі „Фрулінгфэст" („Веснавое сьвята"), што не адпавядае сапраўднасьці. У гэтай акцыі, якая адбывалася ў бягомельска-лепельскай зоне з 17 красавіка да 5 траўня 1944 г. аддзелы Краёвай Абароны не былі задзейнічаныя.

[89] Кушаль, Ф. Спробы стварэньня беларускага войска пад нямецкай акупацыяй. Менск, 1999. С. 90.





68-мы батальён нёс ахоўную службу ў тылавой зоне. Яго задачай была ахоўваць дарогі з Докшыцаў на Параф'янава й Глыбокае, а таксама ладзіць пэрыядычныя рэйды ў лес, для выяўленьня пазасталых партызанаў. Батальён разьмясьціўся ў спаленай вёсцы ля рэчкі Поня, а інтэндатура й зьвяз аховы засталіся ў Докшыцах[90]. Увогуле гэты месяц прайшоў спакойна. Як прыгадваў Андрэй Вайтовіч, *„сколькі там ні былі, то ня бачылі ні партызан, ні людзей. Цераз рэчку не пераходзілі. Сутычак не было"*[91]. Выключэньне складаў конны аддзел пад камандаваньнем М. Друцькі, які амаль штодня рабіў рэйды ўглыб лесу для захаваньня бясьпекі на даручаным участку. Пра некаторыя выпадкі пазьней прыгадваў Канстанцін Мерляк: *„Аднаго дня камандзір цэлае гэтае акцыі, немец у ранзе генэрала, пад аховаю свае жандармэрыі ў некалькіх лёгкіх самаходах праяжджаў праз „ачышчаную" тэрыторыю й раптам трапіў у партызанскую засаду. Яны ўсе загінулі б, каб на гэты момант не наскочыў старшы лейтэнант Д. з сваёй кампаніяй кавалерыі. У знак удзячнасьці эскадрон дастаў новае абмундзіраваньне, лепшае ўзбраеньне"*[92]. Невядома ці былі ў гэты пэрыяд страты ў эскадроне й батальёне. Ёсьць сьведчаньне пра гібель толькі аднаго жаўнера ў выніку няшчаснага выпадку падчас чысткі зброі[93]. Некалькі байцоў з аддзелу Друцькі былі параненыя, некаторыя выбылі з шыхту з прычыны хваробы. Увогуле ж Барыс Рагуля здолеў і тут ухіліцца ад актыўнага ўдзелу ў акцыі й трымаў свой батальён убаку.

За некалькі дзён да пачатку ў Менску Другога Ўсебеларускага кангрэсу (27 чэрвеня 1944 г.) да Рагулі прыбыў сувязны ад Родзькі з загадам рухацца на сталіцу. Рагуля пазьней сьцьвярджаў, што ў Родзькі — кіраўніка Беларускай незалежніцкай партыі — быў плян узброенага паўстаньня падчас Кангрэсу. 68-мы батальён разглядаўся ў якасьці галоўнай ударнай сілы гэтай акцыі. Інфармацыя аб плянаваным антынямецкім выступленьні ў Менску, агучаная ў свой час Сяргеем Яршом, выклікала ў некаторых дасьледнікаў ня тое што скептычную, а нават іранічную рэакцыю. А між іншага, пра магчымасьць узброенага выступу гаварылі й некаторыя ўдзельнікі Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Яшчэ ў 1948 г. адзін зь іх пад псэўданімам У. Ш. пісаў у газэце „Бацькаўшчына": *„Кангрэс быў задуманы й меў выйсьці запраўды выяўленьнем*

[90] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 27.

[91] Ліст Андрэя Вайтовіча ад 20.01.2006 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[92] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 27—28.

[93] Вайтовіч, А. Застаюся сябрам Беларускай незалежніцкай партыі... С. 113.

*чыста нацыянальнага кірунку — незалежніцкага імкненьня нашага народу. Кангрэс меў выйсьці дэманстрацыйна антынямецкім. Былі падцягнуты на ўсякі выпадак аддзелы краёвае арміі, паліцыі, былі пад'ехаўшыя баёўкі „Беларускае Незалежніцкае Партыі“*[94]. Можна было б ігнараваць сьведчаньне Барыса Рагулі. Мы ўжо бачылі, што ў сваіх „мэмуарах“ ён дапускае шэраг перабольшваньняў. Але факт прыбыцьця сувязнога зь Менску і самавольны, пасьля гэтага, адыход батальёну з занятай пазыцыі пацьвярджае Канстанцін Мерляк. Думаю, пытаньне антынямецкага паўстаньня заслугоўвае вывучэньня, крытычнага аналізу, але ніяк не высьмейваньня.

Самавольна пакінуўшы свой участак, Рагуля павёў батальён на станцыю Параф'янава, дзе спадзяваўся здабыць эшалён для адпраўкі ў Менск. Але гэта аказалася немагчыма. Немцы перакідвалі ўсе сілы для ўтрыманьня фронту. Цягнікі з войскам і тэхнікай даходзілі да станцыі, разгружаліся й ішлі назад за новымі папаўненьнямі. Калі Рагуля запатрабаваў эшалён, то пачуў, што аддзелы трэба пераводзіць на перадавую, а не адпраўляць у тыл. Не дапамог нават хабар камэнданту станцыі ў выглядзе бочкі шнапсу. Удалося здабыць толькі два вагоны, у якія загрузілі раненых, хворых, амуніцыю й цяжкае ўзбраеньне[95]. Дасягнуць Менску пешым парадкам у вызначаны час было немагчыма. Камандзір прыняў рашэньне вяртацца ў Навагрудак. Конны швадрон мог рухацца даволі хутка, а вось пешыя аддзелы адставалі. На станцыі Багданаў, пад Маладэчнам, пашанцавала заладавацца ў пусты цягнік на запасных лініях. Аднак немцы заявілі, што рух спынены. Каб атрымаць дазвол на адпраўку цягніка, давялося атачыць станцыйную камэндатуру ўзброеным аддзелам. Толькі пад пагрозай кулямётаў камэндант даў „дабро“ на адпраўку[96].

На наступны дзень аддзел быў у Лідзе, адкуль пешым маршам пайшоў на Навагрудак. Насустрач яму цягнулася бясконцая плынь казацкіх і нямецкіх аддзелаў, што адыходзілі з фронту, цывільных уцекачоў. Сярод апошніх былі й сем'і „рагулеўцаў“. Проста на дарозе адбывалася разьвітаньне бацькоў і матак з сваімі сынамі[97]. Вядома, уражаньне ад такіх сустрэчаў было самае цяжкае. 4 ліпеня батальён дасягнуў Навагрудку й разьмясьціўся на начлег у гарадзкім парку. На наступны дзень камандзір пашыхтаваў аддзел каля Замкавай гары, тамсама, дзе

[94] У. Ш. Хто загубіў „ІІ кангрэс“ // Бацькаўшчына. №22. 1948.
[95] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 28.
[96] Тамсама. С. 28—29.
[97] Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў... С. 380.





адбывалася цырымонія прысягі, і распусьціў фармацыю. Прамова Рагулі пачыналася словамі: *„Сябры! Я вас адсюль узяў, сюды й прывёў“*[98]. Фактычна, кожны жаўнер мусіў уласна вырашаць свой лёс. Хто хацеў — мог адступаць на захад, хто хацеў — заставаўся дома. Пры гэтым камандзір папярэдзіў, што спадзявацца на літасьць Саветаў ня варта, а да партызанаў лепей пераходзіць не паасобку, а групамі ды з зброяй[99].

Такім чынам, з фармальнага гледзішча й Першы беларускі эскадрон, і 68-мы шума-батальён перасталі існаваць. Рашэньне аб яго роспуску было лягічна правільным. Ва ўмовах развалу фронту, калі адсутнічала сувязь і з камандаваньнем БКА, і зь Беларускай Цэнтральнай Радай, і з кіраўніцтвам БНП, Рагуля, як камандзір, ня мог браць на сябе адказнасьці за лёс сваіх байцоў. Невядома было, што іх чакае на захадзе. Падобныя выпадкі самароспуску беларускіх аддзелаў былі нярэдкія. Такім чынам „зьнікалі“ цэлыя батальёны Краёвай абароны, у якіх заставалася па некалькі дзясяткаў чалавек. Колькасьць „рагулеўцаў“, якія вырушылі на захад, ніхто дакладна не падлічваў. Канстанцін Мерляк піша, што іх было некалькі дзясяткаў[100].

Рэшткі эскадрону ўвайшлі ў склад 30-й дывізіі ў якасьці кавалерыйскага аддзелу. У ім разам апынуліся „рагулеўцы“ й казакі 69-га коннага шума-батальёну[101]. Пазьней гэтае злучэньне перажыло некалькі рэарганізацыяў, апісаньне якіх заняло б шмат месца. Таму ўсіх ахвотных накіроўваем да артыкулу Юр'я Грыбоўскага. Некаторых байцоў у ліпені 1944 г. Рагуля забраў з сабой у парашутна-дэсантны батальён „Дальвіц“, дзе быў начальнікам вучэбнай часткі. Ягоныя жаўнеры склалі аснову г. зв. роты „Поўнач“. Частку зь іх пазьней перакінулі ў Беларусь. Уначы з 15 на 16 верасьня ў Налібоцкай пушчы дэсантаваўся Андрэй Вайтовіч, 17 лістапада, у групе з 27 чалавек, былі перакінутыя яшчэ 8 былых эскадронаўцаў[102]. Сам жа Барыс Рагуля загадам Галоўнага камандаваньня Беларускай Краёвай Абароны №68 ад 2 студзеня 1945 г. быў прызначаны камандзірам афіцэрскай школы пры 1-м Кадравым Батальёне БКА ў Бэрліне[103], куды неўзабаве выехаў.

[98] Вайтовіч, А. Застаюся сябрам Беларускай незалежніцкай партыі... С. 113.
[99] Ліст Яўгена Ўсюкевіча ад 30.01.07 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.
[100] Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 30.
[101] Грыбоўскі, Ю. Навагрудскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 110—111.
[102] Больш падрабязна пра дэсанты й лёс іх удзельнікаў гл: Ёрш, Сяргей. Вяртаньне БНП. Мінск—Слонім. 1999.
[103] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 167.

На жаль, з поля зроку дасьледнікаў дагэтуль выпадала гісторыя кавалерыйскага зьвязу пад камандаваньнем Язэпа Кракі. У сакавіку 1944 г. яго накіравалі ў Любчу для правядзеньня мабілізацыі ў БКА, і з таго часу ён заставаўся ў гэтым мястэчку. Невядома, ці ўвайшоў зьвяз Кракі ў склад 14-га Любчанскага батальёну Краёвай Абароны, ці працягваў лічыцца часткай 68-га шума-батальёну. Найбольш верагодна другое. Прозьвішча Кракі не згадваецца сярод камандзіраў БКА ў Любчы. Мясцовым батальёнам камандаваў капітан Кіпрыян Каўцэвіч, стары вайсковец, які пачаў службу яшчэ ў царскай арміі, а потым ваяваў супраць бальшавікоў у войсках Дзянікіна й Врангеля[104]. Падчас выправы „рагулеўцаў" на Докшыцы Язэп Крака трымаў сталую сувязь з сваім камандзірам. Напрыканцы чэрвеня ён паведаміў, што ёсьць магчымасьць злучыцца з партызанамі й разам выступіць супраць немцаў. Атрымаўшы ад Рагулі адказ: *„Рабі, як лічыш патрэбным"*, Крака павярнуў зброю супраць гітлераўцаў[105].

Паводле ўспамінаў былога партызана, сакратара Любчанскага РК ЛКСМБ Мікалая Грабёнкіна, гарнізон Любчы капітуляваў 2 ліпеня 1944 г. Пры гэтым партызанам здаліся 260 чалавек, якія мелі на ўзбраеньні палкавы мінамёт, 9 станкавых і ручных кулямётаў, 234 вінтоўкі, некалькі аўтаматаў[106]. Аднак у сьвятле вышэйпададзенай інфармацыі больш імаверна, што гарнізон ня здаўся ў палон, а перайшоў на бок партызанаў як саюзьнік. У скрайнім выпадку жаўнеры маглі кінуць зброю й разысьціся па хатах. Аргумэнты наконт таго, што партызаны блякавалі мястэчка значнымі сіламі, выглядаюць непераканаўча. 6 ліпеня немцы пачалі наступ на Любчу. І вось цяпер беларускія аддзелы актыўна яе абаранялі. Мікалай Грабёнкін сьведчыць: *„...сярод партызан было каля 20 чалавек былых паліцэйскіх і самаахоўцаў, якія добраахвотна перайшлі на наш бок. Некаторыя зь іх не пасьпелі нават зьмяніць форму. Ня раз, будучы побач зь імі ў момант бою, у мяне ўзьнікалі думкі аб іх ненадзейнасьці. Аднак яны дзейнічалі рашуча, спадзеючыся крывёю змыць сваю віну перад народам і Радзімай"*[107].

[104] Прадстаўленьне камандуючага БКА аб наданьні афіцэрскіх рангаў 18.05.55: Пастанова Прэзыдэнта БЦР №34 ад 20.05.1944 г. Копіі дакумэнтаў з архіву БЦР пры царкве сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (ЗША) даслаў Жорж Навумчык.

[105] Гутарка зь Яўгенам Усюкевічам, запісаная ў Наваградку 10.03.2007 г...

[106] Грабёнкін, М. Бой за Любчу // Памяць. Навагрудскі раён. Мінск, 1996. С. 341.

[107] Грабёнкін, М. Бой за Любчу... С. 342.





Асобныя моманты гэтага паведамленьня не павінны бянтэжыць. Папершае, гэта датычыць колькасьці жаўнераў. Мікалай Грабёнкін называе іх лічбу толькі на адным участку абароны (ад сярэдзіны парку й да драўлянай царквы). А яны былі раскіданыя па самых розных участках. Гэта пацьвярджае й любчанскі краязнаўца Мікалай Карповіч, які гутарыў з былым сакратаром райкаму[108]. Па-другое, паліцаямі й самаахоўцамі партызаны зачастую называлі вайскоўцаў усіх беларускіх фармацыяў, як уласна паліцыі й самааховы, гэтак і БКА, лясной варты, чыгуначнага батальёну й г. д. Так што ў дадзеным выпадку пад гэтымі тэрмінамі трэба разумець якраз-такі „рагулеўцаў" і жаўнераў Краёвай Абароны. Больш важна іншае: яны змагаліся ў сваёй уніформе (з бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй) і дзейнічалі сьмела.

Аднак утрымаць Любчу не ўдалося. Пасьля сямігадзіннага бою брыгада імя Дзяржынскага, менавіта зь ёю злучыўся гарнізон, пакінула мястэчка й адышла ў Налібоцкую пушчу. Адзначаецца, што яна панесла значныя страты, але колькасьць не ўдакладняецца. Сярод загінулых, напэўна, былі й „рагулеўцы". У нейкай ступені гэтыя страты маглі быць кампэнсаваныя падмацаваньнем у выглядзе значнай колькасьці байцоў распушчанага 68-га шума-батальёну. Усе яны былі добра ўзброеныя й прыйшлі ў брыгаду арганізавана. Пра гэта сьведчыць Барыс Мацюкевіч, цытую ягоны ліст: *„...мой любчанскі сябар расказваў, што любчанскія швадронцы й батальёнцы ў поўным баявым парадку рушылі пад Любчу, там дамовіліся з партызанамі й разам зь імі затрымлівалі немцаў у Налібоцкай пушчы"*[109]. Ужо 8 ліпеня, разам з рэгулярнымі адзінкамі Чырвонай Арміі, брыгада імя Дзяржынскага паўторна ўвайшла ў Любчу. Пасьля гэтага яшчэ доўгі час партызанам і „рагулеўцам" належала пераймаць разнастайныя групы немцаў, якія прарываліся праз Налібокі на захад. У некаторых успамінах сустракаюцца зьвесткі, што толькі да 15 ліпеня 1944 г. падчас баявых дзеяньняў у пушчы было забіта, паранена й захоплена ў палон 5500 нямецкіх жаўнераў і афіцэраў[110]. Нават калі дапусьціць, што лічбы ў падобнага кшталту ўспамінах звычайна істотна завышаліся, то й тады можна ўявіць увесь цяжар апэрацыяў перахопу й зьнішчэньні нямецкіх аддзелаў. Некаторая частка жаўнераў 68-га шума-батальёну далучылася да

[108] Ліст Мікалая Карповіча ад 20.09.2007 г. Захоўваецца ў архіве А. Блінца.

[109] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 20.12.2005 г...

[110] За край родной. Воспоминания партизан и подпольщиков Барановичской области. Минск, 1984. С. 268.

польскіх партызанаў[111]. Падрабязных зьвестак пра іх акцыі й далейшы лёс няма.

Застаецца адкрытым пытаньне, ці захоўвалі „рагулеўцы“ хаця б частковую самастойнасьць у складзе партызанскай брыгады, ці былі раскіданыя па розных атрадах. Няма падрабязнасьцяў і пра ходу перамоваў з савецкім камандаваньнем, няяснай застаецца пазыцыя камандзіра 14-га батальёну К. Каўцэвіча: ці падтрымліваў ён ініцыятыву Кракі аб выступленьні супраць немцаў, ці трымаўся ўбаку ад гэтай акцыі. Сьвятло на гэтыя пытаньні можа праліць дэталёвае вывучэньне партызанскіх дакумэнтаў, успамінаў старажылаў Любчы й крымінальнай справы Язэпа Кракі. Рагулеўскі камандзір нават ня думаў хавацца пасьля прыходу Саветаў, справядліва не адчуваючы за сабой аніякай віны. Тым ня менш яго арыштавалі й, паводле некаторых зьвестак, асудзілі на пяць гадоў лягераў[112]. Дарэчы, такі „малы“ паводле савецкіх мерак тэрмін лішні раз сьведчыць пра наяўнасьць істотных зьмякчальных акалічнасьцяў.

З прыходам савецкай улады большасьць „рагулеўцаў“ мабілізавалі ў Чырвоную армію й накіравалі на фронт. Толькі адзінкам удалося пазьбегнуць гэтай долі. Гэтак, Мікалая Радзевіча накіравалі на адбудову шахтаў Данбасу. Барысу Мацюкевічу, як настаўніку, далі „бронь“ і дазволілі працаваць у школе. Але празь нейкі час успомнілі й пра іх. Мацюкевіча арыштавалі ў 1948 г., Радзевіча — у 1949 г.[113] Лёс самога Рагулі — эміграцыя і ўдзел у жыцьці беларускага замежжа — даволі добра вядомы.

Барыс Рагуля, несумненна, быў адным з найбольш здольных беларускіх вайсковых дзеячаў пэрыяду акупацыі. З самых першых дзён ягонаю галоўнаю мэтаю было ўтварэньне нацыянальных узброеных адзінак. *„Трэба дабіцца, каб мы мелі сваю збройную сілу, бо толькі гэтым адновім давер народу“*, — казаў ён на нарадзе нацыянальнага актыву ў лістападзе 1942 г.[114] Калі такая магчымасьць зьявілася, Рагуля напоўніцу ёй скарыстаўся. Вядома, яму бракавала досьведу, прафэсійных

[111] Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае... С. 110.

[112] Гутарка зь Яўгенам Усюкевічам, запісаная ў Наваградку 10.03.2007 г...

[113] Ліст Барыса Мацюкевіча ад 28.06.2006 г...; Гутарка зь Мікалаем Радзевічам, запісаная ў Любчы 14.05.2007 г...

[114] Гардзіенка, Алег. Беларуская народная самапомач: ад пачаткаў да рэарганізацыі // Спадчына. №1. 2002. С. 52.





ведаў. Здаецца, не было нават поўнай яснасьці, дзеля чаго канкрэтна ўтвараецца эскадрон. Замест гэтага было вялікае жаданьне штосьці рабіць, і ўжо не заставалася часу, каб вучыцца на ўласных памылках. Эскадрон ня стаў грознай баявой адзінкай; не паўплываў і ня мог паўплываць на сітуацыю ў акупаваным Наваградку; нічога не зьмяніў у антыпартызанскім змаганьні. Але, разам з тым, ён стаў легендай беларускага войска. Памяць пра „рагулеўцаў“ — адзіных людзей з зброяй, пры набліжэньні якіх вяскоўцы ня кідаліся наўцёкі, доўга жыла на Наваградчыне.

**_Яна Славіна,_**
**_Натальля Гардзіенка_**

# КНІЖНЫ АГЛЯД

*Сучасная беларуская прысутнасць у Вільні. Ля вытокаў незалежнай Беларусі (сярэдзіна XIX — пачатак XX ст.). [Альбом]. Вільня, 2009. — 135 с.*

*Сучасная беларуская прысутнасць у Вільні. Адукацыя. [Альбом]. Вільня, 2009. — 46 с.*







Тэма беларускай Вільні працягвае заставацца актуальнай, нягледзячы на скарачэньне агульнай колькасьці беларускага насельніцтва ў Літве. Бадай што кожны беларус, які прыяжджае ў гэты горад, ведае, што тут ёсьць шмат месцаў, зьвязаных з падзеямі й асобамі айчыннай гісторыі. Некалі своеасаблівым даведнікам аб беларускай Вільні стала кніга Лявона Луцкевіча „Вандроўкі па Вільні“ (Вільня, 1998). Нягледзячы на даволі сьціплую паліграфію, гэтая праца да сёньня застаецца найлепшай крыніцай інфармацыі для зацікаўленага турыста ў былой сталіцы Вялікага Княства.





Аднак час, што дыктуе новыя патрэбы й стварае новыя магчымасьці, дазволіў нарадзіцца прынцыпова іншым выданьням, у якіх адлюстроўваецца беларуская Вільня. Гэта два дзьвюхмоўныя (беларуска-літоўскія) даведнікі-альбомы, складзеныя маладым беларусам Кірылам Атаманчыкам і выдадзеныя пры падтрыманьні Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту й Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“.

У першай кнізе з падназвай „Ля вытокаў незалежнай Беларусі (сярэдзіна XIX — пачатак XX ст.)“ на мапах-схемах і фотаздымках падаюцца менавіта беларускія месцы ў Вільні. Да кожнага месца ёсьць невялікая тэкставая анатацыя ў дзьвюх мовах — аповед пра будынак і(ці) асобу, зь ім зьвязаную. Пры гэтым аўтар тэкстаў абапіраецца ў тым ліку й на згаданую вышэй працу Лявона Луцкевіча.

У сьпісе рэпрэзэнтаваных месцаў — рэдакцыі газэтаў „Наша доля“ й „Наша ніва“ (у розныя гады), будынак віленскага суда, дзе працаваў Францішак Багушэвіч, касьцёл сьв. Мікалая, дзе служыў кс. Адам Станкевіч, дом Браніслава Тарашкевіча, друкарня Марціна Кухты, Беларускі пасольскі клюб і шмат іншага. Тут адзначаныя таксама мэмарыяльныя таблiцы, прысьвечаныя асобным беларускім дзеячам. Ханалягічна крыху выбіваецца дом-друкарня Францыска Скарыны, аднак імкненьне ўлучыць у даведнік гэтае важнае беларускае месца выглядае зразумелым.

Асобным невялікім разьдзелам падаецца адзін з найстаражытнейшых нэкропаляў у Вільні — могілкі Роса. Гэта нібыта альбом у альбоме: здымкі асобных магілаў і кароткія зьвесткі пра пахаваных асобаў. Тут Францішак Аляхновіч, Лявон Вітан-Дубейкаўскі, Галіна Войцік, Лявон Луцкевіч, Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Уладзіслаў Паўлюкоўскі (Улад Іпіцкі), Станіслаў Станкевіч, Альбін Стэповіч, Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк), Яўстах Тышкевіч, Уладзіслаў Талочка, Антон і Іван Луцкевічы. Гэта даволі ўдалая й вартая працягу спроба зрабіць своеасаблівы альбом беларускіх пахаваньняў на асобным замежным нэкропалі. Праўда, якасьць здымкаў тут, і ўвогуле ва ўсім выданьні, не заўсёды найлепшая. Аднак сам даведнік атрымаўся сапраўды цікавым і карысным выданьнем, якое мае быць запатрабаванае і ў Беларусі, і ў Літве.

Другая частка, ці другое выданьне той самай сэрыі, прысьвечанае гісторыі беларускіх адукацыйных установаў у Вільні. І тут можна знайсьці таксама мапы-схемы, здымкі й інфармацыю пра Віленскі ўнівэрсытэт, Віленскі пэдагагічны ўнівэрсытэт, Віленскую беларускую гімназію, Віленскую сярэднюю школу імя Францыска Скарыны й

Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. Апошняй установе, з увагі на тое, што там вучыцца складальнік альбому й што яна дапамагала выдаць кнігу, надаецца ўвагі найбольш.

Гэтыя два, як пазначаецца ў прадмове, *„культурна-інфармацыйныя выданьні“* з сэрыі „Сучасная беларуская прысутнасьць у Вільні“ выглядаюць як годны перайманьня прыклад. Невялікія, інфармацыйныя, прыгожыя й даволі зручныя, аналягічныя даведнікі маглі б зьявіцца па беларускай Варшаве, Празе, Лёндане, Нью-Ёрку або нават па цэлых краінах. Пры сучасным разьвіцьці турызму, а таксама беларускіх дыяспараў у розных рэгіёнах такога кшталту выданьні сёньня надзвычай актуальныя.

*Н. Г.*

*Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца: Зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годзьдзя з дня нараджэньня і 50-годзьдзя сьвятарства айца Аляксандра Надсана. Менск: Тэхналогія, 2009. — 623 с. — Наклад 250 асобнікаў.*




Ідэя фэстшрыфту (адмысловага юбілейнага выданьня) у гонар 80-годзьдзя аднаго з найбольшых духоўных аўтарытэтаў беларусаў у замежжы айца Аляксандра Надсана ды 50-годзьдзя ягонага сьвятарства нарадзілася яшчэ ў 2006 г., але запатрабавала шмат часу на рэалізацыю. У выніку пабачыў сьвет прыгожы фаліянт, што стаў адметнай зьявай і ў інтэлектуальнай прасторы Беларусі, і ў паліграфіі. У прысьвечаным айцу Аляксандру зборніку, акрамя тэкстаў пра яго ды ўнікальных фотаздымкаў, сабраныя публікацыі зь беларусістыкі й багаслоўя болей за сотню аўтараў з розных краінаў сьвету, якія палічылі за гонар гэткім чынам павіншаваць юбіляра.

Укладальнікі дзьвюхмоўнага беларуска-ангельскага збору Ірына Дубянецкая, Арнолд МакМілін і Генадзь Сагановіч зрабілі вялікую працу, сабраўшы пад адной вокладкай значную колькасьць ня проста цікавых, але ўнікальных публікацыяў. Усе яны разьмеркаваныя па трох вялікіх частках: „Беларусістыка“, „Багаслоўе“ ды „Вершы“ — і некалькіх дзясятках тэматычных разьдзелаў у кожнай зь іх. Разьдзелы найперш адлюстроўваюць кола ўласных зацікаўленьняў айца Аляксандра, таму тут ёсьць „Кнігазнаўства“, „Скарыназнаўства“, „Кітабістыка“, але побач зь імі й больш далёкія ад дзейнасьці юбіляра „Археалёгія“, „Музыказнаўства“, „Фальклярыстыка й этнаграфія“. Абсалютна зразумелая наяўнасьць у кнізе й значнай колькасьці багаслоўскіх тэкстаў. Пры гэтым варта адзначыць, што ўсе разьдзелы (не толькі багаслоўскага зьместу) маюць назвамі выразы з Кнігі прарока Ісаі, пераклады якіх з габрэйскай на беларускую мову былі зробленыя адмыслова для гэтага выданьня.

Частка тэкстаў тому напісаная аўтарамі зь беларускага замежжа, частка прысьвечаная ягоным праблемам, што нядзіўна, улічваючы асобу самога юбіляра. Сярод артыкулаў эміграцыязнаўчай тэматыкі зьвяртаюць на сябе ўвагу найперш тыя, што зьмяшчаюцца ў адмысловы разьдзел „Беларуская дыяспара“. Аўтар тэксту, прысьвечанага зьместу эміграцыйнага пэрыёдыка „Рух“, — беларускі навуковец з Варшавы Аляксандар Баршчэўскі. У сваім артыкуле ён падрабязна й з шырокім цытаваньнем разглядае матэрыялы з 2—4 нумароў гэтага паваеннага выданьня ды прыходзіць да высновы аб ягоным высокім інтэлектуальным узроўні. Вітаўт Кіпель у артыкуле „Чародная хваля эміграцыі зь Беларусі ў ЗША“ зьвяртае ўвагу на асаблівасьці эміграцыйнай хвалі канца 1990-х — 2005 гг., адзначае рост колькасьці тых беларусаў, хто атрымоўвае ў ЗША статус палітычнага ўцекача. Трэці й апошні тэкст разьдзелу напісаў беларускі архівіст і эміграцыязнаўца зь Нью-Ёрку Лявон Юрэвіч. Ён разглядае каштоўнасьць расейскай эміграцыйнай пэрыёдыкі для вывучэньня гісторыі беларускай эміграцыі на прыкладзе двух выданьняў: Рускага народнага календара на 1929 г., выдадзенага ў Чыкага, дзе згадваецца Язэп Варонка, ды працы Н. Баброва „Кароткі гістарычны нарыс будаўніцтва Сьвята-Троіцкага манастыра. Джорданвіль, шт. Нью-Ёрк“ (Джорданвіль, 1969), дзе апавядаецца пра заснавальніка манастыра, нарадзінца Рэчыцы Пятра Ніжніка (архімандрыта Панцеляймона, 1895—1984).

Па-за згаданымі тэкстамі ў іншых разьдзелах збору можна сустрэць матэрыялы, прысьвечаных асобам ці падзеям з гісторыі беларускага замежжа, прыкладам, артыкул Уладзімера Ляхоўскага, дзе апавядаецца пра жыцьцёвы й творчы шлях Лявона Вітан-Дубейкаўскага, або Дароты Міхалюк пра спробы кантактаў дзеячаў БНР з палітычнымі

коламі Вялікабрытаніі ў 1919—1921 гг. ды некаторыя іншыя. Напэўна, разьдзел пра дыяспару ў томе, прысьвечаным аднаму зь яе лідэраў, мог быць і больш шырокі. Тым ня менш, вартасьць і якасьць гэтага юбілейнага выданьня ўвогуле сёньня складана пераацаніць, яно, бадай што, ня мае аналягаў у Беларусі.

*Н. Г.*

*Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. — 480 с.*




Нягледзячы на пэўную „закрытасьць“ тэмы беларускай дыяспары для сучасных мэтрапольных дасьледнікаў, цягам 2008—2010 гг. у Менску пабачылі сьвет некалькі афіцыйных выданьняў, прысьвечаных праблематыцы беларускага замежжа. Двум зь іх: кнізе Вольгі Коваль „Пэрыядычныя выданьні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939—1960 гг.)“ ды дапаможніку „Беларуская дыяспара“ ўжо былі прысьвечаныя адмысловыя рэцэнзіі ў папярэдніх нумарах „Запісаў БІНіМ“[1]. Пры канцы ж 2010 г. пабачыла сьвет прынцыпова іншае выданьне, навукова-папулярнага характару й энцыкляпэдычнага зьместу — дзьвюхмоўны беларуска-расейскі фаліянт „Беларускае замежжа“, складальнікам якога выступае Натальля Голубева. У якасьці ўстановаў, пад эгідай якіх выйшаў даведнік, пазначаюцца адразу пяць: Дэпартамэнт архіваў і справаводзтва Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны архіў РБ, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Горадні ды Беларускі дзяржаўны архіўмузэй літаратуры й мастацтва. Амаль пяцісотстаронкавае выданьне вялікага фармату, паводле невялікай прадмовы-звароту да чытачоў, ёсьць спробай *„узнавіць гісторыю беларускага замежжа, сабраць разам тую інфармацыю, якая існуе зараз аб выхадцах зь беларускіх зямель, што пакінулі сваю гістарычную радзіму ў розныя часы і ў сілу абставін расьсяліліся па ўсім сьвеце — на розных кантынэнтах і ў розных краінах“*[2].

[1] Гл.: Гардзіенка, Натальля. Плягіят і прафанацыя „Беларускай дыяспары“ // Запісы БІНіМ. №31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 374—391; Гардзіенка, Натальля. Ідэалягічна правільнае выданьне // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 562—579.





„Беларускае замежжа“ складаецца зь сямі разьдзелаў. У першым зь іх сабраныя агульныя артыкулы, прысьвечаныя гісторыі расьсяленьня беларусаў па сьвеце, культурным каштоўнасьцям беларусаў у розных краінах, укладу нарадзінцаў Беларусі ў разьвіцьцё сусьветнай цывілізацыі ды стасункам дзяржавы й беларускай дыяспары. Адразу трэба зазначыць, што згаданыя артыкулы маюць своеасаблівы праграмны характар і адлюстроўваюць своеасаблівы афіцыйна прыняты дзяржавай погляд на праблематыку беларускага замежжа. Адсюль і тыя хібы й супярэчнасьці, што можна знайсьці ў тэкстах. Гэтак, вельмі любяць афіцыйныя публікацыі гуляць з рознымі лічбамі, відаць, спадзеючыся, што ніхто ня зможа іх праверыць. Аўтарка ўсіх тэкстаў першага разьдзелу і ўласна складальніца ўсяго тому Натальля Голубева сьцьвярджае, што цягам 1992—1999 гг. зь Беларусі *„ў Ізраіль, ЗША, Канаду, Германію, Аўстралію, Польшчу і іншыя краіны выехала каля 70 тысяч чалавек“*[3]. У той жа час нават афіцыйная беларуская статыстыка падае колькасьць эмігрантаў зь Беларусі ў адзначаны час у больш як 272 тысячы чалавек[4]. А калі ўлічыць, што зь сярэдзіны 1990-х пайшла тэндэнцыя да афіцыйнага памяншэньня статыстычных лічбаў эміграцыі, асабліва на Захад, дык нават і тыя 272 тысячы могуць быць далёкія ад рэальнасьці, не гаворачы пра пададзеныя ў даведніку невядома навошта 70 тысячаў эмігрантаў. Гэтаксама дзіўна выглядае й іншая статыстыка, прыведзеная ў артыкуле, як і нічым не падмацаваныя развагі пра зьмену сутнасьці дыяспараў апошнім часам. Увогуле варта адзначыць, што ў тэкстах заўважаецца тэрміналягічная блытаніна ў апэраваньні паняткамі „дыяспара“, „замежжа“, „эміграцыя“.

Тэкст „Уклад ураджэнцаў Беларусі ў разьвіцьцё сусьветнай цывілізацыі“ адлюстроўвае вынікі працэсу беларускай „прыватызацыі“ імёнаў гістарычнага мінулага. Гэтак тут, нягледзячы на нядаўнія спрэчкі

[2] Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. С. 3.

[3] Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье... С. 20.

[4] Зьвесткі на падставе публікацыяў статыстычных штогоднікаў («Статистический ежегодник») за 1992—1999 гг.

аб правамоцнасьці, у якасьці прыналежных Беларусі выступаюць і Адам Міцкевіч, і Ігнаці Дамейка, і іншыя дзеячы розных галінаў навукі, мастацтва, спорту. Крыху дзіўна тут глядзяцца дзеячы савецкага часу Андрэй Грамыка й Кірыла Мазураў. Раней беларускія афіцыйныя публікацыі не распаўсюджвалі „прыватызацыю“ на дзеячаў агульнасавецкага кіраўніцтва. У новым падыходзе можна ўбачыць і тэндэнцыю выразнага адасабленьня Беларусі ад Расеі, ці, прынамсі, Масквы, дзе разьмяшчаліся органы Савецкага дзяржаўнага й партыйнага кіраўніцтва, у якіх бралі ўдзел выхадцы зь Беларусі. Цікава, што з прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі ў артыкуле прэзэнтаваны толькі Міхась Забэйда-Суміцкі. Ніякіх іншых выбітных асобаў, паводле вэрсіі афіцыйнага Менску, найбольш нацыянальна сьвядомая хваля беларускай эміграцыі сусьветнай цывілізацыі не дала.

Самым афіцыёзным і ідэалягічна ангажаваным аказаўся апошні матэрыял разьдзелу — „Дзяржава і беларускае замежжа“. Тут робіцца спроба акрэсьліць стаўленьне розных дзяржаўных утварэньняў, што існавалі на беларускіх землях (ад Кіеўскай Русі да сучаснай незалежнай рэспублікі), да міграцыйных працэсаў. У тэксьце, большая частка якога, зразумела, датычыць XX ст., прыводзіцца шмат пастановаў партыйных і савецкіх органаў. Катэгарычна нэгатыўна разглядаецца дзейнасьць беларускай эміграцыі часоў Другой сусьветнай вайны, аповед пра якую пачынаецца з шырокага цытаваньня „Рэзалюцыі агульнага сходу беларусаў, якія пражываюць у пратэктараце Чэхія і Маравія, аб падтрымцы гітлераўскай улады“ ад 27 чэрвеня 1941 г. Праз прызму гэтага дакумэнту разглядаецца ўся беларуская дзейнасьць часоў Другой сусьветнай вайны, прычым адразу адмоўнае стаўленьне пераносіцца з тагачаснай эміграцыі на будучую паваенную. Паказальна тут выглядаюць спасылкі на тэндэнцыйную працу Джона Лофтуса, таксама вельмі папулярную ў цытаваньні афіцыйных СМІ адносна паваеннай эміграцыі ў апошнія гады (асабліва часта спасылкі на яе можна сустрэць на старонках менскага грамадзка-палітычнага часопісу „Беларуская думка“ — рупара дзяржаўнай прапаганды).

На фоне вяртаньня ў тэксьце фактычна да савецкага стаўленьня да паваеннай эміграцыі тым больш фантастычна гучыць выраз: *„варта адзначыць, што ў СССР, у параўнаньні зь іншымі эўрапейскімі краінамі, адносіны да калябарантаў былі досыць ляяльнымі“*[5]. Далей ідуць дэмагагічныя параўнаньні сытуацыі ў Нарвэгіі, Францыі, Даніі й СССР,

[5] Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье... С. 85.





дзе *„ступень віны вызначалася па прынцыпе дачыненьня да рэпрэсій у адносінах да мірных жыхароў. Таму многія, хто славіў фашысцкі рэжым, панесьлі пакараньні, але працягвалі жыць у краіне“*[6]. Аўтарка, відавочна, забываецца, што савецкія рэпрэсіі ў паваенны час былі скіраваныя супраць тых, хто нават проста працаваў на акупаванай тэрыторыі або апынуўся ў нямецкім палоне. Больш за тое, нават былыя ўдзельнікі вайны з фашыстамі з шэрагаў Арміі Андэрса (якія не былі калябарантамі) масава арыштоўваліся й пазбаўляліся волі.

Вельмі прыгожа надалей выглядае гісторыя стасункаў савецкіх уладаў і дыяспары (прычым выключна ў выглядзе прасавецкіх арганізацыяў), без згадак рэальных ідэалягічных супярэчнасьцяў часоў халоднай вайны. Яшчэ больш гладка апісаныя дачыненьні з дыяспарай уладаў незалежнай Рэспублікі Беларусь. Згадваецца Першы Зьезд беларусаў сьвету, але нічога не гаворыцца пра стварэньне й шматгадовую эфэктыўную дзейнасьць дзеля аб'яднаньня прадстаўнікоў беларускага замежжа Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“. Увогуле, гэтая важная ў гісторыі апошніх двух дзесяцігодзьдзяў дачыненьняў мэтраполіі й дыяспары арганізацыя ва ўсім тэксьце згадваецца толькі аднойчы й толькі мімаходзь. Зразумела, што ў артыкуле падаюцца адно найбольш выгадныя сучаснай уладзе факты супрацы зь беларусамі замежжа. Пры гэтым замоўчваецца, што да сёньня гэтак і не прынятым Закон аб беларусах замежжа, неўрэгуляваны іхны статус, не існуе цэнтру навуковых дасьледаваньняў беларускага замежжа, аналягі якіх працуюць у шматлікіх іншых, у тым ліку й суседніх краінах.

Такім чынам, першы разьдзел „Беларускага замежжа“ вызначыў пэўныя ідэалягічныя арыенціры для наступных артыкулаў. Аднак праз тое, што аўтары ў тэкстаў былі розныя, дык ня ўсе ўстаноўкі ўдалося датрымаць што, трэба заўважыць, пайшло толькі на карысьць выданьню.

Другі разьдзел даведніка складаюць тэкст, прысьвечаныя беларускай прысутнасьці ў Расеі ўвогуле і ў Маскве ды Санкт-Пецярбурзе асобна. Аўтары двух апошніх тэкстаў, адпаведна, Аляксей Каўка й Мікола Нікалаеў, — вядомыя спэцыялісты ў адпаведных галінах, і іхныя артыкулы атрымаліся надзвычай якасныя, інфармацыйныя й пазбаўленыя залішняга афіцыёзу. З тэкстам жа пра беларусаў у Расеі атрымалася ня вельмі прыгожа. Пры канцы яго пазначана, што ён зроблены на падставе аналягічнага таксама вельмі грунтоўнага тэксту гісторыка Галіны Сяргеевай, апублікаванага ў даведніку „Хто ёсьць хто сярод беларусаў

[6] Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье... С. 86.

сьвету „ (Мінск, 2000). Пры гэтым у „Беларускім замежжы“ арыгінальны тэкст Сяргеевай захаваны недзе на 90%, толькі месцамі прысутнічае павярхоўнае рэдагаваньне ды дадаліся колькі абзацаў пра падзеі апошняга дзесяцігодзьдзя. Тым ня менш, у зьмесьце аўтарам тэксту пазначана Натальля Голубева, што ня проста неэтычна, але й выглядае на звычайны плягіят.

Наступны разьдзел кнігі склалі тэксты, прысьвечаныя краінам „блізкага замежжа“. Тут распавядаецца пра беларускую прысутнасьць ва Ўкраіне, Літве, Латвіі, Эстоніі, Малдове й Казахстане. Сапраўды даволі якасныя артыкулы, што апісваюць гісторыю беларускай прысутнасьці ў краінах былога СССР, пры канцы, праўда, згадваюць менавіта тыя структуры дыяспараў, якія падтрымліваюць афіцыйны Менск. Тыя ж, хто крытычна ставіцца да сучасных уладаў Беларусі, у тэкстах тактычна абыходзяцца ўвагай. Так, у артыкуле пра Ўкраіну, прыкладам, ня згадваецца вельмі актыўнае Севастопальскае таварыства беларусаў імя М. Багдановіча „Пагоня“ й шэраг іншых арганізацыяў. У матэрыяле пра беларусаў Эстоніі нават намёку няма на прадстаўнікоў палітычнай эміграцыі ўжо XXI ст. і іхныя структуры. Вельмі сьціпла падаецца беларуская дзейнасьць апошніх дзесяцігодзьдзяў у Літве. Ня згадваецца тут, што значным фактарам беларускай працы тут стала прысутнасьць цэлай навучальнай установы ў эміграцыі — Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту зь ягонымі беларускімі студэнтамі.

Новая палітычная эміграцыя ня згадваецца і ў першым тэксьце чацьвертага разьдзелу, прысьвечаным беларусам Польшчы. Даволі падрабязная гісторыя беларускай меншасьці ў Польшчы заканчваецца асобнымі згадкамі пра падзеі першай паловы 1990-х, а пачатак XXI ст., зь ягонымі судом над беластоцкай „Нівай“, прысутнасьцю некалькіх тысячаў беларускіх студэнтаў, звольненых з мэтрапольных ВНУ праз палітычныя матывы, цікавымі ініцыятывамі гэтых студэнтаў, як, прыкладам, суполка „Беларуская нацыянальная памяць“ — усё гэта засталося па-за прэзэнтаванай у даведніку карцінай жыцьця беларусаў у Польшчы.

Наступныя тэксты разьдзелу, прысьвечаныя краінам „дальняга замежжа“ (цікава, чаму сюды адносіцца Польшча, геаграфічна больш блізкая да Беларусі, чым тая ж Малдова ці Казахстан?), распавядаюць пра беларусаў і выхадцаў зь Беларусі ў Ізраілі, Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе, Аргентыне й Аўстраліі. У большасьці гэтых тэкстаў утрымліваецца заўважны ідэалягічны дысананс з пастулятамі першага разьдзелу даведніка. Рэч у тым, што стваральнікамі беларускіх асяродкаў у Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША й Канадзе былі менавіта беларусы паваеннай эміграцыі. Тут сярод іншага згадваюцца асобы, якія, апыніся яны ў паваенны час у Савецкай Беларусі, мелі шанец зьведаць на сабе ўсе перавагі ляяльнасьці СССР: Юрка Віцьбіч, Масей Сяднёў, Янка Золак, Мікола Шчаглоў-Куліковіч, Раіса й Вінцэнт Жук-Грышкевічы ды іншыя. Што праўда, цэнзура ўсё ж прыбрала з тэкстаў згадкі пра найбольш нелюбімых афіцыйным Менскам дзеячаў, такіх, як Натальля Арсеньнева, Івонка Сурвіла. Акрамя таго, без узгадненьня з аўтарамі прыбіраліся цэлыя абзацы й дадаваліся іншыя. Аднак нягледзячы на такія ідэалягічныя выпраўленьні самі па сабе прэзэнтаваныя ў разьдзеле тэксты даволі поўна й разнастайна адлюстроўваюць гісторыю беларускай прысутнасьці ў згаданых краінах.

Гэтаксама як у выпадку з краінамі „блізкага замежжа“, зь якіх выпалі такія цікавыя асяродкі беларускай прысутнасьці апошніх дзесяцігодзьдзяў, як Узбэкістан і Кыргызстан, „далёкае замежжа“ засталося без адмысловых артыкулаў пра беларусаў у Чэхіі, Нямеччыне, Францыі, Гішпаніі, Бэльгіі, Швэцыі. Імаверна, не знайшлося дасьведчаных аўтараў, што яшчэ раз паказвае агульныя хібы беларускага эміграцыязнаўства. Разам з тым, у гісторыі й сучаснасьці беларускай прысутнасьці ў згаданых краінах таксама багата фактаў, што ня ўпісваюцца ў афіцыйную менскую ідэалёгію.

Пяты разьдзел складаюць тэксты, напісаныя прафэсіяналамі-архівістамі. У іх бачым найбольш поўны аналіз дакумэнтаў, прысьвечаных гісторыі беларускага замежжа, з асобных дзяржаўных архіваў Беларусі (тых, што пазначаюцца як выдаўцы даведніка). Гэтыя матэрыялы ўяўляюць надзвычай вялікую цікавасьць для дасьледнікаў-эміграцыязнаўцаў, таму гэты разьдзел можна лічыць адным з самых каштоўных у кнізе.

Шосты разьдзел мае своеасаблівы ілюстрацыйны характар. Тут публікуюцца асобныя дакумэнты, прысьвечаныя гісторыі беларускага замежжа. Што праўда, прынцып адбору саміх дакумэнтаў не зусім зразумелы.

У апошні разьдзел вынесьлі даволі сьціплую (толькі 2 старонкі) бібліяграфію выданьняў пра беларускае замежжа, якасьць і паўнату якой абмяркоўваць сьмешна. Варта заўважыць, што адсутнасьць спасылак у саміх тэкстах нават пры цытаваньні істотна зьніжае навуковую вартасьць артыкулаў.

Пры канцы кнігі зьмешчаныя прыгожыя каляровыя ілюстрацыі: некалькі мапаў, а таксама даволі якасныя выявы архіўных дакумэнтаў і выданьняў з гісторыі беларускага замежжа.

З усімі сваімі плюсамі й мінусамі, даведнік „Беларускае замежжа“ сапраўды можна назваць адлюстраваньнем узроўню сучаснага разьвіцьця беларускага эміграцыязнаўства. Несумненна, бяз пэўных ідэалягічных установак і больш сур'ёзнай аналітычнай працы яго магчыма было б зрабіць больш інфармацыйна якасным, як і ўсё беларускае эміграцыязнаўства, разьвівайся яно ў іншых умовах, магло б быць значна больш прасунутым і разнастайным.

*Н. Г.*

*Кіпель, Зора. Дні аднаго жыцьця...: Успаміны, артыкулы, дзёньнікі. Мінск: Зміцер Колас, 2010. — 936 с. — Наклад 500 асобнікаў.*




У разнастайнай інтэлектуальнай спадчыне беларускай паваеннай эміграцыі амаль не захавалася, ці не было дасюль апублікавана, дзёньнікаў. Вядома, што некаторыя дзеячы іх вялі, прыкладам Вінцэнт Жук-Грышкевіч, але яны пакуль захоўваюцца ў архівах і чакаюць свайго часу. Разам з тым, дзёньнікі — надзвычай цікавая крыніца інфармацыі і пра асобу аўтара, і пра ягонае звычайнае штодзённае жыцьцё. Менавіта таму выданьне дзёньнікавых запісаў Зоры Кіпель стала адметнай падзеяй у эміграцыязнаўстве.

Уласна выданьне „Дні аднаго жыцьця“, укладзенае Сяргеем Шупам, уключае ў сябе ня толькі дзёньнікі, але і ўспаміны, напісаныя з розных нагодаў, ды артыкулы, што публікаваліся ў эміграцыйных пэрыёдыках. Аднак асноўны зьмест амаль тысячастаронкавага тому склалі менавіта дзёньнікі.

Зора Кіпель рабіла больш-менш рэгулярныя запісы пра штодзённыя справы цягам 1978—1994 гг. Такім чынам, 16 гадоў жыцьця сям'і актыўных амэрыканскіх беларусаў знайшлі адлюстраваньне на старонках кнігі. Запісы пераважна кароткія, робленыя хутчэй для памяці, прысьвечаныя падзеям дня. Тут шмат побытавых дэталяў, што могуць





быць асабліва каштоўныя для будучых дасьледнікаў эміграцыйнай штодзённасьці. Разам з тым, тут прысутнічаюць розныя асобы з тагачаснай беларускай дыяспары, якім аўтарка часам дае некія характарыстыкі. Праз дэталі вырашэньня супольных справаў можна „з бліжэйшае адлегласьці“ зірнуць на Вітаўта Тумаша, Антона Адамовіча, Янку Запрудніка, шмат каго яшчэ і, зразумела, на Вітаўта Кіпеля. Між іншага, апошні сам рабіў камэнтары да пазначаных жонкай падзеяў.

На жаль, у сваім дзёньніку Зора Кіпель не фіксавала сваіх разваг адносна тых тэкстаў, зь якімі працавала як рэдактарка, адносна тых кніг, якія чытала. Яе запісы іншыя. Аўтарка абавязкова пазначала, калі яна рабіла сабе фрызуру, калі езьдзіла ў якую краму набываць падарункі... Але побач з гэтымі звычайнымі жыцьцёвымі справамі, праз якія чалавек бачыцца больш зямным, зразумелым, побач з хатнімі клопатамі й як неад'емная частка жыцьця Кіпеляў у дзёньніку прысутнічаюць шматлікія грамадзкія справы. То рыхтаваньне ялінкі ці якога канцэрту, выставы, то праца з тэкстамі для таго ці іншага выданьня, то спатканьне зь якім амэрыканцам у той ці іншай беларускай справе... Усё гэта было натуральнай складовай часткай жыцьця Зоры Кіпель і ейнае сям'і. Дзёньнік тлумачыць, што значыць быць беларусам на чужыне штодня.

Кніга „Дні аднаго жыцьця“ — плён надзвычай вялікай працы ўкладальніка й рэдактара, і разам з выдадзенай раней Бібліяграфіяй беларускага друку на Захадзе — справай жыцьця Зоры й Вітаўта — ёсьць своеасаблівым інтэлектуальным помнікам сям'і Кіпеляў. Апублікаваныя дзёньнікі маюць сапраўды вялікае значэньне й як гістарычная крыніца, і як сьведчаньне эпохі, і як добрая нагода для пошуку й выданьня іншых эміграцыйных дакумэнтаў такога кшталту.

*Н. Г.*

*Салавей, Алесь. Творы: паэзія, проза, лісты. Мінск: Лімарыус, 2010. — 560 с. — Наклад 400 асобнікаў.*

Беларускім эміграцыйным пісьменьнікам ня надта шанцуе на ўвагу мэтраполіі. Пасьля ўсплёску цікавасьці да іх першай паловы 1990-х надалей яны паступова ізноў, як і ў савецкія часы, сталі ў айчынных дасьледнікаў пэрсонамі *non grata*. Сёньня апублікаваць на старонках афіцыйнага літаратурнага пэрыёдыка артыкул, прысьвечаны Натальлі Арсеньневай, Масею Сяднёву ці Алесю Салаўю, амаль гэтаксама складана, як у 1970-х выдрукаваць матэрыял пра дысыдэнтаў. Менавіта таму справу вяртаньня ў Беларусь творчай спадчыны эміграцыйных




паэтаў і пісьменьнікаў могуць узяць на сябе выключна недзяржаўныя выдаўцы. Гэтак, выдавецтва „Лімарыюс“ запачаткавала сэрыю „Галасы Айчыны“, першай кнігай у якой стаў збор твораў Алеся Салаўя (1922—1978).

Гэты паэт нездарма лічыцца адным з найбольш таленавітых творцаў беларускай паваеннай эміграцыі. Сваю паэтычную дзейнасьць ён пачаў яшчэ ў перадваеннай Беларусі, але ці не найбольш плённым часам для Салаўя сталі 1940-я гг. Першы ягоны зборнік „Мае песьні“ пабачыў сьвет у Рызе ў 1944 г., другі, „Сіла гневу“, — у 1948 г. у Остэргофэне (Нямеччына). Усё, што рыхтавалася пазьней, не было надрукаванае пры жыцьці аўтара. Толькі пасьля ягонай сьмерці БІНіМ выдаў збор твораў паэта пад назвай „Нятускная краса“ (Нью-Ёрк—Мэльбурн, 1982). Гэты апошні й стаў асновай для менскага выданьня, апрацаванага літаратарам Міхасём Скоблам.

У мэтрапольным выданьні падаюцца некаторыя творы (паэтычныя й празаічныя), што не ўвайшлі ў папярэдняе, БІНіМаўскае, а таксама, што найбольш важна, зьмяшчаецца багатая эпісталярная спадчына паэта. Амаль палову аб'ёму кнігі складаюць лісты Алеся Салаўя з 1943 да 1977 гг. Прычым большая іх частка належаць да „аўстрыйскага“ пэрыяду жыцьця ў лягерах для перамешчаных асобаў (1947—1950 гг.). Адрасатамі лістоў былі вядомыя дзеячы паваеннай эміграцыі: Масей Сяднёў, Юрка Віцьбіч, Вітаўт Тумаш, Алесь Грыцук, Міхась Скабей, Антон Адамовіч і іншыя.

Адамовіч кантактаваў з паэтам ужо ў „аўстралійскі“ пэрыяд ягонага жыцьця (нават адведваў Салаўя ў Мэльбурне незадоўга да сьмерці) і быў складальнікам БІНіМаўскага збору твораў ды найбольш глыбокім знаўцам і крытыкам ягонай творчасьці. Праца Антона Адамовіча „Так пяяў Салавей“[7] да сёньня застаецца найбольш цікавым і грунтоўным аналізам жыцьця й літаратурнай спадчыны паэта.

[7] Адамовіч, Антон. Так пяяў Салавей // Адамовіч, Антон. Творы. Нью-Ёрк, 2003. С. 394—609.





Публікацыя ліставаньня Алеся Салаўя дае магчымасьць убачыць і адчуць ягоны душэўны стан, асаблівасьці штодзённага жыцьця, спадзяваньні й мары. Гэтыя лісты — яшчэ й каштоўны матэрыял для гісторыка, што дасьледуе жыцьцё беларусаў у паваенных лягерах Ды-Пі. Шкада толькі, што камэнтары да апублікаванай у зборы карэспандэнцыі даволі сьціплыя й мала дапамагаюць недасьведчанаму чытачу ў разуменьні згаданых у лістах падзеяў і асобаў.

У дадатку да тому зьмешчаныя некалькі ўспамінаў пра Алеся Салаўя, напісаных ягонымі сучасьнікамі, а таксама лісты жонкі паэта Зінаіды Кадняк да розных асобаў ужо пасьля сьмерці паэта. Ёсьць у кнізе й цікавыя фатаздымкі-ілюстрацыі.

Менскае выданьне творчай спадчыны Алеся Салаўя на сёньня зьяўляецца найбольш поўным. Такім чынам, дзякуючы ініцыятыве прыватнага выдаўца, даробак аднаго з найбольш таленавітых эміграцыйных паэтаў усё ж вярнуўся ў мэтраполію.

*Я. С.*

*Дудзіцкі, Уладзімер. Творы. Мінск: Лімарыус, 2010. — 400 с. — Наклад 400 асобнікаў.*




Другім імем, якое вярнулася ў мэтраполію дзякуючы сэрыі „Галасы Айчыны“, стала імя Ўладзімера Дудзіцкага (1911 — пасьля 1976). Гэты эміграцыйны паэт, таксама як і Алесь Салавей, прэтэндуе на званьне самага таленавітага творцы паваеннай беларускай эміграцыі. Ён, як і малады калега, пачаў сваю творчую дзейнасьць яшчэ ў перадваенны час, але пасьпеў і за яе паплаціцца зьняволеньнем і лягерамі. Вярнуўшыся ў Беларусь каля 1940 г., ён ня меў права жыць у Менску, таму вымушаны быў уладкоўвацца ў Віцебску, застаючыся палітычна й ідэалягічна ненадзейным у вачах савецкай улады.

Гэтаксама, як і Алесь Салавей, Уладзімер Дудзіцкі ў часе акупацыі супрацоўнічаў зь „Беларускай газэтай“. Абодва паэты ведалі адзін

аднога ня толькі па Менску, але й па пазьнейшых аўстрыйскіх лягерах Ды-Пі. Праўда, пасьля жыцьцё закінула творцаў у розныя, хоць і аднолькава экзатычныя для беларусаў краіны: Салавей пасяліўся ў Аўстраліі, а Дудзіцкі выехаў у Вэнэсуэлу. Для Дудзіцкага 1940-я гг. былі даволі плённыя ў творчым пляне, хоць і далейшая эміграцыя ня гэтак катастрафічна адбілася на ягонай творчасьці, як Аўстралія на жаданьні Салаўя працаваць.

Разам з тым, пры жыцьці Ўладзімер Дудзіцкі ня выдаў аніводнага ўласнага зборніка, хоць падрыхтаваў багата. Матэрыялы да аднаго канфіскавалі яшчэ ў часы арышту ў 1934 г., далейшыя губляліся ў віхурах вайны й паваеннага жыцьця. Ні ў пэрыяд працы на пасадзе кіраўніка беларускай службы радыё „Вызваленьне“, ні пазьней, у часе жыцьця ў ЗША, Уладзімер Дудзіцкі гэтак і ня здолеў надрукаваць аніводнага ўласнага зборніка. І толькі праз шмат гадоў пасьля таямнічага зьнікненьня паэта, у 1994 г., намаганьнямі БІНіМу пабачыў сьвет збор твораў Уладзімера Дудзіцкага пад назвай „Напярэймы жаданьням“.

Укладальнік БІНіМаўскага тому, архівіст і эміграцыязнаўца Лявон Юрэвіч, стаў укладальнікам і менскага выданьня. Як і ў выпадку з зборам Алеся Салаўя, у новым томе Ўладзімера Дудзіцкага зьявіліся паэтычныя й празаічныя творы, якіх не было ў папярэднім выданьні, абноўленая бібліяграфія, напісаная іншая прадмова, прысьвечаная больш жыцьцю, чым творчасьці паэта. Між іншага, у прадмове выказваецца і новая вэрсія прычынаў зьнікненьня дзеяча.

На вялікі жаль, амаль не захавалася эпісталярнай спадчыны Ўладзімера Дудзіцкага, таму выданьне атрымалася выключна мастацкім. Праз тэхнічныя праблемы не былі зьмешчаныя ў томе й нешматлікія падрыхтаваныя для яго ілюстрацыі.

Тым ня менш, збор твораў Уладзімера Дудзіцкага, як і папярэдні том Алеся Салаўя (найбольш поўныя на сёньня выданьні спадчыны эміграцыйных паэтаў) — важны крок у вяртаньні гэтага імя ў айчынны літаратурны й гістарычны дыскурс.

*Я. С.*

*Счастный, Владимир. Художники Парижской школы из Беларуси: Эссе, биографии, путеводитель. Минск: Четыре четверки, 2010. — 176 с.*

*Счастный, Владимир. Париж. Минск: Четыре четверки, 2011. — 94 с. — (Малая подорожная книжка белоруса).*











Беларуская прысутнасьць у Францыі да сёньня застаецца маладасьледаваная ў мэтраполіі, нягледзячы на тое, што прыклады нарадзінцаў беларускіх земляў, што ў той ці іншы час абіралі месцам свайго жыцьця Парыж, вядомыя нават школьнікам (узгадаць хаця б хрэстаматыйных Адама Міцкевіча ці Марка Шагала). Тым ня менш, турысты зь Беларусі будуць хутчэй шукаць у Парыжы магілы дзеячаў расейскай культуры, чым суайчыньнікаў. Беларускі дыплямат Уладзімер Счасны зрабіў спробу пазнаёміць чытачоў з своеасаблівым беларускім Парыжам, засноўваючыся найперш на гісторыі знакамітай Парыскай мастацкай школы. Менавіта ёй, яе гісторыі і найбольш ролі ў ёй нарадзінцаў беларускіх земляў (пераважна габрэяў), прысьвечаная першая згаданая вышэй кніга аўтара.

Гісторыя Парыскай школы — гэта гісторыі ня толькі францускага, але эўрапейскага мастацтва першай паловы XX ст. І ў кнізе Ўладзімера Счаснага яна пасьлядоўна разглядаецца ад пачатку, пабудовы „Вульля“ Адольфам Бушэ, праз пэрыпэтыі лёсаў насельнікаў, да сканчэньня й пазьнейшага змаганьня за захаваньне самога будынку.

Пры гэтым асноўны акцэнт аўтар робіць на жыцьцёвыя й творчыя шляхі менавіта выхадцаў зь Беларусі: Хаіма Суціна, Марка Шагала, Лява Бакста, Восіпа Цадкіна, Оскара Мешчанінава, Восіпа Любіча,

Міхаіла Кікоіна, Надзеі Хадасевіч-Лежэ і іншых. У прыцягальнай апавядальнай манеры эсэ чытачу падаюцца факты з жыцьця згаданых асобаў, сярод іншага, адзначаюцца кошты іхных карцінаў на аўкцыёнах ужо XXI ст. Аповед суправаджаецца вялікай колькасьцю ілюстрацыяў: як здымкаў з архіву аўтара, гэтак і рэпрадукцыяў мастацкіх твораў. Асобна ў кнізе зьмяшчаюцца кароткія храналёгіі-біяграфіі нарадзінцаў беларускіх земляў, што ўваходзілі ў Парыскую школу.

Важным момантам у аповедзе пра выхадцаў зь Беларусі зьяўляецца вызначэньне дакладных парыскіх адрасоў іхнага жыцьця й дзейнасьці. Асобны разьдзел кнігі „Падарожжа па сьлядах вялікай эпохі“ ўяўляе сабой турыстычны даведнік, дзе пазначаюцца найбольш цікавыя месцы, зьвязаныя з Парыскай школай і своеасаблівым „беларускім“ сьледам у ёй.

Відавочна, з гэтага разьдзелу й нарадзілася ідэя выданьня ўжо спэцыяльнага даведніка пра беларускі Парыж, якая ўжо на пачатку 2011 г. увасобілася ў новую кнігу. Матэрыялы пра месцы, зьвязаныя зь біяграфіямі ўдзельнікаў Парыскай школы, тут дапоўненыя згадкамі пра выхадцаў зь беларускіх земляў часоў „вялікай эміграцыі“ ў сувязі з паўстаньнем 1830—1831 гг. На жаль, месцы, зьвязаныя зь дзейнасьцю ўласна беларускай сьвядомай паваеннай эміграцыі ў даведнік не ўвайшлі.

Сама кніга пра Парыж мае выразны ўтылітарны характар. Тут падрабязна апісваецца, як знайсьці тое ці іншае месца, падаюцца здымкі й мапы-схемы. Разумеючы, што беларускія турысты наўрад ці могуць задаволіцца аглядам выключна „беларускіх“ месцаў у Парыжы, у даведніку падаюцца зьвесткі й пра ўнівэрсальныя знакамітасьці французскай сталіцы. Мінімум тройчы згадваецца беларуская амбасада. Прагматычны характар даведніка дапаўняецца зьмешчаным пры канцы міні-размоўнікам ды паказьнікам згаданых месцаў, для больш лёгкага пошуку па кнізе. Можна меркаваць, што нават калі „Малая падарожная кніжка для беларуса“ (ідэя такіх выданьняў проста выдатная) пра Парыж і саступае ў якасьці сусьветна вядомым турыстычным даведнікам, то менавіта беларускі яе зьмест цалкам здольны прыцягнуць да сябе ўвагу айчынных турыстаў.

Наагул жа кнігі Ўладзімера Счаснага, напісаныя прыгожай, хоць і не беларускай, мовай, зьяўляюцца важным крокам у справе вывучэньня й папулярызацыі беларускай прысутнасьці ў Парыжы ды ўвогуле ў Францыі.

*Н. Г.*





*Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск: Лімарыус, 2011. — 270 с. — (Беларуская мемуарная бібліятэка). — Наклад 300 асобнікаў.*




Зьяўленьне адмысловай выдавецкай сэрыі, прысьвечанай беларускай мэмуарнай літаратуры, насьпявала даволі даўно, аднак толькі цяпер атрымала рэальнае ўвасабленьне. І першай кнігай тут сталі ўспаміны беларускага палітычнага дзеяча міжваеннага часу ды паваеннай эміграцыі Аляксандра Стагановіча (1890—1988). Першая публікацыя ўспамінаў адбылася на старонках „Запісаў БІНіМ“ (№32. 2009), цяпер жа яны пабачылі сьвет асобным выданьнем.

Паводле цьверджаньня аўтара прадмовы й камэнтароў у кнізе, гісторыка Аляксандра Пашкевіча, асоба Стагановіча цікавая тым, што да апошняга часу заставалася малавядомай для дасьледнікаў. Навукоўцы, што вывучалі палітычную гісторыю Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы, амаль анічога не маглі сказаць пра жыцьцё й дзейнасьць аўтара ўспамінаў як да атрыманьня ім пасольскага мандату, такі і ў кароткі час ягонай дэпутацкай дзейнасьці, дый пагатоў пра далейшы лёс.

Аляксандар Стагановіч пражыў працяглае (98 гадоў) і даволі багатае на падзеі, краіны й людзей жыцьцё. У часе Першай сусьветнай вайны ён як жаўнер царскай арміі правёў некалькі гадоў у Францыі (якую потым лічыў сваёй другой бацькаўшчынай), Грэцыі, Сэрбіі, Македоніі, дзе ваяваў на Балканскім фронце. Недзе з часоў пачатку вайны паходзіць знаёмства з Ігнатам Дварчаніным. Вярнуўшыся ў Беларусь, Стагановіч доўгі час жыў на гаспадарцы ў вёсцы Нясутычы на Наваградчыне, зьведаў рэпрэсіі з боку польскіх уладаў за сваю палітычную дзейнасьць. У паваенны час разам зь сям’ёй апынуўся ў Нямеччыне, адкуль выехаў у ЗША, дзе й пражыў рэшту жыцьця.

Успаміны гэтага дзеяча дазваляюць ня толькі аднавіць нюансы ягонай біяграфіі, але й цікавыя моманты палітычнага жыцьця міжваеннай Заходняй Беларусі: асаблівасьці правядзеньня выбараў, дзейнасьці Грамады й КПЗБ. Тут ёсьць і цікавыя дэталі жыцьця й характараў асобных дзеячаў.

Акрамя ўласна ўспамінаў, у кнігу ўвайшлі артыкулы мэмуарнага характару аўтарства Аляксандра Стагановіча, што публікаваліся на старонках паваеннай беларускай эміграцыйнай пэрыёдыкі ды былі прысьвечаныя падзеям у Заходняй Беларусі. Зьмяшчаюцца тут і фотаздымкі зь сямейнага архіву Стагановічаў.

Як і ўсе мэмуары, „Успаміны пасла" даволі суб'ектыўныя. У некаторых момантах аўтар памыляецца ў фактах ці характарыстыцы падзеяў і асобаў, але дзякуючы грунтоўнаму камэнтаваньню, зробленаму гісторыкамі Аляксандрам Пашкевічам і Алегам Гардзіенкам, тэкст магчыма ўспрымаць адэкватна.

Кніга ўспамінаў Аляксандра Стагановіча важная як „вяртаньнем" ў мэтрапольны гістарычны дыскурс чарговага імя, гэтак і пачаткам выданьня сэрыі раней непублікаваных або малавядомых беларускіх мэмуараў зь якасным навуковым апаратам. І першае, й другое, несумненна, вартае вітаньня й працягу.

*Я. С.*

*Янушкевіч, Яўстафій. Успаміны (1805—1831). Мінск: Лімарыус, 2011. — 256 с. — (Беларуская мемуарная бібліятэка). — Наклад 300 асобнікаў.*




Беларускія эміграцыйныя дзеячы XIX ст., гэтаксама як і іхныя суродзічы-эмігранты XX ст., патрабуюць адмысловай увагі дасьледнікаў і „вяртаньня" ў нацыянальную інтэлектуальную прастору. І другая кніга сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка" зьяўляецца яшчэ адным добрым прыкладам для сучасных навукоўцаў і выдаўцоў.

Гісторык Вольга Гарбачова прэзэнтуе тут успаміны Яўстафія Янушкевіча (1805—1874) з 1805—1831 гг., знойдзеныя ў рукапісным выглядзе ў архіўных фондах Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве.

Яўстафі Янушкевіч — удзельнік паўстаньня 1830—1831 гг. — больш





вядомы (калі наагул магчыма казаць пра ягоную вядомасьць у Беларусі) як брат пісьменьніка й падарожніка Адольфа Янушкевіча (1803—1857) ды дзеяч эміграцыі, што традыцыйна ў нас лічылася польскай. Акрамя таго, ён публіцыст і пасьпяховы выдавец — заснавальнік парыскай газэты „Пілігрым польскі", якую з 1832 г. рэдагаваў Адам Міцкевіч. Аднак пра жыцьцё Яўстафія Янушкевіча да эміграцыі нідзе асабліва ня згадвалася. Высілкамі ж Вольгі Гарбачовай, што расчытала, пераклала на беларускую мову і грунтоўна пракамэнтавала ўспаміны, чытачам і дасьледнікам адкрываецца першы пэрыяд жыцьця дзеяча.

У напісаных для дачкі Марыі мэмуарах Яўстафі Янушкевіч згадвае пра сваё навучаньне ў Нясьвіскай дамініканскай школе, Віленскай гімназіі, Віленскім унівэрсытэце. З часоў студэнцтва паходзіць знаёмства з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам, Стэфанам Занам, Мікалаем Маліноўскім і іншымі сьвядомымі маладзёнамі, што мелі дачыненьне да дзейнасьці нацыянальна-вызваленчых таварыстваў. Вялікае ўражаньне й моцны ўплыў на Янушкевіча зрабіў выкладчык унівэрсытэту і ягоны духоўны лідэр Яўхім Лялевель. Менавіта з падтрымкі апошняга па сканчэньні ўнівэрсытэту Яўстафі ўзяўся за пераклад шматтамовай гістарычнай працы Фрыдрыха Ансільёна, а таксама распрацоўваў канцэпцыю перавыданьня Статуту Вялікага княства Літоўскага.

Успаміны Яўстафія Янушкевіча цікавыя адлюстраваньнем таго асяродзьдзя, у якім ён жыў у першыя 26 гадоў свайго жыцьця, а таксама апісаньнем падзеяў паўстаньня 1830—1831 гг., у якім ён браў удзел як адзін з эмісараў Цэнтральнага віленскага камітэту й арганізатар лякальных выступаў у Ашмянах, Барунах, а пазьней — вайсковец у корпусе Самуэля Рожыцкага. Цікава адзначыць, што Янушкевіч зрабіў спробу стаць летапісцам гэтага корпусу, сабраўшы ўсе загады, аднавіўшы храналёгію яго дзейнасьці ў жніўні—красавіку 1831 г. Імаверна, ён меў намер напісаць пра ваенныя падзеі асобныя мэмуары, аднак ня зьдзейсьніў яго.

У кнігу Яўстафія Янушкевіча ўвайшлі ня толькі ўласна ўспаміны дзеяча з даэміграцыйнага часу, але й два асобныя дакумэнты: справаздача Нацыянальнаму ўраду ад 16 ліпеня 1831 г. ды ліст да Яўхіма Лялевеля ад 10 жніўня 1830 г. Усе матэрыялы публікуюцца як у польскамоўных арыгіналах, гэтак і ў беларускіх перакладах, чаго вымагаюць умовы сэрыі. Тэксты добра пракамэнтаваныя, суправаджаюцца геаграфічным і іменным паказьнікам, а таксама ўнікальнымі ілюстрацыямі. Можна сьцьвярджаць, што ў сэнсе якасьці навуковага апарату другая кніга Беларускай мэмуарнай бібліятэкі не саступае першай.

Важным момантам публікацыі ўспамінаў Яўстафія Янушкевіча зьяўляецца тое, што ў адрозьненьне ад шмат якіх польскамоўных мэмуараў XIX ст. яны да сёньня не былі апублікаваныя. А таму падрыхтаваную Вольгай Гарбачовай кнігу можна лічыць значнай падзеяй і для беларускай, і для польскай гістарыяграфіі.

*Я. С.*

*Адважны, Вінцук. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2011. — 592 с. („Беларускі кнігазбор“: Серыя 1. Мастацкая літаратура). — Наклад 700 асобнікаў.*




Успаміны а. Язэпа Гэрмановіча (Вінцука Адважнага), у свой час перакладзеныя на шэсьць моваў, у 1990-х выходзілі і ў Беларусі сіламі выдаўцоў. Аднак наўрад ці можна сьцьвярджаць, што аўтар і ягоная творчасьць добра вядомыя ў мэтраполіі. Зборнік твораў гэтага рэлігійнага дзеяча й літаратара, укладзены літаратуразнаўцай Ірынай Багдановіч і выдадзены менскім „Кнігазборам“, відавочна, ня мог зьмясьціць на сваіх старонках усёй багатай літаратурнай спадчыны Вінцука Адважнага. Паводле складальніцы, ёй давялося надзвычай ашчадна адбіраць творы для выданьня, *„каб паказаць шматграннасьць творчай асобы пісьменьніка, унікальную адметнасьць і зьмястоўнасьць кожнага пэрыяду яго творчасьці, вылучыўшы зь яе найлепшае“*[8]. У выніку том склалі дзесяць вершаў пераважна даваеннага часу, два празаічныя творы (апавяданьне „Адам і Анэлька“ ды аповесьць „Хлапец“), дзесяць тэкстаў публіцыстычнага характару, тры лісты 1928—1935 гг. У дадатак да кнігі ўвайшлі тэксты, прысьвечаныя жыцьцю й творчасьці самога а. Гэрмановіча, шлях якога адлюстраваны таксама й на зьмешчаных на асобнай уклейцы здымках.

Аднак найбольш значную частку зборніка склаў разьдзел „Успаміны“, дзе зьмешчаныя як ужо публікаваныя „Кітай, Сібір, Масква“ ды „Учора, сягоньня, заўтра“, гэтак і раней не друкаваныя няскончаныя пачаткі мэмуараў (у кнізе яны атрымалі назву „Мае тата й мама“), што захоўваліся ў архіве а. Гэрмановіча ў фондах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Аўтар успамінаў валодаў выразным талентам апавядальніка, што зрабіла ягоныя творы, прысьвечаныя даволі складаным падзеям жыцьця а. Язэпа ў сталінскіх лягерах, даволі лёгкімі для чытаньня й успрыманьня. І тым ня менш, рашэньне ўкладальніка не камэнтаваць гэтых успамінаў падаецца не зусім правільным. У мэмуарах сустракаецца багата імёнаў, згадваюцца спэцыфічныя падзеі, вартыя адмысловага тлумачэньня з гледзішча сучасных ведаў пра іх. Адсылка ж чытачоў успамінаў да камэнтароў у лістах, зьмешчаных пасьля, таксама не выратоўвае становішча. Усё ж такі мэмуары — ня чыста літаратурны твор, яны патрабуюць і ўвядзеньня чытача ў гістарычны кантэкст, і супастаўленьня пададзеных аўтарам суб'ектыўных зьвестак з інфармацыяй іншых крыніцаў. У выніку ж новая публікацыя сапраўды важных і цікавых успамінаў а. Язэпа Гэрмановіча зусім анічога не дадала да ранейшых выданьняў.

Варта заўважыць, што пераважная большасьць тэкстаў тому належыць да даваеннага пэрыяду творчасьці Вінцука Адважнага. У той жа час і паваенны „пасьлялягерны“ час быў для пісьменьніка даволі плённы. Тады ён стаў вядомы сярод суродзічаў на Захадзе яшчэ й як байкапісец. На жаль, гэтая галіна творчасьці а. Язэпа засталася цалкам па-за ўвагай укладальніцы й выдаўцоў кнігі, таксама як і даволі цікавая паваенная эпісталярная спадчына сьвятара й рэдактара часопісу „Божым шляхам“.

І тым ня менш, зьяўленьне збору выбраных твораў Вінцука Адважнага ў Менску важнае ўжо само па сабе, як яшчэ адзін прыклад вяртаньня на радзіму інтэлектуальнай спадчыны эміграцыі ды як магчымасьць падштурхнуць дасьледнікаў да вывучэньня гэтай даволі багатай і разнастайнай спадчыны.

*Я. С.*

[8] Каментар // Адважны, Вінцук. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2011. С. 575.

*Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 192 с. — (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе).*




У шэрагу ўжо адносна шматлікіх жаночых беларускіх эміграцыйных мэмуараў дадалася яшчэ адна пазыцыя — успаміны „Птушкі пералётныя“ супрацоўніцы радыё „Свабода“ Галіны Ганчарэнкі-Руднік (нар. 1930). Першапачаткова чытаныя на радыё, цяпер яны пабачылі сьвет у папяровым выглядзе ў сэрыі „Бібліятэка Свабоды“ і былі відавочна зьвязаныя зь юбілеем радыёстанцыі.

Аўтарцы ўспамінаў давялося багата перажыць з самага дзяцінства, калі ў 1937 г. яе маці рэпрэсавалі як ворага народу. Апеку над дзяўчынкай узяла на сябе ейная цётка, беларуская опэрная сьпявачка Барбара Вержбаловіч, што на доўгія гады стала анёлам-ахоўнікам для пляменьніцы. З старонак успамінаў паўстаюць псыхалягічна й матэрыяльна складаныя варункі жыцьця ў перадваеннай і ваеннай Беларусі. Прычым важна тое, што Галіна Ганчарэнка паходзіла з Усходняй Беларусі й глядзела на акупацыю менавіта вачыма дзяўчынкі-„ўсходніцы“, а таму ня бачыла ў немцах „вызваляльнікаў“, якімі яны часам падаваліся жыхарам Заходняй Беларусі.

Разам з сваёй цёткай Барбарай аўтарка ўспамінаў была заангажаваная ў беларускае грамадзка-культурнае жыцьцё ў часе акупацыі й пасьля эвакуацыі ў Нямеччыну. У тэксьце можна знайсьці цікавыя моманты з жыцьця беларускай інтэлігенцыі й канкрэтных яе прадстаўнікоў, такіх, як Мікола Куліковіч, Натальля Арсеньнева. Адметныя ў тэксьце ўспаміны пра тэатральную групу „Жыве Беларусь!“ у яшчэ ваенным Бэрліне, у якой сьпявала цёця Барбара. Вось як згадвае Галіна ўмовы працы артыстаў: *„Праца артыстаў была вельмі цяжкай. Езьдзілі яны цягнікамі, па дарозе ўсё часьцей бамбілі. У такім выпадку цягнік спыняўся, усе мусілі выбегчы зь яго часам пад адхон або ў поле. Цёцю ў дарозе параніла ў калені. Але найгорш было тое, што цягнік давозіў тэатральную групу да якога-небудзь гораду, а адтуль яны мусілі пешшу дабірацца да лягеру, дзе меліся выступаць, і цягнуць на сабе строі, ноты, асабістыя рэчы“*[9].

Адметным для аўтаркі стаў і пэрыяд жыцьця ў лягерах Ды-Пі, дзе яна зноў пачала вучыцца, гэтым разам у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. З старонак успамінаў паўстаюць цікавыя падрабязнасьці штодзённага лягернага жыцьця, а таксама дачыненьняў насельнікаў.

Зь Нямеччыны Галіне Ганчарэнцы ў суправаджэньні цёткі ўдалося выехаць на навучаньне ў ЗША. Па сканчэньні вышэйшай асьветы маладая жанчына на настойлівую прапанову прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка вярнулася ў Нямеччыну, дзе пачала працу ў Беларускай службе радыё „Вызваленьне“. І хоць менавіта ў Беларускай рэдакцыі яна працавала нядоўга, успаміны Галіны Ганчарэнкі — гэта, бадай, першыя беларускія мэмуары, у якіх адлюстраваная гісторыя гэтак нелюбімага ў СССР радыё. Чытаючы тэкст, можна зразумець, у якіх часам складаных умовах працавалі супрацоўнікі радыё „Вызваленьне“ / „Свабода“. Тут жа ёсьць і цікавыя пабытовыя падрабязнасьці рэдакцыйнай кухні, аповеды пра асваеньне працы зь мікрафонам, шпіёнскія гісторыі, што часам закраналі супрацоўнікаў. Дзякуючы апавядальніцкаму таленту Галіны Ганчарэнкі-Руднік, ва ўспамінах адчуваецца атмасфэра часоў халоднай вайны, у якой давялося працаваць.

Важнае месца ва ўспамінах займае асоба Барбары Вэржбаловіч, лёс якой цягам 30 гадоў быў цесна зьвязаны з жыцьцём Галіны Ганчарэнкі й нечакана абарваўся ў выніку аўтамабільнай аварыі ў Мюнхэне ў 1967 г. Асобны разьдзел успамінаў прысьвечаны рэпрэсаванай маці аўтаркі, што прайшла праз сталінскія лягеры й пасьля жыла Маскве, пакуль ня трапіла ў інвалідны дом у Поцьме. Колькі лістоў ад маці Галіна пасьпела атрымаць да ейнай сьмерці ў 1974 г. Яшчэ адзін важны сюжэт успамінаў прысьвечаны дачцэ Сталіна Сьвятлане Алілуевай, якая менавіта Галіну Ганчарэнку праз ейны голас абрала на чытаньне сваіх успамінаў на радыё.

Аўтарка „Птушак пералётных“ працавала на радыё „Свабода“ цягам 41 году, да самага выхаду на пэнсію ў 1995 г. Ейныя ўспаміны, нягледзячы на адсутнасьць камэнтароў, падаюцца найбольш цікавымі й інфармацыйна каштоўнымі з усіх выдадзеных на сёньня беларускіх эміграцыйных жаночых успамінаў.

*Н. Г.*

[9] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. С. 62.

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Аляксандар Асіпчык** (1909—1990), грамадзкі й царкоўны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны браў удзел у дзейнасьці беларускіх грамадзкіх і культурна-нацыянальных арганізацыяў. З 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, супрацоўнічаў з часопісам „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“. У сакавіку 1950 г. выехаў у Амэрыку, жыў сьпярша ў ЗША, потым у Канадзе, і ўрэшце ізноў у ЗША. З 1950-х гг. быў зьвязаны з Расейскім аб'яднаньнем таварыства ўзаемадапамогі (РООВА).

**Андрэй Блінец** (нар. 1974) , гісторык, краязнаўца. Скончыў гістарычны факультэт БДПУ імя Максіма Танка. Жыве ў Клецку. Працаваў настаўнікам гісторыі ў школах Клецкага раёну. З 2006 г. — навуковы супрацоўнік Музэю гісторыі Клеччыны. Аўтар шэрагу краязнаўчых публікацыяў. Артыкулы з гісторыі нацыянальных вайсковых фармацыяў часоў Другой сусьветнай вайны друкаваліся ў часопісах „Беларускі рэзыстанс“ (Менск) і „Беларуская думка“ (Саўт-Рывэр, ЗША).

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка дзьвюх манаграфіяў і некалькіх дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Адказны рэдактар „Запісаў БІНіМ“.

**Барыс Данілюк** (1923—2011), грамадзкі дзеяч. У часы нямецкай акупацыі працаваў сакратаром і школьным інспэктарам у Слоніме, таксама ў структуры БНС, кіраваў самадзейнасьцю, быў спартовым інструктарам СБМ, служыў перакладнікам пры 48-м Беларускім батальёне. З 1944 г. — на эміграцыі. Апынуўся ў француcкай зоне акупацыі Нямеччыны. Быў сябрам Беларускага студэнцкага згуртаваньня й рэдкалегіі часопісу „Студэнцкая думка“ (пазьней — „Крывіцкі сьветач“). У 1950 пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Джэрзі. Быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. Выдаваў газэту „Царкоўны пасланец“.





**Надзея Запруднік** (дзяв. Рагалевіч, у першым шлюбе Кудасава, нар. 1932), мастачка, грамадзка-культурная дзяячка. Паходзіць з в. Дзяткавічы Жыткавіцкага р-ну Гомельскай вобл. У 1944 г. пакінула Беларусь. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыве ў Саўт-Рывэры. Актыўная ўдзельніца беларускага культурнага й царкоўнага жыцьця, адна з арганізатараў беларускіх мастацкіх выставаў у Саўт-Рывэры.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. — старшыня БІНІМу. Аўтар працы „Беларусы ў ЗША“ (1993 г.; ангельскамоўнае выданьне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацыяў, у т. л. артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Алесь Марговіч** (1927—1967), журналіст, грамадзкі дзеяч, выдавец. У часе нямецкай акупацыі настаўнічаў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхэльсдорфе заснаваў выдавецтва „Крыніца“, дзе выходзіў часопіс „Напагатове!“. Сябра „Дванаццаткі“. Скончыў факультэт паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту; працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне. Рэдагаваў „Беларускі зборнік“ і *Belorussian Review*, выдаваныя інстытутам. Супрацоўнічаў з газэтай „Бацькаўшчына“ й Беларускай рэдакцыяй радыё „Вызваленьне“.

**Аляксандар Пашкевіч** (нар. 1978), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Намесьнік галоўнага рэдактара часопісу „ARCHE Пачатак“. Дасьледуе гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў першай палове XX ст., перш за ўсё на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы.

**Юры Сабалеўскі** (1889 —1957), грамадзкі дзеяч. У 1922—1926 гг. — пасол польскага Сойму, у 1924—1926 гг. — сябра й адзін з кіраўнікоў БСРГ. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. Зь лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзыдэнтам БЦР. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, з 1955 г. ізноў у Нямеччыне. Рэдагаваў газэту „Беларускае слова“.

**Івонка Сурвілла** (дзяв. Шыманец, нар. 1936), мастачка, грамадзка-культурная дзяячка. Вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы. Скончыла філялягічны факультэт Сарбоны (1959). З 1969 г. жыве ў Канадзе. Працавала перакладніцай у фэдэральным бюро перакладаў краіны. Узначальвала БІНіМ у Канадзе, Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю. З 1997 г. — старшыня Рады БНР.

**Міхась Швэдзюк** (нар. 1926), грамадзкі дзеяч, публіцыст. З 1947 г. жыве ў Вялікабрытаніі. Удзельнік беларускага жыцьця ў гэтай краіне. Сталы аўтар матэрыялаў пра беларускае жыцьцё ў Брытаніі для газэтаў „Беларус“, „Беларускі дайджэст“, „Рунь“. Цяпер жыве ў Конглэтане *(Congleton)*, у Чэшыры.

**Макс Шчур** (нар. 1977), паэт, перакладнік, эсэіст. Вучыўся ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. З 1998 г. жыве ў Празе. Аўтар п'есы „Сьмерць тырана“ (Менск, 1997), зборнікаў вершаў „Амфітэатар“ (Прага—Гданьск, 1999), „Амальгама“ (Менск, 2010), зборніка апавяданьняў „Ліст, знойдзены на папялішчы“ (Познань, 2011), шэрагу літаратуразнаўчых эсэ. Ляўрэат прэміі Янкі Юхнаўца (2004), гішпаніст (Premio Iberoamericano 2003). Перакладае з чэскай, гішпанскай, ангельскай моваў. Цікавіцца тэорыяй інтэрпрэтацыі, філязофіяй мастацтва, дачыненьнямі культуры й палітыкі.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу і рэдкалегіі „Запісаў“.



# У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва выйшлі наступныя кнігі:

*у „Бібліяграфічнай сэрыі“:*

1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе.** Нью Ёрк, 1985. — 350 с.
2. **Byelorussian Statehood.** New York. 1988. — 398 p.
3. **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны.** Нью Ёрк, 1989. — XXVIII+283 с.
4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.** Том I. Кн. 1—2. Вільня—Нью Ёрк—Менск—Прага, 1998. — 1721 с.
5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі.** Нью Ёрк—Менск, 2002. — XXXIII+570 с.
6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью Ёрк—Менск, 2003. — XXII+582 с.
7. **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography — Periodicals = **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Бібліяграфія — Часапісы, газэты. New York, 2004. —XX+152 с.
8. *Vitaut Kipel, Zora Kipel.* **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

*у сэрыі „Гісторыя эміграцыі“:*

1. *Ян Максімюк.* **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950).** Нью Ёрк—Беласток, 1994. — 196 с.

2. *Янка Запруднік*. **Дванаццатка:** Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.

3. *Лявон Юрэвіч*. **Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ (1947—2000).** Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 8).

4. *Барыс Рагуля*. **Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае**. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 188 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 10).

5. *Алег Гардзіенка*. **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА).** Смаленск, 2009. — 428 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 16).

6. *Юры Гарбінскі*. **Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: перыёдыка, графічныя друкі 1945—2005.** Нью Ёрк—Варшава, 2009. — 884 с. + CD.

*рыхтуецца да друку:*

7. *Зьміцер Саўка*. **Гісторыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949—1999).**

*у сэрыі „Беларускія паэты й пісьменьнікі“:*

1. *Натальля Арсеньнева*. **Між берагамі:** Выбар паэзіі. Нью Ёрк—Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

2. *Алесь Салавей*. **Нятускная краса:** Збор твораў. Нью Ёрк—Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

3. *Аляксандра Саковіч*. **У пошуках праўды:** Апавяданьні й аповесьці. Нью Ёрк—Кліўлэнд, 1986. — 254 с.

4. *Міхась Кавыль*. **Міжагнёўе:** Выбраныя творы. Нью Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

5. *Уладзімер Дудзіцкі*. **Напярэймы жаданьням:** Збор твораў. Нью Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

6. *Мікола Цэлеш*. **Хмары над Бацькаўшчынай:** Апавяданьні. Нью Ёрк, 1995. — XXXV+299 с.

7. *Юрка Віцьбіч*. **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.** Нью Ёрк, 1996. — XVI+397 с.

8. **Архіўная кніга** / Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч*. Нью Ёрк, 1997. — 446 с.



9. *Лявон Крывічанін*. **Беларусізацыя пад №...** Нью Ёрк, 1998. — 164 с.

10. *Лявон Юрэвіч*. **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** Нью Ёрк, 1999. — 360 с.

11. *Антон Адамовіч*. **Творы.** Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

12. **Урачыстасьць у садзе:** Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укладаньне і прадмова *Ванкарэма Нікіфаровіча*. Менск: Медысонт, 2007. — 536 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 14).

*рыхтуецца да друку:*

14. **Сусьветная літаратура па-беларуску:** Кніга перакладаў.

Макет *Вінцэсь Жынкін*

Карэктура *Настасься Мацяш*



Падпісана да друку 08.11.2011. Фармат 60x84 1/16
Друк афсэтны. Ум. друк. арк. 13,7
Наклад 299 паасобнікаў. Замова 1901





Нутраны выгляд царквы міру Ўсходу й Захаду



Айцец Леў Гарошка ў царкве



Айцы Часлаў Сіповіч, Леў Гарошка і Ўладзіслаў Салавей служаць у царкве



Служба Божая ў царкве



Айцец Часлаў Сіповіч у царкве



Айцы Часлаў Сіповіч, Леў Гарошка і Ўладзіслаў Салавей
у часе службы ў царкве



Сьвятары й беларуская грамада Мюнхэну перад царквой міру Ўсходу й Захаду



Арганізацыя пачастунку каля царквы пасьля службы



Сьвятары й беларуская грамада Мюнхэну перад царквой. У першым шэрагу стаяць зьлева направа: а. Леў Гарошка, а. Уладзіслаў Салавей, невядомы, а. Часлаў Сіповіч, хлопчык, за якім Барбара Вержбаловіч, Пётра Сыч



Пачастунак пасьля службы. Зьлева направа: а. Уладзіслаў Салавей, Барбара Вержбаловіч, Надзея Абрамава, а. Леў Гарошка, а. Цімафей Прохараў, невядомы, а. Часлаў Сіповіч.



Пачастунак пасьля службы. Сядзяць зьлева направа: Барбара Вержбаловіч, а. Леў Гарошка, а. Цімафей Прохараў, невядомы, а. Часлаў Сіповіч



У часе пабудовы царквы. Сядзяць зьлева направа: а. Цімафей Прохараў, Аляксандар Абрамаў-Сушынскі, сястра Натальля, Тамара (прыёмная дачка Надзеі Абрамавай)



Царква міру Ўсходу й Захаду, выгляд збоку



Пікнік каля царквы



Абед у царкве. Зьлева направа: а. Цімафей Прохараў, Тамара, сястра Натальля



Каля капліцы